


(Фота Т. Хомы)

*Канфэрэнцыя „90 год БНР” у Празе. Зь лева на права: Ян Румл, Павел Севярынец, Зянон Пазьняк, Сяргей Навумчык.*

# ЦЯЖКІ ЧАС
# ПРАЦЯГ




*Этнацыд. 27 ліпеня 2007 г. у скверы імя Янкі Купалы ў Менску „амонаўцы” хапаюць бабулек-пэнсіянерак за размову па-беларуску і разганяюць іх за зьбіраньне разам у адным месцы.*

Трэцяя кніга „Канцэпцыі новага беларускага Адраджэньня” („ЦЯЖКІ ЧАС – ПРАЦЯГ”) зьяўляецца прадаўжэньнем другой, мае агульны тытул і нумарацыю старонак па ўсёй кнізе і ў дадатку. Яна зьвязана адной тэмай – адлюстраваньнем „цёмнага часу” і змаганьня з антыбеларускай сістэмай ўлады.

Унутранную акупацыю мы перажываем упершыню ў гісторыі. За шаснаццаць гадоў цёмнага часу вынішчаныя культурная здабыткі, якія ў найцяжэйшых умовах савецкага палітычнага прыгнёту і генацыду ўдалося яшчэ захаваць, зьберагчы і нават памножыць у мастацтве і літаратуры. Цалкам ліквідаванае беларускае нацыянальнае тэлебачаньне, радыё, вынішчаны беларускі друк і выдавецтвы, разбураны саюз пісьменьнікаў і творчыя арганізацыі, практычна, ліквідаванае беларускае навучаньне і беларуская школа, кстастрафічна разбурана сістэма сярэдняй адукацыі. Рэзка абнізіўся культурны і адукацыйны ўзровень моладзі, мізэрнымі сталі духоўныя запатрабаваньні людзей і, як вынік, узьнікае апатыя і бязраднасьць.

Улада ўплывае на грамадзтва ня толькі палітычна, заканадаўча і выканаўча, але таксама сваім маральнам ўзроўнем, культурай, лексікай, паводзінамі. Ізноў жа, ніколі ў гісторыі наша нацыя не трапляла ў стан такой ганьбы ад сузіраньня пэрманэнтнага хамства рэжыму, зьдзеку над асобай, сям’ёй, выхаваньнем, культурай і мовай. Тое, што здарылася ў Беларусі, часам успрымаецца, як нейкі сюррэалістычны, бесталковы сон, як нерэальнасьць. І тым ня менш яно ўсё ёсьць рэальнасьць, рэальнасьць абсалютнай, цёмнай, антыкультурнай улады, якая, як ракавая пухліна, пашыраецца сваім хваравітым уплывам на ўсё грамадзтва.

Сутнасьць гэтага цёмнага разбурэньня – этнацыд, сэнс палітыкі – русіфікацыя. Пасьляваеннае пакаленьне беларусаў, аднак, не памятае такога, каб рэжымная міліцыя кідалася на гук беларускай мовы, з мэтай схапіць чалавека, дапытаць, зьбіць і арыштаваць. Такое было толькі ў 30-х гадах, калі наш народ фізічна зьнішчалі, выбівалі пад корань.

Гісторыя, нажаль, не засвойваецца там, дзе вынішчаюць памяць. На пачатку XXI –га стагоддзя наша нацыя стала перад суровым і вызначальным выпрабаваньнем, назва якога – будучыня Беларусі, культурна-нацыянальнае існаваньне ў сьвеце.

Думаючы пра будучыню, я сабраў тут, у гэтым трэцім томе, працы і матэр’ялы, якія адлюстроўваюць думкі і дзеяньні беларускага змаганьня за лепшую долю, за волю і сьветласьць нашай Айчыны, за вечнасьць нашага вялікага народа.

*5 кастрычніка 2010 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# 2003

## ЦЫТАТЫ:

„Рублёвы аншлюс магчымы толькі пры захаваньні ўлады А. Лукашэнкі, расейскі рубель патрэбны, перш за ўсё, расейскаму буйному капіталу дзеля аблягчэньня прыватызацыі найбольш пэрспэктыўнай беларускай маёмасьці.”

***(„Коммерсантъ», – 2003, 17 верасьня; рд. «Свабода» – Сеціва)***

„Масква ня будзе ўцягвацца ў спрэчкі, калі і ў якой форме расейскі рубель будзе легалізаваны ў Беларусі, – галоўнае, каб рублёвы аншлюс Беларусі адбыўся. Толькі ў гэтым выпадку расейскі капітал зможа ўдзельнічаць у прыватызацыі беларускай транзітнай транспартнай інфраструктуры.”

***(Аляксей Улюкаеў, Першы нам. Міністра фінансаў Расеі. „Коммерсантъ“, – 2003, 11 верасьня)***

„Расея ў асобе прэзыдэнта Ўладзімера Пуціна, адказных расейскіх партыяў шчыра жадае аб’яднаньня Расеі і Беларусі.”

***(Барыс Нямцоў, „Белорусские новости“, – 27 жніўня, Сеціва)***

„Чакаецца глыбокая інтэграцыя двух дзяржаваў, якая ўключае агульную грашовую адзінку, адзіную зьнешнюю палітыку і абарону. Пры гэтым Расея будзе паважаць некаторыя асобныя моманты захаваньня ідэнтычнасьці беларускага народа.”

***(Дзімітры Рагозін, старшыня Камітэту па міжнародных справах расейскай Думы, „Белорусские новости”, 2003, 27 жніўня, Сеціва)***

„Менску ўсё ж ня трэба забывацца, што Крэмль мае доўгія рукі. У дачыненьні да Беларусі ён мае толькі адно жаданьне: праглынуць яе.”

***(„Neue Züricher Zeitung”, – 2003; рд. „Свабода”, – 17 верасьня, Сеціва)***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2003, №5(51)*

*Пакіньце марныя намеры,*
*Масквы ўтоптаная гразь.*
*Мінула ваша панаваньне*
*І камунізм, і ваша „маць”.*
*Мы толькі коней прыпынілі,*
*Каб сьцяг высока наш узьняць.*

*Зянон*




***1. Будучыня наша будзе такая, якой мы яе зробім. Менск, сябры КХП-БНФ.***

# ЦІ РАЗВАЛІЦЦА РАСЕЯ?

Працэс распаду Расеі адбывыаецца як шлях пераменаў (як мэтад захаваньня імпэрыі), дзе рашаючае значэньне маюць зьнешнія чыньнікі.

Бяз зьнешніх узьдзеяньняў распад Расеі можа доўжыцца бясконца доўга, лягічна – аж да поўнага выміраньня насельніцта.

Расея небясьпечная тым, што яна здольная самазадушваць унутраныя сілы распаду і – самазахоўвацца. Гэтаму найбольш спрыяюць два фактары: масавая і паталягічная імпэрская мэнтальнасьць і пэрманэнтна нізкі ўзровень жыцьця, які ўспрымаецца як норма.

Аналіз цяперашняй Расеі (гэтак жа, як і аналіз СССР) паказвае, што існуючая імпэрская сістэма доўга існаваць ня можа. Сацыяльна-эканамічныя і палітычныя працэсы рухаюцца ў бок калапсу і наступнага распаду.

Вузкагрупавы кагэбоўскі кантроль над эканомікай, фінансамі, бізнэсам, прыбыткамі, кланавы допуск да прыбыткаў прывёў да канцэнтрацыі імпэрскіх фінансаў і бюджэту ў Маскве. Сродкі выцягваюцца з правінцыі ў сталіцу. Аднак грошы ад прыбыткаў вывозяцца на Захад (на 2002 год там знаходзілася больш за 300 мільярдаў даляраў грошай з Расеі).

Такім чынам клан КГБ, які кіруе ў Расеі і выкарыстоўвае постсавецкую імпэрыю, сам ня верыць у яе будучыню.

Паглыбленьне бездані паміж правінцыяй і Масквой, паміж беднасьцю і багацьцем павінна прывесьці да павелічэньня міжтэрытарыяльнага напружаньня, да ўзрастаньня фінансава-гаспадарчага і палітычнага ўплыву іншых краінаў на ўскраінах Расейскай імпэрыі. Чарговы калапс распаду, магчыма, выкліча новыя перамены („перабудову”) імпэрыі. Але нічога ўжо ня можа яе выратаваць у пэрспэктыве.

На працягу стагоддзяў жорсткай ўлады і вынішчэньня ў Расеі адбываўся адмоўны натуральны адбор. Усё высокае, разумнае, добрае, сьветлае, лепшае – вынішчалася, затоптвалася, выганялася. Заставалася „скопішча зла”.

На сёньняшні дзень – гэта слабасільная краіна, валавы нацыянальны прадукт якой меншы, чым у маленькага Тайваня, а ўдзельная вага эканомікі – ня большая, чым у Бэльгіі (па тэрыторыі – наша Горадзенская вобласьць) і меншая, чым у 5-мільённай Швайцарыі.



***2. Расейцы сьвяткуюць сьвята аўтамата Калашнікава (у рэальнасьці – Шмайсэра), 2001 г.***

Гэта краіна, якая ня можа належна ўтрымліваць сваю (непасільную для яе) армію і велізарныя тэрыторыі, але росьціць непамерныя амбіцыі і паталягічныя прэтэнзіі на вырашэньне лёсаў цэлых народаў.

*15 студзеня 2003 г., Варшава*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларус, – 2003, № 481 (люты)*

# РАСЕЯ – ІМПЭРЫЯ

Паняцьце „імпэрыя” ўключае ў сабе, перш за ўсё, спосаб існаваньня і тэхналёгію ўлады, поліэтнічнай (каляніяльнай) дзяржавы, заснаванай на агрэсіі і несвабодзе.

Імпэрыя – гэта вайна.

Імпэрыя імкнецца да абсалютызму ўлады, да захопу і ўтрыманьня чужых тэрыторыяў, да стварэньня і абсалютызацыі імпэрскай дзяржаўнай ідэалёгіі.

Насельнікі імпэрыі характарызуюцца імпэрскай мэнтальнасьцю.

Імпэрская ўлада – гэта ўціск (здушэньне свабоднай дзейнасьці людзей, эксплуатацыя народаў рознымі мэтадамі: палітычнымі, эканамічнымі, адміністрацыйнымі, ваеннымі, паліцэйскімі, крымінальнымі, інфармацыйна-прапагандысцкімі).

Імпэрская ўлада ажыцьцяўляецца пастаяннай групай.

Расея царская, камуністычная (СССР) і цяперашняя пасьлясавецкая адпавядае ўсім вышэй пералічаным прыкметам імпэрыі.

Цяперашняя Расейская імпэрыя вядзе збройныя, палітычныя, эканамічныя, інфармацыйныя войны, тэрор, войны спэцслужбаў, тэхналягічныя і іншыя войны за ўтрыманьне і прыўлашчваньне тэрыторыяў.

У пасьлясавецкай Расеі адбываецца працэс пераходу (пераемнасьці) абсалютнай дзяржаўнай улады ад кампартыі да КГБ, з адначаснай зьменай ідэалёгіі і ўласнасьці.

Вялікадзяржаўна-камуністычная ідэалёгія зьмяняецца на вялікадзяржаўна-шавіністычную. Дзяржаўна-партыйная ўласнасьць зьмяняецца на мафіёзна-прыватную.

Гэбоўска-мафіёзная Расея, гэтак жа, як і камуністычна-савецкі СССР, выкарыстоўвае па-імпэрску асэнсаваныя дэмакратычныя механізмы фармаваньня ўлады (выбары, Канстытуцыю, падзел функцыяў улады і г.д.).

Расейская імпэрыя зьяўляецца на сёньняшні дзень найбольшай пагрозай для міру і стабільнасьці ў Эўропе і для ўсяго Заходняга сьвету.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*15 студзеня 2003 г.*
*Варшава*

# СЛОВА ДА СХОДУ БЕЛАРУСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ Ў МЕНСКУ*

***(Вытрымкі)***

...Сход Беларускай інтэлігенцыі Меншчыны – гэта добрая падзея. Яна сьведчыць аб клопаце пра Беларусь.

Заклікаю рэальна глядзець на наша становішча і адпаведна дзейнічаць.

На Беларусі змагаюцца дзьве сілы. Адна – за незалежную Беларусь, супраць агрэсіі Расеі. Другая – за сумеснасьць з Расеяй.

У гэтым падзеле няма і ня можа быць ніякіх „трэціх", „чацьвёртых" ці „пятых" сілаў і ніякіх „нэўтральных", таму што йдзе своеасаблівая вайна, вайна з Расеяй, вайна бяз зброі – за Беларусь.

Для Беларусі няма будучыні і няма незалежнасьці – разам з імпэрскай Расеяй.

На жаль, шмат якім беларусам не хапіла нават дзесяці гадоў, каб убачыць і зразумець, чым ёсьць і што нясе для Беларусі рускі імпэрыялізм.

Менавіта гэтае беларускае неўразуменьне дапамагло расейскім спэцслужбам ажыцьцявіць унутраную акупацыю ўлады на Беларусі і ўзяць яе пад свой кантроль. Менавіта гэтая адасобленасьць элітаў дазволіла акупантам на працягу дзевяці гадоў беспакарана рыхтаваць ліквідацыю незалежнасьці і здачу нашай краіны. Якраз гэтае беларускае ганебнае *неадчуваньне ворага* дазволіла расейцам летам мінулага года аб'явіць пра намер захапіць Беларусь, сказаць груба ў твар пра анэксію нашай краіны.

Трэба ведаць, што той, хто і цяпер нічога не ўсьвядоміў ды рашыў пастаяць у баку, – будзе зьнішчаны, ліквідаваны Масквой. Бо калі сказана нават ужо: „Іду на вы!" – брацца трэба толькі за меч.

***З усіх відаў чалавечай дзейнасьці найвышэйшай справай ёсьць палітыка.*** Нічога няма важнейшага, бо палітыка вызначае лёсы народаў.

Ідземце ў палітыку. Трэба йсьці – такі час. Бо палітыка ўжо сама ломіцца ў нашае жыцьцё. Мы мусім перарабіць яе з нашага ворага – у нашу зброю.

Прамаскоўскі рэжым хоча выкарыстаць падстаўныя выбары ў мясцовыя Саветы, каб потым правесьці рэфэрэндум аб зьмене ў Канстытуцыі. Каб юрыдычна забясьпечыць легальную ліквідацыю беларускіх грошай і ўвядзеньне рускіх, каб рукамі беларусаў легалізавацца і прадугледзець трэці прэзыдэнцкі тэрмін для Лукашэнкі. Гэта быў бы крок да далейшага нацыянальнага разбурэньня нашага грамадзтва.

Народ Беларусі адлучаны ад фармаваньня выбарнай улады, бо рэжым стварыў жорсткую сістэму фальсіфікацыі галасаваньня.

Удзел выбаршчыкаў у галасаваньні патрэбны рэжыму толькі як факт, які дае магчымасьць для фальсіфікацыі. Выбары ператвораныя рэжымам у прыладу для дасягненьня любых патрэбных яму палітычных мэтаў. Механізму ўплыву на гэтую сістэму – няма. Спыніць фальсіфікацыю – немагчыма. Дзейнічае крымінал і грубая сіла.

У гэтай сытуацыі ёсьць адзіны выхад – байкот. Нельга ісьці на ашуканцкія выбары. Нельга забясьпечваць рэжыму прыход выбаршчыкаў на ўчасткі і магчымасьць „выйграць" чарговы рэфэрэндум у падтрымку чорнае справы, едучы на плячах беларусаў. Нельга ўдзельнічаць у здрадзе.

* * *

Ёсьць яшчэ адна тэма, менш вядомая, зь якой я хацеў бы зьвярнуцца да вас.

Мушу перасьцерагчы ад ілюзіяў, зьвязаных з Захадам. Не чакайма адтуль ні шчырай дапамогі, ні збаўленьня. Прагматычны інтэрас, перш за ўсё, рухае эгаістычнай іхняй палітыкай, што ператвараецца паступова ў міжнародны разбой. Ружовае славаблудзтва аб „правах чалавека" не перашкодзіць ім здаць на вынішчэньне і Чачэнію, і Беларусь, і іншыя народы, калі толькі падважыцца гэты іхны інтэрас. Яны ня спыняцца ні перад саюзам з крымінальнай Расеяй, ні са „скопішчам зла", ні з самым д'яблам.

Захад не аднародны, але на сёньняшні дзень – гэта грамадзтва духоўнага ўпадку, якое ня выратуе ўжо ні дэмакратыя, ні эканоміка, а толькі хіба – духоўнае Адраджэньне (калі яно ўзьнікне).

Мы ня мусім успрымаць і ацэньваць гэты Захад агулам, але павінны шукаць там спрыяльныя сілы дабра, што таксама змагаюцца тут за будучыню, справядлівасьць і выжываньне.

Наша беларуская будучыня, нашае існаваньне і наша воля – у нас самых. Толькі тут, на Захадзе, у другой палове жыцьця я па-новаму зразумеў, які вялікі, які магутны Беларускі народ. Які вялікі Якуб Колас, які магутны Купала.

Мы, беларусы, сьцiснуліся цяпер, як шагрэнева скура, але мы – ня Ўсход і ня Захад. Мы – асобная цывілізацыя, якая была некалі для нашых продкаў цэнтрам Сусьвету.

Шануйма ж, аберагайма сябе – наш вялікі Беларускі народ. Гэта ні нехта – там. Гэта мы – усюды.

Не давайма нягоднікам бэсьціць народ, зьневажаць яго дрэннымі словамі. Не ўпадайма ў адчай, не выказвайма прэтэнзіяў. Бо прэтэнзіі інтэлігенцыя можа прад'явіць толькі сама сабе.

Слава Беларусі! Жыве Беларусь! Хай жа будуць гэтыя словы на нашых вуснах і ў нашых сэрцах.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне", кіраўнік БКА***

*18 студзеня 2003 г*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2003, №2(48).*

* Ліст ня быў прачытаны на сходзе інтэлігенцыі Меншчыны па прычыне асьцярожнасьці арганізатараў. – *(рэд.)*

# НОЖ У ПЛЕЧЫ

Тое, што на паседжаньні Парляманцкай Асамблеі АБСЭ ў Вене 19-га лютага АБСЭ, фактычна, прызнала нелегітымную „палату” лукашэнкаўскага рэжыму на Беларусі і ўключыла яе дэлегацыю ў свой склад, – гэта ёсьць, калі казаць вобразна, іржавы нож у плечы незалежнай Беларусі. Калі коратка: Эўропа прадала Беларусь Маскве.

Для мяне гэта ня ёсьць нечаканасьцю. ***Палітыка АБСЭ – гэта палітыка падвойных стандартаў.*** На Беларусі, гэтак жа, як у Чачэніі і Аўганістане, яна выявілася найбольш яскрава. Я асабіста, і Народны Фронт, які я ўзначальваю, змагаліся і змагаемся з гэтай палітыкай ужо пяць гадоў. Мы пра гэта пісалі, казалі, выступалі, заяўлялі, паўсюдна і ўвесь час.

Цяпер у кантэксьце імкненьняў стварыць новую палітычную вось ***Парыж – Бэрлін – Масква*** якраз і выяўляецца гэтая падвойная палітыка Менскай місіі АБСЭ.

Усё гэта будзе спрыяць тэндэнцыям да легалізацыі расейскай палітыкі анэксіі, да зацьверджаньня ўнутранай акупацыі Беларусі.

Нагадаю, што, пачынаючы ад 1992 года, зноў (на новым этапе) ***ідзе змаганьне за Беларусь з расейскім імпэрыялізмам***. Вось дзе сутнасьць канфлікту і ўсяго, што на Беларусі адбываецца.

Зьнешнія сілы імпэрыялізму, скарыстаўшы Лукашэнку, дамагаюцца падпарадкаваньня і захопу Беларусі, а беларусам прапануюць змагацца не за Беларусь, а за „дэмакратыю” (не за галаву, а за валасы на галаве). І немцы ў структурах АБСЭ тут першыя саюзьнікі расейскай захопніцкай агрэсіі. У гэтым сутнасьць падвойнай палітыкі АБСЭ на Беларусі.

Прынятае рашэньне – безумоўная памылка АБСЭ.

Мы не пагодзімся з такой палітыкай. Мы не пагодзімся, каб нямецкая палітычная група прыватызавала цэлую міжнародную арганізацыю АБСЭ, каб толькі немцы прадстаўлялі АБСЭ ў Беларусі, каб вікі і цапфы вырашалі беларускі лёс. Тут ня пахне ні дэмакратыяй, ні прыстойнасьцю, а толькі грубым нямецкім прагматызмам.

Мы павінны апэляваць да свайго грамадзтва, каб яно рыхтавалася да ўсіх формаў змаганьня за свабоду і незалежнасьць. Такая ёсьць праўда, і такая ёсьць жорсткая рэальнасьць. Трэба ўступаць у БКА, пашыраць і ствараць Камітэты Абароны.

Мы мусім апэляваць да Злучаных Штатаў Амэрыкі і Вялікабрытаніі (краінаў-гарантаў беларускага суверэнітэту), каб яны рэальна падтрымалі нашу свабоду і незалежнасьць.



***З. У сядзібе БНФ (13.06.1994) З. Пазьняк***

З 1998 года галоўная мэта Ганса-Георга Віка (тагачаснага кіраўніка Місіі АБСЭ ў Менску) была – падрыхтаваць умовы для анэксіі Беларусі Расеяй. У гэтым ён сам прызнаўся ў верасьні 2000 года ў выступе на міжнароднай канфэрэнцыі ў Беластоку. Вікам была пастаўлена задача разбурыць Беларускі Народны Фронт і стварыць ненацыянальную апазыцыю ў Беларусі, дзе павінны былі змагацца за дэмакратыю без суверэнітэту;

Фронт зьнішчыць не ўдалося, але пры дапамозе расейскай агентуры яго раскалолі.

Пасьля выдаленьня легітымнага Шарэцкага зь дзейнай палітыкі і зь Беларусі (да чаго Вік прыклаўся найбольш) нямецкая група АБСЭ, якую ўзначальваў Вік, пайшла ў наступ. Вік аб’явіў, што дзейнасьць Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня скончылася. (Пра хлусьлівасьць гэтай заявы Віка была зьмешчана мая рэпліка ў друку.)

Я пісаў таксама пра супрацоўніцтва Віка з рэжымам Лукашэнкі.

У рэшце рэшт, мы, беларусы, мусім усьвядоміць (хто яшчэ не ўсьвядоміў), што ўсім трэба злучыцца вакол Беларускай Нацыянальнай Ідэі і бараніць незалежнасьць Беларускай дзяржавы.

Нельга ўвесь час жыць ілюзіямі, што Расея ці Эўропа дапамогуць Беларусі. Не дапаможа ні Расея, ні Эўропа. І на Ўсходзе, і на Захадзе ствараюцца цяпер новыя імпэрыі, і ***гэтым*** тлумачыцца ўся іхняя палітыка. Сіла – ў нас самых. І мы можам рэалізаваць яе, калі толькі таго захочам. І гэта трэба рабіць.

*20 лютага 2003 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне”, кіраўнік БКА***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2003, № 2(48).*
*Народная Воля, – 2003, 22 лютага.)*

# ІДЭАЛЫ БНР У РЭЧЫШЧЫ ГЕАПАЛІТЫКІ*

У Цэнтральна-Ўсходняй Эўропе сапраўдная *Вясна народаў*, якая прынесла свабоду нацыям і адчыніла шлях да дзяржаўнай незалежнасьці, настала з пачаткам ХХ-га стагоддзя і завяршылася разам са сканчэньнем Першай Сусьветнай вайны. Гэта быў кароткі пэрыяд часу, але на падрыхтоўку яго, пасьля 1848 года (а для беларусаў – пасьля 1863-га) пайшло больш за палову стагоддзя.

Беларуская дзяржаўнасьць і незалежнасьць фармальна абʼяўлена ў сакавіку 1918 года ў цяжкіх умовах вайны і нямецкай акупацыі. Тады адразу выявілася, наколькі вялікае значэньне павінен быў мець якраз той падрыхтоўчы пэрыяд пасьля 1863 года, які, аднак, стаў для беларусаў (прынамсі да пачатку ХХ-га стагоддзя) не накапленьнем сілаў, а гадамі зьнішчэньня, разгулам русіфікацыі і пасьляпаўстанцкай рэакцыі.

Палітычнае афармленьне нацыянальнага Адраджэньня пачалося толькі ў пачатку ХХ-га стагоддзя. Але, ізноў жа, час ад ідэі да абʼяўленьня незалежнасьці быў вельмі кароткі, беларускае Адраджэньне не пасьпела тады пранікнуць глыбока ў гушчы людзей і палітычна скансалідаваць нацыю. Гэтую задачу павінна была да канца выканаць і завяршыць Беларуская дзяржава. Адчайнымі высілкамі беларускага нацыянальнага авангарда гэтая першая і галоўная мэта была часткова дасягнута. У пачатку сакавіка 1918 года пад нямецкай акупацыяй бала фармальна ўтворана Беларуская Народная Рэспубліка і 25 Сакавіка абʼяўлена пра яе незалежнасьць.

Падзеі маглі разьвівацца добра. Але далей вырашалі якраз зьнешнія міжнародныя чыньнікі. Зь іх галоўны – што ні Беларусь, ні Ўкраіна не былі па-сапраўднаму падтрыманыя Эўропай. Стаўка рабілася на новую Польшчу (каб паўстрымаць немцаў і адгарадзіцца ад бальшавікоў). Потым і Беларусь, і Ўкраіна былі ўвогуле запрададзены савецкай Расеі. У давяршэньне – Амэрыка і Эўропа прызналі рэжым Сталіна. Падабенства паміж падзеямі 20-30-х гадоў мінулага стагоддзя і цяперашнім становішчам – вельмі яскравае.

Мне ўжо прыходзілася адзначаць, што эўрапейская геапалітыка ад часоў Рыму ходзіць аднымі і тымі ж вытаптанымі дарожкамі. Усьведамленьне гэтай акалічнасьці дазваляе лепш зразумець зьявы і прадбачыць будучыя.

З глыбіняў цяперашняй гісторыі чалавецтва, ад часоў вядомых нам старажытных цывілізацыяў, зарэгістраваны ўсеагульны фэнамэн улады, які ўзьнікаў спарадычна, але і рэгулярна там, дзе ўлада была наймацнейшай. Гэты фэнамэн – *інкненьне ўладарыць над усім сьветам*.

У аснове гэтакага імкненьня была прага нажывы (прага багацьця), прага ўлады і адчуваньне неабмежаванай сілы. Праз тысячагоддзі, пачынаючы ад першых ваенных дзяржаваў і аж да цяперашняй дактрыны глабалізацыі, тут фэнамэнальна нічога не зьмянілася. Пераמяніліся толькі абставіны.

На заваёву сьвету выпраўляліся старажытныя кітайцы, ідучы да канца Паднябеснай, і дзікія манголы, імкнучыся на конях – да апошняга мора, і каравэлы эўрапейцаў, рабуючы дармовыя землі, і цяперашняя лібэральная дэмакратыя, інвэстуючы дурныя ідэі і вялікія грошы ў посткаляніяльны адсталы сьвет. З трох фактараў глябальнага руху вылучыўся наймацнейшы – прага нажывы.

Фэнамэн трансцэндэнтных дзеяньняў геапалітыкі назіраецца ў гісторыі паўсюдна, у розных кутках сьвету. У Эўропе на працягу ўсёй пасьлярымскай гісторыі не перапыняліся імкненьні паўтарыць вялікі Рым, абʼяднаць новую Эўропу. Актыўнай і практычна адзінай сілай у гэтым працэсе Эўропы зьяўляюцца немцы. Прычыны тыя ж: „вілер цур махт”, нажыва, рэалізацыя дзяржаўнай сілы (не абавязкова вайсковай).

Апошняя спроба Гітлера абʼяднаць Эўропу ў Трэці Райх пры дапамозе танкаў і канцэнтрацыйных лягераў пацярпела фіяска. Гэтак жа, як і нямецкія спробы ў пачатку ХХ-га стагоддзя, і значна раней.

Тым часам раней (маецца на ўвазе XIII – XVIII стагоддзі) Эўропа мела больш стабільную канструкцыю, паколькі на ўсходзе Эўропы існавала моцная сіла – Беларусь (ці, як яе тады называлі, Вялікае Княства Літоўскае), якая ўраўнаважвала дзьве агрэсіўныя экспансіі: варварскую з Усходу (распачатую гунамі і потым прадоўжаную манголамі і Масквой) і „цывілізацыйную” з Захаду (што цягнулася ад Рыму і была падтрыманая немцамі). Тут зазначым, што геаграфічныя і цывілізацыйныя межы Эўропы – не супадаюць. Цывілізацыйная Эўропа заканчвалася адразу за Смаленскам.

У XV-м стагоддзі (пасьля перамогі пад Грунвальдам) нямецкую экспансію ўдалося прытармазіць.Тым часам 500 гадоў пэрманэнтнай вайны з Масковіяй і варварамі з усходу абяскровілі нашу краіну. Але пералом адбыўся толькі тады, калі заходнія і ўсходнія агрэсары (ворагі ВКЛ) абʼядналіся, дамовіліся аб сумеснай палітыцы. Гэта здарылася ў XVIII стагоддзі і прывяло да разбору Рэчы Паспалітай. Эўрапейская цьвярдыня на Ўсходзе перастала існаваць. Стабільная геапалітычная структура Эўропы была разбурана, і саюзьнікі (сябры-ворагі) апынуліся адзін перад другім твар у твар. Далейшыя лёсы Эўропы можна было прадбачыць.

Вынікам ліквідацыі Беларускай дзяржавы і ўсёй Рэчы Паспалітай сталіся дзьве вялікія Сусьветныя войны, зь дзясяткамі мільёнаў ахвяраў і непапраўнымі стратамі ў культуры. З сытуацыі, якая ўтварылася пасьля разбору, можна было адразу зразумець дзьве чыннасьці. Першая – што адваяваньне незалежнасьці Беларусі (гэтак жа, як і Польшчы) можа стацца найбольш магчымым і верагодным толькі тады, калі адбудзецца сутыкненьне часовых саюзьнікаў (Нямеччыны і Расеі). І другая чыннасьць, што ў выпадку выкарыстаньня магчымасьці дамагчыся свабоды незалежная Беларусь зноў можа патрапіць (калі ня знойдзе выхаду) у становішча паміж Сцылай і Харыбдай (гэта значыць паміж Расеяй і Нямеччынай).

Ці разумелі гэта беларускія адраджэнцы ў пачатку ХХ-га стагоддзя, якія змагаліся за незалежную Беларусь і ўтварылі потым БНР? Мяркую, што добра разумелі.

Яшчэ ў 1916-м годзе адбылася Канфэрэнцыя народаў Эўропы ў Лёзане (Швайцарыя), дзе беларускія дэлегаты-адраджэнцы (будучыя арганізатары БНР) выказалі ідэі пра неабходнасьць стварэньня ў блізкай будучыні сьціслага саюзу ці садружнасьці краінаў паміж Балтыйскім і Чорным морамі. Ідэя Балта-Чарнаморскага яднаньня зыходзіла з усьведамленьня неабходнасьці аднаўленьня на Ўсходзе Эўропы супольнай

* Канфэрэнцыя: Ідэалы БНР і Адраджэньне Беларусі. 85-я гадавіна незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. 22 сакавіка 2003 года, г. Менск. Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне” і ягоная Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ.

сілы вольных краінаў на абшары былога Вялікага Княства Літоўскага, сілы, якая магла б зноў супрацьстаяць агрэсіі Расеі і стрымліваць экспансію немцаў.

У 1918 годзе, пасьля ўтварэньня БНР, беларускія палітыкі ўсёй моцай імкнуліся прадухіліць адмоўную рэакцыю немцаў на аб'яўленьне незалежнасьці Беларусі (немцы мелі дамовы з расейскімі бальшавікамі ў гэтым пытаньні згодна так званага „Берасьцейскага міру"). Каб пасьпець стаць на дзяржаўныя ногі, трэба было заручыцца хаця б нэўтральнасьцю немцаў у дачыненьні да беларускай незалежнасьці. Былі наладжаныя вельмі добрыя адносіны з украінцамі, беларускія місіі знаходзіліся ў Бэрліне, у Летуве, Рызе і Эстоніі.

Часу, аднак, ужо не хапіла. Наступ бальшавікоў і потым падзел краіны паміж Польшчай і Расеяй падарвалі беларускія сілы. Эўропа дэманстравала поўную абыякавасьць да лёсу Беларускай незалежнасьці. Для эўрапейскага філісьцера Беларуская гісторыя была скончана ўжо ў XVIII стагоддзі. Францыя і Англія рабілі стаўку на Польшчу (супраць немцаў), а Расея была для левага, перапоўненага рускай эміграцыяй Парыжа мінулым саюзьнікам і спараджала сантыменты (дарма, што бальшавікі).

У канцы 30-х многія беларусы на ўсходзе хацелі вайны, чакалі яе, як апошняй надзеі застацца жывымі, выскачыць з-пад расейска-бальшавіцкіх рэпрэсіяў, ад якіх не было паратунку. Тое ж самае чаканьне было ў заходняй Беларусі, толькі больш з-за бяды, беззямельля і беспрацоўя. Неўзабаве вайна пачалася.

Скок з агню ды ў полымя быў няпросты для ўсёй нацыі. Але менавіта ў гэты час беларуская палітычная эліта засьведчыла сваю сьпеласьць і сьмеласьць (не паўтарыўшы памылак 20-х гадоў, калі дала сябе зьнішчыць).

Беларускія нацыянальныя дзеячы, прыехаўшы ў акупаваны немцамі Менск, адразу пайшлі працаваць у нямецкую цывільную адміністрацыю, і яны ж (гэтыя людзі) адразу ўтварылі беларускае антынямецкае падпольле – змагарную „Незалежніцкую партыю".

Тым часам агульнае становішча Беларусі было больш чым драматычным. Рыхтуючыся да вайны з Савецкім Саюзам, немцы прадугледжвалі даць пэўныя нацыянальныя свабоды і разьвіцьцё прыгнечаным народам СССР, магчымасьці фармаваньня іхных баявых адзінак супраць саветаў. Але надзвычайныя посьпехі нямецкага войска ў пачатку вайны і лёгкі разгром Чырвонай арміі паўстрымаў іх ад вольнай нацыянальнай палітыкі, прыдаў самаўпэўненасьці і спадзяваньняў на свае сілы. Немцы вярнуліся да сваіх „нацыянальных" плянаў у 1944-м, але было ўжо позна.

Пэрспэктывы Беларускай незалежнасьці, і нават хаця б аднаўленьня тэрытарыяльнай цэласнасьці БНР у нейкай адной акупацыйнай зоне адміністрацыі, нават не прагледжвалася. Тэрыторыя БНР была разарваная. Становішча беларусаў, якія апынуліся паміж нямецкімі акупантамі і бальшавіцкімі партызанамі ў лясах, было трагічным, нібы жалеза паміж молатам і кавадлам.

І тым ня менш, менавіта гэтыя няпоўныя чатыры гады нямецкай акупацыі з 1941 па 1944 выклікалі, бадай, ці ня самы магутны ўздым беларускага нацыянальнага духу, які зафіксаваны ў ХХ-м стагоддзі.

Нацыянальныя працэсы, якія адбываліся ў душах перадваеннага пакаленьня беларусаў, не былі зьнішчаныя расейцамі за дваццаць гадоў. Бальшавіцкі тэрор спаралізаваў людзей, але і абвастрыў беларускую сьведамасьць. І калі прыйшлі іншыя акупанты, што пагналі бальшавікоў, іх сустрэлі (іронія лёсу) як вызваліцеляў, а вайну – як надзею свабоды.

Моцныя беларускія нацыянальныя сілы, якія выклікала да жыцьця ваеннае Адраджэньне, не змарнаваліся. Яны стварылі пасьля вайны актыўную беларускую палітычную эміграцыю, і менавіта яны аднавілі дзейнасьць Рады БНР (пасьля сьмерці *Прэзыдэнта* ***Васіля Захаркі***) і зьберагліі адраджэнцкія ідэалы.

Але рэальнасьць была такая, што Беларусь, як незалежная краіна, так і не вярнулася на мапу Эўропы. Запрададзеная канчаткова Ялцінскім падзелам, яна была асуджана на нацыянальнае зьнішчэньне.

Так яно і было. Расейскія акупанты-камуністы рабілі на Беларусі, што хацелі: адабралі ў людзей уласнасьць і будучыню, зьнішчылі традыцыйнае сялянства, ліквідавалі беларускія школы, і цалкам – нацыянальную вышэйшую адукацыю, разбурылі храмы і гістарычныя цэнтры беларускіх гарадоў, асушылі лугі і балоты, выпрасталі і пазьнішчалі рэкі, набудавалі гіганцкіх сьвінакомплексаў (па сто тысячаў сьвіней) для ўсяго СССР, зглумілі прыроду, задушылі мову і думку і, што вельмі істотна, – начыста вынішчылі, затапталі і зьбэсьцілі гістарычную памяць некалькіх пакаленьняў беларусаў.

* * *

Вялікія ідэі БНР (як я ўжо адзначыў) жылі і перахоўваліся толькі за межамі Беларусі, на Захадзе, у эміграцыі сярод тых беларусаў, якія абудзіліся да нацыянальнай годнасьці за часы Другой Сусьветнай вайны. Гэта становча паўплывала на разьвіцьцё новага беларускага Адраджэньня ў 80-х гадах, і потым – за часы рэвалюцыі 1991 года і будаўніцтва новай незалежнай Беларусі.

Новае беларускае Адраджэньне, якое арганізавалася ў Беларускі Народны Фронт, пераняло гэрб, сьцяг і ідэі БНР і адразу сутыкнулася з пытаньнямі геапалітыкі, без зразуменьня і забесьпячэньня якіх не магла існаваць і разьвівацца незалежная Беларусь.

У агульнай форме – гэта пытаньні тэрыторыі, межаў, дзяржаўнай сталіцы, дачыненьняў з суседзямі, месца ў падзельных ці аб'яднаўчых працэсах у сьвеце і сфэрах уплыву.

Беларуская Народная Рэспубліка ўзьнікла і была аб'яўлена на сваіх этнічна-гістарычных і дзяржаўна пацьверджаных гісторыяй тэрыторыях, ад Беластока – да Дарагобужа і Вязьмы, ад Дзьвінска і Вільні – да Ноўгарад-Северска. Тэрытарыяльнае пытаньне, разам з пытаньнем дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, было важным фактарам палітыкі на працягу ХХ-га стагоддзя ў гэтай частцы Эўропы. Яно ўзьнікала пастаянна на ўсіх паваротах і пэрэпетыях беларускага змаганьня за дзяржаву і незалежнасьць.

БССР бала задумана і аб'яўлена бальшавікамі ў Смаленску. Потым, зыходзячы з падставы, што БССР створана як часовае ўтварэньне ў піку БНР, усе ўсходнія тэрыторыі Беларусі разам са Смаленскам Расея забрала сабе. У 1919 годзе бальшавікі страцілі цікавасьць да БССР і арганізавалі ЛітБел (Літоўска-Беларускую Рэспубліку) са сталіцай у Вільні. Потым (у 1920-м) зноў вярнуліся да БССР, а ў 1921 годзе, у Рызе (без удзелу беларусаў), падзялілі Беларусь паміж Расеяй і Польшчай.

У 1939 годзе настаў чарговы перадзел Усходняй Эўропы, на гэты раз ужо па клясычнай схеме – паміж Расеяй і Нямеччынай. У склад БССР былі вернуты Заходнія тэрыторыі, Беласток і Вільня. У Беластоку праводзіцца Зьезд дэлегатаў заходняй Беларусі аб узьяднаньні з БССР, у Вільні праходзіць маса-



(Фота з Сеціва, Bundesarchiv)

*4. Пляц Волі ў Менску за часы 1-й Сусьветнай вайны і БНР.*

вы мітынг каля ста тысячаў асобаў (у горадзе тады было каля двухсот тысячаў жыхароў), дзе ўсе выказаліся за ўзьяднаньне з БССР. У Менску пачынаюць настройвацца да пераезду дзяржаўных установаў у старажытную сталіцу. Але ў гэты ж час Сталін перадае Вільню Летуве (узамен нібыта за расейскія вайсковыя базы на яе тэрыторыі. Гэткім чынам расейцы забралі Летуву.) А неўзабаве „верны" саюзьнік Сталіна Гітлер ударыў па Савецкім саюзе.

Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя разборы, падзелы, псэўдадзяржаўныя ўтварэньні, пачынаючы ад ленінскага „Берасьцейскага міру" і „Рыскай змовы", – усё гэта рабілася чужымі сіламі і не было зьместам незалежнай беларускай палітыкі, хоць падзеі супадалі (ці не супадалі) зь беларускімі нацыянальнымі інтарэсамі.

Адзінай несумненнай праўна-палітычнай асновай беларускай геапалітыкі ёсьць ***Акты Рады БНР*** аб незалежнасьці і ўладкаваньні Беларускай Народнай Рэспублікі.

* * *

Беларускі Народны Фронт абапіраўся ў сваёй міжнароднай палітыцы на прынцыпы БНР.

У пачатку 1990 году Сэйм Летувы, дзе большыню дэпутатаў складалі сябры Саюдзіса, рыхтаваўся да аб'яўленьня незалежнасьці краіны. Масква, перашкаджаючы прыняцьцю такога рашэньня, зьвярнулася да геапалітычнай аргумэнтацыі, закладзенай Сталінам, і выкарыстала сваіх халуёў у кіраўніцтве Беларусі. Тагачасны Старшыня Вярхоўнага Савета БССР ХІ-га скліканьня Мікалай Дземянцей выступіў пад дыктоўку Масквы з заявай аб вяртаньні Вільні і Віленшчыны Беларусі у выпадку, калі Сэйм Летувы прыме рашэньне аб незалежнасьці. Масква, аказваецца, усё ведала і памятала і пра Беларускую сталіцу, і пра этнічна беларускую тэрыторыю і г.д. І вырашыла прывесьці ў дзеяньне міну, закладзеную Сталінам.

Гісторыя гэтай правакацыі вядомая. Дэлегацыя дэпутатаў Вярхоўнага Савета ад Беларускага Народнага Фронту і прадстаўнікоў БНФ правяла перамовы з кіраўніцтвам і прадстаўніцтвам Сэйму Летувы. Ніхто ня верыў у сур'ёзнасьць намераў М. Дзямянцея. З нашага боку была выказана падтрымка незалежнасьці Летувы ў межах Літоўскай ССР. З боку спадара Ляндсбэргіса, прадстаўнікоў Сэйму і Саюдзіса былі дадзеныя гарантыі аб спасьцераганьні нацыянальных правоў аўтахтоннага беларускага насельніцтва Віленшчыны, аб адкрыцьці беларускіх школаў, беларускага радыё, перадачаў тэлебачаньня на беларускай мове, аб вольных магчымасьцях перасячэньня мяжы для беларусаў Віленшчыны і г.д. Усё гэта было адзначана і падпісана ў сумеснай заяве, якую зьмясьцілі ў друку.

Гісторыя барацьбы за Вільню ў ХХ-м стагоддзі ўключае ў сабе шмат драматычных старонак. У 1939 годзе, напрыклад, летувісы прынялі прапанову Сталіна ўзяць Вільню ў абмен на абмежаваны ўвод савецкіх войскаў у Летуву. Яны страцілі такім чынам незалежнасьць і трапілі пад акупацыю на пяцьдзесят гадоў існаваньня. Але гістарычна (прынамсі, на сёньняшні дзень) яны выйгралі. Вільня засталася ў Летуве.

Тым часам тады для летувісаў не было выбару. Акупацыя ўсяроўна адбылася б. Зьбліжалася вайна. Ля мяжы маленькай краіны стаяў велізарны і моцны вораг, які ўладкоўваўся тут на доўгі час і які зрабіў (каб ня траціць часу і „прэстыжу") заманлівую прапанову. Рэдкі выпадак, калі бязвыхадны і маладушны прагматызм паспрыяў пэрспэктыве краіны.

У 1990 годзе ў пытаньні зь Вільняй была ўжо ня драма, а дурнаваты фарс, які пад прымусам разыгрывала непаважаная асоба

(М. Дземянцей). Савецкі Саюз (у гэтым мы не сумняваліся) вось-вось мусіў сканаць. Ён не ўяўляў ужо пэрспэктыўнай сілы. Нельга было сур'ёзна ўспрымаць правакацыйную падсадную качку, да якой несур'ёзна адносіліся нават самы правакатары, якія былі нашымі палітычнымі ворагамі.

Мушу адзначыць, што правакацыя Масквы стварыла для нас нядобрую сытуацыю. З нашага боку дастаткова было б абмежавацца сваёй крытычнай заўвагай па „прыватнай заяве" Дземянцея, не даводзячы справы да абмеркаваньня з Саюдзісам і кіраўніцтвам летувіскага Сэйму.


5. *Вільня, касьцёл сьв. Ганны і «Бэрнардынец».*

(Фота З. Пазьняка пач. 1970-х гг.)

Але, тым ня менш, перамовы 1990 года, якія адбыліся ў Вільні ў выніку „правакацыі Дземянцея" далі магчымасьць нам выявіць рэальнае разуменьне сытуацыі, засьведчыць салідарнасьць з Саюдзісам і падтрымаць імкненьне нашых суседзяў да незалежнасьці ***(бо ў гэтым была пэрспэктыва і нашай незалежнасьці),*** паставіць пытаньне аб гарантыях культурна-нацыянальнага разьвіцьця беларусаў Віленшчыны.

Немалаважным было і тое, што ў працэсе перамоваў намі было падкрэсьлена, што гэтыя перамовы не вырашаюць лёсу Вільні, і нават не адбіваюць ва ўсёй паўнаце нашай пазыцыі ў гэтым пытаньні. Задача стаяла ў тым, каб падтрымаць незалежнасьць Летувы і прадухіліць правакацыі Савецкага Саюза. Было адзначана, што пытаньне Вільні, аднак, зусім не здымаецца з гістарычнага току падзей, і рана ці позна Беларусь да яго вернецца.

У траўні гэтага ж года ў Маскву ў Вярхоўны Савет СССР і ў Вярхоўны Савет РСФСР выехала неафіцыйная парляманцкая дэлегацыя Беларускага Народнага Фронту. Былі праведзены спатканьні і перамовы з дэпутацкай дэлегацыяй і кіраўніцтвам Смаленскай вобласьці. Нас цікавіла, як смаленскае кіраўніцтва аднясецца да ідэі далучэньня Смаленшчыны да Беларусі пры ўмове загаспадараваньня беларусамі апусьцелых смаленскіх земляў. Адносіны смаленцаў да ўваходжаньня Смаленшчыны ў склад Беларусі былі цалкам станоўчыя, калі б пра гэта было прынята палітычнае рашэньне кіраўніцтва абедзьвюх рэспублік. Адзіная іхняя засьцярога – неабходнасьць гарантыяў захаваньня працы для смаленскіх кіруючых кадраў.

Фактычна, 1990-91 гады – гэта быў адзіны час, адзіны момант, калі можна было рэальна зноў паставіць пытаньне пра вяртаньне Смаленшчыны. Прыехаўшы ў Менск, прыходзілася весьці прыватныя размовы пра гэта з членамі Вярхоўнага Савета і Саўміна. Але ніхто з тагачаснага савецкага кіраўніцтва БССР ня быў гатовы нават да размовы на такія тэмы.

26-га красавіка гэтага ж 1990 года дэпутатамі ад Беларускага Народнага Фронта была склікана ў Менску Міжнародная канфэрэнцыя па вельмі важным пытаньні нашага будучага міжнароднага існаваньня як незалежнай дзяржавы. (У тым, што Беларусь дасягне незалежнасьці, мы тады не сумняваліся і ўжо масьцілі дарогу наперад.) Канфэрэнцыя з удзелам украінцаў, латышоў і летувісаў была пасьвечана ідэі стварэньня ў будучыні Балта-Чарнаморскай Асацыяцыі свабодных краінаў. Матывацыя зыходзіла з прызнаньня таго факту, што ўадзіночку вырвацца з СССР ня ўдасца. Патрэбна супольная салідарная ўзаемападтрымка і салідарная палітыка, асабліва потым, каб супроцьстаяць націску Расеі і магчымым інтрыгам з Захаду.

Рэакцыя на канфэрэнцыю і ідэю Балта-Чарнаморскай салідарнасьці з боку камуністычных уладаў БССР была шалёная. Зьявіліся пагрозьлівыя выпады супраць БНФ у афіцыйным друку і ў парляманце, занепакоілася Масква.

У лістападзе гэтага ж года (пасьля грунтоўнай падрыхтоўкі) намі была скліканая ў Менску другая міжнародная міжпарляманцкая канфэрэнцыя па праблемах Балта-Чарнаморскага ўладкаваньня краінаў. Нам удалося пераканаць у пэрспэктыўнасьці балта-чарнаморскіх дачыненьняў некаторых членаў беларускага савецкага ўраду, і асабіста прэм'ера Вячаслава Кебіча. В. Кебіч прыняў сьмелае для сябе рашэньне – ахвяраваў афіцыйную залю Савета Міністраў БССР у Доме ўраду для правядзеньня канфэрэнцыі, а дэпутатаў парляманту Ўкраіны, Летувы, Латвіі, Эстоніі, Малдовы пасялілі ва ўрадавай рэзыдэнцыі ў Заслаўі.

У канцы дня з Масквы В. Кебічу пазваніў Ельцын з патрабаваньнем разагнаць канфэрэнцыю. Рык з Крамля быў, відаць, такі сьвірэпы, што ў В. Кебіча назаўсёды адпала ахвота займацца гэтым пытаньнем.

Рашэньні і аналіз палітычнай пэрспэктывы, адлюстраваны ў дакумантах Канфэрэнцыі, быў важны для разьвіцьця геапалітычнай думкі ў Беларусі і ў рэгіёне. Гэта была моцная цаглінка ў мур нашай будучай незалежнай скаардынаванай, як мы меркавалі, агульнай палітыкі.

Пазьней, з здабыцьцём незалежнасьці, гэтая тэма перарасла ў ідэю Міжмор'я, з уключэньнем Польшчы і краінаў Цэнтральнай Эўропы. Па ініцыятыве БНФ у Беларусі, на Ўкраіне і Латвіі ў сьвятле Балта-Чарнаморскай ідэі пачалі разглядаць магчымасьць пабудовы Балта-Чарнаморскага нафтавага калектара. Апошняя міжнародная канфэрэнцыя на тэму калектара, якая па ініцыятыве Фронту прайшла летам 1993 года ў Менску, паказала ўжо наяўнасьць практычных вынікаў з боку Ўкраіны (урадавыя рашэньні і праца праектных інстытутаў). Справа стаяла за Беларусяй, афіцыйныя структуры якой пад ціскам Масквы супраціўляліся абмеркаваньню ідэі калектара ўсімі сіламі.

Справу ўскладніла трагічная падзея. Адразу пасьля вяртаньня зь Менскай канфэрэнцыі ў Кіеве бясьследна зьнік з усімі

дакумантамі па калектары намесьнік Старшыні Народнага Руху Ўкраіны спадар Байчышын, які займаўся гэтым пытаньнем на Ўкраіне. Украінцы мяркуюць, што ён быў забіты расейскім ФСБ.

Неўзабаве летам 1994 года ў Беларусі адбыліся фатальныя падзеі (усталяваньне прамаскоўскага рэжыму), якія шмат у чым перакрэсьлілі такія гераічныя і, вырваныя ў гісторыі з такімі васілкамі, заваёвы новага Беларускага Адраджэньня.

* * *

З 1994 года, пасьля выбараў антыбеларускага прэзыдэнта і з татальным пранікненьнем маскоўскіх спэцслужбаў у сістэму беларускай улады, мерыдыяльны вектар беларускай Адраджэнцкай геапалітыкі (поўнач-поўдзень), сцьверджаны Народнам Фронтам, быў, практычна, ліквідаваны. Геапалітычная сытуацыя (і ў рэальнасьці, і ў сфэры ідэяў) зноў была вернута да ранейшай гарызантальнай разбуральнай схемы „усход-захад". Беларусь зноў апынулася паміж Сцылай і Харыбдай.

Да 1998 года, нягледзячы на правал „імпічманту" і антыканстытуцыйны пераварот у лістападзе 1996 года, у беларускай Адраджэнскай палітыцы была яшчэ магчымасьць манэўру. Пасьля сканчэньня шырокай „антылукашэнкаўскай апазыцыі" (ініцыяванай Народным Фронтам дзеля імпічманту) удалося (хоць ужо і з пэўнымі цяжкасьцямі) аб'яднаць Адраджэнскія сілы вакол ідэі шырокай нацыянальна-вызвольнай апазыцыі, якая атрымала назву ***Вызвольны Рух***.

Галоўнай ідэалёгіяй шырокай вызвольнай апазыцыі былі палажэньні аб абароне дэмакратыі і незалежнасьці Беларусі і аб змаганьні (супрацьстаяньні) з імпэрскай палітычнай агрэсіяй Расеі, накіраванай на захоп і анэксію нашай краіны. Надалей актуальным заставаўся тактычны контррасейскі лёзунг „Беларусь – у Эўропу", паколькі Сцыла і Харыбда яшчэ дзейнічалі разрозьненна.

Але ўжо ў канцы 1997 года (асабліва пасьля V-га Зьезду БНФ, на якім быў аформлены *Вызвольны Рух* і дакумэнтальна пацьверджаныя задачы шырокай беларускай нацыянальнай апазыцыі) Масква пачала рабіць адчайныя крокі, каб зьнішчыць сілу беларускага Адраджэньня. Неўзабаве зьяўляюцца агентурныя распрацоўкі „Хартыя-97", плян „апазыцыйных" прэзыдэнцкіх выбараў („Праект Чыгір"), а ў Беларусь прыязджае Ганс-Георг Вік, які, выкарыстоўваючы АБСЭ і абапіраючыся на заходнія сродкі (і, дарэчы, таемна супрацоўнічаючы з рэжымам Лукашэнкі), пачынае непасрэдна ствараць у Беларусі альтэрнатыўную неадраджэнскую (намэнклятурную) апазыцыю на расплывістых падставах агульнай дэмакратыі (без суверэнітэту). Фармальная мэта альтэрнатыўнай так званай „аб'яднанай апазыцыі" – змаганьне за дэмакратыю супраць рэжыму Лукашэнкі. Але ні слова пра рэальнасьць – пра змаганьне з заборчай палітыкай і імпэрскай агрэсіяй Расеі.

Менавіта ў гэты час выяўляецца ўзаемадзеяньне расейскай і нямецкай палітыкі ў справе інкарпарацыі Беларусі ў Расею. Дэмагогія пра „дэмакратыю" тут выкарыстоўваецца ў якасьці дымавой заслоны дзеля маскіроўкі нямецка-рускіх геапалітычных інтарэсаў.

* * *

Становішча, якое ўтварылася цяпер у геаграфічнай Эўропе, робіцца неспрыяльным для беларускай і ўкраінскай незалежнасьці. У Расеі і ў Беларусі ўстаноўлена мафійна-групавая ўлада савецка-расейскага КГБ, у Маскве пастаўлена задача пашырэньня расейскай імпэрыі за кошт паглынаньня Беларусі і падпарадкаваньня Ўкраіны.

Тым часам на Захадзе на нашых вачах уздымаецца новы эўрапейскі монстр, так званая „Аб'яднаная Эўропа", альбо Эўразьвяз. Ужо добра відаць контуры гэтай новай бязбожнай супэрімпэрыі з свабодай паскудства, нажывы і спажывецтва, са збочанай мас-культурай. У пэрспэктыве немцы ўжо плянуюць канстытуцыю, прэзыдэнта, міністэрства замежных справаў Эўразьвязу, потым – урад, „фэдэрацыю", адмаўленьне ад прынцыпа кансэнсуса пры прыняцьці рашэньняў і г.д.

Гэтакая структурызацыя эўрапейскай ўлады, відаць, пачнецца неўзабаве пасьля паглынаньня Польшчы (якая сама йдзе туды пад дыктоўку Брусэля).

Мінулыя і цяперашнія эўраспадары, як паказвае гісторыя, для дасягненьня інтарэсаў гатовыя заключыць саюз нават з д'яблам. І таму нямецкі саюз з Пуціным (*вось Парыж-Бэрлін-Масква*) нікога ўжо не зьдзіўляе. Але цалкам зразумела, за якую „дэмакратыю" будуць змагацца гэтыя саюзьнікі ў Беларусі.

* * *

Думаючы аб направе нашай незалежнай пэрспэктывы, мусім зьвярнуцца зноў да геапалітычнага грунту і ідэяў стваральнікаў БНР. Вектар замежнай палітыкі павінен быць заўсёды вызначаны, незалежна ад дачыненьняў да ўлады, нават у падпольлі. Цяпер, калі Расея і Нямеччына праводзяць узгодненыя дзеяньні, наша адраджэнцкая барацьба на два бакі – непазьбежная. Як яна адбываецца і будзе адбывацца – гэта ўжо пытаньні бягучых адносінаў. Але мы заўсёды павінны памятаць пра салідарныя дачыненьні з Украінай і краінамі на поўначы. Мяркую, што мы мусім быць уважлівымі да нашых добрых адносінаў з Злучанымі Штатамі Амэрыкі і да тых краінаў, якія не падтрымліваюць новую эўра-азіяцкую „вось".

*Вось Бэрлін-Масква* заўсёды была восьсю вайны, хоць пачыналася яна, як правіла, з агульных інтарэсаў. Цяперашнім пакаленьням беларусаў (што да міжнароднай палітыкі) ***неабходна збавіцца ад ганебнага савецкага комплексу – трэба перастаць баяцца вайны.*** Само існаваньне ў палітычным полі паміж Бэрлінам і Масквой вымагае ад нас іншай, больш рашучай псіхалёгіі. Баючыся вайны, свабоду не здабываюць.

Калі мы хочам, каб не зьнікала народная будучыня, мы ***ніколі не павінны выракацца жаданьня і ідэі вярнуць страчанае.*** Тады вернецца. Бо народ жыве пакаленьнямі, а ідэя – неўміручая. У пляне магчымасьцяў нацыянальнага, духоўна-культурнага разьвіцьця нацыі самая вялікая параза, якая напаткала нас у XX-м стагоддзі, – гэта фактычная страта на доўгі час дзяржаўнай незалежнасьці і страта спрадвечнай сталіцы. І гэта ёсьць найважнейшыя задачы для направы, якія стаяць перад беларускімі пакаленьнямі.

Падзеі, якія вызначылі пэрспэктывы нашага беларускага нацыянальнага існаваньня, якія сталі нашымі самымі вялікімі здабыткамі ў XX-м стагоддзі, – гэта аб'яўленьне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 Сакавіка ў 1918 годзе і вяртаньне незалежнасьці Беларусі праз 73 гады, 25 Жніўня ў 1991-м. І цяпер ідэі і полымя гэтых вогнішчаў асьвятляюць нам шлях.

*2 сакавіка 2003 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

## *Аб становішчы і задачах*

***(Фрагмэнты выступу на сакавіцкім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

Цяпер нашай галоўнай задачай і галоўнай мэтай беларускага грамадзтва зьяўляецца недапушчэньне рэфэрэндуму аб анэксіі, які, як выглядае, хацела б правесьці на Беларусі пуцінская Масква.

Цяпер (асабліва пасьля апошніх вулічных правакацыяў так званай „апазыцыі”) вельмі наглядна відаць, як ГБ хоча адыгрываць актыўную ролю ў „дэмакратыі”, падбірае яе пад сябе і вядзе людзей у сьляпы завулак.

У кантэксьце існуючай цяпер антыбеларускай дыктатуры на Беларусі ажыцьцёўлена клясычная мэта спэцслужбаў рэжыму: створана так званая „апазыцыя”, шчыльна кантралюемая праз КГБ на ўзроўні партыйнага кіраўніцтва і агентуры.

Адначасна фактам ёсьць тое, што спэцслужбамі створаны свае „апазыцыйныя” сродкі масавай інфармацыі і ўстаноўлены кантроль над існуючымі так званымі „незалежнымі”.

Сумяшчэньне кантролю над гэтымі двума галінамі ў агульнай антыбеларускай працы дало магчымасьць спэцслужбам (і іхным заходнім памагатым) стварыць ілюзорную праўдападобную сытуацыю падмены рэальнасьці, увесьці ў палітычны ўжытак элемэнт імітацыі і палітычнай гульні, мэта якой – сьцягнуць актыўнасьць грамадзтва на сябе і маніпуляваць ім, дзе галоўным элемэнтам ёсьць імкненьне затушаваць *сутнасьць канфлікту на Беларусі паміж заборчай імпэрскай палітыкай Расеі і супраціўленьнем вольнай Беларусі*. Галоўнай задачай ставіцца – барацьба з аўтарытарызмам Лукашэнкі.

Такая дзейнасьць спэцслужбаў ва ўмовах антынароднай дыктатуры заўсёды можа мець вынікі. Для гэтага створаны ўмовы.

Тым часам мы павінны бачыць, што ўдаецца нашым непрыяцелям, а што не (і чаму „так”, і чаму „не”). Мы мусім аналізаваць гэтыя маніпуляцыі і супроцьстаўляць свае адпаведныя дзеяньні на падставе неабходнасьці. (Успомнім, што каб запабегчы стварэньню Беларускага Народнага Фронту, бюро ЦК КПБ яшчэ ў пачатку жніўня 1988 года прыняло рашэньне аб стварэньні свайго „народнага фронту”, утварыць і ўзначаліць які было даручана члену ЦК КПБ **Пятру Краўчанку**. Такія ў іх былі пляны, якія, дзякуй Богу, праваліліся. Гэта стыль працы.)

Для кароткасьці пералічу па пунктах, чаго дамагліся ўжо непрыяцелі Адраджэньня.

**1.** Расхаслолі Беларускі Народны Фронт, і гэтым фармальна падважылі ўнівэрсальнасьць Беларускага Вызвольнага Руху; затармазілі палітычнае аб’яднаньне беларусаў у змаганьні супраць імпэрскай палітыкі Расеі (якое ўключае ў сябе і змаганьне супраць антыбеларускага рэжыму).

**2.** Стварылі кіруемую псэўдаапазыцыю на прынцыпах псэўдадэмакратыі (лібэралізму). (Насуперак Фронту, які аб’яднаў беларусаў на дэмакратычнай нацыянальнай ідэі і дамогся на гэтай ідэі незалежнасьці Беларусі і дэмакратычных зьменаў у грамадзтве.)

**3.** Разбалілі і дыскрэдытавалі пратэстнае вулічнае змаганьне, мітынгі і дэманстрацыі (літаральна – завялі ў балота).

**4.** Развалілі беларускі моладзёвы рух па той жа схеме – стварэньнем псэўдаарганізацыяў („Зубр”, „Край” і г.д.). Асноўныя задачы: адцягнуць моладзь ад Беларускага Адраджэньня, накінуць эклектычныя мэты, увесьці ў дзейнасьць элемэнт штучнай рызыкі, штучнай рамантыкі і гульні, дзеля ўцягненьня ў псэўдадзейнасьць. І над усім гэтым – нахабная вярбоўка моладзі ў агентурную працу. (Прыкладаў дастаткова: вярбоўка кіраўніцтва і сяброў „Краю”, потым перакідка агентаў у эміграцыю за мяжу, вярбоўка моладзі ў „Зубры”, выпадкі самазабойства юнакоў, настрашаных гэбістамі пры вярбоўцы, уцёкі зь Беларусі ад агентуры і г.д.)

Зьвяртаю ўвагу, што маштабы гэтай разбуральнай працы вельмі вялікія. Нават нядобрай памяці „белае брацтва” было створана падпалкоўнікам КГБ Крываногавым. Ня кажам ужо пра многія „апазыцыйныя” арганізацыі. Мы трацім шмат моладзі, якая можа ўжо ніколі не вярнуцца да Беларусі.

**5.** Увялі ў правіла правакацыйныя вулічныя акцыі напярэдадні вялікіх нацыянальных сьвятаў, юбілейных угодкаў і беларускіх трагедыяў з мэтай адцягненьня ўвагі людзей ад нацыянальных аб’яднаўчых сымвалаў і датаў і з мэтай перацягненьня ўвагі на сябе,

з мэтай ськіваваньня інтарэсаў людзей на бочныя пытаньні і ў тупіковы шлях.

З гэтай жа мэтай арганізуецца штучны прапагандысцкі шум вакол арыштаваных на 10-15 сутак правакатараў з выкарыстаньнем кантралюемага друку, радыё і агентуры.

**6.** Намэнклятурнай „апазыцыі” ўдалося стварыць вакол сябе палітычнае балота, сьцягнуць на сябе штучную інфармацыйную ўвагу і стварыць уражаньне сярод часткі людзей, што гэтакая і ёсьць цяпер беларуская апазыцыя.

З гэтага вынікае некалькі высноваў. Мы не павінны мець ніякіх ілюзіяў адносна падрыўной ролі так званай „апазыцыі” ў нашым змаганьні за свабоду і незалежнасьць Беларусі з антыбеларускім рэжымам і расейскім заборам. (Мы ўбачым яшчэ ня раз іхныя чарговыя імкненьні і ваяжы ў Маскву да Крамля.)

З другога боку, ня трэба перабольшваць аб’ём і значэньне таго палітычнага балота, якое стварылі ў Беларусі. Як толькі зьнікне ягонае фінансаваньне і „грантаваньне”, зьнікне і балотная палітыка, і балотныя палітыкі. Мы ведаем, у чым ёсьць сіла змаганьня і на чым трымаецца палітычны рух.

Мы павінны мацней урухоміць элемэнты нашай франтаўскай палітыкі, якія якраз ужо цяпер даюць вынікі (хоць і накіраваныя ў будучыню).

Гэта, перш за ўсё:

- беларуская палітасьветніцкая праца ў рэчышчы праграмы *Беларуская Салідарнасьць* (розныя формы);
- падтрымка ідэі стварэньня Камітэтаў Абароны ад расейскай агрэсіі;
- пашырэньне вытворчасьці малога друку;
- падтрымка (дзеяньнем) актуальных агульнанацыянальных праблемаў, якія канкрэтна закранаюць кожнага беларуса (такія зьявы ёсьць, асабліва маёмаснага кшталту);
- стварэньне праграмнай палітычнай канцэпцыі перамены становішча ў Беларусі;
- канцэнтрацыя на беларускай нацыянальнай ідэі і на нацыянальных інтарэсах.

Апошняя пазыцыя – галоўная, бо толькі яна можа паспрыяць палітычнаму аб’яднаньню і змагарнаму ўздыму беларускага грамадзтва.

Усе гэтыя палажэньні нам трэба як найбольш канкрэтызаваць у рэальным выяўленьні.

У заключэньне хачу нагадаць пра вайну. Ня выключана, што ў суботу, калі будзе адбывацца Сойм, вайна на Блізкім Усходзе ўжо будзе пачаўшыся. Нагадаю, што калі вайна, то ўжо не дыскутуюць. Калі мы будзем змушаныя рабіць выбар, то пра нашу пазыцыю я ўжо пісаў на папярэдні Сойм. Мы падтрымаем Амэрыку, нягледзячы ні на што. Гэтая краіна – гарант нашай незалежнасьці.

*19 сакавіка 2003 г., Варшава*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронта „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2003, № 3 (49).*

# БНР У АБШАРЫ МІНУЛАГА І БУДУЧЫНІ

*БНР* і *Сакавік* сталі для нас, беларусаў, вялікім сакральным сымвалам. Гэта зьява, па якой мераецца сьведамасьць і ацэньваецца годнасьць асобы. Гэта зьмест, па якім вызначаецца беларус.

Адначасна БНР гэта ёсьць палітычная рэальнасьць. Вось ужо 85 гадоў, як існуе *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*. 85 гадоў яна прадстаўляе цягласьць беларускай улады, нязьменнасьць ідэяў беларускай незалежнасьці і сьветласьць ідэалаў свабоды. 85 гадоў яна ідэёва ўплывае на палітычную рэальнасьць Беларусі. Гэта бясспрэчны факт, і яго трэба ўлічваць, думаючы пра пэрспэктыву.

Аб'яўленьне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі азначала адраджэньне нацыі з палітычнага небыцьця. Быў пакладзены пачатак будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы.

У канцы 1918 года пачалася расейская акупацыя Беларусі, якая доўжылася (зь невялікімі перапынкамі) 73 гады. Падкрэсьлю, аднак, што мірны дагавор Беларускай Народнай Рэспублікі з Расеяй ня быў падпісаны, і фармальна БНР знаходзіцца ў дачыненьні да Расеі ў стане вайны. Пра гэта ня трэба забывацца, асабліва цяпер, калі набліжаецца верагоднасьць збройнага змаганьня за незалежнасьць Рэспублікі Беларусь.

Расейскія бальшавікі не маглі не лічыцца з існаваньнем Беларускай Народнай Рэспублікі, плянуючы пэрспэктыву свайго панаваньня на акупаванай Беларусі. Гэтая акалічнасьць паспрыяла таму, што яны вымушаныя былі пагадзіцца на ўтварэньне БССР, на чым настойвалі левыя беларускія палітыкі, што супрацоўнічалі з бальшавікамі. Неўзабаве ў Смаленску быў створаны беларускі камуністычны ўрад, і першага студзеня 1919 года аб'яўлена пра стварэньне БССР. У кантэксьце нацыянальнага існаваньня гэта быў факт станоўчы.

Урад і Рада БНР апынуліся на выгнаньні. Тут яны разгарнулі палітычную дзейнасьць за вызваленьне Беларусі з бальшавіцкай няволі і па інфармаваньні палітычных колаў Захаду пра беларускую рэальнасьць.

Велізарнай заслугай Рады БНР і беларусаў у замежжы было тое, што яны ідэйна абаранілі, узьвялічылі і перахавалі да сёньняшніх дзён вялікія ідэалы незалежнасьці, ідэі і сымвалы Беларускай Народнай Рэспублікі.

Кожны з гэтых беларусаў верыў, што Беларусь адродзіцца і адновіць незалежнасьць. Гэтая вера трымала іх. Памятаю надпіс, зроблены ў 1956 годзе на падарункавым фота аднаго беларускага афіцэра: „Распусьцяцца бярозы – мы вернемся дамоў". І гэтак – паўстагоддзя. Бальшыня не вярнулася, не дажыла. Але вярнуліся ідэі, гісторыя, сымвалы і нацыянальныя каштоўнасьці, што адваявалі і зьберaглі мінулыя пакаленьні. І гэта для нас, беларусаў, таксама ёсьць змаганьне і вялікая барацьба.

У гісторыі дачыненьняў БНР трэба зьвярнуць увагу на той факт, як сур'ёзна і хваравіта адносіцца Масква да існаваньня і дзейнасьці БНР. Пачынаючы з 1919 года, расейская дыпляматыя і агентура прыклалі шмат намаганьняў, каб раскалоць Урад БНР і заманіць дзеячоў Беларускай Народнай Рэспублікі ў БССР.

Інтэлігенцкі ідэалізм некаторых беларускіх дзеячоў, адсутнасьць вялікага палітычнага вопыту і, як ні дзіўна, дрэннае веданьне расейцаў, прывялі да таго, што энкавэдзіцкая авантура ўдалася, Урад БНР раскалолі, і ў сярэдзіне 1920-х гадоў частка беларускіх змагароў прыехала ў БССР. Неўзабаве ўсе яны былі расстраляныя.

Барацьбу супраць БНР расейцы не спынялі і ў 1930-х гадах, і асабліва пасьля вайны, калі стараньнямі ***Прэзыдэнта Міколы Абрамчыка*** была адноўлена дзейнасьць Рады БНР (пасьля сьмерці ***Прэзыдэнта БНР Васіля Захаркі***).

У пасьляваенны час КГБ праз свае крэатуры стварыў нават фальсіфікатарскую канцэпцыю ў гістарычнай навуцы аб быццам бы недасканаласьці, няважнасьці і нязначнасьці БНР. На гэбоўскую фальсіфікатарскую распрацоўку спасылаюцца і цяпер расейскія прапагандысты ў гістарычнай навуцы.

Заўсёды карысна аналізаваць палітычную рэакцыю праціўнікаў, каб ацаніць ступень палітычнай важнасьці сваіх дзеяньняў. Дык вось, Масква ніколі не прапускала міма вушэй дзеяньняў БНР і дзеяньняў беларускіх адраджэнцаў у Беларусі, накіраваных на лучнасьць з ідэямі і фактарам існаваньня БНР у беларускай вызвольнай палітыцы. Рэакцыя была часам даволі нэрвовай. Беларускі Народны Фронт зьведаў яе на сабе ад самага пачатку.

Выразна адлюстраваліся, напрыклад, такія паводзіны Масквы ў 1997 годзе, калі Народны Фронт пасьля лістападаўскага антыканстытуцыйнага перавароту (ў 1996 годзе) прыступіў да вельмі важнай нацыянальна-патрыятычнай і кансалідуючай акцыіі ***„Грамадзянства БНР"***. Пасьпяховая напачатку і пэрспэктыўная акцыя была ўсё ж такі сарваная, з прычыны (перш за ўсё) глыбокага ўжо да таго часу ўнутранага расколу БНФ і з прычыны паўсюднай актывізацыі антыадраджэнскай гэбоўскай агентуры. Шэраг экзальтаваных антыбеларускіх артыкулаў, якія зьявіліся тады на гэтую тэму (і тэму БНР) у расейскім, перш за ўсё, камуністычным друку, наводзяць на пэўныя разважаньні.

Цікава, што перад гэтым, яшчэ ў 1993 годзе, была спроба з боку былой савецкай намэнклятуры намовіць прадстаўнікоў Рады БНР да перадачы сваіх паўнамоцтваў ураду Рэспублікі Бе-

ларусь. (Тактыка, як у 1920-х гадах.) Аднак, дзеячы беларускай эміграцыі цяпер ужо не зрабілі памылкі. Рада БНР дзейнічае і жыве.

Далейшыя падзеі паказалі, як важна для Беларусі, што засталася Рада БНР і што яна не ашукалася, не здала пад уплывам незалежніцкай эйфарыі свае паўнамоцтвы здрадніцкаму намэнклятурна-каляніяльнаму савецкаму ўраду. Як важна, што жыве рэальна вялікая справа Беларускага Адраджэньня!

Якую галоўную выснову мы павінны зрабіць з цяперашняй сучаснасьці і з усёй гісторыі БНР? А такую, што да БНР мы павінны адносіцца ня толькі, як да ідэі, ня толькі, як да сымвала і ідэальнага вобраза, а як да палітычнай актуальнасьці і пэрспэктывы нашай вольнай нацыянальнай будучыні.

Цяперашняя Рэспубліка Беларусь мае цягласьць ад БССР. Адсюль хвароба прыроды, хвароба паходжаньня ўлады. Хвароба паходжаньня спарадзіла Лукашэнку і шукае ганчарыкаў. Не пераменіцца ўлада, пакуль не пераменяцца ідэі.

Нашыя беларускія ідэі, ідэі беларускай незалежнай будучыні – гэта ёсьць ідэі БНР. Калі мы хочам нашу вольную, народную будучыню мець, – мы павінны усталяваць краіну на адраджэнскіх ідэалах, на прынцыпах 25 Сакавіка (а цяпер ужо і на дасягненьнях 25 жніўня). БНР – гэта ня толькі гісторыя. Гэта адначасна і змагарная сучаснасьць, і наша будучыня. Так ёсьць у сапраўднасьці.

*22 сакавіка 2003 г.; Вільня*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*(Канфэрэнцыя ТБК, прысьвечаная 85-м угодкам БНР)*
*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”. – 2003, Nr. 2 (48.)*

# ВАЙНА

Ёсьць некалькі прычынаў вайны Амэрыкі на Блізкім Усходзе. Першая – гэта стварэньне дзяржавы Ізраіль і Палестына-Ізраільскі канфлікт (шырэй – араба-ізраільскі канфлікт). Другая – нафта. Трэцяя – галоўная, якая вынікае з першых двух, – гэта непасрэдная пагроза Злучаным Штатам, разьвязваньне радыкальнымі групамі мусульманскага сьвету міжнароднай партызанска-тэрарыстычнай вайны супраць Амэрыкі.

Пасьля 11 верасьня 2001 года (нападу тэрарыстаў-сьмертнікаў на Вашынгтон і Нью-Ёрк і разбурэньне Сусьветнага Гандлёвага Цэнтру) стала зразумела, што вайна Амэрыкі на Блізкім Усходзе, практычна, непазьбежная, дзеля прадухіленьня эскалацыі тэрарыстычнай вайны. Амэрыка зразумела, што толькі сродкамі аховы, стрымліваньня і абароны яна ня зможа доўга і пасьпяхова супрацьстаяць партызанскаму тэрарызму радакальных ісламістаў. Яна можа пацярпець у гэтай вайне, як толькі нябачны праціўнік атрымае ў свае рукі зброю масавага зьнішчэньня. Стала зразумела, што калі не прыняць хутка рашучых мераў, то нябачныя ворагі Амэрыкі завалодаюць гэтай зброяй.

Зьнішчэньне партызанскага тэрарызму радыкальных ісламістаў Усходу і ліквідацыя пагрозы амэрыканскай дзяржаве ёсьць жыцьцёвай неабходнасьцю Амэрыкі. Ня кажам ужо пра тое, што пастаянныя абаронча меры каштуюць дорага і не гарантуюць ад ахвяраў.

Першым чынам трэба было ліквідаваць асяродкі тэрарызму і рэжымы, якія маглі стаць базай для тэрарызму, і крыніцай атрыманьня зброі масавага зьнішчэньня.

Гэтак адбылася вайна з талібамі ў Аўганістане і разбурэньне гэтай краіны. Гэтак пачалася і небясьпечная вайна ў Іраку (фармальна – як працяг нафтавай кувэйцкай кампаніі, якую праводзіў старэйшы Буш).

Трэба ўлічыць, што Ірак ня ёсьць тэакратычная ісламісцкая дзяржава. Гэта у цэлым – сьвецкая краіна з даволі разьвітай навукай і з самымі перадавымі ўнівэрсітэтамі на Блізкім Усходзе (Багдад). Ірак мае інтэлектуальныя магчымасьці стварыць зброю масавага зьнішчэньня. Тым часам дыктатура Садама Хусэйна – адна з самых жорсткіх у сьвеце. Усёпаглынаючы страх – такая ёсьць пануючая атмасфэра ў ірацкім грамадстве.

Усе гэтыя чыньнікі плюс антыамэрыканізм Хусэйна і стан фактычнай вайны з Амэрыкай рабілі збройную інвазію ЗША ў Ірак, практычна, неўнікнёнай. (Няма таксама гарантыяў несупрацоўніцтва Аль-Каіды з Хусэйнам.) Амэрыка па-амэрыканску рэагавала на рэальную пагрозу сваёй бясьпецы.

Такая сутнасьць справы. І менавіта таму прэзыдэнт ЗША адзначыў, што для ваенных дзеяньняў супраць рэжыму Садама Хусэйна ЗША ня мае патрэбы ў згодзе Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў і Савета Бясьпекі ААН.

Пазыцыя Заходняй Эўропы ў гэтай вайне – тыповая для эўрапейскага палітычнага філісьцерства. (Успомнім пазыцыю Чэмбэрлена ў дачыненьнях з Гітлерам, здачу Чэхаславаччыны, Аўстрыі, Польшчы і г.д.) Гэта паводзіны здраднікаў і нікчэмных палітыкаў, схаваныя за нібыта "гуманнай" пацыфісцкай дэмагогіяй і подлай інфармацыйнай прапагандай.

Менавіта гэтая, прымітыўна-праўдападобная прапаганда Францыі і Нямеччыны (перш за ўсё) выклікала на вуліцы антываенныя шматтысячныя натоўпы абывацеляў, якім раптам стала шкода мірных іракцаў. Пры гэтым, калі адбываўся генацыд у Чачэніі і рускае тэрарыстычнае войска вынішчала мірнае чачэнскае насельніцтва, тады нешта не відаць было гэтых „міралюбівых” натоўпаў, ня гледзячы, што і чачэнцы, і ўсе сумленныя людзі пастаянна даводзілі інфармацыю пра генацыд у Чачэніі да сусьветнай грамадзкасьці, а ўрады ЗША і Заходняй Эўропы проста кінулі, прадалі чачэнцаў, дзеля прагматычных інтарэсаў з Расеяй. Цяпер гэтыя эгалітарныя ахвяры масавай прапаганды пад лямант з Парыжу і Бэрліну масава выяўляюць сваю нянавісьць да Амэрыкі (якой, дарэчы, абавязаны і сваім эўрапейскім мірам, і сваім мяшчанскім дабрабытам. Я маю на ўвазе канец Другой Сусьветнай вайны, плян Маршала, НАТО, перамогу ў Халоднай вайне і г.д.). Нават расейскі прэзыдэнт Пуцін – спраўца масавых забойстваў чачэнцаў (і няверны прыяцель Амэрыкі) – выступіў у абарону Садама Хусэйна, праліваючы кракадзілавыя сьлёзы па ахвярах вайны. (Ужо хто б што казаў пра ахвяры і „права сілы” – толькі ня Пуцін.)

І немцы, і французы, і расейцы шмат уклалі сродкаў у ірацкую нафту і эканоміку. (Якія там „ідэі”, „гуманізм”, „дэмакратыя”! Кожны ратуе свае грошы.) Ініцыятыва амэрыканцаў падважыла б валюту „эўра” і саму ідэю пабудовы новай супэр-імпэрыі ў Эўропе (так званы Эўразьвяз). І раптам гэтак усё агалілася, фак-



*6. Вайна, 1941 г. Рускія ўцяклі. Людзі кідаюць каменьнем у скульптуру Леніна*

тычна, раскалолася НАТО, а Францыя, Нямеччына, Бэльгія, Люксэмбург зьбіраюцца арганізаваць свой ваенны блёк, сваю „абарону Эўропы". Тут жа стварылася вось *Парыж-Бэрлін-Масква*, удзельнікі якой амаль не хаваючыся пачалі дамаўляцца пра новы передзел Эўропы на „сфэры ўплыву" (справа йдзе, перш за ўсё пра Беларусь, Украіну і Польшчу, краіны Балтыі, былую Ўсходнюю Прусію – цяперашнюю Калінінградзкую вобласьць).

Як бачым, усё у каторы раз у гісторыі – паўтараецца. Як толькі аб'ядноўваюцца Парыж-Бэрлін з Масквой – акупацыя, анэксія, аншлюс, вайна не за гарамі. Усё гэта ў Эўропе ўжо праходзілі. Выступленьне ж супраць Амэрыкі – гэта самае горшае, да чаго маглі дадумацца цяперашнія ўрады Эўропы.

Характар цяперашняй амэрыканскай вайны на Блізкім Усходзе – зусім іншы, чым папярэдні. Дзеяньне разгортваецца паволі, на выбраных тэрыторыях, авія-налёты ня носяць масавага характару, усё накіравана на як найменшыя страты цывільнага насельніцтва. Тым часам (на першы погляд, парадокс) прыхільнікі Хусэйна, на баку якіх быццам бы маральнае права абароны радзімы, самы страляюць у сваіх мірных уцекачоў і правакуюць ахвяры насельніцтва, каб паказаць па тэлебачаньні і выставіць у дрэнным выглядзе амэрыканцаў, ды выклікаць да сябе спачуваньне ў сьвеце. Вайна – ня толькі крывавая, але і брудная справа.

Як мы, беларусы, павінны адносіцца да гэтай вайны?

Ва ўсіх войнах церпяць нявінныя мірныя людзі. Гэта ёсьць найгоршы бок вайны. Таму за вайной павінен быць міжнародны кантроль, дапамога пацярпелым і мірнаму насельніцтву. Мы не павінны заставацца ўбаку ад агульналюдзкай салідарнасьці і дапамогі людзям.

Што датычыць самога канфлікту. Мы ня мусім у ім удзельнічаць ні ў якой форме. Але мы павінны ведаць, што ***ў нашых беларускіх інтарэсах, каб Амэрыка як найхутчэй пераможна закончыла вайну***. У гэтым сэнсе нам трэба прызнаць рацыю амэрыканскага боку, зразумець амэрыканскае бачаньне будучыні ў інтарэсах ня толькі Амэрыкі, але і ўсяго цывілізаванага сьвету. У тым ліку – і незалежнага Іраку.

Пазыцыя немцаў і расейцаў – галоўных ворагаў нашай беларускай незалежнасьці – тут вядомая. Але зьвернем увагу на выказваньні цяперашніх расейскіх думальнікаў і палітыкаў. Яны кажуць, што ў іхных расейскіх інтарэсах – паражэньне і кампрамэтацыя Амэрыкі. І тлумачаць, што параза ў вайне, аслабленьне і зьніжэньне ўплыву Амэрыкі павялічыла б сусьветную цану на нафту (якая ўжо некалькі гадоў і так высокая). Гэта дало б Расеі (якая прадае нафту і газ) велізарныя барышы, якія можна было б часткова накіраваць на дадушэньне Чачэніі і захоп Беларусі, ды прыціснуць Украіну, і ўплываць на палітычныя стасункі ў Эўропе, закончыць яе передзел на сфэры ўплыву і паставіць нагу на Блізкім Усходзе. Такую выснову можна зрабіць з выказваньняў некаторых рускіх аналітыкаў.

Пры ўсіх недахопах, „русацяпстве" і супярэчнасьцях амэрыканскай палітыкі, не забывайма, што Амэрыка ёсьць, практычна, адзіным гарантам (бо куды Амэрыка – туды й Вялікабрытанія) нашай беларускай незалежнасьці, яна схільная рэальна дапамагчы беларусам, была б толькі на гэта беларуская воля і беларуская сіла.

Мяркую, кожны разумее, што калі скончыцца агрэсіўная дыктатура Хусэйна і амэрыканцы прыстойна перамогуць, то рэжым прамаскоўскай сатрапіі на Беларусі адчуе сябе няўтульна, а расейскія шавіністы ў Маскве паўстрымаюць свой агрэсіўны імпэт. Гэта дасьць шансы беларусам хутчэй скончыць з сатрапіяй, абараніць незалежнасьць і па-людзку загаспадараваць сваю Бацькаўшчыну, спрыяльна для ўсіх людзей.

* * *

Тут мушу яшчэ парушыць вельмі істотны для нас, беларусаў, сьветапоглядны і псіхалягічны аспэкт, паколькі нашае цяперашняе грамадзтва сілком спынілі ў паняцьцях савецкай сістэмы. Савецкая ідэалёгія ўлады трымалася на вайне. У 1920-1930-х гадах – на псіхозе „дзейнасьці" зьнешніх і ўнутраных „ворагаў" і варожых падкопаў буржуазных імпэрыялістаў, гатовых шкодзіць і напасьці на СССР. Пасьля вайны гэтая палітыка будавалася на гіпертрафіраванай, аднабокай і перакручанай памяці пра жахі вайны, якія ўзводзіліся ў паралізуючы пачварны культ сістэмнай ідэалёгіі страху перад вайной.

Амаль 50 гадоў савецкая сістэма выкарыстоўвала цярпеньні і пакуты людзей за часы Другой Сусьветнай вайны дзеля апраўданьня ўсіх сваіх недахопаў, рэпрэсіяў, эксплуатацыі і паразітызму, уціску і няўдачаў. Ідэалёгія канцэнтравалася ў формуле: *„галоўнае, каб не было вайны"*. Альтэрнатывай каляніяльнаму саветызму і сацыялізму выстаўлялася вайна. Таму трэба было цярпець, і з усёй мярзотай пагаджацца, „абы вайны не было".

На гэтым ідэёва-псіхалягічным збачэнстве і страху запалоханых людзей 46 гадоў трымаўся Савецкі Саюз, і гэтая прапаганда, гэты бяздумны жах перад вайной увайшлі у жылы і кроў савецкага чалавека.

Але элемэнтарны здаровы сэнс падказвае, што ***трэба баяцца не вайны, а рабства***; што ёсьць каштоўнасьці і зьявы, даражэйшыя за жыцьцё. І гэта даказваецца ўсёй духоўнай і экзыстэнцыяльнай гісторыяй чалавецтва.

Войны бываюць розныя. Мала хто здолеў дасягнуць незалежнасьці і свабоды без пакутаў, ахвяраў, барацьбы і вайны (хоць кожны хацеў бы мірнага самавызначэньня). І нікому не ўдалося засьцерагчыся ад агрэсіі, не супраціўляючыся.

Пагроза нашай незалежнасьці – гэта палітычная рэчаіснасьць цяперашняга часу. І як бы ні разьвіваўся маскоўскі акупацыйны сцэнар на Беларусі, рашаючае слова застанецца за беларусамі. Як, якім чынам яно будзе сказана, ці па сістэме „абы вайны не было", ці на ўзроўні – „акупанты, прэч!", ці ў перакананьні: „Бацькаўшчына – альбо сьмерць!" – ад гэтага ў канцовым выпадку будзе залежыць і наша будучыня.

*29 сакавіка 2003 г.; Варшава*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – №2/48, 2003; Беларус, – 2003, красавік, №483).*

# ДЫКТАТУРА І САТРАП

Агульнымі рысамі дыктатараў зьяўляюцца: першаснасьць асабістай улады, імкненьне да абсалютызацыі асабістай улады і гатоўнасьць ахвяраваць чужымі жыцьцямі дзеля яе ўтрыманьня. Сталін уяўляў сабой тып паранойнага дыктатара з псіхалёгіяй падазронасьці і недаверу. Адсюль – частыя зьмены кадраў і пэрыядычныя чысткі.

Мэтадам заспакаеньня падазронасьці і спосабам прадухіленьня пагрозы быў страх, насаджэньне страху ў асяроддзі ўлады перад сваёй асобай.

На гэтым пэўнае падабенства паміж Сталіным і Лукашэнкам заканчваецца.

І па маштабу асабовасьці, і па прыродзе ўлады – гэта розныя тыпажы. Дыктатура Сталіна грунтавалася на партыйнай ідэалёгіі і на аднапартыйнай таталітарнай сістэме. Абсалютызуючы сваю ўладу, Сталін ствараў таталітарную тэрарыстычную ваенную дзяржаву і быў зацікаўлены ў яе існаваньні. Ён сфармаваў сістэму, якая стварала яму ***культ асобы***, культ „бязгрэшнага" правадыра.

Было створанае ўражаньне, што ва ўсіх недахопах вінаватыя шкоднікі, але ня Сталін, які нібыта наводзіў парадак. Адсюль рэпрэсіі і шалёны тэрор, дзясяткі мільёнаў забітых людзей.

Лукашэнка – гэта ёсьць дыктатар-марыянэтка, кіруемы спэцслужбамі і ўладамі чужой дзяржавы. Марыянэткавы рэжым Лукашэнкі ня мае ідэалёгіі, не абапіраецца на партыйны таталітарызм і не стварае таталітарнай дзяржавы. А гэта значыць, што ў яго няма рэальнай ***самастойнай*** сілы, што ён уяўны, штучны і залежны.

Канцэнтрацыя ўлады не стварае Лукашэнку культу асобы, а ***ўмацаваньне*** ягонай улады паклікана не на разьвіцьцё, а на развал беларускай дзяржавы, яе нацыянальнай культуры і эканомікі, на падрыхтоўку здачы яе ў Расею.

Рэжым Лукашэнкі мае ўсе прыкметы чужога акупацыйнага рэжыму.

Дыктатура асабістай улады Лукашэнкі пазбаўлена стратэгічнага абсалютнага зьместу, бо сэнс ягонай палітыкі – ўваходжаньне Беларусі ў сістэму іншай дзяржавы. У такім становішчы ня будзе існаваць дыктатура Лукашэнкі. Тут алягізм, абсурд.

Параўнаньне Лукашэнкі са Сталінам – недарэчнае. Лукашэнка ня ёсьць клясычным дыктатарам, гэта тыповы сатрап, стаўленік, службовая асоба чужой стратэгіі і залежнай палітыкі.

* * *

Сталінская вынішчальная акупацыйная палітыка і генацыд 1920-1940-х гадоў на Беларусі падарвалі беларускія сілы. Сталіністы-энкавэдзісты забілі лепшых людзей нашай краіны, зьнішчылі беларускае сялянства, выкрэсьлілі з жыцьця цэлае пакаленьне беларусаў, разбурылі набыткі беларускай культуры, перарвалі эстафету гістарычнага нацыянальнага разьвіцьця.

Падабенства цяперашняга антыбеларускага рэжыму са сталінскім зыходзіць якраз з гэтай акалічнасьці і заключаецца, перш за ўсё, у перасьледзе ўсяго беларускага, у перасьледзе беларускай мовы, у шалёнай і гвалтоўнай русіфікацыі, у бяспраўі людзей перад дзеяньнямі ўлады, у насаджэньні страху ў грамадзтве, ў адлучэньні беларусаў ад зямлі.

Гэта галоўнае. Гэта асноўныя праявы акупацыйнай прарасейскай дыктатуры.

*Варшава, 2003 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002/2003, № 1(47); (Беларус, – 2003, № 483 (красавік).*

# ДРЭННАЕ СТАНОВІШЧА Ў ІНФАРМАЦЫІ

Праўдзівай і дакладнай інфармацыі пра тое, што адбываецца ў Беларусі, ёсьць там вельмі няшмат, паколькі ідзе сплянаваная вайна за валоданьне Беларусяй, якую вядзе, у асноўным, расейскі КГБ, што поўнасьцю захапіў уладу ў Расеі і таксама ў Беларусі. Арганізаваныя сілы беларускай незалежнасьці ня могуць эфэктыўна ўплываць на інфармацыйныя цячэньні з прычыны рэпрэсіўнай палітыкі антыбеларускага рэжыму і адсутнасьці сваіх СМІ. Таму на паверхні плавае прапагандная дэзінфармацыя, інфармацыйнае аматарства (з прымітыўнай падачай падзеяў) і псэўдаінфармацыя, калі замоўчваецца (альбо падмяняецца) сутнасьць і падаюцца пэрэфэрыйныя дзеяньні і значэньні. (Тыповы прыклад, як часта бывае, – беларуская рэдакцыя радыё „Свабода"). У гэтакіх абставінах інфармацыя пра падзею залежыць ад таго, хто піша і распавядае.

23 сакавіка я глядзеў у Вільні тэлерэпартаж Менскага тэлебачаньня аб сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці. Пра Дзень Незалежнасьці – ні слова. Паказвалі кадры, як АМАП (спэцыяльная міліцыя для здушэньня дэманстрацыяў) наступае на тлум людзей пад *Бел-Чырвона-Белымі сьцягамі*. Людзі ўпіраюцца, шчапіўшыся за рукі, і бязгучна варушаць губамі. (У рэальнасьці сьпявалі Беларускі гімн „Магутны Божа"). Гук выключаны. На фоне „карцінкі" асуджальна-пракурорскі голас дыктара, які паведамляе, што вось гэта „адшчапенцы", якія вышлі на дэманстрацыю, каб падтрымаць... „амэрыканскую агрэсію ў Іраку".



*7. Тэлерэпартаж зь Менску*

Далей, быццам незнарок, запыняюць на вуліцы гэтакага „простага чалавека":

– Як вы адносіцеся да гэтых людзей, што падтрымліваюць вайну ў Іраку?

– Ды як вам сказаць, – адказвае па-расейску „просты чалавек", – можа гэта ўвогуле ня людзі.

Потым пытаюць дзябёлую рускую „жэншчыну" (з выгляду – афіцэрскую жонку):

– Як вы адносіцеся ... і г.д.

– Да это вообще не люди, – ківае „жэншчына" ў бок дэманстрантаў.

Гэтак робіцца „інфармацыя" ў лукашэнкаўскіх сродках масавай прапаганды.

Радыё „Свабода" таксама падрыхтавала свой звыклы інфармацыйны кіч. „Нібыта інфармацыя" заключалася ў тым, што „апазыцыя" сабралася ля паштамту ў Менску (хаця там якраз былі тыя, што змагаюцца з так званай „апазыцыяй") у колькасьці некалькіх сот чалавек і што міліцыя арыштавала людзей. Удакладненьні – не істотныя. Адным словам – „апазыцыя". (Якраз як той салдат у расейскага пісьменьніка Льва Талстога. „Служыў я, – кажа, – у горадзе Горадні, дык там народ усё ня наш, ня рускі, адным словам – басурманы.")

Нядаўна ў Кліўлендзе я быў сьведкам размовы нашых кліўлендзкіх сяброў пра інфармацыю ў красавіцкім нумары „Беларуса" аб сьвяткаваньні 25 Сакавіка на Бацькаўшчыне. „Чаму такі непрыхільны тон і ўсё ахаяна? Так пра Сакавік пішуць толькі чужыя людзі", – абураліся ў Кліўлендзе.

Прычына тут відавочная. „Уласны карэспандэнт" „Беларуса" чэрпаў, як відаць, інфармацыю з рускамоўнага так званага „незалежнага" друку на Беларусі (які ў асноўным антыбеларускі) і, адпаведна, трапіў пад уплыў ацэнак і стылю гэтага друку, для якога няма на Беларусі нічога сьвятога і нічога вартага павагі (і нічога свайго).

Паведамленьне ў газэце „Беларус", на жаль, тыповае інфармацыйнае аматарства. Карэспандэнт піша так, быццам Беларусь вольная дэмакратычная краіна, ён нібы зваліўся зь Месяца і ня ведае, што адбываецца ў гэтай краіне. Таму і напісаў, што ўсё нібыта дрэнна арганізавалі, усё было кепска, кепска зьбіраліся („хтосьці ў раёне Галоўпаштамту, хтосьці ля Чырвонага касьцёлу"), што „акцыі прайшлі крайне няўдала", „найгоршае сьвяткаваньне" і г.д., што „калісьці (!?) самае галоўнае нацыянальнае сьвята зьбірала дзясяткі тысячаў"...

А вінаваты, маўляў, ва ўсім грамадзкі Аргкамітэт, які „ня здолеў", „не аб'яднаў" і г.д.

Тым часам у сапраўднасьці становішча іншае і іншыя прычыны цяжкасьцяў. Гэта кожнаму мусіць быць зразумела.

Сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі даўно сталі прыладай маніпуляцыяў і жывуць асобна ад рэальнасьці па сваіх патрэбах і інтарэсах (дарэчы, збольшага, як і ва ўсім сьвеце), ператварыўшы інфармацыю ў своеасаблівы жанр палітычнай (ці прадпрыймальніцкай, бізнэсовай) дзейнасьці. І ў гэты „жанр" (які існуе па сваіх законах) падбіраюць рэальнасьць.

Акцыя 23-га сакавіка не была дазволеная рэжымам на плошчы Незалежнасьці. Ва ўсіх прылеглых дварах і вуліцах стаяла поўна крытых машынаў са „спэцназам" і „амапам". Усе хады-выхады былі перакрытыя. Чакалі дэманстрантаў. У такіх выпадках людзей хапаюць звычайна на падыходзе да пляцу. Кідаюцца на гук беларускай мовы, альбо на групы, альбо калі хто нясе доўгі скрутак (сьцяг) і г.д. Таму дэманстранты зьбіраюцца звычайна ў розных месцах, каб дэзарыентаваць міліцыю, і потым злучыцца. (Нават такія простыя рэчы, аказваецца, невядомыя былі нашаму карэспандэнту).

У такіх умовах Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ ня можа прымушаць выходзіць на дэманстрацыю ўсіх фронтаўцаў. Бо гэта значыць, што трэба йсьці пад палкі, пад дубінкі, на пабіцьцё і зьнявагу, „на пасадку", пад арышт, пад непамерны штраф і г.д. І людзі (хто рашыўся) йдуць сьведама, каб падняць сьвяты Беларускі Сьцяг, каб адзначыць Дзень Незалежнасьці і засьведчыць сваёй ахвярнасьцю, што Беларусь жыве, што жыве Ідэя і Дух. Гэта ўчынак. Таму выходзяць ня тысячы, а сотні. Вядома, гэта сьведчыць пра прыгнечаны стан грамадзтва. Але так ёсьць на сёньняшні дзень. І гэта зусім не азначае, што так будзе заўсёды.

Пры гэтым падсылаюць правакатараў (звычайна – агентуру з асяроддзя „дэмакратаў"), каб справакаваць нападзеньне міліцыі і пабіцьцё.

23-га правакатары ня мелі посьпеху, але, тым ня менш, міліцыянты схапілі кіраўніцтва і актывістаў, некаторых зьбівалі.

Выдатна, на ўздыме прайшоў юбілейны вечар і канцэрт у гонар 85-й гадавіны БНР, арганізаваны Грамадзкім Аргкамітэтам. (Мне прыходзілася непасрэдна гаварыць з рознымі ягонымі гледачамі.) Асабліва адзначалі, між іншым, узьнёсласьць і беларускі пафас Зінаіды Бандарэнкі, нашай слаўнай тэлезоркі, якая вяла канцэрт.

У гэтыя ж дні на вельмі добрым узроўні адбылася ўжо другая па ліку штогадовая навукова-практычная канфэрэнцыя „Ідэалы БНР і Адраджэньне Беларусі", падрыхтаваная Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыяй – БНФ. Гэтая канфэрэнцыя ёсьць тэарэтычная кузьня беларускага Адраджэньня. Да яе пачатку быў аддрукаваны зборнік дакладаў 1-й канфэрэнцыі. Рыхтуецца наступны зборнік. Канфэрэнцыя згуртавала пад сваімі ідэямі навуковую эліту беларускага Адраджэньня.

Пра юбілейны сход і выдатны вечар наш нядбалы карэспандэнт выказаўся кепска, а пра навуковую канфэрэнцыю ўвогуле ня ўспомніў. Чаму? Таму што пра яе ня кажа лібэральнае радыё, ня піша так званы „незалежны" друк і не ўспамінае (нават праз зубы) ніякі прамаскоўскі „дэмакрат", якому вельмі нялюба ўсё гэтае беларускае Адраджэньне і беларускі „нацыяналізм". Таму робіцца выгляд, што не існуе такой падзеі ў інфармацыйнай прасторы, і наш карэспандэнт, адпаведна, пра яе ня ведае. Хоць гэтая канфэрэнцыя ёсьць істотнай зьявай, бо тут асэнсоўваецца адраджэнскі вопыт з пазыцыяў цяпершчыны, складваецца тэорыя беларускага Адраджэньня, запаўняюцца праблемы, ня зробленыя раней.

Дарэчы, каб дастаць памяшканьне для правядзеньня канфэрэнцыі ці канцэрта, беларусам трэба выцярпець доўгае хаджэньне па пакутах, якое часта заканчваецца нічым, хоць заляў у Менску хапае.

Праца арганізатараў у акупацыйных умовах страху і беззаконьня – гэта грамадзянскі чын. Гладка тут не атрымліваецца.

Асноўным повадам для ахайваньня юбілею БНР паслужыў той факт, што частка сяброў БНФ (прагматыкі) насуперак рашэньню Аргкамітэта не захацела ўдзельнічаць у сумесным мітынгу ў нядзелю 23-га і сабралася вечарам 25-га. Хоць адасабленьне выклікала нараканьні, але вялікай шкоды яно не зрабіла з прычыны нямасавасьці акцыяў. Абходы ўгодкаў БНР доўжацца, як правіла, у Менску некалькі дзён, арганізоўваюцца розныя мерапрыемствы (выставы, канцэрты, мітынгі, шэсьці, канфэрэнцыі і г.д.).

* * *

Падсумоўваючы свае заўвагі, адзначу, што паварот газэты „Беларус" тварам да падзеяў у Беларусі і выкарыстаньне інфармацыйных матэрыялаў з Бацькаўшчыны гэта ёсьць станоўчы паварот. Але, па-першае, не павінна забывацца эміграцыйная тэматыка. Яна – асноўная. Па-другое, тут падсьцерагае небясьпека трапіць у палон псэўдаінфармацыі, якая сьведама створана там і прадукуецца групамі арганізаваных імітатараў (тыпу «хартыі", БДГ, „Белорусская газета" і г.д.), якія запрудзілі палосы, эфір, інтэрнэт і нават палітычную фразеалёгію.

У гэтакім становішчы ад падману ніхто не гарантаваны. Але варта было б выстаўляць рэпарцёрам пэўныя патрабаваньні (агульныя для эміграцыйнай журналістыкі) і ставіць канкрэтныя задачы. Бо нават звычайны рэпартаж у складаных палітычных абставінах не такая лёгкая справа, як, магчыма, можа здавацца тым, хто бярэцца за гэты занятак.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*14 траўня 2003 г., Нью-Ёрк*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2003, №5(51); („Беларус", – 2003, № 485 (чэрвень).*

# БЫКАВУ – 79

***(Выступ на радыё 19 ліпеня 2003 г.)***

Перш-найперш, карыстаючыся магчымасьцю, я хачу павіншаваць Васіля Ўладзімеравіча з Днём нараджэньня, з 79-годдзем.

Зычу яму як найхутчэй паправіцца з цяжкай хваробы і не здавацца.

„Не здавацца", я думаю, гэта ў характары Быкава: спакойна – сваёй баразной. Што б ні было. Мусіць у гэтым і ёсьць прычына вялікай павагі да яго, як да чалавека.

Перасьледваць Быкава пачалі недзе ў пачатку 60-х гадоў. Я добра памятаю тыя часы. А Быкаў ішоў сабе моўчкі, наперад, пішучы твор за творам, і што раз лепшы.

Травілі, вядома, не аднаго Быкава (і Караткевіча, і Разанава, і пісьменьнікаў на Ўкраіне, і ў Расеі). Па папулярнасьці ў перасьледзе тады, у 60-х, з Быкавым мог параўнацца толькі расейскі пісьменьнік Салжаніцын. Я, вядома, не зьбіраюся іх супастаўляць. Гэта постаці непараўнальныя. Быкаў – глыба, цэлы накірунак у літаратуры. Салжаніцын жа поўнасьцю адыграў сваю ролю ўжо ў 80-х.



(Фота У. Кармілкіна)

***8. Васіль Быкаў перад адʼездам ў Фінляндыю.***

Але вось на што я хачу зьвярнуць увагу. Перад Быкавым таталітарная сістэма спасавала. Яго раптам перасталі травіць, пачалі няшчыра прызнаваць, далі нават прэмію, тытулы. А Быкаў, паўтаруся, як ішоў сабе, так і ішоў, як бы і не было той сістэмы, як бы яе і не заўважаў. А потым, калі надарылася магчымасьць, падтрымаў стварэньне Беларускага Народнага Фронту і далучыўся да яго руху.

Салжаніцына тады сістэма выкінула за мяжу. Гэта пакутлівае выпрабаваньне для творцы. Але за мяжой Салжаніцын пачаў

пісаць шавіністычныя артыкулы, а калі вярнуўся, то зацыкліўся на вялікадзяржаўнасьці, забыўся і пра літаратуру.

Вось вам і розьніца. Пустое – пакоціцца. А глыба? Глыба стаіць, бо моц.

Мне радасна так гаварыць і думаць пра Быкава. Я думаю, што Быкаў спраўджвае словы Гётэ: „Твары, мастак – не гавары". І побач у гэты 79-ы Дзень ягоных народзінаў я хачу нагадаць і пажадаць яму, і нам усім, каб адрадзілася наша Беларусь, наша вольная і дарагая Бацькаўшчына!

*19 чэрвеня 2003 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***



***9. Васыль Быкаў 25 Сакавіка 2000 г. выступае перад беларускай грамадой ў Празе.***

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ НЕ ЖЫВЕ

Няма больш Васіля Быкава на Беларусі. **22-га чэрвеня** яго ня стала.

Сьмерць непазьбежная. Але людзям нялёгка з гэтым зьмірыцца. Цяжка зьмірыцца са сьмерцю Васіля Быкава. Такое ўражаньне, што памерла беларуская літаратура. Быкаў быў яе абліччам. Ён адлюстраваў і спраўдзіў у вобразах клясычныя пастулаты нацыянальнай літаратуры: «лёсы чалавечыя – лёсы народныя».

Для мяне вельмі балюча, што Быкаў памёр у цяжкім часе і не ў свабодзе, якую трэба яшчэ вярнуць. Крыўдна, што ён яе ня ўбачыць.

Але спакайнее душа, што адбылося гэта на Бацькаўшчыне. Толькі той, хто яе страціў, як Адам Міцкевіч ці Максім Багдановіч, толькі той можа зразумець, што нават памерці на Радзіме ёсьць шчасьце. Апошняе шчасьце беларуса. Тое, што ўжо ня стала Быкава, яшчэ цяжка ўсьвядоміць. У 80-90-я гады, у час актыўнага змаганьня за незалежнасьць і справядлівасьць, Васіль Уладзімеравіч быў для мяне тым найпершым чалавекам, на якога можна было абаперціся, калі акружала і кусала цябе воўчая зграя. Зь ягоным словам лічыліся ўсе.

Але з другой паловы 90-х гадоў зьявілася атмасфэра і людзі, для якіх анічога няма ў Беларусі сьвятога.

У гэтай атмасфэры было немагчыма дыхаць і жыць вялікаму пісьменьніку, бо ня кожны рашаўся яго бараніць.

Адзіноцтва на Бацькаўшчыне ён зьмяніў на адзіноцтва на Захадзе, дзе яшчэ горай, але ўжо ніхто ня мог яго зьняважаць.

І вось цяпер ён вярнуўся ў сьвятую нашу зямлю. Яна, як душа, як калыска, як вечная любоў. Хай жа будзе яна для яго спагаднай!

*22 чэрвеня 2003 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

№4(50)/2003



# Беларускія Ведамасьці

ВАРШАВА, чэрвень-жнівень, 2003 г.

*10. Васіль Быкаў не жыве. Вокладка «Беларускіх Ведамасьцяў»*

## СЛОВА РАЗЬВІТАНЬНЯ

Дарагі Васіль Уладзімеравіч! Слова, якое тут прамаўляецца, гаворыцца з далечыні, з-за далёкага акіяна, адкуль не далятае голас. Але Вы можаце чуць мае словы ўдзячнасьці і павагі.

Вы стварылі вялікую літаратуру. Сваёй творчасьцю Вы ўзьнялі высока наш беларускі гонар і пакінулі нам яго вышыню.

У Вашай асобе новае беларускае Адраджэньне мела праўдзівую апору. Вы зрабілі выбар для Беларусі, не азіраючыся на Маскву, не пакідаючы запасных шляхоў. Вы падтрымалі стварэньне Беларускага Народнага Фронту і сталі ў ягоных шэрагах, як Сьцяг. І мы разумелі мэту варожых атак.

Мы нячаста сустракаліся з Вамі нават у бурны час нашай нацыянальнай рэвалюцыі, калі вярнулі незалежнасьць. Але я

бачыў і адчуваў спагадную прысутнасьць Вашай асобы ў маім лёсе, бо заўсёды на стромкай дарозе, над прорвай, над тванньню недзе побач, недзе тут – быў Быкаў, на слова якога можна было абаперціся, як на рыцарскае кап'ё.

Дзякуй Вам, дарагі Васіль Уладзімеравіч!

Хай сьняцца Вам сьветлыя сны аб вольнай Беларусі, якой Вы не дачакаліся. Але яна вернецца, стане, будзе, жыцьме ня толькі ў снах.

Мы вернем яе ў сіле і сьветазарнасьці. Верым, так будзе і ня згіне ніводнае слова.

О, шчасьлівая Беларуская Зямля, прыймі свайго сына навечна!

*25 чэрвеня 2003 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус",– 2003, ліпень, №486; „Беларускія Ведамасьці", – 2003, №4(50)*

# РАЗВАГІ НА СЬМЕРЦЬ ВАСІЛЯ БЫКАВА

*22 чэрвеня* на 80-м годзе жыцьця памёр вялікі беларускі пісьменьнік і вялікі беларус Васіль Быкаў.

У беларускай і сусьветнай літаратуры творчасьць Быкава – гэта цэлы накірунак, адкрыцьцё для сьвету. Быкаў вобразна выявіў і псіхалагічна, па-мастацку адлюстраваў лёсы беларусаў і лёс народа на вайне і ў часы бальшавіцкага ліхалецьця. Быкаў узьняў наш народ над усім сьветам, паказаў веліч ягонага духу, ягоную моц і адначасна абазначыў прычыны трагедыі ягонага нацыянальнага існаваньня. Быкаў у сваёй творчай паставе глядзеў на Беларусь (як трапна заўважыў доктар В. Кіпель) па абодва бакі фронту. Таму яго і называлі сумленьнем нацыі.

Быкаў трымаўся вельмі годна. Асабліва калі ў канцы 80-х пачалася наша нацыянальная рэвалюцыя і ён стаў у шэрагі адраджэнцаў. Гэта ўзьняло ягоны вобраз сярод беларусаў і зьбянтэжыла акупантаў ды няшчырых сяброў беларушчыны.

Бальшавікі і іхны „перадавы атрад" – КГБ – перасьледвалі Быкава, але не змаглі зьнішчыць. Ён, гэтак жа, як некалі Янка Купала, быў для іх не па зубах. Купалу, завабіўшы ў Маскву, яны потым забілі, а Быкаву стварылі невыносныя, хамскія ўмовы на Бацькаўшчыне і вымусілі да эміграцыі.

З часу стварэньня Народнага Фронту ў нас быў супольны шлях. Але мы вельмі берaглі Быкава, ніколі не выстаўлялі яго ў палітыцы, каб не наразіць на зьнявагі нікчэмнасьцяў, на



(Фота з Сеціва)

***11. Разьвітаньне з Быкавым.***



*12. 25 Сакавіка 2000 г. Прага. І. Сурвіла, З. Пазьняк, В. Быкаў, С. Навумчык, В. Станкевіч.*

правакацыі агентуры, на фамільярнасьць дурняў. Гэта мы ўсё стараліся браць на сябе. Мы ніколі не забываліся, што Быкаў – вялікі пісьменьнік. Мы ніколі не забываліся пра ягоную павагу і аўтарытэт. Нам дастаткова было, што ён з намі.

І вось яго няма. Няма больш Быкава. На пахаваньне вялікага беларуса 25 чэрвеня прышлі тысячы, моц народу. Ягоную труну пакрылі *Беларускім Бел-Чырвона-Белым нацыянальным сьцягам*, яе несьлі на руках над морам людзей.

І цяперака (калі пішацца гэта), праз тыдзень пасьля сьмерці Быкава, ідуць і ідуць людзі няспына на Ўсходнія могілкі ў Менску, каб пакланіцца ягонай магіле.

Сьмерць Быкава вельмі яскрава адлюстравала сытуацыю ў Беларусі. З аднаго боку – ўзрушаны народ, які прышоў правесьці ў апошні шлях свайго вялікага пісьменьніка. З другога – кучка выжылай з розуму антыбеларускай улады, якая адмовілася прыняць удзел у пахаваньні і разьвітацца з Быкавым, бо ненавідзела Беларускі нацыянальны *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг*, які тут быў паўсюдна з чорнымі стужкамі. „Улады” ў асобе міністра культуры і генэралаў, убачыўшы беларускія нацыянальныя сьцягі, заявілі, што „яны” пакідаюць жалобнае разьвітаньне. Забралі нават свой афіцыйны катафалк, а Лукашэнка – свой няшчыры вянок. Праўда, назаўтра пасьля пахаваньня гэты вянок з расейскім надпісам „Президент Республики Беларусь А. Лукашенко” зьявіўся ўжо на Ўсходніх могілках і каля яго выставілі варту.

Вось такая фантасмагорыя нядобрых і недалёкіх людзей. Сімптаматычна, што нікчэмныя паводзіны існуючай улады нікога не абурылі. Маўляў, што зь іх возьмеш, самы сябе прынізілі, паказалі сваю сутнасьць і ўзровень.

Цяпер усё стаіць перад вачыма: размовы з Быкавым, ягоная прысутнасьць, агульныя справы.., стварэньне Народнага Фронту ў 1988 годзе, клопат пра Курапаты, зьезды і соймы БНФ, сумесныя паездкі па Беларусі і нарэшце – эміграцыя.

Мы меркавалі з Сяргеем Навумчыкам (які быў найбліжэйшай асобай да сям'і Быкава на эміграцыі), што я прыеду ў Прагу ў сярэдзіне сакавіка (яшчэ перад апэрацыяй Быкава). Не атрымалася. Зацягнулі зь візай. Потым заплянаваныя паездкі ў Вільню, у Нью-Ёрк.

Апошні раз мы размаўлялі з Быкавым па тэлефоне вечарам у чацьвер 5-га чэрвеня перад палажэньнем яго ў Бараўлянскі шпіталь. Голас ягоны быў вельмі сумны, казаў, што апэрацыя ў Празе не дапамагла, робіцца горай.

Толькі калі я паклаў слухаўку, я зразумеў, што Быкаў прыехаў у Менск назаўсёды, ведаючы пра гэта сам.

За тыдзень да сьмерці яму стала лепш, і мы з сябрамі радаваліся паляпшэньню, мелі спадзяваньні.

Беларусы ў Амэрыцы балесна ўспрынялі жалобную вестку. 29-га чэрвеня ў царкве Сьвятое Жыровіцкае Іконы Божае Маці ў Гайленд-Парку адбылася памінальная служба, паніхіда за супакой душы Васіля Быкава. Айцец Вячаслаў Логін сказаў казань перад людзьмі, расказаў пра творчую веліч, жыцьцёвы шлях і пахаваньне вялікага пісьменьніка.

*30 чэрвеня 2003 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2003, №4(50); „Беларус”,– 2003, ліпень, №486).*




(Фота з Сеціва)

*13. Пахаваньне Васіля Быкава. Менск, працэсія на Усходнія могілкі.*

# НЯНАВІСЬЦЬ ШЭРЫХ

Сярод разумных і дурань разумны. Але нікчэмная асоба найлепш відаць на фоне вялікіх асобаў. Таму нікчэмнасьць, як правіла, ненавідзіць лепшых.

Самая бязьлітасная нянавісьць, гэта ёсьць нянавісьць шэрых людзей, бо яна ірацыянальная і толькі шукае лягічнага апраўданьня. Гэта нянавісьць натоўпу, што забіваў каменьнямі прарокаў і нянавісьць Сальеры, што падліваў атруту генію (няхай сабе і выдумка – сюжэт, ды ў ім намёк).

23 чэрвеня я прачытаў у Сеціве вытрымкі са „спачуваньня” вышэйшай службовай асобы ў Беларусі ў сувязі са сьмерцю Васіля Быкава. Спачуваньне напісана на расейскай мове, дзе сказана, што „Васілій” Быкаў „выдатны” пісьменьнік, што „Васілій” Быкаў „не шукаў пракладзеных шляхоў” і што памяць пра „Васілія” Быкава „захаваецца” і г.д.

Такім чынам „Васілій”. „А тут ня зьдзек, – адкажуць вам з гатоўнасьцю, – гэта пераклад на „удобный язык”. Але наша мова і імя Быкава не дазваляюць такіх маніпуляцыяў. Каму гэта можа быць незразумела? Нават у Маскве такое ня робяць, хоць там усе пішуць на „удобном языке”.

Мне чамусьці ўспомніўся пэрсанаж адной з п’есаў Бэрнарда Шоў пра норавы XX-га стагоддзя, – сноб-інтэлектуал, пісака і балбатун. Ягоная шэрасьць і прэтэнзіі не пераварвалі Арыстоцеля. Ён адчуваў сябе вялікшым і грэбаваў нават імем Арыстоцеля; інакш не называў вялікага філёсафа, як „Стагірыт” (па назве горада, адкуль паходзіў Арыстоцель). Гэтакім чынам шэрасьць і дурнота хоча прынізіць аўтарытэт.

Шэрасьць прымітыўная. Стараючыся прынізіць лепшых, яна імкнецца ўзвысіць сябе і пачынае маніпуляваць імем вялікага (то „забываецца” ягонае прозьвішча, то перакручвае імя, то ня той націск, то ўдае няведаньне, як завуць і г.д.). Шэрасьць у гэты момант жыве ілюзіяй, быццам сьвет мераецца па ёй (маўляў, калі яна ня ведае, хто такі Арыстоцель, то які там яшчэ Арыстоцель). Шэрасьць спадзяецца, што па-хамску перакруціўшы імя вялікага чалавека, яна зьнішчае ягоную вялікасьць і думае, што людзі будуць ёрнічаць разам з шэрасьцю.

Менавіта ў такіх ілюзіях быў пабудаваны звыклы зьняважлівы выступ супраць Быкава вышэйшай службовай асобы Рэспублікі Беларусь на расейскім тэлебачаньні НТВ 20-га ліпеня.

„Быков Василий, который вообще не приемлет тенденции на сближение с Россией…” і г.д. – вось тыповы ўзор гэтага маналёгу. Стыль міліцэйскага пратаколу.

„А спыталі б, – падказвае пытаньне журналісту А. Лукашэнка, – ты (г.зн. ён, кіраўнік ўлады) вучыўся ў школе па падручніках і творах Быкава, чаму ў цябе зь ім ня складаліся адносіны?”

Тут ужо ўспамінаецца Мікалай Гогаль, ягоны Хлестакоў („… с Пушкиным на дружеской ноге” і г.д.) Сапраўды, маўляў, я – велічэзны, ён – „выдатны”, а адносіны ў мяне „зь ім ня склаліся”. Прапануецца размова пра двух вялікіх (хоць вялікі толькі адзін). Гэта ўзор ня толькі прымітыўнага ўяўленьня пра дачыненьні, але і прыклад таго, як шэрасьць прыладжваецца да знакамітасьці і хоча зраўняцца.

Неадукаванасьць кіруючай асобы ў Беларусі агульнавядомая (чаго вартае, скажам, будаўніцтва Перпэтуум Мобіле), таму

ніхто ўжо не зьдзіўляецца, што ў дзяцінстве (як кажа Лукашэнка) ён зачытваўся „вершамі" Васіля Быкава.

Не сьпяшайцеся сьмяяцца. Тут ня проста. Трэба ведаць псіхалёгію гэтага „чытача", выробленую на ўзорах гэбоўскіх уяўленьняў. Гэта той жа мэтад перакручваньня імя, ёрніцтва, сьведамае ўдаваньне няведаньня, хто такі Арыстоцель, апусканьне размовы ўніз, на прымітыўны ўзровень, адкіданьне арэола пашаны. Маўляў, мы ведаем, што народны „пісацель", толькі што ён там пісаў: ці вершы, ці прозу, да вороде бы „стихи". Не пісаў? Што вы гаварыце? А я думал, он паэт. І гэтак далей. Гумар лейтэнантаў.

Сапраўдная псіхічная матывацыя таго, што часам робіць і кажа кіраўнік выканаўчай улады і адэкватнае разуменьне ягоных учынкаў ведамае толькі вузкім спэцыялістам і тым, хто яго назірае даўно.

Аднак самай фэнамэнальнай рысай гэтага дыягназу паводзінаў ёсьць ня хамства, ня ёрніцтва, не нахабства распеpазанага халопства, а хлусьня, вялікая ілжа, стыхійная, як патоп; яна вывяргаецца штодзённа, упэўнена і пераканана, у якую ён сам апантана верыць. (І чым больш хлусіць, тым больш верыць.)

І тыя, хто слухаюць яго першы раз, другі, трэці (а некаторыя і тысячу разоў), ня могуць не ўспрымаць, настолькі даверліва, упэўнена, з дрыжыкамі ў голасе і бляскам у вачах ён ілжэ. Ілжэ, нібы спавядаецца, нібы адчыняе душу, хлусьню гаворыць, як малітву, як на духу, выціскае сьлязу.

Гэта не гульня, не мастацтва, не фальш – гэта праўдзівае выяўленьне натуры. (Як па маіх жыцьцёвых назіраньнях – паранойнае выяўленьне псіхалёгіі нэўрастэніка.)

Я працытую тут сьвежую, толькі што сказаную „прамову веры".

„Саша (гэта да вядучага НТВ Аляксандра Герасімава), я не хачу наладжваць якуюсьці піараўскую кампанію і піар на сьмерці гэтага чалавека. Я дастаткова зрабіў для **Васілія** Уладзімеравіча Быкава да сьмерці. Дастаткова зрабіў – пра гэта нідзе не гаварыў. Я зрабіў яму ўсё жывому, аб чым ён і сям'я мяне прасілі. І, паверце, я спрабаваў зрабіць і выратаваць гэтага чалавека пасьля доўгіх гадоў лячэньня за межамі нашай краіны ў самых слаўных лекараў. Вось калі б ён тады зьвярнуўся да нашых лекараў, **Васілія** Быкаў доўга б яшчэ жыў. Але, на жаль, яго ўжо прывезьлі з Чэхіі, зь Нямеччыны, дзе ён яшчэ? – у Фінляндыі лячыўся, прывезьлі ўжо безнадзейным чалавекам. У гэтай сытуацыі я ўсё рабіў."

Калі прааналізаваць гэты „сьпіч", то можна заўважыць ягоную прадуманасьць (асабліва подленькае ёрніцтва са словам „Васілія"). Хоць акрэсьлена была толькі мэта, астатняе – нібыта спантаны палёт „праўдзівай душы", горкае „адкрыцьцё" набалелага. Але ўсё, што тут сказана пра быццам бы звароты Быкава і пра быццам бы клопаты галоўнай службовай асобы ёсьць няпраўда, выдумка, выробленая хлусьня.

У тэлефонных размовах з Васілём Быкавым на эміграцыі, у ліставаньні, пры сустрэчы ў Празе ў 2000 годзе у нас ніколі не



(Фота з Сеціва)

*14. Пахаваньне Васіля Быкава. Разьвітаньне на могілках.*

заходзіла размова пра „вышэйшую службовую асобу”. У мяне складвалася ўражаньне, што для Быкава яна проста не існавала, бо зь ёй было ўсё зразумела. У Быкава іншым занята была галава. Ён, здаецца, увогуле ніколі ня бачыў гэтую асобу ў жывым пляне (акрамя як па тэлебачаньні), ніколі зь ёй не гаварыў ніякім спосабам і не пісаў.

У „прамове веры” (іранічны сэнс) Лукашэнка ўдае, што прыўзьнімае нібыта заслону „праўды”. Але ўсё гэта хлусьня, нахабная выдумка і прыдумана, каб прывабна паказаць сябе.

Тым часам да апошняга прыезду ў Менск Васілю Быкаву (не бяз ведама „вышэйшай службовай асобы”) зрабілі неверагодную подласьць. Нізасьць гэтага ўчынку шакуе. Хвораму Быкаву прышлося гэтую нізасьць пераадольваць ды перажываць і з-за яе яго затрымалі ў Менску. Ён плянаваў вярнуцца ў Прагу. Там сябры чэхі і беларусы выстараліся яму рэдкае вельмі дарагое лякарства і адпаведнае лячэньне. Чалавека, нават сьмяртэльна хворага на рак, яно магло пратрымаць у жыцьці яшчэ год, альбо два. У Менску Быкава сталі лячыць катэгарычна супрацьпаказаным яму мэтадам і загналі ў магілу. Сьведама не зьвязаліся са шпіталем ў Празе, сьведама не пацікавіліся эпікрызам хваробы. Гэта спосаб забойства.

Быкаў ня змог выехаць. Нізасьць яго даканала. „Гэта чалавек, які не прымае тую палітыку, якую сёньня Лукашэнка праводзіць у Беларусі”, – кажа на НТВ пра Быкава Лукашэнка, называючы сябе ў трэцяй асобе.

Стала вядома, што за тыдзень да сьмерці Быкава сярод бюракратыі ўлады знайшоўся індывідуум, які пахваліўся: у тым, маўляў, што Быкаў затрымаўся ў Менску, – гэта ягоная, чыноўніка, заслуга.

Васіля Быкава зьнішчыў рэжым Лукашэнкі. Я не падаю тут канкрэтнасьцяў, не раскрываю сутнасьць нізасьці, якую зрабілі Быкаву, бо паабяцаў пра гэта пакуль маўчаць. Праўду скажуць тыя, хто яе добра ведае.* Яна ўжо прасочваецца, але ня выяўлена поўнасьцю да гэтага часу, з-за выпадковага зьбегу абставінаў. А можа і з наканаваньня вышэйшай Нябеснай Сілы. Хто ведае.

Нельга даравацъ зьдзеку над Быкавым – вялікім пісьменьнікам і чалавекам. Васіль Быкаў як асоба – гэта вобраз беларуса. Узгадайма ягоную постаць, успомнім жыцьцёвы шлях, угледзімся ў яго аблічча.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*21 ліпеня 2003 г. Нью-Ёрк*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2003, №4 (50.)*

---

* Пра мэдычнае забойства В. Быкава пазьней Сяргеем і Галінай Навумчыкамі быў зьняты відэафільм і паказаны па тэлебачаньні Белсат. – *(З.П.)*

# БЕЛАРУСКАЯ ПАЛІТЫКА – ЛЕТА 2003

## ЛУКАЦЫЯНАЛІЗМ

З другой паловы чэрвеня ў Лукашэнкі пачаўся чарговы прыступ „нацыяналізму”. Стаў гыркаць на Расею. Добра вядома, што гэта азначае. Масква цісьне на рэжым, каб правесьці рэфэрэндум аб так званым „канстытуцыйным акце” (які адчыніць шлях да анэксіі Беларусі). Пачынаецца актыўная падрыхтоўка. Для гэтага і спатрэбіўся рэжыму свой „нацыяналізм”.

Разьлік просты. Заблытаць грамадзкую думку. Схаваць відавочнае, што Беларусь заганяюць у Расею, і паказаць, што быццам бы ня ўсё проста (маўляў, мы самы з вусамі, аб’ядноўваемся, але за сябе пастаім і будзем стаяць крэпка, мы Маскве пакажам, няма чаго тут расейскім алігархам разьзяўляцца і г.д.).

Выказваньні грымяць моцныя і гучаць яны для прастакоў, якім яшчэ нечым шчыміць Беларусь, але якія ня любяць думаць. Бо, зразумела, што пасьля так званага „аб’яднаньня” (рэальнай анэксіі) усе гэтыя пагрозы і фразы аб „стаяньні” ды сваіх інтарэсах ня будуць мець значэньня, бо прынцыпова зьменіцца рэчаіснасьць. Ня будзе беларускай незалежнасьці і беларускай дзяржавы, адпаведна ня стане і ніякіх беларускіх правоў. Тады крычы, хоць лопні – Сібір вялікі.

Такім чынам „нацыяналізм” Лукашэнкі спатрэбіўся Маскве, каб з’агітаваць на рэфэрэндум беларускую інтэлігенцыю і тых людзей, што непакояцца пра сваю краіну і трымаюцца за Беларусь. Маскоўцы лічаць, што дурні на Беларусі ніколі ня зводзіліся, таму „нацыяналіст” Лукашэнка стаў грымець „за радную Беларусію”.

Пра тое, што псэўданацыянальная рыторыка Лукашэнкі ня ёсьць нацыяналізм, а фальш, сьведчыць уся антыбеларуская палітыка рэжыму ў Беларусі. Адначасна з нібыта патрыятычнымі фразамі пра самастойны шлях Беларусі і з крытычнымі пасажамі ў бок Расеі рэжым ліквідуе ў Менску вядомы Беларускі гуманітарны ліцэй – апошнюю беларускамоўную вучэльню такога роду, нягледзячы на рэзкі пратэст усіх пэдагогаў, вучняў і бацькоў. Пастанову аб закрыцьці ліцэя падпісалі ў дзень пахаваньня В. Быкава. У гэты ж час дабіваюць апошнія беларускія школы на вёсцы. На канец чэрвеня зачынілі **152**. У пачатку ліпеня зачынілі астатнія **16** вясковых школак у Гомельскай вобласьці. Беларускіх дзяцей пераводзяць у рускія школы, якія адчыняюць на вёсках, альбо пакідаюць без адукацыі.

Усе беларускія няўрадавыя газэты ўжо зачыненыя (акрамя менскай газэты „Наша Ніва”, якая яшчэ ліпіць). Узяліся нават за рускія газэты, дзе было нешта крытычнае ці прабеларускае. За палову лета (да сярэдзіны ліпеня) ужо зачынена 8 такіх газэтаў. Дадушваюць беларускае радыё. У ліпені зачынена апошняя радыёстанцыя ў FM-дыяпазоне на беларускай мове – „Сталіца”. Прычына – папулярнасьць. Узамен рыхтуюць адчыніць радыё па-руску.

У гэты ж час Лукашэнка ігнаруе (робіць няважнымі) прыватызацыйныя чэкі „Маёмасьць”. Беларусаў, фактычна, пазбавілі права на прыватызацыю беларускай нацыянальнай уласнасьці, нажытай пакаленьнямі беларусаў, і наадварот – адчыняецца права (купіць за грошы) расейскім алігархам, якіх нібыта „нацыяналіст” Лукашэнка нібыта крытыкуе.


(Фота з Сеціва)

*15. Цесната на вуліцах падрэжымнага Менска.*

Узмацненьне антыбеларускай палітыкі этнацыду адбываецца паралельна з афіцыйнай успышкай псэўданацыянальнай і антырасейскай рыторыкі. Прытым, калі рыторыка – пустыя гукі, то этнацыд – рэальнасьць. Нават сьмерць і пахаваньне Васіля Быкава, які быў жывым сымвалам нацыі, Лукашэнка не забыўся зьняважыць (не пайшоў на пахаваньне і абразіў памяць пісьменьніка непаважнымі выказваньнямі).

Другі чыньнік, які паказвае на фальшывасьць лукашэнкаўскай псэўдабеларускай рыторыкі – гэта паводзіны расейскай улады. Лукашэнка на Расею разьдзімаецца, пагражае, зноў выкідвае расейскіх журналістаў, а Расея вяла мармыча. Расейская ўлада паводзіць сябе пасыўна, бо вядома, што гэта спэктакль, узгодненая палітычная гульня па „нацыяналістычным" сцэнары. І ўсе маўчаць. І шавіністы, і камуністы. А тут бы самы раз узьвіцца якой-небудзь газэце „Товарищ" ды закляйміць, ды ўдарыць, як бывала, па БНФ. Дудкі. Ня тая опэра (як кажа „опэруполномоченный").

Трэцяе сьведчаньне. У той жа час, калі чуецца нібыта „нацыяналістычны" грукат Лукашэнкі, поўным ходам ідзе падрыхтоўка да рэфэрэндуму, да ўвядзеньня расейскага рубля на Беларусі, да далейшай вайсковай інтэграцыі з Масквой і г.д. Нічога не зьмяняецца ў ліквідацыі беларускай дзяржаўнасьці. Наадварот, прысьпешваецца.

Падрыхтоўка да рэфэрэндуму ідзе поўным ходам. Зачыняецца дзейнасьць у Беларусі амэрыканскіх арганізацыяў, зьвязаных з інфармацыяй (IREX, NetWork), выдаляецца са згоды гэбоўскай Масквы карпункт расейскага тэлебачаньня НТВ, выдаюцца дзікія законы пра партыі (будуць зачыняцца пры першым папярэджаньні ў час масавага мерапрыемства). Пры неабходнасьці будзе зачынена ўсё (у тым ліку і офіс АБСЭ). Калі рыхтуецца злачынства – сьведкі непатрэбныя. Адначасна зьмяняюць прэм'ера, перасоўваюць начальства, ствараюць вінаватых, казлоў ахвярных.

Усе гэтакія дзеяньні па аналёгіі называюць „зачысткай" (што ў рэальнасьці на рускім вайсковым жаргоне абазначае карную апэрацыю супраць насельніцтва ў Чачэніі). Рыхтуецца чыстае поле для незаконнай палітычнай акцыі, каб нічога не магло перашкодзіць адміністрацыйнай агрэсіі і фальсіфікацыі галасаваньня на рэфэрэндуме.

Інтэнсіўнае зьнішчэньне беларускіх арганізацыяў і школаў робіцца яшчэ і таму, каб не пакінуць гэтую брудную працу Расеі, калі яна захопіць Беларусь (каб напачатку менш рэзка адчувалася акупацыя).

Аналіз разгледжаных намі аспэктаў дазваляе зрабіць меркаваньне, што ***Масква (якая раней вагалася) дала згоду на трэці тэрмін Лукашэнкі.*** Выглядае, што дамовіліся такім чынам: Лукашэнка забясьпечвае ўсе ўмовы (у тым ліку і самыя радыкальныя) для правядзеньня рэфэрэндуму аб „канстытуцыйным акце" і бярэ, адпаведна, на сябе ўсю адказнасьць. Масква тым часам пагаджаецца, каб Лукашэнка паставіў адначасна на рэфэрэндум пытаньне аб сваім трэцім (ці бясконцым) тэрміне ўлады. Пры гэтым на вонкі Масква нібыта абтрасаецца ад гэтай справы (як бы ня ўмешваецца), але ў выпадку пагрозы ўсёй акцыі – абяцае падтрымку.




(Фота З. Пазьняка)

*16. Беларуская дэманстрацыя ў Нью-Ёрку. 2000 г.*

Лёгіка такая: Маскве трэба скарыстаць Лукашэнку, каб правесьці на рэфэрэндум свой інтэрас з „актам" і забясьпечыць пэрспэктыву анэксіі. Лукашэнку неабходна свой інтэрас аб трэцім тэрміне зьвязаць з маскоўскім, каб забясьпечыць сабе падтрымку Масквы і пэрспэктыву застацца ва ўладзе.

Характар чэрвеньскіх і ліпеньскіх падзеяў паказвае, што ўзгадненьне адбылося.

Удакладняю, аднак, што гаворачы „Расея", „Масква", я не абавязкова маю на ўвазе У. Пуціна. Лукашэнка можа заручыцца падтрымкай іншых групаў расейскай улады, таксама і тых, хто супраць Пуціна.

Таксама на рэфэрэндум можа быць выстаўлены не маскоўскі, а лукашэнкаўскі тэкст „канстытуцыйнага акту". Калі Лукашэнка „зробіць" (адпаведна і „выйграе") гэтакі рэфэрэндум, то адсуне Пуціна ў бок і зноў пачне прэтэндаваць на расейскі прастол.

Так яно ўжо складваецца ў нясьпелых дэмакратыях, што то адна, то другая краіна робяцца закладніцамі Willer zur Macht – фрэйдзісцка-ніцшэанскіх комплексаў.

## БАЙКОТ

Рэфэрэндум аб „канстытуцыйным акце" гэтак жа, як і аб трэцім тэрміне, немагчыма правесьці законна. Канстытуцыя не дазваляе. Для авантурыстаў тут замкнутае кола. Таму рэфэрэндум яны плянуюць незаконна з сілавым націскам і праўнадэмагагічным псэўдаабгрунтаваньнем.

Такая сытуацыя, як цяпер, узьнікла ў чэрвені-жніўні мінулага году (пасьля заяваў Пуціна пра анэксію), але тады не было вырашана пра трэці тэрмін Лукашэнкі і ягоны лёс.

Мы ўважліва прааналізавалі становішча за рэшту 2002 года і пасьля татальнай і поўнай „перамогі" рэжыму на мясцовых выбарах 2-га сакавіка 2003 г. (дарэчы, цалкам сфальшаваных, але фармальна легітымных, гэтаму паспрыяла так званая „апазыцыя").

Супастаўленьне варыянтаў паказвае, што найлепшым быў бы варыянт недапушчэньня рэфэрэндуму, які супярэчыць Канстытуцыі. Такі варыянт супраціўленьня намі ўжо пачаты ў судах. Але на пэўным этапе спатрэбіцца міжнародна-прававая дапамога.

У выпадку прызначэньня рэфэрэндуму напралом закону (як гэта было раней) найлепшы варыянт – байкот галасаваньня.

Рэальнасьць і асабліва апошнія выбары ў мясцовыя саветы паказалі, што рэжым стварыў надзейную, моцную, практычна безадказную і некантралюемую грамадзтвам выбарчую машыну фальсіфікацыі галасаваньня. Адміністрацыйны рэсурс па абслугоўваньні гэтай машыны ёсьць цалкам падкантрольны

рэжыму, арганізаваны жорстка і безаглядна, гатовы на любое парушэньне закона, дзеля выкананьня пастаўленых зьверху задачаў.

Такая рэальнасьць. Любое галасаваньне (хоць бы і сто адсоткаў галасавалі супраць) рэжым выйграе (сфальсіфікуе).

Нават калі б і было грамадзкае назіраньне за галасаваньнем, пракантраляваць і дакумэнтальна зафіксаваць, як хто галасаваў і як палічыла галасы выбарчая камісія, – немагчыма. Так ёсьць. Можна фіксаваць толькі парушэньні заканадаўства. А гэта апасродкаваныя аргумэнты і трактаваць іх можна па-рознаму (што ўвесь час і робіцца). Каб фальсіфікаваць, для фальсіфікацыйнай машыны патрэбныя выбаршчыкі, хаця б 50 адсоткаў. Астатняе – справа тэхнікі.

Такім чынам, калі праводзіць байкот фальсіфікацыйнай машыны (г.зн. байкот „галасаваньня") і калі галасаваць, скажам, прыйдзе толькі 25 адсоткаў выбаршчыкаў, то машыне прыдзецца сфальсіфікаваць прыход яшчэ мінімум 25 адсоткаў выбаршчыкаў. Але, першае, тых, хто прыходзіў галасаваць, можна рэальна палічыць; потым можна праверыць сьпісы прагаласаваных, а калі іх, скажам, не пакажуць назіральнікам, то могуць праверыць самы выбаршчыкі, што не галасавалі. Усё гэта непасрэдная канкрэтыка, якую можна дакумэнтальна зафіксаваць. Вядома, могуць зьнішчыць сьпісы, могуць арыштаваць выбаршчыкаў і г.д. Але гэта ўжо будзе адкрыты бандытызм з боку рэжыму. Шансы для такога рэфэрэндуму і для такой палітыкі тады змалеюць да мінімуму.

Складанасьць у тым, што байкот цяжэй арганізаваць. Патрэбны ня толькі пэўны ўзровень удзельнікаў галасаваньня, але і адпаведны стан грамадзтва. Ня так проста растлумачыць звычайнаму чалавеку, чаму ён ня мусіць ісьці на галасаваньне ў той час, калі ён хоча прагаласаваць супраць. Байкот часам не ўдаецца нават у моцна палітызаваных грамадзтвах. Напрыклад, у Польшчы на чэрвеньскі рэфэрэндум аб уступленьні ў Эўразьвяз прышло 58 адсоткаў выбарцаў (была агітацыя за байкот). У той жа час 18 адсоткаў выбарцаў прагаласавала супраць. Зразумела, што калі б у гэтых 18 адсоткаў лёгіка дамінавала над жаданьнямі, то яны разам з астатнімі не прышлі б галасаваць і выйгралі б, бо рэфэрэндум праваліўся б.

Псіхалягічныя цяжкасьці арганізацыі байкоту выкарыстоўваюць праціўнікі беларускага нацыянальнага адраджэньня, асабліва розныя прамаскоўскія групы „кіруемай апазыцыі". Ня так даўно быў, напрыклад, на гэтую тэму ў „Народнай Волі" артыкул Л. Гразновай (АГП, Хартыя). Там грунтоўная крытыка рэжыму і плянаў інкарпарацыі Беларусі ў Расею. Усё зь беларускіх пазыцыяў. Але заканчваюцца гэтыя правільныя развагі заклікам, што каб „гэтаму" супрацьстаяць, трэба пайсьці на рэфэрэндум і сказаць сваё рашучае „не". Тэхналёгія агітацыі дакладна, як з „нацыяналізмам" Лукашэнкі. („Пастаім за Беларусь і Маскве пакажам, але з Расеяй трэба аб'яднацца.")

Працу над падрыхтоўкай байкоту арганізацыі Беларускага Вызвольнага Руху (*Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне", Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ*) пачалі ў пачатку гэтага году. У гэтай справе вельмі важна стаяць на адной пазыцыі ўсім праціўнікам рэжыму, рэфэрэндуму і інтэграцыі. Гэта, магчыма, не атрымаецца на сто адсоткаў, але, тым ня менш, альтэрнатыву пажадана мець мінімальную.

У красавіку намі была распрацавана і пачала выконвацца праграма супрацьдзеяньня незаконнаму рэфэрэндуму і плянаваньню анэксіі Беларусі.

10-га траўня мы зьмясьцілі ў пэрыядычным друку і разаслалі зварот да грамадзкіх арганізацыяў і партыяў аб дзеяньнях і адносінах да плянуемага рэфэрэндуму. Намі прапанаваны супольны арыентыр для адзінай беларускай грамадзкай пазыцыі ў змаганьні з палітыкай рэфэрэндуму. Гэта: ***салідарнасьць на грунце абароны незалежнасьці Беларусі*** (салідарнасьць для незалежнасьці).

Аднак гэтую лінію не ўдалося пакуль што актывізаваць сярод палітычных арганізацыяў з прычыны незацікаўленасьці. У сярэдзіне ліпеня арганізацыі, павязаныя ў дэмакратычнай „апазыцыі", засьведчылі, што будуць удзельнічаць у незаконным рэфэрэндуме, каб галасаваць супраць. Прытым гаворка вядзецца толькі пра трэці тэрмін Лукашэнкі.

Такія паводзіны ня сталі для нас нечаканасьцю з прычыны залежнасьці „апазыцыі". Тым ня менш, прадаўжаюцца пошукі, як пазьбегнуць альтэрнатывы і дасягнуць салідарнасьці на плятформе абароны незалежнасьці і супрацьдзеяньня расейскай палітычнай агрэсіі.

Тое, што рыхтуюць нам, беларусам, на рэфэрэндуме аб „канстытуцыйным" акце" пры няправільным супрацьдзеяньні, можа аказацца фатальным для лёсу незалежнасьці Беларусі. У нашым грамадзтве бальшыня яшчэ гэтага не разумее, а грамадзкая эліта, па ўсім відаць, недаацэньвае і глыбока не задумваецца. Гэта найбольш трывожыць, калі пачнеш углядацца ў блізкую будучыню краіны і ўсьведамляеш наканаванасьць цяжкой барацьбы.

*23 ліпеня 2003 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус",– 2003, жнівень, №487).*

# БЕЛАРУСЫ Ў СЬВЕЦЕ

*Гэтыя нататкі я напісаў з разьліку на маладых беларусаў, якіх шмат цяпер сабралася за мяжой. На Бацькаўшчыне бяда. Чым беларуская моладзь можа дапамагчы Беларусі? Становішча фармальнае цяпер значна больш спрыяльнае для беларусаў у замежжы, чым некалі, бо маем сваю дзяржаву, амбасады, прадстаўніцтвы, нас прызнаюць, з намі лічацца. Нічога такога ня мела эміграцыйная моладзь у 20-30-х, ці 40-х гадах. Чыноўнікі на ўсіх шырынях і мэрыдыянах вызьверваліся на слова „беларус". Прозьвішча нават не маглі запісаць у дакумантах па-беларуску. Але беларусы змагаліся за сваё.*

* * *

Пасьля 2-й Сусьветнай вайны беларусы сталі „сусьветнай нацыяй", гэта значыць, што, як і бальшыня іншых народаў, яны сталі жыць на ўсіх кантынентах, у шмат якіх краінах за мяжой, і, галоўнае, ***сталі падтрымліваць там сваё культурна-нацыянальнае існаваньне***.



*17. «Распусьцяцца бярозы – мы вернемся дамоў.» Лявон Рыдлёўскі (9.08.1957) – Слуцкі апалчэнец. (Памёр у Англіі.)*

Гэта істотная зьява, якая павялічвае трываласьць нашага народа і нашай краіны. Яна зьвязана зь некалькімі вырашальнымі чыньнікамі, менавіта: з наяўнасьцю нацыянальнай ідэі, нацыянальнай дзяржавы і абумоўлена ідэйна-культурным узроўнем эміграцыі.

Беларуская паўстанцкая эміграцыя ў XIX стагоддзі адбывалася так, быццам яе ўвогуле не было. Яна існавала пад парасонам польскай эміграцыі. Не сфармуляваная была яшчэ палітычна беларуская нацыянальная ідэя, а ідэя літоўская ўжо прыдушана, не было беларускай дзяржавы; дбалі ў асноўным пра аднаўленьне ўсёй Рэчы Паспалітай, а не асобнага Вялікага Княства Літоўскага. Беларуская эміграцыя і беларускія дзеячы (пачынаючы ад Тадэвуша Касьцюшкі) сталіся набыткам для польскай эміграцыі, спажыткам для польскай палітычнай гісторыі.

Яшчэ больш бядотны лёс быў у беларускай эміграцыі 900-х, 10-х, 20-х і 30-х гадоў XX-га стагоддзя. Яна (прынамсі ў ЗША) зьнікла бясьсьледна. У 20-30-х гадах, напрыклад, уся 14-я вуліца ў Манхэтане гаварыла па-беларуску і была заселена амаль выключна беларусамі, сялянамі ды работнікамі зь невысокім адукацыйным і нацыянальна-палітычным узроўнем. Яны не стварылі тут, практычна, нічога свайго і растварыліся ў першым жа пакаленьні, зьніклі бясьсьледна, сталі гноем гісторыі, сыравінай для біялягічнага і генетычнага існаваньня амэрыканцаў, спажыўным асяроддзем для іншых.

Прычына нікчэмнага існаваньня і этнічнага зьнікненьня – невысокі адукацыйны і сацыяльна-культурны ўзровень, але галоўнае – адсутнасьць ідэйнай нацыянальнай сьведамасьці.

Тым часам у 30-х гадах ужо існавалі культурна-палітычныя цэнтры беларускай эміграцыі ў Эўропе. Гэта, перш за ўсё, ў Празе, Бэрліне, Парыжы, часткова ў Рызе, Коўне і іншых гарадах.

Моцна перамянілася становішча пасьля 2-й Сусьветнай вайны, калі за мяжой апынуліся тысячы беларускіх патрыётаў, людзей сьведамых, адукаваных і маладых. Бальшыня зь іх потым пераехала ў Амэрыку.

Пасьляваенная беларуская эміграцыя валодала тымі каштоўнасьцямі, якіх ня мелі і не цанілі ранейшыя хвалі перасяленцаў у Амэрыку.

Чатыры каштоўнасьці ёсьць найважнейшыя дзеля існаваньня нацыі за мяжой. Гэта ***нацыянальная ідэя, беларуская мова, нацыянальная салідарнасьць і сувязь з Айчынай***. Гэта, так бы мовячы, неабходны стан грамадзкай сьведамасьці, які вызначае адпаведныя дзеяньні. Калі яго няма, то і дзеяньняў ніякіх ня будзе.

Пасьляваенная эміграцыя стварыла аптымальную для сябе структуру жыцьцядзейнасьці. Паўсюдна былі арганізаваныя беларускія цэрквы і адноўлена дзейнасьць аўтакефальнай царквы. Гэта давала магчымасьць шырока агарнуць беларусаў рознага ўзроўню за мяжой.

Наступная ступень – грамадзка-культурныя арганізацыі. Яны спрыялі вылучэньню і дзейнасьці найбольш актыўных беларусаў, для іншых – ажыцьцяўлялі асьветніцкую і нацыянальна кансалідуючую функцыю.

І нарэшце галоўнае – палітычныя арганізацыі, вяршыняй якіх зьяўляецца Рада БНР.

Палітычныя арганізацыі давалі ідэю і вызначалі зьмест дзейнасьці ўсёй эміграцыі, яе скіраванасьць на патрэбы нацыі, на дабро незалежнай беларускай дзяржавы. Без скіраванасьці на Айчыну існаваньне эміграцыі траціць сэнс. Ды й сама яна тады зьнікае.

У беларускай сістэме можна заўважыць шмат структурных недахопаў (напрыклад, не арганізавалася фінансава-бізнэсовая частка, не стварылі каталіцкага касьцёла, кляса адвакатаў, школаў і г.д.). Але схоплена і сцэмэнтавана было галоўнае. Прытым прыярытэты атрымалі розум, ідэі, культура, а не кашалькі і пустыя праводзіны часу.

Ідэёвасьць ёсьць вялікая перавага і асаблівасьць беларускага адраджэнскага палітычнага руху. Менавіта на ідэёвасьці беларускага руху трымаецца Беларусь, і менавіта дзякуючы гэтаму яна пераж

ыве і пераможа цяжкі час.

Цяперака якраз адбываецца вельмі адказны і ў пэўнай ступені небясьпечны пэрыяд у жыцьці эміграцыі: зьмена хвалі і зьмена пакаленьняў. Істотным, аднак, ёсьць якраз зьмена хвалі. Толькі новая эміграцыя можа захаваць і прадоўжыць тое, што стварылі папярэднікі. Працэс перадачы заўсёды няпросты, а ўлічваючы цяперашні стан унутранай акупацыі Беларусі і напружанасьць халоднай вайны з Расеяй, гэты працэс (зьмены хваляў) вымагае ад беларусаў прытрымлівацца пэўных правілаў. Інакш можна страціць узровень, а потым і ўсё набытае папярэднікамі, страціць нацыянальныя ідэі і ператварыцца ў правінцыйнае балота з прымітыўнымі этна-культурнымі імпрэзамі (у лепшым выпадку) ці проста з „блінамі" і паяданьнем страў.

Тут хачу зазначыць, што беларуская пасьляваенная эміграцыя была нешматлікай, па параўнаньні, скажам, з палякамі ці ўкраінцамі, колькасьць якіх у ЗША і Канадзе набліжалася да 2-х мільёнаў. Але ў палітычна-інтэлектуальнай дзейнасьці за мяжой на ўзроўні асобаў і асэнсаваньні зьяваў беларусы йшлі нароўні і нават наперадзе.

Але самае галоўнае і фэнамэнальнае (што ня можа ня ўражваць) – пасьляваенная беларуская эміграцыя стварыла беларускую нацыянальную літаратуру добрага ўзроўню, прозу і паэзію, вылучыла паэтаў, што ўвайшлі пэрламі ў карону беларускай літаратуры. Гэта пра шмат што кажа.

Савецка-бальшавіцкая акупацыя стала ноччу для беларускай нацыянальнай культуры, але ня стала абсалютным правалам гісторыі, дзякуючы таму, што нацыянальныя ідэі, публіцыстыка, друк, адэкватнае асэнсаваньне сьвету і літаратура жылі за мяжой, сталі здабыткам культуры ўсёй беларускай сусьветнай нацыі (праўда, ужо для пасьлясавецкага пакаленьня).

Пасьляваенная эміграцыя была сьцісла нацыянальна-палітычна дэтэрмінаваная і палітычна дзейсная. Ніхто зь іх ня мог вярнуцца ў Беларусь, якая была пад расейскімі бальшавікамі.

Тым часам цяперашняя беларуская эміграцыя ёсьць у асноўным эканамічнага і прагматычнага кшталту, прытым зрусіфікаваная (дакладней, „саветызаваная"). Бальшыня гэтых людзей можа наведваць Беларусь. Палітычная эміграцыя, аднак, складае ўжо значную частку, і ад яе ў асноўным будзе залежыць узровень, зьмест і будучыня беларускага замежжа.

Новая эміграцыя паступова ўліваецца ў дзейнасьць беларускіх структураў. Некаторыя з новых эмігрантаў структурным пытаньням надаюць галоўную ўвагу, гатовыя нават праявіць рэвалюцыйны энтузіязм. Але пачынаць трэба з асноўнага, з грунту, на якім стаіць і трымаецца нацыянальнае беларускае жыцьцё за мяжой (і ня толькі за мяжой), менавіта: з ідэяў, з тых каштоўнасьцяў, якія я называў у пачатку. Да добрага дзеяньня чалавек мусіць сасьпець.

Трэба ўсьведамляць, што асноўныя каштоўнасьці не дыскутуюцца. Гэта зьявы бясспрэчныя, грунт, на якім мы ўсе стаім. Калі ж сумняваемся ў сваім грунце, то, лічы, што і не стаім (вісім альбо целяпаемся).

Быў бы поўны абсурд, калі б у нацыянальнай арганізацыі за мяжой беларусы пачалі б дыскутаваць, напрыклад, аб патрэбе нацыянальнай ідэі (трэба--ня трэба). Нацыянальная ідэя – ***гэта ідэя стварэньня і існаваньня незалежнай нацыянальнай дзяржавы***. Гэта ідэя, на якой у XIX – пачатку XX стагоддзяў стварылася новая шматнацыянальная Эўропа – Эўропа айчынаў.

Аднак я невыпадкова прыводжу тут гэты трывіяльны прыклад, бо на ахайваньні якраз нацыянальнай ідэі шмат дзе практыкуецца прапагандысцкая агентура на Беларусі (гэта для Масквы істотна). Робіцца спэцыяльнае заблытваньне думак у неадукаванай публікі („Національная ідея, это всех рускіх вон, да?" Ці: „відалі мы этот нацызм, ещё в 41-м" і г.д.).

Нядаўна я прачытаў у Сеціве апытаньне людзей на вуліцах Менска. Усім задавалі пытаньне, што такое *нацыянальная ідэя*. Правільна не адказаў ніхто, нават не наблізіўся да зьместу (значыць ніхто ня ведаў). Вось вам і прапаганда, вось вам і культура. А на двары 21-е стагоддзе.

Беларускія арганізацыі за мяжой створаныя, каб лучыцца беларусам разам, каб разьвівацца, каб не занядбаць духоўна самых сябе, каб адчуваць радасьць і паўнату жыцьця ад сумоўя культурна блізкіх людзей, каб умацоўваць нацыянальныя сілы і думкі і дапамагаць Бацькаўшчыне Беларусі, якая цяпер у цяжкім стане. Вось чаму Беларуская ідэя, ідэалы 25-га Сакавіка ёсьць нашыя пуцяводныя ідэі.

Беларускую мову цяпер перасьледуюць ў падрэжымнай Беларусі, зачыняюць беларускія школы, душаць беларускі друк і мастацтва. Праз пакуты на Бацькаўшчыне беларуская мова тут, за мяжой, робіцца для нас сьвятой. Шануйма яе, аберагайма, размаўляйма на ёй усюды між сабой. ***Ніякая іншая мова ня можа падмяняць беларускай мовы ў беларускім асяроддзі.*** Яна наш сьцяг і абраз, у ёй наш дух, наша культура і гісторыя, наша прыўкрасная будучыня. Культурна мы існуем у нашай мове.

Традыцыі беларускай салідарнасьці выпрацавала папярэдняя эміграцыя. Тут ёсьць чаму павучыцца. Беларусы за мяжой



(Фота З. Пазьняка, 1998 г.)

***18. Беларусы на дэманстрацыі ля ААН у Нью-Ёрку.***

абавязкова павінны падтрымліваць адзін аднаго, падтрымліваць усе беларускія арганізацыі і беларускі друк і, галоўнае, – дапамагаць і падтрымліваць нашу Бацькаўшчыну Беларусь. Нельга не цікавіцца, што адбываецца там, на Беларусі, нельга не перажываць за яе лёс, нельга не дапамагаць яе свабодзе і незалежнасьці. Трэба спрыяць Радзіме.

Беларуская моладзь, вядома, павінна вучыцца, мусіць атрымаць адукацыю, стаць на ногі. Гэта трэба, бо без адукацыі за мяжой мы будзем нічым. Але задумаемся, дзеля чаго мусіць быць вучоба, дзеля чаго „стаяньне на сваіх нагах"? Калі толькі дзеля сябе, дзеля дабрабыту, каб стаць потым гноем гісторыі для чужых, – то гэта нікчэмна.

Наша вялікая сьветлая ***Ларыса Геніюш*** у Гулагу, дзяўбучы вечную мерзлату, пад вечным канвоем пісала тады: "Як жыць, дык жыць для Беларусі, а без яе – зусім ня жыць."

З гэтага ўсяго хацеў бы даць параду маладым беларусам, што апынуліся ў Амэрыцы ці Канадзе, і ўвогуле за мяжой – не марудзьце. Не адкладайце на заўтра думак пра Беларусь. Шукай-

це. Гуртуйцеся. Думаючы пра вялікае, не адмаўляйцеся рабіць малое, бо гэта шлях да вялікага, які будзе разгортвацца разам з вашым сталеньнем.

І што б ні было, што б ні сталася, нават страта, нават здрада, нават забор Бацькаўшчыны – не апускайма рук. Не апускайма галавы, не адмаўляймася ад барацьбы за вольную Беларусь. Бо толькі той, хто змагаецца, можа перамагчы. Змагаючыся разам, асягаем мэту.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*22 жніўня 2003. Нью-Ёрк*

*Надрукавана: („Беларус",– 2003, верасень, № 488)*

# БЫЛА, ЁСЬЦЬ І БУДЗЕ ВЕЧНА!

***(Вытрымкі з інтэрв'ю са Старшынёй Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Зянонам ПАЗЬНЯКОМ. Часткова надрукавана ў газэце „Наша Ніва", 3 кастрычніка 2003 г.)***

**С. Ёрш.** – Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ стала адмяжоўвацца ад іншых беларускіх апазыцыйных партыяў. Ці бачыце Вы сярод нацыянальных сілаў патэнцыйных саюзьнікаў КХП-БНФ?

**З. Пазьняк.** – Пасьля расколу Беларускага Народнага Фронту і стварэньня кіруемай „апазыцыі" (вось вам прыклад супрацоўніцтва „Эўропы" Ганса Віка і Расеі) усе так званыя „апазыцыйныя" партыі ўключыліся ў агульную маскоўска-лукашэнкаўскую палітыку інтэграцыі (дакладней – інкарпарацыі) Беларусі. Прытым, ня мае значэньня, усьведамляюць яны гэта, ці не ўсьведамляюць. Гэтак жа, як ня мае значэньня іхная антылукашэнкаўская фразэалёгія (бо справа ня ў Лукашэнку, Лукашэнка – выканаўца).

Такія „апазыцыйныя" асобы, скажам, як Лебедзько, Гайдукевіч, Статкевіч, бальшыня камуністаў і г.д. гэта якраз усьведамляюць і часта выказваюцца.

Вось, напрыклад, сьвежая сэнтэнцыя штатнага „апазыцыянера" М. Статкевіча для расейскага інфармацыйнага агенцтва „Новости", якую пераказала радыё „Свабода" 9 верасьня: „Стратэгічнае партнёрства з Расеяй адпавядае нацыянальным інтарэсам Беларусі"; „адзіная эканамічная прастора з Расеяй выгадная Беларусі"; „час для ўвядзеньня адзінай валюты можа быць незваротна страчаны".

Зьвярніце ўвагу таксама на мэтадычную выпрацаванасьць гэтай заявы: зьбіраюцца насадзіць расейскі рубель, а гавораць пра нібыта „адзіную валюту". Тым часам самы расейцы выказваюцца проста і па-лейтэнанцку, як Пуцін, без дыпаляматыі. Віцэ-міністар фінансаў Расеі А. Улюкаеў кажа: „Масква ня будзе ўцягвацца ў спрэчкі, калі і ў якой форме расейскі рубель будзе легалізаваны ў Беларусі, – галоўнае, каб рублёвы аншлюс Беларусі адбыўся. Толькі ў гэтым выпадку расейскі капітал зможа ўдзельнічаць у прыватызацыі беларускай транзітнай транспартнай інфраструктуры." *(„КоммерсантЪ", – 2003, 11 верасьня).*

Ёсьць і „апазыцыйная" рыторыка. Але яна правяраецца дзеяньнем. А дзеяньні такія, што за ўвесь час існаваньня кіруемай апазыцыі (пачынаючы з 1999 г.) ёй не было дасягнута нічога, ніякіх (нават малых) палітычных посьпехаў. Затое ўсё было сапсавана, разбурана і правалена. (Вулічныя змаганьні пераўтварылі ў правакацыі і завялі ў балота Бангалёр, выбары прэзыдэнта давялі да Ганчарыка і г.д.).

Тым часам (варта нагадаць) Народны Фронт падняў і праўду аб Чарнобылі, і Курапаты, і вярнуў незалежнасьць краіны, спыніў дзейнасьць КПСС і ВЛКСМ у Беларусі, вярнуў нацыянальныя сымвалы на дзяржаўны пасад і шмат што іншае, маючы ў камуністычна-балотным парляманце толькі 8 адсоткаў дэпутатаў Фронту, і не бяручы ні ў каго ніякіх чужых сродкаў.

Гэта сталася магчымым таму, што Фронт выяўляў Беларусь і беларускую нацыянальную ідэю, гэта значыць ідэю стварэньня і існаваньня Беларускай незалежнай дзяржавы. У гэтым ёсьць сіла і пэрспэктыва нацыянальнага Адраджэньня.

„Кіруемая апазыцыя" не валодае ніякай ідэяй і ня мае пэрспэктывы. Калі ўявіць, што расейцам пры дапамозе „апазыцыі" ўдасца забраць Беларусь, то гэтая апазыцыя будзе таксама ліквідаваная імі, разам з Лукашэнкам.

Альбо цяпер, напрыклад. Барацьбе Фронта супраць увядзеньня расейскіх грошай і падрыхтоўкі незаконнага рэфэрэндума супрацьпастаўлена чарговая „кааліцыя" з гэтых жа „апазыцыйных" партыяў, якія заклікаюць рыхтавацца … да будучых выбараў у „палату". І гэта робіцца не ад неразуменьня пагрозы, што навісла над Беларусяй. Бо зразумела, што калі Масква ўвядзе на Беларусь свае грошы і замацуе сваю палітыку праз рэфэрэндум аб „канстытуцыйным акце", ніякіх выбараў больш ня будзе. І „палата" стане непатрэбнай. Хутчэй за ўсё, што адразу ўвядуць становішча пераходнага пэрыяду да „адзінай саюзнай дзяржавы" і г.д., з усімі выходзячымі адсюль вынікамі, дзеяньнямі і рэпрэсіямі.

Трэба змагацца, каб не дапусьціць рэфэрэндуму і расейскіх грошай, падрыхтаваць нацыю да байкоту незаконнага рэфэрэндуму, калі яго нам навяжуць. „Кіруемая апазыцыя" (зразумелая рэч) адразу пачынае цягнуць людзей у бок да выбараў, што яшчэ за гарамі і якіх можа ня быць.

Вызвольны Рух (Фронт і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ) адмежаваўся ад гэтай „апазыцыі" і вікаўскай палітыкі яшчэ ў самым пачатку яе стварэньня, бо ***яна ёсьць структурнай часткай тэхналёгіі прамаскоўскага рэжыму на Беларусі.***

Наступнае. Аб „нацыянальных сілах", „саюзьніках" БНФ. Невядома, што тут падразумяваецца пад „нацыянальнымі сіламі", але калі мець на ўвазе ўсю беларускую нацыю, то найпершымі нашымі саюзьнікамі ёсьць тыя людзі, што стаяць (і будуць стаяць) на пазыцыях Акту 25 Сакавіка 1918 года. Тыя ж зь іх, што здольныя да змаганьня, дзейнасьці і барацьбы за гэтыя ідэалы, стануць у нашыя шэрагі.

**С. Ёрш.** – На сёньняшні дзень у Беларусі існуе т. зв. „пяцёрка" апазыцыйных партыяў, якая рыхтуецца выступіць на будучыя выбары ў палату прадстаўнікоў агульным сьпісам.

Як вы ацэньваеце гэтае аб’яднаньне і наступствы ўдзелу апазыцыйных сілаў у гэтых выбарах?

**З. Пазьняк.** – Я ўжо пра гэта сказаў. Магу толькі дадаць, што падстаўной „апазыцыі” адведзена вельмі абмежаваная і вузенькая роля: дэманстраваць з сябе „апазыцыю” (каб тармазіць рэальную нацыянальную барацьбу з расейскай палітычнай агрэсіяй у абарону незалежнасьці) і паказваць сваю слабасьць ды нікчэмнасьць (каб спараджаць апатыю і расчараваньне). Доступ да мэдыяў, дарога ў парлямант і ў саветы для гэтай „апазыцыі” не прадугледжаны і не дазволены.

Тут пабудаваная сьцяна, якую (хто сапраўды хоча змагацца) можна абыйсьці, паваліць ці пабурыць збоку, але ня ў лоб. „Кіруемую апазыцыю” увесь час (ізноў жа, як тую паршывую авечку) штурхаюць ісьці ў лоб – на выбары ды на рэфэрэндум, якія яна тут у прынцыпе ня можа выйграць, але сьцягне электарат і легітымізуе фальсіфікацыю.

Ізноў жа, паўтаруся, ня мае значэньня, сьведама гэта робіцца, ці нясьведама. Хоць (як паказваюць факты) – сьведама.

У канцы жніўня, напрыклад, функцыянеры „апазыцыі” едуць у Маскву „раіцца” з „правымі сіламі”. (Як быццам у Расеі ёсьць сілы, ці нават асобы, якія супраць інкарпарацыі Беларусі). Шавініст Нямцоў заверыў сваіх аднадумцаў зь Беларусі, што, маўляў, не сумнявайцеся, мы, правыя сілы Расеі, „Расея ў



(Фота з 1997 г.)

*19. На вуліцах Менска*

асобе прэзыдэнта Ўладзімера Пуціна, адказных расейскіх партыяў шчыра жадаем аб’яднаньня Расеі і Беларусі”, ды вось Лукашэнка круціцца і марудзіць („ничего не делает”), а таму трэба нам усім разам ціснуць Лукашэнку і змагацца за дэмакратыю ў Беларусі.

У гэты ж час ведамы расейскі вялікадзяржаўнік і старшыня Камітэта па міжнародных справах расейскай Думы Д. Рагозін гэтак супакоіў беларускіх калег па „дэмакратыі”: „Чакаецца глыбокая інтэграцыя двух дзяржаваў, якая ўключае ў сябе **агульную** грашовую адзінку, адзіную зьнешнюю палітыку і абарону. Пры гэтым Расея будзе паважаць некаторыя асобныя моманты захаваньня ідэнтычнасьці беларускага народа”.

– Як вы адносіцеся да такіх выказваньняў? – спыталі візітоўца А. Лебедзько.

– Калі гэтыя заявы ў межах карэктнасьці – гэта абсалютна прыймальна, – адказаў „апазыцыянер”. *(Сеціва, WWW. naviny. by)*

Калі Масква адкладзе свой плян з рэфэрэндумам у Беларусі на потым (што магчыма), то выбары ў „палату” адбудуцца. „Кіруемую апазыцыю” туды не прапусьцяць, бо месца ёй вызначана – падваротня. Эўропа будзе імкнуцца прызнаць новую „палату”.

**С. Ёрш.** – На мінулых выбарах у мясцовыя саветы, якія байкатаваліся КХП-БНФ, дэпутатамі сталі некалькі дзясяткаў дэмакратычных кандыдатаў. Ці лічыце Вы карысным і мэтаз-

годным, каб прадстаўнікі апазыцыі назапашвалі досьвед заканатворчай дзейнасьці, каб і ў ворганах улады апазыцыя мела „сваіх людзей”?

**З. Пазьняк.** – Тут я ўдакладню. У мясцовыя саветы „выбрана” 20 тысячаў дэпутатаў. Сярод іх прапусьцілі 15-20 маргінальных прадстаўнікоў ад „апазыцыі”. Ліміт мог быць і меншым. Гэта было пададзена як вялікая „палітычная перамога апазыцыі”.

Ну, вядома, выбары прызналі легітымнымі. Рэжым „дэмакратызуецца”.

Наступнае, пра „досьвед”. „Досьвед заканатворчай дзейнасьці” назапашваецца ў парляманце, а не ў мясцовых саветах. „Ворганы ўлады” фармуе палітычная сіла, якая выйграе выбары. „Свае людзі” ў саветах (відаць, пад „ворганамі ўлады” маюцца на ўвазе саветы) пажаданыя тады, калі выбары дэмакратычныя, справядлівыя і легітымныя. Ва ўсіх астатніх выпадках гэта вельмі сумніўная і спрэчная справа (хаця часам і магчымая, гледзячы на сытуацыю).

**С. Ёрш.** – Ці дапускаеце Вы магчымасьці адкрытага вайсковага ўмяшаньня Расеі ў справы Беларусі, ці будзе працягвацца „ціхая акупацыя”?

**З. Пазьняк.** – Адкрытае вайсковае ўмяшаньне Расеі цяпер малаверагоднае, бо ўсё падрыхтавана якраз да „ціхай акупацыі”, і яна рухаецца даволі пасьлядоўна.

Калі б беларусы былі здольныя на збройную барацьбу, то хапіла б роты, каб усё перамянілася, і ніякае вайсковае ўмяшаньне ўжо ня выратавала б Маскву.

**С. Ёрш.** – Наш нацыянальны рух (у адрозьненьне, напрыклад, ад краінаў Балтыі) дагэтуль ня даў палітычнай і прававой ацэнкі шматгадоваму панаваньню савецкай улады ў Беларусі. Як Вы лічыце, чаму так сталася і як увойдзе ў гісторыю пэрыяд існаваньня Рэспублікі Беларусь?

**З. Пазьняк.** – Наш нацыянальны рух даў палітычную і прававую ацэнку панаваньню расейскай савецкай улады на Беларусі. Гэта зрабіла Рада БНР і Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”.

Вынікі ацэнак нулявыя па той прычыне, што Савецкі Саюз разваліўся мірным шляхам. Калі б ён разваліўся гэтак, як Трэці Райх, у выніку вялікай (ды яшчэ сусьветнай) вайны, то суд (тыпу нюрнбэргскага) над рускім камунізмам і рускім вялікадзяржаўным мілітарызмам быў бы забясьпечаны і злачынцы былі б схопленыя.

Што датычыць „пэрыяду існаваньня”, то выглядае, што некаторыя пачалі ўжо заранёў хаваць Рэспубліку Беларусь. Але тых, хто сьпяшаецца, чакае расчараваньне. Беларусь была, ёсьць і будзе вечна!

*23 верасьня 2003 г.*

# БАРАЦЬБА З РЭЖЫМАМ ПРАЎНЫМІ МЭТАДАМІ

***(Мэмарандум)***

*22 траўня гэтага года* шэсьць грамадзянаў Беларусі (***Сяргей Папкоў, Кастусь Кашэль, Генадзь Пляшко, Алег Радзюк, Алесь Чахольскі, Уладзімер Юхо***), якія належаць да Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, падалі іскавыя заявы ў Вярхоўны Суд Беларусі аб парушэньні іхных чалавечых грамадзянскіх і канстытуцыйных правоў у выніку незаконнага падпісаньня А. Лукашэнкам 8 сьнежня 1999 года Дагавора аб стварэньні саюзнай дзяржавы з Расеяй.

Гэтым дагаворам груба парушаныя фундамэнтальныя артыкулы Канстытуцыі і чалавечыя правы грамадзянаў.

Адказчыкамі паісках грамадзянаў выступаюць А. Лукашэнка, які няпраўна займае пасаду прэзыдэнта Беларусі, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і Савет Рэспублікі, якія ратыфікавалі незаконную дамову.

Істцы патрабуюць прызнаць, што міжнародны дагавор аб стварэньні саюзнай дзяржавы (незаконна падпісаны 8.12.1999 г.) карэнным чынам зьмяняе ў горшы бок умовы жыцьця істцоў, уціскае і парушае іхныя чалавечыя і канстытуцыйныя правы, пагражае здароўю дзяцей.

Істцы патрабуюць прызнаць міжнародны дагавор аб стварэньні саюзнай дзяржавы (8.12.1999) несапраўдным, паколькі ён супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прыняты з парушэньнямі арт. **7**, **8** Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і арт. **3** і **16** Закона Рэспублікі Беларусь „Аб прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь”.

Істцы патрабуюць ад Вярхоўнага Суду ўстанавіць парушэньні і зьвярнуцца ў Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь з хадайніцтвам прызнаць, што арт. **1** міжнароднага дагавора аб стварэньні саюзнай дзяржавы (8.12.1999) па сваёй сутнасьці



***20. Сябры Койданаўскай Рады КХП-БНФ у Менску. 2003 г.***

не адпавядае палажэньням артыкула **1** Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Згодна закона, істцы маюць права зьвяртацца па пытаньнях парушэньня правоў чалавека, якія ўзьніклі ў выніку парушэньня Канстытуцыі краіны, у Вярхоўны Суд, бо толькі Вярхоўны Суд, разгледзеўшы іскі, мае права зьвярнуцца ў Канстытуцыйны Суд.

Аднак Вярхоўны Суд груба парушыў закон і накіраваў іск ў суд ніжэйшай інстанцыі (які ня мае паўнамоцтваў) з рэзалюцыяй: „для прыняцьця рашэньня аб узбуджэньні справы".

Суд ніжэйшай інстанцыі (у дадзеным выпадку суд Ленінскага раёна г. Менска) адмовіўся ўзбуджаць справу. Тое ж праштампавалі ўсе іншыя судовыя інстанцыі на касацыйныя скаргі істцоў.

На паўторны зварот у Вярхоўны Суд быў дадзены цалкам не абгрунтаваны законам і неадэкватны адказ.

Такім чынам Вярхоўны Суд парушыў закон, адмовіў грамадзянам ва ўзбуджэньні судовай справы па абароне сваіх чалавечых правоў.

Канстытуцыйны Суд таксама адмовіўся ініцыяваць узбуджэньне судовай справы на просьбу істцоў.

У выніку такой пазыцыі судоў грамадзяне зьвярнуліся з заявамі ў Парляманцкую асамблею АБСЭ і ў Камісію па правах чалавека ААН, дзе паставілі пытаньне абісках.

Рэжым Лукашэнкі прасякнуты зьверху да нізу спэцслужбамі чужой краіны, не пагрунтаваны на законах і праве. Этнацыд супраць беларусаў, ламаньне іхных чалавечых правоў, агрэсіўнае бясправе і беззаконьне ёсьць асноўная рыса рэжыму. Барацьба праз суды пачата, каб прымусіць афіцыйныя структуры зьвярнуцца да законных шляхоў, каб весьці зь імі размову на праўным узроўні.

Для падмацаваньня справядлівай пазыцыі створана ініцыятыўная група, якая зьбірае подпісы людзей аб далучэньні да заявы істцоў у якасьці трэціх асобаў. Ужо (на 1 жніўня) далучылася паўтары тысячы чалавек.

Зварот у суд выкліканы рэальнай пагрозай чарговага незаконнага рэфэрэндуму аб прыняцьці так званага „канстытуцыйнага акту", які адчыніў бы шлях да анэксіі нашай краіны Расеяй.

Незаконны рэфэрэндум па задуме арганізатараў пакліканы „легалізаваць" незаконны дагавор, шляхам зьменаў у Канстытуцыі. Гэта ёсьць форма палітычнай агрэсіі, падрыхтоўка інкарпарацыі Беларусі.

Мы інфармуем беларусаў ва ўсім сьвеце і міжнародную супольнасьць і спадзяёмся на салідарнасьць у нашым змаганьні за справядлівасьць, свабоду і гарантыі незалежнасьці Беларусі.

*1 жніўня 2003 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне"***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2003, №4 (50).*

# КАРОТКІЯ ЎСПАМІНЫ

Калі адыходзяць навечна духоўна блізкія людзі, заўсёды пачынаеш шкадаваць, што замала гаварыў, замала спатыкаўся. Немагчыма было мне зьмірыцца са сьмерцю майго прыяцеля і аднадумца Вячаслава Чарнавіла, вялікага ўкраінца, якога забілі гэтак падступна. І з горыччу думаеш, як шмат не сказаў, як шмат не спытаў... Але, калі разабрацца, то як яно было, гэтак і было. Бо ўсе мы жывём дзеля будучыні, а ня дзеля сьмерці. Таму і складваецца ўсё так, як складваецца.

Рэальна я гэта зразумеў 5-га чэрвеня, калі па тэлефоне апошні раз размаўляў з Васілём Уладзімеравічам Быкавым, перад самым яго ад'ездам у шпіталь у Бараўляны. Ён быў вельмі сумны, гаварыў пра сваё расчараваньне замежжам, пра цяжкі стан, пра безвыходнасьць, што існуе наўкола, пра тое, што яму дрэнна, і ён ад'яжджае… ў Бараўляны.

Бараўляны – гэта сымвал, які выклікае трывогу. Усе гэта ведаюць. Інтуітыўна я адчуў, што размаўляю апошні раз, і што Быкаў, відаць, гэта таксама ведае.

Я пачаў яго фальшыва падбадзёрваць і гаварыць банальнасьці. Быкаў уздыхаў, хмыкаў і сьціпла цярпеў, пакуль я ня змоўк. Гэтага маўчаньня мне хапіла, каб вярнуцца ў рэальнасьць. І я сказаў яму тое, што думаю і кажу заўсёды: «Што б ні было, Васіль Уладзімеравіч, і што б хто ні рабіў, я ведаю адно – жыве Беларусь і будзе жыць. Ніхто ўжо нас не пераможа, ніякая Расея і ніякая Эўропа. Наша будучыня з намі. Гэта станецца. Верце мне. Яна ўжо йдзе, толькі ніхто ня бачыць».

Голас Быкава пацяплеў, і я зразумеў, што ён заўсьміхаўся, і нават узрадаваўся. Ён заўсёды ўсьміхаўся і радаваўся, калі я яму такое казаў, лагодна адмаўляючы мой аптымізм. «Ну, дай жа Божа, як кажуць, дай жа Божа!», – паўтараў з таго боку прыхільны голас. Гэта найбольш мне запомнілася з апошняй размовы і гучыць у вушах.

* * *

Я пазнаёміўся з Быкавым у траўні 1988 года, калі спаткаўся зь ім і папрасіў напісаць прадмову да артыкула пра Курапаты. Гэта была бомба пад Савецкі саюз. Агітаваць Быкава не было патрэбы. Гэта выглядала б сьмешна. Тут павінен быў стацца выбар. Таму знаёмства было стрыманым і нешматслоўным.

Быкаў прачытаў артыкул і напісаў прадмову. Гэта была моцная падтрымка, бо разьвязала рукі рэдакцыі газэты, дала падпорку.

Памятаю востры момант у час арганізацыі *„Мартыралёгу Беларусі"* і *Аргкамітэту Народнага Фронту* 19 кастрычніка 1988 года ў *Чырвоным Касьцёле* ў Менску. Чыноўнік з ЦК КПБ, які апынуўся на ўстаноўчай канфэрэнцыі і які нечакана даведаўся, што тут будзе арганізаваны *Народны Фронт*, літаральна кідаўся на выступоўцаў, на мікрафон і не даваў гаварыць. Гэта цягнулася доўгі час.

Чыноўнік, вядома, ашалеў ад жаху і стараўся выслужыцца перад начальствам, як умеў. Але нам было зразумела, што ён хоча справакаваць, каб яго вывелі пад рукі і потым сімуляваць, што яго пабілі, выклікаць міліцыю і сарваць сход. Таму мы цярпелі, а заля аж віравала, патрабуючы яго выставіць.

Колькі я назіраў за Быкавым, ён нават у вельмі вострых дачыненьнях у час грамадзкіх сутыкненьняў, спрэчак, канфліктаў маўчаў, як камень. Пазыцыю ён меў, але ніколі не кідаўся зь ёй у пятушыны бой.

І тут, раптам, ня вытрымаў Быкаў. Ён устаў у гневе, хутка і рашуча. Выгляд яго быў пагрозьлівы (няўжо дасьць, – мільганула ў мяне бязглуздая думка). Быкаў рэзка крутнуў да сябе мікрафон з-пад роту цэкіста і сказаў тое, што трэба, у поўнай цішыні, якая сталася пры ягоным уставаньні.

Пасьля кароткага выступу Быкава цэкіст яшчэ лез, але неяк зьвяў і неўзабаве здаўся. Сход увайшоў у сваё нармальнае рэвалюцыйнае рэчышча.

* * *

На дзень нараджэньня 19 чэрвеня мы, франтаўцы, часта прыходзілі да Быкава на Танкавую вуліцу, дзе ён жыў. Успамінаецца ягонае сямідзесяцігоддзе ў сядзібе Фронта, паездка зь ім у Гомель разам з Рыгорам Барадуліным, дзе мы выступалі перад грамадзкасьцю.

Хаця ўвогуле мы вельмі шанавалі Быкава і сьцераглі яго ад цяжкасьцяў палітыкі, ад правакатараў, ад зьняваг, ад бязглуздых людзей. Мы ніколі не забываліся, што ён вялікі пісьменьнік. Мы берaглі ягоны аўтарытэт. Нам дастаткова было, што ён побач.

Потым, аднак, калі я апынуўся ў эміграцыі, аказалася, што ня ўсе так думалі. У 1999 годзе, калі каралі і секлі Фронт, усчалася кампанія за перацягваньне Быкава. Як і трэба было чакаць, Быкаў ад Фронта адышоў. Мае сябры папракалі, чаму я нічога не тлумачу Быкаву, чаму яму нічога не кажу. Паглядзі, маўляў, якая сумніўная публіка імкнецца да яго ў субяседнікі.

Але я не адказваў. Я разумеў, што тут, як з Курапатамі, агітацыя не патрэбная. Тут – маральны выбар. Пераконваць можна звычайных людзей. Быкаў – асоба.

У сакавіку 2000 года мы спаткаліся з Быкавым на Дзень Незалежнасьці ў Празе. Перад ад'ездам ён падышоў да мяне і ў прысутнасьці трэцяй асобы (прысутнічаў Сяргей Навумчык) рашуча і гучна сказаў: „Зянон Станіслававіч, я хачу, каб вы ведалі і ня мелі ніякіх няпэўных думак. Я цаню ўсё, што вы рабілі і робіце цяпер. Я вас падтрымліваў і буду падтрымліваць. Я бачу, што адбываецца. Ніколі нічога супраць вас ня будзе мной сказана. Я хачу, каб вы гэта ведалі".

Я, здаецца, нічога яму не адказаў, бо чакаў, што ён павінен быў высьветліць сваю пазыцыю, і я крыху разгубіўся.

У гэты момант я адчуваў у ім салдата, сілу прыкрыцьця. Вось нешта робіцца, і ўпоперак гучыць суцэльны крык, напад, псіхічная атака. Азірнешся – і за плячыма наводдаль – маўклівая постаць Быкава. Ён ёсьць. Ён узіраўся. Ён заўсёды недзе быў (нібы анёл-ахоўнік у гэтым сьвеце), каб падаць руку.

І вось яго няма. І з гэтым вельмі цяжка зьмірыцца.

*30 ліпеня 2003 г.*
*Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларус, – 2003, верасень, №488)*



***21. Зянон Пазьняк і Вячаслаў Чарнавіл. Кіеў, 1997 г.***



*22. Рэквіем. Васіль Быкаў на мітынгу ў Курапатах.*

# ЗАБАРАНІЛІ БЕЛАРУСКІ ГУМАНІТАРНЫ ЛІЦЭЙ У МЕНСКУ

Улада прамаскоўскага рэжыму, якая цягам апошніх гадоў усяляк старалася рознымі спосабамі зачыніць Беларускі Гуманітарны Ліцэй у Менску, адкінула ўсялякія „мэтады" і зачыніла ліцэй сваёй воляй. Адабралі сілай будынак, абгарадзілі падыходы да яго калючым дротам, накідалі пабітага шкла і ўвялі ў памяшканьні спэцыяльныя сілы міліцыі. Усё, як на вайне. (А гэта і ёсьць адмысловая ўнутраная вайна акупацыйнага рэжыму супраць Беларусі.)

Бацькі ліцэістаў стварылі бацькоўскі камітэт і разам з кіраўніцтвам ліцэю вырашылі, што трэба працягваць навучаньне ў нелегальных умовах. Спачатку заняткі адбываліся пад адкрытым небам, потым у Доме літаратара. Аднак умяшалася адміністрацыя Лукашэнкі і дзяцей адтуль прагналі.

Навучаньне працягваецца па розных памяшканьнях і кватэрах. Вучні пераходзяць зь лекцыі на лекцыю, зьмяняючы месца. Такі стаў быт беларускай школы пад акупацыйным рэжымам. Перасьлед і застрашэньні працягваюцца, але вучні і бацькі, большыня пэдагогаў стаяць цьвёрда на тым, каб у любых умовах працягваць беларускае навучаньне.

Справу, аднак, крыху псуе кіраўніцтва ліцэю сваім паказушным дэманстраваньнем перад камэрамі, мікрафонамі ды фразэалягічнымі заклінаньнямі. Выказваюцца закіды кіраўніцтву (найперш Ул. Коласу) аб безадказнасьці за лёс дзяцей, засьцярогі, каб самадзейнасьць ды палітыканства на дзецях не загубіла сур'ёзную справу.

Наколькі абгрунтаваныя такія закіды, трэба яшчэ аналізаваць. Паводзіны, аднак, вынікаюць з агульнай атмасфэры фронды (замест сур'ёзнага змаганьня), якая створана ў Менску пры дапамозе розных „дабрадзеяў" са спэцслужбаў, былой намэнклятуры ды былога вікаўскага АБСЭ.

Змаганьне і дзейнасьць Ліцэя трымаецца на бацьках, вучнях і пэдагогах. Павінна б было яшчэ абапірацца галоўным чынам на шырокае беларускае грамадзтва, бо вопыт паказвае, што як толькі ў беларускую справу (ці ў беларускую бяду) ўмешваецца замежжа і чужыя небеларускія грошы – ўсё пачынае бэсьціцца і псавацца.

Прыкладаў шмат, пачынаючы з дапамогі чарнобыльцам і канчаючы маладымі „грантасмокамі".

У цяперашнім сьвеце галоўнымі рэсурсамі зьяўляюцца ня толькі нафта і газ, але найперш інтэлект. Нэакаляніяльны глабалізатарскі Захад імкнецца скарыстаць гэты рэсурс задарма (ці за капейкі) у краінах, дзе адукаванаму інтэлекту няма нацыянальнага ўжытку. Таму пры пасіўнасьці беларускага грамадзтва абарона і нелегальнае існаваньне Беларускага Гуманітарнага Ліцэя – справа няпростая.

Беларусы, ачнуўшыся ад савецка-маскоўскай няволі і зноў трапіўшы пад расейскі палітычны прыгнёт, ня выпрацавалі




*23. Ліцэісты супраць закрыцьця Беларускага Ліцэя ў Менску. (Чэрвень 2003 г.)*

ў сабе яшчэ адпорнасьці на чужыя ўплывы, ідэі і грошы. Выпрацаваць гэта мусіць новае пакаленьне, якое непрыяцелі Беларусі хочуць якраз духоўна зьнішчыць.

Тым ня менш, беларуская моладзь супраціўляецца. Не абыдзецца, вядома, бяз стратаў. Але перамагчы можна толькі тады, калі змагаешся за перамогу. Задача ўсіх беларусаў падтрымаць Беларускі Гуманітарны Ліцэй, а разам – і ўсю беларускую школу, усё беларускае навучаньне.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2003, №5(51). Пад псэўд. Мар'ян Ванькевіч).*

# НАШЫЯ ДЗЯДЫ – ЗАЎСЁДЫ З НАМІ

…Вялікае для беларусаў сьвята – Дзяды. Дзень Памяці, час размоваў і сумоўя з продкамі. Нам ёсьць пра што пагаварыць. Нашы нявінна забітыя дзяды ёсьць цяпер наша духоўная сіла.

Ніхто ня можа зрабіць нам крыўды, не абмінуўшы магілаў нашых дзядоў. Таму ўсе непрыяцелі Беларусі стараюцца іх абыйсьці, ня ўспомніць, затаптаць, зьнішчыць, ці хоць бы забыць, сьцерці памяць пра генацыд. Бо ведаюць, здагадваюцца, што няма праўды ў тых, хто забіў і зьневажае пахаваньні забітых.

Вось яны цьвердзяць, блюзьнераць услых. Непатрэбна, маўляў, беларусам беларуская мова, і зачыняюць школы, і паляць падручнікі, і кажуць: „Глядзіце, беларусы маўчаць, яны ня хочуць сваёй мовы".

Але тады трэба сказаць гэтым нішчыцелям – хай яны спытаюць у тых, хто не маўчаў, хто быў разумным, працавітым і добрым, хто любіў мову і Беларусь і каго яны (іхнія папярэднікі) за гэта забілі.

Дзе яны? Яны тут. Ляжаць у Курапатах.

Тутака іх сотні тысячаў, а па Беларусі, па мерзлым Сібіру, па стэпах Казахстану, за Палярным Кругам – іх мільёны. Гэта мільёны беларускіх галасоў, што вечна гучаць за нашу Бацькаўшчыну, Мову і праўду.

У іх не пыталіся. Іх забілі, бо вядомы быў іхны адказ.

І тут, у гэтых магілах, таксама ёсьць наша сіла.

Так збудаванае жыцьцё, што той, хто забівае, хто праводзіць вынішчэньне і генацыд, – той ніколі не дасягае праўды. Праўда застаецца не ў забойцаў, а ў тых, каго забілі. І гэтая ***праўда расстраляных мільёнаў беларусаў ёсьць нашай агульнай праўдай, перададзенай нам у спадчыну***.

Гэта ёсьць наш пакутніцкі незьнішчальны капітал нашай несьмяротнай ідэйнай сілы. ***І ніякае пытаньне беларускага лёсу ня можа быць вырашана без уліку гэтай сілы, без мільёнаў галасоў Беларускай праўды, за якія заплочана жыцьцямі.***

Вось хай гэтыя нашчадкі забойцаў падымуць з магілаў мільёны забітых імі беларусаў і спытаюць у іх, ці хочуць яны вольнай Беларусі, ці хочуць яны беларушчыны (ці, можа, расейшчыны)? Бо мы, хто абараняе іхныя магілы ад нашчадкаў забойцаў, ведаем, за што забівалі наш народ. Забітыя – з намі. І мы ўлічваем іхную волю.

Гэта той аспэкт сьмерці, пра які ведаюць усе духоўна разьвітыя народы, але – не разумеюць бязбожнікі і забойцы. Лёсы народаў важацца ня толькі на Зямлі, але й на Небе; і Курапаты вельмі паказна адчыняюць заслону гэтай глыбокай і павучальнай ісьціны.


(Фота Ул.. Шляпака)

***24. Перад Крыжам Пакуты ў Курапатах.***

Трэба шанаваць дзядоў.

Кожная забітая душа мусіць мець свой Крыж над супольнай магілай, свой знак нашай памяці. І крыжы гэтыя, рукатворныя, трэба прынесьці на руках, бо гэта – ахвяра. Толькі тады будзе вечна вырастаць Народны Мэмарыял і вечна існаваць у гісторыі Беларусі. Народны Мэмарыял расстраляных у Курапатах – гэта ёсьць абавязак жывых.

Калі хто думае, што прымацаваўшы сваю таблічку на крыж, пастаўлены іншымі людзьмі, гэтым самым ён ужо склаў сваю ахвяру, – той глыбока памыляецца. Такі чалавек дэманструе сваю няшчырасьць і ляноту. Дзяды не пачуюць яго. Бо нельга быць няшчырым з памерлымі.

Ёсьць аднак людзі, якія па розных прычынах ня маюць магчымасьці і ня ў стане самы зрабіць крыжовую ахвяру. Тады трэба, каб ім дапамаглі іншыя. І тут патрэбна нашая Беларуская салідарнасьць, нашыя агульныя фонды і зборы на Сьвятую справу Памяці Курапатаў.

Мы павінны памятаць таксама, што з Курапатаў пачаўся Беларускі Народны Фронт і новае беларускае Адраджэньне. Таму ворагі беларушчыны і нашчадкі НКВД ня спыняцца ў сваёй агрэсіі супраць Курапатаў, пакуль будзе існаваць іхняя ўлада ў нашай краіне. Мы мусім быць гатовымі ўвесь час абараняць магілы продкаў.

Мы павінны несьці па ўсёй Беларусі зьвесткі пра Курапаты, пра існаваньне Народнага Мэмарыялу, пра ягонае значэньне для лёсу краіны. Беларусы павінны пра Курапаты ведаць, падтрымліваць нашу мэмарыяльную памяць, абараняць яе ад зламысьнікаў і дапамагаць сабе.

Хай жа заўсёды гараць тут агні нашай памяці. Хай нішто і ніхто ня будзе ніколі забыты. Хай гучыць наш духоўны гімн і наша сьвятая Беларуская мова. Хай вечна жыве Беларусь!

*2 лістапада 2003 г., Варшава-Менск*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларус, – 2003, № 490 (лістапад)*

# АДКЛЮЧЭНЬНЕ АД РАЗЕТКІ

14-га і 15-га жніўня, калі была адключана падача электраэнэргіі на ўсходнім узьбярэжжы Амэрыкі, я якраз быў выехаўшы ў Нью-Ёрк, хадзіў па вуліцах Брукліна і Манхэтана.

Нікога, на жаль, не цікавілі лёсы людзей і сытуацыя ў абясточаным збамбаваным Бялградзе ці ў Багдадзе, але да Амэрыкі – павышаная ўвага. На мой погляд, гэта тлумачыцца падсьведамай цікаўнасьцю ў сьвеце да ведаў пра моц амэрыканскай сістэмы ў надзвычайных абставінах.

Мой вывад вельмі несуцяшальны. Амэрыканская жыцьцёвая сістэма надзвычай далікатная і ў гэтым сэнсе слабая, бадай што, як ніякая іншая. Гэта тлумачыцца двума чыньнікамі: высокай тэхналягічнасьцю амэрыканскай жыцьцёвай сістэмы, завязанай амаль выключна на электраэнэргію, і другое – непрыстасаванасьцю амэрыканцаў да іншых жыцьцёвых варункаў.

Ня трэба і атамнай вайны. Ніякі атамны выбух, нават два, нават дзесяць ня зьнішчаць Амэрыку. Тым часам адключэньне краіны ад электраэнэргіі на два-тры тыдні можа поўнасьцю разбурыць яе. Стане ўсё, нават аўтамабілі.

Калі разважаць бяз прыкладаў, то ўсё гэта здаецца тэарытычнымі меркаваньнямі, сутнасьць якіх чалавек ня ўмее ці ня рупіцца ўявіць у рэальнасьці.

15-га жніўня Манхэтан, дзе ўжо паўсюдна была падключана электраэнэргія, выглядаў, тым ня менш, як напаўмёртвы горад. Мала аўтамабіляў, бруд на вуліцах, зачыненыя крамы і ўстановы, няма сьветавой рэклямы. Рабункаў не было, але я адчуў напружанасьць у парадзелым натоўпе. Людзі, нібы сочаць адзін за другім, касавурацца на мой фотаапарат, поўна падазроных тыпаў, шмат паліцыі вакол аўтобуснага і чыгуначнага вакзалаў, Галоўнай пошты і ўстановаў.

І амэрыканскае, і эўрапейскае, і ўвогуле заходняе грамадзтва ёсьць, на маю думку, сур'ёзна хворае. Дыягназ: рэгрэс духу. Такому грамадзтву цяжка перажываць грамадзкія катастрофы. Але ў адрозьненьне ад Эўропы (якая сёлета афіцыйна адмовілася ад хрысьціянства і хрысьціянскай спадчыны культуры), больш прымітыўнае грамадзтва Амэрыкі мае больша запас трываласьці.

Я гэта адчуваў даўно, але не сьпяшаўся фармуляваць. Падзеі 11-га верасьня і 14-га жніўня ў Нью-Ёрку ўмацавалі мяне ў гэтай думцы.

Трываласьць амэрыканскага грамадзтва палягае на сьляпой веры амэрыканцаў у моц, справядлівасьць і найлепшасьць Амэрыкі. Таму яны давяраюць уладзе, гатовыя падпарадкоўвацца і супрацоўнічаць зь ёй. Яны лічаць, што гэта іхняя ўлада і іхняя краіна. Такая мэнтальнасьць спрыяе грамад-

скай салідарнасьці, ахвярнасьці і ініцыятыве. Амэрыканскае грамадзтва, не зважаючы на сваю матэрыялістычнасьць, абмежаванасьць, сацыяльную і этнічную рознасьць, здольнае, тым ня менш, хутка скансалідавацца на абарону Амэрыкі і самых сябе. На гэтым і палягае спэцыфічны амэрыканскі патрыятызм.

14-га жніўня радыё заклікала амэрыканцаў захоўваць спакой, дапамагаць паліцыі і адзін аднаму, асабліва інвалідам, людзям нямоглым і бездапаможным.

Яны гэтак і рабілі. Я праехаў і прайшоў дзясяткі перакрыжаваньняў у Брукліне. Практычна, на ўсіх стаялі дабраахвотнікі і рэгулявалі рух машын (бо сьветлафоры ня дзейнічалі і аварыі былі гарантаваныя). Гэтых дабраахвотнікаў ніхто не арганізоўваў. Гэта бруклінцы, простыя амэрыканцы, што ішлі па тратуары. Кожны мог зыйсьці, стаць на перакрыжаваньне і рэгуляваць рух, дапамагаць людзям за кіраўніцай. Так і было.

Шмат дзе амэрыканцы-гандляры, уладальнікі прадуктовых крамаў, выносілі прадукты з адключаных халадзільнікаў (сьвежае мяса і інш.) і раздавалі тым, хто меў патрэбу ў ядзе, хто браў. Не спадзяваліся, што можа хутка ўключыцца ток, а дапамагалі іншым.

А ці ведаюць тым часам нашы браты-беларусы, што кожны дзень лекцыі ў амэрыканскай школе пачынаюцца з сьпяваньня амэрыканскага гімну? Вучні сьпяваюць стоячы, паклаўшы руку на сэрца. Кожны амэрыканец ведае і сьпявае амэрыканскі гімн.

Нашым гімнам ***„Магутны Божа"*** заканчваецца богаслужба ў беларускіх цэрквах у вольным сьвеце. Але й тут далёка ня ўсе вернікі яго сьпяваюць, бо ня ўсе ведаюць. А на гэтых жа зьнешне простых зьявах палягае моц, патрыятызм і кансалідацыя людзей.

І тут нам, беларусам, трэба б было найбольш павучыцца ў амэрыканцаў.

*17 жніўня 2003 г., Нью-Ёрк.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус",– 2003, верасень, №488).*

# МЭТАДЫ АНТЫБЕЛАРУСКАЙ ШКОДЫ

## РАК

Нейкі Міхаіл Майсеевіч з Галяндыі прысылае праз Сеціва ліст на старонку Менскага гарвыканкама, дзе прапануе зьмяніць назву станцыі мэтро „Ракаўская" (названую паводле гістарычнага Ракаўскага Прадмесьця і старадаўняй вуліцы Ракаўскай). Рэзыдэнт з Галяндыі абгрунтаваў неабходнасьць зьмены назвы станцыі, бо слова „Ракаўская" асацыюецца яму тамака са словам „рак".

Ну, рак, дык рак. Ёсьць „пісацелі", якія пішуць у інстанцыі, што ў іх цяпло з батарэяў цэнтральнага ацяпленьня суседзі крадуць.

Аднак, як кажуць у такіх выпадках расейцы, – „не тут та была". Менскія ўлады імгненна адрэагавалі на „прапанову" тыпуса з-за мяжы і зьмясьцілі ў Сеціве паведамленьне: „Дадзена даручэньне аб зьмене назвы станцыі мэтро „Ракаўская". У тэрмін да 20-га траўня гэтая станцыя атрымае назву „Спартыўная". (Выглядае такім чынам, што паведамленьне „тыпуса з Галяндыі" прышло з суседняга пакою гарвыканкама.)

Спадар Пятроў (адказны за афіцыйную старонку менскай улады) паведаміў пры гэтым, што ўсё надта добра, паведамленьне ён зьмясьціў, выконваючы распараджэньне першага намесьніка старшыні Менгарвыканкама сп. Ярохава, бо ўжо прынятае рашэньне выканкаму пра перайменаваньне станцыі.

Вось гэтак. „А гаварат власьць нічэво не дзелает." У Менгарвыканкаме ўжо ляжыць заява аб перайменаваньні станцыі мэтро „Магілёўская" (бо ў аснове – слова „магіла". На чарзе вераб'і, сарокі, вароны, Дразды (бо дразды), Курасоўшчына (бо сава з курыцай), Шабаны, Баранавічы і г.д.

## МАЁР ІВАНОЎ

У Віцебску да пікету Народнага Фронту падышоў маёр міліцыі Іваноў разам зь нейкім у цывільным. „У цывільным" тут жа заяўляе Маёру Іванову, што арганізатар пікету, вядомы змагарны дзеяч у Віцебску ***Ўладзімер Плешчанка***, толькі што напаў на яго і, стоячы ў пікеце, нанёс цялесныя пашкоджаньні. Пікетоўцы тлумачаць, што тыпа „ў цывільным" бачаць упершыню.

„Прайдзёмця", – кажа тады мёр Іваноў. Спадара *Плешчанку* садзяць у міліцэйскую машыну і вязуць у пастарунак. Там, не зважаючы на сьведкаў, складаюць пратакол на *Плешчанку* аб хуліганстве і перадаюць у суд.

Кажуць, што заказвалі згвалтаваньне і эксгібіцыянізм, але нешта не атрымалася. Не знайшлі, відаць, супрацоўніцы. Кадравая праблема.

## „МОВАТУРА"

Акупацыйная рэформа школы крочыць сямімільнымі крокамі. Заваяваныя новыя рубяжы. На цяперашні час ужо зачыненыя, практычна, ўсе беларускія школы і перарабленыя на расейскія. У мінулым годзе вырашылі праблему з перанагружанасьцю выкладаньня беларускай мовы ў новастворaных расейскіх школах. Два разы на тыдзень – гэта было занадта. Зь мінулага году ва ўсіх ужо расейскіх школах у Беларусі беларуская мова выкладаецца раз на тыдзень.

Зразумела, што гэта не вырашэньне праблемы і нельга спыняцца на дасягнутым. Сёлета Міністэрства адукацыі ў Беларусі мяркуе рацыяналізаваць навучальны працэс, радыкальна зьменшыць колькасьць прадметаў і ліквідаваць перанагрузку вучняў. Свае прапановы Міністэрства адукацыі ў Беларусі выклала ў „Тыповым вучэбным пляне базавай агульнаадукацыйнай школы", які надрукаваны ў часопісе „Весьнік адукацыі". Прапануецца ліквідаваць беларускую мову і беларускую літаратуру як самастойныя прадметы базавай агульнаадукацыйнай школы і замест іх увесьці адзін прадмет: беларуская мова і літаратура.

Некалі апошнія саветы дадумаліся, што беларуская мова правакуе ангіну і кепска ўплывае на здароўе „рабёнка", а таму вывучаць яе ў школах „непатрэбна і шкодна". Але вось да „мо-

ватуры” не дарасьлі, не „датумкалі”. Ведама, бальшавікі, тэрарысты, дураччо: камунізм ім падавай, ды „обшчэчэлавечэскі”.

Цяпер усё перамянілася. Рускі шавінізм абтросься ад камунізму і стаў дэмакратычным шавінізмам. А гэта зусім іншая справа, спадары.

## „НЕБЕЛАРУСЬ” І „НЕНАРОДНАЯ”

У 1996 годзе, адразу пасьля лістападаўскага перавароту, выканаўчая ўлада дыктатуры забараніла ў афіцыйных назвах арганізацыяў ды ўстановаў ужываць слова Беларусь. І адразу пачаліся патрабаваньні да Беларускага Народнага Фронту дапасаваць назву арганізацыі „згодна з заканадаўствам”. Але не атрымалася ў „юрыстаў”. Нумар не прайшоў. Дрэнна разьбіраліся ў граматыцы і… „ашыбачка вышла”.

Неўзабаве рашылі паправіць „заканадаўства” і забаранілі слова „народны”. Стала нібыта лепш. Але ўсяроўна – ня тое. Ня той каленкор, як, напрыклад, у 1840-м. Шахнуць бы, як тады. А тут і прэзыдэнтаў разьвялося (фірмы ды акадэміі). Забаранілі і „прэзыдэнтаў” (акрамя аднаго). І ўсяроўна – ня тое. „Ня тое, браткі”, – як казаў Тарас Бульба. Забараніць бы ўсё – ды ў морду ўсіх, у морду.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2003, №3 (49). Пад псэўданімам Адам МІКША).*


(Фота У. Кармілкіна)

***25. АМАП 1997 г. Менск.***

# БЕЛАРУСЬ – ПЕРШ ЗА ЎСЁ!

***(Зацемкі да 15-й гадавіны БНФ)***

У гісторыі Беларусі ХХ-га стагоддзя было шмат вызначальных падзеяў, якія ўплывалі на лёсы людзей і лёс нацыі. Гэта і Першая Сусьветная вайна, і канец самадзяржаўя ў Расеі, расейская і польская акупацыі і падзел Беларусі, бальшавіцкая калектывізацыя, сталінскі генацыд, Другая Сусьветная вайна, пабудова камунізму, савецкая русіфікацыя і г.д.

Але ўсё гэта – падзеі чужой волі, інсьпіраваныя звонку. Гэта гісторыя нашага існаваньня, нашага зьнішчэньня і выжываньня, але ня нашага разьвіцьця. ***Разьвіцьцё нацыі выяўляецца знутры і ёсьць вынік іманэнтнага разгортваньня нацыянальнай волі, якая рэалізуецца ў ідэях, падзеях і справах. І гэта ёсьць нацыянальная гісторыя, якая ўплывае на народнае жыцьцё і становіцца каштоўнасьцю нацыі.*** Так ёсьць. Такі ёсьць нацыянальны інтэрас. І таму нацыянальная гісторыя пазбаўляецца ад чужога: ад чужых помнікаў і сэнтэнцыяў, акупацыйных танкаў на пастамэнтах, назоваў ды ідалаў. Бо ***збочанасьць і чужародны гістарычны хлам ня мусяць уплываць на будучыню нашчадкаў.*** Ніхто ня вешае ў хаце партрэт гвалтаўніка (хоць падабізна ягоная патрэбная ў крымінальнай справе).

Неабходна ўсьвядоміць, што дзьве генэральныя падзеі ў ХХ-м стагоддзі вызначылі гістарычную і жыцьцёвую будучыню Беларусі. Гэта аб’яўленьне аб стварэньні *Беларускай Народнай Рэспубліцы* і аб’яўленьне незалежнасьці Беларусі ў яе этнічнадзяржаўных межах у 1918 годзе, і другое – стварэньне *Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”* і вяртаньне незалежнасьці Беларусі 25 жніўня 1991 года. Гэта этапы, якімі мераецца нацыянальная гісторыя.

* * *

Беларускі Народны Фронт паставіў задачы: ліквідаваць уладу КПСС-КПБ і вярнуць незалежнасьць Беларусі. Гэтыя задачы былі выкананыя.

Ніякія „агульныя працэсы” распаду СССР нічога б не дапамаглі, калі б ня наша сіла і ня наша праца. Мы самы былі часткай агульнага змаганьня народаў з бальшавіцкай імпэрыяй і сваім прыкладам і барацьбой (Курапаты, Чарнобыль) уздымалі іхны дух.

КГБ і акупацыйныя ўлады ў БССР былі перакананыя, што Беларусь ужо імі цалкам зьнішчаная і ніколі не падымецца. Камуністычнае кіраўніцтва заверыла Маскву, што Народнага Фронту ў Беларусі ня будзе, бо, маўляў, ў прынцыпе ня можа быць. Савецкае грамадзтва і савецкая інтэлігенцыя думалі тут, у асноўным, гэтаксама.




***26. Паседжаньне Сойму БНФ у аўдыторыі Бел. Дзярж. Унівэрсітэта ў Менску. 1991 г. На пярэднім плане Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў. У другім радзе Вячаслаў Сіўчык, Артур Вольскі. У трэцім – Сьвятлана Захарэвіч, Аляксей Фралоў.***

Удар па сьпячым балоце быў нанесены адкрыцьцём *Курапатаў*. Курапаты разварушылі сьведамасьць і пачуцьці беларусаў. Пачала ўзьнікаць сытуацыя, зручная для стварэньня Народнага Фронту. 19-га чэрвеня, праз два тыдні пасьля публікацыі ў газэце *„Літаратура і мастацтва"* зьвестак пра пахаваньні ахвяраў масавых расстрэлаў, адбыўся шматтысячны мітынг у Курапатах, дзе ўжо гаварылася пра патрэбу стварэньня Народнага Фронту, пра суд над злачынцамі, пра пакараньне за генацыд. Ідэю горача падтрымалі беларускія маладзёвыя суполкі і арганізацыі. Моладзь стала шыць беларускія *Бел-Чырвона-Белыя сьцягі*, дыскутаваць пра мінулае і будучыню краіны. Ідэя беларускай незалежнасьці прабіваецца на паверхню.

Камуністычныя ўлады, КГБ адчувалі гэты пульс. Прымаецца шэраг прэвентыўных і рэпрэсіўных захадаў. Нават (як потым высьветлілася) у ЦК КПБ самы камуністы плянавалі стварыць свой „народны фронт", каб скампрамэтаваць ідэю і павесьці яе ў сьляпы завулак. Аднак яны спазьніліся і прайгралі першую бітву поўнасьцю і бяздарна.

19-га кастрычніка 1988 года на Ўстаноўчай канфэрэнцыі *Мартыралёгу Беларусі* нечакана для КГБ, КПБ і ўсёй намэнклятуры, у прысутнасьці ўсяго зьбянтэжанага менскага „начальства", вышэйшых кіраўнікоў і прадстаўнікоў Пракуратуры БССР, прадстаўнікоў ЦК КПБ, Гаркама і Гарвыканкама, якія прышлі „валіць" арганізацыю Мартыралёга, быў створаны цалкам дэмакратычна і законна Арганізацыйны Камітэт Беларускага Народнага Фронту ў складзе 35-ці асобаў.

Лямант, які ўзьняўся потым у савецкіх газэтах, быў узорным і, відаць, увойдзе ў гісторыю лямантаў.

30-га кастрычніка, праз два тыдні, пасьля стварэньня Аргкамітэту БНФ, ЦК КПБ рашыў адыграцца на франтаўцах.

Ладзіліся першыя масавыя *„Дзяды"* ў Менску на Ўсходніх могілках і ў Курапатах. Улады перакрылі рух транспарту, мабілізавалі ўнутраныя войскі і тысячы міліцыянтаў, сьцягнулі веанныя вадзяныя гарматы, дзясяткі міліцэйскіх аўтамабіляў і вялікіх вайсковых фургонаў з закратаванымі вокнамі. У натоўпе шнырылі сотні правакатараў і пераапранутых гэбістаў. Людзей хапалі на вуліцах і цягнулі ў міліцэйскія машыны, пырскалі ў вочы газам „Чаромха".

Атмасфэра была змрочная і трывожная. Ніхто тады гэтага не чакаў. Адчувалася, што нешта рыхтуюць злавеснае (так яно потым і аказалася). Мы ўсе (тысячаў дзесяць людзей) апынуліся ў пастцы. Але й тут правакацыя правалілася. Сваімі дзеяньнямі мы заблыталі пляны „генэралаў партыі". Праўда, тады шмат людзей арыштавалі, пабілі і патравілі газам. Але гэтым самым рэжым скампрамэтаваў сябе ў вачах творчай і навуковай інтэлігенцыі і людзей, што сталі сьведкамі падзеяў.

Пасьля 30-га кастрычніка пачаўся масавы прыход у Народны Фронт.

Пра сапраўдную сутнасьць задуманага на Дзяды я даведаўся праз год, калі адзін з высокіх афіцэраў міліцыі перадаў у Фронт плян дзеяньняў, рэкагнасцыроўкі і задачы міліцыі ў той дзень. Вынікае, што людзей зьбіраліся сьпіхнуць на пустэчу, у стары сад, і там пабіць. Прытым – на сьмерць, праліць кроў. „Даць,

каб ня ўсталі”, – як выказаўся тады Яфрэм Сакалоў (першы сакратар ЦК КПБ). Ахвяры былі б зваленыя на „фашыстаў з БНФ”. Пасьля гэтага – рэпрэсіі. Думалі скампрамэтаваць і задушыць усё, расправіцца з Фронтам, адчытацца перад Масквой і атрымаць мэдалі. І гэта не ўдалося.

У 1986 годзе такога роду пабоішча савецкі КГБ і міліцыя ўчынілі ў Алма-Аты. Там забілі больш ста асобаў (у асноўным студэнтаў). Потым, 9-га красавіка 1989 г., савецкая армія і ўнутраныя войскі ўчынілі сечу ў Тбілісі, пусьцілі на людзей танкі. Забілі больш пятнаццаці асобаў (секлі сапёрнымі рыдлёўкамі). Так рухалася „перестройка” і здабывалася свабода народаў.

* * *

У 1989 г. найбольшым дасягненьнем Фронта стала адкрыцьцё праўды пра Чарнобыльскую катастрофу. Фронт стаў як бы магутнай ударнай сілай у гэтым пытаньні, вакол яго аб’ядналіся намаганьні і навукоўцаў, і творчай інтэлігенцыі, і медыкаў, і пацярпелых ад радыяцыі. Камуністы атрымалі ўдар, ня меншы, чым ад Курапатаў.

Фронт праводзіў ня толькі Чарнобыльскія мітынгі пратэсту, дэманстрацыі, шэсьці (Чарнобыльскі Шлях), канфэрэнцыі, распаўсюджваў друк, інфармацыю і сьведчаньні радыяцыйнага злачынства, але ствараў таксама свае чарнобыльскія арганізацыі, склікаў Міжнародны Чарнобыльскі Трыбунал (1989 год, грамадзкі суд над вінаватымі ў Чарнобыльскім генацыдзе). У весну гэтага ж года, напрыклад, быў арганізаваны фронтаўскі Камітэт „Дзеці Чарнобыля”, які спачатку ўзначаліў Мікола Купава, а потым кіраўніцтва пераняў Генадзь Грушавы (пазьней, у 1990 годзе, Камітэт аддзяліўся ад БНФ у самастойную арганізацыю). Пытаньне пра абарону людзей ад чарнобыльскай радыяцыі было пастаўлена намі ў Вярхоўным Савеце і замацавана ў заканадаўстве.

23-24 чэрвеня 1989 г. У Вільні адбыўся Першы (Устаноўчы) Зьезд БНФ. Ідэі *Фронта* разгортваліся па меры высьпяваньня сітуацыі ў грамадстве і ў самым *Фронце*. Ідэалёгія *Фронта* (які аб’яднаў дэмакратычную і нацыянальна-сьведамую частку людзей) ішла далёка наперадзе грамадства. Працаваў тыповы паскораны мэханізм разьвіцьця, і гэта было выдатна. ***Фронт быў ня толькі таранам савецкіх бар’ераў, але і лякаматывам, прыкладам для перайманьня, узорам для нармальнага несавецкага думаньня.*** Вялікая частка грамадства такім чынам паступова засвойвала нацыянальна-дэмакратычныя ідэі, кансэрватыўныя і адраджэнскія каштоўнасьці (нават праз першапачатковае адмаўленьне, але калі іх потым дэманстравала беларуская і сусьветная рэчаіснасьць). Гэтая схема (ідэйнага і палітычнага лякаматыва) спрацавала б гэтак жа добра, як і ў краінах Балтыі, пры двух умовах: шырокай і пастаяннай інфармацыі пра *Фронт* і хаця б умеркаваным спрыяньні дзяржаўнай палітыкі (нечыненьні перашкодаў) справе беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня. Дарэчы, 1991-1992 гады – пэрыяд паслабленьня расейскага імпэрыялізму і памяркоўных адносінаў да беларускіх патрэбаў з боку намэнклятуры – гэта пацьвярджаюць. Але неабходных умоваў не існавала і ў цэлым здабыць іх, ня маючы улады, было нялёгка. Пазьней устанаўленьне прамаскоўскага аўтарытарнага рэжыму стварыла фатальныя абставіны для беларускай культуры.

Сытуацыя ў Беларусі прынцыпова розьнілася ад становішча ў Прыбалтыцы. У адрозьненьне ад балтыйскіх савецкіх рэспублік, кіруючая кампартыя Беларусі была антынацыянальная (г.зн. антыбеларуская). Гэта была яе першасная якасьць і першасная нязьменная характарыстыка. Такая палітычная сіла ***ў прынцыпе не магла быць чыньнікам незалежнасьці і нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва*** (як, скажам, у Эстоніі, Латвіі, Летуве, Польшчы і іншых краінах). Яна ўвогуле не ўпісвалася ў нацыянальны кантэкст, бо служыла чужародным целам.

Лягічны і бадай што адзіны варыянт спыніць антынацыянальную палітыку – адхіліць верхавіну партыйнай намэнклятуры ад улады. На гэтай задачы канцэнтраваліся асноўныя дзеяньні *Фронта ў* барацьбе за адраджэньне краіны і дэмакратычны лад у Беларусі.

Зразумела, што, пры адхіленьні прарасейскай намэнклятуры ад улады, Расея страціла б усялякі ўплыў на Беларусь. Тады спэцслужбы савецкага КГБ, абапіраючыся на сваю савецкую „пятую калёну” і бальшавіцка-ветэранскі „бэтон”, распачалі шалёную штодзённую і мэтадычную атаку на *Фронт* з мэтай стварэньня вобраза страшнага бязьлітаснага ворага, які „рвецца” да ўлады, каб помсьціць, расстрэльваць, забіваць камуністаў і ўсіх нязгодных. Мэта гэтай прапаганды была перш за ўсё у тым, каб запалохаць намэнклятуру, прымусіць яе згуртавацца і ня ў чым не саступаць *Фронту*. Дасягнуць выніку ў тых умовах цалкавітага панаваньня старой адміністрацыі над уладай і інфармацыяй было няцяжка, і гэта, безумоўна, скансалідавала намэнклятуру.

* * *

У жніўні 1989г. у *Фронце* было пастаўлена пытаньне аб суверэнітэце Беларусі і аб дамаганьні незалежнасьці краіны. Савецкае грамадства Беларусі яшчэ з цяжкасьцю арыентавалася ў працэсах і было слаба падрыхтаванае да абмеркаваньня праблемы беларускай незалежнасьці. Але сама пастаноўка пытаньня была гэтакай падрыхтоўкай. Пытаньне ўзьнялі – і пачалося змаганьне за суверэнітэт.

Пра злачыннасьць КПСС, пра яе немінучы крах і распад Савецкага саюза, які, на нашу думку, мусіў адбыцца праз два гады, намі было заяўлена ў лістападзе 1989 года ў адкрытым эфіры беларускага тэлебачаньня. (Аналіз аказаўся дакладным.) Шалёны камуністычны лямант, які тады ўсчаўся, нікога ў Фронце ўжо не палохаў. Трэба было бамбардаваць сьпячыя беларускія савецкія мазгі, каб яны хоць функцыянальна пачалі б працаваць, бо часу на „усьведамленьне пакаленьняў” ужо не было, а падзеі не чакалі; яны ішлі сваёй дарогай, часта незалежна ад нас. Беларусь у чакаемым развале не павінна была апынуцца бездапаможнай і несамастойнай, каб, як у 1918-1921 гг., нехта гандляваў нашай зямлёй і народам. Гэтак думаючы, мы змагаліся.

* * *

З ідэямі незалежнасьці, антыкамунізму і праўды пра Чарнобыль *Фронт* уступіў у 1990 год. З гэтай пары пачынаецца новы, парляманцкі этап у дзейнасьці *БНФ*. Камуністы не змаглі поўнасьцю заблякаваць удзел *Фронту* ў выбарах, нягледзячы на вельмі дрэнны для антыкамуністычных сілаў выбарчы закон, на неабмежаваную ўладу і татальны ўплыў на выбары з боку КПСС--КПБ. Невялікая колькасьць фронтаўцаў прайшла ў Вярхоўны Савет. Там была ўтвораная фронтаўская фракцыя ***(„Апазыцыя БНФ „Адраджэньне”),*** якая складалася зь няпоўных трох дзясяткаў чалавек (8 адсоткаў ад агульнай колькасьці дэпутатаў). Фракцыя арганізавала вакол сябе яшчэ



(Фотаархіў, кінакадр)

*27. Спатканьні на плошчы перад Вярхоўным Саветам. 1990-1991 гг. У кадры: Зянон Пазьняк, Уладзімер Станкевіч (у цэнтры), Сяргей Навумчык.*

мастацтва было і ў тым, каб праект трапіў на разгляд Сэсіі Вярхоўнага Савета як праект парляманцкай камісіі.

У час прыняцьця *Дэклярацыі* поўная ініцыятыва была ў руках *Апазыцыі*. 26-га ліпеня да канца дня было прадыскутавана і прагаласавана 10 артыкулаў з 12-ці. Усе яны, практычна, на 90 адсоткаў былі прынятыя ў фронтаўскіх фармулёўках зь невялікімі зьмяненьнямі. У камуністычным бэтоне пачалася лёгкая рэвалюцыйная паніка. Нам стала зразумела, што назаўтра ня ўдасца адстаяць сваю фармулёўку вельмі важнага для нас 11-га артыкула і, што самае страшнае, можа ўзьнікнуць праблема пры галасаваньні за *Дэклярацыю* ў цэлым. Яе могуць заваліць. (Маглі ўзьнікнуць прапановы аб рэвізіі ўжо прынятага і г.д. Такое ўжо бывала.)

Разумеючы гэта, намі было прынятае „псіхалягічнае” рашэньне (якім потым *Апазыцыя* ня раз карысталася і выйгравала). Назаўтра, 27 ліпеня, вырашылі стаяць

„Дэпутацкі Дэмакратычны Клюб” (каля 40-50 асобаў; колькасьць вагалася), узаемадзейнічала таксама з „незалежнымі” дэпутатамі.

Дзейнасьць *Апазыцыі БНФ* у камуністычным Вярхоўным Савеце (травень 1990 – 9 студзеня 1996) можна ахарактарызаваць як унікальную зьяву ў гісторыі парлямантарызму. Унікальнасьць яе заключалася ў тым, што, знаходзячыся ў камуністычным парляманце, у непрымірымым варожым асяроддзі, маючы 8 адсоткаў галасоў, фракцыя (асабліва ў першыя тры гады дзейнасьці) здолела ня толькі праводзіць у жыцьцё свае законы і палажэньні ў законы, але і ўплываць на рашэньні парляманту па некаторых лёсавызначальных пытаньнях народа і дзяржавы і шмат калі дамагалася перамогі сваіх прапаноў. З пункту гледжаньня элементарнай парляманцкай лёгікі і арыфметыкі – гэта фантастыка. Такога не магло быць. І тым ня менш – гэта рэчаіснасьць. Так было.

Вырашала справу наша інтэлектуальная перавага, падрыхтаванасьць, пастаянны і няспынны энэргічны напор і (што я лічу вельмі істотным) – веданьне камуністычнай псіхалёгіі намэнклятуры, ужываньне незразумелай для камуністаў тактыкі.

У 1990 годзе ў парляманце *Фронтам* пастаўлены тры важнейшыя пытаньні: *аб Чарнобылі, аб рынкавых рэформах і эканамічнай канцэпцыі разьвіцьця* і *аб суверэнітэце Беларусі.*

Выдатнай перамогай *Апазыцыі БНФ* было прыняцьце ***Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі***. Дырэктыва аб такім дакуманце была спушчана з Масквы і ня мела сур’ёзнай мэты. Гарбачоў бавіўся ў свае гульні. Было відаць, што ў Вярхоўным Савеце БССР камуністы рашылі адбыць павіннасьць пустой паперкай. *Апазыцыя БНФ* прадставіла свой тэкст Дэклярацыі, падрыхтаваны *Фронтам* на падставе прынцыпаў, ідэалаў і дакумантаў *БНР*. Праект *Фронта* камуністы дружна завалілі. Тады амаль уся фракцыя *Фронта* пайшла ў парляманцкую камісію працаваць над праектам парляманцкай большасьці (такое магчыма было ў Вярхоўным Савеце БССР) і, стварыўшы там перавагу, колькасную і інтэлектуальную, давяла праект да патрэбнага ўзроўню. Сваё

бескампрамісна на сваёй фармулёўцы 11-га артыкула. Калі яна ня будзе прынятая, а пройдзе камуністычная (пра распрацоўку дагавора аб „саюзе”), тады зрабіць дэмарш: выявіць нязгоду і ў знак пратэсту пакінуць залю перад галасаваньнем, каб узбудзіць камуністаў супраць нас.

Мы ўжо ведалі, што калі камуністы ўпадаюць у „рэвалюцыйную сьвядомасьць” і перастаюць думаць галавой, яны зьвярэюць і чыняць усё наадварот таму, што прапануюць дэпутаты *Фронта*.

Тут была, вядома, рызыка, бо калі б яны не ўзбудзіліся, не зрэагавалі на дэмарш і прагаласавалі б супраць *Дэклярацыі* альбо пачалі б рэвізію прынятага (як шмат хто зь іх быў настроены), то і праца б загінула, і віну за правал звалілі б на нас, а сябры па Апазыцыі – на мяне, бо я настаяў на выхадзе з залі (ведаючы характар намэнклятурных дэпутатаў і адчуваючы сытуацыю).

Але камуністы якраз зрэагавалі, і вельмі бурна. „Галасуем! – крычалі энтузіясты. – Вот ано, ісьціннае ліцо БНФ! Ані проців саюза. *(Нам жа залежыла на ўсёй Дэклярацыі – З.П.)* Ім ліш бы бузіць! Галасуем!”

Камуністы праглынулі сваю ж нажыўку з „саюзам” (пустую хімеру, дарэчы) і дружна прагаласавалі за Дэклярацыю, упэўненыя, што далі нам аплявуху (і адстаялі „саюз”).

Гэта была наша перамога. Перамога невялікай групы фронтаўцаў над камуністычным Вярхоўным Саветам.

Нэгатыўным тут было, бадай, толькі тое, што шмат хто з павярхоўных назіральнікаў (як і раней) не разумеў нашых дзеяньняў, выказвалі нават экзатычныя інтэрпрэтацыі. Але тут ня наша праблема. Вынік (неверагодны ў тых абставінах) быў дасягнуты.

Сябры фракцыі *Фронту* заўсёды трымаліся палітычнай дысцыпліны (мы чулі, як нават камуністы нам у гэтым зайздросьцілі). Ніхто з нас ня лез без патрэбы ў тэлекамэры ды мікрафоны (як пазьнейшыя імітатары) і не распавядаў пра свае дзеяньні ды нашы пляны. Мелі адказнасьць і ведалі, што палітыка робіцца не на сцэне, а за сцэнай. На сцэне яна толькі разыгрываецца.




***28. 24 жніўня 1991 г. Пачатак гістарычнай Сэсіі Незалежнасьці ў Вярхоўным Савеце. Каля Сьцяга стаяць: Валянцін Голубеў, Зянон Пазьняк, Вольга Галубовіч.***

* * *

Пасьля прыняцьця *Дэклярацыі* і перамогі над бальшынёй *Апазыцыя БНФ* ўзялася за заканатворчую працу. На 2-ю (восеньскую) сэсію Вярхоўнага Савета за два месяцы ўпартай працы быў падрыхтаваны і прадстаўлены пакет з ***25-ці*** заканадаўчых праектаў. Сярод іх праекты законаў *„Аб грамадзянстве”, „Аб уласнасьці”, „Аб банках і банкаўскай дзейнасьці”, „Аб мясцовым самакіраваньні”, „Зямельны кодэкс”, „Дэкрэт аб уладзе”*, пастановы *„Аб ваенных пытаньнях”, „Аб першапачатковых захадах па рэалізацыі Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце”, „Аб стварэньні камісіі па пытаньнях абароны і дзяржаўнай бясьпекі”, „Аб асноўных задачах і парадку дзейнасьці камісіі Вярхоўнага Савета па пытаньнях абароны”, ”Аб паясным часе”, „Аб ахвярах палітычных рэпрэсіяў”, „Аб назве рэспублікі”, „Аб дэнансацыі саюзнага дагавору”, „Эканамічная канцэпцыя разьвіцьця Беларусі”.*

Камуністы, настроеныя на бязьдзейнасьць, былі ашаломленыя такой працай і напачатку (парушыўшы закон) адмовіліся разглядаць нашыя праекты. Тады *42 дэпутаты Апазыцыі БНФ* і *Дэмакратычнага Клюбу* выступілі з заявай, дзе папярэдзілі, што калі пакет законапраектаў *БНФ* ня будзе прыняты да разгляду, то яны ня бачаць сэнсу ўвогуле прымаць удзел у працы такога „непрафэсійнага” парляманту. Камуністы сагнуліся і вымушаныя былі самы пачаць працаваць. Яны прадставілі свае контрпраекты, паралельныя фронтаўскім; абодва праекты (фронтаўскі і намэнклятурны) абмяркоўваліся. Камуністы сваёй большасьцю галасоў завальвалі праекты Апазыцыі і пакідалі свае. Але ў працэсе абмеркаваньня і дыскусіі (дзе камуністы былі слабыя) шмат якія палажэньні дакумантаў БНФ былі ўключаныя ў законы. Скажам, „Закон аб грамадзянстве” быў увогуле прыняты на аснове праекта БНФ (у часткова папсаваным выглядзе, вядома).

Істотна аднак тое, што Вярхоўны Савет напачатку (першыя тры гады) вымушаны быў працаваць па сцэнару Апазыцыі БНФ. Фронтаўскую „эканамічную канцэпцыю разьвіцьця Беларусі” яны, напрыклад, адкінулі, але змушаныя былі падрыхтаваць свой праект на гэтую тэму, абмяркоўваць рынкавыя падыходы, прыватызацыю, рэформы і г.д. Урэшце праект быў прыняты. (Праўда, гэты дакумант быў потым праігнараваны ўрадам Кебіча.)

* * *

Кульмінацыя змаганьня з камуністамі за дэмакратыю і незалежнасьць Беларусі настала ў жніўні 1991г. пасьля правалу камуністычнага путчу ў Маскве. Гэта была, бадай, самая яркая, самая незвычайная і самая гераічная старонка ў гісторыі парляманцкай *Апазыцыі БНФ*.

Фронтаўскія дэпутаты дамагліся хуткага скліканьня сэсіі Вярхоўнага Савета і на працягу сутак падрыхтавалі чатырнаццаць заканадаўчых дакумантаў на сэсію, дзе былі адлюстраваныя пытаньні аб спыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС, аб выбарах новага старшыні Вярхоўнага Савета, аб незалежнасьці Беларусі, аб праекце новага (падрыхтаванага Фронтам) закона аб выбарах і аб прызначэньні новых выбараў у парлямант. Камуністы і ўся

парляманцкая большасьць зьявіліся на сэсію перастрашаныя, прыгнечаныя, бездапаможныя і – з пустымі рукамі.

Фронтаўскія дэпутаты ўвайшлі ў залю, нясучы *Бел-Чырвона-Белы сьцяг.*

(Тут я павінен зрабіць дэгрэсію, каб патлумачыць чарговы міф, выпушчаны агентурай, што быццам бы Лукашэнка ўнёс у залю на адкрыцьцё сэсіі *Бел-Чырвона-Белы сьцяг.* Гэтая „міфалёгія" прыдумваецца знарок і зразумела, дзеля чаго.

Сьцяг у залю спачатку несла Галіна Сямдзянава, перад уваходам яго пераняў Валянцін Голубеў, адразу занёс яго ў Прэзыдыюм сэсіі і паставіў побач са сьцягам бээсэсэраўскім.

Намэнклятура тут жа пачала дыскусію пра сьцяг (маўляў, павінен ён там стаяць, ці не). Мы імгненна зразумелі сваю памылку, бо далі магчымасьць супернікам адыйсьці ўбок ад тэмы і ад нашага сцэнару. Па нашай задуме, мы павінны былі арганізаваць націск з ходу, і першы крок – зьняцьцё М. Дземенцея з пасады старшыні Вярхоўнага Савета. Не даваць ім апамятацца, загнаць у рэчышча нашых ініцыятываў.

Мы хутка прынялі сьцяг з Прэзыдыюма, паставілі яго ў нашым сэктары і – заатакавалі. Праз паўгадзіны М. Дзямянцей быў зьняты з пасады.

Назаўтра, 25 жніўня, быў эпізод, калі дэпутат-касманаўт У. Кавалёнак (ужо ўверыўшы да гэтага часу ў нашу перамогу і падагрэты каньяком) вышаў у адным з перапынкаў на плошчу, дзе стаялі тысячы людзей, выступіў там, узяў у кагосьці з фронтаўцаў сьцяг і (па дарозе разам з І. Драбышэўскай і А. Лукашэнкам) увайшоў са сьцягам у залю.

Гэты эпізод атрымаў нядаўна новую абсурдную інтэрпрэтацыю, гэтаксама, як некалі той „адзіны голас" супраць Белавежскіх пагадненьняў (гэта быў, як вядома, голас В. Ціхіні, а не А. Лукашэнкі).

* * *

У першы дзень сэсіі, 24 жніўня, пад энэргічным напорам і забойнай аргумэнтацыяй дэпутатаў Фронта і дэпутацкага Дэмакратычнага Клюбу была прынятая пастанова аб спыненьні дзейнасьці КПСС-КПБ і камсамола. Адразу па ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле дэпутатаў Фронту былі зачыненыя і заплямбаваныя камуністычныя райкамы, абкам, гаркам і ЦК. Дзіўна было назіраць, як дэмаралізаваныя дэпутаты-камуністы, якія яшчэ два дні таму былі самаўпэўненыя, нахабныя і агрэсіўныя, цяпер галасавалі за забарону дзейнасьці сваёй партыі па прапанове дэпутатаў БНФ.

25-га жніўня, калі намі было пастаўлена пытаньне аб незалежнасьці (аб прызнаньні Дэклярацыі пра суверэнітэт Канстытуцыйным законам), сітуацыя ў зале пачала крыху зьмяняцца. Камуністы ўжо не сядзелі моўчкі, як на пахаваньні ці ў судзе, апусьціўшы галовы. Яны крыху асвоіліся (пераначавалі ноч), размаўлялі між сабой, у некаторых зьявілася здольнасьць думаць. Атмасфэра (як я адчуваў) была даволі трывожная. У мяне не ўзьнікала ўпэўненасьці, што мы набяром неабходныя дзьве траціны галасоў. Што рабіць? З адплывам часу мы паступова трацілі магчымасьці. У камуністаў павольна мінаў страх. Парлямант жа ня наш. Нас толькі восем адсоткаў. Іх – маса. Я адчуваў скурай, што можам прайграць.

С. Шушкевіч пачынае ставіць пытаньне на галасаваньне. У апошнюю секунду я папрасіў апошняе слова. Пра што казаць – было зразумела. Я ўрэзаў па Ельцыну, зьвяртаючыся да камуністаў, каб галасавалі за незалежнасьць. Сэнс майго выступу быў у тым, што ня трэба спадзявацца больш на Савецкі Саюз, бо кіраваць будзе не Гарбачоў, а Ельцын, які гэтакі ж дэмакрат, як і камуніст, што ягоны „антыкамунізм" ходзіць у пары з шавінізмам, што калі палітыкай Беларусі будзе зноў кіраваць Расея і такія людзі, як Ельцын, то прайграе ўся Беларусь, усе беларусы: і камуністы, і антыкамуністы. Незалежнасьць цяпер патрэбна ўсім. Гэта ёсьць наш нацыянальны інтэрас і жыцьцёвая неабходнасьць.

Гаварыць было лёгка, бо я так думаў, і гэта была праўда (незразуметая яшчэ тады дэмакратамі). Але Ельцын у тыя жнівеньскія дні быў „сьветазарным героем", сьвятой каровай, „сьцягам дэмакратыі", недатыкальным і беззаганным. Рушыць яго было нельга. Аднак камуністы якраз Ельцына й баяліся. Нам патрэбныя былі іхныя галасы. Дэмакраты ж усяроўна прагаласуюць „за", як бы яны (па неразуменьню) потым да мяне ні адносіліся. (Дарэчы, крытыканы без галавы, сапраўды, знайшліся.)

Тактыка спрацавала. Тут жа выступіў гомельскі намэнклятурны лідар камуніст Мачуленка і заклікаў „товарищей депутатов прислушаться к словам Зенона Станиславовича".

За незалежнасьць прагаласавалі пераважнай большасьцю галасоў.

Не ўдалося, аднак, прыняць рашэньне аб палітычна неабходных у гэтым выпадку нечарговых выбарах парляманту. Тут „товарищи коммунисты", якія толькі што здалі сваю КПСС, апусьцілі галовы ўніз і сядзелі насьмерць. Ну, вядома, КПСС ужо хімера, а парлямант – улада.

Патрэбнага мэханізму ўзьдзеяньня на іх ужо не было. Пад сьценамі Вярхоўнага Савета стаяла тысячаў пятнаццаць-дваццаць узрушаных ад добрых вестак, усхваляваных, узрадаваных, але не гатовых да радыкальных дзеяньняў людзей. Гэта замала, каб „посоветоваться с народом" (і, пры неабходнасьці, разагнаць ў пер'е гэты „парлямант"). Беларусам трэба сабрацца ў тысячаў 90-100. Тады яны адчуваюць сваю сілу.

Народны Фронт дамогся незалежнасьці краіны і спыніў існаваньне КПСС у Беларусі. Але каляніяльная намэнклятура захавала ўладу.

Так скончыўся першы этап змаганьня за свабоду і незалежнасьць Беларусі – барацьба з дыктатурай КПСС.

* * *

Са жніўня 1991г. Фронт ставіць новыя палітычныя задачы. Першая – умацаваньне суверэнітэту і структурнае будаўніцтва незалежнай дзяржавы. Другая – нацыянальна-культурнае адраджэньне беларускай нацыі. Трэцяя, ад якой залежыла эфектыўнасьць ажыцьцяўленьня дзьвюх першых задачаў, – адабраньне ўлады ў намэнклятуры шляхам дэмакратычных выбараў па зьмешанай мажарытарна-прапарцыйнай сістэме.

Найбольшым дасягненьнем Фронту ў гэты час і найбольшай падзеяй, якая духоўна паўплывала на ўсё беларускае грамадзтва, было прыняцьце беларускай гістарычнай нацыянальнай сымволікі (*Бел-Чырвона-Белага сьцяга* і *гэрба „Пагоня")* у якасьці дзяржаўнай сымволікі Беларусі. Адначасна вырашаліся пытаньні з нацыянальным войскам, зь межамі, мытнай службай, стварэньнем амбасадаў за мяжой, адчыняліся беларускія клясы і школы, рыхтаваліся беларускія падручнікі і кнігі. Мэханізм стварэньня незалежнай беларускай дзяржавы пачаў працаваць, хоць і буксаваў, аднак, на кожным кроку.

Пытаньне аб новай уладзе ў новай незалежнай дзяржаве станавілася ўсё больш надзённым. Стары Вярхоўны Савет адмовіўся яго вырашаць. Тады Фронт выбраў акружны шлях,

вельмі цяжкі, працаёмкі і даволі рызыкоўны, бо прававая аснова ў дзяржаве была хісткай. Але вынікова змагацца можна было толькі прававымі спосабамі.

Апазыцыя БНФ стварае праект закона „Аб рэфэрэндуме". Утварылася стандартная сытуацыя: парляманцкая намэнклятурная бальшыня напісала і супрацьпаставіла паралельны праект. Апазыцыйны праект галасаваньнем адкінулі, а намэнклятурны (з папраўкамі і з палажэньнямі Апазыцыі) прынялі.

Адразу ж (у канцы 1991г.) Фронт аб'явіў аб зборы подпісаў за рэфэрэндум аб новых выбарах. Праз два месяцы было сабрана 420 тысячаў подпісаў (па закону неабходна было 300 тысячаў). Подпісы прыняла і зацьвердзіла Камісія па рэфэрэндумах, што па закону абазначала рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндума. Вярхоўны Савет, згодна закону, павінен быў прызначыць дату ўсенароднага галасаваньня.

Шэсьць месяцаў Вярхоўны Савет не зьбіраў сэсію, адмаўляўся прызначаць дату рэфэрэндума і разглядаць гэтае пытаньне. Вельмі шмат тут залежыла ад С. Шушкевіча. Нашыя перамовы зь ім нічога не далі. Хісткае спадзяваньне на С. Шушкевіча ня спраўдзілася. Шушкевіч стаў на бок намэнклятуры, заняў пазыцыю супраць рэфэрэндума, у паразуменьні з прэм'ерам В.Кебічам, усім урадам і Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савета.

У кастрычніку 1992 года адбылася беспрэцэдэнтная расправа бальшыні Вярхоўнага Савета над законнасьцю і воляй людзей. Рэфэрэндум быў забаронены. Спрацавалі ня толькі палітычныя, але і псіхалягічныя чыньнікі. Скарысталі дэпутата Д. Булахава, які ў дарожным выпадку забіў чалавека. Каб пазьбегнуць суду, ён выканаў функцыю фальшывага экспэрта аб падрыхтоўцы рэфэрэндуму (яму прапанавалі камуністы) і выступіў на сэсіі з адмоўным дакладам супраць ініцыятывы Апазыцыі БНФ і дзейнасьці Камісіі па рэфэрэндумах.

Выявілася таксама, што ніхто, акрамя дэпутатаў Народнага Фронту, не хацеў разьвітацца з дэпутацтвам у старым Вярхоўным Савеце (бо меркавалі, што паўторна іх ня выбяруць). Камуністы, ветэраны, маргіналы, незалежныя дэпутаты і ўсе дэмакраты з Дэмакратычнага Клюбу галасавалі за растаптаньне законнасьці і за незаконную забарону рэфэрэндума. Дэпутаты ад БНФ засталіся адны са сваімі паўмільёна подпісамі і сваім народам. Народ маўчаў.

Гэта вельмі сімптаматычная зьява. Вырашаўся лёс улады і будучыні Беларусі. І аказалася, што і Шушкевічу, і ўсім гэтым «дэмакратам» (часовым спадарожнікам БНФ) гэты лёс Беларусі, як заўсёды, мала абходзіў. Ім, аказваецца, падабалася быць дэпутатамі, свой (нават маленькі) інтэрас быў бліжэйшы, чым які бы там ня быў лёс Беларусі. Пасьля гнюснага выступу Д. Булахава і грубых крымінальных «разборак» з законам з боку дэпутатаў-камуністаў «дэмакраты» моўчкі, хаваючы вочы, галасавалі разам з камуністамі за забарону рэфэрэндума, галасавалі супраць законнасьці і супраць нас, фактычна, супраць сябе. Цяпер можна абсалютна пэўна і дакладна сказаць: вольная дэмакратычная нацыянальная будучыня Беларусі была перакрэслена ў той дзень, 29 кастрычніка1992 года. Намэнклятура ўмацавалася. Далейшая барацьба зь ёй была вельмі цяжкай.

* * *

У 1992 г. Беларусь страціла свой рэдкі шанс, здабыты вялікай працай. Гэты год стаў паваротным для перамогі старой намэнклятуры і савецкага КГБ.

З гэтага часу, напачатку непрыкметна, а потым усё больш відавочна, Беларусь стала падаць у яму. Пачаўся наступ унутранай рэакцыі і, што самае кепскае, рэакцыі зьнешняй – рускага імпэрыялізму.

Напалоханая падрыхтоўкай да рэфэрэндуму аб уладзе беларуская намэнклятура прывычна кінулася да Масквы. Кебіч уводзіць функцыянэраў савецкага КГБ у структуры беларускага ўраду, спрыяе стварэньню і фінансаваньню арганізацыяў антыбеларускай 5-й калёны, будуе эканамічныя дачыненьні краіны з арыентацыяй на фінансава-прамысловыя групы і нафтавую мафію Расеі, падтрымлівае і прапагандуе маскоўскую палітыку аб стварэньні адзінай беларуска-расейскай грашовай сістэмы, так званай „калектыўнай бясьпекі" і расейска-беларускай дзяржаўнай „інтэграцыі". Над беларускай незалежнасьцю навісла рэальная пагроза, а рабаваньне народа, дзяржавы, карупцыя набылі адкрытыя і цынічныя формы. (Тут нагадаю, што ў 1993 г. Кебіч, якім ужо поўнасьцю маніпуляваў КГБ, праводзіў дакладна такую ж палітыку, што потым Лукашэнка, з той толькі розьніцай, што не імкнуўся засесьці ў Крамлі.)

Намэнклятурная бальшыня Вярхоўнага Савета падтрымала гэтую палітыку Кебіча і пачала рыхтаваць увядзеньне прэзыдэнцтва з мэтай, якая была відавочнай: канцэнтрацыя і ўмацаваньне сваёй улады.

У гэтай сытуацыі Беларускі Народны Фронт выступіў супраць увядзеньня прэзыдэнцтва і паставіў перад сабой выразную палітычную задачу – адстаўка ўрада Кебіча.

У Вярхоўным Савеце, пасьля структурнага аб'яднаньня „намэнклятурных" дэпутатаў вакол ураду Кебіча, Апазыцыі БНФ стала працаваць вельмі цяжка. Пачалася блакіроўка ўсяго, што зыходзіла ад Фронту. Тады галоўны цяжар палітычнае працы быў перанесены намі ў выбарчыя акругі. Дэпутаты Апазыцыі БНФ разам зь іншымі сябрамі Фронту аб'ехалі ўсю Беларусь, сотні гарадоў і мястэчак, мінаючы шалёныя перашкоды з боку ўладаў, сустрэліся з тысячамі людзей, пазнаёмілі іх з сваімі поглядамі, працай і крытыкай ураду. Да пачатку 1994г. лёс прэм'ера Кебіча (як палітыка) у грамадзкай сьвядомасьці практычна ўжо быў вырашаны.

Шмат паспрыяла гэтаму таксама незалежная газэта *„Свабода"*. Варта нагадаць, што галоўны рэдактар яе Ігар Гермянчук быў сябрам Сойму Беларускага Народнага Фронту і дэпутатам Вярхоўнага Савета ў Апазыцыі БНФ.

На выбарах Кебіч трапляў бы ў кепскі стан. Вялікая колькасьць людзей савецкай сьвядомасьці (на якіх ён спадзяваўся) за яго б ужо не галасавала, а аддала б галасы за альтэрнатыву (абы не за Кебіча). Альтэрнатывай быў страшнаваты для савецкага чалавека Народны Фронт. І тым ня менш выбар шмат каму з „савецкіх" прышлося б рабіць не ў карысьць Кебіча. Галасавалі б за БНФ.

Але сытуацыя зьмянілася, калі зьявіўся новы, невядомы раней кандыдат на прэзыдэнта, які крытыкаваў Кебіча з пазыцыяў савецкага чалавека і адлюстроўваў савецкія каштоўнасьці. Гэта тое, што патрэбна было савецкаму электарату, які меў большасьць у Беларусі.

Сталася відавочна, што за савецкім кандыдатам рэальна стаяць КГБ і Масква, што з Кебічам вядзецца толькі гуляньне, што ён ужо кончаны, што яго выкарыстоўваюць толькі, як сякеру супраць БНФ. Устаноўка Масквы, КГБ і кебічаўскай намэнклятуры была вядомая: „зрабіць усё, каб не прайшоў БНФ".

Чарговай перамогі пад Воршай не адбылося. Фальсіфікацыі прайшлі незаўважна (у другі тур рэальна выйшаў кандыдат ад БНФ, а ня Кебіч, але гэта было скасавана пры падліку). Урэш-

це рэшт савецкі выбар вырашыў справу. На Беларусь вярнуўся ўчарашні дзень.

* * *

На гэтым я прыпыню свой гістарычны экскурс у дзейнасьць і справы Беларускага Народнага Фронту, бо зь ліпеня 1994 года пачалася тая палітычная рэальнасьць, у якой мы сёньня жывём. Гэта яшчэ не гісторыя. Тут рэчаіснасьць, дзе адбываецца палітычнае змаганьне. Але гэта тэма іншага артыкула.

Зраблю, аднак, некалькі кароткіх высноваў, якія пацьвердзіла наша гісторыя.

Без грунтоўнай нацыянальнальнай асьветы грамадзтва (і найперш – грамадзкай эліты) немагчыма будзе выйграць барацьбу супраць імпэрскай Расеі за незалежнае існаваньне Беларусі. ***Пэрыяд нацыянальнага асьветніцтва ёсьць абавязковая ўмова перамогі нацыянальнай ідэі і стварэньня незалежнай дзяржавы.***

Беларускі Народны Фронт – гэта быў толькі нацыянальны авангард, які пасьпеў адрадзіцца ў 80-х і з ходу кінуўся ў бой, з шабляй нагола. Бо нельга было страціць час і змарнаваць момант.

Перамога ўражвае нават нас самых, але за пялчыма БНФ яшчэ не мабілізавалася моцнае войска, не салідарызавалася грамадзтва. Не хапала моцнай апоры, а ўлада засталася чужой.

Мы не маглі, скажам, раўняцца з Эстоніяй, дзе існавала і нацыянальная салідарнасьць (выхаваная 22-мя гадамі незалежнасьці), і нацыянальная школа, і нацыянальная камуністычная бюракратыя, і ўсюды ўжывалася эстонская мова. У нас усё гэта было ў большасьці вытаптана, расстраляна і зьнішчана, перасьледвалася, мела марнае існаваньне.

Тут зазначу другое палажэньне, якое для беларусаў ёсьць бясспрэчнай умовай перамогі над Расеяй у справе абароны нацыянальнай свабоды і дзяржаўнай незалежнасьці. Гэта – паўсюднае сцьверджаньне, ужываньне і абарона беларускай мовы. Для беларусаў гэта пытаньне нумар адзін. Калі яно ня будзе рэалізаванае, аб незалежнасьці ад Расеі, аб сваёй дзяржаўнасьці, і ўвогуле – аб нацыянальным існаваньні – можна забыцца. (Дарэчы, Масква і ейны рэжым у Беларусі цяпер гэта добра разумеюць і б'юць напавал.)

І ня трэба слухаць розныя псэўдаразважаньні пра „беларускую нацыю на рускай мове", пра Ірляндыю, Індыю, Швайцарыю ці французкую Афрыку. Усе гэтыя прыклады (акрамя свайго, беларускага) крайне некарэктныя і проста не разумныя. Перш чым нешта такое чуць, лепш пазнаёміцца хоць бы з гісторыяй барацьбы Ірляндыі за незалежнасьць (якая, дарэчы, працягваецца), а заадно і з геаграфіяй.

Беларуская нацыянальная сьведамасьць абапіраецца не на рэлігію, не на веру, не на канфэсію, не на расу ці колер скуры, ці востраў у акіяне, не на дынастыю, не на Махабхарату і не на Божае выбраньне, а на ***Беларускую мову і Беларускую гісторыю***. Гэта асэнсавана і сфармулявана ўжо беларускімі адраджэнцамі ў XIX і пачатку XX-га стагоддзя, і цалкам пацьверджана нашай нацыянальнай гісторыяй змаганьня на два бакі, з Усходам і Захадам.

Трэба гэта ўсьвядоміць. Нельга, каб сто гадоў кожнае пакаленьне беларусаў слухала адны і тыя ж „бздуры". Трэба ўжо спыніцца хоць бы на нейкім калене і пачаць жыць для сябе. ***Беларуская мова ёсьць грунт Беларускай нацыі. Без яе ў нашай геапалітычнай частцы Эўропы Беларусі ня будзе.***

Трэці момант, які трэба занатаваць (ізноў жа, як аксіёму) – гэта тое, што ***палітыка Расеі адносна Беларусі пры любой расейскай уладзе ёсьць нязьменная – вялікадзяржаўны імпэрыялізм. Гэтае правіла ня мае выключэньняў***.

Ніякіх „саюзаў", ніякіх сумесных, калектыўных, ваенных і іншых супольных дачыненьняў з Расеяй Беларусь не павінна мець. Трэба будаваць зь ёй адносіны суседзкага суіснаваньня, а не супольнага цела. ***Расея ёсьць натуральным, спрадвечным ворагам Беларусі ўжо скора тысячу гадоў.*** Не зразумеўшы і не ўсьвядоміўшы гэта, ніякай незалежнасьці, ніякай незалежнай дзяржавы беларусы мець ня будуць.

Цяпер Народны Фронт, гэтак жа, як і ўся беларуская нацыя, апынуліся ва ўмовах прарасейскай унутранай акупацыі Беларусі. Разгарнуць шырокую легальную дзейнасьць у такіх умовах вельмі цяжка. Прычыны вядомыя і з іншых аналёгіяў. Гэта, як кажуць, агульнае месца. Трэба, аднак, разумець, што толькі Беларускі Народны Фронт як выразьнік нацыянальнай ідэі патэнцыяльна мае палітычную будучыню ў канфлікце, які вось ужо адзінаццаць гадоў (з 1992 года) зацяўся на нашай зямлі, канфлікце паміж сіламі беларускай нацыянальнай незалежнасьці, беларускай свабоды і імпэрскай палітыкай вялікадзяржаўнай алігархічнай Расеі. Гэта ёсьць халодная вайна на зьнішчэньне Беларусі. Але ў гэтай вайне ўрэшце рэшт пераможа Беларусь. Яно ўжо відаць. Гэта толькі пытаньне часу.

*Зянон* ***ПАЗЬНЯК***

*15 кастрычніка 2003 г.,*
*Варшава*



***29. Горадня. Гарадзенскі БНФ каля «Выправы на Грунвальд»***

# БЕЛАРУСЬ – УСХОДНЯЯ ЭЎРОПА

Азірнемся на два гады, што мінулі (гэта значыць, на 2002-2003 г.г.). Як уладкаваўся сьвет за гэты час, што адбылося на Беларусі?

З палітычных падзеяў, якія мелі значэньне для інтарэсаў Беларусі, я б адзначыў ліквідацыю Менскай Місіі АБСЭ і галоўнае – выдаленьне ў сувязі з гэтым Ганса Віка – галоўнага архітэктара стварэньня грантавай падстаўной „апазыцыі” і разбурэньня Беларускага Народнага Фронту. Выдаленьне адыёзнай фігуры прадстаўніка нямецкіх спэцслужбаў зь беларускай палітыкі часткова аздаравіла абставіны змаганьня ў Беларусі. Але ў цэлым прысутнасьць у краіне міжнародных арганізацыяў (у тым ліку і АБСЭ) ёсьць станоўчая і неабходная зьява ў цяперашнім беларускім жыцьці.

Істотнай падзеяй стала інтэнсіфікацыя расейскай інкарпарацыйнай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі. Гэта выявілася ў чэрвеньскіх і жнівеньскіх заявах прэзыдэнта Расеі Пуціна (зробленых у 2002 годзе) аб плянах анэксіі нашай краіны.

З пачатку 2003 г. пасьля маскоўскіх заяваў аб інкарпарацыі адчувалася ліхаманкавая падрыхтоўка рэфэрэндуму ў Беларусі аб прыняцьці так званага „канстытуцыйнага акту”, які даў бы магчымасьць зьмяніць Канстытуцыю і пачаць анэксію па адпаведных тэхналёгіях (увядзеньне расейскіх грошай на Беларусі, захоп беларускай нацыянальнай маёмасьці расейцамі і г.д.).

Вясной-летам гэтага года грунтоўна асэнсавала і рэзка выступіла супраць рэфэрэндумных плянаў Масквы толькі Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ. Па-за межамі фронтаўскай пазыцыі – альбо маўчаньне, альбо неадэкватныя дзеяньні (заклікі рыхтавацца да парляманцкіх выбараў у „палату” і т.п.). Гэта вельмі паказальная зьява, якая добра ілюструе, што абазначае на самай справе так званы „раскол” Беларускага Народнага Фронту.

У міжнародным жыцьці за гэтыя два гады адбылося некалькі вельмі сур’ёзных падзеяў, але ніводная зь іх не паспрыяла змагарнай барацьбе супраць акупацыйнай палітыкі на Беларусі.

Па-першае, адбылася амэрыканска-талібанская вайна ў Аўганістане, якая істотна паўплывала на дачыненьні ў сьвеце. Другая амэрыканская вайна пачалася сёлета 20 красавіка ў Іраку і набыла на цяперашні дзень ужо выразныя рысы партызанскага супраціўленьня супраць амэрыканцаў.

На жаль, спраўджваюцца мае перасьцярогі, выказаныя у верасьні 2001 года (адразу пасьля зьнішчэньня вежаў міжнароднага гандлёвага цэнтру ў Нью-Ёрку) аб неразуменьні Захадам Усходняга сьвету і аб небясьпецы партызанскай вайны, якую Захад можа прайграць. *(„Беларускія Ведамасьці”, – 2001, №8/38; „Народная Воля”, – 2001, 20 верасьня).* Зьнішчэньне ці злаўленьне Садама Хусэйна тут наўрад ці ў чым дапаможа. (І нават ліквідацыя Бін Ладэна ня вырашыць праблемы.)

Партызанская вайна на Ўсходзе – гэта не карыснае для нас развіцьцё падзеяў, бо мы, беларусы, павінны падтрымліваць Амэрыку і быць зацікаўленымі ў станоўчым пра-амэрыканскім заканчэньні збройнага канфлікту ў Іраку.

Ужо ўвосень 2001 года стала зразумела, што лібэральная Эўропа (найперш з сваёй чэмбэрленаўскай палітыкай двайных стандартаў) здрадзіла Чачэніі і, дбаючы пра свае інтарэсы, стала апраўдваць генацыд рускіх дзяржаўных тэрарыстаў, прадала чачэнскі народ дзеля сваёй эфэмернай дыпляматычнай выгады.

З усіх міжнародных падзеяў гэтага пэрыяду здача Чачэніі Захадам найбольш неспрыяльна адбіваецца на беларускім змаганьні з расейскай інкарпарацыйнай палітыкай, бо справа свабоды Чачэніі і справа незалежнасьці Беларусі ёсьць апасродкавана ўзаемазьвязаныя зьявы.

Апошняя падзея бягучага года, якая будзе мець дачыненьне да міжнародных адносінаў, – гэта парляманцкія выбары ў Расеі, пасьля якіх можна ўжо казаць ня проста пра ўладу Лубянкі ў Расеі, а пра абсалютную дыктатуру кагэбізму ў гэтай краіне.

* * *

Прыглядзімся да становішча на Беларусі і ў сьвеце. Нагадаю некалькі палажэньняў, якія ёсьць дадзенасьцю, што ляжыць у аснове разуменьня.

Ліквідацыю дыктатуры КПСС і вяртаньне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі ажыцьцявіў Беларускі Народны Фронт, не пераняўшы ўлады ад савецкай намэнклятуры. Улада засталася ў старой каляніяльнай і прамаскоўскай адміністрацыі.

Другая дадзенасьць. Гісторыя і рэчаіснасьць паказваюць, што, незалежна ад таго, хто ажыцьцяўляе ўладу ў Расеі і хто засядае ў Крамлі (цар, царыца, фаварыт, юродзівы, тэрарыст, дыктатар, партакрат, дэмакрат, алігарх, лібэрал, камуніст, гэбіст і г. д.), палітыка Расеі ў дачыненьні да Беларусі застаецца нязьменнай: захапіць краіну і зьнішчыць усё беларускае. Тактыка ня мае значэньня гэтак жа, як і характар улады. Палітыка Расеі заўсёды аднолькавая: імпэрская, шавіністычная і вялікадзяржаўная. Бо Расея ня ёсьць *нацыянальнай дзяржавай*. Па структуры, сутнасьці і адпаведна палітыцы, па паняцьцях людзей – гэта шматковая імпэрыя, гістарычны перажытак на мапе Зямлі, небясьпечны сваёй агрэсіўнасьцю і тэрытарыяльным рэсурсам.

Беларусу, які гэтага ўсяго не зразумеў, я б ня раіў ісьці ў палітыку. Гэта небясьпечна альбо для яго, альбо для Беларусі. Цэлая плойма палітычных нягоднікаў, здраднікаў, дурняў і калябарантаў, што не маглі гэта ўсьвядоміць, супрацоўнічалі з расейскай уладай, тапталі і гробілі Беларусь. І адначасна шэрагі, масы палітычных ідэалістаў, пачынаючы ад ураду БНР і аж да беларускіх нацыянал-камуністаў, разьвіталіся са сваімі жыцьцямі ў Курапатах ды турмах ГУЛАГу, вярнуўшыся ў СССР і не захацеўшы ўспрыняць відавочную праўду.

***Расейскі імпэрыялізм ёсьць бязьлітасны і вечны вораг Беларусі і беларускай нацыі.*** Беларусам гэта трэба напісаць чырвонымі літарамі перад сабой, калі толькі яны хочуць выжыць, зьберагчы сваю Бацькаўшчыну і дзяржаву.

Наступнае, што трэба ўлічваць канкрэтна і рэальна (а не абстрактна і тэарытычна), што ўлада ў Беларусі і ў Расеі знаходзіцца цяпер у руках савецкага КГБ. Прытым у Расеі яна выробленая, поўная, усеагульная і, ад нядаўняга часу, абсалютная.

Сумяшчэньня толькі гэтых трох пазыцыяў дастаткова, каб зразумець, што мусіць адбывацца і што адбываецца на Беларусі. А гэта этнацыд беларусаў, лінгвацыд і падрыхтоўка да інкарпарацыі, якая ўскладняецца, аднак, канфліктам маскоўска-менскіх інтарэсаў.

На канфлікце інтарэсаў хоча імітаваць сваю палітыку намэнклятурная „апазыцыя”, створаная Гансам Вікам. Імітатары едуць раз пораз то ў Брусэль, то ў Маскву.

Але канфлікт інтарэсаў гэта ёсьць канфлікт у межах адной палітычнай сілы савецкага КГБ. Ён узьнік у асяроддзі адной антыбеларускай каманды, якая займаецца супольнай справай

– „злучэньнем" Беларусі з Расеяй. Гэтая сіла кіруе таксама ўяўным змаганьнем супраць сябе з боку „апазыцыі" Віка (што на гэбоўскім жаргоне называецца ўжо „кіруемым канфліктам").

***Рэальны канфлікт на Беларусі – гэта барацьба за існаваньне Беларускай дзяржавы і нацыі паміж сіламі рускага імпэрыялізму, з аднаго боку, і сіламі беларускага нацыянальнага Адраджэньня – з другога.*** Усё, што наўзбоч ад гэтай барацьбы, – спрыяе Маскве і яе палітыцы. Такая лёгіка змаганьня і сытуацыі, што існуе на Беларусі.

* * *

Вынішчэньне Беларусі абумоўлена, перш за ўсё, суседзтвам з Расеяй. Але існуюць таксама іншыя геапалітычныя і палітычныя чыньнікі, якія ўплываюць на трагедыю нашай краіны.

Адной з прычынаў цяжкасьці нашага цяперашняга нацыянальнага разьвіцьця зьяўляецца тое, што доўгачаканае вяртаньне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі ў 90-х гадах XX-га стагоддзя супала з пачаткам усеагульнага крызісу дэмакратыі ў сьвеце.

Пасьля распаду СССР у бальшыні эўрапейскіх краінаў ва ўладу пранікл агрэсіўныя лева-лібэральныя палітычныя праслойкі, людзі багемнага, нізкага палітычнага ўзроўню, якіх раней ніхто не ўспрымаў усур'ёз (як і ўвогуле лібэральныя партыі). Да гэтага Эўропа ведала эканамічны лібэралізм. (Мы маем тут свае засьцярогі, бачым у эканамічным лібэралізме плюсы і мінусы, але не пра гэта будзе наша гаворка.)

У канцы XX-га стагоддзя сытуацыя пагоршылася, і грамадзтва загаварыла пра лібэралізм у культуры як пра адмаўленьне ад народных і хрысьціянскіх традыцыяў культуры, этыкі і маралі, і нават – ад законаў прыроды. Лібэралізм у культуры разумее дэмакратычную свабоду як свабоду ўсяго, абсалютызуе правы індывідуальнасьці, незалежна ад этычных і ацэначных каштоўнасьцяў грамадзкай маралі.

У сьветапогляднай аснове лібэралізм у культуры апэлюе да філясофіі рэлятывізму, што дае яму магчымасьць, агулам кажучы, ўраўноўваць зло з дабром. Жыцьцёвыя ўстаноўкі асобы лібэральнага грамадзтва арыентаваныя на посьпех, узровень жыцьця – на камфорт, маральна-этычнае існаваньне – на геданізм і вострыя адчуваньні, што прыводзіць да зацыкліваньня на палавых дачыненьнях і да камплексацыі на збачэнствах.

Дэмакратычная атмасфэра і рэлятывісцкі падыход спрыялі разьвіцьцю лібэральных маргінальных групаў і пашырэньню рэгрэсу, што асабліва стала адчувацца з ростам мас-культуры і з посьпехам тэхнікі тэлебачаньня, дзе лева-лібэральныя падыходы знаходзілі асяроддзе існаваньня і сродкі прапаганды.

***Дэмакратычная сістэма стварыла мэханізм пранікненьня збочанасьці ва ўладу, выплываньня маральнага дна на паверхню грамадзтва.*** Такім мэханізмам легалізацыі стала электаральная схема дэмакратычных выбараў. Палітыкі, змагаючыся за галасы, сталі апэляваць да маргінальных групаў дэмакратычнага грамадзтва, адмяжоўваючыся ад маралі. Найбольш шырока і бессаромна выкарыстаў гэтую схему прэзыдэнт ЗША Уільям (Біл) Клінтан. Цяпер стала за звычай, калі ўзамен за якіх пару сотняў галасоў палітыкі на Захадзе абяцаюць свабоду і льготы збачэнцам.

Пачалося перакульваньне натуральных і народных каштоўнасьцяў. У сістэме права дэмагагічна выкарыстоўваецца паняцьце свабоды, у сістэме заканадаўства – права нацыянальных меншыняў на культурна-этнічнае разьвіцьцё (калі збачэнцы і маргінальныя групы сацыяльнай рызыкі прыроўніваюцца да этнічных меншасьцяў) і г.д.

У сістэме лібэральнай эканомікі збочанасьць уведзена ў бізнэс, стала таварам. Распуста, звыродлівыя палавыя мутацыі, адхіленьні ад прыроды і ад нармальнасьці атрымалі легальны шырокі рынак тавараў і паслуг, прыносяць мільённыя даходы.

Перш за ўсё, з гэтай прычыны легалізаванае паскудства характарызуецца паўсюднай агрэсіўнасьцю. Карыстаючыся ўсёдазволенасьцю, яно пранікае ва ўсе поры заходняга грамадзтва, сьведама імкнецца ў сродкі інфармацыі, у палітыку і бізнэс, у рэлігію, у сістэму адукацыі і выхаваньня, разбурае мастацтва і цалкам апанавала мас-культуру, дэфармуе духоўныя адносіны людзей, разбурае сям'ю. Узьнікае цывілізацыя абсурду, у якой людзі трацяць здаровы сэнс, перасталі разумець адзін аднаго і прыроду рэчаў.

На першы погляд, складваецца ўражаньне, што Эўропа і сьвет (акрамя сьвету ісламу) перажываюць шок. Усе маўчаць, нібы паралізаваныя. Настолькі хутка і легальна адбываецца маральны рэгрэс, што людзі ня ў стане паверыць у сур'ёзнасьць абсурду і рэальнасьць зьяваў, якія разгортваюцца ў іх на вачах. Тым ня менш, гэта сур'ёзна і небясьпечна, бо крызіс дэмакратыі навідавоку. ***Лібэралізм не цікавіцца пытаньнямі нацыянальнага разьвіцьця. Нацыянальная культура – гэта сьмерць для расперазанага лібэралізму.***

У гэтакіх абставінах дэградацыі культуры ажыцьцяўляецца цяпер ідэя „аб'яднанай Эўропы". Ідэя ня новая. Пра лёзунг „злучаных штатаў Эўропы" (перш, чым пабудаваць свой камуністычны „новы сьвет") гаварылі яшчэ ў пачатку XX-га стагоддзя розныя масоны і сацыялісты. Потым, у 1930-1940-х гг., за пабудову „новай Эўропы" ўзяўся Гітлер. Ідэя была нацыянал-сацыялістычная. І, нарэшце, у другой палове XX-га стагоддзя ўзьнік плян „аб'яднанай Эўропы". Плян без ідэі. Аб'яднаньне на падставе агульнага рынку, гандлю, вытворчасьці і дэмакратыі. Гэта значыць, на падставе той дэмакратыі, пра крызіс якой я толькі што гаварыў.

Эканамічна спустошаным краінам Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, якія хочуць выйсьці з-пад пагрозы Расеі і паправіць сваё гаспадарчае становішча, уступіўшы ў Эўразьвяз, заходнія краіны ставяць крызісныя ўмовы ўваходжаньня. Напрыклад, прапануюць прызнаць адмаўленьне ад Бога і ад традыцыяў хрысьціянскай культуры на грамадзка-дзяржаўным і палітычным узроўні, патрабуюць прыняць законы аб свабодзе рабленьня абортаў, аб свабодзе і легальнасьці палавых збачэнцаў, аб сацыяльных льготах для іх, аб легальнасьці так званых аднаполых „шлюбаў" збочаных людзей, і нават аб „праве" іх браць на выхаваньне чалавечых дзяцей.

Я называю рэчы, якія беларусу былі невядомыя і не маглі б прысьніцца нават у кашмарным сьне. А яны тут во, ужо зьявіліся, існуюць побач – будуецца „аб'яднаная Эўропа".

Зь 10-ці краінаў Цэнтральна-Усходняй Эўропы, якія зьбіраюцца ўвайсьці ў Эўразьвяз, толькі Польшча афіцыйна падняла свой голас у абарону нармальнасьці, Бога і традыцыяў хрысьціянскай культуры. У выніку Эўропа пачала круціць палякам пальцам каля скроні (маўляў, яны адсталыя, не дарасьлі да „культуры"). У Эўропе тут жа прынялі рашэньні, што палякаў ня будуць прымаць на працу ў эўрапейскіх краінах, што польскім служачым у сістэме ўстановаў Эўразьвязу будуць плаціць на тысячу эўра менш, што затрымліваюцца інвэстыцыі ў польскую гаспадарку і г.д.

Тым часам лібэральная эрозія польскага грамадзтва ідзе хуткімі тэмпамі. Нядаўняе сацыялягічнае апытаньне аб галоўных каштоўнасьцях палякаў дало ашаламляльны адказ. Патрыятызм быў на апошнім месцы. І гэта ў нацыі, якая мела шмат ахвяраў, змагаючыся доўга за незалежнасьць і свабоду.

Цяпер сярод польскіх палітыкаў усё часьцей гучаць выказваньні, што Польшча пасьпяшалася ўступаць, што трэба было пачакаць, стаць на ўласныя ногі, упарадкаваць краіну і ня йсьці ў Эўразьвяз на каленях.

Для нас пытаньне, аднак, у тым, ці трэба ўвогуле туды ісьці. Ужо выразна відаць, што ***ў Эўропе ствараецца новая лібэральная звышдзяржава на цалкам не жыцьцёвай аснове.*** Тыранія дрэні яшчэ не выяўляецца, але агрэсія ўжо ёсьць.




***30. Гэбісты на беларускім сьвяце ў Вязынцы.***

Эўразьвяз будуецца вакол паразуменьня дзьвюх дзяржаваў – Францыі і Нямеччыны, – якое можа скончыцца, як толькі Нямеччына набярэ сваёй патэнцыйнай моцы, а Францыя пакрыўдзіцца. Нямеччына ўжо цяпер вядзе сваю традыцыйную палітыку паразуменьня з Расеяй, гандлюецца Беларусяй, росьціць пляны пра будучыню Ўсходняй Прусіі і г.д. Усё гэта мы добра ведаем.

Як і некалі ў Польшчы і Прыбалтыцы, немцы шукаюць у нашым грамадзтве сярод сацыялістаў ды сацыял-дэмакратаў свае крэатуры ды германафілаў. Расходы невялікія, але навошта яны гэта робяць? Чаму ні Францыя, ні Англія, ні Італія, але яны, немцы? Тым часам, што нарабіў тут Ганс Вік, мы памятаем.

Цяпер у Бэрліна новая тактыка для Беларусі. Фармуюць прыхільнікаў крочыць у Эўразьвяз. Вось ваша будучыня, маўляў, – у аб’яднанай Эўропе, разам з намі. Адным словам, засталося толькі: на калені – і крокам руш.

Палітычная карціна, якую ствараюць немцы з маскоўцамі на Беларусі, такая: адны беларусы „інтэгруюцца” з Расеяй, іншыя – крочаць па шчасьце ў Эўразьвяз. Але і ў Масквы, і ў Эўразьвяза свае інтарэсы ў нашай краіне. Па-за межамі гэтых інтарэсаў і Маскве, і Эўразьвязу напляваць на Беларусь, на беларускі народ, на беларускую мову і на беларускую незалежнасьць. Дастаткова толькі пачытаць выказваньні розных „эўраваяжораў” на Беларусь (усялякіх гросэраў ды мюлеманаў), каб пераканацца ў гэтым (пра Г. Віка ўжо не ўспамінаем). Так што расейцы зь немцамі тут добра каардынуюцца.

Гэтакая сытуацыя і дачыненьнях паміж Усходам і Захадам у нас існавала апошнім часам пастаянна. Аднак усё абвастрылася, калі Маскве і Брусэлю (дакладней – Бэрліну) ўдалося аслабіць і раскалоць Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”, прыдушыць нацыянальна-вызвольныя сілы.

Невыпадкова яшчэ у 1990 годзе Беларускі Народны Фронт выступіў з ідэяй арганізацыі ў будучыні *Балтыйска-Чарнаморскай садружнасьці* краінаў, каб гарантаваць незалежнасьць іхняга нацыянальнага разьвіцьця. *БЧС* магла б стаць усходняй альтэрнатывай Эўразьвязу і палітычна дэградуючай Расеі. Гэта была разумная, вельмі добрая ідэя для ўсёй Эўропы. Але нічога, акрамя небясьпекі сваім таварным інтарэсам, Заходняя Эўропа ў гэтым ня ўбачыла. Пасьля распаду СССР Эўропа пачала праводзіць палітыку экспансіі і ўцягненьня краінаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы ў Эўразьвяз, дамаўляючыся нахаду з Расеяй. Цяпер маем тое, што маем. Цэнтральна-Ўсходняя Эўропа не ўяўляе нічога адзінага, разлучаная, слабая, пасечаная на шматкі і на розныя сфэры ўплыву, яна разрываецца паміж Расеяй і Захадам.

* * *

Нашыя бліжэйшыя задачы усім нам, беларусам, павінны быць зразумелыя – любой цаной не дапусьціць страты незалежнасьці нашай краіны, зьберагчы мову, культуру, працу і маёмасьць Беларусі шляхам ліквідацыі нелегітымнай прамаскоўскай улады.

Але змагаючыся штодзень з прамаскоўскім рэжымам за нацыянальнае выжываньне і дзяржаўнае існаваньне, мы мусім улічваць становішча ў сьвеце і мець бачаньне нашай будучыні. Само жыцьцё паказвае нам, што мы павінны рабіць і як весьці свой нацыянальны рэй.

Наш шлях – незалежная моцная Беларусь. Нам ня трэба ні ўлева, ні ўправа, ні на Ўсход, ні бяздумна на Захад. Мы – Эўропа. Эўропа Ўсходняя.

Нас нічога добрага не чакае ў цяперашняй лібэральнай заходняй Эўропе. Мы там чужыя. Гэтак жа, як чужыя і ў Расеі. Мы іншыя эўрапейцы, бо не згубілі душы. Беларусь – наша Эўропа.

Але акрамя падступных палітыкаў, сквапных інтэрасантаў, дзялуноў і спажыўцоў, мы маем там, на Захадзе, мноства прыхільнікаў і добрых сяброў, якімі трэба даражыць. У нас ёсьць таксама свой інтэрас на Захадзе. Нам ня варта ўступаць у Эўразьвяз, але нам трэба, мы мусім супрацоўнічаць зь ім і з НАТО на ўзаемных умовах. Нашыя саюзнікі – гэта нашыя суседзі, для якіх Расея ёсьць таксама агульным суседам і агульным антаганістам.

У нашай беларускай незалежнасьці, у нашай дзяржаўнасьці гістарычна не было і аб’ектыўна не існуе цяпер ніякіх сяброў, ніякіх прыхільнікаў і ніякіх спрыяльнікаў у Расеі. Там толькі непрыяцелі нашай незалежнасьці. Гэтая сумная, але відавочная аксіёма павінна вызначаць нашу пазыцыю і нашу палітыку цяпер і ў будучыні. (Добрая мяжа, мінімалізацыя эканамічнай залежнасьці ў гандлі таварамі і энэргетычнымі рэсурсамі, разьвіцьцё інфраструктуры транзіту, ахова інфармацыйнай прасторы, увяд-

зеньне новых стандартаў ва ўзбраеньні, разбудова нацыянальнай арміі па міжнародных (эўрапейскіх) прынцыпах і г.д.)

Цяперашнія падзеі ў Летуве (справа Паксаса)* наводзяць на думку, што там ажыцьцяўляецца маскоўскі плян перамены ўлады, які можна назваць праектам „Лукашэнка-2" (па аналёгіі з мэтадам захопу ўлады ў Беларусі, толькі на ролю летувіскага лукашэнкі прызначаны прэзыдэнт Паксас). Гэтыя падзеі абавязваюць нас запабегчы ў будучыні ўсялякім магчымасьцям інфільтрацыі расейскага гэбізму ў грамадзянскія і палітычныя структуры Беларусі.

Расейскі гэбізм як татальная сістэма ўлады, абапертая на татальныя спэцслужбы, стварае вялікую небясьпеку ня толькі на Каўказе, у Сярэдняй Азіі і ў краінах Усходняй Эўропы, але і ў цэлым у Эўропе. Праўда, да чэмбэрленаўскай сьведамасьці эўрапейскіх лібэралаў гэта цяжка даходзіць.

Мы мусім добра разумець цяперашняе становішча ўнутры краіны. Мы маем перадышку на некалькі месяцаў (да канца прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі). Пасьля гэтага, магчыма, захочуць зрабіць тое, што ў Маскве выраблена рыхтуюць цяпер, – рэфэрэндум на Беларусі аб так званым „канстытуцыйным акце". Пра гэта сьведчыць уся ўнутраная палітыка рэжыму Лукашэнкі: дэмагогія аб суверэнітэце – і адначасна вынішчэньне ўсяго беларускага, пасьлядоўная праца спэцыяльных структураў над увядзеньнем рускіх грошай і (на першы погляд, бязмозглая, але мэтанакіраваная) агітацыя вікаўскай „апазыцыі" ісьці на далёкія палатныя выбары, а на рэфэрэндуме сказаць сваё важкае „не" трэцяму тэрміну Лукашэнкі і г.д. (у той час калі відавочна, што на рэфэрэндум ісьці нельга).

З функцыянерамі „кіруемай апазыцыі" пытаньняў няма. Гэта „прафэсіяналы" – за „мзду" ідуць на любыя выбары і мерапрыемствы. Але кожны беларускі адраджэнец павінен ужо добра ведаць, што ва ўмовах жорсткага антыдэмакратычнага, антынацыянальнага рэжыму, пры нулявых функцыях парляманту, пры недэмакратычным выбарчым законе і некантралюемай машыне фальсіфікацыі галасаваньня, – на выбары хадзіць нельга. У такіх умовах хаджэньне на выбары ёсьць нацыянальная здрада з боку палітычных партыяў, паколькі рэжыму патрэбная партыйная статыстыка ўдзелу ў выбарах для фармальнай легітымізацыі антыдэмакратычнага выбарчага працэсу. Ніхто па-за кантролем, па-за воляй рэжыму праз такія выбары ў парлямант не праходзіць.

Эфектыўным сродкам супраць гэтага выбарчага гвалту можа быць усеагульны байкот. Нацыя не павінна хадзіць на фальшывыя выбары і рэфэрэндумы. Трэба пакінуць рэжым у падвешаным стане, паставіць яго ў нязручнае становішча, пазбавіць яго падставы для дэмагагічнай аргумэнтацыі на сваю карысьць, бо час працуе не на рэжым. Збайкатаванае галасаваньне ніхто не прызнае, як бы ні сфальсіфікавала яго адміністрацыя (ды і сфальшаваць тады цяжка, а часам і немагчыма). Байкот рэфэрэндума – гэта моцны ўнутраны ўдар па рэжыму. Гэта вынік, які дае сілу народу.

Тыя партыі і тыя партыйныя функцыянеры, што пойдуць на забойчы, антынацыянальны рэфэрэндум, тыя, што возьмуць за гэта юдавы маскоўскія ці нямецкія грошы, тыя павінны быць прыраўняныя да калябарантаў і здраднікаў радзімы, з усімі вынікаючымі з гэтага акалічнасьцямі. Прозьвішчы іхныя мусяць быць абнародаваныя і надрукаваныя. Мы ўжо мелі два антынародныя сфальшаваныя рэфэрэндумы, і ніхто яшчэ не панёс ніякой адказнасьці і ніякой кары. Я кажу „яшчэ", але час гэты прыдзе і скажа сваё важкае, справядлівае слова.

Але найперш сьвятая воля і сьветлая будучыня Беларусі чакае на свой народ.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне"***

*14 сьнежня 2003 г., Варшава*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2003/2004, №1 (52).*

* Прэзыдэнт Летувы Паксас аказаўся стаўленьнікам расейскага КГБ. Быў выдалены з пасады праз імпічмант. – *(З.П.).*



(Фота з 1996 г.)

***31. «Уратуем Беларусь!» «Фашызм ня пройдзе!»***

# 2004

## ЗА БЕЛАРУСЬ

*(Зварот)**

…На Беларусі робіцца такая палітыка, што мы можам страціць дзяржаву і незалежнасьць. Наша нацыянальная маёмасьць, зямля, нетры, прыбытак у працы і ўсё нацыянальнае багацьце, уключаючы культуру і адукацыю, можа апынуцца ў расейскіх руках. Мы ня будзем мець нічога свайго, ня зможам распараджацца вынікамі сваёй працы, ня зможам ствараць сабе законы і плянаваць гаспадарку. Усё нашае – стане ня нашым. Усім нашым стане распараджацца Масква. Чужыя людзі запануюць у нашым доме.

Гэтага дамагаецца Расея і яе мафіёзна-фінансавыя групы. Гэтаму спрыяе палітыка Лукашэнкі.

Грамадзяне Беларусі павінны выразна ўсьведамляць, што ***пагроза страты незалежнасьці – рэальная***. І калі хто мае яшчэ прапагандысцкія ілюзіі, што будзе, як і раней, разьвіваць свой бізнэс ці вытворчасьць пры расейскіх законах, канкуруючы з расейскай мафіяй і рускім алігархічным капіталам, той хай хутчэй разьвітваецца з такімі ілюзіямі, каб не было позна.



***32. Электарат рэжыму галасуе ў пераносную скрынку.***

(Фота з друку)

Калі кагосьці ўгаварылі, што ён будзе атрымліваць расейскія пэнсіі, – забудзьце пра гэта. Увядуць расейскі рубель – ня будзе чым плаціць нават заробкі, а праз павышэньне цэнаў на камунальныя паслугі, цяпло, газ забяруць рэшткі пэнсіі. (Гэта ўжо адмыслова робіцца.)

Калі хто спадзяецца, што будзе працаваць на заводзе пры чужых гаспадарах – не спадзявайцеся, бо выкінуць на вуліцу. Расейцы ня будуць разьвіваць вытворчасьць на Беларусі.

Калі хто, жывучы на сяле, думае, што да яго прыедзе п’яны тамбоўскі калгасьнік, каб пакарыстацца „роўным” правам на беларускую зямлю, той памыляецца. Прыедзе расейскі алігарх, накшталт Абрамовіча, „прыхватызуе” агулам беларускія землі і будзе нажывацца.

Калі хто думае, што апынуўшыся пад ваенна-атамнай Расеяй, ягоныя сыны будуць мірна служыць у войску на Беларусі, той памыляецца. Ён забыўся пра СССР і расейскія войны.

Калі беларускі начальнік думае, што, пусьціўшы расейскага чыноўніка кіраваць сваім жыцьцём, ён нязьменна застанецца на сваім месцы начальнікам, ён горка пашкадуе, бо ўсё будзе інакш, чым ён думае.

Людзі проста ня могуць уявіць той небясьпекі, што іх чакае, калі прыйдзе Расея. Ім здаецца, што ўсё гэта так – разважаньні.

Што трэба, каб абараніць сябе і незалежнасьць Беларусі?

Напачатку трэба зразумець: сёньня толькі ***ад нас, беларусаў, залежыць*** – захаваем мы сваю дзяржаву, абаронім свой нацыянальны інтэрас ад расейскага крыміналу, альбо Лукашэнка здасьць Беларусь пад Маскву, і нас выкарыстаюць у тупіковым працэсе аднаўленьня Расейскай імпэрыі.

Наступнае – трэба памятаць: усё, што Лукашэнка разам з Масквой зрабіў і робіць пад шыльдай „саюзнай дзяржавы”, – незаконнае.

Падпісаўшы з Крамлём 8 сьнежня 1999 г. „дагавор аб стварэньні саюзнай дзяржавы”, ён груба парушыў Канстытуцыю і перавысіў свае паўнамоцтвы (арт. **7** Канстытуцыі і арт. **3** і **6** Закона „Аб прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь”). Ня кажам ужо пра нелегітымнасьць яго на той час.

Такім чынам кіраўнік выканаўчай улады стаў на шлях здрады дзяржаве Рэспубліка Беларусь. (Артыкул **356** Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь.) У гэтай сытуацыі Лукашэнка ня мае права займаць пасаду Прэзыдэнта Беларусі (тым больш, улічваючы яго нелегітымнасьць пасьля сфальшаваных выбараў 2001 г.)

Наша прапанова дзеяньняў:

Рыхтаваць новыя прэзыдэнцкія выбары бяз Лукашэнкі, не чакаючы сканчэньня ягонага цяперашняга нелегітымнага тэрміну. На гэта грамадзяне Беларусі маюць законнае права.

Для правядзеньня выбараў неабходна, каб узьнікла сытуацыя, якая дала б магчымасьць іх правядзеньня.

Такой сытуацыяй можа стаць пасьпяховы байкот выбараў у „палату” ці байкот рэфэрэндуму па зьмене Канстытуцыі. (Мы кажам пра байкот, бо антыдэмакратычныя ўмовы, якія створаны рэжымам, выключаюць нават мінімальны посьпех на выбарах для антырэжымных сілаў.)

Пасьпяховы байкот выбараў ці рэфэрэндуму будзе сьведчыць, што грамадзяне адмаўляюцца ад паслуг чалавека па прозьвішчу Лукашэнка. Гэта стане стымулам для кансалідацыі і салідарнасьці нацыянальных сілаў, паспрыяе рэальнай пастаноўцы пытаньня аб новых законных выбарах прэзыдэнта. Павінен стацца штуршок.

Справу арганізацыі байкоту і падрыхтоўкі да новых выбараў прэзыдэнта ўзяла на сябе ініцыятыва ***„Беларуская Салідарнасьць”***, якая ўзьнікла ў 2000 годзе ў Беларускім Народным Фронце „Адраджэньне” і ягонай Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ.

Кожны можа ўдзельнічаць у гэтай ініцыятыве (калектывы, арганізацыі і асобныя людзі), кожны той, хто абараняе ***беларускую дзяржаўную незалежнасьць, беларускую мову і культуру***.

Беларусы, дапаможам сабе! Падтрымлівайце байкот выбараў у „палату”, рыхтуйцеся да байкоту заплянаванага рэжымам рэфэрэндуму аб зьмене Канстытуцыі. Спрыяйце падрыхтоўцы да новых выбараў прэзыдэнта. Удзельнічайце ў агульнай нацыянальнай справе „БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ”.

*18 студзеня 2004 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

* Выкарыстоўваўся як улётка. Да гэтага быў дапаможны матэрыял:
1. Дамова Лукашэнкі-Ельцына незаконная.
2. Чаму неабходны байкот.

# БАЙКОТ

### *(ЧАМУ НЕАБХОДНЫ БАЙКОТ ВЫБАРАЎ)*

На кастрычнік 2004 года рэжым Лукашэнкі пляную правесьці на Беларусі выбары ў парлямант („палаты"). Усе выбары і рэфэрэндумы, якія праводзіліся перад гэтым, паказалі, што рэжымам створана шырокая, паслухмяная і праверaная машына фальсіфікацыі галасаваньня. Ня мае значэньня, як галасуюць выбаршчыкі, важна, каб яны ўдзельнічалі ў галасаваньні. Машына фальсіфікацыі заўсёды падлічыць галасы ў сваю карысьць.

Дзейнасьць сістэмы фальсіфікацыі грунтуецца на выраблены адміністрацыйным рэсурсе, які фармуе і кантралюе ўсе выбарчыя камісіі, ад участковых да Цэнтральнай. У той жа час сам „адміністрацыйны рэсурс" цалкам і жорстка кантралюецца вышэйшай уладай рэжыму.

Грамадзкае назіраньне над галасаваньнем практычна ліквідаванае. Назіральнікаў не дапускаюць да назіраньня за падлікам галасоў, а ў большасьці выпадкаў – і да назіраньня за працэсам галасаваньня. Скаргі і пратаколы назіральнікаў не прымаюцца пад увагу.

Рэжым поўнасьцю кантралюе ўсе электронныя сродкі масавай інфармацыі і ўвесь друк (у тым ліку і так званы „незалежны", акрамя мясцовых самадзейных лісткоў). Кандыдатаў, альтэрнатыўных рэжыму, не дапускаюць выступаць у СМІ.

Трэба ўлічыць адсутнасьць дэмакратыі ў краіне, існаваньне рэжыму дыктатуры, бясправе і недэмакратычнасьць Закона аб выбарах. Парлямант Лукашэнкі ня мае рэальнай заканадаўчай самастойнасьці, напалову прызначаецца і поўнасьцю кантралюецца Лукашэнкам.

У гэтай сітуацыі той, хто для рэжыму „ня свой", праз галасаваньне не праходзіць. Машына не прапускае. Змагару з рэжымам выстаўляць сваю кандыдатуру ў такіх „выбарах" – гэта значыць выступаць у ролі дурня, ці яшчэ горай – ідыёта. Але самае дрэннае – гэта азначае падыгрываць антынароднаму рэжыму, сьцягваць яму выбаршчыкаў на галасаваньне, забясьпечваць ягонай прапагандзе аргуманты для стварэньня бачнасьці нібыта „дэмакратычных" выбараў (маўляў, глядзіце, удзельнічаюць альтэрнатыўныя кандыдаты і розныя партыі).

Удзел больш паловы выбаршчыкаў у галасаваньні абазначае, што выбары адбыліся. Гэта дае магчымасьць рэжыму скарыстаць „машыну" і сфальсіфікаваць выбары, а потым гаварыць нібыта пра „адпаведнасьць закону". Рэжым зацікаўлены, каб выбаршчыкі ішлі на выбары па ягоным сцэнары.

Зусім іншая карціна ўзьнікае, калі выбаршчыкі не прыходзяць галасаваць, байкатуюць галасаваньне. Сфальсіфікаваць выбары ў такім выпадку значна цяжэй. У выніку байкоту фальсіфікацыйная машына пракруціцца ўхаластую. ***Правал несправядлівых выбараў у выніку байкоту будзе азначаць правал рэжыму Лукашэнкі і перамогу народа.*** Гэта ўздыме дух салідарнасьці ў людзей. Грамадзтва набудзе ўпэўненасьць у сабе і здольнасьць да змаганьня. Узьнікне іншая сытуацыя, ў якой паўстане пытаньне аб новых выбарах прэзыдэнта (без удзелу Лукашэнкі). Зьявіцца шанс скончыць з антыбеларускім рэжымам.

Зьвернем ўвагу, што ўлады рэжыму разумеюць небясьпеку байкоту для сістэмы фальсіфікацыі. Каб запабегчы правалу, яны прыдумалі (і ўнесьлі ў антыдэмакратычны закон) так званае „папярэдняе галасаваньне", якое доўжыцца цэлы тыдзень і практычна недасягальнае для грамадзкага кантролю. На працягу тыдня ўлады пад прымусам і пад пагрозай звальненьня з працы звозяць аўтобусамі людзей на выбарчыя ўчасткі і прымушаюць галасаваць. Распрацаваныя таксама мэтады прымусу для студэнтаў, навучэнцаў, ваеннаслужачых, чыноўнай бюракратыі, калгасьнікаў і г.д. У час прэзыдэнцкіх выбараў 2001 года на асобных участках (папярэдняга галасаваньня) набралі такім мэтадам больш 50% прагаласаваўшых (што зьяўляецца антызаконнай прафанацыяй выбараў). Пытаньне, як прагаласавалі такія „папярэднія" выбаршчыкі, вырашалася ў камісіях проста: некантралюемыя грамадзкасьцю ўрны з бюлетэнямі падмяняліся іншымі ўрнамі з іншымі бюлетэнямі. Так быў «зроблены» патрэбны вынік галасаваньня.

Наступны мэтад запабяганьня байкоту выбараў (які ўжываюць пераважна ў сельскай мясцовасьці) – гэта аб'езд выбаршчыкаў з пераноснымі ўрнамі для галасаваньня (галасаваньне „па дамах"). Ні ціск на выбаршчыкаў, ні напаўненьне ўрны бюлетэнямі, практычна, немагчыма ў гэтым выпадку пракантраляваць. Таму мэтадам „падворнага абходу" шырока карыстаюцца фальсіфікатары.

Аднак у гэтай сытуацыі найбольшай здрадай і небясьпекай зрыву байкоту зьяўляецца ўдзел у недэмакратычных „выбарах" нібыта альтэрнатыўных кандыдатаў ад палітпартыяў ды групаў, якія разам з агентурай КГБ агітуюць народ ісьці на выбары і галасаваць за „апазыцыю" ды за іншых „сяброў народа", а ў рэальнасьці выкарыстоўваюць сродкі замежных датацыяў, бессаромна займаюцца так званым „палітычным бізнэсам".

Справа тут ня простая, бо „кіруемая апазыцыя" створана на Беларусі ў асноўным зьнешнімі сіламі па сумеснай праграме Менскай Місіі АБСЭ і КГБ. Аб гэтым нядаўна прызнаўся былы кіраўнік Місіі АБСЭ ў Менску (і былы кіраўнік зьнешняй разьведкі Нямеччыны) Ганс-Георг Вік *(гл. „Белорусская газета", – 2004, 12 студзеня)*. „Кіруемая апазыцыя" – гэта не адраджэнцкая апазыцыя. Яна была задумана насуперак беларускаму нацыянальна-дэмакратычнаму руху і як разбуральная альтэрнатыва Беларускаму Народнаму Фронту, які ў 1991 годзе вярнуў незалежнасьць краіны і спыніў дзейнасьць КПСС на Беларусі.

Падстаўная апазыцыя, арганізаваная Гансам Вікам і КГБ з былой намэнклатуры, з агентуры, з былых паплечнікаў Лукашэнкі, з прамаскоўскіх партыяў (тыпу АГП і камуністаў), з асобаў, што займаюцца „палітбізнэсам" і з людзей, якія дрэнна арыентуюцца ў палітыцы. Яна кантралюецца КГБ (асабліва кіраўніцтва) і фінансуецца з-за мяжы.

Менавіта замежныя функцыянеры ад палітыкі і грошадаўцы патрабуюць ад аплочаных апазыцыянераў удзельнічаць у ненармальных выбарах, ствараць ненармальныя „кааліцыі" і агітаваць выбаршчыкаў на заведамае ашуканства. Гэтакай бізнэс-кааліцыяй зьяўляецца, напрыклад, так званая „пяцёрка плюс" (у народзе называюць „шасьцёрка мінус"), дзе сабраліся групоўкі ад лібэралаў да камуністаў. Яны (пачуўшы пах замежных грошай) і агітуюць за ўдзел у недэмакратычных выбарах, хоць самы ж бессаромна гаворыць, што ў парлямант ніхто з „кааліцыі" ня пройдзе.

У аснове замежных патрабаваньняў дзьве прычыны. Першая – гэта поўнае неразуменьне беларускай рэальнасьці, характэрнае для шмат якіх цяперашніх эўрапалітыкаў. Яны мяркуюць, што *„выбары 2004 года трэба выкарыстаць для дэмакратызацыі становішча ў Беларусі і пашырэньня правоў парлямaнта"*, што

ў любых выбарах трэба ўдзельнічаць, каб набіраць *„палітычны вопыт”*. (Хаця зразумела, што, пасьля правядзеньня выбараў па сцэнары Лукашэнкі, іхны набыты „вопыт” нікому не спатрэбіцца, бо гэта ня вопыт, а нешта іншае).

Другая прычына больш сур'ёзная. Гэта палітычны інтэрас тых, хто дае грошы падстаўной апазыцыі і „заказвае музыку”. (Напрыклад, нямецкі інтэрас у легалізацыі рэжыму Лукашэнкі і ўплываньне на яго, ці таемная падтрымка здачы Беларусі пад Расею дзеля зьмяншэньня транзітнай прасторы ды зручнага вырашэньня пытаньня з Калінінградзкай вобласьцю і г.д.)

Мой шматгадовы палітычны вопыт на Захадзе пераконвае мяне, што шмат якім эўрапалітыкам з АБСЭ ды Эўразьвязу (асабліва нямецкім) нашыя беларускія праблемы, лёс нашай незалежнасьці, беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай эканомікі, фінансаў, а зрэшты і лёс беларускай дэмакратыі – зусім не абходзяць. Іх цікавяць толькі свае палітычныя ды эканамічныя інтарэсы ў Беларусі і ў сувязі з гэтым – свае лібэральныя паняцьці аб дэмакратыі як ***сродка забесьпячэньня інтарэсаў***.

Замежныя грошы на аплату падстаўной апазыцыі вельмі нашкодзілі беларускаму грамадзтву і будучыні беларускай дэмакратыі, бо дэмаралізавалі частку палітычна актыўных людзей.

З падстаўной апазыцыяй, з палітбізнэсам, які яна спарадзіла, і з умяшаньнем ва ўнутраныя справы Беларусі разбуральных чужых грошай і хцівых людзей неабходна змагацца ўсяму беларускаму грамадзтву. Беларускую дэмакратыю і беларускую палітыку павінны падтрымліваць не замежныя, а беларускія грошы, бо ***чужыя грошы даюцца дзеля чужых інтарэсаў***. Але трэба памятаць: ***ня грошы вырашаюць у палітыцы, а дух змаганьня***.

Аднак акрамя функцыянераў, людзей „заангажаваных” і сьведамых канфармістаў, у падстаўной апазыцыі і вакол яе ёсьць шмат асобаў, якія, магчыма, недастаткова прааналізавалі становішча, не ўсьведамляюць, у якую нядобрую справу іх цягнуць, засланяючыся гучнымі словамі і карыснымі абяцаньнямі. Менавіта гэтыя людзі могуць ацаніць рэчаіснасьць, адыйсьці ад супрацоўніцтва з калябарантамі і далучыцца да байкоту недэмакратычных, ненармальных і ўжо прадвызначаных рэжымам выбараў.

Посьпех байкоту – гэта шанс на грунтоўныя перамены ў Беларусі.

Мы, беларусы, мусім добра ўсьвядоміць тое, чаму вучыць нас (і ня толькі нас) нацыянальная гісторыя: сваю дзяржаву, сваю незалежнасьць і свой парадак мы можам стварыць толькі самы, сваім розумам, сваімі рукамі і сваімі грашыма.

Падтрымлівайце байкот антыдэмакратычных выбараў. Далучайцеся да ***Ініцыятывы „Беларуская Салідарнасьць”***, якая зыходзіць ад Беларускага Народнага Фронту і ад ягонай Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, што арганізуе байкот. Стварайце групы ***ІБС***, агітуйце за няўдзел у несправядлівых выбарах. Рыхтуймася да новых выбараў прэзыдэнта!

*4 лютага 2004 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*Надрукавана: („Беларус”,– 2004, люты, № 493;*
*„Беларускія Ведамасьці”, – 2003/2004, №1(52);*
*„ Народная Воля,” – 2004, 24 лютага.)*

# ГАНС ВІК КААРДЫНАВАЎ СВАЮ ДЗЕЙНАСЬЦЬ З КГБ

На пачатку года ў рускамоўнай прагэбоўскай (на сёньняшні дзень) газэце *„Белорусская газета”* (іронія назвы), якая выдаецца ў Менску, было зьмешчана інтэрв'ю сумна вядомага Ганса-Георга Віка. Ён там кажа: „Я – чалавек нумар адзін у гэтым пытаньні дачыненьняў зь Беларусяй. Я – тая абсалютна свабодная асоба, якая ведае, што адбываецца ў Беларусі, ведае, што павінна адбывацца. *(Ого!)* Менавіта мяне пытаюць, калі мова йдзе пра Беларусь і пра адносіны да яе”, – бахваліцца Вік. *(„Белорусская газета”, – 2004, 12 студзеня;* file://A:\hod bolszoj dyry.htm*)*.

Як кажуць, ад сьціпласьці не памрэ, але рэдка прыходзіцца такое чытаць.

З усіх функцыянераў замежных спэцслужбаў ніхто не зрабіў столькі шкоды для Беларусі і для беларускай дэмакратыі, як Ганс Вік. Пра гэта мне прыходзілася казаць і пісаць пастаянна, з 1998 года, як толькі Вік разам з КГБ пачаў ствараць у Беларусі так званую „аб'яднаную апазыцыю” (агентуру ўплыву) і рыхтаваць потым так званы „перамоўны працэс” гэтай агентуры („апазыцыі”) з рэжымам Лукашэнкі. Трэба было адцягнуць увагу беларускай і міжнароднай грамадзкасьці ад галоўнага – ад небясьпекі інкарпарацыі Беларусі ў Расею. І другое (чаго хацелі Масква і Бэрлін) – нэўтралізаваць нацыянальна-дэмакратычныя сілы Беларусі, тыя, што вярнулі незалежнасьць і адчынілі дарогу да дэмакратыі і самастойнага разьвіцьця краіны, менавіта – Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”, пазбавіць яго кіруючай ролі ў апазыцыйным руху. Бо пакуль у апазыцыі да рэжыму будзе дамінаваць Фронт, датуль будзе пэрспэктыва нацыянальна моцнай і эканамічна магутнай дэмакратычнай дзяржавы Беларусі. А гэта ня трэба ні Маскве, ні Бэрліну, ні Сорасу.

У 2000 годзе на міжнароднай канфэрэнцыі ў Беластоку Ганс Вік публічна заявіў, што бачыць задачу Менскай Місіі АБСЭ пад яго кіраўніцтвам у тым, каб спрыяць уключэньню Беларусі ў Расею, бо ў Расеі, маўляў, „болей дэмакратыі”. Пасьля гэтай заявы арганізацыі Беларускага Вызвольнага Руху (Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне” і ягоная Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ) аб'явілі Г. Віка пэрсонай нон-грата і запатрабавалі ад краінаў АБСЭ і ад Нямеччыны адкліканьня яго зь Беларусі.

У апошнія гады (пасьля стамбульскага зьезду АБСЭ) нямецкая палітыка ў АБСЭ, на якую ўплываў Ганс Вік (нагадаю, былы кіраўнік зьнешняй разьведкі Нямеччыны), была

накіраваная на стварэньне ўражаньня, што рэжым Лукашэнкі „дэмакратызуецца”. Хацелі невялікіх, чыста фармальных саступак ад Лукашэнкі ўзамен за прызнаньне ягонага рэжыму. Пачалі закулісныя размовы і далі магчымасьць рэжыму выйграць час, скарыстаць адміністрацыйны рэсурс і перамагчы на недэмакратычных выбарах прэзыдэнта. Пасьля гэтага Лукашэнка беспардонна вытурыў Віка. Усё гэта выглядае нават камічна (калі б не было так сумна).

Цяпер Вік пачаў прызнавацца, раскрываць таямніцы Палішынэля. З публікацыі *„Белорусской газеты”* вынікае, што на ўсю „вікаўскую апазыцыю” і на ўсе гэтыя так званыя „перамовы” з рэжымам Вік выкарыстаў каля паўтара мільёна даляраў, якія выдзеліла АБСЭ, а Эўразьвяз санкцыянаваў (адчыніў доступ да фондаў). Гэтак „дапамагалі” „дэмакратыі”, а дакладней – афёры ў Беларусі. (Вось дык Вік!)

„І ўсе эўрапейскія ўрады былі ў курсе, – сцьвярджае Вік у інтэрв’ю, – не было ніякіх таямніцаў! Адзінай таямніцай было тое, што паперы падпісваў таксама шэф беларускага КГБ, іншых таямніцаў не было.” *(„Белорусская газета”, – 2004, 12 студзеня;* file://A:\hod bolszoj dyry.htm*)*.

Вось гэта штука! (Ад нямецкага „шцюк” – п’еса, мастацкі твор.) Вік сам прызнаўся, што ўсё гэтае стварэньне вікаўскай „апазыцыі” зь лябедзяк, калякіных, фраловых, статкевічаў ды гайдукевічаў, уся гэтая фронда ды грантаўская „публіка” стваралася ім з санкцыі КГБ, усе гэтыя „хартыі”, маршыкі „за лучшую жызьнь”, усе гэтыя ганчарыкі-каштуніцы і іхныя апэрэтачныя „выбары” – усё гэта, увесь гэты плян завізіраваў Віку лукашэнкаўскі Камітэт Дзяржбясьпекі, а эўрапейскія ўрады, ня ведаючы „таямніцы” нямецкага разьведчыка, фінансавалі спэцапэрацыю КГБ у Беларусі.

Ну, што ж, як кажуць, прыехалі, спадары. Але Вік ня ёсьць шчырым да канца, калі кажа: „Іншых таямніцаў не было.” Была, аднак, галоўная таямніца, пра якую Вік яшчэ не прызнаўся. Заключаецца яна ў тым, што ўсе грошыкі і ўсё, што ім рабілася, было накіравана адначасна на зьнішчэньне Беларускага Народнага Фронту. У гэтым, мяркую, ён мае яшчэ шанс прызнацца ў судзе пасьля таго, як будзе ліквідаваны рэжым Лукашэнкі зь ягонай падстаўной вікаўскай „апазыцыяй” і на Беларусі ўсталюецца дэмакратычная беларуская ўлада.

Магчымасьцю выкрыцьця Віка тлумачыцца ягонае „дзіўнае” прызнаньне *„Белорусской газете”*. Вік супрацоўнічаў з КГБ, пэўна ж, не на свой страх і рызыку, а зь ведама каго трэба. Усё было разьлічана на тое, што „пераможцаў ня судзяць”. Але антыбеларуская дзейнасьць Віка была галасна раскрыта Беларускім Вызвольным Рухам, а Лукашэнка ў сваю чаргу, скарыстаўшы дапамогу „вялікага дыплямата”, выставіў яго зь Беларусі каленам.

Таму Вік „прызнаўся”, каб ня ўпаў цень на „каго трэба” і каб потым (калі яго абвінавацяць) яму ня трэба было б апраўдвацца. Маўляў, дык я ж пра гэта сам сказаў.

Ведаем мы гэтых „сяброў дэмакратыі”.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2003/2004, №1(52).*

# КРАМЛЁЎСКІ ГАЗАВЫ ШАНТАЖ

Студзень. Сярэдзіна зімы. На Беларусі вялікія маразы. І тут здарылася такое, чаго ніколі нідзе ні з кім у міжнародных адносінах не было. Масква аб’явіла аб рашэньні адключыць падачу газу на Беларусь.

Каб беларусам была больш зразумелая ўся нізасьць расейскага шантажу, нагадаю, што па прынятых міжнародных правілах, у выпадку канфліктнай сытуацыі паміж бакамі, падача газу ня можа быць адключана пасярод зімы. Бо гэта раўназначна раптоўнаму ваеннаму ўдару, ужываньню зброі масавага зьнішчэньня супраць мірнага насельніцтва.

Рашэньне Масквы не вынікае з рэальнай эканамічна-фінансавай сітуацыі, якая склалася ў дачыненьнях. Цынічнае і нахабнае вымагальніцтва Расеі абумоўлена толькі палітычнымі меркаваньнямі Крамля і накіраванае на стварэньне цяжкасьцяў у эканоміцы Беларусі, на разбурэньне яе сістэмаў дзяржаўнага функцыянаваньня, што мусіла б аблегчыць Маскве магчымасьць захопу беларускай нацыянальнай маёмасьці, тэрыторыі і інкарпарацыі нашай краіны ў Расею. Гэтая агрэсіўная палітыка супраць Беларусі аб’яўлена прэзыдэнтам Расеі Пуціным летам 2002 года пры нікчэмным маўчаньні краінаў АБСЭ.

Газавая агрэсія Масквы на беларускае грамадзтва і беларускі народ выклікана жаданьнем націснуць на Лукашэнку і прымусіць яго не гандлявацца, а здаць беларускую нацыянальную маёмасьць расейцам задарма. Газавая атака на Беларусь ёсьць дакладным зьлепкам (што да прынцыпу) газавай атакі рускага КГБ у тэатры на Дуброўцы ў Маскве, калі забілі 130 чалавек, і ніхто не панёс пакараньня. Прынцып рускай энкавэдзісцкай палітыкі заўсёды аднолькавы: галоўнае – мэта, жыцьці людзей значэньня ня маюць.

Расейцы разам з Лукашэнкам рыхтавалі шантаж Беларусі ўжо з 1994 года. Менавіта ў 1994-95 гадах па загаду Лукашэнкі і змове яго з Газпрамам былі пераведзеныя на газ усе беларускія кацельныя цеплацэнтраляў, што раней працавалі на салярцы, якую выпрацоўвалі два нашыя вялікія нафтакамбінаты. Пераход на расейскі газ уздаражыў усё на 30% (салярка была нам танней і выгадней). Лейцы газавага шантажу аказаліся ў Маскве, бо рэжым Лукашэнкі спэцыяльна не стараўся аб іншых крыніцах рэсурсаў энэргіі для дзяржавы.

Энэргетычная прывязка да Газпраму як да адзінай крыніцы супярэчыла стратэгічным інтарэсам Беларусі. Такія дзеяньні магчымыя толькі ў выніку карупцыі на дзяржаўным узроўні, альбо ў выніку нацыянальнай здрады і дзейнасьці супраць нацыянальных інтарэсаў Беларускай дзяржавы.

Расейскі газавы шантаж павінен нагля́дна ў тысяча-каторы раз паказаць беларусам, што такое для нас ёсьць імпэрская аўтарытарная Расея. Шантаж нам ня страшны. Але для прадухіленьня яго – у Беларусі павінен быць беларускі гаспадар, беларускі прэзыдэнт і беларуская незалежная ад Масквы ўлада.

*25 студзеня 2004 г.*

Праз месяц, 18 лютага, маскоўцы сапраўды зрабілі тое, чаго ніхто не чакаў – адключылі падачу газу на Беларусь і далей у Эўропу, нікога не папярэдзіўшы.

Газавы тэрарызм Масквы супраць Беларусі – факт беспрэцэдэнтны і сьведчыць пра сутнасьць расейскай палітычнай агрэсіі, якая мераецца катэгорыямі вайны. ***Галоўны сэнс газавай авантуры Масквы – стварыць сабе выгадныя ўмовы для ўвядзеньня расейскага рубля на Беларусі і прымусіць свайго хаўрусьніка Лукашэнку здацца на расейскія ўмовы. Інкарпарацыя Беларусі ёсьць галоўным зьместам усяго газавага спэктаклю, дзе кожны са змоўшчыкаў гуляе сваю вызначаную ролю.*** Авантура выгадная Пуціну якраз напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі (бо разьлічана, што добра ўспрымецца рускім электаратам). Таксама гэта дасьць магчымасьць прамаскоўскаму рэжыму на Беларусі зноў моцна падвысіць цэны, рыхтуючы лёгкую дарогу на Беларусь рускаму капіталу і паглынаньне нашай краіны.

У гэтай разбойнай палітыцы, аднак, пуцінская Масква не пакідае месца Лукашэнку, лічачы па гэбоўскай звычцы, што лепш свайго прыслужніка душыць, чым зь ім хаўрусавацца. Адсюль – нэрвовыя паводзіны Лукашэнкі, які разьлічвае на большую ўзнагароду ад Масквы за ўсё тое, што ён натварыў зь Беларусяй.

Адключэньне газу Масквой паказала, што рэжым у Крамлі ў прынцыпе не разумее асноваў сучаснага міжнароднага гандлю. Гэта азіятчына, узровень паняцьцяў XIX-га стагоддзя. Так цяпер ня робіцца. Усе бакі павінны дамаўляцца і перамаўляцца, абмяркоўваць агульную сытуацыю, прымаць узгодненае рашэньне.

Але відавочна і другое, што Крэмль перад адключэньнем падачы газу дамовіўся зь немцамі. Бо немцы моўчкі перакінуліся на газ, што йдзе праз Украіну, і ніякіх камэнтароў не зрабілі. Тым часам у Польшчы (якую не папярэдзілі і якая нават крыху пацярпела) узьнялася бура.

На жаль, камэнтары, якія даюць польскія аналітыкі пра прычыны адключэньня падачы газу і пра дачыненьні Расеі зь Беларусяй, характарызуюцца павярхоўнасьцю, неразуменьнем прыроды расейска-беларускага канфлікту і сутнасьці справы. (Праўда, польскія ацэнкі больш прыстойныя і прафэсійныя, чым так званыя „камэнтары" беларускага радыё „Свабода", куды, як звычайна, сьцягнулі розных „мечаных" для зацямненьня справы і абароны Расеі.)

Магчымасьць узьнікненьня такіх сытуацыяў з Расеяй прадбачвалася намі даўно. Яшчэ ў 1990-м годзе Беларускі Народны Фронт прапанаваў канцэпцыю ***Балта-Чарнаморскай супольнасьці*** (***БЧС***) як процівагу Маскве, а потым – праект пабудовы ***Балта-Чарнаморскага нафтавага калектару*** і стварэньне паралельных газава-электрычных гандлёвых пастаўшчыкоў, каб запабегчы магчымаму шантажу з боку Расеі.

Праект Калектара выклікаў нэрвовую рэакцыю ў Крамлі і быў байкатаваны (а потым і ўграблены) урадам Кебіча. Відавочна, што ў выніку газавага канфлікту Лукашэнку ў чарговы раз выдзелілі ролю „незалежніка", у якой ён будзе выступаць. Аднак „роля" правяраецца справай. Унутраная антыбеларуская русіфікацыйная палітыка рэжыму не зьмяняецца, нягледзячы ні на якія „ролі". А гэта і ёсьць сутнасьць палітыкі, незалежна ад палітычных спэктакляў.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*20 лютага 2004 г.*

*Надрукавана: „Беларускія Ведамасьці", – 2003/2004, №1(52)*

# МОВА – ГІСТОРЫЯ – ДЗЯРЖАВА

Беларуская нацыянальная ідэя адлюстраваная ў ідэалёгіі Беларускага Адраджэньня. Яна разьвівалася ў рэчышчы эўрапейскай Вясны Народаў як тыповая зьява, характэрная для Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропы тае пары і палягала на аднолькавых народных каштоўнасьцях. На першым месцы ўсюды стаяла нацыянальная мова, на другім – нацыянальная гісторыя, народныя традыцыі альбо ў цэлым народная культура, часам – рэлігія. Сэнсам усяго нацыянальнага руху было дасягненьне нацыянальнай свабоды і стварэньне (ці аднаўленьне) незалежнай дзяржавы.

Калі вылучыць асноўнае, то галоўныя каштоўнасныя апоры, на якіх трымаліся ўсе нацыянальныя рухі ва Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе, – гэта нацыянальная мова і нацыянальная дзяржава. На сцьвярджэньне перш за ўсё гэтых каштоўнасьцяў была накіраваная ўся астатняя палітычная, культурна-асьветніцкая, мастацкая, літаратурная, тэатральная, эканамічная і іншая праца нацыянальных дзеячоў, арганізацыяў і народных масаў.

Прытым у адных народаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы працэсы мелі ярка выяўлены і нават радыкальны характар, у іншых адбываліся больш спакойна, але разьмеркаваньне прыярытэтаў і нацыянальных каштоўнасьцяў было паўсюдна, практычна, аднолькавым. Гэта абумоўлена, перш за ўсё, падобнымі гістарычнымі і палітычнымі абставінамі, лёсамі нацыянальных грамадзтваў і падобным станам культуры.

Тым часам у іншых частках Эўропы і па ўсім сьвеце (там, дзе занепадалі і разбураліся каляніяльныя сістэмы) у будаваньні нацыі і дзяржавы выступалі часам іншыя каштоўнасныя чыньнікі і прыярытэты – ня толькі мова, культура, гісторыя, але, скажам, рэлігія (Ірляндыя), геаграфічнае становішча (Куба), традыцыя (Швайцарыя) і нават міфалёгія.

Прыярытэт беларускай мовы ў разьвіцьці Беларускага Адраджэньня адзначалі ўсе беларускія нацыянальныя дзеячы, асьветнікі, пачынаючы ад ***Яна Чачота***. Гэтак у змаганьні і паўстаньнях прамінула ўсё XIX стагоддзе, у канцы якога ***Францішак Багушэвіч*** вывеў надзвычай эмацыйна моцную і дакладную формулу: ***„Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!"***

У гэты час (пачатак XX стагоддзя) завершылася таксама фармаваньне палітычнай канцэпцыі Беларускага Адраджэньня як імкненьня нацыі да незалежнага дзяржаўнага існаваньня (ўтварылася палітычная партыя, партыйная газэта і г.д.).

Гэта ёсьць, паўтаруся, эўрапейскі шлях „Вясны Народаў", ягоны аб'ектыўны і прычынна абумоўлены рэестар каштоўнасьцяў, на якіх трымалася нацыя і адбудоўвалася незалежная дзяржава.

* * *

Першая падсумоўка ўсяго руху Беларускага Адраджэньня адбылася 25 Сакавіка 1918 г., калі было аб'яўлена пра незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Аналіз датыхчасовага і ўсяго наступнага пасьля 1918 года шляху Беларускага Адраджэньня паказвае, што з усёй сістэмы ідэалаў, дабратвораў і адзнак апорнымі каштоўнасьцямі, на якіх трымаецца Беларуская нацыя і Беларуская нацыянальная ідэя, ёсьць ***беларуская мова, беларуская гісторыя і беларуская дзяржава***. (Тут я нідзе не кажу пра тэрыторыю, паколькі гэта абавязковая ўмова, якая існуе паўсюдна, дзе існуе нацыя і дзяржава.)

Беларуская мова ва ўсёй гэтай тройцы адзнак ёсьць першасным чыньнікам, які прыходзілася і прыходзіцца найбольш абараняць і які падвяргаўся і падвяргаецца першаму і найбольш яраснаму вынішчэньню, часам невытлумачальнаму для пабочнага асяроддзя, бо зьяўляецца фэнамэнальнай асаблівасьцю беларускага нацыянальнага змаганьня.

Невытлумачальная, на першы погляд, нянавісьць непрыяцеляў беларушчыны да беларускай мовы патрабуе аналізу і зразуменьня. Без свабоды грамадзкага існаваньня і без масавай жыцьцядзейнасьці разьвіцьця беларускай мовы – няма і беларускай гісторыі. Гісторыя тады (з-за адсутнасьці мовы) зьнікае з масавай сьвядомасьці грамадзтва, перастае для яго існаваць, робіцца мёртвай. Бо беларуская гісторыя напісана беларускай мовай. Бяз мовы гісторыя адсякаецца, выкрэсьліваецца з грамадзкай памяці, народ пазбаўляецца сваёй інтэлектуальнай базы разьвіцьця, а асоба – рэалізацыі генетычнай пэрспэктывы (што прыводзіць да зьбядненьня асобы як творчай сутнасьці). Ствараецца сытуацыя, калі робіцца немагчымым узьнікненьне нацыянальных ідэалаў, і разьвіцьцё нацыянальнай ідэі спыняецца.

***Яраснасьць, выпрабленая і сістэмная пасьлядоўнасьць, вычварная бязьлітаснасьць, зь якой нашы непрыяцелі з Усходу і з Захаду забаранялі і вынішчалі беларускую мову, тлумачыцца менавіта яе высокім нацыянальна-гістарычным і культуралягічным фактарам, а ня проста этнічным фэнамэнам, за якім нічога не стаіць, акрамя этнічнага існаваньня.***

Адраджэньне беларускай мовы ў вышэйшых формах культуры (літаратура, тэатр, навука, грамадзкая інфармацыя, асьвета, адукацыя, літургія і г.д.) натуральна і жыцьцёва цягне за сабой і адчыняе ва ўжытак духоўна-інтэлектуальнага разьвіцьця народа ўвесь фонд вялікай беларускай гісторыі. А гэта (зноў жа падкрэсьлім) ня толькі этнічная культура, зафіксаваная ў вусных паданьнях, але і культура вялікай магутнай дзяржавы, якая трымала ў сваім парадку ўвесь усход геаграфічнай Эўропы, у тым ліку і дзяржаўныя ўтварэньні Ўсходу, што пазьней, аб'яднаўшыся зь немцамі, спрычыніліся да ўпадку нашай краіны, да культурнага, этнічнага і фізічнага вынішчэньня беларускай нацыі.

Грамадзкае адчыненьне гісторыка-культурнага фонду нацыянальнай памяці, якое адбываецца праз мову (праз увядзеньне яе ў вышэйшыя сфэры грамадзкага існаваньня), спрыяе адраджэньню гістарычнай сьведамасьці народа, стымулюе творчае разьвіцьцё асобы, нараджае ідэалы будучыні, фармуе нацыянальную ідэю свабоды і незалежнага разьвіцьця нацыі.

* * *

Утварэньне такой незалежнай дзяржавы як Эстонія па вялікім маштабе, практычна, не ўшчымляла нічыіх інтарэсаў, акрамя агрэсіўных памкненьняў Расеі да захопу чужых тэрыторыяў. Тым часам нацыянальна-дзяржаўнае адраджэньне Беларусі – гэта цэлая перабудова сьвету ў сьведамасьці Расеі. Абвальваюцца цэлыя культуралягічныя сістэмы, пабудаваныя на міфалёгіі, прысваеньні і хлусьні, разваьваюцца прывычныя, штучна створаныя ўяўленьні, зьмяняецца геапалітыка.

Паўстаньне з попелу Фэнікса Беларусі, якую ўжо звалілі, распласталі, два стагоддзі прадумана і мэтанакіравана нішчылі, таптралі, прасавалі, глумілі, тахцілі з гіканьнем і сьвістам, скошвалі кожнае пакаленьне і ўсім хацелі даказаць, што нічога беларускага няма, – паўстаньне незалежнай Беларусі і адраджэньне беларускай мовы сталася шокам для вялікадзяржаўнай Масквы. Невыпадкова ў зьнешнепалітычнай дактрыне Расеі, сфармуляванай пры Ельцыне ў 1995 годзе, Беларусь і заходні напрамак аб'яўлены галоўным у расейскай экспансіі. (Заўважце, ня поўдзень, не Каўказ, не Чачэнія, дзе йдзе вайна, а Беларусь.)

Захоп улады ў Беларусі знутры сіламі расейскіх спэцслужбаў у 1994-1996 гг. выявіў найбольш характэрныя рысы расейскай антыбеларускай палітыкі.

З чаго пачалася новая акупацыйная дзейнасьць? З кантролю над інфармацыяй і з падрыхтоўкі рэфэрэндума, пытаньні якога былі накіраваныя ***на зьнішчэньне беларускай мовы, на ліквідацыю нацыянальнага гэрба і сьцяга і на падрыў суверэнітэту краіны***. Вась што было для Масквы галоўным і найвышэйшым.

11-га красавіка 1995 года дэпутацкая Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце зрабіла адчайную спробу ўплыву на перастрашаных рэжымам дэпутатаў парляманту (аб'явіла сядзячую галадоўку ў зале) з мэтай не дапусьціць прыняцьця антыканстытуцыйных пытаньняў рэфэрэндуму. Франтаўцы выйгралі. Антыканстытуцыйныя пытаньні не прайшлі, былі адмененыя галасаваньнем.

Гэта абазначала крах антыбеларускай палітыкі ў самым пачатку. Тады рэжым, ламаючы законы і нормы, робіць грубы і авантурны крок. Ноччу 12 красавіка Лукашэнка ўводзіць войскі ў парлямант (батальён „спэцназу"). Зьбіваюць дэпутатаў Народнага Фронту і сілай вывозяць з парляманту.

Далейшыя падзеі вядомыя. Нараніцы дэпутаты БНФ зьвяртаюцца ў пракуратуру, і Генэральны пракурор узбудзіў крымінальную справу па факту ўводу войскаў у парлямант і зьбіцьця дэпутатаў. Тут жа нараніцы Прэзыдыюм Вярхоўнага Савета прымае рашэньне аб пастаноўцы патаньня на Сэсіі аб абмежаваньні, згодна з Канстытуцыяй, дзейнасьці прэзыдэнта Лукашэнкі ў сувязі з узбуджэньнем крымінальнай справы. Лукашэнка акружае міліцыяй і войскам парлямант, не пускае на сэсію „не сваіх" дэпутатаў, і ў гэты час, парушаючы працэдуру і Закон аб рэгляманце, прымушае правесьці незаконнае перагаласаваньне рашэньняў, прынятых 11-га красакавіка па пытаньнях рэфэрэндуму.

Гэтак ваяваў прамакоўскі рэжым з „выпячиванием белорусского языка" ды з „флажкамі" (як яны раней казалі, нападаючы на БНФ). На карту ставілася ўсё. Ішлі на адкрыты крымінал, гатовыя былі на забойствы (я ўжо не кажу пра лістападаўскі пераварот у 1996-м).

Далейшыя дзеяньні рэжыму таксама вядомыя. (Зачыненьне беларускіх школаў, спаленьне беларускіх падручнікаў для школаў, захоп беларускіх выдавецтваў, абмежаваньне выданьняў беларускіх кніг і часопісаў, ліквідацыя беларускіх радыёстанцыяў, выгнаньне беларускай мовы з тэлебачаньня, зачыненьне беларускіх газэтаў, перасьлед арганізацыяў і людзей,



(Фота зь беларускага друку)

*33. Драўляны касьцёл з XVIII ст. у Мядзелі. Не захаваўся.*

што актыўна абараняюць беларускую мову, траўля Васіля Быкава, рэжымны русіфікацыйны кантроль над вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, над Акадэміяй Навук і г.д.)

* * *

Лукашэнка як русіфікатар і разбуральнік беларускай культуры ёсьць для Масквы вельмі каштоўным стаўленьнікам. Пра гэта маскоўцы не стамляюцца казаць, але адносяцца да яго з грэблівасьцю і непавагай (маўляў, „наш сукін сын”, – гэтак абразьліва і пішуць). Такая ёсьць расейская мэнтальнасьць. Акрамя таго, што „Масква слезам не верит”, яна ніколі не паважае залежных ад сябе (лакеяў, здраднікаў, стаўленьнікаў, марыянэтак і г.д.), ці гэта Лукашэнка, ці Гамулка, ці Гусак, ці які-небудзь Кошут. Маскву раздражняе словаблудзтва, настырнасьць і прэтэнцыёзнасьць Лукашэнкі. Яго паспрабавалі б замяніць, калі б знайшлі лепшага, ці хаця б такога ж, але без залішніх прэтэнзіяў. І пошукі Масква вядзе.

Усё гэта я тут узгадваю дзеля таго, каб адзначыць, што чарговы кандыдат на стаўленьніка, акрамя таго, што ён мусіць быць кадравай асобай КГБ (ці хаця б зьвязанай з КГБ), абавязкова павінен будзе засьведчыць Маскве сваё непрыняцьце беларускай мовы і прыхільнасьць да „інтэграцыі” (злучэньня) з Расеяй. Гэта неабходная ўмова для стаўленьнікаў Масквы ў Беларусі. Некаторыя з цяперашніх так званых „апазыцыйных дэмакратаў”, зразумеўшы кан’юнктуру, ужо сталі, як школьнікі, наперабой цягнуць ручкі ды пасьпешна выказвацца супраць мовы і „нацыяналізму”. (Ану ж заўважаць, дадуць грошай, ану ж пашанцуе!)

Нават пабежны погляд на цяперашнюю маскоўскую антыбеларускую палітыку дазваляе адразу ўбачыць, што расейцы (рускі КГБ) дасканала разумеюць становішча. Зьнішчэньне беларускай мовы яны разглядаюць не як тактычную, не як дапаможную задачу дзеля інкарпарацыйнай мэты, а як галоўны стратэгічны накірунак у пазбаўленьні беларускай нацыі здольнасьці да культурнага існаваньня і да супраціўленьня экспансіі.

Беларускае грамадзтва цяпер яшчэ не гатовае адэкватна разумець і рэагаваць на такую палітыку, бо ня выйшла яшчэ са стану савецкага духоўнага калапсу, а інтэлігенцыя (якая зьяўляецца часткай гэтага грамадзтва) не набыла волі да палітычнага змаганьня.

Гэта ня значыць, аднак, што ва ўмовах унутраннай акупацыі ўсе адукаваныя людзі павінны займацца палітыкай і не рабіць пазытыўную культурную працу. Тут справа выбару. Але размова йдзе пра прыярытэты. У тым становішчы, у якім апынулася наша краіна, прыярытэт палітыкі бясспрэчны. Ад яе ніхто не схаваецца. А калі хто і схаваецца, то палітыка яго ўсяроўна дастане, бо змаганьне йдзе за ўсю Беларусь. Вась чаму адзін зь вядомых цяперашніх лёзунгаў беларускага Адраджэньня гучыць так: ***„Не правы чалавека – галоўнае для беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо не бывае „правоў чалавека” пад акупацыяй”.***

Гэта сэнтэнцыя дзеля высьвятленьня прыярытэту. Палітычная барацьба за захаваньне дзяржаўнай незалежнасьці і за нацыянальную свабоду ёсьць галоўная, гэта ёсьць звышзадача і прыярытэт. І гэта не азначае, што ня трэба змагацца за правы чалавека. Але калі змагацца толькі за правы чалавека, ігнаруючы пагрозу незалежнасьці дзяржавы з боку Расеі (на што штурхаюць увесь час беларускую «апазыцыю ўплыву»

заходнія лібэралы, якія дружаць з дыктатарскай Масквой), то зразумела, што ў выніку ня стане ні «правоў», ні незалежнасьці.

Калі мы маем ужо незалежную дзяржаву і калі існуе пагроза незалежнасьці нашай дзяржавы, – прыярытэт палітыкі, накіраванай на абарону і захаваньне незалежнасьці, ёсьць галоўным. Бо толькі маючы дзяржаву, можна ў прынцыпе вырашаць пытаньні нацыянальнага разьвіцьця (і правоў чалавека, і адраджэньня беларускай культуры, мовы, будаўніцтва нацыянальнай адукацыі і г.д.).

Тым часам абсурдна выключаць пазытыўную працу ў цэлым (бо жыцьцё ня мусіць спыніцца), ці наадварот – адмаўляць палітычную дзейнасьць і заклікаць займацца не палітыкай, а толькі пазытыўнай працай (скажам, выключна прапагандай беларускай мовы, паколькі яна галоўная каштоўнасьць нацыі і г.д.).

Прыклады, якія я прывёў, агульнавядомыя. Але трэба было пра іх сказаць, бо, на жаль, гэта тыповыя ўзоры агентурных пастановак па дыскрэдытацыі адраджэнцкага руху, разьлічаныя на нясьпеласьць масавай сьвядомасьці людзей, улучаных у палітыку, ды, магчыма, – разьлік на прыродную неахвоту да аналізу і да ўсялякага неканкрэтнага думаньня. Такі ёсьць цяпер узровень нашай грамадзкай рэчаіснасьці, які таксама трэба прымаць пад увагу.

Існуюць, аднак, больш выробленыя псэўдаідэі супраць беларускай мовы і Адраджэньня, распрацаваныя рускімі гэбоўскімі інтэлектуаламі. Адна зь іх гучыць так, што мова, маўляў, ня мае значэньня ў нацыянальным будаўніцтве. Беларуская нацыя, нібыта, можа існаваць і з рускай мовай. (Гэта як „беларуская школа" з рускай мовай навучаньня). Існуе ж, маўляў, з ангельскай мовай Ірляндыя.

Пра розныя ўмовы і чыньнікі нацыянальнай дзяржаўнасьці ў сьвеце я ўжо казаў. Параўнаньне Беларусі з Ірляндыяй (ці, калі б было, з Швайцарыяй, краінамі Лацінскай Амэрыкі, альбо Афрыкі ці Азіі) некарэктнае, бо прыклады адносяцца да розных тыпалёгіяў.

З прычыны абставінаў, галоўнымі кансалідуючымі фактарамі ірляндзкага нацыянальнага руху сталі каталіцызм, гісторыя, нацыянальная дзяржава. Бальшыня ірляндцаў – каталікі. Супраціўленьне ангельскай экспансіі пасьля страты незалежнасьці ў XVI стагоддзі ішло па рэлігійнай мяжы. Прытым ірляндцы былі ў абароне.

Абарона супольных каштоўнасьцяў ад агрэсіі, змаганьне ў аблозе спараджае моцнае пачуцьцё салідарнасьці і часам псіхалёгію гета (абвостраную рэакцыю па лініі „свой-чужы"). Каталіцызм стаў першаснай каштоўнасьцю ў самастойным выжываньні ірляндцаў і ў стварэньні імі незалежнай дзяржавы і застаецца галоўным незалежніцкім чыньнікам па сёньняшні дзень. Істотна ўзмацняла гэты чыньнік тое, што Ірляндыя разьмешчана на востраве, ня мае памежных суседзяў, акрамя Англіі (і ня мела іншых ворагаў, акрамя Англіі).

Беларусь жа – кантынетальная краіна, мяжуе з пяцьцю дзяржавамі. Абарона нацыянальнай тоеснасьці пасьля страты незалежнасьці ў канцы XVIII стагоддзя вялася на два канцы, па лініі Ўсход-Захад (надзвычай нязручная абарона для кансалідацыі грамадзтва).

У расейскім заборы Беларусь пацярпела канфэсійны крах. Была гвалтам ліквідаваная Вунія – аб'яднoўваючая канфэсія беларусаў. На сёньняшні дзень у Беларусі тры асноўныя хрысьціянскія канфэсіі, якія кіруюцца з чужых замежных цэнраў. Поўнасьцю адсутнічае агульнанацыянальны чыньнік канфэсійнай кансалідацыі. Наадварот, тут схаваная патэнцыяльная пагроза разлому грамадзтва, які ўсяляк хочуць справакаваць непрыяцелі беларускай незалежнасьці.

* * *

***Беларускую нацыю, паўтаруся, кансалідуе найперш беларуская мова і адчыненая праз яе гісторыя (куды ўваходзяць таксама звычаі і традыцыі) і аб'яднoўвае нацыянальная дзяржава, заснаваная на гэтых кансалідуючых фактарах і нацыянальных інтарэсах. Вось падмурак і грунт, на якім стаім і можам быць.***

Ліквідацыя беларускай мовы няўхільна спыніла б працэс нацыянальна-культурнага разьвіцьця, размыла б базу нацыянальнай лучнасьці грамадзтва. Застаўся б, аднак, фактар канфэсійнага падзелу, які абвастрыўся б з павелічэньнем расейскай экспансіі і вынішчэньнем усяго беларускага. Прытым працэс татальнага вынішчэньня ўсяго беларускага стаўся б непазьбежным, адбываўся б абавязкова (гэтак жа, як ідзе ён ужо цяпер, толькі тады шматкроць узмацніўся б), бо ***руская мова на Беларусі ня ёсьць нэўтральнай. Гэта мова агрэсіўнага боку, які мае прэтэнзіі на Беларусь, праводзіць палітыку інкарпарацыі і экспансіі, дзе сама руская мова зьяўляецца сродкам захопніцкай палітыкі***.

Беларуская нацыя як супольнасьць у схеме рускай мовы ня можа існаваць. Яна прымусова асімілюецца, нішчыцца, зьнікае. Адпаведна зьнікае і беларуская дзяржава.

Уся гісторыя беларускага руху, нацыянальнага Адраджэньня і стварэньня беларускай дзяржавы – гэта (перш за ўсё) гісторыя барацьбы за ўсталяваньне беларускай мовы і адначасна гэта гісторыя змаганьня з рускай мовай як з сродкам вынішчальнай вялікадзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі.

Таму агентурны тэзіс пра беларускую нацыю з рускай мовай – гэта русіфікатарскі анахранізм, адгалосак даўняй шавіністычнай канцэпцыі „западнорусізма" і на сёньняшні дзень проста глупства, такая ж заведамая фальш, як і „правы чалавека" без незалежнасьці пад акупацыяй, толькі сфармуляванa ўсё на іншым узроўні.

Перад беларускай нацыяй і дзяржавай вялікі шлях. Шмат праблемаў і дзейнасьці вымагае аналізу і абагульненьня. Аднак цяперашняя рэчаіснасьць такая, што трэба вяртацца ізноў да таго, што зрабілі (ці чаго не зрабілі) сто гадоў таму, каб зноў пазнаць, паўтарыць ці растлумачыць, каб яшчэ раз разглядзець зьявы, што ўжо разгледжаныя, нават тыя, што не дыскутуюцца, пра што ўжо ў іншых месцах не гавораць. І тым ня менш, нам гэта трэба рабіць. Бо перарывалася цягласьць пакаленьняў і рух нацыянальнай гісторыі.

Ніштo, ніякія цяжкасьці нацыянальнага лёсу ня мусяць спыняць поступ беларускай нашай хады. Крок за крокам, дзень за днём мы імкнемся наперад, адступаючы, вяртаемся і, пераганяючы, мы йдзем у нашу лепшую будучыню.

*20 сакавіка 2004 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус",– 2004, красавік, № 495; „Беларускія Ведамасьці", – 2004, №2(53).*

# „ПАКРОКАВАЯ ПАЛІТЫКА” ЗЬНІШЧЭНЬНЯ

***(Нататкі за красавік і травень 2004 г)***

„Пакрокавая палітыка” (азначэньне У. Пуціна) зьнішчэньня беларускай нацыі цяпер распрацавана расейцамі гэтак жа сама, як царская палітыка вынарадаваньня і русіфікацыі беларусаў ў XIX стагоддзі, але – з далучэньнем цяперашніх гэбоўскіх „тэхналёгіяў”. Распаўсюджаны накірунак (гэтага пакрокавага этнацыду) сплянаваны па прынцыпу кітайскага катаваньня пад назвай „тысяча кавалачкаў” (калі ахвяру забівалі паступова, шляхам анатамічнага адразаньня частак цела). Забараняюць ня ўсю нацыянальную зьяву, а толькі ключавую, апорную яе частку, адсутнасьць якой уключае працэс самаразбурэньня сістэмы.

Па гэтай мэтадалёгіі, напрыклад, забараняецца ўжываньне ключавых словаў. У Беларусі, скажам, заканадаўчым рашэньнем існуючая прарасейская ўлада забараніла ўжываць словы „беларускі” і „народны” ў назвах і абазначэньнях арганізаваных грамадзкіх супольнасьцяў і зьяваў. Вынік гэтакай дэфармацыі культуры атрымаўся вельмі балесны і адчувальны. Па гэтакай жа подлай русіфікатарскай схеме было накінута нібыта дзяржаўнае двухмоўе і інш. алагізмы.

Рэжым, напрыклад, забараніў (ці па ягонай тэрміналёгіі, адмяніў) абавязковы экзамен па беларускай літаратуры за курс сярэдняй школы. Падзея, нібыта малазаўважальная ў кантэксьце жыцьцёвых праблемаў грамадзтва, выклікала небясьпечныя культуразбуральныя вынікі, нацэленыя на пэрспэктыву дэградацыі нацыянальнай культуры.

Абсалютная бальшыня вучняў пасьля адмены экзаменаў проста не чытае праграмныя творы беларускіх пісьменьнікаў і ўвогуле творы беларускай літаратуры. Што гэта абазначае для грамадзтва, калі разьвіцьцё, сьведамасьць і інтэлект асобы выключаны з кантэксту нацыянальнай літаратуры, – вядома: чалавек не разьвіваецца, дакладней не рэалізуецца як нацыянальная культурная асоба. Ён можа застацца беларусам і будзе сябе самавызначаць, але на прымітыўным узроўні, думаньне яго, як правіла, застанецца па-за сфэрай нацыянальна-культурных інтарэсаў, паводзіны ў важных момантах жыцьця нацыі (выбары, навучаньне, адносіны да адукацыі, эканомікі, вайны, унутранай і замежнай палітыкі і г.д.) характарызуюцца неадэкватнасьцю, алагізмам, бытавым эгаізмам і зьнішчэньнем уласнай пэрспэктывы. Асоба проста дрэнна арыентуецца з-за несфармаваных нацыянальна-культурных каштоўнасьцяў у ёй самой.

Нацыянальная літаратура на нацыянальнай мове, як вядома, ёсьць чыньнікам і прыкметай існаваньня нацыі. Гэта добра ведаюць нашы непрыяцелі ў Маскве, і ў той жа час цалкам не арыентуюцца шмат якія, здавалася б, адукаваныя беларусы. (Адукаваныя ў рускай школе і ў рускім унівэрсітэце.) Дзіўна глядзець на людзей адукаваных і нацыянальна сьляпых, якія нават не здагадваюцца, што атрымалі зусім ня тую адукацыю, каб рэалізавацца ў родным грамадзтве.

Вось што абазначае, здавалася б, нязначны штрых у антыбеларускай палітыцы рэжыму, – адмена абавязковага экзамену па беларускай літаратуры.

Мы ўжо ня кажам, як гэта паўплывала на саму літаратуру, на рынак беларускай кніжкі, на закрыцьцё адзінага беларускага выдавецтва для дзяцей „Юнацтва” і г.д. Незаўважна беларуская літаратура перастае быць прафэсійным заняткам. Зь беларускай літаратурнай працы (будзь хоць тройчы геній) становіцца немагчыма існаваць. Пісьменьнік (і нават вялікі пісьменьнік) ня можа зарабляць сваёй творчасьцю на пражыцьцё, бо па-беларуску проста немагчыма, няма дзе друкавацца. А калі надрукавацца, то колькі суграмадзянаў, што скончылі школу без экзаменаў, будуць чытаць?

Наш народ загналі да вельмі небясьпечнай рысы. І самае небясьпечнае ў тым, што грамадзтва ў большасьці гэтага ўжо не разумее.

У гэтым жа красавіку было зроблена яшчэ некалькі чарговых лукашэнкаўска-пуцінскіх „крокаў”. Зачынілі беларускую дзіцячую рэдакцыю на дзяржаўным радыё, ліквідавалі адзіны дзяржаўны паўсюдна вядомы беларускі часопіс для школьнікаў – „Бярозка” (рэдакцыйны калектыў звольнены ў поўным складзе).

Яшчэ было шмат звыклых для рэжыму крымінальных „крочкаў”: пабіцьцё людзей, напады на беларусаў, псаваньне беларускіх шыльдаў і іншае. Напрыклад, 15-га красавіка вечарам садралі мэмарыяльную дошку ***Ўсеваладу Ігнатоўскаму*** з інфармацыйнага цэнтру „Бацькаўшчына” ў Менску. Прытым сьведкі бачылі тых, хто гэта рабіў. Побач, за 15 мэтраў, стаяў міліцэйскі патрульны аўтамабіль. Але міліцыянт, які там сядзеў, як звычайна, сказаў, што нікога ня бачыў (відаць, стаяў дзеля аховы злачынцаў).

З пачатку красавіка беларускія часопісы „Полымя”, „Маладосьць”, тыднёвік „Літаратура і Мастацтва”, якіх прымусам загналі ў так званы літаратурны „голдынг”, перасталі прадаваць у шапіках („голдынг” забараніў). Дзеля чаго гэта зроблена – вядома.

„Крокі” і „крочкі” беларусажэрства сваёй чаргой працягваліся ў траўні. 11-га траўня ў Горадні міліцыя і КГБ уваліліся ў офіс „Бацькаўшчыны” і „Таварыства беларускай мовы”. Усё ператрэсьлі, абшукалі, апячаталі аргтэхніку і забралі сістэмныя блёкі з чатырох кампутараў. „До свидания, граждане белорусцы. Всех благ.” І праўда, пасьля гэтых – нічога добрага не застаецца, адно благое. І нічога добрага яны ніколі ня зычаць.

Звычайная зьява і ў нашых настаўнікаў. Тут таксама – тыповыя „крокі”. Як напрыклад, зь ***Мікалаем Анісаўцам***, настаўнікам Каўпенскай школы, што на Лоеўшчыне. Усім настаўнікам раённае начальства прапанавала падпісаць кантракты на чатыры гады, а Анісаўцу – на год. Чаму? А таму, што настаўнік займаецца беларускай грамадзкай дзейнасьцю, стварыў і кіруе гістарычна-культурным і экалягічным аб’яднаньнем „Карані”, абараняе мясцовыя інтарэсы і сьведчаньні гістарычнай культуры. „Прыдушыць яго”, – такі вось „крочак”.

У мінулым годзе рэжым ліквідаваў Беларускі Гуманітарны Ліцэй імя Якуба Коласа ў Менску. Ад вучняў адабралі будынак і ўсіх выкінулі на вуліцу. Пэдагогі і бацькі вучняў рашылі захаваць Ліцэй нелегальна, прыватным чынам. Каб лепш наладзіць справу, бацькі і настаўнікі стварылі супольную арганізацыю „Беларуская гуманітарная адукацыя – XXI стагоддзя”. Аднак Мін’юст адмовіўся яе зарэгістраваць. У траўні гэтага году арганізатары зьвярнуліся ў раённы суд. Суд стаў на бок Мін’юста. Тады зьвярнуліся ў Менскі гарадзкі суд. І Гарадзкі суд быў за Мін’юст. Заяўнікі стараліся даказаць беспадстаўнасьць і незаконнасьць паводзінаў Мін’юста. Тады галоўны „спэцыяліст” Упраўленьня юстыцыі Менгарвыканкаму Аляксей Шчарбовіч заявіў, што „галоўная прычына адмовы ў рэгістрацыі – уключэньне ў назву аб’яднаньня слова „беларуская”, якое недапушчальнае па закону”.

Вось так, „гаспада-таварышчы”. Не забывайцеся, у якім сьвеце жывяце і хто ў доме вашым гаспадар.

У гэтых акупацыйных умовах зьвяртаюць на сябе ўвагу два аспэкты паводзінаў. Чыноўнік-беларус Аляксей Шчарбовіч з пенай падтрымлівае забарону слова „беларускі” і душыць гэтым іншых беларусаў. Гэта фэномэн, бо гэта ўсеагульная і тыповая зьява. За ўсё сваё жыцьцё, прытым паезьдзіўшы па сьвеце і пажыўшы ў чужых краёх, я ніколі ня чуў, каб недзе існавала нешта падобнае. У Савецкім Саюзе русіфікатары рабілі з усіх „савецкі народ” (і гэта была дзяржаўная палітыка). Але тады ня тое што эстонскія камуністы ці, скажам, армянская камуністычная бюракратыя баранілі сваю адукацыю і мову, а нават чукчы, эвенкі, якуты, ханты ды мансі, прарваўшыся ў бюракратыю, ня зьдзекваліся над сваім. А тут – нашчадкі вялікага народа, магутнай дзяржавы і высокай культуры, стаўшы сталаначальнікамі на службе ў чужых, паводзяць сябе паўсюдна, масава і пры любых акупантах як самагубцы, як здраднікі, як шкодная зараза, топчуць, галёкаюць, зьдзекваюцца над сваім, гатовыя выканаць наперад любы абсурд, любы загад на забіцьцё свайго і на халуйскае таптаньне яго ў бруд.

Другі фэномэн добра вядомы – гэта нізкія змагарныя якасьці беларускай савецкай інтэлігенцыі. (Бо беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі ў нас, фактычна, няма. Яе зьнішчылі яшчэ ў ХХ-м стагоддзі.)

„У гэтай сытуацыі мы вырашылі больш ня траціць грошы бацькоў навучэнцаў на бессэнсоўныя спробы рэгістрацыі вучэбнай установы”, – сказаў кіраўнік арганізацыі, прафэсар.

Вось так, уперліся ў слуп і спыніліся. На абходныя манеўры фантазіі не хапае. Пераназвалі б, скажам, арганізацыю кшталтам „Гуманітарная адукацыя на мове Якуба Коласа і Янкі Купалы” – і ў Мін’юст на рэгістрацыю. Няхай паспрабуюць яшчэ і Купалу з Коласам забараніць. Лепей, каб рэжымная палітыка працавала б супраць акупантаў, а ня супраць беларусаў.

Паглядзіш на ўсё, і разумееш, чаму так лёгка ўдаецца маскоўцам праводзіць на Беларусі сваю антыбеларускую „пакрокавую” стратэгію.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2004, №2(53), с.8-9).*

# НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ

Летам 1944 года на Беларусі скончылася нямецка-фашыстоўская акупацыя і зноў вярнулася расейска-савецкая, разам з кампартыяй і НКВД. Беларускія гарады, разбамбаваныя нямецка-савецкай авіяцыяй, ляжалі ў руінах, бальшыня вёсак спалена, сотні – разам зь людзьмі. Вэрмахтам, СС, Чырвонай арміяй, НКВД, Штаатдынст (СД) і савецкімі партызанамі забіты кожны чацьверты беларус (а ўлічваючы 20-я і 30-я гады – кожны трэці).



(Фота з Сеціва, 1944 г.)

***34. Менск разбураны савецкай авіяцыяй 1944 г.***


(Фота з Сеціва)

*35. Менск, чэрвень 1941 г. Гараць дамы на вуліцы Бабруйскай, падпаленыя савецкім НКВД.*

Беларусы былі ўключаныя ў вайну ў асноўным на баку Савецкага Саюзу. Тыя, што змагаліся за Беларусь супраць бальшавікоў на баку немцаў, у канцы вайны перайшлі да аліянтаў і павярнулі зброю супраць Вэрмахта.

Беларусь унесла вялікі ўклад у перамогу над фашызмам, моцна пацярпела за часы нямецкай акупацыі і адносіцца да краінаў-пераможцаў. Усе краіны-пераможцы вярнулі свае тэрыторыі і мелі кампэнсацыі за страты. Усе, акрамя Беларусі, якая (парадокс!) страціла свае тэрыторыі і нават сваю гістарычную сталіцу. ***Гэта вынік змаганьня пад чужымі сьцягамі і за чужыя інтарэсы.***

Разумныя высновы з гэтага не было каму рабіць. Беларускую нацыянальную інтэлегенцыю зьнішчылі яшчэ ў 30-х, а тая, што засталася, у час вайны эмігравала на Захад. Улада ў Беларусі была аддадзена Масквой у рукі савецкіх партызанаў НКВД.

Цэлае пакаленьне беларусаў (і ў Беларусі, і ў эміграцыі), што вытрымала і вынесла на плячах гэтую фашыстоўска-бальшавіцкую вайну, да канца свайго існаваньня (а яно акурат цяпер заканчваецца) жыло вайной. Вайна вызначыла іхны лёс.

Лёсавызначальнасьць 2-й Сусьветнай вайны (фактычна, вайна была адна, толькі з перапынкам у 20 гадоў) добра адчулі ў Маскве. КПСС пабудавала на гэтым сваю палітыку і дзяржаўную ідэалёгію, эксплуатавала жах людзей перад вайной для апраўданьня таталітарызму, сацыяльнай беднасьці і імпэрскай палітыкі. Страх перад вайной стаў галоўным элемэнтам халоднай вайны КПСС супраць забраных народаў Савецкага Саюза. Крызіс СССР змог узьнікнуць і рэалізавацца ў частковым распадзе бальшавіцкай імпэрыі толькі тады, калі, практычна, поўнасьцю зьмяніліся пакаленьні, а дакладней, – калі зышло з палітычнай арэны пакаленьне вайны.

Але мы – пасьляваенныя беларусы – ня можам, ня маем права забыць Сусьветную вайну па двух прычынах. Першая – незьлічоныя ахвяры і пакуты народа. І другая, галоўная – хлусьня пра вайну. Вялікая мярзотная хлусьня на крыві беларускай нацыі. Народ ня можа годна існаваць на хлусьні. І каб здабыць праўду, дзеля нашага народнага здароўя і будучыні, мы заўсёды павінны памятаць, што і як было ў першай палове 1940-х гадоў, мусім разабрацца і ацаніць свой народны лёс.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2004, №3(54).*


(Фота з Сеціва)

*36. Менск, чэрвень 1941 г. Гараць будынкі ўніверсітэта, падпаленыя падпальшчыкамі НКВД.*



(Фота з Сеціва, Bundesarchiv)

*37. Гэтыя нелюдзі вешалі людзей і палілі беларускія вёскі. Зьлева на машыне з узьнятай рукой кіраўнік СС у Менску Курт фон Готбэрг, які, як мяркуюць даследчыкі, падрыхтаваў забойства Вільгельма Кубэ.*



(Фота з Сеціва)

*38. Адзін з уражлівых здымкаў 2-й Сусьветнай вайны. Габрэі з гета перад акцыяй зьнішчэньня. Хвіліны перад канцом. Здымак зроблены верагодна ў Польшчы, на Украіне ці ў Беларусі.*



(Фота з Сеціва)

*39. Нямецкае сярэднявечча ў разбомбленым саветамі Менску (пляц Волі). Група «дойчэ-турыстаў» аглядае трупы павешаных.*



(Фота з Сеціва)

*40. «Рабсіла» акупантаў. Беларускую моладзь вывозяць на прымусовую працу ў Нямеччыну. Баранавічы 1942 г.*


(Фота з Сеціва)

*41. Нямецкае сярэднявечча ў Менску. Павешаныя на Камароўцы (пл. Якуба Коласа). 1941-1944 гг.*


(Фота з Сеціва)

*42. Застольле ў доме Вільгельма Кубэ. У глыбіні В. Кубэ з жонкай.*



(Фота з Сеціва)

***43. Фрагмэнт старога Менска (Пляц Волі, частка Нямігі і Нізкага Рынку) зьнята зь нямецкага самалёта. У 1941-44 гг. стары Менск быў разбураны савецкай авіяцыяй, астатняя забудова масава зьнесена саветамі ў 1946-1952 гг. у 1960-66 гг., 1969-74 гг. і фрагмэнтарна на працягу ўсяго савецкага пэрыяду.***

(Фота з Сеціва)

***44. Немцы ў Вярхоўным Савеце, 1941-44 гг.***

# ВАЕННАЯ ЭМІГРАЦЫЯ

Сёлета споўнілася 60 гадоў з часу зьмены акупацыяў на Беларусі. Летам 1944 года на месца нямецкага нацыянал-сацыялізму Вэрмахту і Гестапа зноў вярнуліся расейскія бальшавікі, Чырвоная армія і НКВД. Гэтыя падзеі 60-гадовай даўніны мелі вялікія зьнішчальныя наступствы для нашага народа. За гэты час расейцамі была разбурана нацыянальная структура беларускай культуры.

Савецкая акупацыя і вяртаньне расейскіх бальшавікоў у 1944 годзе падавалася савецкай прапагандай як вызваленьне ад нямецкіх захопнікаў. Вядома, так яно й было. Толькі на месца нямецкіх захопнікаў вярнуліся расейскія захопнікі, і ўсё зноў пачалося, як перад вайной.



(Фота з Сеціва)

*45. Энкавэдзісты (Менск, 1930-я гг.) Гэтыя нелюдзі забівалі людзей у Курапатах.*

Тысячы беларусаў, якія ў часы нямецкай акупацыі змагаліся за Беларусь адначасна супраць бальшавікоў і супраць фашыстаў, вымушаныя былі разам зь нямецкім войскам пакінуць Беларусь перад наступаючай Чырвонай арміяй.

Калі ваенныя дзеяньні перанесьліся на тэрыторыю Эўропы і ў Нямеччыну, беларускія вайсковыя адзінкі (сфармаваныя ў апошні час пры дапамозе немцаў) адкрыта перайшлі на бок аліянтаў. Шмат беларусаў змагаліся ў арміі генэрала Андэрса і на баку французкага супраціўленьня.

Беларускія вайскавікі, беларускія афіцэры, беларускія грамадзкія і рэлігійныя дзеячы склалі, такім чынам, аснову беларускай палітычнай эміграцыі на Захадзе. Гэта былі людзі высокай патрыятычнай сьведамасьці, якія не аддзялялі свайго лёсу і сваіх дзеяньняў ад лёсу і будучыні ўсяго народа і ўсёй Беларусі.

Трэба сказаць, што гэтая эміграцыя сыграла вялікую гістарычную ролю ў змаганьні за волю і незалежнасьць Беларусі.

Найперш, яна зьберагла ідэалы Сакавіка і вялікую Беларускую Ідэю, захавала беларускія сымвалы і сьвятыя каштоўнасьці нацыі (сьцяг, гэрб, гімн).

Сьведамыя беларусы за мяжой стварылі беларускія грамадзкія, культурніцкія, рэлігійныя і палітычныя арганізацыі.

Яны ўключыліся ў міжнароднае змаганьне вольнага сьвету супраць камунізму і расейскага бальшавізму на Беларусі, прынялі ўдзел у халоднай вайне, якая скончылася перамогай над Савецкім Саюзам.

І, нарэшце, (вельмі істотнае) – беларускія дзеячы і інтэлектуалы на Захадзе стварылі тут моцную дасьледчыцкую і мастацкую беларускую літаратуру, арганізавалі беларускае кнігавыдавецтва і друк, заклалі грунт беларускага асьветніцтва. Усё гэта ўпісалася ў кантэкст беларускага змаганьня і беларускага палітычнага Адраджэньня. Усё гэта спрыяла ўмацаваньню беларускай культуры, вяртаньню нашай дзяржаўнай незалежнасьці.



(Фота з Сеціва)

*46. Памятная сякера энкавэдзісту «Новикову А.Н. за беспощадную борьбу с преступностью в НКВД СССР.»*

Заслугі ваеннай беларускай эміграцыі перад Бацькаўшчынай істотныя і безумоўныя. Лёс беларускай свабоды, як вядома, вырашаўся на Беларусі сіламі ўжо новага пасьляваеннага пакаленьня, але палітычнае заплечча, ідэйны грунт нашай незалежнасьці – зьберагглі беларусы на Захадзе. У гэтым выявілася сіла і адзінства беларускай нацыі.

*26 чэрвеня 2004 г.*

***Зянон Пазьняк***

# РАСЕЯ. ІНФАРМАЦЫЙНЫ НАФТАЛІН

Пачынаючы з 2004 года, пасьля таго, як КГБ татальна „выйграў" выбары ў Дзяржаўную Думу і забраў абсалютную ўладу ў Расеі, істотна перамянілася інфармацыйная палітыка ў гэтай краіне. Экспэрымэнтальныя варыянты ўжо былі адпрацаваныя ў Беларусі праз Лукашэнку, і таму рускі друк і электронныя СМІ вельмі хутка сталі выяўляць думкі крамлёўскай чэкісцкай хунты. (Пры гэтым некаторыя журналісты былі забітыя кілерамі, а мэдыя-магнаты – вытураныя за мяжу.)

Галоўным відавочным паваротам у інфармацыі стаў паварот да рэчаіснасьці і ідэалягічных напрацовак савецкай эпохі. Савецкая тарабаршчына, героі пяцігодак, вайны ды працы не зьнікаюць з экранаў. І ва ўсім гэтым галоўнай тэмай становяцца „дасягненьні" і дзейнасьць НКВД-КГБ.

Адчуўшы сілу поўнай улады, КГБ ужо не хаваецца ў самаўсхваленьні. З загашнікаў, са сховішчаў за сямі пячаткамі падымаюць на паверхню ў якасьці герояў такіх нягоднікаў і бандзёраў, што дзіву даешся. Часам узьнікаюць цікавыя факты, якія вымоўна ілюструюць сучасную (і заўсёдную) дзейнасьць гэтай структуры палітычнага сачэньня, выведкі і цяперашняй супэрпартыі расейскай улады.

Трэцяга траўня гэтага году, напрыклад, НТВ паказала ўсхваляльны сюжэт пра энкавэдзістаразьведчыка 30-40-х гадоў, нейкага Якава Серабранскага. З гераічным пафасам паведамлена, што, пачынаючы з 1937 г., ён быў арганізатарам савецкага тэрору за мяжой, стварыў савецкую школу тэрарызму і тэхналягічных дыверсіяў у краінах Захаду. Пры гэтым перш, чым заслаць, бальшавікі (НКВД) яго спэцыяльна арыштоўвалі па надуманным абвінавачваньні, саджалі ў ГУЛАГ, прыгаворвалі да пакараньня сьмерцю (каб адвесьці падазрэньні), потым арганізоўвалі „ўцёкі" і г.д.

Гэта быў тэрарыст надзвычай жорсткі і брутальны, арганізоўваў складаныя забойствы, вербаваў выканаўцаў. Урэшце, пасьля зрабленьня пэўнай сваёй „працы", яго ліквідавалі самы ворганы НКВД (зашмат ведаў). Андропаў, стаўшы генсекам, яго „рэабілітаваў", а цяперашнія ўладаемцы лепяць зь яго героя.

Успомнілі пра так званых „чалюскінцаў" – мыльную бурбалку 30-х гадоў, узьвялічаную сталінскай прапагандай да неверагодных маштабаў. Хочуць адрадзіць энкавэдзісцкія справы 30-х гадоў ў сьведамасьці цяперашняга пакаленьня. Маладыя менчукі, што глядзяць расейскае тэлебачаньне, ходзяць па былым лесе Ванькевіча, ператвораным у „парк Чалюскінцаў", і ня ведаюць, што гэта за слова такое незвычайнае беларускае. Але яно такое беларускае, як, скажам, „Бангалёр" ці вуліца „Іркуцкая".

„Чалюскін" – так называўся расейскі цеплаход, які быў сьцерты ільдамі ў Паўночна-Ледавітым акіяне. Людзі (104 асобы) высадзіліся на лёд, адкуль іх самалётамі перавезьлі на мацярык. Вакол гэтай падзеі быў неверагодны прапагандысцкі шум. Усіх назвалі героямі (і пацярпелых, і ратавальнікаў), усім далі ордэны, зоркі герояў, складалі пра іх песьні, называлі вуліцы імем карабля і г.д.

Здумляе, чаму вакол гэтай падзеі ўзьнікла тады гэтакая „куцерма". Справа ў тым, што на цеплаходзе (які быў прадстаўлены як навуковае судна) ваяжыравалі ня проста „савецкія людзі", а „асаблівыя людзі". Цеплаход „Чалюскін" суправаджаў параход „Піжма", на якім на працу ў руднікі ў паўночна-сібірскія лягеры ГУЛАГу везьлі дзьве тысячы „зэкаў". А на „Чалюскіне" побач плылі энкавэдзісцкія ахоўнікі і канваіры, разам з сем'ямі (жонкамі ды дзецьмі). Здарылася крушэньне, а тут „такі кантынгент". Загадалі быць героямі.



(Фота з Сеціва)

*47. Менск. Танцы ў парку перад вайной.*

Гэтакая вось гэбоўская „рамантыка", якую цяпер хочуць адрадзіць у Расеі нашчадкі егудаў ды яжовых, імкнуцца яшчэ раз зьляпіць з гэтага геройскую „канфекту". Ужо нават экспэдыцыю паслалі на Ледавіты акіян шукаць на дне канвойную пасудзіну.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2004, №3(54), с.13); „Беларус",– 2004, кастрычнік, № 501).*

# АБ СУТНАСЬЦІ ПАДЗЕЯЎ

Мы, беларусы, мусім усьведамляць, што нашае нацыянальнае становішча пагаршаецца. Але гэта ня робіцца само сабой. Гэта вынік таго, што нас нішчаць. Беларусь зьнішчаюць пасьлядоўна, мэтанакіравана і пастаянна, крок за крокам, год за годам, дзень за днём. У гэтым – галоўная тактыка расейскага гэбізму: разбурыць беларускае грамадзтва, сацыяльныя дачыненьні і культуру, каб завалодаць нашай краінай, яе тэрыторыяй і багацьцямі.

У апошнія два гады (пасьля адкрытага аб'яўленьня пуцінскай дактрыны інкарпарацыі Беларусі ў 2002 г.) галоўная задача і галоўнае хаценьне Масквы ёсьць увядзеньне расейскіх грошай на нашай тэрыторыі. Палітычны (незаконны) механізм, які хоча выкарыстаць Масква для дасягненьня мэты, – гэта прыняцьце так званага „канстытуцыйнага акту" незаконнай „саюзнай" дзяржавы шляхам правядзеньня рэфэрэндуму на Беларусі. („Канстытуцыйны акт" дазволіў бы ўвесьці на Беларусі рускія грошы. Увядзеньне расейскіх грошай зьнішчыла б беларускі суверэнітэт.)

Рэфэрэндум меркавалі правесьці ў мінулым годзе, але адклалі, бо недастаткова падрыхтаваліся. Цяпер такая падрыхтоўка зроблена. З мэтай увядзеньня беларусаў у зман, разыграны шэраг паказных акцыяў (тыпу „газавай вайны"), узгодненых „канфліктаў", фальшывых заяваў аб нібыта „пахаваньні" ідэі пераходу на расейскі рубель і г.д. Спэцыяльна да гэтай маніпуляцыі руская дзяржаўная Дума і лукашэнкавыя „палаты" скарэктавалі законы пра рэфэрэндумы. Цяпер і Пуцін, і Лукашэнка могуць самастойна прызначыць рэфэрэндум, калі захочуць (хоць назаўтра пасьля сваёй пастановы).

Рашаючым момантам у крамлёўскай тактыцы павінны стаць сёлетнія выбары ў лукашэнкаўскія „палаты", да прызнаньня якіх руская дыпляматыя ўжо падрыхтавала адпаведным чынам заходніх палітыкаў. (Правядзеньне выбараў дае магчымасьць сумясьціць іх з рэфэрэндумам.)

У гэты ж час пры дапамозе гэтых заходніх дэмакратаўсаюзьнікаў зноў інспіравана дзейнасьць „кіруемай апазыцыі" і агентуры ў агітацыі за „справядлівыя" выбары. (Для рэжыму важна, каб людзі прышлі галасаваць. Вынік галасаваньня – справа ўжо праверанай фальсіфікатарскай тэхнікі, якая знаходзіцца ў руках улады.)

Аднак моцным ударам па ўсёй гэтай ашуканцкай падрыхтоўцы да „выбараў" і „рэфэрэндуму" стала абгрунтаваная ў гэтай сітуацыі ідэя байкоту выбараў. Толькі байкот дае народу шанец на перамогу, магчымасьць адкінуць выбарчую камэдыю і авантуру з рэфэрэндумам. Усялякая ж агітацыя, каб ісьці на заведама прайгранае галасаваньне (і тым самым спрыяць ворагам Беларусі) ёсьць у дадзеным выпадку дапамогай Маскве і злачынствам супраць самых сябе. Тым больш, што „агітатары" ведаюць пра поўную бескантрольнасьць рэжыму і наканаваны вынік галасаваньня, самы кажуць пра гэта, але – заклікаюць галасаваць (бо так хочуць іхныя ўсходнія і заходнія спонсары і часовыя прыяцелі).

Тым часам заява і аргумэнтацыя пра байкот моцна занепакоіла рэжым і функцыянераў. Узьніклі контрамеры і шэраг імітацыяў у „вікаўскай апазыцыі", раскручваецца чарговы „праект Марыніч" (грамадзкасьць памятае яшчэ аналягічны „праект Чыгір" па разбурэньні БНФ), заклікаюць змагацца то „за абарону канстытуцыі", то за „лучшую жизнь", „за дэмакратычную Беларусь", „за новую Беларусь", зьяўляюцца ўсё „новыя" групы, але там адны і тыя ж асобы – былыя савецкія намэнклятурныя функцыянеры.

Уздымаецца штучны вэрхал і шум, мэта якога – зглуміць ідэю байкоту, заглушыць усё жывое беларускае слова, затаптаць вызвольную палітыку беларускага Адраджэньня, пасеяць тлум у галовах і без таго дэзарыентаванай і бездапаможнай інтэлігенцыі.

На працягу чэрвеня пэўныя сродкі масавай інфармацыі ўзбуджана прапагандавалі дзіўную галадоўку трох палатачных дэпутатаў (дзіўную, бо некаторыя галадоўнікі ў часе галадоўкі хадзілі начаваць дахаты ў сям'ю, хадзілі па вуліцах, езьдзілі на могілкі і г.д.). Галадоўка адбывалася пад лёзунгам: „Нет – третьему сроку!", „За справедливые выборы!", „Свободу Мариничу!". Дзіўная галадоўка ня мела канкрэтнай пратэстнай арыентацыі на канкрэтныя структуры і рашэньні, а была (як выявілася) фактычнай акцыяй супраць байкоту выбараў (хоць слова „байкот" не называлася). Яна сталася агітацыяй за восеньскія выбары ў лукашэнкавую „палату" (слоўца „за справядлівыя" у дадзенай сітуацыі – пусты гук, камуфляж агітацыйнай ідэі).

Аб тым, што палатнікі сваёй акцыяй агітуюць ісьці на палатныя выбары, самы яны ўсе і неаднаразова засьведчылі ў сваіх інтэрв'ю журналістам. Можна паглядзець, напрыклад, „Інтэрнэт-канфэрэнцыю з галадоўнікамі" на старонцы радыё „Свабода" за 10 чэрвеня, дзе палатны дэпутат С. Скрабец кажа: „Мы хацелі б прыцягнуць увагу людзей, якія пойдуць сёлета галасаваць на выбарах у Палату прадстаўнікоў. Мы хочам, каб яны прагаласавалі менавіта за тых кандыдатаў, якія не пабаяцца адстойваць іхныя інтарэсы ў Палаце прадстаўнікоў." Тое ж самае казалі усе астатнія.

Пасьля заканчэньня акцыі галодныя агітатары тут жа паехалі ў Маскву адчытацца ў адпаведных расейскіх структурах. (Нагадаем, што ў расейскай Думе няма больш ніякіх „дэмакратаў" . Да каго ж езьдзіць менская „дэмакратыя"?)

А вынікам усёй гэтай паказной акцыі стала абвяшчэньне палатнікамі-галадоўнікамі пра стварэньне чарговага „народнага руху" „За справядлівыя выбары". Прытым асноўны галадоўнік генэрал В. Фралоў заявіў, што ён гатовы ўзначаліць гэты рух.

Гэта не апошні выверт, разыграны генэраламі і прамаскоўскай „дэмакратыяй". Такая іхняя роля ў крамлёўскай агрэсіі на Беларусі.

Аднак, з дзеячамі гэтага накірунку няма сэнсу пра нешта казаць. Найлепшым нашым адказам можа стаць наш чын па сутнасьці. Гэта значыць – ня йсьці на падманныя выбары, ня йсьці на рэфэрэндум (калі яго навяжуць), ня йсьці галасаваць. У цяперашняй сытуацыі байкот – гэта адзіная зброя беларускага электарату, якой можна перамагчы чужынскую палітыку пры ўмове, калі дзейнічаць салідарна і дружна, калі рабіць у адно, думаючы пра будучыню і памятаючы пра Беларусь.

Пасьля пасьпяховага байкоту перад беларускім грамадзтвам адчыніцца магчымасьць арганізаваць новыя сапраўдныя выбары Беларускага Прэзыдэнта без удзелу Лукашэнкі (які ўжо вычарпаў усе свае законныя і незаконныя магчымасьці). Гэтыя выбары павінны быць сапраўды свабоднымі і беларускімі, без умяшальніцтва расейскай і іншай чужынскай палітыкі.

*5 ліпеня 2004 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус",– 2004, жнівень, №499).*

# АБ ПАВОДЗІНАХ ІМІТАТАРАЎ

*(Выступ на ліпеньскім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)*

Паважаныя сябры Сойму БНФ і Партыі БНФ. Вітаю вас у Бацькаўшчыне, зычу моцы і ўпэўненасьці ў вашай ахвярнай і разумнай працы на карысьць нашай Айчыны і яе сьветлай незалежнай будучыні.

Адсутнасьць беларускага адраджэнцкага друку на Бацькаўшчыне вельмі дрэнна адбіваецца на інфармацыі пра Беларусь. Беларусы на Захадзе, адлучаныя ад беларускіх інтарэсаў і рэальнага бачаньня беларускага жыцьця, карыстаюцца той інфармацыяй, якую распаўсюджваюць праз Сеціва розныя „хартыі", БДГ ды радыё „Свабода". Становішча нядобрае. Дэзынфармацыя беларусаў адбываецца ў сусьветным маштабе. Невыпадкова прамаскоўскі рэжым пастараўся найперш зьнішчыць і зачыніць беларускі друк.

На першы погляд здаецца, што вызначальную ролю маюць фінансавыя сродкі, бо калі б яны былі ў руках беларускага Адраджэньня, то меліся б і свае беларускія газэты, і своё беларускае радыё і г.д. Па лёгіцы, так яно як бы і павінна быць. Але на практыцы мы бачым іншую карціну. У беларускіх выданьнях на Захадзе паўтараецца і тыражуецца інтэрнэтная (і найчасьцей прафанская) інфармацыя пра Беларусь. Радыё „Свабода", напрыклад (якое цяпер адышло ад пазыцыяў Сакавіка), ня толькі распаўсюджвае гэтую гэбоўска-апазыцыйную трактоўку падзеяў, але й прасейвае інфармацыю, адсейвае яе ад беларускай адраджэнцкай нацыянальна-вызвольнай палітыкі. Пры гэтым дзіўныя асобы, якія там гэта робяць, спасылаюцца на тое, што „Свабода", маўляў, – амэрыканская радыёстанцыя і павінна выяўляць амэрыканскія, а не беларускія паняцьці.

Выслоўі і псіхалогія канфармізму, як бачым, добра знаёмыя, дзе б яны ні праяўляліся. Таму абыдземся без камэнтароў.

Нашае слабое беларускае становішча вынікае, аднак, у цэлым не ад адсутнасьці сродкаў, а ад недахопу асобаў, ад недахопу перакананых, цьвёрдых людзей, здольных на дзейнасьць дзеля інтарэсаў Бацькаўшчыны і на пераадольваньне перашкодаў. Зрэшты, увогуле ў беларускай палітыцы не хапае асобаў, у якіх бы быў беларускі парадак у галаве. І тут ніякія фінансавыя сродкі не дапамогуць. (Радыё „Свабода" – характэрны прыклад.)

Усё гэта я кажу, каб падкрэсьліць важнасьць нашай працы сродкамі і мэтадамі нашай інфармацыі, магчымасьцю ўплываць на адпаведныя групы грамадзтва.

Думаючы гэтак, я дасылаю вам невялікі матэрыял пад назовам „Аб сутнасьці падзеяў", які можна скарыстаць у нашай працы.

Шум, які ўзьнялі шумастваральнікі вакол „дзіўнай галадоўкі", нагадвае мне інфармацыйнае самакіпеньне вакол колішняй ініцыятывы так званых „абаронцаў Курапатаў", калі нам і нашай партыі Фронту і іншым беларусам-адраджэнцам прышлося прыкласьці шмат намаганьняў, каб ўратаваць Курапаты і ад разбуральнікаў, і ад „абаронцаў".

Ініцыятыва зь „дзіўнай галадоўкай", па параўнаньні з „падвойнай тактыкай" на Курапатах, выглядае прымітыўнай, але магчымую шкоду ад яе нельга недаацэньваць. Бо справа йдзе аб прынцыповым пытаньні: ісьці ці ня йсьці на восеньскія выбары, галасаваць, ці байкатаваць. Вось сутнасьць і тлумачэньне паднятага шуму з „галадаморам" і дэмагогіі „за справядлівыя выбары". Акцыя прамаскоўскай апазыцыі накіраваная супраць ідэі байкоту. Выконваецца яна груба, і нават бяздарна (бо выканаўцы робяць яе, як умеюць), але падрыхтавана і задумана яна прафэсійна. Падтрымка акцыі з боку рускай таемнай і яўнай дыпляматыі (рэакцыя за мяжой, інсьпіраваныя выступы заходніх палітыкаў) паказвае, дзе была сплянаваная і прыдуманая гэтая падзея. (Невыпадкова пасьля так званага „галаданьня" палатнікі адразу паехалі па ўказаньні ў Маскву). Відавочна, што Масква прыдае ёй важнае значэньне ў патапленьні ідэі байкоту выбараў. Асабліва калі ўлічыць магчымасьць сумяшчэньня іх з рэфэрэндумам аб так званым „канстытуцыйным акце", зь якім Масква носіцца ўжо трэці год.

У сувязі з гэтым павінен выказаць такое меркаваньне. Зараз, на працягу аднаго-паўтара тыдняў, ня трацячы часу, трэба хутка падрыхтаваць і даць паўсюдна (распаўсюдзіць) нашыя сутнасныя тлумачэньні гэтай палітыкі і гэтага лёзунгу „за справядлівыя выбары" (а заадно – і ацэнку іхняга „галадамора"). Трэба скарыстаць усе нашыя магчымасьці. Але галоўнае, паўтараю, – хутка, бо страта цяпер гэтых 8-10 дзён для нас непажаданая. Трэба зьбіваць шкодныя ініцыятывы адразу і не даваць ім разьвівацца ў розныя паказныя шоу.

Адначасна мы мусім узмацніць і пашырыць нашу інфармацыю пра байкот. Зноў паўтаруся: адначасна(!), бо крытыка без прапаганды пазытыўнай альтэрнатывы – малаэфэктыўная.

Спадзяюся, што Сойм прыме адпаведныя рабочыя рашэньні і дасьць рэкамендацыі. Думаю, што Паліткамітэту варта сабрацца адразу пасьля Сойму і прадумаць ідэі.

Зьвяртаю ўвагу, што ва ўсім, што мы цяпер робім і будзем рабіць, трэба канкрэтна ўлічваць і канкрэтна выяўляць нашу палітычную пазыцыю і рашэньне аб нашай палітычнай альтэрнатыве рэжыму ў будучых падзеях 2006 года (а, магчыма, і ранейшых).

Жыве Беларусь!

*11 ліпеня 2004 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

# ЗМАГАЦЦА ТРЭБА НЕ ІЛБОМ, А ТЫМ, ШТО Ў ІЛБЕ

*(Ліст да сяброў БНФ. 23 ліпеня 2004 г.)*

У папярэднім лісьце *(„Аб сутнасьці падзеяў", 5 ліпеня)* я пісаў пра „дзіўную галадоўку" трох палатных дэпутатаў (у чэрвені гэтага года) і пра канкрэтную задачу гэтай маніпуляцыі: зглуміць ідэю байкоту і настроіць грамадзтва ісьці на восеньскія выбары ў палату, да якіх рэжым плянуе далучыць рэфэрэндум пра так званы „канстытуцыйны акт" і трэці тэрмін Лукашэнкі.

Я зьвярнуў увагу на заяву ініцыятараў „галоднай акцыі" пра стварэньне чарговага „народнага руху" „За справядлівыя выбары" і зазначыў, што гэта не апошні правака-

цыйны выверт, разыграны генэраламі і прамаскоўскай „дэмакратыяй”.

Так яно і сталася. 21 ліпеня гэтыя асобы арганізавалі ў Менску так званую „акцыю пратэсту” пад назовам „Твой адказ сістэме”. Ужо сам назоў (інфантыльна-ніякі) гаварыў пра ўзровень думаньня арганізатараў. Як паведамілі „дэмакратычныя” сродкі масавай інфармацыі, асноўныя лёзунгі апэрацыі былі тыя ж, што і пры акцыі „галадоўка”, менавіта: „Нет – третьему сроку”, „За справедливые выборы”, „Свободу Мариничу”.

А тым часам напярэдадні, на прэсавай канфэрэнцыі 20-га ліпеня, Лукашэнка адкрыта аб’явіў пра магчымасьць правядзеньня рэфэрэндуму, які б скасаваў канстытуцыйнае абмежаваньне для адной асобы абірацца на трэці прэзыдэнцкі тэрмін. Прычым ён зазначыў, што падрыхтаваць і правесьці рэфэрэндум цяпер можна вельмі хутка.

У гэты ж час Лушэнка зьбірае ў Менску ўсіх беларускіх амбасадараў (40 асобаў) і выступае перад імі па пытаньнях дачыненьняў з Эўразьвязам, ЗША і Расеяй. Людзям, якія хоць трохі знаёмыя з палітыкай і дыпляматыяй, павінна быць зразумела, што за гэтай фармальнай зборкай схаваная галоўная мэта Лукашэнкі – дамагчыся зьнешнепалітычнага забесьпячэньня будучага рэфэрэндуму пра зьмены у канстытуцыі, пра магчымае прыняцьце так званага „канстытуцыйнага акту” і пра трэці тэрмін прэзыдэнцтва.

У гэты ж час таксама сакратар Цэнтрвыбаркаму Мікалай Лазавік засьведчыў, што тэрміны дазваляюць правесьці рэфэрэндум аднačасна з парляманцкімі выбарамі і што ўсё будзе залежыць ад Лукашэнкі. М. Лазавік тут жа пацьвердзіў, што правілы вылучэньня назіральнікаў на выбары застаюцца няпэўнымі. Ён абвінаваціў у гэтай няпэўнасьці партыйныя і грамадзкія арганізацыі і параіў ім удасканаліць свае структуры, згодна закону пра выбары (быццам бы ня ведама, што якраз гэтаму супрацiўляецца лукашэнкаўская „вертыкаль”), інакш „у кожным канкрэтным выпадку выбарчыя камісіі будуць на месцы прымаць адпаведныя рашэньні”, – сказаў М. Лазавік. (Што робяць „на месцы” – усе ведаюць.) „Фактычнага назіраньня, – сказаў на гэта Выканаўчы дырэктар Беларускага Гэльсінскага камітэту А. Гулак, – ня будзе.”

Такім чынам, сталі відавочнымі бясспрэчныя факты, пра якія я казаў паўгода таму ў артыкуле (звароце) *„Байкот”*, прапануючы перамагаць сістэму ня ў лоб (дзе яна спрактыкаваная ў фальсіфікацыі), а ў абход – адмовіцца ад галасаваньня і тым самым падвесіць рэжым у паветры, стварыць лепшыя ўмовы для барацьбы з узурпацыяй улады перад прэзыдэнцкімі выбарамі. Аднак „агітатары” прадаўжалі сваё, клікалі людзей на выбары. І вось 20 ліпеня сам Лукашэнка засьведчыў, што зьбіраецца выкарыстаць выбары ў сваіх антыканстытуцыйных інтарэсах.

І што ж цяпер, калі ўжо адкрыта ўсё выявілася? Што будуць казаць цяпер тыя „пяцёркі-плюс” ды іншыя зазывалы ў выбарчую пастку? (Раней спасылаліся на тое, што рэфэрэндуму, маўляў, аднačасна з выбарамі ня будзе.)

Зрэшты – адказ вядомы. Нічога ня стануць казаць, будуць прадаўжаць сваё.

Менавіта так паводзілі сябе „палатнікі-галадоўнікі” 21-га ліпеня. Яны ўсё праігнаравалі.

„Галоўнае для нас – колькі людзей зьбярэцца, – казаў журналістам радыё „Свабода” генэрал В. Фралоў. – Ёсьць такі палкоўнік Полудзень. Мы там зь ім зробім так, каб тыя людзі (а іх, мне здаецца, будзе вельмі шмат) з нашымі ахоўнікамі зробім так, каб былі добрыя ўмовы рухацца зь Якуба Коласа да плошчы Бангалёр...” „Мы плянуем на Бангалёры мітынг і канцэрт, – кажа іншы „палатны дэпутат” С. Скрабец, – жанчынам будуць даваць кветкі, дзецям – марозіва, балёнікі будзем надзьмуваць...” „Аляксандар Рыгоравіч казаў, – паважліва працягвае генэрал Фралоў, – што калі выйдуць 120 тысячаў, то ён сыйдзе ў адстаўку. Вось мы й паспрабуем зрабіць, каб ён сыйшоў.”

Чым скончыліся гэтыя інфантыльныя разважаньні – вядома. На плошчу Якуба Коласа прышло каля 150 чалавек (у дадзеным выпадку вэрсія міліцыі праўдзівая). Азьвярэлы АМАП (якога было больш за дэманстрантаў) па камандзе згары накінуўся на людзей. Зьбілі і арыштавалі каля 60-ці чалавек, прытым білі і калечылі ў асноўным моладзь і падлеткаў. Аднаму 17-гадоваму падлетку паламалі рэбры. Ён шпіталізаваны з разрывам касы (гэта ад біцьця ботамі). Яго чакае апэрацыя і магчымае калецтва на ўсё жыцьцё.

Каля 500 асобаў сабралася на плошчы Бангалёр. Выступалі выключна па-руску, лёзунгі таксама па-руску (і нават па-ангельску). Ні слова па-беларуску. Шкодная акцыя (і ў сваёй малалікасьці, і сваім абсурдам) – правалілася.

Назаўтра, 22 ліпеня, „дэпутаты-палатнікі” правялі прэс-канфэрэнцыю, дзе падсумавалі вынікі „акцыі” і, не міргнуўшы вокам, адзначылі, што акцыя „Твой адказ сістэме” „ўдалася”, і, нягледзячы на жорсткія дзеяньні ўлады, „прайшла пасьпяхова” і нават, што „падобныя вулічныя мерапрыемствы” яны (палатнікі) „плянуюць у будучыні”. (Дарэчы, гэтакая адкрытая ілжывасьць пра відавочнае – характэрная рыса асаблівай мэнтальнасьці, добра вядомай яшчэ з практыкі СССР.)

У час вайны за ахвяраваньне салдатамі ў заведама пройгрышнай сытуацыі генэрала маглі адправіць пад трыбунал. Аднак тут – іншая справа, і ніхто пад трыбунал ня пойдзе, бо ўся акцыя з абодвух бакоў разьвівалася па тэхналёгіі стандартнай правакацыі.

Аналіз фактаў, якія я назваў у пачатку, паказвае, што ў цяперашнім становішчы рэжым ня будзе дазваляць разьвівацца ніякім пратэстным падзеям, ніякім зборкам людзей, шэсьцям, мітынгам, дэманстрацыям. Мэтад – жорсткае зьбіцьцё, здушэньне, разгон, бязьлітасны судовы перасьлед з мэтай пасеяць яшчэ большы страх у грамадстве, каб не дапусьціць перад выбарамі і рэфэрэндумам асьмяленьня людзей, падняцьця галавы, выхаду іх на плошчы і стварэньня сытуацыі, падобнай, як у Бялградзе і Тбілісі. Тут рэжым адступаць ня будзе і пойдзе напралом. Ня трэба асаблівых высілкаў, каб кожнаму гэта зразумець і зрабіць высновы адносна тактыкі барацьбы.

Тыповая тактыка рэжыму ў гэтакім выпадку – правакацыя (дзеля запалохваньня і апраўданьня рэпрэсіяў). Гэта значыць, каб людзі выйшлі на вуліцы, а потым іх разагнаць, зьбіць, пакалечыць, схапіць і судзіць, абцяжарыць велізарнымі штрафамі. Вынікі, як бачым, – відавочныя.

Тым часам агітатараў паклікаць людзей „балёнікі надзьмуваць” таксама хапае. Пасьля ж разгону і зьбіцьця схопленыя, седзячы ў арышце, кажуць, маўляў, нічога, „мы яшчэ скажам сваё слова на парляманцкіх выбарах”.

Вось табе і „твой адказ сістэме”. Ці ні палова нашай гісторыі пабудавана на гэтакім во абсурдзе. Сто тысячаў разоў – на адны граблі. Ну як тут ні парадавацца Лукашэнку і нават не пакпіць з сваёй „апазыцыі”, не назваць яе ласкава „отморозками”. І чым больш ён будзе іх зьневажаць, тым больш ім хочацца яму адпомсьціць і „сказаць сваё слова на парляманцкіх выбарах”, дзе іх з радасьцю чакаюць (ужо і пра рэфэрэндум аб’явілі). Так забясьпечваецца прыход выбаршчыкаў на галасаваньне і куецца чарговая „элегантная перамога” рэжыму.

Але калі б толькі „недахоп галавы” быў тут прычынай! Гэта ж такія „прагматыкі” (як яны пра сябе кажуць), што пэўна ведаюць, на што пайшлі.

Зьвяртае на сябе ўвагу тое, што Лукашэнка дзейнічае цынічна, просталінейна і ўпэўнена. Масква дала яму 175 мільёнаў даляраў на выбары і рэфэрэндум і паабяцала сваё „добра”. Руская і нямецкая дыпляматыя моцна папрацавалі ў ягоную падтрымку за мяжой, у Эўропе. 8 ліпеня немцы нават адклікалі сваю крытычную рэзалюцыю па Беларусі на Парляманцкай Асамблеі АБСЭ у Эдынбургу і ўзамен рэзалюцыі (на якую спадзявалася вікаўская апазыцыя ў сваёй паказной „барацьбе”) заключылі „зьдзелку” (як сказала тытан палітычнай думкі Ута Цапф) з адыёзнымі прадстаўнікамі палаты Лукашэнкі.

Камізм сытуацыі ў тым, што ўсе гэтыя „пяцёркі” і „плюсы”, якіх за нямецкі кошт вазілі па эўрапейскіх асамблеях, так пераацанілі сябе, што сталі абурацца на Дойчлянд, усчалі лямант і гвалт. І тады энэргічная фраў Цапф (кіраўніца Рабочай групы АБСЭ па Беларусі) глыбокадумна паведаміла: „Ім варта зразумець: гэта было зроблена дзеля іхняй жа карысьці, каб забясьпечыць ім больш свабоды ў час правядзеньня выбараў”. *(„Белорусская газета”, – 2004, 19 ліпеня)*

Вось гэта пэрла! (Гітлер – капут! Арбайт махт фрай.) І пасьля гэтага „агітатары”, аб якіх выцерлі ногі, зноў прадаўжаюць клікаць на „справядлівыя выбары”. Проста сорамна за суайчыньнікаў. Грошы, як кажуць, ня пахнуць, але ці ж можна так апускацца, спадары прагматыкі (і перад кім!).

Цапфы, вікі, фрыкі і закулісная Масква дзеля сваіх інтарэсаў штурхаюць свае беларускія крэатуры ісьці на правальныя выбары і рэфэрэндум. У цэлым гэтыя інтарэсы ёсьць адлюстраваньнем падзелу пазыцыяў у Эўропе і поглядаў на яе будучыню. Ці разумеюць хоць прастадушныя беларускія карыстальнікі чужых рэсурсаў і чужых ідэй, якую (і чыю) пазыцыю яны падтрымліваюць, будучы залежнымі і ад Нямеччыны, і ад Масквы (ці дакладней, хто і дзеля чаго іх выкарыстоўвае)? Ці ім ужо ўсяроўна – „была бы шляпа”?

Праўда такая, што ў бліжэйшы час ніякія выбары, рэфэрэндумы і ніякае галасаваньне на выбарах выйграць немагчыма (нават на адзін адсотак, калі таго не дапусьціць рэжым). Ісьці супраць рэжыму ў лоб, на выбары – гэта значыць разьбіць сабе лоб і спрыяць рэжыму ў ягонай перамозе. Змагацца трэба не ілбом, а тым, што ў ілбе – думкамі, ідэямі і кемлівасьцю. Заклікі сумніўных заходніх дарадцаў, якія не разьбіраюцца ў беларускім жыцьці, і патрабаваньне ісьці на выбары, каб „набыць палітычны вопыт” – сьмехатворныя, бо не дзеля вопыту ідуць на выбары. Тым больш, калі ўсё прадвызначана, і для перамогі рэжыму патрэбна толькі забясьпечыць прыход выбарцаў на галасаваньне. Страта ад удзелу ў такіх „выбарах” будзе велізарнай, а набытак – нікчэмны і нікому не патрэбны, бо, вобразна кажучы, не існуе „вопыту сьмерці”, ёсьць проста сьмерць.

Байкот – гэта ўдар збоку. У цяперашніх беларускіх умовах гэта адзіны шанец для народа перамагчы аўтарытарызм, спаралізаваць рэжым, не дапусьціць здачы Беларусі, працягу дыктатуры і вынішчэньня беларускай культуры (бо нацыянальная культура – галоўнае ў жыцьці нацыі і развіцьці цывілізацыі). Посьпех байкоту адчыняе верагоднасьць разьвіцьця грамадзкай ініцыятывы, магчымасьць перамогі над страхам, стварае лепшыя пэрспэктывы для выбараў прэзыдэнта.

Вынік прэзыдэнцкіх выбараў 2006 года будзе вырашаны ў гэтым годзе 17-га кастрычніка. Калі беларусы не асьцерагуцца і пойдуць усьлед за зазывaламі галасаваць на „справядлівыя выбары” і рэфэрэндум, то на прэзыдэнцкіх выбарах 2006 года і на верагоднасьці пераменаў можна будзе паставіць крыж. Грузінскага варыянту ня будзе (тым больш, югаслаўскага). Будзе – беларускі. Крывамоўнае, „каснаязычнае”, сіплае рабства, чужацтва ва ўласнай краіне, працяг культурнай дэградацыі.

Але калі зірнуць глыбей, то адразу відаць, што пазыцыі антынароднага рэжыму на Беларусі ня моцныя і беспэрспэктыўныя. Правал правакацыйнай апэрацыі палатнікаў 21 ліпеня таксама пра гэта сьведчыць.

***Байкот магчымы, бо патрэбны!*** Рыхтуймася да байкоту. Працуйма на перамогу.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларус”,– 2004, верасень, № 500)*

# АНТЫБЕЛАРУСКАЯ ЗАЯВА ФРЫКА

Немцы паказваюць сябе ў Беларусі ня зь лепшага боку. Пасьля сумнавядомага Ганса Віка (якому дэмакратычны Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Рух прапанаваў пакінуць Беларусь за антыбеларускую дзейнасьць і абʼявіў пэрсонай „нон грата”) цяпер часта прыязджае сюды Ута Цапф (кіраўніца Рабочай групы АБСЭ па Беларусі) і штурхае „апазыцыйных дэмакратаў” ісьці на палатныя выбары і рэфэрэндум пра трэці тэрмін Лукашэнкі. Назіраючы гэтакую дзейнасьць, прыходзіш да думкі, ці не чакае фраў Уту Цапф такі ж самы лёс, што і Ганса Віка.

Арыгінальны фокус уштукаваў пад заслону сваёй кадэнцыі амбасадар Нямеччыны ў Беларусі спадар Гэльмут Фрык. 30-га чэрвеня, разьвітваючыся зь Беларусяй, Фрык правёў акцыю „ў знак 60-годдзя вызваленьня Беларусі” (гэта значыць у сувязі з заняцьцем Менска Савецкай арміяй 3-га ліпеня 1944 г. і вяртаньнем расейскіх бальшавікоў на Беларусь). Нямецкі амбасадар усклаў вянок ля мэмарыялу *Яма*, створанага на месцы менскага гета, а потым паехаў ... не, не ў Хатынь, дзе скрупулёзна пазначана, колькі мільёнаў мірных беларусаў забілі ў вайну нямецкія фашысты і колькі вёсак спалілі разам зь людзьмі. Фрык паехаў ускладаць вянкі ў *Курапаты*. Тут Фрыка можна зразумець. Генацыд беларусаў тварылі ня толькі немцы. Расейцы – таксама. Усе ахвяры генацыду годныя вечнай памяці. Але тое, што сказаў Фрык у Курапатах, высьвятляе сапраўдныя матывы ягонага „вянкаўскладаньня”.

Скажу адразу: за ўсю пасьляваенную гісторыю Беларусі да такой несправядлівасьці яшчэ ніхто з замежных дзеячоў не апускаўся. Мяркуйце самы: „Мы лічым, – выступае Фрык, – што былы Савецкі Саюз сваю гісторыю таксама павінен больш падрабязна прааналізаваць і зрабіць яе вядомай. І асабліва я гэта гавару тут, знаходзячыся ў Курапатах. Паколькі Беларусь была часткай Савецкага саюза, то і яна таксама нясе і частку адказнасьці за гісторыю былога Савецкага Саюзу і ўсе нехарошыя

бакі гісторыі. Таму я тут знаходжуся і праводжу гэтую акцыю...” *(Цытата: „Белорусский рынок”, – 2004, 12-19 ліпеня)*

Вось гэта арыгінал, Гэльмут Фрык! Вось гэта сказаў. Аказваецца не расейскія акупанты, не расейскія бальшавікі, не расейскае НКВД, не забойцы і не арганізатары тэрору вінаватыя, а самы беларусы. Маўляў, самы сабе (відаць, ад няма чаго рабіць) наладзілі генацыд і Курапаты. У дадатак самы беларусы (відаць, асабліва тыя, якіх расейцы загналі ў магілу) „нясуць частку адказнасьці” „за ўсе (!) нехарошыя бакі гісторыі” СССР.

Цяпер зразумела, чаму па надуманай прычыне нямецкі амбасадар абмінуў Хатынь. Па лёгіцы Фрыка, трэба было сказаць, што ня немцы, а самы беларусы вінаватыя ў спаленьні сваіх вёсак, у вынішчэньні людзей і нясуць частку адказнасьці за гісторыю гітлераўскай Нямеччыны, бо жылі пад яе акупацыяй і былі часткай нямецкай акупацыйнай сістэмы.

Заява нямецкага амбасадара Гэльмута Фрыка ў Курапатах зьяўляецца спэцыяльным эксклюзіўным выказваньнем афіцыйнай асобы (ён сам гэта падкрэслівае) і таму (трэба разумець) выяўляе ўзгоднены пункт гледжаньня Міністэрства замежных справаў і Ўраду Нямеччыны.

Тым часам, аднак, гэтая заява ёсьць кашчунства на сьвятым месцы. Ахвяры генацыду, які праводзіць чужая акупацыйная ўлада, ня могуць быць вінаватымі ў сваёй сьмерці, акупаваная краіна і паняволены народ не нясуць адказнасьці за дзеяньні акупантаў. (Гэта засьведчыў, між іншым, Нюрнбэргскі працэс і распад СССР.)



***48. 2-я Сусветная вайна. Немец страляе ў галаву жанчыны зь дзіцем.***

Заява амбасадара Фрыка ёсьць нелягічная, паклёпніцкая на беларускі народ і зьняважлівая для пакутлівай памяці мільёнаў беларусаў. Выказваньне носіць правакацыйны характар.

Можна толькі выказаць шкадаваньне, што афіцыйная асоба Нямеччыны зрабіла гэтакую безадказную заяву, тым больш у такім трагічным і сымвалічным для беларусаў месцы, як Курапаты. Прачытаўшы словы амбасадара Фрыка, у мяне закраліся сумненьні, ці так ужо шчыра раскаяліся немцы за тое, што натварылі на Беларусі іхныя гітлераўскія бацькі і дзяды.

Ніякай афіцыйнай рэакцыі з боку рэжыму на Беларусі на выхадку Фрыка не было.

*Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”* і *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ* выказалі рэзкі пратэст нямецкім дзяржаўным установам у сувязі з выступам і заявай амбасадара Гэльмута Фрыка.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*26 ліпеня 2004 г.*

# АБСУРДЫ АНТЫБЕЛАРУСКАГА РЭЖЫМУ

На Беларусі да абсурду і да нацыянальных зьняваг бальшыня людзей, відаць, прывыкла, як да болю. Прыцярпеліся. Праўда, цярпеньне ўжо мінае. Калі глядзіш здалёку на ўсе гэтыя выверты дыктатуры, то зразумела, чаму так дзеецца. Пад акупацыяй (тым больш унутранай, „дабраахвотнай”, калі самы прынялі чужынцаў) інакш і не бывае. Часам глядзіш і такое ўгледзіш, што й думаеш сабе: пэўна, у людзей нешта ў галаве перавярнулася.

## ЗВОЛЬНІЛІ ЗА ДЭПУТАЦТВА

Працавала ў Белаазёрскай школе №3 настаўніца ***Натальля Акаронка***. Выбралі яе дэпутатам Гарсавету, і пайшла яна ў дэпутацкую апазыцыю. Даведаўся пра тое дырэктар школы, і ўляпіў ёй за гэта вымову на працы. Пачакаўшы, дырэктар падумаў, што гэтага мала, узяў і звольніў з працы настаўніцу за тое, што яна брала ўдзел у сэсіях Гарсавету. (Дэпутаты мясцовых саветаў, згодна закону, працуюць на ранейшым месцы працы, а ўдзел у сэсіях заканадаўча абумоўлены.)

Падала Акаронка ў суд у Бярозу. А той Раённы суд узяў – і не задаволіў яе позву. Гэтак і сталася яна беспрацоўным дэпутатам.

Мараль? Маралі тут няма. Трэба толькі ведаць, што гэткі абсурд у цяперашнім часе ня робіцца здуру, а толькі з волі начальства і зь ведама КГБ.

## ВЫПРАЎЛЯЮЦЬ ГІСТОРЫЮ

Вайна з гісторыяй – справа ня новая. Гісторыя шмат каму не падабаецца. Асабліва калі яна супраць начальства. Калі гэта выявілася, то ў Віцебску цырымоніцца ня сталі. Аказалася, што ня той гэрб. На 10-м годзе дыктатуры віцебскія сталаначальнікі даведаліся, што ў гэрбе Віцебска – *Пагоня*. Тады Аблвыканкам абвясьціў конкурс на стварэньне „новага гэрбу”. Конкурс „дэмакратычны”. Ніякіх абмежаваньняў ва ўзросьце, палавых прыкметах, адукацыі, прафэсіі, ніякіх умоваў (і адпаведна – ніякіх законаў геральдыкі). Тварыце.

Ацэньваць усё будуць самы чыноўнікі Аблвыканкама. (А то пакліч сюды якіх-небудзь гісторыкаў, мастакоў, дык пачнуць сваю „аньцімонь”.)

– Ну дык як будзе? – пытаецца пракляты карэспандэнт у супрацоўніцы Аблвыканкама.

– А так і будзе, – адказвае дама, – намалюеце карцінку, спадабаецца – прымем новы гэрб.

Ажно цікаўнасьць бярэ. І што яны ўжо там учудзяць?

## ПАЛІТЫКА РАЁННАГА МАШТАБУ

За часы акупацыйнай дыктатуры на паверхню ўлады ўсплылі такія тытаны інтэлектуальнай думкі, так падкаваныя на ўсе чатыры, што часам дзіву даешся.

Ёсьць у Маларыцкім райвыканкаме Аддзел інфармацыі. Структура, можна сказаць, „палітычная”. Ачольвае гэтую структуру

нейкі спадар Строка. Гэты Строка праславіўся тым, што ў барацьбе з Народным Фронтам усім даказваў, што ў гады 2-й Сусьветнай вайны Партыя БНФ была на баку фашыстоўскай Нямеччыны. З цьверджаньнем Строкі рашуча не пагадзіўся сябра Партыі БНФ і дэпутат Райсавета ***Ўладзімер Малей*** і падаў на Строку ў суд.

Дурата павялічвалася, як сьнежны камяк. Спадар Строка ў Райвыку чалавек свой, і аднойчы, калі дэпутат Малей праводзіў спатканьне з выбарцамі, на яго наскочылі міліцыянты і завялі адміністрацыйную справу за „несанкцыянаваны мітынг".

„Які мітынг!? Я дэпутат, гэта мае выбарцы!" „Мы табе пакажам выбарцаў!"

Суд уляляшчыў дэпутату Малею, як належыць: няма чаго несанкцыянаваныя мітынгі праводзіць.

Трэба сказаць, што гэты ж суд і Строку не апраўдаў. Не пагадзіўся, што ў гады вайны БНФ быў на баку немцаў. Суддзя не рашыўся. Не хапіла фантазіі. Занадта ж відавочную бязглузьдзіцу плявузгаў спадар Строка.

„И напрасно, товарищи." Праявілі мяккацеласьць. Можна было і ўсадзіць, каго трэба, за пасобніцтва Гітлеру.

## КАЛІНКА-МАЛІНКА...

5 жніўня пасьля сканчэньня Мазырскага пэдунівэрсітэту прышоў малады настаўнік ***Дзяніс Рабянок*** у Калінкавіцкі раённы аддзел адукацыі па накіраваньне на працу. Узрадваліся яму і так яго палюбілі: дыплём з адзнакай, дока. „11-га жніўня прыходзьце па загад на працу настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Дудзіцкую сярэднюю школу", – кажа гэтак, ласкава ўсьміхаючыся, загадчыца Людзьміла Башылава.

Прышоў 11-га, а любоў зьнікла, выпарылася, як туман. Башылава яго не пазнае. Ні працы, ні загаду. „Растлумачце", – пытаецца Рабянок. Башылава, як чалавек палітычна-раённа выверaны, і кажа, што ён „антыдзяржаўны нацыяналіст" і працы яму ня будзе.

За гэты час Башылава разьведала, што Рабянок быў назіральнікам ад БНФ за галасаваньнем на выбарах і рэдагуе сваю беларускамоўную газэтку „Калінка" накладам 299 асобнікаў. Ну-у-у, дзела яснае...

Гэтак пацярпеў „антыдзяржаўны нацыяналіст" Рабянок за „палітычную" дзейнасьць.

Ва ўсіх гэтых гісторыях найбольш уражвае, зь якой адданасьцю беларусы-чыноўнікі служаць антыбеларускай уладзе, без ваганьняў гатовыя душыць, бэсьціць, псаваць усё беларускае і ўсё сваё. Мамелюкі ўсіх акупантаў, манкурты ўсіх акупацыў.

## ХТО ТЫ ТАКІ?

У Беларусі не памянялі беларускія пашпарты на акупацыйныя (з савецкім гэрбам) каля 25-ці тысячаў чалавек. Вядома, для такіх людзей будуць ствараць цяжкасьці, але гэты дакумант ёсьць аўтэнтычным (гэта значыць, з фатаграфіяй) і дасканала выробленым пасьведчаньнем асобы.

„Чакайце, мы да вас дабярэмся, – сказалі сабе „друзья-товарищи", – мы вам пакажам *Пагоню*".

І „дабраліся". 26 жніўня Цэнтарвыбаркам ухваліў пастанову не прызнаваць беларускія пашпарты з *Пагоняй* „пры рэалізацыі грамадзянамі выбарчых правоў. Адпаведна Акруговым камісіям рэкамендавана прызнаваць несапраўднымі такія подпісы грамадзянаў за вылучэньне кандыдатаў."

ЦВК, насуперак Канстытуцыі і ўсім законам, пазбавіў грамадзянаў выбарчага права.

Вось такія парадкі ў гарохавым царстве.

## ВО, ГАРЭЛКІ ПАП'ЕМ!

Бяда і вялікая небясьпека для Беларусі – ваенная радыёлякацыйная станцыя „Волга" пад Ганцавічамі, якая апынулася ў руках расейцаў.

Шкода жывому і прыроднаму асяроддзю ад яе велізарная. Асаблівая небясьпека ўзьнікае для здароўя людзей. Такія станцыі будуюць толькі ў бязьлюдных мясьцінах. Тое, што яна пад Ганцавічамі, – вынік яшчэ савецкай антыбеларускай палітыкі (якая, на няшчасьце, працягваецца).

Беларускія вучоныя, спэцыялісты, палітыкі, моладзь стаяць за ліквідацыю гэтай станцыі. (Але найперш яна павінна быць вернута ва ўласнасьць Рэспублікі Беларусь, а потым ліквідавана.)

Тым часам журналістам і энтузіястам удалося паразмаўляць з мясцовымі людзьмі. Усе пагаджаюцца зь небясьпекай, але супраць станцыі нічога ня маюць. Бо шмат хто працуе там і атрымлівае грошы большыя, чым у калгасе. Так што станцыя „харошая" – кажуць жыхары – і Расея таксама. „Хай нас Расея лепш абараняе, – падказвае адзін мудры чалавек з народа, – атражает нападзеніе."

„Абарона", аднак, будзе заключацца ў тым, што ў выпадку канфлікту НАТО з Расеяй першыя атамныя ўдары наносяцца па радыёлякацыйных станцыях. Паколькі станцыя не на тэрыторыі Расеі, то рускім „абарона" дорага не абыдзецца. А ад ганцавіцкіх мудрацоў ці застануцца нават шкілеты. Але за чужое „дзела" чаму ж ні памерці? Затое праца ёсьць.

Успамінаецца стары рускі анэкдоцік. „Вот хорошо, что папка пьёт. Бутылки сдадим – нам с мамкой на хлеб и хватает."

Ці сучасны беларускі „чорны жарцік", які я чуў на ўласныя вушы: „Пашанцавала Віцьку – матка памерла: во гарэлкі пап'е".

Такі вось сюррэалізм-абсурдзізм.

## А ГАЗЭТКА „ТУТ, ЯК ТУТ"

Чытаеш часам рэляцыі разумных людзей з-пад рэжыму і здумляешся, ці ня сталася што ў іх з інтэлектам. Хоць кажуць, што паранойя і не заразная. Але па цяперашнім часе хто тое ведае.

„Беларуская мова адродзіцца, дзякуючы трасянцы", – напісала адна „незалежная" расейская газэта ў Менску. Паводле антыбеларускага накірунку гэтай газэты, якая называецца „Белорусская газета", гэта якраз у яе рэчышчы пісаньня.

Лінгвісты, аднак, ведаюць, што трасянка, як і ўсялякая крэалізацыя і жарганізацыя мовы, ёсьць працэс яе выраджэньня, адлюстроўвае ў цэлым заняпад культуры.

Бяда ў тым, што ў сучасным заходнім і эўрапеізаваным грамадзтве спыніліся асноўныя працэсы разьвіцьця культуры. Культура зьнікае, становіцца прадметам спажываньня і бізнэсу (культура на продаж). Адбываецца функцыянальная перабудова культуратворных крыніцаў. Перамены, якія робяцца, часам ствараюць ілюзію разьвіцьця (бо існуючае пераменьваецца), але гэта ня ёсьць разьвіцьцё. На зьмесьце культуры вырастае новы фэномэн масавай сьведамасьці, як ракавая пухліна на здаровым целе.

Гэта адбіваецца і на мовах (ня толькі на беларускай). Жарганізацыя, вульгарызацыя і лексічная крымiналізацыя

цяперашняй рускай мовы плыве, як патоп. Але гэта моўны рэгрэс, а не разьвіцьцё, адлюстраваньне культурнай дэградацыі ў грамадзтве.

Трасянка – гібрыд клясычнай крэалізацыі і гвалтоўнай русіфіацыі, вынік дзікага насільля над жывой і больш дасканалай мовай. Але сутнасьць зьявы такая ж, як і ўсюды, – рэгрэс і распад.

Ну, зразумела, для некаторых газэтак, што ненавідзяць ды пад'ялдыківаюць усё нацыянальнае, беларускае, – узьвялічыць трасянку люба-дарага. Бачылі мы ўжо таксама і фатаграфіі бамжоў, ды п'яніц, ды абарванцаў з тытулам пад „творамі" – „беларус". І сто гадоў таму вышуквалі жабракоў і цягнулі ў „беларусы". У XIX-м стагоддзі адзін расейскі паэт нават вершык напісаў: „Видиш, стоит, изможден лихорадкою, высокорослый больной белорус". І далей апісаньне запалых грудзей, худых ног, рук, язваў і г.д. Гэта ён рускай „этнографической литературы" начытаўся. Як некалі пісаў Еўдакім Раманаў, „гэтага рабскага таптаньня беларуса ў гразь".

Усё жыцьцё памятаю, зь якім задавальненьнем некаторыя расейцы, зь якой прыемнасьцю ў школе расейскія настаўнікі чыталі гэтую напісаную пра беларуса дрэнь. Як ім усім хацелася абуць беларуса ў лапці.

Гэтак і з трасянкай – „груди упалые... колтун в волосах". „Белорусская газета" цьвердзіць, што цытуе Алега Трусава. Маўляў, ня мы так кажам. Але цытаваць – прыемна.

Па-першае, нельга верыць „Белорусской газете". Здольнасьці яе мы ведаем. Магчыма, А. Трусаў так зусім і не казаў. Але ўсё ж такі, усё ж... Які шкодны ёсьць цяпер рэжым на Беларусі.

## „ЧАС БЯЖЫЦЬ, А АДКАЗУ НЯМА"

Рэжым сапраўды душыць на інтэлект. Відаць, зьмяняюцца ў арганізме храмасомы, ліпіды, нукліды, гербецыды ды квазімоды. Ерунда нейкая. Адзін творца апрануў беларускую вышываную кашулю, прывёз тачку гною і выверну ў перад адміністрацыяй Лукашэнкі. Гэтак ён ацаніў ягоную дзейнасьць. А хто будзе прыбіраць? „Змагара" не пасадзілі. Зжаліліся, дарэчы.

Іншая навуковая дама аформіла паштовую пасылку. Паклала туды косьці, мыла, вяроўку і паслала Лукашэнку. Узбудзілі справу.

Яшчэ аднаго „дэмакрата" не пускалі ў залю парляманту без акрэдытацыі. Пабіўся зь міліцыяй, разьбіў шкляныя дзьверы. Пасадзілі.

Патрабуюць выклікаць у суд у якасьці сьведкаў Генэральнага пракурора Шэймана, Лукашэнку і ўвесь генэралітэт, Пургурыдзіса і Хаўера Саляну, Сівакова і Ціцянкова і г.д., каб яны пацьвердзілі праўдзівасьць таго, што адна змагарная дама напісала ва ўлётцы. Выклікаюць Лукашэнку на тэле-турнір, на дыскусію, пішуць пасланьні і звароты... І няма канца гэтаму тэатру клоунаў за „дэмакратыю" і „правы" бесталковага чалавека. Колькасьць такіх „змагайцаў" за дэмакратыю ня меншае, а толькі прыбаўляецца.

Нядаўна „Народная Воля" піша: „Юры Хадыка зьвярнуўся да Аляксандра Лукашэнкі з прапановай правесьці дыскусію ў прамым тэле-эфіры". (І гэты туды ж.)

„Афіцыйны лідар, – піша Ю. Хадыка, – на маю думку, пэрсанальна вінаваты ў тым, што крэдытны рэйтынг Беларусі вельмі нізкі (з-за яго адмовы выконваць чатыры ўмовы АБСЭ), я лічыў, што наша гутарка магла быць вельмі карыснай. У першую чаргу, для яго. Магчыма, трэба падказаць, падштурхнуць чалавека да прыняцьця неабходных захадаў па гэтым пытаньні... На жаль, час бяжыць, а станоўчага адказу пакуль што няма." *(„Народная Воля", – 2004, 14 жніўня)*

„Та-а-ак, сказалі мы зь Пятром Іванавічам". Вось гэта самаацэнка! ...А можа, гэта ўсё ж іронія? Можа, так сабе напісана, дзеля дрэннага жарту?

Нічога падобнага. Усё сур'ёзна. У сярэдзіне жніўня і рэжым, і ягоная „апазыцыя" адчулі, што байкот выбараў рэальны, што за беларускім Адраджэньнем сьпее сіла, і тады яны замітусіліся. Хадыка зноў піша, ужо па-руску: „Александар Григорьевич ощущает определенную неуверенность. Впервые ему угрожают не личность и не партия. Ему угрожает угрюмое молчание большинства народа. В такой ситуации его нельзя оставлять один на один с электоратом. Долг оппозиции встать между этими участниками исторической драмы и помочь народу сделать правильный выбор".*("Народная Воля", – 2004, 21 жніўня)*

Вось табе і на. Сам прызнаўся. (Ратуйма Лукашэнку, панове дэмакраты. Аўрал.) Ах, як яму хочацца, каб Лукашэнка зь ім пагаварыў. Лукашэнка і ён – побач на экране... „І час бяжыць, а адказу няма."

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*31 жніўня 2004 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2004, №3 (54). Пад псэўданімам Адам МІКША).*

# БЕЛАРУСКА-РАСЕЙСКАЯ ВАЙНА

## ВЫТОКІ

Тысяча гадоў беларускай дзяржаўнасьці – гэта тысяча гадоў беларускай культуры і тысяча гадоў ваенных змаганьняў. Але сярод гэтых змаганьняў ёсьць адна пэрманэнтная вайна, што не спыняецца ніколі – гэта цывілізацыйная вайна з Расеяй.

„Мы на самым краі Хрысьціянства", – пісаў Мікола Гусоўскі (чытай – эўрапейскага ладу жыцьця). Беларусы-ліцьвіны гістарычна прайгралі гэтую вайну. Прайгралі перш за ўсё таму, што ад самага пачатку ***ніхто ў Эўропе не зразумеў яе як сваё змаганьне ў абарону эўрапейскай культуры***. Эўрапейскай салідарнасьці на той час хапіла хіба што на Крыжовыя паходы. Беларусь у асобе Вялікага Княства Літоўскага была адна перад мангольскай і потым – маскоўскай Ардой, і сапраўды, як пісаў Гусоўскі, на краі Хрысьціянства.

Манголы прайшлі праз Украіну, уварваліся ў Вугоршчыну, спустошылі Маравію, Славакію, Чэхію, Малдову, Румынію, Балгарыю, спалілі Кіеў. Аднак ***спынена нашэсьце было якраз у Беларусі беларускай зброяй і непахіснасьцю***. Яно захлынулася перад беларускімі замкамі ды засекамі, было панішчана ў лясах ды на пераправах. А потым разьбіта на Сініх Водах беларускім войскам.

Вялікае Княства Літоўскае, Вільня выступілі на той час у якасьці абаронцаў і зьбіральнікаў усіх усходне-славянскіх земляў. Вялікае Княства зрабілася дамінантай збройнай, палітычнай і культурнай сілы на ўсходзе Эўропы.

Зьяўленьне тыранічнай імпэрыі на Ўсходзе прадвызначыла ўсю беларускую гісторыю. З гэтага часу пачалася вечная вайна, якая рабілася штораз больш жорсткай і бязьлітаснай, разам з умацаваньнем і разьвіцьцём імпэрыі, закладзенай Чынгіз-ханам.

Змаганьне за ўладу паміж асобнымі землямі ды ўлусамі шматковай імпэрыі манголаў, паміж іхнымі ханамі ды князямі прывяло ў XV-м стагоддзі да ўзмацненьня (не без дапамогі ВКЛ) Маскоўскага княства. Цэнтар імпэрыі паступова пераносіцца ў Маскву і з XV-га стагоддзя менавіта Масква аб'явіла пра новы паход на Захад (на ВКЛ-Беларусь), падхапіла праграмны кліч Чынгіз-хана – ісьці да апошняга мора. Абноўленная імпэрыя (хоць афіцыйна Расея аб'явіла сябе імпэрыяй у 1721 годзе), дзе ўжо палітычна ўзмацнелі маскоўцы, канкрэтна сфармулявала задачы сваёй агрэсіі на Захадзе: ліквідацыя беларускай дзяржавы (ВКЛ), захоп беларускай тэрыторыі і ўключэньне яе ў склад Маскоўскай дзяржавы. Мэтад – вайна (набегі, паходы, напады, зьнішчэньне, вынішчэньне, спаленая зямля, абязьлюд).

Перайманьне Масковіяй прынцыпаў візантыйскай палітыкі, сымволікі і ідэалёгіі (праз дынастычныя шлюбы, дыпляматыю і рэлігію) зрабіла гэтую вайну пэрманэнтнай, штодзённай, спосабам дачыненьняў. Праз 250 гадоў вайна ператварылася ў крывавы кашмар. Пачаўся *Патоп*, які выклікаў у XVII-XVIII стагоддзях катастрафічныя страты насельніцтва і татальнае вынішчэньне беларускай культуры. У выніку генацыду, які рабіла на беларускіх землях маскоўскае войска, была забіта большая палова беларускага народа. Перамога над Масковіяй ужо не ўратавала аслабленую Беларусь. У канцы XVIII стагоддзя, у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай паміж немцамі і Масквой беларуская дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае – перастала існаваць. Уся тэрыторыя Беларусі была забрана пад Расею.

Заходняя Эўропа заняла ў гэтым канфлікце тыповую для сябе прагматычна-філісьцерскую пазыцыю: стала падтрымліваць пэрспэктыўна мацнейшы бок (гэта значыць Расею), мяркуючы ўплываць на яе праз дачыненьні і дынастычныя шлюбы. У выніку Расейская імпэрыя ўмацавалася як ваенна-прыгонная дэспотыя, а ўлада ў ёй з мангола-візантыйскай традыцыі фармалізавалася на расейска-нямецкі манер.

Зьнішчэньне беларускай дзяржавы і ліквідацыя Вялікага Княства стала паваротным этапам у лёсе беларускага народа і ў лёсе Эўропы. А ў пэўнай ступені – ўсяго сьвету, бо прывяло да вялікіх (у тым ліку дзьвюх сусьветных) войнаў. Нічога ўжо не стаяла паміж Заходняй Эўропай і ваеннай Расеяй, не існавала ніякай магутнай тэрыторыі і дзяржаўнай сілы.

Расея прышла да такога становішча ў выніку мэтанакіраванай палітыкі, а палітычная Эўропа – з прычыны хранічнай палітычнай дурноты.

Аднак ліквідацыя Беларусі і расейскі забор ня скончылі беларуска-расейскую вайну. Яна не спынялася ні на хвіліну, але перамясьцілася ва ўнутраную сфэру грамадзтва, з дзяржаўна-палітычнага на этнічна-культурны ўзровень, прадаўжалася з боку Масквы прадумана, падступна, жорстка і бязьлітасна. Справа йшла ўжо не аб ролі ў Эўропе, не аб існаваньні беларускай дзяржавы (яе ўжо не было), а аб існаваньні беларускага народа, ягонай культуры, ягонай культурнай і фізічнай прысутнасьці на тэрыторыі.

Расея, забраўшы Беларусь, паставіла задачу ***зьнішчыць беларускі народ дазваньня на культурна-гістарычным і этнічным узроўні***, каб ніколі нішто ўжо не нагадвала пра існаваньне Вялікага Княства Літоўскага, каб ня ўзьнiклі ня тое што ідэі вяртаньня, а нават успаміны, нават веды пра мінулы час, каб не было ніякіх культурных падставаў і ніякага народнага родава-пляменнага, этнічнага грунту для супраціўленьня, для барацьбы супраць глуму і грукату капытоў, што лавінай каціліся „да апошняга мора", каб ужо нішто не магло аддзяліцца ад „исконно русской" зямлі (як называлі Беларусь акупанты) і каб ніхто больш ня змог супроцьстаяць Маскве. Страх перад Вялікім Княствам сядзеў у падсьведамасьці маскоўскай агрэсіі і расейскай палітыкі супраць Беларусі.

Сымволіку гэтай вайны і прычыну гістарычнага паражэньня Беларусі вобразна паказвае вядомы факт, адлюстраваны ў хроніках, калі Вялікі князь Альгерд у чарговы раз зваяваў Маскву. Маскоўскі князь Дзімітры (Данской) стаў на калені ў гразь разам з баярамі перад Альгердам і прасіў зьлітвацца над імі, не паліць Маскву. За гэта Дзімітры абяцаў сваю паслухмянасьць, падпарадкаваньне і багаты выкуп, срэбра ды золата. Альгерд зьлітваўся, але прысланіў сваё кап'ё да маскоўскай сьцяны, маўляў, каб заўсёды памяталі маскоўцы, чыя зброя можа спыніць іхняе існаваньне.

Высакародны князь Альгерд, жывучы ў традыцыях беларускага рыцарства, спадзяваўся, відаць, што Вялікае Княства будзе гэткім чынам вечна трымаць Маскву ў кулаку, ведаючы, безумоўна, што Масква і Арда ня маюць літасьці, паляць і зьнішчаюць дарэшты.

Гэтак вайна з азіяцкай навалай не выйграецца. Калі б сымволіка паводзінаў (ці дакладней – парадыгма) была іншай (такой, як у маскоўцаў), скажам, напрыклад, калі б Маскву ў гэтым выпадку спалілі разам з жыхарамі (гэтак, як рабілі маскоўцы зь беларусамі), а баяраў пасадзілі б на кол, то і вынікі вечнай вайны і гісторыя Беларусі скаліся б па-іншаму. Праўда, ці засталіся б мы тады эўрапейцамі? Але склалася так, як склалася.

Пасьля ліквідацыі Вялікага Княства Літоўскага і ўсёй Рэчы Паспалітай сумеснымі намаганьнямі расейцаў і немцаў, пэрыяд вынішчэньня беларусаў доўжыўся да 1918 года. Потым, пасьля акупацыі Беларускай Народнай Рэспублікі бальшавіцкай Расеяй, вынішчэньне і ўціск працягваліся яшчэ амаль усё XX-е стагоддзе, аж да 1991 года. Пасьля 1994 года і ўстанаўленьня ў Беларусі аўтарытарнай прамаскоўскай дыктатуры палітыка вынішчэньня беларускай нацыі аднавілася ў форме ўнутранай акупацыі і, перш за ўсё, перасьледуе мэту ліквідаваць адноўленую дзяржаву Беларусь. У зьменшаным маштабе паўтараецца сытуацыя канца XVIII стагоддзя, з тымі ж дзейнікамі і выканаўцамі. Як некалі, так і цяпер, гэта ня разавае дзеяньне, а стратэгія („пакрокавая палітыка"), разьлічаная на ўвесь час, пакуль будзе існаваць Расея і жыць Беларусь.

## МЭТАДАЛЁГІЯ

Пасьля анэксіі Беларусі Расеяй у канцы XVIII стагоддзя была вызначаная асноўная мэта палітыкі на забранай тэрыторыі – русіфікацыя і вынішчэньне.

Першым чынам былі ліквідаваныя беларускія адукацыйныя цэнтры і беларускае школьніцтва, якое знаходзілася пры базылянскіх манастырах. Потым быў забаронены Базылянскі ордэн (на якім трымалася Вунія), ліквідаваныя школы і зачынены Віленскі ўнівэрсітэт.

Наступны этап – ліквідацыя рэлігіі (нацыянальнай канфэсійнасьці). Так была зьнішчана Вунія (1839 г.). Ліквідацыя Вуніі суправаджалася актамі генацыду, тэрору, масавым спальваньнем беларускіх абразоў і беларускіх кніг, пераробкай храмаў на маскоўскі манер.

Потым (1840 г.) – забарона ўжываньня назвы *Беларусь*, якая стала знакам для забароны афіцыйнага ўжываньня беларускай мовы і беларускага друку.

У другой палове XIX-га стагоддзя стаўка ў русіфікацыі была зроблена на рускае праваслаўе і рускую школу. Вядомая формула начальніка Віленскай вучэбнай акругі П. Карнілава: „Руская школа на Беларусі зробіць больш, чым рускі штык".

„Галоўнае ў русіфікацыі беларускага краю – гэта навучыць беларускіх дзяцей сьпяваць рускія песьні", – пісалі ў 1898 годзе „Русские биржевые ведомости".

Наступнай вобласьцю, дзе не спынялася русіфікацыйная праца, была гістарычная навука і ідэалёгія разьвіцьця культуры. Гісторыя беларускага народа была замоўчана, перакручана і сфальсіфікавана ў расейскіх інтарэсах, беларуская культура аб'яўлена „заходне-рускай".

Важнейшай задачай для русіфікатараў было зьнішчэньне сацыяльнай эліты народа, найперш – беларускай шляхты. ***Пакуль існавала шляхта – жыла ідэя змаганьня за незалежнасьць.*** Дзясяткі тысячаў вольнай шляхты было зьнішчана фізічна, трыццаць тысячаў саслана ў Сібір пасьля 1864 года, бальшыня была сацыяльна паніжаная і абмежаваная ў правах, пераведзеная ў сялянства. Канчаткова расправіліся зь беларускай шляхтай і выхадцамі зь яе рускія бальшавікі за часы сталінскага генацыду.

У XX-м стагоддзі адбыліся вялікія перамены ў ідэях, дачыненьнях і структуры грамадзтва, але мэтадалёгія вынішчэньня і русіфікацыі, выкарыстаная ў XIX-м стагоддзі, захавалася поўнасьцю, зь нязначнымі мадыфікацыямі.

У пачатку XX-га стагоддзя ў Расеі быў кароткі пэрыяд „паўдэмакратыі", зьявіліся палітычныя партыі. Але самае істотнае тое, што ў выніку нацыянальных імкненьняў паняволеных краінаў імпэрыі ўзьніклі партыі нацыянальна-вызвольнага накірунку. У Расеі зьявіліся ворагі, якіх раней не было: партыйна арганізаваныя нацыянальныя рухі народаў. Імпэрская палітыка па вынішчэньні беларусаў перажывае мадэрнізацыю, укараняюцца новыя формы, узмацняецца роля і дзейнасьць тайнай паліцыі. Уся расейская палітыка XX-га стагоддзя (і ня толькі расейская) разьвівалася і стваралася пры дапамозе, выкарыстаньні і пад уплывам спэцслужбаў.

Мэтады Бэнкендорфа былі дастасаваныя да новых умоваў – да змаганьня з нацыянальнымі рухамі, з нацыянальнай ідэалёгіяй, легальнымі партыямі, з нацыянальна-культурнымі арганізацыямі, нацыянальным друкам і літаратурай, а ў цэлым – з рэвалюцыяй і лева-рэвалюцыйнай дзейнасьцю, якую падтрымлівалі нацыянальныя рухі. Усё гэта ўжо адбывалася пры існаваньні незалежных газэт.

У новых абставінах Расея выраблена ўдасканаліла сваю ахоўніцка-уціскальніцкую жандармскую сістэму, шырока ўвяла ў практыку раней невядомыя паліцэйскія тэхналёгіі разбурэньня структураў. Найперш быў створаны, пашыраны і субардынаваны апарат тайнай паліцыі, падрыхтавана і завербавана велізарная сетка агентуры, шпікоў, даносчыкаў, інфарматараў і правакатараў. Руская Праваслаўная царква (якая абапіралася на погляды цэзарапапізму і стала часткай бюракратычнай дзяржаўнай сістэмы яшчэ ў XVIII стагоддзі пры Пятры Шалёным) цяпер была непасрэдна ўлучана ў паліцэйска-агентурную ахоўніцкую дзейнасьць. (Ніводзін сьвятар-беларус, дарэчы, ня мог атрымаць парафіі на Беларусі, не папрацаваўшы два гады ва ўнутраных губерніях Расеі, куды іх адміністрацыйна адсылалі, каб набраліся „рускага духу".)

Але галоўным наваўвядзеньнем расейскай паліцэйскай сістэмы ў барацьбе з паняволенымі народамі стала яе непасрэдная арганізацыйная і імітатарская дзейнасьць у палітыцы. Агентура пад кіраўніцтвам спэцслужбаў стварала свае палітычныя ахоўніцкія арганізацыі, якія дзейнічалі легальна і змагаліся з народамі („инородцами") быццам бы самы ад сябе – паліцэйскай шыльды было не відаць. Такімі ўтварэньнямі былі тады ў Расеі, перш за ўсё, так званыя „чарнасоценныя" арганізацыі (напрыклад, „Саюз Міхаіла Архангела", „Саюз рускага народа" і іхныя аддзелы на месцах, якімі часта кіравалі зьвязаныя з „ахоўкай" папы ды архіепіскапы (як у Менску, напрыклад).

У галіне паліцэйскай імітацыі расейцы сталі безумоўнымі наватарамі, засьведчылі вырабленасьць агентуры. „Наватарства" заключалася ў тым, што спэцыяльна падрыхтаваная паліцэйская агентура сама стварала і абавязкова ўзначальвала свае нібыта „нацыянальныя" ці нібыта „рэвалюцыйныя" арганізацыі, газэты, „культурніцкія" таварыствы і г.д. Імітатарскія арганізацыі прываблівалі і адцягвалі ад рэальнай справы тых людзей, што шукалі прыкладаньня сваім нацыянальным ці рэвалюцыйным імкненьням, кантралявалі іхную дзейнасьць, уцягвалі ў пустапарожнія маргінальныя ды правакацыйныя дзеяньні; пры абставінах заводзілі ўсіх у сьляпы завулак, кампрамэтавалі ідэі ў вачах грамадзкасьці і г.д. Гэта былі кіруемыя спэцслужбамі арганізацыі, створаныя для кампрамэтацыі і разбурэньня рэальнай нацыянальнай палітычнай працы і рэальнай барацьбы.

Вядомымі і тыповымі ўтварэньнямі такога кшталту ў Беларусі былі, напрыклад, віленскае нібыта „беларускае" таварыства „Крестьянин" (узначальваў агент С. Кавалюк), „Белорусское общество" (узначальваў агент Л. Саланевіч), газэты „Белорусская жизнь", „Северо-западная жизнь" і г.д.

Трэба ўдакладніць, аднак, што русіфікатарская ідэалёгія „заходнерусізму" была створана пры непасрэдным удзеле расейскіх спэцслужбаў, і менавіта імі найперш гэтыя погляды ўкараняліся ў грамадзкую сьведамасьць. Вышэйпамянёныя арганізацыі і газэты і іншыя такога кшталту стаялі на пазыцыях „заходнерусізму", гэта значыць, прызнавалася адметнасьць Беларусі, мовы („наречия") і беларусаў („ветви русского племени"). Але сэнс існаваньня „племени" быў, на іх думку, у тым, каб хутчэй стаць рускімі („возвратиться в лоно") і зьліцца з Расеяй („в едином языке и народе"). Пазьней гэтую ідэалёгію афіцыйна прымерылі для беларусаў рускія бальшавікі і „будаўнікі камунізму", замяніўшы толькі сутнасьць рэчы эўфэмізмамі тыпу „слияния наций", „коммунистическое общество", „советский народ", „общечеловеческий язык", у выніку чаго беларуская мова павінна была „отмереть" і г.д.

Агентурна-правакацыйная разбуральніцкая дзейнасьць царскіх спэцслужбаў рабілася ў шырокім маштабе, мела свае легенды (напрыклад, Азэф, Джугашвілі-Сталін) і „дасягненьні", але тым ня менш яны ня здолелі зьнішчыць беларускі нацыянальна-вызвольны рух і Адраджэньне Беларусі. Гэтую задачу ўзялі на сябе наступныя ўладары Расеі – тэрарысты-бальшавікі.

## БАЛЬШАВІЗМ

Галоўная мэтадалёгія бальшавізму ў вайне зь Беларусяй была адна – тэрор. Выконваў тэрор НКВД. Спэцслужбы сталі другой (пасьля кампартыі) дзяржаўна-палітычнай сілай у СССР. Улада НКВД была ўсюдыіснай і рэальна абмяжоўвалася толькі дыктатарам Сталінам.

Сталін у вайне зь Беларусяй удасканаліў царскую мэтадалёгію зьнішчэньня, давёў яе да кшталту сацыяльнага сатанізму, вывеў за рамкі чалавечага разуменьня. Сталінскі генацыд выклікаў містычны жах, здранцьвеньне ў грамадзтве, паралізоўваў розум і фантазію. Людзі паводзілі сябе, як жывёла на бойні ў чаканьні расправы.

Ліквідацыя беларускага народа была бальшавікамі скрупулёзна прадуманая. Акрамя сістэмы даносаў, якімі займалася ў асноўным агентура, існаваў плянавы масавы генацыд па вынішчэньню, па высяленьню і па пастаўцы дармовай рабочай сілы за калючы дрот на будовы сацыялізму (так званы ГУЛАГ).

Першым чынам вынішчалася беларуская эліта (адміністрацыя, творчыя і навуковыя працаўнікі). На гэтым узроўні найперш зьнішчалі тых, хто меў сувязі зь беларускім адраджэнцкім рухам. Потым – усіх выхадцаў са шляхты і ўсіх, хто меў дачыненьні да каталіцызму (бо праваслаўнай беларускай шляхты тады ўжо амаль не засталося), пасьля тых, хто пісаў і гаварыў па-беларуску.

Паралельна Масква пастанавіла вынішчыць сацыяльна-этнічную базу нацыі – сялянства. Напачатку забівалі і вывозілі заможных, працавітых і паважаных. Потым – выбарачна. Ад астатніх адабралі зямлю, сродкі вытворчасьці і ўвялі прыгон на абагуленых (дзяржаўных) землях (гэтак званыя „калгасы" ды „саўгасы"). Пашпарты не выдаваліся, пераезд зь месца на месца быў абмежаваны, прыгонная праца не аплочвалася (хіба што сымвалічна).

Гісторыя Беларусі была, фактычна, ліквідаваная. Пачатак яе адлічваўся з 1917 года (бальшавіцкі пераварот у Расеі). Прытым зьмест нават гэтай „гісторыі" быў таксама сфальсіфікаваны.

Адначасна расейскі рэжым прыступіў да пакрокавай ліквідацыі беларускай мовы шляхам дэкрэтнага зьмяненьня беларускага правапісу, прымусовага яго набліжэньня да рускага напісаньня, гвалтоўнага ўвядзеньня ў беларускую мову рускіх словаў і г.д.

Прадаўжалася ўжо выпрацаваная раней мэтадалёгія: разбурэньне нацыянальнай архітэктуры, помнікаў гісторыі і культуры, гістарычных цэнтраў гарадоў, зьмяненьне нацыянальнай тапанімікі, русіфікацыя беларускай моладзі праз рускую школу, унівэрсітэт, службу ў савецкім войску, праз рускую літаратуру, машыну прапаганды і г.д.

Сімптаматычна, што ў сістэме генацыду, русіфікацыі і вынішчэньня беларусаў рускія бальшавікі, у адрозьненьне ад царскіх нішчыцеляў, ніколі не называлі рэчы сваімі імёнамі, а карысталіся выключна эўфэмізмамі і словазамяняльнікамі. Для вынішчэньня сялянства, напрыклад, ужывалася такая тэрміналёгія, як „кулаки", „вредители", „классовые враги", „эксплоататоры". Прыгонны рэжым называўся „коллективизация", „колхоз", „совхоз", „коммуна", адбіраньне маёмасьці і сродкаў вытворчасьці – „обобществление". Для ліквідацыі нейкай групы ці колькасьці людзей прыдумвалі тэрміны, кшталту „троцкисты", „нацдемы", „нацуклонисты" і г.д. Пад гэтае сло692блудзтва хапалі памечаных для ліквідацыі людзей; русіфікацыя і зьнішчэньне нацыянальнай культуры называлася „строительством коммунизма", „стиранием национальных различий", „отмиранием национального языка" і г.д.

Эўфэмілёгія стварала бачнасьць, ілюзію нейкіх быццам бы асаблівых палітычных працэсаў, нейкай асаблівай нібыта палітыкі там, дзе адбывалася звычайнае варварства, масавыя забойствы, тэрор і азіятчына.

Бальшавіцкія русіфікатары і нішчыцелі не ўжывалі лапідарных імпэрскіх слоўцаў тыпу „инородцы". Для забойства беларускіх „инородцев" існаваў тэрмін „нацдэм" і ліквідоўвалі „нацдэмаў", стваралі бачнасьць шкоднай зьявы, зь якой нібыта змагаюцца. Ніхто ня бачыў таямнічага нацдэмаўскага фантому, але ўсе назіралі, як зсякалі галовы беларусам. І некаторыя верылі ў міфічных „нацдэмаў" і іншыя выдумкі бальшавікоў. Такія былі правілы забойстваў, уведзеныя рускім НКВД. Прыёмаў было шмат. Прыдумвалі цэлыя неіснуючыя беларускія арганізацыі і рабілі пад іх заплянаваны „хапун".

Вынік зьнішчальных дзеяньняў левай расейскай улады быў катастрафічны для беларусаў. 30-я гады ХХ-га стагодзьдзя нашай гісторыі – гэта быў другі *Патоп*. Беларусь страціла каля двух мільёнаў чалавек, а беларускае нацыянальнае Адраджэньне было поўнасьцю разгромлена, ягоныя дзеячы замардаваныя, зьнішчаныя і забітыя.

Аднак незьнішчальнасьць Беларусі і беларускай нацыянальнай ідэі засьведчыла тым часам Другая Сусьветная вайна. З 1941 па 1944 гады цэнтральная Беларусь (на якой дзейнічала нямецкая цывільная адміністрацыя на чале з В. Кубэ) перажыла моцны нацыянальны ўздым беларускага патрыятызму, асабліва сярод моладзі, якая гатова была змагацца супраць адных і другіх акупантаў. Гэта ўшчэнт зьбянтэжыла бальшавікоў і прывяло Маскву ў шаленства. Зь вяртаньнем саветаў на Беларусь зноў пачаліся рэпрэсіі, сотні тысячаў сьведамых беларусаў эмігравалі на Захад.

Пасьля 2-й Сусьветнай вайны, і асабліва пасьля сьмерці Сталіна, уся беларуская ўлада была абсаджана найбольш агрэсіўнай і „беларусажэрнай" групай функцыянераў партыі і НКВД – былымі савецкімі партызанамі. Масква скарэктавала тактыку барацьбы зь беларускай ідэяй. Стаўка была зроблена, як і за часы Карнілава ды Мураўёва, найперш на русіфікацыю праз рускую школу і на мясцовыя прарасейскія кадры адміністрацыі.

Партызанская ўлада праіснавала, практычна, да 80-х гадоў і цалкам апраўдала спадзяваньні Масквы. З асяроддзя гэтай улады і яе пераемнікаў ня выйшла ніводнага нацыянал-камуніста, усё жывое беларускае затоптвалася, скрупулёзна, зь веданьнем справы, з двайной энэргіяй рэнэгатаў.

Беларускія школы былі тым часам поўнасьцю ліквідаваныя ў беларускіх гарадах і раённых цэнтрах. Кашмар русіфікацыі гарадзкой рускай школы, служба ў Савецкай арміі і бяспамяцтва зглумілі некалькі пакаленьняў пасьляваенных беларусаў. Савецкая праграма русіфікацыі і вынішчэньня нацыянальнай культуры, разьлічаная на доўгі час, стварала перавернутае грамадзтва манкуртаў ды мамелюкаў, нацыянальных вырадкаў, што зьдзекваліся над усім сваім.

Сталінскі плян зьнішчэньня беларускага сялянства быў выкананы. Сялянства як супольнасьць уласьнікаў-земляробаў і супольнасьць вясковай традыцыйнай культуры было разбурана. Але заставалася вёска, існавалі вясковыя людзі, носьбіты жывой беларускай мовы і этнічных прыкметаў. А значыць (нішчыцелі разумелі) заставалася небясьпека адраджэньня сялянства. Нягледзячы ні на што, вёска яшчэ заставалася крыніцай, што жывіла нацыянальныя карані.

Сытуацыя была прааналізаваная ў Маскве, і ў 1964 годзе зьявіўся бадай ці ня самы страшны (пасьля вяртаньня прыгону) і самы небясьпечны для беларускай нацыі плян зьнішчэньня (зносу) беларускіх вёсак. Праект падаваўся пад эўфэмізмам „ликвидация неперспективных деревень". (У 1950-м годзе, напрыклад, зьнішчалі беларускія хутары пад лёзунгам „укрупнение населённых пунктов". ) З трыццаці пяці тысячаў беларускіх вёсак плянавалі пакінуць 9 тысячаў. Гэты плян ажыцьцявіць на пасьпелі. Разваліўся Савецкі саюз.

## НОВЫЯ ТЭХНАЛЁГІІ

У 1960-х гг. у самы разгар халоднай вайны ЗША і СССР ліхаманкава працавалі над тэхналёгіямі лягічна-падсьведамага і псіхічнага ўзьдзеяньня на праціўніка. Фактычна, стваралася новая нябачная і незразумелая для масавай сьведамасьці зброя масавага ўзьдзеяньня. У глыбокай сакрэтнасьці ў КГБ дасьледвалі псіхалёгію, біяінфарматыку, астралёгію, парапсіхалёгію, гіпноз, нават магію, высьвятляючы магчымасьці ўзьдзеяньня на масавую сьвядомасьць. Вынікі былі дасягнутыя, і немалыя. Цяпер кожны адукаваны чалавек ведае, што такое інфармацыйная зброя, як яна ўзьдзейнічае на падсьведамасьць, як ствараецца масавы псіхоз, уплыў на асобу, праграмаваньне псіхікі, стварэньне скрыўленага вобраза і г.д.

Камуністычная кіруючая бюракратыя, аднак, глядзела на гэта, як на экспэрымэнты, ня больш. У іх былі свае, бюракратычныя правілы франтальнай ідэалягічнай апрацоўкі народа і ўся паўната ўлады. Экспэрымэнты засталіся незапатрабаванымі.

Масква лічыла, што Беларусі ўжо канец, што беларуская нацыя памерла і толькі дажывае фізічна. КГБ тым часам рабіў пэрспэктыўны аналіз і ажыцьцяўляў прэвэнтыўныя меры. Дзесьці ў сярэдзіне 1970-х гг. на адкрытых партыйных сходах розных „ідэалягічных" арганізацыяў выступаў зь лекцыямі адзін палкоўнік КГБ (ці то Федзькін ці то Рэдзькін – не памятаю дакладна), які казаў пра падрыўную дзейнасьць заходніх ідэалёгіяў і даверліва, паўканфэдыцыяльна паведамляў прысутным, што ў Беларусі, і найбольш у Менску, зьявіліся беларускія фашысты. Прыкметы: гэта маладыя людзі, галовы паголеныя, у ботах і галіфэ, гавораць па-беларуску, сьпяваюць беларускія народныя песьні. Але гэта, маўляў, камуфляж, за народнымі песьнямі схаваны фашызм. Далей паведамлялася нібыта пра „факты" фашысцкіх зборак і правакацыяў.

Інфармацыя гэбіста была выдумкай, несусьветным глупствам, такіх групаў моладзі ў сярэдзіне 70-х гадоў у Беларусі не існавала. Аднак савецкі абывацель, праслухаўшы лекцыю „спэцыяліста" ўжо падазрона вастрыў слых і азіраўся на вуліцах на гук беларускай мовы, шукаючы „фашыстаў". Прэвэнтыўны разьлік палкоўніка быў прадбачлівым. Абывацель знайшоў ягоных „фашыстаў" праз 10 гадоў, калі ў 80-х зьявіліся беларускія культурніцкія моладзевыя суполкі і пачалі сьпяваць беларускія народныя песьні. Тады на сьвята Купальле ноччу ў полі міліцыя нападала на іх з сабакамі пры выкарыстаньні гелікоптэра, а кагэбоўскім нападам на школьніцкае сьвята „Гуканьне вясны" (якое адбылося 20 красавіка 1986 года ў цэнтры Менска ў Траецкім прадмесьці) кіравалі ЦК ЛКСМБ і Менскі гаркам КПБ КПСС.

Гэтак савецкі КГБ пачынаў выкарыстоўваць новыя, толькі што засвоеныя „тэхналёгіі" ў пэрманэнтнай антыбеларускай вайне. Беларускі Народны Фронт яшчэ не зьявіўся, а ярлык „фашыстаў" яму ўжо рыхтавалі за 10 гадоў да зьяўленьня. Прытым тады гэта рабілася, відаць, так, на ўсялякі выпадак, для „прафілактыкі". Беларускі народ (па расейскай лёгіцы) мусіў быў заставацца трупам і нізавошта не павінен быў падняцца, нават адчыніць напалову вейкі вачэй. Але ён падняўся.

## ГЭБІЗМ

У Беларусі і Расеі ўсталяваная новая тэхналёгія ўлады – „гэбізм" (ад назвы службы бясьпекі). Дзяржаўная ўлада знаходзіцца ў руках былога савецкага КГБ.

Улада спэцслужбаў (разьведка, бясьпека, палітычная паліцыя і г.д.) бывае вельмі вялікай, нават вызначальнай, як у СССР, але да апошняга часу яшчэ не было выпадку, каб дзе-небудзь спэцслужбы занялі ўсю ўладу ў дзяржаве і валодалі неабмежаванай і абсалютнай яе паўнатой.

Першая спроба НКВД пераняць абсалютную ўладу ў СССР была зроблена Берыям адразу пасьля сьмерці Сталіна. Берыя паставіў на рэспублікі, плянуючы зьнішчыць маскоўскую кіруючую групоўку ВКПБ і расчысьціць шлях да ўлады. Але ў выніку маскоўская групоўка зьнішчыла Берыю. З таго часу спэцслужбы былі пад строгім кантролем кіраўніцтва КПСС.

Наступная сумбурная спроба верхавіны КГБ захапіць уладу ў СССР шляхам перавароту адбылася ў 1991-м годзе (так званы ГКЧП). Путч праваліўся, але ў выніку была ліквідаваная КПСС, самая галоўная перашкода на шляху да гэбоўскай улады. Адбыўся частковы распад імпэрыі. Аднак Ельцын не расфармаваў КГБ, як таго вымагала неабходнасьць пабудовы дэмакратычнай улады, ніхто з путчыстаў ня быў пакараны. КГБ дэкляраваў падтрымку Ельцыну і, выкарыстоўваючы ягоную палітычную і асабовую слабасьць (адсутнасьць апоры на моцную правячую партыю, алькагалізм), пачаў мэтадычную працу па стварэньні кантролю над уладай, фінансамі, эканомікай, грамадзтвам і дзяржавай.

У слабакіруемай ельцынаўскай Расеі КГБ быў найбольш арганізаванай і структураванай сілай улады з добра падрыхтаванымі кадрамі, агентурай і дзяржаўным бюджэтам. Нібыта рэарганізацыі КГБ і скарачэньні, якія рабіў Ельцын і ягоныя стаўленьнікі, толькі дапамаглі спэцслужбам арганізавацца ў новых умовах. Праз некалькі гадоў прадуманай працы КГБ праз агентуру кантраляваў ахову і функцыянаваньне, практычна, усіх банкаў у Расеі, цалкам быў узяты пад кантроль КГБ увесь так званы „шэры" (крымінальны) бізнэс і, што істотна, – дзейнасьць міліцыі і крымінальны сьвет. За гады ўлады Ельцына адбылося глыбокае і татальнае пранікненьне КГБ у бізнэсовыя структуры Расеі. КГБ набыў магчымасьць кантраляваць грашовыя плыні і ўплываць на рух капіталу. Ён шырока пранік у сродкі масавай інфармацыі, стварыў і кантралюе мноства грамадзкіх і палітычных арганізацыяў.

Узмацненьне КГБ у ельцынскай Расеі адбылося ўжо ў 1992 годзе. З гэтага часу пачынаецца ягонае актыўнае пранікненьне ў беларускую палітыку, дзе інстытут КГБ застаўся ў некранутым выглядзе з савецкіх часоў.

У 1994 годзе, выкарыстаўшы палітычную і нацыянальную нясьпеласьць беларускага грамадзтва, Масква праз КГБ шляхам фармальна дэмакратычных выбараў прыводзіць да ўлады ў Беларусі свайго стаўленьніка А. Лукашэнку. Два аспэкты трэба адзначыць у гэтай падзеі. Першы: вяртаецца старая расейская палітыка вынішчэньня ўсяго беларускага. Другі: функцыянаваньне прамаскоўскай улады на Беларусі ёсьць экспэрымэнтальным рэжымам для будучай сістэмы ўлады КГБ у Расеі.

Зьяўленьне ў 1999 годзе ў вышэйшым дзяржаўным кіраўніцтве Расеі нікому раней невядомага афіцэра КГБ У. Пуціна адкрыта, лапідарна і наўпрост сьведчыць, што гэта не самастойная фігура, а стаўленьнік пэўных сілаў і канкрэтных групаў. Не да канца зразумела, хто ўваходзіць у гэтую кіроўную ценявую групу ўлады (КГБ – арганізацыя напоўсхаваная), але відаць, што там знаходзіцца таксама старая вышэйшая савецкая намэнклятура КГБ – Прымакоў, Кручкоў, Лук'янаў, „плакучы бальшавік" Рыжкоў (словам, былыя гэкачэпісты).

Сілу і моц новай (калектыўна-ценевай) гэбоўскай улады засьведчылі найперш апошнія выбары ў расейскую Дзяржаўную Думу (2004 г.), калі КГБ ішоў на выбары амаль адкрыта, стварыўшы штучную прапуцінскую партыю, якая ня мела нават выбарчай партыйнай праграмы, і тым ня менш – поўнасьцю перамагла на выбарах, дзякуючы ўладзе, уладнаму рэсурсу, уладнай прапагандзе, агітацыі і ўладнай фальсіфікацыі.

У фармаваньні гэбоўскай Думы была ўжыта мадэль рэжыму Лукашэнкі – поўнасьцю выключаныя з выбараў дэкаратыўныя так званыя „дэмпартыі". Гульні скончыліся. Ніштo не павінна было больш блытацца пад нагамі ў новай улады.

Што ж адбылося? Праз 14 гадоў пасьля ліквідацыі КПСС і распаду СССР поўная і абсалютная ўлада ў Расеі легальна, фармальна законна апынулася ў кулаку савецкай службы бясьпекі. (У Беларусі – на 8 гадоў раней, у 1996 годзе і незаконна.) Абсалютная ўлада ў імпэрскай краіне з імпэрскай мэнтальнасьцю і ідэалёгіяй сканцэнтравалася ў руках супэрпартыі, назва якой – КГБ. Аналагаў такой партыі і такой сытуацыі цяжка адшукаць у гісторыі. Гэта партыя, якая зьяўляецца дзяржаўнай цэнтралізаванай структурай улады; яе члены строга структураваныя і субардынаваныя. Супэрпартыя існуе на дзяржаўным бюджэце, прысутнічае ва ўсіх адміністрацыйных цэнтрах краіны. Яе дзейнасьць у значнай ступені засакрэчаная, згодна з законам. Супэрпартыя валодае велізарным штатам схаванай ад грамадзтва (і таксама згодна закону) унутранай і зьнешняй агентуры, здольнай пранікаць і кантраляваць усе ўстановы, усе групы грамадзтва. Пераход вярхоўнай улады ў рукі гэтай партыі абазначае неабмежаваную магчымасьць кантролю над усімі сфэрамі дзяржаўнай, грамадзкай і палітычнай дзейнасьці.

Ніякая таталітарная КПСС зь яе абсалютнай уладай над грамадзтвам ня можа параўнацца з магчымасьцямі гэтай партыі. КПСС існавала ва ўмовах адміністрацыйнага прымусу і адміністрацыйна-разьмеркавальнай сістэмы. Усе грошы кантраляваліся дзяржавай. КПСС сама была закладніцай свайго дзяржаўнага ўладкаваньня.

КГБ цяпер існуе ва ўмовах вымушанай прадажы людзьмі сваёй рабочай сілы ва ўмовах існаваньня грашовых патокаў, кантралюемых гэтай супэрпартыяй улады.

У сваёй аснове, такім чынам, ***супэрпартыя ёсьць легальна і законна арганізаваная дзяржаўная мафія пад аховай сваёй улады і сваіх законаў***. Таму заканамерна, што супэрпартыя адразу павяла вайну з фінансавай сілай незалежных расейскіх алігархаў. Прытым Гэбэ не цырымоніцца, дзейнічае дзядоўскім мэтадам сваіх папярэднікаў – за карак ды за краты (гэтак жа і ў Беларусі). Цяперашняй супэрпартыі ўлады непатрэбны ГУЛАГ, бо нікога ня трэба гнаць на працу (як некалі рабілі камуністы). Людзі самы просяцца, і за няшмат. Палітычныя і эканамічныя рэпрэсіі выконвае нябачны інстытут кілераў, які пад кантролем. Кожны дзень у Маскве кілеры забіваюць у сярэднім двух чалавек. Яшчэ ніводнага забойцу не знайшлі.

Супэрпартыя Гэбэ больш адукаваная, чым былая КПСС, у пляне палітычнага разьвіцьця. Яе кіруючыя функцыянеры знаёмыя з сучаснымі ведамі і тэхналёгіямі, валодаюць замежнымі мовамі, не зашораныя на тупой ідэалёгіі, як камуністы, і адпаведна – не абцяжараныя ніякай маральлю (нават „камуністычнай") – цынікі і прагматыкі.

Асноўная іхняя „ідэалёгія" – грошы. Але валоданьне дзяржаўнай уладай канцэптуальна абумоўлена імпэрскай мэнтальнасьцю расейскага грамадзтва. Гэты аспэкт прынцыпова ўлічаны. Таму афіцыйнай палітычнай ідэалёгіяй супэрпартыі дэкляруецца вялікадзяржаўны патрыятызм, выраблены шавінізм, адданасьць вялікадзяржаўным інтарэсам Расеі (якія супадаюць з асабістымі і партыйнымі інтарэсамі Гэбэ). Тым часам галоўнай каштоўнасьцю гэбоўскай карпарацыі ўлады зьяўляецца сама ўлада, поўная і абсалютная. Дзеля гэтай улады яны гатовыя пакласьці пад ногі ўсю Расею, а калі спатрэбіцца, то і ўвесь сьвет. Гэбізм – гэта ёсьць, фактычна, мадыфікацыя расейскага фашызму, які маштабна пачынае разьвівацца ў Расеі. Спадарожнікі яго (акрамя несвабоды) – тэрор і вайна, якія мы ўжо назіраем; але галоўныя дзеі наперадзе.

Эканамічнае існаваньне такой мафійнай сістэмы абумоўлена не стратэгічнай патрэбай стварэньня дзяржаўнай структуры, адпаведнай афіцыйна дэклараванай імпэрскай ідэалёгіі, а перш за ўсё алігархічнымі інтарэсамі верхавіны гэбоўскай ўлады. Па сутнасьці яно паразітнае, тупіковае і беспэрспэктыўнае. Але ў Расеі яно можа трываць доўга.

Відавочна, што гэтакая ***гэбоўская сістэма ўлады ніколі ня будзе дэмакратычнай***. Па сваёй прыродзе яна ўвесь час імкнецца да кантролю над грамадзтвам, над друкам і грамадзкай думкай, над камэрцыйнай і прадпрымальніцкай дзейнасьцю.

Геапалітычны ўзровень думаньня і палітычныя магчымасьці супэрпатыі КГБ таксама большыя, чым у былой КПСС. Валодаючы сучаснымі тэхналёгіямі і аналізам, супэрпартыя здольная пралічваць свае дзеяньні крок за крокам на доўгі пэрыяд і дамагацца вынікаў. Прарыў КГБ да ўлады ў Расеі адбыўся якраз пасьля такога аналізу шляхам пасьлядоўных дзеяньняў.

Супэрпартыя Гэбэ, не дэкляруючы, прапануе, фактычна, сваю вэрсію глябалізацыі шляхам пранікненьня спэцслужбаў у капітал. Гаворачы спрошчана, ***прапануецца кантроль спэцслужбаў над сусьветнымі грашовымі плынямі, таварамі і рэсурсамі.*** Трэба ўлічыць, што ўсе спэцслужбы выконваюць палітычныя задачы сваіх нацыянальных урадаў. Тым часам расейская спэцслужба КГБ ёсьць цяперака сама сабе і ўрад, і партыя, і дзяржава.

Канцэнтрацыя рускага шэрага капіталу на Захадзе (мяркуюць, што ў Эўропе цяпер, на жнівень 2004 года, знаходзіцца ад 300 да 500 мільярдаў даляраў расейскіх грошай) зьвязана ня толькі з крымінальным вывазам. Вывезеныя грошы ўжо працуюць на інтарэсы супэрпартыі КГБ і ў будучыні яшчэ могуць сыграць сваю злавесную палітычную ролю. Захад, напалоханы расейскім крыміналам, ня ў стане зразумець, у чыіх руках рычагі і кантроль над яго прасоўваньнем у Эўропу. Тым часам заключаючы зьдзелкі аб сумеснай дзейнасьці з расейскай бізнэсовай фірмай, заходнія людзі думаюць па сваіх стэрыатыпах і ня здольныя ўцяміць, што маюць справу з дзяржаўным гэбізмам, і ўпускаюць рускую разьведку ў свае інтарэсы. Правалы КГБ бываюць толькі ва Ўсходняй Эўропе, дзе ведаюць расейцаў і прыёмы расейскай палітыкі. Напрыклад, апошнія скандальныя падзеі ў Летуве (прадажа нафтакамбіната ў Мажэйках і справа прэзыдэнта Паксаса).

Рускі КГБ – арганізацыя з жахлівым злачынным мінулым, з крымінальнымі тэрарыстычнымі традыцыямі, ад якіх ніхто ва ўладзе Расеі не адмовіўся, наадварот, глядзяць на іх, як на „героические традиции прошлого". Цяпер, калі ўлада поўнасьцю перайшла ў рукі КГБ, амаль кожны дзень па расейскім тэлебачаньні, у друку ды радыё ідуць матэрыялы пра невядомых раней „герояў-чэкістаў", пра тое, як яны шпіёнілі, ажыцьцяўлялі забойствы і тэрарыстычныя акты „во имя родины" і г.д. Ніхто ўжо не хаваецца. Рускі кніжны рынак завалены кнігамі пра крымінальнікаў ды зладзеяў у законе (нават бандыцкія энцыклякпэдыі выпусьцілі). Усё гэта – павевы часу і адлюстраваньне аблічча новай улады.

***Тэрарызм заўсёды быў галоўнай сфэрай дзейнасьці КГБ.*** За часы халоднай вайны тэрарыстычная актыўнасьць чэкістаў была пашырана, структуравана і сістэматызавана, набыла рысы міжнароднай палітыкі з пляцоўкамі на ўсіх кантынентах. У Савецкім саюзе пры ваенных частках і навучальных установах узьнікла шмат цэнтраў па падрыхтоўцы міжнародных тэрарыстаў з усяго сьвету (з Кубы, Афрыкі, Лацінскай Амэрыкі, з арабскіх краінаў і г.д.). У 1960-х гадах быў нават створаны спэцыяльны „Ўнівэрсітэт Дружбы Народаў імя Патрыса Лумумбы" ў Маскве, дзе рыхтавалі тэрарыстаў (там прайшоў падрыхтоўку, напрыклад, вядомы міжнародны сэрыйны тэрарыст-забойца і марксіст Санчэс Ільіч Рамірэс (Шакал), якога ў 1990-х гг. схапілі і судзілі ў Францыі). Атрымаўшы вывучку ў СССР, тэрарысты пад кантролем КГБ актыўна дзейнічалі ў Афрыцы і Лацінскай Амэрыцы, дзе экспартавалі „рэвалюцыю" ды „змагаліся" ў такіх краінах, як Егіпет, Іарданія, Ліван, Сірыя, Аўганістан, і ўвогуле – на Блізкім Усходзе, ня кажучы ўжо пра В'етнам. Гэты „вопыт" і міжнародная сетка тэрарызму, створаная КГБ, ня згінула з распадам СССР, ня зьнікла канчаткова, засталіся кадры, навыкі, сувязі, і нарэшце – застаўся прыклад, прэцэдэнт тэрарыстычнай дзейнасьці, якая аднавілася цяпер на новым этапе, як схаваная тэрарыстычная вайна з Амэрыкай.

Ёсьць пытаньні, якія ляжаць на паверхні, і выклікае вялікае зьдзіўленьне, што ніхто іх не задае цяпер, калі тэма тэрарызму стала галоўнай у Заходнім сьвеце.

Першае: дзе ёсьць цэнтар тэрарызму? Хто ім кіруе? Хто падрыхтаваў і давёў да выкананьня такую складаную дыверсію, як зьнішчэньне вежаў Гандлёвага Цэнтру ў Нью-Ёрку і разбурэньне будынку Пентагона ў Вашынгтоне? Хто? Бін Ладэн? Гэта выглядае несур'ёзна. Кожны, хто здольны аналізаваць, зразумее, што такая апэрацыя была не пад сілу толькі тэрарыстычнай арганізацыі (прытам з трэцяга сьвету).

Камісія Кангрэсу ЗША прыйшла да высновы аб няўзгодненых дзеяньнях і памылках спэцслужбаў Амэрыкі, якія не прадухілілі дыверсію 11 верасьня. Але вядома (нават зь літаратуры і кіно), што прафэсіяналы спэцслужбаў пачынаюць раптам усе памыляцца перад нейкай падзеяй тады, калі на іх (ці ўнутры іх) дзейнічае і ўплывае іншая спэцслужба.

Пасьля дыверсіі 11 верасьня Амэрыка была лёгка ўцягнута ў дзьве вайны на Блізкім Усходзе. Так, вайна адпавядала інтарэсам бясьпекі Амэрыкі і крок быў неабходны (і з пункту гледжаньня лёгікі барацьбы – правільны). Але зададзім пытаньне, чыім яшчэ інтарэсам адпавядала гэтая вайна? І чаму, калі ў Іраку не знайшлі зброі масавага зьнішчэньня, раптам зноў выявілася, што прымітыўна і бяздарна памыліліся ў гэтым ужо адразу дзьве нацыянальныя разьведкі – амэрыканская і ангельская. А „памылка" такая: разьведкі сцьвярджалі, што зброя ёсьць. Але калі б было вядома, што зброі масавага зьнішчэньня ў Іраку няма, то вайна магла б не пачацца.

Часам карысна лапідарна паразважаць на тэму выгады. Дыверсія 11 верасьня ўдарыла па ўсім Заходнім сьвеце. Ні адна краіна не атрымала пасьля гэтай падзеі ніякага палітычнага прыбытку. Але Расея адразу скарыстала сытуацыю, каб схаваць свой дзяржаўны тэрарызм і злачынную вайну ў Чачэніі, паказваючы на ісламскую рэлігійнасьць чачэнцаў, якія абараняюць бацькаўшчыну. І гэтае права на абарону выстаўляецца расейцамі як ісламскі тэрарызм. Маніпуляцыя ўдалася. Захад па-здрадніцку здаў чачэнскі народ на зьнішчэньне.

Ад вайны ў Іраку на сёньняшні дзень ніхто не атрымаў эканамічнай выгады, акрамя Расеі. Добра вядома, што эканоміка, і нават існаваньне палітычных рэжымаў у гэтай краіне, залежыць ад цаны на нафту. У выніку вайны ў Іраку цэны на нафту высока падскочылі ўверх. У Расею пацяклі незапланаваныя нафтадаляры. Даляраў цяпер поўна, ня ведаюць, куды прыткнуць. Далі вось 175 мільёнаў на незаконны рэфэрэндум Лукашэнку (пад выглядам крэдыту). Нафтадаляры даюць рух бізнэсу, новым ініцыятывам. Выгада, якую за кароткі час атрымала Расея і супэрпартыя КГБ ад прытоку нафтадаляраў эквівалентная вялікім дзяржаўным высілкам па эканамічных рэформах, інвэстыцыях ды крэдытах, ды на доўгія гады. Але ўсё гэта можна было дасягнуць хутка. Дастаткова толькі, каб Амэрыка пачала вайну ў Іраку.

Ня будзем, аднак, варушыць думак у галовах заходніх палітыкаў. Там непапраўна. Пагодзімся, што ў крамлёўскім КГБ сядзяць, маўляў, прасьцячкі ды сябры Амэрыкі, і што Бін Ладэн, маўляў, кіруе міжнародным тэрарызмам.

Тэма нашай гаворкі – беларуска-расейская цывілізацыйная вайна. Зыход, ці дакладней, працяг гэтай вайны напрасткі зьвязаны з характарам улады ў Расеі. У залежнасьці ад гэтага можа зьмяняцца тактыка вайны. Але ***хто б ні сядзеў у Крамлі, агрэсіўная сутнасьць расейскай палітыкі ў дачыненьні да беларусаў ня зьменіцца ніколі***. (Ніколі – пакуль Расея застаецца імпэрскай дзяржавай.)

Гэбізм, як бы я яго ацаніў, – гэта, вобразна кажучы, прыватызацыя дзяржавы спэцслужбамі (у дадзеным выпадку КГБ).

Спэцыфіка гэтай улады ў тым, што супэрпартыя КГБ фармальна як бы ня бачная. На паверхні плаваюць розныя палітычныя ўтварэньні і асобы, бізнэсовыя фірмы, банкі, але няма відавочнай дэкларацыі прыналежнасьці да КГБ. Такая сістэма нагадвае крыху структуру масонскай ложы. Яе няпроста палітычна разбурыць. Тым больш, што Гэбэ скарыстоўвае фармальна дэмакратычныя мэханізмы абстаноўкі ўлады (выбары, парлямант і г.д.) і кантралюе рэжым іхняга функцыянаваньня.

Абсалютызацыя ўлады КГБ дазволіла яму ў дзяржаўным маштабе бесперашкодна выкарыстоўваць тэхналёгіі падсьвядомага, псіхічнага і інфармацыйнага ўзьдзеяньня на грамадзтва. Зьявілася цэлая „паліттворчасьць" гэбізму. На палітычнай сцэне ставіліся палітычныя спэктаклі, хэпэнінгі, выступалі салісты, разыгрываліся псэўдаканфлікты, ствараліся псэўдаарганізацыі і г.д. – усё для ашуканства людзей і дасягненьня палітычных мэтаў. І людзі ашукваюцца цэлымі групамі, масамі. Ва ўсіх гэтых „творчых гульнях" стаіць разьлік, выконваецца пэўная задача.

Найбольшая небясьпека хаваецца ў тым, што рускі гэбізм скрыта агрэсіўны, а акаляючы сьвет яшчэ ня можа разабрацца, што за тып улады ўтварыўся ў Расеі, і гатовы называць яго нават „дэмакратыяй", што выглядае насьмешкай над здаровым сэнсам.

## ЭЎРОПА

Эўропа бессаромна пагадзілася з расейскім гэбізмам, не разумеючы, як відаць, ягонай небясьпекі, і гэтак жа, як некалі пагаджалася з камунізмам і пасавала перад Гітлерам. Улічваючы, што ў сістэму гэбоўскай улады ўключана Беларусь, Захад (маецца на ўвазе Эўразьвяз і найперш – Нямеччына) шукае супольнага з Расеяй вырашэньня пытаньня наконт рэжыму Лукашэнкі. Лукашэнка, як крэатура КГБ, Маскву цалкам задавальняе. Масква ніколі не пагодзіцца здаць Лукашэнку ўзамен на якога-небудзь „дэмакрата”, які быў бы пад уплывам Бэрліна ці Брусэля. Тут справа зразумелая і скончаная. У Менску Крэмль хоча мець свайго чалавека. На гэтай глебе вяжацца антыбеларуская дыпляматыя і точыцца гандаль.

Бэрлін падтрымліваў у Беларусі „барацьбу за дэмакратыю” супраць дыктатуры і адначасна стараўся перацягнуць Лукашэнку на свой бок, „дэмакратызаваць” яго. Немцы таемна супрацоўнічалі пры гэтым з КГБ (місія Ганса Віка). З гэтага, аднак, нічога ня выйшла. Ня немцы скарысталі рэжым, а рэжым немцаў. Вік дапамог рэжыму разваліць Беларускі Народны Фронт і стварыць кантралюемую агентурай псэўдаапазыцыю (без нацыянальнай ідэі), пасьля чаго ад Віка пазбавіліся.

У беларуска-расейскім канфлікце эўрапейскі Захад і на гэты раз аказаўся дрэнным саюзьнікам Беларусі. Левы лібэралізм, які цяпер усталяваўся ў Эўропе, добра каардынуецца з рускім гэбізмам. Самае істотнае, дзе яны зыходзяцца ў ацэнцы Беларусі, заключаецца ў тым, што ***эўралібэралізм адмаўляе нацыянальныя каштоўнасьці і нацыянальную ідэю***. Таму цяперака ніякай падтрымкі ў лібэральнай Эўропе беларускі нацыянальна-дэмакратычны рух ня мае, ня меў і мець ня будзе. Тут ня мае значэньня дэмакратычная сутнасьць беларускага руху. Для іх істотна, што гэтая зьява нацыянальная і культуратворная, якая ў сутнасьці сваёй пагражае амаральнай свабодзе і разбэшчанасьці лібэралізму.

У эканамічным падыходзе нацыянальны рух імкнецца стварыць моцную нацыянальную дзяржаву і незалежную эканоміку. Такая пазыцыя супярэчыць лібэральнай канцэпцыі „адчыненага грамадзтва” (Сорас), куды замежны капітал мог бы вольна заходзіць, як у свае дзьверы, і гаспадарыць без перашкод. Цяперашні лібэралізм ёсьць касмапалітычны ў эканоміцы і шкодны, збочаны, распусны ў культуры, паколькі, грунтуючыся на лібэральным пастулаце свабоды асобы і на індывідуалізме, ператварае культуру ў сродак бізнэсу, нажывы, здабыцьця прыбытку любымі спосабамі, эксплуатуе слабыя месцы ў маральнасьці чалавека (фактычна, разбурае ўсялякую культуру, і перш за ўсё – нацыянальную).

Ня дзіўна, што шмат якія прадстаўнікі эўрапейскага лібэралізму, ягоныя экспарцёры на Беларусі, знаходзяць паразуменьне з расейскім гэбізмам у спрыяньні справе „дэмакратыі” на Беларусі, а дакладней – у разбурэньні беларускай дэмакратычнай нацыянальна-вызвольнай сілы. Самую шкодную і подлую справу, якую яны зрабілі ў сумеснай працы, гэта разбурэньне (раскол) Беларускага Народнага Фронту – галоўнай палітычнай сілы краіны, той, што вярнула незалежнасьць Беларусі і накіроўвала грамадзтва на шлях дэмакратыі. Адна Масква раскалоць БНФ не змагла б.

У 1999 годзе, сумеснымі намаганьнямі расейскіх і нямецкіх спэцслужбаў, Беларускі Народны Фронт быў раскалаты на дзьве арганізацыі. Адна частка засталася на пазыцыях нацыянальнай дэмакратыі і рэзка выступае супраць расейска-нямецкай палітыкі на Беларусі. Другая – далучылася да намэнклятурнадэмакратычнай псэўдаапазыцыі, якая рэсурсна-залежная ад Захаду (немцаў і Масквы) і кантралюемая агентурай.

Кіруемая псэўдаапазыцыя была ўтворана на Беларусі стараньнямі кіраўніка Місіі АБСЭ ў Менску Ганса-Георга Віка, які таемна супрацоўнічаў у гэтай справе (па яго ўласным прызнаньні) з КГБ. *(Гл. „Белорусская газета”, – 2004, 12 студзеня)*

Народны Фронт, аднак, захаваў сваю аснову і бальшыню структураў, але ранейшыя пазыцыі страчаныя. Бо расколатая арганізацыя ўжо ня ў стане аб'яднаць цэлае. Пры навязлівым умяшаньні Ганса Віка разбуральнікі сфармавалі па сутнасьці сваю асобную прамаскоўскую „альтэрнатыву” рэжыму.

Нямецка-маскоўская задума якраз у гэтым і заключалася, каб выбіць зь беларускай палітыкі нацыянальную альтэрнатыву і замяніць яе прарасейскай. Тады (у выпадку, напрыклад, зьмены рэжыму) уладу ізноў можна было б абставіць сваімі прамаскоўскімі людзьмі. Сытуацыя задавальняла Эўропу (яна атрымала тут свой уплыў) і Маскву (якая ўкараніла агентуру і таксама ўмацавала ўплыў).

## ТРЭЦІ ПАТОП

У нішчэньні беларускіх сілаў на палітычным полі зноў паўтарыўся (у каторы раз) прынцып канца XVIII стагоддзя – расейцы і немцы ў супольнай антыбеларускай працы. Нічога дзіўнага. Калі на адну сілу нападаюць з двух бакоў другая і трэцяя сілы, то яны часова злучаюць свае інтарэсы. Імкненьне „дранг нах остэн” існуе, практычна, з таго часу, як і мангольскі імпэт „да апошняга мора”. Немцы ставяць задачу ператварыць Эўразьвяз у фэдэратыўную дзяржаву, у якой плянуецца дамінаваньне немцаў (у рэальнасьці гэта праяўляецца ўжо цяпер). Тады для немцаў паўстае магчымасьць вырашэньня цэлага шэрагу геапалітычных задачаў (пра гэта гаворыцца яшчэ толькі ў кулуарах): Усходняя Прусія, Судэты, Сілезія, Данцынг, Одэр і г.д. Пытаньне Беларусі разглядаецца пакуль што як разьменная вобласьць інтарэсаў. У будучым яно ўвязваецца з пытаньнем Усходняй Прусіі. На Беларусь будуць старацца скінуць састарэлае і дэмаралізаванае савецкае насельніцтва Калінінградзкай вобласьці (ні немцам, ні рускім гэбістам яно непатрэбнае). На сёньняшні дзень неафіцыйная дамоўленасьць паміж немцамі і расейцамі аб падзеле асноўных рэсурсаў Беларусі (таварнага насельніцтва) ужо дасягнута. Кіраўнік Расеі Пуцін сказаў пра гэта ў сваім гэбоўскім стылі па-салдафонску проста: *„У былых савецкіх тэрыторыях на Захадзе мы бачым крыніцу інтэлекту і працоўнай сілы”*. (Думаньне, нібы ўзятае з плянаў Бормана.) Немцы забіраюць галоўны рэсурс – беларускі інтэлект, укладваюць сродкі ў ягонае нямецкае навучаньне (у асноўным – тэхнічныя спэцыяльнасьці, кампутарныя сістэмы, праграмістыка і г.д.) і арганізуюць працоўныя месцы ў Нямеччыне (з аплатай, большай, чым у Беларусі, але меншай, чым у Нямеччыне).

Расейцы забіраюць беларускія рабочыя рукі (ствараюць безальтэрнатыўныя ўмовы выезду, выцісканьне беларусаў зь Беларусі) на абслугоўваньне газавых і нафтавых радовішчаў у Сібіры* (адкуль газ ідзе ў тую ж Нямеччыну праз Беларусь). Гэтыя пляны і жаданьні фармуюцца пад звон пра „правы чалавека”, „інтэграцыю”, увядзеньне расейскіх грошай,

* На жнівень 2004 г. у Расеі працавала 800 тыс. грамадзянаў Беларусі, гэта значыць амаль 25% працаздольнага насельніцтва. *(аўт.)*

„чатыры патрабаваньні АБСЭ”, загон на „выбары” і г.д. Але нідзе, вядома, няма гаворкі пра выжываньне беларускай нацыі і культуры, беларускай мовы, беларускай незалежнасьці, пра абарону беларускіх прыродных і інтэлектуальных рэсурсаў і г.д. Увесь гэты квазідэмакратычны шум, які мы чуем у паветры вакол Беларусі, – гэта словаблудзтва і палітыка чужых. Нямецкія палітыкі, фактычна, гатовыя прыняць гэбоўскую канцэпцыю глябалізацыі як новага падзелу сьвету (прынамсі, ва Ўсходняй Эўропе).

З 1994 года за 10 гадоў прамаскоўскага рэжыму на Беларусі і становішча ўнутранай акупацыі ў велізарных маштабах была вынішчана беларуская нацыянальная культура, зглумлены беларускі нацыянальны патэнцыял. Адбыўся пэрманэнтны пагром беларускай нацыі, які працягваецца. Зьнішчэньні такія вялікія, што гэтая акупацыя гэбізму на Беларусі (у каторы ўжо раз) выглядае *Патопам*. Беларускія школы, пэрыядычны друк, літаратура, беларускае радыё, тэлебачаньне, сымвалы, навука, асьвета, песьні і музыка, палітыка, беларускія арганізацыі і калектывы і проста нацыянальная годнасьць альбо перасталі існаваць, альбо сціснуліся, звузіліся да мінімальных памераў. Але самае страшнае, што зьнішчаны, забіты каштоўны і непаўторны час, які не вяртаецца.

У 1991 годзе, пасьля забароны КПСС і ліквідацыі Савецкага Саюза, у беларускім грамадзтвеназіраўся ўздым і гатовасьць жыць у сваёй краіне, дзяцей імкнуліся аддаваць у беларускія школы, бо разумелі, што будзе дзяржава Беларусь. Беларуская школа хутка адраджалася. Сярод шмат якіх навукоўцаў і пэдагогаў жыў ахвярны дух працы дзеля новай Беларусі. За кароткі час былі напісаныя і выдадзеныя добрыя падручнікі для школаў, пачаўся ўздым у гістарычнай навуцы, у музыцы і тэатры. І гэта нягледзячы на супраціўленьне старой савецкай улады, савецкага ўраду і намэнклятуры. Вось гэты дух, гатоўнасьць жыць у новай нармальнай беларускай Беларусі і плянаваць беларускую будучыню, вось гэты стан грамадзкай надзеі, падрыхтаванасьці і чаканьня – зглумлены, зьняважаны і абпляваны. Зроблена вялікая шкода народу. Бо той стан ужо ня вернецца, як не вяртаецца маладосьць, нават калі мы ліквідуем існуючы рэжым, разам зь ягоным гэбізмам. Вядома, будзе іншая сытуацыя і іншы стан. Але шмат што нам прыдзецца ўжо зноў пачынаць ад пачатку. Такія ёсьць умовы нашай вечнай вайны з Масквой.

Сучасная бітва з расейскім гэбізмам, дакладней – пабіцьцё непадрыхтаванага да вайны беларускага грамадзтва – характарызуецца вырабленай падступнасьцю Масквы і ашуканствам людзей. Шырока выкарыстоўваюцца яшчэ царскія тэхналёгіі падстаўных арганізацыяў з агентурным кіраўніцтвам. Пры ўдзеле КГБ ствараюцца адмысловыя ўтварэньні пад выглядам беларускіх, напрыклад, „Край”, „Белы легіён”, „Зубр”, „Хартыя-97” і іншыя менш вядомыя групы, маргінальныя імітацыі ці праявы разавага ўжываньня.

Падобная сытуацыя і з пэрыядычным друкам. Тут пастаўлена задача (якая ўжо амаль што выкананая) ліквідаваць беларускамоўны друк. Пад выглядам „апазыцыйных” выдаюцца рускія газэты, якія кантралююцца з адпаведных структураў і выяўляюць прарасейскую ацэначную пазыцыю беларускіх зьяваў з узроўню маскоўскай так званай „дэмакратычнай апазыцыі” (якой цяпер, дарэчы, у Маскве, фактычна, ужо не існуе).

У сродках масавай інфармацыі выкарыстоўваецца тыпова савецкае грубае гэбоўскае пасквілянцтва, фальсіфікацыя падзеяў, прыдумваньне неіснуючага. Усё гэта (асабліва на тэлебачаньні) мае велізарнае ўзьдзеяньне на нацыянальна асьлепленае грамадзтва. Цэлыя групы насельніцтва фанатычна вераць самай неверагоднай хлусьні, як сьвятому адкрыцьцю.

Разам зь ліквідацыяй беларускага друку і з падменай апазыцыі адбылася, адпаведна, і падмена інфармацыі. У рускім і квазіапазыцыйным друку, у рэляцыях Місіі АБСЭ, у перадачах радыёстанцыі „Свабода” („Liberty”) падзеі, зьвязаныя з палітычнымі дзеяньнямі арганізацыяў беларускага Адраджэньня (найперш Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ), зь гераізмам ягоных змагароў, цяпер не адлюстроўваюцца і сьведама замоўчваюцца. На „Лібэрці”, напрыклад, калі падаюцца, то ў абмежаванай дозе, і часам з падменай інфармацыі (даецца падзея, але замоўчваюцца выканаўцы і арганізатары). Практычна, і расейскі гэбізм, і заходні лібэралізм праводзяць у Беларусі аднолькавую антынацыянальную інфармацыйную палітыку.

Часта выкарыстоўваецца прыём інфармацыйнага *глушэньня ініцыятывы*. Першым чынам вакол такой беларускай ініцыятывы ствараецца інфармацыйны вакуум. Калі падзея стала ўсё ж вядомай, зьяўляецца адразу некалькі штучных пустых („апазыцыйных”) ініцыятываў (напрыклад, збор подпісаў у абарону лукашэнкаўскай канстытуцыі і т.п.). І ў сродках масавай інфармацыі, па радыё пачынаюць на розныя лады абмяркоўваць інфармацыйнае шалупіньне, ствараюць пустапарожні шум, галас, вэрхал, каб заглушыць інфармацыю пра небясьпечную для Масквы падзею.

Часта выкарыстоўваецца прыём *падмены* і *забяганьня наперад*. Напрыклад, па тэлебачаньні паказваюцца рэальныя здымкі падзеі, але дыктарскі тэкст і інфармацыя пра сэнс гэтай падзеі падаецца зусім іншая (найчасьцей – паклёпніцкая), зручная рэжыму. Гэта ў афіцыёзе.

Другі варыянт. Адбываецца публічнае дзеяньне на палітычную тэму, якое праводзіць беларуская нацыянальна-вызвольная арганізацыя. У гэты час прадстаўнікі агентурнай (нібыта „апазыцыйнай”) арганізацыі прыводзяць сваіх журналістаў (тэлеаператараў), становяцца перад камэрамі на фоне рэальных падзеяў і пачынаюць даваць ад свайго імя інтэрв’ю і камэнтары пра гэтыя падзеі, да якіх у сапраўднасьці яны ня маюць дачыненьня. Пэўныя людзі і друкаваныя органы, „свабодныя” радыёстанцыі падхопліваюць гэтую імітацыю і тыражуюць, робяць падмену, затоптваньне інфармацыі і рэальнага сэнсу падзеі.

Трэці варыянт „забяганьня”. Калі плянуецца нейкая нацыянальна-вызвольная ініцыятыва, тады агентурная „апазыцыя” пачынае ствараць такую ж самую (ці аналягічную) ініцыятыву ў той жа дзень, ці напярэдадні (напрыклад, перад 25 Сакавіка), каб адцягнуць увагу і заблытаць людзей. Шырока выкарыстоўваюцца інфармацыйныя пустышкі (найчасьцей таблоіднага, скандальнага кшталту). Ізноў жа – каб адвесьці увагу ад вызвольнай падзеі ці калі рэжым праводзіць нейкую сваю акцыю, да якой не хацеў бы прыцягваць увагі.

У абставінах, дзе створаныя падстаўныя групы і „кіруемая апазыцыя”, для рэжыма адчыняецца шырокае поле дзейнасьці супраць рэальнага беларускага змаганьня. Масква такім чынам стварыла вірусы і ўвяла іх у беларускі арганізм дзеля ягонага разбурэньня.

Вірусы ня толькі агрэсіўна рэагуюць на рэальную змагарную беларускую дзейнасьць, але і самы яны ёсьць мабільныя,

рухомыя, прапануюць і ўкараняюць у беларускае палітычнае жыцьцё свае разбуральныя квазіапазыцыйныя праекты. Па віруснай схеме разбуралі, напрыклад, Беларускі Народны Фронт, арганізоўвалі (пры дапамозе Ганса Віка) так званы „перамоўны працэс" з рэжымам, а потым – так званую „аб'яднаную апазыцыю".

Пры гэтым немцы, асабліва Масква, шырока ўжываюць за мяжой так званую „кулуарную дыпляматыю", дзе тонка паклёпнічаюць на Беларусь, уплываючы на абмежаваных і недасьведчаных асобаў на Захадзе разважаньнямі аб шкодзе беларускай незалежнасьці.

У міжнародным пляне найбольш небясьпечнай ёсьць тэхналёгія гэбізму, якую б мы назвалі *дымнай заслонай* ці *адцягненьнем увагі*. Сутнасьць яе ў тым, што як толькі ў Расеі ці ў Беларусі, ці ў іншым месцы павінна адбыцца нейкая важная падзея, якой бы рэжым хацеў зманіпуляваць, то абавязкова недзе здараецца буйны тэрарыстычны акт, альбо іншая падзея, якую ў першую чаргу стане абмяркоўваць міжнародная супольнасьць, але ня тую, што адбылася ў гэты час у Беларусі, у Расеі ці ў іншым месцы, дзе ёсьць „расейскія інтарэсы" (скажам, выбары, вайсковыя апэрацыі па вынішчэньні людзей у Чачэніі, выбары ў Грузіі і т.п.) Выпадковымі супадзеньнямі такія тэракты не выглядаюць. Ня выключана, што перад 17 кастрычніка (дата выбараў і магчымага незаконнага рэфэрэндуму на Беларусі) таксама здарыцца якое-небудзь „адцягненьне ўвагі".*

Часта ўжываецца тэхналёгія палітычных спэктакляў, што разыгрываюцца, як правіла, на вышэйшым узроўні. Напрыклад, так званая „газавая вайна" зімой 2004 г. паміж Пуціным і Лукашэнкам. Альбо перацягваньне пратэстнага электарату на свой бок (дэмагогія пра абарону суверэнітэту) і г.д.

Унутраная палітыка прамаскоўскага рэжыму на Беларусі пры гэтым не зьмяняецца (нават робіцца больш жорсткай). Пагром беларускай нацыі, разбурэньне і зьнішчэньне ўсяго беларускага працягваецца.

## МАГЧЫМАЕ І НЕАБХОДНАЕ

Але Беларусь не разгромлена. Хоць становішча нядобрае з прычыны вычарпанасьці на сёньняшні дзень чалавечых рэсурсаў – духоўных, палітычных і сацыяльных. Выташчаная этна-сацыяльная крыніца беларускай нацыі. З прычыны пэрманэнтнай вайны і вынішчэньня яна не разьвілася ў паўсюдны культурна-нацыянальны пласт, для якога найперш неабходна ўнівэрсальнае функцыянаваньне жывой беларускай мовы. Да такога стану камуністычныя русіфікатары давялі нацыю яшчэ ў 1970-я гады. Але з таго часу структура яшчэ больш разбурылася, пачалося выміраньне насельніцтва, маштабнае п'янства, маральны заняпад.

Самае дрэннае, што за апошнія 10 гадоў стала адчувацца страта духоўных ідэалаў (і ўвогуле ідэалаў) у беларускім грамадстве, адбываецца агрубленьне сьвядомасьці, абмежаваньне інтарэсаў, прымітывізацыя асобы, канцэнтрацыя яе імкненьняў на простым, матэрыяльным, выгадным, што не вымагае ахвярнасьці і душы.

Няразьвітасьць нацыянальнай сьвядомасьці грамадзтва прыводзіць да замыканьня такой асобы на самой сабе, на сваіх простых дзеяньнях і патрэбах. Такія людзі не выяўляюць разуменьня неабходнасьці адстойваць агульныя беларускія інтарэсы. Адпаведна, практычна адсутнічае ў грамадзтве дух змаганьня – галоўны чыньнік супраціўленьня і перамогі народа над неспрыяльнымі акалічнасьцямі.

Становішча, аднак, такое, што трэба якраз толькі змагацца, толькі наперад, толькі ваяваць. І чым мацней, сьмялей і разам – тым лепш. Тым часам сілы для гэтага цяпер мала. Але ўспомнім, што ***ў пэрыяд рэакцыі павінна адбывацца накапленьне сілы***. І гэта трэба скарыстаць.

Кожны беларускі змагар, ацаніўшы становішча, задасьць сабе пытаньне: што рабіць зараз, цяпер, у гэты мамэнт? Горш за ўсё ў такім стане – гэта рабіць глупствы, неабдуманныя дзеяньні. Гісторыя паказвае і вучыць, што калі заціснута і нішчыцца ўсё і не падняць галавы, і сіла чужая – ***тады працуецца дзеля будучыні***. Часьцей за ўсё гэты аспэкт змагарнай працы ня стане галоўным, але ён абавязкова павінен быць. Інакш – будучыні ня будзе. Так разьвіваецца нацыянальнае асьветніцтва, якое адродзіць дух змаганьня.

Беларуская нацыя мае вялікую і слаўную гісторыю, нацыянальную літаратуру і мастацтва, найбагацейшы ў Эўропе фальклёр, нацыянальную навуку і нацыянальных герояў. Беларусы маюць шматлікія сакральныя сымвалы нацыі. Гэта найперш *Бел-Чырвона-Белы сьцяг* і *гэрб Пагоня*, Крыж Эўфрасіньні Полацкай, Вільня і Вострая Брама, Няміга і Полацкая Сафія, Мірскі замак, Нарач і Нёман, Скарына і Кастусь Каліноўскі, палітычны сымвал нацыі – Рада БНР, хавальніца нацыянальных ідэалаў 25 Сакавіка.

Ідэал – вечны рухавік разьвіцьця, пэрпэтуум мобіле чалавечага духу. Майма ідэалы – мецьмем прышласьць. Не заўсёды ідэалы дасягаюцца. Але дасягаюцца – калі ёсьць, і ніколі – калі няма. Ідэал – гэта тое, што неабходна для вольнага разьвіцьця і дасягненьня дасканаласьці. І тут відаць, што ідэал ёсьць духоўная неабходнасьць, а не капрыз і не адцягненая мара. Маючы ідэалы, будзем мець рэальнасьць, што валодае пэрспэктывай. Ідэалізм унівэрсальны і выступае як закон разьвіцьця, дзе першаснае ёсьць ідэя.

„Палітыка – мастацтва магчымага", – чулі мы ня раз гэтую прымітыўную бяскрылую сэнтэнцыю, формулу палітычнага філісьцерства і бяздарнасьці. Людзі, якія кіраваліся такім правілам, нічога не дасягалі. Гэта чэмбэрленаўшчына. Калі б палітыкі займаліся толькі магчымым паводле сваіх магчымасьцяў, то не было б ні подзьвігаў, ні герояў, ні палёту, ні дасягненьняў.

Калі б дэпутацкая Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце XII-га скліканьня, 25 асобаў, зыходзілі толькі з сваіх магчымасьцяў ў 345-асабовым варожым асяроддзі камуністаў, ветэранаў намэнклятуры і бязбожнікаў, то Беларусь проста ня мела б незалежнасьці, ні *гэрба Пагоня*, ні *Бел-Чырвона-Белага сьцяга*, ні дзяржаўных сьвятаў Вялікадня і Нараджэньня Хрыстовага, ні праўды пра Чарнобыль ды Курапаты. Калі б уявіць, што палітычныя чэмбэрлены, „мастакі магчымага" зблудзілі б пад Воршу ў 1514 годзе, то і Воршы не было б. Каб рабіць магчымае ў палітыцы, ня трэба „мастакоў", хопіць дзэмянцеяў. А калі пра „мастацтва", то ***палітыка якраз ёсьць уменьне немагчымага, майстэрства неабходнага.***

Магчыма ці немагчыма Беларусі перамагчы ў пэрманэнтнай вайне з Расеяй на сваёй тэрыторыі? Калі лічым, што немагчыма (такая ж бо „Расея вялікая"), тады – усё, апускаем рукі і здаём-

* У верасьні 2004 г. расейская ФСБ арганізавала тэрарыстычную правакацыю ў Беслане (Паўночны Каўказ). Крывавыя падзеі ўстрасянулі ўвесь сьвет. *(Заўвага выдаўца)*

ся. Будзе для нас „мастацтва магчымага” – сканаць пад маскалём, ператварыцца ў рабсілу, стаць гноем гісторыі.

Калі ж лічым, што „ТАК”, мы пераможам, то гэтак і станецца, толькі трэба перамагаць. Чалавек жыве сваім жыцьцём і сваім векам. Нацыя жыве гісторыяй, якая можа быць бясконцай. Ёсьць цяперншчына і рэальны сьвет, дзе мы, беларусы (цяперашняе пакаленьне), уладкоўваемся па нашаму праву і па нашай сіле, якая можа быць малой, але можа стаць і вельмі вялікай, у залежнасьці, як мы захочам. Таму ў нашым нацыянальным змаганьні мы зыходзім са справядлівасьці і з магчымасьці нашай сілы. Але ў пэрспэктыве – мы зыходзім толькі з неабходнасьці, не зважаючы на існуючую рэальнасьць. Бо, паўтаруся, нацыя жыве гісторыяй.

І гэтак жа, як праз 500 гадоў, нашы разумныя нашчадкі будуць думаць пра нас, гэтак і мы цяперака мусім думаць пра сваіх радакоў, што будуць жыць праз паўтысячы год. Бо нашая зямля – гэта таксама іхняя зямля, наш дом – гэта іхны дом, і нават ***нашыя справы ёсьць досьвед нашчадкаў, дзе нашыя ідэалы могуць стаць іхным быцьцём***. Вось гэта і ёсьць вышэйшыя нацыянальныя інтарэсы, што зьвязваюць нас у адно. І толькі калі ўсьведамляем гэта, мы – нацыя.

Перад жывым народам высока і далёка мусіць вечна сьвяціць пуцяводная зорка народных ідэй. Тады існаваньне яго – гэта шлях. Калі зоркі няма ці пагасла яе сьвятло – існаваньне людзей стане іхняй магілай. „Будзе ім стол іх сеткаю і цянётамі, і спакусай, і адплатаю”. *(Рым., 11; 9)*

* * *

***Беларусь павінна перамагчы ў цывілізацыйнай вайне з Расеяй.*** Ня маюць ніякага значэньня чые б там ні былі меркаваньні на тэму „магчыма” перамагчы ці „немагчыма”. Магчыма, бо неабходна.

Беларусам трэба найперш умацаваць сваю незалежнасьць і сваю нацыю. Для ўмацаваньня незалежнасьці першы крок – гэта зьмена акупацыйнага прамаскоўскага кіраўніцтва на беларускае нацыянальнае кіраўніцтва. Але ўвага! Без наяўнасьці беларускай альтэрнатывы перамены рабіць нельга, бо гэта было б самаашуканствам і нічога не зьмяніла б (хіба што ў горшы бок). Менавіта такую сытуацыю Масква са сваімі заходнімі саюзьнічкамі і са сваёй кіруемай бяздумнай „апазыцыяй” падрыхтавалі на прэзыдэнцкіх выбарах у 2001 годзе, калі „супернікам” Лукашэнку выставілі неальтэрнатыўную фігуру прамаскоўскага і прагэбоўскага савецкага намэнклятуршчыка У. Ганчарыка (хоць Лукашэнку зьмяняць не зьбіраліся, але страхоўку зрабілі).

Пасьля зьмены прамаскоўскага кіраўніцтва на беларускае ***першым пытаньнем па ўмацаваньні нацыі і адраджэньні культуры павінна стаць вяртаньне беларускай мовы на дзяржаўны пасад і ва ўсе сфэры жыцьця краіны***. Гэта галоўнае пытаньне, задача нумар 1, якую вырашыць трэба першым чынам.

Адразу вяртаюцца беларуская школа, вучэльні, унівэрсытэты, дзейнічае законная Канстытуцыя, вяртаецца дзяржаўная нацыянальная сымволіка, адмяняецца ўсё беззаконьне прамаскоўскага рэжыму, крымінальныя міжнародныя дамовы і пагадненьні, вяртаецца беларускі друк, беларускія часопісы, выдавецтвы, тэлебачаньне і радыё, адбываюцца выбары, улада і дзяржава пачынае функцыянаваць, зыходзячы з патрэбаў беларускага народу, беларускай культуры і нацыянальных інтарэсаў грамадзтва.

Але якія б ні былі перамены ў нашай краіне і хто б ні сядзеў ва ўладзе ў Расеі, нязьменнай застанецца расейская агрэсіўная палітыка ў дачыненьні да Беларусі. Вайна супраць беларусаў будзе працягвацца. Яна будзе то ўзмацняцца, то затухаць, то існаваць у форме небясьпекі, ствараючы ілюзію спакою, а потым з новай сілаю пачнецца. Гэта ня ёсьць вайна на жыцьцё, а на сьмерць. Як і тысячу год, тут нічога істотна ня зьменіцца да таго часу, пакуль будзе існаваць расейская імпэрыя.

Гэта добра разумелі ў Польшчы, у Эстоніі, Латвіі ды Летуве, калі кінуліся ў НАТО і прасіліся ў Эўразьвяз. Тым самым, аднак, была разбурана вялікая і спрыяльная ўсім ідэя Балта-Чарнаморскай Садружнасьці *(БЧС)* – ідэя палітычна-эканамічнай арганізацыі Ўсходняй Эўропы. Гэты плян, агучаны Беларускім Народным Фронтам у 1990-м годзе, выклікаў шалёную адмоўную рэакцыю ў камуністычнай Маскве і з маўклівай трывогай і непрыхільнасьцю ўспрыняты ў Заходняй Эўропе. Аднак галоўнай прычынай нерэалізацыі БЧС стаў прыход да ўлады ў Беларусі стаўленьніка расейскага КГБ (1994 г.), пачатак гэбізму і ўнутраная акупацыя краіны гэбоўскай Масквой.

Здавалася б, што пасьля ліквідацыі прамаскоўскага гэбізму ў краіне, шлях Беларусі стане такі ж, як і Польшчы: НАТО і Эўразьвяз. Аднак гэта быў бы вымушаны, капітулянцкі і чужы шлях, які пагражае нашай культурнай ідэнтычнасьці і нашай нацыянальнай свабодзе. Гэта ўцёкі ў чужое сховішча ад тысячагадовай вайны з Расеяй.

Польшчы спатрэбілася 15 гадоў, каб увайсьці ў Эўразьвяз. Для Беларусі гэта дастатковы час, каб стаць на моцныя ногі і ня йсьці ў Зьвяз на каленях. Аднак ці трэба ўвогуле такое рабіць? Цяперашняя левaарыентаваная Эўропа знаходзіцца ва ўладзе лібэральнай ерасі, яе інтэлектуальныя пласты і вярхі грамадзтва перажываюць пэрыяд духоўнага раздарожжа, змаленьня і маральнага рэгрэсу ідэй. Скрыўленая карціна сьведамасьці, дэфармацыя каштоўнасьцяў уводзіцца ў норму лібэральнага права, у паняцьце свабоды і паводзінаў чалавека. Збочаны індывідуалізм і разбэшчанасьць ператвараюцца ў агрэсіўную ідэалёгію, якая імкнецца выступаць пад маскай права ў выглядзе новай эўрапейскай культуры, якую хочуць навязаць цэламу сьвету. Садомія і гразь вышлі з падпольля на вуліцу, у тэлебачаньне і друк, цiснуцца ў парляманты, касьцёл, школы і суд. Зьбянтэжанае грамадзтва глядзіць на ўсё гэта, нібы ў паралічы, анямелае ад неверагоднасьці таго, што адбываецца ў яго на вачах. Стан аняменьня грамадзтва перад маніфэстацыяй зла – гэта вынік згніцьця грамадзкіх эліт.

Цяперашняя сытуацыя выглядае капітулянцкай перад злом, бо зьмясьціліся акцэнты каштоўнасьцяў людзей хрысьціянскай Эўропы ў бок матэрыялізму, геданізму і асабістага задавальненьня ад жыцьця. Людзей цікавіць толькі задавальненьне сваіх фізічных патрэбаў.

Тым часам у „аб’яднанай Эўропе”, якую будуюць будаўнікі, значэньне дзяржаўных нацыянальных межаў і дзяржаўных нацыянальных законаў будзе малець. Асабліва, калі немцам і французам удасца накінуць усім структуру эўрапейскай фэдэратыўнай дзяржавы з агульным прэзыдэнтам, урадам, міністрамі, зьнешняй палітыкай і г.д. У гэтакім становішчы першасную ролю павінна будзе адыгрываць мова і нацыянальная культура, нацыянальна-культурныя межы паміж народамі. Успомнім галоўны лёзунг савецкай русіфікацыі ў СССР – „стирание культурно-национальных различий между народами”. У дэмакратычнай Эўропе ўніфікаванай адзінамоўнай асіміляцыі ня будзе. Але ўзьнікне небясьпека

размываньня слабой культуры. Таму, перш чым апынуцца ў такім фэдэратыўным Эўразьвязе, ***трэба адрадзіць беларускую культуру, дзяржаўна сцьвердзіць беларускую мову і моцна стаць на нацыянальныя ногі,*** на што спатрэбіцца 2-3 пакаленьні.

Аднак Беларусь ужо была ў адным „Савецкім Саюзе". Уваходзіць самахоць у чужую дзяржаву, дзе зьбіраюцца камандваць немцы з французамі (можна ўявіць, што з гэтага атрымаецца), выглядала б абсурдам, нават улічваючы вечную навалу Масквы.


(Фота: Кася К.)

*49. Менск. Скульптура ля «Чырвонага Касьцёла».*

Больш прывабнай выглядае пазыцыя скандынаўскіх краінаў, да якой далучаецца Польшча і прыбалтыйскія краіны. Яны выступаюць за канцэпцыю Эўразьвязу як садружнасьці, як саюзу айчынаў, дзе кожная краіна цалкам суверэнная і праводзіць сваю ўнутраную і зьнешнюю незалежную палітыку, каардынуючыся (дзе неабходна) з Эўразьвязам.

Сама сытуацыя падказвае, што вольная Беларусь павінна разьвіваць і мацаваць добрыя дачыненьні з Паўночнай Эўропай – краінамі Скандынавіі, Прыбалтыкі, а таксама з Польшчай і Ўкраінай. Гэта дачыненьні, якія вядуць да аднаўленьня ідэі Балтыйска-Чарнаморскай Супольнасьці і будуць спрыяць больш стабільнаму гістарычна-натуральнаму, эканамічна і культурна абгрунтаванаму ўладкаваньню Ўсходняй Эўропы.

Думаючы пра дачыненьні з суседзямі, пра ўмацаваньне нашай незалежнасьці і перамогу ў вайне з Расеяй, мы мусім перш за ўсё зважаць на Ўкраіну. Гэта натуральны наш саюзьнік і найбліжэйшы нам народ, зь якім у беларусаў склаліся прыхільныя адносіны, што зьяўляецца нашым агульным набыткам і што зыходзіць з падобнага гістарычнага лёсу нашых народаў, з гістарычнага перажываньня агульнай небясьпекі.

Разьвіцьцё падзеяў у каторы раз паказвае, што ***краіны Ўсходняй Эўропы (дзяржавы Балта-Чарнаморскага шляху) мусяць, нарэшце, сур'ёзна падумаць аб сваім геапалітычным адзінстве.*** Найперш зважаем, што яно склалася гістарычна і ёсьць найбольш узаемавыгаднай формай дачыненьняў для краінаў гэтай часткі Эўропы.

Анэксія Ўсходняй Эўропы і інкарпарацыя яе ў эўразійскую зону Расеі 200 гадоў таму прынесла незьлічоныя няшчасьці гэтым краінам. Тым часам ні 1918-ы, ні 1991 вызвольныя гады не прывялі да самаарганізацыі Ўсходняй Эўропы. Пасьля 1991 года магчымасьці былі значна большыя, чым у 1918-м, але ўсё перабіў штучны і нетрывалы праект з Захаду – праект „аб'яднанай Эўропы" (праект без ідэі). ***Уцяканьне ад Расеі ператварылася ў капітуляцыю перад Захадам.***

Цяпер у галовах француза-нямецкіх палітыкаў гуляюць часам мудрыя чэмбэрленаўскія разважаньні: аддаваць Беларусь ды Ўкраіну на ядзеньне Расеі ці забраць пад сябе. Мяркую, што з гэтакай эўрапалітыкі, аднак, нічога не атрымаецца, бо ёсьць яшчэ Амэрыка. Але спадзявацца мы, беларусы, мусім толькі на сябе. Тады пераможам.

У нашай адвечнай вайне з Расеяй Эўразьвяз зусім не зьяўляецца альтэрнатывай. Ня трэба панікі і ўцяканьня без разбору. ***Мы самы ёсьць альтэрнатыва для Расеі і мусім стварыць яе ва Ўсходняй Эўропе.*** У нашых інтарэсах будзе супрацоўнічаць і потым уступіць у НАТО, але не ў Эўразьвяз, дзе нас дзяржаўна аслабяць, раззброяць, разбэсьцяць за падачкі, высмакчуць інтэлектуальныя рэсурсы і потым здадуць пры першым удары грому. Ва Ўсходняй Эўропе гэта ўжо праходзілі ня толькі мы.

Адносна Эўразьвязу варта выказаць яшчэ некалькі істотных заўваг. Першая. Які б ні быў Эўразьвяз („фэдэральны" ці „саюзьніцкі"), ***вольнай Беларусі туды ўступаць ня трэба***, але неабходна будзе падтрымліваць добрыя і шчыльныя дачыненьні, асабліва ў палітычнай і эканамічнай сфэрах. Наша палітычная арыентацыя і разварот тварам павінен быць да Эўразьвязу. Але паўтаруся, абаперціся мы зможам хутчэй на Амэрыку. Амэрыка можа стаць нашым заходнім прыярытэтам.

На маю думку, малаверагодна, каб Эўразьвяз (асабліва пасьля пашырэньня 2004 года) беспраблемна праіснаваў бы даўжэйшы час. Крызіс Эўропы ўжо пачаўся. Абвал непазьбежны. Крызіс мае глыбейшыя прычыны і заключаецца ня толькі ў эканоміцы. Відавочны духоўны рэгрэс, зьнікненьне культуры і здрабненьне элітаў.

Упершыню ў гісторыі заходняга Хрысьціянства Эўропа (25 краінаў) пасьля працяглай дыскусіі аб канстытуцыі аб'яднанай Эўропы адмовілася ад Хрысьціянства і хрысьціянскіх традыцыяў у культуры. Гэтая адмова – абсурд, які ўсім відаць. Эўропа вырасла на Хрысьціянстве. І тым ня менш факт адмовы адбыўся. Эўропа заявіла тым самым, што сьветапоглядам і ідэалёгіяй Эўразьвязу ёсьць бязбожніцтва.

Адначасна ўзаконьваецца садомія (гомасэксуальныя сувязі), забойства ненароджаных (аборты) і забойства сьмяртэльнахворых людзей (эўтаназія), і ў гэты ж час забараняецца сьмяротнае пакараньне забойцаў, садыстаў, гвалтаўнікоў, кілераў і іншых вылюдкаў. Гэта значыць, што дзяржаўным законам адмяняецца сьмяротны грэх, вылучаны ў Хрысьціянстве. Закон і права ў пытаньнях меры пакараньня становяцца на баку забойцы (дакладней, на прыярытэце захаваньня ягонага жыцьця). Дыскусіі па гэтым пытаньні носяць дэмагагічны і сафістычны характар.

Вядома, дзяржавы існавалі (і існуюць) ня толькі бязбожныя, але і сатанінскія (СССР), аднак цяперашняя Эўропа – асаблівы факт.

На Захадзе мала хто яшчэ ўсьведамляе, што сьвет, у якім яны жывуць, паступова робіцца арэнай сусьветнай вайны, якая вядзецца партызанскімі (тэрарыстычнымі) мэтадамі і маніпуляцыямі насельніцтвам. Эўропа якраз (а не Амэрыка) зьяўляецца галоўным тэатрам акупацыйных дзеяньняў. (Вынік клясычнай вайны, як вядома, – акупацыя, заняцьце тэрыторыі.) Заходняя Эўропа стала ахвярай сваёй недасканалай сістэмы лібэральна-дэмакратычнай улады, амаральных прынцыпаў эканомікі (здабываньне выгады) і індывідуалістычнага сьветапогляду, заснаванага на абсалютным прыярытэце (першаснасьці) правоў чалавека (прыдуманых таксама „чалавекамі").

У выніку пабудовы жыцьця на такіх, здавалася б гуманных, але бездухоўных і матэрыялістычных каштоўнасьцях, пачалося інтэнсіўнае „перасяленьне народаў" у Заходнюю Эўропу з былых афрыканскіх ды азіяцкіх калёніяў эўрапейскіх краінаў.

Валодаючы эўрапейскімі мовамі, выхадцы з калёніяў і танныя работнікі з „трэцяга сьвету" па абслугоўваньні дэмакратычных эўрапейцаў не асімілююцца, аднак, ні культурна, ні рэлігійна, ні мэнтальна, ні нацыянальна, ствараюць шматдзетныя сем'і, карыстаюцца ўсімі дэмакратычнымі правамі і льготамі. Тым часам нараджальнасьць забясьпечанага эўрапейскага насельніцтва зьніжаецца ўвесь час (адна з прычынаў – жаданьне жыць толькі для сябе).

У некаторых краінах (у Вялікабрытаніі, напрыклад) неэўрапейцы складаюць ужо ў асобных месцах палову насельніцтва. Адбываецца чужая цывілізацыйная ін'екцыя ў Эўропу. І ў гэты час Эўропа адмаўляецца ад традыцыяў хрысьціянскай культуры. З пункту гледжаньня эканамічнага лібэралізму, прыток таннай рабочай сілы – гэта выгадна. З палітычнага гледзішча лібэральнага думаньня – гэта добра і правільна, бо забясьпечаны правы чалавека і дэмакратыя. Гэтага паняцьця Эўропе дастаткова, каб не праймацца.

Калі дапусьціць, што гэтакі, як сёньня, эўрапейскі спакой, статыстыка, працэсы і паскарэньне працэсаў працягнуцца нязьменнымі даўжэйшы час, то праз якіх 60 гадоў Эўропа (найперш разьвітыя краіны) поўнасьцю зьменяць свой рэлігійна-культурны кшталт і дэмаграфічнае аблічча.

Улічваючы аднак сусьветныя канфлікты і тое, што за плячыма новых перасе整ных народаў Эўропы стаяць іхныя краіны мэтраполіі, наўрад ці трэба спадзявацца на доўгі спакой на старым кантыненце.

Беларусы мусяць ужо цяпер уважліва прыглядзецца і ацаніць дрэнную пэрспэктыву лібэралізму ў Эўропе. Мы памятаем, што натварыў бальшавізм на Ўсходзе. ***Лібэралізм у культуры, сацыялізм, камунізм, бальшавізм – гэта зьявы, што растуць з аднаго антыхрысьціянскага і агрэсіўнага бязбожнага кораня.*** Інтэлектуалы Ўсходняй Эўропы, перш чым разважаць аб уяўных перавагах уступленьня ў Эўразьвяз, павінны падумаць аб арганізацыі міжнароднага змаганьня зь ерасьсю расьперазанага лібэралізму дзеля зьберажэньня і аховы традыцыяў нацыянальнай культуры.

Перад беларусамі найперш стаіць задача нацыянальна-культурнага Адраджэньня, аднаўленьня культуры беларускай цывілізацыі і пабудовы нашай магутнай справядлівай нацыянальнай дзяржавы.

Нам недаспадобы плян Нямеччыны-Францыі аб фэдэратыўнай Эўропе. Крызіс такога Эўразьвязу, які фармуецца без апоры на якую-небудзь агульную духоўную ідэю, адмаўляецца ад духоўных традыцыяў хрысьціянскай Эўропы, – непазьбежны.

Для беларусаў непрыймальная ідэя стварэньня лібэральнай супэрдзяржавы на Захадзе, замест вольнай Эўропы вольных народаў. Нам няма чаго ў ёй рабіць. Беларусам бліжэй Эўропа айчынаў і ідэалёгія айчынаў, якая ёсьць асновай свабоды. Будучая вольная Беларусь аб'ектыўна будзе збліжацца найперш з паўночна-заходняй (скандынаўскай і балтыйскай) групай краінаў Эўропы, якія прыхільныя да каштоўнасьцяў айчыны, свабоды і незалежнасьці. Тым самым стане вяртацца ідэя Ўсходняй Эўропы – стварэньне Балта-Чарнаморскай садружнасьці.

* * *

Мы гаварым пра магчымае і неабходнае для Беларусі ў абставінах, якія скláліся альбо маглі б скласьціся. Беларускі выбар і паводзіны ў абставінах – гэта шляхі нашай дзяржаўнай палітыкі.

Але ёсьць іншыя задачы, якія не вынікаюць з абставінаў і нават супярэчаць ім. Гэта задачы аб'ектыўнай неабходнасьці, што стаяць над часам і па-над абставінамі. Задачы аб'ектыўнай неабходнасьці не заўсёды, ня ў кожнай пары могуць быць увасобленыя ў дзяржаўнай палітыцы, але яны абавязкова павінны быць у сьведамасьці нацыі ведамі грамадзтва. У супроцьлеглым выпадку нацыя можа асьлепнуць на сваім шляху і пачне блудзіць. Гэта тая зорка ідэалаў, якая сьвеціць перад і пра якую я ўжо пісаў.

Што забясьпечвае Беларусі і яе народу паўнавартаснае жыцьцё? На гэта дала адказ яшчэ ў 1918 годзе Рада БНР – аб'яўленьне незалежнай Беларускай дзяржавы ў яе этнаграфічных межах. Другая неабходнасьць – спыненьне вечнай агрэсіі расейскай імпэрыі.

Спыніць палітычную агрэсію Расеі – гэта ня значыць ваяваць зь ёй зброяй, танкамі ды самалётамі (хаця да гэтага беларусы павінны быць заўсёды гатовымі і трымаць порах сухім). Каб абмежаваць агрэсіўную палітыку Расеі супраць Беларусі, трэба, перш за ўсё, заручыцца ўнутранай моцнасьцю і культурным адзінствам беларускага грамадзтва. Тады будзе гарантаваная і рэальная міжнародная падтрымка Беларусі. ***Расейская небясьпека павінна стаць абавязковай часткай ведаў кожнага беларуса.*** Для беларусаў побач з тэзісам *„Люблю Беларусь!"* мусіць стаяць у сьведамасьці папярэджаньне: *„Сьцеражыся Расеі!"*. Гэтак склалася нашае гістарычнае існаваньне.

Няшчасным вынікам вечнай вайны з Расеяй сталася для Беларусі страта паловы яе этнічных і дзяржаўных тэрыторыяў. Прэад 2-й Сусьветнай вайной Беларусь вярнула частку сваіх усходніх земляў. У 30-х гадах было пастаўлена пытаньне перад Расеяй аб вяртаньні ў Беларусь Смаленшчыны і Браншчыны. Замест вяртаньня пачаўся сталінскі тэрор, і Беларусь захлынулася ў крыві.

16 жніўня 1945 года Сталін, маніпулюючы беларускай зямлёй, перадаў Польшчы ўсю Беластоцкую і частку Берасьцейскай вобласьцяў. Так зьявілася беларуская нацыянальная меншасьць у Польшчы.

З усіх несправядлівасьцяў расейскай сталінскай палітыкі і ўсіх страт самай балючай і самай вялікай шкодай для Беларусі была ашуканцкая перадача Вільні і Віленшчыны Летуве. Страта Вільні непапаўняльная. Страта нацыянальнай сталіцы дэзарганізуе нацыю, спараджае нэгатыўныя зьявы ў

культуры, парушае культурныя міграцыйныя цыклы, спараджае правінцыялізацыю грамадзтва, запавольвае і тармозіць культурна-нацыянальнае разьвіцьцё.

Якія б ні былі абставіны і колькі б яны ні доўжыліся, у думках кожнага беларуса павінна жыць разуменьне велічыні страты і ўсьведамленьне неабходнасьці вяртаньня беларускай сталіцы. Калі такое ўсьведамленьне будзе дасягнута, яно стане элемэнтам палітыкі. Рана ці позна несправядлівасьць сталінскай акупацыі будзе папраўлена.

Расейска-беларуская вечная цывілізацыйная вайна несканчальная, пакуль існуе расейская імпэрыя. Простая лёгіка падказвае – ***расейская імпэрыя мусіць быць ліквідаваная.*** Толькі гэтакая ўмова дасьць магчымасьць вольна жыць і разьвівацца Беларусі.

Звышзадача ліквідацыі расейскай імпэрыі павінна ўвайсьці ў кроў беларускай палітыкі, стаць беларускім нацыянальным інтарэсам. *Гэтак жа сама, як у кроў рускай імпэрскай палітыкі прышчэплены імпэт агрэсіі і пашырэньня, імкненьне захапіць Беларусь, гэтак жа і ў беларусаў мусіць быць імпэт „ліквідаваць небясьпеку”*. Імпэрыя павінна быць разбурана. Нельга абараняцца тысячу год. Гэта параза.

Лёгіка сацыяльна-гістарычнага працэсу такая, што ***Расея як імпэрыя распадзецца***. Беларуская зьнешняя палітыка павінна будзе спрыяць гэтаму і будавацца на звышзадачы „ліквідацыі небясьпекі”.

На руінах вечна дэспатычнай імпэрыі ўтворацца дзясяткі новых дзяржаваў, сярод якіх руская дзяржава стане, магчыма, наймацнейшай. Але гэта ўжо будзе краіна, якая пачне жыць па законах свабоднай нацыі, а не імпэрыі, бо не застанецца каго прыгнятаць, і дачыненьні зь ёй стануць іншымі.

Падсумоўваючы свае нататкі пра сутнасьць беларуска-расейскай вайны, мушу сказаць, што ў няроўным змаганьні мы, беларусы, не павінны спадзявацца на цуд. Трэба верыць у самых сябе. Нягледзячы на апошні пагром беларускай нацыі, у нашым народзе ёсьць вялікія неадчыненыя сілы. Іх дапаможа абудзіць найперш нацыянальная самаадукацыя, распаўсюджваньне ведаў пра Беларусь. Ёсьць каму гэта ажыцьцяўляць. Толькі памятайма, што ***найперш трэба рабіць так, каб сфармаваць беларускую эліту нацыі – інтэлігенцыю, дзеячоў, нацыянальна актыўных людзей.*** Толькі тады стане магчымай асьвета масаў. Без нацыянальнай эліты масы ня робяць ні палітыкі, ні навукі, ні ідэалёгіі, ні мастацтва, а па вялікаму кошту – ня робяць і гісторыі, хоць і ўдзельнічаюць у ёй заўсёды. Нацыянальную гісторыю і нацыянальную палітыку будуюць лепшыя прадстаўнікі, ствараюць і робяць нацыянальна-актыўныя групы людзей, што абапіраюцца на народ, выяўляюць і сцьвярджаюць інтарэсы свайго народа.

*10 жніўня 2004 г., Нью-Ёрк*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Зянон Пазьняк. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is an easten 0utpost. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці”, Нью-Ёрк, Вільня; Таварыства Беларускай культуры ў Летуве, 2005. (Выданьне 2-е), 32 стар.)*

# „ЁСЬЦЬ МАГЧЫМАСЬЦЬ У НАРОДА”

Становішча, якое ўтварылася на Беларусі перад рэфэрэндумам, і ўмовы, у якіх адбываецца агітацыя „за” і „супраць”, вымушае мяне зноў вярнуцца да тэмы няўдзелу ў галасаваньні.

Нагадаю, я паведамляў раней, што ў палату ня будзе прапушчаны практычна ніводзін крытычна настроены да рэжыму чалавек. Такая ўстаноўка гэбізму палітычна ўжо рэалізаваная на выбарах у Дзяржаўную Думу Расеі ў пачатку гэтага году. Так павінна было стацца і ў Беларусі, паколькі дзейнічае адзіная гэбоўская палітыка. Так яно й робіцца. Мы гэта бачым.

Для рэалізацыі ўстановак рэжым стварыў неабходныя заканадаўчыя, адміністрацыйныя, арганізацыйныя і палітычныя ўмовы, якія гарантуюць яму перамогу ***пры любым галасаваньні.***

Нагадаю гэтыя ўмовы: аўтарытарная сіла ўлады, здольная на ўсё; фальсіфікацыйная машына галасаваньня; адміністрацыйны кантроль над фальсіфікацыйнай машынай галасаваньня і заканадаўчая абумоўленасьць кантролю ўлады над галасаваньнем.

Апошняя пазыцыя абазначае, што нават калі б фальсіфікацыйная машына зламалася б ці прабуксавала – вынікі галасаваньня тады будуць вызначаны ўладнай адміністрацыяй (зрэшты, так яно ў канцовым выпадку заўсёды і робіцца).

Не палянуюся паказаць гэта больш падрабязна. У артыкуле 120 Выбарчага Кодэксу напісана: (цытую ў арыгінале) *„Результаты референдума в областях, городе Минске устанавливаются на заседаниях областных, Минской городской комиссий по референдуму и заносятся в протокол. Протокол подписывается председателем, заместителем председателя, секретарем и членами областных, Минской городской комиссий по референдуму и передается не позднее чем через три дня после окончания голосования лично председателем или заместителем председателя либо секретарем комиссии в Центральную комиссию* ***и в органы, образовавшие областные, Минскую городскую комиссии по референдуму,*** *для информации.”* „Ворганы”, што ствараюць камісіі – гэта выканкамы, вертыкаль (гл. Арт. 34, разьдзел 9). І далей: *„В случае обнаружения* ***органами, образовавшими областную, Минскую городскую комиссии по референдуму,*** *нарушений требований настоящего Кодекса и иных актов законодательства Республики Беларусь, допущенных в ходе голосования* ***или при подсчете голосов,*** *об этом немедленно сообщается в Центральную комиссию”*.

Арт. 121: *„Центральная комиссия по представлению соответствующих комиссий по референдуму и* ***органов, образовавших комиссии****,... может признать результаты референдума... недействительными из-за допущенных нарушений...” і г. д.*

Вось, так бы мовячы, заканадаўчая гарантыя перамогі рэжыму ў любым галасаваньні. Вынікі галасаваньня (ужо сфальсіфікаваныя „машынай”) на пэўным этапе трапляюць у рукі ўладнай „вертыкалі”, якая можа зрабіць зь імі што захоча і „рэкамендаваць” Цэнтральнай камісіі.

У такім становішчы спадзявацца перамагчы кантрольна-фальсіфікацыйную сістэму „свабодным” галасаваньнем гэта тое самае, што імкнуцца ўтапіць акулу ў моры.

Элемэнтарная лёгіка паказвае, што каб перакуліць кантрольна-фальсіфікацыйную сістэму, трэба пазбавіць яе вынікаў галасаваньня. Гэта дасягаецца байкотам.

Байкот пазбаўляе працу фальсіфікацыйнай машыны ад сакрэтнасьці, зрывае пакрывала таямнічасьці. Дзеяньні выбарцаў пры байкоце адкрытыя, паддаюцца адкрытаму ўліку, а значыць узьнікае карціна канкрэтная і доказальная (чаго няма пры таемным галасаваньні і на што абапіраецца сістэма фальсіфікацыі). Пры адсутнасьці вынікаў галасаваньня (непрыход бальшыні выбаршчыкаў на ўчасткі) рэжым будзе вымушаны альбо здацца, альбо фальсіфікаваць адкрыта, дзейнічаць, што называецца, не ў сваім фармаце, ужываць незапланаваныя спосабы. А гэта ўжо грубая ўзурпацыя ўлады, якая будзе ўсімі зафіксавана. Што гэта будзе абазначаць для рэжыму – зразумела: пачатак канца.

„Пра байкот добра разважаць,” – пярэчаць мне некаторыя мудрыя людзі, але на практыцы, маўляў, зусім іншае, ня той народ, не зразумее, ня ўцяміць і г. д.

Аднак дзеяньні патрабуюцца найперш ад самых „мудрацоў”, а не ад народа. За сябе трэба й адказваць. А то самы цягнуцца ў прорву, і вінавацяць грамадзтва.

Усё, пра што я сказаў вышэй, ёсьць сьведчаньні і аргумэнты лёгікі, практычнай неабходнасьці. Але галоўнае тут – патрабаваньне вышэйшага парадку: рэфэрэндум у той фармулёўцы, у якой ён аб’яўлены, супярэчыць закону і зьяўляецца незаконным.

***Грамадзяне не павінны ўдзельнічаць у незаконных дзеяньнях улады, ад каго б яны ні зыходзілі.***

Калі зьбіраецца група юрыстаў, наглядна паказвае незаконнасьць рэфэрэндуму і тут жа іншыя заклікаюць ісьці галасаваць, – такія паводзіны бянтэжаць сваёй неадэкватнасьцю. Але прычына, як я лічу, не ў зацьменьні розуму, а ў зацьменьні грамадзянскага сумленьня.

Лёс рэжыму вырашаецца на рэфэрэндуме, а не на выбарах. Выбары толькі прынада дзеля яўкі на рэфэрэндум. Група Лукашэнкі ставіць задачу палітычна жорстка – утрымаць уладу любой цаной. На законнасьць тут ніхто зь іх не зьвяртае і ня будзе зьвяртаць увагі. Гэтыя людзі пайшлі ва-банк і рыхтуюцца да ўсяго, нават да ваенных дзеяньняў на выпадак агрэсіі з Захаду.

Трэба сказаць, што ў сёньняшняй сытуацыі Лукашэнка рашыўся на вялікую рызыку і хоча зноў усіх ашукаць, спадзеючыся на заўсёдную беларускую палітычную наіўнасьць ды на дурноту так званай „апазыцыі”.

Аднак Лукашэнка можа й загрымець. Адно толькі нагадваньне пра байкот выводзіць рэжым з раўнавагі. Баяцца ўсялякага розгаласу пра пяту Ахілеса. Усе законныя ініцыятывы Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ па агітацыі супраць галасаваньня на рэфэрэндуме тут жа душаць, не зважаючы ні на што. Хапаюць, судзяць, даюць штрафы і саджаюць пад арышт. („Змагары” за правы чалавека, вядома ж, ціхенька маўчаць – ня нашых узялі.)

Часу засталося няшмат і, каб паправіць становішча, трэба дзейнічаць хутка.

Найперш, з прычыны грубых і сістэматычных парушэньняў заканадаўства і невыносных антыдэмакратычных умоваў кампаніі, неабходна ***партыям і кандыдатам у дэпутаты адмовіцца ад удзелу ў выбарах і рэфэрэндуме.*** (Ім ужо вочы заплявалі, а яны ўсё кажуць – дождж ідзе.)

Другое. Зьвярнуцца да кіраўніцтва АБСЭ і Эўразьвязу з патрабаваньнем ***аб адкліканьні назіральнікаў за выбарамі*** па тых жа прычынах.

Трэцяе. Прапанаваць АБСЭ зрабіць ***папярэджаньне аб непрызнаньні выбараў і рэфэрэндума на Беларусі*** за законныя, справядлівыя і дэмакратычныя.

Чацьвертае. Кожнаму кандыдату, які адмовіўся ад удзелу ў выбарах і рэфэрэндуме, і кожнай партыі ***заклікаць да байкоту галасаваньня.*** Пачаць агітацыю за байкот. Усім незалежным грамадзкім і палітычным арганізацыям Беларусі ***прыняць удзел у фіксацыі прыходу выбаршчыкаў на ўчасткі.***

Пятае. Грамадзянам зьвярнуцца ў Вярхоўны Суд з *заявай* ***ініцыяваць справу ў Канстытуцыйным Судзе*** аб неадпаведнасьці заяўленага рэфэрэндуму Канстытуцыі і Закону пра рэфэрэндум. (З *прапановай* ініцыяцыі зьярнуцца ў Канстытуцыйны Суд.)

Шостае. Патрабаваць ад Лукашэнкі (пісьмова) ***адклікаць сваю ініцыятыву пра рэфэрэндум*** з прычыны неадпаведнасьці закону.

* * *

Шчыра кажучы, нічога нечаканага з боку рэжыму ня сталася і нічога ўжо не зьдзіўляе. Адзінае, чаму я не магу надзівіцца, гэта той бесклапотнасьці, той безадказнасьці, зь якой адносяцца да сваіх паводзінаў некаторыя людзі, што апынуліся ў палітыцы і, заплюшчыўшы вочы, пнуцца на выбары-рэфэрэндум. Ужо ж усё праходзілі, пачынаючы з 95-га. Гэта трэці ашуканскі рэфэрэндум. Ніякіх высноваў. Як бы й не жылі. Ці мо’ гэтыя „мудрацы” думаюць, што можна нізавошта не адказваць, што ўсё забудуць?

Усе, хто так думалі, памыляліся. Дрэнна, калі беларусаў зноў усіх разам абуюць у чарговыя рэфэрэндумныя лапці. Тады страчанага ня вернеш. І што найгорш, ***страчаным стане ўжо новае пакаленьне беларусаў, якое адпакутуе спаўна за памылкі бацькоў.***

Але яшчэ ёсьць магчымасьць у народа – два тыдні.

*29 верасьня 2004 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# АБ ВЫБАРАХ І „РЭФЭРЭНДУМЕ”

***(Інтэрв’ю радыё „Свабода” з З.Пазьняком)***

***Зараз неабходная ўсеагульная барацьба з рэжымам на іншым узроўні, разьлічаная на працяглы час. Перш за ўсё, неабходныя нацыянальна-культурная і нацыянальна-палітычная асьвета грамадзтва. І ёсьць людзі, якія могуць гэта рабіць***

***Пазьняк:*** – „Ведаеце, у мяне такое ўражаньне, што я прысутнічаю пры нейкім абсурдзе. Пры чым тут выбары? Пры чым тут кандыдаты? Якое гэта мае значэньне? Нават калі б яны ўсе прайшлі ў гэты „парлямэнт”. Справа ідзе ў Беларусі аб захаваньні ўлады Лукашэнкі, вось у чым сутнасьць гэтай палітычнай кампаніі. Калі ён ня зможа захаваць уладу палітычнымі мэтадамі – праз выбары і рэфэрэндум – дык трэба выводзіць танкі. І таму ён пойдзе напралом, каб захаваць гэтую ўладу праз рэфэрэндум. Яму ня трэба ні закон, ні міжнароднае прызнаньне, ні міжнародныя назіральнікі – яму трэба ўлада, „власть”. Вось у чым сутнасьць пытаньня! А выбары яму толькі для таго, каб людзі пайшлі на галасаваньне.

Такім чынам, перад 17 кастрычніка ў Беларусі зьявіўся ўнікальны шанец спыніць дыктатуру, і цяпер гэты шанец страчаны. Учора адбылося тое, што і павінна было адбыцца, калі грамадзтва адмовілася ад байкоту. Вынік: Лукашэнка захаваў уладу. І вінаватая ў гэтым, перш за ўсё, беларуская грамадзкая эліта, якая прадэманстравала сваю палітычную нясьпеласьць і, галоўнае, нежаданьне і няздольнасьць змагацца. Тое, чым займаліся так званыя апазыцыйныя партыі – гэта „мартышкин труд”, сьмешны, непатрэбны і шкодны ў гэтым становішчы. На Беларусі, паўтаруся, паўстала пытаньне аб захаваньні ўлады Лукашэнкі, і зрабіць яму гэта безь вялікіх фальсыфікацыяў, вялікага прымусу было немагчыма. Таму адразу было зразумела, якімі мэтадамі ўсё гэта будзе рабіцца. І вось цяпер гэта адбылося.

Дарэчы, перакуліць усю лукашэнкаўскую афёру можна было яшчэ за два тыдні да рэфэрэндуму. Я паслаў нават плян дзеяньняў для публікацыі ў „Народную волю”. Ён быў прыняты Соймам Беларускага Народнага Фронту (КХП–БНФ), даведзены да кожнага кандыдата ў дэпутаты, высланы ў АБСЭ і ў Эўразьвяз. Але ня з гэтымі людзьмі можна размаўляць пра лёс Беларусі. Усё было змарнавана!

Што цяпер? Першае. Трэба хутка сабраць усе факты парушэньняў закону і прадставіць у міжнародныя арганізацыі, што назіралі за галасаваньнем. Важна, каб міжнародная супольнасьць не прызнала рэфэрэндум. Другое. Не дапусьціць міжнароднай ізаляцыі Беларусі. Трэба прапанаваць плян ізаляцыі рэжыму, але ня нашай краіны. І трэцяе. ***Беларускаму грамадзтву цяпер трэба зразумець, што пэрыяд усялякай выбарчай, мажарытарнай барацьбы з рэжымам – скончыўся канчаткова.*** Прэзыдэнцкія выбары 2006 году будуць копіяй учорашняга рэфэрэндуму.

***Зараз неабходная ўсеагульная барацьба з рэжымам на іншым узроўні, разьлічаная на працяглы час. Перш за ўсё, неабходныя нацыянальна-культурная і нацыянальна-палітычная асьвета грамадзтва. І ёсьць людзі, якія могуць гэта рабіць***”.

***Навумчык:*** *– „Вы ў 1994 годзе выступілі супраць увядзеньня прэзыдэнцтва, папярэдзіўшы, што яно прывядзе да дыктатуры. Вы й сёньня настойваеце на тым, што прэзыдэнцтва не пасуе Беларусі?”*

***Пазьняк:*** – „Ва ўсіх краінах былога Савецкага Саюзу, там, дзе былі прэзыдэнты, там утварыліся рэжымы. Адны – больш мяккія, другія – больш жорсткія, але паўсюдна. Няма ніводнага выключэньня. Грамадзтва постсавецкае яшчэ не сасьпела да дэмакратыі з прэзыдэнтам. І таму трэба было ісьці да гэтага паступова. Ну, але здарылася тое, што здарылася… Зараз сытуацыя памянялася кардынальна. Тады, у 1994 годзе, яшчэ не было эканамічнай і фінансавай сілы мафіі. Цяпер гэтая сіла ўмацавалася ва ўсіх краінах постсавецкіх. І калі цяпер, у гэтай сытуацыі, пусьціць справу на самацёк, на парлямэнцкую рэспубліку, пры такім нясьпелым грамадзтве, дык Беларусь – расьцягнуць. Проста расьцягнуць маёмасьць па частках. Так што гэты рэжым стварыў умовы значна больш цяжкія.

*18 кастрычніка 2004 г. Прага*

***Інтэрв’ю: С. Навумчык***

# ШТО ЁСЬЦЬ „БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ”

31 сьнежня 1999 г. адбыўся мяккі кагэбоўскі пераварот у Расеі. Ельцына адхілілі ад пасады. Уся ўлада ў Расеі апынулася ў руках стаўленіка КГБ прэм’ер-міністра У. Пуціна.

Ініцыятыва „Беларуская Салідарнасьць” зьявілася ў пачатку 2000 года, пасьля падпісаньня 8-га сьнежня 1999 г. незаконнага пакту Лукашэнкі-Ельцына аб стварэньні так званай „саюзнай дзяржавы” Расеі і Беларусі.

8 сьнежня, у дзень падпісаньня „пакту” кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ прыняло заяву ***„Па пакту Ельцына-Лукашэнкі”*** *(Гл. „Беларускія Ведамасьці”, – 1999-2000 г., №1 (24), стар. 5-6)*, дзе было паведамлена ***„аб непрызнаньні гэтай антызаконнай змовы” і аб тым, што „мільёны беларусаў, нязгодныя прызнаць вынікі пакту Ельцына-Лукашэнкі, устануць на абарону Айчыны”.***

Назаўтра, 1-га студзеня 2000 г., зьявіўся ***Зварот да беларускага народу (Зянона Пазьняка) пад загалоўкам „Беларуская Салідарнасьць”*** *(Гл. „Беларускія Ведамасьці”, – 1999-2000 г., №1 (24), стар. 1-2)*, дзе было сказана: „беларусы мусяць быць салідарнымі ў абароне незалежнасьці і ў змаганьні з незаконным рэжымам... Падтрымлівайце, стварайце, мацуйце „Беларускую Салідарнасьць”!

Гэтая ідэя знайшла разгорнутае тлумачэньне ў артыкуле Зянона Пазьняка ***„Трэба змагацца”*** *(Гл. „Беларускія Ведамасьці”, – 2000, №3 (26), стар. 1-2)* і ў спэцыяльным звароце Управы Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, прынятым 2-га траўня 2000 г.

пад загалоўкам ***„Беларуская Салідарнасьць"*** *(Гл. „Беларускія Ведамасьці", – 2000, №3 (26), стар. 4-5).* У звароце пералічаныя дзеяньні, якія неабходна было рабіць дзеля абароны беларускай незалежнасьці ад пагрозы з Расеі.

У гэты ж час пачынае выходзіць аналітычна-інфармацыйны бюлетэнь „Беларуская Салідарнасьць" і фармуецца аднайменная грамадзкая ініцыятыва, ініцыятарам і рухавіком якой стаў Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне".

У рэчышчы ініцыятывы – арганізацыя палітычна-асьветніцкага друку і палітычна-асьветніцкіх мерапрыемстваў (купалаўскія, коласаўскія, багдановічаўскія чытаньні, мерапрыемствы, зьвязаныя з нацыянальнымі сьвятамі, датамі, асьветна-інфармацыйныя акцыі, зьвязаныя зь бягучымі палітычнымі падзеямі і г.д.).

„Беларуская Салідарнасьць" павінна рыхтаваць грунт, накірунак дзеяньняў і ідэяў для беларускага змаганьня ў абарону беларускай незалежнасьці, беларускай мовы, культуры, беларускай нацыянальнай уласнасьці, маёмасьці і беларускай дзяржаўнай сістэмы існаваньня нацыі.

Гэта каштоўнасьці агульнанацыянальнага кшталту, якія мусяць шанаваць, бараніць і разьвіваць усе беларусы перад абліччам агрэсіўнай пагрозы з Расеі і перад палітыкай антынацыянальнага рэжыму Лкашэнкі. Тут каштоўнасьці салідарнага нацыянальнага інтарэсу і салідарнага беларускага дзеяньня.

Формы дзейнасьці „Беларускай Салідарнасьці" могуць быць розныя, але паўсюдна ўлічваем рэальную антыбеларускую палітыку прамаскоўскага рэжыму і пагрозу нашаму нацыянальна-культурнаму і дзяржаўнаму існаваньню. Таму ва ўсіх нашых справах: Беларусь перадусім. Шанаваць усё беларускае. Шанаваць беларускую мову і беларускі народ. Шанаваць беларускую зямлю і беларускую культуру. Шанаваць здабытак народнай працы. Шанаваць беларускую дзяржаўнасьць. Беларус беларуса мусіць бараніць. Беларус беларусу мусіць дапамагаць. Беларус беларуса павінен падтрымліваць паўсюдна на Беларусі і ва ўсім сьвеце.

Гэта станавы хрэбет здаровай нацыянальнай мэнтальнасьці, які дапаможа беларусам паважаць сябе, вытрымаць навалу, выжыць і перамагчы.

Ва ўмовах антыбеларускага акупацыйнага рэжыму і вынішчэньня ўсяго беларускага „Беларуская Салідарнасьць" падтрымлівае толькі адну партыю – Беларускі Народ і тое, што зь ім.

Тыя ж пазыцыі на палітычным полі Беларусі (з Усходу і з Захаду), якія выступаюць супраць рэжыму Лукашэнкі, але абмінаюць рэальнасьць вынішчэньня беларускай нацыі і культуры, – усе гэтакія пазыцыі ёсьць блуд, словаблудзтва і фальш, за якімі хаваецца іншы, небеларускі інтэрас.

Гэтакія „змагары", напрыклад, кажуць: „Для нас несомненно, что права и свободы гражданина должны стоять выше прав и свобод белорусской нации" *(Станіслаў Багданкевіч; „Белорусская Газета", – 1999, 16 ліпеня).*

І гэта ў той час, калі нацыю душаць. Мы ўважаем, што такія „дэмакраты" могуць стварыць на Беларусі толькі новае дэмакратычнае халуйства. (Перад Масквой ці перад Бэрлінам – ня мае значэньня).

„Беларуская Салідарнасьць" стаіць за праўду Беларускага Адраджэньня, якое кажа: ***„Не правы чалавека – галоўнае для беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо не бывае „правоў чалавека" пад акупацыяй".*** Трэба змагацца за свабоду і вызваленьне, а не за „правы" перад рэжымам і акупантамі. Чхалі яны на нашыя „правы". Страціўшы галаву, па валасах ня плачуць.

Ініцыятыва „Беларуская Салідарнасьць" існуе як ідэйна-арганізаваная плынь Беларускага Адраджэньня вось ужо пяць гадоў, не імкнучыся структурызавацца, аформіцца ў арганізацыю ці партыю, зарэгістравацца ў Мінюсьце і г.д.

Плынь – гэта адна з формаў вольнага змаганьня з акупацыйным антыбеларускім рэжымам. Яе распазнаньне простае і надзейнае, па прынцыпу Каліноўскага:

– Каго любіш?

– Люблю Беларусь.

– Дык узаемна.

Калі ж плынь стане магутнай ракой, шырокім беларускім морам, тады яна вылучыць свае дэмакратычныя арганізацыі і аб'яднаньні, якіх ня зглуміць ніякі прамаскоўскі рэжым і ня купіць ніякая збочаная лібэральная дэмакратыя.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*26 кастрычніка 2004 г., Нью-Ёрк.*

*(Матэрыял для распаўсюджваньня ў Сеціве і ў разавых выданьнях.)*

# СПРАВА ГРАМАДЗЯНСТВА БНР

Акцыя „Грамадзянства БНР" распачатая ў 1998 г. Ідэя была абмеркаваная ў Беларускім Народным Фронце і 13 красавіка пастаўлена на Прэзыдыюме Рады БНР старшынёй БНФ З.Пазьняком. У выніку разгляду Прэзыдыюм Рады БНР прыняў ***Заяву „Аб грамадзянстве БНР".*** Ніжэй тэскт заявы.

„Рада БНР як носьбіт ідэі незалежнасьці Беларусі, угрунтаванай на ўстаўных граматах Рады БНР і Акце 25 Сакавіка 1918 году, вітае ўсіх прыхільнікаў гэтай ідэі. Людзі, што працуюць на карысьць ужыцьцёўленьня ідэі беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці, маюць аснову ўважаць сябе за грамадзянаў БНР. Такое сымвалічнае грамадзянства набывае маральнае і палітычнае значэньне, бо супрацьдзеіць нацыянальнай здрадзе, якую праводзіць рэжым дыктатара Лукашэнкі, і спрыяе ўмацаваньню і пашырэньню руху за ўсталяваньне дэмакратыі ў Беларусі і адраджэньне беларускай культуры ды ўмацаваньне свабоды разьвіцьця культуры нацыянальных меншыняў на Беларусі" (Нью-Ёрк, 13 сакавіка 1998 г.).

*(„Беларускія Ведамасьці", – 1998, №2 (12), стар. 9-10)*

У сакавіку ў Народным Фронце былі створаныя рэгістрацыйныя групы, а таксама Цэнтральная рэгістрацыйная група па прыёму заяваў. Рэгістрацыйныя дадзеныя кожнай заявы ў грамадзянства БНР зьмешчаны ў кампутар Цэнтральнай рэгістрацыйнай групы. Часовым дэпазытарыем заяваў у грамадзянства БНР зьяўляецца Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне".

Акцыя пачыналася на вялікім уздыме людзей. У першы ж месяц падало заявы каля 10 тысячаў асоб.

Характэрна, што справа прыняцьця сымвалічнага грамадзянства БНР выклікала шалёны супраціў унутранай агентуры ў БНФ, устрывожыла розных „эўрадзеячоў” тыпу Ганса Віка, вельмі не спадабалася прамаскоўска-настроеным асобам звонку і „прагматыкам” унутры Фронту. („Прагматыкамі” у палітыцы на Захадзе называюць палітыкаў са шкурным інтарэсам. У Беларусі прагматызмам некаторыя людзі чамусьці хваляцца і нават афішуюць.)

Ужо ў траўні яны арганізавалі сабатаж акцыі і энэргічна пачатая добрая справа запаволілася і да канца года, практычна, спынілася. Выдатная ідэя і пэрспэктыўная ініцыятыва была паралізаваная.

Шэраг падзеяў, якія трывожна ўскалыхнулі беларускае грамадзтва ў наступныя гады, асабліва апошняя афёра з незаконным рэфэрэндумам 17 кастрычніка гэтага году, ізноў пацьвердзілі, як важна была і ёсьць цяпер для беларусаў арганізацыя альтэрнатыўнай сілы ўлады, якая легальна супроцьстаіць чужароднай дыктатуры. Прыняцьцё сымвалічнага грамадзянства БНР людзьмі Беларусі – гэта шлях да стварэньня вялікай беларускай грамадзкай сілы, да істотных пераменаў, да рэальных магчымасьцяў скончыць з прамаскоўскім гэбізмам і антыбеларускім рэжымам у Беларусі.

*27 кастрычніка 2004 г., Нью-Ёрк.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***



***50. Дэманстрацыя.***

# НІКАМУ НЯ ЎДАСЦА СПЫНІЦЬ БЕЛАРУСЬ

17 кастрычніка байкот не адбыўся. Не адбыўся, нягледзячы на гатовасьць беларусаў ня йсьці на галасаваньне. Гэты крок як выяўленьне масавай пазыцыі ня быў зроблены, бар’ер не перакрочаны. Галоўныя чыньнікі ўлеглага захаваньня: сіла рэжыму і сіла страху.

Прычыны страху таксама дыямэтральныя. Перш за ўсё, татальная кантрактная сістэма працы, якая паставіла людзей у поўную і бяспраўную залежнасьць ад адміністрацыі.

Кантрактная сістэма паралізавала грамадзтва, зьнішчыла нават кволыя парасткі грамадзкай салідарнасьці. У агульнанацыянальным маштабе ўведзена, фактычна, мадыфікацыя прыгоннага права, сістэма кантрактнага рабства, дзе ўсе правы ў адміністрацыі.

Другая прычына, што спрыяе страху, – нябачаньне людзьмі моцнай нацыянальнай сілы, якая б супроцьстаяла рэжыму.

Разьяднаныя беларусы ня будуць змагацца і нават пратэставаць без апоры на сілу, без надзеі на вынік. Такая ёсьць праўда і прычына марнасьці ўчынкаў.

Вынік загону людзей на галасаваньне вядомы. Сталася ўсё так, як было ўжо растлумачана ня раз яшчэ за паўгода да

незаконнага рэфэрэндуму. Прамаскоўскі рэжым застаўся, захаваўся і ўмацаваўся. Лукашэнка захаваў уладу на нявызначаны тэрмін. (У гэтым і заключаўся сэнс так званай „выбарчай кампаніі".)

Парадыгма паводзінаў рэжыму (створаная і праілюстраваная ў пачатку 2004 года на выбарах у Расеі) была зразумелай. Уладу зьбіраліся ўтрымаць любым спосабам, не зважаючы ні на што. Законнасьць, легітымнасьць, міжнароднае прызнаньне – для рэжыму ня мелі значэньня. Толькі ўтрымацца – вось задача. (Таму і пусьцілі ў Беларусь усіх міжнародных назіральнікаў, якіх пры патрэбе вытурвалі з участкаў.)

Маскоўская схема таксама засьведчыла, што забаўкі ў „апазыцыю" скончыліся. У лукашэнкаўскую „палатку" не павінен быў прайсьці ніхто са штатных апазыцыянераў. Функцыя лукашэнкаўскай апазыцыі (якая заключалася, найперш, у кампрамэтацыі самой ідэі апазыцыі ў грамадзтве) з гледзішча рэжыму, ужо выкананая. „Апазыцыя" выдатна справілася з роляй загоншчыкаў людзей на „рэфэрэндум". Цяпер можна яе ўжо засунуць у кут.

Пасьля „рэфэрэндуму" гэтую „апазыцыю", як і ў Расеі, адвядуць на запасныя пуці (асноўную агентуру), а частку проста прыдушаць, абмяжуюць поле дзейнасьці, каб ня блыталіся пад нагамі. Такое мы ўжо назіраем. Працэс небясьпечны, бо ў гэтай справе ўдар будзе нанесены найперш па беларускіх культурных інстытутах і арганізацыях якраз у рэчышчы антыбеларускай палітыкі гэбоўскага рэжыму.

Мы павінны разумець, што рэжым ніколі поўнасьцю не ліквідуе сваю „апазыцыю", бо ***адна з функцыяў яе – гэта перашкаджаць разьвівацца беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху.***

Дзеяньні беларускіх адраджэнцаў цяпер павінны палягаць у значнай частцы на пазытыўнай нацыянальнай асьветніцкай працы. Пратэстныя высновы павінны вынікаць з адраджэнцкай пазыцыі. Мы мусім рыхтаваць беларускі грунт і спрыяць стварэньню беларускай сілы цераз нацыянальную і палітычную асьвету, праз ідэі і праз арганізацыі яднаньня нацыянальных інтарэсаў.

Цяперака ідэяй, якая будзе найбольш лучыць і аб'ядноўваць грамадзтва, ёсьць ***Беларуская Нацыянальная ідэя***. Трымаем яе голасна і высока.

Адной з галоўных праграмаў дзеяньня беларускіх адраджэнцаў павінна стаць ініцыятыва ***„Беларуская Салідарнасьць"***, якая добра засьведчыла сябе за апошнія гады і выявіла пэрспэктыву. *„Беларускую Салідарнасьць"* трэба разьвіваць шырока на ўсіх узроўнях і ўключаць у ***Нацыянальна-Вызвольны Рух***. Вельмі важна ствараць грамадзка-палітычную беларускую альтэрнатыву рэжыму і ягонай „апазыцыі". Дарогай да гэтага можа стаць якраз *„Беларуская Салідарнасьць"*.

Трэба разумець, што нічога ня зьменіцца да лепшага (нават калі б і справакаваліся б якія б-небудзь падзеі), пакуль ня створыцца, не нарасьце крытычная маса адраджэнскай нацыянальнай эліты, актыўных беларусаў, здольных змагацца, павесьці за сабой іншых, усьведамляць беларускія інтарэсы.

Ва ўмовах, калі нішчаць усё беларускае, нацыянальнае асьветніцтва як элемэнт адраджэнскай палітыкі робіцца абавязковасьцю.



(Фота з друку)

***51. Хлопчык на даху.***

У Беларусі ўвогуле нешматлікая палітычная праслойка. Тым часам людзі, якія трапляюць цяпер у палітыку з грузам яшчэ каляніяльных, савецкіх паняцьцяў у сьведамасьці пра Беларусь, нацыю, мову, народ, – яны ня ў стане асэнсаваць беларускія патрэбы і пасьлядоўна дзейнічаць на карысьць беларускай нацыі і беларускай дзяржавы. Патрэбныя новыя, беларускія людзі ў палітыцы.

Хоць антыбеларускі рэжым у чарговы раз ашукаў беларускае грамадзтва, пэрспэктывы гэтым ён сабе не адчыніў. Сфэра ягоных прыхільнікаў няўмольна звужаецца. У рэжыма няма ніякіх прыцягальных ідэяў і справаў. Уся яго ўлада трымаецца на Расеі, ня яе новакаляніяльнай палітыцы, гэта значыць на зьнешняй сіле. Але гэта якраз мае нядоўгі век і разваліцца, як толькі ўзрасьце свая ўнутраная нацыянальная беларуская сіла. Яе нішчаць, але яна расьце. Яна мае будучыню. Наша задача, усіх беларусаў, яе мацаваць.

*14 лістапада 2004 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус",– 2004, сьнежань, № 503).*

# ЧАМУ ХОЧУЦЬ СТАЛІНА

Ёсьць дзьве асноўныя прычыны, чаму цяпер на Беларусі і ў Расеі пачалі хваліць Сталіна.

*Першая прычына*. У гэтых краінах усталяваная ўлада КГБ. На Беларусі гэта адбылося шляхам прывядзеньня да ўлады маскоўскага стаўленіка КГБ, і потым – шляхам унутранай акупацыі ўлады расейскімі спэцслужбамі.

У Расеі КГБ заняў уладу шляхам выкарыстаньня палітычных тэхналёгіяў. Ад пачатку 2004 года (ад сфармаваньня «гэбоўскай» Думы) улада КГБ у Расеі набыла абсалютны кшталт.

У расейскай ідэалёгіі, у СМІ, у літаратуры, у мастацтве адбываецца зараз гераізацыя дзеяньняў ЧК-КГБ, рамантызуюць гэбоўскі тэрор, гэбоўскіх разьведчыкаў, шпіёнаў, дывэрсантаў, гэбоўскі «спэцназ» і г.д. Адным словам, гераізуецца дух сталіншчыны. Усё гэта ёсьць адлюстраваньне сутнасьці ўлады, якая кіруе цяпер у Расеі і ўплывае на Беларусь. «Сталин – наша слава боевая» (некалі сьпявалі ў савецкай песьні). Такім чынам, ***прычына ў тым, што вярнулася сталінская ўлада***.

*Другая прычына* – агульнаграмадзкая і больш глыбокая. Сталіна хочуць там, дзе людзі адчуваюць, што ў грамадзтве няма сацыяльнай справядлівасьці, што законы ня дзейнічаюць, і што чалавек ня можа дамагчыся праўды.

Адначасна гэты чалавек бачыць, што цэлыя групы людзей на беззаконьні і несправядлівасьці беспакарана будуюць свой дабрабыт.

У бясьсільнага чалавека ўзьнікае тады ***эгалітарная рэакцыя справядлівасьці***, гэта значыць, жаданьне хутка дасягнуць справядлівасьці праз пакараньне лепшых і непадобных на яго (ці «вінаватых», па ягонай ацэнцы).

Такім чынам ён спадзяецца адразу аднавіць справядлівасьць, нічым не рызыкуючы. Бо зрабіць гэта мог бы Сталін, альбо нехта іншы, падобны да Сталіна, які б стаў караць і расстрэльваць «вінаватых».

Пра *ГУЛАГ*, тэрор, рэпрэсіі такі прыхільнік Сталіна ведае, ён чуў пра гэта, але думае, што яго тое абміне, бо ён – за Сталіна.

Такі чалавек, дарэчы, потым, перад расстрэлам, стоячы на краі расстрэльнай ямы, крычаў *«Да здравствует Сталин!»*, альбо няўцямна пытаўся *«За что?»* (як у Курапатах).

На пачуцьці эгалітарнай справядлівасьці абапіраліся ўсе дыктатары ва Ўсходняй Эўропе, ад Сталіна да Лукашэнкі. Гэта галоўная сацыяльна-псіхалягічная матывацыя ў людзей, якія жадаюць новага Сталіна, Гітлера, Чаўшэску і ўвогуле – караючага дыктатара. Яна – ў аснове ўсіх аргумэнтацыяў жаданьня Сталіна.

Зьвярніце ўвагу, што ў краінах, дзе дзейнічаюць і паважаюцца справядлівыя законы, дзе чалавек не паніжаны, – там дыктара-каральшчыка не жадаюць. Там увогуле не характэрная эгалітарная сьвядомасьць. Людзі імкнуцца раўняцца па лепшым, па вышыні, а не па нізе.

*24 сьнежня 2004 г., Варшава*

***Зянон Пазьняк***



(Фота З. Пазьняка)

***52. Курапаты. Раскоп 5. Бакавы прастрэл галавы (выхадная адтуліна).***

# 2005

## РАЗВАГІ ПРА БЕЛАРУСКІЯ СПРАВЫ

Тут мне хацелася б нагадаць, што ёсьць, і расставіць некаторыя акцэнты па актуальных пытаньнях палітычных дачыненьняў, каб з аднаго боку пацьвердзіць свае пазыцыі, з другога – высьветліць акалічнасьці гэтых дачыненьняў.

Найбольшы непакой выклікае тое, што Беларусь усё больш і больш штурхаюць не на свой шлях, не на сваю барацьбу, не пад свае сьцягі. У гэтым генэральная тактыка расейскіх імпэрыялістых на ўсіх ўзроўнях. У выніку былі беларусы, якія будавалі камунізм з расейскімі бальшавікамі, ці ваявалі за краіну Эсэсэсэр. Вынік гэтага векавога чужога змаганьня такі: забіта трэць беларускай нацыі, страчаныя культурныя каштоўнасьці, зглумлена мова, страчаны тэрыторыі. Што ж было дасягнута тымі беларусамі для сябе? Пытаньне рытарычнае. Тым часам народы, якія змагаліся якраз за сябе і пад сваімі сьцягамі, таксама панесьлі ахвяры, але гэта былі ахвяры дзеля волі і лепшай будучыні свайго народа і сваёй краіны. І кожны, хто так змагаўся, яе дасягнуў.

### СЫМВОЛІКА

У канцы мінулага году ў Маскве было ўсё гатова, каб зрабіць рашучы паварот у захопе Ўкраіны. Праведзена дыпляматычная праца з Эўразьвязам, Пуцін ужо адкрыта езьдзіў на Ўкраіну, як да сябе дахаты, адкрыта падтрымліваў расейскага стаўленьніка Януковіча. Але здарылася для Масквы непрадбачанае – рэвалюцыя (рэвалюцыя пад апэльсінавым колерам). Расейскі імпэрыялізм абламаў зубы аб украінскі народ.

Цяперака гэбоўская агентура ў Беларусі і розныя „масьці" пад выглядам „апазыцыі" ды „аналітыкаў" задаюць усім ёрніцкае, быццам бы пустое, але правакацыйнае пытаньне: якога колеру будзе беларуская рэвалюцыя? Аранжавага ці якога?

Адзін антыбеларускі дзеяч сказаў, што ў Беларусі ня будзе рэвалюцыі ні аранжавай, ні ружовай, ні зялёнай, ні бананавай, што яе ня будзе ўвогуле.

Некалі, аднак, рэвалюцыя ўсё ж станецца. Яна непазьбежная і ў Беларусі. Але яна ня будзе ні аранжавай, ні ліловай, ні фіялетавай, ні сіне-зялёна-серабрыстай, ні чорнай, ні жоўтай. Бо ***ў краіне, дзе забароненыя нацыянальныя сымвалы, нацыянальная рэвалюцыя можа быць толькі пад нацыянальнымі сымваламі – і ні пад якімі іншымі.*** *Інакш „рэвалюцыі" ня будзе.*

Нацыянальная рэвалюцыя на Беларусі можа стацца толькі *Бел-Чырвона-Белай*. Усё астатняе, усе іншыя расфарбоўкі ня будуць і ня могуць быць рэвалюцыяй на Беларусі, а якраз наадварот – гэбоўскай антыбеларускай „контрай", закамуфляванай пад нейкі фарбшчюк.

Сытуацыя ў кучмаўскай Украіне істотна розьнілася ад цяперашняга становішча ў Беларусі. На Ўкраіне не было антыўкраінскага акупацыйнага рэжыму, там не была зьнішчана ўкраінская школа, мова і культура і не былі забароненыя нацыянальныя сымвалы. Наадварот, украінскі сьцяг і гэрб былі афіцыйнымі дзяржаўнымі сымваламі Ўкраіны.

Паколькі не было чужароднай акупацыі і не існавала праблемы і пагрозы ўкраінскім сымвалам, пытаньне аб уладзе магло вырашацца пад любым умоўным распазнавальным колерам. Украінскі сьцяг афіцыйна існаваў, і ягоныя колеры аб'ядноўвалі ўсіх.

Калі б украінскі сьцяг быў забаронены рэжымам (як у Беларусі), то рэвалюцыя на Ўкраіне была б толькі жоўта-блакітнай. У гэтым адлюстраваліся б сэнс, прынцып і прырода палітычнага змаганьня. Іншага ў нацыянальнай рэвалюцыі быць не магло.

Прывяду прыклад, як пасьля забароны рэжымам беларускага сьцяга і гэрбу *„Пагоня"* агентура спрабавала зрабіць іх падмену ў шэрагах беларускага Адраджэньня.

У 1997-98 гг., якраз калі чужыя сілы рыхтавалі атаку на Беларускі Народны Фронт, у ягоным асяроддзі раптам пачалі прапаноўваць ва ўжытак новыя сымвалы (нібыта дзеля распазнаньня „дэмакратыі"). Замест *„Пагоні"* падсунулі бусла (маўляў, няхай жыве „беларуская птушка бацян"). Графіка ўзьлятаючага „бусла" дакладна нагадвала малдаўскі лікёра-водачны і вінны фірмовы знак. Пры памылковай падтрымцы Л. Баршчэўскага, які тады быў маім намесьнікам і выконваючым абавязкі старшыні Фронту на Беларусі, „бусел" раптам стаў шырока тыражавацца замест *„Пагоні"*. Ён зьявіўся на дэманстрацыях, на плякатах, на расьцяжках, на значках і г. д. Фронтаўцы, аднак, хутка зразумелі сэнс гэтай афёры і спынілі агентурную „самадзейнасьць".

Аднак, зноў жа, калі б *„Пагоня"* заставалася дзяржаўным гэрбам, то нічога шкоднага ў ініцыятыве з „буслам" не было б. Але ў тым і справа, што такая ініцыятыва ўзьнікла, як нібыта „бязьвінны" (на першы погляд) працяг вынішчэньня беларускіх нацыянальных сымвалаў, выцясненьня іх з грамадзкай сьведамасьці.

Калі цяпер пры нейкай новай грамадзкай сытуацыі, ці нават пры звычайным „малпаваньні" (бяздумным перайманьні чужога) мы ўбачым якія-небудзь іншыя, ненацыянальныя колеры, ведайма: тут адыход ад Беларусі (сьведамы ці нясьведамы), ад разуменьня таго, што сталася з краінай, ад сьвятога, ад таго, за што змагаліся лепшыя людзі Айчыны. Па колерах пазнаем іх.

### АБ АЛЬТЭРНАТЫВЕ

Беларускі Вызвольны Рух прапанаваў маю кандыдатуру на будучыя выбары прэзыдэнта Беларусі. Зважаючы на сытуацыю, якая існуе ў нашай краіне, я павінен узяць на сябе гэты абавязак. Інакш акупацыйны рэжым праз падстаўныя арганізацыі навяжа беларусам чарговага „адзінага ганчарыка". Ужо распачалі яго пошукі.

Зразумела таксама, як дзейнічае на выбарах фальсіфікацыйная машына галасаваньня, улада, заканадаўства і адміністрацыйны рэсурс. Зламаць гэтую машыну можа толькі агульны народны энтузіязм, адкрытае змаганьне і салідарнасьць у правільных дзеяньнях. Правільнымі дзеяньнямі на антызаконным рэфэрэндуме 17 кастрычніка мінулага году павінен быў стаць байкот. Але паколькі (гэта галоўнае) людзі не рашыліся на адкрытае змаганьне,

то ня ўзьнікла ні энтузіязму, ні правільных дзеяньняў. Грамадзтва не адважылася пайсьці за Вызвольным Рухам.

У выніку рэжым і ягоная „апазыцыя" загналі людзей на выбарчыя ўчасткі для галасаваньня, і сістэме засталося толькі аб'явіць пра чарговую „элегантную" перамогу і „выбар народа".

Калі на выбары прэзыдэнта падставяць „ганчарыка" – ніякага энтузіязму і жаданьня змагацца ў людзей ня ўзьнікне (для гэтага і шукаюць ганчарыкаў). Тады фальсіфікацыя спрацуе, як сякера.

Сытуацыю можна перайначыць, калі будзе беларуская народная альтэрнатыва. Тады зьявіцца і магчымасьць народнага змаганьня.

Стварыць штучна нацыянальную альтэрнатыву немагчыма, бо яна не ствараецца прапагандай. Яна ўзьнікае сама, у выніку дзеяньняў, сувымерных з народным рухам, ці хаця б з народнымі паняцьцямі пра справядлівасьць.

Нічога новага ў гэтым родзе за апошнія 10 гадоў на Беларусі не зьявілася. Таму вяртаемся на зыходныя палажэньні і напачатку зоймемся арыфметыкай.

Лічба маіх рэальных прыхільнікаў на Беларусі ў прынцыпе не зьмянілася. Гэта каля аднаго мільёну асобаў (10-15 адсоткаў выбаршчыкаў). Не зьмянілася і лічба ненавісьнікаў – каля 15 – 20 адсоткаў (праўда, згодна чужых і прапагандысцкіх зьвестак), якія ні пры якіх абставінах ня будуць галасаваць за мяне і за беларускую справу. Астатнія людзі – гэта электарат магчымага выбару. Ён рухомы. Бальшыня з гэтай катэгорыі людзей (акрамя, магчыма, самых маладых) ведаюць маю асобу. Пытаньне толькі ў тым, ці вытрымае гэтая частка беларусаў шквал аднабокай прапаганды супраць мяне. Калі вытрымае, то можна разьлічваць на пераможнае змаганьне з сістэмай.

Псіхалагічна мне лёгка ўступаць у гэтую барацьбу, бо я заўсёды быў адкрыты і перад сваім народам, і перад ягонымі ворагамі. Адкрытасьць – гэта адзіны правільны прынцып змаганьня з чужароднай уладай, калі змагарны рух хоча абаперціся на народ. І гэта адзіны шлях (у існуючых варунках) да перамогі. Народ мае просты кірунак, шырокую дарогу і ня ходзіць пакручастымі сьцежкамі. Палітыка складаных задумаў ажыцьцяўляецца толькі тады, калі набываецца ўлада і сіла.

Зыходзячы з прынцыпу адкрытасьці, лічу ня лішнім выказаць свае ацэнкі пэўных зьяваў у цяперашнім беларускім жыцьці, галоўных і негалоўных, але часова актуальных, што трапілі ў поле зроку людзей, незалежна ад іхных патрэбаў, ці, дакладней, насуперак іхным інтарэсам. Засяроджуся, аднак, больш на справах істотных для народнага лёсу нашай Краіны.

## АДНОСІНЫ ДА РЭЖЫМУ

Рэжым улады, які вось ужо адзінаццаць гадоў існуе на Беларусі, гэта ёсьць рэжым антыбеларускі, чужародны, русіфікатарскі і акупацыйны. Сфармаваўся ён паэтапна, па маскоўскай тэхналёгіі КГБ, да зразуменьня якой не падрыхтавана было беларускае грамадзтва з прычыны аслабленага імунітэту супраць палітыкі Расеі, з-за палітычнай нявызначанасьці і, галоўнае, з-за невысокага ўзроўню нацыянальнай самаідэнтыфікацыі людзей, прыдушаных дзесяцігоддзямі чужой савецкай улады.

Фармальна рэжым трымаецца на выпрацаваным аўтарытарызме Лукашэнкі. Але ў сапраўднасьці (аб чым Лукашэнка ня раз прызнаваўся ў сваіх „адсябецінах") – на падтрымцы Масквы і на ячэйках расейскай дзяржбясьпекі КГБ-ФСБ, канкрэтна на шматлікіх групах выпрацаваных функцыянераў маскоўскай агентуры, якія з падачы Лукашэнкі занялі ключавыя месцы ў структурах і ўсёй сістэме новай акупацыйнай улады на Беларусі. (Так, дарэчы, была скарыстаная ў Беларусі гэбоўская тэхналёгія „ўнутранай акупацыі", якую раней актыўна ўжываў Савецкі Саюз у Афрыцы, на Блізкім Усходзе, у краінах Лацінскай Амэрыкі.)

Функцыянераў і рэзыдэнтаў часта зьмяняюць (у гэтым спэцыфіка акупацыйнай улады; так трэба сістэме), але антыбеларуская палітыка ад гэтага ніколі не зьмяняецца, а становіцца штораз больш вынішчальнай, расьперазанай і жорсткай.

Мэта гэтай палітыкі, паводле Масквы: пашырэньне тэрыторыі і інтарэсаў Расеі за кошт Беларусі на захад, да польскай мяжы. Гэта дало б Расеі вялікія геапалітычныя і эканамічныя перавагі ў дачыненьнях з НАТО і краінамі Эўразьвязу, дазволіла б разьвіваць далей традыцыйную руска-нямецкую вялікадзяржаўную зьнешнюю і ўнутраную палітыку ўплываў і пашырэньня.

Паводле гэтага раскладу, Беларусь павінна быць ліквідаваная як дзяржава і як народ сьвядомы сабе. Стратэгія акупацыйнага рэжыму разьвіваецца па двух накірунках. Першы (галоўны) – падрыў асноваў нацыянальнай культуры і зьнішчэньне беларускай нацыі. Гэтая мэта ажыцьцяўляецца, практычна, адкрыта вось ужо адзінаццаць гадоў. На вачах усіх беларусаў і ўсяго сьвету былі адмененыя, зьняважаныя і забароненыя беларускія дзяржаўныя нацыянальныя сымвалы, практычна, ліквідаваная беларуская школа і беларускае навучаньне, беларускія сродкі масавай інфармацыі, выключана з афіцыйнага ўжытку беларуская мова, развальваюць нацыянальную навуку, душаць нацыянальнае мастацтва і беларускую літаратуру, ліквідуюць беларускія навучальныя ўстановы, абніжаюць узровень адукацыі, афіцыйна фальсіфікуюць нацыянальную гісторыю, перасьледуюць беларускіх дзеячоў, ствараюць штучныя ўмовы для выезду моладзі за мяжу, а працаздольнага насельніцтва – у Расею.

На пачатак лютага 2005 года амаль мільён беларусаў (каля трэці працоўнага насельніцтва) выехалі на працу ў Расею, дзе бальшыня зь іх, ня маючы ніякіх правоў, занятая ў рабскай працы, і сотнямі гінуць у нетрах крымінальнай краіны, альбо вяртаюцца пакалечанымі і абрабаванымі. Улік загінулых беларусаў нідзе не вядзецца (нават у Беларусі), бо адкрыта мяжа ў чорную прорву.

Умовы для выезду беларусаў на рабскую працу ў Расею (беспрацоўе і бяспраўе) створаныя штучна і зьяўляюцца часткай маскоўскага пляну выцісканьня беларусаў з уласнай зямлі ў Расею на замену сьпітага рускага охласа. Пра грандыёзныя эканамічныя страты для Беларусі тут, перад абліччам антычалавечага пляну нацыянальнай катастрофы, мы ўжо не гаворым.

Ніякі нацыянальны ўрад (нават людаедзкі) ніколі ў гісторыі не праводзіў і нідзе не праводзіць самазабойчай антынацыянальнай палітыкі. Гэтак жа, як ніякі псіхічна нармальны чалавек, ня стане паліць сваю хату. ***Палітыку духоўнага, культурнага і дэмаграфічнага вынішчэньня нацыі праводзяць толькі чужыя, толькі акупанты.***

Другі накірунак антыбеларускай стратэгіі – ліквідацыя беларускай дзяржавы. Ужо зроблена шмат падрыхтоўчай працы. Вызначальным крокам у ліквідацыі беларускай дзяржаўнасьці плянуюць зрабіць увядзеньне на Беларусі расейскага рубля

з папярэдняй зьменай Канстытуцыі (прыняцьце так званага „канстытуцыйнага акту” так званай „саюзнай дзяржавы”). Аднак злачынная гэтая справа рухаецца паволі. Бо акупацыйнай уладзе выгадна выкарыстоўваць беларускую дзяржаву як эфэктыўную і танную прыладу ў зьнішчэньні беларускай нацыянальнай культуры. (Імітуецца як бы яе самазьнішчэньне.)

З іншага боку, існуе беларускі супраціў. Акрамя таго, у Беларусі сутыкнуліся розныя групавыя гэбоўскія інтарэсы. Палітыка расейскага гэбізму на Беларусі, апрача вялікадзяржаўнага стратэгічнага інтарэсу, мае пад сабой групавы эканамічны інтэрас. Меркантыльны аспэкт гэбізму – мафійная эканоміка. Абсалютная канцэнтрацыя дзяржаўнага кіраваньня ў руках супэрпартыі і супэрулады КГБ прывяло да прыватызацыі дзяржавы вузкімі групамі гэбоўскай улады, якая валодае выпрабленым механізмам кантролю над грамадзтвам і над грашовымі плынямі. Карупцыя, хабарніцтва, нажыва за кошт чужой працы і народнага дабра стала нормай дачыненьняў у гэбісцкім рэжыме.

Напрыклад, кожны прадпрыймальнік (бізнэсмэн) на Беларусі плаціць даніну вярхоўнаму начальству. Хто ня хоча плаціць, таго разбураюць, судзяць, садзяць альбо зьнішчаюць.

Прыватызацыя дзяржавы выявілася ў падвойным бюджэце і велізарных сродках, накопленых на легендарных рахунках галоўнай службовай асобы. Пастаянна мы назіраем актыўнасьць вакол гэтай справы (пасадкі ў турму, уцёкі за мяжу, візіты ў экзатычныя краіны і г.д.).

Асобай апэрацыяй супраць Беларусі стала ўвядзеньне з пачатку гэтага года новых правілаў аплаты падатку на дабаўленую вартасьць (ПДВ). Цяпер з гандляроў будуць браць ПДВ у краіне прызначэньня тавараў (раней было наадварот). Заканадаўчая тэхналёгія пабіраньня ПДВ распрацавана так (альбо не распрацавана зусім), каб у выніку поўнасьцю зьнішчыць беларускі прадпрымальніцкі гандль і разбурыць беларускую эканоміку. І ўсё гэта ня ёсьць прычынай бюракратычных памылак, а вынікам спэцыяльна распрацаванай атакі супраць Беларусі, якая па сутнасьці зьяўляецца эканамічнай і палітычнай агрэсіяй Расеі на нашу краіну.

У адрозьненьне ад Украіны і Расеі, на Беларусі не існуе алігархічных фінансавых групаў і алігархічнага капіталу. Стварыўся толькі адзін супэралігарх. Моц такога рэжыму ёсьць адначасна і ягонай слабасьцю, якая звычайна рэалізуецца ў тым, што адзінага нелегітымнага „алігарха” ў адзін надзвычайны дзень арыштоўвае ягонае ж асяроддзе. Дастаткова толькі моцнага народнага штуршка. А штуршок станецца, бо гэбоўскі чужы рэжым ёсьць для народа беспэрспэктыўны. Існаваць на Беларусі ён не павінен.

## АДНОСІНЫ ДА РАСЕІ

У цяперашняй беларускай палітыцы, а дакладней, у беларускім нацыянальным жыцьці, важнай умовай паправы становішча ёсьць зьмяненьне адносінаў да Расеі, прывядзеньне іх у адэкватны стан. Цяпер яны ня тое што не адэкватныя, – яны збочаныя, зьвіхнутыя, і проста абсурдныя. Вобраз гэтых ірацыянальных дачыненьняў ілюструе выезд беларусаў на рабскую працу ў Расею, дзе іх эксплуатуюць, ашукваюць, абкрадаюць, рабуюць, забіваюць, а яны ўсяроўна туды лезуць, упарта і бяздумна, ня робячы ніякіх для сябе высноваў.

Адсутнасьць адчуваньня народнай небясьпекі вынікае з глыбейшых прычынаў і абумоўлена агульным невысокім узроўнем нацыянальнай сьведамасьці, несфармаванасьцю нацыянальнага вопыту. Як пісаў Янка Купала: „і ў думах выхаваны зморных, ня знаюць, дзе пячэ, дзе студзіць.” Але вопыт прыходзіць з часам, і якраз – разам з нацыянальнай асьветай і выхаваньнем.

Беларусам вельмі важна ўсьвядоміць, што агрэсіўная расейская палітыка ў дачыненьні да нашай краіны не зьмянілася за апошнія 200 гадоў (а па вялікаму кошту – за 500). Яна ня зьменіцца ніколі, пакуль будзе існаваць Расея як імпэрская структура, як кангламэрат народаў. Бо ***імпэрская структура ёсьць падставай імпэрскай палітыкі і вялікадзяржаўнай псіхалогіі***. Расея ёсьць закладніцай самой сябе. Нацыянальныя ідэі (а значыць, дэмакратычныя, бо тут зьліжанасьць) у Расеі з гэтай прычыны проста не ўзьнікаюць. Расея мусіць толькі разваліцца як імпэрыя. (Гэта трэба разумець.) І, як ня дзіўна, у развале Расеі як імпэрскай структуры ёсьць паратунак для самых расейцаў, выхад зь вечнай тыраніі і вечнага рабства на нацыянальны ўзровень разьвіцьця.

У беларускай палітыцы трэба будзе адзначыць найперш тры галоўныя аспэкты дачыненьняў з Расеяй. **Першы** аспэкт – пэрманэнтнасьць расейскай небясьпекі для Беларусі. **Другі** – забесьпячэньне беларускіх нацыянальных інтарэсаў і ўлічваньне жыцьцёвых інтарэсаў Расеі. **Трэці** аспэкт – прадбачваньне (трыманьне на ўвазе) магчымасьці распаду расейскай вялікадзяржаўнасьці.

Асэнсаваньне пазыцыі небясьпекі абавязвае нас дзяржаўна ўпарадкаваць беларуска-расейскую мяжу і мытную службу, абараніць інтарэсы дзяржавы і грамадзянаў Беларусі і адначасна гарантаваць свабоду чалавечых кантактаў (вольны бязьвізавы статус, напрыклад, для людзей, павязаных сваяцтвам, пэнсіянерам і г.д.).

Забесьпячэньне беларускіх нацыянальных інтарэсаў перад палітычнай агрэсіяй з усходу будзе абавязваць нас зьнізіць долю гандлёвага ўзаемаабмену з Расеяй і дыферэнцаваць гэтую долю па катэгорыях тавараў, каб запабегчы палітычнаму шантажу. У гэтым сэнсе існуе ўжо вельмі станоўчы вопыт Эстоніі (10 адсоткаў таварнага абмену з Расеяй) і адмоўная практыка Латвіі (якая якраз ад пачатку не зрабіла таго, што зрабіла Эстонія).

Маючы перад сабой увесь сьвет, Беларусь не павінна штучна, насуперак беларускім інтарэсам, прывязвацца толькі да расейскага рынку (як гэта зроблена цяпер – больш за 50 адсоткаў). Для рэалізацыі шырокіх магчымасьцяў Беларусі неабходна ажыцьцявіць палітычныя і дэмакратычныя перамены ў краіне і не дапусьціць карупцыі ў дзяржаўным апараце.

Мы вымушаны будзем вызначыць сабе баланс жыцьцёвых інтарэсаў у дачыненьнях Беларусі з Расеяй і прымаць гэта пад увагу. Мы павінны будзем таксама ўлічваць інтарэсы ня толькі Расеі, але і заходніх краінаў у іхных дачыненьнях з Расеяй, мець на ўвазе адпаведны ўзровень міжнародных эканамічных дачыненьняў. Мы будзем выходзіць з ізаляцыі і з савецкага гета.

Сытуацыя з расейскім транзытам і пастаўкай энэрганосьбітаў павінна быць вырашана на рынкавай аснове. Гэта непазьбежна. І гэта якраз паспрыяе хутчэйшым рэформам на Беларусі, хутчэйшаму стварэньню рабочых месцаў, вяртаньню беларускіх працаўнікоў з наёмнага рабства ў Расеі.

## АДНОСІНЫ ДА ПАДСТАЎНОЙ „АПАЗЫЦЫІ”

Амаль 70 гадоў існаваньня ў СССР у Беларусі адсутнічала незалежная ад рэжыму ўсялякая культурніцкая, грамадзкая, палітычная (і тым больш апазыцыйная) дзейнасьць. Грамадзтва

ня ведала ніякіх незалежных палітычных формаў, ня мела ніякага палітычнага вопыту. У постсавецкі час КГБ выкарыстаў гэтую акалічнасьць для арганізацыйнай прысутнасьці ў палітыцы.

Савецкія спэцслужбы, што засталіся на постсавецкай прасторы, шырока выкарысталі прыём падстаўных арганізацыяў. Яны дзяліліся на дзьве катэгорыі: палітычныя партыі і – правакацыйныя радыкальныя групы. У арганізацыях партыйнага кшталту выкарыстоўвалася, як правіла, агентура. У групоўках другога роду – як правіла, кадравыя функцыянэры спэцслужбаў.

У 90-х гадах найбольш вядомай радыкальна правакацыйнай групай такога роду была арганізацыя УНА-УНСО на Ўкраіне. Кіраўніцтва курыравалася спэцслужбамі, а шэрагоўцамі былі ў асноўным патрыятычныя ўкраінскія хлопцы, зь якімі праводзілі мэтанакіраваную працу.

Па такому ж прынцыпу была створана ў Беларусі арганізацыя „Край". Некалькі гадоў таму (у выніку штучна разыгранага нібыта „канфлікту") асобы з кіраўніцтва „Краю" апынуліся за мяжой і атрымалі статус палітычных уцекачоў. Гэта кадравы супрацоўнік КГБ Жарнасек і ягоны напарнік (таксама кадравы гэбіст) Угляніца. У гэты ж час палітычны прытулак у Бэльгіі атрымаў яшчэ адзін кіраўнік „Краю" Вадзім Кабанчук. У 1996-97 гг. – гэта вядомы фронтаўскі змагар. За вызваленьне яго з турмы (а таксама Шыдлоўскага і Лабковіча) мной і С. Навумчыкам (за мяжой), іншымі фронтаўцамі – на Беларусі – было пакладзена шмат стараньняў, часу і энэргіі. Па зьвестках, Кабанчука катавалі ў турме, каб ён згадзіўся на супрацоўніцтва з ворганамі.

У Бэльгіі цяпер назіраецца самая вялікая канцэнтрацыя агентуры ФСБ-КГБ, засланай праз беларускія арганізацыі. Яны ствараюць там так званую „новую беларускую эміграцыю", пікетуюць, лезуць у Раду БНР, у радыё „Свабода", прапануюць паслугі, выступаюць з „ініцыятывамі" і г.д.

Прытым робіцца гэта ўсё простаґлінейна і прымітыўна, што нават дзіву даешся. Выкарыстоўваюцца самыя банальныя схемы. Напрыклад, у другой палове 90-х (калі быў масавы ўздым БНФ) два суб'екты (прозьвішчы нам вядомыя, як і ўсіх іншых) уступаюць у Народны Фронт і праз нейкі час публічна і прынародна ўскладаюць вянок з калючага дроту пад помнік Ф. Дзяржынскаму насупраць КГБ. „Артыстаў", вядома ж, арыштоўваюць, даюць пару сутак, „свае людзі" ў СМІ падымаюць лямант („змагары", „правы чалавека" і г. д.). Неўзабаве суб'екты ўжо ў Бэльгіі, „палітычныя ўцекачы", уцяклі, маўляў, ад перасьледу рэжыму і г. д. (Зазначу, што Бэльгія нязручная краіна для эміграцыі. Але „апазыцыйная" агентура туды лезе, як машкара. Вядома ж – Брусэль, Эўразьвяз, Эўрапарлямант, Эўракамісія і г. д. (нават НАТО). У 1996-1997 гг. усе ведалі ў БНФ правакатара Леаніда Васючэнку. Цяпер і Васючэнка падаўся ў Бэльгію, „палітычны ўцякач" (здаецца, атрымаў нават азыль, значыць скора пачне падтрымліваць Раду БНР). Ці, напрыклад, быў у „Народнай Волі" такі падазроны „журналіст" Алесь Сіліч, які часта ёрнічаў і скрыпеў пяром, маўляў, пріезжайте, Зенон Станіславовіч, будем работать вместе раді родной Белоруссіі. Гэта з той публікі, якая піша: „Я бы родіну не оставіл" (нібыта ў іх існуюць праблемы жыцьця і сьмерці). Цяпер гэты хацелец „работать" без дай прычыны таксама ў Бэльгіі і таксама „палітуцякач". (Цікава якую ўжо „рэвалюцыйную" легенду ён прыдумаў).

Па зблізанай схеме з „Краем" створаныя таксама „Белы легіён" і „Зубр" (арганізацыя для адводу беларускай моладзі ад нацыянальнага Адраджэньня). У савецкі (гарбачоўскі пэрыяд) і постсавецкі часы, практычна, усе партыі ў Беларусі (акрамя адной) былі створаныя пры садзеяньні і ўплыве агентуры спэцслужбаў КГБ.

„Акрамя адной" – гэта акрамя Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, якая была ўтворана Беларускім Народным Фронтам. Спэцыяльна для гэтай працы былі вылучаныя кіраўнікі БНФ Міхась Ткачоў (намесьнік старшыні БНФ), Алег Трусаў, Міхась Чарняўскі, Анатоль Гурыновіч (сябры Сойму БНФ). Трэба было зачыніць нішу для камуністаў. БСДГ была створана як партыя адраджэнцкага кшталту, і гэтак жа, як і Фронт, выступала пад *Бел-Чырвона-Белым сьцягам*.

Удар, які абрынула потым на гэтую партыю агентура, аказаўся для яе замоцным. БСДГ разьбілі на кавалкі. Новыя кіраўнікі (пасьля сьмерці Ткачова) не пагнушаліся пакуражыцца і павялі рэшткі партыі пад новай назвай у дом-муляж Першага зьезду РСДРП, каб прадэманстраваць „перамогу" і гэтым учынкам паказаць, што партыя пачынаецца ад РСДРП, а не ад БСГ Луцкевічаў (што ёсьць няпраўда і поўны абсурд).

На пачатку 90-х гадоў шырокавядомым і папулярным сваімі беларускімі патрыятычнымі дэкларацыямі было Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў (БЗВ) пад кіраўніцтвам М. Статкевіча. Рэальны вынік дзейнасьці гэтай арганізацыі такі: былі выяўленыя і „спаленыя" патрыятычна настроеныя беларускія афіцэры (выключаны з войска пры садзеяньні Міністра абароны генэрала П. Казлоўскага). Пасьля гэтага, каб не дапусьціць далейшых правакацыяў, Беларускі Народны Фронт прыняў рашэньне масава ўступаць у БЗВ. Усе арганізацыі БЗВ апынуліся пад кантролем БНФ. Пасьля гэтага Статкевіч пакінуў БЗВ і перакінуўся ў БСДГ. Далейшыя справы зь беларускай сацыял-дэмакратыяй вядомыя.

Пасьля таго, як былі створаныя „дэмакратычныя" партыі, асноўны прынцып КГБ у змаганьні з Народным Фронтам выявіўся ў лёзунгу „Объединения всех демократических сил". Фронту назойліва прапаноўвалі аб'яднацца з „партыямі" (сумарная папулярнасьць іх была – 2%) дзеля „перамогі дэмакратыі". Прымітыўнымі дзеяньнямі па „аб'яднаньню" імкнуліся паралізаваць дзейнасьць БНФ (кожная партыйка мела б свой голас ў прыняцьці рашэньняў) і стварыць нагляд над ягонай палітыкай. Посьпеху гэтакая гульня ня мела, хоць лямант быў арганізаваны вялікі і пастаянны.

Былі ўтвораныя партыі і газэты (ёсьць і цяпер), прыналежнасьць якіх да КГБ, фактычна, не хаваецца. Цынікам з асяроддзя палітычных ускраін нічога не каштуе залічваць іх у „беларускую дэмакратыю", запрашаць за мяжу на „форумы дэмакратыі" і іншыя „капусьнікі".

Як сказаў нядаўна кіраўнік адной з такіх партыяў С. Гайдукевіч, „у чэкісцкім асяроддзі (паверце мне, там мой бацька адпрацаваў дзясяткі гадоў) цэняцца людзі не гаваркія, а тыя, хто дзейнічае". *(Радыё „Свабода", 23 студзеня 2005 г.)*

Назіраючы кандовую мэтодыку КГБ, у нас існавала думка, што ні КГБ, ні Масква ніколі не перамогуць Беларускі Народны Фронт. Становішча пагоршылася, калі нам з С. Навумчыкам прышлось эміграваць, а кіраўніком Місіі АБСЭ ў Менску быў прызначаны ў канцы 1997 г. Ганс-Георг Вік (былы кіраўнік зьнешняй разьведкі Нямеччыны). Вік приступіў да справы прафэсійна і ўзяўся за „объединение всех демократических сил" у супрацоўніцтве з КГБ, скарыстоўваючы фінансавыя магчымасьці заходніх арганізацыяў (гранты і т.п.).

У 2-й палове 1997 года быў ажыцьцёўлены міжнародны гэбоўскі праект „Хартыя-97". „Хартыя" выконвала ролю разьмеркавальніка і інфарматара (давала прасеяную

інфармацыю ў Інтэрнэт). Праз „Хартыю" (у якой фармальна дзейнічала ўсяго некалькі асобаў) у Беларусь ішлі грошы з Захаду на „дэмакратыю без суверэнітэту".

У пачатку 1998 г. Ганс Вік і КГБ прыступілі да стварэньня так званай „аб'яднанай апазыцыі" і так званага „перамоўнага працэсу" з рэжымам Лукашэнкі. Рыхтавалі ненацыянальную прамаскоўскую альтэрнатыву Беларускаму Народнаму Фронту. Такі падыход задавальняў і лібэральныя колы Захаду (якія трымалі б у Беларусі сваю „апазыцыю"), і маскоўскі гэбізм.

Як толькі была аформлена „аб'яднаная апазыцыя", у яе пусьцілі заходнія сродкі, і тут жа зьявіўся маскоўскі так званы „Праект Чыгір". Пад выглядам альтэрнатыўных выбараў прэзыдэнта плянавалася ліквідаваць Беларускі Народны Фронт, уцягнуць яго ў афёру, і, выдаткаваўшы грошы, перабраць людзей і структуры Фронта пад новую арганізацыю. Найбольш непрыгожую, адкрыта шулерскую ролю адыгрываў у гэтай авантуры Віктар Ганчар.

Афёру ўдалося праваліць і захаваць асноўныя сілы Беларускага Народнага Фронту. Але Фронт раскалолі. Вялікая група фронтаўцаў (так званыя „прагматыкі") падтрымала палітыку Ганса Віка і далучылася да „аб'яднанай апазыцыі". Зялёная мамона заваладала душамі гэтых людзей. З гэтага часу расейскамоўны так званы „незалежны" друк на Беларусі і заходнія лібэралы сталі „заўважаць" толькі „вікаўскую апазыцыю", а Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Рух – ва ўпор ня бачыць.

Наступныя падзеі паказалі вельмі выразна, што ***так званая „аб'яднаная апазыцыя" і розныя яе мадыфікацыі (тыпу „пяцёрка-плюс") гэта ёсьць складовая частка лукашэнкаўскага рэжыму, кіруемая спэцслужбамі Масквы і нямецкімі лібэраламі. Адносіцца да яе трэба гэтак жа, як і да Лукашэнкі зь яго групай – зьмятаць з палітычнай сцэны.***

За ўвесь час існаваньня гэтай групоўкі і яе імітацыйнай квазі-апазыцыйнай дзейнасьці ў яе не было ніколі, нідзе і ніякіх, нават мінімальных, станоўчых палітычных вынікаў. Сем гадоў пустапарожняга, паразітнага, антынацыянальнага існаваньня. Адны правалы, якія яны тупа і пакрыўджана называюць „перамогамі". Імітатары збэсьцілі ўсе формы барацьбы, сцьверджаныя Народным Фронтам.

Ня буду разглядаць усё, вазьму толькі некалькі прыкладаў антыбеларускіх справаў так званай „апазыцыі", якія паспрыялі рэжыму. 2001 год, прэзыдэнцкія выбары. Падстаўная „апазыцыя" (у тым ліку „прагматыкі" з БНФ) падтрымліваюць падстаўную кандыдатуру былога капээсэсаўскага функцыянэра У. Ганчарыка. (Таго самага Ганчарыка, члена бюро ЦК КПБ, зь якім Фронт змагаўся на выбарах у 1990 годзе.) Ганчарык ня мог быць нацыянальнай альтэрнатывай Лукашэнку, і народ гэта бачыў. Яго вылучылі ў той час, калі я ўдзельнічаў у прэзыдэнцкай кампаніі як прадстаўнік Беларускага нацыянальнага дэмакратычнага Адраджэньня. Але вікаўская „апазыцыя" вылучыла „свайго кандыдата", які і паспрыяў так званай „элегантнай перамозе" рэжыму.

17 кастрычніка мінулага году адбыўся незаконны рэфэрэндум (злучаны з выбарамі) аб „вечным тэрміне" прэзыдэнцтва Лукашэнкі. „Апазыцыя" сьведама выступіла ў ролі загоншчыка людзей на незаконнае галасаваньне. Рэфэрэндум быў незаконны, супярэчыў Канстытуцыі. Народ не павінен быў падтрымліваць незаконныя дзеяньні ўлады, ня мусіў ісьці на выбарчыя ўчасткі і спрыяць фальсіфікацыі галасаваньня. Пра гэта заранёў было патлумачана. І тым ня менш, яны несумленна зазывалі людзей лёзунгам „Скажы сваё НЕ Лукашэнку", добра ведаючы пра двулікасьць і марнасьць такога ашуканцкага лёзунгу. (Самы ж цьвердзілі, што галасаваньне будзе сфальсіфікавана, але заклікалі і ішлі.)

Гэта вельмі нізкія паводзіны. Пляваць ім на Беларусь і на народ, калі загадалі з Бэрліну і гукнулі з Масквы. Не народ жа ім плаціць зялёныя гранты. Гэта ўвогуле не палітыкі, а прыстасаванцы сістэмы, якія навучыліся паразітаваць на рэжыме і на гульнях у „апазыцыю". Гэта палітбізнэсмэны на народнай бядзе. Калі пераможа народная Беларусь (а яна пераможа!), некаторыя з гэтых „апазыцыянэраў" пойдуць пад суд, разам са злачынцамі рэжыму.

Антыадраджэнцкая дзейнасьць падстаўной апазыцыі ёсьць па сутнасьці антынацыянальная. Адзін з мэтадаў інфармацыйных паводзінаў гэтых асобаў і так званых „незалежных" СМІ – гэта ***замоўчваньне вынікаў і перакручваньне падзеяў беларускай нацыянальна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1991 года***. Найперш – выкрэсьліваньне з грамадзкай сьвядомасьці імёнаў дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня і гістарычных дасягненьняў гэтай фронтаўскай Апазыцыі. Найгалоўнейшае зь іх – ***аднаўленьне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі***.

Менавіта праз цяперашнюю вікаўскую „апазыцыю" праштурхоўваецца фальсіфікатарскі і зьняважлівы для беларусаў тэзіс, што нібыта „суверэнітэт зваліўся беларусам на галаву". (Як быццам не было мужнага і эфэктыўнага змаганьня БНФ і яго дэпутатаў.) Нагадаю, што ў гісторыі Беларусі ХХ-га стагоддзя былі дзьве вызначальныя падзеі для існаваньня нацыі: гэта Акт 25 Сакавіка 1918 года і вяртаньне дзяржаўнай незалежнасьці (на аснове ідэалаў 25 Сакавіка) змагарамі БНФ у 1991 годзе. Гэтая перамога была ўнікальнай „бітвай пад Воршай", пра якую будуць зь вялікай пашанай пісаць і гаварыць дасьледчыкі будучай вольнай нацыянальна адроджанай Беларусі. Цяпер жа мы маем справу з палітыкай непрыяцеляў беларускай нацыянальнай ідэі і з паводзінамі нікчэмных прадажных людзей.

Асобы, якія цяпер замоўчваюць і зьневажаюць нацыянальна-дэмакратычную рэвалюцыю, Фронт і Адраджэньне, тады, у 90-х, таксама не былі прыхільнікамі незалежнасьці і Беларускай ідэі. Вядомая, напрыклад, нізкая роля Д. Булахава ў антызаконнай забароне рэфэрэндума 1992 года аб першых вольных выбарах. Прэзыдэнцкая кампанія Лукашэнкі ў 1994 годзе была пабудаваная на ідэі рэстаўрацыі савецкага мінулага ды зьневажэньні Незалежнасьці і нацыянальных каштоўнасьцяў. Але такія людзі, як А. Лябедзька, Д. Булахаў, В. Ганчар, Л. Сініцын і інш., падтрымлівалі ўсё гэта і былі ў ягонай групе. Пасьля выбараў Лукашэнка назваў Лябедзьку сваім прадстаўніком у Вярхоўным Савеце, і кожны дэпутат ВС 12-га скліканьня памятае, як паслухмяна і аддана Лябедзька выконваў лукашэнкавыя „ініцыятывы" (прасоўваньне закону пра „вертыкаль", блякаваньне прыняцьця закону Аб выбарах па зьмешанай прапарцыйна-мажарытарнай сістэме, стараньні аб зьняцьці забароны на дзейнасьць ВЛКСМ і г.д.).

Ці вось „сьвежы" прыклад – чарговая імітацыя дзейнасьці – так званая „антыядзерная ініцыятыва" экс-дэпутата лукашэнкаўскай „палаты" У. Парфяновіча. „Ініцыятары" робяць выгляд, што не існуе ні нацыянальнай гісторыі, ні гісторыі антыядзернага змаганьня на Беларусі, ні вынікаў змаганьня БНФ супраць пабудовы АЭС. Пры бліжэйшым разглядзе такіх падыходаў заўсёды высьвятляецца, што тут не прафанацыя дылетантаў, а менавіта пазыцыя, пазыцыя непавагі да гістарычнага змаганьня нацыі за сваё народнае існаваньне.

Коратка нагадаю ўжо вядомае. У другой палове 80-х гг. зьявіўся таемны плян камуністычных партыйных структураў аб пабудове атамнай электрастанцыі (тыпу Чарнобыльскай) на тэрыторыі Віцебскай вобласьці. Улады хацелі падрыхтаваць дакумэнтацыю без афішаваньня, каб паставіць насельніцтва перад фактам. Плян гэты ў 1988 годзе выявіў і раскрыў грамадзкасьці Сяргей Навумчык. Ён стварыў ініцыятыўную групу (якая стала суполкай БНФ) і сабраў некалькі дзясяткаў тысячаў подпісаў супраць будаўніцтва АЭС. Зацятае змаганьне ператварылася ў народнае рушэньне і скончылася перамогай фронтаўцаў.

Гэта была (тады, у 1988 г.) адна з першых рэальных перамог актывістаў БНФ і адзіная (!) перамога над плянамі ядзернай мафіі АЭС у тагачасным СССР.

Дадам, што антыядзерная дзейнасьць потым стала складовай часткай вялікай (і эфэктыўнай) фронтаўскай ініцыятывы па раскрыцьці праўды аб наступствах Чарнобыля на Беларусі, якая была засакрэчана ўладамі КПСС. Дарэчы, у 1990 г. па прапанове С. Навумчыка нам (дэпутатам БНФ у Вярхоўным Савеце) удалося ўключыць у Дэклярацыю аб Дзяржаўным суверэнітэце Беларусі і адстаяць тэзіс аб без'ядзернасьці Беларусі.

Чаго вартыя цяперашнія „ініцыятывы" квазі-апазыцыі, не абапертыя на нацыянальныя каардынаты, і чаму яны без каардынатаў – зразумела.

Аснову „кіруемай апазыцыі" складаюць людзі з першапачатковай групы Лукашэнкі, тыя, якія потым дапамагалі яму гробіць усё беларускае, праштурхоўваць рэфэрэндум аб забароне гэрбу „*Пагоня"* ды беларускага нацыянальнага сьцягу, аб „двуязычии" і т.п. Гэта найперш А. Лябедзька, В. Ганчар (зьнік бязь вестак), Д. Булахаў, У. Нісьцюк, А. Фядута, Л. Сініцын, М. Чыгір, М. Марыніч і інш. Ніхто зь іх ня мае маральнага права пасьля ўсяго, што яны натварылі, балятавацца ні на якія выбарныя пасады, а зь некаторымі яшчэ трэба будзе ўвогуле разабрацца наконт іхняга ўкладу ў справу рэжыму „чэснага прэзыдэнта".

Апошні выверт падстаўной „апазыцыі" – знайшлі кандыдатуру на ганчарыка (гэта значыць на прэзыдэнта Беларусі ад групоўкі „пяцёрка плюс"). Ім названы па прапанове былых фронтаўцаў (В. Вячорка) кіраўнік камуністаў С. Калякін. Гэта той самы Калякін з былой райкомаўскай намэнклятуры, які ў 90-х гадах быў старшынёй Савецкага райвыканкама г. Менска і які ярасна супраціўляўся ўрадавай палітыцы незалежнай Беларусі ў адкрыцьці новых беларускамоўных школаў (ужо ня кажам пра яго антыфронтаўскую пазыцыю).

– Народ, відаць, не падтрымае, – сказаў пра гэтага „кандыдата" яшчэ адзін казак палітычнай бязглузьдзіцы (Ю. Хадыка), – а БНФ (гэта ён пра сябе) – падтрымае.

Чакаецца вылучэньне іншых ганчарыкаў.

Сорамна мне, што гэтыя людзі некалі былі побач са мной. Брыдка глядзець на іхную палітычную дэградацыю.

* * *

Цяпер у асяроддзі „апазыцыі" і заходнімі змагарамі за „правы чалавека" без Беларусі шмат гаворыцца пра прысуд М. Марынічу. Сапраўды, прысуд несувымерны, а справа выглядае сфабрыкаванай.

Марыніча я ведаю ўжо 25 гадоў. Ён пакідаў у мяне ўражаньне прыстойнага чалавека, але быў тыповым прадуктам савецкай бюракратычнай сістэмы і ніколі „не выпадаў з абоймы".

Марыніч прымаў удзел у гэбоўскай камбінацыі ў Вярхоўным Савеце (1994 г.) па прызначэньні кіраўніка так званай „камісіі па карупцыі" (гэта пачатак так званага пляну „Лукашэнка"). На кіраўніка камісіі камуністычна-намэнклятурнай большасьцю спачатку быў прапанаваны М. Марыніч. Ён пагадзіўся. Потым, калі ў розыгрыш увялі Лукашэнку, Марыніч раптам выступіў і ўзяў самаадвод (выглядала ўсё штучна), а С. Шушкевіч, улучыўшы момант, вельмі ўмела (проста па-майстэрску) прапанаваў кандыдатуру Лукашэнкі, за якую большасьць тут жа прагаласавала, хіхікаючы, каб потым пацешыцца з дурноты (Лукашэнку ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня ніхто ўсур'ёз не ўспрымаў). Але „потым" – усё склалася зусім ня сьмешна.

Марыніч – адданы намэнклятурны выканаўца, свой сярод сваіх. Лукашэнка зрабіў яго Міністрам па зьнешне-гандлёвых сувязях. Аднак, неўзабаве Лукашэнка западозрыў свайго міністра, і Марыніч апынуўся амбасадарам у Латвіі. Там, пакрыўджаны, ён адчуў уплыў іншых „ребят" і адважыўся на тое, у чым яму адмовілі ў 1994-м (на прэзыдэнцтва). Пачалася гульня ў „апазыцыю". Лукашэнка паставіўся да Марыніча сур'ёзна, і, па звычцы сваёй, засадзіў хаўрусьніка ў камэру.

Цяпер журналісты і іншыя „свае" людзі ўзмоцнена лепяць зь яго чарговую палітычную „цукеру", альтэрнатыву Лукашэнку, змагара з рэжымам, ахвяру „тыраніі" і г.д. Хаця тут – банальная грызьня і „разборка" ў лягеры хаўрусьнікаў. Для Беларусі „што той салдат, што гэты" – адно і тое. Не абходзяць іх ні сьцяг, ні народ, ні нацыя, ні беларуская культура, ні беларуская мова, ні беларуская зямля, ні беларуская незалежнасьць. Гэтыя людзі па звычцы глядзяць на Маскву. Самае рэальнае, на што здольная гэтая катэгорыя старой савецкай намэнклятуры, – гэта на пераразьмеркаваньне беларускай уласнасьці разам з расейскімі фірмамі пад выглядам рынкавых рэформаў беларускай эканомікі.

Так што сядзець, відаць, яшчэ Марынічу ў лукашысцкай турме за нішто, ды адсіджваць. Хіба што мы яго вызвалім, перамогшы навалу.

## АДНОСІНЫ ДА ЭЎРАЗЬВЯЗУ І НАТО

Беларусі варта было б уступіць у НАТО. Але геапалітычная сытуацыя, якая існуе, паказвае, што ў бліжэйшы час мы можам разьлічваць толькі што хіба на праграму „Партнёрства дзеля НАТО". Астатняе будзе шмат у чым залежыць ад нас. Беларусам неабходна будзе ўзмоцнена працаваць дзеля ўступленьня ў Эўра-Атлянтычны Саюз.

Пытаньне з Эўразьвязам мае больш складаныя дачыненьні. І размова ў цэлым тут заўчасная. Спатрэбіцца мінімум 15-20 гадоў, пры ўмове, што за гэты час Беларусь моцна стане на свае нацыянальныя і эканамічныя ногі. На каленях у Эўразьвяз ісьці нельга. Тым больш, што Беларусь шмат у чым ня можа прыняць ідэйна-культурную (ці, дакладней, антыкультурную) бязбожную канцэпцыю Эўразьвязу. Трэба быць гатовым да новай геапалітычнай сытуацыі ў Эўропе праз 20 гадоў. І таму цяпер неабходна будзе вельмі мацаваць нашу нацыянальную дзяржаву, беларускую культуру і беларускую эканоміку. Беларусь павінна стаяць тварам да Эўропы, супрацоўнічаць з суседзямі і краінамі Эўразьвязу – прыхільнікамі Эўропы айчынаў.

## НАЙВАЖНЕЙШЫЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ КАШТОЎНАСЬЦІ НАЦЫІ І ДЗЯРЖАВЫ

Як выразна засьведчыла гісторыя ўтварэньня нацыянальных дзяржаваў краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, якія доўгі час знаходзіліся пад прыгнётам трох імпэрыяў, най-

важнейшай, першаснай і абсалютнай каштоўнасьцю нацыі і дзяржавы зьяўляецца нацыянальная мова. Без абароны мовы, без яе культурнага і дзяржаўнага сцьвярджэньня, нацыя ня можа скансалідавацца. Адпаведна не ствараецца грунт для арганізацыі нацыянальнай дзяржавы і разьвіцьця нацыянальнай культуры; дзяржава ня ў стане ўмацавацца.

Нацыянальная мова – гэта першаснае пытаньне, пасьля вырашэньня якога пачынаюць нармальна „працаваць" усе аспэкты дзяржаўнага жыцьця, ад культуры да эканомікі.

Імпэрыя, асабліва тая, што практыкавала асімілятарскую палітыку, этнацыд і генацыд, найперш старалася ліквідаваць нацыянальную мову. Ідэалёгія і палітыка імпэрыі прыдумвала квазі-ідэалягічнае абгрунтаваньне для забароны і зьнішчэньня чужой мовы, імкнулася масава стварыць перакананых носьбітаў імпэрскай мовы.

Калі імпэрыі ўдавалася ліквідаваць мову народа, тады ягоны этнас гінуў, асобная нацыя не ўзьнікала. Калі народ захоўваў сваю мову – ён разьвіваўся далей, здольны быў стварыць нацыянальную дзяржаву.

Гэтыя простыя ісьціны трэба нагадаць якраз цяпер, прымаючы пад увагу палітыку этнацыду і лінгвацыду, якую праводзіць вось ужо адзінаццаць гадоў прамаскоўскі акупацыйны рэжым на Беларусі.

***Побач з абаронай незалежнасьці, для беларусаў цяпер няма больш важнага жыцьцёвага пытаньня, больш галоўнай задачы нацыянальнага і дзяржаўнага існаваньня, чым пытаньне абароны, зьберажэньня, распаўсюджаньня і дзяржаўнага сцьвярджэньня сваёй беларускай мовы.***

Гэта клопат нумар адзін, без заспакаеньня якога ня будуць вырашаны ніякія іншыя пытаньні беларускага нацыянальнага дзяржаўнага жыцьця (у тым ліку і абароны незалежнасьці).

Становішча з мовай вымагае абавязковай нацыянальнай асьветы. Цяпер пра гэта мусяць рупіцца нацыянальныя арганізацыі, асьветнікі, энтузіясты, усе адказныя і адукаваныя беларусы. Потым (пасьля ліквідацыі антыбеларускага рэжыму) для нармалізацыі становішча вымагаецца асьветніцкая дзяржаўная палітыка.

Другой найважнейшай каштоўнасьцю беларускай нацыі зьяўляецца незалежная беларуская дзяржава. У разьвіцьці і ўмацаваньні беларускай дзяржавы ў цяперашнім часе я прапанаваў бы прытрымлівацца чатырох галоўных прыярытэтаў.

***Першы – гэта абсалютны прыярытэт нацыянальнай адукацыі і навучаньня маладога пакаленьня.*** У сістэму навучаньня мусяць быць выдаткаваныя найбольшыя і прыярытэтныя сродкі. Мы мусім стварыць і забясьпечыць умовы для атрыманьня нацыянальнай адукацыі на вышэйшым узроўні сучасных дасягненьняў цывілізацыі. У высокаадукаваных беларусах – магутная будучыня беларускай дзяржавы.

***Другім беларускім прыярытэтам павінна стаць зямля.*** Неабходна вырашыць пытаньне з уласнасьцю так, каб вярнуць беларускага земляроба на зямлю, зрабіць яго зацікаўленым уласьнікам, прадугледзець узровень рынку і збыту ягонай прадукцыі ў Беларусі, даць стымул да адраджэньня беларускай вёскі.

***Трэцьці прыярытэт – сістэма нацыянальнай эканомікі, абапертая на рынкавыя дачыненьні.*** Арыентацыя на ўкараненьне і разьвіцьцё передавых тэхналёгіяў.

***Чацьвёртым прыярытэтам павінны стаць фундамэнтальная навука і культура.*** Нацыя павінна дбаць пра сваю творчую і вытворчую будучыню і забясьпечыць сабе (сваім грамадзянам) якасна высокі ўзровень існаваньня.

Нарэшце, унівэрсальнай і абсалютнай каштоўнасьцю для беларусаў зьяўляюцца яны самыя, сам беларускі народ. Палітыка беларускай дзяржавы, дачыненьні працы, уласнасьці, адукацыя, ідэалёгія і асьвета павінны спрыяць таму, ***каб беларус навучыўся любіць сябе, любіць сваё, беларускае, лепшае і народнае.*** Дзяржаўныя інстытуты мусяць спрыяць таму, каб умацавалася самапавага і пачуцьцё чалавечай годнасьці беларуса, гонар за прыналежнасьць да сваёй гісторыі, да велічы Літвы і Вялікага Княства, да сваёй здольнай, працавітай і разумнай нацыі.

*6 лютага 2005 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус",– 2005, красавік, № 507)*




***53. Дэманстрацыя ў Нью-Ёрку супраць агрэсіўнай расейскай палітыкі.***

# ІНТЭРВ'Ю СА СТАРШЫНЁЙ КАНСЭРВАТЫЎНА-ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ПАРТЫІ – БНФ ЗЯНОНАМ ПАЗЬНЯКОМ

***Навумчык:*** – „Спадар Зянон, я прапанаваў бы прысьвяціць гутарку тэме беларуска-расейскіх дачыненьняў. Вы сьцьвярджаеце, што Лукашэнка выконвае волю Масквы. Але палітолагі адзначаюць, што ў апошнія год-два Лукашэнка адносна незалежнасьці Беларусі гаворыць літаральна „словамі Пазьняка", ва ўсялякім разе, ён мае пэрманэнтны канфлікт з Масквой, з Пуціным. Ці ня бачыце Вы супярэчнасьці паміж гэтымі назіраньнямі і сваімі словамі?"

***Пазьняк:*** – „Калі яны кажуць, што Лукашэнка гаворыць словамі Пазьняка – дык трэба спытаць, а ці праводзіць ён палітыку Пазьняка? А то гэтыя палітолягі кажуць „А", але ня кажуць „Б". Тое, што Лукашэнка ёсьць стаўленікам Масквы і савецкага КГБ, гэта агульнавядома. Лукашэнка неаднаразова сьведчыў пра гэта сам, у сваіх выступах і інтэрв'ю, дзе ён казаў, што сваім узыходжаньнем ва ўладу ён абавязаны КГБ, а падтрымкай сваёй улады ён абавязаны Расеі і Маскве. Тут ён кажа праўду. Палітыка рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі ёсьць часткай агульнай маскоўскай палітыкі агрэсіі супраць нашай краіны. Канчатковы вынік гэтай палітыкі такі: разбурэньне беларускай культуры, захоп беларускай эканомікі і тэрыторыі.

Тое, што Лукашэнка знаходзіцца нібыта ў канфлікце з Масквой, гэта, практычна, толькі спрыяе маскоўскай палітыцы, таму што гэта зьяўляецца часткай агульнай гэбоўскай тэхналёгіі супраць нашай краіны. Я ўжо ня раз ілюстраваў гэта на прыкладзе так званага „газавага канфлікту". Вынік – дэманстратыўнае падвышэньне камунальных аплатаў за газ, ацяпленьне і электрычнасьць. І – перацягваньне на свой бок некаторых асобаў з асяродзьдзя патрыятычнага электарату. Выдаткі ў выглядзе росту антырасейскіх настрояў пакрываюцца, як лічыць Масква, дасягненьнямі. А мэта такая: генэральным стратэгічным дзеяньнем Масквы ў захопе Беларусі ёсьць увядзеньне расейскага рубля ў Беларусь у якасьці адзіных грошай. Гэтая апэрацыя захопу нашай краіны будзе каштаваць для расейскага банку некалькі мільярдаў даляраў. Каб зьменшыць выдаткі агрэсіі, хаўрусьнікі прыдумляюць канфлікты з Лукашэнкам – за сувэрэнітэт, „мухі-катлеты", „газавыя войны"… У выніку растуць цэны на камунальныя паслугі, плата за кватэру, і гэтак далей. Расея перакладвае выдаткі за агрэсію супраць Беларусі на саміх беларусаў. Вось што стаіць за „сувэрэнітэтчыкам" Лукашэнкам, які раней ня раз заяўляў, што сувэрэнітэт – гэта „ерунда", і які цяпер таксама ведае, што робіць.

Акрамя фальшывага, паказнога канфлікту ёсьць таксама рэальны канфлікт, які разыгрываецца ў канкрэтных асобах. Гэта канфлікт груповак у сістэме гэбізму, гэта грызьня саюзьнікаў за прыярытэты, за прыватныя інтарэсы, за ўладу над Беларусяй. Рэальны лёс беларускай нацыі ім абыякавы, альбо – ненавісны. У крымінальнікаў ўнутраныя разборкі носяць жорсткі характар, заканчваюцца забойствамі. Тое ж самае ў сыстэме гэбізму, паколькі яна зраслася з крыміналам. Прытым у Беларусі „разборшчыкі" (хоць на некаторых часам пячаткі няма дзе паставіць) трапляюць, як правіла, у ролю пакутнікаў апазыцыі…

Тактыка гульні ў сувэрэнітэт правяраецца ўнутранай палітыкай. А яна як была антыбеларускай, так і засталася антыбеларускай. Яна стала яшчэ больш жорсткай. Яшчэ ў 1996 годзе і потым увесь час я пісаў і казаў, што палітыка Лукашэнкі ў Беларусі ёсьць экспэрымэнтальным рэжымам, палігонам для адпрацоўкі сыстэмы ўлады КГБ у Расеі. Пра гэта ж пісаў *Васіль Быкаў*, і іншыя франтаўцы. І цяпер мы бачым, як расейскі гэбізм выкарыстоўвае напрацоўкі зь Беларусі, а Лукашэнка радуецца, думаючы, што гэта ён прыдумаў. Расея ў структуры імпэрыі, у сістэме ўлады гэбізму ня ёсьць і ў прынцыпе ня можа быць дэмакратычнай краінай, а палітычны канфлікт беларускага грамадзтва з рэжымам Лукашэнкі ня ёсьць унутраным канфліктам, бо гэты рэжым ёсьць акупацыйны рэжым, і палітыка Лукашэнкі накіроўваецца Масквой. Таму рэальна гэта ёсьць канфлікт зьнешні. Гэта ёсьць неабвешчаная вайна Беларусі з праімпэрскай Расеяй".

***Навумчык:*** – „Газэта „Наша Ніва" нядаўна напісала, што „пагрозы дзяржаўнасьці больш няма". Ці можаце Вы з гэтым пагадзіцца, і калі не – дык, на Вашу думку, што магло б быць гарантам непарушнасьці незалежнасьці?"

***Пазьняк:*** – „Пагроза страты незалежнасьці Беларусі ня зьнікла, а павялічылася. Перад акцыяй захопу Ўкраіны ў лістападзе мінулага году (маецца на ўвазе выбары прэзыдэнта Ўкраіны) для Масквы паўстала задача: сьцішыцца на Беларусі, каб не спалохаць Украіну. Таму ў мінулым годзе інтэграцыяй у Беларусі быццам бы не займаліся, імпэт прыцішылі. Адразу пачалі паўтараць, што пагрозы незалежнасьці на Беларусі няма. Пасьля таго, як Масква абламала зубы аб украінскі народ, увесь удар яна захоча абрынуць на Беларусь. З пачатку гэтага году агрэсія пачалася. Гэта афёра з ПДВ (падатак на дабаўленую вартасьць). Гэта – сумесная афёра Масквы і яе рэжыму ў Беларусі.

Зазначу, што гэта вельмі сур'ёзная атака, якая робіцца насуперак міжнароднаму праву і якая можа разбурыць увесь беларускі гандаль. Гэтае апэрацыя рыхтавалася Масквой і рэжымам з 2003 году, прынятая яна ў верасьні мінулага году і ўведзеная ў дзеяньне з пачатку 2005 году. Практычная задача гэтай расейскай атакі такая: выціснуць працаздольнае беларускае насельніцтва на рабскую працу ў Расею. А тых, хто застанецца – непрацаздольнае насельніцтва – падштурхнуць да інтэграцыі з Расеяй, як да выхаду зь бядотнага становішча. Нагадаю ізноў: на пачатак лютага гэтага году зь Беларусі выштурхнулі ўжо на рабскую працу ў Расею каля мільёна беларусаў. Гэта больш чвэрці ўсяго працаздольнага насельніцтва Беларусі.

Гарантам Незалежнасьці Беларусі можа стаць толькі сам беларускі народ. І пакуль гэта наш народ не зразумее (а наш народ – гэта мы ўсе, пачынаючы ад бамжа на вуліцы і канчаючы прэм'ер-міністрам ды акадэмікам) – дык вось, пакуль мы ўсе не зразумеем, што мы ёсьць гарантам нашай незалежнасьці, – да гэтага часу мы будзем перажываць цяжкую долю".

***Навумчык:*** – „Калі мы гутарым пра ролю Расеі ў беларускай палітыцы, дык не выпадае не ўзгадаць пра Вашу заяву, зробленую некалькі тыдняў таму на хвалях „Свабоды", што Вы пагаджаецеся з прапановай сваёй партыі балятавацца на прэзыдэнцкіх выбарах. Гэтая заява выклікала розгалас у Беларусі, некаторыя ў той жа „Нашай Ніве" і ў інтэрнэце пісалі, што Пазьняк – рэальная нацыянальная альтэрнатыва, але іншыя – і такіх шмат – адзначаюць, што ў сучаснай Беларусі нельга атрымаць перамогу, выступаючы зь не прарасейскіх пазыцыяў,

ці, калі хочаце, з антырасейскіх пазыцыяў. У Летуве такое магчыма, у Эстоніі такое магчыма, а ў Беларусі – не. Гэта, як кажуць прагматыкі, „real politic"…"

***Пазьняк:*** – „На Беларусі, дзе ўлада захопленая антыбеларускімі сіламі чужой краіны, якой бы ні была сістэма выбараў і фальсыфікацыйная машына, у прэзыдэнцкіх выбарах павінна быць беларуская нацыянальная альтэрнатыва рэжыму. Гэта – абавязкова. Толькі тады ўзьнікае магчымасьць барацьбы і магчымасьць перамогі. Адсутнасьць нацыянальнай альтэрнатывы на выбарах ёсьць параза. Бо выбары будуць праводзіць тады чужыя сілы, і народ змусяць галасаваць за чужых. Гэткую сытуацыю рэжым і ягоная „апазыцыя" стварылі ў 2001 годзе, выставіўшы падстаўную фігуру былога намэнклятуршчыка Ганчарыка. Такую ж сытуацыю яны хочуць стварыць і цяпер.

Дарэчы: ***толькі ў гэтакай сытуацыі (гэта значыць, пры адсутнасьці нацыянальнай альтэрнатывы) магчымы байкот прэзыдэнцкіх выбараў.*** Ня трэба іх блытаць з байкотам выбараў у парлямэнт, тут розныя зьявы і розныя падыходы.

Дык вось, беларуская нацыянальная альтэрнатыва супраць прарасейскага акупацыйнага рэжыму можа быць толькі антырасейскай, накіраванай супраць агрэсіі Расеі на Беларусі. Гаварыць, што ў такім становішчы нацыянальная альтэрнатыва можа быць прарасейскай, альбо не заўважаць агрэсіі – гэта поўны абсурд… Барацьба з агрэсіяй мусіць быць толькі адкрытай, бо толькі такое змаганьне зможа мабілізаваць нацыю. Украіна гэта засьведчыла. Парада не змагацца з Расеяй, калі Расея на нас прэ, – гэта парада неразумная.

Што ж датычыць тэрміну „real politic", дык, як засьведчыў вопыт, гэта ня ёсьць рэальная палітыка, а толькі эўфэмізм прагматычных, подлых, беспрынцыпных і нікчэмных паводзінаў у палітыцы, прыдуманы заходнімі лібэраламі".

***Навумчык:*** – „Днямі (15 лютага г.г.) газэта „Народная воля" надрукавала ліст свайго чытача Станіслава Кунцэвіча, там ён даволі рэзка крытыкуе лідэраў розных апазыцыйных плыняў. У тым ліку піша і пра Вас. Сутнасьць крытыкі ў тым, што Вы заклікалі байкатаваць леташнія выбары ў Палату прадстаўнікоў, спасылаючыся на недасканаласьць Выбарчага кодэксу, на фармаваньне выбарчых камісіяў без удзелу партый, на непразрыстасьць падліку галасоў – а цяпер заявілі пра свой удзел у прэзыдэнцкіх выбарах: „Калісьці Вы казалі, што службы рэжыму палююць на Вас, каб фізычна зьнішчыць. Цяпер Вы, падобна, самі ідзяце на палітычнае самазабойства". Гэта чакае і ўсіх астатніх прэтэндэнтаў, лічыць аўтар ліста і прапануе прымусіць уладу сесьці за стол перамоваў, каб зьмяніць Выбарчы кодэкс і стварыць умовы для дэмакратычных выбараў. Што б Вы адказалі на такую крытыку і на такую прапанову?"

***Пазьняк:*** – „Гэта тыповыя разважаньні людзей, якія ў палітыцы ня ўдзельнічаюць, але ёй цікавяцца. І гэта вынікае зь неразуменьня, што яны не жывуць у дэмакратычнай краіне, што тут дзейнічаюць зусім іншыя правілы палітычнага змаганьня, гэта першае. Другое – яны не разумеюць, што канфлікт грамадзтва з Лукашэнкам – гэта ня ёсьць канфлікт унутраны, я ўжо пра гэта казаў, а гэта ёсьць вайна з расейскім імпэрыялізмам, гэта зьнешні канфлікт, і тут зусім іншыя прыярытэты, зусім іншыя падыходы. У гэты ўнутраны канфлікт нас і штурхаюць розныя заходнія інтэрасанты, якія маюць агульныя інтарэсы з Расеяй.

Я ўжо казаў, што прэзыдэнцкія выбары на Беларусі ў 2006 годзе будуць копіяй незаконнага рэфэрэндуму 17 кастрычніка. Так яно станецца, калі народ ня выступіць у сваю абарону. У гэтых выбарах, думаю, трэба ўдзельнічаць у якасьці кандыдата, з пазыцыі абароны нацыі, дзяржавы і нацыянальнага грамадзтва ад вынішчэньня, спадзяючыся на мабілізацыю людзей на барацьбу. Тады гэта можа стацца адкрытая барацьба двух розных сіл, двух розных сьветапоглядаў, двух розных арыентацый. У такой барацьбе (якая канцэнтруецца на двух супроцьстаячых асобах) заўсёды ёсьць шанцы; гэтыя шанцы могуць перарасьці у іншую барацьбу і фальсыфікацыйная машына тут можа аказацца бясьсільнай, і ўвогуле ні пры чым. Я не зьбіраюся гуляць па правілах рэжыму, як падстаўная „апазыцыя". Ёсьць плян, які, калі будзе магчымасьць яго ажыцьцявіць, перакуліць існуючыя стэрэатыпы. Калі няма нацыянальнай альтэрнатывы,



***54. Сустрэча ў Нью-Ёрку ў 2005 г. Сяргей Навумчык, Галіна Пазьняк, Галіна Навумчык і Ганна Сяргееўна Навумчык, Зянон Пазьняк.***

то няма і змаганьня – няма і шанцаў… Ня трэба блытаць гэта з выбарамі ў парлямант. Яны не канцэнтруюць нацыю на адзіным альтэрнатыўнам рашэньні. ***У прэзыдэнцкіх выбарах якраз толькі тады, калі няма нацыянальнай альтэрнатывы, толькі тады магчымы байкот.*** Прэзыдэнцкія выбары ствараюць агульнае напружаньне ў грамадзтве, здольныя стварыць нават рэвалюцыйную сытуацыю.

Цяпер пра так званы „круглы стол", пра які хтосьці пастаянна кажа. Антаганістычныя сілы сядаюць за круглы стол палітычных перамоваў толькі тады, калі ў іх зьяўляецца пэўная раўнавага сілаў і становішча тупіку. Тады ў іх зьяўляецца вымушаны агульны інтарэс. Нічога падобнага ў рэжымным калгасе Лукашэнкі не існуе. Таму ўсе гаворкі пра „круглы стол" – пустое.

І ў завяршэньне скажу наступнае. Змагаючыся з прамаскоўскім рэжымам Лукашэнкі і з агрэсіяй Масквы, беларусы ніколі не перамогуць „з-за вугла", „дуляй у кішэні". Хочам перамагчы – выходзім на рынг".

*17 лютага 2005 г.*

***Інтэрв'ю: С.Навумчык, радыё Свабода***

# ІДЭАЛЫ БНР У КАНТЭКСЬЦЕ ЧАСУ

***(Моўная палітыка, „непрадрашэнства")***

Мы кажам пра ідэалы Сакавіка як пра вяршыню ўсьведамленьня нацыянальных інтарэсаў, сфармуляваных у дакумантах, дэклярацыях і дзеяньнях. Забесьпячэньне гэтых інтарэсаў ёсьць аб'ектыўнай вымогай нацыі. Ад іх нельга адмовіцца ці падмяніць нечым іншым.

Успамінаньне пра адмену і падмену тут ня ёсьць выпадковым для тых нацыяў, якія змагаюцца з палітыкай імпэрыі і з імпэрскай ідэялёгіяй. Бо падмена каштоўнасьцяў ёсьць адзін з асноўных мэтадаў імпэрскай палітыкі супраць свабоды народаў.

Беларуская Народная Рэспубліка ўтварылася ў барацьбе з Расейскай імпэрыяй. Галоўнымі каштоўнасьцямі, якія сьцьвердзіла БНР, – гэта дзяржаўная незалежнасьць Беларусі, вольнае нацыянальнае разьвіцьцё Беларусі і грамадзянская свабода людзей Беларусі (роўнасьць перад законам).

Расейская палітыка ў дачыненьні да Беларусі за апошнія сто гадоў, практычна, не перамянілася ні ў чым. Пагроза незалежнасьці Беларусі і пагроза існаваньню беларускай нацыі з боку Расеі ня зьменшала, а толькі павялічылася. Адсюль вынікае бясспрэчнае меркаваньне, што людзі, якія займаюцца палітыкай у Беларусі і якія ў той ці іншай ступені шукаюць падтрымкі і разуменьня ў Маскве, гэтыя асобы ідуць у разрэз зь беларускімі інтарэсамі і прынцыпамі БНР і, як правіла, дзейнічаюць насуперак ім.

У змаганьні зь беларускай незалежнасьцю на працягу апошняга стагоддзя Расея старалася выкарыстаць два этапы. Першы – гэта стварэньне свайго ўплыву і прысутнасьці ва ўладзе на Беларусі. Другі этап – гэта падрыхтоўка інкарпарацыі Беларусі ў Расею, якая дэкляравалася як „аб'яднаньне" Беларусі з Расеяй. Наступны этап – анэксія ці паглынаньне, мусіў быць ужо вынікам першых двух этапаў. Гэтак адбывалася інкарпарацыя беларускіх тэрыторыяў у 1910-х – 1920-х гадах. Гэтакая ж палітыка праводзіцца і цяпер.

У гэтай сувязі пытаньне абароны незалежнасьці Беларусі, нягледзячы на існаваньне незалежнай Беларускай дзяржавы, паўстае вельмі востра, а значыцца, павялічваецца і значэньне гістарычнага асэнсаваньня ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі, якая выступае цяпер як ідэйны чыньнік незалежнасьці Беларускай дзяржавы.

Пытаньнем нумар адзін нацыянальнага змаганьня за незалежнасьць і свабоду і нацыянальнае самасьцьвярджэньне было і ёсьць пытаньне легальнага прызнаньня і дзяржаўнага ўкараненьня нацыянальнай мовы.

Статус нацыянальнай мовы гэта ёсьць пытаньне абсалютнага і найважнейшага значэньня ў нацыянальных рухах Эўропы. Гэта адназначна пацьвердзіла гісторыя больш чым двух стагоддзяў нацыянальнага змаганьня за свабоду (пачынаючы з канца 18-га стагоддзя).

Важнейшым этапам гэтай барацьбы была гэтак званая „вясна народаў" – змаганьне за нацыянальную незалежнасьць паняволеных народаў супраць чатырох імпэрыяў (Расейскай, Отаманскай, Прускай і Аўстрыйскай).

Мы, беларусы, улучаныя ў антыімпэрскую барацьбу, і заканамернасьці гэтага змаганьня адчуваем па сёньняшні дзень. Бо з чатырох імпэрыяў захавалася ўжо толькі адна – Расейская. Таму для нас, украінцаў, чачэнцаў і іншых народаў, што былі паняволеныя Расеяй, барацьба яшчэ не спынілася.

У пэрыяд нацыянальнага змаганьня і асьветніцтва сьцьвярджэньню афіцыйнага статуса нацыянальнай мовы было падпарадкаванае ўсё нацыянальнае мастацтва, літаратура і тэатр. Гэта пацьверджана дэклярацыямі літаратурных, мастацкіх і асабліва тэатральных дзеячоў, бо тэатр (па трапнаму вызначэньню рускага нацыянальнага драматурга Астроўскага) гэта ёсьць вобраз, адлюстраваньне нацыі („Театр – это нация").

Заснавальнік венгерскага прафэсійнага тэатра Ота Келеман яшчэ ў канцы 18-га стагоддзя цьвердзіў, што асноўная задачай тэатра і творчасьці ягонай трупы – гэта ўкараненьне і прапаганда венгерскай мовы (венгерскія вярхі грамадзтва былі тады анямечаныя).

Асьветніцтва пэрыяду „вясны народаў" вызначала тады ідэалёгію нацыі і ідэалёгію нацыянальнага змаганьня і невыпадкова наперад усяго ставіла нацыянальную мову.

Нацыянальныя асьветнікі і змагары народаў разумелі, што мова ёсьць адначасна грунт (аснова) і сродак нацыянальнай культуры. А значыць, і дэмакратычнай нацыянальнай дзяржавы.

Гэта вынікае з таго, што мова ёсьць ня толькі вынікам нацыянальнага разьвіцьця, але і галоўным сродкам гэтага разьвіцьця. Без нацыянальнай мовы нацыя і нацыянальная культура не разьвіваюцца (не ствараюцца, таксама, нацыянальная літаратура і тэатр, і г.д.).

З усіх імпэрыяў-прыгнятальнікаў самую ненавісную і самую разбуральную пазыцыю ў дачыненьні да нацыянальных моваў мела (і мае па сёньняшні дзень) Расея. Беларусь датклíва адчула на сабе вынікі гэтай палітыкі ў 19-м стагоддзі і асабліва за камуністамі ў савецкі час. Цяперашняя ўнутраная акупацыя Беларусі расейскім гэбізмам найбольш выяўляецца якраз у сфэры моўнай русіфікацыі, зачыненьні беларускіх школаў, выгнаньня беларускай мовы з афіцыйнага і грамадзкага ўжытку, стварэньні атмасфэры нецярпімасьці да носьбітаў беларускай мовы і г.д.

Антымоўная палітыка расейскага імпэрыялізму выраблена распрацаваная. Акрамя непасрэдных забараняльных і зьнішчальных дзеяньняў маскоўскі рэжым выкарыстоўвае антымоўную прапаганду, прыдумвае на яе аснове антымоўныя канцэпцыі нібыта „разьвіцьця" Беларусі, займаецца падтасоўкай гістарычных фактаў, прапаноўваючы абсурдныя схемы, якія выключаюць з ужытку і культуры беларускую мову.

Гэтакія прыёмы і ідэялягічныя схемы былі прыдуманыя яшчэ функцыянэрамі „заходнерусізму" (у асноўным агентамі рускіх спэцслужбаў), якія нібыта выступалі „за Белоруссию", „но без белорусского языка". Абапіралася такая прапаганда звычайна на дэнацыяналізаваныя групы насельніцтва.

Пры цяперашнім рэжыме на Беларусі такія схемы паўтараюцца і мадыфікуюцца. Напрыклад, пасьля таго, як спэцслужбамі была створаная так званая „аб'яднаная апазыцыя", то заканамерна, што яна стала езьдзіць у Маскву набірацца маскоўскага „розуму". Заканамерна і тое, што яна перайшла на рускую мову (гэта, дарэчы, насаджаў і падтрымліваў галоўны стваральнік гэтае „апазыцыі" Ганс Георг Вік).

Цяпер антымоўная палітыка разьвіваецца наступным чынам. Прыдумалі „русскоязычные формы протеста". (Тут ужо тыповы „заходнерусізм"). Маўляў, „мы за Белоруссию, ребята, и за белорусский язык, но чтоб понятно было, надо по-русски".

Русіфікацыя Беларусі (і ня толькі Беларусі) праводзіцца зусім не для таго, „чтоб понятно было" (ім усё і так „панятна"), а для таго, каб паралізаваць беларускае супраціўленьне і культуру і ліквідаваць беларусаў як жыцьцяздольную нацыю, а потым забраць іхную зямлю разам зь імі і зь іхнымі патрахамі. (З „патрахамі", бо душа ўжо будзе мёртвай).

Тыя, хто праектуюць „русскоязычные формы протеста", выдатна ўсё гэта разумеюць. У той час, як дэнацыяналізаваны беларус (часта нават з унівэрсітэцкім дыплёмам) не разумее нічога. У гэтым ёсьць галоўная цяжкасьць нацыянальна-дэмакратычнага змаганьня на Беларусі і з гэтай прычыны вынікае слабасьць беларускай дэмакратыі.

Сакавік і Рада БНР наглядна паказалі, што беларуская дэмакратыя ў Беларусі можа быць абапертая толькі на нацыянальную ідэю (а дакладней – на ідэалы БНР). Усё астатняе „аб'яднанае", „русскоязычное", „эўрацэнтрычнае" і т.п. – усё гэта сурагаты, распрацаваныя, як паказвае вопыт, у адпаведным ведамстве Расейскай імпэрыі з мэтай завесьці беларускі нацыянальна-дэмакратычны працэс у сьляпы завулак, дыскрэдытаваць, зьнішчыць і ліквідаваць. Не было яшчэ выпадку, каб тыя, хто насаджае расейскую мову, адначасна змагаліся і супраць русіфікацыі.

Пытаньне нацыянальнага існаваньня нацыянальнай мовы не зьяўляецца дыскусійным пытаньнем. Пра існаваньне нацыянальнай мовы ня дыскутуюць. Яе сьцьвярджаюць, зьберагаюць, абараняюць, разьвіваюць і г.д., але пра яе існасьць ды неабходнасьць не спрачаюцца. Гэта толькі імпэрыялісты хочуць навязаць спрэчку пра забароненую ці прыгнечаную імі мову, бо гэта ёсьць мэтад прыгнёту.

Мова валодае асобым статусам у культуры. Яна належыць усяму народу як фэномэну гісторыі, які мову стварыў. Усе пакаленьні валодаюць і карыстаюцца мовай, але ніхто (ніякае народнае пакаленьне) не распараджаецца яе існаваньнем, ня мае права ні яе ўмаліць, ні ліквідаваць. І гэта адлюстравана ў праве, у тым ліку і ў беларускім (да 1996 г.).

Мова – аб'ектыўны фэномэн культуры, які набывае метафізічную сутнасьць. Мова аб'ектыўна неабходная для разьвіцьця культуры і нацыянальнага існаваньня, і таму ўсе дзеяньні па яе падтрыманьні ёсьць правамоцныя, незалежна ад думкі і паводзінаў пакаленьня. І ў той жа час усе захады па яе псаваньню, нават з боку бальшыні пакаленьня (калі б такое магло здарыцца), былі б злачынствам, супярэчылі б натуральнаму і канвэнцыйнаму (юрыдычнаму) праву.

Нацыянальная мова гэтакі ж падобны фэномэн, як жыцьцё. Ніхто не дыскутуе, трэба жыць ці ня трэба. Пытаньне стаіць толькі пра захаваньне і забесьпячэньне жыцьця.

Усё гэта я адзначаю толькі дзеля таго, каб паказаць падступнасьць і заведамую фальшывасьць расейскай антымоўнай прапаганды, разьлічанай на нацыянальна адсталыя групы грамадзтва.

Там, дзе гавораць па-расейску „за Белоруссию", ды яшчэ і просяць „ради Белоруссии" „не выпячивать белорусский язык", ці там, дзе пікетуюць па-расейску „за демократию" і за „лучшую жизнь" і г.д., там (вопыт ужо паказаў) няма ні беларускай праўды, ні галавы, ні сэрца. У лепшым выпадку, гэта пустацвет на целе змучанай нацыі, у горшым – пустазельле, атрутны блёкат, чартапалох, якім зарастае наш шлях у сьветлую народную прышласьць.

Каб дапамагчы сабе і сваёй краіне, ***беларусам трэба трымацца ясных і простых правілаў – усюды гаварыць па-беларуску.*** Гэта будзе перамога, якую ніхто ня зможа ад беларусаў адабраць. І дасягаецца яна лёгка – жаданьнем і вынікам волі.

Можна прапанаваць кодэкс моўных паводзінаў кожнага беларуса. Такія пісаныя і няпісаныя кодэксы былі распрацаваныя ў іншых народаў, напрыклад, у чэхаў, палякаў, летувісаў, эстонцаў і іншых і датычылі асобы, сям'і, выхаваньня дзяцей, школы, грамадзкіх паводзінаў і г.д. ***Там, дзе зьбіраюцца беларусы – ці гэта на Бацькаўшчыне, ці на чужыне – усюды павінна гучэць беларуская мова.***

Гэта мусіць стаць няпісаным правілам, бо пачынаць трэба з сябе, а потым патрабаваць ад іншых. Ёсьць моцны мэханізм адраджэньня, які ў цяжкіх варунках выкарысталі іншыя народы і які, як ні дзіўна, не ўключаецца ў Беларусі, хаця становішча тут даўно і настойліва таго вымагае.

Ідэёвым і практычным апірышчам у гэтай справе ёсьць дакуманты, дэклярацыі і практычная дзейнасьць Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

У сувязі з гэтым трэба адзначыць другі тыповы момант палітыкі, які раней знайшоў практычнае вырашэньне ў дзейнасьці Рады БНР.

Гэта блакіроўка прыёму так званага „непрадрашэнства". Непрадрашэнства – характэрная пазыцыя для тактычных паводзінаў расейцаў у дачыненьні з вымушанымі саюзьнікамі ў палітыцы. У часы халоднай вайны яны фармулявалі на эміграцыі гэты тэзіс так: давайце ўсе – беларусы, украінцы, рускія, грузіны і г.д. – аб'яднаемся супраць саветаў і будзем супольна змагацца, нічога не вырашаючы (не предрешая) наперад. А потым, як звалім бальшавізм, тады ўжо будзем разьбірацца між сабою, хто якой свабоды хоча.

Па свайму нахабству гэты тэзіс проста шулерскі. Расейскія шавіністы хацелі скарыстаць паняволеныя народы для аднаўленьня сваёй нэабальшавіцкай імпэрыі. Бо вагавыя катэгорыі Расеі і паняволеных народаў былі несуадносныя і зразумела, як пасьля скіданьня бальшавікоў разгортвалася б ужо тое „предрешенство". Яшчэ ці ня сталася б горай для паняволеных краінаў.

Паколькі расейцаў тады падтрымлівала Амэрыка, то БНР, якая не прымала тэзісу „непрадрашэнства", стварыла сваю падстаўную арганізацыю, якую накіравала для кантактаў з „непрадрашэнцамі", а сама засталася збоку.

Цяпер мы бачым у Беларусі зноў падобную гульню. Вікаўскую апазыцыю (з прычыны яе недзеяздольнасьці) паступова пакінулі ў баку і стварылі групоўку „пяцёрка плюс", куды ўвайшлі камуністы, прарасейская АГП, прагматыкі з БНФ і яшчэ пару групаў. Пасьля паездак у Маскву ды запросінаў у Брусэль гэтая групоўка пачала гаварыць: давайце ўсе аб'яднаемся – камуністы, сацыялісты, БНФ, – звалім Лукашэнку, а потым ужо будзем між сабой разьбірацца ды змагацца.

Гэтыя людзі, як нібы тыя рускія „прадрашэнцы", робяць выгляд, быццам ня ведаюць, што за Лукашэнкам стаіць Масква, і прапануюць змагацца не з маскоўскай агрэсіяй, а са стаўленьнікам Масквы, не „предрешая" таго, а што ж будзе потым.

Што будзе потым, лёгка ўявіць. Масква, застаўшыся на палітычным полі Беларусі, працягне сваю агрэсію і сваю інтрыгу на іншым узроўні. (Халуям, дарэчы, і дзякуй ня кажа. Не ў маскоўскіх звычках).

Такім чынам, і дэклярацыі Рады БНР, і яе гістарычная практыка палітычных дачыненьняў дае нам матэр'ял для параўнаньня

і аналізу і для практычных высноваў у нашай беларускай адраджэнскай палітыцы.

Дзейнасьць Рады БНР – гэта станоўчая зьява ў нашым палітычным жыцьці. Абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі 25 Сакавіка 1918 г. адчыніла новую эпоху ў беларускай гісторыі – эпоху нацыянальнага змаганьня за Беларусь і культурнае адраджэньне беларускай нацыі.

Мы ўшаноўваем гэтае сьвята і будзем шанаваць заўсёды з усёй павагай і ўдзячнасьцю беларускім змагарам, якія 87 гадоў таму павярнулі кола новай беларускай гісторыі.

*25 сакавіка 2005 г., Нью Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус”,– 2005, красавік, № 507).*

# РЭВАЛЮЦЫЯ МУСІЦЬ БЫЦЬ БЕЛАРУСКАЙ

***(Выступ на красавіцкім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Скарочана)***

...Нам выпала жыць у вельмі цяжкі час чалавечай гісторыі, калі зьнікае, падае культура і знутры бэсьціцца, разбураецца хрысьціянскі чалавек, перайначваецца ягоная душа, зьнікае ідэальная сутнасьць. Гэтакую зьяву Эўропа перажывала 400-500 гадоў таму. Але тады рэлігійнае грамадзтва знайшло сілы ўнутры сябе і перамагло заразу духоўнага разбурэньня. У цяперашняй бязбожнай Эўропе такіх сілаў ужо амаль не засталося. Рэлігія, культура, мастацтва, маральнасьць у гэтым сьвеце ўвогуле перастаюць быць каштоўнасьцямі і замяняюцца сурагатам.

У гэтых умовах нам, беларусам, робіцца асабліва складана, бо нашая нацыянальная кансалідацыя была штучна стрыманая стагоддзем расейска-бальшавіцкай акупацыі, а нацыянальная культура адчувальна разбурана акупантамі. Наша неабходнасьць культурна адрадзіць краіну і нацыянальна скансалідаваць грамадзтва спатыкае пасыўную (Эўропа) і агрэсіўную (Расея) варожасьць сучаснага сьвету. Для нас, беларусаў, гэта стала праблемай найперш з прычыны нацыянальнай пасыўнасьці бальшыні нашага цяперашняга грамадзтва.

На антынацыянальнай пазыцыі лібэралы Захаду і імпэрыялісты Расеі знаходзяць супольныя інтарэсы. Мы гэта разумеем і павінны даносіць інфармацыю да іншых. Але змаганьне на два франты вымагае разумнай тактыкі.

На сёньняшні дзень расейскі імпэрыялізм і цяперашні акупацыйны рэжым на Беларусі зьяўляюцца нашымі галоўнымі ***палітычнымі*** ворагамі. Заходні лібэралізм ёсьць яшчэ ўасноўным ***ідэялягічным*** непрыяцелем. У нашым беларускім цяперашнім змаганьні мы павінны гэта мець на ўвазе і правільна будаваць сваю тактыку барацьбы, улічваючы галоўнае, першачарговае і наступнае, апэратыўнае і пазыцыйнае.

Наконт Эўрапалітыкі ў дачыненьні да Беларусі мы не павінны мець ілюзіяў, але ня мусім нажываць сабе актыўных ворагаў. Так ці інакш, Эўропа ёсьць і павінна быць нашым саюзьнікам, і разам з разумнай Эўропай мы павінны будзем змагацца зь лібэральным вычварэнствам у ідэялёгіі і палітыцы.

Першасная небясьпека для нас заўсёды была і застаецца з Расеі.

Будучы яшчэ ў Варшаве і спатыкаючыся з калегамі, я казаў пра неабходнасьць падрыхтоўкі людзей, якія будуць працаваць на падтрымку беларускай альтэрнатывы ў выбарах прэзыдэнта. Гаварылася пра канкрэтныя формы працы. Гэтую працу трэба актывізаваць, бо запаснога часу ўжо не засталося. Важна ня страціць час цяперашні. Мы ўжо маем вопыт і таму трэба рабіць па правілах і неабходнасьці.

Чуючы выказваньні заангажаванай публікі (так званай „апазыцыі”) бачыш характэрную карціну: ніхто зь іх ня верыць у перамогу, у посьпех справы, за якую яны нібыта бяруцца; ніхто зь іх ня любіць наш народ і больш таго – схільныя менавіта яго абвінавачваць ва ўсіх бедах. Сымптаматычна, што ўсе яны пагаджаюцца, што Лукашэнка будзе ўдзельнічаць у выбарах. Зразумела, што (як і ў афёры мінулагодняга незаконнага рэфэрэндуму) гэтая група будзе выконваць сваю ролю сьлепа і не задумваючыся.

Зразумела таксама, што паступова яе роля будзе ськіравана толькі на перашкоду нам і зацямненьне становішча. Зараз Масква зразумела палітычную слабасьць Рады БНР і стараецца яе „аблапошыць”, уцягнуць не ў сваю справу, больш таго – у падтрымку сваёй „апазыцыі”. Для вікаўскай „апазыцыі” гэта, вядома, было б, як мёртваму прыпаркі, але для беларускага Адраджэньня ідэйная кампрамэтацыя Рады БНР сталася б даволі ганебным ударам.

Актывізацыя Масквы па зьнішчэньні цэнтраў беларускай палітычнай эміграцыі, па разбурэньні беларускай аўтакефальнай царквы і па стварэньні сваіх агентурна кіруемых эміграцыйных арганізацыяў дасягнула цяпер размаху большага, чым за часы халоднай вайны і вядзецца амаль адкрыта, як у Амэрыцы, гэтак і ў Эўропе...

Паважаныя калегі, цяпер, калі набліжаецца пара выбараў прэзыдэнта, мы павінны паставіць адно пытаньне: публічна прапанаваць Лукашэнку адмовіцца ад незаконнага ўздзелу ў чарговых выбарах прэзыдэнта. Гэтая прапанова мусіць быць. Нельга пагаджацца на ўдзел Лукашэнкі ў выбарах. Ён ня мае такога права. Трэба сьведчыць пра гэта. Такое сьведчаньне неабходнае. (Прапанову можна аформіць трыма радкамі ці адным абзацам)...

Паважаныя сябры, пасьля „рэвалюцыйных” падзеяў у Кіргізіі цяпер шмат дзе людзі абыякавыя і неабыякавыя задаюць пытаньне: „А хто наступны?” Але гэта маскоўская афёра. Мы яшчэ ўбачым яе плады. Памятайма простую праўду – як хлеб, як вада. Калі „наступнай” стане Беларусь бяз мовы, бяз Сьцягу, без Адраджэньня, то гэта будзе супраць Беларусі і супраць Адраджэньня. Беларуская рэвалюцыя мусіць быць толькі беларускай.

*10 красавіка 2005 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

# ДВОХ У АДНОЙ ЛОДЦЫ

За апошнія месяцы ў палітычным жыцьці на ўсходзе Эўропы пачалася актывізацыя пэўных працэсаў, якія вымагаюць камэнтару.

Восеньню мінулага году адбылося некалькі падзеяў, якія пахіснулі становішча Пуціна на вяршыні расейскай улады. Першая падзея – гэта правал крывавай гэбоўскай правакацыі ў Беслане. Бадай што ўпершыню на Захадзе тыя, што здольныя бачыць, убачылі, наколькі ж крывавы і жудасны ёсьць існуючы ў Расеі рэжым. Здаецца, ужо тады ў асяроддзі ценявой улады Расеі мільганулі думкі пра замену Пуціна. Магчыма, Пуцін гэта адчуў і спадзяваўся адыграцца на Ўкраіне. Але тут адбыўся поўны палітычны разгром расейскай палітыкі. І Пуцін зразумеў (гэта відаць), што трэба ратавацца.

Тут я зраблю, аднак, дэгрэсію, каб нагадаць, што такое Пуцін.

Гэта нікому невядомая раней асоба ўзьнікла як бы зь „ніадкуль" і за вельмі кароткі час стала прэзыдэнтам імпэрскай дзяржавы. У палітыцы такія „казачкі" з палітычнага небыцьця зьяўляюцца *толькі* тады, калі іх рухае вельмі моцная ўладная калектыўная сіла дзеля выкарыстаньня (ці ўмацаваньня) сваіх пазыцыяў ва ўладзе. Самы па сабе (гэта значыць – натуральна) такія зьявы ў палітыцы, практычна, не існуюць.

Ельцын, якога ў 1991 годзе (ў час гэбоўскага путчу), і асабліва ў 1993 годзе (у час так званага „хасбулатаўскага рэваншызму"), падтрымалі палкоўнікі КГБ, трапіў пад поўны кантроль службаў бясьпекі. На працягу наступных шасьці гадоў ельцыншчыны савецкі КГБ структураваўся, падабраў пад сябе ключавыя пазыцыі жыцьцёва важных сфэраў Расеі (асабліва ва ўладзе) і ў 1999 годзе прапанаваў свайго неведамага грамадзтву стаўленьніка (Пуціна) на прэм'ер-міністра ураду. Задача яго была – зноў пачаць вайну ў Чачэніі. Усё гэта ён зрабіў, і ў самым канцы 1999 года КГБ змусіў Ельцына адмовіцца ад пасады прэзыдэнта. Дарога для абсалютнай улады гэбізму ў Расеі была адчынена. Праз некалькі месяцаў Пуціна робяць прэзыдэнтам. Цяпер уся яўная і тайная дзяржаўная машына Расеі рабіла і працавала на ягоны імідж. (Пакідаю без разгляду, хто стаіць у цяні, за плячыма Пуціна. Я пра гэта ўжо пісаў.)

І вось „стаўка" на Пуціна пачала даваць збоі.

З гэтага часу Пуцін і найбліжэйшая група, што склалася вакол яго, пачалі ратавацца. Яны адчулі, што могуць пайсьці з улады гэтак жа, як і прыйшлі, саступіўшы дарогу сьвежым людзям з КГБ. Трэба ведаць Расею, каб гэта разумець.

Задача ўтрымацца для Пуціна і яго групоўкі – гэта задача ўтрымаць Беларусь у сфэры свайго ўплыву. Рэвалюцыя ў Беларусі ў бліжэйшым часе абазначала б крах пуціншчыны ў Расеі і перамены ў крамлёўскай уладзе.

Ужо 25 студзеня гэтага года старшыня Дзяржаўнай Думы Расеі прафэсійны гэбіст генэрал-маёр Барыс Грызлоў падчас ягонай сустрэчы з дэлегацыяй лукашэнкаўскай „палаткі", якая прыехала ў Маскву на чале са старшынёй „палаты" У. Канаплёвым (калегам Грызлова па „фаху") заявіў, што „Расея і Беларусь прымуць канстытуцыйны акт і падпішуць саюзную дамову ўжо сёлета".

Тут жа ў студзені група „дэпутатаў" так званага „парляманцкага сходу" Беларусі і Расеі зьвярнулася да Пуціна і Лукашэнкі з просьбай правесьці іхную асабістую сустрэчу як мага раней, каб ведаць арыентыры, як далей распрацоўваць справу з „канстытуцыйным актам". Крэмль яшчэ больш умацаваўся ў гатовасьці трымацца за Лукашэнку.

На сытуацыю пачаў рэагаваць Эўрапарлямант. 10 сакавіка ён ухваліў рэзалюцыю па Беларусі, дзе ўпершыню назваў лукашэнкаўскі рэжым дыктатурай.

18 сакавіка, выступаючы перад удзельнікамі нарады міністраў замежных справаў краінаў так званага СНД, Лукашэнка крытыкуе азначэньне Эўрапарляманту аб дыктатуры і заяўляе, што Беларусь ніколі не адчувала такой, як зараз, падтрымкі з боку Расеі за ўсю гісторыю адносінаў. „Мы ніколі не адыйдзем ад той палітыкі, якой прытрымліваемся ўжо 10 гадоў", – сказаў ён. Тут жа кіраўнік МЗС Расеі С. Лаўроў паведаміў, што Пуцін разьлічвае на хуткую сустрэчу з Лукашэнкам.

Праз два тыдні (у пачатку красавіка) яны ўжо спаткаліся ў Сочы. Пуцін быў ласкавы і патульны. Відаць, нечакана для сябе, абодва стаўленьнікі апынуліся як бы ў адной лодцы. Кожны хоча ўратавацца за кошт другога і прапаноўвае весляваць разам.

13 красавіка ў „Москоў-Таймс" зьявіўся артыкул нейкага Паўла Фельгенгаўэра, які зь відам адкрывальніка сакрэтаў (Палішынэля) знайшоў сякеру пад лавай і напісаў, што Пуцін і Лукашэнка дамовіліся ў Сочы аб аб'яднаньні Расеі і Беларусі ў адну дзяржаву і хочуць праз год правесьці рэфэрэндум.

Усё гэта вядома даўно і без падстаўных рупараў „Москоў-Таймс". Яшчэ з часоў Ельцына точыцца гэтая генэральная стратэгія расейскага гэбэ адносна Беларусі. Стаўленьнікі згодны аб'яднаць хоць Беларусь з Расеяй, хоць Зямлю з Марсам. Усё пытаньне толькі ў тым, хто будзе галоўным, хто стане кіраваць гэтым „Зямлямарсам". Як толькі яны дамовяцца – авантура з аб'яднаньнем гарантаваная. Аднак, няма яшчэ гарантыі, што яна ўдасца. Бо як бы яны ні перакуліліся разам.

Тым ня менш імпэрскі авантурызм зноў набірае абароты. Стаўка робіцца на зьнішчэньне беларускіх грошай і ўвядзеньне расейскіх і на навязваньне так званага „канстытуцыйнага акту". Агентура (асабліва ў журналістыцы) зноў пускае дымавыя заслоны, маўляў, не зважайце, усё гэта несур'ёзна, нічога ня будзе, гэта толькі гаворкі, „піярныя формулы" і г. д.

22 красавіка Лукашэнка і Пуцін зноў спатыкаліся ў Маскве, падпісалі дакумант аб забесьпячэньні „роўных" правоў грамадзянаў абедзьвюх краінаў (з прыцэлам на рэфэрэндумную авантуру), пасьля чаго Лукашэнка ў чарговы раз паведаміў, што пераход на расейскія грошы будзе разглядацца ў кантэксьце прыняцьця так званага „канстытуцыйнага акту". Гэтую хвалю зноў будуць уздымаць. Пуцін і Лукашэнка зацьвердзілі новы склад камісіі па падрыхтоўцы так званага „канстытуцыйнага акту" і прызначылі новых кіраўнікоў – Б. Грызлова і У. Канаплёва.

Тым часам на сытуацыю двух у адной лодцы (ня лічачы сабакі) пачала рэагаваць Амэрыка.

Спосабам для дэманстрацыі пазыцыі перад Масквой напярэдадні сустрэчы прэзыдэнта Буша з Пуціным і перад самітам „Расея-Эўразьвяз" было абранае спатканьне ў Вільні Кандалізы Райс з так званай беларускай „апазыцыяй".

У Вільню прывезьлі сем другарадных асобаў, якія ў падстаўной „апазыцыі" не іграюць ніякай ролі (не кажу ўжо пра тое, што ў жыцьці ніхто зь іх не размаўляе па-беларуску). Прысутнічаў, дарэчы, у якасьці „апазыцыянера" вядомы прафэсіянал зь вядомай канторы Анатоль Міхайлаў (апошнім часам быў рэктарам ЭГУ). Тым ня менш „сустрэча" дазволіла сказаць Кандалізе Райс усе неабходныя фразы аб асуджэньні дыктатуры ў Беларусі і аб неабходнасьці яе ліквідацыі.

У гэты ж дзень, 21 красавіка, ў Вільні дэлегацыі Расеі і НАТО падпісалі пагадненьне аб вайсковым супрацоўніцтве,

пасьля чаго міністар замежных справаў Расеі С. Лаўроў заявіў журналістам, што Масква адкідае заклікі ЗША і Эўразьвязу аб дэмакратызацыі і палітычных зьменах у Беларусі.

Падзеі і палітычныя руханьні, пра якія я тут распавядаў, паказваюць, што Захад пасьля здарэньняў у Беслане і на Ўкраіне перастае рабіць выгляд, што Расея ідзе па шляху дэмакратыі і адмаўляецца нават у дачыненьні да Расеі ад дэмакратычнай тэрміналёгіі.

Мне падаецца, што Амэрыка зразумела залежнасьць і безвыходнасьць Пуціна ў дачыненьні да Лукашэнкі. Пуцін падтрымае рэжым Лукашэнкі пры любым раскладзе, тым больш на выбарах, бо ад гэтага залежыць ягоная пуцінская пэрспэктыва і прысутнасьць ва ўладзе. Амэрыка імкнецца націснуць на Пуціна, каб той узяў іншы мадэль дачыненьняў з рэжымам Лукашэнкі. Але справа марная.

Тым часам калі Масква здолее, напрыклад, захаваць рэжым Лукашэнкі ў Беларусі, то пэрспэктыва для Пуціна складзецца таксама не карысная. Бо палітычная ініцыятыва тады можа перайсьці да Лукашэнкі.

Улада, якая існуе ў Маскве, яе псіхалогія і дэфэктыўны вопыт ня здатныя ні на якія варыянтнасьці ці вольныя рашэньні, акрамя аднаго спосабу палітычных паводзінаў: не пушчаць, не даваць, душыць і „мачыць”, як кажуць гэтыя знаўцы крымінальнай лексікі ва ўладзе.

Мы, беларусы, павінны пра гэта заўсёды памятаць і быць гатовымі да адпаведных (і адэкватных) дзеяньняў.

*25 красавіка 2005 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус”,– 2005, травень, № 508).*

# МЫ, БЕЛАРУСЫ, МУСІМ ПЕРАМАГЧЫ ЧАРНОБЫЛЬ!

Паважаныя землякі, дарагія беларусы! Мінула ўжо 19 гадоў, як на нашу Беларусь апусьцілася чарнобыльская чорная зорка Палын. Тысячы людзей адарвалі ад родных хат і вывезьлі з роднай зямлі. І хаты зьнішчылі, расьцягалі, апаганілі чужыя людзі. Лапухоўе і крапіва, запусьценьне і зьдзічэлыя сабакі там, дзе было жыцьцё, шчасьце і родны кут. Што можа стацца страшней?!

За часы двух сусьветных войнаў, калі немцы і расейцы выпальвалі беларускія вёскі, то заставаліся папялішчы, падмуркі, родныя мясьціны, зямля. І жыцьцё працягвалася нанова, нібы прамінула хвароба, а існасьць жыве.

Чарнобыль жа пазбавіў беларусаў нават зямлі, нават бачаньня даляглядаў і роднага неба над галавой. Людзей вырвалі з коранем і кінулі ўбок, нібы куст, ссыхаць. Што можа быць цяжэй за




(Фота Ж. Ганжуравай)

*55. Чарнобыльскі шлях у Пінску. Шэсьце КХП-БНФ.*

гэтакі лёс?! А тыя, што засталіся, хварэюць, прыгнечаны духам і не дае Бог здаровых дзяцей, і ўцякае шчасьце з жыцьця, хоць ёсьць хата, даляглядзы і родныя мясьціны. Атручанае існаваньне. Якая ж зь яго праца, які плён, які набытак?

Угледзімся ў лёс гэтых людзей знутры, і мы зразумеем усю трагедыю нашага вялікага народа, які даўно застаўся безабаронны, кінуты на выжываньне.

Ёсьць Бацькаўшчына вялікая і неабсяжная, ёсьць Радзіма-Культура і Айчына-Нацыя, шмат для каго яшчэ незразумелая і неадчувальная. І ёсьць Радзіма штодзённая і канкрэтная, як сонца ўсход над сінім лесам, як скрып дзьвярэй бацькоўскай хаты, як сьпевы пеўня кожным ранкам і брэх суседзкага сабакі. Радзімы гэтай ужо няма. І разам зь ёй для шмат каго мінула ўсё навечна.

Вось што такое Чарнобыль. Гэта разьвітаньне з Радзімай, якой не вярнуць. У Курапатах нашы ворагі адбіралі ў простых людзей жыцьцё. А ў Чарнобылі, у чорным Палыне, гэтыя ж самыя спраўцы – адабралі ў людзей Радзіму.

Усяму гэтаму ёсьць назоў – вынішчэньне. Вынішчэньне Беларусі.

Мы павінны супроцьстаяць гэтаму з адвагай, але і зь веданьнем, і з разуменьнем.

У нашай гісторыі Беларускага Народнага Фронту ёсьць старонкі, калі, змагаючыся з КПСС за праўду пра Чарнобыль, мы перамаглі, і людзі, якіх ашуквалі камуністы і гнобілі хлусьнёй, даведаліся, што такое ёсьць для Беларусі Чарнобыль.

Цяперака перд нашай нацыяй паўстала вялікая неабходнасьць, нібы ледзяная гара – мы мусім збавіцца ад наступстваў Чарнобыля. Я ўпэўнены, мы пераможам яго, але толькі тады, калі пераможам разам усё нацыянальнае гора. Гэта значыць – акупацыйны прамаскоўскі рэжым, Чарнобыль духоўны і Чарнобыль радыяцыйны. Гэта цяпер – адна бяда і адна антыбеларуская палітыка, адзін зборны назоў для ўсяе навалы.

Так трансфармуецца і гэтак акрэсьліваецца нашае паняцьце пра смутны час, які перажывае беларускі народ – эпоха Чарнобыля.

Дай, Божа, нашаму народу сілу перажыць гэтую эпоху і перамагчы стогаловы Чарнобыль. Закасвайма рукавы, вымайма мячы, вастрэма думкі, гартуйма ідэі для Перамогі!

Жыве Беларусь! Слава героям!

*26 красавіка 2005 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# НАПЕРАДЗЕ ВЫБАРЫ. ВЯСНОВЫ АГЛЯД

*(Выступ на травеньскім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”)*

У апошні час у міжнародным пляне шмат было чуваць пра Беларусь. Цьверджаньні і заявы афіцыйных асобаў Амэрыкі і Эўропы зводзіліся да крытыкі дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі на Беларусі і фразаў тыпу: „беларускі народ варты лепшай долі”. Пры гэтым гаварылася, пра гатоўнасьць дапамагчы беларускаму грамадзтву ў дэмакратычных пераўтварэньнях.

У гэтых падзеях ёсьць станоўчая тэндэнцыя, якая сьведчыць, што Захад, і асабліва Амэрыка, паступова пазбаўляюцца ілюзіяў і фразэалёгіі аб нібыта „дэмакратычнай Расеі».

Беларускае пытаньне па меры набліжэньня выбараў прэзыдэнта ў Беларусі становіцца актуальным. Ужо стала адчувацца рывалізацыя Захаду з Расеяй, але ў прынцыпе нічога не мяняецца. Захад працягвае кантактаваць з навязанай яму „падстаўной апазыцыяй», шчыра не разумеючы бесперспектыўнасьці гэтай палітыкі ў Беларусі. Абяцаньні дапамагаць сродкамі гэтай „апазыцыі” могуць ужо выклікаць толькі ўсьмешку. (Гэтыя каналы даўно кантралююцца КГБ, і таму сапраўды сьмешна, калі яны туды зноў зьбіраюцца даваць сродкі).

З актуалізацыяй беларускага пытаньня ў міжнародным пляне выяўляецца штораз больш грубая і варожая агрэсіўнасьць Расеі да беларускай свабоды і незалежнага выбару. Гэтыя тэндэнцыі могуць мець разьвіцьцё аж да непасрэднага ўмяшаньня ў беларускія справы, як гэта мела месца ў 1996 г. (І тут беларусы ўжо не павінны дазволіць маскоўцам выйсьці сухімі з вады.)

З унутраных падзеяў як бы нечаканай (але цалкам абумоўленай антыбеларускай палітыкай рэжыму) была ліквідацыя назвы галоўнага праспэкту сталіцы (Францыска Скарыны) ўказам Лукашэнкі. Гэта падзея значная, бо закранае сымвалічны, сакральны зьмест адносінаў да нацыянальнай культуры, зьвязаная з гонарам нацыі і па значэньню – аднаго шэрагу з публічным зьнеważэньнем нацыянальнага сьцяга ў 1995 годзе, якое арганізаваў прадстаўнік рэжыму І. Ціцянкоў (які яшчэ дагэтуль не пакараны).

Матывы перайменаваньня, на мой погляд, больш псіхалягічнага парадку, зьвязаныя зь вясеньнім абвастрэньнем эмацыйнага стану і жаданьнем прадэманстраваць палітычную сілу рэжымнай улады, псіхічна затаптаць беларусаў у гразь, паказаць, што яны нішто, сьліна, што рэжым як захоча, так і зробіць.

Рэакцыя беларускага грамадзтва на зьневажэньне памяці Францыска Скарыны паказвае, што ў значнай ступені Лукашэнка сваёй мэты дасягнуў. Няма ні шырокай эмацыйнай рэакцыі, ні глыбокага разуменьня таго, што адбылося. Шырока не ўсведамляюць, што беларусаў у чарговы раз грэбліва зьняважылі.

Нізкі ўзровень, як заўсёды, паказаўся ў журналістыцы. Паведамленьне пра падзею на радыё „Свабода”, напрыклад, вышла пад загалоўкам „Як да перайменаваньня праспэкту Машэрава ў праспэкт Пераможцаў паставіліся вядомыя людзі?” Гэта нейкае блюзьнерства – не казаць пра галоўнае, пра Скарыну, а інфармацыйным повадам рабіць імя адмоўнага пэрсанажа савецкай мінуласьці.

Тыя, хто пратэстуюць, плачуцца пра растрату сродкаў, якую пацягне перайменаваньне праспэкту і г.д. Як быццам гэта тут мае якое-небудзь значэньне. Нейкі перавернуты сьвет.

Дарэчы, трэба даўно ведаць, што сродкі, зьвязаныя з перайменаваньнем вуліц і г.д. заўсёды нязначныя. У матэрыяльным сэнсе тут няма істотных праблемаў (расходы ідуць за кошт эксплуатацыі і абнаўленьня). Сэнс перайменаваньня ў іншым і заўсёды важнейшы за сродкі (якія, паўтаруся, тут невялікія).

Лукашэнка гэта разумее, а «змагайцы» зь ім блюзьнераць, хітруюць (сродкаў ім, бачыце, шкада). Людзям плюнулі ў твар, а яны абураюцца на пляваку за парушэньне гігіены.

Рэжым павінен быў убачыць, што зь іскры нічога не ўзгараецца. У грамадзтва, якое яны запалохалі і здушылі, можна кідаць нават галавешкі – нават дыму ня будзе, пачуеш хіба толькі шыпеньне.

Гэта дрэнна. Аднак, становішча можа зьмяніцца. І гэтага (гэтай невядомасьці) якраз найбольш баяцца Масква і ейны рэжым на Беларусі.

З усіх апошніх падзеяў і антыбеларускіх справаў рэжыму самай античалавечай і самай подлай ёсьць праграма па зьнішчэньні тэрытарыяльна-культурнага жыцьцёвага асяроддзя беларускай нацыі. Стратэгія зацьверджана ўказам №150 ад 25 сакавіка (заўважце!) 2005 г. і называецца праграмай „возрождения села», якая прадугледжвае „оптимизацию" (г.зн. разбурэньне і ліквідацыю) усёй існуючай прасторы беларускіх вёсак – першаснага жыцьцёвагв асяроддзя беларускага этнасу. (Пра гэта пісаў ужо на стар. „Беларускай Салідарнасьці" спадар С. Папкоў). Усё жыцьцёвае асяроддзе сельскіх беларусаў (а гэта каля 35тысячаў вёсак) плянуюць ліквідаваць і згрупаваць у 1400 „аграгарадках".

Гэты плян па свайму цынізму і античалавечасьці стаіць нароўні з вар'яцкімі плянамі гітлераўца Бормана і камуніста Машэрава.

Дарэчы, пра Машэрава, зь якога некалі В. Кебіч і Масква пачалі ляпіць міф выбітнага дзеяча, каб апраўдаць сваю антыбеларускую дзейнасьць (маўляў, і „выбітная асоба" гэтак рабіла).

Пётр Машэраў (беларус па паходжаньні, сапраўднае прозьвішча Машэра, перайменаваўся дзеля кар'еры) – гэта чалавек, які з кагорты ўсіх савецкіх камуністаў і русіфікатараў быў найбольш адмоўнай фігурай па выніках беларускага нацыянальнага разбурэньня. П.Машэраў асабіста нясе адказнасьць за зьнішчэньне гістарычнага архітэктурнага цэнтра Менска (найперш раёну Нямігі і ўсяго Нізкага горада). Гэта была ягоная ініцыятыва і ягоная справа; пакінуў пасьля сябе нават лятучыя цемрашальскія фразы тыпу: „Немига – наш позор".

Самым злавесным і самым разбуральным вынікам палітыкі гэтага функцыянера за часы знаходжаньня яго на пасадзе 1-га сакратара ЦК КПБ была ліквідацыя беларускай школы і вынішчэньне беларускай мовы. У беларускіх гарадах і гарадках беларускія школы і нават клясы былі ліквідаваны поўнасьцю. (У Менску не было ніводнай беларускай школы).

Пры Машэраве былі прынятыя законы, якія дазвалялі пазбаўляць дзяцей увогуле вывучэньня беларускай мовы як прадмета ў школе. Зьявіліся нават „тэорыі" аб шкодным узьдзеяньні беларускай мовы на асобу і псіхіку беларускага дзіцяці, на яго галасавыя зьвязкі, аб захворваньні ад вывучэньня беларускай мовы хранічным танзілітам (ангінай) і таму падобны абскурантызм.

Калі Машэраву казалі, ці пісалі пра гэта, ён афіцыйна і дэмагагічна вяшчаў: „Мы не будем препятствовать развитию русского языка".

Гэта была менавіта ягоная палітыка, каб выслужыцца перад Масквой, куды ён усё жыцьцё марыў патрапіць. Ні ў Прыбалтыцы, ні на Каўказе, ні нават у Сярэдняй Азіі сатрапы гэтак нацыянальную школу і мову не зьнішчалі.

Машэраў быў ініцыятарам напамажанага міфа пра „веліч" беларускіх савецкіх партызанаў. Пры ім быў створаны культ савецкай партызаншчыны, а кіроўныя партызаны-энкавэдзісты займалі ключавыя пасады ў кіраўніцтве БССР і з упартасьцю самадураў вытоптвалі ўсё беларускае і ўсё жывое.

Машэраў быў ініцыятарам і энтузіястам усеагульнай меліярацыі і маштабнага асушэньня беларускага Палесься. Вынікі вядомыя – экалягічная дэградацыя прыроды.

Самай ідыятычнай ягонай кіроўнай ініцыятывай была апэрацыя „галінкі", праведзеная ў 70-х гадах. Хтосьці Машэраву сказаў, што чакаецца засушлівае лета. І Машэраў даў загад па „рэспубліцы" – „спасать скот", высякаць кусты і маладыя дрэвы, здрабняць гальлё, закладваць у сіласныя ямы і гэтым лісьцем з дрэвам карміць потым калгасных кароў.

Па ідыятызму ідэі Машэрава пераплюнуў, відаць, толькі Лукашэнка, які ў 1997-98 гг. на дзяржаўным узроўні фінансаваў з бюджэту стварэньне „пэрпэтум мобіле" па праекту нейкага „шызоіда". Аднак затраты на вечны рухавік былі ў тысячы, а то і ў мільёны разоў меншыя, чым у ягонага папярэдніка па бязглуздасьці.

Сотні тысячаў людзей, студэнты, рабочыя, калгаснікі, навукоўцы розных НДІ былі сарваныя з прывычнай працы і кінутыя на высяканьне кустоў і лясоў, задзейнічаныя былі аўтобусныя паркі, тэхніка, паліва, працавала прапаганда („штабы"), газэты, радыё, тэлебачаньне, „сбрасывали трудовые десанты", зьявіліся „передовики" і г.д. Горад Гомель, напрыклад, кожны дзень пасылаў на высяканьне гальля 50 тысячаў чалавек.

Сенажацяў не касілі, секлі кусты. А тым часам і лета было нармальнае. Натуральна, што каровы гальля ня сталі есьці, хоць партыя загадала.

«Галінкі», аднак, не закранalі існаваньне нацыі. Усё ж астатняе, што рабіў Машэраў, нішчыла цяперашчыну і будучыню Беларусі.

Разам зь ліквідацыяй беларускай школы і вынішчэньнем беларускай мовы зьявіўся плян тэрытарыяльнага этнацыду. Я ўжо пра яго ня раз пісаў. Гэта была праграма «ліквідацыі неперспектыўных беларускіх вёсак», якая ўзьнікла яшчэ ў 1964 г. і з прыходам Машэрава на пасаду 1-га сакратара ЦК КПБ у 1965 годзе адразу стала ажыцьцяўляцца. З больш чым 34 тысячаў беларускіх вёсак плянавалі пакінуць 9 тысячаў, астатнія ліквідаваць, а людзей зьвезьці ў «пэрспэктыўныя паселішчы».

Шмат вёсак пасьпелі разбурыць. Аднак Савецкі Саюз ужо дыхаў на ладан, не хапала сродкаў, і вынішчэньне ішло марудна, а потым і СССР разваліўся.

Праграма вынішчэньня беларускага рассяленьня («возрождение села»), прыдуманая Лукашэнкам – гэта цемрашальскі працяг пляну Машэрава, толькі ў яшчэ больш жорсткім зьмесьце (1400 „аграгарадкоў»). Гэты плян культурнай катастрофы нацыі, пасьля якой набліжаецца нацыянальная сьмерць.

Машэраў быў тыпам этычна вырабленага функцыянера з рысамі афіцыёзнай інтэлігентнасьці і прэтэнзіяў на адметнасьць. Ён не выкарыстоўваў пасаду для накапленьня асабістага багацьця, у гаворцы з пісьменьнікамі разыгрываў з сябе „свайго хлопца", дапамагаў атрымаць кватэру таму ды гэтаму заслужанаму літаратару, любаваўся сваёй асобай і паказной партыйнай „дэмакратычнасьцю", гаварыў заўсёды па-руску, мог зьвязна выкладаць думкі ў адрозненьне ад партызанска-партыйнага „дуб'я", якое яго акружала.

На гэтым ягоная „адметнасьць" заканчвалася. Машэраў быў тыповым капэ́эсэсаўскім функцыянерам, які верна служыў партыйнай кар'еры і аддана праводзіў антыбеларускую палітыку

КПСС, не адступаючы ад яе ні на ёту, а наадварот, разьвіваў і ўдасканальваў, абстаўляючы вынішчэньне беларускай культуры кручанымі слоўцамі і фразачкамі тыпу „построение новой коммунистической цивилизации” і г. д.

Роля П.Машэрава крайне адмоўная ў гісторыі падсавецкай Беларусі. Палітыка гэтага сатрапа ў дачыненьні да Беларусі найбольш набліжаная да палітыкі цяперашняга рэжыму Лукашэнкі. Толькі тады антыбеларускасьць прыкрывалася ідэяй пабудовы камунізму, цяпер – грубым, расьпеwith разаным папулізмам і тэхналёгіямі масавага ашуканства.

Заўважце, што Масква (дакладней КГБ) паставілі менавіта на міф пра Машэрава, а не, скажам, пра К. Мазурава, які быў асобай значна больш моцнай, але меў месьніцкія сьхільнасьці і ня нішчыў гэтак беларушчыну, як Машэраў.

Калі для Кебіча гэбоўская міфатворчасьць пра Машэрава магла быць карыснай апорай у антыбеларускай палітыцы (уводзіць рускі рубель на Беларусь першым узяўся якраз Кебіч), то для Лукашэнкі, які за гады аўтарытырызму моцна закахаўся ў самаго сябе, міф пра „добрага” Машэрава патрэбны толькі для абмежаванага ўжываньня (як Сталіну Ленін). Першым павінен быць ён – Лукашэнка. Машэраў мусіць быць другім. Такая ёсьць дыялектыка іхных ненармальных дачыненьняў. Машэраў павінен стаць ценем Лукашэнкі, а не наадварот. Таму дазіроўку міфалёгіі Лукашэнка будзе адсочваць. Мы, аднак, павінны разумець, што такая міфалёгія шкодная і зьняважлівая для беларусаў у любой дазіроўцы.

Падзеі паказваюць, што ў 2006 г. рэжым зьбіраецца ісьці той жа дарожкай, што і ў 2001-м, з той толькі розьніцай, што хочуць зрабіць, кажучы на іхным жаргоне, шырокую і жорсткую „зачыстку” ўсёй грамадзкай прасторы краіны. Відаць, што прамаскоўскі рэжым сам рыхтуе свае альтэрнатывы на выбары. Масква і гэбэ, відаць, зьбіраюцца рабіць запасную стаўку на Казуліна, але гуляць з двума (другі Мілінкевіч). Гайдукевічы і „адзіныя” будуць выконваць дапамогавую ролю. У выпадку звычайнай абыякавасьці і баязьлівасьці электарату, альтэрнатыўны антураж дапаможа ў дасягненьні „элегантнай перамогі” Лукашэнку. Калі ж сытуацыя абвострыцца і дойдзе да масавых выступаў, тады Крэмль і Лубянка скарыстаюць, найбольш верагодна, Казуліна, які і павядзе масу супраць „дыктатара” і „ўзурпатара” ў чарговы маскоўскі завулак.

Казулін чалавек чужы і нацыянальна не адукаваны – ня ведае нават беларускай мовы і варожы да яе (а значыць нічога не чытаў па-беларуску). У гэтай сытуацыі Масква пастараецца падрыхтаваць сваю крэатуру запасу значна лепш, чым Януковіча на Украіне. Уявіце сытуацыю: праз год, калі б узьнікла нейкае грамадзкае рушэньне ў час выбараў, выходзіць „альтэрнатыўны” спадар Казулін і раптам прамаўляе па-беларуску (а так яно можа стацца, мову вывучыць не праблема). Уся наша бытавая белінтэлігенцыя, што піша просьбы і прашэньні «прэзідэнту» пабягуць у гэтым выпадку за Казуліным, як дурная авечка за мацёрым ваўком, а паэт Ніл Гілевіч тут жа вершык ці артыкул напіша пра „ратавальніка нацыі», як некалі пра генэрала Фралова.

Пачынаецца актыўнае змаганьне за Беларусь. На Беларусі наша задача будзіць і нацыянальна ўздымаць грамадзтва.

*15 траўня 2005 г.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць”, www.bielarus.net)*

# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: „Я НІКОЛІ НЯ ЎЗЯЎ АД УРАДУ АМЭРЫКІ НІВОДНАГА ЦЭНТА”

***Сяргей Навумчык, Прага.*** *Роўна дзесяць гадоў таму незалежныя газэты Беларусі зьмясьцілі сэнсацыйную навіну: старшыня апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянон Пазьняк выйграў судовы працэс супраць прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.*

*Суд прызнаў, што распаўсюджаныя адказьнікам зьвесткі не адпавядаюць сапраўднасьці і зьневажаюць гонар і годнасьць пазоўніка. Суд абавязаў, каб прабачэньне прагучала па беларускім радыё – паколькі і абвінавачваньні на адрас Пазьняка з вуснаў Лукашэнкі трансьляваліся на ўсю краіну.*

*Вечарам Аляксандр Лукашэнка па тэлебачаньні прынёс прабачэньне Зянону Пазьняку, але такім чынам, што яно не выглядала як прабачэньне.*

***Навумчык:*** – „На тэлефоннай сувязі з Нью-Ёрку – старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Зянон Пазьняк. Спадар Зянон, нагадайце, у чым была сутнасьць справы?”

***Пазьняк:*** – «Справу тады разглядаў Вярхоўны суд, і яна была вырашаная на маю карысьць. Сутнасьць палягала ў тым, што Лукашэнка публічна абвясьціў у Вярхоўным Савеце, што я нібыта заклікаў беларусаў ехаць ваяваць у Чачэнію. Я падтрымліваю чачэнскіх змагароў супраць расейскай акупацыі. Але заклiку такога я не рабіў. У суд я зьвярнуўся таму, што няпраўда Лукашэнкі была не бяскрыўднай хлусьнёй, а прадуманай палітычнай гнюснасьцю.

Мы, дэпутаты БНФ у Вярхоўным Савеце, дамагліся яшчэ ў 1990-1991 гадах вяртаньня на Радзіму беларускіх вайскоўцаў з так званых «гарачых пунктаў» – гэта значыць, з розных расейскіх войнаў, узброеных канфліктаў на Каўказе ды ў Сярэдняй Азіі. Мы ўратавалі такім чынам здароўе і жыцьцё шмат якім беларусам. Няпраўда Лукашэнкі магла даць нагоду для непрыяцеляў Беларусі скампрамэтаваць нас і гэтыя нашы добрыя патрыятычныя справы перад людзьмі. Таму трэба было праз суд паказаць, што Лукашэнка схлусіў, і публічна патрабаваць ад яго прабачэньня. І суд вынес менавіта такое рашэньне. Дыктатура тады яшчэ толькі пачыналася і ня мела поўнага кантролю над судамі.

Пасьля рашэньня суду Лукашэнка нібыта папрасіў прабачэньня, ускосна. Выступаючы па тэлебачаньні, ён пачаў жаліцца, што на яго «нападаюць ворагі», што Вярхоўны суд патрабуе прабачэньняў... І тут была сказана такая фраза: «Я, конечно, извиняюсь, но...», – і далей пасыпаліся абвінавачваньні ў мой адрас. Ну, гэта ўсё, на што ён быў здольны».

***Навумчык:*** – «За дзесяць гадоў з вуснаў Лукашэнкі гучала шмат абвінавачваньняў у адрас палітычных апанэнтаў. Гучалі такія абвінавачаньні і ў выступах найбліжэйшых Лукашэнкавых паплечнікаў, а таксама з вуснаў афіцыйных журналістаў. Ці верыце Вы, што пасьля ўсталяваньня ў Беларусі дэмакратыі гэтыя людзі будуць прыцягнутыя да адказнасьці?»

***Пазьняк:*** – «Я думаю, што тут ёсьць аб'ектыўныя працэсы, і незалежна ад таго, веру я ці ня веру, гэтыя людзі будуць прыцягнутыя да адказнасьці. Так, як было некалі ў Паўднёвай Карэі: вырастае новае пакаленьне, якое дбае пра дзяржаўныя інтарэсы, і яно вяртаецца да тых падзей, дзе гэтыя інтарэсы былі парушаныя. Таму тое, што нарабілі гэтыя людзі, гэты рэжым, – яно проста так ня можа кануць у лету. Ня можа. Нармальная краіна, нармальная нацыя абавязкова вернецца да гэтых злачынстваў».

***Навумчык:*** – «Здаецца, Вы адзіны палітычны лідэр, які яшчэ ня выказаўся на хвалях „Свабоды" пра перайменаваньні цэнтральных магістраляў Менску – праспэкту Скарыны і праспэкту Машэрава».

***Пазьняк:*** – «Так, хаця выказаўся пра гэта ўжо на Сойме Народнага Фронту і на вэб-сайце «Беларускай Салідарнасьці». У той час, калі паўсюдна чакаюць беларускай рэвалюцыі, Лукашэнка вырашыў прадэманстраваць сілу рэжыму. І чарговы раз зьняважыў беларусаў. Прынізіць беларускіх людзей, псыхічна задушыць, паказаць, што ўсе яны нішто, марната, што тое, што ён захоча, тое і зробіць, – у гэтым палягае ўвесь псыхалягічны і палітычны разьлік. Імя Францыска Скарыны адносіцца да сакральных сымбаляў беларускай нацыі. Па ім пазнаецца Беларусь. Мэдаль Францыска Скарыны – гэта найвышэйшая ўзнагарода Беларусі. Таму прычынаў для перайменаваньня праспэкту не існавала. Лукашэнка пра іх і не гаворыць. Ён плюнуў без папярэджаньня.

Дарэчы, гэта паводзіны тыповай акупацыйнай улады. Але тое, што да гэтай акцыі быў прышпілены яшчэ і адмоўны пэрсанаж гісторыі савецкага часу камуніст Пётра Машэраў, (які зьнішчаў беларускую мову і пазачыняў усе беларускія школы) гаворыць, што Масква, апрача спадара Казуліна, прымерваецца выпусьціць на прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі ў якасьці яшчэ адной запасной альтэрнатывы, магчыма, ізноў дачку Машэрава*. Гэта здагадкі. Лукашэнка тут, хутчэй, неўсьвядомлены выканаўца тэхналёгіі. Ужо доўгі час КДБ стварае міт пра «добранькага» Машэрава. Цяпер зь яго яшчэ лепяць і «апазыцыянэра» – маўляў, Лукашэнка яго пакрыўдзіў. Адпаведна і дачка Машэрава ўжо можа выходзіць у якасьці апазыцыянэркі. Па такім прынцыпе фармавалі ў Беларусі падстаўную апазыцыю з паплечнікаў Лукашэнкі.

І я мяркую, што да 2006 году Масква і Лубянка падрыхтуюць сваю падстаўную „рэвалюцыю" ў Беларусі. Спроба сілаў ужо была – 26 красавіка гэтага году. У гадавіну Чарнобылю. Падстаўная рэвалюцыя будзе кіраваная, як і падстаўная апазыцыя. І ўзначаляць яе «свае людзі». Трэба разумець, што ***калі народ адмаўляецца ад сваёй барацьбы за свой лёс, дык на ягонай тэрыторыі за ягоную душу будуць змагацца чужыя.*** Будуць адбывацца чужыя розыгрышы, ставіцца чужыя спэктаклі. Мы ўжо гэта назіралі і яшчэ ўбачым».

***Навумчык:*** – «Гэтымі днямі на саміце краінаў Рады Эўропы прэзыдэнт Літвы Валдас Адамкус заявіў пра магчымасьць правядзеньня ў Вільні сустрэчы кіраўнікоў краінаў Балта-Чарнаморскага рэгіёну. Яшчэ раней тэма Балта-Чарнаморскай судружнасьці гучала з вуснаў лідэраў Украіны. Але першым, хто пятнаццаць гадоў таму сказаў пра Балта-Чарнаморскую судружнасьць як геапалітычную пэрспэктыву, былі менавіта Вы. Тады шмат каму гэтая ідэя падалася проста абсурднай. У тым ліку і цяперашнім лідэрам беларускай „апазыцыі". Скажыце, Вам ня крыўдна, што прызнаньне прыйшло толькі цяпер і пры гэтым ня згадваецца імя ініцыятара?»

***Пазьняк:*** – „Якая крыўда? Мне радасна! Я лічу, што ідэя Балта-Чарнаморскай супольнасьці ёсьць адной з найлепшых ідэяў Беларускага Народнага Фронту. Яна пачала палітычна ажыцьцяўляцца ў пачатку 1990-х, адбыліся дзьве міжнародныя канфэрэнцыі па БЧС аб будучым уладкаваньні Ўсходняй Эўропы, былі прынятыя дакументы. Потым у рэчышчы БЧС зьявілася ідэя балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектару. Ужо было дамоўлена з Украінай, пачалі рыхтаваць праектную дакумэнтацыю. І тады ўсёй гэтай справе перашкодзіла Расея. У 1993 годзе разам з праектнымі дакумэнтамі па калектары бясьсьледна зьнік намесьнік старшыні Народнага руху Ўкраіны Байчышын. У 1994 годзе да ўлады ў Беларусі прывялі Лукашэнку. Ну і ўсё разумнае і выгаднае для Беларусі спынілася. Але тое, што цяпер ідэя БЧС пачынае зноў прамаўляцца, мяне вельмі радуе.

Справа ў тым, што гэтая ідэя ня ёсьць суб'ектыўным задумваньнем. Гэта вынік аналізу і адлюстраваньне гістарычна-культурнай сытуацыі. Тут паказаныя парадак і падзел, які вынікае аб'ектыўна з сутнасьці гісторыі і культуры Эўропы. Эўропа Заходняя – гэта адно, а Эўропа Ўсходняя – гэта іншае. Яны ніколі ня стануць адным, як ня будзе суіснаваць вада і агонь, хіба што за кошт разбурэньня іншай палавіны, гэтак жа, як ніколі Расея ня стане ўвогуле Эўропай: ні Заходняй, ні Ўсходняй. Пагатоў яна і ня хоча ёй стаць. Ідэя Балта-Чарнаморскай супольнасьці як ідэя культурнага і палітычнага падзелу будзе ўзьнікаць увесь час, пакуль не ўвасобіцца ў аптымальнай форме. Гэтак жа, скажам, як некалі было ў Сярэднявеччы».

***Навумчык:*** – «Цяпер прэзыдэнт ЗША Буш падпісаў закон аб дапамозе беларускай дэмакратыі, і гэта шырока камэнтуецца. Скажыце, а Вы асабіста ці атрымлівалі альбо атрымліваеце нейкую дапамогу з боку ўраду ЗША?»

***Пазьняк:*** – „У палітыцы вельмі небясьпечна браць чужыя грошы. А лепш іх зусім ня браць, бо яны прыліпаюць да рук... Што датычыць мяне – я адчуваю сябе абсалютна свабодным палітыкам і свабодным чалавекам бо я ніколі ня ўзяў ад ураду Амэрыкі ніводнага цэнта. Ні аднаго цэнта! Тое, што мне даводзіцца рабіць – выдаваць літаратуру, часопісы, якія выпускі, – гэта ўсё за кошт дапамогі сяброў зь беларускага замежжа і за свой кошт. За кошт, таксама, збораў, складак, нават прыходзіцца з шапкай у руках зьбіраць, але гэта нашы, беларускія грошы, заробленыя беларусамі. І галоўнае, урэшце, у палітыцы ня грошы, а людзі. Калі ёсьць людзі, калі яны здольныя змагацца, дык будзе ўсё. І Фронт гэта даказаў. А вось гэтая падстаўная пуга („апазыцыя"), якую зрабілі, яна ня мае нічога, ні найменшых посьпехаў у дзейнасьці. Назавіце хоць адну перамогу, якой яны дамагліся за гэты час? Яны ўсё развалілі, усё сапсавалі, але грошы ім на марнатраўства даюць... Гэта – пародыя ў палітыцы.

Палітыка ня робіцца грашыма. Гэта маё перакананьне, і гэта пацьвердзіла наша гісторыя. Незалежнасьць мы здабылі нашымі сэрцамі, нашай працай, нашым розумам і нашай ахвярнасьцю, а ніякімі не грашыма. Вядома, і грошы патрэбныя, але ня грошы галоўнае ў палітычнай барацьбе".

***Паводле радыё Свабода,***
***Сяргей Навумчык, Прага***

*17 траўня 2005*

---

* Н. Машэраву сапраўды рыхтавалі да гэтай ролі але потым адмавіліся з прычыны неадпаведнасьці кадыдатуры дзеля задуманага розыгрышу. – *(З. П.).*

# „ЛЕТНЯЯ ПАРАНОЙЯ"

Дзеяньні прамаскоўскага рэжыму на Беларусі за апошні месяц (чэрвень-ліпень) разьвіваліся ў рэчышчы тыповай акупацыйнай паранойі. Найбольш характэрныя прыступы: *„плата за перасячэньне мяжы"*, *„лінія Сталіна"* і забарона ўжываць словы *„нацыянальны"* і *„беларускі"*.

З аднаго боку, узрастае нэрвовае напружаньне ў асяроддзі прамаскоўскай мафіі (і гэта адбіваецца на тварыльшчыку ўказаў), з другога – яны зразумелі, што з цяперашнім беларускім грамадзтвам можна рабіць усё, што заўгодна (праўда, яны ня ведаюць, дзе яны пасьлізнуцца, і мы пра гэта ня кажам).

Сымптомы пачаліся крыху раней, калі перайменавалі праспэкт Францыска Скарыны. Гэта быў пробны камень, тэст на ўзровень грамадзтва. Ён прайшоў пасьпяхова для маскоўскіх паліттэхнолагаў. Караганавы, відаць, паціраюць ручкі: маўляў, „дебилизация налицо". Але дарэмна радуюцца, гэтую „дэбілізацыю" (стаяньне з партрэтамі камуністычнага сатрапа Машэрава побач з выявай вялікага Скарыны) яны самы і арганізавалі праз свае АГП, ветэранаў „перестройки" і іншых халуёў. Беларусу для асэнсаваньня патрэбен час.

Праглынулі Машэрава (на кручку Скарыны) – дадзім вам Сталіна. Наступным прыступам стала якраз *„лінія Сталіна"*. Прыдумалі зьяву, якой у прынцыпе не існавала ў гісторыі 2-й Сусьветнай вайны. На тэрыторыі ў 40 гактараў пад Менскам арганізавалі нават тэатральнае відовішча з выкарыстаньнем тысячаў „савецкіх" салдат, гістарычнай тэхнікі, танкаў, самалётаў, „палутарак", якія лупілі „немцаў" на подступах да Менска. (Хаця вядома, хто каго тады лупіў).

Умацаваньні, якія былі зробленыя маскоўцамі па лініі падзелу Беларусі пасьля 1921 года, і якія потым, са зьменай мяжы ў 1939 годзе, былі цалкам дэмантаваныя, сучасныя палітавантурысты назвалі *„лініяй Сталіна"* і прыпісалі гэтай неіснуючай „лініі" важную ролю ў 2-й Сусьветнай вайне, прыдумалі нават музэй, дзе сабралі розны савецкі хлам. Спэктакль з „палутаркамі" з захапленьнем глядзеў наш кліент, адзеты ў ваенную форму, і казаў лапідарныя фразы, кшталту: „ваш прэзідэнт і армія гатовыя выканаць любую задачу".

Беларуская рэчаіснасьць апускаецца ў „восень патрыярха". „Лінія Сталіна" і ўсё, што зь ёй зьвязана, – сымптом тыпова клінічны (нагадвае мне „пэрпэтуум мобіле" 1997 года), але разьвіваецца ён у форме „палітыкі" і ўспрымаецца цяперашнім беларускім грамадзтвам як палітычная рэальнасьць, сьведчыць, што ступень абалваньваньня і запас цярпеньня людзей далёка ня вычарпаны.

Праз пару дзён адбылося лукашэнкаўскае сьвята (3 ліпеня – дзень савецкай акупацыі Менска). Там ужо несьлі партрэты Сталіна і крочылі ветэраны НКВД.

Зразумела, што Масква адпрацоўвае чарговы экспэрымэнт на беларускім палігоне. І можна толькі падзівіцца прымітывізму і тупіковасьці расейскага думаньня. Маскоўскія паліттэхнолагі не разумеюць, што сваімі экспэрымэнтамі яны самы засьведчылі тэст на пэрспэктыву выжываньня крамлёўскай улады. І тэст гэты адмоўны. Гэтыя бурбоны яшчэ ня ведаюць, што іх чакае ў сталінскім тупіку, куды яны лезуць. Так што, „да здравствует Сталин" і ня будзем іх у гэтым расчароўваць.

Летняя паранойя, безумоўна, будзе разьвівацца, чым бліжэй падыходзіць 2006 год. Характэрнасьць яе праяўленьня – адкрытае зьневажаньне каштоўнасьцяў нацыі і пагарда да беларусаў. Тыповым выяўленьнем ёсьць указ Лукашэнкі аб забароне словаў „беларускі" і „нацыянальны".

У гісторыі этнацыду супраць беларусаў такое ўжо было ў 1840 годзе за часы панаваньня бадай што самага тупога і цемрашальскага рускага цара Мікалая 1-га. Тады ўказам Сэнату расейцы забаранілі слова „Беларусь" і „беларускі". Гэта было патрактавана расейскай акупацыйнай машынай таксама як забарона беларускай мовы.

Цяпер тое дзікунства вяртаецца ў вобліку беларусажэрнай палітычнай паранойі. Указ Лукашэнкі патрабуе выдаліць словы „беларускі" і „нацыянальны" найперш з назоваў недзяржаўных арганізацыяў, гэта значыць з таго пласта культуры, які фармуе беларускую грамадзянскую супольнасьць. „Беларуская кнігарня" ня можа больш называцца „беларускай", часопіс „Беларуская мова ў школе" – ня можа ўжо называцца „беларуская", бо супярэчыць указу. (Цікава як пераймянуюць – „тутэйшая" ці можа „здешняя"?). Тое ж адносіцца да „Саюзу пісьменьнікаў Беларусі", да шапіка „Беларускія сувэніры", да прафсаюзных арганізацыяў і мастацкіх калектываў, словам, да ўсяго беларускага, нават да расейскамоўных газэтаў, у загалоўках якіх ёсьць слова „беларускі" („Белорусский рынок" і т.п.).

Лукашэнкаўскі міністар юстыцыі расеяц Голованов растлумачыў гэты ўказ у стылі ўзорнага акупанцкага ідыятызму (гэта не лаянка, а слова, адпаведнае зьяве): „Ў адпаведнасьці з указам, – кажа Голованов, – палітычныя партыі, рэспубліканскія грамадзкія аб'яднаньні, прафсаюзы і банкі могуць (яшчэ) выкарыстоўваць у назвах слова „беларускі", але ня маюць права выкарыстоўваць слова „нацыянальны". А недзяржаўныя мэдыіі ня маюць права выкарыстоўваць ані слова „беларускі", ані „нацыянальны" (Радыё „Свабода", – 1 чэрвеня).

Усё гэта на нармальнай чалавечай мове называецца „пляваньне беларусам у твар".

З усяго, што адбылося за апошнія месяцы ў рэжыме на Беларусі, – гэта ёсьць самае грубае і недапушчальнае парушэньне правоў асобы і народу, якое асуджаецца ўсімі цывілізаванымі законамі і міжнароднымі дачыненьнямі. Асуджаецца, праўда, толькі дэклярацыйна. Рэчаіснасьць іншая. Нашае народнае няшчасьце, этнацыд і вынішчэньне ўсяго нацыянальнага беларускага нікога на Захадзе не абходзіць і не цікавіць, і не хвалюе, і не хвалявала. Беларусы маюць ідэалізаванае, ілюзорнае ўяўленьне пра Захад, асабліва пра Заходнюю Эўропу. ***Беларусы мусяць зразумець, што нашае нацыянальнае змаганьне – гэта ёсьць нашае змаганьне. Наша перамога і наша будучыня залежыць, перш за ўсё, ад нас самых, ад беларусаў. І ніхто ня будзе змагацца за Беларусь, акрамя нас, беларусаў, спадкаемцаў нашай культуры і нашай сьвятой, роднай зямлі.***

У апошнія дні і тыдні гучэла шмат заяваў пра Беларусь у Эўразьвязе, у камісіях Эўразьвязу ды АБСЭ, сярод дэпутатаў Эўрапарляманту. І што мы зноў пачулі? Пра этнацыд беларусаў? Пра забарону слова „беларускі"? Ці можа пра зьнішчэньне беларускіх школаў і беларускамоўнага друку? Нічога падобнага. Тыя ж самыя агульныя дэклярацыі пра абстрактныя правы чалавека і абстрактную свабоду слова (гэта ў той час, калі зьнішчаецца менавіта беларускае нацыянальнае слова).

Мне ня раз прыходзілася казаць (бо маю дасьведчаньне), што ўсе нашыя добрыя пажаданьні аб арганізацыі ў суседніх

краінах тэле – і радыёстанцыяў, якія б перадавалі праўдзівую інфармацыю на Беларусь у беларускай мове і спрыялі б нацыянальнаму адраджэньню і дэмакратыі, – усе гэтыя пажаданьні, як толькі за іх возьмуцца немцы з Брусэлем, будуць павернутыя супраць самых беларусаў. Так яно і атрымалася.

У канцы чэрвеня „Нямецкая хваля" якраз „узялася" за беларускую справу, арганізавала пятнаццаціхвілінную перадачу на Беларусь на... расейскай мове і даручыла гэтую перадачу... расейскай рэдакцыі „Нямецкай хвалі". (Як кажуць расейцы, „шчуку бросілі в реку").

Яны што – ня ведаюць, што адбываецца ў Беларусі? Ня бачаць вайны цывілізацыяў – беларускай і расейскай? Ня ведаюць, чаму і хто зьнішчае беларускія школы, беларускую мову і друк? Ня ведаюць, хто стаіць за антыбеларускай палітыкай і за дыктатурай Лукашэнкі? Не разумеюць, чаму расейскую мову выкарыстоўваюць як сродак дыктатуры і русіфікацыі?

Калі б гэта было так, то трэба прызнаць, што радыёстанцыяй кіруюць абмежаваныя людзі. Але гэта ня так. Немцы – моцны інтэлектуальны народ, і справа ў іншым. Справа ў палітыцы, якую немцы праводзяць вось ужо 200 гадоў, пачынаючы ад габсбургскага чынадрала Шульца і канчаючы сучасным разьведчыкам Гансам Вікам. Нічога не зьмянілася – немцы і расейцы ў агульнай працы супраць Вялікага Княства.

Нам ня трэба такой „дапамогі" ад „Нямецкай хвалі", нам хапае расейскай русіфікацыі, дай Бог зь ёю ўпорацца.

Да гонару беларусаў, знайшліся людзі, якія адкінулі нямецкія пляны далейшай русіфікацыі беларускага эфіру. „Для мяне ўсё, што мы пачулі, – кажа Мікола Маркевіч пра нямецкія задумы, – гэта вялікі плявок у душу". „Калі „Deutsche Welle" зьбіраецца рабіць перадачы на расейскай мове, то нам такая „дэмакратыя" непатрэбная" – падсумаваў Алег Трусаў *(Радыё „Свабода", – 30 чэрвеня).*

„Рабіць" яны, аднак, будуць, пакуль не сапсуюць, ня згадзяць усё канчаткова. Справа Ганса Віка жыве і не памірае.

Адзіная краіна, якая нармальна магла б дапамагчы Беларусі ў інфармацыі па беларуску і якая лепей дасьведчаная – гэта Польшча. Але справа ўпіраецца ў сродкі. На гэта цяперашні „эўрапейскі камісар" сумнавядомая і незабыўная Бэніта Фэрэра-Вальднэр (памятаеце яе глыбокадумныя фразачкі, тыпу „на дадзены момант у Беларусі праходзіць складаны працэс трансфармацыі краіны ў дэмакратычную структуру" і т.п. лухту), дык вось на гэта тытан эўрапейскай думкі адказала проста: „Эўракамісія падтрымлівае ідэю арганізацыі радыёвяшчаньня на Беларусь, аднак цяпер ня можа аказаць фінансавай падтрымкі гэтаму праекту". І дзякуй Богу!

Унутранная сытуацыя не перамянілася, але абазначыліся пэўныя моманты. Найперш, Масква адназначна паставіла на Лукашэнку. Гэта відаць па шматмільённым крэдыце, які яму далі (зразумела) на выбары і таксама па тым, што ён пасьпеў ужо паабяцаць павысіць зарплату настаўнікам і выхавацелям на пэрыяд да 31 жніўня 2006 г. (Які цынізм, нейкая мандарынаўская кітайшчына! І будуць жа радвацца). Такім чынам, да 31-га жніўня рэжым пляную скончыць афёру з выбарамі. („Афёру", бо Лукашэнка па закону ня мае права балатавацца, удзельнічаць у выбарах у якасьці кандыдата).

„Казулізм" будзе працягвацца па інэрцыі як фармальнасьць (страхоўка Лукашэнкі), а гульню ў „партызанаў" і „адзінага кандыдата" рэкруты вікаўскай „апазыцыі" будуць весьці ўвесь час. Рэжыму трэба, каб яны бавіліся ў сьляпым завулку, дэманстравалі б ілюзію дзейнасьці (шукалі б новага ганчарыка) і каб ніхто не займаўся рэальнай працай з насельніцтвам. Маскве тут лёгка, бо гэтыя гульні „ганарлівых сьляпых" падтрымлівае Брусэль, і ўдзельнікі чужога праекту разумеюць, што стварыўшы „адзінага кандыдата" (пра якога ніхто ня ведае), яны могуць атрымаць, як ужо не раз бывала, грошыкі з Захаду на „выбарчую кампанію". Гнюсна, вядома, але такая рэчаіснасьць. Спэктакль „Ганчарык-2" цягаюць па лясах, далах і весях (як у дрэннай літаратуры), і ніхто ня хоча заўважаць пустаты і палітычнай нікчэмнасьці таго, што яны робяць (акрамя Васіля Лявонава, магчыма, бо спрабаваў ўжо выказацца).

У групе „недалучаных" будуць рабіць, як мне здаецца, гэтакага новага „домаша", супрацьвагу асноўнаму беларускаму кандыдату. Прынцыпова новых падыходаў з боку Масквы, відаць, не прадбачыцца. У канцы, магчыма, нават Гайдукевча выпусьцяць.

Прынцыпова новыя падыходы і магчымасьць паралізаваць фальсіфікацыйную машыну галасаваньня, аднак, у нас ёсьць, але пра гэта будзе паведамлена ў сваім часе і ў адпаведны момант. Наперадзе – праца.

***Зянон Пазьняк***

*10 ліпеня 2005 г., Нью-Ёрк.*

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць", www.bielarus.net; www.pbpf.org)*

# ДЗІЎНЫЯ СПРАВЫ Ў БЕЛАРУСКІМ ЗАМЕЖЖЫ

***(Частка 1)***

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

Цягам апошніх некалькіх гадоў пры Беларускай царкве Кірылы Тураўскага ў Брукліне было выдадзена чатыры асобныя нумары газэты „Беларашан Таймс" пад рэдакцыяй члена Рады БАПЦ і Царкоўнай Рады Сабора Кірылы Тураўскага ў Брукліне спадара Юры Васілеўскага (Чудзіна). У складзе рэдакцыі (№№1-4) былі Расьціслаў Гарошка, Ігар Якунін, Юры Васілеўскі (Чудзін), Уладзімер Гуткоўскі і інш. Выдавец газэты спадар Р. Гарошка.

Аналіз тэкстаў №№1-4 з пункту гледжаньня палітычнай экспэртызы газэты паказвае на выразны антыадраджэнцкі, а месцамі – на грубы антыбеларускі характар надрукаванага. Так, напрыклад, у аб'яднаным №3-4 (63) у рэдакцыйным артыкуле, накіраваным супраць беларускага нацыянальнага Адраджэньня, спадар Ю. Васілеўскі дазволіў сабе выказвацца наступным чынам: **„Наяўная прэса эміграцыі, і перш за ўсё газэта „Беларус", такі кантэкст выключае** (гэта значыць адмаўленьне ад змаганьня за нацыянальнае – *заўвага З. П.*)**, прапаноўваючы рэліктавы антыкамунізм эпохі халоднай вайны і невылечную русафобію".**

Тэрмін **„русафобія”** ў дачыненьні да газэты „Беларус” ёсьць неадэкватнай характарыстыкай і не адпавядае сапраўднасьці. Ацэначны тэрмін **„невылечная” русафобія** заключае ў сабе грубы зьняважлівы сэнс і абразу для выдаўцоў старэйшай беларускай газэты, паколькі падразумевае ў сабе сцьвярджэньне аб паталёгіі здароўя, якое, на думку аўтара Ю. Васілеўскага, выяўляецца ў зьмесьце газэты „Беларус”. Гэта таксама не адпавядае рэальнасьці і зьяўляецца нагаворам.

У сакавіку 2005 г. выдрукаваны №5 (64) „Беларашан Таймс” пад рэдакцыяй Ю. Васілеўскага (Чудзіна), выдавец – Расьціслаў Гарошка. Газэта выйшла на васьмі старонках, зь іх 5 старонак па-беларуску і 3 – па-руску. Аналіз надрукаванага дазваляе вызначыць характар гэтага нумара газэты як адкрыта пралукашэнкаўскі, выразна прарасейскі і антыамэрыканскі. Найбольш гэта выяўлена ў перадавым рэдакцыйным артыкуле, які называецца **„Пра беларуска-расейскія ўзаемаадносіны”** і падпісаны словамі **„Землякі (калектыўны псэўданім групы аўтараў)”**.

У перадавым артыкуле, фактычна, пераказаны зьмест ідэйна-палітычнай дэмагагічнай пазыцыі дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі на Беларусі. Там гаворыцца, што **„ЗША прэтэндуюць на ролю гаспадара плянэты”**, што **„Прыбалтыйскія рэспублікі – ня больш, чым амэрыканскія марыянэткі”**, што сумежныя зь Беларусьсю краіны **„служаць пляцдармам для палітычнай, эканамічнай, інфармацыйна-ідэалягічнай экспансіі Вашынгтону”**. Тут гаворыцца, што **„ў краіне робяцца пэўныя захады”** да **„адраджэньня Вялікай Расеі”** і напісана: **„Мы хочам быць часткай „Вялікай прасторы”, у якой Беларусь разам з Расеяй”**. **„Дасягнуць яе магчыма,** – пішацца далей, – **калі будзе існаваць дзяржава, не прывязаная да прэтэндэнта на сусьветнае панаваньне** (гэта значыць – да ЗША – З.П.). **„Такой дзяржавай, калі хочаце, цэнтрам зьбіраньня земляў сёньня зьяўляецца Рэспубліка Беларусь”.** **„Такім чынам,** – падсумоўваецца ў канцы, – **будаўніцтва Саюзу Беларусі і Расеі можа стаць пачаткам будаўніцтва новага цэнтру сілы”**.

У прыведзеных цытатах выяўленыя тыповыя прарасейскія дэмагагічныя разважаньні дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі, заснаваныя на антыамэрыканізме. Гэта набор тэзісаў з ідэалягічнага афармленьня палітыкі існуючага цяпер дыктатарскага рэжыму на Беларусі.

У газэце зьмешчана выява савецкага сьцягу рэжыму Лукашэнкі і Заява Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Беларусь ад 19 лістапада 2004 г. Заява выяўляе пункт гледжаньня рэжыму і няпраўдзівая ў апісаньні зьяваў і прычынаў, але пададзена ў газэце без камэнтароў.

У матэрыялах газэты, допісах, лістах таксама сустракаюцца сцьверджаньні ў падтрымку антыдэмакратычнага рэжыму Лукашэнкі і непрыняцьце Амэрыкі. Напрыклад, у матэрыяле **„Ліст з Прагі (Чэхія)”** напісана наступнае: **„Сёньняшняя падоба існаваньня Рады БНР можа вельмі зашкодзіць Беларусі і беларусам, ніколі не дапаможа. Бо тое, што робяць „прафэсійныя” журналісты, і ня толькі з камуністычнай мінуўшчынай, на Радыё Свабода і цесная сувязь гэтай Суполкі з Радай, дае магчымасьць казаць, што іх дзейнасьць накіравана супраць інтарэсаў беларусаў і Беларусі як дзяржавы. Гэтыя прыслужнікі амэрыканскага імпэрыялізму ставяць сваёй мэтай дэстабілізацыю сітуацыі ў Беларусі, якая прывядзе да зьнішчэньня існуючай сацыялістычнай (дзяржаўнай) мадэлі.”**

Ці, напрыклад, напісана такая апалёгія дыктатарскаму рэжыму: **„Беларусь на сёньняшні дзень – адзіная сацыялістычная краіна ў Эўропе, якая на сваім прыкладзе даказала, што сацыялізм – як палітычны і эканамічны мадэль – больш чым жыццяздольны”.**

Калі не казаць пра зьняважлівыя словы ў тэкстах, то ў свабоднай Амэрыцы могуць, відаць, друкавацца газэты любога палітычнага сэнсу, якія не пярэчаць заканадаўству, у тым ліку і прамаскоўскага, пралукашэнскаўскага, прадыктатарскага, а магчыма – і антыамэрыканскага зьместу. Пытаньне толькі ў тым, што такая пазыцыя не адпавядае пазыцыі беларускай палітычнай эміграцыі ў ЗША і погляду Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, сябрам Рады якой зьяўляецца рэдактар „Беларашан Таймс” Юры Васілеўскі (Чудзін), а ў складзе рэдакцыі папярэдніх нумароў удзельнічаў сьвятар БАПЦ Ігар Якунін.

## СЫТУАЦЫЯ

Узьнікла даволі парадаксальная сытуацыя. У асяроддзі беларускай эміграцыі (асноўная маса якой цяпер – гэта ўцекачы ад дыктатарскага прамаскоўскага рэжыму Лукашэнкі) зьявілася пралукашэнкаўская група (практычна, 2-3 асобы), якая пад дахам беларускай царквы адкрыта праводзіць антыбеларускую працу і дэманструе антыамэрыканскую пазыцыю лукашэнкаўскага рэжыму. Дайшло да таго, што 10 красавіка, з волі і бласлаўленьня сьвятара І. Якуніна, выкінулі нацыянальны беларускі гэрб „Пагоня” з грамадзкай залі, што пад царквой Кірылы Тураўскага ў Брукліне. „Пагоню”, праўда, вярнулі ў залю парафіяне. Але факт зьнявагі беларускага нацыянальнага сымвала працаўніком (сьвятаром) беларускай царквы застаецца.

Сытуацыя ўражвае сваёй абсурднасьцю, якая стала магчымай, таму што мала беларусаў ходзяць у сваю царкву (яны, відаць, думаюць, што іхная царква будзе існаваць сама па сабе). Пралукашэнкаўская група, бачачы гэта, пачала запрашаць у беларускую царкву расейцаў з Брайтан Біч. Гэтым, праўда, парушаецца статус царквы. Але хіба ж лукашысты прыйшлі ў царкву, каб паважаць яе статус?

## ТРЭБА ЗАДУМАЦЦА І ДЗЕЙНІЧАЦЬ

Канкрэтнае пытаньне, якое ўзьнікае – хто фінансуе гэтую антыбеларускую працу, за якія сродкі выдалі „Беларашан Таймс”? На маё пытаньне выдавец опуса спадар Р. Гарошка адказаў, што ён не чытаў зьместу гэтай газэты, што яго падставіў Ю. Васілеўскі (Чудзін, у Інтэрнэце – Асак) і выдаў газэту без ягонага ведама, паставіўшы ягонае прозьвішча як выдаўца. Выходзіла, што сродкаў на выданьне газэты Р. Гарошка не даваў. Далейшы разгляд гэтай дзіўнай зьявы прыводзіць да парога дыпляматычнай місіі Рэспублікі Беларусь пры ААН у Нью-Ёрку і ў пасольства Беларусі ў Вашынгтоне, адкуль, відаць, і пайшлі сродкі на справу лукашэнкаўскага „сацыялізму”.

А пачалася ўся апэрацыя, як мне паведамілі, яшчэ летам мінулага году, калі ў Нью-Ёрку зьявіўся новавысьвечаны епіскап БАПЦ Віктар Касьцюк (уладыка Васіль), які раней быў у Менску ў ведамстве Філярэта. Новы „беларускі” епіскап першым чынам (без камэнтароў і без прычыны) павыганяў усіх актыўных беларусаў з парафіяльнай Рады царквы Кірылы Тураўскага. Потым, разам зь Ю. Васілеўскім (Чудзіным) і сьвятаром І. Якунiным, яны зрабілі візіт у беларускую дыпляматычную

Такія мэтамарфозы адбываюцца ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве ў Амэрыцы. Па маіх назіраньнях, вінаватыя ў дрэнным стане сваёй царквы, перш за ўсё, самы беларусы, якіх цяпер у Амэрыцы шмат, але якія не навучыліся, відаць, любіць сваё і не разумеюць, што калі ўпадзе беларуская царква, то замрэ тут і беларускае нацыянальнае жыцьцё.

Зрэшты, царква трымаецца на веручых людзях. І тут пытаньне глыбокае – рахунак цэлага пакаленьня. Тым ня менш, усім беларусам у замежжы трэба задумацца аб тым, што адбываецца ў іхнай царкве. Задумацца і дзейнічаць. Нарыў, які ўзьнік, мусіць быць ліквідаваны. Інакш тыя беларусы, што ўцяклі ад перасьледу рэжыму Лукашэнкі, могуць раптам, нечакана для сябе, убачыць ягонае мурло проста перад сабой у Амэрыцы. Вось да якога абсурду можа прывесьці абыякавасьць да агульных справаў сваёй нацыі.

## НАЗІРАНЬНЕ

Характэрнае назіраньне. На працягу апошніх 5-6 гадоў у краінах Усходняй Эўропы, якія былі пад акупацыяй СССР, адбыліся падзеі, накіраваныя на зьнішчэньне беларускіх нацыянальных арганізацыяў і асяродкаў, на перацягваньне іх пад кантроль лукашэнкаўскай адміністрацыі і пад савецкі зялёна-чырвоны сьцяг БССР. У выніку, у Маскве, Пецярбургу, у Эстоніі, Латвіі, Летуве беларускія арганізацыі раскалолі. Адна частка беларусаў пайшла пад зялёна-чырвоны сьцяг БССР і пад грашовыя датацыі лукашэнкаўскага рэжыму (фінансаваньне праз пасольствы), другая – засталася на беларускіх пазыцыях 25 Сакавіка і Эўрапейскай незалежнасьці.



(Фота З. Пазьняка)

*56. Беларускі сабор сьвятога Кірылы Тураўскага ў Брукліне.*

місію пры ААН 3-га ліпеня (лукашэнкаўскае афіцыёзнае сьвята „незалежнасьці”).

Тым часам Віктар Касьцюк праігнараваў найвялікшае беларускае нацыянальнае сьвята Дзень Незалежнасьці Беларусі 25 Сакавіка і 87-я угодкі БНР. Упершыню за ўсю гісторыю беларускай эміграцыі япіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы не прыслаў свайго афіцыйнага вішаваньня беларусам, Радзе БНР і ўсёй беларускай грамадзкасьці.

Пра ўсіх трох асобаў вядома мала. Віктар Касьцюк (ул. Васіль) – беларус з Пінску (1971 г. нар.). У 1999 г. скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію, кандыдат Богаведы, выхаваны ў Рускай праваслаўнай царкве, з’арыентаваны на Расею і на РПЦ.

Ігар Якунін закончыў няпоўныя два курсы Духоўнай сэмінарыі, зь якой (за нейкую шкоду, зьвязаную з маёмасьцю) яго выключылі.

Найбольш нявысьветленая фігура – Юры Чудзін (Васілеўскі). Вядома толькі, што ён расеяц з Масквы, валодае беларускай мовай, у 90-х гадах прыехаў у Беларусь. Потым езьдзіў па асяродках беларускай эміграцыі, знаходзіўся ў Польшчы, пабываў праваслаўным, вуніятам, каталікам, потым (ужо тут, у Нью-Ёрку) зноў стаў „праваслаўным”. Цяпер пачаў гаварыць ужо па-руску і выявіўся адкрыта на баку лукашэнкаўскага рэжыму.

У Малдове, Казахстане, Іркуцку і іншых месцах пасольствы рэжыму Лукашэнкі і агентура ФСБ падабралі пад сябе поўнасьцю беларускія арганізацыі, якія сталі на прарасейскія, праімпэрскія пазыцыі, а некаторыя адмовіліся нават ад беларускай мовы.

Выглядае на тое, што аналягічную апэрацыю Масква хоча правесьці і ў ЗША, і робіць гэта груба і бяздарна, але надзвычай нахабна (чаго вартыя замашкі стварыць антыамэрыканскі цэнтар).

З маіх назіраньняў напрашваецца відавочная выснова аб адзінай расейскай антыбеларускай стратэгіі. Зірніце. Скончылася халодная вайна, разваліўся СССР, але антыбеларуская агентурная дзейнасьць постсавецкай Расеі ня тое што ня зьнікла ў замежжы, але нават узмацнела; ствараюцца новыя агентурныя асяродкі ў Эўропе (у Бэльгіі, Чэхіі і іншых краінах). Пастаянна адчуваецца маскоўская антыбеларуская справа ў Амэрыцы. Усё гэта каштуе вялікіх сродкаў, дыпляматычных высілкаў, высокіх затратаў. І Расея робіць гэта. Чаму?

Мэта расейскага гэбізму (якую ён не хавае) – захапіць Беларусь і ліквідаваць беларускую дзяржаўнасьць. Вольныя, арганізаваныя беларусы ў эміграцыі, куды не дастае рука Масквы, могуць аказацца вялікай перашкодай расейскаму рэжыму ў яго захопніцкай палітыцы. Вольныя беларускія арганізацыі ў замежжы могуць стаць цэнтрамі ўсебеларускай барацьбы за сва-


(Фота А. Вінакурава)

*57. Беларусы ў грамадзкай залі сабора ў Брукліне.*

боду нацыі. Таму і робіць Расея гэтую прэвентыўную (на першы погляд, як бы незразумелую) антыбеларускую справу ў замежжы. У Маскве, як бачым, нават мову беларускую вывучаць сталі, гэ-так спатрэбілася.

Усё гэта павінна падштурхнуць нас, беларусаў, да згуртаваньня і абароны нашых нацыянальных каштоўнасьцяў.

*19 красавіка 2005 г.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускі Час, – 2005, № 1 (65), верасень)*

***(Частка 2)***

## ПАСЬЛЯСЛОЎЕ

Вышэй пададзены артыкул, першая частка (па-беларуску і ў ангельскай вэрсіі) быў надрукаваны ў разавым выданьні *„Беларуская Салідарнасьць за мяжой"* і зьмешчаны на старонцы *„Беларуская Салідарнасьць"* у Сеціве (bielarus.net).

У выніку друкаваньня артыкула выдавец „Беларашан Таймс" спадар Расьціслаў Гарошка радыкальна „разабраўся" з рэдакцыяй – звольніў усіх і заявіў, што галоўны рэдактар Ю. Чудзін (Васілеўскі) скарыстаўся ягоным даверам і ашукаў яго і чытачоў, за што ён, спадар Гарошка, просіць ва ўсіх прабачэньня.

Паводзіны антыбеларускай групы ў царкве сталі пасьля гэтага яшчэ больш агрэсіўнымі. У Беларускай царкве гучэла ўжо расейская вымова, на беларусаў паказвалі падбародкамі і казалі: „Яны". У час службы брайтанаўскія кабеты шнырылі па храму, з дазволу сьвятара заходзілі ў алтар (што недапушчальна па канонах царквы), пагражалі нават прыпыніць Божую службу, калі „Апостала" стане чытаць беларус Сагановіч, а не асобы з Брайтан-Біч і г.д. Усё гэта прывяло да таго, што памяркоўныя і рахманыя беларусы вырашылі сабраць Царкоўную Раду і навесьці парадак. Тут жа перад паседжаньнем Рады выступае нечакана сьвятар Якунін і зачытвае прысланыя зь Менску загады япіскапа Васіля (Касьцюка) аб ліквідацыі Царкоўнай Рады, а заадно – аб адлучэньні ад царквы шэрагу маладых беларусаў і аб забароне хаваць іх пасьля сьмерці па праваслаўным звычаі.

Апошняя выхадка, відаць, перапоўніла чашу легендарнай беларускай талерантнасьці. Рада выключыла з парафіі Ю. Чудзіна (Васілеўскага), выказала недавер сьвятару Якуніну і паставіла пытаньне перад Радай БАПЦ аб адпаведнасьці сьвятара Якуніна да службы ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Тады антыбеларуская група пасылае ў Менск да япіскапа Касьцюка свайго пасланца (кабету з Брайтан-Біч). Кабета сустракаецца з яп. Касьцюком і нават (зь яе словаў) з амбасадарам ЗША ў Менску (што ня так проста) і вяртаецца ў Бруклін са стосам чарговых загадаў „япіскапа". Тым часам у царкву пачалі цугам прыходзіць „нейкія людзі" і шаптаць, як у песьні, пра „злавешчую цень Пазьняка". Гэта, відаць, таму, што увесь гэты спэктакль мне прыходзілася назіраць, ня кажучы нідзе ніводнага слова.

Неўзабаве сабралася Рада БАПЦ. Паклікалі сьвятара Якуніна, паслухалі ўсіх і выдалілі яго з парафіі і з БАПЦ. Тады сьвятар Якунін устаў і зачытаў чарговы загад япіскапа Касьцюка аб спыненьні дзейнасьці Рады БАПЦ. (Тут дарэчы нагадаць дасьведчаньне, што дрэнныя справы, як правіла, робяць дурныя людзі.)

Тым часам у загадзе „япіскапа” выказана думка, што БАПЦ гэта *„раскольніцкая групоўка, якая не належыць да праваслаўнай царквы”*, што яна аддадзена пад *„анафему”*, што *„ўсіх вернікаў БАПЦ і асобаў, якія зьярталіся ў БАПЦ, трэба ізноў мірапамазаць, перавянчаць, перахрысціць, пераадпяваць* (гэта асабліва моцна!), *сьвятароў перарукапакладаць, а міранам – каяцца, з моманту знаходжаньня ў БАПЦ”*. А таму ён, навасьпечаны япіскап Касьцюк, *„спыняе”* Раду БАПЦ і г.д.

Калі ў складальніка такога тэкста ўсё ў парадку з мэнтальнасьцю (а хутчэй за ўсё, у парадку), то задача яго – давесьці ўсё да абсурду і да поўнай брыдоты, каб ніхто з нармальных людзей не захацеў бы ўнікаць, цікавіцца і нават слухаць гэтыя паранойныя сваркі.

## „EXODUS”

25 чэрвеня, згодна рашэньня Рады БАПЦ, сп. Якунін павінен быў перадаць справы іншаму сьвятару. Але калі прышлі гэтыя справы ад яго прымаць, то аказалася, што Якунін зьнік у невядомым накірунку. Беларусы ўбачылі такую карціну: царква адчыненая, замкі і клямкі з дзьвярэй у падвал сарваныя, калпачкі з электравыключальнікаў сарваныя, тэрмарэгулятар разабраны, а паліва сістэмы ацяпленьня напалову выпалена (гэта ў 30-градусную сьпякоту на вуліцы!), тэлефон і электразванок ня дзейнічаюць – перарэзаныя зьнешнія правады, – у алтары і царкве няма шмат царкоўных рэчаў (кнігі, падсьвечнікі, адзеньне, аналоі, антыміс і г.д.), нават будаўнічы матэрыял (трохмэтровыя брусы на 300 даляраў), што на рамонт царквы, зьніклі са двара, а ў падвале недалічыліся сьвяцільнікаў на суму 250 даляраў.

Дзіўнае відовішча. Можа, якія тэрарысты (падумалі сабе беларусы) напалі на царкву і выкралі былога сьвятара Якуніна, разам з маёмасьцю, сьвяцільнікамі і будматэрыяламі. Чамусьці ўспомніўся літаратурны пэрсанаж у Ільфа і Пятрова, які выкруціў у грамадзкім туалеце электрычную лямпачку – „ему было стыдно, но...” і г. д.

Брыдка ўсё выглядае. Але гэта пакараньне за беларускую даверлівасьць і дабрыню, за славутую беларускую „талерантнасьць”, якая так падабаецца нягоднікам і ворагам Беларусі, бо ўсе яны спадзяюцца, што беларусы за паскудзтва іх каленам пад зад ніколі ня выштурхнуць.

## ВЫСЬВЯТЛЕНЬНЕ

Аналягічная карціна зь „япіскапам” Касьцюком. Ніхто сур’ёзна не пацікавіўся, што гэта за асоба, адкуль ён і хто. Анёльскі давер.

В. Касьцюк прыехаў зь Менску ў Нью-Ёрк, як мы ўжо адзначылі, зь ведамства Філярэта. Але адпускной ад Філярэта не прад’явіў, сказаўшы, што адпускная ёсьць, але ён яе пакажа потым.

Высьвячэньне на япіскапа адбылося на Ўкраіне. Касьцюк сам уладкоўваў гэтую справу. Высьвячалі яго тры япіскапы, пра аўтэнтычнасьць і правамоцнасьць якіх БАПЦ дакладна ня ведала, але са слоў Касьцюка, усё было нібыта гладка, правільна і законна.

Потым, аднак, з інфармацыі сьвятароў і людзей, дасьведчаных у справах царквы на Ўкраіне, высьветлілася, што правамоцнасьць гэтых япіскапаў пад сумненьнем, асабліва аднаго зь іх (імя нам вядомае), які быў некалі кіроўным мітрапалітам ва Ўкраінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве (катэдра ў Тарнопалі). Аднак за амаральныя, антыцаркоўныя паводзіны УАПЦ КП (Кіеўскі патрыярхат) растрыгла мітрапаліта і пазбавіла сану. Тады ён перайшоў у УАПЦ, якая разышлася з УАПЦ КП.

Гэты япіскап расеяц. Ён носіць пры сабе пісталет. Аднойчы ў бары напіўся і страляць пачаў, усчаў бойку з кліентамі. Расказваюць, што яго неяк запрасілі ў пасольства ЗША з нагоды Дня незалежнасьці. Япіскап прышоў п’яны, на прыёме яшчэ дапіў і пачаў бойку з запрошанымі гасьцямі. Амэрыканцы ня ведалі, што рабіць.

У размовах на Ўкраіне вышэйапісанага „япіскапа” лічылі агентам ФСБ, пра гэта казалі нават у дзяржаўных ворганах Украіны. Але люстрацыі на Ўкраіне яшчэ ніхто не праводзіў, і пытаньне застаецца адчыненым.

В. Касьцюк затаіў і не прызнаўся, што адзін зь япіскапаў расстрыжаны і несапраўдны. У БАПЦ пра гэта ніхто ня ведаў. Цяпер жа ўсё высьвятляецца.

Ужо пасьвечаны на беларускага япіскапа, Касьцюк пісаў у Інтэрнэце наступнае: *„Мы выступаем против каких-либо спекуляций на темы автокефалии и намерены искать пути сближения с Белорусской Православной Церковью на Беларуси”* (гэта значыць, зь Беларускім Экзархатам РПЦ і Філярэтам).

Вось дык пляны! І ніхто зь беларусаў у сваім часе гэтага не чытаў.

У іншым месцы „япіскап” Касьцюк піша, што праваслаўны вызначаецца па адносінах да Расеі, бо *„православный”* ня можа не любіць *„Россию”* і г.д. Адкуль і як зьяўляюцца такія „прадукты” – мы ведаем.

## ЯК У СВАІМ ДОМЕ

Цяпер у беларускай царкве Кірылы Тураўскага ў Брукліне зноў шмат беларусаў, гучыць беларуская мова, усе адчуваюць сябе, як у сваім доме, ва ўсіх прыветныя абліччы, радуюцца адзін аднаму. У грамадзкай залі беларусы разам абмяркоўваюць свае справы, праблемы, разам абедаюць, тут жа, за чыстымі сталамі, і нідзе не відаць цяпер панурага погляду з-пад ілба, і ня чутна ні нахабнага чужога голасу, ні злоснага шыпеньня.

Пасьля рамонту будынак царквы будзе зноў асьвечаны, каб не чуваць было брыдкага духу. Гэтак будзе і ў нашай Бацькаўшчыне Беларусі!

*12 ліпеня 2005 г., Нью-Ёрк.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускі Час, – 2005, № 1 (65), верасень).*

# БЕЛАРУСЬ ПАД БЛУДАМ ЧУЖОЙ ПАЛІТЫКІ

Падзеі апошняга месяца ў Беларусі ня ўнесьлі істотных удакладненьняў у палітыку рэжыму па будучых выбарах. Стаўка на „падстаўку" Казуліна пакуль застаецца ў сіле. Гэтаму пацьвярджэньне і адпраўка на „хімію" М. Статкевіча (каб не перашкаджаў сваімі амбіцыямі). Магчыма, гэта ўзгоднена нават зь немцамі. Верагодней за ўсё, што многіх „праверaных актывістаў" вікаўскай „апазыцыі" пастараюцца ў бліжэйшы час заткнуць на „хімію" гэтак-жа, як і Статкевіча, а ўзамен выпусьцяць новых, якія будуць лямантаваць у паветра, а потым падтрымаюць Казуліна, ці каго іншага, якога яшчэ могуць вывесьці на прасцэніум. Пакуль што я схільны бачыць у падзеях мінулых месяцаў выключна маскоўскую тэхналёгію.

Добрай ілюстрацыяй да такога вываду зьяўляецца штучна раскручаны скандал вакол Саюзу палякаў Беларусі. Стварэньне міжнацыянальных канфліктаў у краінах, дзе Масква хоча ўкараніць свае інтарэсы, было і ёсьць першаснай справай у тактыцы расейскага КГБ. Найлепшы прыклад гэтай палітыкі – Каўказ. (Паглядзіце, што крамлёўцы і Лубянка вытваралі з Грузіяй). Потым – Сярэдняя Азія. У Беларусі Маскве нічога не ўдалося, хаця перапрабавалі ўсё ад фірмовага расейскага „бей жидов" да ўзбуджэньня палешукоў (успомніце такога Шэляговіча) і да натраўліваньня абласных гарадоў на Менск (маўляў „Минск всё забирает").

Нягледзячы на поўны правал, Масква не адмовілася ад сваёй тактыкі страўліваньня людзей і дэстабілізацыі ў грамадзтве. Для Масквы прынцыпова важна „завязаць" свайго небясьпечнага стаўленьніка Лукашэнку на які-небудзь нацыянальны канфлікт. Тады кіраваць такім сатрапам будзе проста, мэханізмы адпрацаваныя.

Другі аспэкт пытаньня ў тым, што Расея, дбаючы аб паглынаньні Беларусі, ня хоча дапусьціць добрых дачыненьняў Беларусі з Польшчаю. Але, нягледзячы на ўсе супрацьдзеяньні, беларуска-польскія дачыненьні якраз найбольш плённыя ў параўнаньні з іншымі суседзкімі краінамі (маюцца на ўвазе, перш за ўсё, гандлёвыя дачыненьні і паміжлюдзкія адносіны).

Цяпер для Лукашэнкі настае якраз крытычны час, каб любымі спосабамі ўтрымацца ва ўладзе, правесьці выбары 2006 году ў сваю карысьць і не дапусьціць кансалідацыі супраць ягонага рэжыму. У гэтых умовах (мы бачым) рэжым робіць вытоптваньне беларускіх нацыянальных сілаў і нэўтралізацыю усіх, нават патэнцыйных антырэжымных груповак і асобаў. Ужываюць тэхналёгію „сьляпых завулкаў", калі правакуюцца бочныя дзеяньні, апазыцыйная траскатня і несуразіца (тыпу абсурдных „галадовак" па кватэрах), абы толькі адцягнуць увагу грамадзтва ад рэальнай нацыянальнай працы па зьмене ўлады і ад падрыхтоўкі да 2006 году.

Лукашэнку цяпер асабліва патрэбныя „ворагі з Захаду", дэстабілізатары грамадзкага спакою, карупцыянэры-абдзіральшчыкі народу, пятая калёна Брусэля і г. д., зь якой ён стане змагацца, каб „абараніць" беларускі народ. Рэжыму хацелася-б адцягнуць грамадзкую ўвагу ад пытаньняў улады, ад будучых выбараў, каб ціха за шырмай грамадзкага вэрхалу і дэмагогіі рыхтаваць чарговую „элегантную перамогу" рэжыму.

У гэтых умовах прыдаўся-б які-небудзь невялікі рэлігійны ці нацыянальны канфлікт (ізноў-жа для адцягненьня ўвагі ад выбараў і незаконнага ўдзелу ў іх Лукашэнкі). Тым часам Лукашэнка наводзіў бы парадак, караў-бы, мірыў, балбатаў, лавіў рыбку ў мутнай вадзе, набіраў-бы ачкі гаспадара становішча.

Гэтую сытуацыю добра адчула Масква і стараецца пажаць тут неспатолены свой інтарэс. Сытуацыя тым часам банальная і мераецца звыклымі гэбоўскімі меркамі. Саюз палякаў Беларусі за кіраўніцтвам Тадэвуша Гавіна быў прыхільны да БНФ. Фронт падтрымліваў гэтую арганізацыю. Тады агентуры ўдалося выпхнуць Гавіна і паставіць у кіраўніцтва іншую асобу – Тадэвуша Кручкоўскага. Т. Кручкоўскі, стаўшы кіраўніком СПБ, адразу заявіў, што арганізацыя ня будзе падтрымліваць Беларускі Народны Фронт і апазыцыю, а стане супрацоўнічаць з уладамі Лукашэнкі ў інтарэсах палякаў.

Гэтыя заявы Т. Кручкоўскага былі надрукаваныя ў Польшчы ў польскім друку і, як ня дзіўна, ня сталіся прадметам увагі палітыкаў і журналістаў. Т. Кручкоўскі рэгулярна прыяжджаў у Польшчу, браў удзел, напрыклад, у паседжаньнях Rady prezesow Europejskiej Unii Wspolnot Polonijnych, а ў 2002 годзе быў выбраны сябрам Прэзыдыюму Rady Polonii Swiata, удзельнічаў у паседжаньнях Polonijnej Rady Konsultacyjnej у Сэнаце Польшчы і ў 2002 годзе быў нават абраны на сакратара гэтай Рады.

У сакавіку гэтага года адбыўся чарговы зьезд СПБ, на якім, відаць, нечакана для Кручкоўскага і ягоных апекуноў, на старшыню выбралі не яго, а іншую асобу. Кручкоўскі і ягоныя людзі паставілі пад сумніў законнасьць зьезду, а Мінюст Лукашэнкі не прызнаў яго правамоцнасьць і новае кіраўніцтва СПБ з-за парушэньняў Статуту і запатрабаваў правесьці паўторны зьезд.

Пачаўся скандал, які распальваецца з абодвух бакоў. Рэжым Лукашэнкі і маскоўская агентура хочуць сьпіхнуць канфлікт у нацыянальнае рэчышча, гучаць адпаведныя слоўцы, ярлычкі і тэрміналёгія, па тэлебачаньні паказваюць сумніўныя фільмы з абвінавачваньнем СПБ у падрыўной дзейнасьці разам з польскай дыпляматыяй, імкнуцца скляпаць з часткі нашых суайчыньнікаў нібыта „антыбеларускую" пятую калёну. І хто гэта імкнецца – нішчыцелі ўсяго беларускага, лукашысты, беларусафобы й падпявалы рэжыму.

Словам, скандал ствараецца па ўсіх тэхналягічных правілах маскоўскіх скандалатворцаў. Самае дзіўнае, што шмат хто ў польскай палітыцы не разумее правакацыйнай сутнасьці і штучнасьці канфлікту і задумы яго праектантаў з Масквы, гавораць неадпаведныя словы і прапановы, якія толькі б распалілі скандал у патрэбным Маскве і Лукашэнку рэчышчы.

Тым часам маскоўская дыпляматыя тут-жа пачала дзейнічаць. Расея стала прыкідвацца найлепшым сябрам Польшчы. Расейскі кіраўнік МЗС Сяргей Лаўроў тут-жа спатыкаецца і размаўляе ў чатыры вочы з міністрам замежных справаў Польшчы, пасьля чаго польскі міністар заяўляе, што „Масква хоча паправы дачыненьняў з Польшчай" *(газэта „Rzecz Pospolita", – 2005, 11-12 чэрвеня)*, што ён ня можа адкрываць дэталяў размовы і г. д.

Як гэта ўсё нам вядома з гісторыі! Сутнасьць гісторыі, аднак, у тым, што на гісторыі ніхто ня вучыцца.

Калі-б скандал сапраўды раскруцілі па маскоўскім сцэнары да ўзроўню нацыянальнага канфлікту, то пацярпелі б Польшча, Беларусь і беларускі нацыянальна-дэмакратычны рух; выйгралі б Лукашэнка і Масква. Але трэба разумець, што маскоўска-лукашэнкаўская афёра ў прынцыпе ня можа мець рэальнага сацыяльнага выніку, бо адсутнічае грамадзкая аснова нацыянальнага канфлікту. Яго проста не існуе нават у думках. Але

прапагандысцкае ляпаньне лёзунгамі, заявамі і языкамі робіць сваю шкодную справу, бо тлуміць людзям розум, адцягвае ад рэальных задачаў адраджэньня дэмакратычнай Беларусі і ад змаганьня з рэжымам, кіруе ўбок, у сьляпы завулак, сее зерні недаверу і варожасьці паміж людзей. І ў гэтым ёсьць шкода правакацыйнай кампаніі і злачыннасьць рэжымнай палітыкі Лукашэнкі.

Як бачым, у гэтым скандале шмат што ня вяжацца зь лёгікай як з Лукашэнка-маскоўскага, так і з польскага боку. Відавочна, на жаль, што некаторыя польскія палітыкі паддаюцца на правакацыю Лукашэнкі, і Масква набірае ачкі. Бо Лукашэнка, маючы свой інтэрас, таксама ўвязаўся ў чужую гульню. Калі Маскве ўдасца канчаткова папсаваць дачыненьні Беларусі з Польшчай, гэта яшчэ мацней прывяжа рэжым Лукашэнкі да Расеі і ўзмоцніць маскоўскі ўплыў на Беларусі. Ці разумеюць на захад ад Бугу, што яны прайграюць Маскве? Сказаць цяжка. Асабліва калі палітыкай кіруюць нацыянальныя эмоцыі. І хоць бура ў шклянцы вады ніколі ня стане патопам, страчаны на пустое час можа стацца фатальным аргумэнтам у справе захаваньня прамаскоўскай дыктатуры на Беларусі.

Як нам, адраджэнцам, ставіцца да скандалу? Па-першае, мы не павінны ў яго ўвязвацца. Ён дрэнна пахне і абстаўлены эмоцыямі. Мы павінны тлумачыць людзям сутнасьць правакацыі і заклікаць працаваць для справы адраджэньня Беларусі і зьмены дыктатуры на дэмакратыю.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус”,– 2005, ліпень, № 510).*



***58. Турэмная сьцяна. Карціна А. Марачкіна.***

# ПРАМАСКОЎСКІ РЭЖЫМ АЛЬБО ЯК АДБЫВАЕЦЦА РАЗБУРЭНЬНЕ БЕЛАРУСІ

Набліжаецца 2006 год, а зь ім падзея пад назвай „прэзыдэнцкія выбары". Гэтая „падзея" (якой яна станецца, ніхто ня ведае) павінна абазначыць лёсы трох суб'ектаў палітыкі на ўсходзе Эўропы: Беларусі, Расеі і Аляксандра Лукашэнкі. Шмат хто мяркуе, што ў выніку ўсяго – пакінецца статус-кво акупацыйнага рэжыму на Беларусі. Але гэта якраз і будзе змрочнае „абазначэньне" яе лёсу. Бо падзеі не застануцца стаяць, працэсы акупацыі выявяцца яшчэ больш адкрыта, паскорыцца разбурэньне беларускай нацыі.

Самым дэструктыўным на Ўсходзе (а па вялікаму кошту і ў сьвеце) ёсьць чыньнік расейскай імпэрскай палітыкі, які ўзмацняецца, чым бліжэй падыходзіць 2006 год.

Пасьля распаду Савецкага Саюзу новая імпэрская дактрына Расеі была падрыхтаваная і прынятая за часы Ельцына ў жніўні 1995 года. Мэта яе заключалася ўаднаўленьні расейскіх уплываў на тэрыторыях, што вызваліліся ад СССР, а потым – далучэньне гэтых тэрыторыяў да Расеі.

Дактрына трашчыць па швах, выклікае войны і канфлікты, але Крэмль (і ня толькі Крэмль – ніхто ў Расеі) ня думае ад яе адмаўляцца.

Пасьля разгромнага паражэньня маскоўскай імпэрскай палітыкі на Ўкраіне, якое адбылося ў канцы 2004 года, Крэмль і расейскія ініцыятары аб'явілі адкрыта, што ўсе сілы накіруюць на захоп Беларусі. ***Гэта ёсьць прызнаньне вайны супраць нашай краіны***, пакуль што – вайны бяз зброі. Але і збройную вайну (хоць гэта стала б канцом Расеі) ня можна цяпер выключаць.

У дачыненьнях на ўсходзе Эўропы трэба ўлічваць прынцыпова новы чыньнік ва ўсходняй палітыцы – уладу КГБ у Расеі і Беларусі. Пра сутнасьць рэжымаў гэбізму я ўжо пісаў у „*Беларуска-Расейскай вайне*". 2006 год робіцца рубіконам для гэтых рэжымаў, якія выяўляюць цяпер усю пачварнасьць і цынізм сваёй палітыкі.

Рубікон агаліў гэтую агрэсіўную палітыку, паказвае яе мэтады і тэхналёгію, стратэгаў і выканаўцаў, і хіба ўжо толькі сьляпы ня здольны яе назіраць.

## НЯ ТАК ДАЎНО

Палітычная агрэсія Расеі супраць Беларусі аднавілася вясной 1992 года пасьля таго, калі было прынятае рашэньне ЦВК Беларусі пра рэфэрэндум аб новых выбарах і чакалася прызначэньне даты яго правядзеньня. (У той час Народны Фронт сабраў каля паўмільёна подпісаў за рэфэрэндум.) У перамозе Беларускага Народнага Фронту мала хто сумняваўся. Тады ўрад Кебіча, ратуючыся, пайшоў на зьдзелку з Масквой і КГБ. У Савеце Міністраў былі створаныя неканстытуцыйныя структуры, напрыклад, Дзяржсакратарыят, якім кіраваў былы куратар КГБ па Менскай вобласьці ў абкаме КПБ Г. Данілаў. Там жа апынуліся тады палкоўнік В. Паўлаў (цяпер генэрал), дзяяч С. Гайдукевіч і іншыя штатныя асобы. Летам быў створаны і буйна прафінансаваны ўрадам Кебіча (праз падстаўны „Комитет солдатских матерей") антыбеларускі „інтэрфронт" (так званае „народное движение Беларуси"), начале якога паставілі С. Гайдукевіча. У гэты ж час аб'явілі і пачалі рэалізоўваць ідэю „аб'яднаньня" расейскай і беларускай грашовых сістэмаў. У канцы кастрычніка ўрадам Кебіча і пракамуністычнай бальшынёй у Вярхоўным Савеце быў рэалізаваны бессаромны плян антызаконнай забароны рэфэрэндуму пра новыя выбары. Беларускае грамадзтва, на жаль, засталося назіральнікам антыдэмакратычных падзеяў. Гэта разьвязала рукі расейскай разьведцы і прарасейскім рэваншыстам у старых структурах улады Беларусі. Урад Кебіча, які трапіў пад непасрэдны ўплыў зьнешняй разьведкі КГБ Расеі і прамаскоўскіх функцыянераў ва ўладзе, пераняў цалкавіты кантроль над камуністычнай дэпутацкай бальшынёй Вярхоўнага Савету (дэпутацкая група „Беларусь"). Дзейнасьць Апазыцыі БНФ была, фактычна, заблякаваная. Намэнклятура пачала падрыхтоўку да ўвядзеньня прэзыдэнцкай сістэмы на Беларусі (цераз прыняцьце новай канстытуцыі і выбары). Усю выканаўчую ўладу (прэзыдэнцтва) меркавалі аддаць у рукі Кебіча і прамаскоўскай групы, сфармаванай ва ўрадзе.

Тады дэпутацкая Апазыцыя БНФ зьмяніла тактыку. Яна паставіла пытаньне аб адстаўцы ўраду Кебіча і накіравала сваю асноўную палітычную працу ў акругі сярод выбаршчыкаў Беларусі. За 1993 год і частку 94-га мне асабіста прыйшлося аб'ехаць і правесьці спатканьні ў 149 гарадах і мястэчках Беларусі. Вастрыё палітыкі было накіраванае супраць старога савецкага ўраду Кебіча. Падзеі вакол гэтага змаганьня адлюстроўвала газэта „Свабода", рэдактарам якой тады быў сябра фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце і сябра Сойму БНФ Ігар Гермянчук. Наклад газэты ў той час перакрочыў за 100 тысячаў. Эфект за паўтара гады палітычнай працы быў адчувальны. І калі ў канцы зімы 1994 года прамаскоўская намэнклятура „пераможна" выйшла на прэзыдэнцкую пэрспэктыву і прызначэньне выбараў, песьня Кебіча была ўжо сьпета (хоць ён гэтага яшчэ не разумеў). Бальшыня народа вызначылася і галасавала б супраць яго.

І тут, як гэта нярэдка было ў беларускай гісторыі, усё перавярнула ня столькі сіла і падступнасьць непрыяцеля, колькі маладушнасьць і здрада асобаў у асяроддзі беларусаў. Гэбоўскі плян з так званай „камісіяй па карупцыі" і вывядзеньнем у палітыку А. Лукашэнкі наўрад ці ажыцьцявіўся б, калі б ня здрада шэрагу вядомых тады дэпутатаў: В. Ганчара, А. Лябедзькі, В. Шэймана, Д. Булахава і іншых, якія падтрымалі плян „Лукашэнку на прэзыдэнта", цудоўна ведаючы пра ягоную псіхалогію, ягоныя кантакты з гэбоўскай Масквой і пра ягонае адмоўнае, варожае стаўленьне да суверэнітэту Беларусі, да беларускай мовы і беларускай культуры. Яны добра ведалі, што рабілі. Яны здавалі сабе справу ў сваіх учынках, калі казалі, што „прадалі сваё імя Лукашэнку" (В. Ганчар), ці што „суверэнітэт не ікона, на якую трэба маліцца" і што „суверэнітэтам можна ахвяравацца дзеля нечага большага" (Д. Булахаў).

У пачатку прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі я нечакана спаткаўся ля Дома ўраду твар у твар зь Віктарам Шэйманам (ён лічыўся ў „Дэмклюбе" і ў БЗВ). Шэйман пачаў апраўдвацца: „Выбачайце, што я ў Лукашэнкі, бо перамагчы кебічаўскую банду зможа толькі ён. Я толькі дзеля гэтага. Вы ня зможаце – у вас сумленьне, яны вас проста заб'юць". „А як жа Беларусь?" – спытаў я. „Кебіч здасьць Беларусь", – быў адказ.

Была і такая здрада. Здавалася б, „чэсны афіцэр", здавалася б, „за Беларусь". А на справе ... Што на справе?! А на справе – прыклад, ілюстрацыя, як прадаецца душа д'яблу.

## ЗАХОП УЛАДЫ

Адраджэньне беларускага нацыянальна-вызвольнага руху (БНФ) і аднаўленьне незалежнасьці Беларусі сталася поўнай нечаканасьцю для Масквы. Па ўсіх рэляцыях, меркаваньнях і справаздачах розных расейскіх „аналітыкаў" і „ціхачоў" беларуская нацыя была ўжо імі зьнішчаная, раздушаная і пахаваная. Заставалася (як яны думалі) толькі дачакацца яе канчатковае фізічнае сьмерці. Але здарылася „асечка" ў „аналітыкаў" – нацыя аджыла (і будзе жыць!). Прычыны „асечкі" былі грунтоўна прааналізаваныя ў Маскве, зробленыя высновы. Неўзабаве пачалася палітычная агрэсія.

Стаўка была на захоп улады ў Беларусі праз савецкі КГБ, які поўнасьцю кантраляваўся спэцслужбамі Масквы. У 1994 годзе ўлада ў Беларусі была перабрана агентурай дэмакратычным мэтадам (з выкарыстаньнем дэмакратычных механізмаў). На пасаду прэзыдэнта Беларусі быў прыведзены „свой" чалавек (КГБ плюс савецкая мэнтальнасьць). Маскоўцы не стамляюцца называць яго „нашым" („*Коммерсант*" і інш.). Пачаўся ўнутраны захоп беларускай улады прамаскоўскімі стаўленьнікамі, расейцамі (войска, КГБ) і функцыянерамі расейскай разьведкі.

Пра тое, якія Масква зрабіла высновы пасьля паражэньня ў Беларусі (на пачатку 90-х гадоў) сьведчыць дзейнасьць і палітыка цяперашняга прарасейскага акупацыйнага рэжыму. Беларуская рэчаіснасьць ёсьць хрэстаматыйная ілюстрацыя таго, якімі мэтадамі расейскі рэжым вынішчае культурны народ. Выразна відаць праграма, мэта і пасьлядоўнасьць разбуральных дзеяньняў, шырокі ахоп у ліквідацыі цэлай нацыі і нацыянальнай дзяржавы.

Тактычныя задачы ўкладваюцца ў пасьлядоўную хроніку ўсталяваньня прамаскоўскага рэжыму, цалкавітага захопу і ўмацаваньня рэжымнае ўлады, стварэньня кантролю над грамадзтвам. Пасьлядоўнасьць і паралельнасьць дзеяньняў пасьля легальнага захопу ўлады ў Беларусі вынікалі з антыбеларускай зададзенасьці працэсаў. Першым дзеяньнем новага стаўленьніка (ўжо праз тыдзень пасьля ўступленьня яго ў пасаду) было навязваньне кантактаў з Масквой і падрыхтоўка Беларуска-Расейскай дамовы „аб дружбе" і аб сумесных дзеяньнях у палітыцы. Наступным дзеяньнем стала ажыцьцяўленьне кантролю над сродкамі масавай інфармацыі, затым – кантроль над заканадаўчай і судовай уладамі, усталяваньне новых структураў і новага заканадаўства, якое абгрунтоўвала б і апраўдвала б сістэмныя перамены ва ўладзе і антынацыянальны характар рэжыму.

На гэта пайшло два гады. Выключна палітычнымі мэтадамі з выкарыстаньнем адміністрацыйнага і сілавога рэсурсаў улады і з паламаньнем права былі ліквідаваныя дзяржаўныя нацыянальныя сымвалы краіны, зацьверджана русіфікацыя (уведзена фармальнае двумоўе), адменена дзеючая Канстытуцыя і незаконным спосабам уведзена іншая, пераразьмеркаваныя функцыі ўсіх структураў улады, створана цэнтралізаваная сістэма ўладнай „вертыкалі" і ўнутраныя сілавыя кантынгенты, накіраваныя на абслугоўваньне гэтай цэнтралізаванай гіерархіі, праведзена кадравае напаўненьне ўладнай сістэмы людзьмі антыбеларускай прарасейскай накіраванасьці і агентурай расейскай разьведкі, усталяваны падвойны дзяржаўны бюджэт, кантраляваны выключна адной асобай, у руках якой апынулася ўся палітычная, заканадаўчая і выканаўчая ўлада.

## АКУПАЦЫЙНАЯ ПАЛІТЫКА

Акупацыйная палітыка, незалежна ад таго, ці яна ўсталяваная зьнешнім чынам шляхам агрэсіі з выкарыстаньнем войска і зброі, ці ўнутраным чынам, шляхам маніпуляцыяў улады з выкарыстаньнем разьведкі і калябарацыі, – акупацыйная палітыка характарызуецца аднолькавымі чыньнікамі: ***падрывам нацыянальных інтарэсаў і зьнішчэньнем кансалідуючых каштоўнасьцяў нацыі.***

Паўсюднымі кансалідуючымі каштоўнасьцямі нацыі ёсьць мова, народ, дзяржава, тэрыторыя, незалежнасьць. Могуць імі быць таксама сымвалы, традыцыі, асобы, падзеі і іншыя сакральныя зьявы. Калі нацыянальнае грамадзтва мае і ўсьведамляе свае кансалідуючыя каштоўнасьці – яно моцнае, яно здольнае да культурнага і грамадзкага разьвіцьця. Калі грамадзтва ўсьведамляе, разьвівае і абараняе свае нацыянальныя інтарэсы – яно самадастатковае, здольнае да цывілізаванага самаўдасканаленьня і павышэньня ўзроўню існаваньня.

Першаснае палітычнае дзеяньне, якое Масква стала праз сваю разьведку (і Лукашэнку) рабіць на Беларусі, – гэта зьнішчэньне якраз кансалідуючых каштоўнасьцяў нацыі ва ўжытку і ў сьведамасьці грамадзтва. Так былі ліквідаваныя нацыянальныя сымвалы Беларусі – дзяржаўны *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і гэрб *Пагоня*. (Пачытайце іхныя цяперашнія афіцыйна-рэжымныя „праваслаўныя" рэляцыі: *Пагоню* там ужо называюць „езьдзец".) Гэтак (праз палітыку „двухмоўя") была, фактычна, пазбаўлена дзяржаўнага статусу беларуская мова і падважаны сувэрэнітэт нацыі.

Наступны этап – зьнішчэньне носьбітаў аб'яднаўчых ідэяў, аб'яднаўчых словаў, паняцьцяў, кансалідуючых зьяваў і аб'ектаў, адлучэньне маладога пакаленьня ад сутнасных каштоўнасьцяў народа.

Гэтак напачатку было забароненае слова „народны", потым – „беларускі" і „нацыянальны". Усё беларускае, нацыянальнае (па лёгіцы акупацыйнага рэжыму) павінна зьнікаць, выкрэсьлівацца з ужытку, выключацца з жыцьця. Найперш робіцца гукавы вакуум, паняцьце „беларускае" павінна перастаць шырока існаваць у грамадзтве і ў сьвеце, мусіць, па задуме русіфікатараў, сьцірацца са сьведамасьці. Гэта адпрацаваны прыём расейскіх душыцеляў ужываўся яшчэ ў XIX-м стагоддзі ў палітыцы розных цароў, сатрапаў мураўёвых ды карнілавых, пазьней ім карысталіся рускія камуністы.

Самымі ненавіснымі для акупантаў зьяўляюцца кансалідуючыя носьбіты нацыянальных зьяваў, вобразаў і народных ідэяў, ці гэта жывыя людзі (палітыкі, мастакі), ці сакральныя асобы – ўвасабленьне духа і культуры нацыі. Іх перасьледуюць і стараюцца зьнішчыць у першую чаргу. Гэтак акупацыйны рэжым Лукашэнкі абплёўваў вялікага Васіля Быкава, па-хамску зьдзекваўся зь ягонай выдатнай творчасьці, выгнаў яго зь Беларусі і загнаў у магілу (заўчасная сьмерць Быкава на рахунку лукашысцкага рэжыму).

Гэтак перасьледуецца вялікі Скарына. Чужому чалавеку, які не разумее прычыны зьяваў, усё гэта здаецца абсурдам ці нейкай дурнотай рэжыму. Але на справе – рэжым не „дурны", зьнішчэньне беларускай нацыі адбываецца вельмі рацыянальна, тэхналягічна прадумана і пасьлядоўна, крок за крокам, прытым сплянаваны нават канец (завяршальны этап).

Праспэкт Скарыны быў перайменаваны, з пункту гледжаньня нішчыцеляў, тэхналягічна „правільна" – без тлумачэньняў. Скарына ня толькі відавочна і штодзённа ілюстраваў культурную эўрапейскую веліч беларусаў, але ўскосна паказваў на адсталасьць Масквы. Імя Скарыны пачынаюць мэтакіравана звужаць ва ўжытку, выкрэсьліваць з памяці. Наступны этап – забарона штогодніх Скарынаўскіх чытаньняў ля помніка Скарыну ў Полацку (ізноў жа, без тлумачэньняў). Чарговы факт – на Дзень беларускага пісьменства ў Камянцы не запрашаюць




*59. Плякат антыбеларускага рэжыму – вывеска сутнасьці.*

беларускіх пісьменьнікаў і г.д. Беларускую літаратуру як важнейшы чыньнік нацыі даўно і ськівана вынішчаюць, штучна ствараюць неспрыяльныя ўмовы для яе існаваньня; беларускія пісьменьнікі, па задуме planіроўшчыкаў этнацыду, не павінны фігураваць у народзе, на віду, у грамадзтве.

Беларусы павінны зразумець, што ўсе гэтакія антыбеларускія факты ***ня ёсьць толькі хаатычным адлюстраваньнем пазыцыі ці вынікам антыбеларускай настроенасьці рэжыму. Гэта ёсьць праявы сістэмнай разбуральнай працы па вынішчэньні нацыі, якая робіцца прадумана, плянава і пасьлядоўна.***

З усіх камуністычных сатрапаў ніхто не зрабіў столькі шкоды беларускай нацыі, як П. Машэраў. (Галоўныя яго злачынствы: ліквідацыя беларускай школы, нішчэньне беларускай мовы, русіфікацыя, меліярацыя, пачатак зьнішчэньня беларускай вёскі.) Рэжым Лукашэнкі працягвае гэтую разбуральную палітыку. Машэраў для Лукашэнкі павінен бы стаць гэтак, як Андропаў для Пуціна. І тым ня менш, побач са Скарынам нішчыцца і памяць пра сатрапа. Абсурд. У чым жа прычына, дзе лёгіка?

Лёгіка ў тым жа – у акупацыйнай палітыцы зьнішчэньня народа. За часы Кебіча пра Машэрава быў створаны міф „чэснага камуніста", які нібыта падняў Беларусь. Людзей пераконвалі, што Кебіч, рыхтуючыся на прэзыдэнта, бярэ, маўляў, з Машэрава прыклад і стане другім Машэравым. Прапаганда правалілася, а міф прыжыўся. Для савецкіх людзей у Беларусі, былых камуністаў і старэйшага пакаленьня, імя Машэрава стала чыньнікам месьніцкай беларускай кансалідацыі зьлева, фактарам месьніцкага яднаньня на ілюзіі, на міфалягічным мінулым, якое супрацьстаўіцца цяперышчыне і Лукашэнку. Машэраў робіцца „пакутнікам" за лепшую долю людзей, якога нібыта забіла брэжнеўская Масква (што таксама вынік фантазіі). Па лёгіцы акупацыйнай палітыкі, міф пра Машэрава для Масквы шкодны, бо набывае нацыянальна-кансалідацыйныя рысы ў асяроддзі прамаскоўскай часткі беларускага грамадзтва. Тым больш непатрэбны ён папулісту Лукашэнку. (Пра ліквідацыю палітыкаў я скажу пазьней.)

У гэтую ж катэгорыю зьнішчэньня ўваходзіць нацыянальная памяць, сакральныя зьявы, месцы і аб'екты. Найбольш уражвальнымі прыкладамі зьяўляецца спроба разбурыць *Курапаты* (пракладка аўтастрады праз пахаваньні, месца расстрэлаў і масавага генацыду), будаўніцтва гатэля ў Менску на месцы будынка тэатру, дзе ў 1852 годзе адбылася пастаноўка „Ідыліі" В. Дуніна-Марцінкевіча, і разбурэньне старога Менска (Верхні горад, Няміга). Гэтак працягваецца акупацыйная палітыка рускіх цароў і камуністаў.

## АБНІЖЭНЬНЕ АДУКАЦЫЙНАГА ЎЗРОЎНЮ ГРАМАДЗТВА

У цяперашнім цывілізацыйным грамадзтве галоўным нацыянальным рэсурсам, галоўным сродкам вытворчасьці і разьвіцьця робіцца адукаваны інтэлект. Узровень грамадзтва залежыць ад выкарыстаньня і якасьці адукаванага інтэлекту. Што такое адукацыя для народа, ведалі яшчэ царскія акупанты 200 гадоў таму, калі зачынялі Віленскі ўнівэрсітэт, Полацкую езуіцкую акадэмію, базылянскія манастыры і школы, калі забаранялі адчыняць вышэйшыя навучальныя ўстановы на Беларусі.

Рэжым Лукашэнкі адразу спаліў беларускія падручнікі для школаў і перавёў бальшыню беларускіх школаў на рускую мову. Уся вышэйшая адукацыя, вучэльні, унівэрсітэты былі пераведзеныя на расейшчыну. Разрыў у сістэме адукацыі ў сваю чаргу быў скарыстаны (як і ў савецкі час) для далейшай ліквідацыі беларускай школы. Уганяўся ў жыцьцё акупацыйны прынцып колішняга царскага сатрапа Карнілава аб русіфікацыйнай місіі расейскай школы.

Нацыя без нацыянальнай школы, без нацыянальнай сістэмы адукацыі – гэта нацыя бяз будучыні. Акупацыйны рэжым адразу стварыў на Беларусі становішча бяз будучыні і скрупулёзна даводзіць яго да канчатковага завяршэньня.

Цяпер рыхтуецца рэформа вышэйшай адукацыі (увядзеньне двухузроўневай сістэмы ВНУ). Згодна плянаў, як яна задумана, рэформа рэзка абнізіць адукацыйны узровень беларусаў, створыць сацыяльныя праблемы, закрые шлях у навуку здольнай моладзі, выкліча агульную карумпаванасьць сістэмы вышэйшай адукацыі. Паўтаруся, усё гэта робіцца не па прычыне бязглуздзіцы, а ў выніку зададзенай разбуральнай мэты.

## РАЗБУРЭНЬНЕ ФУНДАМЭНТАЛЬНАЙ НАВУКІ, ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАГА ДОСЬВЕДУ ГРАМАДЗТВА

Навука даўно стала галоўным сродкам вытворчасьці. Але ўзровень і якасьць навукі вызначаецца не застасаванымі тэхналёгіямі, а тэорыяй, акадэмічнымі дасьледваньнямі, тым, што мы называем фундамэнтальнай навукай.

Акупацыйны рэжым заняўся спэцыяльным разбурэньнем беларускай акадэмічнай навукі. Ліквідавана выбарнасьць Прэзыдэнта Акадэміі Навук, абмежавана выбарнасьць акадэмікаў і член-карэспандэнтаў. Прэзыдэнта нацыянальнай Акадэміі Навук прызначае былы старшыня дрэннага саўгаса, цяперашні кіраўнік рэжыму. Акадэміяй і навукай сталі кіраваць чыноўнікі, якія могуць звольніць любога дырэктара акадэмічнага інстытута і прызначыць, каго хочуць. Беларуская фундамэнтальная навука, якая страціла шмат навуковых кадраў у 90-х гадах і згарнула шмат пэрспэктыўных дасьледваньняў, цяпер апынулася пад пагрозай зьнішчальнага разбурэньня. Вынікі рэгрэсу ў арганізацыйным разьвіцьці фундамэнтальнай навукі выявяцца напоўніцу крыху пазьней. Направа ж будзе вымагаць дзясяткаў гадоў і вялікіх затратаў, каб выкарабкацца з цывілізацыйнай адсталасьці, куды заганяе беларускую навуку акупацыйны рэжым.

* * *

Усялякае мерапрыемства, усялякае дзеяньне рэжыму, зьвязанае з нацыянальнымі каштоўнасьцямі, усялякае будаўніцтва, рамонт, рэканструкцыя, рэарганізацыя, арганізацыя выдаўніцтва і г.д. – паўсюдна і без выключэньняў ***не спрыяла гэтым каштоўнасьцям, шкодзіла і было накіраванае на разбурэньне ці пагаршэньне.*** Гэта ёсьць мэтад, тэхналёгія этнацыду. Тыповыя прыклады – „рэстаўрацыя" гістарычнай забудовы ў Менску (фактычнае зьнішчэньне гістарычнага гораду), шкодніцтва для Таварыства Беларускай Мовы, перасьлед Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, беларускай літаратуры, выдаўніцтва беларускіх кніг, часопісаў і г.д. Апошнія нападкі рэжыму на пісьменьнікаў гучаць так: выключыць з Саюзу пісьменьнікаў беларускіх літаратараў (а гэта вядомыя імёны), якія жывуць за мяжой, інакш, маўляў, Саюз пісьменьнікаў будзе зачынены і забаронены. Людзі, якія публічна абзывалі вялікага Быкава, пісьменьніка-франтавіка, літаратурным паліцаем і, фактычна, пазбавілі яго жыцьця, здольныя на ўсё.

***Нацыянальная бібліятэка для нацыі зьяўляецца атрыбутам суверэнітэту –*** такое ёсьць важнае яе значэньне ў культуры. Разбуральны сэнс выяўляецца ў адміністрацыйных распараджэньнях. Ў верасьні, напрыклад, „вярхоўнай кіруючай асобай" быў дадзены загад тэрмінова перавезьці Нацыянальную бібліятэку ў новы будынак і адчыніць яе да Новага году (цяпер прадоўжылі да 1-га траўня 2006 г.). Нармальны пераезд бібліятэкі з 8-мільённым фондам кніг павінен займаць у сярэднім два гады. Аўрал у гэтай справе можа прывесьці да непапраўнага зьнішчэньня і паралічу фондаў, працы, навукова-дасьледчага і вучэбнага працэсаў у краіне.

У такім жа стылі і па такой жа тэхналёгіі, як з Саюзам пісьменьнікаў, гістарычным Менскам і фондам нацыянальнай бібліятэкі, абыходзяцца і зь Вялікім Акадэмічным тэатрам опэры і балета (рамонт, рэканструкцыя і аўральнае высяленьне трупы на тры гады на розныя непрыстасаваныя сцэны). Гэта час (які могуць яшчэ і зацягнуць) дастатковы, каб страціць форму і разгубіць артыстаў. Сьвет жа вялікі.

Можна прааналізаваць любое дзееньне рэжыму ў сфэры беларускай нацыянальнай культуры, навукі, адукацыі і ўвогуле – нацыянальных каштоўнасьцяў, і ўсюды ўбачым гэтую разбуральную схему адміністрацыйнай тэхналёгіі.

## СТВАРЭНЬНЕ ПАДСТАЎНОЙ АПАЗЫЦЫІ

Незалежнасьць Беларусі вярнуў аб'яднаны нацыянальнай ідэяй Беларускі Народны Фронт. Галоўнай задачай расейскіх спэцслужбаў, пасьля прыводу Лукашэнкі да ўлады, стала ліквідацыя кіраўніцтва БНФ, потым захоп Народнага Фронту агентурай і перараджэньне яго ў дэмакратычную прарасейскую партыю, тыпу АГП. (Гэтыя пляны, дарэчы, пазьней выбалбатала агентура ўплыву ў БНФ, якая цьвердзіла нават, што нацыянальная ідэя памерла і вычарпала сябе.) Прыйдзе час, і пра ўсё будзе сказана наўпрост, цяпер жа толькі зазначу, што забойства кіраўніка БНФ намячалася ў 1996 годзе перад V-м Зьездам Фронта і рыхтавалася яно не ў беларускім КГБ, а ў іншых структурах.

Тым часам ні Масква, ні ейны рэжым нічога не маглі зрабіць з Народным Фронтам. Рух набываў масавы характар. Да БНФ далучылася моладзь.

У 1997 годзе адбыўся V Зьезд БНФ, на якім была прынятая канцэпцыя Беларускага Вызвольнага Руху, начале з Фронтам, які выступаў аб'яднальнікам усіх беларускіх апазыцыйных сілаў. ***Гэта абазначала, што прамаскоўскаму акупацыйнаму рэжыму ствараецца аб'яднаная нацыянальна-дэмакратычная альтэрнатыва,*** на якую Масква і ейная разьведка ня мелі дастатковага ўплыву, і ўсялякая зьмена ўлады ў Беларусі прывяла б да кіраўніцтва ў краіне беларускія нацыянальныя сілы. На гэтым стаўся б канец расейскім прэтэнзіям на Беларусь.

Тут Масква запрацавала з усёй моцы, падключыла міжнародныя рэсурсы. Ужо праз некалькі месяцаў быў створаны нібыта міжнародны агентурны праект „Хартыя-97" (задача яго напачатку – прымаць заходнія сродкі пад „дэмакратыю" ды „правы чалавека", а таксама – забесьпячэньне грамадзтва адпаведна прасеянай інфармацыяй).

Неўзабаве ў Менск прысылаюць у якасьці кіраўніка Місіі АБСЭ мацёрага нямецкага разьведчыка Ганса-Георга Віка, які заключае таемнае пагадненьне з КГБ і пачынае ў альтэрнатыву БНФ працу па стварэньні ненацыянальнай (неадраджэнцкай) „апазыцыі" рэжыму. На гэта былі выдаткаваныя вялікія сродкі. Праз год „апазыцыя" была сфармаваная.

У гэты ж час распачынаюць так званы „Праект Чыгір" па зьнішчэньні БНФ (сумнавядомыя альтэрнатыўныя выбары прэзыдэнта ў 1999 г.) Галоўнай выканаўчай асобай праекту стаў В. Ганчар. Пра гэта ўжо мной пісалася, і прыйдзе час – скажацца больш. Цяпер толькі штрыхом зазначу, што напачатку ўдзельнічаць у праекце Масква прапанавала аднаму дзеячу ўзамен за аукцыйныя ільготы для расейскіх фірмаў падчас будучай прыватызацыі на Беларусі (пасьля зьмены рэжыму, значыць). Дзеяч адмовіўся, пра гэта даведаўся В. Ганчар, паехаў у Маскву і прапанаваў свае паслугі. Паслугі прынялі і далі заданьне, разам са сродкамі. Заданьне Ганчар праваліў і неўзабаве зьнік. „Прадажа імя" маскоўцам каштуе, як аказалася, даражэй, чым прадажа імя Лукашэнку. (Хаця я і па сёньня не выключаю, што Ганчар жыве.)

Вынік усіх гэтых афёраў стаўся для краіны вельмі шкодным. ***Беларусь згубіла нацыянальную альтэрнатыву ў апазыцыі.*** Народны Фронт быў расколаты, а прагматычная

частка яго далучылася да ненацыянальнай вікаўскай апазыцыі. Нацыянальна-вызвольная частка Фронту страціла ўласьцівасьць шырокага масавага руху. За альтэрнатыву рэжыму антыбеларускія сілы пачалі рэклямаваць вікаўскую „апазыцыю". Гэта значыць, што пры зьмене рэжыму ўлады Беларусь зноў можа страціць нацыянальную будучыню.

Пасьля маёй эміграцыі (вясна-1996) маскоўская разьведка выпрабавала на грамадзтве некалькі формулаў скрыўленага вобразу: „политический труп", „сбежал", „струсил", „я бы родину не оставил" і г.д. Адначасна пачалася кампанія сярод „дэмпартыяў" па „выбару нацыянальнага лідэра". Гэта абсурд, але яго абгрунтавалі і сцьвердзілі, што нацыянальнага лідэра можна выбраць. На ролю нацыянальнага лідэра пагадзіўся Генадзь Карпенка і неяк гэтую ношу цягнуў, пакуль не пачаўся „праект Чыгір" (1999 г.) і ён ня ўбачыў, што ўсё каламуцяць без яго. Пачаліся званкі ў Варшаву, і неўзабаве (здаецца, дзесьці ў сярэдзіне сакавіка) Карпенка прыехаў, і мы спатkaліся. З размовы высьветлілася, што Карпенка даволі добра разумеў сутнасьць маскоўска-ганчараўскай афёры і быў ня столькі пакрыўджаны, колькі абураны нізкасьцю яе выканаўцаў. Ён прапанаваў мне супрацоўніцтва ў так званых „альтэрнатыўных выбарах" (у якіх я вымушаны быў удзельнічаць, каб мець магчымасьць уплыву на сытуацыю). Дамовіліся, што 31-га сакавіка Карпенка прыедзе ў сядзібу БНФ на сумеснае паседжаньне, дзе будзе прыняты тэкст пагадненьня аб ягоным супрацоўніцтве з Фронтам і са мной і зроблена адпаведная сумесная заява.

Гэта абазначала б поўны правал маскоўскай палітыкі. Чалавек, якога яны падрыхтавалі і (у піку маёй асобе) выбралі на нацыянальнага лідэра, прыехаў да мяне і мы дамовіліся аб сумесных дзеяньнях супраць іхняй палітычнай авантуры (у якую яны ўжо ўбухалі сродкі).

31 сакавіка ўвечары Карпенку чакалі ў сядзібе БНФ (я некалькі разоў званіў і цікавіўся). Але Карпенка не прыехаў. У гэты дзень яго (я так мяркую) атруцілі (выклікалі інсульт). Праз тыдзень ён памёр.

## ІЗАЛЯЦЫЯ

У ізаляцыі Беларусі ад усяго сьвету зацікаўленая Расея. Гэтым яна прывязвае свайго стаўленьніка да сябе і пазбаўляе манэўру. Захад спрыяе ізаляцыі часткова з-за неразуменьня справы, а больш з-за таемнай ці яўнай падтрымкі расейскай палітыкі на ўсходзе.

Цяпер, рыхтуючыся захаваць рэжым Лукашэнкі, Масква паставіла задачу грунтоўна ізаляваць Польшчу, каб перашкодзіць польскім дэмакратычным уплывам у час прэзыдэнцкіх выбараў на Беларусі ў 2006 г. і запабегчы паўтарэньню „ўкраінскага сцэнару" 2004 г. Дзеля гэтага быў штучна створаны і раздзьмуханы канфлікт у Саюзе палякаў Беларусі. Масква на дзіва лёгка дасягнула патрэбных вынікаў, скарыстаўшы пэрманэнтны эмацыйны стан у польскім палітычным жыцьці, а зрэшты, і неразуменьне некаторымі палітыкамі падзеяў на ўсходзе.

## ЗАМЕНА НАСЕЛЬНІЦТВА

Беспрацоўе на Беларусі – вынік мафійнай палітыкі ў эканоміцы, разбурэньня і тармажэньня прадпрыймальніцтва, дзеяньня кантрактнай сістэмы, дрэнных падаткавых правілаў, кантролю над людзьмі і г. д. У выніку страты працы і немагчымасьці зарабіць беларусы масава едуць у Расею ў шэры бізнэс ці проста ў рабства. Шмат хто не вяртаецца жывым. Сотні гінуць у расейскім крымінальным грамадзтве. Часта іх нават не рабуюць, а забіваюць самы крымінальныя працадаўцы, каб не выплочваць заробку. І ўсяроўна беларусы едуць у Расею. Захаду яны баяцца, а шлюзы адчыненыя толькі на ўсход. На 2005 год амаль мільён работнікаў-беларусаў выехаўшы на працу ў Расею. Гэта вялікія страты для Беларусі. Умовы выезду на заробкі ствараюцца штучна. Расея крымінальная і эканамічная зацікаўлена ў прышлай рабочай сіле. Гэта ўплывае на палітыку Расеі. На канцовым этапе этнацыду, калі б беларуская нацыя поўнасьцю была б адарваная ад сваіх каранёў і зрусіфікаваная, чакаецца замена насельніцтва (КГБ зрабіў высновы з савецкага вопыту). Беларусаў будуць імкнуцца выштурхнуць са сваёй краіны на ўсход і часткова – на захад (моладзь, інтэлект). Рэшта, як мяркуюць, дэградуе і паддасца агрэсіўнаму прышламу насельніцтву, якое будзе пад абаронай акупацыйнай палітыкі.

Сюды ж, у Беларусь (у выпадку вырашэньня пытаньня зь немцамі аб Усходняй Прусіі) будзе сьвкінута вытворча непэрспэктыўнае старое насельніцтва з так званай Калінінградзкай вобласьці. Расейцы маюць вялікі вопыт па вывазе, перасяленьні і зьнішчэньні цэлых народаў. Яшчэ ў 60-х гадах, напрыклад, існаваў плян і прадпісаньне, што ў выпадку вайны ўсё латышскае насельніцтва машынамі і цягнікамі вывозілі б у глыб Расеі (я ўжо не ўспамінаю пра чачэнцаў ды крымскіх татараў).

Плян замены беларускага насельніцтва, дарэчы, ужо ажыцьцяўляецца. Гэта адбываецца лёгка, бо хто свайго ня любіць, той свайго і не бароніць. У Беларусь сьвкінутыя акупацыйныя адпады з Прыбалтыкі, перасяляюць з Паўночнага Каўказу, а цяпер пачнецца (ужо пачалася) перакідка расейскага асадніцкага кантынгенту з Казахстану, паколькі Казахстан адрадзіў сваю нацыянальную мову і зрабіў яе дзяржаўнай у сваёй краіне.

Акупанцкае расейскае насельніцтва – гэта ўнікальная публіка. Я такіх на сьвеце яшчэ не сустракаў. Каб не размаўляць на мове краіны і народа, сярод якога жывуць, яны гатовыя зьехаць за тысячы кілёмэтраў. Вядома ж, іх кіруюць у Беларусь.

Замена насельніцтва акупацыйнымі ўладамі лічыцца злачынствам па міжнародных законах, але хто там калі ў Расеі трымаўся за нейкія законы? Ды і хто сказаў, што ў Беларусі, маўляў, акупацыйны рэжым? Прэзыдэнта ж самы выбралі, ды яшчэ й „прагаласавалі", каб ён мог быць прэзыдэнтам колькі захоча. Зразумела, гэта фальсіфікацыя, але ж на незаконны рэфэрэндум і на выбары пайшлі, паддаліся рэжыму і „апазыцыі", ведаючы, што яны народ ашукаюць.

## ЗАХАД – БЕЛАРУСЬ – РАСЕЯ

Акрамя прапагандысцкіх ілюзіяў пра Расею, у асяроддзі пэўнай часткі беларусаў прыжыўся міф пра заходнюю падтрымку і дапамогу. Маўляў, захад нам дапаможа. Але гэтак кажа той, хто пра захад нічога ня ведае. Не дапаможа! І ніколі не дапамог!

Захад (а гэта найперш тры краіны: Вялікабрытанія, Францыя і Нямеччына) будзе падтрымліваць Расею. Мэнтальнасьць Захаду да вульгарнасьці прагматычная, а думаньне рацыянальнае. Захад быў і ёсьць у пераважнасьці левым, а зацікаўленасьць у танным расейскім газе, нафце і рынку вырашае ўсе ягоныя дачыненьні і ўсю ягоную палітыку.

Ведаючы гэта, трэба разумець агульную палітыку і дыпляматыю Расеі і Захаду (найперш Нямеччыны). Намер будаўніцтва паўночнага газаправоду з Расеі ў Нямеччыну праз Балтыйскае мора (які каштуе ў пяць разоў даражэй, чым праз Беларусь-Польшчу) ёсьць вынік супольнай стратэгіі. Калі паўночны газаправод пабудуюць, створацца ўмовы для чарговага пакту Молатава-Рыбентропа, і рана ці позна гэтыя ўмовы захочуць скарыстаць новымі мэтадамі. Усходняя Эўропа, каб абараніць сябе, ужо цяпер павінна рэальна думаць аб пэрспэктыве Балтыйска-Чарнаморскай Супольнасьці (БЧС) і аб пераарыентацыі нафтавых плыняў па лініі Поўнач-Поўдзень.

Беларусы ня раз за апошнія гады маглі пераканацца, што Захаду (найперш пералічаныя намі краіны) цалкам напляваць на нашую нацыянальную бяду, нацыянальныя праблемы, этнацыд, вынішчэньне мовы, памяці ды беларускай культуры. Яны ня хочуць мець сабе праблемаў на ўсходзе ні з транзітам, ні з трубой, ні з газам, ні з крыміналам. А таму, якая там Беларусь, якая там мова, культура, традыцыі, мараль – усё гэта іх не абходзіць і нічый боль не цікавіць. Для іх спакайней, каб Беларусі ўвогуле не было. Тады мелі б справу толькі з Расеяй. І газ бліжэй, і Польшча будзе паслухмянай.

Яскравы прыклад – цынічныя адносіны да нашай Чарнобыльскай трагедыі (апошняя канфэрэнцыя МАГАТЭ ў Вене, верасень-2005), ці афёра з радыёстанцыяй „Нямецкая хваля". Яны (у Брусэлі) былі „зьдзіўленыя" шырокім абурэньнем беларусаў супраць нямецкай русіфікацыі радыёэфіру на Беларусь і пачалі неразумна выкручвацца. А які вынік? Эўракамісія аб'явіла чарговы тэндар (2 мільёны эўра) на новы праект замежнага так званага „дэмакратычнага" вяшчаньня на Беларусь. Ва ўмовах тэндару зноў пазначана ... расейская мова.

Наш абаронца ў Эўрапарляманце паляк Януш Анышкевіч камэнтуе, што „чыноўнікі ў Брусэлі ўвогуле не разумеюць, якую ролю адыгрывае беларуская мова, якая ў сучаснай Беларусі, акрамя іншага, ёсьць носьбітам грамадзянскай сьвядомасьці".

Калі яны нічога не разумеюць, то іхнае месца не ў парляманце. Аднак жа ўсё яны разумеюць (ім растлумачылі), але робяць – сваю палітыку ў сваіх інтарэсах. ***Толькі наша нацыянальная сіла і дзяржаўная беларуская моц магла б прымусіць іх лічыцца з нашымі інтарэсамі.***

Брусэльскія афёры з русіфікацыйным вяшчаньнем на Беларусь, думаю, што расплюшчылі вочы шмат якім даверлівым беларусам, што такое заходняя „дапамога" і што такое лібэральная „дэмакратыя".

## НЕПРАДРАШЭНСТВА

Дастаткова нават пабежнага погляду на Расею, каб убачыць, што, нягледзячы на супярэчнасьці і суперніцтва розных палітычных сілаў, праўрадавых ды апазыцыйных, у Расеі няма і ніколі не было рускіх антыімпэрскіх рухаў і нават асобаў, якія б падтрымлівалі, скажам, незалежнасьць Беларусі.

Менавіта па гэтай прычыне ў час расейска-імпэрскіх расколаў, закалатаў і смуты, нацыянальна-дэмакратычныя арганізацыі народаў не маглі ўступаць у саюз з рускімі апазыцыянэрамі ў змаганьні з расейскім рэжымам.

Расейская апазыцыя (любога кшталту), зыходзячы з сваёй імпэрскай мэнтальнасьці, выпрацавала адпаведна і імпэрскі падыход агульнага змаганьня з афіцыйным расейскім рэжымам. У 1950-х гг., з пачаткам халоднай вайны, гэты падыход называлі ў эміграцыі „непрадрашэнствам". Сутнасьць яго ў наступным. Расейцы прапаноўвалі аб'яднаць намаганьні ўсіх народаў былой Расеі, каб зваліць бальшавіцкі рэжым у СССР. Гаварылася: галоўнае – разам сьцінуць бальшавікоў, а там ужо будзем разьбірацца, каму колькі якой свабоды трэба.

Беларусы, украінцы, грузіны, эстонцы і г.д. згодныя былі змагацца разам з расейцамі, але пры ўмове вызначэньня гарантыяў вяртаньня незалежнасьці іхных краінаў. Гарантыі павінны быць абумоўлены заранёў.

„Не надо предрешать, – махалі рукамі расейскія дэмакраты – змагары з бальшавізмам, – это расстроит единство." І г.д.

За непрадрашэнцамі пайшлі толькі агентура і недалёкія людзі, якія слаба разьбіраліся ў палітыцы. Народы ўтварылі свай блёк у змаганьні з бальшавіцкай імпэрыяй. Непрадрашэнства ж стала кляймом палітычнай тупасьці і здрады.

Ня трэба нават спэцыяльна разумецца ў палітычных справах, каб уцяміць, што, зваліўшы бальшавізм без папярэдніх гарантыяў і ўмоваў, усе патрапяць у першапачатковы стан дабальшавіцкай расейскай імпэрыі, і кожнаму прыйшлося б зноў даказваць перад Расеяй сваё права на незалежнасьць (можа і зброяй), прытым трэба ўлічваць, што вагавыя катэгорыі Расеі і краінаў народаў розьняцца. Ды й які гэта змагар пагадзіўся б змагацца за аднаўленьне над сабой расейскай улады, а потым – зь ёю „разьбірацца".

Тым ня менш, ня зьнікла расейская мэтодыка і не пераводзяцца дурні ў Вялікім Княстве.

У Беларусі паняцьці непрадрашэнства ёсьць цяпер, бадай што, найбольш распаўсюджаныя агентурныя тэзісы, напрыклад: „Мы за белорусский язык, но не надо выпячивать, сначала необходимо возродить экономику." Альбо такая лапідарная сэнтэнцыя: „Спачатку трэба зрабіць дэмакратычную краіну, а потым ужо заняцца беларускай матчынай мовай" (генэрал В. Фралоў).

Непрадрашэнства сёньня – гэта асноўнае тактычнае разуменьне так званай „вікаўскай апазыцыі". Прыходзілася чуць нават у Нью-Ёрку аднаго такога дзеяча, які з сур'ёзным выглядам хваліўся, як добра, маўляў, што яны зьядналіся з камуністамі і агэпоўцамі і дружна ідуць на выбары „пяцёркай плюс". Разам, значыцца, звалім Лукашэнку, а там ужо будзем разьбірацца, хто куды і што каму належыць.

Вось гэта думальнікі! Тады ўжо позна будзе разьбірацца, бо за „думальнікаў" разьбярэцца Масква (разам, дарэчы, з агэпоўцамі і камуністамі).

Аб'яднаньне супраць рэжыму ў Беларусі ня можа быць на аснове непрадрашэнства, бо ***канфлікт з рэжымам Лукашэнкі – гэта ёсьць канфлікт з Расеяй, дзе пытаньне гарантыяў незалежнасьці ёсьць галоўным.*** „Непрадрашаючы", можна толькі зьмяніць адну акупацыйную ўладу на другую акупацыйную ўладу, як правіла, на яшчэ горшую.

## ПЕРАД ВЫБАРАМІ

Перад выбарамі абвастрыліся ўсе прыкметы акупацыйнай палітыкі. Зноўку Масква ўзялася за падрыхтоўку прыняцьця так званага „канстытуцыйнага акту", пры дапамозе якога мяркуюць ліквідаваць нашу дзяржаву і незалежнасьць. Рэжым не цырымоніцца таксама ў чорнай прапагандзе. Масква не сароміцца хлусьні. Цэлыя каманды гэбоўскіх „спэцоў" накіраваныя ў Інтэрнэт, працуюць на Інтэрнэт-старонках і на форумах з 8.оо да 18.оо (з перапынкам на абед). Абмяркоўваюць тэмы, кшталту: „Пазьняк – предатель родины". Адпрацоўваюць аргумэнтацыю і артыкуляцыю зьняваг.

Тым часам на беларускім тэлебачаньні (9 жніўня) паказваюць архіўныя кадры – мой даўні выступ у парляманце і голас дыктара за кадрам: „Пазьняк нядаўна паслаў сваіх эмісараў на Каўказ да Басаева, каб сабраць тэрарыстаў для зьвяржэньня законнай улады ў Менску”. (Няўжо на Беларусі такое яшчэ хто-небудзь слухае?)

У гэты ж дзень 9 жніўня на радыё „Свабода” выступае іншы штатны суб'ект з Масквы П. Шарамет. Гэты – агучыў старую гэбоўскую міфалягему, якую некалі, у 90-х, даручалі агучваць, відаць, А. Фядуту. Той спачатку папісваў, але потым пераключыўся на іншыя распрацоўкі. А міфалягема такая: „Пазьняк і Лукашэнка – ворагі беларускага народа”, „Пазьняк і Лукашэнка – гэта адно і тое ж”. Канструкцыя накіраваная, здаецца, на абалваньваньне маладых.

Адначасна на гэтую ж тэму і з гэтай ідэяй выступае ў „Народнай Волі” трэці пастаянны „пісацель” Ю. Хадыка. Гэты нават спасылаецца на Фядуту, маўляў, Лукашэнка і Пазьняк „блізьняцы-брацьці”, плюс „нарцыс”. З гэтай нагоды чакаецца яшчэ выступ С. Букчына, які спэцыялізуецца па абзываньні мяне „фюрэрам” (паўтор яшчэ капээсэсаўскіх распрацовак). „Публіцысты” (каманда чатырох) заўсёды пішуць і мовяць супраць мяне разам, „владеют слогом”, цытуюць Пушкіна, Плутарха, Жабацінскага.

Набліжаецца выбарчая кампанія, і зноўку вылазяць дзеці хлусьні.

## ІНФАРМАЦЫЙНЫЯ ПУСТЫШКІ

Расейская агентура і ейныя паліттэхнолягі ў Беларусі выкарыстоўваюць цэлы арсенал абдурваньня грамадзтва, пускаюць розныя інфармацыйныя вірусы, ствараюць міфалягемы, прыдумваюць розныя неіснуючыя гісторыі, разыгрываюць спэктаклі.

Стандартна, калі адбываюцца нейкія заплянаваныя рэжымам падзеі, то, каб запабегчы супраціўленьню і зрыву, прыдумваюць „інфармацыйныя пустышкі” ці падзеі „адцягненьня ўвагі”. Клясычнай інфармацыйнай пустышкай было, напрыклад, зьяўленьне Т. Віньнікавай з „зоны маўчаньня”. У друку пачынаюць на ўсе лады лямантаваць, абмяркоўваць, дыспутаваць, задаваць пытаньні і г.д., хоць ніякай рэальнай інфармацыі ў заявах і ў інтэрв'ю Віньнікавай не было, адна пустата. Але гэты псэўдаінфармацыйны ажыятаж адцягваў увагу грамадзтва ад іншай падзеі, якую рэжым хаваў і абрабляў пад мішурой пустазвонства інфармацыйнай пустышкі. Увага грамадзтва ў гэты час пераключалася на пустую інфармацыю.

Першы раз служба, якая вывезла Віньнікаву з-пад арышту за мяжу, выпусьціла яе 8-га сьнежня 1999 года у той дзень, калі Ельцын з Лукашэнкам падпісалі антыканстытуцыйны акт аб стварэньні так званай беларуска-расейскай „дзяржавы” („саюзу”). Былі пікеты і нешматлікія дэманстрацыі супраціву ў Менску. Але ўвесь гэты антынацыянальны факт, увесь гэты вар'яцкі антыбеларускі ўчынак адышоў тады на трэці плян, патануў у журналісцкім пустазвонстве вакол інфармацыйнай пустышкі Віньнікавай, пасьля чаго Віньнікаву зноў надоўга схавалі. І так зрабілі, здаецца, тры ці чатыры разы, пакуль увесь тавар ня выйшаў у расход.

7-га ліпеня гэтага года нейкі амапавец у Менску ўдарыў кулаком у твар жанчыну Сьвятлану Завадзкую. Выпадак агідны і дзікі. Цэлы месяц ў пэўных колах у Маскве, Менску, Празе і Брусэлі і г.д. не сьціхалі гаворкі, абурэньні, заявы, рэзалюцыі з гэтай прычыны, казалі пра парушэньне парвоў чалавека, зьверскасьць дыктатуры, апэлявалі да Масквы і г.д. Дарэчы, калі ў Расеі забіваюць беларусаў ці спрабуюць забіць у Менску кіраўніка Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Юры Беленькага (2000 г.), ці кідаюць у засьценкі хворага і гераічнага Ўладзімера Плешчанку, ніхто ў Эўропе не лямантуе. Яны гэтага ня бачаць (хоць ім заўсёды паведамляюць). А тут такі лямант? Зрэшты, мы ведаем, што такое ў Эўропе падвойны стандарт. Гэта галоўная рыса лібэральнай палітыкі – ілгаць альбо замоўчваць пра ўсё, што не адпавядае іхным паняцьцям.

Потым, аднак, усё сьціхла. Нікога не судзілі, нават толкам не даведаліся, хто ўдарыў С. Завадзкую. Інфармацыя зышла на нуль. У чым жа справа? А справа выглядае так. У Маскве расейскія спэцслужбы ў асобе сустаршыні Савета па зьнешняй і абарончай палітыцы РФ (СВОП) С. Караганава і былой „дэмакраткі” Э. Памфілавай (кіраўніца Савету пры прэзыдэнце РФ па справах разьвіцьця інстытутаў грамадзянскай супольнасьці) утварылі „расейска-беларускую камісію па абароне правоў чалавека”. Шыльдачку стварылі для Эўропы. Маўляў, глядзеце, мы, маскоўцы, займаемся беларускай праблемай. Раскрутку зрабілі па-гэбоўску проста і, на іхны розум, „эфэктна”. У Менску ўсе былі ў зборы; камэры, журналісты, ішла здымка з выгаднага ракурсу, правільна выбраны кадр; вось падходзіць амапавец проста ў кадр і ні з таго ні з сяго, ня моцна, але адчувальна і гнюсна б'е жанчыну, якая стаяла ў пікеце, у твар.

Тэлебачаньне ўсяго сьвету паказала гэты кадр (а Масква, дык з раніцы да вечара, і назаўтра). С. Завадзкая тут жа (падказалі, хто трэба) зьвяртаецца ў Маскву ў новасьпечаную „камісію” да імпэрыяліста Караганава і былой дэмакраткі Памфілавай. Тыя – у цэнтры ўвагі, даюць інтэрв'ю, „рашаюць” праблему на віду перад Захадам, надзьмуваюць шчокі, робяць заявы „о русских в белорусских тюрьмах” (пра рускіх крымінальнікаў, значыць) і г.д. І ўсё – дзеля рэклямы фальшывай палітыкі, дзе караганавы „мнят себя стратегами”. Брыдка было на ўсё гэта глядзець.

Беларусам трэба разумець, што нават калі маскоўцы пачнуць адзін з аднаго жыўцом скуру зьдзіраць, то Захад усяроўна будзе прасіць Маскву, каб яна, маўляў, паўплывала на рэжым Лукашэнкі наконт „дэфіцыту дэмакратыі” ў Беларусі. Якая ўжо там дэмакратыя ў Расеі, якая за некалькі гадоў рускага тэрору на Каўказе забіла 50 тысячаў чачэнскіх дзяцей, мы ведаем.

Гэтым летам сабраліся кіраўнікі Польшчы, Латвіі, Украіны і Летувы абмеркаваць, як дапамагчы незалежнасьці Беларусі. Усе ж зацікаўленыя мець суседам самастойную і дэмакратычную Беларусь, а не вялікага агрэсара пад дзьвярыма. (Дарэчы, зборкі і нарады кіраўнікоў нашых краінаў-суседзяў робяцца ўжо звыклымі).

Першага верасьня тут жа перад журналістамі выступае такі Малазадэ (спэцдакладчык, „спэцыяліст” па Беларусі), які агучвае ў Радзе Эўропы чужыя думкі, не разумеючы, відаць, іх сэнсу, і заяўляе: „У Радзе Эўропы ёсьць спэцыяльны зварот да Расеі – выкарыстаць уплыў на Беларусь для таго, каб паспрабаваць памяняць сытуацыю з правамі чалавека”.

Назаўтра перад расейскімі думцамі „Единой России” выступае прадстаўнік палаты абшчынаў зь Вялікабрытаніі Робэрт Уолтэр і кажа: „Расея можа дапамагчы Эўропе ў „наладжваньні сытуацыі ў Беларусі”. Зьдзіўленыя расейцы пытаюць, ці не абмовіўся ён? „Не, – кажа Уолтэр, – Беларусь ваш бліжэйшы сусед і сябра. Гэтак, як у Расеі, яе не разумеюць ні ў Францыі, ні ў Нарвэгіі. Таму дэмакратычныя пераўтварэньні ў Беларусі ***мы маглі б падзяліць паміж аб'яднанай Эўропай і Расеяй. Гэта нашыя агульныя эўрапейскія праблемы***.” *(Известия Ру. www.izvestia.ru/politc/article2595917)*

Ведаем мы ўжо такіх „дзялільшчыкаў” ў нашай беларускай гісторыі. Але цікавае іншае: калі надта трэба, то яны й Расею называюць Эўропай. Гучыць гэты сьпіч ангельца, як у дрэннай драматургіі. Адчуваеце фальш? У чым жа справа?

Уся іхняя лухта з „правамі чалавека”, якімі мусіць нібыта займацца Расея (толькі Расеі гэтым і займацца), гаворыцца зусім дзеля іншага. (І гэта ўжо адзначылі нават заходнія аналітыкі.) Эўропа Заходняя баіцца аб’яднаньня і сэпарацыі Эўропы Ўсходняй у Эўразьвязе, і найперш – узаемадзеяньня паміж Польшчай, Беларусяй, Украінай, Летувой і Латвіяй (былая Рэч Паспалітая ці наша ідэя Балтыйска-Чарнаморскай супольнасьці). Таму, дарэчы, Эўразьвяз і ня хоча прымаць Украіны. Лепш Турцыю (там, трэба разумець, Эўропы болей).

Такім чынам, хоць бы там Пуцін наладзіў яшчэ дзесяць Бесланаў з расстрэламі, уолтары ўсяроўна паедуць у Маскву цягнуць Расею ў „вырашэньне” беларускіх праблемаў, каб ***„падзяліць”***, як кажа Ўолтэр, інтарэсы і ня даць скансалідавацца Ўсходняй Эўропе. Вось чаму Эўракамісія, памятаючы таксама пра расейскія нафту і газ, стаіць насьмерць, каб не дапусьціць да ўдзелу ў тэндэры на радыёвяшчаньне для Беларусі ўсходне-эўрапейскія краіны, якія маюць усе тэхнічныя ўмовы для беларускага вяшчаньня (асабліва Польшча і Летува) і толькі патрабуюць рашэньня. І вось чаму Эўразьвяз так упарта хоча заштурхнуць расейскую мову ў беларускі эфір, каб дагадзіць Маскве.

## ТЭРАКТЫ

Акрамя „пустышак”, расейскія службы ўжываюць бесчалавечыя сродкі адцягненьня інфармацыйнай увагі – тэракты. На тэрактах пуцінскіх „байцоў нябачнага фронту” злавілі ня раз, напрыклад, узрывы дамоў разам зь людзьмі ў Маскве і Валгадонску і потым – спроба ўзрыву ў Казані (каб распаліць вайну ў Чачэніі), забойства Зелімхана Яндарбіева (калі гэбоўскіх тэрарыстаў злавілі і судзілі) і іншыя выпадкі. Расейскі КГБ з прыходам Пуціна аднавіў міжнародную тэрарыстычную дзейнасьць. Калі ўлічваць статыстыку фактаў тэрарызму, то лёгка вылучыць тыя, якія супадалі з пэўнымі палітычнымі падзеямі і адцягвалі ўвагу на сябе, спрыялі такім чынам разьвіцьцю зададзеных палітычных працэсаў дакладна гэтак жа, як і „пустышкі”. Розьніца толькі ў маштабах. Цана такой палітыкі – кроў. Аналіз наводзіць на думку аб каардынацыі тэрору з палітычнымі падзеямі ў Расеі і Беларусі.

Аб кіраваньні сусьветным тэрарызмам з Расеі пераканаўча (з дакумантамі ў руках) даводзяць былыя функцыянеры расейскай разьведкі, што пасяліліся на Захадзе, а таксама рускія аналітыкі і дэсідэнты (А. Літвіненка, У. Букоўскі і інш.)

Вялікія тэракты папярэднічалі і істотна паўплывалі на сытуацыю з выбарамі ў Беларусі ў 2001 і ў 2004 гадах. Выбары 2006 года па значымасьці для пуцінскага і лукашысцкага рэжымаў пераўзыходзяць нават 2001 і 2004 гады. Змрочная статыстыка наводзіць на невясёлыя меркаваньні і трывожны прагноз. Але такая рэчаіснасьць.

Ці ведаюць на Захадзе пра тэрарыстычную ролю Расеі? На мой погляд – так. Каму трэба – ведаюць. Але кіруюцца, відаць, лёгікай „палітычнай мэтазгоднасьці”. І адпаведна – маўчаць.

## АДЗІНСТВА НАЦЫІ

Дэмакратычная нацыя – жывы грамадзкі арганізм, дзе спосаб існаваньня вызначаецца большасьцю, з роўнымі гарантыямі для ўсіх. Дэмакратычны парадак тым ня менш нярэдка парушаецца (найгорш, калі дыктатура ці аўтарытарызм), і бальшыня (ці частка) трапляе ў бяспраўнае становішча ці трацiць гарантыі сваіх правоў. Але бывае стан, калі, нягледзячы на супярэчнасьці, нацыя мусіць мець усеагульнае адзінства для захаваньня сябе, сваіх інтарэсаў і сваіх каштоўнасьцяў. Чым большая шкала гэтага адзінства і чым большая мабілізацыя, тым больш духоўна і пасіянарна мацнейшае ёсьць нацыянальнае грамадзтва і лепшая здольнасьць яго да выжываньня ў неспрыяльных абставінах. ***Якія б ні былі разьбежнасьці ідэалягічнага і палітычнага кшталту, здаровае нацыянальнае грамадзтва заўсёды здольнае дасягнуць адзінства ў адпаведных абставінах.***

На зьнішчэньне гэтай здольнасьці найбольш і накіраваная разбуральная дзейнасьць зьнешняй разьведкі Расеі ў Беларусі. У цяперашніх выступах некаторых палітрусіфікатараў з лукашэнкаўскай „палаткі” (В. Абрамава) мяне зьдзівіла іхняя азлобленая памяць пра непрыкметны эпізод у палітыцы БНФ – стварэньне Антыкрызіснага Камітэту. Пра гэты факт ужо мала хто памятае, але пэўным асобам ён памятаецца і ненавісны.

Антыкрызісны Камітэт быў створаны па ініцыятыве Беларускага Народнага Фронту і беларускіх патрыятычных арганізацыяў у 1992 годзе і ўяўляў сабой дамову паміж усімі апазыцыйнымі сіламі Беларусі, урадам і Вярхоўным Саветам аб адзінстве супольных дзеяньняў беларускай улады і апазыцыі на выпадак рэальнай пагрозы суверэнітэту і незалежнасьці Рэспублікі Беларусь і неабходнасьці яе абароны.

Нягледзячы на яўнае нежаданьне кантактаваць з Апазыцыяй БНФ, урад Кебіча ўсё ж пайшоў на гэтае пагадненьне. Паседжаньне і заключэньне пагадненьня адбылося ў малой залі Дома літаратара. Антыкрызісны Камітэт не засьведчыў нейкай рэальнай дзейнасьці, але сам факт такога паразуменьня паказваў на існаваньне здаровага грунту нацыі, якая здольная да кансалідацыі.

Гэта, аказваецца, моцна занепакоіла русіфікатараў і рускую разьведку. Пагроза незалежнасьці Беларусі была толькі з боку Расеі, і расейцы ўбачылі, што беларусы здольныя сьведама арганізавацца супраць іхняй агрэсіі, што мэтад „падзяляй і ўладар” тут ужо можа не спрацаваць.

Тым часам акупацыйны рэжым Лукашэнкі, які стварылі цяпер на Беларусі крамлёўска-лубянскія нішчыцелі, выключае кансалідацыю ўлады і нацыянальнай апазыцыі пры любой пагрозе, нават, калі б Расея (ці НАТО) пагражалі вайной. Прычына ў тым жа – рэжым антыбеларускі, і для ягонай улады не існуюць кансалідуючыя нацыянальныя каштоўнасьці, ён іх топча гэтак жа, як нацыянальныя інтарэсы і нацыянальны аўтарытэт. Акупацыйны рэжым і нацыянальна-дэмакратычная апазыцыя ёсьць антыподы, ворагі, тут няма крытычных пунктаў яднаньня. Нават ягоная так званая „дэмапазыцыя”, створаная пры ўдзеле агентуры, як аказалася, ня мае зь ім бясспрэчных кропак нацыянальнай кансалідацыі. Гэта, дарэчы, праілюстравала дыскусія аб русіфікатарскім вяшчаньні на Беларусь „Нямецкай хвалі”. Агентура адкрыта выказала незадавальненьне сваёй „дэмапазыцыяй” за тое, што яна ў большасьці падтрымала беларускую мову ў эфіры.

Для ажыцьцяўленьня сваіх задумаў па расколу беларускай нацыі Масква знайшла актыўны тыпаж з псіхапатычнай мэнтальнасьцю; для яго ўсюды ворагі, ён любіць толькі крытыкаваць, пагражаць, „разносіць”, выказваць недавер, падазраваць і вечна змагацца з падкопамі, змовамі, варожымі намерамі і г.д. Але галоўны ягоны вораг – беларуская мова, беларуская культура і беларуская нацыя. Уплываць на такую асобу – псіхалягічная вывучка, а ў КГБ хапае ўсялякіх „вывучак”. Лукашэнка разламаў беларускае грамадзтва так, што ў дачыненьні да ягонай асобы і

да ягонай „палітыкі” яно ня склеіцца ні пры якіх абставінах. Гэта нават ня Кастро, не Хусэйн і нават ня Кім Чэн Ір, гэта чужак для беларускай культуры, якога дэнацыяналізаваныя і ачмураныя яшчэ савецкай ідэалёгіяй людзі памылкова ўспрынялі за свайго.

## АДРАДЖЭНЬНЕ І СТАТУС-КВО

Ідэалёгіяй беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху, як і ў бальшыні паняволеных народаў Эўропы, было і ёсьць Адраджэньне.

Гэта значыць, што энтузіясты нацыянальнай свабоды, змагаючыся за незалежнасьць і стварэньне (аднаўленьне) нацыянальнай дзяржавы, ставяць задачу аднавіць разбуранае, адбудаваць зьнішчанае, адрадзіць нацыянальную культуру і ўсё страчанае ў выніку ўціску і акупацыі. І далей на грунце культурнага адраджэньня нацыі, абапіраючыся на народную гісторыю, яны імкнуцца адбудаваць нацыянальную дзяржаву, дачыненьні і разьвіцьцё. Гэта натуральны працэс існаваньня ўсяго жывога.

Ворагі нацыянальнай свабоды, акупацыйна-імпэрскія рэжымы і г.д. супрацьпастаўляюць адраджэньню нацыі грамадзкае „статус-кво”, гэта значыць, тое разбуранае, дэфармаванае становішча, якое яны стварылі ў выніку акупацыйнай палітыкі. Яны называюць яго па-рознаму: „грамадзтва”, „стабільнасьць”, „рэальнасьць”, „народ”, „здаровы сэнс” і таму падобнымі эўфэмізмамі.

Напрыклад, на Беларусі за XX-е стагоддзе расейцы (разам зь немцамі) забілі шэсьць мільёнаў беларусаў (палову нацыі, калі лічыць на пачатак XX-га стагоддзя). Расейскія акупанты-камуністы зьнішчылі беларускую школу, забаранілі беларускую мову і друк, сфальсіфікавалі гісторыю, расстралялі беларускіх пісьменьнікаў, разбурылі сьвятыні, задушылі сялянства і выхавалі цэлае племя манкуртаў ды рэнегатаў. Вынікі гэтага разбурэньня нішчыцелі спрабуюць выдаць за норму, за нармальнасьць, гэта, па іх лёгіцы, статус-кво, рэальнае становішча. Яны хочуць замацаваць стабільнасьць разбуральных вынікаў, ня трэба, маўляў, нічога зьмяняць, нічога адраджаць, аднаўляць, бо гэта, маўляў фашызм, нацыяналізм. Пры гэтым яны выступаюць нібыта ў інтарэсах зьнявечанага імі народа. „Ня трэба беларускай мовы”, – крычаць нішчыцелі адраджэнцам, – усе гавораць па-руску, усе разумеюць”. Душыцелі шукаюць падтрымкі ў сваіх ахвяраў. „Давайце зыходзіць з рэальнасьці, – дэмагагічна вяшчаюць разбуральнікі нацыі, – будзем рэалістамі”, – нэрвуюцца сёньняшнія і ўчарашнія акупанты.

Аднак справядлівасьць і права, сусьветная практыка і закон разьвіцьця – на баку адраджэнцаў. ***Жывое павінна адрадзіцца, і калі жывы дух, то нават зьнішчанае паўстане зь мёртвых, забітае ўваскрэсьне.***

Тым часам каб рэалізаваць культурна-нацыянальнае адраджэньне нацыі, неабходна зьдзейсьніць дзьве ўмовы: ажыцьцявіць нацыянальную асьвету народу і ўсталяваць нацыянальную ўладу. На Беларусі шмат разоў была вынішчаная нацыянальная эліта і, як вынік, ня быў ажыцьцёўлены да канца прынцып нацыянальнай асьветы ў межах аднаго пакаленьня. Адсюль і праблемы беларускай ўлады. І нішчыцелі, у адрозьненьне ад многіх беларусаў, гэта добра разумеюць.

## ВКЛ

Канцэпцыя Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня грунтуецца на народнай гісторыі. Без каранёў нічога доўга не існуе. У беларусаў, бадай як мала ў каго іншага, ёсьць магутны гістарычны грунт – іхняя вялікая дзяржава, якую яны страцілі ў канцы XVIII-га стагоддзя ў выніку міжнароднай змовы і наступнай затым расейскай акупацыі. Гэта – Вялікае Княства Літоўскае. На Вялікае Княства і абапіраецца Беларускае Адраджэньне.

Галоўны накірунак рускай акупацыйнай палітыкі (царскай і камуністычнай) заключаўся ў ліквідацыі беларускай мовы, беларускай культуры і зьнішчэньні ўсялякіх атрыбутаў, ведаў і напамінкаў пра Вялікае Княства. Руская імпэрская палітыка, руская палітычная гісторыя і дзяржаўная навука стагоддзі працавалі над заціраньнем, перакручваньнем і фальсіфікацыяй памяці пра Вялікае Княства Літоўскае. Пры камуністах афіцыйная „навука” дайшла да поўнага абсурду ў фальсіфікацыі і зьнішчэньні памяці пра ВКЛ („канцэпцыі Л. Абэцэдарскага і інш.).

Аднавіць справядлівасьць да канца не ўдалося ні ў 1991 годзе, ні ў 1994-м. Пры прыняцьці пасьлясавецкай Канстытуцыі найбольш працяглая і жорсткая барацьба вялася за прэамбулу Канстытуцыі, дзе якраз павінна было быць адлюстравана Вялікае Княства, яго дзяржаўнасьць і законы як грунт Рэспублікі Беларусь, якая ёсьць працягам ВКЛ.

Нішчыцелі цудоўна разумеюць, што аднаўленьне народнай памяці пра Вялікае Княства будзе азначаць адраджэньне гістарычнай сьведамасьці беларусаў і аднаўленьне нацыянальнай дзяржаўнасьці ВКЛ. Імпэрская палітнавука цераз сістэму забаронаў, абавязковай службы ў войску, выхаваньне і адукацыю пастаралася прывязаць гістарычную сьведамасьць беларусаў да гісторыі Расеі. Пры думках аб гісторыі ў галаве сярэдняга савецкага беларуса ўзьнікаюць вобразы рускіх цароў ды палкаводцаў, „кутузавых” ды „цароўгрозных”. Сам жа гэтакі беларус нібы вісіць у паветры.

З паветра ніякая сьведамасьць не ўзьнікае, а значыць нічога ня будзе адраджацца, аднаўляцца, ствараццa і разьвівацца. ***Задача беларускай інтэлігенцыі, адукацыі, асьветы і нацыянальнай літаратуры – вярнуць гістарычную сьведамасьць народа ў родны дом – у Вялікае Княства Літоўскае.***

Наступны абавязковы этап – палітычны: ***вярнуць афіцыйную назву дзяржавы.*** Калі гэтага не зрабіць – значыць будаваць незалежнасьць на пяску, запраграмаваць шчарбатае, трэснутае грамадзтва з кволай самаідэнтэфікацыяй, поўнае супярэчнасьцяў на роўным месцы і абсурдных спрэчак па недыскусійных пытаньнях.

Гэта ўжо відаць цяпер (і было раней) у распаўсюджваньні маргінальных зьяваў: адны хочуць называцца „Літвой”, іншыя – „ліцьвінамі”, трэція – увесьці лацінку, чацьвёртыя супраць назвы „Беларусь”, пятыя – увогуле „крывічы” і г.д. Усё гэта – лякальнае адлюстраваньне незавершанасьці новага дзяржаўнага будаўніцтва, вынік нявырашанасьці таго, чаго не ўдалося вырашыць і зацьвердзіць у Канстытуцыі 1994 года. ***Канстытуцыя павінна засьведчыць гісторыю нацыі і дзяржавы ў намінальных (назыўных) тэрмінах.*** Сама назва дзяржавы павінна адлюстроўваць гэты важнейшы гістарычны аспэкт суверэнітэту і самастойнага існаваньня. Так прынята. Гэта істотна.

Афіцыйная назва Англіі (ці Вялікабрытаніі) гучыць так: Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірляндыі. Амэрыка афіцыйна называецца Злучаныя Штаты Амэрыкі. Ёсьць яшчэ Вялікае Герцагства Люксэмбург, Каралеўства Нарвэгія, Каралеўства Бэльгія, Каралеўствы Швэцыя, Данія, Ісламская Рэспубліка Іран, Чачэнская Рэспубліка Ічкерыя і г.д. (мы ўжо не нагадваем пра СССР, БССР і інш.)

Шмат дзе (і там дзе гэта неабходна) афіцыйны назоў дзяржавы адлюстроўвае яе гістарычную, сацыяльную, альбо структурную сутнасьць. Становішча зь беларускай дзяржаўнасьцю і нацыяй па волі лёсу склалася такое, што вымагаецца адлюстраваньне гістарычнасьці ня толькі ў прэамбуле Канстытуцыі (чаго не было зроблена), але і ў назве краіны. Наша дзяржава на сёньняшні дзень – гэта ёсьць, фактычна, ***Вялікае Княства Літоўскае Беларусь (***кароткая назва ***– Беларусь).*** Гэта сутнасьць, якая павінна б была стаць афіцыйнай назвай.

Тады застаецца Беларусь і беларусы, але зьнікаюць усе „пустыя" (інакш не назавеш) і надуманыя палітычныя ды гістарычна-этнічныя пытаньні, скончыцца блуканьне ў трох соснах хіжага розуму і ўсё становіцца на месца.

Адразу скажу, што гэта настолькі сур'ёзна для Беларускай дзяржавы, што ніякі лямант, ніякае хіхіканьне нішчыцеляў (наконт Вялікага князя і т.п.) не павінна б было зьбіваць з тропу. Назва Беларускай дзяржавы мусіла б быць удакладнена на карысьць нацыі.

Для непасрэднага вырашэньня пытаньня з поўнай гістарычнай назвай дзяржавы нехапае фармальных прыкметаў статусу ВКЛ (хоць у прынцыпе справа не страчаная). Але дзеля гэтага патрэбны іншы ўзровень разуменьня і сьведамасьці нацыянальнага грамадзтва, чым той, які ёсьць цяпер. Тым ня менш, да разумнай і адэкватнай прэамбулы ў Канстытуцыі краіны наша грамадзтва ўжо на шляху. Якраз пасьля ліквідацыі прамаскоўскага рэжыму і пры вяртаньні Канстытуцыі 1994 года гэтыя гістарычныя ўдакладненьні ў прэамбулу трэба ўнесьці.

Гістарызм дзяржаўнасьці і гістарызм назвы – гэта пытаньне, якое стаіць цяпер (пасьля сканчэньня савецкага парадку ў сьвеце) ня толькі ў нас. Балгары нават вярнулі ў палітыку балгарскага цара. Праўда, зрабілі памылку – аддалі ў яго рукі рэальную ўладу. Функцыя ангельскай каралевы, тым часам, – сьведчаньне гістарызму Вялікабрытаніі. І гэта шмат значыць. Так што нічога няма немагчымага для разумнага нацыянальнага грамадзтва, якое рэальна ўсьведамляе свой агульны нацыянальны інтэрас.

## ДАЧЫНЕНЬНІ

Ёсьць адносіны і палажэньні, пра якія гаворыцца даўжэйшы час і якія павінны мы ўсьведамляць, усе беларусы. Але не зьнікае неабходнасьць паўтарацца ізноў.

Незалежная дзяржава Беларусь вярнулася ў эўрапейскі кантэкст, сталася суб'ектам міжнароднай палітыкі. Правілы кантэксту існуюць незалежна ад нас, і таму, нягледзячы на тое, ведаем мы пра іх, ці не, разумеем, ці не, нарэшце, хочам, ці ня хочам, мы мусім па гэтых правілах існаваць.


(Фота з Сеціва)

***60. Савецкая„ бутафорыя".***

Галоўнае правіла, якое павінна быць выканана ва ўнутранай палітыцы – ***мусіць быць рэабілітавана і ўдзяржаўлена мова нацыі – беларуская мова.*** Без вырашэньня гэтай задачы нічога іншага ня будзе вырашана ў Беларускай дзяржаве, будзе страчаны нават суверэнітэт.

Генэральнае правіла, якое трэба беларусам ўсьвядоміць у зьнешняй палітыцы – гэта тое, што ***пакуль існуе Расея ў якасьці імпэрыі, Беларусь ніколі ня будзе спакойнай за сваю незалежнасьць, эканоміку і вольны вобраз жыцьця.***

Дзеяньні тут могуць быць розныя: нічога не рабіць, наладжваць мірнае суіснаваньне на грунце саступак, уступіць у Эўразьвяз, стварыць Балта-Чарнаморскую Супольнасьць (БЧС), нарошчваць уласную сілу і г.д. Але лёгіка застаецца адна: ***каб не было небясьпекі, трэба ліквідаваць прычыну небясьпекі.*** Беларуская зьнешняя палітыка заўсёды мусіць мець на ўвазе гэты стратэгічны аспэкт нацыянальнага выжываньня. Прытым трэба ўлічыць, што імпэрыя не рэфармуецца, імпэрыя развальваецца. Адсутнасьць (ці страта) геапалітычнай звышзадачы прыводзіць у гэтых умовах да страты пэрспэктывы. ВКЛ-Беларусь павінна будзе займацца геапалітыкай у інтарэсах уласнага нацыянальнага існаваньня. Інакш геапалітыка зоймецца Беларусяй, што і было перад гэтым на працягу двухсот гадоў.

Трэцяе генэральнае правіла: Беларусь мусіць абавязкова ***ліквідаваць аднабаковую энэргетычную залежнасьць ад паставак рэсурсаў з Расеі***. Спосабы вырашэньня гэтай праблемы вядомыя.

Пасьляялцінская сытуацыя складваецца так, што разьвіцьцё падзеяў увесь час будзе падводзіць да кансалідацыі Ўсходняй Эўропы. Ужо цяпер, калі дамінуе яшчэ ідэя Эўразьвязу, трэба хутчэй усьвядоміць, што ідэя БЧС – гэта добрая ідэя, якая дапаможа стварыць раўнавагу сілаў у Эўропе і гарантаваць бясьпеку незалежнасьці нацыянальных дзяржаваў.

Да БЧС падштурхне таксама зьяўленьне паўночнага газаправоду паміж Расеяй і Нямеччынай па дне Балтыйскага мора (гзаправод плянуюць, безумоўна, і з палітычным разьлікам). Бо зразумела, якія магчымасьці маніпуляцыяў і ціску на Беларусь ды Польшчу ўзьнікнуць пасьля яго будаўніцтва. ***Стварэньне альтэрнатыўнай энэргетычнай лініі Поўнач-Поўдзень павінна стаць першачарговай задачай*** першага нацыянальнага ўраду Беларусі, які паўстане пасьля ліквідацыі акупацыйнага рэжыму.

*15 верасьня 2005 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. – Варшава, Нью-Ёрк, „Беларускія ведамасьці". – 2005 г. Выданьне 2-е. 20 стар.)*

# БЭНІТА ВАЛЬДНЭР МУСІЦЬ ЗЫЙСЬЦІ Ў АДСТАЎКУ

Кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Парты – БНФ зьвяртае ўвагу на беспрынцыповасьць пазыцыі Спэцыяльна ўпаўнаважанай для зьнешніх зносінаў Эўрапейскай Камісіі Бэніты Фэрэра Вальднэр.

Арганізацыя замежнага вяшчаньня на Беларусь на мове акупантаў гэтай краіны (гэта значыць на рускай мове) сьведчыць аб непавазе да беларусаў як эўрапейскай нацыі, гаворыць пра неабавязковасьць прытрымліванца прынятых пазыцыяў у палітыцы Эўразьвязу.

Беларусы ў 1991 годзе дэмакратычным шляхам аднавілі незалежнасьць сваёй краіны і прызналі беларускую мову адзінай дзяржаўнай мовай вольнай дзяржавы, за што прагаласавалі ў парляманце дзьвюма трацінамі галасоў.

Гэтае ж палажэньне аб дзяржаўнасьці беларускай мовы беларускі парлямант зацьвердзіў у новай дэмакратычнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якая была прынятая ў 1994 годзе. Эўропа, краіны Эўразьвязу прызналі гэтую дэмакратычную Канстытуцыю і незалежнасьць нашай краіны.

Потым, у 1996 годзе, кіраўнік выканаўчай улады і стаўленьнік КГБ Расеі А. Лукашэнка незаконным шляхам скасаваў Канстытуцыю 1994 года, зрабіў акупацыйны пераварот і незаконна ўвёў сваю канстытуцыю, дзе фармальна зацьвердзіў савецкае „дзьвухмоўе", якое, як і за саветамі, стала спосабам забароны беларускай мовы і русіфікацыі ў беларускай дзяржаве.

Эўропа і Эўразьвяз не прызналі легітымнасьці лукашэнкаўскай канстытуцыі. І што ж цяпер? Спадарыня Бэніта Вальднэр яе, выходзіць, прызнала і імкнецца праводзіць русіфікацыйную палітыку Лукашэнкі ў Эўразьвязе. Вось гэта Спэцыяльна ўпаўнаважаная асоба! Вось гэта палітыка!

Умовы чарговага тэндару на вяшчаньне ў Беларусь у другі раз упарта прынятыя спадарыняй Бэнітай Вальднэр з прыярытэтам найперш для „Нямецкай хвалі" (потым для Бі-Бі-Сі ды францускай кампаніі). Гэта ў той час, калі ў Польшчы і Летуве ўжо ёсьць тэхнічныя магчымасьці і вопыт беларускага вяшчаньня (але іх нават не дапусьцілі да тэндару).

Ёсьць стандартныя палажэньні ў дзяржаўнай палітыцы фінансаваньня. Калі дзяржаўны чыноўнік насуперак карысьці справы аддае прыярытэт (падыгрывае) буйнаму мэдыйнаму бізнэсу – справа пахне карупцыяй (нядаўна ў Польшчы быў падобны выпадак – так званыя „справа Рывіна").

Аднак пытаньне фінансавай тэндэнцыйнасьці мэдыя-тэндару – гэта клопаты Эўразьвязу. Вернемся да русіфікацыі. Расейская мова ў цяперашняй Беларусі – гэта мова акупацыйнага дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі. Русіфікацыя – гэта сутнасьць антыдэмакратычнага рэжыму на Беларусі. Расейска-савецкія акупанты камуністы расстралялі сотні беларускіх пісьменьнікаў за беларускую мову, зьнішчылі тысячы беларусаў. Рэжым перасьледуе беларускую моладзь за беларускую мову, а моладзь змагаецца за яе. Цяпер ёй трэба будзе змагацца яшчэ і з заходняй русіфікацыяй.

Спадарыня Бэніта Вальднэр, відаць, не адпавядае ўзроўню сваёй пасады ў Эўразьвязе. Ёй лепш пакінуць складаную для яе пасаду і пайсьці ў адстаўку, чым ствараць прблемы на Ўсходзе Эўропы.

*16 верасьня 2005 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне"***
***Дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня.***



(Фота Ю. Дарашкевіч)

***61. Камуністы – людзі ўчарашняга і сёняшняга дня ў Беларусі.***

# ЧАМУ НЕЛЬГА СПАДЗЯВАЦЦА НА ТАК ЗВАНУЮ „ДЭМАПАЗЫЦЫЮ” І ЯЕ КАНДЫДАТАЎ Ў ПРЭЗЫДЭНТЫ

Адказ на гэтае пытаньне відавочны і просты. Людзі, якія складаюць цяпер у Беларусі так званыя „дэмакратычныя сілы” ня ёсьць нацыянальнымі сіламі. Іхняя дзейнасьць, паняцьці і ідэі, якія яны выказваюць, не прыводзяць да стварэньня і захаваньня нацыянальнай дзяржавы (а адпаведна – і дэмакратыі, бо дэмакратыя не існуе па-за дзяржавай і нацыяй). Таму, калі б такія людзі прышлі б да ўлады, – гэта не зьняло б пагрозы для дзяржаўнай незалежнасьці, а толькі прысьпешыла б захоп Беларусі Расеяй і разбурэньне беларускай культуры.

Ідэалёгія, якой кіруюцца „дэмсілы”, – прымітыўная і вульгарная. Гэта ёсьць спадзяваньне на Расею, прынцып „статус-кво” і ўжо добра ведамае ў міжнародным нацыянальна-вызвольным руху „непрадрашэнства”. Яе выказваюць усе „дэмсілы”, пачынаючы ад рускага генэрала Фралова і рускай пісьменьніцы Алексіевіч да былых фронтаўцаў, што перакінуліся ў „дэмсілы”.

Тут даведка. Тэхналёгія імпэрскага „непрадрашэнства” распрацаваная расейцамі яшчэ ў пэрыяд рэвалюцыйных закалатаў пачатку мінулага стагоддзя ў Расеі і заключаецца ў імкненьні аб’яднаць агульныя нерасейскія сілы дзеля вырашэньня расейскіх першачарговых задач, не вызначаючы („не предрешая”) вынікаў і канцовай мэты змаганьня (а дакладней – лёсу нярускіх саюзьнікаў).

Уладзіўшы свае інтарэсы за кошт іншых, пра „іншых” можна было забыцца (бо „не предрешали”) і вярнуцца ў статус-кво. А статус-кво – гэта імпэрыя.

У 40-50-х гадах мінулага стагоддзя руская эміграцыйная „дэмакратыя” хацела гэтак злучыць паняволеныя народы СССР (нацыянальную эміграцыю) на зьвяржэньне бальшавізму, „не предрешая”, а што ж будзе потым са свабодай, незалежнасьцю і народамі. Маўляў, давайце аб’яднаемся, разам звалім бальшавікоў, а затым разьбярэмся. Зьмест і вынік гэтага „разьбіраньня” ня цяжка было прадбачыць.

„Мы злучыліся ўсе ў „пяцёрку плюс” (з камуністамі і агэпоўцамі, – *З.П.* ), – кажа публічна ў Нью-Ёрку В. Вячорка, – каб разам скінуць Лукашэнку. Пераможам, а тады ўжо будзем разьбірацца колькі каму якой дэмакратыі трэба”.

„Спачатку трэба зрабіць дэмакратычную краіну, а потым ужо – добра заняцца беларускай матчынай мовай”, – кажа цяпер непрадрашэнец генэрал В. Фралоў. *(Радыё „Свабода”, – 9.09.2005).*

Няма розьніцы, якая мова, якая культура, галоўнае – дэмакратыя (гэтак клікуе расейская пісьменьніца С. Алексіевіч – таксама выхадзец з сям’і расейскіх вайскоўцаў). „Пакуль мы ня пусьцім дэмакратыю наперадзе мовы, мы зноў загінем”, – пераконвае яна. (Хто – „мы”?) *(„Свабода”, – 24.08.2005).* (Заўважу, што сама гэтая асоба, пражыўшы ў Беларусі, беларускай мовай не карыстаецца і ня ведае, як і бальшыня «дэмакратычных» беларусафобаў.)

Гэта тыповая пазыцыя генэрал-фраловых, манаевых, івановых, пятровых, і агулам усіх гэтых нібыта „дэмакратаў” – каланіяльнай пены ў беларускім грамадзтве.

Другой ідэалягічнай (і цалкам праімпэрскай, прарасейскай) пазыцыяй „дэмсілаў” ёсьць „статус-кво”. „Статус-кво” – гэта русіфікатарская мадыфікацыя прынцыпаў польскай „тлустай рысы” („грубэй крэскі”) і заходняй „рэальпалітык”. „Дэмакраты” ад „статус-кво” прапануюць зыходзіць з рэчаіснасьці, якая ўтварылася і існуе на сёньняшні дзень у Беларусі ў выніку двух стагоддзяў няволі і рускай акупацыйнай палітыкі. Гэта значыць, прыняць як зыходную пазыцыю ў нацыянальнай палітыцы тое, што большасьць беларусаў (асабліва ў гарадах) вымушаны гаварыць па-руску, альбо на зьмешанай беларуска-рускай паўмове.

Тое, што за ХХ-е стагоддзе акупанты з усходу і захаду (расейцы і немцы) зьнішчылі шэсьць мільёнаў беларусаў, тое, што расейцы расстралялі сотні беларускіх пісьменьнікаў (бо пісалі па-беларуску), спалілі беларускія кнігі, зачынілі беларускія школы, выгналі беларускую мову з унівэрсітэтаў, расстралялі і згнаілі ў турмах беларускую інтэлігенцыю, адміністрацыю, ліквідавалі эліту нацыі, разбурылі беларускую культуру і сьвятыні, помнікі і магілы, сфальсіфікавалі нацыянальную гісторыю і так напаілі безабаронны народ русіфікатарскім атрутным імпэрскім пойлам, што й „патомак яшчэ п’яны”, разбурылі храмы і замкі, і цэлыя гістарычныя гарады – і гэта ўсё, значыцца, – не ў рахубу. Будзем, маўляў, зыходзіць з рэчаіснасьці, якая існуе (якую стварылі акупанты і нішчыцелі Беларусі), прымем яе за норму. Будзем „дэмакратычнымі”. Яны надзяваюць маску прагматыкаў, зьвяртаюцца да „здаровага сэнсу” і апэлююць да нацыянальнай цемры людзей, якую насаджалі 200 гадоў.

Вось што такое „дэмакратыя” ад „статус-кво” ў акупанцкай інтэрпрэтацыі. Гэта адмаўленьне ад свабоды, ад справядлівасьці, ад змаганьня, ад нацыянальнага разьвіцьця, гэта легітымізацыя народнай сьмерці, замацаваньне гвалту і разбурэньня.

„Яны не ўяўляюць рэальны народ, – крычаць на нас гэтыя „дэмсілы” (Алексіевіч), – ён рускай сьвядомасьці. Адзіны рэальны палітык у беларускай прасторы – гэта Лукашэнка,.. гэты чалавек мае справу з рэальным народам, з рэальнай сытуацыяй, з рэальным часам”. *(С. Алексіевіч, – радыё „Свабода”, – 24.08.2005).*

„Болтун – находка для врага”, – сказаў бы пра гэта „с плеча” генэрал-“дэмакрат” Фралоў. Але сам выказваецца яшчэ больш выразна. „Не могу согласиться с тем вялотекущим процессом интеграции, который без руля и ветрил идет уже семь или восемь лет, – жаліцца „дэмакрат”. – То руководство страны готово идти на самую тесную интеграцию, то оно уже тормозит процесс и говорит о суверенитете.” *(„Народная Воля”, – 2005, 12.08).*

„Беларусы хочуць бачыць сябе ў эўрапейскай цывілізацыі, – разважае іншы знаўца беларусаў, новастволраны „дэмакрат” А. Казулін, – але гэта не азначае, што яны бачаць сябе па-за Расеяй”. *(Радыё „Свабода”, – 28.09.2005).* Куды ўжо шчырэй. У чрэве Расеі – ды ў Эўропу.

Гэта той самы Казулін, які, будучы рэктарам БДУ, выключаў беларускіх студэнтаў з унівэрсітэта за патрыятычную дзейнасьць, а на паседжаньнях ставіў побач з сабой перакладчыка, каб той перакладаў яму на расейшчыну, калі нехта выступаў па-беларуску (куражился-с).

* * *

Самай адметнай і галоўнай рысай гэтай „дэмапазыцыі” і яе груповачак (што ладзяць „кангрэсы”) ёсьць рабская, халуй-

ская прывязанасьць да Масквы. Тут яны аднадушныя і ў словах, і ў справах. Яны езьдзяць туды, як на працу, дакладваюць, інфармуюць, жаляцца, просяць, паведамляюць, нават „папярэджваюць", ды няўклюдна „палохаюць".

„Калі Расея будзе і ў будучым падтрымліваць Аляксандра Лукашэнку, гэта, на вялікі жаль, прывядзе да нагнятаньня ў Беларусі антырасейскіх настрояў." Гэта кажа акадэмік А. Вайтовіч. *(Радыё „Свабода", – 20.10.2004).*

Наступствы рэфэрэндуму 2004 г. „вельмі небясьпечныя", – тлумачыць іншы „дэмакрат", Васіль Лявонаў, „яны небясьпечныя тым, што калі 5 гадоў таму большасьць беларусаў былі гатовыя да інтэграцыі з Расеяй, то цяпер большасьць насельніцтва нэгатыўна ставіцца да гэтай пэрспэктывы". *(„Свабода", – 20.10.2004).*

(Маўляў, – трывога, расейцы, рабіце высновы!)

Але гэта ўсё „дэмакраты" зь „біяграфіяй". Ёсьць іншыя дэмакраты, таксама дзейныя камуністы ў мінулым, але шчырыя, сьведамыя, яны за мову і Беларусь, паэты, разумныя быццам бы людзі. Аднак гавораць тое ж самае.

Генадзь Бураўкін: „Я ж ня думаю, што ў нас будуць разрывацца з-за нейкіх канфліктаў адносіны з Расеяй; гэта сапраўды гістарычна немагчыма... Чалавек, які будзе прадстаўляць найвышэйшую ўладу Расеі, для чаго ён едзе? (Гэта пра Аяцкава – З.П.). Для таго, каб умацоўваць нашыя адносіны, альбо для таго, каб агітаваць нас разбурыць нашу дзяржаву, а тым самым – і саюз?" *(„Свабода", – 13.08.2005).*

Ну і ну! За антыпраўны лукашысцка-маскоўскі „саюз", аказываецца, „перажывае" Гнадзь Мікалаевіч. І каго вы хочаце ашукаць? Хто Вам паверыць? Марны лёс беларускіх нацыянал-камуністаў і грош цана такой „дапляматыі". Вынішчалі іх цэлымі партыямі (КПЗБ), цэлымі раёнамі, а яны ўсё на Маскву азіраюцца. Нічога не дапамагло: ні сьмерць, ні ссылка, ні турма. Усё пнуцца маскоўца абдурыць (дэманструюць лаяльнасьць). Але абдурваюць толькі сябе.

* * *

Ужо даўно не сакрэт (публічна засьведчылі нават кагэбісты), што ўсе так званыя „дэмпартыі" (акрама сацыял-дэмакратычнай М. Ткачова) былі створаныя ў Беларусі пры непасрэдным удзеле КГБ супраць Беларускага Народнага Фронту.

У 1998-1999 гг. пры супольных дзеяньнях КГБ і нямецкай разьведкі (Ганс Вік), ізноў жа супраць Беларускага Народнага Фронту, з гэтых партыяў была створаная аб'яднаная „апазыцыя" на ідэалёгіі і прынцыпах агульнай дэмакратыі (ці дэмакратыі наогул).

Пазьней Ганс Вік пакрыўдзіўся за здраду на Лукашэнку (апошні пасьля зрабленьня справы выставіў Віка каленам зь Беларусі) і, баючыся раскрыцьця сваёй дзейнасьці з боку рэжыму, сам першы публічна расказаў у друку пра сваё супрацоўніцтва з КГБ і пра сродкі, затрачаныя на стварэньне прамаскоўскай дэмапазыцыі і на раскол БНФ.

„Забойная" інфармацыя Віка, роўная па сіле атамнаму выбуху, ня выклікала ніякага зруху ў падлукашысцкім грамадзтве, засталася нават не заўважанай. Гэтаму ёсьць свае прычыны і сваё тлумачэньне. Але факт застаецца фактам: ня толькі па сваёй ідэалёгіі, дзеяньнях і справах, але і па сутнасьці арганізацыі і ўтварэньня, „дэмсілы" (ці „дэмапазыцыя") ня ёсьць зьявай ні нацыянальнай, ні дэмакратычнай, ні самастойнай. Яна пасіўна (а часьцей агрэсіўна) накіраваная якраз супраць нацыянальнага руху і нацыянальнай будучыні Беларусі. Яна цалкам кантралюемая і залежная ад чужых палітычных сілаў, што змагаюцца зь беларускай культурай, дзяржаўнасьцю і незалежнасьцю. Дэмакратычная „апазыцыя" – прылада ў іхных руках.

Цяпер „апазыцыянеры" з Масквы амаль не вылазяць. 28 верасьня (перад дэмкангрэсам) ўдзельнічалі там у сумеснай канфэрэнцыі з адыёзнымі асобамі (тыпу Б. Нямцова), які раней публічна зьневажаў нашу краіну гнюснымі словамі (і „Народная Воля" гэта друкавала).

С. Калякін, В. Лявонаў, Я. Раманчук, А. Лябедзька, А. Дабравольскі, А. Ярашук, С. Багданкевіч, С. Шушкевіч, А. Мілінкевіч, В. Арэшка абмяркоўвалі з маскоўцамі сумесныя дзеяньні. Расейцы паабяцалі „магчымасьці і рэсурсы" для адзінага кандыдата. Усе ўжо цяпер вядомыя „адзіныя кандыдаты" ад дэмсілаў і ў Маскве ўзгодненыя, і паабяцана, што будуць падтрыманыя.

Б. Нямцоў запэўніў, што ён „як палітык выкарыстае свае асабістыя рэсурсы, патэнцыял дзеля таго, каб адзіны кандыдат меў камунікацыі і ў Расеі, каб яго зразумеў расейскі бок, уключна і ўладныя структуры" (!). *(„Свабода", – 28.09.2005).*

Другая група „апазыцыянераў" (В. Фралоў, М. Багдановіч, Л. Марголін, К. Коктыш, С. Казлоўскі і інш.) паехала на агледзіны ў „РИА Новости". Пасьля агледзінаў маскоўцы грэбліва напісалі зьедлівую інфармацыю пра ўсё, што ўбачылі і пачулі.

„Беларуская дэмакратычная апазыцыя аб'явіла на сябе конкурс, – пацяшаюцца маскоўцы, – кандыдаты заявілі пра сябе ў Маскве. Паколькі адзінага кандыдата беларускія актывісты выявіць сярод сябе не спадзяюцца, выбар прапанавана зрабіць Расеі, ад якой (перакананыя апазыцыянэры) у многім будзе залежыць вынік будучай кампаніі." („Взгляд". – 28.09.2005, www.vz.ru/)

Маскоўцы адкрыта зьдзекваліся з гэтых халуёў: „Прэзентацыя" апазыцыянэраў адбылася ў сераду, – пішуць яны. На мерапрыемства (як адразу патлумачыў мадэратар, расейскі экспэрт Міхаіл Малюцін) былі запрошаныя „только интеллектуально вменяемые и нравственно безупречные оппозиционеры".

На сустрэчы „апазыцыянеры" (М. Багдановіч, В. Фралоў) пачалі жаліцца і расказваць маскоўцам пра свае беды і цяжкасьці, што, маўляў, апазыцыя „безалаберная", ня хочуць займацца руціннай працай, не разносяць лістоўкі, нічога ня робяць і г.д. Тады выступіў дацэнт Кірыла Коктыш і кажа: „Если сегодня Россия не повлияет на ситуацию, то рискует получить атомизированное, недружественное по отношению к себе пространство".

Чамусьці ўспомнілася тут расейская блатная песенька з 30-х гадоў:

Милый, купи мне шляпу,
В этой мне стыдно ходить.
Если не купишь – заплачу
И перестану любить.

Спалохаліся маскоўцы "пространства", сядзяць, слухаюць. Аж тут выступае вялікі апазыцыянэр С. Казлоўскі і кажа гэтак просьценька ды па-свойску: „В Белоруссии на сегодня очень плохо с субъектами переговоров (грызуцца, значыцца). Если оппозиции не удастся договориться о едином кандидате – противнике действующему президенту, – России нужно самой выбрать понравившегося ей оппозиционера и, "поставив" на него, помочь ему победить".

– Чаго хочаце, – спыталі тады „апазыцыянэраў" маскоўцы, – расейскага паліттэхналягічнага дэсанту ў Беларусь, як было на Ўкраіне, ці, можа, фінансавай дапамогі?

– Мы дакладна яшчэ ня ведаем, чаго чакаць, – сказалі сьціпла „апазыцыянэры", „взор потупя". – Вось заўтра ў нас сустрэча ў гэтакім жа фармаце з палітолагамі. Паглядзім, да чаго там удасца дамовіцца. („Взгляд". – 28.09.2005, www.vz.ru/).

Калісьці за часы СССР усе сьмяяліся, як камуністычна-партыйная намэнклятура езьдзіла зь Менска ў Маскву кланяцца расейскаму начальству. Але аказываецца існуе асобная катэгорыя людзей халуйскай мэнтальнасьці. Ці там рабства, ці свабода – на жываце папаўзуць, знойдуць сабе „гаспадзіна". Не адчуваюць ні пагарды, ні зьдзеку, ня маюць ні крупінкі гонару за сваю нацыю, за краіну, і ніякай годнасьці чалавечай.

Ці можаце вы ўявіць такіх людзей ва ўладзе і што яны будуць кіраваць дзяржавай? Гэта ж лакеі, камэдыянты. Яны ж ня тое што за капейку, за аплявуху гатовыя прадаць усю Беларусь, разам з народам, які абзываюць дурным.

Мы ўжо шмат гадоў зьвяртаем увагу беларускага грамадзтва, што гэта ёсьць падстаўная „апазыцыя", ніякія не палітыкі, гэта скамарошая частка прамаскоўскага рэжыму дзеля заблытваньня людзей. За сем гадоў пустога гаварэньня і ваяжырваньня паміж Масквой і Брусэлем яны не дасягнулі ў беларускай палітыцы літаральна нічога, ні на макавае зерне. Гэта ж не палітычная, не беларуская публіка, яны ня здольныя ні на што, акрамя шкоды ўласнай Радзіме.

4-га кастрычніка прадстаўнікі „дэмсілаў" зьбіраюцца зноў у Маскву. Іх запрасілі на паседжаньне СВОП (Савет па зьнешняй і абаронцай палітыцы РФ, створаны пры ўдзеле спэцслужбаў; гэта Караганаў і іншыя імпэрыялісты).

Так рыхтуецца новы маскоўскі плян „Ганчарык-2" і ствараюцца новыя ганчарыкі. Ганчарыкам абяцаюць падтрымку, дапамогу „ўладных структураў", „магчымасьці" ды „рэсурсы". Ганчарыкі радуюцца, і ніхто зь іх не задумваецца, што тая ж Масква, якая іх падтрымлівае, ужо даўно і адкрыта паставіла на Лукашэнку, выдзеліла яму шматмільённы крэдыт на выбары і паабяцала ў гэтым годзе яшчэ 146 мільёнаў даляраў, ізалявала Польшчу, гарантавала не павышаць цану на газ да 2007 года і нават часова панізіла частку расейскіх падаткаў беларускім гандлярам у Расеі. Няўжо „дэмсілы" не разумеюць, што адбываецца? Разумеюць, яны не ідыёты, але працягваюць бавіцца ў чужую гульню. Чаму?

Ці трэба мне называць гэтае слова-адказ? Гэта страшнае слова. Але гэта так.

Масква выкладваецца, каб выйграць з Лукашэнкам у Беларусі. Для яе гэта, можа, апошні шанец і апошняя магчымасьць задзейнічаць праз рэфэрэндум так званы „канстытуцыйны акт", які забясьпечыў бы зьнішчэньне нашай дзяржавы. Яны рыхтуюцца, сьпяшаюць, зьбіраюць незаконныя структуры, прымаюць папяровыя рашэньні. Ім патрэбны зноў рэфэрэндум сумесна з выбарамі. Але Масква адчувае сытуацыю, маўчыць пра гэта, не адчыняе рот. І тады 7-га верасьня зьяўляецца ініцыятыва трох „волатаў дэмакратыі": В. Фралова, А. Вайтовіча, В. Лявонава – „Рух за вызваленьне ад дыктатуры". Стваральнікі „вялікага пачыну" вырашылі скарыстацца „канстытуцыйным правам" на... правядзеньне рэфэрэндуму з ініцыятывы грамадзянаў. На рэфэрэндум прапанавалі вынесьці чатыры пытаньні: пра дэмакратызацыю выбарчага заканадаўства, адмену контрактнай сістэмы найму на працу, абмежаваньне росту тарыфаў на паслугі жыльлёва-камунальных службаў, дзяржаўную падтрымку малога і сярэдняга бізнэсу. Пачаліся інтэрв'ю і гаварэньне.

Камэдыю, праўда, адразу папсаваў камандзір ініцыятывы генэрал Фралоў. Гэты з усёй шчырасьцю і прастатой „возми да и брякни": „Я думаю, что когда Центральная избирательная комиссия исключит из числа предлагаемых нами на референдум вопросов один-два, можно включить туда и вопрос об интеграции с Россией, – заявіў генэрал. – Давно пора четко и ясно определиться!" *(„Народная Воля", – 2005, 12.08)*

Ну вось табе і на-а-а! (Разве с такими можно дело делать?) Усіх здаў.

* * *

Увесь гэты здрадніцкі прамаскоўскі псэўдадэмакратычны маразм стаўся магчымым у выніку „вялікай апэрацыі" па расколу Беларускага Народнага Фронту і аслабленьня Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху. Уся гэтая чужародная квазідэмакратыя, арганізацыі, імітацыя барацьбы, паездкі ў Маскву, уся гэтая каляніяльная ідэалёгія непрадрашэнства ды статус-кво накіраваныя разам супраць беларускай нацыянальнай ідэі, супраць беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху і ягонай ідэалёгіі Адраджэньня. ***Яны і ўзьніклі як імпэрская рэакцыя на Адраджэньне і беларускі рух.***

Нацыянальнае Адраджэньне ёсьць антыпод каляніяльнай ідэалёгіі „статус-кво". ***Адраджэньне – гэта прынцып агульнага разьвіцьця, унівэрсальны закон усяго жывога, накіраваны на аднаўленьне культуры, на паправу разбуранага, на вяртаньне страчанага, на кансалідацыю народа ў агульных каштоўнасьцях нацыі, у супольных інтарэсах у будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы на грунце беларускай культуры, права і дэмакратыі.***

Беларускае нацыянальнае Адраджэньне, фактычна, аднавіла дзяржаўнасьць Вялікага Княства Літоўскага пад назвай Беларусь (Беларуская Народная Рэспубліка). Беларускае нацыянальнае Адраджэньне (БНФ) вярнула незалежнасьць у 1991 годзе, і гэтым самым рэальна сьцьвердзіла магчымасьць дэмакратычнага разьвіцьця.

Супраць беларускага нацыянальнага Адраджэньня якраз і выступае, і ваюе ўся маскоўская раць.

* * *

І цяпер пра галоўнае і агульнавядомае, аб чым трэба, аднак, заўсёды казаць.

Не бывае, не існуе абстрактнай дэмакратыі, дэмакратыі ўвогуле ці проста дэмакратыі. ***Дэмакратыя ў Эўропе – гэта вынік духоўнага і культурна-эканамічнага разьвіцьця нацыяў і стварэньня нацыянальных дзяржаваў. Не бывае дэмакратыі бяз нацыі.*** Гэтак жа, як не бывае „правоў чалавека" пад акупацыяй ці свабоды, дзе кіруе „таварышч маўзер".

Адсюль – разуменьне прыярытэтаў. Першасная ёсьць нацыянальная ідэя, якае выклікае разьвіцьцё нацыянальнай сьведамасьці. Нацыянальная сьведамасьць спрыяе фармаваньню нацыянальнага грамадзтва і прадугледжвае стварэньне нацыянальнай дзяржавы. І толькі ў нацыянальна сьведамым і нацыянальна салідарызаваным дзяржаўным грамадзтве магчымая дэмакратыя.

Дарэчы, эмігранцкія нацыі (напрыклад, Канада, ЗША) вылучаюцца высокай нацыянальнай сьведамасьцю і патрыятызмам (гэта база дэмакратыі). ***Да дэмакратыі трэба нацыянальна і культурна сасьпець. Дэмакратыю цяжка (ці немагчыма) пабудаваць на ўзроўні этнічнай сьведамасьці, тутэйшасьці, непрывязаннасьці людзей да супольнай культуры, мовы, да супольных ідэй, традыцыяў, інтарэсаў і грамадзкіх задачаў. Каб дасягнуць дэмакратыі, неабходна нацыянальна-культурнае***

***асьветніцтва і ўзвышэньне нацыянальнай сьведамасьці грамадзтва.*** Гэта без выключэньняў пацьвярджае гістарычны вопыт і гісторыя народаў.

Таму казаць (асабліва ўлічваючы тутэйшасьць у псіхалёгіі беларусаў, русіфікацыю і агрэсіўнасьць Расеі), што спачатку дэмакратыя, а потым нацыянальная мова, нацыянальная культура, гісторыя ды традыцыі – не павінен і ня можа адукаваны чалавек (калі толькі ягоны розум не ачмураны антынацыянальнай ідэалёгіяй, фобіяй ці нянавісьцю).

Справа не ў няведаньні, а ў пазыцыі. Бо працягам тэзісу „спачатку дэмакратыя, потым беларуская мова” ёсьць якраз ня „мова”, а сцьвярджэньне, што беларуская нацыя можа існаваць і на рускай мове, а значыць – і ў рускай культуры.

Адукаваныя антыбеларусы (дэмакраты наогул) цудоўна разумеюць, што гавораць глупства. Але гавораць. Бо нянавісьць да беларушчыны – мацней.

У рускай мове і ў рускай культуры дзяржава Беларусь існаваць *у прынцыпе* ня можа. Бо побач з Расеяй у існаваньні такой дзяржавы няма ніякай неабходнасьці і ніякага абгрунтаваньня. Яна проста робіцца часткай Расеі, прытым па ўласнай волі. Таму ***палітыка русіфікацыі і зьнішчэньня беларускай мовы ёсьць галоўнай у рускай агрэсіі супраць Беларусі.***

Гэтыя відавочныя рэчы, між іншым, вельмі добра растлумачыла Алеся Сёмуха *(„Беларус”, – 2005, верасень, №512)*, раскрываючы фальш, двулікасьць і антынацыянальную агрэсію выказваньняў С. Алексіевіч.

***Няма цяпер больш важных пытаньняў для беларускай нацыі, чым мова і незалежнасьць. Бо калі траціцца мова, траціцца і незалежнасьць.***

* * *

Сытуацыя, якая складваецца вакол выбараў прэзыдэнта, паказвае, што нельга падтрымліваць ні Лукашэнку (ягоны ўдзел незаконны), ні прамаскоўскую „апазыцыю”, бо гэта ў выніку адно і тое ж – залежнасьць ад Масквы і пагроза страты дзяржавы.

Трэба ўсьвядоміць, што Лукашэнка ня мае права ўдзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах у якасьці кандыдата. Гэта першае агульнае патрабаваньне: ***„Лукашэнка, зыходзь!”*** Заўважце, што „дэмсілы” (Лябедзька) напачатку прызнавалі яму права ўдзельнічаць у выбарах, а ў мінулым годзе агітавалі народ ісьці галасаваць на антыканстытуцыйны рэфэрэндум пра трэці тэрмін Лукашэнкі. Гэта яны дапамаглі рэжыму стварыць цяперашнюю сытуацыю з трэцім тэрмінам. (Зараз яны пра гэта „забыліся”.)

Па закону права на трэці тэрмін у Лукашэнкі няма. Мы (Народны Фронт) запатрабавалі, каб ён сам адмовіўся ад намераў балятавацца ў трэці раз. Адхіленьне Лукашэнкі ад удзелу ў выбарах павінна стаць галоўным грамадзкім патрабаваньнем.

Крэмль думае, што падтрымліваючы Лукашэнку і кантралюючы прадажную дэмапазыцыю, ён паставіў беларусаў у безвыходнае становішча, бо ўсе кандыдаты будуць пад пратэктаратам Масквы, а то і Лубянкі. Але памыляюцца ў Маскве. Апошняя імпэрыя заканчваецца. І як бы ні раздзьмуваўся гэбоўскі рэжым у Крамлі – будучыні ён ня мае. Пытаньне часу. Будзе цяжка, але нішто ня спыніць наша нацыянальнае Адраджэньне, беларускую нашу хаду.

*29 верасьня 2005 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць”, www.bielarus.net; www.pbpf.org); (Беларус, – 2005, № 513, кастрычнік).*

# МОВА

Там, дзе зьнішчаюць нацыю, там абавязкова зьнішчаюць альбо людзей (генацыд), альбо мову (этнацыд, лінгвацыд).

Мова – гэта нацыя. Мова – чалавек. Большай каштоўнасьці, чым мова, у культуры, нацыі і чалавецтва не існуе.

Мэтады вынішчэньня беларускай мовы расейскімі акупантамі маюць доўгую макабарычную гісторыю і пачварную факталёгію.

Мне падаецца, што беларусы, выхаваныя за саветамі, яшчэ не да канца ўсьвядомілі добрасьць жыцьця ў сваім доме, у незалежнай вернутай Беларускай дзяржаве. Гэтаму перашкодзіў прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі. Аднак маладзейшае пакаленьне, нягледзячы на разбурэньне і прыдушанасьць беларускага нацыянальнага жыцьця, адчувае інакш.

Трэба аднак маладым беларусам зразумець, што калі б маскоўцам ўдалося вынішчыць беларускую мову, то беларусы маглі б страціць тады незалежнасьць Бацькаўшчыны і дзяржаву.

Сутнасьць акупацыйнай палітыкі Расеі на Беларусі і галоўнае акупацыйнае дзеяньне заключаецца ў русіфікацыі. Як толькі беларусы страцілі б сваю мову, пытаньне аб беларускім народзе, і тым больш аб дзяржаве, зьнікла б з ужытку. Пэрспэктыва скончылася б.

Цяпер, ва ўмовах унутранай акупацыі Беларусі, Расея праз рэжым Лукашэнкі прадаўжае тую ж агрэсіўна-тупіковую раз-



***62. Менская катэдра.***

буральную палітыку, што і раней. Рускія імпэрцы і цяпер думаюць зрабіць тое, чаго ня здолелі зрабіць іхныя папярэднікі за 200 гадоў. З улікам абставінаў, яны прыдумалі нават новае апраўданьне русіфікацыі, маўляў, нічога страшнага, беларуская нацыя і дзяржава будуць існаваць і на рускай мове.

Тым часам зразумела, што „беларуская" дзяржава з рускай мовай і адпаведна (бо інакш тады ня можа быць) з рускай культурай існаваць у прынцыпе ня можа. У яе існаваньні побач з імпэрскай Расеяй (і яе прэтэнзіямі) не было б ніякага сэнсу і ніякага абгрунтаваньня. Яна тут жа зрабілася б часткай Расеі. Прытым „па ўласным жаданьні" (пасьля інсьпірацыі з Масквы).

Так мусіла б запасьці вечка дамавіны. Крамлёўцы гэта добра разумеюць. Таму – перасьлед за беларускую мову і вынішчэньне вузлавых пазыцыяў мовы ў беларускім грамадзтве цяпер (як і заўсёды) доўжыцца безупынна.

Тым часам на справе змагацца з русіфікацыяй проста, я б сказаў, зусім проста. ***Трэба беларусам усюды і з усімі ў сваёй краіне размаўляць, пісаць і гаварыць – па-беларуску.*** Гэта тым больш проста, што беларуская (ліцьвінская) мова – адна з найбольш дасканала распрацаваных, багатых і прыгожых моваў на сьвеце, у якой стварылася і сцьвердзілала вялікая духоўная культура беларускага народу.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Кастрычнік, 2005 г.*

# ВЯЛІКІЯ ДЗЯДЫ

***(Выступ на мэмарыяльным мітынгу ў Курапатах)***

…Вітаю вас у дарагой Бацькаўшчыне на пакутнай Курапацкай зямлі! Сёньня сюды прышоў наш народ, нашчадкі Дзядоў. Мне здаецца – я бачу вашыя аблічча і чую пах Курапацкага лесу. Ён заўсёды са мной, і ўсе гэтыя дзевяць гадоў ў духу сваім я ні хвіліны ня жыў за мяжой, бо мае ўяўленьні і думкі, і справы штомінутна, штохвілінна ёсьць тут на сьвятой Беларусі.

Кожны год мы прыходзім сюды, каб засьведчыць нашу памяць, нашае адзінства і наш дух. Гэта шмат значыць, асабліва цяпер, калі ў нашай Бацькаўшчыне зноў кіруюць нашчадкі забойцаў. Аднак узмацненьне духа дасьць нам і ўзмацненьне нашай сілы. Так было і так будзе.

Нашыя слаўныя продкі змагаліся за веліч Вялікага Княства. І сёньня яны таксама тут. Усё яны рабілі правільна. Кожны вораг, кожны набег быў сьцігнуты і помшчаны збройнай пагоняй. У адным толькі сумняваемся мы цяпер – ці добра, што былі яны літасьцівымі да бязьлітасных ворагаў.

Зірніце на статыстыку гістарычнай барацьбы. Там, дзе беларусы ў збройнай вайне на полі бітвы білі расейсцаў і нямецкую ваеншчыну, там страты былі невялікія. Але там, дзе адмаўляліся ад барацьбы, там гінулі сотнямі тысячаў. Бо нельга было, „як лес безгалосы мы пад сякерай", нельга было задаваць пытаньне забойцам – „за што?".

Калі перасталі змагацца, тады пайшлі ў рускі ГУЛАГ і ў нямецкі Дахаў, тады атрымалі Хатынь і Чарнобыль, Курапаты і Трасьцянец. І па сёньняшні дзень плюе ў душу нам імпэрскі масковец і амбасадар нямецкі Фрык.

Нявінныя ахвяры генацыду павінны сьведчыць нам і наводзіць на думку, што каб не паўтарылася вынішчэньне людзей, трэба змагацца. Трэба ўзрошчваць сілу і дух, розум і мускулы. І ні адна нявінная сьмерць не павінна застацца неадпомшчанай, бо інакш – няма справядлівасьці. І нікога нельга забыць. Не раскісайма, не плачма, не жальмася нашчадкам забойцаў! Хай ня сьлёзы цякуць нам з вачэй, а закіпае кроў! Хай ня стогн раздаецца з грудзей, а гімн нашай праўды і велічы, і славы Усявышняму Богу. Сёньня ж з намі ня толькі ахвяры, але й вялікія Дзяды нацыі, і слаўны князь Вялікі Вітаўт, і Хадкевіч, Ян Радзівіл і Каліноўскі, і Астрожскі, і Касьцюшка, і дарагі наш Васіль Уладзімеравіч!

Раўняймася на іх!

Вечная памяць іх жыцьцям і вечна – Жыве Беларусь!

*30 кастрычніка 2005 г.*

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне"і***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

# З.ПАЗЬНЯК: „РЭЖЫМ ХОЧА ЗАДУШЫЦЬ БЕЛАРУСЬ У ІНТЭРНЭЦЕ"

***Сяргей Навумчык, Прага. Госьць „Свабоды" – старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк (па тэлефоне з Варшавы).***

***Навумчык:*** – „Паколькі часопіс „Дзеяслоў" толькі што скончыў друкаваць Вашую паэму „Вялікае Княства" і тым самым нагадаў пра паэта Зянона, я хацеў бы пачаць са справаў пісьменьніцкіх. Зрэшты, падзея, якая адбылася на гэтым тыдні, выходзіць па-за межы ўласна пісьменьніцкія, а тычыцца ўсяго грамадзтва. На гэтым тыдні адбыўся ўстаноўчы сход праўладнага саюзу пісьменьнікаў. Паводле незалежнай прэсы, на сходзе амаль не гучала беларуская мова.

Кіраўніцтва Саюзу беларускіх пісьменьнікаў – таго Саюзу, дзе былі *Купала, Колас, Быкаў,* дзе сёньня *Барадулін, Казько, Разанаў* – заявілі пра магчымасьць закрыцьця Саюзу. Вашая ацэнка гэтага ў кантэксьце агульнай сытуацыі.»

***Пазьняк:*** – «Стварэньне падстаўной пісьменьніцкай арганізацыі – гэта чарговы факт акупацыйнай палітыкі па

зьнішчэньні беларускай культуры. Тут задума зьліквідаваць беларускую пісьменьніцкую арганізацыю. Нацыянальная літаратура, як вядома, гэта чыньнік і атрыбут нацыі.

І калі няма нацыянальнай літаратуры, то няма і нацыі. Таму заканамерна, што побач зь беларускай школай, мовай, гістарычнай спадчынай, сымволікай, фундамэнтальнай навукай, нацыянальнай бібліятэкай рэжым імкнецца разбурыць і ліквідаваць увогуле нацыянальную літаратуру.

У канцы гэтага працэсу (як плянуюць нішчыцелі) – поўная ліквідацыя беларускага народу, перамяшчэньне і этнічная замена насельніцтва. Я пра гэтыя працэсы і пра гэтую палітыку гэбісцкай Масквы кажу і пішу ўжо дзесяць гадоў. Магу нагадаць працы «*Беларуска-расейская вайна*», «*Прамаскоўскі рэжым, альбо як зьнішчаецца беларуская нацыя*». Усё гэта ёсьць у Інтэрнэце, усё гэта можна чытаць, можна думаць, аналізаваць і разумець. Але, як кажуць, глухія праўду ня імуць, і сьляпыя не ўбачаць.

Канешне, нас, беларусаў, мэтадычна зьнішчаюць. Канешне, улада ў чужых руках. Вядома ж, ідуць рэпрэсіі. Але шмат у чым вінаватыя самы пісьменьнікі і самы беларусы. Гэта трэба прызнаць".

***Навумчык:*** – «Днямі "Наша Ніва „ зьвярнула ўвагу, што ў Кіеве украінскія Гілевічы і Брылі ўжо стаялі б каля Палацу, дзе праходзіў сход і „ціснулі" б маральным аўтарытэтам. Кіраўніцтва Саюзу беларускіх пісьменьнікаў правяло прэсавую канфэрэнцыю, аднак трэба прызнаць, што яна засталася не заўважанай у грамадзтве, ва ўсялякім разе, грамадзтва не зрэагавала на гэтую падзею».

***Пазьняк:*** – „Галоўны недахоп я бачу ў тым, што цяперашняе пакаленьне беларусаў страціла здольнасьць да барацьбы, згубіла дух змаганьня. Калі б гэты дух аднавіўся, дык акупацыйная палітыка правалілася б імгненна. Яна б пасыпалася, як асеньняе лісьце. Змаганьне народа за сябе – гэта ня толькі зброя, гэта ня толькі дэманстрацыі, лямантаваньне, бунтаваньне, як многія ўяўляюць. ***Змаганьне – гэта калі ўвесь народ (ад акадэміка да крымінальніка) бароніць на сваёй зямлі і беражэ ўсё сваё. І ні ў чым не спрыяе акупантам.*** Вось гэта і ёсьць масавая народная барацьба.

Такая пазыцыя была за часы савецкай акупацыі ў прыбалтыйскіх народаў, успомніце. У армянаў, грузінаў таксама. І таму яны захавалі і сваю школу, і мову, і храмы. І яны, ня маючы большай сілы, пайшлі тады ў акупацыйную ўладу, у КПСС, у міліцыю – каб бараніць сябе. І яны абаранілі. Успомніце, якія былі дачыненьні ў Прыбалтыцы, калі вы ўладкоўваецеся ў гатэль, калі вы зьвяртаецеся да таксіста – яны сябе паводзілі сьведама.

А ў нас так: ім плююць у твар, іх б'юць, іхняе вынішчаюць, а яны ўвесь час нічога не разумеюць. Не разумеюць, і ўсё!

Гэта я кажу зусім не пра простых людзей, а пра тых, зь якіх простыя людзі павінны браць прыклад. Лукашэнка бэсьціць, зьневажае ўсё беларускае, а пісьменьнікі пайшлі некалі гуртам да яго на паклон. Вось такое паняцьце гонару... Дэпутатаў Апазыцыі БНФ, што галадавалі за мову, лукашысцкі спэцназ зьбівае ў парлямэнце. Гэта неверагоднае злачынства, а пісьменьнікі – маўчалі. Яны думалі, відаць, што гэта іх не датычыцца. Дрэнна думалі.

Аднак, якой бы не была самакрытыка (а тое, што я кажу, я ацэньваю як самакрытыку), яна не істотная перад агульнай небясьпекай і перад агульнай нашай народнай бядой. Усе беларусы павінны бараніць зараз сваю літаратуру, сваіх пісьменьнікаў, свой беларускі пісьменьніцкі саюз, свае выдавецтвы. Бо літаратура і пісьменьнікі – гэта наш агульны нацыянальны скарб. І гэта мы павінны ўсьвядоміць".

***Навумчык:*** – «Будучыня беларускай мовы – гэта галоўная частка Вашай праграмы, я маю на ўвазе нават не палітычную, партыйную праграму, а праграму жыцьця. Ці Вы бачыце тут нейкія новыя тэндэнцыі?»

***Пазьняк:*** – „Тэндэнцыі ёсьць. Галоўная тэндэнцыя такая: як казаў паэт, „каб сонца засланіць, вушэй асьліных мала". Такую вялікую, магутную і культурную мову, як беларуская, зьнішчыць нікому ня ўдасца: ні Маскве, ні Брусэлю, ні КГБ.

Нядаўна Міхайлаў, рэктар Эўрапэйскага гуманітарнага ўнівэрсытэту, зьневажаў усяляк беларускую мову ў сваім выступе ў Нямеччыне, гэта вядома. Мэта зразумелая – скампрамэтаваць Беларусь і беларусаў у Эўропе. Гэта праява агульнага пляну Масквы па зьнішчэньні ўсяго беларускага. На Захадзе пад шумок аб крытыцы рэжыму Лукашэнкі руская дыпляматыя і агентура цяпер усяляк ахайвае беларускую культуру і беларускі народ. Мне гэта добра вядома. Тут зазначу, што нічога ў іх з гэтага ня выйдзе. Ёсьць другі бок мэдалю, пра які яны ня ведаюць і пакуль што мы пра яго не гаворым. І зноў жа, як пісаў пра такіх паэт: „балабонь да пары, балабонь..."

***Навумчык:*** – «У сваёй паэме „Вялікае княства" Вы пішаце пра сталінскую школу, якая калечыла дзіцячыя душы. У сёняшнім інтэрв'ю Вы ўзгадалі 1995 год, калі праходзіў „рэфэрэндум" у пытаньні сымволікі. Сёньня Бел-Чырыона-Белы сьцяг забаронены, але моладзь выходзіць зь ім на вуліцы, коштам зьбіцьця, арыштаў ды штрафаў. Але давайце глядзець праўдзе ў вочы: такіх маладых няшмат. Вам, пэўна, непрыемна гэта чуць, але значна большая частка моладзі ўспрымае цяперашнюю афіцыйную сымволіку як легітымную, я маю на ўвазе, гістарычна легітымную, ходзіць на футбольныя спаборніцтвы зь зялёна-чырвонымі сьцягамі. Вам не падаецца, што нацыянальна арыентаваная апазыцыя папросту губляе моладзь?»

***Пазьняк:*** – „Не, мне так не здаецца. Але рэальнасьць такая, што на вайне як на вайне. Частку моладзі мы, безумоўна, губляем. Але большая частка актыўнай і думаючай моладзі (а такой моладзі няшмат, актыўнай і думаючай), дык вось, гэтая частка ў большасьці ёсьць нашая, беларуская. Гэта так. І ёсьць факты, па якіх можна гэта вызначыць. Пра пасіўную частку мы не гаворым, таму што калі зьмяняюцца абставіны, дык зьмяняецца і пасіўная частка моладзі. Важна, які авангард. Гэта вельмі істотна.

І вось, працягваючы размову пра мову, трэба ўлічыць, што (нягледзячы на тое, што пазачынялі беларускія школы, што мову зьневажаюць) актыўная частка беларускай моладзі мову шануе, паважае, любіць і на ёй размаўляе. Гэта вельмі істотна. У гэтым сэнсе я хацеў бы сказаць пра наступную тэндэнцыю і зьвярнуцца да моладзі. Думайце, як абараніць наш беларускамоўны Інтэрнэт. І як яго разьвіць, таму што старэйшае пакаленьне, яно ўжо... Яно ўжо тут нічога ня вырашыць. Гэта людзі іншага тэхнічнага часу".

***Навумчык:*** – «Спадар Зянон, а дарэчы, ў якой ступені Вы самі карыстаецеся Інтэрнэтам?»

***Пазьняк:*** – „ Карыстаюся. Выкарыстоўваю тое, што магу і пасьпяваю. Удзельнічаю ў старонках фронтаўскіх. Вось у афіцыйнай старонцы партыі www.pbpf.org, у „Беларускай салідарнасьці" www.bielarus.net ёсьць некалькі маіх аматарскіх старонак – www.zianonpazniak.de і www.pazniak.com, якія робяць мае прыхільнікі; рыхтуецца яшчэ афіцыйная старонка

(www.pazniak.org). Я пішу туды агляды, артыкулы і актыўна там удзельнічаю. Вядома, я не хаджу на форумы, але карыстаюся Інтэрнэтам актыўна.

Дык вось, вяртаючыся да гэтага тэзісу, моладзі трэба думаць, як абараніць наш беларускамоўны Інтэрнэт. І як яго разьвіць. Лукашэнка паслаў цяпер сваіх эмісараў у Кітай даведацца пра кітайскія мэтады кантролю над Інтэрнэтам. Рэжым хоча задушыць Беларусь у Інтэрнэце, асабліва перад выбарамі. Таму змагаймася, аб'яднайма нашыя маладыя таленты.

Нам, беларусам, будзе не да гонару, калі тупое калгаснае гэб'ё задушыць нас яшчэ і ў Інтэрнэце. Тады які наш інтэлект? Куды нам падзецца? Тут мы павінны сябе праявіць. Так што не чакайма, а за працу. Таму што вайна ў беларускім Інтэрнэце будзе. Рэжым рыхтуе гэтую вайну, і яна непазьбежная. Ад яе мы нікуды ня дзенемся. Мы павінны ў ёй перамагчы. А гэта і будзе тады перамога нашай сьвятой беларускай мовы".

***Інтэрв'ю: Сяргей Навумчык, Прага***

*25 лістапада 2005 г.*




***63. Дэманстрацыя ў Манхэтане, на Парк-Эвэню ў 2000 г.***

# НАРОДНАЕ ГАЛАСАВАНЬНЕ

***(Паведамленьне)****

Па патрабаваньні Масквы Лукашэнка зьнянацку для Беларусаў прызначыў датэрміновыя выбары прэзыдэнта раней патрэбнага часу (на 19 сакавіка 2006 г.). Датэрміновыя выбары, аднак, законна не абгрунтавалі. Расея сьпяшае падтрымаць свайго стаўленьніка, бо тэндэнцыі ў грамадстве паказваюць, што справы гэтых двух рэжымаў могуць пагоршыцца. Таму робяць, што хочуць, не зважаючы на ўспрыняцьце людзей.

Тут разьлік, што калі 19 сакавіка яны праваляцца на выбарах, то па закону Лукашэнка яшчэ амаль паўгода застаецца на сваёй пасадзе. Тады пуцінская Масква спадзяецца разьвязаць у Беларусі грамадзянскі канфлікт (вайну) за ўладу і зьліквідаваць законнага нававыбранага прэзыдэнта. Нічога, аднак, у іх ня выйдзе, бо мы іхныя спадзевы бачым.

З іншага боку, яны мяркуюць, што зімой у маразы нам не ўдасца сабраць 150-200 тыс. подпісаў, бо будынкі, дамы, студэнцкія інтэрнаты і іншыя памяшканьні рэжым зьбіраецца заблякаваць. Але й тут яны памыляюцца. У Кіеве ўкраінцы ў час выбараў нават начавалі на вуліцы ў маразы.

Бязьлітаснасьць, несумленны падыход да беларусаў можа толькі павялічыць народны энтузіязм, нягледзячы на мароз.

Беларусь усяроўна пераможа гэтую чужародную навалу. Усе беларусы памятаюць як рэжым і ягоная прадажная квазіапазыцыя абдурвалі іх у кастрычніку 2004 года і заганялі народ на незаконны рэфэрэндум пра трэці тэрмін Лукашэнкі. Народ не павінен быў удзельнічаць у антызаконнай справе рэжымнай улады. А вось цяпер бачым вынік гэтага нібыта „апазыцыйнага" ўдзелу ў антыканстытуцыйным рэфэрэндуме: Лукашэнка зьбіраецца выстаўляць сваю кандыдатуру на выбары, хаця па Канстытуцыі ён ужо ня мае на гэта права. Зноў рыхтуюць фальсіфікатарскае ашуканства і шмат хто думае, які сэнс тады галасаваць – усяроўна скруцяць і падмануць.

Гэта праўда. Але ў гэтай сытуацыі сэнс ёсьць. Выбары прэзыдэнта могуць скансалідаваць грамадства. Сілай зьяўляемся мы – народ, а не прамаскоўскі рэжым і ня кучка псэўдаапазыцыйных калябарантаў з Масквой (не Лукашэнка і не падстаўныя калякіны-мілінкевічы). Ня слухайце гэтай прадажнай публікі!

* Выкарастоўвалася як улётка – *(З.П.)*

У гэтых умовах трэба абавязкова ўсім масава ісьці на выбары (рэжым баіцца пратэстнай кансалідацыі людзей), а пасьля галасаваньня не разыходзіцца, а кіравацца ў цэнтар Менска на Цэнтральную плошчу, быць разам і чакаць аб'яўленьня вынікаў галасаваньня. (Той, хто жыве бліжэй каля Менска, той пасьля галасаваньня прыязджае ў Менск).

У нашых сілах і ў нашых законных магчымасьцях затармазіць і спыніць машыну фальсіфікацыі. Гэта можа зрабіць кожны беларус і ўсе разам.

Дзеля перамогі народа над фальсіфікацыйнай сістэмай трэба рабіць ***народнае галасаваньне.*** Сутнасьць народнага галасаваньня ў наступных **дзеяньнях выбаршчыкаў:**

– на ўчастку для галасаваньня выбаршчыкі йдуць са сваімі заранёў падрыхтаванымі бюлетэнямі (альбо з чыстым лістом паперы, тады свой бюлетэнь можна напісаць у кабіне для галасаваньня);
– выбаршчык бярэ бюлетэнь рэжыму, ставіць подпіс у сьпісе і ідзе ў кабіну;
– у кабіне выбаршчык кладзе ў кішэню бюлетэнь рэжыму і дастае свой;
– у скрыню для галасаваньня выбаршчык апускае свой бюлетэнь;
– выбаршчык захоўвае бюлетэнь рэжыму да перадачы яго грамадзкай камісіі.

**Народны бюлетэнь:**

– На чыстым лісьце паперы выбаршчык піша прозьвішча, імя, імя па-бацьку беларускага народнага кандыдата (альтэрнатыўнага рэжыму), за якога ён галасуе і ставіць насупраць яго прозьвішча значок (птушачку), а ўнізе ліста ставіць любы васьмізначны лік.
– Тое ж самае выбаршчык робіць на афіцыйным бюлетэні рэжыму (птушачка насупраць прозьвішча і ўнізе васьмізначны лік такі самы як на народным бюлетэні).

Народны (альтэрнатыўны) бюлетэнь будзе зьнешне адрозьнівацца ад бюлетэня рэжыму. Пры адкрыцьці скрыняў адразу будуць відаць вынікі галасаваньня. Васьмізначны лік дапаможа выбаршчыку ў выпадку патрэбы пракантраляваць свой голас. Але хто ня хоча, той можна не пісаць васьмізначны лік***. Галоўнае забраць з сабой бюлетэнь рэжыму і апусьціць у скрыню для галасаваньня свой народны бюлетэнь.***

Беларускі Вызвольны Рух (пры агульнай каардынацыі з боку Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ) стварае **Нацыянальную грамадзкую камісію (НГК).**

НГК даводзіць да людзей інфармацыю аб парадку народнага галасаваньня. Пасьля галасаваньня НГК арганізоўвае збор і падлік незаконных бюлетэняў рэжыму, якія захоўваюцца ў выбаршчыкаў.

Вынікам усіх гэтых дзеяньняў павінны стаць новыя сапраўдныя дэмакратычныя выбары прэзыдэнта на законных падставах. (Трэба ўлічыць, што нават калі ўлады не дапусьцяць народнага (альтэрнатыўнага) кандыдата да ўдзелу ў выбарах, – усёроўна трэба ставіць у бюлетэні ягонае прозьвішча. Такі прынцып народнага галасаваньня.)

**Удакладненьне.** Выбары, не пагрунтаваныя на Канстытуцыі, – незаконныя. Бюлетэні рэжыму, у якіх упісаны кандыдат, які ня мае права балатавацца, – незаконныя.

Народнае галасаваньне ў сістэме існуючага заканадаўства ёсьць тым часам цалкам законнае дзеяньне і пагрунтаванае на артыкуле трэцім дзеючай канстытуцыі, які запісаны гэтак: *„Адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь зьяўляецца народ.* ***Народ ажыцьцяўляе сваю ўладу непасрэдна,*** *праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй.*

*Любыя дзеяньні па зьмяненьні канстытуцыйнага ладу* ***і дасягненьні дзяржаўнай улады гвалтоўнымі мэтадамі,*** *а таксама шляхам іншага парушэньня законаў Рэспублікі Беларусь, караюцца згодна з законам."*

Дзеяньні выбаршчыкаў у народным галасаваньні нідзе не пярэчаць выбарчаму заканадаўству. Народ мае права на народнае галасаваньне *(„ажыцьцяўляе сваю ўладу непасрэдна")* згодна закона і згодна ўдакладненьня артыкула трэцяга Канстытуцыі аб парушэньні закона (*„і дасягненьні дзяржаўнай улады гвалтоўнымі мэтадамі")*. У дадзеным выпадку закон груба парушаецца А. Лукашэнкам, бо ён ня мае больш права балатавацца на прэзыдэнта і ўдзельнічаць у выбарах. Ягоныя дзеяньні характарызуюцца „гвалтоўнымі мэтадамі".

Падкрэсьліваю, што ў пэрыяд выбараў улада па закону ня мае права зьмяняць заканадаўства і прымаць якія-небудзь падзаконныя акты, накіраваныя на абмежаваньне правоў і зьмяненьне магчымасьцяў выбаршчыкаў. Улада ня мае права забараняць партыйную дзейнасьць, распускаць партыі, зачыняць газэты і г.д.

Будзьма сьмелымі і ўпэўненымі ў нашым праве і ў нашай праўдзе.

Паведамляю, што нягледзячы на перасьлед і вымушанае быцьцё за мяжой, маё права балатавацца і ўдзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах пацьверджана спэцыяльным рашэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь № Р-120/2001 ад 15.06.2001 г.

Як толькі спыніцца прамаскоўскі рэжым і ўсталюецца беларуская народная дэмакратычная ўлада, беларускія суды будуць выконваць законы і паважаць права, а Часовы Беларускі Урад прыступіць да выкананьня сваіх абавязкаў.

Ня баймася! Пераможа наша праўда! Перад нашай масавай сілай Масква ня здолее пачаць у нас грамадзянскі канфлікт, бо яны цудоўна ведаюць (і гэтага баяцца), што беларуская армія і беларуская міліцыя стане на бок свайго народа. Нічога Маскве ўжо не дапаможа: ні расейскія гэнэралы, ні расейская ФСБ, ні падстаўныя лябедзкі-калякіны-мілінкевічы. Мы ўсё ведаем, чым яны займаюцца. Яны думаюць ашукаць беларускі народ, але іхная пацьпешнасьць толькі паскорыць крах прамаскоўскай дыктатуры. Набліжайма канец рэжыму Лукашэнкі.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*22 сьнежня 2005 г.*

*Надрукавана: („Беларус",– 2006, студзень, № 516; „Беларускія Ведамасьці", – 2005/2006, №1(55)*

# ЦВК ПАЧЫНАЕ ПАЛІТЫЧНУЮ БАРАЦЬБУ

22 сьнежня вечарам кіраўніку маёй Ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў сп. Папкову патэлефанаваў сакратар ЦВК спадар Лазавік і бадзёра паведаміў, што мая група будзе зарэгістраваная, толькі трэба электронныя адрасы ўдзельнікаў групы.

Нараніцы 23 сьнежня ў кватэры старшыні ЦВК спадарыні Ярмошынай трывожна зазваніў тэлефон. Ноччу „адказныя па выбарах" прачыталі ў Сеціве маё паведамленьне пра „Народнае галасаваньне" і строга са спадарыняй Ярмошынай пагаварылі.

Спадарыня Ярмошына тут жа пачала казаць адваротнае, што „юрыдычна спадар Пазьняк ня мае права браць удзел у дадзеных прэзыдэнцкіх выбарах". Прачына: „няма сэнсу даваць яму магчымасьць ўдзельнічаць у выбарах зараз, – сказала спадарыня Ярмошына, – яго ўжо наогул цяжка назваць дзеючай фігурай у беларускай палітыцы" (з 1996 года аб'яўлены калегамі Ярмошынай „полтическим трупом" – *З.П.).* „Рашэньне, якое было прынятае ў яго дачыненьні ў 2001 годзе, насіла хутчэй палітычны характар", – паведаміла старшыня ЦВК.

І трэба ж было такому здарыцца. Засядаў Канстытуцыйны Суд, вызначыў юрыдычны зьмест і „прававую пазыцыю" па артыкуле 80 Канстытуцыі і на запыт ЦВК прыняў рашэньне, што: „Цэнтральная Камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзеньню рэспубліканскіх рэфэрэндумаў мае прававыя падставы для рэгістрацыі ўказанай ініцыятыўнай групы" (З. Пазьняка), а спадарыня Ярмошына, атрымаўшы рашэньне Суда, узяла і прыняла тады „палітычнае" рашэньне. Ну і ну!

Ёсьць для гэтага выпадку спэцыяльнае расейскае слова з трапнымі алітэрацыямі – „лукавит" спадарыня Ярмошына! Гэта цяпер ёй хочацца прыняць палітычнае рашэньне, хоць ЦВК ня мае права гэтым займацца, інакш нішчыцца сама прырода выбараў.

Разумеем: на ЦВК ціснуць, лёгкая паніка, думалі, што мы не падрыхтаваныя да выбарчай кампаніі, думалі зрабіць выгляд дабрапрыстойных выбараў, спадзяваліся на антураж мілінкевічаў, як некалі на ганчарыкаў, а тут, аказваецца, што па ўсіх зандажах актыўных выбаршчыкаў мілінкевічы ўжо цяпер прайграюць Пазьняку. Якая непрыемнасьць! А што будзе потым? Плюс народнае галасаваньне.

Ну, вядома ж, трэба „палітычнае" рашэньне. А то прыедзе Пазьняк, ды захоча з Лукашэнкам па тэлебачаньні пагаварыць тэт-а-тэт перад усімі, ды задасьць яму некаторыя пытаньні. І ведаеце, якія гэта пытаньні? Вядома, спадары, ведаеце. Мы даўно знаёмыя.

Так што лепш для яго палітычнае рашэньне. Тым больш, што куды дзенешся, усе юрыдычныя і грамадзянскія правы засталіся за мной, гэтак жа, як і грамадзянства, і месца пастаяннага пражываньня – там дзе я прапісаны ў Менску, дзе працую старшынём партыі, зацьверджанай Мінюстам, а не там, дзе часова знаходжуся. Мой статус у ЗША – гэта азыль, часовае знаходжаньне. Я ня маю „зялёнай карты", я не прыехаў сюды (у Штаты) жыць ці ўладкоўваць жыцьцё. Я выехаў змагацца, весьці палітычную барацьбу за волю і будучыню Беларусі. (На Беларусі пэрспэктыву палітычнага змаганьня мне зачынілі, рыхтавалі „ліквідацыю"). З усіх тысячаў цяперашніх беларускіх эмігрантаў я адзіны, хто прафэсійна займаецца палітыкай і не ўладкаваў у ЗША свой статус і быт. Мой быт і маё жыцьцё – на Беларусі. Я там прысутнічаю ўсе гэтыя гады і „адказным па выбарах" гэта добра вядома.

Мушу сказаць у заключэньне гэтага фэльетона (сама рэчаіснасьць з ЦВК – фэльетон), што „палітычнае" рашэньне таксама не застане нас урасплох. Гэтым самым адразу будзе зьнята маска нармальнасьці і дабрапрыстойнасьці з цяперашніх выбараў.

***Зянон Пазьняк***

*25 сьнежня 2005 г.*



(Фота з Сеціва)

***64. Менск; вулічная сцэнка, хапаюць «неугодных».***

# 2006

## ПАВІННА БЫЦЬ НАРОДНАЯ ВОЛЯ

Гэты мой зварот да ўсіх грамадзянаў Беларусі, якія ўдзельнічаюць у перадвыбарчай кампаніі, да арганізатараў і выканаўцаў збору подпісаў, а таксама да законных прэтэндэнтаў на выбары.

**Рэальная сытуацыя выглядае так:**

– Лукашэнка ня мае права балатавацца на трэці тэрмін.

– Бюлетэні, у якіх упісаная асоба, што ня мае права балатавацца, ёсьць незаконныя.

– Удзел у такіх выбарах па схеме і правілах рэжыму дапамагае забясьпечыць фальшывую перамогу Лукашэнкі.

– Выбары па схеме рэжыму незаконна выйграе рэжым.

– Масква заігрывае з прэтэндэнтамі на выбары, каб уцягнуць іх у правілы фальшывай выбарчай гульні і зрабіць бачнасьць законнасьці.

– Масква цьвёрда і даўно паставіла толькі на Лукашэнку, бо ад захаваньня ўлады Лукашэнкі ў Беларусі залежыць лёс сучаснай улады ў Крамлі.

**Высновы:**

– Незаконнай схеме выбараў рэжыму трэба супрацьпаставіць альтэрнатыўную народную і законную схему выбараў і ажыцьцявіць яе.

– У гэтым выпадку нельга адмаўляцца ад удзелу ў прэзыдэнцкіх выбарах, бо з боку рэжыму справа йдзе не аб законных выбарах, а аб захопе ўлады пры дапамозе выбараў. Пры адмаўленьні ад прэзыдэнцкіх выбараў і пры адсутнасьці канцэпцыі адмовы, ўлада будзе захоплена рэжымам. (Мэханізм адпрацаваны).

**Што рабіць:**

– Трэба праводзіць Народнае галасаваньне.

Гэта значыць, што ў рамках афіцыйнага тайнага галасаваньня народ галасуе самастойна сваімі бюлетэнямі. Гэта ёсьць законнае дзеяньне, пагрунтаванае на артыкуле трэцім Канстытуцыі.

Дзеяньні выбаршчыкаў у Народным галасаваньні не пярэчаць выбарчаму заканадаўству.

**Працэдура Народнага галасаваньня:**

– На ўчастку для галасаваньня выбаршчыкі йдуць са сваімі заранёў падрыхтаванымі бюлетнямі, дзе ўпісанае прозьвішча альтэрнатыўнага народнага кандыдата, за якога яны галасуюць. (Можна ўзяць з сабой чысты ліст паперы, тады свой бюлетэнь можна напісаць у кабіне для галасаваньня). Гэта ёсьць Народны Бюлетэнь.

– Выбаршчык бярэ бюлетэнь рэжыму, ставіць подпіс у сьпісе выбаршчыкаў і йдзе ў кабіну.

– У кабіне выбаршчык кладзе ў кішэню бюлетэнь рэжыму і дастае свой бюлетэнь.

– У скрыню для галасаваньня выбаршчык апускае свой бюлетэнь.

– Выбаршчык захоўвае бюлетэнь рэжыму для перадачы яго Народнай Грамадзкай Камісіі (НГК).

Вынікі галасаваньня будуць відавочныя. Важна захаваць бюлетэнь рэжыму і перадаць яго ў НГК. Больш 50 адсоткаў такіх бюлетэняў, сабраных НГК, будзе сьведчыць аб Народным імпічманце Лукашэнкі і аб адхіленьні яго ад улады.

Падкрэсьліваем, гэта працэдура законная, дэмакратычная і мірная.

Пасьля Народнага галасаваньня і Народнага імпічманту ўлада будзе перададзена Часоваму Ураду, які арганізуе новыя выбары прэзыдэнта і парляманту.

Заклікаем прыняць удзел у далейшым фармаваньні і разгортваньні Народнай Грамадзкай Камісіі (НГК). Галоўная задача НГК – збор сабраных выбаршчыкамі бюлетэняў рэжыму, аб’яўленьне вынікаў галасаваньня грамадзтву, арганізацыя працэдуры Народнага імпічманту Лукашэнкі, перадача ўлады Часоваму Ураду.

*5 студзеня 2006 г.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць”, www.bielarus.net; www.pbpf.org)*

## ТРЭБА ЛЮБІЦЬ СВОЙ НАРОД

Часам, размаўляючы з маладымі беларусамі ці чытаючы іхныя лісты, чую, як наракаюць яны на свой народ, што ён такі ды гэтакі, ды несьвядомы, ды пасіўны, ды не шануе свайго, ды баязьлівы, ды ня хоча змагацца за сваё шчасьце, ды здрадлівы, ды схіляецца перад акупантам і г.д., і злуюцца на сваіх людзей, выказваюць непавагу і гатовыя адмовіцца і ўзьненавідзець.

Гэтыя маладыя людзі яшчэ не разумеюць, што яны самы ўжо стаяць на шляху да здрады. І пакуль ім жывецца цяжка, так як і бальшыні беларусаў, яны будуць толькі наракаць, што іншыя не ўзьняліся да іхных (як яны думаюць) высокіх думак і патрыятычных памкненьняў. Але калі ім засьвеціць фартуна ў бізнэсе, у грашах, у сацыяльным становішчы, у службе, у кар’еры, то шмат хто з такіх людзей замыкаецца ў сваіх інтарэсах і хавае ідэалы пад печ, ці ў куфар на дно, каб не рызыкаваць сацыяльным камфортам. Тады гэтакі беларус, каб апраўдацца перад самым сабой, будзе ў голас казаць, што народ дурны.

Колькі я ўжо наглядзеўся на гэтакіх людзей, на такія прыклады. Гэта адзін з пратаптаных шляхоў здрады ў няволі, гэта дарога, якой ішлі шмат якія выхадцы з сялян і бедных пластоў грамадзтва.

Супрацьпаставіцца такому нявольніцкаму працэсу можа воля, духоўны чын і нацыянальная асьвета. Але толькі вольная нацыянальная дзяржава можа стварыць умовы для нармальнага культурнага разьвіцьця асобы.

***

***Ніколі нельга, асабліва ва ўмовах акупацыі і нацыянальнага прыгнёту, расчароўвацца, зьневажаць і абзываць свой народ.*** Калісьці сацыяльныя вярхі лічылі сябе людзьмі, а рэшту „народам”. Памятайма, што народ, гэта ня нехта, недзе там. Народ – гэта мы ўсе. Народ – гэта мы. Такое ёсьць нацыянальнае і дэмакратычнае разуменьне народа. Нельга затоптваць сябе ў гразь, асабліва калі нас усіх затоптваюць чужыя. Гэта негадзіва для чалавека. Усьведамленьне адмоўных якасьцяў народа павінна выклікаць жаданьне пазбыцца гэтых недахопаў, а не імкненьне ўцячы, адмовіцца ад нацыі (ад самых сябе), ад культуры ды мовы. Пачынаць выпраўленьне найлепш з сябе. Гэта першы крок, каб стацца асобай. І кіравацца трэба на станоўчыя прыклады, якіх шмат у нашай гісторыі і ў жыцьці.

Трэба ўсьведамляць прычыны набытых „адмоўных якасьцяў” людзей. Можа варта іншым сходзіць у Курапаты і падумаць пра гэта там. Дзьвесьце гадоў фізічна і духоўна вынішчалі наш народ. Забівалі лепшых. Толькі за саветамі ў мірны час забілі больш 2-х мільёнаў і толькі за тое, што былі беларусамі, зьнішчылі ледзь ня ўсіх беларускіх пісьменьнікаў. А школа, а фальсіфікацыя гісторыі, а вынішчэньне памяці? Потым, калі Беларусь пачала адраджацца, нішчыцелі сталі называць адраджэньне „экстрэмізмам”, „дэстабілізыцыяй”. Яны хацелі захаваць стабільнасьць магільніка, спакой сьмерці, статус-кво таго пачварнага маразму, які яны стварылі ў нашым грамадзтве. ***„Статус-кво” – гэта ідэалёгія нішчыцеляў, мэтад па замацаваньні зьнішчэньня і ператварэньня яго ў норму існаваньня.***

Наш народ стаў ахвярай трох імпэрыяў у выніку зьбегу нешчасьлівых абставінаў. Але ён увесь час змагаўся за волю ў абліччы лепшых сваіх прадстаўнікоў, ён ніколі не пераставаў ствараць, нават тады, калі вынішчылі ягоную эліту, а рэшта вярхоў здраджвала яму, абзывала, штурхала ў гразь.

***Любіць і шанаваць свой народ неабходна, у якім бы стане, у якім бы няшчасьці ён ні апынуўся. Бо толькі з нашага народа можа быць наша будучыня.***

Калі, напрыклад, на чыюсьці маці, ці на любімага бацьку напалі бандыты і сьмяртэльна зьбілі яго, і выжыў ён скалечаны, кульгаючы, без зубоў, з адным вокам, са зьнявечаным тварам. То ці будуць дзеці яго любіць? Ці будуць яны яго лячыць? Можа яны пачнуць саромецца яго калецтва і твару і назавуць яго страшыдлам і недалэнгам, завернуцца, кінуць яго і пойдуць ў сьвет каваць сваё шчасьце? Пэўна ж не. Але калі б такое і здарылася, то хто стане нікчэмным, хто будзе вінаватым: хворы бацька ці дзеці, што зракліся яго? Трэба памятаць простае правіла – ***нікчэмнасьць эліт штурхае народ у няволю. Адсутнасьць эліт хавае яго ў небыцьцё.***

Ня трэба ніколі забывацца, што наша беларуская свабода дасягаецца намі праз мільёны нявінных ахвяр. Яны ляжаць у тысячах Курапатаў па ўсёй Беларусі. Гэта такія ж самыя беларусы, што і цяпер. І было б найніжэйшай нізкасьцю і змрочным абсурдам абвінаваціць у іхняе сьмерці іх жа самых.

Шануйма ж сябе на справе, свой народ, сваю кроў, зямлю, мову, гісторыю і культуру, калі мы хочам быць, жыць і мець ад жыцьця радасьць. Для беларусаў цяпер і заўсёды, гэта ёсьць галоўная ўмова народнай свабоды. Пра гэта казалі ўсе вялікія беларусы ад Марцінкевіча ды Багушэвіча да магутнага Быкава. Вось людзі, на якіх варта зважаць у хвіліны роспачы і сумненьняў. І не забывайма (нават будучы на доле, не забывайма), што быў вялікі Вітаўт і дзейны Скарына, мудры Сапега і рашучы Кастусь. Бо сорамна плакаць нашчадкам вялікай краіны і апускацца, каб плявалі народу ў твар. Не абзываць яго трэба, не адмаўляцца, не хавацца ў камфорт, у нару, у пойла, у грошы, у быт, а бараніць.

***Свой народ трэба любіць, як Бога, нават калі ён маўчыць.***

Уступае ў жыцьцё новае пакаленьне беларусаў, якое ўжо ня памятае камунізму, але поўнай чашай паглынае яшчэ яго вынікі. Гэтыя вынікі – Беларусь у падпольлі. Але хай жыве яна ў сэрцы, у душах, у галаве і на вуснах, хай кіруе ўчынкамі і жыцьцём, бо наша Беларусь – гэта наша Беларусь, гэта нашае Княства; і толькі мы, беларусы, можам усё адрадзіць.

***Зянон Пазьняк***

*8 студзеня 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2006, №2 (56); „Беларус”,– 2006, люты, № 517).*

* * *

*Толькі вольны чалавек*
*Жыць ня можа бяз*
*Бацькаўшчыны.*
*Нявольнік любіць месца,*
*Дзе задаволеныя*
*Яго патрэбы,*
*І не шануе сваю зямлю.*
*Колькі разоў я назіраў тут гэта,*
*У краіне мігрантаў.*

## Пішу на раніцы

*Вясной і летам доўгія дні.*
*Устаю, як адыходзіць змрок,*
*І пры адчыненым вакне,*
*Пакуль у доме сьпяць,*
*Вершы складаю*
*Сам для сябе.*
*О, найлюбшая*
*мая Беларусь!*

*2003 г.*

# ЧАМУ ПАТРЭБНАЕ НАРОДНАЕ ГАЛАСАВАНЬНЕ

Перамагчы рэжым, удзельнічаючы ў ягонай схеме выбараў, якія ён сам праводзіць, кантралюе і фальсіфікуе, практычна, немагчыма. Вопыт гэта пацьвярджае.

Перамогі народнага кандыдата нельга дасягнуць адразу адным дзеяньнем на выбарах. Бо законных і справядлівых дэмакратычных выбараў ня будзе.

Але можна перамагчы народнай тактыкай у некалькі этапаў.

Першы этап – Народнае галасаваньне, калі народ удзельнічае ў афіцыйных выбарах, але галасуе па сваёй схеме, пагрунтаванай на Канстытуцыі і законах.

Сутнасьць Народнага Галасаваньня ў блакіроўцы машыны фальсіфікацыі.

Народны Бюлетэнь будзе ўлічаны пры падліку як „несапраўдны", а ў выбаршчыкаў застанецца доказ іхнага галасаваньня – афіцыйны бюлетэнь. Калі гэтых доказаў будзе больш за 50 адсоткаў – „элегантная перамога" стане немагчымай.

Рэжым можа яшчэ накідаць сваіх бюлетэняў, за тых, хто ня прыйдзе галасаваць. Таму, каб пазбавіць яго гэтай магчымасьці, павінен быць масавы выхад людзей на выбары на Народнае галасаваньне.

Калі народ пераможа ў 1-м туры, то другі тур стане поўным разгромам Лукашэнкі.

Пасьля галасаваньня ўсім трэба йсьці і прыязджаць на Цэнтральную плошчу Менска. Там можна стварыць умовы для працы НГК і іншых органаў, якія пачнуць сваю дзейнасьць.

Наступны этап – дэмакратычныя выбары прэзыдэнта, прызначаныя Часовым Урадам.

*8 студзеня 2006 г.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць", www.bielarus.net; www.pbpf.org)*

# НАМ ПРАД'ЯВІЛІ ЎЛЬТЫМАТУМ

***(Паведамленьне)***

18 студзеня, ў той дзень, калі наша Ініцыятыўная група выйшла на мяжу 100 тысячаў подпісаў, ЦВК у асобе спадарыні Ярмошынай зрабіла нам другое афіцыйнае папярэджаньне (першы раз – вуснае).

Нам пастаўлены ўльтыматум: калі мы надалей прадаўжаем пашыраць інфармацыю пра Народнае галасаваньне, то сабраныя намі подпісы будуць улічаныя Цэнтральнай Выбарчай Камісіяй як несапраўдныя.

Сказана зразумела і нядвухсэнсоўна. Альбо мы адмаўляемся ад інфармаваньня пра Народнае галасаваньне, і тады нашыя сабраныя подпісы прымаюць для ўдзелу ў лукашэнкавых выбарах, альбо, калі мы працягваем ідэю Народнага галасаваньня, – тады нас да ўдзелу ў афіцыйных выбарах не дапускаюць.

У сувязі з ультыматумам Ярмошынай я праводжу цяпер кансультацыі з кіраўніцтвам Ініцыятыўнай групы і Партыі БНФ. Пасьля кансультацыяў павінна ўзьнікнуць калектыўнае рашэньне аб нашых дзеяньнях.

У бліжэйшы час прашу кіраўніцтва і ўсіх сяброў Ініцыятыўнай групы не зьвяртаць увагі на ўльтыматум, інтэнсіўна працягваць збор подпісаў і адначасна інфармаваць грамадзтва аб неабходнасьці і парадку Народнага галасаваньня. Усе нашыя дзеяньні пагрунтаваныя на Канстытуцыі і законах і нідзе не пярэчаць выбарчаму заканадаўству.

*19 студзеня 2006 г.*

***Зянон Пазьняк***

# ДРЭННЫЯ ПАВОДЗІНЫ

Народнае галасаваньне застала ўрасплох падстаўную апазыцыю. Паўстала задача рэальнага змаганьня, да якога яны не гатовыя. Народнае галасаваньне можа перакрэсьліць пляны Масквы (праваліцца і Лукашэнка, і Казулін) і пляны Брусэлю (які баіцца страціць тут вікаўскую апазыцыю). Яны выказаліся супраць (як і трэба было чакаць). Прытым дэмагагічна: „Ідэя Народнага галасаваньня намі абмеркаваная, – кажа А. Мілінкевіч, – але адкінутая з прычыны, што на наш погляд, яна дэмабілізуе людзей, адбірае у іх веру ў перамогу. ... Наша ідэя іншая – аб'яднацца ўсім вакол адзінага прэтэндэнта аб'яднаных дэмакратычных сілаў, вылучанага кангрэсам" (*Радыё „Свабода", 23.01.06*).

Сутнасьць гэтай фразеалогіі такая:

– мы будзем удзельнічаць у выбарах па схеме Лукашэнкі, усе падтрымлівайце ў гэтым нас і верце ў нашу перамогу. А паколькі Народнае галасаваньне ў такую „перамогу" верыць ня можа з прычыны яе немагчымасьці, то, значыцца, яно „дэмабілізуе" людзей і адбірае ў іх веру ў перамогу.

Як бачым, гэтыя дзеячы ні на крок ня могуць адыйсьці ад дарожкі, пратаптанай незабыўным У. Ганчарыкам.

Наступны абаронца сьляпога шляху сфармуляваў гэтую дарожку так:

„Толькі электаральная падтрымка, якая перавышае 50%, стварае ўмовы для пераменаў. Так, цяперашні рэйтынг, адносна задачаў, якія пастаўленыя, маленькі. Аднак іншага шляху, акрамя прапаганды праграмы, пэрсоны, кааліцыі – няма. Пасьпеем мы да выбараў выйсьці на 50%, то тады рэалізуем праект. А калі не пасьпеем, то той здабытак, які мы цяпер атрымаем, будзем нарошчваць далей пасьля выбараў." (*В. Івашкевіч, радыё „Свабода", 23.01.06*).

Адказ на гэтыя наіўныя разважаньні ляжыць на паверхні вопыту мінулых гадоў.

19 сакавіка ў Беларусі будзе вырашацца лёс антыбеларускай улады, лёс Лукашэнкі і пэрспэктыва ўлады ў Крамлі. У гэтых умовах пры любых раскладах выбаршчыкаў супэрмашына фальсіфікацыі (якую не кантралюе ніхто, акрамя рэжыму) спрацуе адназначна ў карысьць рэжыму.

Пасьля выбараў рэйтынг паражэнцаў падае ўніз і ніякіх „нарошчваньняў" ужо ня будзе. Тым больш, што ў падстаўной апазыцыі і ў Мілінкевіча няма ніякой народнай ідэі, акрамя „прагматычнага" падыходу да чужой палітыкі. Грамадзтва стане ўжо жыцьць іншай рэчаіснасьцю. Дасягаць вынікаў трэба на выбарах, а не пасьля.

З аднаго заходу перамагчы фальсіфікацыйны рэжым галасаваньня немагчыма. Патрэбныя этапы. Першы этап – Народнае галасаваньне, якое можа рэальна і законна выкінуць Лукашэнку з выбарчага працэсу.

Народнае галасаваньне дае ў рукі народу канкрэтны аргумант доказу ягонай праўды – гэта афіцыйны бюлетэнь з пячаткай і подпісамі членаў камісіі.

Калі такіх бюлетэняў набярэцца шмат, яны стануць бясспрэчным сьведчаньнем фальсіфікацыі, зразумелым усім. Гэта стане зачэпкай для актыўных дзеяньняў вялікай колькасьці людзей. Гэта зьменіць клімат і дачыненьні да рэжыму ў грамадзтве, пазбавіць рэжым упэўненасьці ў сабе. Лукашэнка атрымае ўдар на паражэньне. Яго пачнуць пакідаць нават паплечнікі. (Тут закон зграі, мафіі, заснаванай на страху).

У грамадзтве будуць узьнікаць умовы для дзеяньня, для стварэньня і падтрымкі Часовага ўраду і новых выбараў, на паверхні зьявяцца дзейныя здаровыя сілы нацыі. Ганебная вікаўская апазыцыя з Мілінкевічамі-Ганчарыкамі і ўсё гэтае псэўдаапазыцыйнае балота імгненна кане ў Лету. Сьвежы вецер павее над Беларусяй. Наперадзе вялікая праца, творцам якой можа стаць сам Беларускі Народ.

*24 студзеня 2006 г.*

***Зянон Пазьняк***

# ВОСЬ ЯНЫ Ў НАТУРАЛЬНЫМ ВЫГЛЯДЗЕ

Карэспандэнт радыё „Свабода" перадаў наступнае: „Патэнцыйныя кандыдаты на прэзыдэнта Беларусі Аляксандар Казулін і Аляксандар Мілінкевіч 6 лютага ўдзельнічалі ў круглым стале, які прайшоў у сталіцы Расейскай Фэдэрацыі. Паўдня палітыкі і экспэрты абедзьвюх краінаў абмяркоўвалі тры асноўныя пытаньні: палітычныя аспэкты расейска-беларускіх адносінаў, пэрспэктывы эканамічнага супрацоўніцтва і правы чалавека **ў кантэксьце так званай саюзнай дзяржавы."**

Гэта значыць „у кантэксьце" таго антыканстытуцыйнага, антызаконнага структурнага ўтварэньня, зробленага ў 1999 годзе Ельцыным і Лукашэнкам для кантролю над беларускай палітыкай і падрыхтоўкай інкарпарацыі („інтэграцыі") нашай краіны ў Расейскую Фэдэрацыю. Стварэньне структураў незаконнай „саюзнай дзяржавы" ёсьць галоўнае злачынства Лукашэнкі перад беларускім народам і кваліфікуецца як здрада народу і беларускай дзяржаве. Матэрыялы аб узбуджэньні справы па гэтым пытаньні ўжо некалькі гадоў знаходзяцца ў Вярхоўным Судзе Рэспублікі Беларусь.

„Абодва патэнцыйныя кандыдаты на найвышэйшую пасаду, – паведамляе карэспандэнт, – ў сваіх прамовах падкрэсьлілі, што ў выпадку перамогі на выбарах яны гатовыя да канструктыўнага супрацоўніцтва з расейскімі ўладамі".

„А як бачаць цяперашнюю сытуацыю ў Беларусі расейскія палітолягі? – задае пытаньне журналіст. – Сяргей Маркаў, старшыня Нацыянальнай грамадзянскай рады ў міжнародных справах, упэўнены, што **на падтрымку Крамля можа разьлічваць выключна прарасейска настроены палітык:**

(**Маркаў:** ) „У Маскве вельмі ўважліва сочаць за тым, хто мог бы быць альтэрнатывай Аляксандру Лукашэнку. **Ў Маскве хацелі б, каб у Беларусі была больш рэальная палітычная барацьба паміж двума-трыма прарасейскімі палітыкамі".**

Вось яна, гэтая публіка, як на далоні, гэтыя новыя ганчарыкі, антураж для машыны фальсіфікацыі, фончык для „элегантнага" ашуканства, паехалі адчытвацца за грошыкі Масквы, за першы транш. А ім і кажуць: „Служы!" (Усё ж відаць.) І служыць радыя, і прыслужвацца „не тошно". Якое ўжо там для іх народнае галасаваньне!

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2006, №2 (56). Пад псэўдонімам Адам Мікша)*

# РЭЖЫМ АШЧЭРВАЕ КЛЫКІ

Ідэя Народнага галасаваньня пашыраецца. Як і трэба было чакаць, паказны спакой лопнуў. Афіцыёз ня вытрымаў. У „Советской Белоруссии" адзначыўся рэдактар П. Якубовіч. Ён напісаў пра мяне ўсё, што патрабуецца, і пра „політіческій труп", і пра „капітуляцыю", і пра „фіяска" і „мізер", і пра тое, што ўсе яго (гэтага Пазьняка) ужо даўно „забылі", і пра „несостоятельность ідей БНФ" , і г. д. І чым больш гэтак пішацца і паўтараецца, тым больш людзі, трэба думаць, пачынаюць разумець „праўду" Паўла Якубовіча.

Журналістыка пад дыктатурай – брудная справа. У рэжымнай Беларусі гэта ўжо факт, ад якога не адмыешся. Шмат хто зрабіў зь яе прафэсію, якая ў залежнасьці ад сытуацыі вымагае поўзаць, прымушае пра адных палітыкаў пісаць хвалебна і блудасловіць, а іншых – мяшаць з гразёй. І ўсё гэта П. Якубовіч робіць нібыта „размышляя" „о жизни", „о Белоруссии", о „первым президенте".

Памятаю пачатак 90-х. Прыходзіш у Вярхоўны Савет, і першым, каго сустракаеш з журналістаў у вестыбюлі – Паўла Якубовіча, які ўсьміхаецца здалёку, падыходзіць „степенно", стараецца гаварыць па-беларуску, выказвае заклапочанасьць

лёсам нацыі, Беларусі і дэмакратыі. Праўда, яму было крыху нялоўка, бо ў 80-х, калі ўзьніклі першыя культурніцкія моладзевыя суполкі і пачалі рабіць першыя калядаваньні, Павел Якубовіч, выконваючы заказ ЦК, спляжыў гэтыя „нацыяналістычныя выверты" на старонках газэты „Знамя Юности" з усіх „правільных" тады камуністычных пазыцыяў. Моладзь вельмі абуралася гэтым суб'ектам.

Але мінуў час, і Якубовіч (ізноў жа так „степенно" з люлячкай у зубах) засьпяваў у іншы ўнісон. Цяжкая гэта, відаць, праца на журналісцкай панэлі, і ня варта было б пра такіх увогуле казаць, калі б яны ня лезьлі ў сьвятое сьвятых – у нацыянальную мову. Але туды якраз іх і прымушаюць лезьці.

Нармальны моўны парадак, па якім жывуць стагоддзямі ўсе вольныя народы, рэдактар „Советской Белоруссии" называе „чорнай фантасмагорыяй". А вось тая сапраўды чорная фантасмагорыя, якую стварыў у Беларусі прамаскоўскі рэжым, гэты зьдзек над беларускай мовай і беларускай нацыяй, гэтая фантасмагорыя ёсьць для яго нармальнасьць. Як дрэнны прыклад (на думку Якубовіча) цытуюцца мае словы пра дзяржаўнасьць беларускай мовы. Прытым з майго тэксту павыкіданыя цэлыя сказы (пра Амэрыку і моўны парадак у Амэрыцы), выкінутыя і зьмененыя словы, а ў канцы прыпісана: „Заявленіе З.С. Пазьняка пріведено мною без іскаженій". (Ну да чаго ж неганаровая публіка!)

У чым жа прычына асаблівай варожасьці да дзяржаўнасьці беларускай мовы ва ўсёй сэрвільнай журналістыкі і ў тых, хто абслугоўвае гэты рэжым? Прычына ў зьмесьце маскоўскай акупацыйнай палітыкі супраць Беларусі. Яна не зьмянілася за 200 гадоў. Галоўнае пытаньне (пытаньне №1) усёй гэтай імпэрскай палітыкі ёсьць русіфікацыя. Галоўная задача русіфікацыі – зьнішчэньне беларускай мовы. Без беларускай мовы ня зможа існаваць ні беларуская нацыя, ні беларуская дзяржава, ні беларуская культура. Гэтая аксіёма ўжо пацьверджаная для беларусаў нэгатыўнай практыкай і шматкроць растлумачаная ў друку і літаратуры *(гл. напр. Газэта „Беларус" за 2005 г., №512, верасень, артыкул А. Сёмухі „Проста дэмакратыі – няма")*. Пра значэньне беларускай мовы выдатна ведаюць ворагі беларушчыны, настаўляючы сваіх халуёў.

Але час цемры набліжаецца ўжо да мяжы. Хто ведае Беларусь і умее аналізаваць, той разумее, што нішто ня спыніць Беларусі. Яшчэ пацерпім. Няшмат засталося. Беларуская мова будзе гучэць паўсюдна. І ў галаву нікому ня прыйдзе ўводзіць чужую. У новым сваім нацыянальным жыцьці некаторым беларусам будзе сорамна ўспамінаць і цяжка паверыць, што яшчэ зусім нядаўна пры прамаскоўскім рэжыме быў гэтакі зьдзек. А маладыя ня змогуць ужо і ўявіць. І што цікавае, першым загаворыць па-беларуску „чэсны журналіст" Павел Якубовіч і першы пабяжыць засьведчыць „політіческім трупам „ „свое почтеніе". Было ўжо такое. Было.

***Зянон Пазьняк***

*10 лютага 2006 г.*

# ПАРТЫТУРА „ВЫБАРАЎ"

Пасьля заканчэньня збору подпісаў сытуацыя з „двайным кандыдатам" стала ня тое што празрыстай – ілюстратыўнай. Казулін, Мілінкевіч паехалі у Маскву засьведчыцца. Перад гэтым яны паспрачаліся пра „падтрымку". Казулін: «Мы ім прапануем далучыцца да нас. Яны нам скажуць: нас Эўропа падтрымлівае, ну добра, можа, нас хто іншы падтрымлівае» (*радыё «Свабода», 4 лютага).*

У Маскве абодва засьведчылі сваю адданасьць, асабліва Мілінкевіч, які выказаў шкадаваньне, што «расьце колькасьць людзей, якія ня вераць ў «саюзную дзяржаву», і прапанаваў: «сначала мы построим отличнейшие отношения экономические, а потом будем думать о других видах интеграции», а ў канцы пагадзіўся з расейскім міністрам вайны Івановым, што «хотим мы или не хотим, а Александр Григорьевич будет опять президентом» (*радыё «Эхо Москвы», 6 лютага*). Казулін быў борльш стрыманы (публічна).

Складваецца ўражаньне, што Лубянка цяпер вырашае пытаньне, здымаць ці не здымаць Мілінкевіча (Ярмошына выканае любы загад). Абодва варыянты ў руках Масквы. Калі Мілінкевіча пакідаюць, значыць стаўка толькі на Лукашэнку застаецца ў сіле. Будуць рабіць «элегантную». Калі Мілінкевіча выкідваюць – гэта значыць, што разглядаецца магчымасьць замены Лукашэнкі на слабога, але больш зручнага Казуліна. Пры гэтым генэральная стаўка на Лукашэнку застаецца, але з Казуліна адкрыта будуць ляпіць прамаскоўскага «лідэра» падстаўной апазыцыі. (Улічым, што Лукашэнка будзе весьці сваю тактыку, каб ацалець).

Рэальнай альтэрнатывай гэтым маніпуляцыям зьяўляецца толькі Народнае Галасаваньне.

Выхад Казуліна-Мілінкевіча з выбарчай кампаніі немагчымы і быў бы безвыніковы (рэжым страхуецца Гайдукевічам і ўлада застаецца ў Лукашэнкі).

Народнае Галасаваньне – гэта законнае і адкрытае змаганьне з рэжымам. Беларуская эліта, аднак, сьведчыць сваю нерашучасьць і жаданьне пазьбегнуць адкрытай барацьбы. Частка падтрымлівае рэжым, частка йдзе ў тупік з Мілінкевічам; больш прагматычная група (хаця куды ўжо «больш») супрацоўнічае з Казуліным. Змагарная частка беларускай эліты гатовая ўдзельнічаць ў Народным Галасаваньні.

Але нават пры гэтай сытуацыі застаецца магутны шанц перамогі над рэжымам праз Народнае Галасаваньне, якое можа перамагчы ў рашаючых пунктах сістэмы.

*14 лютага 2006 г.*

***Зянон Пазьняк***

# ПРАМАСКОЎСКІЯ ЛЮДЗІ НАЗЫВАЮЦЬ БЕЛАРУСАЎ „БЫДЛАМ” І ЕДУЦЬ У МАСКВУ

Сёньня (16 лютага 2006 г.) у Маскве ў офісе так званага „саюзу правых сіл” адбудзецца „прээзэнтацыя” передвыбарчай праграмы Мілінкевіча. Туды ж накіроўваюцца Анатоль Лябедзька, Яраслаў Раманчук і камуніст Калякін. Гэтая публіка ўжо не хаваецца, скінулі маскі і – „ў Маскву”. Перасталі нават гуляць у „клопаты пра беларускі народ”, дзеля якога склалі нібыта праграмку. Навошта, калі ён для іх – „быдла”. У Маскву!..

11-га лютага пра асноўныя публікацыі камуністычнай газэты „Товарищ” (якую можна набыць у офісе прагматыкаў БНФ) расказваў намесьнік галоўнага рэдактара Дзімітры Яненка*: „Галоўны матэрыял нумару выйшаў пад назвай „Быдла” – беларускі народ павінен задумацца над тым, каб быць грамадзянамі а ня быдлам...”* (*радыё „Свабода”,11.02.2006.).* Вось так. Вядома, беларускія людзі маглі гэтага і не пачуць (колькі там слухае тое радыё, ды яшчэ на кароткіх хвалях), але калі такое гаворыцца, значыць ведаюць беларусафобы, што ніхто іх за гэта не заб’е, пры гэбоўскай „дэмакратыі” і не такое можна казаць.

А вось выказваньне перад чарговай паездкай ў Маскву беднай марыянэткі гэтых „савецкіх мудрацоў” пра так званае „союзное государство” Ельцына-Лукашэнкі.

*Мілінкевіч:* ***„Сёньняшняя пабудова саюзнай краіны – там больш рыторыкі, больш мітаў, чым праўдзівых адносінаў, перш за ўсё эканамічных. Чаму не ідзе справа? Таму што базіс закладзены дрэнны. У эканоміцы ў нас ўсё горш і горш. І мы прапануем прагматычныя адносіны, якія грунтуюцца на ўзаемных дамовах. Мы не зьбіраемся адразу, калі прыйдзем да ўлады, ануляваць усё, што было дамоўлена”*** *(радыё „Свабода” (15.02.2006).* Уся гэтая падлыжнасьць, аднак, пусты звон, Масква ўжо ім сказала, хто будзе прэзыдэнтам, але звоніць ён пад бой курантаў. Гэтае канфармісцкае выказваньне зьвяртае на сябе ўвагу сваім прыстасаванствам.

Расейцы задаволеныя і дзелавіта падказваюць што трэба рабіць. Расейскі палітоляг Сяргей Маркаў*:* ***„Мілінкевічу тут трэба пераадолець падазрэньне, што гэтак, як Юшчанка, у выпадку свайго прыходу да ўлады, ён будзе праводзіць палітыку антырасейскую***.” Вось яны і стараюцца, хоць разумеюць, што ніякага іхняга „прыходу да ўлады” не плянуецца. Нікчэмныя паводзіны.



**65. Жанчыну цягнуць у «хапун» (Фота з 1998 г.)**

*16 лютага 2006 г.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць”, www.bielarus.net; www.pbpf.org. Пад псэўд. Тамаш Ракса)*

# НАРОДНАЕ ГАЛАСАВАНЬНЕ – ШАНЦ ПЕРАМОГІ

***(Рэліз для замежжа)***

Аўтарытарным прамаскоўскім рэжымам у Беларусі створана дзяржаўная фальсіфікацыйная сістэма галасаваньня і правядзеньня выбараў. Сутнасьць яе палягае на поўным кантролі над дзейнасьцю ўсіх выбарчых камісіяў і на цалкавітай залежнасьці ўсіх чальцоў гэтых камісіяў ад адміністрацыі ўлады (склад камісіяў фармуе рэжым). Апазыцыйна настроеных да рэжыму асобаў ў камісіі не дапускаюць. У 2004 годзе ў час выбараў і незаконнага рэфэрэндуму фальсіфікацыйная машына галасаваньня прадэманстравала сваю таталітарнасьць: галасы нават не падлічвалі; чальцы камісіі падпісвалі заранёў складзеныя адміністрацыяй улады пратаколы галасаваньня з патрэбнымі для рэжыму вынікамі.

У гэтых умовах удзел у галасаваньні альтэрнатыўна настроеных кандыдатаў робіцца бяссэнсоўным і толькі спрыяе бачнасьці „дэмакратычных” выбараў, на практыцы – спрыяе рэжыму. Становішча выглядае тупіковым.

Намі, Беларускім Народным Фронтам і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыяй – БНФ, Ініцыятывай *„Беларуская Салідарнасьць”* прапанаваны і прыняты да дзеяньня мэтад **Народнага галасаваньня**, які дазваляе цалкам на падставе Канстытуцыі і Закона заблякаваць фальсіфікацыйную машыну выбараў.

**Тэхналёгія мэтаду:** выбаршчык бярэ бюлетэнь для галасаваньня на выбарчым участку, расьпісваецца ў сьпісе выбаршчыкаў і ідзе ў кабіну. У кабіне бюлетэнь рэжыму ён кладзе ў кішэнь, а ў скрыню для галасаваньня кідае свой Народны бюлетэнь – чысты ліст паперы, на якім піша прозьвішча кандыдата, за якога галасуе, альбо ня піша нічога.

Пасьля галасаваньня выбаршчык перадае афіцыйны бюлетэнь у Нацыянальную Грамадзкую Камісію (НГК), якая ўсё падлічвае і складае пратакол падліку. Усе дзеяньні цалкам пагрунтаваныя на заканадаўстве.

**У выніку** – Народны бюлетэнь выбаршчыка будзе **ўлічаны** выбарчай камісіяй як ***несапраўдны***, а выбаршчык будзе мець на руках дакумэнтальнае пасьведчаньне свайго альтэрнатыўнага галасаваньня (не за Лукашэнку) – афіцыйны бюлетэнь з гэрбавай пячаткай і подпісамі чальцоў выбарчай камісіі.

**Фальсіфікацыя і маніпуляцыя галасамі ў гэтым выпадку будзе заблякаваная.** (Фальсіфікатары ня змогуць укінуць у скрыню свае бюлетэні ці іншым чынам зманіпуляваць галасы, бо іхняя маніпуляцыя будзе **дакумэнтальна** выкрыта і даказана). І калі НГК зьбярэ, напрыклад, больш 50 адсоткаў афіцыйных бюлетэняў выбаршчыкаў, гэта будзе азначаць неабвержны народны

імпічмант Лукашэнку. Але відавочна, што для правальваньня рэжыму дастаткова будзе меншая колькасьць бюлетэняў.

Такім чынам Народнае галасаваньне патрэбнае для таго, каб законна выкінуць Лукашэнку з выбарчага працэсу. Другі этап – дэмакратычныя выбары прэзыдэнта Беларусі, рашэньне аб якіх можа прыняць Беларускі Часовы ўрад (у залежнасьці ад абставінаў, бо падзеі абвострацца).

* * *

Як выглядае цяпер рэальная сытуацыя? Да сярэдзіны студзеня рэжым усьвядоміў небясьпеку Народнага галасаваньня і маю ролю ў гэтай справе. 18 студзеня (як раз, калі мы дасягнулі ўжо 100 тысячаў подпісаў) Цэнтральная Выбарчая Камісія (ЦВК) прад’явіла мне другое афіцыйнае папярэджаньне ва ўльтыматыўнай форме, дзе было заяўлена, што сабраныя за мяне подпісы ЦВК не прызнае з прычыны распаўсюджаньня намі інфармацыі пра Народнае галасаваньне, якое ЦВК кваліфікуе як „агітацыю”. Усе астатнія дні мае групы зборшчыкаў рэгулярна арыштоўвала міліцыя; пратаколы затрыманьня адсылалі ў ЦВК. Стала зразумела, што рэгістраваць маю кандыдатуру ня будуць, а людзей, што за мяне падпісаліся на падпісных лістах (там іхныя адрасы і нумары пашпартоў) будуць перасьледваць. Паколькі маю кандыдатуру заблякавалі (і, зразумела, мне ня пусьцяць на Беларусь), мы прынялі рашэньне зьберагчы нашых прыхільнікаў і не здаваць падпісныя лісты (135 тысячаў) ў ЦВК.

У пачатку лютага створана Нацыянальная Грамадзкая Камісія і яе структуры. Пабрыхтаваны Статут НГК, працягваецца інфармацыйная праца па Народным галасаваньні. Дзейнасьць сканцэнтравана ў Менску і вялікіх гарадах. Праведзеныя фармальныя перамовы з камандамі кандыдатаў (акрамя Гайдукевіча). Народнае галасавнаьне падтрымаў А. Вайтовіч. Ні Мілінкевіч, ні Казулін, якіх фінансуе Масква дзеля дэмакратычнага антуражу выбараў (што па задуме выгадна і Лукашэнку), ня здольныя былі на самастойныя дзеяньні і не падтрымалі Народнае галасаваньне.

Цяпер найбольшая перашкода для Народнага галасаваньня – гэта абмежаванасьць інфармацыі. Народны Фронт заўсёды абапіраўся толькі на свой народ. Народнае галасаваньне, як паветра, патрабуе шырокай вядомасьці. Там, дзе беларусы знаёмяцца з народнай канцэпцыяй галасаваньня, – там адразу становяцца на яе бок.

*22 лютага 2006 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ***

*Надрукавана: („Беларус”,– 2006, сакавік, № 518)*

# АКУПАЦЫЙНЫ РЭЖЫМ ДЗЕЙНІЧАЕ АДКРЫТА СУПРАЦЬ БЕЛАРУСІ

Апошнім часам беларусам зь Нью-Ёрку стала немагчыма датэлефанавацца ў Беларусь да пісьменьнікаў. Механічны голас у слухаўцы выраблена „говорит” па-расейску: то „лінія повріждіна”, то „позвоніте попозже”. І так з дня ў дзень.

Якое становішча ў Беларусі – вядома. Нацыю душаць. Беларусажэрцы заплянавалі ліквідаваць галоўную нацыянальную арганізацыю Беларусі – саюз пісьменьнікаў, да зьнішчэньня якога маскоўская Лубянка і рэжымная улада ў Менску рэгулярна крок за крокам, падступаліся ўсе гэтыя дванаццаць ганебных гадоў. Таму сувязь з Амэрыкай на пісьменьніцкія тэлефоны адключылі заранёў.

22 лютага Міністэрства юстыцыі зьвярнулася ў Вярхоўны суд з прапановай ліквідаваць Саюз беларускіх пісьменьнікаў. Першае пасяджэньне Вярхоўнага суду ў гэтай справе прызначана на 3 сакавіка. Галоўныя прэтэнзіі да пісьменьнікаў носяць адкрыта ёрніцкі характар. Беларусаненавісьнікі ўпэўненыя, што зробяць сваю справу.

Міністэрства юстыцыі пералічыла «прэтэнзіі» да найстарэйшай у краіне творчай арганізацыі, а менавіта – адсутнасьць арыгіналу статуту, наяўнасьць на будынку Дома літаратара шыльды з выявай гербу „Пагоня”, карыстаньне цягам чатырох месяцаў пячаткай, на якой назва арганізацыі ня ўзятая ў двукосьсі, а таксама правядзеньне ў 2005 годзе ў кавярні Дома літаратара арганізацыйнага зьезду „Грамады” (да якога пісьменьнікі ня маюць дачыненьняў).

Прыкрываючыся выбарамі, Масква заплянавала шмат разбурэньняў у Беларусі. Гэта ёй лёгка рабіць, там дзе народ не супраціўляецца. Але не заўсёды так будзе. Літаратуру мы не страцім. Бацькаўшчыну зьберажэм, а зь беларусажэрцамі і здрадай – паквітаемся. Яны нам яшчэ адкажуць і за літаратуру, і за Сьцяг, і за Пагоню, і за ўвесь народ.

***Зянон Пазьняк***

*24 лютага 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць”, www.bielarus.net; www.pbpf.org)*

# НАРОДНАЕ ГАЛАСАВАНЬНЕ – ВЫХАД З ТУПІКА

26-га лютага газэта „Нью-Ёрк Таймс" зьмясьціла вялікі артыкул пад загалоўкам „Зьвяржэньне апошняга Эўрапейскага экс-савецкага дыктатара.» (Аўтар STEVEN LEE MYERS) У артыкуле напісана: **„Адміністрацыя Буша, якая вызначыла рэжым у Беларусі, як „апошнюю тыранію" ў Эўропе, патраціла ў мінулым годзе 11,8 мільёнаў даляраў на прапаганду дэмакратыі і плануе патраціць у гэтым, 2006-ым годзе, 12 мільёнаў даляраў. Фонд Нэшнл Эндаўмэнт фо Дэмокрасі , фінансуемая Кангрэсам грамадзкая арганізацыя для прапаганды свабоды за межамі ЗША, патраціла 2,2 мільёны даляраў у выглядзе 49 грантаў, зьвязаных з выбарамі ў Беларусі."**

Зьвесткі аб тым, колькі мільёнаў даляраў дае Амэрыка штогод „палітбізнэсмэнам" ў Беларусі зьмешчаныя на „сайце" Дзярждэпартаманту ЗША. Куды зьнікаюць гэтыя грошы, дакладна ня адкажуць нават амэрыканцы (што само па сабе выглядае камічна, бо ў Беларусі добра ведаюць, як даляры кантралююцца „апазыцыйнай" агентурай КГБ і як „выкарыстоўваюцца"). Натуральна, што вынік такога фінансаваньня – поўная адсутнасьць вынікаў і паўсюдная імітацыя „апазыцыйнага" працэсу . Апазыцыйны палітбізнэс і карупцыя, зразумела, ня шкодзяць Лукашэнку (наадварот дазваляюць яму час ад часу зрываць маскі з „отморозков" і пускаць у паветра свае філіпікі). Але гэта ўсё вельмі замінае сапраўднаму беларускаму дэмакратычнаму руху і блытае людзей, бо імітатары, як і беларускі нацыянальна-дэмакратычны рух, карыстаюцца падобнай антырэжымнай тэрміналёгіяй і (у пэўнай ступені) тактыкай. Яскравы прыклад сытуацыі цяпер – адносіны да Народнага Галасаваньня. Не прызнаць рацыі Народнаму Галасаваньню нельга, але рашыцца на яго яны аказаліся няздольнымі. І найперш таму, што прынялі чужыя грошы, а грошадаўцы Народнага Галасаваньня не плянавалі. Тут не існуе палітычнае волі. Сытуацыя поўная абсурду, але, відаць, нікому ня сорамна. Самы кандыдыты на прэзыдэнта заяўляюць, што пераможа фальсіфікацыйная машына Лукашэнкі і самы йдуць у горла гэтай машыны, ды яшчэ й людзей заклікаюць „прагаласаваць". Так марнуецца шанец перакуліць рэжым Лукашэнкі і выкінуць хама з сістэмы выбараў.

Пасьля 2 –га сакавіка (які засьведчыў пасіўнасьць масаў і крымінальнасьць рэжыму) трэба зразумець, што грамадзтва не гатовае да барыкадаў, але Народнае Галасаваньне можа выйграць.

Для палітыка трэба мець найперш дзьве якасьці: прадбачаньне падзеяў і палітычную волю. Але гэта ніколі не ўратуе становішча, калі не валодаць мастацтвам – уменьнем памяняць коней на пераправе. Цяпер якраз (і на жаль) узьнікае такая сытуацыя. Найперш прыняць рашэньне трэба Мілінкевічу (дакладней ягонаму штабу, бо Мілінкевіч сабой не распараджаецца). Што датычыць Казуліна, то малаверагодна, каб ён павярнуўся да Народнага Галасаваньня. Ён праводзіць кампанію ў схеме пастаўленых задачаў Масквы.

***Зянон Пазьняк***

*4 сакавіка 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць", www.bielarus.net; www.pbpf.org)*

# „РЭЖЫМ – ЛЮБОЙ ЦАНОЙ"

За тыдзень да прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі пачаліся, фактычна, масавыя арышты. У КДБ складзеныя сьпісы актыўных дзеячоў, якіх прамаскоўскія ўлады зьбіраюцца прэвентыўна арыштаваць на пэрыяд галасаваньня. Ужо арыштаваныя дзясяткі асобаў. Ніякіх абвінавачваньняў людзям не прад'яўляюць і ніякіх тлумачэньняў нікому не даюць. Суд звычайна прысуджвае 7-15 сутак нібыта за „дробнае хуліганства".

Мы бачым дзеяньні характэрнага акупацыйнага рэжыму. Фактычна, адбываецца тыповы акупацыйны хапун, не абгрунтаваны ніякім правам і ніякімі законамі, а толькі палітычнай і сытуацыйнай мэтазгоднасьцю.

Грамадзтва ў цэлым не ўсьведамляе таго, што адбываецца ў краіне. Не ўсьведамляе найперш таму, што яно безглязна і антаганістычна расколатае якраз па адносінах да гэтага антыбеларускага рэжыму. Адна частка падтрымлівае рэжым, другая – не. Разлом настолькі глыбокі, што дыскусія немагчымая. Антаганісты ня ў стане слухаць адзін аднаго, бо раскол праведзены рэжымам па лініі асноўных каштоўнасьцяў беларускай нацыі – мовы, сымвалаў, гісторыі, свабоды, незалежнасьці. За 12 гадоў лукашэнкаўскага панаваньня Крэмль, Лубянка і КГБ у чарговы раз (гэтак жа, як і ў 30-х гадах мінулага стагоддзя) так зманіпулявалі і раскалолі беларускі народ, што выхад з гэтай ямы ўсё больш і больш звужаецца і робіцца немагчымым інакш, як праз вялікую кроў беларускіх пакутнікаў і нявінных ахвяр.

Але мы бачым, што рэжым які праводзіць свае бясправўныя „выбары", йдзе ў беспрасьветны тупік. Ён надзьмуваецца, робіць пагрозьлівы выгляд, хоць відавочна: дастаткова аднаго моцнага ўдару наўпрост і пасыпецца ўсё з грукатам і смуродам.

У гэтыя дні беларуская інтэлігенцыя і актывісты грамадзкіх арганізацыяў мусяць таксама ужыць вядомыя прывентыўныя меры падпольнага змаганьня, каб пазьбегнуць арыштаў і выключэньня з грамадзкага жыцьця. Час зноў патрабуе збаўляцца ад вечных ілюзіяў.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*14 сакавіка 2006 г.*

# БЕЛАРУСЬ ЗМАГАЕЦЦА

Нягледзячы на рэпрэсіі, на жорсткую расправу, на антыканстытуцыйны чарговы захоп улады, ёсьць падставы для радасьці і аптымізму. Гэта найперш тое, што ў грамадзтве пачалося абуджэньне і пазбаўленьне ад страху. Мы ўбачылі, што вырасла новае добрае пакаленьне моладзі, якая гатовая змагацца за вольную Беларусь пад сьвятым беларускім Бел-Чырвона-Белым сьцягам. Мы бачылі, што іх падтрымалі бацькі і дзяды.

Мы пераканаліся таксама, што доўга яшчэ нашае грамадзтва будзе ікаць камунізмам, нявольніцтвам і каляніялізмам. Акупацыя і камунізм дарма не мінаюць. Расплочвацца за вынішчэньні, уціск і паніжэньне будуць цэлыя пакаленьні. Але тым больш высакародныя адраджэнскія ідэалы нашага змаганьня.

Высновы, якія пацьвердзілі сакавіцкія падзеі, нікога ў нас, відаць, не зьдзівілі. Але гаварыць пра іх трэба пастаянна і, галоўнае, даводзіць да сьведамасьці людзей, якія прывыклі кіравацца толькі сваім вопытам, не затрудняючы сябе думаньнем.

Падзеі выразна паказалі, што прарасейскі рэжым на Беларусі – гэта ёсьць мадыфікацыя звычайнага фашызму, з той асаблівасьцю, што ён ёсьць палітычна прамаскоўскі і антыбеларускі ў нацыянальнай ідэалёгіі.

Сакавік выявіў наглядна, што акрамя Лукашэнкі (які амаль два тыдні адсутнічаў пасьля „выбараў”) уладай на Беларусі кіруе і распараджаецца прамаскоўская хунта з цэнтрам у Маскве.

Выбарчая кампанія выявіла дзеяньне на Беларусі палітычных тэхналёгіяў, распрацаваных у Маскве ў асяроддзі крамлёўска-лубянскай бюракратыі, набліжанай да Пуціна (група Глеба Паўлоўскага). Канцэпцыя стварэньня двух прамаскоўскіх квазіапазыцыйных лідэраў (з вызначэньнем планак актыўнасьці) дакладна супадае з маскоўскімі распрацоўкамі і праводзілася амаль адкрыта з адкрытымі вызначэньнямі і пастаноўкай задачаў. Тут Маскве нельга адмовіць у акупацыйным прафэсіяналізме. Прадбачачы беларускі ўздым, яны заранёў падрыхтавалі падстаўныя фігуры і стараліся пераняць кантроль над працэсамі.

Але ня ўсё ў іх атрымалася і, я мяркую, не атрымаецца. Беларуская сіла будзе ўзрастаць. Небясьпека, аднак, у маскоўскай каардынацыі з Захадам. Нельга забываць ні Ганса Віка, ні супрацоўніцтва Масквы з АБСЭ, калі быў патоплены на Беларусі змагарны ўздым 1996 года і сапсавана, разбэшчана падачкамі цэлае пакаленьне актыўнай моладзі. Цяпер у беларусаў ёсьць магчымасьць падсумаваць горкі вопыт і зрабіць высновы.

На мой погляд, Казулін і Мілінкевіч свае задачы ўжо выканалі. Казуліна Масква ўжо кінула як адпрацаваны матэрыял і яго чакае лёс Марыніча ды Чыгіра. Зь Мілінкевічам яшчэ крыху пагуляюць. Гэта чалавек гумовы і больш прыдатны на ролю.

Шчыра кажучы, сумна глядзець на ўсіх гэтых людзей, якія нічаму ня вучацца ў сваіх амбіцыях пагуляць з Расеяй і ў рабскіх думачках ашукаць Маскву. У выніку арышты, камэры, інфаркты, інсульты, магіла і… ніхто нічога не разумее, бо сьляпым не дадзена. Некалі на Беларусь пагуляць з Расеяй, пасупрацоўнічаць нібыта ў будаўніцтве камунізму вярнулася цэлае пакаленьне рэвалюцыянераў ад Браніслава Тарашкевіча да Сяргея Бусла. Вядома чым гэта скончылася. І толькі адзінкі, паміраючы ў ГУЛАГу, білі сябе ў лоб: „Дурні мы дурні, паверылі Маскве, так нам і трэба”. Высноваў з гэтага, як паказвае гісторыя, не зрабіў ніхто. Цяпер настаў час гумовых псэўдаапазыцыянэраў. Але тая ж дарожка.

Імпэрскую Расею можна перамагчы толькі ў адкрытым баі сіла на сілу. Таму ня толькі Грузія і Балтыя сталі вольнымі, але стане такой некалі і малая Чачэнія. ***Аднак ніколі волі ня йімуць халуі, ніколі воля не здабываецца хітрасьцю, прыстасавальніцтвам і выгадай, а толькі адкрытым змаганьнем.***

Цяпер усім фронтаўцам і ўсяму нашаму Вызвольнаму руху трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на распаўсюджваньне нацыянальнай асьветы. Нацыянальна разьвіты сьведамы чалавек сам арыентуецца ў абставінах, яму ня трэба за кожным разам тлумачыць што добра, а што дрэнна. Мы бачым, што палітыка прамаскоўскага рэжыму накіравана на вынішчэньне культуры і самаіснасьці беларускай нацыі. Гэтаму трэба супраціўляцца палітычна асэнсавана сродкамі культуры.

Пуцінская групоўка ў Расеі пляную цяпер затрымаць уладу ў сваіх руках шляхам стварэньня фармальнасьці – іншага суб’екта дзяржаўнага існаваньня. Гэта дало б магчымасьць Пуціну выбірацца далей на прэзыдэнта ўжо новай фармацыі. Беларусь выбралі ахвярай гэтай імпэрскай палітыкі. Фармальнасьць жа заключаецца ў далучэньні Беларусі да Расеі.

Лубянка, відаць, хацела бісьці напралом (гэта для іх прывычна). Становішча горшыцца. Але Беларусь зьмяняецца. Ад хуткасьці гэтых пераменаў і ад нашай палітычна-асьветніцкай працы таксама будзе залежыць наша народная будучыня”.

***Зянон Пазьняк***

*9 красавіка 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларус”,– 2006, красавік, № 519)*




***66. Мітынг на Парк – Эвэню ў Манхэтане 06.09.2000 г.***



(Фота З. Пазьняка)

*67. Пад сьцягамі ў Нью-Ёрку.*

# КАБ ВАЯВАЦЬ, ТРЭБА БАЧЫЦЬ ВОРАГА

Пасьля рэалізацыі пляну аб трэцім тэрміне Лукашэнкі і правядзеньні псэўдавыбараў на Беларусі, маскоўскія паліттэхнолагі (група Г. Паўлоўскага), якія спраектавалі зручную Маскве мэтадалёгію „апазыцыі" ў выбарчай кампаніі і стварэньне кантралюючых лідэраў, прапануюць цяпер цалкам ліквідаваць нацыянальную грамадзянскую супольнасьць на Беларусі.

Ліквідацыя беларускага нацыянальнага жыцьця адбываецца, фактычна, зь першых дзён рэжыму Лукашэнкі і мае тую фэнамэнальную асаблівасьць, што практычна ніяк не асэнсоўваецца грамадзтвам. (Разбурылі нацыянальную школу – і пайшлі на абед.) Народ у цэнтры Эўропы не адчувае і не разумее, што яго нацыянальна зьнішчаюць. Нават калі чарга дайшла да зьнішчэньня нацыянальнай эліты грамадзтва – да разбурэньня літаратуры і закрыцьця саюзу пісьменьнікаў – разуменьня не дадалося. Прычыны гэтага „сьляпога фэномэну" вядомыя – дэфармацыя сьвядомасьці з прычыны доўгага жыцьця ў антыбеларускіх абставінах акупацыі (цяперака ў абставінах унутранай акупацыі).

Веданьне „беларускай сытуацыі" (я б сказаў: „беларускай трагедыі") дазваляе расейцам гаварыць адкрыта пра свае пляны захопу і зьнішчэньня Беларусі, як перад бясслоўнай істотай, сьмяяцца ў твар, перажываць садысцкую асалоду беспакаранасьці (заявы Жырыноўскага, Барадзіна, Дарэнкі і іншых лубянскіх клоўнаў).

Бюракратыя і агентура прамаскоўскага рэжыму на Беларусі паводзіць сябе аналягічным чынам. Пытаньне судзьдзі, які судзіў маладых з плошчы Каліноўскага: „Выкрикивали ли вы антигосударственный лозунг „Жыве Беларусь!"?

Пачынаецца новы рэжымны этап нацыянальнай «зачысткі» Беларусі. Некалькі дзён таму рэдакцыя „Нашай Нівы" атрымала ліст зь Менгарвыканкаму, у якім гаварылася пра «нямэтазгоднасьць разьмяшчэньня газэты на тэрыторыі Менску» на той падставе, што яе галоўны рэдактар Андрэй Дынько быў арыштаваны падчас пасьлявыбарчых пратэстаў на плошчы Каліноўскага. Гэта азначае пазбаўленьне юрыдычнага адрасу што, адпаведна, павінна прывесьці да спыненьня выхаду газэты.

Пасьля абеду можа аказацца, што беларускага друку ўжо не існуе, бо пісаў пра Беларусь.

У плыні расейскіх «зачыстак» у канцы лінейкі заўсёды стаіць чалавек. Што мяне найбольш уразіла ў час дасьледваньня Курапатаў (пра што я часта ўспамінаю) – гэта паводзіны тых, каго расстрэльвалі. Іх падводзілі, як авечак, на край ямы і стралялі ў патыліцу. Няшчасныя пыталі: «За што»? І так пяць гадоў падрад (З 1937 па 1941). Расстралялі сотні тысячаў толькі ў Курапатах, забівалі народ, як скаціну на бойні, а яны ўсё пыталіся «за што»? Так і ляглі ў ямы без разуменьня відавочнага. І ніхто (!) не супраціўляўся. Знаходзіліся арыгіналы, якія пры гэтым нават крычалі «да здравствует Сталін». Катаў, што расстрэльвалі, заўсёды было толькі трох. За пяць гадоў бесперапыннага забойства уцякаць рашыўся толькі адзін чалавек. І ўцёк.

Лёгіка генацыду і этнацыду аднолькавая. Калі адсутнічае рэальная ідэнтэфікацыя ворага, бяссэнсава задаваць пытаньні.

Мы бачым, што лепшую беларускую моладзь ужо выкідаюць з унівэрсітэтаў, а потым выштурхнуць зь Беларусі. Гэта ёсьць частка агульнай палітыкі этнацыду. Але беларус павінен супраціўляцца. І найлепш разам. Бо агульная справа.

Дзеля ўсьведамленьня агульнай справы ў барацьбе прывяду вытрымкі з Плятформы Народнага Яднаньня «БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ» (www.bielarus.net), якія павінны стаць у аснову нацыянальнага змаганьня:

- „**Беларуская Салідарнасьць** гэта ёсьць **плятформа Беларускага Адраджэньня**, форма ідэйнай лучнасьці паміж беларусамі і пазыцыя змаганьня з акупацыйным антыбеларускім рэжымам. Яе дэклярацыя салідарнасьці простая і надзейная, па прынцыпу *Каліноўскага*:
  – Каго любіш?
  – Люблю Беларусь.
  – Дык узаемна.
- Зьместам беларускага яднаньня ёсьць Беларуская нацыянальная дзяржава. Сымвалам Беларускай дзяржавы ёсьць нацыянальны *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і *гэрб Пагоня*.
- Трэба змагацца за свабоду і вызваленьне Беларусі, а не прасіць „правоў" у рэжыма і акупантаў. Акупанты правоў не

даюць. Яны пакідаюць нам „права” быць рабочым матэрыялам дзеля іхных імпэрскіх інтарэсаў.

- Усіх беларусаў як нацыю злучае і яднае беларуская мова, беларуская гісторыя, беларуская зямля, беларуская культура, беларуская дзяржава і ўся беларуская супольнасьць людзей – Беларускі Народ.
- Усе беларусы, незалежна ад сьветапогляду і палітычных кірункаў, яднаюцца дзеля абароны беларускіх каштоўнасьцяў, беларускіх сымвалаў і беларускіх нацыянальных інтарэсаў.
- Формы дзейнасьці *Беларускай Салідарнасьці* могуць быць рознымі, але заўсёды павінна ўлічвацца антыбеларуская палітыка прамаскоўскага рэжыму на Беларусі і пагроза нашаму нацыянальнаму, культурнаму і дзяржаўнаму існаваньню. Таму ***ва ўсіх справах – Беларусь перад усім. Трэба шанаваць усё беларускае. Шанаваць беларускую дзяржаўнасьць. Шанаваць беларускую мову і беларускі народ. Шанаваць беларускую зямлю і беларускую культуру. Шанаваць здабытак народнай працы. Беларус беларуса мусіць бараніць перад небясьпекай. Беларус беларусу мусіць дапамагаць. Беларус беларуса павінен падтрымліваць паўсюдна на Беларусі і ва ўсім сьвеце. „***

Трэба памятаць, што прамаскоўскі рэжым ня мае ў сабе ніякай духоўнай і ідэйнай моцы. Ён трымаецца на страху, грубай сіле, падтрымцы Расеі і на хлусьні. Але як толькі ўздымецца нацыянальная ідэя яднаньня, рэжымная канструкцыя нішчыцеляў рассыпецца, як горох, і ніякая сіла не ўратуе ўжо ня вольны аджылы час. Але каб ваяваць, трэба бачыць ворага. Нас бачаць. Назіраюць у біноклі, разглядаюць пад мікраскоп. А беларус ніяк вачэй не расплюшчыць. Яму ўсё нешта яшчэ здаецца, мроіцца, што неяк жа ж будзе.

* * *

У грамадзкім змаганьні галоўнымі і вызначальнымі зьяўляюцца ***адкрытыя і массавыя грамадзкія дзеяньні.*** Тым ня менш у складаных абставінах перасьледу ўсяго беларускага і ўзмацненьня акупацыйнай палітыкі павінны быць скарыстаныя адначасна ўсе формы супраціўленьня, у тым ліку і дыскрэтныя. Прыкладам такой дзейнасьці могуць паслужыць камітэты абароны і Беларускі Камітэт Абароны (БКА), якія былі створаныя на Беларусі (і за мяжой) у жніўні 2002 года пасьля агрэсіўных заяваў Пуціна аб анэксіі Беларусі (так зв. „мухі-катлеты”).

У № 1 бюлетэня БКА „Вольная Беларусь” (верасень 2002 г.) напісана: „Камітэты Абароны ствараюцца паўсюдна: па месцы працы, жыхарства, вучобы, дзяржаўнай і вайсковай службы. Колькасьць сяброў – ад трох да сямі асобаў. Калі зьяўляецца больш асобаў, ствараецца іншы Камітэт. Камітэты дзейнічаюць аўтаномна. Сьпісы ўдзельнікаў не складаюцца, удзел не фіксуецца. Каардынацыя вызначаецца вуснымі інструкцыямі і на падставе лістоў БКА. Дзейнасьць Камітэтаў па Абароне разьвіваецца паэтапна, спэцыяльныя задачы вызначаюцца вусна.” З задачаў 1 – га этапу цікавыя такія палажэньні: „ а) – адсочваньне дзеяньняў і кантроль за антыканстытуцыйнай дзейнасьцю чыноўнікаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, навучальных установаў, камандзіраў вайсковых фармаваньняў, сродкаў масавай інфармацыі; б) – папярэджваньне аб крымінальнай адказнасьці асобаў, якія праводзяць яўную або ўскосную антыканстытуцыйную дзейнасьць, накіраваную на ліквідацыю незалежнасьці і сувэрэнітэту Беларусі, на асіміляцыю маладога беларускага пакаленьня, на зьнявагу нацыянальнага гонару і годнасьці беларусаў, на дыскрымінацыю беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў.”... „Мясцовыя Камітэты Абароны мусяць адразу наладзіць выпуск і распаўсюджваньне інфармацыйных бюлетэняў БКА і электронную перадачу інфармацыі”.

У сытуацыі мэтанакіраванага вынішчэньня беларускай грамадзянскай супольнасьці грамадзтва мусіць пачаць фармаваць новыя супраціўленчыя структуры (спачатку няхай сабе толькі назыўныя), якія пры патрэбе змогуць разьвіцца у структуры новай змагарнай беларускай супольнасьці (утым ліку і беларускай нацыянальнай арміі). Але галоўнае: ***мусіць быць беларуская салідарнасьць і нацыянальная асьвета грамадзтва.*** Без нацыянальнай працы з электаратам, без нацыянальнай асьветы народа немагчымыя ніякія доўгатэрміновыя перамогі і ўрэшце рэшт немагчымае нашае вызваленьне з-пад прамаскоўскага акупацыйнага рэжыму на Беларусі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*19 красавіка 2006 г.*

## Альтэрнатыва сьмяртэльнаму ворагу

*Каго нішчаць –*
*Мусіць той выбіраць:*
*Хоча быць, ці ня быць.*
*Каму няма чаго выбіраць –*
*Таго вораг выбера сам,*
*Нават даўшы пажыць,*
*Каб у дзецях памёр.*
*Калі выбар:*
*Іграць ці страляць?*
*Муза лепей, ці меч? –*
*Бярэм меч,*
*Калі хочам быць.*
*Бо не жыве муза ў няволі.*

*2003-2006 гг.*

# НАРОДНЫ ГЕРОЙ

21 га красавіка 1996 года ў Ітум-Калінскім раёне Чачэніі накіраваным ракетным ударам з самалёта па наводцы спэцслужбаў быў забіты першы чачэнскі прэзыдэнт Джахар Дудаеў. На месцы забойства цяпер гранітны камень з мэмарыяльным надпісам. Паплечнікі пахавалі Джахара Дудаева ў гарах, але месца пахаваньня трымаецца ў сакрэце.

Джахар Дудаеў – адна з самых моцных фігур на Каўказкім небасхіле. Ён яднаў у сабе самыя неабходныя якасьці, якія вымагала эпоха, – якасьці палітыка, дзяржаўнага дзеяча, ваеннага кіраўніка і патрыёта. Па ўзроўні і па справах, ён стаіць побач з такімі характэрнымі фігурамі 20-га стагодзьдзя як Юзаф Пілсудзкі і Шарль дэ Голь. Ён гэтак жа, як і Пілсудзкі, арганізаваў нацыю на збройнае змаганьне за незалежнасьць і выйграў вайну з Расеяй. Прытым подзьвіг Джахара Дудаева выключны, бо не параўнаць рэсурсы Польшчы, якой дапамагала Антанта, і маленькай Ічкерыі, якой не дапамагаў ніхто, акрамя нешматлікіх дабраахвотнікаў.

Джахар Дудаеў – гэта выключная асоба змаганьня і моцнай палітыкі. Ён зрабіў свой народ бессьмяротным у гісторыі. Ён паказаў і сцьвердзіў, што чачэнцы ня могуць існаваць інакш, як у свабодзе.

Забойства Дудаева рускімі подлае і падступнае. Расейцы прадэманстравалі сваю палітычную нікчэмнасьць і ваенную слабасьць. Гэта ўдар з-за вугла. Чачэнцы ня раз маглі б зьліквідаваць Ельцына. Але гэтага не дазваляў ім кодэкс гонару. Чачэнская народная армія Дудаева не магла апускацца да бандытызму.

Джахар Дудаеў для чачэнцаў ёсьць нацыянальны герой і вялікі чалавек. Для нас, беларусаў, – гэта ўзор і мара аб народным лідэры.

Слава вольнай Чачэніі!

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*21 красавіка 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць”, www.bielarus.net; www.pbpf.org)*

# ЗМАГАЙМАСЯ З ЧАРНОБЫЛЬСКІМ ГЕНАЦЫДАМ

…Сёньня мы адзначаем у памяці 20-я ўгодкі Чарнобыльскай катастрофы. ***Наш лёзунг: „Чарнобыль – гэта генацыд – гэта Курапаты”.***

Дзеяньні генацыду пачаліся адразу пасьля ўзрыву рэактара, калі Масква засакрэціла катастрофу, не паведаміла насельніцтву і не зрабіла ніякіх захадаў па засьцерагальнай прафілактыцы людзей, і найперш дзяцей.

Другое злачыннае дзеяньне Масквы – гэта растрэл з самалётаў радыёактыўных хмараў над Магілёўскай вобласьцю, якія маглі б пры зьмене ветру, як думалі маскоўцы, паплысьці ў Расею. Вецер увесь час дзьмуў тады на поўнач. І тым ня менш расейцы пасадзілі атамныя хмары проста на галовы беларусаў.

Новы этап пэрманэнтнага атамнага генацыду пачаўся з 1994 года з усталяваньнем прамаскоўскага рэжыму Лукашэнкі на Беларусі. Рэжым ліквідаваў дапамогу чарнобыльцам, пачаў вытворчасьць прадуктаў на забруджаных тэрыторыях і засяленьне радыёактыўных зонаў, пасылае туды на працу маладых спэцыялістаў.

Сімптаматычна, што адначасна з усталяваньнем на Беларусі прамаскоўскага рэжыму Лукашэнкі ў 1994 годзе пачалося выміраньне беларускага насельніцтва. У сярэднім колькасьць беларусаў зьмяншаецца на 50 тысячаў у год. За гэты час мы страцілі ўжо больш за паўмільёна насельніцтва. А цяпер палічым. За няпоўных пяць гадоў (з 1937 па чэрвень 1941 год) рускія бальшавікі расстралялі ў Курапатах ад 200 да 250 тысячаў беларусаў.

Параўнаем з паўмільёна страчаных за 11 гадоў гэбізму-лукашызму і ўбачым, што беларуская нацыя нясе тыя ж страты людзей за год, як і ў часы курапацкіх растрэлаў.

Вось што рэальна азначае ***„Чарнобыль – гэта генацыд – гэта Курапаты”.*** Той жа сэнс – вынішчэньне беларусаў, і нават тая ж колькасьць ахвяр.

Як практычна змагацца з чарнобыльскім радыяцыйным вынішчэньнем, мы ведаем. Але нічога ня можа быць зроблена і дасягнута, пакуль існуе прамаскоўскі рэжым, які праводзіць чарнобыльскі генацыд.

***Нашыя задачы. Найперш неабходнае пашырэньне інфармацыі пра Чарнобыль у Беларусі сярод беларускага насельніцтва. Але галоўнае – трэба ліквідаваць незаконны прамаскоўскі рэжым, які працягвае чарнобыльскае зьнішчэньне. Гэтай неабходнасьці беларусам, каб выжыць, трэба пасьвяціць сваю дзейнасьць, працу і змаганьне. Будьма ж заўсёды дзейныя і гатовыя пастаяць за Бацькаўшчыну і за сябе.***

***Зянон Пазьняк***

*26 красавіка 2006 г.*

Сталасьць

*З гадамі*
*Адчыняецца*
*Сутнасьць зьяў.*

*2001 г.*

# „ЗАЎТРА Ў ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ”!

***(Палітычны даклад на 7-м Зьезьдзе Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі–БНФ і 9-м Зьезьдзе Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”)***

Паважаныя дэлегаты 7-га Зьезду Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і 9-га Зьезду Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне", вітаю Вас у Бацькаўшчыне, і віншую з пачаткам нашага Зьезду. Беларусь жыве і будзе жыць, нягледзячы на ўсе цяжкасьці змаганьня і выжываньня ў антыбеларускіх умовах. Праўда за намі і будучыня – наша. Мы гэта адчуваем і ведаем, мы ў гэта верым, і гэтая ўпэўненасьць дае нам сілы.

Надзвычайныя ўмовы, у якіх адбываецца наш Зьезд, змушаюць мяне быць ашчадным і стрыманым на азначэньні.

## I. АГУЛЬНАЕ СТАНОВІШЧА

Уздым нацыянальнага беларускага адраджэньня пачаўся ў 1905 годзе, сто гадоў таму. Перад гэтым былі паўстаньні, падрыхтоўчы пэрыяд і брацьба, змаганьне за вяртаньне Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага. Але менавіта ў канцы XIX – пачатку XX-га стагоддзяў змаганьне нацыянальна ідэнтыфікавала сябе як беларускае. Вялікае Княства вярталася ў сваіх нацыянальна-этнічных межах і ў новым вобразе – Беларусі. Ідэалёгіяй гэтага вяртаньня было „адраджэньне", гэта значыць адраджэньне беларускай культуры і дзяржавы ў этнічных межах і на грунце ВКЛ.

Структура беларускага грамадзтва тады выглядала так: бальшыня насельніцтва (каля 90%) у выніку адпаведнай акупацыйнай палітыкі жыло ў вёсках і мястэчках і займалася сельскай гаспадаркай. Гарады былі зрусіфікаваныя ў афіцыйнай частцы (улада, бюракратыя) і неаднародныя ў частцы сацыяльнай – у сярэднім больш трацiны насельніцтва беларускіх гарадоў тады складалі габрэі, якія паддаліся русіфікацыйнай палітыцы.

Таму заканамерны быў моцны ўплыў народніцтва на беларускае адраджэньне. Адраджэнцы лягічна аддавалі прыярытэт вёсцы, плянуючы будучыню народа і беларускай дзяржавы. Яны спадзяваліся на нацыянальную адукацыю і асьвету менавіта беларускай вёскі, адкуль павінны былі б натуральна вырасьці новыя інтэлектуальныя дзейныя і творчыя сілы беларускай нацыі, якія ўзялі б у свае рукі яе будучыню і дзяржаўнасьць. Гэтыя сілы пераўтварылі б горад і адрадзілі б натуральныя сацыяльна-культурныя дачыненьні ў дзяржаве.

Тут было правільнае і адэкватнае бачаньне пэрспэктывы адраджэньня. Гэтакім шляхам прайшлі потым Чэхія, Славакія, Латвія, Эстонія, Летува (Жамойць) і іншыя краіны. Сялянства было тады магутным этнічным грунтам нацыянальнага разьвіцьця.

Захапіўшы Беларусь, расейскя бальшавікі галоўны удар накіравалі на нацыянальную эліту (інтэлігенцыю), якую ў бальшыні фізічна ліквідавалі, і на беларускае сялянства. За 70 гадоў яго сацыяльна вынішчылі пад корань, лепшых вывезьлі ў Сібір, згнаілі ў Гулагу, расстралялі ў Курапатах, затапталі і зглумілі сялянскую культуру, груба саветызавалі сялянскую сьвядомасьць, вырабілі тып прыгоннага сялянскага нявольніка, без зямлі, без уласнасьці, які (каб выжыць) альбо уцякае ў сьвет (пасьля таго, як сталі дазваляць сялянам перамяшчэньне ў канцы 50-х), альбо працуе за мізэрную зарплату наёмнікам ў калгасе.

У 60-х – 70-х гг., ратуючыся ад безвыходнасьці, масы сялянаў уцякалі ў гарады. Горад стаў беларускім па насельніцтву, але ня стаў беларускім па культуры. Сялянства ў гарадох было зрусіфікаванае, традыцыйная гарадзкая культура разбураная, а новая не стварылася. Па мэнтальнасьці беларускія гарады ператварыліся ў вялікія вёскі, дзе людзі ня ведалі адзін аднаго.

Разбурэньне сялянства, потым масавыя уцёкі яго ў савецкія гарады на наёмную працу і мэнтальнае рзбурэньне гарадзкой культуры, – усё гэта адлюстроўвала нацыянальна-культурную катастрофу грамадзтва.

Новае адраджэньне пачалося ў 80-х. Нешматлікі нацыянальны авангард, які вылучыўся ў гэты час, сьмелым змаганьнем, скарыстаўшы абставіны агульнага распаду СССР, і прысутнасьць актыўнай фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, дамогся ў 1991 годзе незалежнасьці Беларусі. Але масы зрусіфікаванага саветызаванага народа і заняпалай вёскі засталіся на ранейшым узроўні нацыянальнага разбурэньня і глуму, які пакінуў пасьля сябе расейскі камунізм. Авангард застаўся без падтрымкі народа, і непрыяцель зноў завалодаў народнай крэпасьцю.

Такім чынам другое беларускае адраджэньне 80-х – 90-х гадоў і цяперашняе імкненьне збавіцца ад прамаскоўска рэжыму і акупацыйнай палітыкі адбываюцца ўжо пры іншай сацыяльнай структуры грамадзтва, чым некалі. У адраджэнцаў пачатку XX стагоддзя, якія таксама ўяўлялі нацыянальны авангард, было заплечча, сялянскі запас, магутны этнічна-народны патэнцыял, зь якога павінна была адрадзіцца нацыя і дзяржаўная будучыня Беларусі.

Гэтая добрая ідэя, аднак, на пачатку была наскрозь народніцкай, бо не відаць было выразнага разуменьня ў адраджэнцаў, што толькі стварэньне беларускага горада дасьць нармальны грунт для адраджэньня нацыі і нацыянальнай дзяржавы. Горад ёсьць вышэйшай і арганізуючай формай грамадзкай сацыяльнай культуры, які стварае эфэктыўны мэханізм культурнага ўзаемаабмену ў грамадзтве і цывілізаванага яго разьвіцьця. Тым часам у адраджэнцаў пачтку XX ст. (асабліва ў літаратуры) блукалі ідэі аб сапсутасьці, чужасьці горада і супрацьстаўленьня вясковай культуры насуперак гарадзкой. Гэтае аднабокае народніцтва пачало пераадольвацца ў створанай бальшавікамі БССР. Але было ўжо позна. Будаваць Беларусь акупанты беларусам не дазволілі. Пачаліся масавыя рэпрэсіі і генацыд насельніцтва.

Структурныя і мэнтальныя перамены ў беларускім грамадзтве, якія адбыліся цягам XX стагоддзя ў выніку камуна-расейскага генацыду і русіфікацыйнай палітыкі, мелі жахлівыя вынікі. Аднак народ выжыў, жыве беларуская нацыя і беларуская ідэя. Структурныя перамены ў грамадзтве не зьяўляюцца таксама повадам для пэсімізму, бо нягледзячы на страты, нацыя цывілізацыйна ўдасканалілася і насуперак маскоўскай палітыцы разьвілася тэхналягічна значна лепш, чым усе іншыя краіны былога СССР. Гэта не парадокс, а заканамернасьць, якая вынікае з цывілізацыйнага ўзроўню і добрых якасьцяў беларускага інтэлекту і народнай мэнтальнасьці, пра якія мы часам забываемся і не ўспамінаем, сканцэнтраваўшыся на ідэалягічных пытаньнях.

Па структуры Беларусь ёсьць тыповая краіна індустрыяльнага грамадзтва, дзе бальшыня насельніцтва (амаль 75 адсоткаў) жыве ў гарадах, дзе разьвітая прамысловасьць, высокая навукаёмкасьць вытворчасьці, адукацыя і кваліфікацыя занятых у ёй людзей. Нагадаю, што грамадзтвы трэцяга сьвету характары-

зуюцца з дакладнасьцю наадварот і вызначальнымі зьяўляюцца якраз суадносіны паміж гарадзкім і сельскім насельніцтвам. Беларусь па структуры ёсьць стопрацэнтовая эўрапейская краіна. На пачатку 90 гг. у Беларусі быў самы высокі ва усходняй Эўропе цывілізацыйна-эканамічны патэнцыял. Калі б беларускія адраджэнцы дасягнулі тады улады, Беларусь стала б дзівам, самым магутным эканамічным „драконам" у гэтай частцы Эўропы.

Дарэчы, гэтыя фэнамэнальныя магчымасьці Беларусі яшчэ на пачатку 90-х гадоў былі з трывогай прааналізаваныя расейскімі дасьледчыкамі. Моцная эканамічна разьвітая Беларусь, якой яе бачыў Беларускі Народны Фронт і якой яна магла б стаць, уяўлялася крамлёўцам пагрозай імпэрскаму існаваньню Расеі. Потым Масква рабіла ўсё магчымае, каб ня даць нацыянальна і эканамічна разьвівацца Беларускай дзяржаве. Крэмль прыняў дактрыну, накіраваную на ліквідацыю беларускай дзяржаўнасьці і на інкарпарацыю Беларусі ў Расею. У гэтай сытуацыі асэнсаваньне расейскіх паводзінаў бальшынёй беларускай палітычнай эліты ўяўляе сабой меркаваньне цалкавіта сьляпых, пазбаўленых уяўленьня, што такое сьвятло. Гэтакае „бліндзіраванае" ўспрыняцьце найбольш спрыяе пасьпяховасьці антыбеларускай палітыкі.

Якія аб'ектыўныя высновы вынікаюць з аналізу структурнай сытуацыі грамадзтва? Першая і галоўная. ***Генэральнай палітычнай задачай усяго беларускага Адраджэньня і кожнай адраджэнскай арганізацыі (партыі, клюбу, фонду і г.д.) павінна стаць нацыянальна-культурная асьвета і адукацыя насельніцтва. Пераскочыць праз гэты неабходны этап немагчыма. Калі яго ігнараваць, тады беларусы-адраджэнцы ніколі не дасягнуць улады ў сваёй краіне, а значыць і не адбудуюць нацыянальную дэмакратычную дзяржаву высокага духоўнага жыцьця, культуры і матэрыяльнай дастаткавасьці.***

Змагньне толькі нацыянальным авангардам супраць агрэсіі эўраазіяцкай Расейскай Імпэрыі і заходняга калябарацыянізму можа прынесьці толькі кароткачасовую перамогу, а страта пазыцыяў суправаджаецца вынішчальным разбурэньнем культуры. Пра гэта сьведчыць уся наша гісторыя пад расейскай акупацыяй.

Другая відавочная выснова: ***прыярытэтам у застасаваньні адраджэнскай палітычнай ініцыятывы павінны стаць горад (гарадзкое насельніцтва) і моладзь – тут ёсьць цяпер вырашальныя сілы нацыі.***

Заўважце, што гэбізм і Лукашэнка, ствараючы грамадзкую падпору сваёй уладзе, паставілі на сацыяльна беспэрспэктыўныя сілы (калгасьнікі, пэнсіянеры, бюракратыя), якіх яны ўзялі, фактычна, у закладнікі.

Высновы з аналізу гэтага – відавочныя. Калгаснае сялянства вынішчаюць, вёска дэградуе – гэта факт: прарасейскі рэжым дабівае беларускае сялянства, якое бесперапынна затоптвалі амаль сто гадоў, але гэтым яны ня зьнішчылі і ня зьнішчаць Беларусі, толькі наблізяць свой канец. Мы яшчэ адродзім і нашу вёску, і нашае сялянства.

На разуменьні цяперашняга мэнтальнага і структурнага стану грамадзтва грунтуецца наша адраджэнская фронтаўская палітыка.

## II. ІДЭАЛЫ І ЎНУТРАНАЯ ПАЛІТЫКА

Наша ўнутранная палітыка згодна нашай праграмы падзяляецца на першачарговую (праграма-мінімум) і агульную. Каб ажыцявіць агульныя праграмныя пераўтварэньні, неабходна ліквідаваць прамаскоўскі акупацыйны рэжым. Сіла, якая можа ўзьняць і салідарызаваць народ на перамогу, – гэта ёсьць Беларуская нацыянальная ідэя. Гэтая ідэя мусіць жыць у галовах і сэрцах беларусаў. Шлях да яе ляжыць праз асьвету, адукацыю, інфармацыю, прыватную ўласнасьць і ўсьведамленьне агульнасьці нацыянальных інтарэсаў.

Мы абавязныя спрыяць гэтаму шляху і церабіць яму дарогу. Абапіраючыся на нацыянальныя інтарэсы і дэмакратычныя прынцыпы ўлады, мы павінны арыентавацца на ўвесь беларускі народ, на каштоўнасьці, якія аб'ядноўваюць усіх перад пагрозай расейскай агрэсіі і страты незалежнасьці.

Прынцыпы салідарнага змаганьня з чужародным рэжымам выкладзеныя намі ў народнай плятформе „Беларуская Салідарнасьць". Нагадаю некаторыя палажэньні:

***– Беларуская Салідарнасьць гэта ёсьць плятформа Беларускага Адраджэньня, форма ідэйнай лучнасьці паміж беларусамі і пазыцыя змаганьня з акупацыйным антыбеларускім рэжымам. Яе дэклярацыя салідарнасьці простая і надзейная, па прынцыпу Каліноўскага:***

***– Каго любіш?***

***– Люблю Беларусь.***

***– Дык узаемна.***

***– Зьместам беларускага яднаньня ёсьць Беларуская нацыянальная дзяржава. Сымваламі Беларускай дзяржавы ёсьць нацыянальны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня.***

***– Беларуская Салідарнасьць стаіць за праўду Беларускага Адраджэньня, якое кажа: „Не правы чалавека – галоўнае для беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо не бывае „правоў чалавека" пад акупацыяй". Трэба змагацца за свабоду і вызваленьне Беларусі, а не прасіць „правоў" у рэжыма і акупантаў. Акупанты правоў не даюць. Яны пакідаюць нам „права" быць рабочым матэрыялам дзеля іхных імпэрскіх інтарэсаў.***

***– Усіх беларусаў як нацыю злучае і яднае беларуская мова, беларуская гісторыя, беларуская зямля, беларуская культура, беларуская дзяржава і ўся беларуская супольнасьць людзей – Беларускі Народ.***

***Формы дзейнасьці Беларускай Салідарнасьці могуць быць рознымі, але заўсёды павінна ўлічвацца антыбеларуская палітыка прамаскоўскага рэжыму на Беларусі і пагроза нашаму нацыянальнаму, культурнаму і дзяржаўнаму існаваньню. Таму ва ўсіх справах – Беларусь перад усім. Трэба шанаваць усё беларускае. Шанаваць беларускую дзяржаўнасьць. Шанаваць беларускую мову і беларускі народ. Шанаваць беларускую зямлю і беларускую культуру. Шанаваць здабытак народнай працы. Беларус беларуса мусіць бараніць перад небясьпекай. Беларус беларусу мусіць дапамагаць. Беларус беларуса павінен падтрымліваць паўсюдна на Беларусі і ва ўсім сьвеце.***

Гэта агульныя прынцыпы. На практыцы будзе ўзьнікаць шмат канкрэтных пытаньняў, адказы на якія распрацаваныя намі ў канкрэтных праграмах. Нагадаю некаторыя з гэтых пытаньняў, якія найчасьцей перакручваюць у антыбеларускай прапагандзе.

**Адносіны да Расеі:**

***1) Мяжа.***

Гэтыя адносіны будуць пабудаваныя па міжнародных правілах. Нармальная мяжа і мытня (нармалізацыя мытнага заканадаўства), упарадкуе гандаль і міграцыю. Спыняцца гандлёвыя страты, якія нясе беларускі бок, спыніцца некантралюемы прыток крымінальнага элемэнту ў Беларусь. Будзе ўведзены візавы рэжым зь мінімальнай візавай аплатай, з льготамі для

пэўных катэгорыяў людзей, напрыклад, пэнсіянераў, сваякоў (бязвізавы праезд) і інш.

Упарадкаваньне мяжы на ўсходзе створыць умовы для аблягчэньня памежнага рэжыму на захадзе і поўначы з Польшчай, Латвіяй і Летувой. Для беларускага насельніцтва будуць адмененыя ўсе індывідуальныя абмежаваньні на ўвоз прадуктаў і тавараў з-за мяжы, будзе ўпарадкаваны памежны гандаль на карысьць беларускіх прадпрымальнікаў.

***2) Нафта і газ.***

Скончацца палітычныя спэкуляцыі прарасейскіх прапагандыстаў і палоханьне неінфармаваных людзей, што Масква, маўляў, адключыць газ, ня дасьць нафты, увядзе сусьветныя цэны і Беларусь загіне. Можна толькі зьдзіўляцца, што такая прапагандысцкая лухта датрывала да XXI стагоддзя ў эпоху ўсеагульнай пісьменнасьці.

Цяпер выклікаюць штучныя сваркі і сытуацыя падаецца ненармальнай, бо рэжым на Беларусі ненармальны, прамаскоўскі і ад Масквы залежны. Як толькі гэты рэжым скончыцца і на Беларусі ўсталюецца беларуская ўлада, праблемы з газам і канфлікты скончацца. Нам зручна будзе ўвесьці сусьветныя цэны на газ з Расеі (прытым яны вартыя не 160 даляраў, як на другім канцы газапровада дзесьці далёка ў Францыі, а на палову менш). Беларусь першая краіна, куды трапляе расейскі газ, цана яго тут іншая. Беларусь будзе пабіраць нармальную плату за газавы транзіт, за зямлю, за эксплуатацыю ваеннай базы (якую урад Кебіча незаконна аддаў расейцам), за вялікую шкоду экалёгіі, якую гэтая база наносіць, за выкарыстаньне велізарных аб’ёмаў вады і г.д.

І тады акажацца, што Маскве зручней прадаваць нам газ гэтак, як прадаецца цяпер, і пакінуць усё, як было. Лукшэнка як крэатура Масквы і савецкага КГБ ня можа вырашыць гэтае пытаньне, калі б і хацеў, бо Масква жадае тут мець усё задарма, ды яшчэ і газ па сусьветнай цане прадаваць, і таму цісьне свайго сатрапа. Тут грызьня ў лягеры хаўрусьнікаў, а не нацыянальныя інтарэсы. Такая ёсьць праўда. І ня трэба слухаць усіх гэтых гэбоўскіх „эканамістаў”, квазіэкспэртаў і „спэцоў”. Ведаем мы цану іхняе „экспэртызы”.

Адключыць газ у мірны час немагчыма, інакш Расея панясе велізарныя матэрыяльныя страты. Расеі гэта ня выгадна. Усё рэгулюецца міжнароднымі законамі і пагадненьнямі. Адзін раз Пуцін скочыў у авантуру, нібыта канфліктуючы з Лукашэнкам (гэта быў спэктакль), рашыў папалохаць Эўропу, адключыў газ на некалькі гадзінаў (нібыта для Беларусі). Больш ён такога рабіць ня будзе. Вядома, чым гэта для Расеі тады скончылася.

Праблема расейскага газу – гэта перш за ўсё праблема Расеі, потым ужо Беларусі. Для Беларусі тут галоўнае стварыць альтэрнатыўныя крыніцы дастаўкі нафты і газу, каб ня быць прывязанай толькі да аднаго пастаўшчыка. Гэта адразу будзе зроблена пры нармальнай беларускай уладзе. Праектныя схемы ў нас гатовыя з 1993 года. І называюцца гэтыя схемы „Балта-Чарнаморскі нафтавы калектар”. Ёсьць распрацоўкі і па газу. Яны ўсім вядомыя.

***3) Маёмасьць.***

Мы папярэджвалі ня раз, што ўсялякія незаконныя маёмасныя зьдзелкі з нелегітымным рэжымам Лукашэнкі па прыўлашчваньні беларускай маёмасьці ня будуць прызнаныя нармальнай беларускай уладай. Маёмасьць будзе вернутая дзяржаве і народу. Як гэта будзе рабіцца? Экспрапрыяцыі не плянуецца. Ёсьць некалькі шляхоў нацыяналізацыі і рэпрыватызацыі маёмасьці. У любым выпадку рэпрыватызацыі незаконна набытай уласнасьці перакупшчыку будуць вернутыя сродкі, рэальна заплочаныя ім за маёмасьць пры купляньні. Гэта можа быць у выглядзе акцыяў ці па іншых схемах, адпаведна з прынятымі нормамі. Аднак уласнасьць і права на уласнаьць будзе вернута Беларусі.

***4) СНД і Калектыўная бясьпека*.**

На сёньняшні дзень СНД, практычна, ужо амаль што не існуе. Удзел Беларусі ў гэтым штучным утварэньні пазбаўлены ўсялякага сэнсу. Беларусь выходзіць таксама з „Калектыўнай бясьпекі”, ўдзельнічае ў праграме супрацоўніцтва з НАТО, маючы на ўвазе пэрспэктыву ўступленьня ў гэты блёк.

***5) Расейцы.***

Расейская гэбоўская агентура ўвесь час імкнецца мабілізаваць беларукіх расейцаў супраць беларусаў, палохаючы іх дэпартацыяй. Маўляў, калі беларусы будуць мець уладу ў сваёй краіне, дык расейцам канец, усіх высяляць у Расею. (Здавалася б, чаго палохацца вяртаньня на бацькаўшчыну.) Але мы ніколі не зьбіраліся і ня зьбіраемся высяляць расейцаў за тое, што яны расейцы. За саветамі і цяпер, пры прарасейскім рэжыме, прыбылыя расейцы (а іх 10 адсоткаў) карыстаюцца значна большымі правамі, чым беларусы, і ў магчымасьці атрымліваць дзяржаўныя і кіроўныя пасады, і ў праве карыстацца сваёй мовай, школай і адукацыяй (за беларускі кошт). У гэтым сэнсе беларусы па параўнаньні з расейцамі ня маюць, практычна, ніякіх правоў, а за родную мову рэжым іх ня толькі дыскрымінуе, але і перасьледуе. Беларусы пастаўлены ў стан акупаванага насельніцтва.

***Пры беларускай уладзе з дыскрымінацыяй беларусаў па моўнай прыкмеце будзе скончана.*** Будзе прыняты закон аб забароне дыскрымінацыі, а расейцам, пакінуўшы ім усе іх нацыянальна-культурныя правы, дзяржава надасьць яшчэ адно права: быць лаяльнымі да беларускай дзяржавы, магчымасьць вывучаць (выбар дабраахвотны) беларускую мову і інтэгравацца ў беларускае грамадзтва.

***6) Талеранцыя, мова.***

Гэбоўскія прапагандысты паўсюдна выстаўляюць беларускую нацыянальную дэмакратыю, як „нацыяналістаў”, „экстрэмістаў” і нават „фашыстаў”. Словы гэтыя, прыдуманыя яшчэ за камунізмам, цяпер ўжо не выклікаюць ніякай рэакцыі і паўтараюцца выключна зь нянавісьці і ад бясьсільля.

Найбольшую нянавісьць у нішчыцеляў выклікае беларуская мова. Сьведама ці падсьведама яны разумеюць, што калі на языку ў беларусаў будзе мова, то русіфікацыі канец, і настане крах усёй антыбеларускай прамаскоўскай палітыкі. Таму асаднікі, гэбэ, агентура і іншыя нішчыцелі культуры і мовы Беларусі не стамляюцца лямантаваць, што беларусы будуць іх прымушаць гаварыць па-беларуску. Трэба ведаць расейцаў, каб зразумець, адкуль зьявілася такая фармулёўка.

Вядома ж, ніхто нікога ні ў чым ня будзе прымушаць. У гэтым няма патрэбы. Вяртаецца Канстытуцыя 1994 года і вяртаецца дзяржаўнасьць беларускай мовы, беларуская школа, беларускі ўнівэрсітэт, беларускае тэлебачаньне, радыё, выдавецтвы, установы культуры і г.д., – усё, што было. Усе дзяржаўныя ўстановы працуюць па-беларуску. З вопыту мы ведаем, што калі трэба, то дзяржаўны чыноўнік вывучвае ці ўспамінае

беларускую мову за адну ноч. Але дзяржаўным служачым для ўспамінаньня будзе, вядома, дадзена шмат болей часу і за дзяржаўны кошт. Дзяржаўная мова для дзяржаўнага служачага стане ягоным прафесійным абавязкам, інакш ён ня будзе дзяржаўным служачым. Іншым грамадзянам дзяржава дапаможа авалодаць дзяржаўнай мовай, пойдзе насустрач іхным інтарэсам (перакладчыкі, курсы і г.д.); лаяльнасьць да беларускай дзяржавы і мовы будзе ўхваляцца правам. Беларуская дзяржава стане існаваць па беларускіх дэмакратычных законах і нікому больш не дазволіць каго-небудзь дыскрымінаваць ці зьневажаць па моўнай прыкмеце. Будзе вернута свабода веравызнаньня і роўнасьць цэркваў перад законам. Спыніцца перасьлед пратэстантаў, каталікоў, вуніятаў, лютэранаў і іншых, вернутыя будуць памяшканьні, кампэнсаваныя бязглуздыя штрафы.

Мы, беларусы, поліканфэсійны хрысьціянскі народ, і наша дэмакратычная, незалежная будучыня павінна быць талеранцыйнай. Гэта значыць, што мы шануем нашага чалавека і ягонае сумленьне веры, ягоны выбар і ягоную існасьць, бо ўсе мы адзін народ, дзеці адной культуры, адной гісторыі, адной дзяржавы, адной мовы. Так было некалі. Талерантнасьць – гэта характэрнасьць беларускай цывілізацыі. Талерантнасьць па-беларуску – гэта годнасьць і ўзаемапавага, прызнаньне права на індывідуальнае сумленьне веры. Аснова нашай беларускай дэмакратыі сягае яшчэ ў XVI стагоддзе, некаторыя яе прынцыпы адлюстраваныя ў трох рэдакцыях Літоўскіх статутаў. Там тады, за часы ВКЛ, было юрыдычна замацавана тое, да чаго іншыя эўрапейцы (ацалеўшыя пасьля Варфаламееўскіх начэй) дыбалі яшчэ 400 гадоў (ды й цяпер прыйшлі толькі ў маральны тупік). Нашае разуменьне талеранцыі – гэта не нявольніцтва, не ўлегласьць перад злом, не прызнаньне свабоды паскудству, як у тых, што апынуліся ў дэмакратыі праз сусьветныя войны і рэлігійную рэзь. Нам ёсьць чаму павучыцца ў сябе самых, у нашых мудрых вялікіх продкаў, і далёка ня ўсё трэба пераймаць у чужых.

## III. ЗЬНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА І ГЕАПАЛІТЫКА.

Старажытная Беларусь ці Вялікае Княства Літоўскае было геапалітычным цэнтрам у Эўропе, які стрымліваў агрэсіўныя тэндэнцыі Усходу і Захаду. У XVIII ст. гэтыя два накірункі агрэсіі, аб'яднаўшыся, зьнішчылі Вялікае Княства і, сутыкнуўшыся лоб у лоб, разьвязалі дзьве крывавыя сусьветныя вайны. Новая сытуацыя і палітычныя катаклізмы, якія перажыла Эўропа, ня зьнішчылі ні гэтыя адлеглыя сілы, ні гэтыя імкненьні падпарадкаваць тое, што існуе і жыве паміж Нямеччынай і Расеяй. На канец XX і ў XXI стагоддзі востра стаіць перш за ўсё праблема разьмеркаваньня энэргарэсурсаў і пэрспэктывы эканамічнай дамінацыі ў Эўропе. Беларусь, як і раней, знайшлася ў зоне сутыкненьня геапалітычных інтарэсаў Усходу і Захаду. Хочам мы гэтага ці не, але ***ў нашых зьнешніх дачыненьнях геапалітыка павінна займець важнае месца. Ігнаруючы геапалітычныя інтарэсы, мы рызыкуем самым сваім існаваньнем.***

Пераходзячы на канкрэтныя азначэньні, трэба ўбачыць, што ні Расея, ні Нямеччына, якая імкнецца дамінаваць у Эўразьвязе і росьціць пляны ўплыву на Польшчу і былыя паднямецкія землі, не зацікаўленыя ў існаваньні незалежнай Беларусі

У рахубу ўваходзяць і транзыт энэргарэсурсаў, і двухбаковы ўплыў на Польшчу, і вяртаньне межаў СССР, і інш. Агульныя інтарэсы (як і раней) прывялі іх да супрацоўніцтва. Ганс Вік і КГБ, злучыўшы намаганьні, паспрыялі развалу БНФ і стварэньню ненацыянальнай неадраджэнскай, кантралюемай з усходу і захаду квазіапазыцыі супраць Лукашэнкі. Падзеі гэтыя адбываліся ў нас на вачах, яны ўжо апісаныя і мы добра ведаем іх сутнасьць і іхны ход. Тут толькі зраблю некалькі дапаўненьняў. Яшчэ ў 1990 годзе ў публічнай дыскусіі пра дэмакратыю з адным амэрыканскім аналітыкам, прафэсарам Калюмбійскага ўнівэрсітэту (займаўся вывучэньнем СССР) я пачуў такія аргумэнты: „дэмакратыя ня ёсьць самамэтай у палітыцы Амэрыкі, а толькі сродкам для забесьпячэньня амэрыканскіх інтарэсаў".

І далей ішла размова пра Лацінскую Амэрыку, дзе дыктатарскія рэжымы і стаўленьнікі абыходзіліся Амэрыцы занадта дорага. Экспарт дэмакратыі ўпрасьціў задачу ўплыву: і таней, і Амэрыка сама ўвайшла ў гэтыя краіны праз адчыненыя дзьверы. Палітыка эўрапейскага лібэральнага Захаду грунтуецца таксама на такіх падставах, толькі ў адрозьненьне ад амэрыканскай, характарызуецца грубым прагматызмам і бязпрынцыпнасьцю ці падвойным стандартам.

Пранікненьне ў краіну, якой зьбіраюцца дапамагаць устанаўліваць дэмакратыю, адбываецца на салідарных пачатках. Яно ўзаемавыгаднае. Захад сапраўды зацікаўлены ў дэмакратыі вакол сябе, у адкрытых грамадствах і ў магчымасьці эканамічна заходзіць ў гэтыя краіны праз шырока адчыненыя дзьверы, згодна міжнароднага заканадаўства, нічога не парушаючы. Аднак тут якраз хаваецца небясьпека для маладых дэмакратыяў, трапіць у эканамічную залежнасьць і ў падпарадкаваньне тых разбуральных працэсаў з Захаду (асабліва ў вобласьці культуры), якімі нацыя, павязаная чужымі правіламі, ня ў стане будзе кіраваць.

Дапамагаючы дэмакратыі, Захад зацікаўлены стварыць сярод мясцовых дэмакратаў сваё лобі і сваё апірышча, якое будзе лёгка і беспраблемна выконваць заходнія рэкамендацыі. Для нацыянальна салідарызаваных грамадстваў гэта вялікай небяспекі не ўяўляе, бо кожная партыя ці група стаіць на нацыянальных кштоўнасьцях і нацыянальных інтарэсах. Тым часам на Беларусі, дзе грамадзтва знаходзіцца пад прэсам чужой антыбеларускай палітыкі і штучна расколата нават у дачыненьні да асноўных каштоўнасьцяў нацыі, зацікаўленае ўмяшаньне звонку можа прывесьці да антынацыяналных вынікаў. Так яно і атрымалася. Кансалідацыя беларусаў супраць прамаскоўскага рэжыму на плятформе Беларускага Народнага Фронту, якая пачалася ў 1996 годзе, была разбурана сумеснымі намаганьнямі Захаду і Масквы, нямецкай разьведкі і КГБ. Ганс Вік, непасрэдны арганізатар гэтага злачынства пад дахам АБСЭ (і пад патранатам канцлера Шродэра), ініцыятар антыбеларускай антыдзяржаўнай дзейнасьці на Захадзе, цяпер, пасьля ганебнага правалу Шродэра, пачаў лавіраваць, рабіць нетыповыя заявы. Але як толькі ўсталюецца беларуская дэмакратычная ўлада ў Беларусі, пытаньне аб прыцягненьні да судовай адказнасьці гэтага дзеяча-разьведчыка будзе пастаўлена арганізацыямі вольнай Беларусі.

Схема разбурэньня беларускага супраціўленьня рэжыму была простая. Пад кіраўніцтвам Віка і пад прыкрыцьцём АБСЭ была арганізаваная новая, кантралюемая Захадам і Масквой апазыцыя, у якую сабралі былых супольнікаў Лукашэнкі, агентуру КГБ, наіўных інтэлігентаў-дэмакратаў, розных рускамоўных дысідэнтаў і прамаскоўскія партыі ад камуністаў да Гайдукевіча. На гэтую справу, па прызнаньні Віка, Захад патраціў каля паўтара мільёна даляраў. Ў гэты ж час быў рас-

колаты Беларускі Народны Фронт. Раскольнікаў-прагматыкаў далучылі да вікаўскай апазыцыі, якую Захад стаў матэрыяльна падтрымліваць і прапагандаваць, цягнуць у заходнюю палітыку. Тым часам Беларускі Народны Фронт як партыю нацыянальна-дэмакратычнага кірунку пастараліся ізаляваць ад заходняй палітыкі (БНФ перашкаджаў стасункам з гэбоўскай Масквой).

Палітычна прадажнае балота, якое стварылі заходнія гансвікі на Беларусі, ўмацавала рэжым Лукашэнкі і акупацыйную палітыку Масквы, але, як і трэба было чакаць, не дало ніякіх самастойных вынікаў. Гэты паразітны нарост рэжым (адначасна штурхаючы яго нагамі) выкарыстоўвае ў сваіх інтарэсах. Найбольш адмоўную ролю выканала „вікаўская апазыцыя" восеньню 2004 года, калі дапамагла рэжыму загнаць народ на антызаконны рэфэрэндум пра „вечны тэрмін" Лукашэнкі. Цяпер гэтай вікаўскай групай кіруюць калякіны-лябедзькі (камуністы і былыя лукашысты), ствараюць выбарчы антураж, але сапраўдная іхная згодніцкая і шкодная роля найбольш выразна выяўляецца ў часы выбараў і рэфэрэндумаў, калі вырашаецца лёс рэжыму, маскоўскіх інтарэсаў і прамаскоўскай палітыкі. Гэта выразна адкрылася на цяперашніх незаконных сакавіцкіх выбарах Лукашэнкі, калі новыя стаўленьнікі адвялі беларусаў ад Народнага Галасаваньня (адзінага рэальнага шансу перамагчы рэжым) і цалкам падтрымалі фальшывую выбарчую кампанію, у якой удзельнічалі па сцэнару ўлады (і атрымалі свае заплянаваныя тры працэнты, а потым зьнівеліравалі грамадзкія пратэсты).

## IV. ДАРОБАК АДРАДЖЭНЬНЯ.

За мінулыя два гады нашая фронтаўская партыя дзейнічала ў рэчышчы пастаўленых задачаў і запачаткаваных ініцыятываў. Вельмі важнай ініцыятывай зьяўляецца зварот у суд грамадзянаў Беларусі аб парушэньні іхных правоў у сувязі з антыканстытуцыйнымі дзеяньнямі кіраўніцтва краіны па заключэньні дамовы аб стварэньні так званай „саюзнай дзяржавы" з Расеяй. Гэтая справа працягваецца. На Беларусі магчымасьці яе ўжо, практычна, вычарпаныя, іск неабходна распачаць на міжнародным узроўні.

Палітычна насычаны і адказны для Фронту быў 2004 год. Практычна, цэлы год. Партыя працавала над недапушчэньнем удзелу людзей ў незаконным рэфэрэндуме. Быў напісаны і распаўсюджаны шэраг матэрыялаў, абгрунтавана неабходнасьць байкоту выбараў і рэфэрэндуму і даведзена да актыўнай грамадзкасьці. Пазыцыя Партыі была правільнай, дзеяньні пасьлядоўныя, аргуманты юрыдычна і палітычна абгрунтаванымі. Якраз наша пазыцыя і аргумэнтацыя выразна адцяніла злачынства рэжыму і вікаўскай апазыцыі, якія насуперак Канстытуцыі і праву заклікалі людзей на галасаваньне і самы прынялі ўдзел у рэфэрэндуме.

2005 год у нас быў амаль цалкам прысьвечаны галоўнай задачы – падрыхтоўцы да акцыі „выбары прэзыдэнта" ў 2006 годзе. Партыяй праароблена істотная праца, асабліва па арганізацыйных момантах і па абгрунтаваньню Народнага Галасаваньня. Практычна, супраць нас быў ужыты грубы антызаконны сілавы палітпрыём (ультыматум) пасьля таго, як рэжым зразумеў небясьпеку для сябе Народнага Галасаваньня. Немагчымасьць майго легальнага прыезду на Беларусь і ўдзелу ў падзеях стала адной з прычынаў звужэньня абсягу Народнага Галасаваньня. Хаця тыя шансы, якія засталіся, мы, на жаль, не скарысталі напоўніцу. Не скарысталі найперш магчымасьці лакальнай перамогі ў Менску. За два гады пасьля 6-га Зьезду Партыя правяла дзьве навукова-тэарэтычныя канфэрэнцыі „Ідэалы БНР і беларускае адраджэньне" і ўсе традыцыйныя імпрэзы зьвязаныя зь вялікімі датамі і нацыянальнымі сьвятамі.

Вялікую і пастаянную працу Партыя вядзе па стварэньні і дагляду Народнага Мэмарыялу ў Курапатах. Тут хачу выказаць вялікую падзяку ўсім ахвярным працаўнікам на гэтай ніве. Робіцца моцная і важная для Беларусі і яе народу справа.

З свайго боку я працягваў фронтаўскую дзейнасьць за мяжой. За гэты час праведзены шэраг палітычных спатканьняў і выступаў у Польшчы, Летуве і ЗША, напісана дзясяткі артыкулаў аб беларускай палітыцы, выдадзена некалькі брашураў (у тым ліку „Беларуска-Расейская вайна" і „Прамаскоўскі рэжым") і кніга палітычнага зьместу пра Антона Шукелойця, выдаваўся часопіс „Беларускія Ведамасьці". (Тут я не залічваю творчую працу, паэму „Вялікае Княства" і іншае). Таксама ў 2005 годзе выдадзена ў ЗША некалькі нумароў газэты „Беларуская Салідарнасьць за мяжой", арганізавана аднаўленьне выданьня газэты „Беларускі Час" у Нью Ёрку і выдадзены першы нумар. Рэгулярна з пазыцыі Фронту прымаў удзел у сходах эміграцкіх арганізацыяў (БАЗА, Прэзыдыюм Рады БНР, Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве і інш.), дзе выступаў з дакладамі аб палітыцы Фронту і сытуацыі ў Беларусі. Адначасна разам з групай беларускай моладзі ў Нью Ёрку займаўся арганізацыяй беларускага адраджэнскага Інтэрнэту. Створна і дзейнічае афіцыйная старонка Партыі БНФ і некалькі аматарскіх старонак, створана індывідуальная афіцыйная старонка і іншыя. Лічу, што Фронт павінен надаваць вялікую ўвагу гэтай справе і дзейнасьці ў электроннай інфармацыі.

## V. ПАЗЫЦЫЯ І ПЭРСПЭКТЫВЫ.

Гаворачы пра нашую пазыцыю, нагадаю, што Беларускі Народны Фронт – гэта вынік палітычнай дзейнасьці беларускага народа. Фронт ствараўся самастойна, абапіраўся на беларускіх людзей і на свае структуры і дасягнуў мэты, ліквідаваў КПСС у Беларусі і вярнуў незалежнасьць краіны. Існаваньне Захаду і заходняй палітыкі тады нас моцна не турбавала (хоць мы заўсёды аналізавалі яго пазыцыю), бо ніводная асоба адтуль, дзякуй Богу, не прыяжджала да нас са сваімі прапановамі. Захад тады спадзяваўся яшчэ на Савецкі Саюз і падтрымліваў Гарбачова.

Гэта я ўспамінаю невыпадкова, каб нагадаць, што наш нацыянальны лёс ёсьць у нашых руках, і ўладкаваць нашую беларускую будучыню можам толькі мы, беларусы,

і ніхто іншы. Сіла ў нас самых і сіла наша. Але мы не павінны выключаць кантактаў

і салідарнасьці з нашымі суседзямі і з нашымі прыхільнікамі на Захадзе. Усё мусіць быць адэкватным і ў межах салідарнай палітыкі.

Рэальнасьць і сытуацыя паказвае, што найбліжэйшымі прыхільнікамі незалежнай нацыянальнай дэмкратычнай Беларусі зьяўляюцца Польшча і Украіна, а таксама балтыйскія краіны. Праўда, польскія палітыкі, якія цяпер ва ўладзе, маючы акрамя ўсяго, дакладную інфармацыю, крыху памыліліся і заблыталі сябе дэклярацыяй супрацоўніцтва з групоўкамі „вікаўскай апазыцыі". Таму спадзяемся ад іх неўзабаве адэкватнай перааацэнкі сваёй пазыцыі. Тое, што краіны былой Рэчы Паспалітай і акрэсьленай намі БЧС выказваюць салідарнасьць з нацыянальна-дэмакратычнай Беларусяй – гэта абумоўлена аб'ектыўнымі палітычнымі прычынамі і адначасова ёсьць до-

бры знак, які паказвае, што як толькі Беларусь вызваліцца ад прамаскоўскага акупацыйнага рэжыму, цэнтральна-усходняя Эўропа салідарызуецца разам, пачнецца фармаваньне ўсходняй садружнасьці. Наша ідэя БЧС ужо завалодала разумамі ўсходнеэўрапейскіх лідэраў. Астатняе – пытаньне часу.

Тым ня менш, як эўрапейская краіна, мы павінны выяўляць прыхільную пазыцыю да Эўразьвязу і стаяць тварам да Эўропы. Вольная дэмакратычная Беларусь павінна будзе супрацоўнічаць з Эўразьвязам, не сьпяшаючыся туды ўступаць, і тварыць салідарнасьць Усходняй Эўропы.

Ва ўнутранай палітыцы, як я ўжо адзначыў, наша апора павінна быць на плятформу „Беларуская Салідарнасьць" і на кансалідацыю людзей вакол беларускай нацыянальнай ідэі. Рэжым лягчэй перамагчы, абапіраючыся на салідарную нацыю. Але, перш за ўсё, павінна быць арганізаваная авангардная салідарная сіла, што трымае сьцяг народнага адзінства. Раней такой сілай быў Беларускі Народны Фронт. Пасьля расколу БНФ ні адна з частак ужо аб'ектыўна (фармальна) ня будзе прынята народам за аснову адзінства (бо адзінства раскалолася). Для паправы становішча намі створана „плятформа народнага яднаньня – Беларуская Салідарнасьць". Але павінна быць дзейнасьць. Беларусы цяпер, як і тыбетцы, робяцца сусьветнай нацыяй. Змаганьне за Беларусь перанесена таксама і ў эміграцыю і адбываецца на трох кантынентах.

Паўстае задача аб'яднаньня ўсіх беларускіх адраджэнцкіх сілаў на Бацькаўшчыне і ва ўсім сьвеце, каардынацыя і злучэньне працы дзеля незалежнасьці і волі Беларусі. Фактычна, у беларускім сьвеце існуе рэальная і актыўная пазыцыя, якую можна акрэсьліць як „Беларускае народнае адраджэньне". Трэба зрабіць толькі крок, каб ператварыць яе ў мэтанакіраваны, сусьветны беларускі рух. Каардынатарам гэтага руху магла б стаць Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ зь яе палітычнымі і тэхнічнымі (інтэрнэтнымі) рэсурсамі.

Гэтую ідэю я прапанаваў бы сябрам Фронту абмеркаваць пасьля Зьезду ў спакойных абставінах, у тым ліку і ў беларускім Інтэрнэце. У бягучым годзе (у выніку станоўчага падыходу і належных ацэнак магчымасьцяў) мы маглі б сабраць Фронтаўскую партыйную канфэрэнцыю, пасьвечаную гэтай праблме – беларускага народнага яднаньня перад аблічча пагрозы існаваньню дзяржавы і нацыі. Трэба ўлічыць, што пасьля рэалізацыі трэцяга тэрміну Лукашэнкі гэтая пагроза і агрэсіўнасьць Масквы рэзка павялічыліся. Відавочнымі сталі імкненьні рэжыму поўнасьцю ліквідаваць грамадзянскую супольнасьць у Беларусі (згодна з ужо аб'яўленымі распрацоўкамі Масквы) і зачыніць нашу партыю шляхам стварэньня фармальных прычынаў. Мы павінны ўлічваць пагаршэньне рэжыму і падрыхтоўку чарговай палітычнай агрэсіі з Расеі.

У любых абставінах, аднак, мы павінны памятаць цяпер пра нацыянальна-асьветніцкія задачы нашай дзейнасьці. ***Без нацыянальнай асьветы грамадства перамога над акупацыйным рэжымам і антыбеларускай уладай недасягальная.***

Паважаныя фронтаўцы, наперадзе яшчэ цяжкае змаганьне, але і сьветлая перамога. Беларусь была, ёсьць і будзе жыць! Наша праца яшчэ дасьць вялікі плён. Не апускайма рук, майма сьмеласьць і цярпеньне. Заўтра – у вольнай Беларусі!

*27 траўня 2006 г.*

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне"***
***і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2006, №3 (57).*

# „НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНЫ РУХ І ДЭМАКРАТЫЯ – СЫНОНІМЫ"

*Вольга Караткевіч, Прага. 23-га чэрвеня „начным госьцем" вечаровай праграмы Свабоды на тэлефоннай сувязі зь Вільні быў Зянон Пазьняк. (Скарочана).*

***Караткевіч:*** – *У гэтыя дні, у гадавіну пачатку вайны, мы з начнымі суразмоўцамі ўзгадваем, што ім найбольш запомнілася з вайны. У Вас на вайне загінуў бацька, якраз у год Вашага нараджэньня. Пытаюся пра Вашага дзеда, які перад вайной быў лілэрам беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Раскажыце пра Яна Пазьняка.*

***Пазьняк:*** – „Пра дзеда мне прыходзілася трошкі пісаць, але гэтая фігура засталася ў пэўным сэнсе загадкавай у нашай гісторыі, хаця ў апошні час пра яго больш пішуць. Для мяне дзед быў легендай. Гэта быў чалавек, які змагаўся за Беларусь. І мая бабуля, калі, памятаю, пайшоў у школу і там пачалі вывучаць рускую мову, і я пачаў расказваць тое, што чуў у школе, – яна мне сказала: „Унучак, усё, што гавораць у школе, ты слухай, але ведай, што твой дзед змагаўся за Беларусь і загінуў за яе». І вось гэта мне, малому, упала вельмі моцна ў душу. Я неяк адразу зразумеў, што іншай дарогі ня можа быць. Іначай проста я ня буду чалавекам. Гэта ўжо – кодэкс гонару. Гэта так, як выхоўвалі шляхту, калі маладзёна прыводзілі ў пакой продкаў і казалі: „Вось гэта быў падчашы Вялікага Княства Літоўскага, вось гэты быў пры Грунвальдзе, вось гэты загінуў пад Воршай, а гэты быў польным гетманам правай рукі… І пасьля гэтага чатырнаццацігадоваму нашчадку не было куды дзявацца. Ён мусіў быць чалавекам гонару, ён не павінен хлусіць, павінен быць сьмелым, гатовым пакласьці жыцьцё за Вялікае Княства… Так выхоўваліся нашыя продкі. Канешне, мая бабуля ня думала пра гэта. А можа… А можа, гэта натуральная народная этыка. Яна мне сказала, што мой дзед быў вялікім чалавекам. Яна сказала, фактычна, што тое, што гавораць ў савецкай школе, – гэта хлусьня, хаця і ня вымавіла гэта слова. Вось што значыў для мяне мой дзед. Для нацыі вельмі істотна веданьне гісторыі. Калі людзі будуць ведаць сваю гісторыю, свае гістарычныя перамогі, дасягненьні, здабыткі – яны будуць лепшацца і будуць годныя гэтай гісторыі, бо веданьне слаўнай мінуўшчыны спараджае дух салідарнасьці ў народзе. Увогуле чалавек павінен выхоўвацца сістэмна (як і грамадзтва), дзе веліч продкаў выхоўвае нашчадкаў.

**Караткевіч:** – *Калі Лукашэнка ішоў да ўлады, многія палітыкі, якія яго атачалі (і ня толькі яго атачалі) гаварылі,*

*што ён ня справіцца, заблытаецца. Вось 12 гадоў таму, якія ў Вас былі прагнозы наконт Лукашэнкі?*

***Пазьняк:*** – „Дванаццаць гадоў таму ў Вярхоўным Савеце літаральна ніхто сур'ёзна не ставіўся да Лукашэнкі. Гэты чалавек не карыстаўся ніякай павагай, ніхто ня мог уявіць, што ён можа быць прэзыдэнтам. Праўда, мяне папярэджваў Сяргей Навумчык, маўляў, „Зянон Станіслававіч, прыгледзьцеся, гэта дастаткова небясьпечная істота». Калі мы ўжо прыгледзеліся, то было позна. Ён ужо перайшоў тую мяжу, за якой, незалежна ад яго дзеяньняў, ігралі тыя працэсы, якія ў гісторыі выносілі на хвалю такіх вось авантурыстаў. Ня толькі ў нашай краіне такое было. Так што, на вялікі жаль, заўважылі позна. Акрамя таго, частка людзей, якія спачатку не праяўлялі сябе як абскуранты, яны ў той кампаніі выявілі сябе менавіта такімі. Я маю на ўвазе, перш за ўсё, тых, што падтрымалі Лукашэнку (Шэйман, Лябедзька, Ганчар, Сініцын, Булахаў). Яны цудоўна ведалі пра нізкі ўзровень Лукашэнкі. Яны ведалі, што гэты чалавек выступае супраць незалежнасьці Беларусі і за вяртаньне Савецкага Саюза. Яны сьвядома падтрымалі Лукашэнку, маючы славалюбныя задумы, што здолеюць ім кіраваць і можа быць нават загарнуць уладу. Але атрымалася ўсё ня так, як яны думалі. Некаторыя зь іх ужо нават і не жывуць. Але ролю яны адыгралі вельмі гнюсную, вельмі адмоўную. Пра нізкія думкі і паводзіны яны пакінулі нават свае „сэнтэнцыі". Скажам, Булахаў гаварыў: „сувэрэнітэт – гэта не ікона, на якую трэба маліцца».

***Караткевіч:*** *– На гэтым тыдні мы некалькі разоў ўзгадвалі словы Быкава з „Доўгай дарогі дадому" пра тое, што нацыяналізм зьнітаваны з дэмакратыяй; і Вы калісьці казалі, што ў Беларусі немагчыма быць дэмакратам, не кіруючыся нацыянальнай ідэяй. Наколькі рэальная гэтая тэза цяпер?*

***Пазьняк:*** – „Нацыянальнае і дэмакратычнае – гэта сынонімы. Нацыянальная ідэя, нацыянальная дзяржава – гэта агульная справа. Яна можа ўзьнікнуць толькі як справа грамадзтва. Нацыі заўсёды ўтвараліся як агульная справа, як справа дэмакратычная (асабліва там, дзе змагаліся з імпэрыямі). Так было ва ўсёй Эўропе. Потым маглі ўзьнікаць дыктатуры, розныя адступленьні. Але і дэмакратыя, і нацыянальная ідэя, і нацыянальны патрыятычны рух – неад'емныя паняцьці. Гэта важна зразумець, бо нашыя непрыяцелі, якія выступаюць супраць мовы, Незалежнасьці (тое, што йдзе з Масквы), яны прыдумляюць розныя вычварэнскія ярлыкі, напрыклад, „нацыяналізм роўны фашызму», „нацыяналісты не за дэмакратыю" і г.д. Гэта прыдумкі прапагандысцкія. А насамрэч і нацыянальны (вызвольны) рух, і дэмакратыя – ня існуюць паасобку, яны ідуць разам, яны ня ёсьць антыподы".

***Інтэрв'ю: Вольга Караткевіч, Прага***

*23 чэрвеня 2006 г*

# „ПАТРЭБНА НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АСЬВЕТА І ЎЗМАЦНЕНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ СІЛЫ"

***(Выступ на ліпеньскім Сойме БНФ. Скарочана)***

...Мы спадзяемся на перамены і стараемся набліжаць той час, калі разваліцца гэты антыбеларускі рэжым на Беларусі і зыйдзе ў нябыт. Тым часам мы павінны тлумачыць сябрам нашай Партыі Фронту і прыхільнікам Адраджэньня, што ў выніку пераменаў і ў выніку ўпадку рэжыму Лукашэнкі да ўлады ў Беларусі могуць прыйсьці зноў антыбеларускія групы.

Такое становішча, як вы ведаеце, склалася пасьля 1999 года, калі ў выніку сумеснай расейска-нямецкай палітыкі (супрацоўніцтва КГБ і нямецкай разьведкі – Ганс Вік) быў расколаты Беларускі Народны Фронт і арганізавана новая ненацыянальная неадраджэнская „апазыцыя", кантралюемая з Брусэлю і Масквы і выстаўленая як „альтэрнатыва рэжыму".

Масква, скарыстаўшы палітыку і фінансы Захаду, стварыла сабе бяспройгрышны варыянт уплыву на беларускую палітыку і магчымасьць зноў аднавіць сваю ўладу ў Беларусі пасьля нейкага непрадбачанага (ці наадварот – падрыхтаванага) краху прамаскоўскага рэжыму Лукашэнкі.

Па вялікаму кошту, гэтая зьява, створаная Вікам і кампаніяй, ня ёсьць апазыцыяй, але зьяўляецца своеасаблівым аплочваемым лобі чужой палітыкі. Адсюль і характэрная (паказушная) манера захаваньня і адсутнасьць дэкляруемых палітычных вынікаў.

Мушу заўважыць, што дзейнасьць гэтай „апазыцыі" ня ёсьць цалкам адназначнай, дзякуючы ўцягваньню ў яе мерапрыемствы розных людзей. Але, фактычна, яна выконвае (зьнешне парадаксальным чынам) ахоўніцкую функцыю рэжыму Лукашэнкі. Найбольш значныя і шкодныя яе дзеяньні – гэта спрыяньне „элегантнай перамозе" Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах у 2001 годзе шляхам выстаўленьня і падтрымкі заведама нікчэмнай кандыдатуры камуністычнага намэнклятуршчыка У. Ганчарыка, потым удзел у незаконным рэфэрэндуме аб трэцім тэрміне Лукашэнкі ў 2004 годзе і фактычнае спрыяньне яго вынікам. Нарэшце сёлетнія незаконныя выбары прэзыдэнта, калі лобі („апазыцыя") выконвала маскоўскую канцэпцыю „двух апазыцыйных лідэраў" і рэжыму „абмежавальнай планкі". Канцэпцыя (група Г. Паўлоўскага) прынесла карысны вынік для Крамля – Лукашэнка захаваў прэзыдэнцтва і ўладу і адначасна скампрамэтаваў сябе фальсіфікацыяй, пахіснуў сваё становішча, стаў больш залежным ад Масквы. Цікава, што „лідэры" (Мілінкевіч, Казулін) выканалі ўсё (усе ўстаноўкі) да драбніц.

Тым ня менш былі моманты, калі сытуацыя магла выйсьці з-пад тэхналягічнага кантролю. Гэта было належным чынам ацэнена ў Маскве і ў выніку прынята новая рэкамендацыя для рэжыму (той жа групай) – ліквідаваць нацыянальную грамадзянскую супольнасьць у Беларусі. Мы бачым, як пачалася інтэнсіфікацыя гэтага працэсу. Тут найбольш разбуральным і цалкам варварскім ударам зьяўляецца зьнішчэньне Саюзу пісьменьнікаў, ягонага архіву і бібліятэкі, а таксама ліквідацыя рэдакцыі Беларускай Нацыянальнай Энцыкляпэдыі. Гэта тыповы і агрэсіўны этнацыд, які нават не стараюцца замаскаваць.

Вяртаючыся да апазыцыйнага лобі ў апошняй кампаніі, зазначу, што рэжым дапусьціўся некалькіх памылак. Магчымасьць

перакуліць рэжым (ці калі не перакуліць, то сьпіхнуць яго на край бездані) была двойчы: 19-га і 25-га сакавіка. Але абодва разы спраўна спрацавалі „два лідэры", якія „абнізілі планку" дакладна па тэхналёгіі. 19-га Мілінкевіч зьвёў дзесяткі тысячаў людзей з Цэнтральнай плошчы на Круглую плошчу „да вечнага агню" (гэта трэба ж было дадумацца), а 25-га яны абодва пры дапамозе рознай пераапранутай гэбоўскай швалі, якая крычала „нет вражде", зьвялі народ з Цэнтральнай плошчы ў цесны сквер імя Янкі Купалы. Потым Казулін павёў людзей яшчэ далей, на вул. Акрэсьціна „падтрымаць арыштаваных". І не было каму спыніць гэты абсурд. Так былі ліквідаваныя магчымасьці супольных дзеяньняў у патрэбным месцы. (Мой заклік да Плошчы праз Інтэрнэт – гэта быў ужо крык сьмагнучага ў пустыні).

Спробы „двух лідэраў" зьвесьці прэч беларускую змагарную моладзь з намётавага лягеру на плошчы Каліноўскага ім, аднак, не ўдаліся. Але, як пісаў журналіст Ігар Карней, у выніку такіх паводзінаў „23 сакавіка група моладзі самахоць пакінула лягер. Такім чынам яны выказалі сваё стаўленьне да пасіўнасьці апазыцыйных кандыдатаў на прэзыдэнта – А. Мілінкевіча і А. Казуліна. Моладзь тлумачыла: зь першых кантактаў з гэтымі палітыкамі стала зразумела, што тыя не гатовыя да радыкальных крокаў і не ўяўляюць, куды і як скіраваць энэргію пратэсту. Адсутнасьць рэальных прапановаў з боку дэмакратычных „лідэраў" агаломшыла некаторых жыхароў намётавага лягеру" (*радыё „Свабода", 24 чэрвеня 2006 г.*).

Цікава прасачыць далейшыя выказваньні Мілінкевіча, дзе ён (магчыма сам таго не ўсьведамляючы) фактычна закладвае маскоўскіх паліттэхнолягаў. 30 і 31 траўня, напрыклад, тэлеканал „Эўраньюс" штогадзіну круціў інтэрв'ю зь Мілінкевічам, які наведаў яго расейскую рэдакцыю. „***Наша кааліцыя імкнулася стрымаць вулічныя пратэсты пасьля выбараў, – сказаў Мілінкевіч.*** – Для нас ня гэта ёсьць галоўным, а галоўнае – гэта справядлівыя выбары". (Зазначым, што справядлівыя выбары ва ўмовах дыктатуры ў прынцыпе немагчымыя і гэта агульнавядомая праўда.)

Тым часам крамлёўская тэхналёгія „двух лідэраў" і „планкі" працягваецца далей (гл. „Беларускія Ведамасьці" №2 (56) за гэты год, стар. 8, артыкул „Чужая палітыка"). З гэтага гледзішча часам цікава пачытаць ў Сеціве шчырасьці агентуры. Напрыклад: „Для Козулина главное – перетерпеть. Он выйдет к концу 2007 – началу 2008 года, как раз в тот момент, когда власть Лукашенко начнёт стремительно рушиться. Тогда он и возглавит при помощи, например, России демократическую революцию. Но пока Козулин в тюрьме, лидер один – Милинкевич. Это технологически верно. Цели ясны, структура управления сформирована" (П. Шарамет).

Думачкі і стыль зразумела адкуль. Гэтая маскоўская публічка, вядома, не прафэсіяналы (не Няўзораў і не Дарэнка і нават не „Евгеній Кіселёв", а так сабе, драбяза), але яна добра даказвае адну парадаксальную ісьціну аб карысьці балбатуноў і дурняў у палітыцы, асабліва калі яны ў стане ворага.

Аднак, калі сур'ёзна, – вынішчэньне беларускай нацыі плянуюць разумныя і адукаваныя непрыяцелі, а выконваюць цемра і нягоднікі. Перш за ўсё, мы павінны выразна разумець якраз гэтыя пляны, сістэму, прычыны, што і чаму робіцца, а потым ужо рэагаваць на дзеяньні.

Іншая справа, што ў асяроддзі апазыцыйнага лобі ёсьць пэўная частка людзей, якая шчыра шукае вольнай незалежнай Беларусі і беларускіх лідэраў (паколькі Фронт інфармацыйна ізаляваны). Парадоксы гэтага сьляпога шуканьня прыводзяць да таго, што некаторыя патрыёты гатовыя былі пайсьці ня тое што за русафілам Казуліным ці безідэйным Мілінкевічам, але нават за рускім генэралам Фраловым, не зважаючы на ўсе клясічныя асаблівасьці савецкага генэральскага інтэлекту.

Наяўнасьць такіх людзей у апазыцыйным лобі трэба ўлічваць, але ня мець ілюзіяў. Большы вынік будзе мець агульнае нацыянальнае асьветніцтва. Але рашучы паварот зробіць толькі ўзмацненьне і дамінаваньне магутнай нацыянальна-дэмакратычнай адраджэнцкай сілы.

З гэтага вынікае, што нам ня трэба марнаваць час на палітычнае змаганьне з падстаўной апазыцыяй. Гэта ня наша партыйная задача. (Масква толькі парадавалася б.) Акрамя таго, гэта бяссэнсоўна, бо ў іх не палітычная, а выгадніцкая прырода. Наша задача – раскрываць і паказваць грамадзтву палітычную сутнасьць падстаўной апазыцыі і выгадніцкі зьмест яе імітацыі, чаму адсутнічаюць вынікі і рэальнае змаганьне і г.д.

Але галоўны кшталт нашай дзейнасьці цяпер – нацыянальна-дэмакратычная асьвета беларускіх людзей, ідэйна-палітычнае, арганізацыйнае і кадравае ўзмацненьне нашай партыйнай і ў цэлым адраджэнцкай сілы.(...)

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*9 ліпеня 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2006, №4 (58)*

# КНІГА ПРА НЯДАЎНЯЕ БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ

**Сяргей Навумчык.** ***Сем гадоў Адраджэньня***
***Фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995)***
***Выданьне: «Беларускія ведамасьці», Варшава –***
***„Clovek v tisni", Прага, 2006 г. – 140 стар.: іл.***

Кніга Сяргея Навумчыка пра нядаўняе Беларускае Адраджэньне, якое вярнула незалежнасьць Беларусі, выйшла з друку ў ліпені гэтага году накладам ўсяго адна тысяча асобнікаў. Гэтая кніжка павінна б была зьявіцца даўно, але з-за розных прычынаў выходзіць толькі цяпер са спазьненьнем, у той час калі непрыяцелі беларушчыны (нават лютыя непрыяцелі), супраць якіх мы змагаліся за незалежнасьць Бацькаўшчыны, стварылі ўжо цэлую сваю літаратуру сфальшаваных падзеяў, наперабой пэцкаючы Беларускае Адраджэньне і здабыткі нацыянальнай рэвалюцыі. Прычыны такой іхняй пасьпешнасьці зразумелыя, бо вайна за Беларусь трывае далей. Але ёсьць адна галоўная схаваная прычына, якая пабуджае іх да актыўнасьці – гэта жаданьне ашукаць гісторыю. Марнае жаданьне, аднак, бо гісторыя падзеяў пачынаецца толькі тады, калі не жыве пакаленьне людзей, якія стварылі падзеі. Усё, што пішацца сучасьнікамі – гэта працяг змаганьня, давядзеньня да іншых сваёй рацыі і сваёй праўды.

Аднак, ізноў жа, рацыя падзеяў мераецца праўдай рэальнасьці. Рэальнасьць нашай барацьбы такая – што ёсьць незалежная беларуская дзяржава і беларускія грошы, межы і мытня, амбасады і нацыянальнае грамадзянства. Ёсьць праўда пра Чарнобыль і генацыд, адроджаныя дзяржаўныя сымвалы нацыі, школа і гісторыя. За гэта змагаліся мы з Масквой і з камуністамі і гэта сьцьвярджалі.

Рэальнасьць іхнага дзеяньня (альбо бяздзеяньня) у тым – што існуе антыбеларускі рэжым, што палітычна ліквідаваная дзяржаўнасьць беларускай мовы, вынішчана беларуская школа, нацыянальная навука і вышэйшая адукацыя, зноў сфальсіфікавана гісторыя, зноў беларус ня ўласьнік зямлі і ня творца ўлады. Зноў над краінай савецкія сымвалы, зноў пад пагрозай незалежнасьць дзяржавы.

Каляніяльныя сілы пры падтрымцы Масквы вярнулі старое. Яны змагаюцца „за Беларусь" пад сьцягам каляніяльнай ідэі „злучэньня з Расеяй". Мы, адрджэнцы, змагаемся „за *вольную* Беларусь" пад сьцягам нацыянальнай ідэі незалежнасьці і Беларускага Адраджэньня.

На гэтым палягае ўся розьніца і сутнасьць канфлікту ў Беларусі. Трэцяга тут не існуе (і ня дадзена) вось ўжо 200 гадоў. І ня будзе дадзена, пакуль жыве расейская імпэрыя і яе вялікадзяржаўная палітыка. Той, хто „за вольную Беларусь", той мусіць змагацца з Расеяй.

У кнізе Сяргея Навумчыка адлюстравана наша рацыя, наша беларуская праўда і наша змаганьне.

Кніга напісана фрагмэнтарна. Але адлюстраваныя важнейшыя падзеі, зьвязаныя зь незалежнасьцю і барацьбой з камунізмам. Месцамі аўтар падрабязна перадае напружаную атмасфэру таго часу, калі нешматлікай дэпутацкай Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту даводзілася, гаворачы ваеннай тэрміналёгіяй, змагацца за кожны куст і за кожны дом, кідаючыся ў адчайныя атакі, часам мімікрыруючы і ўдаючы адступленьне, і нападаючы зноў.

Дзейнасьць і, галоўнае, палітычныя здабыткі дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня – гэта абсалютна неверагодная і ўнікальная зьява ў гісторыі эўрапейскага парлямантарызму. Асэнсаваньне яе не паддаецца фармальнай лёгіцы. І тым ня менш гэта факт, што Апазыцыя БНФ, маючы восем адсоткаў дэпутатаў у парляманце, рэгулярна перамагала камуністычную большасьць (амаль 90 дсоткаў дэпутатаў) у галоўных пытаньнях, здабыла незалежнасьць парляманцкім мэтадам насуперак прамаскоўскай пазыцыі камуністычнае бальшыні, спыніла дзейнасьць КПСС у Беларусі рукамі і галасамі самых жа камуністаў, якія былі супраць БНФ.

Агульная рэальная колькасьць дэпутатаў сягала 345 асобаў (па канстытуцыі БССР патрабавалася 360). Дэпутацкая апазыцыя БНФ мела менш за 30 дэпутатаў (23 – 27), а разам з Дэмакратычным дэпутацкім клюбам ня больш 70. Астатняе камуністычна-намэнклятурная большасьць жорстка падпарадкаваная ЦК КПБ і камуністычным кіраўнікам у парляманце. І тым ня менш, быў такі фэномэн, які фармальна мяжуе з абсурдам – камуністы, трымальнікі абсалютнай улады ў краіне і бальшыня ў парляманце, цярпелі паражэньні ад Апазыцыі БНФ.

Мне якраз зразумела, чаму яны прайгравалі (але тэма вымагае спэцыяльнай гаворкі). Найперш трэба згадаць, што сумарная колькасьць неадукаванага розуму не пераходзіць у калектыўную дозу розуму, колькасьць – у якасьць. Гэта вядома. Тут закон Гегеля ня дзейнічае. Апазыцыя БНФ у сваім інтэлектуальным і адукацыйным разьвіцьці стаяла вышэй за камуністычную намэнклятуру. Але галоўнае – фронтаўцы (ў адрозьненьне ад камуністаў) адлюстроўвалі моцную энэргічную ідэю свабоды, дзяржаўнай незалежнасьці і грамадзкай справядлівасьці, яны не былі заплямленыя ўдзелам у непапулярнай намэнклятурнай уладзе. Фронтаўцы наступалі, заганялі камуністаў у абарону, у пазыцыю адкіданьня нашых добрых ініцыятываў. Мы пазбаўлялі іх магчымасьці да канструктыўных дзеяньняў (да якіх яны і так ніколі не імкнуліся). Усё гэта адбываася на вачах грамадзтва.

Істотна таксама тое, што маса дэпутатаў намэнклятуры ў Вярхоўным Савеце не была палітыкамі і мела пра парляманцкую дзейнасьць цьмянае ўяўленьне. Яны прывыклі выконваць загады партыйных сакратароў (у асноўным як трэба галасаваць), не разумеючы часам сутнасьці таго, за што галасуюць. Літаральна ўсе парляманцкія палітычныя дыскусіі ў Вярхоўным Савеце Апазыцыя БНФ выйгравала ў камуністаў, што называецца, з сухім лікам, за які яны адыгрываліся кнопкамі галасаваньня. Але ж і тое – не заўсёды.

Дзеля рэальнай перамогі галасамі мы стасавалі ня толькі разумную кулюарную працу (дзе галоўнае было – чалавечая павага да апанэнта і не спрачацца, памятаючы, што ў спрэчках ніколі не нараджаецца ісьціна). Мы часта ўжывалі асаблівую тактыку, якую прыдумвалі на кожны выпадак сур'ёзна і скрупулёзна, а часам лёгка і са смехам. Часта, напрыклад, мы стасавалі прыём „паралельнай мэты" ці „ пабочнай задачы". Гэта тады, калі непасрэдна, адкрыта, „у лоб" дасягнуць мэты было немагчыма (большасьць галасавала б адмоўна). Тады мы акцэнтавалі дыскусію на пабочнай задачы, прыймальнай для большасьці (ці прыдумвалі такую). Прыняцьцё пабочнай задачы як галоўнай дазваляла часам закамуфляваць і незаўважна правесьці галоўную пазыцыю, якую мы хацелі. Гэта звычайна рабілася ў паартыкульнай дыскусіі і галасаваньні.

Парляманцкая камуністычная маса інтуітыўна адчувала гэтую нашу траянскую тактыку, але не заўсёды магла яе зразумець. Гэта выклікала ў іх псіхалягічны шок містычнай падазронасьці да ўсяго, пра што мы казалі і што прапаноўвалі. „Нам подбрасывают, – крычалі яны па любому поваду, – нас уводят в сторону" і г. д. Вынікам шоку стала імкненьне камуністаў усё рабіць наадварот, галасаваць ад адваротнага, насуперак усяму, чаго хацелі дэпутаты Апазыцыі БНФ. Мы скарысталі гэты іхны псіхалягічны калапс і некалькі разоў з гумарам правалілі іхнымі ж рукамі іхныя ж ініцыятывы супраць Фронту і Беларускага Адраджэньня. Альбо наадварот, быццам бы „нязгодай" правакавалі іхняе галасаваньне за нашыя ідэі (характэрны прыклад – галасаваньне за Дэклярацыю аб суверэнітэце). Некаторыя эфэктыўныя выпадкі такой тактыкі з камуністычнай масай Сяргей Навумчык апісвае ў гэтай кнізе.

Паражэньні абсалютнай камуністычнай бальшыні Вярхоўнага Савета перад нешматлікай палітычна і інтэлектуальна выробленай фронтаўскай фракцыяй паказалі поўную гніласьць, застой, дэградацыю і нікчэмнасьць камуністычнай каманднай сістэмы знутры. Наменклятурныя камуністы аб'ектыўна былі няздольныя ні на якую стваральную справу дзеля народа Беларусі, акрамя як быць перашкодай, ляжаць калодай на шляху народнага адраджэньня і нацыянальнага разьвіцьця ды цягнуць усіх пад Маскву. Палітычная дурнота камуністычных кіраўнікоў у тых крыху не стандартных для іх умовах мяне часам уражвала. Памятаю галасаваньне за Белавежскія пагадненьні. Зразумела, што большасьць намэнклятуры прагаласуе „за", бо пагадненьні

падпісаў Кебіч (калі б падпісаў толькі адзін Шушкевіч, дык яны б яго тады зьнялі з пасады). І вось важна выходзіць кіраўнік камуністычнай большасьці ў Вярхоўным Савеце сакратар ЦК КПБ В. Ціхіня і выступае супраць пагадненьняў. Мала таго, ён яшчэ галасуе супраць („не паступіўся прынцыпамі") і аказаўся адзіным з прагаласаваўшых насуперак. Такое вось палітычнае харакіры вернага самурая. Пасьля гэтага самазьнішчэньня ён яшчэ зноў думаў кіраваць камуністычнай бальшынёй. (Потым, у 1996, Ціхіня яшчэ нашкодзіць Беларусі разам з Шарэцкім, як ніхто – праваляць імпічмант Лукашэнкі). Так што нам, Апазыцыі БНФ, тады яшчэ, можна сказаць, крыху пашчасьціла на палітапанэнтаў. З выробленымі ды разумнымі было б цяжэй.

Асабліва паказальным быў прыклад на травеньскай сэсіі Вярхоўнага Савета БССР у 1991 годзе, адразу пасьля красавіцкіх масавых страйкаў і маніфэстацыяў рабочых у Менску (дэманстравалі больш ста тысячў рабочых). Камуністычная верхавіна Беларусі на той час была самай рэакцыйнай, самай антынароднай і самай прамаскоўскай у СССР. Першы сакратар ЦК КПБ і дэпутат Вярхоўнага Савета СССР А. Малафееў выступае тады за жорсткую палітыку і за ўвядзеньне надзвычайнага становішча ў СССР. Аналізуючы тыя падзеі, пачынаеш разумець, як высьпявала ідэя ГКЧП і кадэбоўскі путч у Маскве.

На сэсію камуністы вынесьлі тры заканапраекты: аб увядзеньні прэзыдэнцкай пасады ў БССР, закон аб выбарах прэзыдэнта і закон аб надзвычайным становішчы. Камуністычнай верхавіне БССР (па ўзгадненьні з Масквой) хацелася расправы і дыктатуры. Заля Вярхоўнага Савета аж „рымела" ад рашучасьці намэнклятуры прыняць гэтыя законы. У гэтакіх умовах мы пачалі парляманцкую дыскусію з камуністамі і абмеркаваньне іхных праектаў. Дыскусійнае абмеркаваньне доўжылася 15 дзён. Гэта было адно з найцяжэйшых нашых змаганьняў. У выніку камуністычная бальшыня была разьбітая намі ўшчэнт, „ўдрызг", „пасечаная", падзеленая на групы, пераагітаваная супраць праектаў, і ўсе яны (гэтыя праекты) былі правalеныя пры галасаваньні гэтай жа, рашучай на пачатку, бальшынёй.

Канешне, мы „выклаліся" і ў залі, і ў кулуарах, і ў друку. Але магчымасьць нашай перамогі (там, дзе ніякіх лягічных і статыстычных магчымасьцяў не існавала) была закладзена, як я лічу, ізноў жа ў палітычнай дурноце, у чванлівым цэкоўскім „банзізме" камуністычных намэнклятурных рэтраградаў, якія нешта плянавалі, пісалі і спускалі „к исполнению", шмат не аналізуючы.

Калі б гэтыя заканапраекты не падаваліся імі пакетам, калі б аддзялілі (на іншую сэсію) закон аб надзвычайным становішчы, нам цяжка было б аргумэнтавана ўлічыць гэтых недасьпелых „гэкачэпістаў" і выразна паказаць, што яны плянуюць зрабіць праз увядзеньне прэзыдэнцтва на Беларусі. Пасьля паўмесяца штодзённых бесперапынных дыскусіяў і размоваў шмат якія дэпутаты зразумелі, на што разьлічвалі малафеевы. Цэкоўскай дыктатуры пабойваліся правінцыйныя намэнклятуршчыкі і шэраговыя камуністы. Я ўжо не кажу, што яны таксама былі падзеленыя на групы (умоўна, праўда) і мелі свае абласныя інтарэсы. Мы гэта ведалі і стараліся скарыстаць у змаганьні.

Тая травеньская перамога ў парляманце над камуністамі дала нам крылы, камень зваліўся з душы, мы верылі ў будучыню, у свае магчымасьці і ня ведалі страху. Потым было ГКЧП, правал путчу ў Маскве і спаўненьне надзей – вяртаньне незалежнасьці Беларусі.


(Фота У. Кармілкіна)

***68. Канфэрэнцыя па праблемах СМІ, Менск, 1996 г. На пярэднім пляне А. Лукашук, С. Навумчык.***

У кнізе Сяргея Навумчыка добра і прасторна апісаныя галоўныя карціны гэтай падзеі, калі ўсё вісела на валаску і ўсё удалося, сталася дзень у дзень, хвіліна ў хвіліну і мы не спазьніліся, пасьпелі на апошні цягнік. Мы ўдзячны Богу, што зьлітаваўся Ён тады над Беларусяй.

Праца Сяргея Навумчыка цікавая ня толькі выразнымі апісаньнямі падзеяў, трапнымі характарыстыкамі асобаў, дакладнымі высновамі, але таксама адэкватным беларускім бачаньнем працэсаў, адраджэнскай канцэптуальнасьцю ацэнак, якія вынікаюць з галоўнай сутнасьці адвечнага змаганьня з Усходам – быць ці ня быць Беларусі.

З гэтых пазыцыяў нацыянальнага існаваньня, барацьбы і адраджэньня аўтар дакладна ацэньвае ня толькі падзеі і працэсы нядаўняга часу, але і аб'ектыўныя ролі асобаў, якія прымалі ўдзел у дзяржаўным кіраваньні і палітычных канфліктах. Яны паказаныя рознабакова (плюсы і мінусы) і цалкам аб'ектыўна, што тычыцца іхных дачыненьняў перад людзьмі і Айчынай.

Праніклівы чытач заўважыць і будзе, відаць, уражаны амбівалентнасьцю паводзінаў асобных афіцыйных палітычных постацяў Беларусі пэрыяду нядаўняга нацыянальнага Адраджэньня (1988 – 1995 гг., па С. Навумчыку). Гэта датычыць, перш за ўсё, Шушкевіча, у меншай ступені Кебіча, потым Гілевіча, Краўчанкі, Бутэвіча, Дзямчука і іншых, якія сфармаваліся ў камуністычнай сістэме, пад ціскам абставінаў выйшлі зь яе прэч, але так і не разьвіталіся зь яе звычкамі і псіхалёгіяй, засталіся адной нагой у Менску, другой у Маскве. На прыкладзе ацэнак апанэнтаў Сяргей Навумчык, які быў каардынатарам дэпутацкай Апазыцыі БНФ, гарачым удзельнікам канфліктаў і змагарных падзей, выявіў аб'ектыўнасьць, добрыя якасьці дасьледчыка, здльнага глядзець на падзеі збоку і з вышыні і ацэньваць іх па крытэрыях шкоды і дабра для Беларусі.

Сяргей Навумчык канстатуе, што палітычны працэс Беларускага нацыянальнага Адраджэньня прыпынены з прычыны захопу ўлады ў Беларусі прамаскоўскімі сіламі. Аналізуючы становішча і пэрспэктывы разьвіцьця Беларусі, аўтар (як і ўсе мы цяпер) ня можа не трывожыцца за лёс Бацькаўшчыны, якая апынулася нібы закладніцай уласнага лёсу. Ён піша пра гэта. Але ёсьць канкрэтныя прычыны, ад якіх залежыць гэты яе лёс і шлях да перамогі. Чытаньне кнігі Сяргея Навумчыка, упэўнены, дапаможа белрусам убачыць хутчэй гэты шлях і лепей яго распазнаць.

***Зянон Пазьняк***

*2006 г., Варшава*

*Надрукавана: („Беларус",– 2006, жнівень, № 523).*

# АЛЬТЭРНАТЫВАЙ РЭЖЫМУ ЁСЬЦЬ ЗМАГАНЬНЕ

***(Выступ на жнівеньскім Сойме БНФ)***

Аналіз фактаў і заяваў паказвае, што Масква рыхтуецца да нейкіх маштабных падзеяў у Беларусі. Пасьля выбараў на трэці тэрмін адчувальна павялічылася вынішчэньне ўсяго беларускага; прытым у сваіх антынацыянальных дзеяньнях рэжым стаў дзейнічаць цалкам адкрыта па тыпова акупацыйнай схеме. Відавочнае прысьпешваньне курсу на зьнішчэньне беларускай грамадзянскай супольнасьці; адбываецца ня тое што перасьлед, а паляваньне на беларускую моладзь. Падыходы цалкам нагадваюць схемы НКВД у 30-х гадах па вынішчэньні беларушчыны. Усё гэта, плюс брутальнасьць дзеяньняў міліцыі, дэманстрацыя поўнага бяспраўя людзей з боку рэжымнай улады мае на мэце (як мне падаецца) растаптаць да рэшты і без таго слабы дух грамадзтва, замацаваць страх на ўзроўні поўнай бязвыходнасьці перад падзеямі нацыянальнай важнасьці і рэжымнай ініцыятывы.

Рыхтуюць ня толькі грамадзтва, але і рэжымную ўладу і галоўнага начальніка гэтай улады. Сымптаматычна, што перад выбарамі ды рэфэрэндумамі заўсёды паяўляецца ў Менску гэты цёмны паяц Павел Глоба і бармыча пра Лукашэнку свае лубянскія заклінаньні. Апошняя ягоная антрэпрыза нагадвае вытрымкі зь Ільфа і Пятрова. „Беларусь ёсьць цэнтрам Эўропы, – кажа гэты Бэндар, – яна трымае вось раўнавагі ва ўсёй эўрапейскай сістэме”. „Зьявілася адзіная моцная харызматычная асоба”, якую „Гасподзь Бог паставіў кіраваць гэтай краінай. Я кажу пра Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку”.

Нарэшце! А мы так чакалі, калі ж, калі паявіцца вышэйшы лубянскі пілатаж. Зьявіўся! Наступны этап – сын Божы. А там... хто ведае... Для паўнаты карціны працытую кавалак глобскага сьпічу цалкам і ў арыгінале.

„Он (Лукашэнка) родился на берегу Днепра. Это центральная река для всего славянского этноса. Как Кий, эпический основатель Киева, как княгиня Ольга. Это символично, ведь река считается переходом из царства живых в царство мёртвых. Плюс ко всему президент Беларуси родился в той самой Александрии, где в своё время, в десятом веке, умер первый епископ российской земли, которого называли Лука!

**Карэспандэнт:** – Какая связь имён…

**Глоба:** – Да. Лукашенко родился почти через тысячу лет после смерти епископа Луки. Он пришёл к власти в то время, когда на небе наблюдалось редчайшее явление – на Юпитер упала комета, которая раскололась на 22 куска, когда развалился на куски Союз. И Лукашенко, кстати, не подписал акт о развале Союза. Потому что он – один из тех, кому будет поручено стать предвестником объединения расколотых земель.

**Карэспандэнт:** – Для этого потребуется время. (правільна задае пытаньне карэспандэнт).

**Глоба:** – Времени у него будет достаточно”.

Ня трэба думаць, што гэтая прымітыўная і камічная „бздура”, надрукаваная інтэрнэт-газэтай „Обозреватель”, вынік хворай сьвядомасьці. „Отнюдь”, – як пісалі расейскія знаўцы. Гэтае казаньне якраз разьлічана на хворую сьвядомасьць, якая верыць таму, што сказана, і з хваляваньнем успрымае. Тым больш, што „времени у него будет достаточно”.

Глобская гастроль, безумоўна, зьвязана з расейскімі плянамі прысьпешваньня „інтэграцыі” і „канстытуцыйнага акту” так званага „союзного государства”. Гэбэ зноў узялося апрацоўваць кліента мэтадам клінічнай псіхалогіі. Вопыт паказвае, што Масква ставіць сур’ёзныя задачы.

Падстаўная прамаскоўская псэўдаапазыцыя цалкам адпрацавала сваю службовую ролю на апошніх выбарах. Лукашэнка замацаваўся на трэці тэрмін і „апазыцыянерамі” пакуль што не цікавяцца. Нават у Маскву не запрашаюць. Пасьля зробленьня справы згодна імпэрскай традыцыі, Масква заўсёды кідала сваіх выканаўцаў як адпрацаваны матэр’ял, бо Крэмль не зацікаўлены ствараць у Беларусі нейкія рэальныя пункты канцэнтрацыі палітычнай сілы і разграбаць потым рэшткавыя праблемы сваёй палітыкі. Так зьнік у багне гэтай маскоўскай паліттэхналёгіі (якую Крэмль надта і не хавае) цэлы шэраг палітычна нявырабленых людзей, якія мелі амбітныя задумкі і хацелі верна супрацоўнічаць з Расеяй (В. Ганчар, М. Чыгір, Г. Карпенка, В. Лявонаў, М. Марыніч, А. Казулін). Наступнымі пасьля зробленьня прамаскоўскай справы і „адпрацоўкі” будуць „кінутыя” А. Мілінкевіч, С. Калякін і г.д.

На супрацоўніцтва з гэбісцкай Расеяй у гэтых паўваенных абставінах ідуць людзі, якія не былі і ня ёсьць улучаныя ў беларускую нацыянальную палітыку, ня выйшлі яшчэ з сьведамасьці расейскай імпэрыі, з СССР, не ўспрымаюць беларускія нацыянальныя інтарэсы і наўрад ці ўсьведамляюць сутнасьць і зьмест гістарычнага расейска-беларускага канфлікту. У той час, калі ўся Расея, пачынаючы ад яе прэзыдэнта і КГБ і канчаючы „дзеячамі культуры”, змагаецца за інкарпарацыю („об’единение”, „интеграцию”) нашай краіны і ўлучэньне яе ў расейскую дзяржаву, ды яшчэ абапіраецца на свой прамаскоўскі рэжым на Беларусі. У гэтакай сытуацыі палітычнае супрацоўніцтва з Расеяй (нібыта




(Фота З. Пазьняка)

***69. Вашынгтон, 2001 г. Беларуская дэманстрацыя перад амбасадай Рэспублікі Беларусь.***

супраць прамаскоўскага Лукашэнкі) ёсьць альбо абсурд адсталасьці і поўнай сьлепаты, альбо здрада і калябарацыя. Зрэшты, тут і адно, і другое.

Існуе небясьпека (зрэшты, яна існуе пастаянна), што Масква і антыбеларускія сілы ў Беларусі выкарыстаюць бліжэйшыя выбары ў мясцовыя органы ўлады для правядзеньня інкарпарацыйнага рэфэрэндуму аб „канстытуцыйным акце" незаконнага так званага „союзного государства".

Беларускі і сусьветны вопыт неаднаразова пацьвердзіў, што пад акупацыйным рэжымам і дыктатурай ня можа быць справядлівых выбараў, бо вышэйшым крытэрам такіх выбараў ёсьць не закон, а некантраляваная народам злая воля палітычнае ўлады. Удзельнічаць у такіх выбарах нельга. Трэба пазбавіць рэжым магчымасьці прыкрывацца народам у сваёй хлусьні. Няхай ашуканства стане ўсім наглядна відаць. Тады сіла і магчымасьці такой улады хутка змалеюць. Барацьба – гэта працэс, і нішто ня зробіцца на Беларусі адным махам.



*70. Беларуская дэманстрацыя перад ААН у Нью-Ёрку супраць антыбеларускай палітыкі ў Беларусі.*

Практыка паказала, што людзі, якія ў беларускіх абставінах заклікалі пад выглядам агітацыі ісьці галасаваць па правілах рэжымнай машыны ўлады, людзі гэтыя ў рэальнасьці паспрыялі рэжыму ў дасягненьні патрэбных яму вынікаў.

Альтэрнатывай супраць гэтай шкоднай інэрцыі ёсьць змаганьне. Бяз волі і барацьбы нічога не дасягаецца, асабліва ў палітыцы. На выбары ісьці нельга. Але трэба рыхтавацца да рашучага змаганьня. У дзень галасаваньня трэба ісьці не на выбарчыя ўчасткі галасаваць для рэжыму, а выходзіць на вуліцы і плошчы, яднацца ў пратэстах і дзеяньнях. Тады выявяцца і будуць сапраўдныя беларускія змагары і сапраўдныя беларускія арганізатары. Наша Партыя і ўвесь Народны Фронт павінны бачыць такую пэрспэктыву барацьбы і рыхтавацца да яе.

Надыходзіць 15-я гадавіна вяртаньня Незалежнасьці Беларусі. 25 Жніўня (як і 25 Сакавіка) – найвялікшы дзень нашай беларускай гісторыі. Яго трэба адзначыць годна і высакародна, нягледзячы ні на якія абставіны акупацыйнага рэжыму. Мяркую, што ў будучыні ў вольнай Беларусі 25 Жніўня будзе адзначацца народам як найвялікшае сьвята Беларускай нацыі.

Выходзячы з галоўнай тэмы нашага сёньняшняга паседжаньня, намі (Паліткамітэтам) падрыхтаваны тэкст заявы Сойму Партыі БНФ, які я прапаную абмеркаваць і прыняць на Сойме як стратэгічны дакумант, які выяўляе нашу палітычную пазыцыю на бліжэйшы час. З гэтай пазыцыі будзе выпрацавана і наша тактыка.

Зь медыцыны і электронікі мы ведаем, што вірусы нясуць вельмі вялікую небясьпеку і шкоду арганізму. Змаганьне зь вірусамі непазьбежнае. Але памятайма, што зацыкліваціца толькі на падстаўной апазыцыі нельга, бо ёсьць больш небясьпечныя ворагі Беларусі. Гэта рэжым і асабліва тое, што стаіць за яго плячыма – маскоўскі гэбізм і імпэрыялістычная палітыка. У выпрацоўцы тактыкі ёсьць магчымасьці выкарыстаць на пэўных участках змаганьня падстаўную апазыцыю супраць рэжыму і нават рэжым супраць Масквы. Але ўсё гэтае вымагае вялікай дакладнасьці і кіруемасьці, а значыцца і палітычнае сьпеласьці нашай фронтаўскай партыі.

***Зянон Пазьняк***

*13 жніўня 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2006, №4 (58)*

# ТАЕМНАЕ СТАНОВІЦЦА ЯЎНЫМ

14-га ліпеня на стар. расейскага парталу „прогносіс ру" быў зьмешчаны артыкул І. Расолава „Россія – Беларусь: „дружественное поглощеніе". Яго шмат дзе передрукавалі ў Сеціве, дадаўшы наступнае рэзюмэ: „Артыкул І. Расолава выяўляе адзін з плянаў Масквы па падрыхтоўцы аншлюса Беларусі. Фактычна, беларускім нацыянальна-дэмакратычным сілам прапануецца спыніць „мочить" за што папала Маскву і лепш хутчэй брацца за „кансалідацыю". Кансалідавацца прапануюць „на аснове адзіных каштоўнасьцяў – барацьбы за свабоду палітзьняволеных," натуральна забыўшыся пра рэальныя адзіныя каштоўнасьці і пра незалежнасьць нашай краіны. Пасьля прачытаньня артыкула становяцца зразумелымі і лягічнымі апошнія дзеяньні некаторых палітычных сілаў у Беларусі і іхняя сапраўдная мэта."

І сапраўды, мяне заўсёды насьцярожвала нейкая ненатуральнасьць рэакцыі і шуму падстаўной апазыцыі вакол палітычна асуджаных. Замест рэальных падходаў ідзе паказная адпрацоўка нейкага навязьлівага сцэнару пра свабоду палітасуджаным як самай галоўнай справы грамадзтва. „Свабоду таму і гэтаму!" – пастаялі ў пікеце (ланцугу) і разышліся. І так увесь час. Прафанацыя нейкая. Аказваецца і гэта прадумала для іх Масква. Лукашэнка садзіць, а ягоныя

былыя хаўрусьнікі патрабуюць свабоды пасаджаным, „кансалідуюць грамадзтва”. Усе пры справе. Усё апаганілі, нават на чалавечай бядзе ствараюць паліттэхналёгіі.

**Лябедзька:** – *„Трэба выходзіць за межы Менскага гарадзкога кальца і ісьці ў рэгіёны. Ставім задачу на бягучы каляндарны год, пачынаючы ад гэтай да наступнай восені, правесьці такія акцыі і ланцугі неабыякавых людзей у кожным раённым цэнтры.”(Радыё „Свабода”, 16 08.06.).* Вось гэта імпэт! Толькі адкуль ногі растуць.

Артыкул І. Расолава, як і бальшыня агентурных тэкстаў такога роду, напісаны даволі цынічнай мовай, з прыхаванай грэблівасьцю да ўсяго беларускага. „К удивлению наблюдателей, оппозиция готова терпеть «батьку» (или его ставленника), только бы не стать до конца губернией Москвы,”– удавана зьдзіўляецца масковец і прапануе хутчэй правесьці ў Менску новы „кангрэс дэмакратычных сілаў” (падстаўной апазыцыі). Для Масквы патрэбны новы, сьвежы, яшчэ больш прамаскоўскі стаўленьнік.

Усё гэта зразумела і вядома. Невядома было толькі тое, што Ільля Расолаў быў даверанай асобай А. Казуліна на „выбарах” прэзыдэнта, а заадно зьяўляецца каардынатарам беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі «Грамада». Ён расеец, жыве ў Маскве, супрацоўнічае з праваахоўнымі арганізацыямі, юрыст па адукацыі. Генэрал-патрыярх Алексій ІІ узнагародзіў яго залатым мэдалём „Преподобного Сергия Радонежского І степени”.

Як „стварылі” партыю Казуліну і хто такі Казулін (якога Масква „кінула”) – усе ўжо ведаюць. Цікава аднак тое, як у апошні час пачала сыпацца маскоўская агентура ў Беларусі.

Яшчэ не пасьпелі забыцца пра шпіёна Суздальцава, які прызнаўся, што дванаццаць гадоў працаваў над стварэньнем прамаскоўскай апазыцыі ў Беларусі (у хаўрусе зь Вікам), аж тут на табе – Расолаў вылазіць. Прыйдзе час, ці тое яшчэ даведаемся.

***Зянон Пазьняк***

*14 жніўня 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць”, www.bielarus.net; www.pbpf.org / Пад псэўданімам Мар'ян Ванькевіч )*

# КАБ ПЕРАМАГЧЫ АНТЫБЕЛАРУСКІ РЭЖЫМ, ТРЭБА СТВАРЫЦЬ БЕЛАРУСКУЮ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ СІЛУ

*Апошнім часам пачасьціліся лісты маладых беларусаў, якія хочуць даведацца, што сталася з Народным Фронтам, чаму раскалоўся, чаму змалела ягоная сіла і палітычныя ўплывы. Шмат каго бянтэжыць рэзкая крытыка з нашага боку цяперашняй „кааліцыйнай апазыцыі” і крытычныя ацэнкі дзеяньняў яе ўдзельнікаў і асобаў. Вось тыповыя пытаньні:*

***„Я вельмі прашу Вас патлумачыць, чаму Вы ўважаеце Партыю БНФ за прарасейскую апазыцыю?”***

***„У маёй галаве не ўкладаецца, што сп. Вінцук здольны сьвядома выкарыстоўваць нас усіх улучна зь ягоным сынам дзеля дасягненьня прарасейскіх мэтаў.”(Юрась Віцьбіч)***

*Пастараюся адказаць коратка пра галоўнае, бо на гэту тэму і мной, і сябрамі Фронту ўжо дастаткова шмат напісана ў адраджэнскім друку. Праўда, ўлічваю абставіны, што ня кожнаму гэты друк даступны.*

* * *

Ніхто не сумняваецца, што В. Вячорка за Беларусь, за незалежнасьць, мову і г.д. і ніхто ня лічыць яго „прарасейскім”, „агентам” і т. п. Толькі для палітычнай дзейнасьці гэтага недастаткова. Трэба памятаць, што палітыка мае свае законы і правілы, і калі іх ігнараваць, то добрымі пажаданьнямі можна вымасьціць дарогу ў пекла.

Адколатая частка фронтаўцаў, змагаючыся супраць Лукашэнкі, спакусілася на заходнюю фінансавую падтрымку (і, адпаведна, прыняла заходнія умовы), пайшла на хаўрус з прамаскоўскімі партыямі і нават з камуністамі, думаючы, магчыма, пашырыць на іх свой нацыянальны уплыў. Але яны не ўсьвядомілі, што праз чужыя грошы паддаліся чужой палітыцы. У выніку прамаскоўскія партыі здамінавалі так званую апазыцыю, а фронтаўцы зь Вячоркам апынуліся на трэціх ролях; верхаводзяць Калякін, Лябедзька, Бухвостаў, усюды гавораць і пішуць па-руску, езьдзяць у Маскву да Караганава ды Маркава, ды Нямцова, выбіваюць прыхільнасьць і сродкі, улягаюць небеларускай палітыцы; і Вячорка ў гэтай кампаніі як сьведамы шэраговец. Адпрацоўвае датацыі.

Усё гэта абазначае паўзучую паразу беларускай нацыянальнай ідэі (ідэі, на якой трымаецца нацыянальная дзяржава і нацыя). У гэтым і сутнасьць здрады. Ня сталі змагацца за беларускую справу, як нашыя адраджэнцы дзяды-прадзяды, як Народны Фронт супраць камунізму, СССР ды КПСС, а паддаліся хаўрусьнікам дзеля хаўрусу, дзеля абяцаных прагматычных інтарэсаў, ахвяраваліся вялікім дзеля малога.

У выніку на сёньняшні дзень Беларусь, фактычна, апынулася без нацыянальнай палітычнай альтэрнатывы. Калі цяпер ці ў недалёкім часе пры такіх варунках адбываецца перамена рэжыму, то да ўлады ў Беларусі (пры дапамозе Масквы, калякіных і лябедзек) прыходзяць зноў антыбеларускія сілы (цяпер ужо пад выглядам „дэмакратаў”). Дзесяць гадоў таму, калі ў беларускай апазыцыі і палітыцы дамінаваў Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”, такога ніколі б ня здарылася. У Беларусі тады была нацыянальная палітычная будучыня. Цяпер нацыянальна-дэмакратычныя адраджэнскія сілы аслабленыя і сапхнутыя ў бок. На першым месцы выстаўляецца дэмакратычны не нацыянальны не адраджэнскі маргінэс (да таго ж істотна кантраляыаны чужымі сіламі і агентурай).

Пра ўсё гэта я казаў, пісаў і папярэджваў і сем, і восем, і дзесяць гадоў таму. ***Гарантыя палітычнай перамогі не ў фармаваньні кааліцыяў з апанэнтамі дзеля дасягненьня блізкіх мэтаў, а ў стварэньні моцнай палітычнай беларускай сілы, якая будзе грунтам стратэгічных дасягненьняў нацыянальнай палітыкі.*** Ніхто ня можа сказаць, што нічога ня ведаў і ня чуў, калі паўстане пытаньне аб адказнасьці. Ёсьць канкрэтныя вінавайцы. Цяперашняя задача ўсёй нашай беларускай супольнасьці – вярнуць Беларусі нацыянальную палітычную пэрспэктыву, каб мець будучыню.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*15 жніўня 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2006, №4 (58); („Беларус",– 2006, верасень, № 524 (пад загалоўкам: „Яднацца трэба са сваімі")*

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АСЬВЕТА

***(Выступ на сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі і Канады)***

Нядаўна патрыёты на Бацькаўшчыне адзначалі 15-ю гадавіну аднаўленьня незалежнасьці Беларусі. Гэты дзень, 25-га Жніўня 1991 года, гэтак жа, як і 25 Сакавіка 1918-га, стаўся найвялікшай датай у гісторыі Беларусі ХХ-га стагоддзя. У жыцьці нацыі дасягненьне дзяржаўнай незалежнасьці ёсьць найвялікшай станоўчай падзеяй, якая вызначае лёс цэлых пакаленьняў. Такія зьявы ніколі не забываюцца. Наадварот, яны сакралізуюцца, робяцца сымваламі палітычных дасягненьняў і знакам пэўных ідэй.

Для нас, удзельнікаў гэтых падзеяў, 25 Жніўня сталася нашай бітвай пад Воршай. Скарыстаўшы правал камуністычнага путчу ў Маскве, жах і разгубленасьць савецкай намэнклятуры, нам удалося малымі сіламі выйграць вялікае змаганьне і перамагчы.

Пазьней мы аналізавалі, што калі б спазьніліся хоць бы на адзін дзень, вяртаньне назалежнасьці сталася б праблематычным. Ужо праз тыдзень, калі мінуў першы страх, антыбеларускія камуністычныя сілы, што складалі тады большыню ў парляманце, пачалі гаварыць аб скасаваньні вынікаў 25 Жніўня. Але было позна. Цягнік незалежнасьці ўжо рушыў, набіраючы ўсё больш і больш прыхільнікаў. Сілы на рэстаўрацыю старога камуністы ўжо не маглі сабраць.

Мушу адзначыць, што ўнікальная, з пункту гледжаньня лёгікі, перамога ў парляманце была ня толькі вынікам добрага ўзаемадзеяньня структураў Народнага Фронту і сьведчаньнем прадуманай дэпутацкай тактыкі. Незалежнасьць была падрыхтаваная ўсім ходам ідэёвай і палітычнай барацьбы Беларускага Народнага Фронту, які ў тыя часы яднаў усе адраджэнскія і антыкамуністычныя сілы ў Беларусі.

Ідэалёгія незалежнасьці была намі ўжо сістэмна распрацаваная да таго часу. Галоўным жа вынікам яе было прыняцьце Дэклярацыі аб сувэрэнітэце Беларусі яшчэ за год перад Незалежнасьцю.

Да гэтага часу намі быў падрыхтаваны ўжо шэраг незалежніцкіх законапраектаў, канцэпцыя эканамічных рэформаў, стратэгія рэсурснага забесьпячэньня (маецца на ўвазе Балта-Чарнаморскі калектар), прынцыпы пабудовы нацыянальнага Беларускага войска, нацыянальнай школы і сістэмы адукацыі, банкаўскай справы, увядзеньня нацыянальнай валюты, сістэма памежнай службы і г.д. Заставалася толькі ажыцьцявіць галоўнае і самае цяжкае – здабыць незалежнасьць.

На імгненьне магчымасьць такая зьявілася пасьля правалу камуністычнага путчу ў СССР. Гэтая магчымасьць была скарыстаная. На прыканцы стагоддзя шчасьце зноў усьміхнулася Беларусі.

Але паўстае пытаньне: чаму праз тры гады ўладу забралі прамаскоўскія сілы, і незалежнасьць Беларусі і беларуская культура апынуліся пад пагрозай пэрманэнтнага зьнішчэньня?

Калі глянуць у корань, то прычына хаваецца ня толькі ў зьнешніх фактарах (пагроза Расеі), але, галоўным чынам, – ва ўнутраных, у самым беларускім грамадзтве, якое ў значнай сваёй частцы было тады яшчэ не падрыхтаванае для актыўнага ўспрыняцьця новых нацыянальных задачаў і да салідарнага змаганьня за свае нацыянальныя інтарэсы.

Пасьля выхаду з СССР і ліквідацыі КПСС грамадзкі ўздым зьнізіўся, людзі супакоіліся, вырашыўшы**,** што перамены ўжо адбыліся, і сталі чакаць вынікаў незалежнасьці.

Такія грамадзкія настроі, рэзкае зьніжэньне грамадзкай актыўнасьці пасьля нацыянальнай рэвалюцыі не паспрыялі дэмакратычным пераменам. Камуністычная намэнклятура захавала за сабой усю ўладу і неўзабаве трапіла пад жорсткі ўплыў Масквы. Значная частка беларускага грамадзтва заняла тады тыповую для беларуса пазыцыю назіраньня.

Незалежнасьць Беларусі была вернута сіламі нешматлікага яшчэ тады нацыянальнага авангарду пры падтрымцы актыўных людзей. Потым, калі трэба было вырашыць пытаньне ўлады і здабыць гэтую ўладу, авангарду не хапіла якраз шырокай грамадзкай апоры. Старая намэнклятура, якая да таго ж зьвярнулася па дапамогу ў Маскву, фактычна, рабіла, што хацела.

Гэта, а таксама пагаршэньне сацыяльных умоваў жыцьця і дзейнасьць КГБ, прывялі неўзабаве да ўлады ў Беларусі Лукашэнку і прамаскоўскія групы.

Якія высновы з гэтага ўсяго вынікаюць?

Новае Беларускае Адраджэньне, якое пачалося за часы СССР, фактычна, ня мела пэрыяду шырокага нацыянальнага асьветніцтва. Не хапіла ўжо часу. Падзеі пачалі разьвівацца вельмі хутка. І калі спатрэбілася нацыянальная падтрымка ад усяго грамадзтва, то яе якраз і не хапіла. Савецкім беларусам, у большасьці апрацаваным антыбеларускай сістэмай, трэба было тады яшчэ тлумачыць элементарныя рэчы, напрыклад: навошта людзям свабода і нацыянальныя грошы, навошта мытня і межы і чаму неабходна шанаваць сваю беларускую мову.

На сёньняшні дзень сытуацыя ненашмат зьмянілася (асабліва ўлічваючы антыбеларускую прапаганду і прамаскоўскую палітыку рэжыму). Мы, беларусы, павінны сабе выразна ўсьвядоміць, што ***без нацыянальнай беларускай асьветы грамадзтва немагчымыя дэмакратычныя дасягненьні***

***ў беларускай палітыцы.*** Гэта відавочная праўда. Неасьвечанае і дэнацыяналізаванае насельніцтва робіцца аб'ектам маніпуляцыяў і здольнае лёгка падлягаць прапагандысцкім уплывам, і выступаць нават супраць сваіх нацыянальных інтарэсаў. Што, дарэчы, мы і назіраем у цяперашняй Беларусі.

Мы ўсе цяпер, у той час, калі ідзе шалёная русіфікацыя, павінны зьвярнуць вялікую ўвагу на нацыянальна-асьветніцкі бок справы. Гэта грунт, які ўмацуе нашую незалежнасьць і ўратуе культуру.

Вядома, найбольшае спадзяваньне будзе на людзей адукаваных, здольных пісаць і перадаваць інфармацыю. Але ўдзельнічаць у гэтай агульнанацыянальнай справе мусіў бы кожны беларус сваёю прыхільнасьцю, пазыцыяй і сродкамі, здольнасьцю адклікацца на поклічы і патрэбы беларускай асьветніцкай справы.

Нашая дзейнасьць і нашая беларуская актыўнасьць не павінны заміраць, а наадварот – пашырацца ва ўсім сьвеце.

Мушу адзначыць вельмі істотны момант. За апошнія 20 гадоў сьвет моцна перамяніўся. Вялікія хуткасьці, паветранны транспарт, міжнародныя эканамічныя дачыненьні і электронная сувязь (Інтэрнэт) фармальна зблізілі людзей, узрасла міграцыя і кантакты, фармуюцца новыя плянэтарныя дачыненьні.

У гэтых умовах функцыя дзяржаўнай мяжы як галоўнага чыньніка суверэнітэту пачынае зьніжацца, а функцыя нацыянальнай культуры, як новага чыньніка суверэнітэту, – павялічвацца. Адпаведна і ўзрастае роля нацыянальнай культуры (перш за ўсё, мовы) як дзейснага гаранта сувэрэнітэту краіны.

Сувэрэнітэт Беларусі ў плянэтарным і ў эўрапейскім сэнсе ў значнай ступені будзе залежыць ня толькі ад таго, што беларус назаве сябе беларусам, але і ад таго, што для яго, фігуральна кажучы, будзе бліжэй у ягоным культурным жыцьці і патрэбах, напрыклад, Янка Купала, Багдановіч, Быкаў, ці, скажам, Шылер, Шэксьпір ды Талстой.

Нацыя, прадстаўнікі якой жывуць па-за нацыянальнай культурай і па-за нацыянальнай мовай (як галоўнага сродку культуры) – такая нацыя ў сучасным сьвеце страціць свой сувэрэнітэт.

Зьвернем увагу ў сувязі з гэтым на вельмі небясьпечную палітыку антыбеларускага рэжыму ў Беларусі па разбурэньні беларускай культуры.

І тым ня менш, ёсьць у нас порах у парахаўніцах!

Цяпер беларусы жывуць на ўсіх кантынентах. Мы робімся сусьветнай нацыяй. У нас ёсьць магчымасьці асьветніцкай працы і кансалідацыі. Калі мы напоўніцу скарыстаем гэтыя магчымасьці, то забясьпечым будучыню нашай культуры. І тады ўжо нішто ня спыніць Беларусі! Беларусь была, ёсьць і будзе. Беларусь жыве і будзе жыць!

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*3 верасьня 2006 г., Нью-Брансьвік.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2006, №4 (58).*

# З. ПАЗЬНЯК: „25 ЖНІВЕНЬ – РЭАЛЬНАЯ ДАТА ВЯРТАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ"

***Сяргей Навумчык, Прага. Сёньняшнюю дату камэнтуе для нашага радыё лідэр Апазыцыі БНФ у тагачасным Вярхоўным савеце З.Пазьняк:***

***Пазьняк:*** – «25 Жнівень ёсьць рэальная дата вяртаньня незалежнасьці Беларусі. 15 гадоў таму мы, апазыцыя БНФ у Вярхоўным савеце, зрабілі гэтую дату. Для мяне гэтая падзея – найвялікшае шчасьце. Па значэньні гэты дзень стаіць на адным узроўні з 25 Сакавіка 1918 года і зьяўляецца для нас знакавай, вызначальнай датай ХХ стагодзьдзя, а ў цэлым – і ва ўсёй гісторыі беларускай нацыі.*

Нічога няма важнейшага ў жыцьці нацыі, як дасягненьне ёю незалежнасьці і стварэньне нацыянальнай дзяржавы. Такая падзея ўваходзіць у вечнасьць. Можна зрабіць рэтраспэктыўны аналіз з заданьнем: што б сталася, калі б не было 25 Жніўня? Адказ будзе адназначны: не было б ніякай беларускай дзяржаўнасьці і ніякай незалежнасьці. Беларускую культуру расейцы вынішчылі б жорстка і безаглядна. І не было б надзеі. Тым часам, нават цяпер, пры прамаскоўскім рэжыме, пэрспэктыву нашага нацыянальнага існаваньня зьберагае нам нашая дзяржаўная незалежнасьць. Таму беражэм яе, як найвялікшую каштоўнасьць».

*25 жніўня 2006 г.*

* 25 Жнівень павінен стаць чырвоным днём календара як Дзень Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь (гэтаксама, як 25 Сакавік, які ўжо 20 гадоў сьвяткуюць у Беларусі як Дзень Волі, Дзень Незалежнасьці БНР і Дзень Адраджэньня). – *З.П.*



***71. Дзяржаўны гэрб Рэспублікі Беларусь.***

# КУЛЬТУРА І СУВЭРЭНІТЭТ НАЦЫІ

*(Тэзісы)*

1. Паўнавартаснае разьвіцьцё беларускай нацыянальнай дзяржавы (былога Вялікага Княства Літоўскага) было спынена праз дзевяць месяцаў пасьля аб'яўленьня незалежнасьці ў выніку расейскай бальшавіцкай акупацыі (1918 г.) і наступным падзелам Беларусі паміж Польшчай і Расеяй (Рыжская змова 1921 г.). Пад акупацыяй Беларускі народ перацярпеў масавы генацыд насельніцтва, страціў свае тэрыторыі. Палітыка этнацыду і зьнішчэньня нацыянальных каштоўнасьцяў чужымі ўладамі, якая трывала, практычна, на працягу ўсяго ХХ-га стагоддзя, прыввяла да велізарных стратаў у культуры і ў сьвядомасьці беларусаў. Новае нацыянальнае адраджэньне, якое пачалося ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, і аднаўленьне незалежнасьці Беларусі ў жніўні 1991-га паставілі задачу пабудовы беларускай дэмакратычнай дзяржавы і задачу разьвіцьця нацыянальнай культуры.

2. Аднак, зьмена палітычнай сытуацыі ў Беларусі (1994 г.), прыход да ўлады пры падтрымцы КГБ прамаскоўскіх групаў новай намэнклятуры і ўсталяваньне антыбеларускага дыктатарскага рэжыму прывялі да рэанімацыі савецкай антынацыянальнай палітыкі. Ліквідацыя беларускай культуры становіцца палітычнай справай рэжыму. Тым часам разьвіцьцё і абарона нацыянальнай мовы і культуры робяцца апазыцыйнай дзейнасьцю.

3. Нягледзячы на вострую неспрыяльнасьць абставінаў, нацыянальная культура мусіць ня толькі выжываць, але і разьвівацца.

Складанасьць у тым, што аднаўленьне разбуранай культуры вымагае дзяржаўнай падтрымкі. У Беларусі падтрымкі няма, існуе супрацьдзеяньне.

Нацыянальная культура, разьвіцьцё якой штучна стрымлівалася, мусіла б потым разьвівацца паскоранымі тэмпамі. Паскоранае разьвіцьцё адбываецца па вызначаных правілах і заканамернасьцях. Культурны працэс абавязкова павінен паскорана (часам пункцірам) прайсьці ўсе прапушчаныя (альбо разбураныя) этапы.

Гэта аб'ектыўны і нялёгкі шлях, бо сьвет навокал зьмяніўся. Пачаўся крызіс эўрапейскай (і ў цэлым сусьветнай) культуры. У той жа час неабходна сцьвярджаць і аднаўляць ужо пройдзенае цывілізацыяй, без якога немагчымы далейшы нацыянальны поступ.

4. Аб'яднаць і падтрымаць паскораныя тэндэнцыі культуры ў новых абставінах мусіць нацыянальная дзяржаўная палітыка.

Роля дзяржавы і сувэрэнітэту нацыі на першых этапах станаўленьня і адраджэньня культуры ёсьць вельмі вялікая і ў цэлым вызначальная. Тым часам за апошнія 20 гадоў (што супадае з новым беларускім Адраджэньнем) сьвет набыў новыя якасьці. Разьвіцьцё хуткаснай камунікацыі (паветраны транспарт) і інфармацыі (Інтэрнэт), масавы рост міграцыі, зьмяненьне характару фінансавых і гандлёвых дачыненьняў – усё гэта вядзе да больш сьцiслых і рознабаковых сувязяў паміж краінамі і людзьмі, спрыяе ўтварэньню новай плянэтарнай супольнасьці (кантынэнтальнай, цывілізацыйнай і г.д.). У гэтых умовах надзвычай узрастае роля культуры як важнага чыньніку сувэрэнітэту краіны. Сувэрэнітэт вызначае ня толькі нацыянальная мяжа, але і нацыянальная культура.

6. Сувэрэнітэт культуры абазначае, перш за ўсё, сувэрэнітэт сьвядомасьці і ўсяго духоўна-інтэлектуальнага запасу асобы, гэта значыць ірацыянальны (мэнтальны) прыярытэт нацыянальных каштоўнасьцяў, асабліва ў сфэры вызначальных катэгорыяў (мова, літаратура, музыка, традыцыі і г.д.).

Сувэрэнітэт культуры дае грунт для кожнага народа існаваць, як сусьветная нацыя, інтэгравацца ў сусьветную супольнасьць, пазьбягаючы асіміляцыі, захоўваючы дзяржаўнасьць і самадастатковасьць.

Страта народам культурнай тоеснасьці, нацыянальнай мовы і прыналежнасьці да сваёй культуры прывядзе ў сучасным сьвеце да страты дзяржаўнага сувэрэнітэту краіны. (Людзі, адарваныя ад нацыянальнай культуры, не ствараюць нацыянальнай дзяржавы.) Нацыя ня зможа рэалізаваць тады сваю прысутнасьць у сьвеце.

Кажучы вобразна, яна ператвараецца тады ў другасны прадукт чужога існаваньня. Яна звужаецца толькі ў сваіх межах, якія ўсё больш і больш будуць размывацца гэтым „другасным прадуктам", паралізуючы нацыянальную дзейнасьць і патрэбы агульнай справы.

7. На сёньняшні дзень побач з задачай ліквідацыі пагрозы беларускай незалежнасьці, якая зыходзіць ад пуцінскай Расеі, і побач з задачай ліквідацыі антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі, найважнейшай справай зьяўляецца культурна-нацыянальная асьвета грамадзтва і абарона беларускай культуры (найперш мовы). Трэба мець на ўвазе, што палітыка этнацыду і вынішчэньня нацыянальных каштоўнасьцяў, якую праводзіць прамаскоўскі рэжым на Беларусі, носіць сістэмны характар, яна рацыянальна распрацаваная і цягнецца пасьлядоўна, зь дня ў дзень і крок за крокам.

Зьмена палітычнай улады і беларускае пазытыўнае дзеяньне могуць спыніць разбуральны працэс і вярнуць нацыю на шлях здаровага культурнага разьвіцьця.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*7 верасьня 2006 г.*

# РАСЕЙСКУЮ ПАЛІТЫКУ НА БЕЛАРУСІ ТРЭБА ЛІКВІДАВАЦЬ

***(Выступ на верасьнёўскім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Скарочана)***

...Тое, што пуцінская Масква пастаянна хоча навязаць незаконны рэфэрэндум Беларусі аб „канстытуцыным акце" „папяровай дзяржавы", не выклікае ўжо сумненьняў. Але, на маю думку, упэўненасьці ў посьпеху сваёй афёры яны ня маюць. Складваецца ўражаньне, што цяпер яны „вывучаюць становішча", назіраюць за рэакцыяй беларускага грамадзтва, стараюцца ацаніць, якое будзе супраціўленьне. Нават за мяжой заўважаная іхняя актыўнасьць – цікавяцца настроямі эміграцыі. Сытуацыя выяўляе тыпова крымінальны кшталт канфлікту: галоўнае разыходжаньне – ня могуць дамовіцца аб цане здачы Беларусі. Адсюль зноў газавы шантаж Лукашэнкі.

Беларускі народ яны не прымаюць пад увагу. Яны глядзяць на беларусаў гэтак жа, як на расейцаў, і думаюць, што гэта – натоўп, які стварэньнем энэргетычнага крызісу можна паставіць на калені і ўзяць голымі рукамі.

Гэтая палітыка ёсьць грубая (хоць і прыхаваная) агрэсія супраць незалежнасьці Беларускай дзяржавы. Тут наўпрост парушаецца п. 3 Будапэшцкага Мэмарандуму 1994 года аб гарантыях сувэрэнітэту Беларусі. Вядома, ніхто з нашых прыяцеляў ня стане паміраць за Беларусь (успомнім Гданьск 1939 года), тым больш, што вайна вядзецца халоднымі мэтадамі. Але вайна ёсьць вайна – на карту ставіцца самае галоўнае: незалежнасьць дзяржавы і лёс нацыі.

Калі б незаконны рэфэрэндум усё ж навязалі Беларусі і калі б галасаваньне праводзілася сумленна (што на справе выключана), то цяпер беларусы ніколі не прагаласавалі б за гэты антынацыянальны „канстытуцыйны акт". Таму зразумела, што Крэмль-Лубянка і рэжым разьлічваюць толькі на фальсіфікацыю.

Тэарэтычна, аднак, магла б узьнікнуць сытуацыя, калі маскоўцы, шантажуючы газам і іншымі сродкамі прымусу, вымусілі б саўдзельніка пагадзіцца на рэфэрэндум, ня даўшы яму ніякіх гарантыяў самазахаваньня і вярхоўнай улады ў Расеі (хаця вядома дакладна, што ніякія „гарантыі" маскоўцаў нічога ня значаць). І тады „саўдзельнік" мог бы „чэсна" ўспомніць пра законнасьць і дэмакратыю, правесьці нармальнае галасаваньне і пахаваць мары Пуціна пра вечнае панаваньне ў Крамлі. Шансы Лукашэнкі на расейскі прастол узрасьлі б, і якраз на тых умовах, на якіх ён і хоча прадацца.

Масква спадзяецца на вечную сваю тактыку ашуканства, вераломства і на гвалт. Гвалтаўнікі, аднак, могуць ашукаць адзін аднаго. Але нельга дапусьціць, каб яны прынізілі і ашукалі цэлы народ.

Беларусам трэба абапірацца на Канстытуцыю і на „Акт аб Незалежнасьці Беларусі", прыняты Усебеларускім Зьездам 29 ліпеня 2000 года. Гэта ёсьць самыя важныя дакументы ў нашай рацыі.

***Зянон Пазьняк***

*Верасень 2006 г.*


(Фота са старонкі парафіі)

***72. Першая камунія ў парафіі сьв. Яна Хрысьціцеля ў Менску.***

# КАНФЛІКТ НА МАСКОЎСКАЙ ДАРОЗЕ

Казуліна засудзілі канчаткова. Пяць з паловай гадоў – абсалютна несувымерны прысуд за дробнае парушэньне (разьбіў партрэт Лукашэнкі ў міліцыі. Астатнія абвінавачваньні несур'ёзныя і цалкам палітыканскія.). Максімум, што па закону маглі б прысудзіць Казуліну, – гэта 15 сутак арышту альбо штраф. Але атрымаў неверагодны тэрмін.

З гэтай нагоды я хацеў бы нагадаць пэўным асобам у Беларусі некалькі істотных палажэньняў.

Людзі, якія ўваходзяць у палітыку з жаданьнем лёгка навесьці там парадак, павінны ведаць як мінімум два правілы.

***Правіла агульнае:***

Палітыка ёсьць найвышэйшая і асаблівая грамадзкая сфэра дзейнасьці людзей, дзе трэба быць **палітыкам**. Калі ім ня быць, то ні розум, ні адукацыя, ні грошы, ні навуковыя званьні не дапамогуць.

(У палітыцы, дарэчы, нямала абмежаваных і малаадукаваных людзей, неінтэлектуалаў і псіхічна непрадказальных, якія няблага, тым ня менш, спраўляюцца са сваімі, на іх думку, галоўнымі задачамі – ўтрыманьнем пасады і ўплыву на грамадзтва.)

***Правіла дастасаванае:***

Ніколі беларускія нацыянальныя інтарэсы не дасягаліся, не дасягаюцца і ня будуць дасягацца пры дапамозе Расеі і расейскай палітыкі. Бо гэта супярэчыць прыродзе дачыненьняў.

Пяцісотгадовая вайна паміж Масковіяй і Літвой (Беларусяй) была вайной цывілізацыйнай і не на жыцьцё, а на сьмерць. (Паўтаруся: гэта не канфлікт інтарэсаў, гэта вайна на сьмерць.) Па ўсіх плянах, дэклярацыях, дактрынах і дзеяньнях расейцаў, іхняга царызму, бальшавізму, сацыялізму, гэбізму-пуцінізму мы, ліцьвіны-беларусы, павінны зьнікнуць з палітычнай і культурнай мапы сьвету. Расейцы адкрыта і нястомна і ўвесь час пра гэта кажуць (а гісторыя вынішчэньня пацьвярджае).

Беларусы, якія ідуць у палітыку і ігнаруюць гэтую прыроду рэчаў, як правіла, у выніку прыносяць шкоду Беларусі і асабіста сабе. Бо наіўнымі і абсурднымі ёсьць думачкі скарыстаць расейцаў (і найперш расейскія грошы) супраць прарасейскага Лукашэнкі (у той час, калі ён патрэбны Расеі).

Тым часам НКВД-КГБ-ФСБ ад сваіх мэтадаў ніколі не адступаецца: скарыстаць наіўнячкоў і, пасьля зрабленьня імі справы, „выплюнуць" іх (а калі ўзьнікнуць „праблемы", то і забіць).

Лёсы Карпенкі, Ганчара, Чыгіра, Марыніча, Казуліна нічаму, аднак, не навучаюць. Аматары сыграць у „апазыцыю" і абдурыць маскоўцаў на мякіне не пераводзяцца. У выніку – абдурваюць самых сябе, бо сьляпы не заблудзіць відушчага.

У дачыненьнях з Расеяй (дакладней, у вечным канфлікце з Расеяй) ёсьць два шляхі – гэта дарожка Лукашэнкі (прамаскоўская палітыка) і – шлях нацыянальна-незалежніцкі (палітыка Беларускага Адраджэньня). Іншых шляхоў („трэціх", „чацьвертых" і т.п.) не існуе. Казулін, Карпенка, Чыгір, Ганчар, Марыніч і іншыя хадзілі дарожкай Лукашэнкі супраць Лукашэнкі (які, паўтараю, Маскве выгадны). У выніку гэтыя асобы былі скарыстаныя ў маскоўскіх палітычных інтрыгах на Беларусі і потым (пасьля выкарыстаньня) кінутыя на волю лёсу (дакладней, на волю Лукашэнкі) альбо зьнішчаныя.

Аналізуючы выказваньні гэтых людзей і датычных да іх (В. Лявонава, А. Мілінкевіча і г.д.), відаць, што ніхто зь іх па сутнасьці глыбока не ўсьведамляе падзеяў і зьместу расейска-лукашэнкаўскай палітыкі. Ніхто не зьбіраецца адмаўляцца ад „дарожкі Лукашэнкі" ў нібыта „змаганьні" з Лукашэнкам. Ніхто не гатовы ісьці дарогай барацьбы супраць расейскай антыбеларускай палітыкі, стаць на нацыянальна-незалежніцкі шлях Беларускага Адраджэньня. Бо гэта ня тыя людзі.

Гэта добра ілюструе, дарэчы, нядаўняя *(20.09.2006)* заява А. Казуліна. Тут поўна пустых прапановаў і пустапарожніх фраз пра „правы чалавека", „рэжым" і „аб'яднаньне" ўсіх супраць рэжыму, апэляцыя да Захаду і г.д. Але ні слова няма пра галоўнае: пра лёс Беларускай незалежнасьці перад палітычнай і эканамічнай агрэсіяй Расеі, пра тое, супраць чаго і за што беларусам трэба змагацца, каб захаваць сваю дзяржаву, мову, культуру, народ і незалежнасьць.

Пішацца, што „А. Лукашэнка разьвязаў халодную грамадзянскую вайну супраць свайго народа", але не гаворыцца, у чым жа сутнасьць гэтай вайны. Бо і фармулёўка няправільная. Не „грамадзянскую вайну" вядзе Лукашэнка, а антынацыянальную, антыбеларускую, (па прыкметах тыпова акупацыйную са зьнешнімі палітычнымі прывязкамі), перасьледуе нацыянальную беларускую моладзь, нацыянальныя сымвалы, мову, культуру, фальсіфікуе нацыянальную гісторыю, зьнішчае нацыянальную літаратуру, нацыянальную навуку, нацыянальны беларускі друк, беларускі інтэрнэт, ліквідуе беларускую школу і выкладаньне па-беларуску, публічна зьдзекуецца з нацыянальнай мовы і блюзьнерыць над памяцьцю Васіля Быкава і Францыска Скарыны.

Гэта ашаламляльная зьява ў XXI стагоддзі. Прамаскоўскай уладай у Беларусі і ад імя ўлады праводзіцца агрэсіўная палітыка этнацыду і вынішчэньня беларускай культуры. Робіцца гэта адкрыта і нахабна. Але маўчаць тут вандроўнікі па маскоўскіх сьцежках, і нічога ня піша Казулін.

Чаму яны маўчаць? Таму што яны самы русіфікатары, якія канфліктуюць з Лукашэнкам па непрынцыповых для нацыі пытаньнях.

***Не бывае дэмакратыі без нацыі і не існуе дэмакратыя без незалежнай дзяржавы.*** Дэмакратыя ёсьць зьява вытворная ад нацыі і дзяржавы. Тым часам цяпер беларуская нацыя і незалежнасьць пад пагрозай зьнішчэньня.

Дык чаму яны ўвесь час гучна плачуць па валасах, трацячы галаву? Таму што гэты лямант зацямняе людзям розум і адводзіць ад разуменьня галоўнай небясьпекі. Масква ўмела падтрымлівае і накіроўвае гэтую палітычную дэмагогію. Гэбэ падтрымлівае – Караганаў (выраблены вораг беларушчыны) занепакоены, бачыце, дэмакратыяй і „правамі чалавека" (русскіх обіжают) на Беларусі.

Дыктатура, этнацыд, інкарпарацыя ёсьць узаемазьвязаныя зьявы. Таму відавочна, што русіфікатары ня могуць мабілізаваць нацыю на барацьбу з дыктатурай, якіх бы філіпік супраць яе яны ні ўжывалі. Урэшце рэшт яны стануць, як і рэжым, душыць беларускую мову, Беларускую нацыянальную ідэю і Беларускае Адраджэньне. Некаторыя з такіх „дэмакратаў" займаюцца гэтым даўно.

Фальшывыя адносіны да Беларусі і незалежнасьці добра выяўленыя ў наступных словах з заявы Казуліна: „Мы своевременно не смогли оценить свою свободу: в 1991 году мы ее, как и независимость страны, получили без борьбы, словно подарок с небес."

Вось у гэтым і ўся гнюснасьць такіх „дэмакратаў". Напляваць ім на ўсё нашае змаганьне, на ўсе лёсы нашых змагароў, якія яны

– нашы героі – паклалі на алтар Беларусі, волі і незалежнасьці; начхаць ім на ўсю нашу нялёгкую барацьбу за незалежнасьць і на ўсё нашае пакаленьне, якое вярнула сабе і ўсім незалежную Беларусь, волю, мову і гісторыю; начхаць на ахвяры, на страты і пакуты, на сьмерць і эміграцыю і на вялікую нашу перамогу, якой можам ганарыцца ня толькі мы, яшчэ жывыя яе ўдзельнікі, але і ўся Беларусь. Ім напляваць. Яны паўтараюць рэжымныя лукашысцкія прыдумачкі для цяперашніх людзей, што „незалежнасьць звалілася зь неба". Але папярэдне лукашысты вытапталі ўсё, што можна, усе веды пра барацьбу Беларускага Народнага Фронту і пра вяртаньне незалежнасьці, пра гераічнае змаганьне дэпутацкай Апазыцыі БНФ у парляманце за свабоду і сувэрэнітэт Беларусі, ліквідавалі афіцыйную дакумэнтацыю, інфармацыю, друк і нават людзей, зацямнілі і замаўчалі яшчэ помныя і нядаўнія падзеі, наклалі табу на ўспамін аб нацыянальнай рэвалюцыі ў жніўні 1991 года, калі была вернута незалежнасьць, і аб наступным змаганьні.

Чаму такія людзі, як Казулін, паўтараюць цяпер гэтую прымітыўную антыбеларускую прапаганду пра незалежнасьць „без борьбы" (за якую на справе цэлыя пакаленьні беларусаў аддалі тысячы жыцьцяў)? Яны ж не маладзёны – ўсё памятаюць і ведаюць. А паўтараюць таму, што былі не на нашым, не на адраджэнскім баку. Бо падтрымлівалі расейскую КПСС ды ВЛКСМ, ды Маскву, ды Ельцына, ды КГБ, а некаторыя такія, як Лябедзька, Булахаў, Ганчар, Сініцын, Паўлаў і іншая партыйна-камсамольская намэнклятура (Фядута і т.п.) выступілі адкрыта супраць незалежнасьці і падтрымалі потым Лукашэнку.

Так што нічога дзіўнага ў фармулёўках Казуліна няма. Ён адпаведны сам сабе.

Што датычыць асобы грамадзяніна Казуліна і яго незаконнага асуджэньня на несувымерны тэрмін, то я цалкам далучаюся да тых, хто патрабуе ягонага вызваленьня і перагляду справы, выказваю спачуваньне ягонай сям'і.

Адказнасьць за помсьлівасьць, жорсткасьць і выкарыстаньне судовай машыны супраць гэтага чалавека нясе, безумоўна, Лукашэнка. Думаю, што прыйдзе час, і кожны адкажа за сваё. Судзімасьць з А. Казуліна будзе зьнятая, а пакуты кампэнсаваныя за кошт судоў і суддзяў, што тварылі беззаконьне.

У вольнай беларускай дэмакратычнай дзяржаве, перш за ўсё, будуць адноўленыя законнасьць і справядлівасьць.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*22 верасьня 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2006, №4 (58); („Беларус",– 2006, кастрычнік, № 525)*

# АДКАЗНАСЬЦЬ І САЛІДАРНАСЬЦЬ

Нядаўна ў адной з дыскусіяў у Інтэрнэце, датычнай публікацыі ў часопісе „АРХЭ" матэрыялаў пра зьбіцьцё ў залі парляманту дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліаньня, Сяргей Навумчык выказаў такія меркаваньні:

«З самага пачатку мяне насьцярожыла просьба даць ацэнкі калегам па парляманцкай Апазыцыі. Асабістыя ацэнкі Пазьняку, Голубеву, Баршчэўскаму, Садоўскаму, Беленькаму, Папкову, Трусаву і іншым калегам па Апазыцыі БНФ лічу магчымым даваць толькі пасьля таго, як у грамадзкай сьвядомасьці гэтыя асобы зоймуць месца, належнае палітыкам, якія аднавілі Незалежнасьць дзяржавы і якое падобныя пэрсоны звычайна займаюць у іншых краінах. Вось калі гэтыя асобы будуць палітычна кананізаваныя, калі зьявяцца на паштовых марках ці грашовых купюрах – тады можна будзе напісаць, хто мог занадта імпульсіўна паспрачацца, хто быў занадта патрабавальны, хто менш, хто мог выпіць лішнія сто грамаў і г.д. Ва ўсялякім разе, пакуль гэтыя людзі абліваюцца брудам і ў афіцыйным друку і ў неафіцыйным – ніхто не пачуе ад мяне ні слова адносна іх асабістых якасьцяў.»

Думкі, якія сфармуляваў Сяргей Навумчык – гэта вельмі правільная і разумная пазыцыя ў існуючых абставінах. Мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII склiканьня, мусім памятаць пра сваю адказнасьць перад гісторыяй, адзін перад адным і перад справай, якая воляю лёсу стала галоўнай ў нашым жыцьці. Мы павінны разумець, што абплёўваньне, паніжэньне і затоптваньне нашай дзейнасьці ёсьць адна з прыярытэтных задачаў антыбеларускага рэжыму, якая робіцца (і будзе рабіцца) рознымі мэтадамі і рознымі людзьмі.

Ніхто лепш за нас ня ведае Лукашэнку і усю гэтую публіку з нашага Вярхоўнага

Савета, якая служыць цяпер рэжыму ды прыкідваецца „дэмакратамі". Ня будзем губляцца перад ціскам, словаблудзтвам, паніжэньнем і хлусьнёй. Нашая салідарнасьць, пачуцьцё абавязку і ўсьведамленьне сваёй ролі павінна быць вышэй. Кожны рэжым мае свой канец. Скончыцца русіфікацыя і цемрашальства, вернецца павага і справядлівасьць. І нішто добрае, сьветлае, справядлівае не загіне.

***Зянон Пазьняк***

*30 верасьня 2006 г.*
*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2006, №4 (58).*

* * *

*Жабрак папрасіў на Брадвэі.*
*„Нават у яго – вольная Бацькаўшчына", –*
*Падумаў я.*

*1999 г.*

# МЫ ВЕДАЕМ, ШТО НАМ РАБІЦЬ

***(Выступ на кастрычніцкім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". Скарочана )***

...Галоўная падзея цяперашняга моманту – эскалацыя маскоўскай палітычнай агрэсіі на Беларусі і насіленьне масавых рэпрэсіяў супраць беларускай моладзі. Выразна відаць, як рэжым сістэмна фашызуецца і вяртаецца да палітыкі Сталіна і рускага НКВД 20-30-х гадоў, гэта значыць да палітыкі масавых рэпрэсіяў супраць беларусаў. Узмацняюцца рэпрэсіі супраць беларускіх элітаў, і найперш – моладзі. Людзей хапаюць без прычыны па ідэёвай прыкмеце і потым, ужо пад арыштам, прыдумваюць прычыну.

Пра такое разьвіцьцё сытуацыі мы гаварылі яшчэ дзесяць гадоў таму. Калі ня весьці рашучай і пасьлядоўнай барацьбы і калі беларускае грамадзтва будзе жыць толькі страхам перад акупантамі і не зразумее, што яго зьнішчаюць (і не зразумее, за што яго зьнішчаюць), – працэс можа скончыцца забойствамі і калючым дротам у чарнобыльскай зоне.

На фоне антыбеларускіх рэпрэсіяў і нематываваных арыштаў беларускай моладзі апошнія філіпікі Лукашэнкі перад расейскімі журналістамі супраць сваіх жа расейскіх хаўрусьнікаў (заявы, што ён, маўляў, Беларусь ня здасьць) выглядаюць няшчырымі і адразу выяўляюць фальшывы, прыватны інтэрас заяўніка. Ён думае, што прыватызаваў Беларусь, што можна яе ў саюзе з Масквой вынішчаць і адначасна крычэць: „Чур, ня трожця, маё!"

Так у лапідарнай форме выглядае сытуацыя і лёгіка разбойнікаў.

Скончыцца гэта, як звычайна, кампрамісам разбойнікаў і пагаршэньнем жыцьця беларусаў, якія сталі закладнікамі гэтых хаўрусьнікаў.

Цяпер і разыгрываецца якраз на Беларусі (у каторы раз) тыповая сытуацыя з закладнікамі.

Пытаньне наступнае. Як паводзіць сябе, калі два нашыя ворагі змагаюцца між сабой за права нас душыць?

У пазыцыйным змаганьні ***тут ёсьць толькі адзін шлях – адкрыта змагацца супраць абодвух (бо абодва нішчаць нас).*** Усялякі тактычны выбар паміж бакамі тут памылковы і шкодны, бо абавязкова прывядзе да расколу грамадзтва і самазьнішчэньня. Ворагі, змагаючыся між сабой, будуць нішчыць нас нашымі ж рукамі (што і адбываецца).

Часовую зьмену нашай тактычнай пазыцыі можа выклікаць толькі вайна, калі ўступае ў сілу канстытуцыйны закон аб абавязку абароны Бацькаўшчыны. Калі б, скажам, пуцінская Расея зрабіла б на Беларусь збройны напад (што не выключаецца) і пачала б вайну супраць Беларусі, тады адзінства грамадзтва ў абароне дзяржавы і народа абавязковае, ня гледзячы ні на які рэжым. Бо памятайма: усе праблемы дыктатуры, дэмакратыі, мовы, правоў чалавека, бяспраўя, культуры, злачынства ды пакараньня тут жа зьнікнуць і ня будуць мець ніякага значэньня, калі мы страцім незалежнасьць нашай дзяржавы, бо тады ня тое, што гэтыя „праблемы", – само нашае існаваньне і мы самы будзем ператвораны ў гістарычную гразь, якую вечны мангол будзе вечна мясіць капытамі.

Калі ж абаронім і захаваем дзяржаву, незалежнасьць і Бацькаўшчыну, тады са сваімі ўнутранымі праблемамі мы рана ці позна справімся. Ніякая дыктатура не існавала і не існуе вечна, але шмат якія народы зьніклі з твару зямлі, калі страцілі сілу.

Мяркуючы па паводзінах пуцінскіх расейцаў на Каўказе і зважаючы на мэтады рускай палітычнай агрэсіі супраць Грузіі, мы павінны ўлічваць магчымасьць разьвіцьця самага змрочнага маскоўскага сцэнару супраць Беларусі.

Мы і ўсё нашае грамадзтва мусім быць спакойна падрыхтаваныя да гэтага, каб агрэсар скруціў бы тут сваю галаву. Палітыка расейскага гэбізму небясьпечная для міру і народаў, але яна беспэрспэктыўная для самой Расеі і наблізіць яе імпэрскі канец. Канец імпэрыі адчыніць новую эру для вольных народаў.(...)

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*8 кастрычніка 2006 г.*

# ПАВЯРТАНЬНЕ БЛУДНАГА СЫНА

Вясной гэтага года перад выбарчай акцыяй аб трэцім тэрміне Лукашэнкі Пуцін некалькі разоў казаў Лукашэнку пра неабходнасьць «канструктыўнасьці» беларускай «апазыцыі». Ніхто на гэта не зьвярнуў увагі, хаця паўторы выказваньняў у палітыцы сьведчаць аб намерах. Ужо летам мы ўбачылі (а цяпер асабліва) адкрыты паварот найбольш прамаскоўскай часткі вікаўскай апазыцыі (камуністы, АГП і інш.) на крамлёўскую арыентацыю.

М. Статкевіч тут жа агучыў сакрэт Палішынэля: Масква, напісаў ён, выдзеліла вялікія грошы на «дзейнасьць» гэтай «апазыцыі». Калі сказаць проста, то Крэмль рашыў цалкам перакупіць гэтых «дзіўных людзей» у Захада і кіраваць спэктаклем непасрэдна. Для Беларусі ўсё гэта ёсьць акт нацыянальнай брыдоты. Пачаўся раскол палітычнай антрэпрызы. Аднак за эмоцыямі і хваляваньнямі «дзіўных людзей» выразна відаць інтарэсы. І Крэмль, і рэжым у Беларусі вырашылі зьмяніць характар сваёй «апазыцыі» – зрабіць яе ўжо адкрытай і адавочнай часткай сваёй палітычнай сістэмы. Такім чынам павінна б была заваліцца заходняя палітыка, абапертая на «правах чалавека», «зьніклых» і г.д. Абодва рэжымы пашырылі б дарогу пранікненьня на Захад і ўмацавалі б свой абсалютызм. Сродкаў на такія пэрспэктывы вырашылі не шкадаваць. У «апазыцыі» тут жа пачалося «бражэньне».

Для ілюстрацыі гэтых намераў правяду вытрымкі з нядаўняга інтэрв'ю У. Нісьцюка (БСДП ГРАМАДА), зьмешчанага ў Сеціве агенцтвам Белапан (18 кастрычніка 2006 г., «Навіны»). Уладзімер Нісьцюк сказаў:

«Галоўнай памылкай усёй беларускай апазыцыі на працягу апошніх дванаццаці гадоў зьяўляецца тупое жорсткае супроцьстаяньне ўладзе па любых аспэктах і страта шансаў на ператварэньне яе ў частку палітычнай сістэмы краіны (...). Пад-

трымка радыкальнай, ці як шмат хто, а ня толькі Лукашэнка, яе называюць, нацыяналістычнай апазыцыі супярэчыць мэнталітэту беларускаў нацыі. Нам з вамі (?) прыдзецца пачынаць усё з пачатку, таму што стаўка была зроблена не на тых. Беларусы могуць зразумець толькі таго, хто гаворыць на зразумелай ім мове, нават калі гэта проста сумесь беларускай з рускай, і пра зразумелыя рэчы. Такія людзі ёсьць у нашай партыі, гэтак жа і ў іншых палітычных і грамадзкіх структурах. Мы не заклікаем скідаць уладу, сёньня мы ня ў стане гэта зрабіць. Мы павінны паспрабаваць узаемадзейнічаць зь яе канструктыўным складнікам у імя пабудовы будучыні нашай краіны.

Наша партыя гатова выставіць на выбары ў мясцовая Саветы, якія адбудуцца ў студзені будучага года, больш за сто кандыдатаў (гэта на больш чым дваццаць тысячаў месцаў. – *З.П.*). Мы былі б вельмі ўдзячныя за дапамогу эўрапейскім інстытутам і брацкім партыям Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу ў падтрымцы гэтых людзей (...). Узьнікае неабходнасьць прынцыпова зьмяніць стратэгію і тактыку дзеяньняў дэмакратычных сілаў унутры краіны. Бачыцца неабходным прапрацаваць і ініцыяваць правядзеньне «круглага стала» (...), трэба зьмякчыць пазыцыю ў адносінах да улады з боку цэнтрысцкіх і левых дзеючых партыяў з пэрспэктывай пераходу іх ў канструктыўную апазыцыю.» (Канец цытаты. Але цынікі!)



***73. Тыповая Менская карцінка.***

(Фота з Сеціва)

Новая маскоўская схема прадугледжвае ня толькі пераліцоўку вікаўскай апазыцыі ў «канструктыўную» (лубянскую) апазыцыю, але і называньне (прыпячатаньне) усіх беларускіх нацыянальна-арыентаваных дэмакратычных сілаў «радыкальнымі», «экстрэмісцкімі», нацыяналістычным «атрэб'ем» і г .д. Працэс стварэня такога ўражаньня і нацыянальнага перасьледу пачаўся з восені гэтага году (рэпрэсіі супраць беларускай моладзі, прыдумваньне крымінальных справаў пра «тэрарызм» і г. д.).

Яшчэ на адзін аспэкт варта зьвярнуць ўвагу ў гэтай непрыгожай валтузьні «дзіўных людзей». Падстаўная апазыцыя, «круглыя сталы» з рэжымам «перагаворныя працэсы» і т. п. ініцыяваліся і ствараліся былымі паплечнікамі Лукашэнкі і агентурай (празнаньне Г. Віка). Цяпер, калі спушчана задача ўдакладненьня арыентацыі і пераліцоўкі гэтыя людзі тут як тут; Лябедзькі, Калякіны, Нісьцюкі адразу загаварылі на сваёй мове і пра «мэнтальнасьць», і пра «беларускую мову» (прычыну ўсіх няшчасьцяў «дэмакратыі»), і пра «канструктыўную» уладу. Варта пачытаць ўсё інтэрв'ю У. Нісьцюка, дзе ён не проста ўзьвялічвае Лукашэнку, а панегірыкі сьпявае, акурат як некалі, у 1996 годзе (мне гэта добра запомнілася). Гэтыя людзі, што працуюць у «апазыцыі», ня маюць ніякага дачыненьня да дэмакратыі і, тым больш да беларускага нацыянальнага Адраджэньня, да змаганьня за волю, шчасьце і нацыянальную будучыню Беларусі.

Практычна нічога пранцыпова новага не адбываецца. Палітычна арыентаваныя беларусы добра ведаюць сутнасьць і цану гэтай эксклюзыўнай «апазыцыі». Нікога ўжо ня зьдзіўляе іхны адкраты паварот да Масквы і тым больш да Лукашэнкі. Пачакайма, мы яшчэ станем сьведкамі камэдыі павяртаньня блуднага сына. Вернецца, калі напакасьціць шмат і спрафануе ўсё. Толькі ўсё спрафанаваць ня ўдасца. Ёсьць сіла ў Беларусі. І калі яна ўзмацнее, ад гэтага рэжыму месца мокрага не застанецца.

***Зянон Пазьняк***

*19 кастрычніка 2006 г.*
*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць”, www.bielarus.net; www.pbpf.org);*

Гэтыя

*Калі я казаў пра нішчэньне Айчыны,*
*Вочы іх былі спакойныя,*
*Нібы гладзь вады.*

*2004 г.*

# СЫМВАЛЫ

Лукашысты, якія сьцінулі Гэрб і парвалі Беларускі сьцяг, зрабілі злачынства перад нацыяй. Злачынства, якое вымагае *абавязковага пакараньня*.

На нацыянальныя каштоўнасьці мусіць быць адзіны агульны погляд і адзінае ўсьведамленьне зьявы. Калі гэтага няма – нацыя ў бядзе. Ужо толькі па гэтай прыкмеце можна сцьвярджаць пра нацыянальную бяду беларусаў. Амаль дзьвесьце гадоў расейскай акупацыі і сістэмнага вынішчэньня беларушчыны не мінаюць бясасьледна. Хвароба каляніяльнага духу сядзіць яшчэ так глыбока, што нават некаторыя адраджэнцы не пазьбеглі яе метастазаў.

Самы кур'ёзны прыклад – гэта ўсхваленьне „трасянкі" (прытым адукаванымі людзьмі). Хаця рэч агульнавядомая, што калі дзе-небудзь у сьвеце назіраецца такая хімерычная моўная зьява, то гэта ёсьць працэс моўнай дэградацыі і адлюстраваньне (абавязкова!) рэгрэсу аўтэнтычнай культуры (існуе дастатковая літаратура і эмпірычны досьвед у гэтым пытаньні).

Аналягічная цераспалосіца і ў дачыненьні да сымволікі. Некаторыя кажуць, што вось і добра, што Лукашэнка забараніў Беларускі Гэрб і Сьцяг. Цяпер усё відаць, дзе хто ёсьць, а то толькі апаганіў бы нацыянальныя сымвалы.

Аднак гэта ня ўся праўда (і, нават, зусім ня праўда). Сэнс сьцягу і гэрбу глыбейшы і сіла большая. Нацыянальныя дзяржаўныя сымвалы не дачасная рэч і не разьменная манета. Яны па-над усім, і нават над часам. Сьцяг веецца і над палітыкай, і над унутранымі канфліктамі, пакуль існуе адзінства дзяржавы і лучнасьць нацыі (гэта значыць, што пакуль існуюць агульныя вечнасныя каштоўнасьці народа, што прызнаюцца ўсімі). Не лукашысты прыдумалі Пагоню і беларускі *Бел-Чырвона-Белы сьцяг*, і не прыдумаў іх *Народны Фронт*. Гэрб і Сьцяг існавалі ўжо сотні гадоў і нарадзіліся ў гісторыі нашага народу. Нацыянальны дзяржаўны гэрб Пагоня і гістарычны сьцяг ніяк не маглі атаясамлівацца зь якім-небудзь палітычным рэжымам і нават з палітычнай сілай, якая іх адрадзіла і ўзьняла. (Пасьля зацьвярджэньня нацыянальнага Беларускага сьцяга і Пагоні ў якасьці дзяржаўнага сьцяга і гэрба Рэспублікі Беларусь *Народны Фронт* на ІІІ-м Зьезьдзе ў 1993 г. прыняў асобны Сьцяг БНФ – трохканцовае трохпалоснае бел-чырвона-белае палатно з шасьціканцовым крыжам на ўсю шырыню – і дзьве гэрбавыя эмблемы: Вялікую эмблему з выявай Пагоні і Малую – з выявай шасьціканцовага крыжа Пагоні)

Нацыянальны дзяржаўны *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня* лучацца з усёй беларускай нацыяй і адлюстроўваюць існаваньне незалежнай Беларускай дзяржавы.

Калі б усе гэтыя цяжкія гады Беларускі сьцяг і гэрб Пагоня існавалі ў якасьці дзяржаўных сымвалаў, яны б культурна і дзяржаўна дапамагалі кансалідаваць нацыю, падымалі б ў беларусаў пачуцьцё гонару і гістарызму нацыянальнага існаваньня і сьведчылі б пра гэта ў сьвеце. Палітычныя канфлікты маглі б нават разьдзіраць грамадзтва, але Беларускі сьцяг веяўся б над усім сымвалам салідарнасьці і нагадваў бы пра адзінства.

Сама гэтая падзея (незаконны фальшывы рэфэрэндум, парваньне сьцяга) ёсьць адлюстраваньнем сутнасьці таго, што адбывалася: уладу ў Беларусі захапілі антыбеларускія прамаскоўскія сілы. Парваньне Беларускага сьцяга ёсьць сымвал іхняй палітыкі ў дачыненьні да Беларусі (этнацыд, закрыцьцё беларускіх школаў, перасьлед мовы, разбурэньне беларускага друку, перасьлед беларускай літаратуры, фальсіфікацыя гісторыі, адчыненьне межаў перад расейскай палітыкай і разьведкай, русіфікацыя, бясправаўе людзей, рэпрэсіі па ідэалягічнай прыкмеце і г.д. – усё, што культурна і этнічна нішчыць і разбурае беларускі народ).

Грубы невук Ціцянкоў, рвучы Беларускі сьцяг на вачах усяго грамадзтва, прадэманстраваў цёмны рытуал паніжэньня народа, які маўчаў. У старажытнасьці такія дзеяньні змываліся толькі крывёй. Цяпер іншыя часы. Але калі нацыя не асудзіць гэты бруд – яна не падымецца (залежнасьць такая: калі падымецца, то і асудзіць).




*74. Пакрытыя сьцягамі. Нью-Ёрк, 2006 г.*

Зразумела, што антынацыянальны рэжым ня мог кіраваць пад Беларускім сьцягам і беларускім Гэрбам. Але мусіць быць зразумела таксама, што для нацыі страта Сьцяга і Гэрба нават у такой акупацыйнай сытуацыі, – гэта ня „добра", а вельмі дрэнна.

Наша Беларуская ідэя, наша Бацькаўшчына, нашыя Сымвалы – цяпер у падпольлі. Тым часам пад афіцыйным чырвона-зялёным сьцягам савецка-маскоўскай акупацыі змушаюць хадзіць нашу моладзь, нашых спартоўцаў і вайскавікоў. Як жа рэалізаваць адзінства нацыі, калі існуюць сымвалы падзелу? Нават на міжнародным футбольным матчы такое ўжо не ўдаецца.

Вельмі важна разумець, што такое дрэнна і што такое добра. У палітыцы няма „пустых паперак", пустых сымвалаў і нават „пустых ідэй". Усё вымагае асэнсаваньня, бо ўсё можа быць скарыстана і ўсё можа перамяніцца. Няма ніводнай ідэі, нават самай бязглуздай, якая б не знайшла пасьлядоўнікаў

(напрыклад, ідэя джынсавай „парцянкі”). Калі ёсьць ружжо – яно некалі можа выстраліць.

Дыктатарскія антынацыянальныя і акупацыйныя рэжымы гэта скрозь пацьвярджаюць. Успомнім першае агульнанацыянальнае палітычнае дзеяньне, першую агульнанацыянальную перамену, якую зрабіла каманда Лукашэнкі, захапіўшы ўладу. Першым дзеяньнем было – ліквідацыя дзяржаўных сымвалаў нацыі – *Бел-Чырвона-Белага Сьцяга* і гэрбу *„Пагоня”*.

Рытарычнае пытаньне: які першы чын мусяць зрабіць беларусы пасьля ліквідацыі прамаскоўскага рэжыму? Адказ зразумелы – вярнуць нацыянальныя сымвалы дзяржавы. За тымі, што будуць здольныя зрабіць такі чын, – за тымі і станецца будучыня. Тут простае назіраньне. Тыя, што гэтага ня зробяць, – тыя працягнуць прамаскоўскую палітыку нішчэньня ўсяго беларускага. Вось што такое Сымвалы нацыі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*24 кастрычніка 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2006, №5 (59)*

# ДЗЯДЫ – СЬВЯТА ВЕЧНАСЬЦІ

***(Ліст да дарагіх землякоў)***

Новае Беларускае Адраджэньне пачалося з Курапатаў і Дзядоў. Гэта сьведчыць пра глыбіню падзеі, якая выявіла працэс адраджэньня нацыянальнага духу. Дзяды несьмяротныя ў духу, і людзі, якія адзначаюць гэтае сьвята, маніфэстуюць існаваньне вечнасьці. Удумаемся, якая высокая сымволіка закладзена ў гэтай зьяве.

Будучыня грунтуецца на павазе да мінулага. Сэнс будучыні абумоўлены веданьнем мінуласьці. Нацыянальнае адраджэньне Вялікага Княства Літоўскага пачалося ў XIX стагоддзі ў новай нязвыклай дагэтуль форме Беларусі. Але не было б ні Адраджэньня, ні Беларусі, калі б нацыянальная ідэя не вынікала і не абапіралася на сваю гістарычную дзяржаўную і народную мінуласьць – на Вялікае Княства.

Стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі – гэта якраз і было аднаўленьне Вялікага Княства Літоўскага ў яго этнічных і тэрытарыяльных межах. Патрабавалася няшмат часу, каб расставіць гістарычныя кропкі над „і”. Але акупацыя і падзел Беларусі паміж акупантамі адтэрмінавалі задачу.

Заўважце, з чаго пачалі акупанты ў першай палове XX-га стагоддзя. Са зьнішчэньня Беларускай ідэі, мовы, сымвалаў і гісторыі.

З чаго пачаў прамаскоўскі акупацыйны рэжым Лукашэнкі? Са зьнішчэньня беларускіх нацыянальных сымвалаў, школы, мовы і гісторыі. Гэтая вайна зь беларускім народам вялася і вядзецца паўсюдна, у тым ліку і ў Курапатах. Для іх (нашых нацыянальных ворагаў) вынішчэньне беларускай гісторыі і культуры ёсьць галоўным дзеяньнем дзеля таго, каб нас не было, каб мы зьніклі з мапы сьвету. То што павінна стаць галоўным для нас, каб адрадзіцца і быць?

Адказ відавочны. Дзяды даюць гэты адказ. І таму Дзяды ёсьць для нас, беларусаў, вялікім нацыянальным сьвятам, якое датычыць душы кожнага чалавека, бо кожны мае продкаў. Не існуе людзей без дзядоў, няма народу без мінуласьці, але ёсьць такія, якім адбілі памяць. Аднак, вы ж бачыце, што чалавек бяз памяці пра свой род не трымаецца сваіх, ён іх не пазнае, ён робіцца духоўна мёртвым для народа.

Маладыя, трымайцеся нашых дзядоў, духоўных і фізычных, трымайцеся сваіх продкаў, шануйце бацькоў, якія пакутуюць, перажываюць за вас, калі вас дыскрымінуюць ў вучэльнях, паніжаюць пад арыштам, у судах за дарагую Бацькаўшчыну, за роднае слова.

У Дзень Дзядоў паклянёмся перад продкамі на вернасьць любімай нашай Айчыне. Дзе б вы ні былі, куды б ні закінуў вас змагарны беларускі лёс (за мяжу вучыцца, ці ў высылку, ці ў акупанцкую турму) – памятайма: Беларусь – перш за ўсё! Ёй нашы думкі, дзеля яе нашае змаганьне, праца і вучоба. Хай паўсюдна гучыць наша беларуская мова, хай веецца наш сьветазарны *Бел-Чырвона-Белы сьцяг*, хай імчыцца Пагоня!

Хай будуць у сьветласьці нашы душы – і Вялікія Дзяды ўспамогуць нас.

Слава Дзядам, што ў вечнасьці! Слава вечнай Беларусі – нашаму Вялікаму Княству, якое ніколі не загіне, пакуль мы жывем.

Верма ў сьветлую будучыню Беларусі, якая стане нашым быцьцём!

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*24-29 кастрычніка 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2006, №5 (59)*

# „ДЗЯДЫ – СЫМВАЛ І РЭАЛЬНАСЬЦЬ

***Сяргей Навумчык, Прага. На тэлефоннай сувязі зь Нью-Ёрку – Зянон Пазьняк, які ў 1988 годзе адкрыў сьвету праўду пра Курапаты:***

„Дзяды – гэта для нас, беларусаў, асаблівае сьвята. Яно зьвязанае з сэнсам і зь вечнасьцю чалавечага існаваньня. У Дзядах праецыруецца народны лёс. Невыпадкова вялікі твор беларускай культуры і рамантычнай літаратуры на польскай мове быў прысьвечаны Дзядам. Я маю на ўвазе твор Адама Міцкевіча. У Дзядах закладзена моцная сымволіка – сымволіка несьмяротнасьці і духоўнага адзінства народа.

Мяне, шчыра скажу, грэе, што новае беларускае Адраджэньне і Народны Фронт пачаліся з Курапатаў і зь Дзядоў. Я бачу ў гэтым добры знак адраджэньня нашага народу і нашай вялікай дзяржавы. І таму ўсё, што робіцца цяпер на Беларусі кепскага, я успрымаю як выпрабаваньне Ідэі, якое трэба вытрымаць, і ў якім трэба перамагчы.

Да добрых сымвалаў трэба ставіцца паважна, бо яны ўздымаюць дух і мацуюць сілу. Тым часам Дзяды – гэта і сымвал, і рэальнасьць адначасна. Курапаты – гэта рэальнасьць, дух неадпомшчаных продкаў; гэта сымвал, ідэя, якая кліча да ўсталяваньня справядлівасьці. Аб'ектыўна гэта так ёсьць.

Таму сёлета я прапанаваў нашай моладзі рабіць прысягу вернасьці Беларусі ў Курапатах, над магіламі неадпомшчаных продкаў. Больш адказнага месца ў нашым народным Мартыралогу і нашай памяці, чым Курапаты, няма. Прысягнуць там, у Курапатах – гэта значыць прысягнуць крывёй. Да гэтай прысягі трэба дасьпець, разумеючы, што здрада крыві недапушчальная без пакараньня, якое ідзе ад дзядоў.

Дзяды – успамагаючыя, і Дзяды – караючыя. Сьвятое месца Курапаты ўжо ўплывае на наш лёс. Паважайма магілы, шануйма продкаў, любем Беларусь!

***Зянон Пазьняк***

*29 кастрычніка 2006 г.*




***75. Рэквіем на Дзяды. Курапаты, 2006. КХП-БНФ.***

# БАЧАНЬНЕ НЕБЯСЬПЕКІ – ПЕРАДУМОВА БАРАЦЬБЫ

***(Выступ на лістападаўскім Сойме. Скарочана)***

## КАНЦЭНТРАЦЫЯ НА АДРАДЖЭНСКІХ ПАЗЫЦЫЯХ

...Мае сэнс толькі тое, што зробім мы самы, беларусы. Нягледзячы на нябачаныя раней нэгатыўныя праявы ў нашым грамадзтве і, не зважаючы на сапсутасьць элітаў, справа не такая ўжо кепская і беспрасьветная пры ўмове, калі ўмацаваць цэнтар нацыянальнай сілы, што стаіць на пазыцыях 25-га Сакавіка і 25-га Жніўня. Такі цэнтар ёсьць. Але трэба яго нарошчваць. Пагроза анэксійнага рэфэрэндуму аб так званым „канстытуцыйным акце" ёсьць галоўнае, што вымушае нас да ўвагі і пэўных дзеяньняў. Але нават незалежна ад гэтага трэба не гуляцца з рэжымам у прафанацыю выбараў, а змагацца зь ім, скарыстаць выбары для кансалідацыі людзей супраць пэрманэнтнага ашуканства народа.

У гэтай справе, як і раней, найбольшую шкоду Беларускаму Нацыянальна-Вызвольнаму Руху будзе рабіць не настолькі „амон" і структуры рэжыму, колькі іхная „апазыцыя". Функцыя тая ж: заганяць людзей на выбары, ствараць бачнасьць выбарчага працэсу. На незаконным рэфэрэндуме аб трэцім тэрміне Лукашэнкі яны агітавалі галасаваць і „сказаць свае „не" Лукашэнку". Цяпер заклікаюць галасаваць, каб „расплюшчыць вочы". Безумоўна, ма павінны даваць ацэнку гэтай паразітнай зьяве ў грамадзтве. Але галоўную ўвагу ў нашай працы і ідэалёгіі трэба сканцэнтраваць на задачах і мэтах нашай барацьбы за вольную Бацькаўшчыну.

Па маіх назіраньнях, кіраўнікі і актывісты гэтай „бізнэс-апазыцыі" апынуліся ў тупіку. Фактычна, ўсе гэтыя людзі выпадаюць з нацыянальнага Адраджэньня Беларусі, бо ўлучаныя ў стратэгічныя праекты чужой палітыкі і сьведама выконваюць неадпаведныя дзеяньні. Паводзіны іхныя ў цяперашніх (як і ў папярэдніх) выбарах цалкам неадэкватныя нацыянальнаму становішчу, якое склалася.

## НЕБЯСЬПЕКА РУСКАГА ФАШЫЗМУ

Цяпер Масква і Лубянка вырашылі, відаць, цалкам узяць пад свой расейскі кантроль лукашэнкаўскую падстаўную апазыцыю (шляхам павялічанага фінансавага датаваньня, каб маніпуляваць ня толькі беларускай палітыкай, але і Лукашэнкам). Псэўдаапазыцыя тут жа пачала разварочвацца на Маскву і нават дзяліцца на больш прамаскоўскіх (камуністы, АГП) і менш прамаскоўскіх.

У гэтай сувязі мушу падкрэсьліць вельмі істотны момант. ***Маскоўскі гэбізм перараджаецца і разьвіваецца ў бок клясычнага фашызму нямецкага ўзору.*** У расейскіх умовах гэта можа вырабіцца ў зьяву значна страшнейшую і больш разбуральную, чым камунізм са сваім гулагам, голадам і рэпрэсіямі. Дзеля гэтага ўжо створаны эканамічны базіс (прыватная ўласнасьць, зьліцьцё прыватнага і дзяржаўнага капіталу) аналягічны як у Нямеччыне 30-х гадоў. Тое ж і ў палітычнай структуры Расеі. КГБ, трымаючы абсалютную ўладу ў імпэрыі, займае ў сістэме тое ж месца (толькі больш унівэрсальнае), якое займалі „СС" і „Гестапа" ў гітлерскім „райху".

Слабасьць рускага гэбізму ў адсутнасьці ўсеагульнай ідэалёгіі (якую меў якраз камунізм). Але мы бачым, што ***абсалюты-***

***зацыя карпаратыўнай улады ў Расеі і пошукі дзяржаўнай ідэалёгіі ідуць (прытым сьведама і мэтанакіравана) па шляху рускага нацызму.*** Разгортваньне ксэнафобіі, этнічныя чысткі, тэрарызм і сістэма заказных забойстваў, стварэньне штучных прафашыстоўскіх арганізацыяў („казакі", розныя партыйкі, „саюзы" і т.п.) – усё гэта праявы фармаваньня фашыстоўскай сістэмы рускага гэбізму (мы ўжо ня кажам пра Беслан, ваенныя дзеяньні, апэрацыі за мяжой і т.п.).

Небясьпека найперш у тым, што гэтая стара-новая расейская палітыка непасрэдным чынам закранае і насоўваецца на Беларусь. Сутнасьць яе стратэгіі – зьнішчэньне Беларускай нацыі. Пачалі з сымвалаў. Цяпер дабіваюць ўжо нацыянальную школу і пасьлядоўна вынішчаюць мову, ідзе нечуваная алькагалізацыя беларускага насельніцтва. Бліжэйшы разгляд гэтай тактыкі і стратэгіі ўражвае празрыстай аналёгіяй і дэталёвым паўтарэньнем пляну Бормана (які немцы не пасьпелі ажыцьцявіць на Беларусі).

Мы павінны ведаць, што людзі, якія ідуць у беларускую палітыку, ня бачачы, не разумеючы і ня хочучы разумець, як, хто і чаму зьнішчае Беларускі народ, – гэтыя людзі, як правіла, прынясуць шкоду Беларусі і асабіста сабе. Бяда, аднак, у тым, што палітычная нясьпеласьць асобы бывае зусім не ад недахопу інфармацыі, але ад несфармаванасьці нармальнай нацыянальнай сьведамасьці, якая месьціцца не ў галаве, а ў сэрцы, у веры, у самой істоце чалавека.

У існуючым становішчы грамадзтва бяз сьпелай нацыянальнай сьведамасьці практычна цалкам безабароннае перад фашыстоўскай чужынскай палітыкай. Мінулі часы народнікаў, будзіцеляў ды асьветнікаў, цяпер іншы час, але тое, што было вынішчана разам з пакаленьнямі, мусіць быць вернута, інакш немагчыма ні рухацца, ні абараняцца, ні наступаць. Трэба ўмела скарыстаць ціск і задуху антыбеларускага рэжыму для пратэстнага падняцьця нацыянальнай сьведамасьці і культуры. Так рабілася заўсёды ў часы рэакцыі і паралічу адкрытага змаганьня. Павінна быць ідэйная і духовая база, стоячы на якой людзі змогуць супроцьстаяць рускаму фашызму і не дадуць яму захапіць Беларусь.

***Зянон Пазьняк***

*12 лістапада 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2006, №5 (59); „Беларус",– 2006, сьнежань, № 527)*




(Фота з Сеціва)

***76. «Беларусь – гэта сьвятое».***

# ГАНЕБНАЕ АНТЫБЕЛАРУСКАЕ РАШЭНЬНЕ

Канец года заканчваецца некарысна для Беларусі. 5 сьнежня рабочая група Эўразьвязу большасьцю галасоў прыняла рашэньне выключыць Беларусь з Генэральнай сістэмы прэфэрэнцыяў. Гэта было зроблена ў сувязі з парушэньнем у Беларусі правоў прафсаюзаў рэжымам Лукашэнкі. Чакаецца, што да канца месяца рашэньне пра выключэньне ўхваляць сталыя прадстаўнікі краінаў Эўразьвязу. Наступствам такога разьвіцьця падзеяў маюць стаць шматмільённыя страты для Беларусі.

Паводле экспэртаў, страты Беларусі ў выпадку канчатковага рашэньня Эўразьвязу аб прыпыненьні прэфэрэнцыяў складуць ня менш як 300 мільёнаў даляраў. Гэта стане вынікам павелічэньня мытаў на шэраг беларускіх тавараў, якія імпартуе Эўразьвяз. Скасаваньне прэфэрэнцыяў закране, у прыватнасьці, мінэралы, лесаматэрыялы, тэкстыль.

Пагроза эканамічных санкцыяў Эўразьвязу справакаваная парушэньнем антыбеларускім рэжымам правоў незалежных прафсаюзаў. Як жа ставяцца іх прадстаўнікі да ініцыятывы Брусэлю?

Вось як ацэньвае падзею намесьнік старшыні Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Мікалай Канах (паводле радыё Свабода):

„Яно ня радуе. Нам бы, вядома, лепш было б, каб эўрапейская супольнасьць, камісіі Міжнароднай арганізацыі працы дамагліся, каб былі адменены дэкрэты, каб прымусілі выканаць рэкамэндацыі МАП. А калі скасуюць прэфэрэнцыі, то ўсё застанецца на месцы, і дзе гарантыя, што горш ня стане?! Наадварот, будуць казаць, што з-за нас, прафсаюзаў, „мы страцілі зь бюджэту столькі вось грошай".

Адным словам рашэньне эўрапейскай бюракратыі (як заўсёды) накіравана ў корані супраць інтарэсаў беларускага народа. Павялічыцца беспрацоўе і асабліва цэны, Лукашэнку і камарыльлю гэта не даткне. Злупяць трыста мільёнаў зь беларусаў, ківаючы на Захад. Гэтак яны сумеснымі намаганьнямі нішчаць Беларусь. Усё гэта брусэльцы робяць пад выглядам клопатаў пра дэмакратыю і вольныя прафсаюзы на Беларусі. Дорага ж беларусам абыдуцца гэтыя „клопаты". Нават самыя прафсаюзьнікі, як бачым, ня хочуць такіх клопатаў.

Знайшлася, праўда, сярод беларусаў асоба, што пахваліла рашэньне Брусэлю. На прэсавай канфэрэнцыі ў Страсбуры (пасьля атрыманьня з рук брусэльцаў абсалютна не заслужанай прэміі Сахарава) Аляксандар Мілінкевіч сказаў наступнае:

„ Што да прэфэрэнцыяў, то я пакінуў бы тое рашэньне, якое прапануе Эўракамісія. Прэфэрэнцыі – гэта льготы, дадатковы стымул для разьвіцьця. Існуюць правілы, каму даваць, а каму – не. Калі Беларусь парушыла, то яе трэба пазбаўляць ільготаў”. Гэты чалавек раней фармальна балятаваўся на прэзыдэнта Беларусі.

***Зянон Пазьняк***

*(паводле радыё Свабода і матэрыялаў друку)*

*Надрукавана: („ Беларуская Салідарнасьць”, www.bielarus.net; www.pbpf.org); Пад псэўданімам Тамаш Ракса)*

# ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ

***(Ліст адраджэнцам на ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну)***

...Слаўны Дзень слуцкіх герояў Беларусі. Вось прыклад выдатнай і хуткай мабілізацыі на барацьбу з ворагам. Слуцкая брыгада войска Беларускай Народнай Рэспублікі ў колькасьці дзесяці тысячаў жаўнераў (разам з запасам) была створана цягам ўсяго трох дзён і адразу прыступіла да баявых дзеяньняў супраць расейскай „чырвонай арміі”. Гэта сапраўды быў гераічны чын, бо расейскі вораг шматкроць пераважваў у колькасьці і ўзбраеньні. Акрамя таго расейцам, фактычна, спрыяла польскае войска.

Тут мы бачым выразны прыклад: каб змагацца за Бацькаўшчыну – ня трэба лічыць сілы ворага. За Бацькаўшчыну трэба змагацца ў любых абставінах.

Тое, што адбылося на Случчыне ў 20-х гадах мінулага стагоддзя, нагадвае нам традыцыі Вялікага Княства. Калі вораг зьнянацку ўрываўся ў нашыя межы, тады нашыя продкі імгненна рабілі шляхецкае апалчэньне і ладзілі пагоню, не чакаючы княскага войска.

Добрая традыцыя вольных людзей. Гэта называецца – дух Пагоні. Цяперашнім беларусам (перш за ўсё маладым) трэба адрадзіць у сабе гэты дух. Ён яшчэ нам спатрэбіцца, і можа, не адзін раз, каб вечна жыла Беларусь.

Каб вечна жыла Беларусь, нам трэба аднавіць беларускую сілу ў палітыцы. Бо толькі беларускія палітыкі, што стаяць за беларускія нацыянальныя інтарэсы, здольныя абараняць Беларусь і гарантаваць будучыню нацыі.(...)

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*26 лістапада 2006 г.*

*Надрукавана: („ Беларускія Ведамасьці”, – 2006, №5 (59).*




***77. Мітынг КХП-БНФ у Слуцку на лістападаўскія ўгодкі.***

# РАЗЬМЕННАЯ МАНЕТА МАСКОЎСКАЙ ПАЛІТЫКІ

Месяц таму на Паліткамітэце Фронту мы прааналізавалі сытуацыю з галадоўкай А. Казуліна і прышлі да высновы, што на гэтую авантуру яго штурхнулі тыя ж сілы, што прапанавалі і прафінансавалі ягоны ўдзел у вясновых выбарах прэзыдэнта на Беларусі. Магчымы сэнс гэтага пляну – сьмерць Казуліна.

У апошні час барацьба за ўладу ў сістэме расейскага гэбізму набыла ліхаманкавы кшталт. Практычна, для Пуціна найбольш падыходзіць варыянт захаваньня ўлады праз інкарпарацыю Беларусі праз фармальнае ўтварэньне новай, нібыта беларуска-расейскай дзяржавы. Аднак пры гэтым Пуцін не жадае дзяліцца рэальнай уладай з Лукашэнкам, а Лукашэнка ня хоча страціць набытае. Пачалося выкручваньне рук.

Добра вядома, што ўнутры карпаратыўнай улады, у крымінальнікаў і ў мафіі канфліктуюць між сабой так, што за грошы ды за ўладу перагрызаюць адзін аднаму горла. Пры гэтым агульная палітыка застаецца нязьменнай.

Усё гэта мы назіраем цяпер у Беларусі і ў Расеі пад выглядам газавага, нафтавага, гандлёвага, мытнага і іншых так званых канфліктаў. Пуцін хоча прыдушыць Лукашэнку цэнамі на газ, нафту і электрычнасьць. А. Лукашэнка заявіў (хто ўмее правільна слухаць палітычныя заявы), што ў выпадку чаго будзе бараніцца і наладзіць тут расейцам лазьню „почище, чем в Чечении”.

Стаўкі ідуць ня толькі на ўладу, але на жыцьцё. Абодва канфліктанты, напэўна, разумеюць, што страта ўлады – гэта для кожнага зь іх ёсьць страта ўсяго. Жывымі такіх кліентаў у гэбэ не пакідаюць. Пуціну хопіць аднаго Беслана. Але на ім вісьць яшчэ шмат іншага. Тое ж і з Лукашэнкам.

Галадоўка А.Казуліна насьцярожвае ненатуральнасьцю сваёй матывацыі, неканкрэтнасьцю патрабаваньняў і немагчымасьцю дасягненьня мэты. Галадоўка, якая акрэсьленая супраць „незаконнасьці прэзыдэнцкай улады Лукашэнкі”, альбо не дасягае мэты, альбо заканчваецца сьмерцю галадоўшчыка. Гэтакая пазыцыя фармальна запраграмаваная на доўгае безвыніковае галаданьне альбо на летальны зыход.

З усіх варыянтаў утварэньня азначанай сытуацыі найбольш верагодным зьяўляецца існаваньне пляну, які распрацаваны ў асяроддзі тых, хто спраектаваў стварэньне так званых „двух апазыцыйных лідараў” пад кантролем Масквы ў прэзыдэнцкіх выбарах на Беларусі, – прынцып „абмежавальнай планкі” і г.д. *(Гл. „Беларускія Ведамасьці”, – 2006 г., №2(56), с.8, С. Папкоў. „Чужая палітыка”.)* Мяркую, што Казуліна нейкім чынам падштурхнулі да галадоўкі і на авантурны зьмест акцыі.

Сьмерць Казуліна ў выніку галадоўкі ў турме стала б адчувальнай зброяй Пуціна, якая дапамагала б яму ламаць хрыбет Лукашэнку, зваліўшы віну на яго. Пуцін палепшыў бы магчымасьць палітычна выйграць цягласьць улады і бяз стратаў увайсьці ў Беларусь. (Зазначу, што гэтакія жорсткія развагі абгрунтаваныя стылем і практыкай гэтага маскоўскага палітыка.)

Цяпер якраз настае небясьпечны момант. Сродкі масавай інфармацыі разьнесьлі зьвесткі пра цяжкі стан галадоўшчыка. (Прытым, ня важна, ці так гэта на самой справе. Істотна, што мэдыі інфармавалі пра гэта грамадзтва.) Пасьля спыненьня галадоўкі, у працэсе рэабілітацыі, якраз і ўзьнікае небясьпека завяршэньня магчымага пляну.

Паўтара месяцы таму я надрукаваў у „Беларусе” *(№ 525)* артыкул „Канфлікт на маскоўскай дарозе” *(гл. таксама Сеціва)*, пра сутнасьць дачыненьняў паміж Масквой і беларускімі калябарантамі. Галоўная думка ў тым, што неразуменьне прамаскоўскімі беларусамі сутнасьці вынішчальнай палітыкі Масквы прыводзіць іх да рабленьня шкоды Беларусі і самым сабе. (Маскоўская палітыка стагоддзямі накіраваная на сьціраньне беларускай нацыі з твару зямлі.) З А. Казуліным (якога Масква пасьля выкарыстаньня „кінула”) – тыповы прыклад. (Гэтак жа, як і з астатнімі – Марынічам, Карпенкам, Чыгіром і г.д.)

А. Казулін раней ніколі не займаўся палітыкай. Ступіўшы на яе шлях, ён тут жа ўскочыў у маскоўскую гразь, думаючы, магчыма, што на маскоўскія грошы адкрывае Амэрыку. У выніку ўся гэтая калябарацыя-прафанацыя дапамагла Лукашэнку ў трэці раз захаваць уладу, а Казуліну каштавала страты асабістай свабоды, руйнаваньня здароўя і зьяўленьня небясьпекі жыцьцю пры мінусе палітычных вынікаў.

Ня думаю, што гэтакага роду людзі чыталі мае артыкулы пра іхнюю дзейнасьць, прагнозы і аналіз. Мяркую, што яны ня стануць чытаць і гэтыя радкі. Іхны прамаскоўскі інфантылізм невылечны, а прагнасьць „халявы” – невымерная. Іх не навучае нават сьмерць, як нічаму не навучылі Курапаты.

Усё ж праўда такая, што ***нацыянальную палітыку робяць толькі нацыянальна сьпелыя, сьведамыя людзі.*** Але (тут я хачу асабліва падкрэсьліць) ёсьць вышэйшая праўда: сьмерць ня можа быць карай і крытэрам сьветапоглядных пазыцыяў ці памылак чалавека. Трэба берагчы жыцьцё кожнага беларуса, бо кожны мае шанец перамяніцца, кожны мае шанец дайсьці да Беларусі, кожны мае дар жыць на сваёй зямлі. (Толькі той, хто яе страціў, усьведамляе, які вялікі і вольны ёсьць гэты дар.)

Маю надзею, што авантура і драма ў лукашысцкай турме завершыцца гуманна, бяз скону і страт. Больш таго, вельмі б хацеў памыліцца ў сваім аналізе аб небясьпецы жыцьцю. Але адначасна, асабліва памятаючы пра хроніку апошніх ахвяраў Лубянкі, мушу выразна заявіць: калі здарыцца сьмерць вязьня Казуліна, адказнасьць за яе будуць несьці два чалавекі – Пуцін і Лукашэнка. Устрымайцеся, панове! Ваш цынічны гандаль над целам Беларусі ёсьць прычынай усіх няшчасьцяў нашага народу. Спыніцеся перад чужой сьмерцю! Спыніцеся перад фальшывым рэфэрэндумам. Не рабеце таго, чаго ніколі не даруецца. Не выклікайце духаў помсты і злыдняў вайны. Вашыя пляны відаць. Але яны не ажыцьцёвяцца, бо ніколі Беларусь ня будзе ўжо пад Расеяй.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*7 сьнежня 2006 г.*

# БЕЛАРУСЫ МУСЯЦЬ САЛІДАРНА АБАРАНЯЦЬ БЕЛАРУСЬ

***(Вытрымкі з выступу на сьнежаньскім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

...Пераменаў на Беларусі можна было б дасягнуць хутка, але ўся бяда ў аслабленасьці нашай нацыянальнай альтэрнатывы. Паколькі нацыянальныя сілы аслабленыя, то на палітычную сцэну пад выглядам апазыцыі якраз і выплыла ўсялякая прарасейская, прамаскоўская дэмакратычная моль. Выглядае, што так, як нашкодзіў беларусам немец Ганс Вік, не нашкодзіў тады нават КГБ.

Павелічэньне і ўзмацненьне нацыянальнай беларускай сілы – важная ўмова пасьпяховай барацьбы. Ніхто іншы, акрамя адраджэнцаў, рэальна ня стане (і ня ў стане) займацца нацыянальнай палітыкай. Практыка і гісторыя пра гэта сьведчаць на кожным кроку. Тое, што пасьля расколу Фронту ў палітыку ўвайшла карумпаваная псэўдаапазыцыя, – гэта не выпадкова. Сьвятое месца пустым не бывае.

Цяпер настае чарговы момант ісьціны. І гэты момант пачаўся 23-га лістапада – ў дзень, калі А. Лукашэнка публічна прызнаў, што ён і ягоная ўлада сфальсіфікавалі вясновыя выбары прэзыдэнта на Беларусі.

Калі пасьля гэтага назыўныя „дэмакраты" зноў пойдуць заклікаць на фальшывыя выбары і ня выйдуць з выбарчай кампаніі, не „расплюшчаць свае вочы", тады такім людзям трэба ўжо пляваць у твар. Гэта адзіны аргумант, на які яны заслугоўваюць. Хаця я перакананы, што са здрадай трэба абыходзіцца больш катэгарычна. Але пачакаем яшчэ пару дзён і паглядзім, якія рашэньні будуць прынятыя.

Прасачыліся зьвесткі, што Масква змушае рэжым Лукашэнкі да калядных сьвятаў аб'явіць рэфэрэндум аб так званым „канстытуцыйным акце" і прышпіліць яго да даты выбараў у мясцовыя саветы. Не ручаюся за гэтыя зьвесткі, але што такія пляны ёсьць, нам вядома даўно. Трэба ўмацаваць нашу падрыхтаванасьць да магчымых падзеяў.

Сёньня на Сойме прапануюцца тры важныя праекты дакумантаў. Судовая позва ў Вярхоўны Суд на Лукашэнку за фальсіфікацыю выбараў павінна быць даведзена і рэалізавана строга па працэдуры. Акрамя таго мусіць быць наша інфармацыя пра сутнасьць справы. Бо бальшыня людзей ня ведае, што Лукашэнка прызнаўся ў фальсіфікацыі.

Істотным таксама будзе нашае рашэньне і прапановы па супрацьдзеяньні рускаму фашызму. Мы бачым, што фашызм паступова становіцца дзяржаўнай палітыкай расейскага гэбізму і ўсяго пуцінскага кіраваньня ў Расеі, якое пагражае нашай незалежнасьці. Мы бачым, што за апошнія 200 гадоў галоўная і неперапынная атака рускага імпэрыялізму была скіраваная супраць беларускай мовы. Гэта заўсёды было пытаньнем №1 у барацьбе нашых непрыяцеляў супраць беларусаў.

Цяперашняе значэньне мовы ў сьвеце стакроць большае для захаваньня культурнай ідэнтычнасьці і (падкрэсьліваю!) незалежнасьці і сувэрэнітэту нацыі. У нашым канфлікце з Расеяй страта мовы абазначае (абавязкова і няўхільна) страту дзяржаўнай незалежнасьці. Расейцы першымі зразумелі гэтую асаблівасьць сытуацыі і пачалі адпаведную прапаганду. Вынішчэньне беларускай мовы – галоўны накірунак расейскага гэбізму. Такім чынам ***абарона беларускай мовы ёсьць цяпер адно з найважнейшых пытаньняў нацыянальнай палітыкі.***

На абарону і сцьвярджэньне беларускай мовы беларускія адраджэнцы павінны зьвярнуць найвялікшую ўвагу. Гэта пытаньне і гонар усіх беларусаў, якое аб'ектыўна вымагае кансалідацыі і адзінства народа перад агрэсіяй і небясьпекай.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

***Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*10 сьнежня 2006 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2006, №5 (59)*



(Фота з Сеціва)

***78. Бацька з сынам на дэманстрацыі. Менск.***

# ПРЫВАТНЫ ДЗЁНЬНІК

***Новая передача сэрыі „Прыватны дзёньнік". Асабістымі думкамі пра пражытае і перажытае ў апошні тыдзень 2005 году са слухачамі „Свабоды" дзеліцца лідэр Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ „Адраджэньне", кандыдат на пасаду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі Зянон Пазьняк.***

**25 сьнежня, нядзеля**

Сёньня любімае сьвята майго дзяцінства – Нараджэньне Хрыстова ці Каляды. Апанавалі ўспаміны. Чым далей жывеш, тым больш сэрца імкнецца ў пачатак. Можа таму, што разлучыўся з Бацькаўшчынай. Тут найлепш разумею Міцкевіча. Толькі беларус мог гэтак шчымець па Радзіме. А зрэшты – кожны чалавек.

Вырашыў сёньня хоць бы паўдня нічога не рабіць. Бо сьвятасьць. Калі працаваць у сьвяты, жыцьцё можа стацца шэрым і невыносным. Нельга безь сьвятога, безь любові, без адпачынку, без абавязковага думаньня пра абавязковыя зьявы.

Глядзеў па тэлебачаньні жывы рэпартаж з Рыму. Не прагучэла вітаньня ні па-беларуску, ні па-ўкраінску, ні па-чэску, хоць усе чакалі свайго. Прычыну растлумачылі. Але яна ня мае значэньня. У Яна Паўла II не было прычынаў.

На пляцы перад саборам Пятра ўсе колеры і расы – маліцьвенныя італьянцы, кітайцы, афрыканцы… Хрысьціянства зьяднала Эўропу, стварыла нечуваную раней цывілізацыю, якая перажывае цяпер зьмярканьне. Шмат прычынаў духоўнага рэгрэсу і крызісу Эўропы. Але галоўная прычына – адмаўленьне ад хрысьціянства, ад імкненьня да вечных каштоўнасьцяў, ад веры ў Бога.

Эўропа пераменьваецца на вачах (зрэшты, як і Амэрыка). Такое адчуваньне, што адчынілася скрынка Пандоры. Геданізм становіцца нормай этычнага існаваньня. Эўрапейцы перастаюць ствараць, не імкнуцца рабіць, трацяць удзел у кваліфікаванай працы, усё хочуць скінуць на танных эмігрантаў з былых калёніяў, пакінуўшы сабе кіраваньне, грошы і задавальненьні. Ствараецца гэткі „хатні нэакаляніялізм". Але працэсы ідуць такія ж, як некалі ў калёніях. І калі яны ня спыняцца, то Індыя 1950-х паўторыцца ў Вялікабрытаніі.

Выказваньне Міцкевіча аб заваяваньні Эўропы (а Міцкевіч быў геній) робіцца рэальнасьцю. Зьмяніўся характар войнаў. Але стэрэатыпы думаньня настолькі моцныя, што не дазваляюць бачыць відавочнае.

Беларусы дванаццаць гадоў ня могуць усьвядоміць, што сталі ахвярай новага віду вайны – захопу ўлады знутры крэатурай чужой дзяржавы праз дзейнасьць спэцслужбаў разьведкі. Зьнішчылі гэрб і сьцяг, зьнішчылі кнігі, беларускую школу, нацыянальнае тэлебачаньне, радыё, мову, дабіваюць культуру, далі прыярытэтныя правы чужому насельніцтву, плююць і рагочуць проста ў твар, а беларусы ўсё яшчэ нічога не разумеюць, што сталася і што адбываецца. Некаторыя нават радуюцца, думаюць – дождж ідзе.

Нешта аналягічнае адбываецца ў Эўропе. Эўрапейскі нэакаляніялізм пайшоў у адваротным кірунку. Калёніі займаюць тэрыторыі былых мэтраполіяў і стыхійна, крок за крокам, мэнтальна і дэмаграфічна падпарадкоўваюць стары кантынэнт, застаючыся сабой.

Дэградацыя інтэлекту лібэральнага эўрапейскага сьвету зайшла настолькі глыбока, што ніхто зь іх ня здольны ўжо рэальна і адэкватна думаць пра эўрапейскую будучыню, ці хоць бы ўявіць, што іх чакае. Яны паўтараюць свае хімэры пра „мультыкультурнае" ды шматрасавае грамадзтва, пра фальшывыя „правы чалавека" і гавораць пра новы Бабілён, афіцыйна адмаўляючыся ад хрысьціянства, ад хрысьціянскай культуры, ад нацыянальных традыцыяў і нават ад гісторыі. Усё выглядае неверагодна і ненатуральна, як камунізм і ягоныя антылюдзкія практыкі на Ўсходзе. Але калі ўсьвядоміць, што лібэралізм – гэта ёсьць камунізм, вывернуты навыварат, то ўсё становіцца зразумелым.

***Лібэралізм – гэта вывернутая ўтроба камунізму, толькі без таталітарнай абалонкі.*** Гэта тое, што сядзела ў чэраве камунізму, у ягоных кішках і комплексах, у падсьвядомасьці бязбожнага розуму. Зірнем, як імгненна перакулілася ў лібэралаў камуністычная намэнклятура так званага сацлягеру, як нагу ў бот уставіла. Тут табе і алігархія, і мільёны, і дэмакратыя на разьліў, і свабода поглядаў на свабоду, на мараль, на сям'ю і дзяржаву. Усё прыватызавалі, усё абпошлілі, усё ператварылі ў тавар, усіх аблапошылі – і рак ня сьвісну́ў.

**26 сьнежня, панядзелак**

Другі дзень Калядаў. Варшава замерла. Усе сьвяткуюць.

З раніцы – рассылка матэрыялаў у сеціва. Ярмошына адмоўна выказалася пра мяне ў друку. Яе хамаваты дэмарш – гэта агітацыя за тое, каб ЦВК прыняла антызаконнае рашэньне і не зарэгістравала маю ініцыятыўную групу па зборы подпісаў на выбары. Сёньня ж Юры Беленькі падрыхтаваў заяву ў пракуратуру аб парушэньні гэтай асобай артыкулу 47 Выбарчага кодэксу Беларусі.

**27 сьнежня, аўторак**

Ураньні мне паведамілі, што маю ініцыятыўную групу зарэгістравалі. У 12.30 варшаўскага часу я патэлефанаваў у Менск кіраўніку ініцыятыўнай групы С.Папкову. Замест Папкова ў слухаўцы хамаваты расейскі голас: „Абонент отключён". Праз нейкі час звоніць мне прэсавы сакратар Валеры Буйвал: „Віншуем! Пачалося. Правакацыя. Папкоў у міліцыі".

Сказалі, што спадар Папкоў даў на абмен нібыта фальшывую купюру. Гэта было зроблена, каб пранікнуць у кватэру Папкова. Пачалі незаконны ператрус, цікавіліся партыйнымі дакумэнтамі й паперамі. Забыліся нават пра „фальшывыя грошы".

**28 сьнежня, серада**

З раніцы некалькі спатканьняў. Сур'ёзнае пытаньне пра структуры ўлады і пра кадры. Праблема прафэсійнай палітыкі. Ня кожны змагар здольны кіраваць дзяржавай. Для мяне, думаючы пра прэзыдэнцтва, гэта ўжо галаўны боль.

Паглядзеў форумы ў сеціве. Гэб'ё проста завыла ў Інтэрнэце супраць мяне. Але ўзровень! Вулічная лаянка. Зрэшты, яна не змаўкае ўжо 17 гадоў.

**29 сьнежня, чацьвер**

Зноў фальшыва загаварылі аб маім вяртаньні. За гады прамаскоўскага рэжыму ніводная прафэсія ў Беларусі не дэградавала так нізка, як журналістыка. Асноўная прычына дэградацыі – праца на антыбеларускія ворганы. Памятаю, як ёрнічаў некалі такі Алесь Сіліч: „Приезжайте, Зенон Станиславович, будем вместе бороться за Беларусь". Потым гэтага Сіліча перакінулі ў Бэльгію ў якасьці „палітуцекача". Там гэтай публікі сабралася столькі, што пастваралі нават свае прарасейскія „бе-

лорусские центры", уступілі ў кантакт з бэльгійскай разьведкай, даносяць на беларусаў і нішчаць беларускіх адраджэнцаў.

Але беларусу розуму ня ўставіш, усё роўна на краі курапацкай ямы будзе шчыра пытацца: „За што?" За сямнаццаць гадоў дзейнасьці Фронту, спатыкаючыся зь людзьмі, мяне найбольш зьдзіўляе тое, што беларус нічому ня вучыцца ў палітыцы. Нейкія падлеткавыя ўяўленьні. 125 разоў будзе наступаць на адны і тыя ж граблі і калі атрымае па ілбе 1000 разоў, дык абавязкова наступіць ў 1001-ы. Тым часам здольны, разумны і кемлівы народ. У чым жа прычына парадоксу?

Прычына зразумелая, ці, як цяпер кажуць, адназначная: адсутнасьць нацыянальнай ідэі ў душы. Калі паезьдзіш па сьвеце, то вельмі добра ўсё відаць. Нават разумны чалавек без нацыянальнага паняцьця і без ідэі ў сэрцы, якая карэньнямі зьвязвае яго з нацыяй, выглядае нікчэмным дурнем, які ня ведае элемэнтарнага – што такое добра і што такое дрэнна.

Вяртаюся думкамі ў драматычны 1995 год. Высокі чын з КДБ спаткаўся зь некаторымі маімі паплечнікамі і папярэдзіў, што рыхтуецца „ліквідацыя" мяне (забойства) і што КДБ у гэтым пляне ня ўдзельнічае. Праз нейкі час пра гэта ж сказаў кіраўнік важнай структуры Саўміну, а самая высокая асоба ўраду Беларусі сказала Сяргею Навумчыку літаральна гэтак: „Намячаюцца дрэнныя справы з Пазьняком. Калі што здарыцца, вось тэлефон, куды званіць".

28 красавіка С.Навумчык напісаў пра пагрозы ў газэце „Свабода" („Апазыцыю папярэджваюць…"). Мяркую, што гэта прытармазіла забойства.

У 1996 годзе, аднак, прыйшлося тэрмінова выехаць зь Беларусі. У красавіку таго ж году, калі я нечакана вярнуўся, зрабілі аблаву. Спэцназ штурмаваў сядзібу БНФ, дзе я знаходзіўся. Потым Лукашэнка выклікаў на дыван кіраўніцтва сілавых структураў і ўсіх аблаяў за тое, што „не злавілі Пазьняка". (Пра гэта гл. „Свабода". 1996. 3 траўня). Тады ж зьявілася распараджэньне Лукашэнкі для памежнікаў: „Грамадзянаў РБ Пазьняка З.С., Навумчыка С.І. Пры выезьдзе-ўезьдзе затрымаць" (Гл. „Свабода". 1996. 21 траўня), і вусны загад страляць на паражэньне ў выпадку непадпарадкаваньня.

Ужо будучы афіцыйна запрошаныя ў ЗША, мы зь Сяргеем Навумчыкам даведаліся, што рыхтуецца „нэўтралізацыя" нас у Польшчы, куды мы павінны былі вярнуцца. (Зразумела, што тут была замяшаная Масква.) Чамусьці гэта публічна выбалбатаў у расейскай Думе камуніст-дэпутат В.Ілюхін. Пачаўся скандал.

Мы праверылі гэтую інфармацыю ў вельмі сур'ёзных і вартых даверу крыніцах. Усё пацьвердзілася. У Польшчу вяртацца было нельга. Мы вырашылі прасіць палітычнага азылю ў ЗША. Варыянтаў не было. Пытаньне стаяла нават не пра свабоду, а пра пазбаўленьне жыцьця. Рыхтавалі забойства. (Мяне, ва ўсякім разе, чакала толькі сьмерць.) Гэта, дарэчы, адразу зразумеў Васіль Быкаў і падтрымаў нас.

Ёрніцтва „журналісьцікаў" на гэтым фоне выглядае асабліва гнюсна. Тым больш, што некаторых палітыкаў ужо зьнішчылі.

**30 сьнежня, пятніца**

З раніцы – круцёлка. Правёў некалькі перамоваў аб выбарах у Беларусі і аб канкрэтных справах. Але сэнсу мала. Палітычны алімп Варшавы апусьцеў – усе на калядных вакацыях. Набліжаецца Новы год – час, калі трэба падумаць пра лёс.



***79. З. Пазьняк 2004 г.***

Я пастаянна адчуваю Божую Ласку ў сваім лёсе і ў думках зьвяртаюся да Ўсявышняга. Гэта дзівоснае ўсьведамленьне – адчуваньне падтрымкі Найвышэйшай Сілы. Само тое, што ўдалося да гэтага часу, у гэтых цяжкіх сытуацыях палітычнай эміграцыі выжыць разам зь сям'ёй, змагацца і працаваць дзеля Бацькаўшчыны, – усё гэта ёсьць для мяне цудам і дарам Божым, за які я ўдзячны Богу зьдзіўлена і маліцьвенна.

Хай жа распрасьціраецца Ласка Ягоная над Беларусяй! Хай вечна жыве наш вялікі і моцны Беларускі Народ!

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2005/2006, №1 (55); (2 студзеня 2006, радыё „Свабода").*

# 2007

## У ЧЫМ СУТНАСЬЦЬ НАФТА-ГАЗАВАЙ ВАЙНЫ ПАМІЖ РЭЖЫМАМІ ПУЦІНА І ЛУКАШЭНКІ

Найперш гэта канфлікт паміж саўдзельнікамі адной справы – усталяваньня гэбоўскай улады над постсавецкай прасторай. Дыктатары ня могуць аб'ядноўвацца, павінен застацца нехта адзін, хто будзе кіраваць, нічым ня дзелячыся.

Дзеля захаваньня ўлады пуцінская група зрабіла стаўку на фармальнае „аб'яднаньне" (на справе на інкарпарацыю) зь Беларусяй і потым на новыя выбары прэзыдэнта гэтага квазідзяржаўнага ўтварэньня. Аб уладзе над „квазі" Лукашэнка з Пуціным якраз і не дамовіліся.

Тады Пуцін, якога падцiскаюць выбары, ужыў супраць саўдзельніка любімы прыём сьледчага НКВД – пальцы ў дзьверы і – „отвечать!" Расейцы скарысталі свой нафта-газавы манапалізм і накінулі на шыю Беларусі пятлю, хочуць задушыць нашую эканоміку і прымусіць Лукашэнку здацца ў Расею (здаць Беларусь). Гэта ня проста разбой. Гэта грубая палітычная агрэсія і эканамічная вайна супраць нашай краіны. Расея тут парушыла ўсе законы, нормы і дамоўленасьці. Пазыцыя Масквы тут нецывілізаваная, разбойная і агрэсіўная.

Але ў выніку гэтага канфлікту і гэтай палітыкі ў закладніках апынуўся ўвесь Беларускі народ. Пальцы шчымяць рэжыму, а балець будзе беларускаму народу.

Склалася такая сытуацыя, што шкурныя інтарэсы дыктатара ў пэўных аспэктах супадаюць з нацыянальнымі інтарэсамі народа. Выпадак тыповы і небясьпечны. Што рабіць беларусам у такім становішчы? Тым больш, што рэжым бароніцца ад расейскай удаўкі рашуча (прынамсі на словах) і адэкватна, і аб'ектыўна на карысьць Беларусі.

Задача відавочная. Беларусам найперш трэба абараніць свае нацыянальныя інтарэсы, а потым, абараніўшыся ад агрэсіі Расеі, ліквідаваць прамаскоўскі рэжым.

***Нягледзячы на часовае супадзеньне задачаў, катэгарычна нельга аб'ядноўвацца з рэжымам Лукашэнкі.*** Бо рэжым, як толькі атрымае пэўныя палёгкі і абяцаньні ад Масквы, тут жа адмовіцца ад барацьбы і здасьць Беларусь, а той, хто зь ім супрацоўнічаў – стане саўдзельнікам у злачынстве.

***Беларускі народ, беларускія адраджэнцы і ўвесь Беларускі Вызвольны рух павінен сам змагацца з расейскай агрэсіяй, не зважаючы, супадае гэта зь дзеяньнямі рэжыму, ці не. Беларускі народ і ягоныя прадстаўнікі заўсёды павінны заставацца самымі сабой і самастойнай палітычнай сілай. У гэтым прынцып і залог перамогі.***

Сёньня мы бачым некаторых, што гатовыя ўжо падтрымаць рэжым. Але шмат ёсьць розных „эканамістаў", „юрыстаў" ды „журналістаў", якія камэнтуюць канфлікт, паддакваючы цяпер нашым непрыяцелям расейцам, часам з жаданьня „насаліць" Лукашэнку. З гісторыі, аднак, вядома, што той, хто выступаў „за поражение своего правительства (краіны) в войне", гаварыў гэта за вялікія нямецкія грошы. Аналёгія вельмі празрыстая датычна некаторых лукашэнкаўскіх „апазыцыянераў", аматараў езьдзіць у Маскву ды Брусэль.

Для канфлікту паміж дыктатарамі характэрна таксама нязьменнасьць іхняе ўнутранае палітыкі. Яна не зьмяняецца ні пры якіх абставінах, як не зьмяняецца тыпаж пры ўладзе. Як былі антыбеларускія рэпрэсіі, так і застаюцца; як перасьледвалі беларускую моладзь, так і перасьледуюць; як нішчылі беларускую адукацыю так і нішчаць; як была русіфікацыя так і застаецца, нягледзячы на ўсю супрацьрасейскую рыторыку.

Каб ня быць закладнікамі варожых сілаў, беларусам трэба арганізоўвацца і самым стаяць за сябе.

***Зянон Пазьняк***

*7 студзеня 2007 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №1 (60).*

## РАСЕЙСКІ ІМПЭРЫЯЛІЗМ ЗГІНЕ, БЕЛАРУСЬ ПЕРАМОЖА

***(Выступ на маладзёвым мітынгу ў Нью-Ёрку)***

Маладыя сябры! Падтрымліваю ваш пратэст супраць антыбеларускай палітыкі Расеі і вашыя дзеяньні ў змаганьні з прамаскоўскім рэжымам на Беларусі.

Дванаццаць гадоў антыбеларускай палітыкі і дыктатуры не праходзяць бясcьледна. Наша Бацькаўшчына Беларусь апынулася ў цяжкім стане. Гэта імкнецца скарыстаць цяпер група ўлады ў Маскве.

Усе гады прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі нішчыў нашу культуру, мову, асьвету, адукацыю і, улягаючы расейцам, прывязваў нашу эканоміку і гандаль да адной краіны – да Расеі. Зьдзейсьнена злачынства супраць нацыі. Гэта стараецца скарыстаць Расея, каб (разваліўшы нашу эканоміку), захапіць Беларусь і пад выглядам стварэньня новай дзяржавы прадоўжыць панаваньне існуючай гэбоўскай групы ўлады ў Расеі (праз новыя выбары ў новым суб'екце імпэрыі).

Расея працягвае грубую палітычную агрэсію супраць нашай краіны. Яна зламала падпісаныя ёй, Вялікабрытаніяй, Беларусяй і ЗША, прынцыпы Будапэшцкага Мэмарандуму 1994

году аб гарантыях суверэнітэту Беларусі пасьля дабраахвотнага адмаўленьня нашай краіны ад ядзернай зброі.

Але памятайма, што рэальна абараніць свабоду і незалежнасьць Беларусі і рэальна змагацца супраць агрэсіі могуць толькі самыя беларусы. Ад нас найперш залежыць воля і свабода Бацькаўшчыны. І калі ўзьнікла пагроза яе існаваньню, то трэба скарыстаць усе магчымасьці ў змаганьні з імпэрыяй зла і перамагчы небясьпеку.

Адчуйма нашу сілу і салідарнасьць! Заўважце, што прамаскоўскі рэжым баіцца сьведамасьці народа, сілы і салідарнасьці беларускай моладзі. Таму ён перашкаджае ёй вучыцца і працаваць, таму ён без прычыны кідае маладых беларусаў за краты, адпраўляе маладых на „хімію”, палохае і зьневажае. Але тыя, што зьдзекваліся над маладымі, не пазьбегнуць адказнасьці.

Ня трэба баяцца тых, што баяцца нас. Мацуйма і яднайма нашыя сілы! Шануйма нашу вялікую і прыгожую беларускую мову і наш вялікі беларускі народ! Памятайма нашу магутную гісторыю і моц нашага Вялікага Княства! Хай веліч продкаў, якія ніколі не стаялі на каленях (як маскаль перад Альгердам ці масква перад манголамі) – хай веліч продкаў натхняе нашу моладзь.

Мы, беларусы, мусім абараніць нашу Беларусь і нашу волю.
Жыве Беларусь!
Слава героям!

***Зянон Пазьняк***

*18-20 студзеня 2007 г.*

*Надрукавана: (www.pbpf.org)*

# АБ АНТЫБЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫЦЫ РАСЕІ І ЗМАГАНЬНІ СУПРАЦЬ ЯЕ

Толькі што прамінуў пік чарговага канфлікту паміж Пуціным і Лукашэнкам. Паступова ўсё вяртаецца да ранейшага інтэграцыйнага маразму, і гэтая палітыка будзе працягвацца далей з абодвух бакоў.

Пра канкрэтныя прычыны і сутнасьць сваркі я ўжо пісаў – гэта імкненьне пуцінскай групы ўлады ў Маскве выйсьці на трэці (новы) прэзыдэнцкі тэрмін шляхам інкарпарацыі Беларусі і правядзеньня выбараў прэзыдэнта ў нібыта новай „саюзнай” дзяржаве. Аднак прэзыдэнт павялічанай імпэрыі мусіў быць адзін, а прэтэндэнты – два. Таму канфлікт паміж гэтымі саўдзельнікамі быў непазьбежны.

Усё гэта ёсьць злачынная і брыдкая антынародная гульня. Але прыходзіцца пра яе казаць, бо такая рэальнасьць вычварэнскай імпэрскай палітыкі.

Імкненьне Пуціна па-гэбоўску загнаць суперніка ў кут скончылася фіяскам і палітычнай паразай Пуціна. Тым ня менш пуціністы здолелі фармальна захаваць твар, і ў выніку – Беларусь прайграла эканамічна. Скандалісты вярнуліся на зыходныя і, дарэчы, агульныя палітычныя пазыцыі. „Інтэграцыя” працягваецца. І будзе працягвацца. Гэта толькі эўфімізм імпэрскай палітыкі. Тут не мяняецца нічога. У студзені працягваецца стварэньне на Беларусі адзінай расейска-беларускай (а фактычна – расейскай) сістэмы супрацьпаветранай абароны (СПА), функцыянуюць усе (патрэбныя Расеі) псэўдаструктуры так званай „саюзнай дзяржавы”, адчыненыя межы і г.д. У афіцыйнай Беларусі ніхто не шукае і ня думае ні пра якія эканамічныя, энэргетычныя і іншыя альтэрнатывы. Усё гэта паказвае на непрынцыповасьць канфлікту, што зноў пераходзіць у зацяжное суперніцтва, небясьпечнае для народу Беларусі (які, паўтаруся, знаходзіцца ў закладніках гэтай авантурнай палітыкі дзьвюх асобаў).

Можна не сумнявацца, што пасьля таго, як не ўдалася спроба зламаць саўдзельніка з наскоку, Масква будзе старацца паступова, крок за крокам зацягваць энэргетычную пятлю на шыі Беларусі. Тут тыповае энкавэдзісцкае разуменьне палітыкі. Іншай яны ня ведаюць. Аднак палітычна Лукашэнку гэта ўжо мала зашкодзіць (бо час працуе не на Пуціна). Гэта зашкодзіць Беларусі і, перш за ўсё, – канчатковым зьнішчэньнем беларускага прадпрыймальніцтва.

Падвышэньне ў два разы цэнаў на энэргетычныя рэсурсы пры адчыненай мяжы з Расеяй выкліча (павінна выклікаць) перавод беларускіх бізнэсовых вытворчых прадпрыемстваў (што спажываюць энэргію) і капіталаў у Расею (у Смаленшчыну, Браншчыну, Пскоўшчыну і г.д.), дзе энэргія таньнейшая. Створана нахільная плоскасьць, лейка, у якую пачне зьлівацца беларускі вытворчы бізнэс. А гэта і падаткі, і працоўныя месцы, і капіталы, і тэхналёгіі, і разьвіцьцё вытворчасьці. Тут велізарныя страты і гарантаваная адсталасьць для краіны з высокім беспрацоўем. Замест каб разьвіваць Беларусь, беларусы будуць падымаць Расею (праўда, калі расейскі крымінальны бізнэс дазволіць ім гэта рабіць; будуць плаціць „падаткі” яшчэ і „росбізнэсу”).

Штучным беспрацоўем і адчыненымі межамі ўжо даўно створана сытуацыя, што амаль мільён беларусаў працуе ў Расеі і на Расею. Цяпер туды зьбіраюцца сьпіхнуць і беларускі вытворчы бізнэс. Складваецца ўражаньне, што пра гэта ў рэжымных колах ніхто ня думае (ці думаюць „наадварот”). Але ў Маскве, не сумнявайцеся, думаюць наўпрост.

Каб запабегчы гэтаму заплянаванаму абяскроўленьню беларускай эканомікі, трэба зрабіць нармальную дзяржаўную мяжу з Расеяй і праводзіць адпаведную ўнутраную эканамічную палітыку. Тым часам Лукашэнка ўжо заявіў, што „яны” (рэжым) не зьбіраюцца ўводзіць які-небудзь кантроль на мяжы з Расеяй. Выглядае, што рыхтуецца заплянаванае самагубства краіны, і рэжым, як заўсёды, гэтаму спрыяе.

Тут варта нагадаць, што адно з найвялікшых злачынстваў рэжыму Лукашэнкі, зробленае ім за дванаццаць гадоў аўтарытарнага кіраваньня, – гэта прывязка беларускай эканомікі, гандлю і энэргетыкі да Расеі. Прывязка рабілася сьведама і пачалася адразу, у 1994 годзе. Тады ні з таго, ні з сяго пачалі пераводзіць аб'екты беларускай вытворчасьці, кацельныя і г.д. з мазуту на газ. Хаця газ абыходзіўся даражэй на 30 адсоткаў, чым мазут, а ў Беларусі была свая нафтаперагонная вытворчасьць і нават свая нафта (тады здабывалі два мільёны тон). Гэта быў пачатак мафійнай стрыжкі купонаў і запраданьня Беларусі. Што ёсьць цяпер і што адбываецца далей – мы бачым.

Трэба ўлічыць, што пагроза для суверэнітэту, волі і інтарэсам Беларусі складваецца вельмі сур'ёзная. Найперш, як выявілася, задушэньне Беларусі Масква ўзгадніла зь немцамі (а значыць з Эўропай, бо цяпер немцы верхаводзяць у Эўразьвязе). З другога боку пуціністам няма куды дзявацца, яны рэальна могуць страціць уладу ў Расеі і пачнецца чарговы „передел" (і „беспредел"). Таму ціск на Лукашэнку і маніпуляцыі з так званай „інтэграцыяй" і „саюзнай дзяржавай" будуць працягвацца. Тут могуць скарыстаць і ціск, і подкуп, і ашуканства – увесь ужо вядомы з гісторыі імпэрыі арсенал.

Варта зьвярнуць увагу ў сувязі з гэтым на паводзіны ў час нафта-газавай сваркі так званай падстаўной „апазыцыі" і ўвогуле ўсіх гэтых нібыта „эканамістаў", „юрыстаў" і т.п. „спэцыялістаў". Відовішча проста шакуе. Усе яны тонам і зьместам апраўдвалі расейскія паводзіны, радаваліся з „паразы", як яны лічаць, Беларусі і ўсяляк грэбліва выказваліся пра сваю краіну. ***Для іх Лукашэнка – гэта Беларусь, а нацыянальныя беларускія інтарэсы – гэта Лукашэнка.*** „Так што няхай ведаюць расейцы, зь якой краінай маюць справу", – зларадна ўсклікае „экспэрт" Л. Злотнікаў у інтэрв'ю радыё „Свабода".

* * *

Рэальныя спадзяваньні цяпер могуць быць на новае пакаленьне. І дзеля гэтага павінна рабіцца асноўная наша нацыянальна-асьветніцкая праца і нацыянальна-асьветніцкая палітыка. Цяпер, улічваючы небясьпеку, трэба рабіць наступныя канкрэтныя крокі. Зыходзім з падставы, што абараніцца і перамагчы можам толькі абапіраючыся на свой народ, сваю нацыю, сваю моладзь і сваё грамадзтва.

Трэба шырока ўрухоміць канцэпцыю ***БНА (Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня).*** Гэта канцэпцыя беларускага асьветніцкага руху з дыскрэтнай гарызантальнай структурай (аўтаномныя групы па 3-5, максімум 7 асобаў). Галоўная задача – беларуская нацыянальная асьвета ў Інтэрнэце, пашырэньне беларускамоўных „сайтаў" інфармацыйна-асьветніцкага кшталту, накапленьне нацыянальнай інфармацыі і множаньне беларускіх культурных здабыткаў у Інтэрнэце. Групы БНА могуць займацца таксама іншай асьветніцкай працай на Бацькаўшчыне, абыходзячы рагаткі прамаскоўскага рэжыму. Пры гарызантальнай сістэме і аўтаноміі структураў рух фармальна незьнішчальны. Мэтадычную дапамогу руху будуць рабіць старэйшыя адраджэнцы і арганізацыі. Практычна, ўжо створана базавая суполка – „Беларускі Маладзёвы Рух Амэрыкі", – якая дапамагае ў стварэньні беларускамоўных „сайтаў", выдзяляе бясплатныя „гостынгі" на беларускамоўныя асьветніцкія і некамэрцыйныя старонкі. БНА – гэта можа быць сусьветны асьветніцкі беларускі рух у Інтэрнэце. Беларусы, якія нават сядзяць у Аўстраліі ці на Мадагаскары, могуць прымаць у ім удзел.

Ізноў узьнікла сытуацыя, калі неабходна аднавіць дзейнасьць ***БКА (Беларускага Камітэту Абароны),*** створанага ў 2002 годзе пасьля пуцінскіх „мухаў-катлетаў" і адкрытай палітычнай атакі на незалежнасьць Беларусі. Неабходна аднавіць групы і друкаваныя выданьні, што ў 2002-2004 гг. выдавалі БКА і мясцовыя камітэты абароны, і адрадзіць усю дзейнасьць, апісаную ў інструкцыях і бюлетэнях БКА.

БКА мае таксама гарызантальную і дыскрэтную структуру аўтаномных суполак (3-7 асобаў), мэтадычны цэнтар і Камітэт. Заклікаю найперш маладых беларусаў на ўсіх узроўнях уключацца ў змаганьне супраць антыбеларускай расейскай імпэрскай палітыкі і за вольную Беларусь. Памятайма, што ***калі ня будзем змагацца, то на галаву нам сядзе масковец і сьцінуць яго тады можна будзе толькі сілаю зброі.*** Лягчэй яго проста не пусьціць у хату, чым вытурваць праз вакно пасьля таго, як ён зьнішчыць нашае жыльлё.

Камітэты абароны нябачна мусяць быць усюды: на прадпрыемствах і ў інстытутах, ва ўстановах і структурах, нават там, дзе іх ніхто не спадзяецца. Беларусь мусіць змагацца. Хопіць назіраць вечнае паражэнства, апатыю і пустазвонства. Настае адказны час, і беларусы не павінны яго страціць.

***Зянон Пазьняк***

*21 студзеня 2007 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №1 (60).*

# З.ПАЗЬНЯК: „ МЫ ПАВІННЫ ПАКЛАДАЦЦА – НА САВАЮ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ СІЛУ, НА СВОЙ НАРОД, НА СВАЕ ІНТАРЭСЫ."

***Сяргей Навумчык, Прага. Словы расейскага прэзыдэнта Уладзімера Пуціна аб будаўніцтве саюзнай дзяржавы і верагоднасьці ўвядзеньня расейскага рубля ў якасьці адзінай валюты камэнтуе па тэлефоне з Варшавы старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк. (Скарочана)***

***Пазьняк:*** „Усё, што было сказана на гэтай прэсавай канфэрэнцыі, ўжо набіла аскому. Таму што ўсё, што Пуцін казаў, кажа і будзе казаць, – даўно ўжо ім сказана; і тое, што сказана, прааналізавана нашай народнай партыяй, якая называецца Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ. Я пра гэта пісаў яшчэ паўмесяца таму, пад час «паліўнай спрэчкі». Таму проста працытую: «Скандалісты вярнуліся на зыходныя і, дарэчы, агульныя палітычныя пазыцыі. Інтэграцыя працягваецца і будзе працягвацца. Гэта толькі эўфэмізм імпэрскай палітыкі, тут не мяняецца нічога. У студзені працягваецца стварэньне ў Беларусі адзінай беларуска-расейскай (фактычна, расейскай) сістэмы супрацпаветранай абароны, функцыянуюць усе патрэбныя Расеі псэўдаструктуры так званай «саюзнай дзяржавы», адчыненыя межы і гэтак далей. А ў афіцыйнай Беларусі ніхто не шукае і ня думае ні пра якія эканамічныя, энэргетычныя і іншыя альтэрнатывы. Усё гэта паказвае на непрынцыповасьць канфлікту, што ізноў пераходзіць

у зацяжное суперніцтва, небясьпечнае для народу Беларусі, які, паўтаруся, знаходзіцца ў закладніках гэтай авантурнай палітыкі двух асобаў».

Я вымушаны быў гэта працытаваць, бо гэта істотна ў той сытуацыі, якая зараз склалася ў Беларусі, калі створана дымавая заслона ўсёй гэтай прапагандысцкай сістэмай дыктатуры. Нічога прынцыповага не адбылося. Адбылася сварка паміж саюзьнікамі, а прынцыповыя падыходы па зьнішчэньні беларускага сувэрэнітэту, нацыі і эканомікі – засталіся, як былі. Наш народ як быў у закладніках гэтай сістэмы, так і застаўся. І задача – каб ён з гэтых закладнікаў выйшаў, каб ён асэнсаваў свой нацыянальны стан, нацыянальны гонар.

Вось гэта і ёсьць асноўнае, на што мы павінны пакладацца: на сваю нацыянальную сілу, на свой народ, на свае інтарэсы. Ніякі Ван дэр Ліндэн, ніякі Шродэр ці Пуцін у нашай нацыянальнай сытуацыі нам не саюзьнікі і не дапаможнікі. Гэта людзі, якія маюць толькі свае інтарэсы. Ім няважна дэмакратыя. У Беларусі адбылася велізарнейшая падзея за апошнія тры месяцы. Ня «газавы» канфлікт. Гэта ўсё дробязь у параўнаньні з тым, што адбылося. Адбыўся выбух палітычнай «атамнай бомбы». І што? Поўнае маўчаньне!

***23 лістапада Лукашэнка афіцыйна сказаў, пацьвердзіў, што ён сфальсіфікаваў прэзыдэнцкія выбары.*** Вы ўявіце нешта падобнае ў Польшчы ці ў Чэхіі, у якой заўгодна краіне! Уся б нацыя выйшла на вуліцы! Такі прэзыдэнт не праіснаваў бы некалькіх гадзін! Тут жа ўключылася б заканадаўства, тут жа ўключылася б усё грамадзтва.

Што ж адбываецца ў Беларусі? Поўнае маўчаньне! Уся каляпалітычная публіка маўчыць. Наша партыя падала ў Вярхоўны суд аб узбуджэньні крымінальнай справы, суд адмовіў. Хто камэнтуе гэта ўсё? Дзе тая незалежная прэса? „Незалежная прэса”, так званая, зьмяшчае на першай староньцы вялікі партрэт Лукашэнкі – загаловак: «Паварот»! Ніякага «павароту» няма, пісакі. Паварот толькі да магілы. І вось гэты „выбух” – прызнаньне ў лістападзе (калі Лукашэнка прызнаўся, што ён зрабіў фальсыфікацыю прэзыдэнцкіх выбараў), гэтае прызнаньне – паказала, на якім узроўні знаходзіцца грамадзтва. І што азначаюць, чаго вартыя ўсе гэтыя „перамовы” з Брусэлем і Ван дэр Ліндэнам, якія таксама, бачыце, «нічога ня чулі» аб тым, што Лукашэнка прызнаў фальсыфікацыю.

Гэта ўсё кажа аб тым, што пакуль наш народ не адчуе сваю сілу, пакуль ён ня стане на свае пазыцыі, пазыцыі сваіх нацыянальных інтарэсаў, да гэтага часу і будзе існаваць дыктатура, і да гэтага часу будуць дурыць і беларускі народ, і міжнароднае грамадзтва, што мы зараз і бачым».

*1 лютага 2007 г.*

***Інтэрв'ю: Сяргей Навумчык, радыё Свабода***

# „ПРА ШТО СЬВЕДЧЫЦЬ ГАЗАВАЯ АТАКА?”

***Сяргей Навумчык з Прагі. Сытуацыю вакол апошняга „газавага канфлікту” паміж Беларусяй і Расеяй камэнтуе старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк.***

***Пазьняк:*** „Цяперашняя «газавая атака» зьвязаная з праблемай захаваньня ўлады КГБ у Расеі, і найперш асабіста Пуціна, у сувязі з заканчэньнем яго кадэнцыі і новымі выбарамі. У канцы мінулага году Расея зьмяніла тактыку. Цяпер яна практыкуе атаку замест «пакрокавай палітыкі», ці «пакрокавай інтэграцыі», як увесь час казалі. Сутнасьць гэтай новай тактыкі – атрымаць хуткую перамогу, ці хаця б посьпехі на «беларускім фронце». Гэта значыць – запалохаць Лукашэнку, загнаць яго ў кут і прымусіць расплочвацца нацыянальнай маёмасьцю. А ў рэшце рэшт падпісаць нейкую фармальную паперу аб «інтэграцыі», ці хаця б дэкларацыю альбо акт аб намерах, які даў бы падставу для маніпуляцыі з трэцім тэрмінам Пуціна. З гэтай тыпова кагэбісцкай стратэгіяй зьвязана і зьмена кіраўніцтва КГБ у Менску, задача якога – хутка задушыць парасткі нацыянальна-вызвольнага супраціву ў Беларусі.

Лукашэнка ўжо даўно не валодае стратэгічнай палітыкай унутры краіны. Хоць зьнешне здаецца, што гэта ён кіруе і аддае загады на вынішчэньне беларускай нацыі. Так, аддае загады – бо яны адпавядаюць ягонай беларусафобнай сутнасьці. Але партытура гэтай акупацыйнай палітыкі напісана ня ім, а публікай з Масквы, якая абсадзіла яго ўладу.

Перакуліць расейскую атаку і выйсьці з сытуацыі магчыма, і нават – нескладана. Трэба праводзіць нацыянальную палітыку, унутраную і зьнешнюю, выходзіць з нацыянальных інтарэсаў. Але для Лукашэнкі гэта чыста тэарэтычнае пытаньне. Бо перакрочыць праз сябе, праз нянавісьць да беларушчыны ён у прынцыпе няздольны ніколі – ні ў стане спакою, ні ў стане страху, ні ў шоку. Ён будзе змагацца за сваю скуру, як пацук, і цягнуць за сабой на дно ўсю Беларусь. А ў гэтым якраз і палягае мэта новай расейскай тактыкі.

Так што антыкрамлёўскі піск Лукашэнкі нічога для беларусаў ня значыць. У той час, калі кідаюць у турмы беларускую моладзь, зьнішчаюць беларускую культуру, гісторыю, архітэктуру, школу, мову і гэтай далей. У гэтым спэктаклі і ў гэтай вайне ёсьць толькі адзін бок, які церпіць і нясе страты. Гэта – беларускі народ”.

***Інтэрв'ю: Сяргей Навумчык з Прагі***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2007, №2 (61).*



(Фота З. Пазьняка)

***80. Сяргей Навумчык. Прага.***

# НЕБЯСЬПЕКА ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Мінуў месяц пасьля нафта-газавай сваркі пуцінскага рэжыму з Лукашэнкам. Мы бачым пэўныя перамены ў фразэалёгіі Масквы і рэжыму на Беларусі і шчыльную дымавую заслону ў так званых СМІ. Тут важна рэальна бачыць, што адбываецца і не палічыць фразэалягічную траскатню за сапраўднасьць.

Генэральная лінія Крамля на ўлучэньне Беларусі ў склад Расеі застаецца нязьменнай гэтак жа, як і тактыка „інтэграцыі" і так званай „саюзнай дзяржавы". Застаецца таксама ідэя-фікс Лукашэнкі заняць пасад у Крамлі і пакіраваць імпэрыяй. Таму палітыку „інтэграцыі" і „саюзнай дзяржавы" рэжым таксама падтрымлівае і будзе падтрымліваць. Дзеяньні Масквы па інкарпарацыі Беларусі цалкам узгоднены з Лукашэнкам і разьвіваліся па трох асноўных накірунках:

– прывязка беларускай эканомікі і гандлю да расейскай эканомікі і да залежнасьці ад расейскіх энэргетычных рэсурсаў;

– пераняцьце інфармацыйнага кантролю над палітыкай і працэсамі ў Беларусі шляхам аб'яўленьня так званай „саюзнай дзяржавы" (аб'явілі ў сьнежні 1999 г.) і сфармаваньня структураў гэтага палітычнага фантому, дзе расейская бюракратыя і расейская разьведка стварылі цэлы апарат;

– стварэньне і арганізацыя ў Беларусі прарасейскай палітычнай эліты і наступнае выкарыстаньне яе для падтрыманьня (ці перамены) прамаскоўскай ўлады (пад выглядам „дэмакратызацыі" рэжыму).

Ёсьць яшчэ чацьвёрты стратэгічны і заўсёдны накірунак расейскай палітыкі на Беларусі – гэта пастаяннае, пасьлядоўнае і неперапыннае вынішчэньне беларускай мовы, беларускай асьветы, адукацыі, навукі, гісторыі, усяго беларускага этнакультурнага існаваньня. Этнацыд і русіфікацыя (якія ў 1920-1940-х гг. ператварыліся ў генацыд) – гэта асноўная лінія рускай палітыкі на Беларусі, на якой выбудоўваюцца ўсе астатнія.

Спэцыфічным у гэтай цяперашняй імпэрскай палітыцы зьяўляецца тое, што ажыцьцяўляецца яна пры канкрэтным удзеле і дапамозе немцаў, якія ўключыліся ў яе ў канцы 1996 г. і ўзялі на сябе ў асноўным трэці накірунак нішчэньня Беларусі (г. зн. стварэньне кампрадорскай ненацыянальнай палітычнай эліты). Сумесныя дзеяньні рэжыму, гансвікаў, цапфаў, фрыкаў і КГБ-ФСБ мелі нядобрыя вынікі – быў стлумлены нацыянальны грамадзкі ўздым 1996-97 гг., расколаты Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" і створана неадраджэнская (не накіраваная на нацыянальную ідэю) псэўдаапазыцыя.

Удзел немцаў у расейскай імпэрскай палітыцы сьведчыць ***пра геапалітычны характар канфлікту змаганьня за Беларусь,*** паказвае на вельмі сур'ёзную пагрозу нашай дзяржаўнай незалежнасьці і нацыянальнаму існаваньню (паўтараецца сытуацыя канца XVIII-га стагоддзя, калі расейцы зь немцамі ліквідавалі Вялікае Княства Літоўскае). Мушу дадаць, што нядаўняя газавая вайна Пуціна супраць Беларусі таксама была распрацаваная і пачатая пад уплывам немцаў, пра што выразна выказваўся былы канцлер Нямеччыны Г. Шродэр 18-га студзеня ў Бэрліне на „расейска-германскай сустрэчы" пад назовам „Стратэгічнае партнёрства паміж Расеяй і Нямеччынай", дзе саюзьнікі раіліся аб сумесных дзеяньнях на Беларусі. (Усё прыкрываецца імкненьнем „дэмакратызаваць" Беларусь).

Асноўная палітычная барацьба (барацьба за Беларусь) сканцэнтравалася якраз вакол трэцяга накірунку – вынішчэньня нацыянальных беларускіх сілаў, асобаў і арганізацыяў і стварэньне прамаскоўскай палітычнай прысутнасьці. На гэта Масквой былі кінутыя маштабныя сілы і сродкі, створана Хартыя-97, Эўрапейскі Гуманітарны Унівэрсітэт, шэраг газэтаў, прафсаюзаў, маса іншых дробных праектаў (тыпу РНЕ, „казакоў" і т.п.). Адначасна нішчылі беларускія навучальныя ўстановы, творчыя саюзы, радыёстанцыі і нават радыёпраграмы (напрыклад, „Голас душы").

І ўсё ж задушыць Беларускую ідэю ні расейцам, ні немцам не ўдалося. Нягледзячы ні на што, яна жыве і набірае сілы (хоць нацыянальна-культурныя страты за гэты час адбыліся велізарныя).

Адначасна пастаянна вырастае і нагадвае пра сябе ўнутраны акупацыйны канфлікт паміж антыбеларускімі сіламі – барацьба за Крэмль. Як толькі надыходзяць прэзыдэнцкія выбары ў Расеі – адразу абвастраецца гэты канфлікт. Перад папярэднімі выбарамі гэта былі „мухі-катлеты", цяпер – нафта-газавая свара.

Я ўжо пісаў пра тактычны пралік пуцінскай групы, якая паставіла задачу працягу існаваньня сваёй улады ў залежнасьць ад злучэньня з Лукашэнкам (ад магчымасьці інкарпараваць Беларусь). Як гэта ні дзіўна, яны не зразумелі (падвяла, відаць, гэбоўская салдафоністасьць), што Лукашэнка ня прыме ніякой пасады ў Расеі, акрамя прэзыдэнцкай.

***Гэбізм здольны толькі на грубую палітыку і спадзяецца на сілу.*** З гэтых пазыцыяў і была зроблена нафта-газавая атака на рэжым Лукашэнкі з мэтай прымусіць Лукашэнку пагадзіцца на інкарпарацыю на ўмовах Пуціна. Але ў выніку Пуцін палітычна прайграў, апёкся і з добрай мінай пры кепскай гульні разважае цяпер пра пераход на рынкавыя дачыненьні. Гэтае словаслоўе абазначае, што расейцы, скарыстаўшы прывязанасьць беларускай эканомікі да расейскіх энэргарэсурсаў і прыярытэтнае партнёрства ў гандлі, будуць паступова, крок за крокам разбураць цяперашнюю беларускую эканоміку, вобразна кажучы, зацiскаць на шыі пятлю, каб загнаць Лукашэнку ў кут. (Беларускі народ тут у разьлік не бярэцца).

Ёсьць шмат магчымасьцяў супроцьдзейнічаць гэтай ізноў жа нямецка-расейскай палітыцы (прыняць антыбеларускі, нібыта рынкавы, тып дзеяньняў крамлёўцаў падштурхнулі, як я ўжо адзначыў, немцы). Аднак, як мы бачым, рэжым Лукашэнкі асабліва не стараецца эканамічна засьцерагчыся ад Расеі. Гучаць толькі заявы, дэклярацыі, і ўсё ў асноўным круціцца ў палітыканцкай сфэры. Прыяжджаюць пагаварыць то Зюганаў, то Рагозін, то Праханаў, то ціхі непрыяцель Беларусі рускі немец Рар, то прафэсійны эўрабюракрат Ван дэр Ліндэн, і ўсё так нікуды ня рухаецца, рэжым даволі спакойны, з абодвух бакоў гавораць пра інтэграцыю.

Пазыцыя Эўразьвязу, нягледзячы на бюракратычнае словаслоўе аб гатовасьці ўспрыняць Лукашэнку пры ўмове адпаведных крокаў зь яго боку, не выглядае, аднак, сур'ёзнай (і рэжым, трэба сказаць, адэкватна яе ацэньвае). Ніякі рэжым ня будзе рабіць першым ніякіх там „крокаў" і выконваць патрабаваньні, каб заслужыць на ласку. Выстаўляючы патрабаваньні, брусэльцы ўсё разумеюць. Калі зыходзіць не з імітацыі, а з патрэбы практычных дзеяньняў, нацэленых на вынік, то „першыя крокі" павінен рабіць таксама Эўразьвяз. Гэтым можна ўключыць працэс мінімальнага руху. Але ў Эўропе цяпер камандуюць немцы і не сьпяшаюцца даваць рэжыму шанец на заходні вектар палітыкі і найперш таму, што ў гэтым не зацікаўленая Расея.

Палітычны пройгрыш Пуціна ў нафта-газавай сварьі ажывіў надзеі няпуцінскіх і контрпуцінскіх сілаў у Расеі ў барацьбе за ўладу. Выглядае на тое, што яны ня супраць выкарыстаць у гэтай барацьбе Лукашэнку ў якасьці зьнешняга тарана (бо ўнутры ў Расеі нікога ў альтэрнатыву Пуціну няма, пуціністы ўсіх выдушылі). Лукашэнка пра гэта ведае. Рэальнай альтэрнатывай мог бы стаць ён сам. (Нядаўна – пасьля „візітаў" у Менск – у Расеі адчынілі нават старонку ў Інтэрнэце –"Лукашэнка 2008", дзе прапагандуюць яго на ... прэзыдэнта РФ). Для Беларусі такім чынам зноў можа ўзьнікнуць вялікая і рэальная небясьпека, бо адновіцца гандаль Айчынай. Здаецца ўжо ўсе зразумелі, што за вышэйшую пасаду ў Крамлі гэтае шклоўскае няшчасьце Беларусі здасьць і Беларусь, і зямлю, і народ. Калі б авантура з аншлюсам сапраўды пачалася б (што ня выключана), то спыніць яе ўжо магла б толькі вайна, і беларусы да гэтага павінны быць падрыхтаваныя. За свабоду і за існаваньне трэба ваяваць.

Спэцыфіка рускага гэбізму і канкрэтная сытуацыя, што склалася, паказваюць, што Пуцін і ягонае асяроддзе павінны шукаць іншыя мэтады, каб захаваць уладу. Самы просты, правераны і магчымы варыянт для Пуціна – гэта трэці тэрмін прэзыдэнцтва (калектыўныя лісты „расіян", прадпрыемстваў, рэгіёнаў з патрабаваньнем „паслужыць" Расеі" і г. д.)

Другі магчымы варыянт можа здасца нечаканым, але дапушчальны, тым больш, што расейскія спэцслужбы маюць тут вялікі вопыт і практыку, адчуваюць сябе, як рыба ў вадзе. Маецца на ўвазе зьмяшчэньне Лукашэнкі і стаўленьне новай марыянеткі шляхам змовы і перавароту. На магчымасьць такіх дзеяньняў ужо зьвярнуў увагу Валеры Костка ў нядаўнім сваім артыкуле зьмешчаным у сеціве (<bielarus.net>, Цугцванг у цэйтноце.) Гэты варыянт падзеяў вельмі небясьпечны для дзяржаўнасьці Беларусі, таму што (калі не пачне супраціўляцца народ) пацягне наўпрост інкарпарацыю краіны ў імпэрыю.

Што рабіць беларусам, калі крамлёўцы пачнуць у нас сваю любімую і правераную тактыку – прамаскоўскі пераварот пад сьцягам барацьбы з дыктатурай? Дзеля магчымасьці такога роду перамены ўлады і зьмены сатрапаў, расейскі гэбізм стварае ў краінах свае прамаскоўскія (дэмакратычныя, рэвалюцыйныя, левыя, канструктыўныя, рэгіянальныя, радыкальныя, і т.п.) кіруемыя апазыцыі. Беларусам трэба разумець, што ***так званая „аб'яднаная дэмакратычная апазыцыя", створаная ў Беларусі Гансам Вікам і КГБ, – гэта не альтэрнатыва прамаскоўскаму рэжыму, а альтэрнатыва беларускаму нацыянальна-дэмакратычнаму Адраджэньню.*** Да ўлады ў Беларусі ў гэтай сытуацыі такія „апазыцыянеры" ня прыйдуць (бо не дзеля гэтага іх сабралі), але могуць падтрымаць патрэбную Маскве перамену ўлады, якая ліквідуе кіраваньне Лукашэнкі. Менавіта на гэтым (ліквідацыя кіраваньня Лукашэнкі) зацыклена іхняя „апазыцыйная" „ідэалёгія". Зрэшты, ў сваіх паводзінах, як сьведчыць практыка, яны ня ёсьць самастойнымі. (Тут я зраблю невялікую дэгрэсію. Зьвяртаю увагу на „дробязь" – на двухсэнсоўнае выкарыстаньне слова „перамена" (якое падкідваюць звычайна моладзі). Гэта прыклад таго, што масавае палітычнае змаганьне ня церпіць неакрэсьленасьці і эўфемізмаў.)

Пазыцыя падтрымкі перавароту дала б повад маскоўскай прапагандзе палітычна апраўдаць пераварот і заблытаць беларускае грамадзтва. Абсадка ўлады ў Беларусі сваімі людзьмі, ліквідацыя „шкодных элемэнтаў" і хуткі аншлюс пад выглядам стварэньня „саюзнай дзяржавы" сталася б ужо справай кароткага часу і абкатанай імпэрскай тэхнікі.

Трэба разумець выразна, цьвёрда і адназначна, што ў выпадку разгортваньня такога сцэнару, ***беларусы і ўсе нацыянальна-дэмакратычныя сілы не павінны прызнаваць і падтрымліваць ні дыктатара, ні прамаскоўскі пераварот у асяроддзі дыктатуры. Гэта перамена ў межах аднае зьявы, дзеля мэтаў гэтае зьявы.*** Нават расейская літаратура асэнсавала сутнасьць такой расейскай палітыкі („народ безмолвствует", калі хто памятае). Па вялікаму кошту тут была б не перамена, а перагрупоўка сілаў прамаскоўскай улады супраць свабоды і незалежнасьці Беларусі. ***Беларускае нацыянальна-дэмакратычнае Адраджэньне павінна разгортваць у гэтай сытуацыі сваю антыімперскую сілу.***

Паўтаруся, гэтыя мае развагі, выкліканыя артыкулам В. Косткі, нельга разглядаць як выказ нейкіх вядомых плянаў нейкіх групаў, ці сцьвярджэньне аб падрыхтоўцы нейкіх пэўных падзеяў. Тут просты погляд на магчымасьці таго, чаго нашае грамадзтва дакладна не перажывала, але што гіпатэтычна можа здарыцца пры зьбегу абставінаў. Людзі, хаця б у агульных рысах, мусяць наперад асэнсоўваць свае паводзіны ў верагодных падзеях, каб мець пазыцыю і ведаць, што трэба рабіць.

Трэба зьвярнуць ўвагу таксама на сымптаматычныя паводзіны лукашэнкаўскай псэўдаапазыцыі. Зьмянілася кан'юнктура дэмагогіі Эўразьвязу, гатовага ўжо супрацоўнічаць з „апошнім дыктатарам Эўропы", і тут жа сваю гатоўнасьць да супрацоўніцтва зь „нелегітымным" Лукашэнкам засьведчыла і ягоная „апазыцыя". Яны запрашаюць яго разам сьвяткаваць 25 Сакавіка – Дзень Незалежнасьці Беларусі. На поўным сур'ёзе нават ліст напісалі Лукашэнку, дзе заявілі, між іншым, што для іх 25 Сакавіка і 3 ліпеня – адно і тое ж. Вось так.

У палітычна разьвітым грамадзтве пасьля гэтакага прызнаньня „апазыцыя" проста перастала б існаваць. Але паколькі ***гэта не апазыцыя, а імітацыя, кіч у палітыцы,*** то ці такое мы яшчэ ўбачым... Пакуль Масква і Брусэль даюць ім грошы – будуць адпрацоўваць любым спосабам. Тым ня менш нельга ім даваць блюзьнерыць на сьвятой справе. (...)

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*11–25 лютага 2007 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №1 (60)*

# НАШ ГРУНТ – БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ

***(Выступ на сакавіцкім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Скарочана)***

…Ёсьць некалькі зьяваў у палітыцы, да разгортваньня якіх (незалежна ад нас) мы павінны быць ідэалягічна падрыхтаванымі. Найперш, гэта ўдзел Лукашэнкі ў палітычнай барацьбе ў Расеі на баку антыпуцінскіх сілаў. Імпэрцы самы ўцягваюць яго ў гэтую палітыку. Можна прадбачыць завастрэньне асабовых канфліктаў. Прыкметай такога завастрэньня зьяўляецца пашырэньне інфармацыі аб магчымым дзяржаўным пераваpоце ў Беларусі, які быццам бы можа быць падрыхтаваны асяроддзем Лукашэнкі супраць яго самога. Нядаўна распаўсюдзілі ліст, падпісаны „патрыётамі Беларусі, супрацоўнікамі КГБ". „Патрыёты КГБ" у прынцыпе ня пішуць нічога новага і нічога невядомага ў сваім лісьце, акрамя таго, што адтайнілі прозьвішчы людзей, якія ёсьць у „эскадроне сьмерці", на які, паводле іх, абапіраецца рэжым Лукашэнкі. Гэта цікава, асабліва, калі ўлічыць, што прозьвішчы гэтыя былі вядомыя (не сумняваемся) вельмі вузкаму колу асобаў. Таму хутчэй за ўсё, што сакрэт раскрыла руская разьведка з ФСБ.

Увогуле ўзьнікае пытаньне, дзеля чаго зьявіўся такі ліст і навошта раскрылі прозьвішчы. Папярэдзіць аб рэпрэсіях? Дык рэпрэсіі ідуць увесь час. Вынік надрукаваньня ў Сеціве такой інфармацыі можна лёгка вызначыць – гэта павелічэньне страху ў грамадзтве, псіхалягічная няўпэўненасьць у Лукашэнкі і ў чальцоў „эскадрона сьмерці". Выходзіць, што калі б пераварот сапраўды рыхтаваўся, то такі ліст павінен бы быў зьявіцца. Ня выключана, што ён увогуле падрыхтаваны ў Маскве.

Тэма пераварота пашыраецца ўсё больш. Ня трэба яе недаацэньваць, пры ўсіх невысокіх шансах такой падзеі на Беларусі. Для нас, аднак, галоўным ёсьць вызначэньне нашай пазыцыі, якую мне ўжо давялося выкласьці ў артыкуле ***„Небясьпека для Беларусі".*** Ні народ, ні нацыянальна-адраджэнскія сілы не павінны ўдзельнічаць ў маскоўска-прамаскоўскім канфлікце, не павінны дазволіць, каб імі маніпулявалі ворагі беларушчыны ў сваім міжусобным сутыкненьні. Няхай фальшывыя гульцы гуляюць самы з сабой і самы праваляцца, бо ўсё будзе добра відаць.

Наш грунт барацьбы цяпер, як і заўсёды, – гэта плятформа „Беларуская Салідарнасьць". Час паказаў правільнасьць і актуальнасьць гэтай плятформы злучэньня ўсіх грамадзянаў на аснове беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў незалежнасьці, культуры і дэмакратыі. Час паказаў таксама правільнасьць нашай нацыянальна-асьветніцкай працы, якая стане асновай для беларускага змаганьня.(…)

***Зянон Пазьняк***

*11 сакавіка 2007 г.*

# ПАРАД ХАЛУЙСТВА 2007

Нешта функцыянеры псэўдаапазыцыі ў апошні час пачалі больш узмоцненна поўзаць перад Масквой. Аж у грудзі сябе б'юць і гучна крычаць: „Халуй я, халуй, вы что, не слышыте!?"

Першым узвысіў свой голас вышэй звычайнага М. Марыніч. З групай расейцаў і немцаў ён падпісаў „стратэгію для Беларусі", якую фінансаваў Аўстрыйскі банк. Там напісана: „**Будучыня Беларусі павінна стаць сумесным эўрапейска-расейскім праектам ...Прыярытэтнымі павінны стаць эканамічныя інтарэсы як Расеі, так і Эўразьвязу...**"

Ну як вам? Новае слова „ў барбе". Далей яшчэ цікавей:

„**Праграма рэформаў павінна безумоўна адлюстроўваць той факт, што новыя кіруючыя эліты будуць захоўваць расейскія стратэгічныя інтарэсы, а таксама, што праэўрапейская пазыцыя ў Беларусі цалкам супадае са спэцыяльнымі адносінамі з Расеяй. Пакуль Расея будзе даваць „прарасейскасьці" кіруючых элітаў у краінах, якія складаюць стратэгічны пояс вакол яе, датуль палітычныя і эканамічныя рэформы або шчыльныя адносіны з эўрапейскімі рынкамі ня будуць нікога раздражняць.**"

Вось так. У Беларусі гарбатага й магіла ня выправіць.
(http://www.bielarus.net/archives/2007/02/14/1047),
(http://www.bielarus.net/archives/2007/02/07/1038)



*81. Пікет прыхільнікаў М. Марыніча. Менск, 2006 г.*

(Фота з Сеціва)

Неўзабаве два вялікія „апазыцыянеры" і непрымальнікі мовы рускі генэрал В.Фралоў і А.Скрабец 2-га красавіка „арганізавалі" мітынг „единения с Россией". Адзінаццаць гадоў таму тысячы мінчанаў вышлі ў гэты дзень на вуліцы супраць гэтага „единения", моладзь білася з „амонам" (калі хто памятае Вясну-96). І вось ў 2007 пад выглядам „апазыцыі" вылезьлі Скрабец з Фраловым (вылезьлі б яны ў 96-м !). На мітынг, праўда, ніхто не прыйшоў. Гэта ж Беларусь. (У Польшчы прыйшлі б і набілі морду.)

А недалей як учора (13 красавіка) распрануўся яшчэ адзін падстаўны „апазыцыянер" – А. Мілінкевіч. Ён паехаў у „горад Скарыны" Піцер і сказаў рускім „таварышчам": **«Сярод сур`ёзных дэмакратычных лідэраў нашай краіны няма і ня будзе антырасейскіх палітыкаў» „Вельмі важна, каб у Расеі ведалі аб тым, што беларускія дэмакратычныя сілы – гэта не антырасейскія сілы".** Гэтага яму здалося яшчэ мала, і ён дадаў пра нафта-газавы-канфлікт: маўляў, **беларуская улада, якая доўга атрымлівала прэфэрэнцыі, у выніку «аказалася няўдзячнай і стала выступаць супраць Расеі. Мне за гэта сорамна».**

Камэнтаваць тут няма чаго. Гэты пераплюнуў нават незабыўнага Ганчарыка (якога таксама падбіралі ў Маскве).

Масква, відаць, паставіла вельмі жорсткія ўмовы сваім спаборнікам, што тыя гатовыя сабе насы паразьбіваць, прысягаючы. Можа ўсё ж вырастуць новыя людзі, што без ваганьня стануць пад наш сьвяты беларускі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і зьмятуць гэтыя бурбалкі!

***Зянон Пазьняк***

*14 красавіка 2007 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №2 (61).*

# ПРАЎДА ПРА ЧАРНОБЫЛЬ

***(Выступ у гадавіну Чарнобыльскай катастрофы. Скарочана)***

...Сёньня трагічная гадавіна Беларусі – гадавіна Чарнобыля – смутнай падзеі, адзначанай у Вялікай Кнізе Аб'яўленьня. Наш народны лёс запісаны там, а гэта значыць, што мы мусім перажыць гэтую біду, перамагчы Чарнобыль радыяцыйны і Чарнобыль чужынскага разбурэньня.

Чужынскае разбурэньне – гэта найперш сам узрыў рэактара і скідваньне радыяцыі на нашу зямлю. Іншае – гэта псаваньне, нішчэньне нашай нацыянальнай культуры і краіны тымі, хто выклікаў атамную катастрофу.

22-красавіка ў эфіры каналу Бі-Бі-Сі (Вялікабрытанія) быў паказаны тэлефільм з маім удзелам і камэнтарамі – „Навука аб супэрштормах". Там гаворыцца аб тым, як Масква асаджвала радыёактыўныя хмары на галовы беларусаў у Магілеўскай вобласьці, прыводзяцца факты. Эх, як залемантавалі адразу ў Маскве, як пачалі круціцца і хлусіць. І што балюча (хаця і тыпова), што і некаторыя нашыя беларускія дасьледнікі і дзеячы пачалі віляць і заблытваць праўду, пасуючы перад рэжымам.

Дарагія сябры, калі мы ўзгадваем Чарнобыль, мы заўсёды кажам – „Праўда пра Чарнобыль". Мы – Беларускі Народны Фронт – выканалі сваю місію перад нацыяй. Яна называецца па-евангельску: „Праўда пра Чарнобыль". Усе, хто пра Чарнобыль хлусілі, хлусяць і будуць хлусіць – падаюць у нікчэмнасьць. Мы павінны змагацца зь няшчаснымі вынікамі Чарнобыльскай катастрофы. Але мы павінны таксама абараняць „Праўду пра Чарнобыль". Праўда робіць народ вольным. Галоўная зброя непрыяцеля – хлусьня, нахабная і бессаромная. Але праўда перамагла і пераможа далей.

Будзьма ўпэўненыя ў нашай народнай перамозе, у сьветлай будучыні нашай краіны. Жыве Беларусь і будзе жыць вечна!

***Зянон Пазьняк***

*26 красавіка 2007 г.*





(Фота В. Сямашкі)

***82-83. „Чарнобыльская зона", Гомельская вобласьць.***

# ТОЛЬКІ НАПЕРАД

***(Выступ на травеньскім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Скарочана)***

**…**Зьвяртаю ўвагу Сойму на характарыстычную прыкмету, якая выяўляецца вельмі выразна цяпер у беларускім грамадзтве – узмацненьне антыбеларускай палітыкі. Здавалася б, пасьля нафта-газавага канфлікту з Масквой і філіпікаў супраць Пуціна, рэжым мусіў бы ўнесьці нейкую карэктыроўку ва ўнутраную палітыку на карысьць нацыі. Нічога падобнага, якраз з дакладнасьцю да наадварот. Рэзка ўзмацніўся перасьлед беларускай школьнай і навучэнскай моладзі за беларускую мову і беларускія погляды, выявілася, што ў школах існуе сістэма сексотаў сярод настаўнікаў, якія адсочваюць ідэёвых беларусаў і даносяць на вучняў у КГБ. Маладых людзей цяпер арыштоўваюць за нацыянальныя патрыятычныя погляды, рыхтуюць суды пад выглядам „за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі".

Дабіваюць важнейшую сфэру нацыянальнага жыцьця – вялікую беларускую літаратуру і арганізацыю пісьменьнікаў. У гэтым годзе быў ліквідаваны і забаронены Літфонд – важная і апошняя структура, якая трымала пісьменьнікаў. Пазбаўляюць памяшканьняў апошнія беларускія арганізацыі (ТБМ, „Бацькаўшчына" і інш.). У тры разы падвысілі аплату за творчыя майстэрні беларускім мастакам. А гэта значыць, што большая частка зь іх ужо ня зможа займацца творчасьцю.

Наступ на ўсё беларускае актывізаваўся асабліва за апошнія паўгода, і мы бачым, што ён мае ня толькі сістэмны характар як выяўленьне агульнай антыбеларускай стратэгіі, але разьвіваецца таксама па макрашляхах, гаворачы іхнай расейскай тэрміналёгіяй, – „даходзіць да кожнага чалавека".

Я зноў акцэнтую ўвагу на тым, што ***нафта-газавы канфлікт Лукашэнкі з Масквой і ўся палітычная рыторыка, якую ён выклікаў па сёньняшні дзень, ня маюць прынцыповага характару і не зьмяняюць кардынальную маскоўскую і лукашысцкую палітыку, накіраваную на вынішчэньне беларускай нацыі.*** Заўважце таксама, што ў Расеі Лукашэнку падтрымліваюць самыя крайнія, шавіністычныя і пракамуністычныя сілы.

У чым жа тады пытаньне, могуць сказаць. А пытаньне тут якраз вечнае беларускае. Вынішчэньне нацыянальна сьпячага грамадзтва і нацыянальна няразьвітых эліт заканчвалася вечным беларускім пытаньнем на краі курапацкай ямы: „За што?" Бальшыня беларускага грамадзтва ўжо стагоддзі вечна нічога не разумее. А вопыт папярэдніх не засвойваецца наступнымі, бо ў нацыянальна дэфармаваным асяроддзі катастрафічна абніжана памяць.

У гэтай сытуацыі ёсьць толькі адзін выхад і толькі адно дзеяньне: дапамагчы ўсьвядоміцца і дапамагчы зразумець. Крытыкаваць такое грамадзтва бессэнсоўна. Гэта тое ж самае, што крытыкаваць і крычаць на хворага за хваробу. Таму людзі, якія зьневажаюць і абзываюць народ за тое, што ён нечага не




(Фота з Сеціва)

***84. Беларуская моладзь пад Бел-Чырвона-Белым Сьцягам.***

разумее, самы нічога не разумеюць. Як правіла, гэта ня ёсьць адраджэнцы.

***Калі нацыю вынішчаюць, тады мова, асьвета, адзеньне і нават акцэнт у мове робіцца для нішчыцеляў палітыкай. У выніку людзей перасьледуюць за натуральнае права. Перасьлед за натуральнае права – аснова ўсялякага масавага ўціску, этнацыду і генацыду, што зьяўляецца злачынствам супраць чалавецтва. Каб зьмікшыраваць нацыянальную прычыну рэпрэсіяў, апартуністы ад разбурэньня прыдумалі „правы чалавека" – перавод масавага злачынства і масавага характару вынішчальнай палітыкі ў сфэру індывідуальнасьці асобы і пазбаўленьня такім чынам людзей нацыянальнай кансалідуючай базы ў змаганьні за абарону народа і нацыянальнай культуры.***

З апартуністычным лёзунгам „правоў чалавека" мы разабраліся даўно, яшчэ калі гансвікі нішчылі Беларускае Адраджэньне, але нам істотна зразумець, што і тут патрэбная нацыянальная асьвета, каб спыніць бесперашкоднае абалваньваньне людзей, асабліва маладых.

Цяперашняе нацыянальнае разьвіцьцё беларускага грамадзтва можна ацаніць як крок наперад – два ў тыл. Гэта дрэнна. Але не апускайма рук, бо вельмі важна, каб быў бы гэты крок наперад. Лёгіка змаганьня рана ці позна прыводзіць да зьмены гэтай парадыгмы павольнага зьнішчэньня, спыняюцца крокі ў тыл і застаюцца толькі наперад.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*13 траўня 2007 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №2 (61).*

# АБ'ЯЎЛЕНЬНЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Вяршыняй палітыкі *Беларускага Народнага Фронту* было аб'яўленьне *Незалежнасьці Беларусі 25 жніўня 1991 г.* Гэта была вялікая падзея ХХ стагоддзя ў жыцьці нацыі. Першае аб'яўленьне незалежнасьці *Беларускай Народнай Рэспублікі* адбылося *25 Сакавіка 1918 года*, але ўжо ў сьнежні гэтага ж году краіна была стлумлена расейскай бальшавіцкай акупацыяй, якая працягвалася 73 гады.

Барацьба за незалежнасьць супала са змаганьнем супраць камунізму і КПСС. Гэтая акалічнасьць дапамагала сабраць значныя сілы і падтрымку людзей, хоць у цэлым беларускае савецкае грамадзтва і савецкія эліты былі слаба падрыхтаваныя да незалежнай палітыкі. Пакаленьні людзей былі выхаваныя ў сфэры савецкай прапаганды і зрусіфікаванай, скамунізаванай школы.

Беларуская нацыянальная інтэлігенцыя і нацыянальная адміністрацыя былі фізічна вынішчаны рускімі камуністамі за часы сталінскага генацыду і пасьлядоўна тлуміліся ў пасьлясталінскія часы. Акупанты ўжо ў 60-х гадах мінулага стагоддзя зачынілі ў Менску ўсе беларускія школы. Адбывалася татальнае вынішчэньне нацыянальнай культуры і яе лепшых прадстаўнікоў.

У гэтакіх умовах пачыналася змаганьне з камунізмам і акупацыяй. Узначаліў гэтую барацьбу *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"*, створаны ў 1988 годзе. Рашаючае значэньне меў прарыў праз выбарчыя рагаткі ў парлямант невялікай часткі фронтаўцаў на выбарах 1990 года. Адразу ж на пачатку дзейнасьці таго савецкага парляманту, дзе было амаль 90 адсоткаў камуністаў, дэпутаты-фронтаўцы стварылі парляманцкую *Апазыцыю БНФ* і прапанавалі праект Дэклярацыі аб незалежнасьці. Дэклярацыя была завалена камуністамі. Але праз некалькі месяцаў фракцыя БНФ удала скарыстала маніпуляцыю Гарбачова з суверэнітэтам рэспублікаў СССР (калі Гарбачоў рыхтаваў новы саюзны дагавор) і, ужываючы бліскучую парляманцкую тактыку, дамаглася прыняцьця Дэклярацыі аб суверэнітэце Беларусі, тэкст якой таксама амаль цалкам падрыхтавалі дэпутаты-фронтаўцы.

У жніўні 1991 года, пасьля правалу маскоўскага камуністычнага путчу, гэтая Дэклярацыя была скарыстаная Апазыцыяй БНФ для канстытуцыйнага афармленьня незалежнасьці.

Выкарыстаўшы страх і разгубленасьць камуністаў пасьля правалу путчу, дэпутаты-фронтаўцы, якіх было толькі восем адсоткаў у парляманце, зноў дастасавалі бліскучую тактыку і прымусілі камуністычны парлямант зьмяніць старшыню парляманта (камуніста Дземянцея), спыніць дзейнасьць камуністычнай партыі Савецкага Саюза і камсамола на Беларусі і галоўнае – прагаласаваць за незалежнасьць краіны ад СССР. Гэта быў трыюмф дэпутатаў Народнага Фронту. Тысячы людзей стаялі на плошчы пад вокнамі Вярхоўнага Савета і падтрымлівалі незалежнасьць.

Такім чынам незалежнасьць Беларусі ў канцы ХХ стагоддзя, дзякуючы рашучым і беспамылковым дзеяньням, адваяваў і вярнуў нешматлікі беларускі палітычны авангард – дэпутацкая Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту, якая абапіралася на падтрымку структураў БНФ і перадавую, сьведамую частку беларускага грамадзтва.

Далейшае нацыянальнае дзяржаўнае будаўніцтва адбывалася зь вялікімі цяжкасьцямі, бо засталася старая камуністычная ўлада, якая цягнула назад, у СССР; і другое: беларускае грамадзтва ў цэлым не сасьпела яшчэ да разуменьня каштоўнасьці свабоды і незалежнасьці і да разуменьня задачаў нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва.

Авангард павіс у заваяванай ім крэпасьці і без падтрымкі высільваўся, каб яе ўтрымаць. Асноўная маса людзей пасіўна была на баку Фронта і спакойна назірала, што адбываецца.

Пералом настаў у кастрычніку 1992 года, калі кіруючая былая камуністычная намэнклятура незаконным чынам спыніла правядзеньне рэфэрэндуму аб зьмене ўлады і магчымасьці новых выбараў.

Працэсы, якія адбываліся пасьля 1992 года, – гэта ўзмацненьне прысутнасьці і ўплыву КГБ ва ўсіх сфэрах улады ў Беларусі і амаль непрыкрытая інфільтрацыя расейскіх спэцслужбаў у дзяржаўнае і грамадзкае жыцьцё краіны. Гэтыя спэцслужбы і КГБ падрыхтавалі прыход Лукашэнкі да ўлады і стварэньне цяперашняга прамаскоўскага антыбеларускага рэжыму, які характарызуецца адметнымі рысамі рэжыму ўнутранай акупацыі.

* * *

Вяртаючыся да тых гадоў беларускай нацыянальнай рэвалюцыі ці Беларускага Адраджэньня (1988--1995 гг.), мушу адзначыць факт сапраўднай міжнароднай салідарнасьці ў тыя часы, найперш паміж Беларусяй, Украінай, Польшчай і Летувой. Гэта значыць паміж краінамі Ўсходняй Эўропы і Польшчай, фактычна, паміж краінамі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Гэты факт далёка не выпадковы і вельмі сымптаматычны, бо відавочна, што Ўсходняя Эўропа – гэта была і ёсьць цалкам асобная культурная, эканамічная і геапалітычная тэрыторыя.

Ідэя Беларускага Народнага Фронту пра Балта-Чарнаморскую супольнасьць бянтэжыла і Маскву, і Захад. Пазьней з ініцыятывы Польшчы гэтая ідэя перарасла ў канцэпцыю Міжмор'я, куды ўлучалася і Цэнтральная Эўропа.

Пасьля ўступленьня Польшчы ў Эўразьвяз гэтая канцэпцыя фармальна стала часова неактуальнай. Але яна нікуды ня зьнікла, бо адпавядае глыбіннай сутнасьці дачыненьняў і падзелаў на эўрапейскім кантыненце. Далейшыя чакаемыя перамены на Ўсходзе і на Захадзе (развал Эўразьвязу) ужо ў бліжэйшай будучыні ажывяць натуральныя працэсы ўсходнеэўрапейскай салідарнасьці, якія дэкляруюць больш дасканалае і натуральнае грамадзтва, чым тое, якое цяпер прапагандуе Захад і прапануецца ў Эўразьвязе. Усходняя Эўропа патрабуе больш дастасаванага і жыцьцёвага грамадзтва, таксама – рэальнага суверэнітэту і рэальнай свабоды грамадзянаў ва ўласнай краіне.

* * *

Ідэі Усходнеэўрапейскай салідарнасьці, сумесная чыннасьць беларускіх і польскіх арганізацыяў мелі свой працяг у пачатку 2000-х гадоў. Маюцца на ўвазе кантакты Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” з рухам „Адраджэньне Польшчы” і непасрэдны ўдзел кіраўніцтва БНФ у дзейнасьці „Камітэту Польшча – Беларусь” імя генэрала Булак-Булаховіча”, які быў арганізаваны ў студзені 2000 г. (Пётра Глябовіч, Робэрт Боднэр, Зянон Пазьняк, Сяргей Папкоў, Валеры Буйвал, Ядзьвіга Хмелёвска, Лешэк Бэднарчук і інш.). Пад польска-беларускім супрацоўніцтвам ёсьць глыбокі гістарычны грунт і пэрспэктывы ў сучаснасьці на глебе агульных каштоўнасьцяў і супадзеньня інтарэсаў. Мы вітаем нашае супрацоўніцтва і будзем далей яго разьвіваць.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*25 траўня 2007 г., Нью-Ёрк*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2007, №2 (61); „Беларус”, 2007, № 538, лістапад).*

# ГЭТА ШЛЯХ БЕЛАРУСКІ

***(Выступ на чэрвеньскім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Скарочана)***

...Спынюся на трох тэмах, істотных для нашага асэнсаваньня.

1. Найперш трэба адзначыць рацыю нашай нацыянальна-асьветніцкай пазыцыі і дзейнасьці. Правільны яе прыярытэт у гэтых абставінах. Мы бачым канкрэтныя вынікі і разумеем, што гэта вынікі таксама нашай сьціплай працы. Існуе накірунак у працэсах, ацэнкі і тэрміналёгія Адраджэньня. Існуе компас, ёсьць тыя, што не асьлеплі, тыя, што йдуць. Па зразумелых прычынах вялікая справа не вырастае яшчэ ў масавую зьяву, але пазначае тэндэнцыю, нацыянальны вольны рух. І гэта адзінае, што ёсьць, – жывое. І на гэтае адзінае жывое кінуты зараз усе рэпрэсіўныя сілы антыбеларускага рэжыму.

У нацыянальна-дэмакратычным змаганьні за волю і дзяржаўную будучыню Беларусі цяжкасьці і праблемы ўзьнікаюць не ад таго, што чалавек не разумее, а ад таго, што ён сябе не ўсьведамляе часткай агульнага цела нацыі. Разуменьне, практычна, нічога не дае, калі няма сьведамасьці. Нацыянальна сьведамы чалавек разумее і арыентуецца сам.

2. Палітыка і пазыцыя антыбеларускага рэжыму не зьмяніліся ні ў чым у прынцыпе, але набываюць што раз больш агрэсіўны антыбеларускі накірунак. Дзеяньні па вынішчэньні ўсяго беларускага цяпер рэпрэсіўна ўзмацняюцца. Асаблівы накірунак вынішчэньня – дзеяньні супраць беларускіх нацыянальна-культурных інстытутаў і арганізацыяў і рэпрэсіі супраць нацыянальна актыўнай беларускай моладзі.

Насіленьне дзеяньняў па вынішчэньні беларускага ў Беларусі сьведчыць пра тое, што Масква-Лубянка адчайна хоча пераламаць сытуацыю ў Беларусі перад прэзыдэнцкімі выбарамі ў Расеі.

У тактычным выяўленьні рэжым Лукашэнкі заняў вычакальную пазыцыю напярэдадні расейскіх выбараў, закінуўшы там якар на выпадак малаверагодных пераменаў.

Трэба ўлічваць, што дэмакратычныя сілы ў Расеі, практычна, адсутнічаюць. Тое слабое дэмакратычнае „квазі”, якое існуе, стаіць там выключна на імпэрскіх пазыцыях. Любыя перамены (ці неперамены) у цяперашняй Расеі ня пойдуць на карысьць Беларусі. Гэта істотна разумець у нашым змаганьні з акупацыйнай палітыкай.

3. У апошні тыдзень траўня была праведзена карэктыроўка псэўдаапазыцыі на кангрэсе гэтай спэцыфічнай зьявы. Кангрэс падсумаваў праект „Выбары-2006”. (Назва ўмоўная, але гэта той лубянска-крамлёўскі праект групы Паўлоўскага). Фармальна канстатавана, шо Мілінкевіч, як і Казулін, цалкам выканаў сваю ролю ў гэтым праекце і павінны адыйсьці. Гульня ў „лідары” цяпер Маскве ўжо не патрэбна. Яна не зьбіраецца таксама ўмацоўваць гэтую „апазыцыю” і ператвараць яе ў нейкую фармальную сілу ў міжчасьсі, гэта значыць тады, калі Маскве няма ў ёй патрэбы.

Кангрэс засьведчыў умацаваньне і перавагу адкрыта прамаскоўскіх і пралевых удзельнікаў, якіх выбралі ў калектыўныя кіраўнікі псэўдаапазыцыі (С. Калякін, А. Лябедзька, В. Вячорка і прадстаўнік А. Казуліна).

У гэтай апазыцыі асабліва нікчэмным выглядае прысутнасьць прадстаўніка „прагматычнага БНФ” побач з камуністамі, якія супраць беларускай мовы, за СССР і за „зьяднаньне” з Расеяй. Ня кажам ужо пра іхнюю „гісторыю” і ролю ў беларускай гісторыі.

Псэўдаапазыцыя адмовілася ад „лідара”, якога год-два таму ёй стварылі зь нічога. Але насьцярожвае той факт,

што адпрацаваны „лідар" пачаў выяўляць недвухсэнсоўную схільнасьць узначаліць Беларускі нацыянальны маладзёвы рух (заявіў нават, што ўступае ў Малады Фронт). Можна сказаць дакладна, што калі Мілінкевіч атрымае магчымасьць уплываць і накіроўваць Малады Фронт, справа не абмяжуецца „мобамі-шмобамі". Праз нейкі час рух загоняць у сьляпы завулак, і ён рассыпецца на дробныя часткі.

Увогуле, мы недаацэньваем гэтага функцыянера, ашукаўшыся яго ціхім голасам і мяккацелай усьмешачкай. У 90-х гадах, калі яго накіравалі з высокай намэнклятурнай пасады „у дэмакратыю" ачольваць „рэсурсны цэнтр" і арганізацыю „Ратуша", менавіта ягоная „рэсурсная" дзейнасьць найбольш паспрыяла вытоптваньню самай моцнай гарадзенскай арганізацыі БНФ і падрыхтавала там раскол Фронта. У 2001 г. на прэзыдэнцкіх выбарах ён узначаліў каманду Домаша, якога „адпаведныя сілы" (будзем так казаць) выставілі адмыслова супраць кандыдатуры старшыні БНФ. Праект крамлёўскай групы Паўлоўскага ў 2006 годзе ён выканаў вельмі добра і па „планцы", і па выгасаньні пратэстных настрояў (тое ж самае і ў гэтым годзе – 25 сакавіка, прапановы супрацоўніцтва з Лукашэнкам, падтрымка расейскай палітыкі ў Беларусі і г.д.). Мілінкевіч аказаўся значна больш плывучым, чым Казулін, які, трапіўшы з ходу ў маскоўскую палітыку, відаць, па прасталінейнасьці сваёй, ня ведаў, што пасьля выкананьня працы, лубянцы ніколі не ўзнагароджваюць „працоўных энтузіястаў", а выкідваюць іх прэч, пакідаюць на волю лёсу альбо зьнішчаюць (гледзячы, што хто рабіў).

Сумнае ў гэтых гісторыях яшчэ й тое, што, трапіўшы ў турму, такія беларусы ніколі не разумелі, чаму яны туды патрапілі, а, выйшаўшы з турмы, ня здольныя былі зрабіць рэальных высноваў. Бо, паўтараю, ***разуменьне рэчаіснасьці і ўлучэньне ў нацыянальную палітыку прыходзіць не ад розуму і не ад інфармацыі, а ад нацыянальнай сьведамасьці.***

Коратка пра ідэалёгію падстаўной апазыцыі. Яе ідэалёгія ёсьць „непрадрашэнства" (мабілізацыя розных пратэстных сілаў толькі на бліжняй мэце). Непрадрашэнства як тактычная імпэрская ідэалёгія была распрацавана расейскімі дэмакратамі-шавіністамі яшчэ ў пэрыяд паміж 1-й і 2-й Сусьветнымі войнамі. Рускія эмігранты імкнуліся аб'яднаць усіх уцекачоў з СССР на барацьбу з бальшавізмам, не вызначаючы (не предрешая), што будзе пасьля перамогі. У той жа час погляды антыбальшавікоў-расейцаў і антыбальшавікоў украінцаў, беларусаў, грузінаў, армянаў, эстонцаў і г.д. на тое, што будзе з пасьлябальшавіцкім СССР, істотна розьніліся. „Не предрешая", рускія „дэмакраты-эмігранты" хацелі загрэбсьці жар чужымі рукамі: разам расправіцца з бальшавізмам, а потым ужо ў сваёй „единой и неделимой" разьбірацца з народамі.

Сутнасьць беларускай драмы добра вядомая – гэта імкненьне імпэрскай Расеі падпарадкаваць і захапіць Беларусь, выкарыстоўваючы антыбеларускі рэжым Лукашэнкі (які Масква ж і стварыла). І што цікава, Масква гаворыць пра свае намеры адкрыта, камуфлююючы толькі для выгляду сваю агрэсіўную пазыцыю разважаньнямі пра „інтэграцыю", „увядзеньнем расейскага рубля" на Беларусі, стварэньнем „союзного государства" і таму падобнай эўфэмістычнай лухтой. Але псэўдаапазыцыя зусім не „змагаецца" з палітычнай агрэсіяй Расеі, з пагрозай незалежнасьці Беларусі, вынішчэньнем беларускай культуры і беларускага нацыянальнага жыцьця. Яны выступаюць толькі супраць дыктатуры Лукашэнкі. Яны змагаюцца за „правы чалавека" пад акупацыяй (а не супраць акупацыі). І нават езьдзяць пры гэтым у Маскву па „дапамогу". Маўляў, давайце звалім Лукашэнку, а што будзе потым – потым і разьбярэмся. Што „потым", ніхто зь іх і ня думае, бо Масква яшчэ ня вырашыла. Нават само „непрадрашэнства" тут фальшывае і несамастойнае, пазыцыя поўная абсурду і імітацыі.

Усё нібыта будуецца на антылукашызме, на бліжэйшай задачы, на змаганьні не з ворагам, а з інструмэнтам ворага (бо лукашысцкі рэжым ёсьць інструмэнтам антыбеларускай палітыкі).


(Фота з друку)

***86. Дэманстрацыя Народнага Фронту. Менск 24 сакавіка 1996 г.***

Захад, як і ў XX стагоддзі, заўсёды падтрымліваў непрадрашэнства расейскага імпэрыялізму, этнацыду беларусаў, палітычнай агрэсіі Расеі – сутнасць канфлікту ва ўпор ня бачыў і не хацеў бачыць, бо гэта не адпавядала ягоным інтарэсам. Непрадрашэнская квазіапазыцыя выгадная і Захаду, і Маскве.

Гэтакую расейска-лубянскую тактыку добра разумелі на Беларусі нацыянальныя палітыкі і ў прыватнасьці Беларускі Народны Фронт. За часы змаганьня з камунізмам расейска-лубянская агентура таксама лезла ў Фронт і імкнулася пасадзіць усіх на непрадрашэнскага каня. Маўляў, трэба зваліць КПСС, а потым будзем гаварыць пра суверэнітэт, бо трэба, маўляў, усім аб’яднацца супраць таталітарызму і ня трэба „выпячивать сейчас белорусский язык”, „ради единства всех сил” і г.д.

Але тады ў іх гэты нумар не прайшоў, мы павытурвалі ўсіх тых Якавенак, Акулавых, Жураўлёвых і іншых разам зь іхным „единством сил”, бо разумелі, што абазначае для беларусаў уся гэтая прымітыўная дэмагогія. У выніку мы спынілі дзейнасьць КПСС і здабылі незалежнасьць нягледзячы на тое, што ў тых нашых умовах гэта межавала з цудам.

Беларусам трэба добра разумець, што ў кантэксьце нацыянальнага змаганьня і Адраджэньня Беларусі раскол Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”, спакуса на грошы ды на гранты часткі фронтаўскіх людзей, прыняцьцё імі дэмагагічнага лёзунга „адзінства ўсіх сілаў” на пазыцыях „непрадрашэнства” – усё гэта было якраз той здрадай, якая вызначыла на сёньняшні дзень нікчэмны нацыянальны лёс Беларусі, стан балючасьці пэрманэнтнага сораму за тое, што адбываецца.

Тым, хто аналізуе падзеі, варта памятаць аксіёмы і тэарэмы, даказаныя вопытам. ***Людзі, якія прыходзяць у нацыянальную палітыку, у агульную нацыянальна-вызвольную справу, могуць толькі аддаваць, ахвяравацца сваім часам, сваёй сілай і інтэлектам, сваімі сродкамі, сваёй працай. Іншага тут ня можа быць. Нацыянальная дзяржава, нацыянальная свабода ствараліся толькі такімі людзьмі і толькі такім спосабам.*** Выключэньняў няма. Каб атрымаць ураджай, трэба зерне аддаваць і верыць у будучыню. Затое, калі прыходзіць ураджай (вольная нацыянальная дзяржава), кожны атрымлівае гарантыі і магчымасьці (у тым ліку і тыя, што ня верылі і не аддавалі).

Людзі, што хочуць зарабіць, мець выгаду на нацыянальнай палітыцы, на змаганьні за волю ды на Адраджэньні, – паразіты, патэнцыяльныя карупцыянэры. Гісторыя посткамунізму і посткаляніялізму ва Ўсходняй Эўропе гэта яскрава ілюструе (я не кажу ўжо пра Афрыку).

Ёсьць шлях да волі і незалежнасьці. Гэты шлях ляжыць адначасна праз галаву і сэрца. Беларусы яго альбо пройдуць – альбо ня пройдуць. Будуць – альбо ня будуць. Я думаю – будуць, бо йдзем. Засталося толькі прайсьці.

***Зянон Пазьняк***

*10 чэрвеня 2007 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2007, №2 (61).*

# „ЛІДАРЫ” І „ІНШЫЯ” Ў МАСКВЕ

18-га чэрвеня, як звычайна (і як заўсёды) прамаскоўская „апазыцыя” прыехала зь Менска ў Маскву. Сустракаліся з маскоўскімі „дэмакратамі” (маргінальная група Нямцова), размаўлялі там з маскоўцамі як „дэмакратычна” лепш інтэграваць Беларусь у Расею. На сустрэчы („канфэрэнцыі”) прысутнічаў цяпер ужо легальна вядомы рускі шпіён Суздальцаў (якога нават Лукашэнка дэпартаваў зь Беларусі за шпіёнскую дзейнасьць). Суздальцаў сказаў, што з боку беларускіх таварышаў гэта „абсалютна трапны палітычны крок”. „Зьяўленьне маніфэсту Сініцына – Парфяновіча (аб уваходжаньні Беларусі ў Расею – *З.П.*) было першай прыкметай таго, – сказаў шпіён, – што людзі зразумелі: зьявіўся вакуўм. Так што тут беларускія дэмакраты паступаюць абсалютна правільна”.

На сустрэчы зафіксаваны дзяжурныя імёны: былы міністар эканомікі ва ўрадзе Расеі Яўген Ясін, дэпутат Дзярждумы Ўладзімер Рыжкоў, палітолаг Сяргей Маркаў, партыйныя лідэры – Мікіта Бялых, Анатоль Лябедзька, Сяргей Калякін ды іншыя (Шкада, што „іншых” не называюць, бо і „ншыя” ды сарамлівыя там таксама ёсьць.)

Партыйныя лідары і „іншыя” прывезьлі на спатканьне нават аб’яднаўчую паперчыну зь Беларусі. На што шпіён Суздальцаў адзначыў, „што ўпершыню на такую сустрэчу зь Менску прывезьлі падрыхтаваны дакумант. Гэта канцэпцыя беларуска-расейскіх дачыненьняў падрыхтаваная аб’яднанымі дэмакратычнымі сіламі. Дакумант распрацоўвалі Яраслаў Раманчук і Аляксандар Дабравольскі... Гэта канцэптуальны дакумант у справе беларуска-расейскай інтэграцыі,” – сказаў Суздальцаў.

„Палітолаг і аглядальнік” Валер Карбалевіч таксама ўдзельнічаў у сёньняшняй „канфэрэнцыі”, ён таксама пацьвердзіў працяг справы Аляксандра Рыгоравіча і, як заўсёды „глыбокадумна” заўважыў: „Паколькі на афіцыйным узроўні беларуска-расейскія дачыненьні зайшлі ў тупік, дык некаторыя палітычныя, грамадзкія сілы спрабуюць неяк вывесьці сытуацыю з тупіка.”

19-га чэрвеня ў Маскве адбылося падпісаньне дамовы паміж здраднікамі з АГП і маскоўцамі пра сталае супрацоўніцтва. Сустаршыня Палітрады „аб’яднаных дэмакратычных сілаў” Беларусі Анатоль Лябедзька так тлумачыць неабходнасьць маскоўскай імпрэзы:

„Натуральна, што аб’яднаным дэмсілам трэба весьці замежна-палітычную дзейнасьць ня толькі на Захадзе, але і на Ўсходзе. Трэба ж быць рэалістамі. Дыскусія атрымалася карысная. Было шмат мэдыяў, пяць тэлевізійных камэраў.”

Пяць тэлевізійных камэраў – гэта, канешне, вялікі прарыў у палітыцы, можна сказаць „грант-прарыў”, „грантыёзны прарыў”. Шкада толькі, што не паказалі „іншых” здраднічкаў – яны ж таксама прарваліся.

*P.S.* Калі хто па прывычцы ня можа паверыць у такую інфармацыю, запрашаем паглядзець Старонку радыё Свабода ***(пан ядзелак, 18 чэрвеня 2007, 16:14).*** Там усё напісана па ўсіх правілах паліткарэктнасьці, якой мы, прымаючы пад увагу мярзотнасьць інфармацыйнай зьявы, тут ня ўлічваем.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2007, №2 (61); пад псэўданімам Адам Мікша).*

# СПРАВА ПАЧЫНАЕЦЦА ЗЬ ДЗЕЯНЬНЯ

***(Выступ на ліпеньскім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Скарочана)***

З апошніх нашых дзеяньняў вельмі патрэбнай і разумнай справай зьяўляецца рассылка матэр’ялаў пра русіфікацыю і асіміляцыю канкрэтным адрасатам у сістэме ўлады і адукацыі. Бачу, што акцыя станоўча ўспрынята беларусамі – аглядальнікамі Інтэрнэту па ўсім сьвеце. Змаганьне з палітыкай асіміляцыі і русіфікацыі павінна стаць асобным накірункам у нашай нацыянальна-асьветніцкай праграме.

Прамаскоўскі рэжым і яго інфільтраваная апазыцыя кожны па свойму праводзяць гэтую русіфікатарскую палітыку. Прытым, што характэрна, ніхто зь іх гэтага не хавае. Нядаўна функцыянеры гэтай „апазыцыі” зноў былі ў Маскве, дзе абдымаліся з маскоўцамі і засьведчылі, што паколькі на лукашэнкаўскім інтэграцыйным накірунку зьявілася часовая „пустка”, то яны (Калякіны, Лябедзькі і інш.) павінны яе запоўніць і прадоўжыць справу беларуска-расейскай інтэграцыі на новым этапе.

Вельмі яскравая ілюстрацыя да агульнай антыбеларускай схемы: ***„рэжым і ягоная апазыцыя”***, – клясычна створаная ў Беларусі нашымі непрыяцелямі. Падступнасьць гэтай схемы ў тым, што паміж рэжымам і „апазыцыяй” часткова існуе, а часткова разыгрываецца канфлікт, дзе апазыцыя, гуляючы правакацыйную ролю, і, як правіла, імітуючы змаганьне, карыстаецца дэмакратычнай антырэжымнай фразэалёгіяй. Гэта заблытвае людзей і прадугледжвае пераемнасьць прамаскоўскай улады ў Беларусі ў выпадку сур’ёзнага рэжымнага крызісу. У гэтым сутнасьць тыповай маскоўска-лубянскай схемы.

Такая схема не магла быць ажыцьцёўлена, калі была, як раней, моцная і дамінуючая нацыянальна-дэмакратычная апазыцыя (гэта значыць Беларускі Народны Фронт). Таму першасная задача Масквы, як памятаеце, была зьнішчыць, расталоць і аслабіць Народны Фронт. Гэта ўдалося часткова ім зрабіць ня толькі таму, што далучыліся немцы (Ганс Вік і іншая эўраагентура), ня толькі таму, што стварыўся для нас вельмі некарысны зьбег абставінаў, – прычына найбольш у нас самых. Гэта значыць – у нацыянальнай нясьпеласьці нашага савецкага грамадзтва. Успомніце, як расколвалі наш рух у канцы 90-х, якую квазі-адукаваную прафэсарскую бязглуздзіцу прыходзілася выслухоўваць па пытаньнях, у якіх (напрыклад, у Польшчы) лепш арыентуецца звычайны польскі „бомж”, ня кажам ужо пра якога-небудзь рабочага ці электрыка.

З гэтага вельмі значнага для нас прыкладу (у шэрагу іншых) мы павінны зрабіць дзьве важныя высновы. Першая – гэта абавязкавая неабходнасьць асьветніцтва. Другая – для таго, каб зьмяніць некарысную для нас палітычную сытуацыю, неабходна стварыць і ўзмацніць беларускую нацыянальна-дэмакратычную сілу. У рэчышчы гэтай задачы ***адначасна з узмацненьнем беларускай сілы павінна быць ліквідавана псэўдаапазыцыя.*** Гэты працэс павінен адбывацца сам сабой разам з узмацненьнем беларусаў і беларускай нацыянальнай палітыкі (прытым, незалежна ад партыйнай арыентацыі, галоўнае, каб яна была беларускай). Але на пэўным этапе ліквідацыя гэтай рэжымнай структуры павінна прадугледжваць актыўныя дзеяньні, бо Масква стане адкрыта абапірацца на яе, значна больш актыўна, чым цяперашнія эўралібэралы у сваіх інтарэсах і антынацыянальнай дзейнасьці.

Штучны падзел псэўдаапазыцыі (які цяпер пачаўся) на „прамаскоўскіх” (камуністы, АГП і інш.) і „празаходніх”, не павінен нікога ўводзіць у зман. Гэта адна публіка. Усе яны пазьбягаюць нацыянальнай сымволікі, нацыянальнай ідэі, змаганьня (нават дэклярацыяў) за нацыянальныя інтарэсы і апірышча на беларускія нацыянальныя сілы. Адзін „заходнік”* нават прапанаваў у чарговы раз беларускі сьцяг зьмяніць і ўзяць за сьцяг – сіні сьцяг Эўразьвязу. (Вось табе і на! А то „парцянкай” каўбойскай махалі).

Толькі Беларуская Сіла можа, толькі яна здольная зьмесьці з дарогі гэтую бутафорыю. Зараз вырашылі зь Мілінкевіча зьляпіць „нацыяналіста” (зразумела, для чаго). З гэтага нічога не атрымаецца, вядома, ізноў жа акрамя бутафорыі. Але ёсьць адзін вельмі нэгатыўны аспэкт – гэта ўплыў псэўдаапазыцыйнай фальшы на здаровых людзей і псаваньне беларускай моладзі.

Усялякая справа пачынаецца з працы і дзеяньняў. Калі ёсьць праца і дзеяньне, то ёсьць і людзі, якія дзейнічаюць і працуюць, і якія здольныя аформіць дзеяньні ў рэальную арганізацыю салідарных аднадумцаў. Гэта натуральны шлях.

Шлях ненатуральны пачынаецца з гаварэньня, заяваў і маніфэстаў, пасьля чаго даюцца інтэрв’ю ў тэлекамэры і мікрафоны аб намерах, аб жаданьні стварыць арганізацыю. Потым аб’яўляюць, што яе стварылі і даюць інтэрв’ю пра тое, што думаюць і г.д. Адбываецца вялікае „чырыканьне”. Урэшце пішуць заяўкі на гранты і зноў даюць інтэрв’ю пра намеры. Тут іх запрашаюць на Захад ці ў Маскву на сэмінар ці канфэрэнцыю, аплочваюць гатэль і дарогу, і яны зноў „гавораць” самы з сабой і ў тэлекамэры. Нарэшце, тры чалавекі становяцца ў пікет з лёзунгам кшталту „Надаела!” альбо „Мы не рабы!” і г.д. Зноў мікрафоны, інтэрв’ю, сэмінары, „5 сутак”, сустрэча „герояў”, мікрафоны, інтэрв’ю і г.д. – увесь імітацыйны маразм псэўдазмаганьня, якое прыдуманае ў так званай „аб’яднанай апазыцыі”, – нібы спэцыяльна для разбэшчваньня моладзі. Прапануюць забаўку ў псэўдапалітыку і псэўдазмаганьне. І гэта, на жаль, дзейнічае. Дзейнічае, як дрэнная кампанія на падлетка, які яшчэ не навучаны разьбірацца, што такое добра і што такое дрэнна.

Наша адраджэнская моладзь, якая дбае найперш пра Беларусь, пра самаасьвету і адукацыю дзеля Беларусі, пра дзеяньне для Беларусі, а не дзеля ўражаньня на чужую публіку, нашая моладзь павінна паводзіць сябе інакш. Нельга растрачваць маладосьць па-пустому, бо нічога не вяртаецца. І калі страцім Беларусь – то хто яе верне?

Толькі самадастатковыя людзі могуць пабудаваць самадастатковую (гэта значыць, незалежную) Беларусь. Той, хто дробны, – той глядзіць то на Захад, то на Усход, то заглядаецца ў люстэрка, шукаючы сваёй значнасьці. А яе не відаць, бо яна ўнутры і завецца свабодай.

*8 ліпеня 2007 г.*

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

* Маецца на ўвазе М. Статкевіч. – *(Рэд.)*

# АНТЫБЕЛАРУСКАЯ СТРАТЭГІЯ

***Сытуацыю вакол апошняга „газавага канфлікту" паміж Беларусьсю і Расеяй камэнтуе старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – Беларускі Народны Фронт Зянон Пазьняк.***

***Пазьняк:*** „Цяперашняя «газавая атака» зьвязаная з праблемай захаваньня ўлады КГБ у Расеі, і найперш асабіста Пуціна, у сувязі з заканчэньнем яго кадэнцыі і новымі выбарамі. У канцы мінулага году Расея зьмяніла тактыку. Цяпер яна практыкуе атаку замест «пакрокавай палітыкі», ці «пакрокавай інтэграцыі», як увесь час казалі. Сутнасьць гэтай новай тактыкі – атрымаць хуткую перамогу, ці хаця б посьпехі на «беларускім фронце». Гэта значыць – запалохаць Лукашэнку, загнаць яго ў кут і прымусіць расплочвацца нацыянальнай маёмасьцю. А ў рэшце рэшт падпісаць нейкую фармальную паперу аб «інтэграцыі», ці хаця б дэкларацыю альбо акт аб намерах, які даў бы падставу для маніпуляцыі з трэцьцім тэрмінам Пуціна. З гэтай тыпова кагэбісцкай стратэгіяй зьвязана і зьмена кіраўніцтва КГБ у Менску, задача якога – хутка задушыць парасткі нацыянальна-вызвольнага супраціву ў Беларусі.

Лукашэнка ўжо даўно не валодае стратэгічнай палітыкай унутры краіны. Хоць зьнешне здаецца, што гэта ён кіруе і аддае загады на вынішчэньне беларускай нацыі. Так, аддае загады – бо яны адпавядаюць ягонай беларусафобнай сутнасьці. Але партытура гэтай акупацыйнай палітыкі напісана ня ім, а публікай з Масквы, якая абсадзіла яго ўладу.

Перакуліць расейскую атаку і выйсьці з сытуацыі магчыма, і нават – нескладана. Трэба праводзіць нацыянальную палітыку, унутраную і зьнешнюю, зыходзіць з нацыянальных інтарэсаў. Але для Лукашэнкі гэта чыста тэарэтычнае пытаньне. Бо перакрочыць праз сябе, праз нянавісьць да беларушчыны ён у прынцыпе няздольны ніколі – ні ў стане спакою, ні ў стане страху, ні ў шоку. Ён будзе змагацца за сваю скуру, як пацук, і цягнуць за сабой на дно ўсю Беларусь. А ў гэтым якраз і палягае мэта новай расейскай тактыкі. Так што антыкрамлёўскі піск Лукашэнкі нічога для беларусаў ня значыць у той час, калі кідаюць у турмы беларускую моладзь, зьнішчаюць беларускую культуру, гісторыю, архітэктуру, школу, мову і гэтай далей. У гэтым спэктаклі і ў гэтай вайне ёсьць толькі адзін бок, які церпіць і нясе страты. Гэта – беларускі народ".

***(Інтэрв'ю: Сяргей Навумчык, радыё Свабода, Прага)***

*3 жніўня 2007 г.*

# ЭСКАЛАЦЫЯ РАСЕЙСКАЙ ПАЛІТЫКІ

***(Выступ на жнівеньскім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". Скарочана)***

...Пэрманэнтная небясьпека, якая зыходзіць для Беларусі з боку імпэрскай Масквы, абумоўлена найперш пэрманэнтнай няздольнасьцю беларускага грамадзтва да арганізаванага і галоўнае – да асэнсаванага супраціўленьня. Беларуская барацьба на працягу доўгага часу забору і акупацыяў выяўлялася як рух нацыянальнага авангарду. Такое становішча – вынік жорсткай антынацыянальнай акупацыйнай палітыкі ў ідэалягічнай сфэры, злучанай з рэпрэсіямі.

Другі чыньнік становішча – зьнішчэньне нацыянальных элітаў. ***Направа разбуральнага выніку палягае якраз у стварэньні (адраджэньні) нацыянальных вярхоў грамадзтва праз нацыянальную асьвету і ўплыў гэтых элітаў на ўсю нацыю.***

Без рабленьня гэтага дзеяньня немагчымая нацыянальна-вызвольная барацьба і нацыянальна-сэнсоўная палітыка. Мы павінны зрабіць высновы найперш з 90-х гадоў, каб захаваць авангард і пашырыць уплыў. Гэта аксіёмы, якія я паўтараю часта, бо разумею, што неабходна іх паўтараць.

## АБ БЯГУЧЫМ МОМАНЦЕ

З канца мінулага года Масква пачала іншую тактыку наступу на Беларусь. Адбыўся канфлікт у лягеры хаўрусьнікаў. Саўдзельнікі не падзялілі амбіцыі з Лукашэнкам.

Так званая „пакрокавая тактыка" пуцінскай інтэграцыі Беларусі і Расеі часова адкладзена ў бок. Цяпер Масква ўжывае мэтодыку „пакрокавай прыватызацыі" Беларусі, сутнасьць якой палягае ў рэсурсным шантажы Лукашэнкі, запалохваньні яго і заганяньня ў кут, стварэньня пагрозы ягонай уладзе з мэтай прымусіць расплочвацца за шантаж нацыянальнай маёмасьцю Беларусі, заводамі, фабрыкамі, прадпрыемствамі, нерухомасьцю і урэшце – зямлёй.

Яшчэ толькі пачынаючы гэты акупацыйны плян, Пуцін і гэбоўскія ідэёлагі ўжо сталі казаць і пісаць пра перасяленьне беларускага насельніцтва ў Расею (гэта наступны этап захопу маёмасьці), нават квазіразумны тэрмін прыдумалі – „антропоток". „Антропоток" – гэта перасяленьне мільёнаў беларусаў у расейскае рабства, на расейскую тэрыторыю для працы ў расейскай прамысловасьці, здабычы і будаўніцтве.

Трэба ўлічыць, што Расея – гэта такая краіна, дзе кіроўныя эліты здольныя брацца за практычнае ўвасабленьне любых шызафрэнічных ідэй, пачынаючы ад камунізму і Гулагу і аж да павароту „речек вспять". Вынішчэньне цэлых нацыяў – справа для іх ня новая, маюць вялікі вопыт і галоўнае – масавую псіхалогію расейскага насельніцтва, гатовага ўспрыняць любое вар'яцтва ўлады супроць народаў.

Да агрэсіўнай палітыкі „пакрокавай прыватызацыі" Беларусі рускім гэбоўскім капіталам трэба аднесьціся вельмі сур'ёзна, улічваючы прамаскоўскую аўтарытарную ўладу і антынародны дыктат, зь якім зьмірылася маса дэзарыентаванага насельніцтва нашай краіны.

Трэба мець на ўвазе таксама, што прамаскоўскі рэжым (што цалкам адпаведна) ня мае нацыянальнай стратэгіі будаўніцтва Беларускай дзяржавы, і ніхто з гэтай групы ўлады ня дзейнічае і не жыве нацыянальнымі інтарэсамі, найперш Лукашэнка. Сутнасьць ягоных дзеяньняў, яго пасія, клопаты і хваляваньні – асабістая ўлада. (У мяне складваецца ўражаньне, што мала хто з сучасьнікаў усьведамляе, што гэтая „пасія" паглынула ўсю

ягоную істоту і стала паталогіяй ягонай асобы). Масква, аднак, добра зразумела свайго саўдзельніка і пачала гэтым ягоным страхам карыстацца, тым больш, што гэбістам мэтодыка ціску зразумелая і прывычная.

Зьмест паводзінаў Лукашэнкі ўжо добра відаць. Будзе жаліцца, лаяцца на Крэмль і здаваць Маскве мільён за мільёнам, акцыю за акцыяй, завод за заводам, ці на мове гэбістаў, „отстреливаться до последнего патрона".

Расейскі плян дыпляматычна прапрацаваны на Захадзе. Усё прадстаўлена як эканамічныя дачыненьні па законах рынкавай эканомікі. І там гэта ўспрымаюць.

Праведзена і праводзіцца адпаведная падрыхтоўка і ва ўнутранай палітыцы Беларусі. Рэзка ўзмоцнены перасьлед за патрыятычныя пазыцыі, выказваньні і дзеяньні, пачалася чарговая жорсткая хваля рэпрэсіяў супраць беларускай моладзі, асабліва супраць школьнікаў і студэнтаў. Прынятыя рэпрэсіўныя законы і інструкцыі. Усё гэта адбываецца на фоне антыкрамлёўскай рыторыкі Лукашэнкі (цана гэтай рыторыкі – „нуль"). Якраз дзеля рашучага задушэньня нацыянальна-адраджэнскага руху, думак і памкненьняў зьмянілі нядаўна кіраўніцтва КГБ. (Цяпер ім кіруе расейскі генэрал танкавых войскаў, вядомы сваім паталягічным беларусафобствам).

Аналіз эскалацыі ўнутранай антыбеларускай палітыкі паказвае, што Лукашэнка кардынальна не ўплывае на стратэгічную палітыку Беларусі. Масква і людзі Масквы, якія яго акаляюць, умела карыстаюцца ягоным беларусафобствам дзеля дасягненьня імпэрскіх мэтаў. Лукашэнка выдае дэкрэты, указы і загады, але партытура палітыкі прапісана маскоўцамі, якія абсадзілі рэжымную ўладу ў Беларусі. Апошнія падзеі добра раскрываюць такое становішча (дзе па лёгіцы атрымліваецца, што начальнік Беларусі дзейнічае сам супраць сябе. Чаго не павінна б было быць у рэальнасьці).

## АБ ЗАХАДАХ

Каб запабегчы маскоўскай палітычнай агрэсіі і „прыватызацыі" нашай нацыянальнай маёмасьці, неабходная найперш беларуская салідарнасьць. Мы даўно ўжо працуем у межах гэтай праграмы. Трэба ўлічыць элемэнтарныя рэчы, што для актыўнага і эфэктыўнага супраціўленьня дастаткова 10% актыўнай падтрымкі насельніцтва. Трыццаць адсоткаў – гэта ўжо рэвалюцыя. Ніякі рэжым ня вытрымае. (Прашу толькі ня блытаць „падтрымку" з электаральным галасаваньнем, багну з гарой).

Салідарнасьці трэба дасягнуць на ўсіх узроўнях. У цяперашняй сытуацыі гэта магчыма, але вымагае падтрымкі і адпаведнай тактыкі. Нагадаю, што ў любой сытуацыі нацыянальнае асьветніцтва застаецца супэрпраграмай, плюс праграмы дзеяньняў (Народны мэмарыял у Курапатах і інш.).

У сувязі з эскалацыяй імпэрскай палітыкі з Усходу мы павінны спыніць маўчаньне аб дзеяньнях Захаду (у прыватнасьці Эўразьвязу). Большасьць мерапрыемстваў дзіўнай і абсурднай, з майго гледзішча, заходняй палітыкі супраць рэжыму Лукашэнкі носяць у канцовым выніку антыбеларускі характар. Гэта вынікае з сьведама няправільнай ацэнкі рэжыму Лукашэнкі як нібыта самаіснай унутранай дыктатуры. Эўрабюракратыя, якая цяпер пры ўладзе ў Эўразьвязе, сьвядома і наглуха зачыняе вочы на сутнасьць канфлікту ў Беларусі, на беларуска-расейскую вайну, на агрэсіўную палітыку рускага імпэрыялізму, якая доўжыцца ўжо дзьвесьце гадоў. Адсюль адсутнасьць выразнай канцэпцыі эўрапалітыкі па Беларусі. Адсюль (ад нежаданьня спрачацца з Расеяй) няўхільныя дылетанцкія дзеяньні, падтрымка прарасейскай квазіапазыцыі (людзей, якія адкрыта кажуць, што рэжым іх корміць, бо Захад дае грошы на змаганьне з рэжымам), пазбаўленьне Беларусі гандлёвых прэфэрэнцыяў, забарона ўезду чыноўнікам і г.д.

Ёсьць зьявы, пацьверджаныя вопытам і ўсім відавочныя. Ніякая эканамічная блякада ня ськінула і не аслабіла ніякі дыктатарскі рэжым. У Беларусі – стала толькі цяжэй жыць народу і зашмаргнула на горле расейскую пятлю. ***Эканамічная блякада Беларусі Захадам – гэта спрыяньне расейскаму захопу нашай краіны.*** І тут не абыходзіцца без расейскай разьведкі і расейскай дыпляматыі (каб ізаляваць „хаўрусьнічка" чужымі рукамі).

Той, хто рэальна думаў бы пра дапамогу ў пазбаўленьні ад дыктатуры ў Беларусі, той не перакрываў бы сабе шляхі ўплыву на атачэньне Лукашэнкі, не „абмываў бы рукі" ад жмуднай працы кантактаў зь ягонымі чыноўнікамі на сваім полі. Расейцы, дарэчы, (якіх процьма на Захадзе разам з капіталамі) ад палітыкі ўплыву не адмаўляюцца. Мы ж бачым вынікі іхнай палітыкі.

***Зянон Пазьняк***

***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*12 жніўня 2007 г.*



(Фота з Сеціва)

**87. *Менская карцінка: адзін у моры дыктатуры***

# ЗОРКА НАШАЙ ПЕРАМОГІ

***(Зварот да моладзі)***

...Віншую Вас з Днём Беларускай Вайсковай славы, выдатным днём нашай гісторыі, велічы і сілы! Такіх дзён і слаўных перамог у нашай мінуласьці, калі наша Вялікае Княства Літоўскае было найвялікшай і наймацнейшай краінай эўрапейскай культуры на ўсходзе Эўропы, – такіх дзён было шмат. Але з шматлікіх перамог беларусы выбралі і адзначаюць адну – перамогу ў 1514 годзе. Менавіта гэты ўсходні накірунак агрэсіі на наша Княства меў для нас найвялікшую небясьпеку, бо насіў ня толькі захопніцкі, але найперш, варварскі характар. Манголы ня ставілі цывілізацыйных мэтаў, задача была адна – зьнішчыць усё на сваім шляху „да апошняга мора".

Маскоўшчына – працяг і спадкаемца мангольскай імпэрыі – рабіла (і робіць на сёньняшні дзён) тое ж самае. Вось чаму разгромная перамога 30-тысячнага беларускага войска над 80-тысячнай маскоўскай ардой мае для нас знакавае значэньне, бо на доўгі час спыніла агрэсію варварства. Здрада Захаду ў XVIII стагоддзі і паяднаньне немцаў з масквой прывялі да ўпадку Вялікае наша Княства.

Але мы ведаем, што адродзім яго нанова, што жыве і будзе жыць Беларусь. І перамога пад Воршай – наш знакавы чын для прышласьці і свабоды.

Мы перажылі кашмарныя 200 гадоў расейскай акупацыі і ў змаганьні здабылі незалежнасьць, аднавілі сваю дзяржаўнасьць. Аднак змаганьне ня скончана, вайна прадаўжаецца. Беларускую дзяржаву захапілі знутры і паставілі над ёй уладу вырадкаў. Пачаліся дні страт і нішчэньня Айчыны. Вісіць асаблівая небясьпека. Бо вырадак – гэта свая косьць, што сабачым мясам абрасла і гаўкае на сваіх. Гэты брэх блытае і бянтэжыць людзей.

Цяпер брэшуць на маладых і грызуць нашу моладзь, арыштоўваюць, судзяць па несправядлівых законах за міласьць да Радзімы і Мовы, страшаць, кідаюць ў турму. Але ня бойцеся шалёных сабак, ганіце іх прэч, не давайце кусаць. Перамога будзе за намі, бо, ведайма, шалёны зьвер, нават калі яго ня зьнішчыць, здыхае сам ад свайго шаленства.

Абараняйма, шануйма сваё, памнажайма ўсё беларускае, добрае, чыстае, сьветлае, не кідайма сьвятое пад ногі сьвіньням, а хавайма ў душы.

Будзьма салідарныя ўсе беларусы, каб ніколі маскаль не пляваў нам у твар.

Ніколі ня баймася, што нас мала, што мала ваярскіх людзей. Наш беларускі лёс – гэта бітва пад Воршай. Наша планіда – малой колькасьцю перамагаць арду.

Ніхто не запалохае нашу моладзь, ніхто шалёны ня зьнішчыць нашу Беларусь!

Працуйма дзеля Айчыны, любем Бацькаўшчыну, змагаймася – і пераможам!

***Зянон Пазьняк***

*8 верасьня 2007 г.*
*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №3 (62).*



(Фота з Сеціва)

***88. Менская карцінка: прарыў са сьцягам.***

# МАРШ ПРАВАКАТАРАЎ, ШТО ЗЬНЕВАЖАЮЦЬ НАРОД

Беларусы ў Беларусі ўжо даўно дастаткова добра ведаюць цану падстаўной апазыцыі, яе дэмагогію, нядольнасьць і словаблудзтва. Ведаюць пра рэгулярныя паездкі ў Маскву гэтых „прагматыкаў" і іхныя прапановы маскоўцам наладзіць „інтэграцыю" Беларусі з Расеяй лепш за Лукашэнку. Ведаюць пра іхныя гранты, пустапарожнія важжы ў Брусэль і ўсю іхнюю правальную імітацыю дзеяньняў і палітыкі. Гэтая публіка навучылася прафэсійна паразітаваць на антыбеларускім рэжыме, рабіць „палітбізнэс" на народнай бядзе, добра засвоіла тактыку палітычнай правакацыі і вобраз вечнага паражэнца. Усё гэта істотна паралізавала сапраўднае змаганьне і рэальную актыўнасьць людзей, выклікала ў беларусаў расчараваньне і нявер'е ў свае сілы, адмаўленьне ад барацьбы.

На 14 кастрычніка гэтая правальная катэгорыя з падачы брусэльскіх бюракратаў зьбіраецца арганізаваць чарговы правакацыйны „эўрапейскі марш" у нікуды. Прытым не пад Беларускім Бел-Чырвона-Белым Сьцягам, а пад чужым, сінім сьцягам Эўразьвязу. І адразу відаць, што гэта за публічка кіруе мерапрыемствам. Агентура спрабавала ўжо раней замяніць Пагоню бусьлікам, Бел-Чырвона-Белы Сьцяг – джынсавай анучай. Але не ўдалося. Цяпер ухапіліся за сіні сьцяг з Брусэлю.

Дэмагогія, якой карыстаюцца пры гэтым імітатары „эўрамаршу", прымітыўная і, дарэчы, характэрна-тыпалягічная. Яе варта працытаваць:

*„Колькі выйдзе людзей? Столькі, колькі людзей у Менску лічаць сябе эўрапейцамі. Цяпер ад кожнага грамадзяніна залежыць – пойдзе Беларусь эўрапейскім шляхам, ці мы будзем заставацца людзьмі на балоце. Выйдзе 100 тысяч – жалезна Беларусь пойдзе тым кірункам. Выйдзе адна тысяча – толькі адзін працэнт ёсьць таго, што Беларусь пойдзе эўрапейскім шляхам.*

*Так, кожны чалавек – гэта тая доля працэнту, якая будзе ўплываць на сытуацыю. Няма чаго апраўдваць сваю ляноту і безыніцыятыўнасьць тым, што апазыцыя не такая, лёзунгі ня тыя, маршрут не такі…*

*Ты – эўрапеец?! Выйдзі, прадэманструй сваю пазыцыю. А будзеш сядзець у хаце, значыць – раб*" (В. Івашкевіч). (http://www.svaboda.org/xml/articles/2007/10/99148746-3C7E-4412-9663-0244CBCACC96.html).

І далей: *„На Эўрапейскі марш прыйдуць тыя людзі, якія лічаць сябе эўрапейцамі. А тыя, хто ня прыйдзе на марш, мусяць усьведамляць, што яны – недаразвітыя..."* (http://ximik.info/modules.php?name=News&file=article&sid=951)

Выходзь, значыцца, „за Эўропу" ты, лянівы беларус, пад сіні сьцяг, ты, раб балотны, недаразьвіты! – заклікаюць гэтыя аруэлаўскія клікуны. Інакш, маўляў, плакалі нашыя граньцікі. Такія ёсьць гэтыя людзі. Так яны думаюць і такая ў іх лексіка.

***У Беларусі антыбеларускі рэжым спарадзіў ня толькі этнацыд, мафію і карумпаваную ўладу, але і новы фэномэн – падстаўную карумпаваную апазыцыю.*** Ну, выйшаў беларус (у якога адабралі ўжо ўсё беларускае) на вуліцу „за Эўропу". І што далей? А далей – ён пойдзе бязмэтна пад наглядам „амону" ўсьлед за правакатарамі на ўскрай Менска ці на балота Бангалёр „шукаць паразуменьня з рэжымам", паслухае знаёмыя і бесталковыя прамовы штатных „апазыцыянераў" і „гуд бай" – „мы пабедзілі". За гэты час гэбэ сфільмуе аблічча маладых беларусаў і адразу пачне біць і хапаць, каго трэба. Каго не пасьпеюць адразу, возьмуць заўтра, пасьлязаўтра, праз месяц.

Прагматычны сэнс правакацыі добра вядомы: атрымаць гранты і грошы пад мерапрыемства. Палітычны, рэальны сэнс – даць магчымасьць рэжыму выявіць і зафіксаваць новых маладых беларускіх змагароў, што падрасьлі за апошні час, каб потым стлуміць іх, запалохаць, выгнаць з вучэльняў, запіхнуць у турму, выжыць зь Беларусі.

Здаецца, шмат хто ў Беларусі ўжо пачынае разумець шкоднасьць псэўдаапазыцыйных бязмэтавых „маршаў" і дэманстрацыяў, запраграмаваных на паражэньне, і шмат хто не зьбіраецца ўдзельнічаць у гэтай новай гапонаўшчыне. Антыбеларускі акупацыйны рэжым і дыктатура, поўная беспакаранасьць і распаразанасьць міліцыі і спэцслужбаў вымагаюць іншых мэтадаў і формаў змаганьня. Гэта зразумела. Але галоўнае – ***зьмест змаганьня павінен быць адраджэнскі, за вольную Беларусь (пад Беларускім Бел-Чырвона-Белым Сьцягам), за адраджэньне нацыянальнай культуры, супраць унутранай акупацыі, русіфікацыі і сацыяльнага рабаўніцтва беларускага народа, а не за „яўропу", „Расею", „інтэграцыю" ды прафанацыю.***

І калі ў Беларусі сам вопыт жыцьця падводзіць маладых беларусаў да разуменьня падзеяў, то за мяжой, у эміграцыі, справа выглядае горш, асабліва ў тых, што выехалі зь Беларусі даўней. Ім цяжэй разабрацца ў падзеях, якія прымітыўна прэпаруюць ім розныя СМІ. Але і тут шмат хто ўжо пераканаўся, што ня можа быць ніякай падтрымкі бязмэтнаму правакацыйнаму „маршу" пад чужымі сьцягамі.

Сапраўдная беларуская барацьба адраджэнцаў мацнее і паглыбляецца, знаходзіць новыя формы і мэтады змаганьня, вызначае прыярытэты. І ёсьць вынікі. Пакуль нібы нябачныя. Але нездарма так шалее прамаскоўскі рэжым, пераследуе беларусаў і добрую моладзь. Трывога перапоўніла яго рэжымнае, беларусафобскае сэрца. Не дарэмная трывога, скажу. Ня выратуюць ад яе ўжо ніякія правакацыйныя „маршы", ніякая дэмагогія пра „дэмакратыю" і „правы" абстрактнага чалавека (у той час, калі канкрэтна нішчаць усё беларускае). Гартуюцца новыя сілы. Жыве Беларусь і будзе жыць!

***Зянон Пазьняк***

*5 кастрычніка 2007 г.*

*Надрукавана: (www.pbpf.org)*

Выхадцы

*Не абзывайце народ –*
*Ён лепшы за вас.*
*О, вы, такія разумныя.*

*2006 г.*

# ШЛЯХ ДА СЯБЕ

***(Выступ на кастрычніцкім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ.)***

Сёньняшні Сойм адбываецца напярэдадні „Дзядоў” – важнай падзеі і даты беларускага жыцьця і духоўнага існаваньня. Не забывайма, што ад Дзядоў і з Курапатаў пачалося новае Беларускае Адраджэньне. Нацыя паўстала, уваскрэсла з магілаў, дзе ўжо пахаваў быў яе рускі імпэрыялізм. Адначасна гэтае месца зьяўляецца ўлікай і сьведчаньнем расейскага злачынства супраць чалавецтва, якое яны і цяперашнія іхнія „дасьледнікі”, і „грамадзкія энтузіясты” імкнуцца сьпіхнуць то на Сталіна, то на „сталінізм”, то на „37-мы год”. Але мы ведаем, і гісторыя даказала гэта, што бальшавізм, камунізм, сталінізм – былі толькі формай рускага імпэрыялізму. Маскве не ўдасца схаваць свае злачынствы супраць чалавецтва ні за „камунізмам”, ні за Сталінам, ні за шырмай НКВД, колькі б там ні хлусілі, колькі б ні паганілі сваё злачыннае, а наша сьвятое месца Курапаты, колькі б ні ламалі крыжоў. Сымвалы, якія яднаюць кроў мільёнаў нявінна забітых і якія ўвайшлі ў памяць і сэрца народа, – зьнішчыць немагчыма. Форма іх будзе аднаўляцца і множыцца датуль, дакуль жывуць людзі.

Зараз зламаны тыдзень таму ў Курапатах Беларускі Крыж Пакуты на рэстаўрацыі. На Дзяды ён будзе адноўлены. Грамадзкі Камітэт па аднаўленьні Крыжа, сябры нашай Партыі БНФ і беларускія майстры гэта зробяць.

Другая тэма бягучага моманту, якую я хацеў бы закрануць у выступе – гэта чарговае чатырохгадзіннае гаварэньне А. Лукашэнкі перад расейскімі журналістамі 12 кастрычніка. Тыпаж і культуру Лукашэнкі ўжо ўсе добра ведаюць. Таму я ня стану тут казаць ні пра яго пэрманэнтнае русацяпства, беларусафобства і псіхічную неадэкватнасьць. Усё гэта не навіна ў палітыцы і не перашкаджае яму трымаць уладу. (Псіхічная неадэкватнасьць і самадурства – гэта ўвогуле традыцыя якраз рускай палітыкі. У Беларусі за ўсю гісторыю ВКЛ, БНР і нават БССР такога кшталту кіраўнікоў не існавала).

Тэматыка і доўгае гаварэньне Лукашэнкі – гэта адлюстраваньне ягонага змаганьня з Пуціным у барацьбе за ўладу, дзе актыўным і стратэгічным бокам выступае якраз Пуцін, які ня сьцідвае з дарогі шансы застацца прэзыдэнтам Расеі праз захоп Беларусі (рэфэрэндум, прыняцьце „канстытуцыйнага акту”, ці застрашваньне, зламаньне суперніка і прымус да капітуляцыі). Псіхалогія гэбізму абмежаваная і прымітыўная, але падступнасьць і непераборлівасьць у сродках неабмежавальныя.

Гаварэньне 12-га кастрычніка было падрыхтавана „загадкавымі” візітамі да Лукашэнкі Селязьнёва, Абрамовіча і іншых экзатычных расейскіх асобаў. Складваецца ўражаньне, што Лукашэнку разыгрываюць, каб уцягнуць у нейкае дзеяньне (скажам, напрыклад, ў рэфэрэндум аб „канстытуцыйным акце Расеі” і Беларусі разам з выбарамі ў Думу і т.п.). На карысьць гэтага меркаваньня гаворыць крытыка ім асобы і дзеяньняў Пуціна і ілюзія, што ў Расеі ёсьць нейкія моцныя антыпуцінскія сілы, якія вынесуць яго (Лукашэнку) на вяршыню хвалі. У рэальнасьці гэта ня так. Ілюзія антыпуцінскай сілы ў Расеі і наскок на крамлёўскага суперніка маглі быць справакаваны самым супернікам, каб уцягнуць „аб’ект” у патрэбную крамлёўскую справу, дзе параза „аб’екта” будзе дружна забясьпечана.

Складваецца ўражаньне, што ідзе гэбоўская „войначка” – хто каго абдурыць. Ваююць за ўладу, але ахвярай намецілі Беларусь. Хутчэй за ўсё, што „войначка” кончыцца нічым. Але сутнасьць яе мы павінны ведаць. Бо пакуль існуе рэжым Лукашэнкі, імпэрская Расея і расейскі гэбізм, лёс Беларусі і беларускай культуры заўсёды ў небясьпецы.

11-га кастрычніка адбылася падзея, якая прайшла ў рэжымнай Беларусі незаўважанай, але патрабуе тым больш беларускай ацэнкі. Раздача прэміі Нобэля. Мае назіраньні за дзейнасьцю Нобэлеўскага камітэту па літаратуры цалкам супадаюць з думкамі самых рэзкіх крытыкаў гэтае цяперашняе арганізацыі. І справа нават не ў палітыканстве, кан’юнктуры і густаўшчыне. Там даўно страчаныя высокія крытэрыі добрага, сьветлага, чыстага і прыўкраснага. Збочаныя ўяўленьні пра асобу і творчасьць дамінуюць у тым звужаным левым асяроддзі „дасьведчаных знаўцаў”. Пісьменьнікам хрысьціянскага накірунку, чыя творчасьць увабрала б у сябе драму нацыянальнага існаваньня і лёсы народу, хараство формы, слова і вобразу над вечнасьцю быцьця, асэнсаваньне якога блізкае кожнаму культурнаму чалавеку Зямлі, – такім пісьменьнікам дарога зачыненая. Геніі такога кшталту ня маюць шансаў стаць лаўрыятамі прэміі Нобэля. Вялікі наш нацыянальны паэт Рыгор Барадулін, магчыма, пра гэта й няведаў. Ягоныя „КСТЫ”, ягоная паэзія апошняга часу занадта хрысьціянская, занадта глыбокая і высокая для ўяўленьняў лібэральных „спэцоў”. Ня кожны беларус, нават той, што лямантуе за „эўрапейскія каштоўнасьці”, ведае, што такое Захад і гэтая цяперашняя „Эўропа”. Рыгор Барадулін ёсьць нязьменны сябра Сойму Беларускага Народнага Фронту, у Бога верыць ды піша пра Ісуса Хрыста – які Нобэль? Гэта даўно не адпавядае цяперашнім бязбожным „эўрапейскім каштоўнасьцям” і лібэральнай эрзац-эстэтыцы.

Памятаю, што Васіль Быкаў (а ён быў мудрым чалавекам) даволі абыякава і цалкам без энтузіязму ставіўся да магчымасьці выставіць ягоную кандыдатуру на прэмію Нобэля. Мне нават здавалася, што ён гэтага не хацеў.

Некалі я задумваўся, чаму Папа Рымскі Ян Павал ІІ не адмовіўся, калі яго выставілі на прэмію Нобэля. Найвялікшы чалавек ХХ стагоддзя – яму непатрэбная ніякая прэмія. Тым ня менш Папа дзіўна змаўчаў, каб нобэлеўскія „спэцы” яго „пракінулі” на карысьць нейкай невядомай асобы (ня памятаю ўжо і якой). Пазьней я зразумеў, што гэтым самым Папа прадбачліва засьведчыў узровень і якасьць Нобэлеўскага камітэту, каб людзі ня мелі ілюзіяў і не жылі мінулым прэстыжам арганізацыі, якая рэгрэсіруе разам з бязбожжам і ўсімі абставінамі, што стварыліся ў Заходняй Эўропе.

Сёньня, 14 кастрычніка, падстаўная апазыцыя якраз робіць так званы „эўрапейскі марш” пад чужымі сінімі сьцягамі. Дэманстрацыю па падказцы Брусэля наладзілі за „исполнение 12 предложений ЕС”, „за европейские ценности” і „за диалог власти и оппозиции”. (Успомнім, як з так званага „дыялогу ўлады і апазыцыі” Ганс Вік разам з КГБ пачалі ў 1998 годзе развальваць Беларускі Народны Фронт і ствараць неадраджэнскую прамаскоўска-брусэльскую апазыцыю). Ён жа (Вік) і навучыў іх ссаць – атрымліваць фінансаваньне з-за мяжы („Прадажнае цялятка дзьве каровы сьсе”).

Сымптаматычна, што напярэдадні „эўрамаршу” другі „брусэлец”, Мілінкевіч, аб’явіў пра стварэньне „Савета Эўрапейскай інтэграцыі”, куды (па ягоных словах) увайшлі „лучшие умы республики” і „совет мудрецов” – гэта Тацьцяна Процька, Людзьміа Гразнова,

Алесь Міхалевіч, Пётра Марцаў, Вячаслаў Хадасоўскі і г.д. (ня ведаю, ці ёсьць там спадары Скрабец з Фраловым, але думаю, што ёсьць). „Савет мудрацоў" тым часам заявіў, што „идея европейской интеграции выбрана не в качестве цели, но как ценность, на основе которой можно объединить людей". Удумайцеся толькі ў гэтую „мудрую" білеберду – аб'яднаць людзей на каштоўнасьці, якая ня ёсьць мэтай і, значыць, не дасягаецца. Што было б, каб у 80-х нехта сказаў: „аб'ядноўваемся на незалежнасьці, але гэта ня мэта і за яе не змагаемся".

Былі, праўда, і тады такія разумнікі „за Беларусь бяз Беларусі", але да нас яны не набліжаліся. Цяпер у міязмах рэжыму яны аджылі зноў. Выкарыстоўваць любую дэмагогію, любое глупства, толькі б далей ад нацыянальна-вызвольнай барацьбы, ад беларускага адраджэньня, ад барацьбы за сапраўдную незалежнасьць і нацыянальныя каштоўнасьці, якія рэжым топча і абплёўвае кожны дзень. „Аб'ядноўваемся, маўляў, з рускай „дэмакратыяй", лучымся на „эўрапейскіх каштоўнасьцях", яднаемся на „эўрапейскай інтэграцыі", „на правах чалавека" і г.д., – пастаянна крычаць гэтыя праплочаныя клікуны, блытаючы некаторых беларусаў і заводзячы іх у сьляпы заувлак.

Для гэтых заблытаных людзей я б сказаў наступнае:

***Яднацца беларусам трэба на сваім. На чужым не яднаюцца. Нам ня трэба „ісьці ў Эўропу", бо Эўропа ёсьць мы. Мы самы Эўропа, і дэмакратыю, адлюстраваную ў праве (Статут ВКЛ) мелі ўжо ў XVI стагоддзі. Цяпер жа „шлях у Эўропу" – гэта павінен быць для нас – шлях да сябе самых, гэта ёсьць шлях да Беларусі (а не да Хаўеры Саляны).***

Гэта ёсьць Беларускі шлях да нашых вытокаў і да нашай народнай годнасьці. Толькі прайшоўшы гэты шлях пад нацыянальным беларускім сьцягам (пад сваім, а не чужым), мы асягнем будучыню і збудуем нашу дэмакратыю, якая будзе эўрапейскай беларускай, але не брусэльскай ці амстэрдамскай. Нам ёсьць чаму вучыцца ў самых сябе.

Толькі на падставе павагі да сваёй нацыянальнай годнасьці, да сваіх людзей і да прынцыпаў дэмакратыі, *успрынятых гэтымі людзьмі* (!) мы павінны наладжваць дачыненьні з Заходняй Эўропай і з усім сьветам.

Беларускія нацыянальныя палітыкі мусяць, аднак, думаць далёка наперад. Заходне-эўрапейская цывілізацыя на парозе глыбокага сістэмнага і ідэйна-сацыяльнага крызісу, які вядзе да распаду, і выхаду зь якога на сёньняшні дзень ніхто ня бачыць. Ня ўлічваць гэтую цывілізацыйную дынаміку і перамены – нельга. Ідэя лучнасьці Цэнтральнай і Усходняй Эўропы вакол Беларусі, Украіны і Польшчы будзе рабіцца што раз больш актуальнай як спосаб пазьбегнуць эўрапейскага крызісу і катастрофы. Але засьцерагаючыся з Захаду, мы мусім цяпер ратаваць Беларусь з Усходу. І ніхто, акрамя нас, беларусаў, ня здольны гэта зрабіць.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*14 кастрычніка 2007 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №3 (62).*



(Фота А. Фірулова)

***89. Горадня. Від на Езуіцкі касьцёл.***

# „НІШТО НЯ СПЫНІЦЬ БЕЛАРУСІ”

***(Выступ на мэмарыяльным мітынгу ў Курапатах)***

…Сёньня, як заўсёды, мы тут, у трагічным і знакавым месцы, дзе прышлыя чужаніцы расстрэльвалі наш народ. Курапаты – гэта народныя магіла, сымвал нашага народнага вынішчэньня. Але ў 1988 годзе, калі былі адкрытыя Курапаты, гэты знак адчыніўся нанова, стаўся сымвалам народнага ўваскрашэньня. Менавіта з адкрыцьця праўды пра Курапаты пачалося новае Беларускае Адраджэньне. Якраз адсюль і з гэтага часу пачаўся Беларускі Народны Фронт. Беларусь уваскрэсла, паўстала з годнасьцю жыць. Усе іншыя прапановы, думачкі і дарожкі – ідуць ад лукавага. Не хадзіце дарогай лукавага, бо ў канцы той дарогі – народная сьмерць!

Калі Беларусь збавіцца ад чужароднага рэжыму, прыярытэтам у беларускай палітыцы павінна стаць нацыянальная асьвета і адукацыя маладога пакаленьня беларусаў. На гэта трэба будзе зьвярнуць галоўную ўвагу. Нічога вялікага і нават нічога нармальнага ня будзе дасягнута ні ў эканоміцы, ні ў палітыцы, пакуль ня зьявіцца, пакуль ня вырасьце, не адукуецца новы, вольны беларускі чалавек, пакуль ня стане свабоднай наша культура і мова, бо ідэя і дух – над усім.




***90. Крыжовае шэсьце ў Курапаты на Дзяды.***

магілы, куды яе ўжо амаль загнаў маскоўска-бальшавіцкі вораг чалавецтва. Курапаты – зямля сьмерці – сталі прадметным месцам беларускага ўваскрашэньня.

Найперш гэтую зьяву адлюстроўвае Курапацкі Крыж Пакуты – сымвал аднаўленьня і вечнага жыцьця, сымвал, які народ стварыў сам. А сымвал, як вы ведаеце, незьнішчальны. Могуць часова разбурыць яго форму, але немагчыма зьнішчыць значэньне і зьмест.

У Дзень Дзядоў, памятаючы мінулае, ёсьць сэнс гаварыць пра будучыню, якая залежыць ад тых, што жывуць. Бо ведаем: толькі той народ, які шануе продкаў, мае прышласьць. Нашая прышласьць будзе належыць нашаму народнаму адраджэньню. ***Няма іншага шляху ў будучыню, як адрадзіць нашу нацыянальную культуру, нашу нацыянальную дзяржаву, нашу вялікую беларускую мову, нашу магутнасьць, веліч і моц.*** Няма іншай альтэрнатывы, як духоўна адрадзіцца і з

Цяперашняму пакаленьню беларусаў, што апынуліся пад прамаскоўскім рэжымам, трэба выразна ўсьвядоміць, што, пачынаючы з XVII стагоддзя, усходняя імпэрыя пастанавіла зьнішчыць нашу дзяржаву – Вялікае Княства Літоўскае – і вынішчыць наш народ. І гэтая палітыка зьнішчэньня працягваецца па сёньняшні дзень.

Вось мы сёньня тут у адным з тых месцаў, дзе забівалі цьвет нашай нацыі – інтэлігенцыю, творчых людзей, моладзь, вучоных. Вось тут масава расстрэльвалі сялян, простых людзей, беларусаў толькі за тое, што яны былі беларусамі.

***Курапаты ёсьць сьведчаньне расейскага генацыду і неабвержная ўліка масавага забойства людзей.*** Вось чаму нашчадкі ворагаў чалавецтва так стараюцца апаганіць масавыя магілы ў Курапатах, імкнуцца зрабіць тут дарогу, ламаюць крыжы, паскудзяць і гадзяць на сьвятым месцы. Задумаемся, хто гэта робіць, хто кіруе і чаму гэта робіцца пастаянна і мэтадычна?

Гляньце – нават цемра ведае, што кожнае таптаньне магілы продкаў ёсьць стрэл у будучыню жывых. То што павінны рабіць жывыя, мы, асьвечаныя і адукаваныя? Рытарычнае пытаньне.

Мы ведаем, што трэба рабіць. Ня будзе бясконца ўладарыць дрэнь. Кроў нявінна забітых вышла з зямлі на паверхню. Ужо ніхто ня зьнішчыць Курапаты, і вечна будзе жыць Беларусь. Толькі трэба йсьці да яе шырокім шляхам, разам з продкамі, сьмела і салідарна, разам з тымі, хто загінуў за яе волю і за яе імя, як нашы сяляне, што былі беларусамі. ***Велічная мэта адраджае магутны дух.*** Сёньня за Беларусь ахвярна змагаюцца тыя, што валодаюць гэтым народным духам. Такіх людзей робіцца ўсё больш, і прыйдзе час, калі ў сваю абарону і за сваю нацыянальную будучыню стане ўвесь Беларускі народ. Гэта будзе.

Нішто ня спыніць Беларусі. Толькі памятайма – наша сіла, магутнасьць і веліч – у нашым мінулым. Каб асягнуць веліч будучыні, мы мусім узьняць нашу мінуласьць. Ніколі не павінна забывацца наша слава. ***Ніколі не павінны магілы продкаў зарастаць травой беспамяцтва. Народ – гэта метафізічны арганізм, што жыве ў вечнасьці. Мы – жывое пакаленьне – толькі яго авангард.***

Уславім жа нашых дзядоў тут, сёньня, у Курапатах. Хай будзе цьвёрдым наш крок, хай сьветлай стане будучыня нашай Беларусі.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*28 кастрычніка 2007 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №3 (62).*

# ЛОШЫЦКІ ЯР. 70 ГАДОЎ

***(Выступ на Дзядах)***

...Мы сабраліся ў жалобным мецы, тут, дзе 70 гадоў таму расейскія энкавэдзісты масава расстрэльвалі беларускіх людзей. Расстрэльвалі на працягу цэлага 1937 года. Людзей прывозілі ў „хапунах" і часам на бартавых грузавіках, зьвязаных і пад наглядам аховы. Як правіла, прывозілі рана (у 5-6 раніцы) па некалькі машынаў і тут жа расстрэльвалі. Некаторыя з Лошыцкіх старажылаў расказвалі мне ў 80-х, што бачылі, як вазілі і нават як расстрэльвалі. Сказаныя на сьмерць былі бедна апранутыя, простыя людзі. Зафіксаваныя таксама асобныя факты, калі мясцовыя камсамольцы-сексоты НКВД і лошыцкія падонкі (сексоты) удзельнічалі ў расстрэлах „ворагаў народа" тут, у Лошыцкім Яры. Яны напрошваліся „пастраляць" і за кожны стрэл ім плацілі 50 капеек (відаць, такса была). У цэлым у Лошыцы расстраляна і закапана ад 7 да 10-ці тысячаў чалавек.

Гэтае месца мной было адкрыта ў 1988 годзе. Тады я апытаў некалькіх жывых сьведкаў лошыцкіх расстрэлаў і апавяданьні некаторых (напрыклад, спадарыні Веры Шумскай) запісаў на магнітафон. У гэтым жа годзе, пасьля раскопак у Курапатах, я падрыхтаваўся да раскопак у Лошыцы. Але калі я летам перад раскопкамі прышоў сюды, то ўбачыў, што велізарны яр засыпаны, а вакольныя ўзгоркі, на якіх рос сад, скапаныя і грунт ссунуты ў яр.

Я высьветліў хто, калі і якім чынам гэта зрабіў і зразумеў, што тут не абышлося без КГБ. Такім чынам у Лошыцы КГБ апярэдзіў мяне. Я прывёў атрад валанцёраў і спрабаваў яшчэ адчайна пракапаць насыпны грунт у некалькіх месцах, каб знайсьці пахаваньні. Але гэтая праца бяз тэхнікі была не пад сілу і скончылася бязвынікова.

З 1990-га году я спыніў усе археалягічныя дасьледваньні, сканцэнтраваўшы дзейнасьць на БНФ і ў Вярхоўным Савеце. У 1997 годзе ў „Беларускіх Ведамасьцях" мной быў надрукаваны артыкул пра гэтае месца і пра Лошыцкія расстрэлы.


(Фота з Сеціва)
***91. Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ ля Лошыцкага крыжа на Дзяды.***

Сёлета КГБ зноў захваляваўся Лошыцай. Ёсьць зьвесткі, што тут, на месцы расстрэльнага яра, плянуюць нейкае маштабнае будаўніцтва, прыдумваюць вэрсіі, каб зьнішчыць Лошыцкі Крыж, мабілізавалі каманду „інтэрпрэтатараў" і заказных „экспэртаў".

Увесь гэты гэбоўскі непакой тлумачыцца проста. У 1988 годзе ў іх была паніка, выкліканая адкрыцьцём Курапатаў. Таму ў Лошыцы ўсё зрабілі хутка і насьпех.

Тым часам я ня раз выказваўся, што магілы ня зьнішчылі, яны засталіся пад шматмэтровым насыпным грунтам. І ў будучыні ў прынцыпе можна іх дасьледваць. Гаражы, якія паставілі на засыпаным яры, – даволі нязначныя пабудовы, каб стацца перашкодай для прынцыповага дасьледваньня. Ведаючы зацыкленасьць расейскіх гэбістаў на помсьце і злачынствах, я ўвесь час чакаў, што тут яны нешта прыдумаюць і пабудуюць такое, каб зачыніць шлях для дасьледваньняў у будучыні. (Забойцам, як вядома, галоўнае схаваць труп).

Мне здаецца, што ўжо нешта такое калі не пачынаецца, то намерваецца. ***Наша задача і задача ўсёй беларускай грамадзкасьці – не дапусьціць далейшага зьнішчэньня Лошыцкага Яра.*** Мы разумеем, што забойцы будуць пакаленьнямі замятаць сьляды сваіх злачынстваў. Але ім ужо гэта ня ўдасца. Гэтак жа, як ня ўдасца схавацца ад адказнасьці тым, хто пакрывае камуністычныя забойствы. Такіх месцаў, як Лошыца, сотні на Беларусі. Настане час, і ўшанавана будзе памяць усіх нявінна забітых беларусаў дзеля таго, каб ніколі больш ні масквовец, ні немец не таптвалі нашу зямлю.

***Зянон Пазьняк***

*4 лістапада 2007 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №3 (62).*

# АСЬВЕТА І СІЛА

*(Выступ на лістападаўскім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Скарочана)*

У кастрычніку адбываліся некаторыя падзеі, якія дазваляюць выказаць пэўныя меркаваньні.

У псэўдаапазыцыі „крызіс жанру" набыў гратэскавыя формы. Маразм і пустата гэтых асобаў выразна выявіліся ў небеларускім „маршы" 14-га кастрычніка.

Адсутнасьць беларускай палітычнай арганізацыі, якая б займалася сацыяльна-палітычнымі праблемамі і справамі народа, прыводзіць да выхаду на паверхню камуністаў („сацыяльны марш"). Аднак, мне тут бачыцца тэндэнцыя (цалкам, дарэчы, авантурная) перакшталтаваньня псэўдаапазыцыі з „агульнадэмакратычнай" на лева-прамаскоўскую, з апорай на камуністаў.

Тое, што за гэтай тэндэнцыяй стаіць агентура і фантазёры з КГБ-Лубянкі, у мяне не выклікае сумненьня. (Мы ўжо наглядзеліся на іхныя экспэрымэнты). Сымптаматычна таксама, што газэта „Наша Ніва" у гэтай сытуацыі прадэкляравала падтрымку камуністам (першым ненавісьнікам беларушчыны цяпер і ва ўсёй нашай гісторыі).

У ідэалягічным пэрспэктыўным пляне камунізацыя псэўдаапазыцыі, як кажуць, – марная справа. Але звышзадача таго, што цяпер робіцца, іншая: давесьці ўсё да абсурду і да маразму. Актыўнае дзеяньне гэтай левай псэўдаапазыцыі – сабраць антыбеларускія сілы, сьціраваныя на падтрымку Масквы. Зьнешні выгляд і працэс „сацыяльнага маршу" быў вобразам гэтага чаканага абсурду. (Чаго вартае было зьмяшаньне сымвалаў і дыскрэдытацыя Беларускага Нацыянальнага Сьцяга).

Традыцыйна і прыстойна адбыліся Крыжовае шэсьце і мітынг на Дзяды ў Курапатах і ў Лошыцы. Вялікая падзяка належыцца сябрам Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і прыхільнікам Адраджэньня за хуткае, добрае і апэратыўнае аднаўленьне Курапацкага Крыжа Пакуты і мэмарыяльнай лавы прэзыдэнта У. Клінтана (рэстаўраваў А. Шатэрнік). Сёлетняя сытуацыя на Беларусі, якая склалася ў кастрычніку, добра паказала, наколькі правільным і неабходным для Беларускага Адраджэньня было вызначэньне Курапатаў і стварэньне там Народнага Мэмарыялу адным з галоўных прыярытэтаў у нашых грамадзкіх дзеяньнях.

Нагадаю ў каторы раз, што сытуацыя палітычнага развалу, інспірацыя псэўдаапазыцыі і імітацыі, якую стварылі на Беларусі непрыяцелі беларушчыны, у прынцыпе ня можа прывесьці да якіх-небудзь пераменаў у жыцьці і палітыцы. Палітычнае балота – мэтад гарантаванага існаваньня дыктатуры. Для пераменаў і перамогі неабходна стварэньне беларускай нацыянальнай сілы. Для кансалідацыі беларускай сілы неабходна нацыянальнае асьветніцтва грамадзтва, якое фармуе нацыянальную сьведамасьць. Гэта ёсьць азбука, ня вывучыўшы якой ніхто ня стане чытаць. Ніхто не ўратуе, не збудуе і не ўзьвялічыць Беларусь, акрамя самых беларусаў, якія, шануючы сябе, з гонарам будуць любіць сваю беларускую мову, Бацькаўшчыну і свабоду. Трагедыя і драма Беларусі ў тым, што такіх беларусаў мала. Унутраная акупацыя, рэжым, русіфікацыя, нішчэньне памяці і культуры ёсьць вытворныя чыньнікі гэтага замкнёнага кола драмы, якое ўдалося ненадоўга праравваць у 1991-м, як толькі вырасьлі першыя парасткі народнай сілы (Беларускі Народны Фронт).

Раней я пісаў пра асноўныя складнікі асьветніцтва і нацыянальнага адраджэньня. Гэта – мова, гісторыя, дзяржава. Галоўнай у гэтай трыядзе ёсьць мова. Бо ***толькі пакуль існуе беларуская мова, будзе жыць Беларускі народ.***

Цяпер антыбеларускі рэжым яшчэ больш узмацняе русіфікацыю і нішчэньне беларускай мовы. У асьветніцкай палітыцы Фронту і нашай народнай партыі абарона і сьцьвярджэньне беларускай мовы павінна стаць у гэтым момантцы прыярытэтным дзеяньнем. Неабходна прапанаваць мадэль жыцьцёвых паводзінаў ва ўмовах унутранай акупацыі і перасьледу ўсяго беларускага. Да слова сказаць, напрыклад, у эміграцыі ўсе народы (акрамя, відаць, беларусаў) прынялі вельмі простую і эфэктыўную мадэль: як толькі пераступіў парог і ўвайшоў у свой дом, – гаворым выключна на сваёй мове. Гэтак жа і са сваімі, дзе б ні былі. У выніку мексіканцы, карэйцы і г.д., нават курды, пакаленьнямі за мяжой гавораць і ведаюць сваю мову. Беларусы ўжо ў першым пакаленьні робяцца нямымі. Бывае, што дзеці нават інтэлігентных і сьведамых беларусаў (у вольным сьвеце) нават не разумеюць па-беларуску.

Пра прычыны і фэнамэн гэтай нікчэмнай зьявы я ня буду разважаць у гэтым лісьце, але, ведаючы прычыны, мяркую, што сусьветны прынцып выжываньня народаў за мяжой трэба ўвесьці за правіла на Беларусі пры антыбеларускай уладзе. У доме – гаворым толькі па-беларуску. Для тых, хто зразумее, што Беларусь ёсьць наш агульны дом – прынцып такі ж: ***у Беларусі гаворым па-беларуску.*** (Менавіта так паводзілі сябе прыбалтыйскія народы за савецкай акупацыяй. І выжылі, і здабылі свабоду).

Цяпер ёсьць шмат маладых беларусаў, якія прыхільныя да сваёй мовы, гісторыі і культуры, але (з прычыны акупацыйнага школьнага выхаваньня) не гавораць па-беларуску. І тут ёсьць дакладныя рэкамэндацыі, каб іхныя дзеці з самага маленькага ўзросту бездакорна загаварылі на беларускай мове. Ёсьць магчымасьць перакуліць піраміду русіфікацыі наадварот: бацькі – яшчэ па-руску, дзеці – ўжо па-беларуску. Спосаб паводзінаў і дэрусіфікацыі ва ўмовах асіміляцыйнай палітыкі нам трэба абазначыць у бліжэйшы час (асноўныя прынцыпы, якія, не сумняваюся, будуць дапрацаваныя шляхам грамадзкага абмеркаваньня).

Беларускае Адраджэньне павінна мабілізавацца як актыўная сіла. Рэсурсы адновяцца па меры дэградацыі „падстаўной апазыцыі" і па меры яе камунізацыі (ад чаго Масква, відаць, не адступіцца). Ёсьць рэсурсы і па-за межамі Партыі, якія можна ўключыць у агульную справу адраджэньня Беларусі.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*11 лістапада 2007 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №3 (62).*

* * *

*Людзі, што выракліся свайго,*
*Хваляць чужое.*

* * *

*Запалілася зорка ў цемнаце.*
*Не азірайся, бо страціш.*

*2001 г.*

# ЧАРГОВЫЯ КРОКІ АНТЫБЕЛАРУСКАГА РЭЖЫМУ ПА ЛІКВІДАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ НАВУКІ

Ліквідацыя беларускай фундамэнтальнай навукі ад самага пачатку ёсьць адзін з галоўных накіраваных удараў антыбеларускага рэжыму ў справе нацыянальнага вынішчэньня Беларусі. Матывацыя, якую выкарыстоўваюць непрыяцелі, выглядае цалкам банальнай. Яна добра вядомая яшчэ за часы палітыкі Савецкага Саюза на „ўскраінах імпэрыі". Гэта матывацыя „неадукаванага прагматызму" – патрабаваньне ад навукі непасрэднай сувязі з вытворчасьцю і непасрэднай вытворчай аддачы навуковых дасьледваньняў. Такая матывацыя лёгка ўспрымаецца малакультурнымі людзьмі.

Аўтарытарызм, прысутнасьць неасьвечаных (і, галоўнае, антынацыянальных) асобаў у верхавіне прамаскоўскага рэжыму – усё гэта дало магчымасьць Маскве лёгка пасеяць патрэбную ёй тэндэнцыю ў палітыцы лукашызму. Беларуская фундамэнтальная навука вынішчаецца. Распрацавана мэтадалёгія зьнішчэньня па трох накірунках: адміністрацыйна-палітычным, сацыяльна-эканамічным і структуралягічным.

У Беларускай Нацыянальнай Акадэміі Навук створана бюракратычная вертыкаль, падпарадкаваная рэжымнай адміністрацыі, ліквідаваны шэраг навукова-дасьледчых інстытутаў, асяродкаў, дасьледчыцкіх тэмаў і накірункаў, скасаваная акадэмічная аўтаномія, выбарнасьць, самастойнасьць інстытутаў. Бюджэт і сродкі на навуку скарочаныя да найніжэйшага мінімуму. Зьніжаная да абсурду аплата працы навукоўцаў, якіх загналі ў стан сацыяльнай галечы. Мэтанакіравана і пастаянна звальняюць з працы добрых вучоных і не даюць займацца дасьледчыцкай дзейнасьцю вядомым і здольным навукоўцам-беларусам, асабліва маладым; пазбаўляюцца ад вучоных па палітычнай і ідэйнай прыкмеце.

Абдуманы, вынішчальны ўдар сьціраваны супраць грамадзка-гуманітарнай сфэры беларускай акадэмічнай навукі. Апошнія рэпрэсіі рэжыму, якія адбыліся тут у сярэдзіне лістапада, – гэта ліквідацыя навукова-дасьледчага Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. (Ліквідавалі шляхам фармальнага ўлучэньня Інстытута літаратуры ў Інстытут мовазнаўства. Гэта такі мэтад ліквідацыі.)

Агульнавядомае палажэньне: нацыя ўзьнікае тады, калі зьяўляецца нацыянальная літаратура і асэнсаваньне яе нацыяй. Няма літаратуры – няма й нацыі. Таму, побач з нішчэньнем беларускай фундамэнтальнай навукі, мовы, гісторыі, адукацыі, моцны ўдар рэжым абрынуў на беларускую літаратуру. Схема выпрабаваная акупантамі яшчэ ў 20-х--30-х гадах. Іхнія дзеяньні цяпер: траўля імя Васіля Быкава, зачыненьне беларускіх выдавецтваў і часопісаў, захоп і рэквізіцыя Дома літаратара, ліквідацыя (раскол) Саюзу пісьменьнікаў, ліквідацыя Літфонду, бібліятэкі і архіву пісьменьнікаў і, нядаўна, – ліквідацыя тэарытычнай лабараторыі і пазнаваўчай базы нацыянальнай літаратуры – навукова-дасьледчага Інстытуту беларускай літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай Акадэміі Навук.

Міркуючы па схеме нішчэньня, акупанцкі рэжым (прынамсі тыя, хто гэта робяць), відаць, добра ведаюць, што ***літаратура становіцца творчым чыньнікам нацыі, калі пазнае сама сябе*** (дакладна па Гегелю). Гэта значыць – калі зьяўляецца тэорыя нацыянальнай літаратуры і літаратуразнаўства. Бяз гэтага самапазнаньня немагчымая самаідэнтыфікацыя працэсу і ўзвышэньне над правінцыйнасьцю, не адбываецца асягненьне ідэалаў.

Тым часам у пуцінскай палітыцы ў Расеі (якая па схеме цяпер цалкам дублюе лукашысцкую) назіраецца якраз адваротная тэндэнцыя. Нягледзячы на атмасфэру агульнарасейскай карупцыі, хабарніцтва і рабаваньня, Масква ўкладвае вялікія сродкі ў разьвіцьцё фундамэнтальнай навукі, гуманітарнага сэктару, тэхналягічных дасьледваньняў. У канцы лістапада гэтага года бюджэтныя сродкі на фундамэнтальную навуку расейцы павялічылі ўдвая. Бюджэт расейскай фундамэнтальнай навукі цяпер другі па велічыні (пасьля бюджэту на армію і ўзбраеньні). Адпаведна ў два разы вырас бюджэт Расейскай Акадэміі Навук і зарплата вучоных. Стаўка робіцца на захаваньне маладых кадраў і разьвіцьцё фундамэнтальных дасьледваньняў.

Рэакцыя беларускага грамадзтва на дзеяньні рэжыму па ліквідацыі асноваў нацыянальнага разьвіцьця выглядае ў цэлым адпаведнай ідэйнай тоеснасьці ягонага ўнутранага становішча, якое, фактычна, не зьмянілася за апошнія, прынамсі, 70-80 гадоў. Калі казаць вобразна – гэта крыкі адзіночак на фоне маўчаньня астатніх. Беларусы ў большасьці проста не разумеюць, што іх абдумана нішчаць як культурны народ. Не разумеюць, бо занятыя клопатам пра фізічнае існаваньне.

Акупацыйная сістэма вынішчэньня ў такіх умовах дзейнічае зладжана, бесперашкодна і беспакарана. І аказваецца, што беларусы ў гэтай сістэме самы ўдзельнічаюць у нішчэньні самых сябе (сваіх каштоўнасьцяў і здабыткаў).

Задача барацьбы з антыбеларускім рэжымам, з расейскай імпэрскай палітыкай пераплялася з праблемай культурнай самаідэнтэфікацыі і нацыянальнай сьведамасьці постсавецкіх пакаленьняў людзей. Прытым сьведамасны падзел незалежны ад узроўню адукацыі і сацыяльнага становішча ў грамадзтве. ***Без істотных пераменаў у сфэры нацыянальна-культурнай сьвядомасьці беларусаў барацьба з рэжымам ня дасьць выніку з прычыны неадэкватнага разуменьня падзеяў.*** На фармаваньні сьведамаснага стану асобы неабходна пастаянна засяроджвацца ўсялякаму беларускаму руху, усялякай беларускай арганізацыі, асяродку, ініцыятыве. Ёсьць нацыянальныя каштоўнасьці, правілы абароны якіх агульныя, неабходныя, салідарныя і абавязковыя для ўсіх у становішчы, калі супраць усіх праводзіцца палітыка нацыянальнага разбурэньня.

Дзеля рэалізацыі палітычных мэтаў і партыйных праграмаў беларускае грамадзтва стаіць, перш за ўсё, перад неабходнасьцю аб'яднаньня інтарэсаў ***на нацыянальна-культурнай плятформе беларускай салідарнасьці ў абароне агульных каштоўнасьцяў нацыі.*** З гэтага палажэньня павінна б была зыходзіць таксама ўсялякая партыйная палітыка беларускіх партыяў. Нацыянальна-культурнаму разбурэньню беларускага грамадзтва акупацыйным рэжымам можна супрацьпаставіць толькі грамадзкі адпор і нацыянальную салідарнасьць людзей.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*1 сьнежня 2007 г., Варшава*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №3 (62); „Беларус", 2008, № 540, студзень).*

# ЗАЎВАГІ ПАСЬЛЯ РАСЕЙСКІХ ВЫБАРАЎ У ДУМУ

Выбары ў Расеі ўжо даўно ёсьць звыклай руцінай гэбізму – гэта зн. сістэмы ўлады, якая там усталяваная. Расейскія выбары прадказальныя, як дзень і ноч. Выбарчая машына рэжыму там поўнасьцю кіруемая ўладай і круціцца, як сячкарня.

Два моманты я хацеў бы падкрэсьліць у сувязі з гэтай банальнай падзеяй.

Рускія выбары ў чарговы раз наглядна паказалі сутнасьць рускага гэбізму як карпаратыўнай улады кіроўнай групы КГБ. ***У Расеі створана жорсткая „калектыўная дыктатура" КГБ, якая сьведама дрэйфуе ў бок дзяржаўнага фашызму.***

Пра сутнасьць гэтай улады мы папярэджвалі яшчэ 6-7 гадоў таму. У Расеі якраз назіраецца вельмі небясьпечны зьбег абставінаў для разьвіцьця клясычнага імпэрскага фашызму (няважна, як ён будзе там называцца). Настальгія па вялікай імпэрыі, палітычныя паразы ў Прыбалтыцы, Украіне, Чачэніі, Грузіі, бездань паміж правінцыяй і сталіцай, паўсюдная крыміналізацыя грамадзтва, паўсюдная карупцыя ўлады, і пры гэтым унікальная і абсалютная ўлада КГБ, які, трымаючы ў руках ніткі міжнароднага тэрарызму, істотна ўплывае на сусьветную палітыку, на цэны і разьмеркаваньне сусьветных энэргетычных рэсурсаў.

У Расеі ўжо нават „тытул" „нацыянальнага лідэра" аб'явілі. І сумуюць па Сталіну. Шчасьце яшчэ, што гушкаюць шэрага Пуціна. Бо калі б зьявіўся кліент „с отвагой во взоре", то іншай была б і размова.

Другі аспэкт, які я не магу не адзначыць, гэта часовае прасьвятленьне ў галовах некаторых заходніх „спэцоў" ад палітыкі, сьпевакоў пра „расейскую дэмакратыю". Гэта, бадай, адзіны новы палітычны вынік расейскіх выбараў – бурбалкі ў заходніх фантанах. Праўда, ненадоўга. Жыцьцё паказала, што „калектыўная Эўропа" можа добра паразумецца з „калектыўнай дыктатурай", нават калі яна фашысцкая. Для нас, беларусаў, гэта ёсьць галоўнае, пра што мы павінны ведаць і памятаць. Ніхто ня будзе „паміраць за Гданьск"*. Тым больш, за нашу незалежнасьць.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***(Сяргей Навумчык, радыё Свабода, Інтэрв'ю)***

*4 сьнежня 2007 г.*

* Перад пачаткам Другой усясьветнай вайны Англія і саюзьнікі падпісалі пагадненьне з Польшчай, што калі немцы на яе нападуць, дык яны ўступяць у вайну (а немцы патрабавалі тагачасны Данцыг (Гданьск). Немцы напалі на Польшчу, забралі Гданьск, а Польшчу ніхто не бараніў. І была такая крылатая фраза – „Ніхто не хацеў паміраць за Гданьск". *(Рэд.)*

# „НОВАЯ ВАЙНА – СТАРАЯ ПАЛІТЫКА"

***(Выступ на сьнежаньскім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

...Год-два таму пуцінская Масква зразумела, што купіць Беларусь за „так" у свайго сатрапа ім ня ўдасца. Сатрап прадаваўся толькі за ўладу над Крамлём. Тады ўзгарэлася газа-нафтавая вайна, дакладней, агрэсія, якая перарастае цяпер ў вайну фінансавую і эканамічную. Масква груба паламала дамоўленасьці і абавязацельствы Будапэшцкага Мэмарандума 1994 года (чатырох краінаў – ЗША, Англіі, Расеі і Беларусі) і пачала эканамічную вайну, якая (пры ўсёй, здавалася б, неверагоднасьці гэтай высновы) мае магчымасьць перарасьці ў сілавую агрэсію маскоўскага гэбізму (на што яны здольныя, мы ведаем).

Каб убачыць сутнасьць новай захопніцкай палітыкі (якая, дарэчы, адкрыта прамаўляецца і робіцца) карысна часам зьвярнуць увагу на выказваньні непрыкметных людзей, якія ў сістэме гэбізму выконваюць функцыю „агучвальнікаў" думак палітычнага начальства (калі начальству выказвацца нязручна ці непажадана). Адным з такіх „гучальнікаў" зьяўляецца спалены расейскі шпіён А. Суздальцаў (Лукашэнка вытурыў яго зь Беларусі за шпіёнства ў карысьць Расеі). Пасьля правалу гэтага рэзідэнта Лубянка яго легалізавала і дае „выказвацца" нават у Стразбургу і Брусэлі.

Вось які тэкст яму было даручана агучыць летам гэтага года ў Стразбургу:

„Следующий этап российско-белорусского кризиса будет носить финансовый характер… Негативные процессы в финансовой сфере Белоруссии в итоге могут привести к варианту дефолта… Мы видим, что финансовая стабильность является главной проблемой белорусских властей… Решения российских властей в отношении РБ, принятые в декабре-январе 2006-2007 гг., являются окончательными и ревизии не подлежат… ***Идёт процесс постепенного лишения Белоруссии статуса транзитного государства.*** В отношении газа – идёт активное строительство «Северного потока». В отношении нефти – строится БТС-2 (калектар да Фінскай затокі – *З.П.*). В отношении автомобильного транзита – ставятся вопросы о расширении автомобильного транзита через территорию Финляндии, Латвии". (http://www.politoboz.com/node/179 )

Вось сутнасьць агрэсіі, якую не агучваюць рускія „генэралы палітыкі", гаворачы нібыта пра рынак і „датацыі" (якіх на справе не існавала).

Гэтая інфармацыя „гучальніка" была зроблена для Рады Эўропы, каб тыя, гаворачы пра „дэмакратызацыю" Лукашэнкі, разумелі і падтрымлівалі Маскву.

Прывяду яшчэ адну цытату з выступу гэтага „рэтранслятара". Расейцы ў размовах між сабой кажуць і лічаць (небеспадстаўна), што Беларусь чакае энэргетычны голад і што „кардынальна зьмяніць ягоны балянс" „можа толькі ўласная АЭС". (За што Лукашэнка і ўхапіўся).




*92. „Расея, лапы прэч ад Беларусі!" (Дэманстрацыя ў Нью-Ёрку)*

А цяпер вось як інфармуе чыноўны Стразбург Суздальцаў: „Строительство в 500 км от Москвы АЭС руками китайцев, иранцев и даже украинцев является неприемлемым для Москвы. В итоге, ситуация с белорусской АЭС способна резко изменить формат отношений между РФ и РБ".

Як кажуць, прасьцей ня скажаш.

Такі ёсьць зьмест новай вайны і палітычна-эканамічнай агрэсіі Расеі супраць Беларусі. У рэчышчы і пад сьцягам гэтай вайны (але з лагоднай мінай) зьбіраецца ў хуткім часе (сярэдзіна сьнежня) прыехаць у Менск Пуцін на два дні. Сутнасьць гэтай паездкі – выкананьне заданьня „калектыўнага дыктатара" – расчыстка шляхоў для расейскага гэбоўскага капіталу на Беларусь* і падрыхтоўка (у выпадку посьпеху) умоваў для прыняцьця так званага „канстытуцыйнага акту". Захоп Беларусі сплянавалі ў растэрміноўку. Цяпер кожны дзень існаваньня прамаскоўскага рэжыму становіцца надзвычай небясьпечным для Беларусі.

Улічым, што ва ўмовах абсалютнай улады КГБ у Расеі ніякія законы і фармальнасьці брацца ў разьлік ня будуць. У Пуціна і ягонай групоўкі застаўся на гэта (на трэці тэрмін Пуціна і „канстытуцыйны акт") яшчэ адзін шанец – прэзыдэнцкія выбары ў 2008 годзе ў Расеі.

Супрацьстаяць расейскай палітычнай інвазіі і спыніць яе можа толькі Беларускі народ (не Лукашэнка). Таму, зразумела, што Масква праз свае магчымасьці пастараецца ліквідаваць на Беларусі патэнцыяльную небясьпеку для сваёй агрэсіі – ізаляваць небясьпечныя для яе асобы, партыі, арганізацыі, структуры, установы нацыянальнага кшталту. Гэта робіцца ўвесь час, а цяпер (што для павярхоўных назіральнікаў здаецца дзіўным) у шматкроць павялічылася. Якраз з пачаткам „новай" расейскай агрэсіі супраць Беларусі ў канцы 2006 г. узмацніўся масавы перасьлед беларускай моладзі, беларускіх інстытуцыяў, арганізацыяў і г.д.

Падрыхтоўка да забароны адзінай беларускай адраджэнскай Партыі Народнага Фронту (КХП-БНФ), вынік спакойнай і пасьлядоўнай працы якой стаў рэальна адчувацца ў цяперашнім беларускім грамадзтве, – гэта якраз праява „новай агрэсіі" і ліхаманкавага сьпяшаньня пуціністаў Расеі перад апошнімі для іх выбарамі.

* Візіт адбыўся 13-14 сьнежня. Усё сталася, як і меркавалася. Экспэрты адзначылі, што „Расея і Пуцін адмовіліся ад бліц-крыгу ў дачыненьні да Беларусі і перайшлі на больш хітры і доўгатэрміновы сцэнар... Гэта сцэнар павелічэньня крэдытаваньня і запазычанасьці Беларусі." Лукашэнка „як той трус, проста йдзе ў пастку расейскім фінансавым групам." http://www.svaboda.org/content/Article/867809.html)

Фактлагія, каляндар і накірунак нацыянальнага вынішчэньня на Беларусі, якое праводзіць антыбеларускі рэжым, дакладна карэлюецца з палітычнымі дзеяньнямі Расеі супраць Беларусі (і ў цэлым зь расейскай стратэгіяй). Усё гэта паказвае, што канкрэтыка нацыянальнага вынішчэньня Беларусі распрацоўваецца на Лубянцы і ў Маскве.

Трэба разумець, у чым прычына векавога, пастаяннага імкненьня Расеі захапіць і вынішчыць Беларусь. Прычынаў некалькі, але галоўная звышпрычына ўсіх прычынаў – ***ваенна-стратэгічны, плацдарм для ціску і агрэсіі на захад.*** Калі будзе моцная, незалежная Беларусь, Расея як імпэрыя проста скурчыцца. У адрозьненьне ад шмат якіх цяперашніх беларусаў, Масква гэта добра разумее.

Тут варта нагадаць істотнае палажэньне беларускага змаганьня, якое мы вызначылі і абмеркавалі два гады таму. У барацьбе з расейскай імпэрскай палітыкай і агрэсіяй у цяперашніх абставінах беларусы, і найперш беларускія адраджэнцы, павінны ствараць сваю беларускую сілу, на ёй грунтавацца і на яе абапірацца. ***Ні ў якім разе і ні пад якім прафанскім (ці заведамым) тлумачэньнем нельга аб'ядноўвацца з антыбеларускім рэжымам у ягоным канфлікце з пуцінскай уладай. Нельга траціць нацыянальную сілу, пасаваць, разбройвацца, стаца гноем, таптаньнем у подлай шкурнай чужой барацьбе. Нельга мяняць Сьцяг, прынцыпы і ідэалы з-за страху ці дзеля прымітыўнага выжывецкага прагматызму. Бо гэта – канец, здрада, ганьба і небыцьцё, страта будучыні Беларусі. Трэба змагацца за Беларусь, самым за сябе, супраць абодвух. Бо яны – адно.***

Паўтараю гэта зноў, гэтую азбуку палітыкі і змаганьня, бо філісьцерскі піск у такіх мамэнтах, імкненьне кінуцца ад страху ў абдымкі любога тырана, гвалтаўніка й прыгнятальніка, шукаць у яго абароны, – такія паводзіны былі заўсёды ў спалоханых бясьсільных людзей. На іхных сагнутых карках ехалі Гітлер і Сталін, „дучэ" і нават Лукашэнка.

Але ня можа цэлы народ стацца бесхрыбетным. Новае змаганьне вылучыць новых людзей. Ніякія забароны беларускіх партыяў, ніякія пасадкі ў турму беларускай моладзі ні для гэбоўскай Расеі, ні для антыбеларускага рэжыму ня пойдуць на карысьць. Як у песьні пяецца: „Мы знаем, што трэба рабіць". І беларусы гэта зробяць.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*9 сьнежня 2007 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2007, №3 (62).*

# 2008

## АГУЛЬНЫЯ КАШТОЎНАСЬЦІ, ЯДНАНЬНЕ СВАІХ

***(Выступ на студзеньскім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Скарочана)***

**...**Як бачым, у справе нашай беларускай драмы нічога новага Новы Год не прынёс. Тое, што пачалося ў канцы 2006-га, працягваецца. Працягваецца стара-новая расейская эканамічная вайна супраць Беларусі, якая апынулася ў закладніках цёмнай істоты. Пра сутнасьць гэтай стара-новай вайны мы ўжо казалі ня раз. На газавую пятлю накідваецца фінансавая ўдаўка (рэжым ператвараюць у даўжніка Расеі) і пракладваецца дарога рускаму мафіёзнаму капіталу на Беларусь. У канцы гэтай камбінацыі плянуецца анэксія пад выглядам папяровай „саюзнай дзяржавы”. Гэта добра відаць усім, хто хоць трохі ведае крамлёўцаў і цікавіцца палітыкай.

Сам па сабе маскоўскі плян выглядае цалкам авантурным і правальным у дачыненьні да любой незалежнай дэмакратычнай краіны. У дачыненьні да цяперашняй Беларусі, аднак, ацэньваць яго трэба сур’ёзна. Бо прыняцьце любых рашэньняў тут цалкам залежыць ад адной кіруючай (прытым беларусафобнай) асобы.

Ад самага пачатку было зразумела, чаму яшчэ ў 90-х Масква гэтак падтрымлівала ўсталяваньне прэзыдэнцкай сістэмы ў Беларусі і пазьней – спрыяла ўмацаваньню аўтарытарызму. Гэта стакроць павялічвае тут магчымасьці палітычнага ўплыву Масквы. На Беларусі цяпер стварылі такое становішча, калі можна чакаць любой авантуры незалежна ад заканадаўства і здаровага сэнсу. ***Цэлы народ апынуўся ў закладніках адной асобы, на паводзіны якой ён ня мае аніякага ўзьдзеяньня.***

Бачаньне будучыні ў такіх абставінах страціла ўсе элемэнты прагнозу і выступае ў якасьці катэгарычнага імпэратыву: альбо грамадзтва будзе змагацца за свабоду і народную незалежнасьць з прамаскоўскай дыктатурай, альбо рана ці позна настане дзяржаўная і народная сьмерць. ***Барацьба ня ёсьць тут выбарам, але неабходнасьцю.*** Формы змаганьня могуць быць рознымі, але ўсе яны мусяць грунтавацца на агульных нацыянальна-дэмакратычных каштоўнасьцях, нацыянальнай ідэі і нацыянальных інтарэсах, гэта значыць на тым, што аб’ектыўна яднае ўсіх беларусаў і што найперш трапляе пад пагрозу зьнішчэньня.

Беларускае змаганьне, нягледзячы на існаваньне „катэгарычнага імпэратыву”, было гістарычна заўсёды барацьбой нацыянальнага авангарду і пасіўнай падтрымкі. Задача авангарду заўсёды была адна – пераламаць сытуацыю, пусьціць працэс разьвіцьця ў народнае рэчышча. За дзьвесьце гадоў расейскага забору гэта амаль што ўдалося толькі адзін раз у гісторыі – Беларускаму Народнаму Фронту ў жніўні 1991 года. Я кажу „амаль”, таму што побач з вяртаньнем незалежнасьці, нацыянальнай ідэі, сымвалаў, беларускай школы, побач з нацыянальным будаўніцтвам незалежнай дзяржавы не было дасягнута вельмі істотнае – улада ў дзяржаве, за якую змагаліся, і незалежнасьці, якой дамагліся. Сілы авангарду аказалася недастаткова перад старой імпэрскай машынай, якая акрыяла ў пасіўным асяроддзі і скарыстала ўладу ў сваіх інтарэсах. Але адбыўся не адкат да старога, сталася горшае – захоп улады знутры праз крэатуры і агентуру чужой дзяржавы, тое што называецца „унутранай акупацыяй”, разбуральныя вынікі якой мы перажываем па сёньняшні дзень.

Адметнасьць беларускага змаганьня як барацьбы нацыянальнага авангарду даволі цьмяна яшчэ разумеюць беларусы (трэба прызнаць), але добра ўсьведамляюць нішчыцелі Беларусі. Памятаю, як у 90-х гадах Лукашэнка паўтарыў уведзенае яму ў вушы, што ўсіх беларускіх дзеячоў ёсьць ня больш 400 чалавек і нэўтралізаваць гэтых нацыяналістых яму нескладана. Нядаўна расейскі генэрал Жадобін, які выконвае ў Беларусі пасаду старшыні КГБ, аб’явіў, што ўсіх беларускіх „дэструктыўных элемэнтаў” ёсьць 1767, і ўсіх „яны” (маскоўцы-гэбісты) ведаюць паіменна. Армейскі генэрал, як бачым, просты, як кій, рэжа матку-праўду, як думае. Калі аднойчы Юры Адамавіч Беленькі зьвярнуўся да генэрала зь нейкім пытаньнем, той яму „возразіл”: „А что это вы по-белорусскі разговаріваете? Вы что – фашіст?” Такая акупацыйная публіка плавае на беларускай паверхні.

Неабходная задача, якая стаіць у гэтых умовах перад беларусамі і, найперш, перад беларускімі адраджэнцамі – злучэньне ўсіх супраціўленчых зьяваў і асобаў на змаганьне супраць прамаскоўскай дыктатуры на грунце агульнанацыянальных каштоўнасьцяў. Гэта ў прынцыпе можна зрабіць, нават не варушачы палітструктуры, якія склаліся. Гэта якраз такая задача, калі вузкая мэта прадугледжвае шырокі спэктр падтрымкі. Папярэднія абмеркаваньні тэмы выклікаюць абнадзейваючыя высновы.

Зразумела, што нельга ставіць нерэальных патрабаваньняў. Стварэньне беларускай сілы ня ёсьць сынонімам дамінацыі, масавасьці ці перавагі. ***Мусіць стацца сіла, здольная на разьвіцьцё і рэальнае змаганьне пры падтрымцы значнай часткі людзей.*** Не забывайма (пакуль што) на адметнасьць і наканаваньне беларускага змагарнага авангарду. Само абмеркаваньне гэтае задачы, вядома ж, нічога ня вырашыць, але высьветліць акалічнасьці. Бо тое, што перад абліччам зьнешняй расейскай і ўнутранай пагрозы існаваньню беларускай дзяржаўнасьці, пытаньне агульнанацыянальнага супраціўленьня і барацьбы супраць паўзучай агрэсіі пачынае ўсё больш непакоіць пачуцьці і розумы беларусаў, – гэта ўжо не выклікае сумненьня. І вельмі істотна, каб трывога за лёс дзяржавы, дэмакратыі і нацыі вылілася б у рэальную беларускую форму супраціву, а не атрымала б чарговую падстаўку кшталтам „аб’яднанай апазыцыі”, „пяцёркі плюс” і іншай падробкі.

Цяпер нам, сябрам Сойму БНФ, неабходна, таксама, падрыхтаваць абгрунтаваньне няўдзелу беларусаў у чарговых „выбарах” рэжыму (размова ідзе пра байкот). Падстаўныя зноў пачнуць агітацыю за выбары і заклікаць „сказаць своё нет”. Нашае абгрунтаваньне мусіць быць аргумэнтаваным і разгорнутым, нягледзячы на поўную зразумеласьць дзеяньняў для ўсіх нас. (...)

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*13 студзеня 2008 г.*

# ЛІСТ АБ АГУЛЬНАЙ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЕ

Цяпер назіраецца ўзмацненьне рэпрэсіяў антыбеларускага рэжыму супраць беларусаў. Але адначасна мацнее і нашае супраціўленьне. Каб вынікова змагацца, мы, усе грамадзяне і патрыёты Беларусі, мусім дакладна ведаць дзьве рэальнасьці: першая – ***хто наш непрыяцель, чаго ён хоча і што робіць;*** другая рэальнасьць – ***чаму мы змагаемся, супраць каго, чаго хочам дасягнуць змаганьнем.***

Выніковасьць нашай беларускай барацьбы будзе залежыць ад разуменьня гэтых рэальнасьцяў.

Рэжым Лукашэнкі ёсьць тыповы аўтарытарны рэжым, па характару і па сістэме ўлады. Адначасна гэта ёсьць рэжым выключны, русіфікатарскі, непадобны ні на які іншы, бо праводзіць вынішчальную, тыпова акупацыйную палітыку супраць свайго народу і па характару зьяўляецца антыбеларускім. Гэта ***ўнутраны акупацыйны рэжым***.

Ягоная ўлада была ўсталяваная шляхам унутранай акупацыі – захопу беларускай ўлады спэцслужбамі Расеі з выкарыстаньнем дэмакратычнай сістэмы выбараў і сваіх крэатураў.

Палітычная мэта гэтага залежнага ад Масквы рэжыму – ліквідаваць Беларускую дзяржаву і вынішчыць Беларускую нацыю, уключыць тэрыторыю Беларусі ў склад Расеі.

Гэтых мэтаў Крэмль нават не хавае, гаворыць адкрыта і грунтуецца на палітыцы імпэрыялізму, якую Расея праводзіць супраць Беларусі вось ужо больш за дзьвесьце гадоў. Супярэчнасьці і канфлікты, якія ўзьнікаюць паміж Масквой і Лукашэнкам, маюць унутраны характар у межах адной сфэры палітыкі (КГБ) і групавых дачыненьняў. Рэальны сэнс спрэчак паміж Лукашэнкам і Масквой абумоўлены не беларускімі дзяржаўнымі інтарэсамі, а зыходзіць з задачы захаваць і павялічыць сваю уладу.

Палітыку агрэсіі, захопу і вынішчэньня Беларусі Расея праводзіла і будзе праводзіць увесь час, пакуль застаецца існаваць структура і палітыка каляніяльнай імпэрыі. Расейская імпэрская палітыка ёсьць ***пастаянны, безаглядны і натуральны вораг Беларускай незалежнасьці***.

З аналізу гэтай сытуацыі беларусы мусяць зразумець, што ў нас няма іншага выбару, акрамя як ўсеагульнае змаганьне з Масквой за сваё дзяржаўнае існаваньне. Гэтага нельга пазьбегнуць. Усе іншыя шляхі, акрамя барацьбы з расейскай агрэсіўнай палітыкай (і з антыбеларускім рэжымам як увасабленьнем гэтай палітыкі) вядуць у небыцьцё. Альбо нацыя будзе змагацца супраць пэрманэнтнага наступу Масквы, альбо згіне.

Мэта беларускага змаганьня (ў становішчы, якое існуе) вымагае найперш салідарнасьці і кансалідацыі нацыянальных сілаў. Кансалідацыя народу можа і павінна быць на аснове агульных каштоўнасьцяў і нацыянальных інтарэсаў. Такімі каштоўнасьцямі перад агульнай пагрозай з усходу ёсьць ***Беларуская нацыянальная ідэя***, ***нацыянальная дзяржава***, ***свабода*** і ***дзяржаўная незалежнасьць***.

Нашыя нацыянальныя інтарэсы абавязваюць нас абараніць беларускую культуру, беларускую мову, беларускую народную ўласнасьць, тэрыторыю і дзяржаўнасьць, правы і свабоду беларускага грамадзяніна і чалавека.

Уздым цяперашняй беларускай народнай кансалідацыі мусіць пачынацца з першачарговага дзеяньня – з падняцьця ў гару відомых знакаў нацыі, з сымвалаў, адэкватных зьместу і сутнасьці змагарнай справы.

Такімі знакамі-сымваламі вольнай, дзяржаўнай і дэмакратычнай Беларусі ёсьць нацыянальны *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і гэрб *Пагоня*.

Памятайма, што сымволіка ёсьць фармальны адпаведнік сутнасьці. Усё, што выступае пад іншай сымволікай, мае іншы зьмест. Антыбеларускі, антыдэмакратычны рэжым Лукашэнкі і акупацыйная, прамаскоўская палітыка рэжыму ***пачалася са зьмены сымволікі,*** з фальсіфікацыі гэтай зьмены і са зьнявагі нацыянальнага *Бел-Чырвона-Белага Сьцяга* Рэспублікі Беларусь.

Уся наступная палітыка і дзеяньні прамаскоўскага рэжыму на Беларусі адпавядалі сымволіцы гэтых дзеяньняў – савецкаму, прыдуманаму ў Маскве чырвона-зялёнаму сьцягу з вывернутым арнаментам сьмерці і чужароднаму, правінцыйнаму „гэрбу” савецкай пары.

На цяперашні час у Беларусі вызначаюцца тры накірункі грамадзкай актыўнасьці: гэта (традыцыйна) *гуманітарная і творчая інтэлігенцыя* (нацыянальна-культурная дзейнасьць), *беларуская навучэнская моладзь* (патрыятычная і пратэстная дзейнасьць) і *дробнапрадпрыймальніцкая грамада людзей* (эканамічны пратэст), якіх (з палітычных меркаваньняў) пастаянна душыць рэжым, не даючы разьвівацца беларускаму эканамічнаму класу.

Трэба асабліва адзначыць, што жорсткія рэпрэсіі, якія чыняцца супраць гэтых катэгорыяў беларусаў, неадэкватныя па сутнасьці падзеяў, не заснаваныя на праве і законнасьці, і, зноў жа, – маюць тыпова акупацыйны характар абыходжаньня з насельніцтвам (поўная і дэманстратыўная непавага да асобы чалавека і да права, цынізм, зьдзек, беспрычыннае і жорсткае зьбіваньне, адносіны, як да жывёлы, беспрэцэдэнтная і бессаромная прафанацыя судовых працэсаў.)

Падзеі сьведчаць, што прадпрыймальніцкая грамада ступіла на шлях пратэсту ў абароне сваіх правоў. Сутыкненьне гэтай грамады людзей з рэжымам паказвае, што альбо яна стане палітызавацца і ператворыцца ў грамадзкую сілу, альбо акупацыйны рэжым яе проста растопча. Калі працэс палітызацыі ўсё ж пойдзе, то, магчыма, гэтыя людзі скарыстаюць вопыт Народнага Фронту па стварэньні сваёй аховы мітынгаў, ахоўнай дружыны, тактыку разгону АМАПу і г.д. (Вулічныя акцыі „падстаўной апазыцыі”, тым часам, мелі ў сабе задумку прафанацыі пратэстнага руху. Чаго яны дасягнулі, дык гэта поўнай дэградацыі і безвыніковасьці вулічнага змаганьня.)

Нацыю гуртуе мінулае і кансалідуе будучыня (дакладней – ідэя будучыні). У змаганьні з прамаскоўскім рэжымам людзі мусяць здаваць сабе справу, дзеля чаго яны змагаюцца. Бачаньне пэрспэктывы сістэматызуе рух і адчыняе магчымасьць перамогі.

Беларусь павінна быць вольнай, заможнай, вялікай, незалежнай і дэмакратычнай. Свабодны народ адродзіць сваю мову, культуру, эканоміку і беларускую цывілізацыю. Кожная беларуская палітычная сіла, якая будзе мець уладу, атрымае магчымасьць прапанаваць канкрэтныя спосабы і шляхі для дасягненьня гэтых мэтаў. Але ***дзяржава, мова, Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня, воля, незалежнасьць, беларуская культура, тэрыторыя, зямля, нацыянальныя інтарэсы ў сьвеце – ўсё гэта павінна быць агульным, сьвятым для ўсіх.*** І толькі тады народзяцца ўмовы для сапраўднага адраджэньня Беларусі, для вяртаньня нашай Эўропы, якая была і ёсьць тут, ў нашай культуры і ў нашай крыві, і будзе ізноў.

*20 студзеня 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус”, 2008, № 541, люты).*

# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: „А ПЕРАМОГА БУДЗЕ”

*Госьць „Начной Свабоды” – старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Зянон Пазьняк.*

***Караткевіч:*** Першае пытаньне – пра беларуска-расейскія дачыненьні. Сёньня на сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам міністар замежных справаў Расеі Сяргей Лаўроў сказаў: „Канец 2007-га – пачатак 2008 году стаў часам інтэнсіфікацыі палітычных кантактаў паміж дзьвюма краінамі”. Лаўроў таксама дадаў, што расейскае кіраўніцтва задаволенае вынікамі супрацоўніцтва. Раніцай 30 студзеня адбудзецца супольнае пасяджэньне калегіяў міністэрстваў замежных справаў Расеі і Беларусі і на ім мяркуецца прыняць супольную праграму дзеяньняў двух міністэрстваў на наступныя гады. Гэты дакумэнт будзе каардынаваць дзейнасьць дзьвюх краінаў на міжнароднай арэне.

Як вы лічыце – сапраўды гэта яшчэ большая інтэнсіфікацыя дачыненьняў Беларусі і Расеі ці гэта проста дэклярацыя таго, што ўжо і так адбываецца?

***Пазьняк:*** Гэта працяг таго, што існуе ўжо дзьвесьце гадоў. Працяг так званай дактрыны „інтэграцыі”. Ня думаю, што тут зьявіліся нейкія новыя павевы. Гэта даволі дзяжурны акт, такія спатканьні былі й раней, зь іншымі міністрамі. Задача спатканьняў з боку Расеі – завязаць Беларусь на расейскія інтарэсы, уключыць у сфэру сваёй палітыкі.

Бяда ў тым, што палітыка на Беларусі непразрыстая, што яна антынародная і што ўсё можа вырашыць адзін антынацыянальны чалавек. Гэта – вялікая небясьпека і ненармальнасьць. Мы мала ведаем, што адбывалася на самай справе. Гешэфты і перамовы саўдзельнікі не агалошваюць. Але тэндэнцыя нам добра зразумелая; мы бачым, што адраджаецца расейскі мілітарызм. Масква стараецца мацней прывязаць Беларусь, каб у выпадку неабходнасьці кампэнсаваць свае ўнутраныя цяжкасьці за кошт Беларусі. Гэта працяг той палітыкі, якая некалі была абвешчаная Пуціным (так званыя „мухі і катлеты”), калі ён сказаў, што Беларусь павінна ўвайсьці шасьцю абласьцямі ў Расею.

***Караткевіч:*** З нагоды нашай сёньняшняй гутаркі мы правялі ў Менску апытаньне пра ролю Расеі ў разьвіцьці сучаснай Беларусі.

***Караткевіч:*** Як бы вы маглі пракамэнтаваць гэтыя выказваньні?

***Пазьняк:*** Усе гэтыя выказваньні (незалежна да ацэнкі Расеі) паказваюць, што людзі адчуваюць небясьпеку, адчуваюць, што чужая дзяржава мае вельмі вялікі ўплыў на нашу палітыку, на нашу эканоміку і незалежнасьць. Гэта людзей трывожыць, хоць і ня ўсе выказалі адкрытую трывогу. Сытуацыя ў параўнаньні з той, якая была дзесяць гадоў таму, зьмянілася. Людзі пачалі разумець, што і хто нам пагражае, хоць і ня маюць яшчэ адказу на пытаньне аб тым, як з пагрозай змагацца і як яе ўнікнуць.

Што датычыць ролі Расеі, то тут недакладна сказана – „ролі ў разьвіцьці” – ніякай ролі ў разьвіцьці Беларусі яна не адыгрывае. Наадварот, гэтая роля зусім іншая, зьвязаная з нішчэньнем Беларусі. Уся бяда адтуль.

***Караткевіч:*** Ідэя пабудовы атамнай электрастанцыі ў Беларусі пры падтрымцы Расеі – што гэта азначае стратэгічна? Што горш: нафтавая залежнасьць ці ўранавая?

***Пазьняк:*** За дванаццаць гадоў прамаскоўскага рэжыму Лукашэнкі гэты рэжым зрабіў шмат злачынстваў. Новае страшнае злачынства, якое можа быць учыненае рэжымам – гэта пабудова атамнай электрастанцыі рукамі Расеі. Гэта ўжо дакладна можа стацца канцом беларускай нацыі. Чарнобыль нас падарваў настолькі моцна, што невядома, як мы з гэтага выйдзем, калі ня зьменім сістэму ўлады. Ды й нават калі зьменім, будзе цяжка. А вось гэта – гэта яма, якую капаюць для ўсіх.

Расейцы засьведчылі – і пры Савецкім Саюзе, і цяпер – яны ня здольныя пабудаваць бясьпечныя атамныя электрастанцыі. На сёньняшні дзень яны займаюцца тэхналягічнымі злачынствамі. Пачасьціліся выпадкі, калі беларускія прадпрыемствы атрымліваюць дэталі, тэхналягічныя лініі ад расейскіх пастаўшчыкоў, і праз нейкі час яны выходзяць са строю. Расейская эканамічная мафія здабывае гэтыя дэталі, вобразна кажучы, на эўрапейскай звалцы, выдае іх за новыя і – прадае беларусам. А калі пачынаюцца прэтэнзіі, яны кажуць: А куды вы ад нас дзенецеся? Вось вынік прывязанасьці да Расеі. І з будаўніцтвам гэтай электрастанцыі будзе тое самае, што і з чарнобыльскай, і зь іншымі – будзе тэхналягічнае злачынства.

Акрамя таго, усьлед за будаўнікамі прыедзе цэлая дывізія абслугоўваючых „рускіх людзей”. Мы ведаем, што гэта за дывізія, як яны сябе паводзяць і на што яны здольныя. І што гэта будзе значыць для Беларусі.

І трэцяе – гэта залежнасьць. Цяпер мы маем штучную залежнасьць ад Расеі па нафце, па газу. А тут будзе яшчэ залежнасьць па атамнай энэргіі, таму што Расея настойвае, каб радыёактыўнае рэчыва для станцыі было зь яе запасаў. Магчымы любы шантаж, любыя непрадбачаныя сытуацыі. Вельмі небясьпечна мець справу з той краінай, якая заяўляе, што, фактычна, не прызнае нашу незалежнасьць, якая кажа: „Уваходзьце да нас шасьцю абласьцямі”; якая кажа, што хоча стварыць агульную дзяржаву, якая прымае адпаведныя нелегальныя пагадненьні, якая, фактычна, усчала схаваную вайну супраць нашай незалежнасьці, нашай культуры і нашай краіны, праводзіць русіфікацыю праз залежны ад яе рэжым. І гэтая краіна будзе будаваць такі стратэгічны аб’ект на тэрыторыі Беларусі, як атамную электрастанцыю.

Паўтаруся, гэта вельмі небясьпечна для Беларусі. Хаця ў той жа час, безумоўна, нам патрэбная крыніца энэргіі, але цяпер у сьвеце ёсьць дастаткова бясьпечныя праекты і дастаткова правераныя краіны, якія маглі б забясьпечыць поўную гарантыю і дзейнасьці электрастанцыі, і нашаму сувэрэнітэту. Але ў сытуацыі, калі нацыя церпіць ад Чарнобылю і калі антыбеларускі рэжым выкарыстоўвае Чарнобыль як мэтад вынішчэньня нацыі, – у гэтай сытуацыі мы і псыхалягічна яшчэ не гатовыя да пабудовы атамнай станцыі (энэргетыкі ўчарашняга дня, між іншым).

Задача беларусаў – усіх, у каго ёсьць клопат і трывога за сваіх дзяцей і за будучыню нашай краіны , – паўстаць супраць гэтага расейскага праекту. Мы павінны зь ім змагацца. Нельга яго дапусьціць.

***Караткевіч:*** Ваш выступ на спадарожнікавым канале „Белсат” атрымаў вялікі розгалас, у тым ліку – і перадусім – тэма вашага магчымага вяртаньня ў Беларусь. Мы маем аўдыёварыянт урыўку гэтай гутаркі з журналістам Паўлам Мажэйкам...У шматлікіх сродках масавай інфармацыі гэтую фразу інтэрпрэтавалі як намер вярнуцца ўжо цяпер. Што вы на гэта скажаце?

***Пазьняк:*** Я думаю, што гэта танная правакацыя агентуры. Яна гэтым даўно займаецца. Размова ішла аб іншым.

У палітыцы я – салдат. Мая задача змагацца за вольную Беларусь у любых умовах і ў любым месцы, куды закіне мяне лёс. Палітычная эміграцыя – гэта пакутлівае выпрабаваньне і для барацьбы, і для існаваньня. Але гэта вымушаны цяжкі выбар. І таму адзін я ведаю – калі мне будзе трэба і калі я вярнуся. Аб гэтым гаворка на „Белсаце” ня йдзе. Гаворка йдзе аб той сытуацыі, якая ёсьць у Беларусі, і аб тых зьменах. Я кажу, што зьявіліся перамены – і ў грамадзкім усьведамленьні, і ў цэлым у грамадзтве, – якія паказваюць, што пазыцыі рэжыму падаюць, што актыўнасьць людзей узрастае, што людзі пачынаюць асэнсоўваць сваё жыцьцё пад рэжымам. І гэта ўсё сьведчыць аб тым, што пачаліся зрухі, якія пашыраючыся, могуць перакуліць рэжым. Адпаведна і намёк, што наперадзе той час, калі можна будзе вярнуцца і ўключыцца ў рэальную барацьбу, ня страціўшы, як кажуць, сваё жыцьцё „за панюшку табакі” (бо мёртвы ваяр ужо ня ёсьць ваяр).

***Караткевіч:*** Многія палітыкі ў Беларусі ўсё часьцей прызнаюцца, што яны пэсымісты, а вы неяк гаворыце аптымістычна. На каго ў вас асноўны разьлік?

***Пазьняк:*** Хто пэсыміст – той не змагар. Не змагар той, хто ня верыць у перамогу сваёй сілы. Пэсымістам ня трэба ісьці ў палітыку. Яны толькі нашкодзяць сабе і людзям. А перамога будзе. Будзе абавазкова.

*30 студзеня 2008 г.*

***(Інтэрв'ю: Вольга Караткевіч, радыё Свабода)***

# ПРА СУД І АТАМНУЮ НЕБЯСЬПЕКУ

***(Выступ на лютаўскім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”.)***

Толькі што, пару дзён таму, скончыўся так званы „суд” паводле нашага іску да Мін'юста аб адмене неабгрунтаванага папярэджаньня ў законнай дзейнасьці Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Справу разглядаў Вярхоўны суд. Як і трэба было чакаць у гэтай рэжымнай сытуацыі, што створаная на Беларусі, вынік для нас быў адмоўны. Гэты просты працэс, тым часам, як і сотні іншых судовых працэсаў, дзе судзяць беларусаў, наглядна паказаў, як суды ператварыліся ў палітычныя і рэпрэсіўныя органы антыбеларускага рэжыму. Цікава, што прыём (ці стэрэатып), якім паўсюдна карыстаецца рэжымны суд, – грубы і просты, як кій. Рэжымны бок прыдумвае нешта неіснуючае, чаго не было, і выстаўляе як абвінавачваньне (напрыклад, што перасьледваны „нецензурно выражался”); суд, адпаведна, прымае рашэньне. На факты, доказы, сьведчаньні, якія абвяргаюць дамаганьні палітзаказу, суд не зьвяртае ўвагі.

Па аналягічнай схеме адбылося і з намі. Мін'юст прыдумаў (неіснуючыя ў рэальнасьці) цытаты нібыта зь ліста нашай Партыі, а суд прыняў рашэньне, не зьвяртаючы ўвагі на тое, што такіх цытатаў і такога напісаньня ў лісьце няма.

Падкрэсьлю яшчэ раз, што гэта тыповая зьява, характэрная для рэжымных судоў цяперашняга часу. Дэградацыя судовай сістэмы, здаецца, ужо дасягае дна. Памятаю, аднак, 1995 год, калі антыбеларускі рэжым яшчэ толькі пачынаўся, і судовая сістэма існавала больш-менш у рэчышчы законаў. У тым жа Вярхоўным судзе мне прыходзілася судзіцца з А. Лукашэнкам у справе абароны гонару і годнасьці (тады безадказнае ляпаньне языком яму не заўсёды зыходзіла з рук). Вярхоўны суд (паседжаньне, дарэчы, вялося па-беларуску) прызнаў А. Лукашэнку вінаватым і прысудзіў яму прынесьці мне публічныя прабачэньні ў СМІ (радыё, тэлебачаньне). А. Лукашэнка пасьля гэтага спрабаваў на тэлебачаньні нешта карава з сябе выціснуць (кшталту „я конечно извиняюсь, но я ...” і г.д.). Але сутнасьць ня ў гэтым. Суддзю, які вёў працэс, сумленнаму і пэрспэктыўнаму юрысту-беларусу, пазьней усё прыпомнілі і ніякага павышэньня па службе ён ужо ня меў. Хаця менавіта такія людзі і такія ўчынкі рабілі і маглі б рабіць гонар беларускай судовай справе.

Другі характэрны факт. У гэтым жа 1995 годзе па волі А. Лукашэнкі і палкоўніка Замяталіна (які тады кантраляваў ідэалёгію і інфармацыю) быў заказаны паклёпніцкі кінафільм супраць Народнага Фронту і асабіста супраць мяне. Неўзабаве гэты фільм быў змайстраваны і пад назваю „Дзеці хлусьні” („Дети лжи”) паказаны па тэлебачаньні. Фальшыўка была настолькі прымітыўнай, подлай і нахабнай, што раённы суд Першамайскага раёна Менска (куды я падаў іск за паклёп) прысудзіў рэжысёру-рамесьніку, што сфільмаваў опус, зрабіць публічнае абвяржэньне ў СМІ (на тэлебачаньні) сваіх інсінуацыяў.

Ізноў жа, ня ведаю і нічога не магу сказаць пра лёс суддзі, пасьля таго, як антыбеларускі рэжым сеў на галаву ўсёй нацыі. Але і тады, у 95-м, ужо быў гэты рэжым, і тады зьбівалі людзей, і ўводзілі войска ў парлямант. Аднак, тады суддзі (шмат хто) стараліся яшчэ трымацца закону і не сьпяшаліся кідаць свой прафэсійны гонар пад ногі чужых.

Тое, што адбываецца з судовымі асобамі цяпер, пакідае сумнае відовішча. Але, нават улічваючы ўсе зьмякчаючыя абставіны, дараваньня ім за несправядлівыя і незаконныя прысуды быць ня можа. Наўрад ці такія несправядлівыя суддзі і адступнікі будуць мець прафэсійную пэрспэктыву ў вольнай Беларусі.

Наступная тэма, пра якую я хачу сказаць у гэтым лісьце, – тэма атамнай пагрозы з усходу. Ужо вядома, што рэжым (не без дапамогі Масквы) дадумаўся да будаўніцтва атамнай электрастанцыі на Беларусі.

Гэтае пытаньне ёсьць кардынальна важным (а ў цяперашнім часе – вызначальным) для далейшага існаваньня Беларускай нацыі і дзяржавы. Само па сабе беларускае грамадзтва не падрыхтаванае да ўспрыняцьця такога кроку пасьля Чарнобыля (тым больш, што думкай грамадзтва рэжым не цікавіцца).

Трэба шукаць іншыя сродкі, крыніцы і варыянты энэргіі. Такія магчымасьці ёсьць, але рэалізаваць іх спаўна можна будзе толькі ў вольнай Беларусі, пасьля ліквідацыі прамаскоўскага рэжыму.

Будаўніцтва АЭС ня ёсьць адназначнай задачай для Беларусі, бо сваімі магчымасьцямі наша краіна сама пабудаваць АЭС пакуль што ня зможа. Няма ў нас і ўранавай руды.

Варыянты, якія ў сувязі з гэтым узьнікаюць, не вырашаюць цалкам праблему энэргетычнага забесьпячэньня краіны, але могуць істотна перамяніць геапалітычныя абставіны ў гэтым месцы Эўропы. Пабудова АЭС, напрыклад, па францускіх узорах і тэхналёгіях (як найбольш бясьпечных і прыймальных для Беларусі) выклікала б натуральную прывязанасьць да гэтых тэхналёгіяў і рэсурсаў, спрыяла б заходняй арыентацыі і пашырэньню сувязяў і, галоўнае, пазбаўляла б Беларусь ад аднабокай і небясьпечнай энэргетычнай залежнасьці ад Расеі. Беларусь набывала б поле для манэўру.

У гэтай сытуацыі для нас важная ня толькі большая тэхналягічная бясьпека, але і бясьпека палітычная. Францыя адлеглая ад нас і прыхільная Беларусі краіна, якая не імкнецца нас абфранцузіць, не прыкідваецца „старшым братам", не пасягае на нашую незалежнасьць і не плянуе нас анэксаваць шасьцю вобласьцямі. Гэта краіна цывілізаваная і нічым нам не пагражае.

Варыянт, калі за пабудову і абслугу беларускай АЭС возьмецца гэбоўская Расея, ёсьць самы небясьпечны для беларусаў. Я казаў ужо раней (алегарычна), што гэта „сьмерць Беларускай нацыі", капаньне сьмяротэльнай ямы пад цэлы народ і стварэньне энэргетычнага нявольніцтва для ўсёй краіны.

Менавіта рэжым Лукашэнкі стварыў і замацаваў залежнасьць Беларусі ад расейскага газу і нафты. Гэта была ягоная сьведамая палітыка, якая пачалася адразу (ужо ў канцы 1994 г.). Цяпер плянуецца яшчэ і залежнасьць ад ядзернага паліва (якое пастаўляе звычайна той, хто будуе). Поўны камплект залежнасьці. Шматмільярдны і складаны ядзерны аб'ект, у выпадку ўдзелу расейцаў, будзе будавацца па дрэнных расейскіх тэхналёгіях і адпаведнымі спэцыялістамі і работнікамі, якія, да таго ж, прыдуць на Беларусь цэлай сямейнай дывізіяй. Усё даўно вядома. І тое, як беларусам ствараюць сацыяльныя, атамныя і іншыя праблемы, – вядома таксама.

Краіна, кіруючая эліта якой адкрыта імкнецца да анэксіі Беларусі, гаворыць пра „адзіны расейскі рубель", пра „інтэграцыю", пра паглынаньне нашай краіны ў „саюзнай дзяржаве" і т.п., гэтая краіна будзе трымаць руку на пульсе нашай атамнай энэргетыкі і ядзернай бясьпекі, кіраваць чарговай „атамнай бомбай", якую яны ж і падкладуць пад нашае народнае існаваньне. Гэта ня нафта і газ.

Нешта падобнае расейцы плянавалі для нас у 80-х гадах мінулага стагоддзя. Напачатку АЭС хацелі будаваць каля Рудзенска пад Менскам. Потым, пасьля пратэстаў, перанесьлі пляны ў Віцебскую вобласьць. Але там паўстаў шырокі беларускі рух супраць будаўніцтва АЭС, сабралі дзясяткі тысячаў подпісаў, падпісваліся цэлымі заводамі. Узначальваў тады гэты рух Сяргей Навумчык.

Пасьля ўтварэньня Аргкамітэту БНФ Віцебская арганізацыйная група супраць АЭС цалкам улілася ў Народны Фронт. Неўзабаве пляны будаўніцтва АЭС пад Віцебскам удалося спыніць і пахаваць, а Сяргея Навумчыка і іншых фронтаўцаў людзі выбралі дэпутатамі ў Вярхоўны Савет БССР 12-га скліканьня, які (дзякуючы дэпутатам ад БНФ) адыграў гістарычную ролю ў вяртаньні і ўсталяваньні незалежнасьці Беларусі.

Цяперашняя чарговая сытуацыя з пабудовай АЭС ў Беларусі – вельмі сур'ёзнае выпрабаваньне на волю і сілу беларусаў. Трэба змагацца супраць атамных плянаў антынароднага рэжыму незалежна ад таго, як іх стануць ажыцьцяўляць – разам з Захадам, ці разам з Усходам. Будаўніцтва АЭС чужымі рукамі ў пасьлячарнобыльскай Беларусі ў корані непрыдатная, непрыймальная і небясьпечная справа. Палітычная сытуацыя, якая ўтвараецца вакол плянаў будаўніцтва АЭС, таксама нядобрая з усіх бакоў. Нельга давацца, каб Беларусь уцягнулі ў авантуру, у выбар найгоршага, бо зразумела, што заходняй альтэрнатывы ня будзе.

Выбар павінен быць адзін – дабро, здароўе і шчасьце народу Беларусі.

*Зянон ПАЗЬНЯК*
***Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*10 лютага 2008 г.*



(Фота В. Сямашкі)

***93. Мёртвая Чарнобыльская зона Беларусі***

# МАРНАВАНЬНЕ РОЗУМУ

Расейская вялікадзяржаўная прапаганда вось ужо скора 20 гадоў распаўсюджвае пра мяне ўсялякія ацэнкі і што папала – ад „фашыста” і „политического трупа” (успамінаецца О'Генры) да „ідэаліста” і „рамантыка” (гэта ўжо больш дамарослыя, мясцовыя). Адпаведна усё, што зрабіў „фашыст” і „труп” ёсьць дрэнна. Калі ж „ідэаліст” і „рамантык” – то тады не зрабіў нічога. У абодвух выпадках ва ўсім памыляўся і ва ўсім вінаваты. У гэтую дыфамацыйную шкалу ўблытваюцца розныя людзі.

Увогуле, мне здаецца, што мая сьціплая дзейнасьць у палітыцы характарызуецца практычнасьцю і мае якраз практычныя вынікі. Мяркую, што я прычыніўся і да Курапатаў, і да праўды пра Чарнобыль, і да арганізацыі БНФ, і да вяртаньня рэальнай незалежнасьці Беларусі, і да сымволікі, і інш., а палітычная арганізацыя, якую я ўзначальваю (Беларускі Народны Фронт), рэалізавала на практыцы гэтыя задачы і ажыцьцявіла прынцыпы, якія сталі нашымі нацыянальнымі дасягненьнямі.

Падкрэсьліваю, што мы дамагліся рэальнай незалежнасьці Беларусі з усімі інстытуцыямі незалежнай дзяржавы, а ня толькі дэкларацыйнай, як некалі ў БНР. Мы заклалі дзяржаўныя асновы нашай незалежнасьці. Таму ***дзень 25 Жніўня 1991 года дзеля нашай гісторыі такі ж вялікі, як і 25 Сакавіка 1918-га, адкуль пачаўся адлік нашага дзяржаўнага адраджэньня.***

Барацьба, якая вялася і вядзецца за нашае беларускае нацыянальнае адраджэньне з імпэрскай Расеяй – гэта барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць. Тут Масква прайграла нам (упершыню за 200 гадоў) у практычнай палітыцы, але значна адыгралася ў прапагандзе. Паскудны, ненавісны, фальшывы вобраз, створаны нам, адраджэнцам, (і мне асабіста) камуністычнай і потым імпэрскай расейскай прапагандай, фантастычны ў сваёй мярзотнасьці, хлусьні і пачварны па разбуральнай сіле.

Вынік прапагандысцкай вайны супраць асобаў Беларускага Адраджэньня (як і раней супраць асобаў БНР) – гэта рэзкая палярызацыя ўяўленьняў людзей, фактычна, раскол грамадства – агулам выказваюцца толькі крайнія ацэнкі. У гэтай непрадуктыўнай канфрантацыі часам плаваюць ахвяры прапаганды, што нібыта ўзвышаюць сябе над „палемікай”, карыстаюцца прыдуманай тэрміналёгіяй і даюць квазінавуковыя заключэньні, прыніжаючы практычныя вынікі Беларускага Адраджэньня ледзь ні да літаратурных фантазіяў. (Што да мяне, то, магчыма, блытаюць палітычную рэальнасьць з маёй творчасьцю.) Прыдумалі мне фармулёвачку – „нявольнік гісторыі” (інтэлігентны эўфэмізм „політического трупа”). Заваёвы паказваюцца як паразы, дасягненьні – як правалы, посьпехі – як памылкі, дзеяньні – як бяздзейнасьць і г.д., па доктару Гёбэльсу.

Памятаецца 1990 год. У Вярхоўным Савеце на старшыню Камісіі па замежных справах Апазыцыя БНФ прапанавала дэпутата ад БНФ Пятра Садоўскага. Апанэнт ад камуністаў – ветэран НКВД – заявіў прыкладна наступнае: *Выбираць нельзя. Товарищ Садовский хвастался, что знает пять иностранных языков. Но когда вся страна боролась за построение коммунизма, товарищ Садовский преследовал личные цели – сидел дома и изучал языки.*

Гэтага „ветэранам” хапіла, каб галасаваць супраць.

Справа ня ў глупстве (камуністы разумелі, што гэта ерунда) – справа ў парадыгме іхняе барацьбы з апанэнтамі. „Ветэраны” – людзі малапісьменныя, як умелі, так і гаварылі, але змагаліся па агульнай схеме. ***Цяпер галоўная мэта антыбеларускіх сіл – замоўчыць і зьмяшаць з брудам усё тое, што было зроблена на пачатку 1990 х гадоў.***

Тым часам затоптваньне Беларускага Адраджэньня робіцца ня толькі па схеме. Бывае, гэта дзеецца людзьмі як бы і не варожымі, цалкам шчыра, ад няведаньня і нежаданьня больш ведаць. Калі ў пачатку 90-х адбывалася Беларуская нацыянальная рэвалюцыя, філёсаф Пётра Рудкоўскі, напрыклад (аўтар публікацыяў, які, падобна, спэцыялізуецца па нэгатыўнай ацэнцы маёй асобы і выказвае свае погляды на радыё „Свабода” *(21.02.2008)*, быў яшчэ ў вельмі маладым школьным узросьце, каб нешта асэнсаваць. Потым антыбеларускі рэжым зглуміў, зьнішчыў і схаваў шмат што пра гэтыя вялікія пераломныя для беларусаў часы. Але ўсё ж пры жаданьні можна ведаць і шмат даведацца, нават жывучы сярод гэтага цёмнага цяперашняга ліхалецьця.

Відаць, такога жаданьня істотна не хапае. У выніку выплываюць нейкія дзіўныя фразы і сэнтэнцыі невядома пра што. Памятаю ў рэцэнзіі на маю кнігу *„Гутаркі з Антонам Шукелойцем”* Пётра Рудкоўскі напісаў нешта нават пра „псыхічную энэргію” майго „лібіда”, дзякуючы якому, „Пазьняк перастаў адрозьніваць сваю душу ад калектыўнага суб'екту (Беларусі)” і ў выніку стаў „успрымаць самога сябе як «звышчалавека», а гэта прывяло да ўзросту прэтэнзіяў на адзіна праўдзівую інтэрпрэтацыю падзеяў, спарадзіла няздольнасьць да кампрамісаў і кааліцыяў, хранічную падазронасьць і інш.” – увесь камуністычны прапагандысцкі набор у квазіфіласофскай упакоўцы. Прачытаеш такія „вумнасьці” і сам думаеш: а ці ўсё там у парадку зь іхным „лібіда”?

Тое ж і пра „сьлепату прынцыпалізму” (ну і слоўца прыляпілі!). Гэта на „Свабодзе”.

Зрэшты, ніхто не гарантаваны ад кур'ёзаў. Але мяне нясьцярожвае выбарнасьць у падыходзе такіх людзей – выхапіць фразу, узяць напракат прапагандысцкі ярлычок, прыдумаць тэрміналёгію і філасофстваваць... філасофстваваць, любавацца разумнымі думкамі. Схаластыка, пры гэтым, аказваецца вельмі прыемным заняткам – навошта нешта рэальна ведаць, даведвацца пра фактaлогію, вывучаць, несьці адказнасьць.

Сумна ўсьведамляць і бачыць гэтае марнаваньне розуму. Бо ў цяперашні цяжкі і разбуральны для нашага беларускага грамадства і нацыі час патрэбная была б якраз яе інтэлектуальная мабілізацыя дзеля абароны таго, што нішчаць найперш: мовы, культуры, гісторыі, людзей, усяго свайго. Мяркую, што ўсім нам, беларусам, трэба б было цяпер памятаць найперш пра нашу беларускую драму, пра небясьпеку для беларускай нацыі, пра выхад з цяжкай пары, пра будучыню нашай Айчыны.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*22 лютага 2008 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2008, №1 (63).*

Прамоўцы

*Гэй вы, плакальшчыкі*
*Аб лёсе ўсёй планеты!*
*Ужо Беларусь зьнікае.*

*1987.*

# УЛАДА ЦЕМРЫ

У гэтым лісьце я пазначу некалькі тэмаў, істотных для нашай пазыцыі і палітычнае барацьбы.

Мы бачым, што антыбеларуская палітыка і перасьлед усяго беларускага ўзмацняюцца. Краінай ужо амаль 14 гадоў кіруе чужая агрэсіўная цемра. Мы бачым таксама паэтапны плян вынішчэньня асноваў культурнага існаваньня Беларускай нацыі. Гэты плян выконваецца мэтанакіравана і пасьлядоўна. Парадак, сэнс і зьмест яго выкананьня вышэйшы за інтэлектуальныя магчымасьці чалавека, у руках якога апынулася ўся ўлада ў Беларусі. Тым часам якраз ён зьяўляецца пасьлядоўным і адэкватным яго выканаўцам. Антыбеларуская фобія знайшла адпаведную парадыгму палітыкі, распрацаваную ў лубянскай Маскве.

Для фобіі няма нічога сьвятога і ніякіх табу, усё дазволена. Характэрная мадэль паводзінаў у стане фобіі – зьдзек і кашчунства, абплёўваньне вялікага, блюзьнерства над сьвятым. Фобія, як правіла, спадарожнічае паранойі і псіхапатыі. Усімі гэтымі рысамі ад самага пачатку характарызуецца палітыка антыбеларускага рэжыму на Беларусі (парваньне Беларускага Сьцяга, спаленьне беларускіх падручнікаў, зьдзек і зьнявага Беларускай мовы, ліквідацыя беларускіх школаў, гімназіяў і ліцэяў, абплёўваньне імя Васіля Быкава, блюзьнерства над Францыскам Скарынай і вялікімі людзьмі Беларускай нацыі, разбурэньне і пераробка знакавых помнікаў гісторыі і культуры, мэтанакіраванае псаваньне нацыянальнага краявіду і вынішчэньне запаведнай прыроды, грэблівыя адносіны да беларускіх людзей, беларускай творчасьці і літаратуры, нянавісьць да маладых і да вольнага чалавека.

Гэта цягнецца ўжо з году ў год, ганебна і прыніжальна для асобы, для культурнай нацыі. Усё гэта – характэрныя праявы рэжыму ўнутранай акупацыі. Беларусы сталіся закладнікамі чужой палітыкі. Псіхалёгія закладнікаў дакладна праглядаецца ў нашым нацыянальным становішчы. Асноўная маса людзей, паралізаваная страхам, маўчыць. Частка супрацоўнічае з „тэрарыстамі” і хваліць бандзюг. Асобныя людзі паўстаюць супраць гвалтаўнікоў і гінуць; нязгодныя церпяць рэпрэсіі і перасьлед, які набывае пачварныя формы.

Культывуецца злачынная сталінская ідэалёгія, аднаўляюцца разбуральныя мэтады сталінізма. Як і пры сталінізме, за часы савецкай акупацыі ў 30-х гадах, антыбеларускі рэжым, які ня ведае і не карыстаецца беларускай мовай, прыдумаў рэпрэсіўны правапіс беларускай мовы як мэтад яе масавага вынішчэньня.

За напісаньне, нязгоднае з гэтым прыдуманым правапісам, і за артаграфічныя памылкі (прытым ва ўсіх сфэрах жыцьця) кожнага беларускага грамадзяніна і людзей без грамадзянства будуць караць штрафам, выганяць з працы і вучобы, ужываць іншыя мэтады пакараньня (як плянуюць некаторыя ненавісьнікі Беларусі, аж да пасадкі ў турму).

Мэта гэтага шызафрэнічнага закону – легальным чынам забараніць беларускую мову. Страх перад штрафам, перад стратай працы, вучобы, перад іншым пакараньнем павінна, па паранойнай лёгіцы беларусафобнага „заканадаўства”, адбіць жаданьне ў людзей пісаць па-беларуску, здаваць экзамены і нават пісаць лісты (ня кажам ужо пра газэты і кнігі) на беларускай мове. Усё ськівавана на тое, каб беларусы сталі пісаць толькі па-расейску.

Чужая руская мова, якую антыбеларускі рэжым зрабіў сваёй „дзяржаўнай”, гэтаму закону не падлягае. Пішы, маўляў, хоць „харашо”, хоць „жэстачайшэ плоха” – „сайдзёт”. „Закон” цынічна дыскрымінацыйны да беларусаў. Тут груба парушана ўсё, што магчыма было парушыць: Канстытуцыя, міжнародныя законы і правы, правы асобы, лёгіка, маральнасьць і здаровы сэнс. Характэрна, што ніхто ня ведае, што гэта за „правапіс”, не было ніякага грамадзкага азнаямленьня (тым больш, абмеркаваньня). Невядома нават, хто ягоныя псэўданавуковыя рэцэнзенты. Здаецца, ніхто зь іх яшчэ не абʼявіўся (не падпісаў сабе нацыянальны вырак), а „закон” падрыхтавалі ўжо да прыняцьця ў апошнім чытаньні.*

Тут нават не настолькі ўражвае і абурае дзікунства такога „закону”, колькі той грубы, прымітыўны і выраблены цынізм, зь якім адбываецца вынішчэньне беларускай мовы. Ліквідацыя беларускай мовы ёсьць (і быў заўсёды) галоўны пункт маскоўскай акупацыйнай палітыкі на Беларусі.

Цынізм, фобія, жорсткасьць, блюзьнерства, зьдзек і хлусьня – тыповыя дачыненьні ў адносінах акупацыйных уладаў зь беларускім насельніцтвам. Абдзіраюць нават бедных і няшчасных, карыстаюцца з гора й бяды. Увялі ў практыку, напрыклад, браць грошы з пагарэльцаў як аплату за тушэньне пажару. З пункту гледжаньня права, тут грубае парушэньне, бо пажарная служба – гэта дзяржаўная справа. Яна ўтрымліваецца і дзейнічае за кошт падаткаў, якія плаціць у бюджэт кожны беларус (і кожны патэнцыйны пагарэлец). Браньне грошай зь няшчаснага пагарэльца (ды яшчэ праз пракуратуру і суды) – гэта ёсьць антыпраўнае вымагальніцтва рэжыму з выкарыстаньнем службовага становішча. З пункту гледжаньня нашай беларускай, традыцыйнай, праверанай стагоддзямі маралі аб талацэ, спачуваньні і абавязковай дапамозе пагарэльцам, такія паводзіны рэжымных функцыянераў мафіёзнай улады ёсьць хамскі, злосны зьдзек з няшчасных, кашчунства над традыцыяй, абылганьне здаровага сэнсу.

Такія ж ілжывыя, цынічныя, хамскія і вымагальніцкія адносіны да беларускай змагарнай моладзі, да беларускіх дробных гандляроў і індывідуальных прадпрыймальнікаў, да вернікаў нерэжымнай (г. зн. неправаслаўнай) рэлігіі, да чарнобыльцаў, ліквідатараў, беларускіх музыкаў, мастакоў і г.д.

У такіх умовах і ***пры чужой антынароднай уладзе вельмі істотна, каб у грамадзтве захаваліся ідэалы, традыцыі ў душы; добрае, чыстае, сьветлае, беларускае і сваё – ў сэрцы і дачыненьнях паміж сабой. Гэта ня дазволіць зьмірыцца з цемрай, прывядзе да змаганьня, да вольнага зьместу жыцьця.***

Цемрашальства антыбеларускага рэжыму асабліва выразна відаць у выбарах. Практычна, усе выбары за гэтым рэжымам былі недэмакратычнымі і былі сфальсіфікаваныя. У фальсіфікацыі незаконных выбараў прэзыдэнта ў 2006 годзе публічна прызнаўся сам фальсіфікатар А. Лукашэнка. Зразумела, што ён не хацеў гэта сказаць. Але яго падвялі дрэннае веданьне законаў, прымітывізм лёгікі і жаданьне быць арыгінальным. У выніку ён „прызнаўся” перад журналістамі, што „ва ўгоду Захаду” зьменшыў лічбу працэнтаў выбаршчыкаў, якія нібыта „прагаласавалі” за яго (бо, маўляў, надта шмат было). Небарака, відаць, думаў, што калі ён скажа пра зьмяншэньне адсоткаў не ў сваю карысьць, то гэта ня будзе выглядаць фальсіфікацыяй і ня выявіць ягонага незаконнага ўмяшальніцтва ў падлік галасоў і ўплыву на канцовы вынік галасаваньня. Фальсіфікацыйная машына падліку бюлетэняў тут адладжаная і простая, як кій. Пры адсутнасьці рэальнага кантролю над галасаваньнем і пры рэжымнай аднароднасьці выбарчых камісіяў галасы лічаць, як хочуць, але канцовы вынік падліку пішацца якраз у вертыкалі выканаўчай рэжымнай улады. (Якраз у гэтым па

---

* У ліпені 2008 г. закон быў прыняты рэжымным „парлямантам” (палатай). – (З.П.).

прастаце разумовай і прызнаўся А. Лукашэнка перад журналістамі 23 лістапада 2006 года.)

Заканадаўства аб выбарах, якое існуе, – далёкае ад дэмакратычных нормаў (і, зрэшты, ад Канстытуцыі). Яно дае магчымасьць правядзеньня галасаваньня цягам некалькіх дзён (так званае „папярэдняе галасаваньне”), што стварае ўмовы для маніпуляцыяў выбарчымі бюлетэнямі і для адміністрацыйнага ціску на выбаршчыкаў (іх, фактычна, прымушаюць браць удзел у галасаваньні, часам нават прывозяць на ўчасткі).

Практыкуюцца таксама падказкі, ціск, хаджэньне прадстаўнікоў выбарчай камісіі са скрынкамі для галасаваньня па дамах выбаршчыкаў і іншыя яшчэ сталінскія прыёмчыкі.

Маючы ўвесь гэты квазізаконны сурагат выбарчай сістэмы, трэба ўлічыць яшчэ вельмі істотнае: парляманту як законнай, легітымнай і незалежнай галіны заканадаўчай улады ў Беларусі не існуе. Гэта прыдатак аўтарытарнай улады без самастойных правоў і магчымасьцяў. „Палатку” (так у народзе называюць гэты ворган) кіраўнік рэжыму можа нібыта законна (па рэжымным законе) ліквідаваць зь любой нагоды і набраць іншы камплект – была б прычына і патрэба.

Для правядзеньня фальсіфікацыйных выбараў у гэтай сытуацыі і для стварэньня бачнасьці справядлівага галасаваньня і дэмакратычнага выбарчага працэсу рэжым мусіць забясьпечыць найперш два аспэкты дзеяньня: удзел розных палітычных арганізацыяў (пажадана „апазыцыйных”) у бяссэнсавых для іх выбарах і другое – вялікі (пажадана масавы) удзел выбаршчыкаў у галасаваньні. Тады фальсіфікацыя выглядае „элегантнай перамогай” з большай паловай усіх выбаршчыкаў „за” (а не якіх-небудзь 30 адсоткаў пры малой „фрэквэнцыі”). Хаця і тут „машына” навучана „накідаць”.

Для такога роду выбарчых камэдыяў рэжым стварае свае „апазыцыйныя” арганізацыі, знаходзіць падстаўных асобаў, якія заклікаюць усіх пайсьці на выбары ды сказаць рэжыму сваё цьвёрдае „нет!” і г.д.

У Беларусі гэтакая гэбоўская схема адпрацавана даўно, нудна і жмудна, аж да стэрэатыпаў, з разьмеркаваньнем роляў, салістаў і вызначэньнем паводзінаў.

У апошні час, з умацаваньнем гэбізму і карпаратыўнай дыктатуры ў Расеі, лукашысцкі „вопыт” выбараў пачала пераймаць лубянская Масква. Сістэма гэбоўскага выбарчага ашуканства ў Беларусі ўжо закасьцянела і сфармавалася настолькі маналітна, што разбурыць яе можна, відаць, толькі разам з антыбеларускім рэжымам.

У гэтых умовах удзельнічаць у так званых парляманцкіх выбарах на Беларусі, што прызначаны ўжо на верасень, ня толькі бяссэнсава, але найперш шкодна. Гэта, фактычна, падыгрываць рэжыму ў ашуканстве людзей. Беларускі Народны Фронт і яго народная Партыя (КХП-БНФ) не павінны ўдзельнічаць у такіх „выбарах”.

Зразумела таксама, што наяўнасьць падстаўной „апазыцыі” забясьпечыць фармальны ўдзел фармальна „апазыцыйных” партыяў у рэжымных выбарах. Яны будуць ствараць фармальную бачнасьць дэмакратычнага працэсу, як Гайдукевіч – фармальную альтэрнатыву Лукашэнку. Такая іхная роля, і ніякія доказы, угаворы, лісты, ськіраваныя да гэтае публікі, ня маюць сэнсу. (Мы ўсё гэта перажылі.)

Тым часам вялікай „масавасьці” галасаваньня цяперашняя падстаўная „апазыцыя” ня зробіць (хоць і паспрыяе). „Масавасьць” звычайна стварае найперш сам рэжым. І тут трэба супрацьдзейнічаць выбарчаму ашуканству, заклікаць беларусаў ня йсьці на галасаваньне, байкатаваць фальсіфікацыю і недэмакратычныя выбары, тлумачыць людзям, чаму гэта неабходна рабіць, чаму трэба пакінуць рэжым гуляць самым з сабой і не падтрымліваць парушэньне закону і нішчэньне правоў народу Беларусі, памятаючы, што маральная перамога ёсьць вялікая перамога і шлях пераменаў.

*9 сакавіка 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2008, №1 (63); „Беларус”, 2008, № 545, чэрвень).*




(Фота з Сеціва)

***94. Менск, 27 ліпеня. Дзень Дэклярацыі аб Незалежнасьці. Тыповая карцінка на вуліцах і скверах. Міліцыя АМАП не дае людзям зьбірацца і размаўляць.***

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ ЯК ПРАЦЭС АДРАДЖЭНЬНЯ

Пад тэрмінам „незалежнасьць" мы разумеем стварэньне (альбо аднаўленьне) незалежнай дзяржавы. У абодвух выпадках гэта працэс, які вынікае з культурнай, эканамічнай і ўвогуле – з нацыянальнай і жыцьцёвай неабходнасьці.

Жыцьцёвая патрэба аднаўленьня свабоды і незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага не зьнікала на працягу амаль усяго XIX стагоддзя. Яна выявілася ў напалеонаўскай вайне і ў шматлікіх антымаскоўскіх паўстаньнях на Беларусі.

Да сярэдзіны XIX стагоддзя ў выніку поўнай зьмены пакаленьняў і разьвіцьця мастацкіх (рамантызм) і палітычных ідэяў, кансалідацыя дзеля незалежнасьці і свабоды стала грунтавацца на этнічнай (народнай) прыкмеце, якая напачатку мела дзьве назвы: „ліцьвіны" і „беларусы". Этнічна і ў дачыненьні да мовы, культуры, гісторыі – гэта адно і тое ж. Некаторыя літаратурныя рамантыкі, аднак (***В. Дунін-Марцінкевіч***, напрыклад), дашукваліся тут геаграфічнага падыходу (вылучалі розныя мясьціны як „ліцьвінскія" ці „беларускія") альбо ўжывалі два тэрміны ў дачыненьні да адзінага адначасна.

Да канца XIX ст. тэрміны „беларусы", „Беларусь" сталі дамінуючымі. Падсумаваў гэты кансалідуючы працэс паэт-інсургент ***Францішак Багушэвіч*** сваім знакамітым выслоўем, якое гучэла як маніфэст: ***„Шануйце ж мову нашу, беларускую, каб ня ўмёрлі!"***

Да пачатку XX стагоддзя незалежніцкае беларускае адраджэньне сфармавалася як ідэйна-палітычная сістэма поглядаў. На гэтай плятформе ўзьніклі культурна-асьветныя і палітычныя арганізацыі, утварылася палітычная партыя (Беларуская Сацыялістычная Грамада). Назвы „Літва", „ліцьвіны", „ліцьвінскі" адышлі ў гісторыю, сталі культурна-гістарычным грунтам, на якім сфармавалася Беларускае нацыянальнае адраджэньне і потым вярнулася зь нябыту пад назвай Беларусь вялікая ліцьвінская дзяржава.

Зьмена назвы адбылася ў выніку пэўных унутраных прычынаў разьвіцьця. Аднак, вялікую ролю тут адыгралі зьнешнія чыньнікі і становішча акупацыі (забранай краіны). У прыватнасьці, безумоўны ўплыў на стан ліцьвінскіх розумаў мела руская імпэрская этнаграфія, фальклярыстыка і краязнаўства (асабліва калі дасьледчыкі былі ліцьвінскага паходжаньня), дзе шмат у чым даволі грунтоўна, пазнаваўча і адэкватна разглядалася становішча ў забранай Літве, але паўсюдна ўжывалася імпэрская тэрміналёгія „заходняя Русь", „заходне-рускі", „Беларусь", „беларускі" і г.д. Альтэрнатыўная антыімпэрская навука, літаратура і ідэалёгія, якія разьвіваліся падспудна ў той час у Літве, не змаглі цалкам разьмінуцца з гэтай тэрміналёгіяй. Тэрміны „Беларусь", „беларускі" ўсё больш уваходзілі ў навуковы, дыскусійны і грамадзка-палітычны кантэкст.

Зразумела, што базаваньне толькі на тэрміне „Літва", стварыла б на той час і ў той тэрміналягічнай сытуацыі пагрозу страціць усходнія тэрыторыі, на якія, абапіраючыся на тэрміналёгію сваіх дасьледаваньняў, дэмагагічна прад'явіла б правы імпэрская Расея. (Пазьней поўную блытаніцу ў гэтае пытаньне ўнесла Жмудзь, якая забрала сабе назву „Літва", і нацыянальная ідэнтыфікацыя стала разьвівацца там па гэтай назыўной прыкмеце.)

Зьмена назвы краіны была абумоўлена аб'ектыўнай сытуацыяй, што склалася на той час. Гэта быў, здавалася, больш аптымальны шлях да незалежнасьці, але, як і трэба было чакаць, ён стаў дастаткова павольным, патрабаваў даўжэйшага распазнаньня, больш складанай аргумэнтацыі. Патрэбны быў сінтэз цяперашняга і мінулага, выяўленьне гістарызму і гармоніі народнага існаваньня. Цалкам забясьпечыць гэта магла толькі незалежная нацыянальная дзяржава і адроджаная нацыя.

* * *

У 1915-1918 гадах Беларусь была акупаваная нямецкім і расейскім войскамі. Праз Беларусь праходзіла лінія фронту. Абставіны былі надзвычай не карыснымі для беларусаў, становішча трагічнае. Аднак, якраз трагізм становішча прысьпешыў падзеі. У сьнежні 1917 года ў акупаваным бальшавікамі Менску сабраўся Ўсебеларускі Кангрэс, які стварыў Прадстаўнічыя і Кіруючыя органы Кангрэсу.

3-га сакавіка 1918 года у Берасьці паміж немцамі і расейскімі бальшавікамі быў заключаны мір, згодна якога тэрыторыю Беларусі разрывалі на часткі паміж ваюючымі і неваюючымі краінамі. Прытым беларускую дэлегацыю ад Выканаўчага Камітэту Рады Ўсебеларускага Кангрэсу на перамовы не дапусьцілі.

Велізарная пагроза Бацькаўшчыне змусіла беларусаў да прыняцьця лёсавызначальных дэклярацыяў. 21-га лютага 1918 года ў час падрыхтоўкі ваюючымі бакамі сэпаратнага міру Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Кангрэсу прыняў Першую Ўстаўную Грамату, у якой аб'явіў сябе ***„часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краем і склікаmakes, як можна хутчэй, Усебеларускага Установчага Сойму". „Часовую народную ўладу"***, – як паведамлена ў Грамаце, – ***„будзе зьдзяйсьняць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі."***

9 сакавіка, праз тыдзень пасьля заключэньня акупацыйнага „Берасьцейскага міру", Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Кангрэсу Другой Устаўной Граматай абвясьціў пра стварэньне ***Беларускай Народнай Рэспублікі***. Тут сказана пра *„рэспубліканскі лад"* Беларусі і паведамлена, што ***„Беларусь у рубяжох разсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай"***.

Нарэшце, 25 сакавіка 1918 года Радай БНР быў прыняты надзвычай важны гістарычны дакумант у новай гісторыі Беларусі – Трэцяя Ўстаўная Грамата, паводле якой ***„Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю вольнаю дзяржаваю"***. Адначасна паведамлена, што на моцы гэтай Граматы, ***„трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя сувязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае насьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі"***.

У Грамаце вызначаецца, што ***„Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу Беларускі народ, а ласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Гародняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны і сумежных часьцяў суседніх губэрняў, заселеных беларусамі"***.

Такім чынам межы БНР, як і бальшыні нацыянальных дзяржаваў, вызначаліся па этнічнай прыкмеце. У склад новай вольнай Беларусі ўвайшлі такім чынам, практычна, усе асноўныя землі Вялікага Княства Літоўскага, бяз Жмудзі і некаторых тэрыторыяў па ўскраінах, дзе колькасьць беларусаў была нязначнай. БНР на той час мела абшар амаль у два разы большы за тэрыторыю цяперашняй Беларусі. На гэтым абшары тады, у пачатку XX стагоддзя, жыло больш за 15 мільёнаў

насельніцтва. Дзяржава, створаная па этнічнай прыкмеце, як правіла, характарызуецца стабільнасцю сваёй палітыкі, надзейнасцю зьнешняга і ўнутранага існаваньня. Краіны, якія спрабавалі будаваць сваю новую дзяржаўнасьць па гістарычнай прыкмеце з выкарыстаньнем маёмаснай і іншай аргумэнтацыі (пасьлявэрсальская Польшча, напрыклад), такой надзейнай стабільнасьці ня мелі.

Прынцып аднаўленьня незалежнай дзяржаўнасьці Беларусі ў 1918 годзе адбываўся, як бачым, па разумнай схеме: скліканьне агульнанацыянальнага Сходу, стварэньне на гэтым Сходзе агульнанацыянальных выбраных прадстаўнічых і выканаўчых органаў, аб'яўленьне пра ўладу гэтых органаў на беларускай тэрыторыі, потым аб'яўленьне аб стварэньні дзяржавы (Беларускай Народнай Рэспублікі) і, нарэшце, аб'яўленьне аб незалежнасьці гэтай дзяржавы. Пасьля праходжаньня гэтых палітычна арганізацыйных і дэкларацыйных этапаў неабходна было распачаць самае галоўнае – (напаўненьне зьместам), будаўніцтва рэальнай беларускай незалежнай дзяржавы і ўсталяваньне рэальнай беларускай улады. Гэтага якраз не ўдалося зрабіць з прычыны выключных абставінаў, у якіх была створаная БНР.

Ішла вайна. Тэрыторыя Беларусі, падзеленая лініяй фронту, знаходзілася ў розных акупацыйных зонах, дзе ўладу ажыцьцяўляла чужая ваеншчына, варожая да беларускага руху і беларускай незалежнасьці. У выніку беларусам прыходзілася дзейнічаць шмат дзе падпольна і пасьпяваць за падзеямі, скакаць, як кажуць, у апошні вагон. Той факт, што Берасьцейскі мірны трактат быў падпісаны без удзелу беларусаў і ня ўлічваў беларускія інтарэсы, вельмі адмоўна паўплываў на падзеі ў Беларусі.

Немцы дэманстратыўна прытрымліваліся пунктаў і зьместу Берасьцейскага трактату і не прызнавалі БНР, не давалі весьці дзяржаўнае будаўніцтва, ствараць войска, неабходныя структуры і дачыненьні. Бэрлін афіцыйна нічога не хацеў чуць, выконваў літару мірнага пагадненьня з бальшавіцкай Расеяй.

Адсутнасьць грунтоўнага палітычнага вопыту ў дзеячоў БНР, акрамя таго, не гарантавала ад памылак. Калі немцы ў пачатку красавіка 1918 г. забаранілі дзейнасьць Рады БНР і разагналі Народны Сакратарыят, дзеячы Рады пайшлі на збліжэньне з так званым Менскім беларускім прадстаўніцтвам, найперш з Раманам Скірмунтам і Паўлам Алексюком, якія трымаліся пранямецкай пазыцыі, мяркуючы, што гэтым здабудуць прыхільнасьць Бэрліну і ўмацуюць незалежнасьць ад Расеі. Справа скончылася вернападданай тэлеграмай кайзэру Вільгельму і расколам у сувязі з гэтым Рады БНР.

Ня маючы дасьведчаньня, шмат якія правінцыйныя дзеячы не маглі тады зразумець, што проста так афіцыйны Бэрлін ня пойдзе на злом умоваў Берасьцейскага трактату (гэта ж элемэнтарна). Тым больш, што перад гэтым быў адказ канцлера Нямеччыны аб тым, што Нямеччына ня мае права бяз згоды ленінскага рускага ўраду прызнаць БНР. А бальшавікі-ленінцы БНР не прызналі.

Усё гэта вельмі нагадвае пазьнейшых (цяперашніх) дэкляравана „прагматычных" дзеячыкаў, якія, нібыта дбаючы пра барацьбу з прамаскоўскім рэжымам Лукашэнкі, пастаянна езьдзілі ў Маскву, каб здабыць там падтрымку нібыта для беларускай нацыянальна-дэмакратычнай справы (падтрымку, якой там, дарэчы, для гэтай справы ў прынцыпе ня можа быць).

І тут трэба аддаць належнае актыўнасьці беларускай дыпляматыі БНР і дзейнасьці ўжо створаных дзяржаўных структураў. Былі наладжаныя добрыя дачыненьні зь нямецкай ваеннай адміністрацыяй у Менску, з кіраўніцтвам нямецкай 10-й Арміі, якая дыслакавалася ў Беларусі і, дарэчы, выпускала газэту „Die Zeitung die 10-e Armee", дзе зьмяшчалася шмат матэрыялаў пра Беларусь.

Дачыненьні зь мясцовай ваеннай адміністрацыяй і камандаваньнем нямецкай акупацыйнай зоны дазволілі (магчыма, нават з маўклівай згоды Бэрліна) наладзіць пэўныя аспэкты дзяржаўнай палітыкі і беларускай справы. Немцы далі магчымасьць распачаць культурна-асьветніцкую дзейнасьць БНР. Па ўсёй Беларусі былі адчыненыя і пачалі дзейнічаць сотні беларускіх школаў, сталі выдавацца беларускія пашпарты, рыхтуецца адчыненьне ўнівэрсітэту, узьнікаюць розныя мастацкія калектывы, арганізуюцца выставы, беларускія культурна-асьветніцкія суполкі і гурткі, пачаліся спробы стварыць структуры мясцовага самакіраваньня. Нарэшце, што немалаважна, Урад БНР прыдбаў у свае рукі кіраўніцтва гандлем і прамысловасьцю. Вядома, без дзяржаўнай фінансавай і банкаўскай сістэмаў гэта мала што вырашала, хоць і давала нейкія магчымасьці фармаваць бюджэт.

Пры ўсім гэтым даволі ўмоўным і слабым стане дзяржаўнай улады БНР, беларускія дзеячы стараліся скарыстаць любую магчымасьць, каб сьцвердзіць сваю легітымнасьць, умацаваць пазыцыю суверэнітэту і абараніць беларускія інтарэсы. Яны разгарнулі даволі мэтанакіраваную працу на дыпляматычнай ніве ў замежнай палітыцы і дасягнулі пэўных вынікаў. Неўзабаве сем краінаў прызналі незалежнасьць БНР (Фінляндыя, Эстонія, Латвія, Летува, Украіна, Турцыя, Чэхаславаччына). Зьявіліся замежныя беларускія місіі і дыпляматычныя прадстаўніцтвы.

Цяпер, гледзячы з адлегласьці ў 90 гадоў на ўтварэньне, змаганьне і адчайную дзейнасьць уладных структураў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы бачым шмат карыснага і павучальнага для цяперашняй беларускай нацыянальна-дэмакратычнай палітыкі. Нават там, дзе ў БНР былі недапрацоўкі ці памылковыя дзеяньні.

Але найбольш значным для нас ёсьць якраз пазытыўны вопыт БНР і гістарычныя вынікі абвяшчэньня яе незалежнасьці.

З пункту гледжаньня наяўнай атрыбутыкі незалежнай дзяржавы, адносна БНР узьнікае шмат скептычнасьці і крытыкі з боку апанэнтаў. Сапраўды, БНР не валодала важнымі атрыбутамі суверэнітэту і дэ-факто не была суверэннай дзяржавай. У БНР не было войска і паліцыі, не было сваіх нацыянальных грошай і фінансавай сістэмы, не было сістэмных структураў мясцовага самакіраваньня, міжнародныя сувязі на ўзроўні амбасадаў былі абмежаваныя і ў пачатковым выглядзе, тэрыторыя знаходзілася пад расейска-нямецкай акупацыяй, дзе дамінавала ўлада і рашэньні акупацыйнага войска.

Аднак, для абгрунтаваньня справядлівасьці і права нашай незалежнасьці, істотнай ёсьць не атрыбутыка суверэннасьці (гэта пытаньне дзяржаўнага будаўніцтва), а тое, што Рада БНР і абвешчаная ёй незалежнасьць БНР валодалі ўсімі чыньнікамі легітымнасьці і выяўлялі суверэнную волю Беларускага народа, якую ён выказаў праз сваіх выбраных прадстаўнікоў на Ўсебеларускім Кангрэсе ў сьнежні 1917 года, дзе і былі сфармаваныя будучыя органы ўлады.

Беларуская ўлада была сфармаваная ў час чужой вайны на акупаванай чужымі войскамі беларускай тэрыторыі. Пра які суверэнітэт тут магла ісьці гаворка! Тым ня менш, нават у гэтых умовах дзеячы БНР стараліся будаваць дзяржаўныя дачыненьні, ратаваць, аберагаць і абараняць свой народ.

Самым вялікім і гістарычным дасягненьнем кароткай гісторыі БНР было тое, што ўпершыню за больш чым сто дваццаць гадоў

царскай няволі легальна, моцна, справядліва і законна быў зноў узьняты сьцяг беларускай волі, дзяржаўнасьці і незалежнага існаваньня.

Гэта была вырашальная гістарычная дэклярацыя, падтрыманая народным даручэньнем, якая мела дынаміку і пэрспэктыву рэальнага дзяржаўнага і незалежнага разьвіцьця.

Расейскія бальшавікі якраз добра разумелі гэтую дынаміку і рэальны сэнс аб'яўленьня незалежнасьці БНР. Адразу пасьля акупацыі Менска, у сьнежні 1918 г., яны прыдумалі контрмеры, каб спаралізаваць далейшыя дзеяньні і магчымасьці БНР.

30 сьнежня ў Смаленску на партыйнай канфэрэнцыі Расейскай камуністычнай партыі бальшавікоў было прынятае рашэньне аб стварэньні (у піку БНР) Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь. 1 студзеня 1919 года быў абнародаваны маніфэст ураду ССРБ аб утварэньні гэтай рэспублікі.

З пункту гледжаньня гістарычнай пэрспэктывы факт стварэньня савецкай дзяржаўнай фікцыі меў неадназначныя вынікі. Буфэрная краіна сапраўды дала магчымасьць рускім бальшавікам спаралізаваць і спрафанаваць беларускую нацыянальную ідэю (асабліва ў 30-40-х гадах мэтадам рэпрэсіяў і генацыду насельніцтва). З другога боку, афіцыйнае існаваньне сваёй краіны („рэспублікі") давала людзям адчуваньне сваёй беларускай тоеснасьці, магчымасьці абмежаванай нацыянальна-культурнай працы і адукацыі, спрыяла прасьцейшым формам народнай салідарнасьці. Аднак палітычныя працэсы разбурэньня беларускага нацыянальнага духа, сьведамасьці і салідарнасьці ў БССР (па прычыне яе рэпрэсіўнай прыроды) значна апярэджвалі спантанныя зьявы беларускай кансалідацыі і народнага патрыятызму. ***Сістэма БССР – гэта быў павольны шлях у нацыянальную магілу.*** Структуры квазібеларускай „дзяржаўнай" улады (залежныя ад Масквы і апанаваныя расейцамі) выконвалі якраз нацыянальна разбуральную функцыю. Але ў вызначаны час, калі пачаўся татальны крызіс камунізму і СССР, якраз наяўнасьць гэтых фармальных структураў (парляманту, ураду, мясцовай улады і г.д.) значна аблегчыла нацыянальна-дэмакратычным сілам Беларусі вяртаньне рэальнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Такім чынам, утварэньне БССР на мапе Савецкага Саюза можна разглядаць як ускосны вынік стварэньня і аб'яўленьня незалежнасьці БНР. Існаваньне месьніцкай нацыянальна-рэпрэсіўнай БССР з атрыбутамі фармальнай сістэмы ўлады паспрыяла эфэктыўнаму дасягненьню рэальнай незалежнасьці Беларусі ў час нацыянальна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў жніўні 1991 года.

Аднаўленьне беларускай дзяржаўнай незалежнасьці трэба разглядаць як паэтапны працэс, які пачаўся 25 Сакавіка 1918 года, расьцягнуўся на 73 гады, злучыў змаганьне і жыцьці некалькіх пакаленьняў, які каштаваў беларусам мільённых ахвяраў, вынішчэньня, акупацыяў і генацыду, разбурэньня культуры, здрады і паняверкі.

25 жніўня 1991 года скончыўся этап БССР, этап народнай надзеі і адначасна фікцыі, прафанацыі і ашуканства. Беларусь падтрымала сваю авангардную сілу – Беларускі Народны Фронт – і праз парлямант і ахвярную дзейнасьць там дэпутатаў Апазыцыі БНФ вярнула сабе рэальную незалежнасьць, стала рэальным суб'ектам міжнароднага права і міжнароднай палітыкі, валодае ўсімі атрыбутамі суверэнітэту і незалежнай дзяржавы. ***25 Жніўня 1991 года для беларусаў, гэтак жа, як 25 Сакавіка 1918 года, ёсьць найвялікшыя даты нацыянальнай гісторыі XX-га стагоддзя.***

Аднак і змаганьне, і працэс – незакончаныя, нягледзячы на дасягненьне поўнай незалежнасьці Беларусі. Нацыянальная беларуская незалежнасьць прадугледжвае нацыянальную беларускую ўладу. Успомнім схему стварэньня БНР: улада – дзяржава – незалежнасьць. Схема БНФ абапіралася на існаваньне фармальнай дзяржаўнасьці БССР і выглядала так: дзяржава – незалежнасьць – улада.

Незалежнасьць была дасягнута Народным Фронтам у выніку пасьлядоўнай масавай барацьбы і своечасовага, рашучага, дакладнага і беспамылковага выкарыстаньня ў парляманце вострага зьбегу палітычных абставінаў у жніўні 1991 года.

Дасягненьне ўлады дэмакратычным шляхам вымагала тым часам адпаведнага ўзроўню і нацыянальнай кансалідацыі грамадзтва, патрабавала часу на асьвету, сацыяльную палітыку і інфармацыю. Але ўсе рычагі ўлады засталіся ў руках савецкай (і ў масе свёй – антыбеларускай) камуністычнай намэнклятуры. За кароткі час, змагаючыся толькі авангардам грамадзтва з антыбеларускім савецкім монстрам улады, пераламаць сытуацыю не ўдалося. Наступны захоп улады ў незалежнай Беларусі „запасным эшалонам" прамаскоўскіх і антыбеларускіх сілаў, удзел у беларускай палітыцы агентуры і спэцслужбаў Расеі – усё гэта выглядала цалкам не выпадковым. Антыбеларускія сілы пры дапамозе савецкіх спэцслужбаў Масквы фармальна дэмакратычным шляхам ажыцьцявілі, фактычна, унутраную акупацыю ўлады ў нашай краіне. І перш за ўсё, узьвёўшы на вяршыню гэтай ўлады прамаскоўска арыентаваную асобу, адметную псіхалагічнай фобіяй да нацыянальнага адраджэньня Беларусі.

Працэс угрунтаваньня нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і рэалізацыі яе нацыянальнай ідэі ў сапраўднасьці яшчэ працягваецца, бо на сёньняшні дзень (у выніку дзейнасьці антыбеларускай улады і дачыненьняў Масквы) ў Беларусі ня толькі незалежнасьць, але і само існаваньне дзяржаўнасьці, нацыі і беларускай культуры апынулася пад пагрозай дэградацыі і зьнішчэньня.

У гэты крытычны і небясьпечны для будучыні Беларусі момант нашай рэчаіснасьці варта накіраваць свой позірк туды, на 90 гадоў устыч, у той цяжкі час, калі, здавалася, не было паратунку і цела Бацькаўшчыны рвалі на часткі варожыя сілы. І тым ня менш беларускія змагары ўпарта змагаліся за Беларусь у тых неверагодных умовах вайны, акупацыі, голаду і разрухі. Змагаліся і дасягалі. Здавалася, ім нічога не ўдалося рэалізаваць надоўга і незваротна, але яны сваімі дзеяньнямі спраектавалі, пазначылі ўвесь далейшы шлях беларускай барацьбы і беларускага Адраджэньня. Зорка, запаленая імі, – гарыць.

Антыбеларускую палітыку цяперашняга прамаскоўскага рэжыму на Беларусі і няспынны націск вялікадзяржаўнай Масквы трэба разглядаць як вельмі небясьпечныя зьявы, як пагрозу для незалежнасьці і нацыянальнай культуры Беларусі (культуры, падкрэсьлю, якая стала цяпер, у сучасным сьвеце, чыньнікам нацыянальнага суверэнітэту). Небясьпека агульнанацыянальная. Супрацьстаяць антыбеларускаму рэжыму і агульнай пагрозе нацыі можна (і павінна) шляхам беларускай салідарнасьці. Трэба абараняць нашыя агульныя беларускія каштоўнасьці, і тады салідарнасьць можа злучыць усіх, незалежна ад партыяў і арганізацыяў. Такімі безумоўнымі ***агульнымі каштоўнасьцямі нацыі ёсьць дзяржаўная незалежнасьць, беларуская мова, беларуская культура, нацыянальны Бел-Чырвона-Белы сьцяг і гэрб „Пагоня".***

Агульная небясьпека і агульныя каштоўнасьці павінны злучаць усіх беларусаў у абароне свайго, у змаганьні за долю і волю, гэтак, як некалі, 90 гадоў таму, злучалі нашых продкаў пад сьцягам БНР, гэтак, як у легендарным 1991-м, у змаганьні з камунізмам злучылі пад нацыянальным штандарам Беларускі Народны Фронт.

Злучэньне народнай сілы дзеля вырашэньня агульных дэмакратычных і вазвольных задачаў нацыі мусіць даць плён. Скончыцца ганебны рэжым і адчыняцца вялікія пэрспэктывы, аб якіх марылі і за якія пачалі змагацца нашыя далёкія і родныя нам змагары 90 гадоў таму.

*15 сакавіка 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

Гляджу на дрэва

*Калісьці я жолуд*
*садзіў над вадой.*
*А сёньня пад дубам –*
*гляджу –*
*Маладая дзяўчына*
*ў вянку*
*Задуменна над плыньню*
*стаіць.*
*І воблакі ўдаль*
*адплываюць.*

*1987.*

# „НАБЛІЖАЙМА СЬВЕТЛЫ ЧАС ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ!”

***(Выступ)***

Сёлета спаўняецца 90 гадоў з таго часу, калі 25 сакавіка 1918 года Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абʼявіла пра дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Наша незалежнасьць тады праіснавала, аднак, вельмі кароткі час, і ў сьнежні 1918 года Беларусь зноў была акупаваная бальшавіцкай ардой савецкай Расеі. Бальшавікі (у піку БНР) стварылі на акупаванай тэрыторыі буфэрную фіктыўную краіну – Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку Беларусь (ССРБ) і, выкарыстаўшы тут сваю ўладу, пачалі вынішчаць усё беларускае. За 73 гады панаваньня савецкай акупацыйнай машыны расейскі камунізм зьнішчыў на Беларусі каля 2-х мільёнаў людзей, сотні тысячаў беларусаў вывезлі і згнаілі ў сібірскіх лягерах сьмерці. Масква адабрала зямлю ў беларускіх сялянаў і ператварыла іх ў калгасных нявольнікаў, зьнішчыла, вырвала з коранем з зямлі беларускага працавітага чалавека, расстраляла пісьменьнікаў, вучоных, нанесла сьмяртэльную шкоду нацыі.

Расейскі камунізм, які панаваў на Беларусі як форма рускага імпэрыялізму, імкнуўся праз русіфікацыю, праз вынішчэньне беларускай мовы, ліквідацыю беларускай школы і адукацыі на беларускай мове, праз разбурэньне беларускай культуры, ліквідацыю рэлігіі, фальсіфікацыю гісторыі, праз дэмаграфічныя маніпуляцыі і каляніяльную эканоміку зьнішчыць беларускую нацыю, перарабіць беларусаў на рускамоўны „савецкі народ”.

Злачынствы, якія на працягу 73 гадоў чынілі на Беларусі расейскія камуністы, ёсьць злачынствы супраць чалавецтва. Спраўцы злачынстваў і іх камуністычныя прадаўжальнікі (якія цяпер мімікрыруюць пад „апазыцыю”) падлягаюць суду, абавязковаму і справядліваму пакараньню.



**95. Сьветлая Беларусь. Першая камунія ў беларускім касьцёле сьв. Яна Хрысьціцеля ў Менску.**

(Фота з інтэрнэт-старонкі парафіі)

Панаваньне рускага камунізму і каляніяльная палітыка на Беларусі некаторым людзям здавалася бясконцай. Але настаў час, і бальшавіцкі ”райх” рассыпаўся, як піраміда з гліняных гаршкоў. Беларусы-адраджэнцы, абʼяднаныя ў Беларускі Народны Фронт, і дзейныя дэпутаты БНФ у парляманце зноў ўзьнялі над Бацькаўшчынай сьвяты Беларускі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг свабоды і незалежнасьці. Незалежнасьць Беларусі была вернута 25 жніўня 1991 года пасьля правалу камуністычнага путчу ў Маскве і ў выніку рашучага змаганьня дэпутатскай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце шляхам наданьня статусу канстытуцыйнага закону Дэкларацыі аб Суверэнітэце Беларусі (таксама падрыхтаванай і адваяванай дэпутатамі Народнага Фронту). Перад нашай краінай тады былі пэрспэктывы дэмакратыі і вольнага разьвіцьця. 25 Жніўня 1991 года, гэтак жа, як і 25 Сакавіка 1918 года ёсьць вялікія даты нашай нацыянальнай гісторыі.

Аднак сілы былі няроўныя. Нацыя яшчэ не паправілася, не скансалідавалася духоўна, не аднавілася цалкам ад савецкага вынішчэньня, і акупацыя вярнулася ў вобразе прамаскоўскага рэжыму як рэстаўрацыя савецкай улады на Беларусі.

Але й гэтаму рэжыму ўжо засталося нядоўга існаваць. Надыходзіць час – і абваліцца разам з гэбоўскай уладай у Расеі антыбеларускі рэжым у Рэспубліцы Беларусь. Ідэалы БНР, за якія мы змагаемся, – вернуцца; адродзіцца сапраўдная незалежная і дэмакратычная Беларусь на грунце нашага гістарычнага Вялікага Літоўскага Княства. І ніхто ўжо не паверне гісторыю ўстыч.

Сьвяткуйма ж нашае выдатнае сьвята, наш вялікі юбілей і набліжайма сьветлы час вольнай Беларусі!

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*25 сакавіка 2008 г.*

# САКАВІК – 2008

11-га красавіка, адбылася дрэнная падзея. Рэжым дэмантаваў помнік Багдановічу ў Менску і перанёс яго ў іншае месца.

Магчыма, прыкра шмат каму назіраць, што за 14 гадоў хамскага зьдзеку зь Беларусі грамадзтва ні ў чым істотна не перамянілася. Але быў час, калі існавала іншае грамадзтва, якое жыло годнасьцю, духам, культурай і веліччу Бацькаўшчыны. Гэтым грамадзтвам мроіў у несьмяротнай „Пагоні” наш вялікі Максім Багдановіч. Гэтае грамадзтва мы, беларусы, адродзім, уздымем з шэрасьці, дрымоты і паняверкі. У гэтым унутраны сэнс нашай палітыкі і штодзённай працы: стварэньне нацыянальнага грамадзка-палітычнага авангарду (беларускай сілы), доступ нацыянальнай эліты да ўлады і адначасна нацыянальна-дэмакратычная асьвета грамадзтва, на якое мусіць абаперціся авангард, каб прыйсьці да ўлады, адрадзіць і адбудаваць вольную Беларусь.

Прычына паразы Беларускага Адраджэньня ў 1992 г. (ліквідацыя рэфэрэндуму аб выбарах) і ў 1994 г. (няўдача ў выбарах прэзыдэнта) заключаляся ня толькі ў існаваньні татальнай савецкай улады і савецкага КГБ, але і ў мэнтальнасьці старой савецкай сьведамасьці грамадзтва, непадрыхтаванага да адэкватнага ўспрыняцьця нацыянальнай ідэі, да свабоды, да пераходных цяжкасьцяў навізны і да змаганьня за агульную долю.



(Фота: Алесь Міхалок)

***96. Малады Фронт.***

Крыніцу сілы і моцы беларускага грамадзтва добра разумеў маскоўскі непрыяцель нашага існаваньня. Сто пяцьдзесят гадоў спатрэбілася Маскве, каб цалкам зьнішчыць наш набілітэт (нашчадкаў шляхты і беларускай інтэлігенцыі дабівалі ўжо за часы сталінскага генацыду). І толькі тады, пасьля вынішчэньня народнай эліты, людзей гонару і сумленьня, грамадзтва ўтапілася ў цемру, у сьлепату і прыняло над сабой уладу цемры, і стала жыць страхам, і пагадзілася на гвалт. У гэтым, найперш, генэральная і мэнтальная прычына вось ужо скора чатырнаццаці гадоў трываньня прамаскоўскага рэжыму на Беларусі. ***Беларускае змаганьне за волю, культуру і дэмакратыю ў гэтакіх умовах ёсьць найперш змаганьнем нацыянальнага авангарду.***

У канцы ХХ стагоддзя мы стварылі такі авангард і, абапіраючыся на антыкамуністычны настрой грамадзтва, вярнулі незалежнасьць Беларусі. Выразная і канкрэтная стратэгія Адраджэньня абумовіла і выразную тактыку нашай мінулай і цяперашняй палітычнай

Масква выдатна разумее гэтую простую паліталёгію і скарыстоўвае беларусафобскі рэжым Лукашэнкі (найперш праз агентуру), як кажуць, на ўсе сто адсоткаў. Вынішчэньне беларускага йдзе па ўсіх накірунках, рознымі мэтадамі, але пасьлядоўна, паступова і мэтадычна. Ствараюцца нагоды, робяцца правакацыі для масавых рэпрэсіўных дзеяньняў, прымаюцца абсурдныя антынародныя законы.

Маскоўская і прамаскоўская агентура на Беларусі найбольш шчыльна кантралюе сілавыя структуры (гэбізм гэта якраз умее рабіць). Дзеяньні сілавых структураў (з поўнай згоды і пад наглядам Лукашэнкі) носяць канкрэтны рэпрэсіўны характар з індывідуальнай „прапрацоўкай” кожнага беларускага „ворага”. У мінулым годзе кіраўнік КГБ расейскі генэрал Жадобін нават пахваліўся (трэба ведаць расейцаў), што яны ўжо падлічылі 1767 небясьпечных для рэжыму беларусаў, якія (трэба разумець) пры аказіі будуць рэпрэсаваныя (ці ліквідаваныя).

Беларусам варта не забывацца, што бальшыня расейскіх генэралаў – гэта бандыты ў лампасах, і аднесьціся да словаў генэрала Жадобіна сур'ёзна (гумар бо ў генэралаў не прыжываецца). Аднак, я не заклікаю нашу інтэлігенцыю і моладзь асьцерагацца, баяцца ці хавацца. Сур'ёзнасьць палягае на фізічным законе, што на кожнае дзеяньне ёсьць супроцьдзеяньне. Супраць жадобінскага сьпісу на ліквідацыю беларусы павінны скласьці свой сьпіс. І што характэрна – ў яго ня прыдзецца ўключаць тысячы жадобінцаў. Хопіць толькі ўпісаць дзясятак-паўтара маскоўскіх цемрашалаў, каб падчас дзеяньня фізічнага закону гэтая акупацыя дзяржымордаў (калі толькі яны пачнуць) пасыпалася, як гара парожніх бутэлек з-пад маскоўскага піва. Будуць драпаць пешкі да Масквы, як некалі, толькі пяткі заблішчаць. (Зрэшты, такі сьпіс справа не складаная.)

25 Сакавіка, у юбілейны Дзень 90-х угодкаў Незалежнасьці БНР, рэжым арганізаваў свой чарговы выклік у твар усім беларусам – жорстка зьбіў людзей на вуліцах Менска, што выйшлі адзначыць вялікае сьвята Незалежнасьці Айчыны. Пабілі і арыштавалі каля дзевяноста чалавек (якія, дарэчы, не рабілі нічога антыпраўнага). Зьвярніце ўвагу на гэты адзін з тысячы тыповых фактаў. Гэтак, як было ў Менску 25 Сакавіка, гэтак ненавідзяць, непаважаюць людзей і гэтак адносяцца толькі да акупаванага насельніцтва на акупаванай тэрыторыі. Ніякога права і ніякіх праўных нормаў, стаўка толькі на сілу, грэблівасьць да людзей, якіх трактуюць як жывёлу. Нічога сьвятога, ніякай павагі да нацыянальных пачуцьцяў і да годнасьці чалавека; зьбіваньне і зьнявага жанчын, усьведамленьне беспакаранасьці за свае ўчынкі. І ўсё гэта, паўтаруся, у юбілейны Дзень вялікага нацыянальнага сьвята. Адкрытая агрэсіўная і дэманстратыўная непавага.

Тут жа, неўзабаве пасьля нападу на людзей у Менску, пачаліся вобшукі,ператрусы ў журналістаў і экспрапрыяцыя (проста рабаваньне з санкцыі пракурораў) электроннага абсталяваньня. Практычна, была выключана з працы ўся журналісцка-інфармацыйная сістэма Беларускага тэлебачаньня БелСАТ на Беларусі.

На што тут трэба зьвярнуць увагу? Перш за ўсё, на тое, што гэтыя акцыі і правакацыі рыхтаваліся рэжымам заранёў (санкцыі наператрусы ў журналістаў пракуратура выдала яшчэ 17 сакавіка). Яны зьяўляюцца часткай агульнага пляну вынішчэньня беларускага руху перад новымі інтэграцыйнымі дзеяньнямі, якія Масква ў чарговы раз плянуе на восень гэтага года. Дзейнічаюць груба і пакагэбоўску. (Бо інакш ня ўмеюць – улада кагэбоўская.)

Пасьля агрэсіі 25 і 27 сакавіка цэлая чарада так званых „аналітыкаў" пачала „аналізаваць", адводзіць увагу іншых у тупік ад рэальнасьці, з важным выглядам казаць пра „гульні" Лукашэнкі з Эўразьвязам, пра „суперніцтва" групаў ва ўладзе рэжыму і т.п. лухту. Тут, аднак, усё зразумела.

Цікава паслухаць таксама маскоўскі бок, асабліва „рупараў", тыпу шпіёна Суздальцава. Задача гэтых зрабіць выгляд, што Расея тут ні пры чым, што новая хваля брутальных антыбеларускіх рэпрэсіяў – гэта, маўляў, адлюстраваньне няўзгодненасьці і змаганьня за прыхільнасьць Масквы ўнутры самой рэжымнай улады на Беларусі і г. д.

У прынцыпе, нічога новага ў сакавіцкай агрэсіі мы не знаходзім. Тыповыя дзеяньні акупацыйнага рэжыму і тыповая пазыцыя Масквы. Усё, як заўсёды, так і цяпер. Але істотна адзначыць, што акцыі і паводзіны рэжымных уладаў на Беларусі становяцца ўсё больш цынічнымі і дэманстратыўна антыбеларускімі. Справа ня ў тым, што яны вырашылі больш не хавацца, справа ў тым, што чужыя людзі ня могуць доўга прыкідвацца сваімі, асабліва, калі нас ненавідзяць. „А пачэму разгаварываеце пабеларускі? Вы что, фашыст?" – рычэў некалі генэрал Жадобін на майго намесьніка Юры Адамавіча Беленькага. Гэта у 2000 годзе, калі была спроба забойства Ю. Беленькага гэтымі ж „сілавымі структурамі". Тады сумнавядомы Ганс Вік, які супрацоўнічаў у антыбеларускай справе з КГБ, разам са сваёй камарыльляй усяляк стараўся замоўчыць факт нападу на Ю. Беленькага. Памятаю, як ён яшчэ апраўдваўся перад радыё „Свабода" і нешта лепятаў накшталт „у нас все равны" і „мы не вылучаем, хто пацярпеў больш, хто менш" і г.д. Тады шпіёна Віка мы (Фронт) аб'явілі пэрсонай нонграта. Пра генэрала Жадобіна крамлёўцы ўспомнілі ў Маскве пазьней. Нядаўна ён стаў кіраваць КГБ у Менску і складаць сьпісы на беларусаў.

Насіленьне антыбеларускіх рэпрэсіяў, па ўсім відаць, будзе працягвацца. Па-першае, кагэбоўская ўлада нічога іншага ня ўмее рабіць, як сачыць і душыць. Яна навучана толькі гэтаму і гэтакую яе палітыку мы бачым у Расеі і Беларусі. Таксама Крэмль-Лубянка цяпер у трывожным стане, які пераходзіць у лёгкую паніку. Бо нягледзячы ні на што, Беларусь жыве. Жыве і трывае. Нягледзячы на задушную атмасфэру і рускую школу, нягледзячы на тое, што спадары імітатары і грантасмокі з падстаўной апазыцыі разбэсьцілі і зглумілі цэлае маладзёвае пакаленьне канца 90-х гадоў, нягледзячы ні на што – нарастае новая беларуская моладзь, якая змагаецца за Беларусь, як умее, але галоўнае – з сьветлымі думкамі і з Богам у сэрцы.

Пералом адбудзецца тады, калі моладзь падтрымаюць бацькі. Гэтага закардонныя стратэгі ад імпэрыі Чэка асьцерагаюцца найбольш.

Хай асьцерагаюцца. Мы таксама ведаем, што трэба рабіць. Антыбеларускі рэжым і гэбоўская ўлада ў Маскве адкрыта выступаюць супраць Беларусі, беларускіх людзей, беларускай эліты, беларускай мовы і беларускай культуры (успомнім пуцінскія „мухі-катлеты" і „шэсьць вобласьцяў"). Беларусы ў гэтай сытуацыі павінны таксама адкрыта бараніць Беларусь і гнаць жадобіных у грыву і хвост. І магчымасьць такая не за гарамі.

*13 красавіка 2008 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2008, №1 (63).*


(Фота з Сеціва)

***97. Куча. Менск 25 Сакавіка 2008.***

# НЕКАЛЬКІ ТЭЗІСАЎ ПРА АГУЛЬНЫЯ СПРАВЫ

***(Ліст да фронтаўцаў і беларускіх адраджэнцаў)***

1) Ва ўсіх праблемах змаганьня, нацыянальнага разьвіцьця і трагедыі Беларусі галоўным пытаньнем і галоўнай каштоўнасьцю ёсьць ***МОВА***. Пакуль будзе гучэць беларуская мова, датуль будзе барацьба за нацыянальнае існаваньне і будзе беларуская палітыка. Калі ж мова перастане гучэць, зьнікне найперш беларуская дзяржава (яна страціць незалежнасьць); пасьля неўзабаве (і вельмі хутка) занепадзе беларуская культура і нацыя. І гэта ня змрочныя развагі, а сьведчаньне пра сур'ёзную небясьпеку.

Ёсьць унутраныя імкненьні і дэтэрмінаваныя працэсы развіцьця і ёсьць зьнешнія, часам вельмі нязначныя прыкметы, якія сьведчаць пра зьмест і тэндэнцыю накірунку.

Сёлетні „Чарнобыльскі шлях", напрыклад (ініцыяваны рознымі грамадзкімі групамі разам з псэўдаапазыцыяй), упершыню зьнешне характарызаваўся амаль выключна рускімі лёзунгамі, морам стракатых маргінальных сьцягоў і затрачанасьцю беларускай нацыянальнай сымволікі (той, што перасьледуецца рэжымам, якая яднае, павінна быць і злучаць усіх). Не было нават чорных стужак на сьцягах. Гэта рысы, што сьведчаць пра зьмест. А зьмест уяўляе сумбурнае галасьлівае шэсьце неарганізаваных людзей шмат дзе зь вясёлымі тварамі, усьмешкамі, гаварэньнем, часта з неадэкватнымі тэматыцы выкрыкамі і паводзінамі. Зьмест і атмасфэра (тое, што было зьнешне відавочным) вынікалі з сутнасьці – духоўнага перараджэньня зьявы, якая, відаць, перайшла ўжо парогавую мяжу. Неадэкватнасьць і дэзарганізацыя сабраных людзей тлумачыцца, магчыма, перавагай у шэсьці маладзёвага асяроддзя, якое ў масе (у вялікай колькасьці) дрэнна кіруемае. Але русіфікацыя „Чарнобыльскага шляху" (сакральнай падзеі, дарэчы) – нядобры сімптом.

2) У пытаньнях значэньня мовы, памяці, сымвалаў, асобаў, энэргетычнага разьвіцьця, знакавай камунікацыі і г.д. – усяго комплексу нацыянальнага існаваньня і нацыянальнага змаганьня – непрыяцелі (вялікадзяржаўна настроеныя расейцы, альбо па-простu „лубянка") разьбіраюцца і разумеюць больш, чым беларусы. ***У гэтым найперш ёсьць няроўнасьць сілаў (не ва ўладзе, не ў рэсурсах, войску, колькасьці насельніцтва і г.д.) – а ў няроўнасьці ўзроўняў разуменьня спосабу і сэнсу нацыянальнага існаваньня.*** Для масы беларускіх сацыяльных вярхоў гэтакі сэнс увогуле адсутнічае. Яны, як дзеці, ня ў стане зразумець элементарных рэчаў у расейска-беларускім канфлікце і наіўна думаюць, як той беларускі маладзён (з дакладнасьцю наадварот), які на пытаньне пра пабудову АЭС у Беларусі адказвае ў стылі Лукашэнкі, што гэта „стратэгічны прыярытэт Беларусі" (хоць гэта якраз ёсьць стратэгічны прыярытэт Расеі і расейцы адкрыта пра гэта кажуць).

3) Барацьба зь вялікадзяржаўнай Расеяй на сёньняшні дзень выглядае вельмі няроўнай, бо нагадвае бокс відушчага са сьляпым. Маханьне рукамі сьляпога сьведчыць толькі пра тое, што ён нібыта змагаецца, але вынік ягонага змаганьня – нуль. Нуль, пакуль ня ўбачыць ворага.

4) Барацьба зь вялікадзяржаўнай Расеяй – гэта ёсьць нацыянальная барацьба, якая вымагае геапалітычнага, стратэгічнага і галоўнае – нацыянальнага думаньня. Расея ёсьць актыўны бок вось ужо 200 гадоў. Яна вядзе ініцыятыўную барацьбу і падрыхтаваная да яе да тонкасьцяў – ад эканомікі да культуры, ад штодзённага быту да рэлігіі і філязофіі. Асьляпленьне праціўніка – гэта яе галоўная тактыка на рынгу.

5) Прадуманае вынішчэньне ўсяго беларускага і найперш элітарнага (мовы, асобаў, культуры, кляйнотаў, памяці, беларускіх арганізацыяў і г.д.) прывяло да таго, што на сёньняшні дзень палітыкай сталі займацца людзі, ня ўлучаныя ў беларускую нацыянальную палітыку (тут я кажу ня толькі пра псэўдаапазыцыю). Адсюль неадэкватныя ацэнкі, нулявы вынік і бездапаможнасьць нават у думках і меркаваньнях.

6) Палітычнае дзеяньне павінна пачынацца ад навядзеньня парадку ў галаве і салідарнасьці агульнай пазыцыі. На гэтым якраз палягае наш фронтаўскі тэзіс абавязковага нацыянальнага асьветніцтва. На сёньняшні дзень рэальная беларуская нацыянальная палітыка выглядае вытаптаным полем, якое яшчэ дзе-нідзе імкнуцца бараніць дзеці (моладзь), але, натуральна, ня маюць дзеля гэтага ні сілы, ні вопыту, ні ўменьня.

Нам, беларусам, трэба хутчэй пачынаць гараць гэтае поле, пакуль яно ёсьць і пакуль канчаткова не зарасло розным прамаскоўскім, псэўдаапазыцыйным і эўралібэральным кукольлем.

7) Патрабаваньне да беларускага палітыка, як і да ўсялякага палітыка, павінна найперш, зыходзіць з агульнапрынятага палажэньня: ***здольнасьці кіраваць дзяржавай і ажыцьцяўляць уладу ў дзяржаве.*** Такіх людзей у нас шмат і адначасна такіх людзей у нас мізэрна мала. Бо ажыцьцяўляць уладу трэба будзе не ў рэліктавай прасавецкай прамаскоўскай сатрапіі, а ў нацыянальнай дэмакратычнай беларускай дзяржаве. Адсюль (вяртаемся да пачатковага тэзісу) неабходнасьць усьведамленьня і ўлучэньня ў нацыянальную палітыку – абавязковасьць разуменьня сутнасьці беларуска-расейскага канфлікту і вынікаючых адсюль паводзінаў, стратэгіі, тактыкі, геапалітыкі.

8) Галоўным накірункам вялікадзяржаўнай расейскай акупацыі, зброяй і мэтадам вынішчэньня заўсёды была русіфікацыя. ***Галоўным патрабаваньнем у палітыцы русіфікацыі было вынішчэньне беларускай мовы.*** І калі цяпер які-небудзь дзеяч, што кажа за незалежнасьць, дэмакратыю, правы чалавека і г.д., не валодае мовай, не гаворыць па-беларуску, а то па прыкладу розных канторшчыкаў (тыпу Бухвостава) йшчэ і выступае супраць беларускай мовы, – такія людзі, што б яны ні казалі, нічога, акрамя псаваньня і шкоды Беларусі, не прынясуць. Мова стымулюе сьведамасьць і зьберагае культуру. Сьведамасьць нараджае абарону мовы і захоўвае культуратворны працэс.

9) У палітычным працэсе і ў палітычным змаганьні ўдзельнічаюць, вядома ж, ня толькі палітыкі, а вялікія групы людзей, якія спрыяюць перамозе агульных інтарэсаў. Гэта змагары, барацьбіты, часта ахвярныя людзі, якія здольныя на пратэстныя дзеяньні, учынкі і цярпеньні за ідэалы, за супольную справу. Гэта салдаты, жаўнеры палітычнае барацьбы. Яны, у бальшыні сваёй, ня ўмеюць ажыцьцяўляць уладу і ня думаюць, не імкнуцца да яе. Рэальна ажыцьцявіць свае супольныя інтарэсы і ідэалы яны могуць толькі праз рэальных сваіх нацыянальных палітыкаў, якім на справе расчышчаюць і мосьцяць шлях да ўлады.

10) Нават аднаго погляду на цяперашнюю сытуацыю ў Беларусі дастаткова, каб убачыць дысбаланс у палітычным змаганьні. Жаўнеры нацыі змагаюцца без нацыянальных генэралаў. Гэта вельмі дрэнная сытуацыя. У выпадку жаўнерскай перамогі (а гэта таксама ня выключана) да ўлады звычайна прыходзяць зусім іншыя людзі, часта (і як правіла) з інтарэсамі, супроцьлеглымі тым, за якія ўсе змагаліся.

11) Тэарытычна зразумела: неабходна, каб у цяперашнюю беларускую палітыку ўлучаліся новыя групы людзей, якія выяваць у сябе нацыянальных палітыкаў. Нацыянальна-дэмакратычны рух абавязаны падтрымліваць такія групы, якія змагаюцца за агульныя інтарэсы (напрыклад, супраціў будаўніцтву АЭС і расейскага хімзаводу пестэцыдаў пад Менскам, дамаганьні прадпрымальнікаў і г.д.).

12) Змагары Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху і асобы зь беларускімі нацыянальна-дэмакратычнымі перакананьнямі павінны спыніць сваё маўчаньне і нерэагаваньне адносна выхадак і заяваў супраць мовы ды незалежнасьці, ды за Расею розных бухвоставых, сініцыных, калякіных і іншых асобаў з прамаскоўскай антыбеларускай накіраванасьцю.Трэба разбурыць гэтае балота з падстаўнымі генэраламі ад канторы, Масквы ды Ганса Віка, інакш іх і падобных да іх пасадзяць беларусам на галаву і будуць прымаць у стразбургах ды брусэлях за вялікіх дэмакратаў (як ўжо ня раз было) і надалей стануць імітаваць „дэмакратычнае" змаганьне ды гробіць Беларусь.

13) У дачыненьні да неабходнасьці нацыянальнай асьветы трэба скарыстаць таксама тактыку ланцуговага накапленьня беларускай сілы (якой беларускія адраджэнцы, карысталіся ў 1960-х). Ва ўмовах, што скláліся цяпер на Беларусі, яе трэба ўжываць вельмі інтэнсіўна (яна палягае на індывідуальных кантактах і, практычна, не паддаецца кантролю з боку гэбэ).

14) Перад пагрозай чарговага вынішчэньня беларускай эліты („жадобінскі сьпіс") беларусы мусяць пачаць актыўныя захады да самаабароны. („Жадобінскі сьпіс", дарэчы, ужо прыняты рэжымам да распрацоўкі. Нядаўні так званы працэс 14-ці гэтаму пацьвярджэньне). Беларуская тактыка павінна быць наступальнай. Неабходна супольна прыступіць да складаньня „антыжадобінскага сьпісу". (А то Лубянка занадта далёка заехала ў Беларусі.)

Тут мушу сказаць, што беларуская моладзь ужо пачала ажыцьцяўляць гэтую ідэю (глядзі, напрыклад, Інтэрнэт-старонку „Бунта"). Цяпер задача – пашырыць гэтую справу як агульную ініцыятыву.

15) Па тых падзеях, што зараз адбываюцца (асабліва ў судах), мы бачым, што вяртаюцца мэтады расейскіх энкавэдзістаў. Але ня цешце сябе надзеяй, спадары жадобіны-навумавы, 1937 год у нас ужо не паўторыцца. А калі паўторыцца, то толькі для вас і ў выглядзе фарсу з адсідкай у тых жа камэрах, куды вы заганяеце сёньня нявінных беларусаў. Ня ўдасца ўсё зваліць на Лукашэнку, ня ўдасца адкруціцца. Мы ведаем, хто кіруе, хто камандуе і хто выконвае; хто па-халуйску стараецца і хто вылузваецца са скуры, каб дагадзіць Лубянцы і нашкодзіць беларусам.

16) Усялякаму рэжыму, што абапіраецца на сілу й хлусьню, здаецца, што ён моцны і нават ледзь што ня вечны. Але бывае, што калі перакрочаная мяжа, то ягоная сіла яго ж і пачынае разбураць. (Просьба не разумець гэта літаральна.) Размова пра тое, што ствараецца сытуацыя, калі сіла, баронячы рэжым, яго ж і падрывае. Чым большая сіла – тым большы тупік (і тым большае, праўда, цярпеньне людзей, якое, аднак, таксама ня вечнае).

Здаецца якраз, што рэжым падышоў да мяжы. Беларусам, ведаючы гэта, трэба рыхтавацца да рашучых і салідарных дзеяньняў.

*28 красавіка 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: „ПАСТАЯННА АДЧУВАЮ АДСУТНАСЬЦЬ БЫКАВА"

Пяць гадоў таму, 22 чэрвеня 2003 году, пайшоў з жыцьця Васіль Быкаў. Пра вялікага беларускага пісьменьніка, якога называлі духоўным лідэрам нацыі, гаворыць Зянон Пазьняк.

***Пазьняк:*** – „З Васілём Уладзімеравічам Быкавым я пазнаёміўся ў 1988 годзе, калі напісаў артыкул пра Курапаты. Вось тады я яму патэлефанаваў, гэта ўжо было дамоўлена з рэдактарам ЛіМу, і сказаў, што я хацеў бы спаткацца, што ёсьць артыкул, які паказвае рэпрэсіі і генацыд нашага народа, і што трэба напісаць прадмову. Ён ўсё зразумеў, сказаў, што спаткаемся, прызначыў месца. І вось мы зь ім спаткаліся. Быкаў потым напісаў прадмову да артыкулу «Курапаты – дарога сьмерці», яна паўплывала на тое, што гэты артыкул быў надрукаваны.


(Фота з Сеціва)
*98. „Крыжовы шлях"*

Але я хачу сказаць пра іншае. Курапаты паўплывалі ня толькі на ўвесь наш народ, які як бы ўваскрос пасьля веданьня, што здарылася ў Курапатах (і пасьля гэтага ўтварыўся Народны Фронт, пачалося нацыянальнае Адраджэньне). Курапаты, на мой погляд, паўплывалі і на Быкава. Ён звычайна ніколі не выступаў на афіцыйных мерапрыемствах, ён стараўся больш маўчаць, ня ўлазіў у палітыку. А тут, напісаўшы гэтую прадмову, потым выступаў з артыкуламі, абараняў нас за 30 кастрычніка, і ўвайшоў у Аргкамітэт БНФ, фактычна, быў адным зь яго утваральнікаў. Потым быў членам Сойму Беларускага Народнага Фронту, выступаў на зьездах і, па-праўдзе, – перамяніў сваё жыцьцё. Ён пайшоў у беларускае нацыянальнае Адраджэньне.

Я задумваўся над тым, што ж яго штурхнула на такі рашучы крок, на такі выбар, калі ён стаў за свой народ, за будучыню Беларусі. І мне здаецца, што гэта зрабілі Курапаты.

Я заўсёды адчуваў яго прысутнасьць, мы зь ім рэдка бачыліся (раз у месяц абавязкова, бо былі ж Соймы), але я заўсёды ведаў, што ён ёсьць. І гэта надавала ўпэўненасьці. І вось калі яго ня стала – ужо прайшло некалькі гадоў – я пастаянна адчуваю, што яго – няма. Я думаю, гэта адчувае і ўвесь наш народ, бо Быкаў быў сусьветны чалавек, вялікі Беларус, які зрабіў вельмі правільны выбар на павароце нашай гісторыі, і дапамог нашаму народу".

*22 чэрвеня 2008 г.*

***(Інтэрв'ю: Сяргей Навумчык, радыё Свабода)***

# НІХТО НА ФАЛЬШЫВАЯ ВЫБАРЫ!

***(Выступ на ліпеньскім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

Мы пастаянна кажам, што грамадзтва не павінна ўдзельнічаць у цёмных гульнях і антызаконных дзеяньнях дыктатуры. Бо тады яно робіцца саўдзельнікам злачыннай палітыкі супраць самога сябе, бо тады яно супраць волі апраўдвае маніпулятараў і захопнікаў народнай улады. Асабліва гэта датычылася антызаконнага рэфэрэндуму аб так званым „трэцім тэрміне" Лукашэнкі, рэфэрэндуму, якога не павінна было быць. І што б там ні сталася (ведаем, што напалохалі і ашукалі грамадзтва), але галоўнае для маніпулятараў быў вынік, і афёра была рэальна ажыцьцёўлена. І ўскосна (удзелам у ёй) нашыя грамадзкія эліты (найперш) расьпісаліся ў сваёй нясьпеласьці.

Дэградацыя палітычных элітаў, як вынік дзеяньня цёмнай антыбеларускай улады – вось што найбольш бянтэжыць і непакоіць. Неадэкватнасьць пазыцыяў і сьветапогляду мае сьведамасны характар, бо ня робіцца аніякіх высноваў з бездакдазных дзеяньняў і катастрафічных для народа падзей. Памятаем сумнаслаўтае **„Скажам „не" Лукашэнку"** ў час апошняга незаконнага рэфэрэндуму. Цяпер прыдумалі новы паранойны лёзунг заганяньня суайчыньнікаў на выбары. Кажуць: „Выбары ня выйграем, але йдзем на выбары, каб кантраляваць уладу".

З жалем мушу канстатаваць, што „разумнікі", якія прыдумалі такое, няйнакш лічаць іншых людзей адсталымі й неразумнымі. Зрэшты, мы памятаем іх паіменна, калі яны абзывалі звычайных людзей і „быдлам" і „рабамі", якія маўляў „не дарасьлі" да іхняга, аплочанага чужымі, палёту палітычнае „думкі".

Цяпер яны заклікаюць „кантраляваць" дыктатуру, цудоўна ведаючы, што сутнасьць дыктатуры – гэта кантроль над грамадзтвам і што дыктатура ў Беларусі жорстка і цалкам кантралюе выбары, галасаваньне і ўвесь псэўдавыбарчы працэс. Хіба ж можна „кантраляваць" дыктатуру?! На тое яна і дыктатура, што яе не у стане ніхто кантраляваць. З дыктатурай змагаюцца. І ўрэшце – ліквідуюць. Яны заклікаюць мыш у мышалоўку кантраляваць прывязку бясплатнага сыру. І пры гэтым хочуць стварыць уражаньне, што рэальна змагаюцца за дэмакратыю. Аднак, на справе рэальна гэтыя асобы паспрыялі і „трэцяму тэрміну" і „элегантнай перамозе", і „убедительной победе" для прамаскоўскага рэжыму на Беларусі.

І, зразумела, яны ня спыняцца. Ня спыняцца нават цяпер, калі дыктатура, якую яны нібыта будуць „кантраляваць", ужо таўчэ ўсіх падрад носам аб асфальт, раскручваючы сваю подлую правакацыю з выбухам у натоўпе людзей 4-га ліпеня ў Менску. Зьява набывае паталягічныя рысы. Успамінаецца савецкая „бээсэсэраўская" і цяперашняя намэнклятура і яе сэрвільныя паводзіны перад Масквой. Тое ж самае тут. Адсутнасьць аб'яднаўчых народных ідэй, індывідуалізм і чужыя грошы ў гэтым асяроддзі і тут стварылі псэўдаапазыцыйную намэнклятуру з усімі яе комплексамі „служыць да канца".

Уплыў гэтых людзей, дзякуй Богу, мінімальны, але вельмі шкодны, бо передавое грамадзтва шукае альтэрнатывы.

Кожныя псэўдавыбары і „рэфэрэндумы", якія арганізоўваў прамаскоўскі рэжым, утрымлівалі ў сабе небясьпеку для нацыі, дзяржавы і дэмакратыі. Цяперашнія выбары на Беларусі рэжым і Масква пачалі рыхтаваць з пачатку гэтага года ў абстаноўцы сьціслай сакрэтнасьці (зараз сакрэтнасьць – характэрная асаблівасьць палітыкі пуцінска-лукашысцкага гэбізму). Нашыя адраджэнскія аналітыкі і некаторыя маскоўскія „інфарматары" лічаць, што рыхтуецца зноў чарговы рэфэрэндум аб „інтэграцыі", рускім рублі ды так званым „канстытуцыйным акце". У краіне, дзе законы не выконваюцца самой уладай, магчыма ўсё. І адкідваць такі варыянт нельга.

Аднак, мы бачым па паводзінах і выказваньнях дзейных асобаў гэтай палітыкі, што галоўнай мэтай выбараў становіцца задача зрабіць цалкам „сваім" гэты рэжымны „парлямант" і павярнуць так, каб дамагчыся міжнароднага прызнаньня яго легітымнасьці. У ход пушчана „дэмакратычная" дэмагогія і няўклюдныя абяцаньні.

Сур'ёзную працу на Захадзе правяла руская дыпляматыя і агентура. Вынік мы бачым. Захад чакае любой зачэпкі, любой фармальна-дэмакратычнай праявы, каб прызнаць выбары ў Беларусі. Зноў падняліся там замшэлыя палітычныя ідыёты са сваім лёзунгам аб „дэмакратычнай місіі Расеі ў Беларусі". Мясцовая агентурка, аглядальнікі-пазытывісты пішуць пра матывы і міжнародныя выгады легітымізацыі кішэннага парляманту для Лукашэнкі.

Магчыма так думае і сам узурпатар. Нам жа трэба задумацца, чаму гэтаму сталі актыўна спрыяць Крэмль з Лубянкай, якія ніколі не таптал, не таравалі для Беларусі дарогі на Захад. Пры бліжэйшым разглядзе відаць, што плянаваная дарожка акажацца фікцыяй. У легітымізацыі лукашэнкаўскіх „палатак" цяпер зацікаўленая найперш Расея. Гэта зьвязана з новай стратэгіяй „інтэграцыі" (чытай – анэксіі), якую пачала пуцінская ўлада з канца 2005 года. Нагадаю. Сутнасьць гэтай палітыкі, артыкуляванай расейцамі, у пранікненьні рускага капіталу на Беларусь і ў захопе (фармальна эканамічнымі мэтадамі) беларускай нацыянальнай маёмасьці. Пасьля гэтага заплянавана паставіць палітычнае пытаньне аб „інтэграцыі" (чытай – заборы) нашай краіны і тэрыторыі пад Расею.

Для пасьпяховага забору беларускай маёмасьці, для апраўданьня і фармальнага пазбаўленьня ад магчымых праблем расейцам якраз патрэбныя фармальна-легітымныя „палаткі", якія застануцца цалкам у кішэні Лукашэнкі, які ў сваю чаргу застаецца аўтарытарным дыктатарам і якога Крэмль будзе трымаць за горла. Легітымныя „палаткі" патрэбныя Маскве для фармальна-законнага зацьвярджэньня ўсіх маніпуляцыяў расейцаў з захопам беларускай маёмасьці і эканомікі. Мне гэтая планіроўка цалкам нагадвае рускую імпэрскую палітыку ў 18-м стагоддзі перад разборамі Рэчы Паспалітай, пасьля чаго мы на 200 гадоў страцілі незалежнасьць.

У гэтай расейскай раскладцы другой хвалі ўнутранай акупацыі Беларусі (першая была ў 1994 г. – прасоўваньне Лукашэнкі на прэзыдэнта) прысутнічае адзін галоўны (самы галоўны) момант – „палаткі" павінны быць цалкам і безагаворачна прарасейскімі. Такімі, як Лукашэнка, і нават больш. Нават намэнклятура цяперашніх „палатак" поўнасьцю гэтаму не адпавядае, прынамсі па этнічным паходжаньні. Тут трэба добра ведаць расейскую палітыку, каб гэта разумець.

Дзеля ажыцьцяўленьня плану стварэньня кішэнных, легітымных і безагаворачна прарасейскіх „палатак" патрэбны шырокі і сістэмны кантроль над працэсам выбараў у Беларусі. Масква гэты кантроль, дзякуючы Лукашэнку, мае тут даўно, улічваючы глыбокае пранікненьне ў рэжымную ўладу, кантроль над дзеяньнямі Лукашэнкі і ключавымі сфэрамі ўлады, існаваньне сеткі рускай рэзідэнтуры, кантроль над КГБ і г.д.

Аднак зьявіўся трывожны для Масквы сімптом, які здольны пакрэсьліць варварскія планы. Гэты сімптом – нежаданьне амаль паловы выбаршчыкаў Беларусі зноў ісьці на падманныя выбары і

канцэпцыя байкоту выбараў, яшчэ з пачатку года агучаная нашай Партыяй (КХП-БНФ). Мы заўважылі, што рэакцыя рэжыму на байкот выбараў мяжуе з панікай. Тыя, хто арганізоўвае падманныя выбары, цудоўна разумеюць, што адзінае, з чым яны могуць ня справіцца і чаго яны ня змогуць да канца пракантраляваць, – гэта байкот галасаваньня. Малая „фрэквэнцыя" выбараў перакрэсьлівае ўсю бравурную хлусьню пра 83 адсоткі і што „народ решил" і т.п. Бальшавікі вырашалі гэтую небясьпечную для іх праблему шляхам масавага тэрору і застрашэньня людзей. Пры саветах, асабліва пры Сталіне, людзі ўсхопліваліся яшчэ цёмна і ўжо ў 6.00 (у гэты час пачыналася галасаваньне) былі на ўчастках. Непрыход на выбары прыроўніваўся да злачынства, якое абавязкова мела карныя вынікі для парушальніка (пры Сталіне маглі саслаць). Але як бы ні стараўся лукашызм насьледваць Сталіну (нават „лінію Сталіна" прыдумалі) – сьвет ужо ня той, які быў 70 гадоў таму. Рэжым ня ў стане зламаць масавую волю людзей (пры ўмове, калі гэтая воля зьявіцца), ня ў стане зламаць нават волю асобных людзей, якія перасталі баяцца.

Меры, якія дастасаваў гэбізм супраць байкоту і за посьпех лубянскае справы, нікога не зьдзівілі, хто ведае іх і іхныя мэтады. Гэта працяг Лёзна, Віцебска, Валгадонска і г.д. – імітацыя тэракту альбо сам тэракт, зьява, можна сказаць, для гэбізму знакавая і тыпалягічная. 4-га ліпеня ўначы ў Менску прагучэў выбух у натоўпе людзей, што глядзелі канцэрт на адкрытым паветры. Паранена больш за 50 асобаў, некаторыя вельмі цяжка. Сама правакацыя тэхнічна была зроблена настолькі груба, што адразу стала зразумела, хто за гэтым стаіць.

Але нягледзячы на гэта, механізм заведзены, і крывавая афёра разьвіваецца ў патрэбным рэжыму кірунку. Дзень за днём арыштоўваюць людзей, настроеных супраць рэжыму, робяць ператрусы і допыты, імітуюць „сьледзтва", шукаюць спраўцаў тэракту ў межах апазыцыйных да рэжыму груп. Расейская ФСБ прапанавала сваю дапамогу ў „сьледзтве", якая тут жа была прынята. Такім чынам „сьледзтва" вядуць „знатакі". Гэтым створана эксклюзыўная схема кантролю расейцаў за выбарамі ў Беларусі і за апазыцыйна настроенымі выбаршчыкамі. У гэтай схеме расейскае ФСБ ужо легальна дзейнічае ў Беларусі, валодае легальнай інфармацыяй, уплывам на ход афёры („сьледзтва") і на ход выбараў, на падбор і прасейваньне кандыдатаў згодна зададзенай схемы.

Два з паловай месяцы можа доўжыцца гэтая валынка. У прынцыпе ворганы могуць спыніць любога кандыдата і выбіць яго з выбараў, спаслаўшыся на „сьледзтва" і падозраньні ў тэрарызме. Дастаткова, скажам, знайсьці ў яго пару шрубак (начынка самаробнай бомбы), ці пачку цьвікоў. Можна не сумнявацца, што „палатку" яны скляпаюць, як на падбор, вытрымаўшы і „пятую графу", і ўсе зададзеныя ўмовы. Працэс, як кажуць расейцы, „пайшоў". Кожны дзень па ўсёй Беларусі па „падазрэньні" арыштоўваюць няўгодных „апазыцыянэраў", кожны дзень знаходзяць цьвікі. Ва ўсім гэтым дурным фарсе рэжым захоўвае сур'ёзны і дзелавы выгляд, грыміць пагрозамі „закруціць шрубы на галаве „апазыцыі" і г.д. Але, як бачым, і тут ніякія пагрозы ды арышты, ніякія зьнявагі, прыніжэньні і зьдзекі ня спыняць імпэту сэрвільных прагматыкаў пайсьці на выбары і „пракантраляваць" уладу. Нявольніцтва духа – зьява ірацыянальная. Пераконваць такіх бясэнсоўна.

Наш адказ усяму гэтаму балагану, замешанаму на фальсіфікацыях, правакацыі і крыві, – байкот. ***Людзі, ня йдзіце ў гэты вертэп, ня йдзіце на іхнія выбары. Пакіньце іх, нарэшце, самых з сабой, хай глядзяць на сябе ў люстэрка.*** Іх трэба ізаляваць ад удзелу грамадзтва, і ўсе іхныя гулі павіснуць і адразу ўсім стануць відаць.

Па лёгіцы гэбісцкіх спэктакляў, вінавайцу павінны былі б стварыць у канцы – перад галасаваньнем. Кім ён павінен быць – зразумела (інакш навошта было паліць Рэйхстаг). Мэтады адпрацаваныя. Зрэшты, можа ён ужо ад пачатку рэальна „падрыхтаваны" і ў няведаньні чакае толькі свайго часу. Гульня гэтая вартая сьвечак, і спаленьне агента для гэбэ ёсьць ня новая справа. Але гэта ўжо не істотна. Бо, паўтаруся, важнейшым у выбуховай афёры ёсьць не знаходжаньне вінавайцы, а сам працэс яго шуканьня і праз гэта поўны легальны кантроль гэбэ за выбарамі, у якіх Масква мае свой асабісты інтэрас.

Імкненьне легітымізаваць кішэнны „парлямант" можа паспрыяць таму, што ў „палаткі" спэцыяльна прапусьцяць аднаго, пару-тройку кандыдатаў ад падстаўной апазыцыі. Але можна не сумнявацца (тут жорсткі падыход) – на іх месцы будзе апазыцыйная агентура і прарасейска настроеныя „дэмакратычныя" тыпажы. Гэта могуць зрабіць дзеля Захаду, які ўспрыме падстаўку як праяву дэмакратычных выбараў.

Тым часам міліцыя і КГБ ужо ходзяць па дамах па ўсёй краіне і выбарачна (у некаторых месцах татальна) дапытваюць людзей, прымушаюць пісаць тлумачэньні, дзе былі, здымаюць адбіткі пальцаў, як у злачынцаў, перапісваюць дакументы, нумары тэлефонаў і асабістыя дадзеныя. Так пачынаецца чарговая выбарчая кампанія ў паліцэйскай дзяржаве пры антыбеларускім рэжыме. Мэта такіх дзеяньняў – запалохаць людзей, сарваць байкот і пагнаць усіх на выбары.*

Веданьне хваравітай псіхалогіі і складу думак Лукашэнкі і аналіз ягоных дзеяньняў і выказваньняў да і пасьля выбуху прыводзіць да цікавай высновы: аказваецца, Лукашэнка ведаў пра плян правакацыі і зьяўляецца актыўным гульцом гэтага пляну. Зрэшты, нічога новага пад крывавым сонцам КГБ. Пуцін таксама ведаў пра забойчую апэрацыю ў Беслане, мардаваньне людзей у „тэатры на Дуброўцы», і нават сам даваў распараджэньні.

Уся афёра сшыта белымі ніткамі, сфастрыгавана, і ўсё відаць. Нават неспэцыялісту зразумела, што па характару выбуховай лункі там быў не пакет з-пад соку ці малака (які стаяў на віду і якога ніхто не заўважыў), а спэцыяльнае выбуховае прыстасаваньне, выбранае адмыслоўцамі. Выбуховая энэргія і, адпаведна, шрапнэль былі накіраваны гарызантальна нізам у бок людзей, а грунт выкінула ў адваротны бок, дзе людзей не было. На здымку месца выбуху ўсё добра відаць (як і тое, што месца, дзе мог стаяць

---

* Вось тыповыя загалоўкі і паведамленьні ў друку за апошнія дні:
„У справе аб выбуху затрыманых усё болей".
„У крымінальнай справе, распачатай пасьля выбуху 4 ліпеня, падазраваных больш за паўсотні чалавек."
„Камэры ізалятара часовага ўтрыманьня перапоўненыя".
„Сьледчыя пачалі новую хвалю ператрусаў і затрыманьняў". "Супрацоўнікі КДБ больш за чатыры гадзіны рабілі ператрус на кватэры лідэра незарэгістраванай арганізацыі „Правы альянс" Юрася Карэтнікава – нягледзячы на тое, што ад 29 чэрвеня да 6 ліпеня яго не было ў Беларусі."
„У сталіцы пачаліся масавыя допыты насельніцтва".
„Міліцыя мяркуе апытаць усіх жыхароў гораду шляхам пакватэрнага абыходу".
„Людзі ў міліцэйскай форме, у званьнях ад шарагоўца да прапаршчыка, па два ажыцьцяўляюць пакватэрнае апытаньне ўсіх жыхароў у сувязі з выбухам." „Супрацоўнікі міліцыі правяраюць дакументы жыхароў кватэр і цікавяцца тым, дзе яны былі і чым займаліся ў ноч на 4 ліпеня". „Цяжка зразумець, што можа даць апытаньне амаль двух мільёнаў жыхароў сталіцы для канкрэтнага сьледзтва." „Усё гэта выглядае як тупая маштабная акцыя запалохваньня."
Так пішуць у Сеціве на афіцыйных Стар. – *(З.П.)*

злачынца пры закладцы бомбы, было старанна затаптана пасьля выбуху).

Невядома, ці ўзялі неабходныя пробы з гэтага месца на аналіз, на прасейваньне паверхні, але фактам ёсьць тое, што ў гэты ж дзень месца выбуху было ліквідаванае, закладзенае дзярэнцам, загладжанае травічкай. Неверагодна, але так. Важная ўліка не праіснавала, засталася толькі на фота. На фоне гэтакіх дзеяньняў узьнікае падазрэньне пра замятаньне непажаданых сьлядоў і пра тое, што знойдзены (калі знойдзены) іншы неўзарваны пакет ёсьць звычайная „лялька", бутафорыя, якую злачынцы пакідаюць, каб накіраваць сьледзтва ў фальшывым накірунку. Так яно і дзеецца, бо сутнасьць гэтых блытаных маніпуляцыяў з пакетамі (адзін зь якіх нібыта знайшлі за дзьве з паловай гадзіны да выбуху) у тым, каб схаваць дасканалы прафэсіяналізм накіраванага выбуху, род і форму выбуховага прыстасаваньня. Таму што гэта паказвала б на іншую дарогу сьледзтва, дзе гэбістам, магчыма, прышлося б арыштоўваць самых жа сябе.

Усім сумленным беларусам трэба цяпер пра гэта казаць і пісаць, выкрываць крывавую паранойю. Трэба рэальна бачыць тое, што ёсьць на самай справе. Гэтай катэгорыі новых уладароў глыбока начхаць на жыцьці людзей, на чужую маладосьць і здароўе. Дзеля дасягненьня палітычных мэтаў і захаваньня ўлады яны гатовыя «закручваць шрубы на галовах апазыцыі». Мы гэта ўбачылі даўно, яшчэ 12-га красавіка 1995 года, калі ноччу ў парляманце на нас, 19 дэпутатаў Апазыцыі БНФ, кінулі батальён спэцназу. І вось жа даходзіць чарга і да тых, што тады падлыжна апраўдвалі тое злачынства. Нават камуністу Калякіну перапала.

Але самая вялікая небясьпека хаваецца ў палітычнай мэце, якая стаіць за гэтай правакацыяй і рэпрэсіямі супраць людзей. Па вялікаму кошту – гэта небясьпека страты незалежнасьці Беларусі і канчатковага вынішчэньня нас як культурнай нацыі.

Першы крок, які трэба зрабіць дзеля абароны сябе ў гэтай сытуацыі, – гэта ***ня ўдзельнічаць у іхнай антыбеларускай палітыцы, спыніць хаджэньне на іхныя фальшывыя выбары і рэфэрэндумы. Байкот антыбеларускім выбарам! Байкот антыбеларускай палітыцы! Беларусам, незалежна ад палітычных прыхільнасьцяў, трэба перастаць душыць самых сябе, трэба перастаць быць прыладай у руках чужой палітыкі. Ніхто на фальшывыя выбары! Усе за Беларусь!***

*13 ліпеня 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# СІСТЭМНАЕ РАЗБУРЭНЬНЕ МОВЫ

У 30-х гадах, пад расейска-савецкай акупацыяй, нішчэньне правапісу беларускай мовы адбывалася пад гукі рэвальвернай кананады ў Курапатах, у лясах пад Магілёвам ды пад Менскам, у Сьляпянцы ды Лошыцы, у двары Вялейскай турмы ды казематах Берасьцейскай крэпасьці. Таму аб акупацыйным правапісе не дыскутавалі (маглі расстраляць). Адны перасталі пісаць па-беларуску, другія пагадзіліся на „тапор", „карандаш", „акцябрскую рэвалюцыю" і іншую лексіку. Разьвіцьцё афіцыйнай, дзелавой ды й літаратурнай беларускай мовы было спынена. Вось вынік так званай „наркомаўскай" маніпуляцыі Масквы зь беларускай мовай. ***Заканадаўчае дзеяньне было накіравана на вынішчэньне беларускай мовы шляхам паралічу яе моўнай сістэмы знутры.***

Толькі пасьля сьмерці Сталіна беларуская літаратура паступова пачала зьвяртацца да жывых формаў і лексікі беларускай мовы, абыходзячы вірусы і рагаткі чужароднай ін'екцыі. У сярэдзіне 50-х здолелі часткова рэфармаваць і беларусізаваць чужародны правапіс, але вярнуцца на зыходныя пазыцыі поўнасьцю не ўдалося, нягледзячы на гераічныя і плённыя высілкі выдатнай беларускай літаратуры. Афіцыйная беларуская мова (літаратурная, дзелавая) мярцьвела, лакалізавалася ў літаратуры, у некаторых газэтах і сярод асобных людзей (галоўным чынам інтэлігенцыі). Гэта амярцьвеньне жывой літаратурнай мовы бачылі, адчувалі, пра гэта пісалі, крычалі тады амаль усе вялікія беларускія пісьменьнікі і паэты („Кажуць, мова мая адамрэ..." – клясычны рэфрэн у тагачаснай паэзіі.)

Чаму ж сталінскі ўдар аказаўся такім балючым і катастрафічным? Два чыньнікі. Найперш, удар быў накіраваны ўнутр сістэмы мовы. Другі чыньнік – удар у сістэму мовы быў падтрыманы палітыкай этнацыду і генацыду беларускай нацыі. Бяз гэтага другога чыньніку сьмяртэльны стрэл у сістэму мовы ня меў бы, практычна, ніякага значэньня. Сістэма проста выплюнала б чужароднае цела і разьвівалася б далей па сваіх жывых законах, чужароднае не прыжылося б.

Рэпрэсіі, страх, прымус – былі формай, зьместам і рэалізатарам выніковасьці сталінскага закону. Як толькі гэтыя чыньнікі пачалі слабець – агалілася сутнасьць нішчэньня, зьявілася воля да адраджэньня жывога.

Беларуская нацыянальная рэвалюцыя 1991 года і вяртаньне незалежнасьці краіны (нягледзячы на ўладу савецкай намэнклятуры) вярнулі ўсё ў пачатак. Адрадзіўся новы клясычны правапіс (Браніслава Тарашкевіча). Пачаўся паварот да мовы, зацікаўленьне лексікай, правапісам, увага да дыялектаў, да беларускай лацінкі і г.д. Клясычным правапісам пачалі пісаць нашы вялікія сучаснікі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін. Мноства людзей упершыню вярнулася да беларускай мовы і, не прымаючы афіцыёз, пачалі пісаць, як умелі, экспэрыментаваць зь лексікай і правапісам, розныя аўтары і часопісы па-рознаму пачалі адыходзіць ад афіцыйнага (савецкага) напісаньня. Разам з выдаткамі тут выявілася шмат новых формаў і словаў, адчыняецца забытае. З пункту гледжаньня савецкага акадэмічнага афіцыёзу – гэта анархія, „абы што", зьмяшаньне ўсяго ў кучу, псаваньне мовы і г.д. З пункту гледжаньня гістарычнага працэсу, аднак, – гэта заканамерная зьява ўсялякага адраджэньня сістэмы і аднаўленьня страчанага. ***Гэта аб'ектыўны працэс, ён неабходны для крышталізацыі новага ўзроўню і новага адзінства.*** Гэта, нарэшце, працэс пазітыўны і яшчэ ня скончаны. Ён рухае наперад (sic!) ***творчае зацікаўленьне мовай*** у шмат якіх беларусаў. Ён спрыяе вяртаньню іх ва ўлоньне беларускай моўнай стыхіі.

Вельмі істотна ўбачыць і зразумець, што ў рэчышчы функцыянаваньня беларускай мовы ў цяперашняй Рэспубліцы Беларусь гэты цяперашні творчы плюралізм правапісаў ёсьць зьвявай паралельнай афіцыйнаму ўжываньню мадэрнізаванага савецкага правапісу беларускай мовы. Грунт і стабільнасьць афіцыйнага ўжываньня мовы палягае на гэтым афіцыйным правапісе. На ім базуецца школа, навучаньне, інфармацыя і г.д. Пакуль што

яму нічога сур'ёзна не пагражае, і „савецкі правапіс" квола йдзе сваёй дарогай. Але „паралельныя працэсы" выклікаюць усё большае зацікаўленьне беларускай мовай, прытым сярод тых, хто, не ўдаючыся ў развагі, карыстаецца афіцыйнай формай правапісу. „Паралельныя працэсы" выступаюць у ролі каталізатара ўсяго моўнага адраджэньня, нягледзячы на антыбеларускую (антышкольную, антымоўную) палітыку існуючага рэжыму. І вось тут адбыўся паўторны „сталінскі ўдар". Нішчыцелі заўважылі працэс і прынялі меры згодна свайго антыбеларускага ўменьня і разуменьня. Антыбеларускі рэжым прыняў закон аб новым афіцыйным правапісе беларускай мовы. Задача тая ж – разбурэньне і ліквідацыя ў афіцыйным ўжытку літаратурнай беларускай мовы. Першы чыньнік (разбурэньне моўнай сістэмы) застаўся такі ж самы, як і раней, у 30-х, таму зьмены ў афіцыйным правапісе блытаныя і некардынальныя. Але (што дакладна заўважыў З. Саўка) не „тарашкевіца", не „паралельны плюралізм", а менавіта гэты новы таталітарны закон, прыняты ўнутранымі акупантамі Беларусі, разбурае адзінства афіцыйнага правапісу і цалкам дэстабілізуе моўную сытуацыю ў агульнанацыянальным маштабе.

Другі чыньнік, палітычны (страх, рэпрэсіі, перасьлед), у выніковым сэнсе ўсё ж не дацягвае да сталінскага, каб стаць гарантам дзеяньня і выкананьня акупацыйнага закону. Таму быў прыняты небывалы варыянт: уведзена *юрыдычная адказнасьць асобы* за напісаньне, ня згоднае з афіцыйным правапісам. Гэта грубае дыскрымінацыйнае палажэньне (прыдуманае людзьмі, якія беларускай мовай не карыстаюцца), ўнікальнае па сваім цынізме. 23 ліпеня гэтага года яно было афіцыйна(!) зацьверджана. За артаграфічныя памылкі асоба мусіць адказваць па суду, альбо атрымаць адміністрацыйнае спагнаньне. Па паранойнай задумцы, пагроза судовага і адміністрацыйнага перасьледу за памылкі ў напісаньні павінна рэзка зьменшыць сфэру пісьмовага ўжываньня беларускай мовы (на гэта і разьлік) і павялічыць сфэру рускай, якая не дыскрымінуецца. Прытым, можна не сумнявацца, перасьлед за памылкі будзе выбарачным. Тут тыпова крымінальны падыход да выкананьня заведама крымінальнага заканадаўства і тыповая мэтодыка мафійнага гэбізму ва ўнутранай палітыцы.

Зацьвярджэньне разбуральнага закону выклікала зноў вялікую дыскусію ў непадкантрольных сродках масавай інфармацыі. Што зьвяртае на сябе ўвагу, спрачаюцца, у асноўным, пра суфіксы і канчаткі, не гаворачы (можа, не заўважаюць?) пра мэтанакіраваную разбуральную сутнасьць закона, пра заплянаваны дыскрымінацыйны гвалт над носьбітамі і карыстальнікамі беларускай мовы. Зьявіліся нават допісы, дзе з ужываньнем навуковай тэрміналёгіі пераконваюць, што, маўляў, нічога страшнага, мове „закон" не перашкодзіць, вунь і ў грэкаў такое было, і сталінскі закон мовы ня зьнішчыў. Гэтак пішуць звычайна маладыя, што ня ведаюць пра камунізм і савецкую акупацыю. Сталінскія мэтады супраць мовы нас расплякалі так, што ўжо ў 70-х гадах Масква і гэбісты паставілі на нашай нацыі крыж. Яны сур'ёзна лічылі, што беларуская мова „натуральным чынам" зьнішчана, і беларуская нацыя ўжо ніколі не падымецца. „Мы не будем противопоставлять белорусскую мову великому русскому языку!" „В Белоруссии нет национализма!" – гукалі розныя мясцовыя сакратары Цэ-Ка і „будаўнікі камунізму" (у партупеі пад кашуляй). Зьяўленьне БНФ выклікала ў іх шок, а бліскучае выкарыстаньне сітуацыі і перамога Фронту ў 1991 годзе ўвяла Маскву ў стан прастрацыі. Але калі б Савецкі Саюз праіснаваў бы яшчэ гадоў дваццаць, то сумняваюся, ці паднялося б што ў Беларусі. Мы віселі ўжо над безданьню.

Раней я неаднаразова пісаў, што Масква зрабіла для сябе вельмі сур'ёзныя высновы пасьля паразы ў Беларусі ў пачатку 90-х гадоў. Мэтад і мэтодыка, якімі вынішчаюць нас цяпер, глыбока, прафэсійна і дэталёва распрацаваныя, а тое, што адбываецца (па мэтодыцы разбурэньня нацыі), калі зрабіць сістэмны аналіз, не ўкладваецца ў рамкі інтэлекту кіроўнай асобы Рэспублікі Беларусь (хоць выконвае ўсё якраз гэтая асоба).

Вынішчэньне мовы йдзе „пакетам" разам з разбурэньнем школы. Апошні разбуральны прыём – раптоўны перавод на 11-годку. Па мэтадалогіі нішчэньня – гэта тое ж самае, што робіцца з мовай. У гэтым жа сістэмным пакеце йдзе выключэньне беларускай гісторыі са школы, разбурэньне беларускай літаратуры, беларускай грамадзянскай супольнасьці, нішчэньне помнікаў гісторыі і культуры, і беларускага Інтэрнэту (падзеі наперадзе).

Пакуль беларуская інтэлектуальная эліта не зразумее, не ўсьвядоміць глыбока і рэальна, што з боку Расеі йдзе доўгая зацяжная вайна супраць Беларусі, што гэта вайна іншымі сродкамі, бяз бомбаў і кулямётаў, бяз гучнае зброі, – што гэта вайна не на жыцьцё, а на сьмерць, – супраціўленьне арганізаваць ня ўдасца. Цяпер, аднак, трэба думаць разам, усім пра стратэгію супраціўленьня вынішчэньню ў вобласьці культуры, пра тактыку абароны мовы, пра спосабы яе захаваньня, пра контрнаступ і барацьбу за яе адраджэньне і разьвіцьцё. Стыхійнае выказваньне пазыцыі, абурэньняў, скаргаў ды ацэнак – справа неабходная, але ў гэтай сытуацыі бездапаможная („Масква сьлязам ня верыць," панове).

Там, дзе ідзе арганізаваная атака, – там павінен узьнікаць і арганізаваны супраціў.

Калі глянуць у корань і калі не апэраваць дэфініцыямі ды катэгорыямі (цяжкімі для ўспрыняцьця бальшыні людзей), то галоўны сэнс русіфікацыі і ўсёй гэтай векавой антыкультурнай палітыкі ў тым, каб беларусы перасталі гаварыць, чытаць і пісаць па-беларуску і пачалі размаўляць, чытаць і пісаць па руску. Вось іхняя стратэгія, зьведзеная да ўзроўню звычайнага чалавека. Яна ненатуральная, але простая, як кол. Адказ на гэта ёсьць жыцьцёвы і адпаведны ***– беларус павінен гаварыць, чытаць, пісаць і думаць па-беларуску – на роднай мове вялікай культуры і вялікай эўрапейскай нацыі.*** Вось нашая галоўная стратэгія ў барацьбе за культурнае існаваньне. Ёй павінна быць падпарадкавана ўся наша дзейнасьць ў вобласьці адукацыі, асьветы, інфармацыі, творчасьці, навукі і культуры. Не забывайма пра функцыю і ролю эліты, не забываймася і пра місію інтэлігенцыі. Тут мусіць быць тактыка і мэтадалёгія. Як некалі было ў акупаванай Прыбалтыцы – першае пытаньне па-эстонску (па-беларуску); другое пытаньне – чаму не размаўляеце па-эстонску (па-беларуску). Вялікая небясьпека, пачварныя зьявы насоўваюцца на нас з Ўсходу. Але мы маем супраць гэтага моцную зброю (прытым, у шырокім ужытку – непераможную). Гэтая зброя ёсьць наша вялікая Беларуская Мова.

Улічваючы разуменьне ўсяго, што сказана вышэй, што можна прапанаваць у гэтай сытуацыі, калі антымоўны дыскрымінацыйны закон прыняты? Найперш, яшчэ маецца больш за год да пачатку ўвядзеньня гэтага заканадаўчага „акту". Трэба добра прадумаць дзеяньні і паводзіны ў гэтым пэрыядзе і на прышласьць. Калі за гэты час ішак ня здохне і візір ня жэніцца, то першае што неабходна забясьпечыць, – гэта захаваць вобласьць, дзе мог бы разьвівацца „плюралізм правапісаў" (паўтаруся, гэта жывы творчы працэс). Не выключаю, што трэба заранёў падумаць пра Інтэрнэт, падпольны самвыдат, кружэлкі ЦД і ДВД, псэўданімы, выданьні за мяжой і інш. Абсяг вялікі. Заўважце, што ў дзяржаўных выдавецтвах з прычыны пазыцыі рэжыму ўжо даўно і так не выходзяць кнігі

сучасных выбітных беларускіх аўтараў – Барадуліна, Разанава, Бураўкіна, Някляева, Казько, Арлова, Гілевіча, ды-й, практычна, ўсе „маладыя" друкуюцца ў недзяржаўных выдавецтвах. Так што ёсьць, існуе „дарога жыцьця". І будзе існаваць, пакуль творыцца наша выдатная літаратура.

Другое (прашу аднесьціся да гэтага спакойна), неабходна распрацаваць мэтодыку нацыянальнага прыстасаваньня дыскрымінацыйнага моўнага закону да патрэбаў афіцыйнага існаваньня і пашырэньня беларускай мовы. Выдаткі непазьбежныя, напэўна будуць зьнявагі і нават ганебныя рэпрэсіі, грэблівасьць з абодвух бакоў. Усё трэба выцерпець, бо калі мы гэтага ня зробім, мову ў афіцыйным ужытку „прыхлопнуць" на „законных" (дакладней, на законна-крымінальных) падставах. Дзеля гэтага і прыняты нішчыцелямі такі юрыдычны акт. Трэба не забывацца, паўтаруся, што сутнасьць дыскрымінацыйнага закона не ў правапісе (прапануецца мадыфікаваная „наркомаўка", ня больш), а ў пакараньні за артаграфію. У сёньняшнім грамадзтве яшчэ няма сілы на шырокае і стыхійнае супраціўленьне моўнай дыскрымінацыі. Сілу трэба рыхтаваць і нельга праігрываць.

Трэцяе. Беларуская эліта (уся беларуская эліта, а ня толькі ТБМ, якое змагаецца ўвесь час) мусіць забясьпечыць пэрманентную і няспынную крытыку дыскрымінацыйнай сутнасьці крымінальнага „закона" пра мову (перасьлед за артаграфію) Гэтае пытаньне павінна гучэць паўсюдна і ўвесь час, на ўсіх канфэрэнцыях па лінгвістыцы, правах чалавека, разьвіцьці дэмакратыі, сутнасьці таталітарызму, юрыдычных аспэктах улады і г.д., гэтае пытаньне павінна гучэць у прыкладах і спасылках, стаць прыпавесьцю ў разважаньнях, заявах і патрабаваньнях. Пашырэньне крытыкі не азначае, што ўдасца прымусіць прамаскоўскі рэжым адмовіцца ад паранойнага палажэньня ў законе. Гэта выключаецца (на тое ён і прамаскоўскі рэжым). Але крытыка грубай тэндэнцыйнасьці антымоўнага акту будзе спрыяць інфармаванасьці людзей, іхняму праўнаму асьветніцтву, надасьць сілы здароваму грамадзтву ў змаганьні за розум, за сьветласьць, за вольную Беларусь.

Зразумела, што гаворачы пра гэтыя тры неабходныя пазыцыі (і ў цэлым пра ўсе мае развагі), я зыходжу з найгоршага варыянту, з той дрэннай верагоднасьці, калі прамаскоўскі акупацыйны рэжым і нелегальная ўлада Лукашэнкі праіснуюць да 2010 года. Такую верагоднасьць нельга выключаць, і плян паводзінаў на гэты выпадак павінен быць. Па вялікаму кошту перамяніць сытуацыю, спыніць вынішчэньне беларушчыны, беларускай культуры і нацыі зможа толькі кардынальная перамена – ліквідацыя антыбеларускага рэжыму і ўстанаўленьне беларускай дэмакратычнай народнай улады. Наша палітычная беларуская барацьба за вольную, разумную, беларускую Беларусь ёсьць галоўная дарога, ідучы якой, мы дасягнем нашай сьветлай народнай будучыні.

*26 ліпеня 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукувана: (Народная Воля, – 2008, 12 сьнежня, (Пад загалоўкам: „Параліч, альбо якое няшчасьце нясе Беларусі сістэмнае разбурэньне мовы"); Беларус, – 2008, № 548, верасень).*

Памяць роду

*На раніцы выйшаў*
*на дымны Брадвэй.*
*На секунду*
*пачуўся мне*
*пах Гаўі.*

*(2007 г.)*

# АНТЫБЕЛАРУСКІЯ НАМЕРЫ КРАМЛЁЎЦАЎ

## УСТУП

Уся гісторыя беларускага дзяржаўнага (а потым этнічнага і культурнага) існаваньня ёсьць вечная і пэрманэнтная барацьба з Усходам за выжываньне і разьвіцьцё. Больш высокая цывілізацыйная арганізацыя Вялікага Княства Літоўскага давала магчымасьць пасьпяхова супрацьстаяць прымітыўнаму сілавому націску. Аднак у XVII стагоддзі становішча перамянілася. Сувязі з Візантыяй, дынастычныя шлюбы, умацаваньне азіяцкага абсалютызму прывялі да канчатковага сфармаваньня Маскоўшчыны як *ваеннай дзяржавы* і стварэньня агрэсіўнай ідэалёгіі гэтай дзяржавы, дзе ірацыянальнае імкненьне да экспансіі было спалучана з асэнсаваньнем яе як місіі ўсходняга (праваслаўнага) сьвету *(Масква – трэці Рым*... і г.д.*).*

На шляху „трэцяга Рыму" стаяла галоўная перашкода – Вялікае Княства Літоўскае.

У сярэдзіне XVII стагоддзя Масква распрацавала фантастычны па сваёй азіяцкай дзікасьці і авантурызму плян вайны супраць ВКЛ, у выніку якой прадугледжвалася поўнае вынішчэньне насельніцтва і захоп бязьлюднай тэрыторыі. Вайну Масковія прайграла, але была зьнішчана большая палова людзей Беларусі (так званы *Патоп*).

Наступны этап агрэсіі – імпэрскі, спалучэньне (праз дынастычныя шлюбы) усходняй экспансіі і нямецкага рацыяналізму *(„Самадзяржаўе, праваслаўе, народнасьць")* – скончыўся разбурэньнем Вялікага Княства і захопам Беларусі, і працягваўся 200 гадоў. Гэты пэрыяд характарызаваўся пэрманэнтнай палітыкай нішчэньня культуры вялікага народа, якая атрымала агульную назву „русіфікацыя". Апошнія 70 гадоў гэтага этапу прыпадаюць на эпоху камунізму, дзе камуністычная дактрына была выкарыстана як форма рускага імпэрыялізму і палітыкі русіфікацыі.

З 25-га жніўня 1991 года, пасьля перамогі беларускіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў (якія палітычна прадстаўляла дэпутацкая Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня), распаду СССР і ліквідацыі КПСС, настаў пэрыяд Незалежнасьці, аднаўленьня і будаўніцтва беларускай незалежнай дзяржавы.

З 20-га ліпеня 1994 года пачаўся працэс унутранай акупацыі Беларусі Масквой і ўнутранага змаганьня беларусаў з палітыкай рэстаўрацыі вялікадзяржаўнай Расеі.

## АТАКА ЗНУТРЫ

Пра магчымасьць і падрыхтоўку палітыкі імпэрскай агрэсіі з боку Расеі я пісаў ад самага пачатку аднаўленьня Незалежнасьці, бо сутнасьць (ідэалёгія) расейскай улады не зьмянілася. Поўраспад, што адбыўся ў 1991 г., зусім не ліквідаваў вялікадзяржаўнасьць Расеі, якая пасьля пераразьмеркаваньня ўлады і маёмасьці мусіла была вярнуцца на пратаптаную дарожку імпэрскай палітыкі, прытым у агрэсіўнай форме ўражанай імпэрскай сьвядомасьці.

Паварот да імпэрскай палітыкі і тэрміналёгіі адбываўся ў Расеі вельмі хутка. Вывад у 1993 г. на палітычную сцэну гэбоўскага эксцэнтрыка У. Жырыноўскага (так званы „прыём блазна") канчаткова даў зразумець, што ставіцца задача абходным чынам „афіцыяналіць" (увесьці ў афіцыйны абарот) махровыя імпэрскія пляны і тэрміналёгію. Усё было настолькі відавочна, што лёгка было ўбачыць, чым канкрэтна гэта пагражае Беларусі. Тым больш, што з канца 1992 года пачалося адкрытае пранікненьне савецкага КГБ у структуры беларускай улады, а прэм'ер В. Кебіч, напалоханы ростам палітычнай вагі Народнага Фронту, поўнасьцю здаўся перад Масквой (пляны ўвядзеньня рускага рубля і г.д.). Ён чакаў адтуль паратунку перад нацыянальнай дэмакратыяй.

У студзені 1994-га мне прышлося выступіць з артыкулам *„Аб рускім імпэрыялізме і яго небясьпецы"*, дзе была паказана сытуацыя і раскрыта пагроза, якая вынікала з імпэрскай палітыкі Ўсходу. Расейцы ўспрынялі публікацыю як удар па маскоўскай палітыцы. Маскоўцы выдатна зразумелі, што зь іх нечакана сарвалі квазідэмакратычнае пакрывала і паказалі імпэрскім галышом. Рэакцыя была істэрычнай, імпэрцы захлёбваліся ад нянавісьці. (Спрабавалі нават арганізаваць судовую расправу, галасавалі ў парляманце. Але не атрымалася.)

Што да беларускай грамадзкасьці, то, на жаль, складвалася ўражаньне, што бальшыня нават не разумела, пра што гаворка. Іншыя, што вечна баяліся ўсялякай барацьбы, напалохаліся. „Правільна, але навошта так адкрыта?" – казалі яны шэптам.

У гэтакіх умовах пачыналася на Беларусі вялікая авантура і адпрацаваная афёра расейскай палітыкі, якая атрымала назву „ўнутраная акупацыя". Аб антыбеларускай сутнасьці і сьмяртэльнай небясьпецы гэтай палітыкі было сказана яшчэ ў 1994 годзе падчас кампаніі па выбарах прэзыдэнта.

Пасьля фатальных выбараў у 1994-м мы, беларусы, увесь час, год за годам перажываем страту за стратай, пажынаем плады вынішчальнага рэжыму. Перадавыя нацыянальна-дэмакратычныя сілы пачалі змаганьне з агрэсіўнай уладай, але барацьба была вельмі няроўнай.

У 1996-1997 гг. мной былі зроблены канкрэтныя апісаньні, раскрыта прамаскоўская антынацыянальная сутнасьць новай улады, падрабязна акрэсьлена характарыстыка і мэтодыка ўнутранай акупацыі Беларусі спэцслужбамі і агентурай Расеі. Ім тады шмат што ўдалося, бо Масква мела перад сабой яшчэ асьлепленае грамадзтва і гэтакую ж сьляпую здраду кіроўных вярхоў. Згодна расейскіх плянаў (так званы плян Ельцына 1995 г. і інш.), інкарпарацыя Беларусі павінна была адбывацца хутка. Стаўленьнік (Лукашэнка) ішоў насустрач сямімільнымі крокамі. „Суверенитет – это ерунда", – лапідарна заявіў ён ужо ў 1994 годзе, падпісваў дамовы і „саюзы".

Першы этап „дабраахвотнай" інкарпарацыі Беларусі ў Расею павінен быў адбыцца вясной 1996-га года. Гэтыя пляны маскоўцам моцна папсаваў Беларускі Народны Фронт, арганізаваўшы ў Менску 24 сакавіка 1996 года магутную пратэстную 50-70 тысячную дэманстрацыю супраць здрады і анэксіі. Увесь сьвет убачыў, што дэмагогія пра „інтэграцыю" – гэта афёра, што Беларускі народ пратэстуе. Тым ня менш фармальна неакрэсьленая дамова аб „саюзе" была падпісана.

У лістападзе 1996-га Лукашэнка пры непасрэднай дапамозе кіраўніцтва Расеі зрабіў дзяржаўны антыканстытуцыйны пераварот, ліквідаваў законны парлямант, правёў незаконны рэфэрэндум і адмяніў дзеючую дэмакратычную Канстытуцыю, увёў узамен „канстытуцыю дыктатуры", цалкам узурпаваў уладу ў краіне.

Узрадаваны Ельцын у самым пачатку 1997 года афіцыйна прапанаваў Лукашэнку ўключыць Беларусь у склад Расеі. 6-га сакавіка таго ж года Ельцын выступіў з „пасланьнем" да расейскага парляманту, дзе распавёў, якія вялікія выгады Расеі прынясе захоп (інтэграцыя) Беларусі. У гэты ж час МЗС Расеі паведаміла, што „Беларусь для Расеі ўяўляе велізарны інтэрас", што інкарпарацыя Беларусі „паставіць крыж на ідэі Балта-Чарнаморскага санітарнага кардону", – цынічна напісана ў дакладзе. *(„Независимая газета", – 1997, 25 сакавіка).*

На 1997 год расейцы ўжо плянавалі рэфэрэндум у Расеі і Беларусі па інкарпарацыі нашай краіны. Была падрыхтавана новая дамова аб „злучэньні" дзяржаваў. Засталося зрабіць канчатковы подпіс Ельцыну (які, як потым аказалася, нават толкам не чытаў тэксту дамовы). У рашаючы момант, аднак, гнюсную справу нечакана сапсаваў „інтэгратарам" А.Чубайс, які ўгаварыў цьвярозага Ельцына пачытаць тэкст і растлумачыў яму, што, падпісаўшы яго, ён можа страціць уладу, якую пяроймуць камуністы (тады яны былі сілай ў расейскім парляманце), і Лукашэнка прыйдзе ў Крэмль. Ельцын перапужаўся, і подпіс адклалі.*

Усё ішло б для расейцаў па гладкай дарожцы, як яны думалі: і свой чалавек у Беларусі (Лукашэнка), і людзі там „харошыя", „наіўныя", „нічым не цікавяцца", (можна зь іх вяроўкі віць). Але раптам яны, нарэшце, убачылі, што „свой чалавек" хоча сядзець у Крамлі і кіраваць Расеяй. Пляніроўка дала асечку.

Тое, што Лукашэнку вяла „зацыкленая" ідэя-фікс засесьці ў Крамлі, відаць было адразу няўзброеным вокам (хто ўмее глядзець, вядома). У 1995 годзе Сяргей Навумчык напісаў нават велізарны артыкул *(„Цель")* на рускай мове (спэцыяльна, каб у Маскве чыталі), які быў надрукаваны ў „Свабодзе" (на той час наклад 100 тыс. асобнікаў), дзе падрабязна распавёў пра гэтыя намеры прэзыдэнта Беларусі. Рэакцыя тагачаснага грамадзтва вядомая – нуль рэакцыі (некаторыя яшчэ й хіхікалі, высьмейваючы аўтара, пяром скрыпелі, маўляў, глупства піша).

Выглядае, што гэты комплекс Лукашэнкі быў даволі нечаканым для маскоўскай улады. Завязалася новая калізія, якая яшчэ больш ускладнілася пасьля прыходу да ўлады Пуціна і ўсталяваньня ў Расеі карпаратыўнай улады КГБ. Карпаратыўная дыктатура гэбэ,

* У 1998 годзе пасьля дэфолту ў Расеі і камбінацыі з фінансамі Лукашэнка зноў рынуўся ў абдымкі Ельцына. 25 сьнежня ён зрабіў беларусам „сюрпрыз" – падпісаў зь Ельцыным дэклярацыю аб стварэньні адзінай дзяржавы з Расеяй. Праз год, 8-га сьнежня 1999 г., ужо пад заслону праўленьня Ельцына, абодва камбінатары падпісалі абсалютна няпраўную і незаконную дамову аб стварэньні так званай „саюзнай дзяржавы". Нягледзячы на поўную незаконнасьць зьдзелкі, расейцы адразу стварылі структуры СД, пачалі ўплываць і кантраляваць дзяржаўную палітыку Беларусі. – *(З. П.)*

зьнешне быццам бы не ламаючы канстытуцыі, паказала цуды палітычных падтасовак і выкрутасаў.

Апошні выверт – аб'яўленьне Пуціна „нацыянальным лідэрам" і стварэньне падвойнага дзяржаўнага кіраўніцтва: рэальнага (прэм'ер Пуцін) і падстаўнога, шырмы (прэзыдэнт Медведев). Тут дзьве субардынацыі: фармальная і рэальная (схаваная, гэбоўская). Дзейнічае другая, схаваная субардынацыя, дзе сапраўдную ўладу трымае „супэрпартыя КГБ". Гэта ўсё карцінкі расейскага гэбізму. Гэбэ ў Расеі, як некалі СС у Нямеччыне, ператвараецца ў свайго роду таемны ордэн улады.

* * *

Пасьля адыходу Ельцына і прыходу Пуціна (новага канкурэнта Лукашэнкі ў ягоных марах пра Крэмль) сытуацыя зьмянілася, і некалькі гадоў паміж імі ішоў цынічны гандаль Беларусяй за ўладу ў Расеі. Гандаль суправаджаўся сутычкамі, пагрозамі і лабавымі наскокамі Крамля („шэсьць вобласьцяў", „мухі-катлеты", „газавыя атакі" і г.д.). Масква станавілася ўсё больш агрэсіўнай, а ўнутраная палітыка рэжыму на Беларусі ўсё больш антыбеларускай. Мэтанакіравана і пасьлядоўна вынішчалася ўся беларушчына: школа, літаратура, творчыя арганізацыі, мова, фундамэнтальная навука, гістарычная архітэктура, этнічныя асновы вёскі, беларускія сродкі масавай інфармацыі, беларускія выдавецтвы і, галоўнае, перасьледваліся людзі, носьбіты беларускай культуры і беларускай культурна-нацыянальнай ідэі. Працягваўся таксама непасрэдны акупацыйны працэс – пранікненьне расейска-гэбоўскай агентуры на ключавыя пазыцыі ва ўладзе над нашай краінай. Гэта працэс для Крамля ёсьць палітычна базавы і асноўны. Ён працягваецца ўвесь час, адбываюцца зьмяшчэньні і перамяшчэньні, але вынік застаецца і пашыраецца: ключавыя пазыцыі ўлады ў руках маскоўскай і прамакоўскай агентуры плюс асабісты ўплыў на Лукашэнку.

Масква падтрымала Лукашэнку на „вечнае панаваньне", а прэзыдэнцкія выбары на трэці тэрмін у 2006 годзе – увогуле адбыліся цалкам па маскоўскім сцэнары (у аснове так званы „праект Паўлоўскага" з двума „апазыцыйнымі лідэрамі", якіх стварылі зь нічога, з „пратэстнай планкай" і г.д. – сумна-вядомыя ўжо падзеі).

## НОВАЯ ТАКТЫКА

У самым канцы 2005 года пуцінская Масква сфармавала новую агрэсіўную палітыку (дакладней, тактыку) наступу на Беларусь. Пастаўлена задача глыбокага пранікненьня ў беларускую эканоміку і захопу нацыянальнай маёмасьці, стратэгічна важных галінаў гаспадаркі і прамысловасьці, а таксама фінансавага капіталу і банкаў, сфэры будаўнічага бізнэсу. Істотную ролю тут адыгрываюць маскоўскія крэдыты для рэжыма і адначасны нафта-газавы шантаж з мэтай зрабіць прамакоўскі рэжым на Беларусі вечным даўжнікам, павесіць пагрозу дэфолту і эканамічным прымусам загнаць у „інтэграцыю" з Расеяй (гэта значыць ліквідаваць дзяржаўную незалежнасьць Беларусі і ажыцьцявіць інкарпарацыю). Рэзка ўзмацнілася жорсткасьць рэжыму ў разбурэньні беларускай грамадзянскай супольнасьці, у перасьледзе беларускай моладзі, у вынішчэньні нацыянальнай культуры.

З пачатку 2008 г. дачыненьні з Расеяй і сутнасьць гэтых дачыненьняў сталі цалкам непразрыстыя. Са спатканьняў і нарадаў, якія адбываліся паміж асноўнымі кіроўнымі асобамі рэжымаў, не выходзіла ніякай канкрэтнай інфармацыі, акрамя часам агульных словаў і туманна-лапідарных намёкаў Лукашэнкі. Стала зразумела, што рэжымы рыхтуюцца да парляманцкіх выбараў у Беларусі, на якіх плянуюць рэалізаваць нейкія намеры. Незалежна ад гэтых таемных „намераў", тым больш, гледзячы па абставінах, было зразумела, што ўдзельнічаць у фальсіфікацыйных выбарах людзям ужо даўно было бяссэнсоўна і ў палітычным сэнсе – нельга (каб не падтрымліваць антынацыянальны рэжым). Неабходна было арганізаваць зброю адкрытай барацьбы з рэжымам – байкот.

Вясной Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ заявіла пра неабходнасьць байкоту антыдэмакратычных выбараў. Меркавалася, што абодва рэжымы ў Менску і Маскве традыцыйна плянуюць сумясьціць выбары з рэфэрэндумам аб так званым „канстытуцыйным акце". Хаця відавочна, што Масква ўжо трэці год стасуе іншую доўгатэрміновую тактыку. Тым ня менш недаацэньваць небясьпекі нечаканага зьяўленьня „канстытуцыйнага акту" было нельга. Далейшыя падзеі прыадкрылі заслону паводзінаў і сакрэтнага захаваньня Масквы.

## ВЫБУХ

У ноч на 4-га ліпеня ў Менску адбыўся выбух у людным месцы ў час канцэрту, які глядзелі масы людзей. Паранены 54 чалавекі, зь іх шэсьць цяжка і адзін сьмяртэльна (стан ягоны крытычны ўжо 2-гі месяц). На месцы выбуху адразу апынуўся Лукашэнка, даваў указаньні, пагражаў „апазыцыі" „закруціць шрубкі на галаве".

Назаўтра пачаліся беспадстаўныя арышты людзей, так ці інакш датычных да апазыцыі рэжыму. Неўзабаве арышты людзей, нязгодных з палітыкай улады, пашырыліся татальна па ўсёй Беларусі. Яны працягваюцца ўвесь час і носяць яўна палітычны характар. Потым настаў, здавалася б, поўны абсурд: пачалі масава правяраць усё насельніцтва. Міліцыя і функцыянеры КГБ сталі хадзіць па дамах правяраць дакуманты, задаваць любыя пытаньні, запісваць, словам палохаць людзей, цягнуць іх у пастарункі, патрабаваць адбіткі пальцаў, сьліну і таму падобныя застрашэньні і прыніжэньні. Аб'явілі, што абыйдуць усе кватэры ў амаль двухмільённым Менску. І пайшлі страшыць і правяраць (такая вось імітацыя „сьледзтва").

Адразу пасьля выбуху расейскае ФСБ прапанавала сваю „дапамогу" ў „сьледзтве" і свае „паслугі". Прапанова была прынята. Такім чынам расейскае ФСБ легальна ўключылася ў працу на Беларусі, а менавіта ў кантроль над выбарчай кампаніяй у „палату", якая пачалася з 28 чэрвеня, і ў кантроль над беларускім грамадзтвам. Выкарыстаньне выбуху рэжымам дзеля палітычных мэтаў, дзеля застрашэньня людзей і дзеля ўплыву на выбары ўжо ні ў каго не выклікае сумненьня, настолькі цынічна, адкрыта і груба дзейнічаюць кіроўныя палітычныя авантурысты.

Безумоўна, рэжым напалохала магчымасьць байкоту. Вядома таксама, што настрашыла іх ня толькі наша франтаўская заява пра байкот, але, найперш, гатовасьць паловы беларусаў ня йсьці на падманныя выбары. Рэжым ведае пра гэты настрой у грамадзтве і прымае захады. Але прычына выбуху значна глыбейшая.

Выбух – гэта сігнал. Яму папярэднічала доўгая падрыхтоўка. У Беларусі – жорсткае душэньне беларускай патрыятычнай моладзі, выключэньне гісторыі Беларусі як асобнага прадмета са школьных праграмаў, у пачатку лета – раптоўнае распараджэньне Лукашэнкі аб пераводзе з 1-га верасьня ўсёй сістэмы адукацыі з 12-гадовага зноў на 11-гадовае навучаньне. Гэта разбурэньне ўсяго школьнага вучэбнага працэсу, абніжэньне яго ўзроўню. Такая рэформа ня робіцца адразу, нечакана, зьнянацку, (за няпоўныя тры месяцы),

нават калі б у ёй была патрэба і нават, калі б яна была добрай. Падрыхтоўка яе вельмі працаёмкая справа, вымагае доўгага часу (патрабуе працы ў некалькі гадоў). Гэта вядома нават для не спэцыялістаў. У гэты ж час прымаецца дыскрымінацыйны закон аб беларускім правапісе.

Перад выбухам адбываліся спатканьні і перамовы Лукашэнкі з Пуціным, з „фармаль-прэзыдэнтам" Расеі Мядзьведзевым, з старшынёй ФСБ Расеі А. Бортнікавым. Замест паведамленьня аб зьмесьце размоваў – агульныя абцякальныя словы расейскіх асобаў і нейкае цёмнае бубненьне Лукашэнкі аб тым, што народ будзе неўзабаве „ўражаны" вынікамі рашэньняў і падзеямі. Нарэшце, перад пачаткам выбарчай кампаніі ён даў інтэрв'ю, дзе абурыўся падкопамі Захаду, які, маўляў, радуецца ўсялякім антыўладным выступам у Беларусі і спробам купленых ім асобаў дэстабілізаваць абстаноўку, а каб яшчэ выбухі загучэлі, сказаў ён, то на Захадзе такі б шум паднялі.

Трэба ведаць Лукашэнку, каб адразу зразумець, чаму ён гэта сказаў.

Пазыцыі ў Брусэлі і ў Маскве датычна выбараў у Беларусі за гэты год таксама раптам дзіўным чынам паядналіся. І там, і там спадзяюцца дэмакратычных выбараў ад Лукашэнкі і на легітымізацыю парляманту. Захад дае зразумець, што чакае любога фармальна-дэмакратычнага піску ад рэжыму, каб прызнаць выбары законнымі, і штурхае на выбары сваю (гэта значыць залежную ад яго) так званую „дэмакратычную апазыцыю" ў Беларусі.

Лукашэнка заяўляе, што гэтыя выбары будуць небывала дэмакратычнымі і адначасна жорстка душыць магчымасьці ўдзелу ў выбарах нязгодных з рэжымам людзей, пазбавіў іх прысутнасьці ў выбарчых камісіях, у кантролі над галасаваньнем і г.д., некаторых пазбаўляюць працы, саджаюць у каталажку, палохаюць, пагражаюць і т.п. У давяршэньне Брусэль прызначае кіраваць Місіяй назіральнікаў за выбарамі ў Беларусі нямецкага дыплямата Герта-Генрыха Арэнса, што, як выглядае, ўсьцешыла старшыню лукашэнкаўскага ЦВК Л. Ярмошыну, якая адзначыла „прыемнасьць" немца (маўляў, зь ім „працаваць прыемна").

Тое што Маскве і Брусэлю стала раптам вельмі залежыць, каб легітымізаваць „палатку" – квазіпарлямант рэжымнай улады, – усё гэта (як і прызначэньне нямецкага кіраўніка назіральнай Місіі) паказвае на вялікую працу расейскай дыпляматыі (а, магчыма, і грошай) у структурах Эўразьвязу. Цяпер толькі лянівы ня ведае аб вялікіх расейскіх грошах на Захадзе і аб перанасычанасьці яго рускімі шпіёнамі. Для Вялікабрытаніі гэта ўжо стала нават нейкім сацыяльна-палітычным бедствам, пра што сталі пісаць у газэтах (напрыклад, польская *„Rzeczpospolita", – 2008, 6 ліпеня*).

Аб зацікаўленасьці Масквы легітымізаваць „палатку" ў Беларусі і аб прычыне гэтай зацікаўленасьці я ўжо пісаў нядаўна ў артыкуле ***„Ніхто на фальшывыя выбары!"***. Масква хацела б мець заплечча ў Беларусі для законнага зацьвярджэньня сваіх дзеяньняў па захопу беларускай маёмасьці. Дзеля гэтага ёй трэба мець сваю (прарасейскую, а калі б удалося – рускую) „палату" ў Беларусі. Для іх нічога, што „палата" бясправўная. Лукашэнка таксама будзе (і ўжо ёсьць) цалкам у руках маскоўцаў, і тады ўсяляк усё можна было б павярнуць (тым больш, што Лукашэнка не прызнаны законным прэзыдэнтам у сьвеце, а „палата" будзе прызнанай, яе рашэньні будуць легітымнымі, яна можа мець прадстаўніцтва ў міжнародных арганізацыях, весьці там прапагандысцкую працу і г. д.).

Аднак намеры Крамля-Лубянкі ў Беларусі нашмат больш злавесныя, чым стварэньне заканадаўчага прыкрыцьця эканамічнаму рабаўніцтву. Гэта толькі частка новай праграмы ўнутранай акупацыі Беларусі ўсімі сіламі гэбоўскай Расеі. Цяпер гэты плян ужо дзейнічае і робіцца відочным.

Пасьля выбуху адначасна з увядзеньнем непасрэднага і неабмежаванага кантролю над насельніцтвам тут жа пачаліся кадравыя перастаноўкі на вяршыні аўтарытарнай улады. Адразу заўважу, што непасрэднай сувязі з выбухам тут няма. Выбух ня ёсьць і ня быў рэальнай прычынай для шырокіх кадравых пераменаў ва ўладзе. Ён паслужыў нават не нагодай, а быў, ізноў жа, проста сігналам да дзеяньня і скарыстаны як нагода.

Што ж гэта за перамены? Дзяржсакратар Рады Бясьпекі Віктар Шэйман, беларус, – зьняты з пасады. На яго месца прызначаны **Юры Жадобін, расеец, народжаны не ў Беларусі, расейскі генэрал танкавых войскаў**, былы старшыня КДБ, аўтар *„рэпрэсіўнага сьпісу" 1767 беларусаў*.

На месца старшыні КДБ прызначаны **Вадзім Зайцаў, расеец, народжаны не ў Беларусі, расейскі генэрал без беларускага грамадзянства**.

Кіраўнік Менскага спэцназу палкоўнік Юры Падабед, беларус, – зьняты з пасады.

На яго месца прызначаны **Юры Караеў, расеец асецінскага паходжаньня, народжаны не ў Беларусі**.

Кіраўніком службы аховы Лукашэнкі ёсьць **Андрэй Втюрін, расеец з Пензенскай вобласьці РФ**. Тое ж самае – Міністар унутраных справаў **расеец Уладзімер Навумаў**.

Міністар надзвычайных сытуацыяў, Міністар замежных справаў і (зьвяртаю асаблівую ўвагу) міністар архітэктуры і будаўніцтва **Юры Селязьнёў таксама расейцы**, **якія нарадзіліся не ў Беларусі».**

Цэнтральнай Камісіяй па выбарах і рэфэрэндумах нязьменна кіруе „праверанае" расейка (народжаная ў Расеі ў сям'і вайсковага) Лідзія Ярмошына.

Кіраўнік Адміністрацыі Лукашэнкі Генадзь Нявыглас, беларус, – цяпер зьняты з пасады. На яго месца прызначаны Ўладзімер Макей, беларус, нарадзіўся ў Горадні.

Што ж гэта за выключэньне ў сістэме кадравых пераменаў? А даволі цікавае. У. Макей праходзіў службу ў савецкай арміі ў 1982-1990 гг. у Вюнсдорфе каля Бэрліна. Там жа знаходзіўся штаб войскаў і працавала рэзыдэнтура Першага ўпраўленьня КГБ СССР (зьнешняя разьведка), да якой меў дачыненьне У. Пуцін. Тады ж быў завербаваны і Ў. Макей. Група „лейтэнантаў" зьбірала і апрацоўвала інфармацыю з усёй Эўропы. Макей быў у гэтай групе. У той час, хутчэй за ўсё, адбылося знаёмства Макея і Пуціна. Апошні пра гэта не забыўся і ўспомніў у належным моманце. Па адпаведных зьвестках, У. Макей быў прызначаны да „цела" Лукашэнкі з падачы Масквы, і непасрэдна У. Пуціна.

У нармальных дэмакратычных умовах этнічны аспэкт ва ўладзе ня мае істотнага значэньня. Але нават у дэмакратычнай сістэме ня можа быць так, каб, напрыклад, нейкая нацыянальная група кіравала ўсёй аўтахтоннай нацыяй і дзяржавай, тым больш, каб уладу ажыцьцяўляла рэзыдэнтура чужой дзяржавы. Сама дэмакратычная сістэма як прынцып улады аўтаматычна не дапускае такога збачэнства.

Але ні ў Беларусі, ні ў Расеі няма дэмакратыі. Тут сапраўды збочаныя адносіны ў фармаваньні ўлады. Гэбоўская Масква – краіна, якая базуецца на руска-шавіністычнай вялікадзяржаўнай ідэалёгіі, і яе рэзыдэнты ў Беларусі цудоўна ведаюць, што робяць, калі рыхтуюцца да рашаючай бітвы за Беларусь, – абстаўляюць усе ключавыя пазыцыі ўлады, эканомікі і дзяржаўнага разьвіцьця ня толькі сваімі функцыянерамі, агентурай, але і сваімі расейскімі

людзьмі. Бо ў канфліктнай палітыцы ўзьнікаюць такія паваротныя моманты, калі ўсё можа залежыць ад таго, рускі Іван, ці ня рускі. Расея вядзе прыхаваную вайну на захоп Беларусі, і „рускасьць" мае тут для яе першаступеннае значэньне.

З гледзішча рускай гэбісцкай палітыкі, беларус Макей – гэта чалавек („аб'ект") часовага выкарыстаньня. Пасьля выкананьня і посьпеху апэрацыі (ці шэрагу апэрацыяў) такім нічога высокага ня сьвеціць у расейскай гэбісцкай сістэме. Але часовую лякальную функцыю ў заплянаванай працы яны могуць выканаць.

Выпрацаваныя адносіны да беларусаў і такая этнічная ацэнка „выэлемінацыі" (выключэньня) беларусаў расейцамі вынікае, як я ўжо казаў, з „канфліктнай палітыкі". Рускі гэбізм, які вядзе палітыку, накіраваную на інкарпарацыю, на аншлюс, захоп Беларусі, у канцовым выпадку, зыходзячы з лёгікі элемэнтарнага прагматызму, мусіць разглядаць кожнага беларуса як патэнцыяльнага ворага. Расейцы ня могуць гарантаваць, што на нейкім этапе захопу нейкі беларус ня кінецца на іх і не ашчэрыць зубы. Таму ствараюцца гарантыі выніковасьці дзеяньняў. Усё, як па законах ваеннага часу.

Сытуацыя з Лукашэнкам у гэтым выпадку нагадвае мне становішча зь Ельцыным ў 1999 годзе, калі савецкае КГБ рыхтавалася да поўнага захопу ўлады ў Расеі, і функцыянеры КГБ абклалі Ельцына, як мядзьведзя ў бярлозе, з усіх бакоў, пераняць і захапілі ўсе службы вакол яго (і ахову, і адміністрацыю, і г.д.). І Ельцын неўзабаве пайшоў з Крамля ня хочучы. Яго „вывелі."

Тут, аднак, справа іншая. Расейцы не зьбіраюцца ськідаць Лукашэнку. Яны толькі шматкроць умацоўваюць свой уплыў і кантроль над ім, у адпаведнасьці з разгортваньнем новага пляну.

У канцы ліпеня былі агучаныя чарговыя этапы пасьлявыбуховага графіку. Генэральны сакратар Арганізацыі Дамовы пра калектыўную бясьпеку (АДКБ) расейскі генэрал КГБ Н. Бардзюжа аб'явіў пра стварэньне ў Беларусі новай ваеннай структуры, якая нібыта будзе „адказам" на ўстаноўку шчыта супрацьракетнай абароны ЗША у Чэхіі. У Беларусь расейцы хочуць увесьці ракетныя комплексы „Іскандэр-М", а таксама плянуюць выкарыстаць ужо і так „зьмешаную" авіябазу ў Мачулішчах пад Менскам для разьмяшчэньня сваіх стратэгічных бамбавікоў. Акрамя таго расейцы намерваюцца разьмясьціць на заходніх межах Беларусі „спэцыяльныя падразьдзяленьні" свайго войска.

Што асабліва цікава, – заяўлена, што новая „структура" ўжо ў агульных рысах будзе створана „праз месяц", гэта значыць, у канцы жніўня. Практычна, ніякай рэакцыі зь беларускага боку на гэтую грубую экстраардынарную заяву не было.

Са сказанага вынікае, што пытаньне ўводу расейскіх ракетаў і войскаў на Беларусь таемна і даўно абгаворана з Лукашэнкам. Даўно, бо інакш бы не было паведамленьня, што да канца жніўня ўсё будзе гатова ў агульных рысах. (За месяц такія справы ня робяцца.) Падрыхтоўка йдзе ўжо даўжэзны час. Цяпер жа настаў момант аб'явіць.

Адразу відаць, што амэрыканскі супроцьракетны шчыт тут ні пры чым (бо ад яго няма пагрозы нікому). Шчыт скарыстоўваюць як нагоду, каб увесьці расейскія ракеты і войска на Беларусь. Калі б такая задума Масквы ўдалася, то гэта ўжо абазначала б пачатак рэальнай акупацыі Беларусі. Сытуацыя дакладна нагадвала б схему акупацыі Прыбалтыкі, якая была зроблена расейцамі, згодна Пакту Молатава-Рыбентропа ў 1939-1940 гг. Практычна, ужо на этапе ўводу войска Лукашэнка для Масквы мог бы быць непатрэбны. Але несумненна, што яны будуць выкарыстоўваць яго як можна даўжэй.

У гэты ж самы час, праз дзень пасьля заявы Н. Бардзюжы аб расейскай ваеннай групоўцы, Міністэрства замежных справаў Расеі выступіла са сваёй заявай аб стварэньні так званага „Фэдэральнага агенцтва па справах СНД". Па задумцы, яно павінна „продвигать российское влияние в ближнем зарубежье". Гаворыцца, што ў Расеі цяпер на гэта „есть ресурсы" (нафтадаляры і г.д.). Гэта будзе ўрадавая структура з асобным фінансаваньнем і са статуснай асобай у кіраўніцтве. Агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю новага агенцтва „будет осуществлять глава государства" (г. зн. прэзыдэнт Расеі). Нам трэба „дапамагаць" краінам СНД „вырашаць іхныя праблемы пад эгідай Расеі", – кажуць прастадушна расейскія чыноўнікі *(Коммерсант, – 2008, 31 ліпеня)*.

Гэтае агенцтва плянуе даваць стыпендыі рускім, завозіць у Беларусь і ў беларускія бібліятэкі рускамоўную літаратуру, „працаваць" зь няўрадавымі арганізацыямі, фінансаваць рускамоўныя праекты і г.д. Словам, чым будзе займацца гэтая структура гэбоўскай Расеі ў Беларусі, – зразумела. Тым, чым умее: ствараць агентуру, рэзідэнтуру, пятую калёну, „рускость", „православность", штурхаць папсу ды какошнікі.

Сымптаматычна, што ўсё гэта, як паведамлена, таксама быццам бы будзе вырашана на працягу жніўня. На пачатак верасьня структуру абяцаюць стварыць. Такія вось звонкія заявы і вялікія гэбоўскія пляны, якія, напэўна, будуць яшчэ шматкроць зьмяняцца, пераносіцца, удакладняцца, але стан розумаў і накірунак расейскай палітыкі выразна відаць.

* * *

31-га ліпеня ў рэжымным друку (дадатак „Саюз" да „Советской Белоруссии") зьмясьцілі матэрыялы аб забудове цэнтра Менска (Юбілейны пляц) вялізнымі „хмарачосамі".

Жудаснае ўражаньне. І ня толькі ад бяздарнасьці праекту і гмахаў, колькі ад усьведамленьня пагрозы сацыяльна-архітэктурнаму існаваньню беларускай сталіцы і ад разуменьня поўнай непатрэбшчыны таго, што заплянавана. У такім горадзе людзям стане немагчыма жыць. Працэсы незапатрабаванага будаўніцтва і праектанцтва пачаліся нядаўна, неўзабаве пасьля прыняцьця Масквой новай акупацыйнай палітыкі. Разбудоўваюцца цэлыя раёны з элітным жыльлём, якое ня змогуць купіць цяперашнія звычайныя беларусы (жыльлё вельмі дарагое). Будуе яго мільярдэрскі клан мэра Масквы Лужкова (жонка мэра Батурына – галоўны інвэстар).

Будуюцца дарагія офісныя гмахі, плянуюцца высачэнныя хмарачосы, дзелавы „Менск-сіці" на месцы гістарычнага Менска (плянуюць яшчэ адзін у раёне аэрапорту). Каму гэта ўсё? У Беларусі цяпер няма патрэбы ў дарагіх офісных хмарачосах. Хто там будзе іх загаспадарваць? Для каго гэта ўсё робіцца?

Адказ ляжыць на паверхні. Гэта робіцца не для беларусаў, а для тых, хто прыйдзе сюды пасьля захопу беларускай маёмасьці і, фактычна, усёй нашай краіны знутры. Расейцы будуюць сабе. Рускі крымінальна-алігархічны капітал тут, у Менску, з прыцэлам на посьпех расейскай апэрацыі ў Беларусі інвэстуе сам сябе.

У хмарачосах на Юбілейным пляцы, напрыклад, заплянаваныя ня толькі офісы, але і гатэлі, рэстараны, „супэрмаркеты", крамы, іграявыя аб'екты, таталізатары, „трэвал-агенцтвы", дваццаць казіно і г.д. – у асноўным невытворчы, нізкі, азартны і крымінальны бізнэс, які сьцягне ў Менск крымінальныя адкіды грамадзтва. Жыць у такім горадзе будзе немагчыма нармальным людзям, дыскамфортна ў антыкультурным асяроддзі і не па кішэні. Менск стане чужым, непазнавальна пераменіцца ў

расейскі горад, дзе беларусам будзе адведзена роля абслугі. (Канцэнтрацыя казіно, між іншым, абавязкова прывядзе да пашырэньня псіхічнай залежнасьці людзей ад азарту, да так званай хваробы „іграка”, якая стаіць побач з наркаманіяй і алькагалізмам і, практычна, невылечная.)

У рэчышчы гэтага расейскага будаўніцтва лягічна існуюць і расейскія ідэі ўвесьці для расейцаў РФ і беларусаў падвойнае грамадзянства на Беларусі (гэта, маўляў, прадугледжвае „інтэграцыя”). Тады кітайскі прынцып дэмаграфічнай акупацыі (выпрабаваны на Цібеце) стаўся б для расейцаў рэальнасьцю, а для нас – няшчасьцем (на міжнародныя законы тут ужо даўно ніхто не глядзіць). Дарэчы, ужо цяпер грамадзяне РФ нароўні з грамадзянамі Беларусі могуць набываць беларускую нерухомасьць. Гэта толькі пачатак.

Дзеля выкананьня ролі „абслугі” расейскіх алігархаў, банкіраў, сутэнёраў, гэбістаў і крымінальнікаў ня трэба вышэйшай адукацыі. Таму адукацыйны статус беларускага насельніцтва (тое, чым Беларусь вылучалася сярод усіх краінаў у СССР) будзе і надалей катастрафічна паніжацца. Нішчыцелі Беларусі, нават самыя цёмныя, самыя неадукаваныя, заўсёды выдатна адчувалі, як трэба гробіць народ. За Сталіным пасьля 7-га кляса сярэдняй школы было ўведзенае платнае навучаньне (каб паставіць заслон перад вышэйшай адукацыяй), базавай адукацыяй лічылася сямігодка, і за сем клясаў выдаваўся атэстат. Расейскім будаўнікам камунізму патрэбныя былі токары, сьлесары, фрэзэроўшчыкі; квітнелі „ФЗО” („Фабрично-заводское обучение”), а не ўнівэрсітэты.

У цяперашняй Расеі засталася старая імпэрская ідэалёгія, але ўжо згрупавалася іншае грамадзтва, ўсплылі іншыя „можныя сьвету гэтага”, і на нас насоўваецца іншая небясьпека з Усходу, што праз засланых сваіх „казачкоў” рыхтуе цяпер сабе пляцоўку ў Беларусі.

* * *

Шмат хто схільны вінаваціць ва ўсім усёдазволенасьць, неадукаванасьць і цемру дыктатара, бачыць ў гэтым, напрыклад, прычыну таго разбурэньня, што адбываецца ў беларускай школе. Гэта памылка. Тут ня броўнаўскі рух, тут сістэма, тут прадуманая палітыка псаваньня беларускай школы і адукацыі, робленая на заказ. Гэта не капрыз – узяў і за адзін дзень загадам адмяніў 12-годку. Гэта выкананьне прадуманага пляну, падрыхтаванага нішчыцелямі беларускай нацыі. Вынікі гэтага ўдару па школе будуць імгненныя. Мы страцім (рэальна, ужо ў гэтым годзе) трыццаць тысячаў настаўнікаў і не адновім у бліжэйшай будучыні. На пэдагагічныя спэцыяльнасьці ВНУ ужо недабор. Адсутнасьць конкурсу – немагчымасьць выбару лепшых.

Беларусь выключаецца з эўрапейскай сістэмы адукацыі, ўвальваецца ў адсталасьць, у аўтсайдэры (тэставаньне абітурыентаў у гэтым годзе ўжо паказала гэта). На абніжэньне ўзроўню адукацыі беларускай асобы накіраваныя таксама маніпуляцыі з выкладаньнем гісторыі, пасьлядоўнае зачыненьне беларускіх школаў, спаленьне беларускіх падручнікаў, зачыненьне беларускіх дзіцячых і юнацкіх выдавецтваў, дзіцячых часопісаў і г.д. Нішчэньне школы йдзе пакетам, разам з разбурэньнем сістэмы беларускай мовы, з заканадаўчым прыняцьцём рэпрэсіўнага правапісу.

Усё гэта прыдумана і зроблена ўладай і людзьмі, якія беларускай мовай не валодаюць і не карыстаюцца, і накіравана на спыненьне стыхійных працэсаў росту папулярнасьці мовы, на дэстабілізацыю афіцыйнага напісаньня, на заслон беларускай мове ў грамадзтве і культурнай сфэры, урэшце – на моўнае вынішчэньне беларускай культуры.

Цяжка ўявіць, каб у суверэннай краіне мог узьнікнуць такі цынічны, дыскрымінацыйны і паранойна-крымінальны закон, які прадугледжвае судовае і адміністрацыйнае пакараньне за артаграфічныя памылкі ў прыдуманым русіфікатарамі „новым правапісе”. (Да рускага правапісу гэта не адносіцца. Таму зразумела, у якую мову штурхаюць цемрашалы людзей, – у тую, дзе за памылку на пісьме не дадуць штраф, не зьняважаць і ня звольняць з працы.)

Гэты ўнікальны па сваёй нізасьці, цынізму і непавазе да беларусаў выпадак якраз наглядна паказвае, што ***мы, беларусы, хоць фармальна валодаем яшчэ зьнешнім, міжнародным, дзяржаўным суверэнітэтам, але даўно ўжо ня маем суверэнітэту ўнутранага (з таго часу, як адбылася ўнутраная акупацыя Беларусі Масквой і ўсё беларускае стала ператварацца ў нішто).***

Нядаўна мне прыйшлося пісаць, што трэба рабіць, каб неяк ўратаваць мову ў становішчы дыктатуры і антыбеларускай палітыкі („Сістэмнае разбурэньне мовы”). Але гэта парады на чорны варыянт падзеяў, на дыктатуру, на часовае статус-кво рэжыму. Зразумела, што ***калі ўлада цемры і прамаскоўскі рэжым застануцца трываць далей, кардынальна ўратаваць мову, культуру і здаровую нацыю ня ўдасца. Рэжым мусіць быць ліквідаваны, антыбеларуская палітыка спыненая.***

У гэтым жа рэчышчы і ў гэты ж час (пачынаючы з „новай” акупацыйнай палітыкі) плянуецца будаўніцтва атамнай электрастанцыі на Беларусі па расейскім праекце (удаваньне рэжыму, што робіцца нейкі выбар паміж праектамі, выклікае толькі усьмешку ад няўклюднай гульні). ***Пабудова расейскай АЭС на Беларусі ёсьць стратэгічны інтэрас Расеі ў пляне поўнага і манапольнага кантролю над беларускай энэргетыкай*** (расейцы самы пра гэта кажуць), у пляне, урэшце, інтэграцыйнай акупацыі як галоўнай стратэгіі крамлёўцаў на захадзе ў дачыненьні да нашай краіны.

Усе гэтыя, здавалася б, разрозьненыя факты, падзеі, працэсы ёсьць рэчышчам адзінага генэральнага пляну, сэнс якога – падпарадкаваньне і захоп Беларусі гэбоўскай Расеяй. Дарога адчынена ўжо даўно. У выніку (як напісаў адзін беларускі патрыёт) мы раствараемся ў чужасьці, як соль у вадзе.

## ВЫСНОВЫ

Цяпер глянем яшчэ раз на выбух у Менску. З гледзішча ўсёй сытуацыі, як ўжо адзначана, – гэта была сігнальная ракета да пачатку пэўных дзеяньняў (да заплянаванай атакі). Яго падрыхтавалі і зрабілі тыя, для каго ён паслужыў сігналам у эскаляцыі рэпрэсіяў і акупацыйнай палітыкі ў рэчышчы выбарчай кампаніі і ўсяго маскоўскага пляну супраць Беларусі.

Я ўжо пісаў раней, што выбух быў падрыхтаваны і выкананы высокімі прафэсіяналамі і не ў „малочным пакеце”. Удар меў накіраванае, нізавое, веернае дзеяньне, разьлічаны на паражэньне шрапнэльлю (шрубкі, болцікі) людзей у ніжнюю частку цела. На месцы выбуху добра відаць круглая выбуховая ямка. З аднаго боку ямкі – кучка выкінутага грунту, з другога – відаць веерныя сьляды шрапнэлі, накіраванай у адзін бок. Ювелірнае выкананьне. Грунт перад лункай з аднаго боку кімсьці пасьля выбуху акуратна затаптаны.

У гэты ж дзень месца выбуху ліквідавалі, старанна заклалі дзярном і прычасалі траву. Так замятаюць сьляды, а не наводзяць парадак.

У схаванай агрэсіі Расеі вельмі небясьпечнымі ёсьць вайсковыя падрыхтаваньні. Пляны і намеры Масквы ўвесьці свае

ракеты на Беларусь, спэцыяльныя вайсковыя падразьдзяленьні і стварыць тут мілітарную групоўку ёсьць адлюстраваньнем пляну завяршальнай стадыі акупацыі Беларусі. Калі б удалося выбарчымі маніпуляцыямі захапіць парлямант, забраць у свае рукі і пераўтварыць сталіцу Менск, захапіць прадпрыемствы і нацыянальную маёмасьць, ліквідаваць (ці хаця б ізаляваць) 1767 беларусаў жадобінскага сьпісу (пытаньне аб беларускім войску, міліцыі, КГБ, практычна, ужо не стаіць – усім камандуюць расейскія генэралы) – тады працэсы маглі б набыць незваротны кшталт, што абазначала б нацыянальную катастрофу.

## ГЁБЕЛЬСАЎШЧЫНА

Пра рэальнасьць і небясьпеку маскоўскіх агрэсіўна-авантурных плянаў, якія выконваюцца ў нас на вачах, сьведчаць ня толькі факты, падзеі, становішча і аналіз гэтага становішча, але таксама сымптаматычныя паводзіны Масквы дзеля забесьпячэньня інфармацыйнага прыкрыцьця сваёй агрэсіўнай і захопніцкай палітыкі ў Беларусі.

Дзесьці ў сакавіку гэтага года (новы акупацыйны плян ужо быў у дзеяньні) зьявілася ў друку такое жаўтаватае, на першы погляд, паведамленьне, што нейкі лёрд Бэл, спэцыяліст па рэклямна-інфармацыйных тэхналёгіях, будзе запрошаны ў Беларусь, каб палепшыць „імідж" Лукашэнкі. Экзатычнае паведамленьне ажывіла запалоханае з усіх бакоў журналісцкае асяроддзе, пахіхікалі крыху і супакоіліся. Тым часам падзея ня простая, і палітыкі, якія разумеюцца на працэсах, гэта адзначылі.

26 сакавіка ў Сеціве (радыё „Свабода") зьявіўся надзвычай грунтоўны, інфармацыйна насычаны і дакладны па палітычных акцэнтах артыкул Пётры Садоўскага *„У павуціне дарагога піяру"*, дзе ўсебакова, на фактах паказана дзейнасьць гэтага сьпечанага брытанскай сыстэмай лёрда з плебейскімі замашкамі. „Павук" (такая яго мянушка ў Вялікабрытаніі) зьяўляецца там, дзе пахне смаленым і круцяцца вялікія грошы. За грошы ён здольны на шмат што, відаць, узяўся б адбельваць нават д'ябла (ва ўсялякім разе Піначэта спрабаваў адбельваць, не задарма, вядома). „Доктар-Павук. Ён рухаецца туды, дзе крыза, дзе скандал, дзе цёмныя справы, – піша Пётра Садоўскі, – але заўсёды туды, дзе пахне вялікімі грашыма".

Выснова аўтара вельмі дакладная. (У дужках скажу, мяне заўсёды радуе, калі нашы франтаўцы, дэпутаты Апазыцыі БНФ легендарнага ВС 12-га скліканьня, выдаюць, як палякі кажуць, „клясу" – гэта значыць узровень). „Думаю, – піша П. Садоўскі, – што візіт сп. Бэла ў Беларусь рыхтаваўся ня проста праз амбасаду. Папрацавалі тут больш высокія пасярэднікі... Галоўная бяда – у дызарыентацыі беларускай грамадзкай супольнасьці. Гэтая дызарыентацыя ўжо праглядаецца і ва ўрадавых колах, і ў шэрагах тых, хто лічыць сябе апазыцыянерам".

Дакладна. У „імідж" і „піяр" для Лукашэнкі адразу ж ня верылася. Засьвяціўшыся, лёрд Бэл зьнік. Пагуляўшы ў хованкі з паўгода, ён, як і трэба было чакаць, аб'явіўся пасьля выбуху і пасьля пэўных расейскіх заяваў, пра якія я тут узгадаў. У пачатку жніўня сродкі масавай інфармацыі паведамілі: „Брытанскі піяр-мэнэджэр Цімаці Бэл падпісаў кантракт зь беларускім урадам. Ён бярэцца за паляпшэньне іміджу краіны ў сьвеце". Вось гэта тое, што было ад пачатку. Чакалі толькі сігналу. Сігнал прагрукатаў, і роўна праз месяц зьявіўся „лёрд" у сапраўднай іпастасі.

У інтэрв'ю замежным СМІ Цімаці Бэл пахваліўся, што плянуе зарабіць на кантракце мільёны. Не сумняваюся, „мільёнаў" тут лічыць ня будуць. Успамінаецца Ганс Вік, які ўсяго за паўтары мільёны даляраў (брусэльскіх) у супрацоўніцтве з КГБ нарабіў столькі бяды на Беларусі. Гэтаму Масква заплоціць, відаць, болей. І шкоды ад яго можа стацца таксама нямала.

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

Мне прыходзілася чытаць лекцыю на гэтую тэму беларусам Нью-Ёрку (можна набраць <**Зянон Пазьняк 2008.08.03**> па пошукавай сістэме „Google" і ўбачыць відэа). Не перастаю зьдзіўляцца нашай псіхалёгіі. Аналіз фактаў, прыведзеных у лекцыі, выклікаў здранцьвеньне і нешта накшталт упадка духу. Відаць, трэба ведаць асаблівасьці нацыянальнай мэнтальнасьці і не распавядаць „страшныя казкі". „Пусть лучше сказка станет былью."

Таму адразу адзначаю, што хоць маскоўскія пляны складаюцца, як па нотах, але часта выконваюцца „по-русски" (гэта значыць, „как всегда"). Ужо ў гэтым ёсьць пэўны настраёвы паратунак для тых, хто нічога ня будзе рабіць.

Але дзейнічаць трэба. Трэба змагацца, супраціўляцца агрэсіі ўсімі спосабамі і сіламі. Ня думаю, што ўсё расейцам удасца, але шкоды нам яны яшчэ наробяць.

Гледзячы генэральна, агулам на ўсю сытуацыю, разам і паасобку, – разумеем, што нідзе, ні ў чым мы сур'ёзна нічога не паправім (хіба пратрываем на час), не ўратуем, не адновім, не абаронім і ня сьцвердзім, пакуль Беларусяй будзе кіраваць агрэсіўная цемра, Лукашэнка і прамаскоўскі акупацыйны рэжым. Мы ўвесь час сьціскаемся, малеем і са стратай сучаснай беларускай школы, мовы, адукацыі і інтэлекту станем падаць у геамэтрычнай прагрэсіі. Узурпатар абавязкова павінен адыйсьці ад улады, на якую ўжо даўно ня мае ніякага легальнага права. Адыйсьці хутка.

Адзінай рэальнай перашкодай ягонаму хуткаму адыходу, якая павінна стрымліваць усіх, – гэта негатовасьць забесьпячэньня перамогі нацыянальнай беларускай альтэрнатывы. ***Перамена ўлады без станоўчай нацыянальнай альтэрнатывы можа прывесьці да нечаканых і дрэнных вынікаў.*** Бо Масква прыдумвае сваю альтэрнатыву (што і было, напрыклад, на ўсіх прэзыдэнцкіх выбарах). Але трэба ствараць гатовасьць для беларускай перамогі, рыхтавацца да яе, інакш змаганьне ня мае сэнсу. Барацьба супраць рэжыму ня можа спыняцца, але дзеля перамогі і дзеля Беларусі яна мусіць быць беларускай. Ня могуць на нашым палітычным Беларускім полі швэндацца дзеячы пад чужымі сьцягамі і клікаць людзей то ў хваробу, то ў Эўропу. Нам перад сабой перш за ўсё нельга выглядаць грамадзтвам балваноў (як нас ужо назвалі пасьля ганебнай „парцянкі").

***Генэральнай задачай для грамадзтва зьяўляецца арганізацыя стрымліваючых чыньнікаў і правалу новага маскоўскага пляну.*** Падкрэсьліваю, гэта агульнанацыянальная задача, і яе ня так проста ажыцьцявіць без удзелу (хаця б частковага) розных групаў насельніцтва, у тым ліку чыноўнікаў і ўпраўленцаў. Небясьпека пагражае ўсім.

Канкрэтная задача нумар 1. Нельга дапусьціць, каб рэжым і Масква, пры дапамозе апартуністаў з Захаду, пракруцілі свой сцэнар з недэмакратычнымі выбарамі і легітымізавалі б фальшывы парлямант, да таго ж (што вельмі верагодна) яшчэ й акрэслена прарасейскі. Адзіны мэтад супраціўленьня, які застаўся цяпер у людзей і які можа паўплываць на рэжым, – гэта байкот галасаваньня, адмаўленьне галасаваць.

Тым часам людзей, задзейнічаных у сістэме выбарчай фальсіфікацыі, зрушыць, здаецца, нічым немагчыма (нават сьмерцю і канцом сьвету). Трэба ведаць іх асобую прыроду адданасьці любой уладзе і асаблівы комплекс службізму.

Тым ня менш, і тут патрэбная інфармацыйная праца. Бо бываюць і выключэньні.

Вопыт і практыка паказалі таксама, што, фактычна, цалкам безнадзейна тлумачыць сытуацыю пра байкот і спадзявацца на здаровы сэнс сярод так званай „аб'яднанай" ці падстаўной „апазыцыі" – рэдкаснае спалучэньне поўнай палітычнай бяздарнасьці і маральнай безадказнасьці. Але пры пэўных умовах і тут магчымыя павароты.

Сіла беларускага супраціўленьня можа быць рэалізавана ў людзях, якія глыбока зразумелі сутнасьць і непахіснасьць выбарчага ашуканства, зададзенасьць фальсіфікацыйнай машыны. Такіх людзей, што не жадаюць больш ісьці галасаваць, вельмі шмат, і гэта цяпер галоўны вызвольны рэсурс. Байкот – гэта цяжэй, чым галасаваньне, гэта – адкрытая барацьба з рэжымам. Трэба шмат зрабіць, каб настроі ператварыліся ў дзеяньне, і народ рашыўся б на змаганьне са злом (як некалі было ў 90 – х).



(Фота з Сеціва)

99. Месца выбуху 4 ліпеня 2008.

Сярод канкрэтных задачаў, якія б трэба было адразу зрабіць, – гэта вытурыць лёрда Бэла зь Беларусі. Справа, на якую яго наняла Масква, шкодная, амаральная і антыбеларуская. Мэтады ўзьдзеяньня на гэтага цёмнага чалавека могуць быць розныя. Важна, каб яго адсюль добра папрасілі і каб ён выкаціўся зь Беларусі як найхутчэй.

Ваенны напад расейцаў на Грузію, рускія правакацыі ў Асеціі і Абхазіі ізноў, у каторы тысячны раз паказалі ўсяму сьвету, што гэта за краіна і якая там улада. Расейская вайна на Каўказе сьведчыць: тое, што гэбісцкая Масква вытварала ў Чачэніі, Прыднястроўі, раней у Прыбалтыцы, Аўганістане, Сярэдняй Азіі, цяпер у Грузіі, – усё гэта яна здольная зрабіць і ў нас на Беларусі, і нават, як бачым, рыхтуецца да гэтага. Аднак ведайма: мы моцна пацярпелі ў гісторыі за нашу веліч, але шмат хто з акупантаў зламаў тут сабе шыю. Скруціць сабе карак (калі нарвецца) і гэбісцкая Маскоўшчына.

*8 жніўня 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ВЫБАРЫ З УДЗЕЛАМ ЛУБЯНКІ

***(Ліст сябрам Беларускага Народнага Фронту І Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ. 16 жніўня 2008 г.)***

Паважаныя сябры. Па маіх назіраньнях, наша ціхая мэтанакіраваная праца на працягу паўгода па падрыхтоўцы байкоту выбараў і няўдзелу людзей у галасаваньні дае плён. Павялічылася колькасьць выбаршчыкаў, якія разумеюць зьмест выбарчага ашуканства і не зьбіраюцца ісьці галасаваць.

Наш лёзунг: ***„Ніхто на фальшывыя выбары!" „Усе за байкот!"***

Пачалася сумяціца у шэрагах падстаўной „апазыцыі". Рэжым так усіх прыціснуў, так патаптаўся па выбарцах (да кантролю за падлікам галасоў, акрамя рэжымных людзей, практычна, ніхто не дапушчаны), што і службовыя „апазыцыянеры" раптам залементавалі пра байкот. (Думаю, што яны ўжо атрымалі свае абяцаныя па 5-10 тысячаў (маўляў, „жыць жа трэба") і асьмялелі. Але й гэта добра, хай сьмялеюць хоць так.

Хаця зразумела, што аматары ў дваццаты раз ісьці на падманнае галасаваньне, калі стануць спрачацца наконт байкоту, адразу ж расколюцца (хто ў лес, хто па дровы), і ўсё стане вельмі добра відаць. Толькі ня ў іх справа. Сваю тэхнічную ролю у гэтай выбарчай кампаніі яны ўжо выканалі – засьведчылі яе поўную недэмакратычнасьць. Цяпер усім стала бачна, што застаўся толькі байкот. Вельмі важна, каб рашыўся народ, каб людзі пераадолелі інэрцыю і сталі б у цьвёрдую пазыцыю. Таму адпаведную працу трэба весьці якраз цяпер, пасьлядоўна і інтэнсіўна.

Мы мусім памятаць пра надзвычайную адказнасьць усіх людзей у цяперашняй выбарчай кампаніі, якой, практычна, ужо кіруе не Лукашэнка. Можа, ён што і зразумеў сваім калгасным розумам пасьля нападу расейцаў на Грузію (што яго чакае з боку Масквы), але калі і зразумеў, то пазнавата.

Пачаўся небясьпечны этап ва ўнутранай расейскай акупацыі нашай краіны – намер сфармаваць спэцыяльна-прарасейскі парлямант у Беларусі.

Тым часам (адзначу яшчэ раз) цяперашнюю выбарчую кампанію рэжым праводзіць настолькі не дэмакратычна, груба, жорстка і бессаромна, робячы стаўку на фальсіфікацыю, што непрызнаньне гэтых выбараў беларускай і міжнароднай супольнасьцю і байкот галасаваньня вынікаюць самы сабой з усяго таго, што адбываецца.
Аднак ня трэба ўсё ж мець ілюзіяў, што цяперашняя Эўропа не заплюшчыць на гэта вочы. Патрэбна вялікая праца па кантролю і дакладнай фіксацыі ўсіх працэсаў. Нам (і ня толькі нам – усяму палітычна актыўнаму грамадзтву) неабходна наладзіць кантроль над працэсамі ў дзень галасаваньня і фіксацыю падзей. Мы ня можам спадзявацца на заходніх „прысутнікаў". Трэба будзе вельмі ўважліва (і па-новаму) працаваць самым.

Зразумела, што па новым акупацыйным пляне Пуціна-Мядзьведзева (які мы абмяркоўвалі нядаўна на Сойме і пра што паведамлялі ў СМІ), выбары на Беларусі і „камплектацыю" парляманту „плініроўшчыкі" будуць старацца праводзіць разам з намерам ўвесьці рускія войскі і ракеты на Беларусь і разам з падрыхтоўкай дзейнасьці на Беларусі расейскага так званага „Фэдэральнага агенцтва па справах СНД" (стварэньне легальнай рускай агентуры і падтрымка русіфікацыі на Беларусі).

Дакладна так яно і адбываецца. Эмацыйная пасьпешнасьць, зь якой Польшча нядаўна (пасьля расейскай агрэсіі на Грузію) пагадзілася на ўсталяваньне амэрыканскай СПА на сваёй

тэрыторыі, тут жа выкарыстала Масква супраць Беларусі. 19–га жніўня маскоўцы клічуць Лукашэнку на размову аб уводзе сваіх ракетаў і войскаў на Беларусь (тое, што ў канцы ліпеня агучыў генэрал Н. Бардзюжа). (Які абсурд – уся нацыя ў закладніках аднаго калгасьніка!) Тым часам зразумела, што калі Лукашэнка пагодзіцца на ўвод расейскіх войскаў з ракетамі, то дні яго будуць ужо палічаны (але і беларускай незалежнасьці пагроза).

Па трэцяй пазыцыі. Літаральна сёньня стала вядома, што выпусьцілі з турмы А. Казуліна. Пасьля таго, як у сацыял-дэмакратаў верх узяло беларускае крыло і Казуліна ня выбралі на старшыню партыі, стала зразумела, што рэжым мусіць неяк на гэта зрэагаваць, „адсідка" Казуліна страціла сэнс (ды-й перад Эўразьвязам можна паказацца, палітгандаль справа сур'ёзная). У гэтых умовах ФСБ, скарыстаўшы Казуліна, можа ўнесьці прамаскоўскую сумяціцу ў шэрагі і без таго маленькіх і бездапаможных беларускіх партыяў. Галоўнае для рэжыму – ня даць аб'яднацца ўсім на нацыянальным грунце, на беларускай ідэі.

З фармальнага боку, вызваленьне Казуліна павялічвае шанцы Масквы на легітымізацыю „палаты" у Беларусі і прызнаньне Захадам фальшывых выбараў за дэмакратычныя.

У гэтай сувязі нагадаю яшчэ раз важнае палажэньне нашага ранейшага абмеркаваньня. З паяўленьнем новага праекту акупацыі Беларусі тактыка так званай „інтэграцыі" скончылася. Лукашэнка больш для Масквы не суб'ект палітыкі (зь якім гуляюць, каб зрабіць анэксію пад выглядам аб'яднаньня), а „аб'ект" накладваньня захопніцкага пляну. Плянуецца проста павольны захоп. Зьмяніліся дачыненьні і нават рыторыка. На пэўным этапе гэтага пляну ад Лукашэнкі могуць пазбавіцца. Магчыма, цалкам ў рэчышчы паранойнай эўра-нямецкай палітыкі „дапамогі Расеі ў дэмакратыі для Беларусі". Новая дэмакратычная марыянетка Масквы ва ўладзе на Беларусі (калі б такое ім удалося) будзе воплескамі сустрэта на Захадзе.

Палітычная атака Расеі на Беларусь пачала распрацоўвацца Масквой у пачатку гэтага года разам з плянам „бліц-крыга" супраць Грузіі і зьмяшчэньнем Саакашвілі (які гэты плян маскоўцам і паламаў). У кантэксьце гэтага антыбеларускага пляну (у любых яго варыянтах) аніякіх пэрспэктываў асабіста Лукашэнку ў любых яго дачыненьнях з Расеяй больш ня сьвеціць. У любых варыянтах ягоную „вар'яцкую" кар'еру чакае канец. Сумняваюся, ці ён гэта ўжо зразумеў. Тэарэтычна яму ёсьць толькі адзін выхад (які яго мог бы, магчыма, неяк уратаваць) – гэта рэзкі разварот да беларускай нацыянальнай палітыкі і на Захад. Але гэтыя аспэкты мы нават не разглядаем, бо, практычна, Лукашэнка ня здольны на такое ўжо па самой сваёй унікальнай беларусафобскай прыродзе.

Такім чынам да ўсяго, што адбываецца (і да ўсяго, што плянуецца) трэба адносіцца вельмі ўважліва, улічваць таксама жнівеньскую расслабленасьць грамадзтва. На нашыя (слабыя цяпер) фронтаўскія плечы кладзецца вялікая адказнасьць. (Аб канкрэтных дзеяньнях – у наступным лісьце. Тут – тлумачэньне становішча).

Што да выбараў, то задача зразумелая – выкрыцьцё маніпуляцыяў, сьведчаньне пра недэмакратычнасьць і арганізацыя байкоту. Цяпер ёсьць магчымасьць палітычна перамагчы чарговую лубянскую атаку на Беларусь. Мы мусім гэта зрабіць, памятаючы, што палітычная параза беларусаў на гэтых выбарах яшчэ шырэй адчыніла б шлях Маскве для захопу і ціску на нашу краіну.

Мы разумеем гэта, і нельга таго ім дазволіць.

*16 жніўня 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („ Беларускія Ведамасьці", – 2008, №2 (64).*

# СУТНАСЬЦЬ ВЫБАРАЎ

***(Ліст сябрам Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

Выбарчую кампанію ў парлямант рэжым на Беларусі праводзіць сёлета крайне недэмакратычнымі мэтадамі, яшчэ больш жорсткімі і бессаромнымі, чым раней. Але адначасна шмат адкуль ужо цяпер йдзе ня менш бессаромная прапаганда за тое, каб прызнаць гэтыя антыдэмакратычныя выбары за дэмакратычныя і тым самым легітымізаваць новаабраную бяспраўную „палату".

Масква, якая кантралюе асноўныя галіны ўлады на Беларусі, зацікаўлена ў легітымнасьці „палаты", каб фармальна замацаваць захоп беларускай маёмасьці, зрабіць расейцаў РФ грамадзянамі Беларусі і ўвесьці расейскія ракеты і войскі на Беларусь.

8-га верасьня гэтага года Лукашэнка на канфэрэнцыі для прэсы даў выразна зразумець, што ўсе гэтыя пытаньні, гэтак жа, як і прызнаньне Паўднёвай Асэціі, будуць вырашацца дэпутатамі пасьля выбараў новага парляманту.

Лукашэнка хацеў бы мець легальны парлямант, каб перакласьці на яго частку адказнасьці і ўзаконіць рэжым у міжнародным маштабе.

Эўразьвяз, верны падвойным стандартам у палітыцы, хацеў бы прызнаць недэмакратычныя выбары за дэмакратычныя, каб павярнуць лукашысцкі рэжым да сябе тварам, наіўна думаючы дробнымі падачкамі разьвярнуць яго ў заходнім кірунку.

Падстаўная апазыцыя падтрымлівае пазыцыю Эўразьвязу (немцаў, Брусэля і г.д.) пры ўмове аплаты грашыма. Імітатары ў палітыцы ніколі не зыходзілі з нацыянальных інтарэсаў, а толькі ўлічвалі каньюнктуру Захаду, прапановы Масквы, думку АБСЭ і падладжваліся пад іх (ізноў жа, за аплату і за адпаведную ўзнагароду за паводзіны).

Тым часам ***галоўны нацыянальны інтэрас беларусаў у гэтай сытуацыі ёсьць міжнароднае непрызнаньне антыдэмакратычных выбараў.*** Ад прызнаньня ці непрызнаньня будзе залежыць далейшы ход унутранай акупацыі Беларусі, увядзеньне расейскіх ракетаў, войска, захоп беларускай маёмасьці, зьмяненьне дэмаграфічнага балянсу краіны і г.д. Усе іншыя выбарчыя апэрацыі (кандыдаваньне, агітацыя, пропуск двух-трох прамаскоўскіх „дэмакратаў" у „палату" і г.д.) – усё гэта ня мае ніякага значэньня перад галоўным: прызнаньне ці непрызнаньне антыдэмакратычных выбараў, легальная будзе ці нелегальная новая рэжымная „палата".

***У сытуацыі бяспраўя і недэмакратычнасьці выбараў, у становішчы поўнай адсутнасьці кантролю над галасаваньнем і над фальсіфікацыяй галасаваньня***

***адзіным эфэктыўным дзеяньнем, якое можа накаўтаваць рэжым і забясьпечыць непрызнаньне фальшывых выбараў – гэта байкот, няўдзел у галасаваньні.***

Канцэпцыя асэнсаванага няўдзелу ў галасаваньні ў рэжымнай схеме фальшывых выбараў распрацаваная намі даўно, яшчэ ў канцы 90-х гадоў. Удалося яе адносна пасьпяхова ўжыць у 2000-м

годзе (тады правалілася галасаваньне ў Менску і іншых месцах). Выбары не былі прызнаныя міжнароднай супольнасьцю.

Падрыхтоўкай байкоту (пачынаючы з сакавіка гэтага года) практычна займаецца толькі адна партыя – КХП БНФ. Пазьней яе падтрымалі (і дзейнічаюць самастойна) некаторыя моладзевыя арганізацыі (Малады Фронт і інш.). Вынікі нашай цяжкай і нябачнай працы ёсьць, але яны заўсёды будуць няпоўнымі, калі ў выбарчым полі застануцца іншыя нерэжымныя арганізацыі і партыі. У гэтым сэнсе падстаўная апазыцыя як вечны штрайкбрэхер і калабарант іграе заўсёды сваю заведамую ролю.

Рэжым адэкватна адчувае небясьпеку байкоту і сваё слабое месца ў фальшывай палітыцы. Неўзабаве пасьля ініцыятывы КХП БНФ, яшчэ вясной, абазвалася агентурная „Хартыя", якая раптам... падтрымала байкот. Спачатку падаў голас спадар Бандарэнка, а ў апошні час А. Саньнікаў. Ніякіх дзеяньняў за гэтым, натуральна, не стаіць, акрамя няўклюднай спробы агентуры адцягнуць на сябе ўвагу ад сур'ёзнай справы і разьвесьці пустапарожнія гаварэньні.

Людзям, якія разумеюць адказнасьць становішча, я б ня раіў, аднак, марнаваць час на гаворкі з агентурай. Сумленным беларусам трэба зрабіць усё магчымае, каб у справе ацэнкі выбараў не запанавалі палітычныя цынікі і прагматыкі падвойных стандартаў. Недэмакратычныя выбары ня могуць быць прызнаныя за дэмакратычныя. Прарасейскі парлямант, які падрыхтаваны па сьпісах рэжыму і Масквы і прапушчаны праз працэдуру фальшывага галасаваньня, ня можа быць легітымным органам улады. І што істотна – сваё слова тут можа сказаць кожны беларус, калі адмовіцца ўдзельнічаць у камэдыі, у якой ад яго ўдзелу нічога ўжо не залежыць. Усе за байкот галасаваньня!

*9 верасьня 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2008, №2 (64).*

# НЕ ГАЛАСУЙЦЕ ЗА ГАНЬБУ!

Пасьля расейскай ваеннай агрэсіі супраць Грузіі шмат хто ў Беларусі і ў Эўропе загаварылі пра геапалітычны выбар, які паўстае перад рэжымам Лукашэнкі. Здаецца, што рэжым гэта таксама пасвойму ўсьвядоміў. Але выбар яны зрабілі даўно. Гэты выбар – Савецкі Саюз і ягоная пераемніца Расея. Цяпер жа (пасьля Грузіі) для некаторых, магчыма ўпершыню, адчынілася пачварнае аблічча расейскага гэбізму. Некаторыя рэжымныя дзеячы, магчыма, таксама ўпершыню, нарэшце, зразумелі, што ў Расеі і з Расеяй – ім канец. Вось тут і ўзьніклі гаворкі пра „геапалітычны выбар" рэжыму паміж Усходам і Захадам. І рэжым пачаў маніпуляваць. Яму трэба самастойна ацалець. Пачаліся ўсьмешачкі перад Захадам. Прытым унутраная палітыка не мяняецца – як душылі беларусаў, так і душаць далей.

Выглядае тым часам, што з тэзісам пра „геапалітычны выбар" рэжыму, у пэўнай ступені, пагаджаюцца ўсе. Мы таксама ацэньваем гэта рэалістычна і аб'ектыўна. Але нашая беларуская пазыцыя нацыянальнай дэмакратыі і нацыянальнага Адраджэньня ў прынцыпе не пагаджаецца з пазыцыяй „усіх". Бо гэта тыповая пазыцыя прыстасаванства.

„Усе" хочуць зрабіць гэты часовы „выбар", не ахвяруючыся сваімі каштоўнасьцямі і абавязкамі, а коштам нашых беларускіх інтарэсаў. Кожны хоча купіць другога, прадаўшы чужое, гэта значыць, нашае.

Гэта добра відаць у падыходзе да выбараў на Беларусі, якія сталі прадметам гандлю хітруноў-"геапалітыкаў". Расейцам і Лукашэнку патрэбная легітымная „палата". Першым – каб замацаваць працэс і вынікі акупацыі Беларусі; другому – каб зьняць з сябе адказнасьць. Таму йдзе дэмагогія пра „дэмакратычныя" выбары і адначасна жорстка душацца нават мінімальныя магчымасьці вольных выбараў. Эўропа, старая філісьцерская Эўропа, якая баіцца пераплаціць, якую адкрыта дураць і хочуць ашукаць, прыкідваецца, што ўсяму гэтаму ашуканству верыць і робіць выгляд, што ёй прыемна. Яна гатовая ўжо заранёў прызнаць фальсіфікат і недэмакратычныя выбары за дэмакратычныя.

Падстаўная апазыцыя (спадары Лябедзькі, Калякіны і г.д.) пойдуць на выбары да канца, па сцэнары рэжыму, бо Захад сказаў, аплаціў, Масква таксама.

А. Мілінкевіч, які вызначыў сабе асобнае месца ў „апазыцыйным вертэпе", пераўзышоў усіх і заклікаў „апазыцыю" „пабудаваць дыялёг Эўразьвязу з рэжымам" і „дванаццаць пунктаў, выстаўленых (рэжыму) Эўракамісіяй, скараціць да трох". Ён падкрэсьліў, што гэтая „палітыка павінна адбывацца пры ўдзеле апазыцыі". Словам, засталося толькі абняцца з Лукашэнкам.

Такім чынам, „усе" хочуць расплаціцца за мяркуемы „геапалітычны выбар" Лукашэнкі (які скурчыцца адразу, пасьля выбараў) прызнаньнем фальшывых выбараў за сапраўдныя. Прытым, спадар Мілінкевіч нават абгрунтаваў гэта ідэалягічна, маўляў: „Палітыка не павінна быць прымітыўнай, як барацьба за маральныя каштоўнасьці", – сказаў ён. (Цытаты з Сеціва 10.09.08, Інтэрнэт-старонка „Хартыі-97".) Усё ў стылі вульгарнага прагматызму.

Адносіны да галасаваньня і ацэнка выбараў цяпер ёсьць галоўнае пытаньне на Беларусі, ад вырашэньня якога будзе залежыць і „геапалітычны выбар", і ўвядзеньне рускіх ракетаў і войска на нашу тэрыторыю, і захоп беларускай маёмасьці, і прызнаньне Паўднёвай Асэціі з Абхазіяй, і інш. І добра відаць, хто сьведама ці нясьведама працуе цяпер на пагібель Беларусі.

Грамадзяне! Ня йдзіце на фальшывае галасаваньне! Ня дайце сябе скарыстаць для ашуканства ні лукашэнцам, ні Маскве, ні бюракратычнай Эўропе, якая, мяркуючы па паводзінах, ужо намерваецца прызнаць фальшывыя выбары. Не давайце ім гэтай магчымасьці. Толькі байкот галасаваньня можа паўстрымаць і філісьцерскую Эўропу, і прамаскоўскі рэжым. Ніхто на фальшывыя выбары!

*10 верасьня 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2008, №2 (64).*

# „БЕЛАРУСЫ НЕ ПАВІННЫ ПРЫЗНАВАЦЬ ФАЛЬШЫВЫЯ ВЫБАРЫ”

***Госьць у эфіры „Свабоды” – заснавальнік Беларускага Народнага Фронту, адкрывальнік Курапатаў і лідэр Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Зянон Пазьняк.***

***Ганна Соўсь:*** –„Зянон Станіслававіч, некалькі дзён засталося да парляманцкіх выбараў у Беларусі. Вы неаднаразова выступалі з заявамі, у якіх заклікаеце байкатаваць выбары 28 верасьня. Што дасьць байкот?”

***Зянон Пазьняк:*** –„Мае заявы ёсьць вынікам праграмнай палітыкі нашай Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, якая вось ужо паўгода займаецца рэальнай падрыхтоўкай байкоту і няўдзелу ў галасаваньні. Што дасьць байкот? Добра падрыхтаваны байкот дае магчымасьць спыніць несправядлівыя выбары і нанесьці моцны ўдар па рэжыму. У рэальнасьці, якая складваецца цяпер, байкот галасаваньня павінен паралізаваць магчымасьці маніпуляцыяў па прызнаньні недэмакратычных выбараў за дэмакратычныя. Гэта цяпер галоўнае пытаньне”.

***Соўсь:*** –„На Вашу думку, пры якіх умовах беларускай апазыцыі трэба браць удзел у выбарах?”

***Пазьняк:*** –„Падстаўная апазыцыя і яе дзеячы будуць браць удзел у любых выбарах і пры любых умовах, калі ім скажуць гэта рабіць тыя, ад каго яны залежаць, у першую чаргу – Брусэль і Масква. Ім не патрэбныя мае парады, тым больш, што яны не зьяўляюцца беларускімі палітыкамі, бо не адлюстроўваюць беларускія нацыянальныя інтарэсы. Мы выступаем за ліквідацыю рэжыму Лукашэнкі і яго падстаўной апазыцыі”.

***Соўсь:*** „Адразу пасьля выбараў у Менск прыедзе расейскі прэм'ер Уладзімер Пуцін. Пасьля таго, як Беларусь не прызнала, нягледзячы на заклікі Расеі, незалежнасьць Паўднёвай Асеціі і Абхазіі, многія палітолягі пачалі гаварыць пра пагаршэньне расейска-беларускіх адносінаў і нібыта пра паварот Беларусі ў бок Захаду. Як Вы ацэньваеце цяпер стан і пэрспэктыву дачыненьняў паміж Расеяй і Беларусь?”

***Пазьняк:*** –„У прынцыпе не мяняецца нічога. І Лукашэнка, і Пуцін, і ўся камарыльля – гэта адна група. Іхнія канфлікты і грызьня – гэта стыль адносінаў у расейскай крымінальнай палітыцы, у выніку якой яны могуць адзін аднаго, як яны кажуць, нават „замачыць” ці „прышыць.” Але паўтараю, гэта грызьня ў лягеры саўдзельнікаў. Істотна толькі тое, што закладнікам гэтай грызьні і канфліктнай палітыкі ёсьць Беларусь і ўвесь беларускі народ. З пункту гледжаньня нашага народнага становішча і трэба ацэньваць усе падзеі вакол. Маскве патрэбная легальная і прарускная палата ў Беларусі, каб юрыдычна замацаваць сваю акупацыйную палітыку – захоп беларускай маёмасьці, увядзеньне войска, ракетаў у Беларусь і гэтак далей.

Калі беларуская грамадзкасьць не падтрымае байкот і калі людзі пойдуць галасаваць на фальшывыя выбары, то беспрынцыпная Эўропа можа прызнаць іх за дэмакратычныя. Тады перамога для рэжыму і Масквы забясьпечаная.

Таму маскоўская дыпляматыя штурхае Эўропу на прызнаньне недэмакратычных выбараў. Лукашэнку патрэбная кішэнная палата, таму ён душыць усе праявы дэмакратыі і гуляе з Эўропай, каб там прызналі ягоны фальшывы парлямэнт. Тым часам Эўропа, убачыўшы агрэсіўнасьць Расеі, хоча на дармачка змусіць рэжым Лукашэнкі зрабіць геапалітычны выбар на карысьць Захаду коштам здачы сваіх утрыманцаў, так званай апазыцыі, і коштам продажу інтарэсаў усяго беларускага народу, прызнаўшы недэмакратычныя выбары за дэмакратычныя.”

***Соўсь:*** –„Калі міжнародная супольнасьць прызнае выбары ў Палату прадстаўнікоў, нягледзячы на шэраг парушэньняў, што трэба і што можна ў такім выпадку рабіць дэмакратычнай, нацыянальна арыентаванай супольнасьці Беларусі?”

***Пазьняк:*** – „Калі прызнаюць фальшывыя выбары, гэта будзе азначаць здачу Беларусі ў лапы прамаскоўскага рэжыму на водкуп Масквы. Падстаўная апазыцыя тады хутчэй за ўсё пераарыентуецца на ўсходняга спонсара і паступова стане адкрыта прамаскоўскай. Беларусы не павінны прызнаваць фальшывыя выбары і фальшывую палату. Неабходна падтрымліваць беларускую вызвольную палітыку Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Гэта адзіная партыя, якая прадстаўляе беларускія нацыянальныя інтарэсы. Гэта ёсьць факт. Трэба падтрымліваць ініцыятыву «Беларуская салідарнасьць». Трэба будзе – ствараць групы падтрымкі беларускага адраджэньня. Трэба беларусам ва ўсім сьвеце арыентавацца на змаганьне і барацьбу. І галоўнае – на самых сябе, на сваіх людзей і на свой народ. Змаганьне з расейскай агрэсіяй можа трываць доўгі час. Моцны народ і моцныя людзі павінны быць да гэтага падрыхтаванымі”.

*24 верасьня 2008*

***(Ганна Соўсь, Інтэрв'ю, радыё Свабода)***

Прагматызм

*Яны сталі поўзаць,*
*Думаючы, што потым*
*Будуць лятаць.*

*(2000 г.)*

# ЯШЧЭ РАЗ АБ ТАК ЗВАНЫМ „ГЕАПАЛІТЫЧНЫМ ВЫБАРЫ" РЭЖЫМУ

***(Ліст сябрам Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

Геапалітычны выбар рэжымам Лукашэнкі быў зроблены яшчэ ў зародку. Па сваёй прыродзе, ідэалёгіі і палітыцы – гэта прарасейскі рэжым. Масква яго стварыла. Яна ж падтрымлівае гэты ягоны расейскі „выбар" мільярднымі крэдытамі (выгаднымі Маскве). Яна ж прывязала яго да сваёй газа-нафтавай трубы і да сваёй ваеннай машыны. Яна ж пакрокава заганяе яго ў сваю стара-новую гэбоўскую імпэрыю.

Ваенны напад Расеі на Грузію разбудзіў, нарэшце, Захад ад ружовае сьпячкі. Здаецца, яны ўжо пачалі разумець, што дыпляматычны пэрыяд новага гэбоўскага райха скончыўся і пачаўся адкрыты этап чарговага перадзелу сьвету. (Матывы, матывацыя, дзеяньні і схема дакладна супадаюць з паводзінамі гітлераўскага райха ў 1930-х.)

У гэтай сытуацыі ўсе ў Эўропе адчулі небясьпеку. У тым ліку і прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі зразумеў пагрозу свайму аўтаномнаму існаваньню. Рэжым, які вастрыў авантурныя амбіцыі на захоп улады ў Расеі, ня хоча, каб яго гэтая Расея пракаўтнула цяпер, як зайца ўдаў. Эўразьвяз, бачачы такое, ня хоча гэбоўскага райха і расейскіх ракетаў за Бугам. Смажаны певень дзюбнуў, нарэшце, усіх. Перамовы і збліжэньне рэжыму з Эўразьвязам заканамерна вынікалі з абставінаў – і яны пачаліся. Гэта дало падставу шмат каму гаварыць пра „геапалітычны выбар" рэжыму (які мы пішам толькі ў двукосьсі) і быццам бы паварот ягоны на Захад.

Гэтай фразэалёгіі аб дарозе ў Эўропу, аказваецца, хапіла шмат якому нашаму беларусу, каб душа яго ўсхвалёвана затрымцела. Ён ужо думае, што Лукашэнка (гэты ненавісны яму Лукашэнка) пойдзе, нарэшце, на Захад, і ніхто не пагоніць усіх у Расею.

Лукашэнка і прамаскоўскі рэжым баяцца Захаду. Хоць зрухі ў бок Эўропы і дачыненьні пачнуцца, але геапалітычныя перавыбары застануцца ў падвешаным стане. Далей за тактыку балянсаваньня („два крылы") рэжым не пасунецца.

Некаторае збліжэньне рэжыму з Эўразьвязам (што мы назіраем) і ўзаемныя дробныя саступкі ды перамовы (на якія пакуль што спакойна глядзіць Крэмль) тактычна прадыктаваныя галоўнай палітычнай задачай Масквы – стварыць на Беларусі „кішэнны" для Лукашэнкі і прарускі для Расеі парлямант („палату") і дамагчыся прызнаньня яго (легітымізацыі) міжнароднай супольнасьцю.

Для Лукашэнкі зручна мець такі прызнаны і цалкам ад яго залежны парлямант, каб маніпуляваць рашэньнямі і адказнасьцю. Для Масквы важна прарасейскасьць і легітымнасьць гэтага фармальнага воргана ўлады, каб юрыдычна ў фармальна-прававым полі замацаваць сваю акупацыйную палітыку на Беларусі (захоп беларускай маёмасьці, увядзеньне ракетаў і войска на Беларусь, беларускае грамадзянства для грамадзянаў Расеі і г.д.).

Само так званае прагназуемае „збліжэньне" рэжыму Лукашэнкі з Эўразьвязам было ў агульных рысах распрацавана ў Маскве (не забывайма, што ўсё ўладнае акружэньне Лукашэнкі таксама поўнасьцю расейскае). Выпуск на волю А. Казуліна (які ёсьць чалавекам уплыву Масквы), вызваленьне палітвязьняў, запрашэньне і аплата лёрда Бэла, заявы аб перамене інвестэцыйнага клімату і г.д. – усе гэтыя дробныя саступкі накіраваныя былі на адно: зрабіць прадметам палітычнага гандлю, чыньнікам адплаты за саступкі міжнароднае прызнаньне недэмакратычных выбараў у парлямант – за дэмакратычныя. Адплатай з боку Эўразьвязу павінна стаць легітымізацыя кішэннага парляманту Лукашэнкі.

Эўразьвяз, верны сваёй палітыцы падвойных стандартаў, з гатоўнасьцю адклікнуўся на гэты сігнал, пачаў крытыкаваць байкот ды ціснуць на падстаўную „апазыцыю" ў Менску, каб ішлі на выбары да канца. (У дужках зазначу: абсурд сытуацыі заключаецца ў тым, што, у выпадку прызнаньня Захадам фальшывых выбараў за сапраўдныя, як таго патрабуе рэжым, падстаўная „апазыцыя", у выніку здачы яе Эўразьвязам, ператварылася б ўжо цалкам ў палітычнае нішто (у анучу для затыканьня дзірак). Удзел у байкоце галасаваньня мог бы яшчэ ўратаваць яе твар. Цяпер жа яе лёс і значэньне цалкам залежыць ад маніпуляцыяў Эўразьвязу. Зрэшты, шмат хто з „апазыцыйных" людзей дзейнічае так сьведама, зыходзячы з матэрыяльнага прагматызму.)

Такім чынам, у выпадку „посьпеху" зьдзелка была б выгадная Маскве і Лукашэнку (расплацяцца мякінай, а прыдбаюць „зброю"). Выгадна гэта і прагматычнаму Эўразьвязу, які разумее, што адкупляецца чужым – здачай беларускіх нацыянальных інтарэсаў (прызнаньнем фальшывых выбараў і антынароднага парляманту).

Бок, які поўнасьцю прайграе ў гэтай гнюснасьці, – гэта Беларусь і беларускі народ. Ён даўно стаўся закладнікам чужой палітыкі і здрады эліт.

Збліжэньне рэжыму з Эўропай і легітымізацыя фальшывага парляманту – гэта ёсьць зьявы рознага кшталту. Яны няроўназначныя. Легітымізацыя палаты мае стратэгічны сэнс у палітыцы, стварае аб'ектыўны, прававы і доўгатэрміновы чыньнік, які можа быць па-рознаму выкарыстаны (чаго хоча Масква – мы ведаемі).

Тым часам збліжэньне з Эўразьвязам – гэта ўсяго толькі тактыка, тактычная палітыка, якая ў рэальнасьці ў любы момант можа быць спыненая (нават па капрызу ўзурпатара), і нават ператвораная ў сваю супроцьлегласьць. Таму тое, што тут пахне афёрай, відаць адразу. Рэжымны гандляр хоча купіць каня за мыльныя бурбалкі.

Для беларусаў у гэтай сытуацыі непрызнаньне фальшывых выбараў ёсьць важнейшае, чым усе маніпуляцыі рэжыму з Эўразьвязам. Рэальны паварот рэжыму да Эўропы мусіў бы адбывацца на іншых умовах.

Бяспрынцыпны „чэмбэрленаўскі" узровень эўрапейскай палітыкі мы таксама ведаем. Ніякімі глупствамі яны ўжо, здаецца, нас не зьбянтэжаць. Але паветра чэмбэрленаўшчыны ўплывае нават на дасьведчаных у камунізме людзей. Зьдзівілі нас сваёй даверлівасьцю нашыя добрыя суседзі. Міністар замежных справаў Польшчы праз галаву беларусаў паехаў спатыкацца з лукашысцкім міністрам расейцам Мартынавым. Так бы мовіць, наводзіць масты супрацоўніцтва з антыбеларускім рэжымам. Поўны канфуз. Вялікая місія ўперлася ў Анжэліку Борыс, а лукашысцкі рэжым запатрабаваў ад польскага боку у парадку супрацоўніцтва выдаць шэраг беларускіх палітычных уцекачоў (экстрадаваць з Польшчы ў Беларусь). Прыслалі нават сьпіс гэтых беларусаў. (І што вы хочаце ад гэб'я! А зь імі там супрацоўнічаць сабраліся.)

Расейскі напад на Грузію паставіў беларускую і эўрапейскую палітыку цалкам на геапалітычныя рэйкі. Геапалітыку тым часам можна зьберагальна і пасьпяхова праводзіць толькі маючы нацыянальнае кіраўніцтва і ўладу, якая зыходзіць з нацыянальных інтарэсаў. Беларусь, ня маючы такой улады, знаходзіцца ў вельмі нявыгадным і небясьпечным становішчы.

Бліжэйшая міжнародная пэрспэктыва (калі застанецца існаваць рэжым) можа яшчэ больш пагоршыць сытуацыю вакол Беларусі. Прычынай можа стацца новы канфлікт на Блізкім Усходзе, падпальшчыкам якога зноў выступае Расея (рашэньне аб перадачы Ірану ў 2009 г. сучасных супрацьпаветраных ракетаў С-300). Такія дзеяньні ў існуючых варунках вымагаюць прэвентыўнага адказу. І Расея, правакуючы „адказ", гэта цудоўна разумее. Любы ваенны канфлікт у пазыцыі множнасьці геапалітычнага супроцьстаяньня можа прывесьці да маштабнага гандлю інтарэсамі (значна большага, чым цяпер), і Беларусь у яе сучасным стане можа лёгка стаць разьменнай манетай паміж Расеяй і Захадам.

Нешта падобнае ўзьнікала ўжо ў 2000 годзе за часы бамбаваньня Сэрбіі авіяцыяй ЗША, калі канцлер Нямеччыны Г. Шродэр таемна паляцеў у Маскву і 4 гадзіны размаўляў з У. Пуціным. Вынікам стала неактыўнасьць і адхіленасьць Расеі ад канфлікту ў Сэрбіі ўзамен за абяцаньне немцаў дапамагчы загнаць Беларусь у „дэмакратычную Расею". Пра нямецкую палітыку спрыяньня ўключэньню Беларусі ў Расею прагаварыўся ў верасьні 2000 года ў Беластоку разьведчык Ганс Вік (ён жа тады – рэзыдэнт заходняй сеткі ва Ўсходняй Эўропе і па сумяшчальніцтву кіраўнік Місіі АБСЭ у Менску).

У геапалітычных дачыненьнях паміж імпэрыямі і блёкамі пастаянна ўзьнікаюць вялікія і маленькія пакты ды пакцікі „Рыбентропа-Молатава". Да такой палітыкі трэба быць падрыхтаванымі, каб ня стацца ахвярай. Яе можна прадбачыць, але нельга лягічна спрагназаваць, бо вельмі розныя падыходы ўключаныя ў дзеяньне. Адсутнасьць прынцыпаў, прыстойнасьці і маралі не перашкаджае Эўропе прытрымлівацца агульных правілаў. Расея, тым часам, усё робіць і ацэньвае толькі па сваіх "чынгізханаўскіх" правілах (дакладней, па паняцьцях), а Лукашэнка ўвогуле не трымаецца ніякіх правілаў. Тое, што ён па-цыганску захоча ашукаць гэтую „гуляшчую Эўропу", атрымаўшы сваё, можна не сумнявацца. Толькі вельмі наіўныя і далёкія ад рэчаіснасьці людзі могуць думаць, што рэжым Лукашэнкі тут дзейнічае ў адзіночку і намерваецца зрабіць нейкі „геапалітычны" заходні выбар, што, у прынцыпе, для яго немагчыма.

Рэальна дапусьціць, што палітыка рэжыму будзе балянсаваць паміж Расеяй і Эўразьвязам. Рэжым дэкляруе гэта, і мы бачым пэўныя яго захады. У прынцыпе, такі стан быў бы больш зручны для нашай прыгнечанай цяпер нацыі, чым аднабокая сьціраванасьць рэжыму на Ўсход. Але ўся справа ў тым, што заходнія зрухі рэжыму, аказываецца, шчыльна кантралююцца ўсходнім надзіральнікам. Цяперашняя сытуацыя з гандлем аб прызнаньні ці непрызнаньні фальшывых выбараў добра тое ілюструе. Стопрацэнтовую выгаду ад легалізацыі парляманцкай падробкі ў Беларусі атрымае толькі Масква і, у значнай ступені, рэжым. Эўропа, у выніку палітычнай прастытуцыі, не атрымала б нічога, акрамя ганьбы.

Цяпер яшчэ раз зьвяртаю ўвагу сяброў Фронту і яшчэ раз паўтаруся, што ўсе дзеяньні ва ўнутранай палітыцы рэжыму за апошні час, усе дачыненьні з Масквой і ўсе варыяцыі з Захадам падпарадкаваныя адной тэме – выбарам, і адной задачы – стварыць кішэнны для рэжыму прарасейскі парлямант і легітымізаваць яго. (Пытаньне, будуць там прадстаўнікі „апазыцыі" ці ня будуць, у гэтай раскладцы ўжо ня мае практычнага значэньня.)

***Перашкодзіць легітымізацыі выбарчай афёры ў існуючых абставінах фальсыфікацыі гарантавана можна толькі байкотам галасаваньня, гэта значыць масавым няўдзелам у галасаваньні.*** Ход выбараў (папярэдняе галасаваньне) паказвае, што шырокі байкот хочуць сарваць. Людзей прымусам заганяюць (прывозяць) на ўчасткі і людзі паддаюцца. Але адначасна гэта наглядна ілюструе, што выбары і галасаваньне ня ёсьць свабоднымі. Заўтрашні дзень, аднак, павінен паказаць больш адэкватную карціну.

Пытаньне – прызнае, ці не прызнае Эўропа фальшывыя выбары ў Беларусі, – разьмеркавалася, на мой погляд, ужо цяпер катэгарычна не на карысьць прызнаньня. Як бы ні круцілася Эўропа, але ў гэтых абставінах разумна абгрунтаваць прызнаньне (нават моцна скрывіўшы душой) ўжо немагчыма, ня страціўшы свайго твару. Падрыхтоўка байкоту галасаваньня абвастрыла абставіны, штурхнула рэжым ісьці напралом у сваім беззаконьні. (У некаторых месцах „папярэдне" прымусілі прагаласаваць 93 адсоткі выбарцаў, а ў цэлым па Беларусі – 30 адсоткаў. Гэта ёсьць падрыхтоўка маштабнай фальсіфікацыі, якую ўжо не абвергнеш.)

Пры найгоршым выніку (фальсіфікацыя і прызнаньне дэмакратычнасьці недэмакратычных выбараў) беларусы не павінны прызнаваць фальшывыя выбары і фальшывую „палату". Неабходна будзе гэта разнастайна засьведчыць. У тым ліку, на спэцыяльным форуме усіх выбаршчыкаў і арганізацыяў, што ўдзельнічалі (ці сьвядома ня ўдзельнічалі) у выбарах. Беларускае грамадзтва павінна б было ўсьвядоміць новую сытуацыю ў міжнароднай палітыцы і мусіла б ***зьвярнуцца да аб'яднаньня вакол нацыянальнай ідэі,*** мусіла б падтрымліваць беларускую вызвольную палітыку і беларускае нацыянальнае Адраджэньне, асабліва – ініцыятыву „Беларуская Салідарнасьць". Трэба ўжо цяпер, не марудзячы і нягледзячы, які будзе вынік выбараў, ствараць групы падтрымкі беларускага Адраджэньня і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, нашай народнай партыі. Наперадзе жорсткія дні. Беларусам ва ўсім сьвеце неабходна арыентавацца на салідарнасьць, змаганьне і барацьбу, і галоўнае – ***абапірацца на сябе, на свае сілы і духоўныя рэсурсы нацыі, на сваіх людзей і свой народ.*** Неабходна ствараць нацыянальную альтэрнатыву дыктатуры і рыхтавацца да далейшага змаганьня з Масквой. Гэта ёсьць доўгая, жмудная, часам руцінная, але неабходная справа. Толькі пры наяўнасьці такой справы і такой працы пасіянарныя імпульсы і ўзбуджэньні, якія час ад часу ўзьнікаюць у грамадзтве, могуць мець вынік і асэнсаваны працяг.

Гэтыя разважаньні могуць здацца для некаторых крыху


(Фота з Сеціва)

***100. Вяжуць дэманстранта супраць камунізму. 2007 г.***

адцягненымі, іншых, начытаных, могуць раздражняць, выклікаць патрабаваньне „канкрэтных дзеяньняў” і г. д. Але трэба ведаць і разумець, што ***ніякія „канкрэтныя дзеяньні” немагчымыя без разуменьня і ўсьведамленьня агульных ідэй і агульнай справы як справы нашай і справы сваёй.*** Якраз у слабым усьведамленьні свойскасьці беларускага „нашага” і нацыянальнага „агульнага” крыецца прычына неактыўнасьці, несалідарнасьці ў нашым грамадзтве.

Мяркую, што вопыт гэтых выбараў (пры любым выніку і любым зыходзе) павінен даць беларусам моцны штуршок для асэнсаваньня народнага лёсу, прыхіліць многіх да калектыўных дзеяньняў дзеля нацыянальнай будучыні, волі і шчасьця Бенларусі.

*27 верасьня 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2008, №2 (64).*

# З.ПАЗЬНЯК: „СЬЛЯПЫЯ ВЫКАНАЎЦЫ БЕСТАЛКОВЫХ УКАЗАНЬНЯЎ ЭЎРОПЫ”

***Радыё Свабода:*** *Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Зянон Пазьняк камэнтуе вынікі выбараў у Палату прадстаўнікоў:*

**Зянон Пазьняк:** – „Першы і галоўны вынік выбарчай кампаніі, гэта тое, што галасаваньне было груба, цынічна і нахабна сфальсыфікаванае. Вынікі такіх выбараў і сам працэс іх правядзеньня ня могуць быць прызнаныя ні дэмакратычнымі, ні сапраўднымі, ні нармальнымі. Дэпутаты, якіх падабраў рэжым, ня маюць народнага даверу і ня ёсьць легітымнымі дэпутатамі.

Другі істотны вынік – гэта тое, што ў нядзелю, 28 верасьня, адбыўся байкот галасаваньня выбаршчыкамі. Па Беларусі прыйшло галасаваць на ўчасткі ня больш за 30 адсоткаў выбаршчыкаў, а па Менску і таго меней, адсоткаў 25. Выбарчыя ўчасткі ў Менску пуставалі. Гэта засьведчана ўсімі нашымі назіральнікамі ад Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, якая падрыхтоўвала байкот галасаваньня. Такім чынам ў дзень выбараў, 28 верасьня, дзьве трацiны выбаршчыкаў не прыйшло галасаваць.

Выбары ў Палату не адбыліся. Выбарчы фарс рэжыму па абдурваньні народу поўнасьцю праваліўся. Тое, што нягледзячы на відавочны для ўсіх правал, Цэнтральная выбарчая камісія аб’явіла, што быццам бы прагаласавала 75 адсоткаў выбаршчыкаў, сьведчыць аб адкрытай і нахабнай узурпацыі ўлады ў Беларусі групай прарасейскіх асобаў, якія ня лічацца ні з чым, абы захаваць гэтую сваю уладу. Яны чарговы раз засьведчылі сябе як уладу антыбеларускую.

Мушу сказаць, што калі б людзі і арганізацыі, якія ўдзельнічалі ў ілжывых выбарах і йшлі да канца, каб яны падтрымалі байкот выбараў, то ўдар па рэжыму быў бы значна мацнейшы. Рэжым захістаўся б, але, як і трэба было чакаць, падстаўная апазыцыя аб’ектыўна падтрымала рэжым, дала яму поле для манэўраў і хлусьні. А цяпер яна крычыць: «Нас кінулі!» Але яны самі сябе кінулі. Паводзіны гэтай публікі паказваюць, наколькі яна несамастойная і далёкая ад беларускай палітыкі. Гэта сьляпыя выканаўцы бесталковых указаньняў Эўропы, якая абсалютна не разумее, што адбываецца на Беларусі.

Фальшывыя выбары, якія праводзіў прамаскоўскі рэжым, аніяк ня могуць быць прызнаныя міжнароднай супольнасьцю, што дарэчы пацьвердзілі і назіральнікі АБСЭ, якія канстатавалі неадпаведнасьць іх дэмакратычным стандартам.

*29 верасьня 2008*

***Зянон Пазьняк***

# „НАРОД ЗАЎСЁДЫ ЗДОЛЬНЫ АБАРАНІЦЬ СЯБЕ САМ, КАЛІ АДЧУЕ СЯБЕ НАРОДАМ”

***(Ліст да сяброў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і беларускіх адраджэнцаў)***

Скончыліся чарговыя фальшывыя выбары ў Беларусі. Галоўны вынік: непрызнаньне выбараў. Народны байкот адбыўся. Бальшыня беларусаў не прышлі галасаваць. Выбары сфальсіфікавалі. 28-га верасьня на Беларусі прагаласавала ня болш за 30 адсоткаў выбаршчыкаў (а ў Менску яшчэ менш). Беларусы не прызнаюць гэтыя выбары за сапраўдныя. Непрызнаныя яны таксама за дэмакратычныя і справядлівыя назіральнікамі АБСЭ.

Такім чынам, дзякуючы працы нашай Партыі Фронту над байкотам галасаваньня, дзякуючы правільнай ацэнцы настрояў людзей (якія не жадалі больш галасаваць) і арыентацыі на гэтыя настрої, а таксама дзякуючы агульным фіксацыям парушэньняў заканадаўства, якое занатавалі ўсе змагары з вабарчым фарсам, дасягнута галоўная задача нашага змаганьня ў гэтых выбарах: непрызнаньне іх за дэмакратычныя і нелегітымізацыя фальшывай палаты-парляманту. Гэта вельмі важны вынік, які дазваляе беларусам захаваць пазыцыі ў змаганьні з расейскай акупацыйнай палітыкай і эканамічнай агрэсіяй.

Масква хацела мець прарасейскі легітымны паплямант ў Беларусі, каб праз яго (абмінаючы і ціснучы на нелегітымнага Лукашэнку) замацоўваць тут, нібыта ў „прававым” полі, вынікі сваёй палітыкі (захоп беларускай маёмасьці, уводзеньне ракетаў, войска і г. д.). Прарасейскі парлямант яны сумесна з рэжымам прызначылі. Але зь „легітымнасьцю” – ня вышла, не ўдалося.

Ня будзем удавацца ў пытаньне, чаму рэжым павёў сябе такім чынам і не прыслухаўся да шулерскіх падказак з Эўропы (не уключыў „апазыцыянераў” у парлямант). Прычыны такіх паводзінаў рэжыму – вядомыя і лягічныя. Тут ён спрацаваў на сябе. Нам жа галоўнае – які вынік. А вынік такі, што рэжым застаўся пры сваім, а Масква не атрымала жаданага. Гэты варыянт захаваньня пазыцыяў найменш дрэнны з тых, якія маглі быць.


(Фота з друку)

***101. Зграя гэбістаў (“людзі ў цывільным”) хапаюць чалавека на вуліцы ў цэнтры Менска.***

Вядома, вынікі былі б лепшыя, калі б у нас дзейнічалі нармальныя беларускія партыі, а не псэўдаапазыцыя па-за нацыянальнага кшталту. У сытуацыі, якая ўзьнікла, рэжым можна было паслаць у накаўт (калі б у час фальшаваньня „папярэдніх выбараў” псэўдаапазыцыя падтрымала байкот і зьнялася б з выбараў). Аднак, народжаны поўзаць, лятаць ня можа. Вырашылі, што лепш атрымаць мокрай анучай па твары ад Лукашэнкі, чам парушыць крэдытна-падмацаваны і некампетэнтны загад Брусэля ісьці да канца (толькі круглыя брусэльскія „разумнікі”, маглі сур’ёзна паверыць, што Лукашэнка выканае іхнюю прапанову пра 22-х „апазыцыянераў” ў парляманце). Зрэшты, хто, як і для чаго гэтую квазіапазыцыю стварыў, мы добра ведаем. ***За восем гадоў існаваньня яна нічога не дала Беларусі, акрамя шкоды, паразы, заблытваньня думак у галовах людзей і адводу іх ад нацыянальнага бачаньня рэчаіснасьці. Ніякіх, нават мінімальных, дасягненьняў яна ня мела і ніякіх пэрспэктываўператварыцца ў нацыянальную беларускую сілу ня мае.*** З гэтай публікай трэба разьвітвацца без шкадаваньня. Чым хутчэй яна зьнікне і разьбяжыцца, тым лепей для Беларусі. Гэтыя выбары (у якіх псэўдаапазыцыя ўдзельнічала „да канца”) якраз паказалі яе поўную залежнасьць ад чужой палітыкі і ад чужых інтарэсаў, яе незацікаўленасьць лёсам нацыі і, фактычна, нежаданьне яго разумець.

Становішча пасьля выбараў можна ацаніць для беларусаў як захаваньне ранейшых пазыцыяў усіх бакоў. Але гэта часова. Сытуацыя будзе мяняцца ў сувязі з насіленьнем агрэсіі расейскага гэбізму, якую мы ўжо даўно назіраем у нашай частцы Эўропы. Новае тут толькі тое, што пасьля расейскага нападу на Грузію гэтая разбойная палітыка, нарэшце, напалохала сонную Эўропу, занятую сваімі лібэральнымі псэўда-праблемкамі. Расейская агрэсія ў Чачэніі, варварскае забіваньне чачэнскіх людзей і вынішчэньне Чачэніі на вачах усяго чалавецтва ім аказалася замала, каб праймацца (відаць, інтэрас быў недастатковы). Цяпер, пасьля расейска-грузінскай вайны, эўрапалітыка стала рухацца ў геапалітычным кантэксьце. А гэта азначае, што так званыя „каштоўнасьці дэмакратыі”, „правы чалавека” і іншая папулярная лева-дэмагогія адыходзіць на другі плян. На першы плян становіцца інтэрас бясьпекі дзяржаўнага, эканамічнага і культурнага існаваньня, пытаньне тэрыторыяў і разьмеркаваньне сілы.

У гэтай сытуацыі псэўдаапазыцыя, створаная Гансам Вікам і КГБ пад дэмагагічны тэзіс „правоў чалавека”, ёсьць абсалютна не прыдатная да такой „экзыстэнцыяльнай” палітыкі, і нават для выкарыстаньня з прычыны сваёй пазыцыйнай дурноты, адсутнасьці нацыянальнай ідэалёгіі і адсутнасьці разуменьня сэнсу палітычнае барацьбы ў Беларусі. ***Вікаўская падстаўная апазыцыя – гэта тыповая маргінальная зьява, якую стварылі па-за межамі беларускіх нацыянальных інтарэсаў і выцягнулі на паверхню ў інтарэсах Эўразьвязу, Масквы і нават рэжыму (пра што ня раз сьведчыў Лукашэнка).*** Цяпер, у абставінах, пра якія мы ўсяму Захаду цярпліва даводзім з 1994-га года, Эўропа расплюшчыла вочы, занепакоілася і, не разважаючы, ідзе на кантакт з прамаскоўскім рэжымам Лукашэнкі, дэманструе тым самым поўнае фіяска ўсёй сваёй ранейшай павярхоўнай, прарасейскай і прымітыўнай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі. ***(Самае істотнае, што ў гэтай эўрапалітыцы і „дэмакратыі” няма месца для беларускага народа.)***

У сярэдзіне 90-х гадоў існавала моцная нацыянальная беларуская альтэрнатыва прамаскоўскаму рэжыму. Гэта Беларускі Народны Фронт, які яднаў увесь антырэжымны рух. У той сытуацыі актуальным быў сэнс зьмены ўлады, бо ў гэтым выпадку (у выпадку пераходу ўлады да БНФ) Масква мусіла б згарнуць сваю акупацыйную палітыку на Беларусі. Менавіта праз Ганса Віка і менскую Місію АБСЭ нямецкая Эўропа, штурхаючы свае асобныя пляны, спрычынілася да разбурэньня БНФ – нацыянальнай альтэрнатывы прамаскоўскаму рэжыму і дыктатуры ў Беларусі. На гэта былі адпушчаныя вялікія сродкі. Эўрапалітыкі-разьведчыкі дзеля разбурэньня БНФ не спыніліся нават перад супрацоўніцтвам з КГБ (Ганс Вік) і з рэжымам Лукашэнкі. Урэшце вынік быў дасягнуты, Фронт распалавінілі і побач стварылі ненацыянальную, неадраджэнскую „дэмакратычную апазыцыю” з агентуры, саўковай інтэлігенцыі, з былой намэнклятуры і былых хаўрусьнікаў Лукашэнкі, з падкантрольных малых партыяў, з нацыянальна аморфных, наіўных і проста з нацыянальна нявызначаных і, больш таго, – варожых да беларушчыны людзей, куды ўпіхнулі нават Гайдукевіча і камуністаў ды грантавых шабашнікаў, заўсёды гатовых падзарабіць „на палітыцы” і на чым трапіцца. Восем гадоў пры дапамозе гэтай псэўдаапазыцыі левая Эўропа і Масква нішчылі беларускую нацыянальную палітыку на Беларусі, імітуючы барацьбу з рэжымам за „дэмакратыю” і правы бесталковага чалавека. І вось фініш. Саляна тэлефануе Лукашэнку, Сікорскі спатыкаецца з Мартынавым, п’е зь ім самагонку, закусвае зубрацінай.

„Нас кінулі!” – па-крымінальнаму лемантуюць гэтыя няшчасныя „апазыцыянеры” пасьля выбарчай камэдыі, не разумеючы, што адбываецца. Тым часам фарс пашыраецца. Я ўжо пісаў у папярэднім лісьце *(„Яшчэ раз аб так званым „геапалітычным” выбары рэжыму”* – <www.bielarus.net>), чым скончыліся перамовы Сікорскага з Мартынавым аб супрацоўніцтве. Рэжым запатрабаваў ад Польшчы выдаць беларускіх палітычных уцекачоў беларускаму „правасуддзю”. Нават сьпіс прад’явілі (такое вось „супрацоўніцтва” з гэб’ём). Далейшае „пацяпленьне клімату” у адносінах з рэжымам будзе, відаць, вельмі небясьпечнае для беларускай палітычнай эміграцыі.

Аднак трэба разумець, што на этапе геапалітыкі любая апазыцыя рэжыму (акрамя нацыянальнай) патрэбная і Маскве, і Эўразьвязу.

Завязка толькі на рэжымную ўладу (а фактычна, на Лукашэнку) пазбавіла б усходніх і заходніх палітыкаў манэўру, уплыву на „прадмет палітыкі” і на разьвіцьцё пэрспэктывы. Таму ні Эўразьвяз, ні Масква падстаўную „апазыцыю” ня „кінуць”. Яна ім патрэбная для маніпуляцыяў, падціскаць узурпатара і нішчыць, прафанаваць беларускае Адраджэньне.

Акрамя ўжо існуючай лініі паралельных кантактаў, арыентаванай на Эўразьвяз (А. Мілінкевіч), Масква пачала выбудоўваць таксама другую лінію, нацэленую праз Эўразьвяз, – на ЗША. Дзеля гэтага, відаць, быў выпушчаны з турмы А. Казулін. Сумніўна, што ў Лубянкі з гэтага нешта пуцёвае будзе (улічваючы асабістыя якасьці Казуліна), але спробы такой стандартнай гульні назіраюцца.

Тым часам ва ўмовах, дзе геапалітычны крытэрай ёсьць галоўны, цалкам не зацікаўлены ў існаваньні любой апазыцыі павінен быць А. Лукашэнка. Узурпатару лепш завязаць інтарэсы Захаду і Ўсходу на сябе аднаго і маніпуляваць адносінамі. Таму ягоная нядаўняя заява аб зьнікненьні „апазыцыі” у бліжэйшы час мае асэнсаваны зьмест. Ён бы ліквідаваў яе, аднак зрабіць гэта цалкам яму не дадуць Масква і Захад, якім патрэбны гэты канал. Але ў новых рэпрэсіях і арыштах можна не сумнявацца.

І ўсё ж дзеля цывілізаванага вобразу і камуфляжу ўзурпатару патрэбна мець нейкі фантом апазыцыі з нібыта „канструктыўным” абліччам (тады АМАП і спэцназ будуць біць і хапаць на вуліцах не „апазыцыю”, а „экстрэмістаў” і „тэрарыстаў”). Можна не зьдзіўляцца, калі такую „канструктыўную апазыцыю” раптам сфармуюць.

Трэба, аднак, разумець, што ўсялякія маніпуляцыі непрыяцеляў беларускага Адраджэньня з падстаўной апазыцыяй ды іншымі фантомамі, нягледзячы на шкоднасьць, ня будуць мець вырашальнага значэньня ў змаганьні на Беларусі. Зыход барацьбы залежыць толькі ад самых беларусаў. І цяпер, калі вымоўна агалілася агрэсіўная імпэрская палітыка расейскага гэбізму, калі шмат хто пасапраўднаму зразумеў небясьпеку, паўстае пытаньне аб агульным дзеяньні; трэба задумацца пра сутнасьць паводзінаў, пра агульны беларускі шлях.

Гэты шлях заўсёды, і асабліва цяпер, ёсьць шлях да беларускай нацыянальнай ідэі. Усе іншыя шляхі, на якія штурхаюць людзей ворагі Бацькаўшчыны, ёсьць шляхі ў небыцьцё. ***Нацыянальная ідэя пачынаецца з нацыянальнай мовы. Беларуская мова ёсьць нацыянальная каштоўнасьць нумар адзін.*** Гэта ёсьць душа, сродак перадачы і тэрыторыя нашай культуры.

Усялякая нацыянальная ідэя грунтуецца на нацыянальнай сьведамасьці, якая ў сваю чаргу грунтуецца на чалавеку, які усьведамляе сябе нацыяй. Усьведамленьне сябе нацыяй азначае, што кожная асоба нацыі ўспрымае сябе народам – часткай агульнай культурнай лучнасьці, якая стаіць на гісторыі.

Усялякая нацыя імкнецца рэалізаваць сваё жыцьцё, гісторыю і будучыню ў незалежнай нацыянальнай дзяржаве. Такім чынам, ***мова, сьвядомасьць, гісторыя, культура і незалежная нацыянальная дзяржава – вось галоўныя складнікі нацыянальнай ідэі, якія для кожнага нацыянальна культурнага чалавека зьяўляюцца прынцыпамі грамадзкага існаваньня***. Палітыка, эканоміка, сацыяльнае ўладкаваньне і г.д. ёсьць вытворнае ад нацыянальнай ідэі.

***Ня стаўшы на нацыянальны шлях, грамадзтва не дасягае свабоды, – каштоўнасьці, якую можна рэалізаваць толькі ў незалежнай нацыянальнай дзяржаве.***

Беларусам трэба станавіцца салідарнымі на нацыянальных каштоўнасьцях і яднацца ў нацыянальнай ідэі. Найперш гэта павінна зрабіцца агульным станам, зь якога можа вылучыцца салідарны рух за вольную будучыню і разьвіцьцё Беларусі. На нацыянальнай ідэі павінны узьнікаць асяродкі, арганізацыі, суполкі, ініцыятывы, калектывы і рухі – крыніцы і ручаінкі, што імкнуцца да вялікай вады. Інакш ня ўзьнікне рака, ня стане магутная плынь.



(Фота з Сеціва <svaboda.org>)

***102. Вялікая дэманстрацыя ў Менску 19 сакавіка 2006 г.***

* * *

Цяпер, у міжчасьсі, трэба нагадаць грамадзтву, што дамова, заключаная Лукашэнкам і Ельцыным у сьнежні 1999 года аб нейкай „саюзнай дзяржаве", ёсьць ня толькі незаконная, неканстытуцыйная, нелегальная, але зьяўляецца сьведчаньнем злачынства, учыненага супраць Канстытуцыі і народу Беларусі. Усё, што робіцца пад прыкрыцьцём псэўдаструктураў гэтай абалонкі „саюзнай дзяржавы" ёсьць нелегальным, антызаконным дзеяньнем, ня мае ніякага праўнага значэньня і будзе асуджана новай беларускай дэмакратычнай уладай.

Расейскія намеры ўвесьці на Беларусь свае ракеты і войска пад выглядам небясьпекі і абароны ад лякатараў амэрыканскага супрацьпаветранага шчыта ў Чэхіі і Польшчы груба супярэчаць Канстытуцыі Беларусі, якая забараняе такія дзеяньні. Расея гэтым самым плянуе прыхаваную форму акупацыі Беларусі. Але беларускае грамадзтва не дапусьціць чужога войска і ракетаў на сваю тэрыторыю. Ужо цяпер мы павінны аднавіць дзеяньні (створаных у 2002 г.) „камітэтаў абароны" ў Менску і па Беларусі, даваць інфармацыю людзям пра антыбеларускія пляны расейскіх імпэрыялістаў, каб спыніць замашкі Масквы. Адной з формаў пратэсту можа стаць збор подпісаў у Канстытуцыйны суд аб недапушчэньні злачынных перамоваў на тэму ўвядзеньня ракет.

Мы мусім таксама аднавіць дзеяньне акцыі *„Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва"* і пачаць зноў рассылку гэтага дакумента па вызначаных адрасатах у Беларусі, ад якіх залежыць прыняцьце рашэньняў.

Новым нашым дзеяньнем павінна стаць усеагульная грамадзкая акцыя *„Абаронім Менск ад разбурэньня"*. Трэба моцна супроцьстаяць намерам маскоўска-лужкоўскай мафіі разбурыць з дазволу Менскага Гарвыканкама цэнтар Менска і пабудаваць там вышынны асяродак для маскоўскага крымінальнага і азартнага бізнэсу з мноствам хмарачосаў. Калі гэты шматмільярдны маскоўскі плян будзе выкананы, Менск ператварыцца ў чужы крымінальны горад, у якім беларусам-менчукам стане немагчыма жыць. Гэта таксама адна са старонак агульнага расейска-гэбоўскага пляну акупацыі Беларусі, шляхам стварэньня архітэктурна-будаўнічых дэсантаў, перасяленьня і пабудовы крымінальна-бізнэсовых расейскіх паселішчаў на нашай тэрыторыі. Сваю акупацыйную палітыку рускі гэбізм навучыўся прыкрываць нібыта інтарэсамі вольнага бізнэсу. Але ў Расеі цяпер няма вольнага (некантралюемага КГБ) бізнэсу, гэтак жа, як і ў Беларусі, дарэчы, таксама.

Формы пратэсту могуць быць розныя: ад збору подпісаў у Менгарвыканкам да стварэньня грамадзкіх органаў мясцовага самакіраваньня.

У нашай грамадзкай адраджэнскай працы мы павінны памятаць, што любая ініцыятыва набывае сэнс, калі пранікае ў гушчу людзей і пачынае самаразьвівацца. У гэтым уменьні павінна быць цяпер нашая тактычная мэтода і палітычнае пакліканьне. Бо памятайма: народ заўсёды здольны абараніць сябе сам, калі адчуе сябе народам.

*4 кастрычніка 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус", – 2008, № 549, кастрычнік).*

# ЭПОХА Ў ЖЫЦЬЦІ НАЦЫІ

***(Да дваццаціґоддзя БНФ)***

Спаўняецца 20 гадоў ад часу ўтварэньня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" – дэмакратычнага нацыянальна-вызвольнага руху супраць савецкай акупацыі і расейскага камунізму за дэмакратычны лад і дзяржаўную незалежнасьць Беларусі.

Фронт утварыўся 19-га кастрычніка 1988 года ва ўмовах пратэстнага ўздыму людзей супраць камуністычнай намэнклятуры і ўлады КПСС. Тады гэта было грамадзтва з адбітай гістарычнай памяцьцю, вынішчанай нацыянальнай сьвядомасьцю і цьмяным уяўленьнем пра свабоду. Дзяржаўная незалежнасьць шмат каму здавалася фантазіяй, казкай. Але праз тры гады Фронт, маючы дэпутацкі авангард у Вярхоўным Савеце і скарыстаўшы паразу камуністычнага путчу ў Маскве, зрабіў гэтую казку рэальнасьцю. 25-га жніўня 1991 года, у выніку рашучага націску і хуткіх прадуманых дзеяньняў дэпутацкай Апазыцыі БНФ, Вярхоўным Саветам БССР была абʼяўлена незалежнасьць Беларусі, Дэклярацыя аб суверэнітэце набыла сілу канстытуцыйнага закону. Дэпутацкі авангард БНФ адразу ўключыўся ў змаганьне за будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы.


(Фота Ул. Кармілкіна)

*103. Дружына БНФ. Менск, 1996 г.*

Ліквідацыя расейскага камунізму, дэмакратыя і дасягненьне незалежнасьці Беларусі ад СССР былі стратэгічнымі палітычнымі задачамі Фронта. Яны былі пасьлядоўна распрацаваныя дэпутатамі БНФ. За незалежнасьць і дэмакратыю змагаліся крок за крокам з першых жа дзён у Вярхоўным Савеце. У гэтым змаганьні і працы галоўнымі былі незалежнасьць Беларусі і стварэньне дзяржаўных інстытутаў вольнай беларускай дзяржавы. Пры падтрымцы ўсяго Фронту дэпутаты БНФ прапанавалі дзясяткі законапраектаў, распрацавалі сістэму парляманцкай тактыкі, грамадзкіх дзеяньняў, палітычных ініцыятываў і ажыцьцявілі ўсё на практыцы.

Фэнамэнальным было тое, што, дзякуючы ўмелай тактыцы і добраму разуменьню сытуацыі, дэпутаты-франтаўцы, якія складалі толькі 8 адсоткаў у камуністычным Вярхоўным Савеце, здолелі дамагацца перамог і ў парляманцкім

змаганьні, і ў галасаваньні за свае ідэі, праекты, ініцыятывы. Самым вялікім дасягненьнем была незалежнасьць Беларусі. ***Тое, што сталася вечарам 25 жніўня 1991 года – гэта найвялікшая выніковая падзея ў гісторыі Беларусі за апошнія 200 акупацыйных гадоў. Беларусь дамаглася рэальнай незалежнасьці. У выніку (ізноў жа, дзякуючы дзейнасьці дэпутацкай Апазыцыі БНФ і ўсяго Фронта) былі створаныя рэальныя атрыбуты суверэнітэту і інстытуты ўлады беларускай незалежнай дзяржавы.***



*104. „Хэпэнінг" Веры Церлюкевіч. 1999 г.*

(Фота Ул. Кармілкіна)

ў шматлікіх Курапатах, згноеное ў Сібіры, замучане ў сталінскім Гулагу. Становішча ў Беларусі ў корані адрозьнівалася ад становішча ў Прыбалтыцы ці, тым больш, у Польшчы альбо ў Чэхаславаччыне. Каб хутка і карэнным чынам перамяніць няўстойлівую, каляніяльна-мэнтальную сытуацыю, што існавала ў пачатку 90-х, быў толькі адзін спосаб – улада ў Беларусі мусіла належыць Народнаму Фронту.

Адэкватная беларуская дэмакратычная ўлада праводзіла б адэкватную беларускую нацыянальна-асьветніцкую, эканамічную, сацыяльную, культурную і дэмакратычную палітыку, што дазволіла б вывесьці грамадзтва ў нацыянальна-цывілізаваны стан, адрадзіць нацыянальна-грамадзкую нармальнасьць.

Пачалі рэальна ажыцьцяўляцца ідэалы 25 Сакавіка. Але на той час не ўдалося зрабіць вельмі істотнае. Беларускае Адраджэньне не ўзяло ўладу ў незалежнай Беларусі. Пасьля ліквідацыі СССР Фронт заставаўся як апазыцыйная ўплывовая беларуская палітычная сіла. Тым часам уся ўлада была ў старой савецкай каляніяльнай намэнклятуры. У галовах гэтых людзей панаваў кампрадорскі, каляніяльны спосаб думаньня і спадзяваньні на вяртаньне СССР. Яны прыстасоўваліся да новых абставінаў, вяла і з аглядкай, ня мелі ніякай ідэёвай пэрспэктывы, акрамя азіраньня ў тыл ды ў Маскву. Прамаскоўскі рэжым, унутраная акупацыя і антыбеларуская дыктатура лёгка вынікалі з такіх абставінаў, дзе спэцслужбы чужой дзяржавы мелі поўную свабоду дзеяньняў.

У пачатку 90-х гг. падзеі разьвіваліся хутка. Склалася, аднак, трагічная сытуацыя. Нацыянальны, ідэёвы і дэмакратычны авангард – Беларускі Народны Фронт – і ягоныя прадстаўнікі здолелі энэргічна ўключыцца ў рэчышча падзеяў і здабыць незалежнасьць Бацькаўшчыны. Але грамадзтва, прыдушанае векавымі рэпрэсіямі, вынішчанае бальшавіцкім генацыдам і камуністычнай прапагандай, не пасьпявала за ідэйнымі пераменамі, дрэнна арыентавалася і не зусім разумела сутнасьць і неабходнасьць дзяржаўнага нацыянальнага разьвіцьця. Час для нацыянальна-культурнага асьветніцтва масаў аказаўся занадта кароткім, каб масы людзей пачалі актыўна ўдзельнічаць у фармаваньні незалежнай дзяржавы, падтрымліваць палітычны авангард, імкнуцца да пераменаў. Грамадзтва пасьля разьвітаньня з камунізмам засталося па-савецку пасіўным у пытаньні нацыянальна-ідэйнай перамены ўлады, рэагуючы непасрэдна толькі на сацыяльнае пагаршэньне свайго становішча і, не разумеючы яго прычынаў. Пасьля ліквідацыі СССР і КПСС пратэстны антыкамуністычны і антыкаляніяльны ўздым скончыўся.

У новай незалежнай Беларусі прыжылася старая савецкая каляніяльная ўлада і ў значнай ступені засталося старое дэфармаванае савецкае грамадзтва. Тут самае істотнае было ў тым, што старая савецкая намэнклятура на Беларусі была агулам антынацыянальная, а грамадзтва (таксама агулам) – нацыянальна індэферэнтнае. Калі прыбалтыйскія краіны, што вярнулі незалежнасьць, мелі 22 гады разьвіцьця ў незалежнай нацыянальнай дзяржаве (вырасла цэлае паўнавартаснае пакаленьне), то на Беларусі ў гэты час была суцэльная расейска-камуністычная ноч, НКВД, расстрэлы, рэпрэсіі і генацыд, дэфэнзыва і палянізацыя (на захадзе), Цэлае пакаленьне лепшых беларусаў было расстралянае

Нягледзячы на складанасьць абставінаў у 90-х гадах, прыход да ўлады Народнага Фронту была цалкам выканальная задача, калі б ні ўмяшаньне Расеі ў беларускія справы, у першую чаргу – яе спэцслужбаў і стварэньне імі кантролю над урадам Кебіча, над КГБ, над цэлымі палітычнымі групамі. Адна зь іх (А. Лукашэнка, Л. Сініцын, В. Шэйман, В. Ганчар, Д. Булахаў, А. Лябедзька, І. Ціцянкоў) была прыведзена да ўлады.

Рэжым унутранай прарасейскай акупацыі, выкліканы гэтай „траянскай" групай (якая пазьней распалася), стаў надзвычай разбуральным для беларускай нацыі і культуры, паставіў пад пастаянную пагрозу незалежнасьць Беларусі.

Прамаскоўскі рэжым сфармаваўся як улада грубага аўтарытарызму, з усімі прыкметамі мафійнай і антыбеларускай дыктатуры. Зьнішчэньне Народнага Фронту як нацыянальнай альтэрнатывы рэжыму стала адной з галоўных задачаў уладнай групы.

Гэтая задача, тым ня менш, аказалася не пад сілу новым камбінатарам. Магутнасьць Фронту вырасла ў 1996 годзе. Пратэсты супраць антынацыянальнай палітыкі выклікалі вялікія масавыя дэманстрацыі ў Менску і іншых гарадах. У 1997 годзе, калі антырэжымныя выступы былі яшчэ на ўздыме, Беларускі Народны Фронт на V Зьезьдзе БНФ прыняў рашэньне аб стварэньні на чале з Фронтам агульнабеларускага Вызвольнага руху супраць прамаскоўскага рэжыму і імпэрскай палітыкі Масквы. Гэта абазначала ўмацаваньне беларускай нацыянальна-дэмакратычнай альтэрнатывы рэжыму і злучэньне шырокіх пратэстных сілаў вакол нацыянальнай ідэі і вакол БНФ пад беларускім Бел-Чырвона-Белым сьцягам.

Беларуская нацыянальная альтэрнатыва – гэта сьмяртэльная небясьпека для прамаскоўскага рэжыму. На змаганьне з БНФ рэжым кінуў значныя сілы, ужываў спэцыяльныя мэтады. Нэгатыўны вынік у барацьбе з Фронтам быў дасягнуты ў 1999 годзе, калі былі аб'яднаныя дзеяньні рэжыму (найперш КГБ), Масквы і палітыкі Эўразьвязу. Заходні накірунак уплыву на Беларусь з канца 1997 года ўзначаліў нямецкі разьведчык Ганс-Георг Вік, які фармальна ачольваў Місію АБСЭ у Менску (адначасна быў рэзыдэнтам ва Ўсходняй Эўропе). Вік узгадняў свае дзеяньні з

КГБ, з уладным рэжымам на Беларусі. Плян Віка традыцыйны для заходніх спэцслужбаў: разбурэньне нацыянальнай апазыцыйнай альтэрнатывы (гэта значыць БНФ) і стварэньне не нацыянальнай (гэта значыць не адраджэнскай, не пагрунтаванай на нацыянальнай ідэі) апазыцыі, заснаванай на дэмакратычных „прынцыпах” (а дакладней, на фармулёўках) і на фінансавай падтрымцы Захаду. Такая „апазыцыя” была залежная ад Эўразьвязу. На ўсю працу (уключаючы так званы „перамоўны працэс” з рэжымам) Эўразьвяз, згодна сьведчаньня Ганса Віка, патраціў каля паўтара мільёна даляраў. І, як часта бывае, эфект грошай для некаторых слабых людзей аказаўся занадта моцным сродкам, перавярнуў іхняе думаньне, этыку і паводзіны.

Зьнішчыць Фронт эўрарэжымнай кааліцыі спэцслужбаў, аднак, не ўдалося. Але ў 1999 годзе арганізацыю раскалолі. Неўзабаве пад непасрэдным уплывам Віка і іншых „эўрадыпляматаў” (Адрыяна Севярына, Рывалье і т. п.) была створана заплянаваная „аб’яднаная дэмакратычная апазыцыя”, куды ўвайшлі розныя малыя партыі (створаныя ў першай палове 90-х), людзі, дэманстратыўна выштурхнутыя Лукашэнкам з групы ўлады (А. Лябедзька, Д. Булахаў, В. Ганчар, М. Чыгір і інш.), камуністы, гэбоўская фантомная „лібэральная” партыя С. Гайдукевіча і іншыя групкі і тыпажы, часам адкрыта варожыя беларушчыне, а таксама адколатая частка БНФ, так званыя „прагматыкі”.

Вікаўская „аб’яднаная апазыцыя” – характэрны прадукт эўрапалітыкі ва Ўсходняй Эўропе. Выходзячы з ацэнкі палітычнага канфлікту ў Беларусі, з разуменьня нацыянальных інтарэсаў і сэнсу палітычнага змаганьня – гэта тыпова маргінальная зьява ў беларускай палітыцы, якую і Эўразьвяз, і Масква (і нават, ускосным чынам – рэжым) тут жа паднялі на шчыт.

Свае легальныя кантакты, сувязі і каналы ўплыву на рэжым, Эўразьвяз і Масква выбудавалі праз гэтую маргінальную „апазыцыю”, цалкам ігнаруючы ўсё астатняе, што зьвязана з Адраджэньнем і рэальнай беларускай палітыкай. Ніякіх палітычных вынікаў ад „дзейнасьці” маргінальнай „апазыцыі” не магло быць і, натуральна, не было. Штучнасьць і шкурнасьць яе былі відавочныя. Момант ісьціны найбольш выразна настаў у верасьні-кастрычніку гэтага года падчас так званых „парляманцкіх” выбараў у Беларусі.

Ваенны напад Расеі на Грузію летам 2008 года і рэакцыя на яго ў Эўропе агалілі сутнасьць эўрапалітыкі ў Беларусі. Эўропа прадэманстравала ізноў свой тыповы ўзровень, засьведчыўшы, што інтарэсы для яе важней за ўсялякія прынцыпы. Эўразьвяз пакінуў сваю „апазыцыю” і пачаў інтэнсіўна наладжваць сувязі з рэжымам Лукашэнкі, рахуючы свае геапалітычныя інтарэсы.

„Нас кінулі!” – залемантавалі на крымінальным жаргоне падстаўныя апазыцыянеры. Такі ёсьць фінал палітычнай афёры з „апазыцыяй” Ганса-Георга Віка на Беларусі. Пэрыяд існаваньня падстаўной апазыцыі Ганса Віка – гэта дэманстрацыя стагнацыі і маргіналізма ў палітыцы, пры дапамозе якой непрыяцелі Беларусі хацелі ўплываць на рэжым Лукашэнкі і нішчыць беларускі нацыянальна-вызвольны і адраджэнцкі рух. Страты ад гэтае імітацыі для беларускай палітыкі відавочныя.

У 2000-м годзе на міжнароднай канфэрэнцыі ў Беластоку Ганс Вік адкрыта заявіў, што сэнс яго дзейнасьці ў Менскай Місіі АБСЭ заключаўся ў тым, каб дапамагчы Беларусі ўвайсьці ў склад „дэмакратычнай” Расеі. Чаша цярпеньня перапоўнілася. Ганс Вік быў аб’яўлены Беларускім Вызвольным Рухам (у аснове Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ) пэрсонай „нон-грата”, запатрабавана яго выдаленьне з Рэспублікі Беларусь. У будучыні Ганс-Георг Вік, хутчэй за ўсё, стане перад беларускім дэмакратычным судом за антыбеларускую дзейнасьць і нанясеньне шкоды інтарэсам Беларусі.


(Фота Ул. Кармілкіна)
*105. Збор грошай на мітынгу на патрэбы БНФ. Менск, 1990 г.*

* * *

Беларускі Народны Фронт гэта ня толькі наша дзяржаўная незалежнасьць, ня толькі сапраўдная беларуская дэмакратычная палітыка, ня толькі беларускае нацыянальнае Адраджэньне ***– гэта цэлая яркая эпоха ў жыцьці нацыі і ў найноўшай беларускай гісторыі XX-га стагоддзя.*** Фронт і ягоная дэпутацкая Апазыцыя ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня паднялі і праілюстравалі на фактах і прыкладах, **і вырашылі** найбольш важныя і балючыя пытаньні беларускага народа: пра радыяцыю і злачынства Чарнобыля, пра генацыд і расстрэлы беларусаў расейскімі бальшавікамі, пра вяртаньне беларусаў на Бацькаўшчыну з расейскіх войнаў, з „гарачых кропак” і з савецкага войска, пра ліквідацыю прывілеяў камуністычнай намэнклятуры і ліквідацыю дзейнасьці кампартыі і камсамола ў Беларусі, пра стварэньне беларускага войска, пра ўвядзеньне беларускіх грошай, пра беларускае грамадзянства, пра дыверсіфікацыю рэсурсаў (Балта-Чарнаморскі нафтавы калектар), пра беларускія дзяржаўныя сымвалы (вярнулі *Бел-Чырвона-Белы сьцяг і гэрб Пагоня*), пра дзяржаўнасьць беларускай мовы, пра вяртаньне беларускай школы і адукацыі, пра стварэньне сістэмы ўлады беларускай незалежнай дзяржавы, пра разбуральную ролю расейскай палітыкі ў жыцьці беларускай нацыі.

Безумоўны ўплыў адраджэнцкай ідэалёгіі (і нават тэрміналёгіі Фронту) адбіўся на ўяўленьнях, сьветапоглядзе, думках і думаньні цэлага пакаленьня беларусаў і ўсяго грамадзтва.

Фронтаўскі працяг, рэальная беларуская пазыцыя Адраджэньня і палітыка, якая выходзіць зь беларускіх нацыянальных інтарэсаў, сканцэнтравана цяпер у дзейнасьці і ідэалёгіі Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі Беларускага Народнага Фронта. Гэта аснова БНФ, якая засталася пасьля расколу 1999 года і адыходу „прагматыкаў”. Рэчаіснасьць выразна паказала, што „прагматыкі” страчаныя для беларускай нацыянальнай палітыкі назаўсёды (ва ўсялякім разе, пры гэтым рэжыме). Кампраметацыя ўдзелам ў падстаўной „апазыцыі”, супрацоўніцтва там з камуністамі, са старой і варожай беларускаму руху камуністычнай намэнклятурай (агітацыя за прэзыдэнцтва Уладзімера Ганчарыка, Міхаіла Марыніча), сумніўныя кантакты з Масквой, поўная і пакорная ўлегласьць усім і любым вымогам палітыкі Эўразьвязу ўзамен за фінансаваньне, аплату палітычнай працы і яе імітацыю (што асабліва выразна засьведчылі выбарчыя кампаніі) – усё гэта паказвае, што раскол БНФ выявіў істотныя разыходжаньні ў ідэалёгіі, прынцыпах, падыходах у палітыцы, якія выразна таксама відаць у сцьвярджэньнях гэтых людзей, напрыклад, як гэтае: *„…нацыянальна-вызвольная ідэя, якая была стрыжнем у дзейнасьці БНФ з канца 80-х гг., у значнай ступені вычарпала сябе”... Аптымальна было б не падзяліць Фронт, а аб’яднаць яго з Аб’яднанай грамадзянскай партыяй і іншымі партыямі гэтага накірунку.” (Ю.Хадыка. Бюлетэнь „Избиратель”, №9, чэрвень, 1999 г.; „Беларускія Ведамасьці”, – 2001, № 2 (32), стар. 13).*

Сімптаматычна, што такое было напісана тады, калі „прагматыкі" рыхтавалі пераварот у БНФ.

Супольным з гэтымі людзьмі (некалі сябрамі і аднадумцамі) застаўся толькі пачатак – хвалюючы час беларускай нацыянальнай рэвалюцыі. Гэта тое, што ўсіх нас аб'ектыўна лучыць, заклікае да стрыманасьці і разуменьня.

* * *

Беларускі Народны Фронт – гэта магутная песьня ў жыцьці нацыі, якая гучыць у сэрцы беларусаў і хутка (набліжаецца час) хутка вырвецца голасна на свабоду. Сьпявайма яе.

Настае час новых выпрабаваньняў, і нельга яго змарнаваць. Адраджэньне новага беларускага руху павінна аб'яднаць усіх беларусаў на грунце ўнівэрсальнай і вялікай ідэі, патрэбнай усім, – гэта Беларуская нацыянальная ідэя. Гэтая ідэя, працягам якой ёсьць вольная квітнеючая шчасьлівая Беларусь, дзе ўладарыць сьветлы розум і добрае сэрца, дзе гучыць наша вялікая Беларуская мова, дзе веецца наш Белы-Чырвона-Белы Сьцяг і грозная Пагоня сьцеражэ ўваход.

Ня трэба чакаць нічога зьверху, каб нехта нешта арганізаваў ці зрабіў. Маючы Беларускую ідэю ў сэрцы, – гэтага дастаткова, каб арганізавацца ў любой галіне і рабіць для дабра Беларусі. Тады з мноства малых справаў утвараецца вялікі рух за беларускую Беларусь, за розум і волю бяз цемры, без Расеі і дыктатуры.

Яшчэ прыйдзе, настане другое прышэсьце Народнага Фронта. Яно прынясе рашаючую і канцовую перамогу для Беларусі. Будучыня нашай Айчыны будзе велічнай і магутнай.

***Зянон Пазьняк***

*10 кастрычніка 2008 г.*
*Надрукавана: („Народная Воля", – 2008, 23 кастрычніка. Пад загалоўкам: „Гэта магутная песьня ў жыцьці нацыі").*



(Фота з архіву)

***106. Першае (пасьля 2-й Сусьветнай вайны) падняцьце Беларускага Нацыянальнага Сьцяга ў полі пад Курапатамі 30 кастрычніка 1988 г.***

# ДЗЯДЫ 30 КАСТРЫЧНІКА 1988 Г.

Памятаецца Дзень 30 кастрычніка 1988 году падчас першага публічнага адзначэньня Дзядоў у Менску і падчас ганебнай і праваленай правакацыі ЦК Кампартыі БССР супраць БНФ і Беларускага Адраджэньня. Як потым стала вядомым (30 кастрычніка пра гэта толькі здагадваліся) камуністы зьбіраліся „пусьціць" вялікую кроў (забіць некалькі чалавек) і потым, па ўзоры крывавых падзеяў ў Алма-Аты ў 1986 годзе, усю віну зваліць на „экстрэмістаў" з БНФ. Аўтарам гэтага дзікага пляну быў трэці сакратар ЦК КПБ па ідэалёгіі Валеры Пячэньнікаў (ён жа кіраваў штабам апэрацыі). Кіраўніцтва ЦК (Яфрэм Сакалоў і іншыя) ведалі пра задумку і аж скрыжаталі зубамі ад нецярпеньня. „Дать, чтобы не встали", – „рычаў" 1-ы сакратар ЦК Я. Сакалоў.

Усе гэтыя падзеі ўжо дастаткова шырока апісаныя. Той дзень шмат што зрабіў на Беларусі. Камуністы адштурхнулі ад сябе творчую інтэлігенцыю, а людзі – перасталі баяцца.

Невялічкі экскурс у мінулае. Ля Ўсходніх могілак неарганізаваны натоўп людзей (было каля 8-10 тысячаў чалавек) тысячы міліцыянтаў заціснулі з усіх бакоў. Пастаянна „расьсякалі" тлум і некага хапалі ці труцілі сьлезацечным газам. Адчувалася, што тут рыхтуецца калі ня бойня, то нешта вельмі паскуднае. Нагналі шмат тэхнікі і адгарадзілі ёй супрацьлеглы бок дарогі. Людзі апынуліся нібы ў мяшку. Мне ўдалося знайсьці невялікае ўзвышэньне і папярэдзіць людзей (на ўсе лёгкія і горла), што рыхтуюць правакацыю, дык каб не паддаваліся і не ўвязваліся у бойку, каб трымаліся разам і бараніліся і, галоўнае, што трэба выйсьці адсюль на бясьпечнае месца – ісьці у бок Уручча і налева на Курапаты. Тлум разьдзяліўся. Бальшыня пайшла на Курапаты, частка засталася ля Ўсходніх могілак. Гэта пасеяла паніку ў шэрагах міліцэйскіх палкоўнікаў і генэралаў. Нешта ў іх перавярнулася. Чуўся лямант па рацыях. Аддавалі супярэчлівыя каманды (потым мы даведаліся прычыну такой іхняй разгубленасьці). Я апынуўся ў шчыльным коле прыхільнікаў і абсалютна не знаёмых мне людзей. Яны ўзялі на сябе абавязкі фізычнай аховы. Па дарозе нас абагнала калёна міліцэйскіх аўтобусаў. Мы даведаліся, што Курапаты акружаныя міліцыяй і ўнутранымі войскамі, што туды нікога не пускаюць, а падмацаваньні паехалі, каб нас „сустрэць". Ісьці туды – значыць удзельнічаць у іхным абсурдзе. Па дарозе (калі зьехалі міліцэйскія аўтобусы) я папрасіў усіх збочыць управа ў поле на касагор каля лесу. На шчасьце побач апынуўся Ўладзімер Арлоў і гэта аблегчыла правядзеньне мітынгу. (Усіх вядомых фронтаўцаў, актывістаў і сяброў Аргкамітэту БНФ пахапалі яшчэ каля Ўсходніх могілак; мяне людзі адбілі з рук міліцыі, але сьлёзацечнага газу пакаштаваў напоўніцу).

З Арловым мы дамовіліся, што тут, у полі, пакуль „мянты" апамятаюцца і расшалопаюць наш манеўр, мы правядзем мітынг, зачытаем маніфэст і падымем Беларускі сьцяг (падышло пару хлопцаў і сказалі, што гэта зробяць – пашылі дзеля такога дня). Стоячы ў натоўпе, гаварыць да ўсіх было немагчыма, бо ня бачылі і ня чулі прамоўцу. Тады людзі апусьціліся на калені на мерзлае поле і, о дзіва, каля трох тысячаў чалавек чулі з голасу. Незабыўныя імгненьні. Гаварылі, хто хацеў. Але коратка, ёмка і па справе ў поўнай палявой цішыні, пад посьвіст ветру, часам са сьнегам.

Калі аддзелы міліцыі і ўнутраных войскаў вярнуліся і акружылі з трох бакоў наш палявы мітынг, усім мы сказалі, што як толькі кінуцца нас разганяць, каб усе ўсхапіліся па камандзе і шчыльна счапіліся рукамі ў кошык. „Кошыкам" будзем выходзіць на дарогу ў горад. Задача ня даць, каб нас расьсеклі, разагналі і хапалі

то „нарцысам", то фанатыкам. Дарэчы, ніхто з фронтаўцаў „прагматычнай хвалі" (апрача Хадыкі) не ахайвае майго імя (лічаць за лепшае проста замаўчаць).

У цэлым, ніхто ў Фронце (ізноў жа, акрамя Хадыкі) не выступаў і супраць канцэпцыі Вызвольнага Руху.

Абвяшчэньне Фронтам Вызвольнага руху ў 1997 г. (V-ы Зьезд) абазначала ідэю аб'яднаньня беларускіх сілаў і стварэньне нацыянальнай адраджэнцкай альтэрнатывы прамаскоўскаму рэжыму. Гэта была альтэрнатыва сфармаваная па сутнаснай прыродзе палітычнага канфлікту, які існуе ў Беларусі. Яна стваралася пад сьцягам нацыянальна-дэмакратычных ідэй, замацоўвала дамінацыю Нацыянальнай ідэі і вядучую ролю Народнага Фронту.

Канфлікт паміж рэжымам і грамадзтвам мае ў Беларусі нацыянальны характар. Гэта антыбеларускі рэжым, і таму ён ня можа быць дэмакратычным.

Гэтак жа, як каляніяльная імпэрыя ня можа быць дэмакратычнай (бо, каб існаваць, яна вымушана душыць іншыя народы і свабоду), гэтак ня можа быць дэмакратычным рэжым антынацыянальны.

***Альтэрнатыва антынацыянальнаму рэжыму мусіць быць толькі нацыянальная***. Усё астатняе – маргіналізм. Усялякае іншае змаганьне ня будзе мець пэрспэктывы, апынецца ў тупіку.

Ні адна імпэрыя, і ў XIX, і ў XX стагоддзях, не развалілася ад udараў дэмакратыі і ад дэмакратычных ідэй, а толькі ад нацыянальна-вызвольных рухаў. Савецкі Саюз даканала не перабудова, а народныя франты, якія былі нацыянальна-вызвольнымі рухамі. ***Нацыяналізм – сьмерць усялякай каляніяльнай імпэрыі. Нацыянальная альтэрнатыва – адэкватная зброя супраць антынацыянальнага рэжыму.***

Вось у чым была сутнасьць абвяшчэньня Вызвольнага руху. Натуральна, гэта занепакоіла Маскву і яе палітычных хаўрусьнікаў на Захадзе (яны ведалі і пра БЧС, і пра магчымасьці Беларусі пад кіраўніцтвам БНФ). У Менск прысылаюць Ганса Віка, абяцаюць сродкі, офісы і даляры і пачынаюць ствараць агульнадэмакратычную апазыцыю ў Беларусі ды развальваць БНФ.

Астатняе вядома: гэта „шырокая дэмакратычная апазыцыя" (з камуністамі ў кучы), вынішчэньне ўсяго беларускага (пры поўнай маўклівасьці Захаду) і дзевяць гадоў шырокага „апазыцыйнага" маразму.

Цяпер, седзячы на руінах прагматычнай сьвісьцёлкі, многія з прагматыкаў убачылі рэальнасьць і пачуваюцца ніякавата. Але толькі ня Ю. Хадыка. Рэальнасьць краху прагматычных надзей і маргінальнага тупіка яго не бянтэжыць. Ён і цяпер паўтарае сваё „стрыжана". „А я і тады, і зараз лічу гэтую ідэю памылковай", – піша ён пра Вызвольны рух. *(Народная Воля, 2008, 6 лістапада.)*

Сумняваюся, што аўтар тут не ўсьведамляў, што пісаў, але тым ня менш ён бярэцца пісаць і пра такія рэчы, пра якія мае зусім цьмянае ўяўленьне. Ю. Хадыка ня быў дэпутатам і ня ведаў, (дый не разумеў) шмат чаго, што адбывалася ў Вярхоўным Савеце. Аднойчы, у 1992 г., ён стаў сьведкам эмацыйнай рэакцыі фронтаўскіх дэпутатаў на антызаконнае рашэньне камуністычнага Вярхоўнага Савета аб забароне правядзеньня рэфэрэндума пра новыя выбары. Апазыцыя БНФ тады перажыла моцны і несправядлівы ўдар. Некаторыя гатовыя былі ў роспачы пакласьці дэпутацкія мандаты. Аднак мінуў першы шок, і дэпутаты пагадзіліся і зразумелі, што трэба працягваць барацьбу, карыстаючыся з істотных магчымасьцяў Вярхоўнага Савета. Выход з парляманту на хвалі эмацыйнай рэакцыі (гэтага камуністы толькі і чакалі) абазначаў бы ў тых умовах поўны крах і ўлюлюканьне ўсьлед (не кажу ўжо пра тэлебачаньне і друк, якія мы не кантралявалі). Рэакцыя грамадзтва на забарону рэфэрэндума была пасіўная. Выхад фронтаўцаў у тых абставінах зь Вярхоўнага Савета імгненна прысьпешыў бы прамаскоўскую дыктатуру разам з ўвядзеньнем расейскага рубля (усе гэтыя працэсы ў кебічаўскім рэжыме стаялі на парадку дня). Кебіч ня меў крамлёўскіх амбіцыяў, і „інтэграцыя" разьвівалася б зусім па іншым сцэнары. Мы страцілі б незалежнасьць (і Лукашэнка не спатрэбіўся б).


(Фота з Сеціва: „Наша ніва")

*120. Менск, дэманстрацыя моладзі.*

Ю. Хадыка зноў паўтарае: „памылка", „памылка". Маўляў, трэба было кідаць Вярхоўны Савет. І так бясконца. (Яшчэ й піша пра гэта з важным выглядам.) *(Народная Воля, 2008, 6 лістапада.)*

Памятаю пасьля абраньня Лукашэнкі на прэзыдэнта Беларусі летам 1994 г. на паседжаньні Сойму спадар Хадыка ўвогуле „паверг" шмат каго ў глыбокі шок, прапанаваўшы, каб Фронт стаў супрацоўнічаць з Лукашэнкам і дапамагаць яму правільна выбіраць дзяржаўную палітыку. Я спыніў тады ўсялякае абмеркаваньне гэтай прапановы, сказаўшы, што ўсё стане відаць праз 100 прэзыдэнцкіх дзён. Тады будзе і рашэньне.

Пастаяннае імкненьне да калябаранцтва не вынікае, аднак, толькі з асабовасьці. Па сутнасьці (асабліва пасьля расколу Фронта), спадар Хадыка зрабіўся рэтрансьлятарам (гучнамоўцам) усёй гэтай брусэльска-маскоўскай небеларускай „апазыцыйнай" лухты, езьдзіў разам з прамаскоўскай публікай у Маскву, у СВОП, „Прэзыдэнт-гатэль", слухаў там нямцовых, хакамадаў і ўсю гэтую варожую Беларусі падстаўную маскоўскую квазі-дэмакратыю, якой цяпер (15-га лістапада) Лубянка дала ў Маскве адмашку – самараспусьціцца і пад назвай „Правое дело" працаваць пад кіраўніцтвам Крамля, што гэтыя расейскія „дэмакраты" дружненька і зрабілі. (І каго тут яшчэ нашы схаласты хацелі заблытаць? Што яны там яшчэ пішуць?)

* * *

Які ж цяпер наш беларускі адраджэнцкі стан? Ёсьць дзьве істотныя рэальнасьці. Пасьля расколу Фронт аўтаматычна зьнізіў узровень і маштаб як аб'яднаўчы масавы нацыянальны рух. Тут чыстая тэхналёгія. Агульным і адзіным можа быць толькі цэлае (але ня часткі, якія разышліся). Патрэбныя ўмовы і час для крышталізацыі новай якасьці.

Са зьніжэньнем аб'яднаўчай магчымасьці фармальна зьмалела роля частак Фронту як палітычнай нацыянальнай альтэрнатывы рэжыму, ідэі якой жывуць у Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ.

Другая рэальнасьць у тым, што месца нацыянальнай альтэрнатывы рэжыму заняла маргінальная так званая „дэмакратычная апазыцыя", створаная на падставе інтарэсаў Захаду і Масквы.

Маргінальная апазыцыя не пагрунтаваная на Нацыянальнай ідэі. Існаваньне яе ў якасьці палітычнай альтэрнатывы абазначае, што пры любых пераменах улады Беларусь будзе

пазбаўленая нацыянальнай пэрспэктывы нармальнага народнага і культурнага разьвіцьця.

Цяперашняя маргінальная (ці падстаўная, як яе называюць) апазыцыя разам з камуністамі на чале, прамаскоўскімі агэпоўцамі, агентурай і прагматыкамі, у выпадку перайманьня ўлады (хоць у рэальнасьці гэта мала верагодна) магла б стаць ня менш небясьпечнай для незалежнай Беларусі, чым рэжым Лукашэнкі. Усьлед за гэтай публікай ідзе прадажнасьць, карупцыя, лібэралізм і распуста, слабая ўлада, расейская мова і пасаваньне перад Масквой, новы перадзел уласнасьці і новае расьцягваньне нацыянальнай маёмасьці.

Каб пазьбегнуць горшага, ***мы, беларусы, павінны адрадзіць наш Беларускі Народны Рух дзеля ліквідацыі прамаскоўскага рэжыму і адраджэньня Беларусі,*** дзеля ўсталяваньня добрага жыцьця для беларускага народа на сваёй зямлі і ў сваёй дзяржаве.

Людзі краіны з высокай цывілізацыйнай культурай у мінуласьці ня могуць жыць толькі фізічнымі інтарэсамі. Гэты стан уладнага цемрашальства, нізкасьці, хамства, зьдзеку і хлусьні ў стане спыніць і скончыць толькі салідарнасьць вышэйшых людзей. Памятаем, што рэжым прышоў да ўлады і трымаецца на цемры, расейскай савецчыне і КГБ. У гэтай сытуацыі ***беларускае культурна-нацыянальнае асьветніцтва ёсьць перадумова пасьпяховага змаганьня за свабоду, а нацыянальныя ідэалы – першасная зброя барацьбы.*** І ня трэба слухаць дэмагогіі пра „новую сучаснасьць", глабалізацыю і т.п. Мы добра ведаем, што нацыянальная культура ў сучасным сьвеце ёсьць найвялікшы чыньнік суверэнітэту, а нацыянальная адукацыя і інтэлект – найважнейшы рэсурс і сродак вытворчасьці.

Тое нацыянальнае самавызначэньне, што засталося нясконченым у сьведамасьці грамадзтва сто гадоў таму і потым зглумленым з-за неспрыяльных абставінаў, мусіць быць хутка пройдзена цяпер (нават ва ўмовах антынацыянальнай улады, як кансалідацыя супраць гэтай улады). ***Змагацца супраць антынацыянальнага рэжыму трэба на нацыянальнай аснове.*** Ніякая дэмакратыя немагчымая ў нацыянальна незавершаным грамадзтве – будуць адны лукашэнкі. Сьветлая, вольная Беларусь хай стане нашым сьцягам. Тут, праз Беларусь, праходзіць для нас галоўны мерыдыян нашага часу. І нават ня часу, а сэнсу. Сэнсу ўсяго беларускага існаваньня.

*Лістапад 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларус", – 2009, № 552, студзень).*

# ПАТРЭБНЫ НОВЫ НАРОДНЫ РУХ

***(Выступ на сьнежаньскім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". Скарочана)***

**…**Апошнія два гады мінулі ў вельмі неспрыяльных для Беларусі абставінах. Рэжым практыкаваў татальныя рэпрэсіі супраць усяго беларускага, нішчыцелі спрабавалі забараніць і нашу Партыю, але гэта ім не ўдалося. І хоць наша фармальнае становішча пасьля рэпрэсіяў пагоршала (праблема памяшканьня, сувязі, сродкаў), але яно не спараджае няпэўнасьці. Наадварот, узрастае ўпэўненасьць. Бо мы адчуваем і назіраем вынікі нашай нацыянальна-асьветніцкай працы і перамогу нашай пазыцыі ў дачыненьні да рэжымных выбараў і рэфэрэндумаў. Я маю на ўвазе нашу канцэпцыю байкоту, якую грамадзтва, нарэшце, пачало ўспрымаць і ў гэтым годзе сваім няўдзелам дапамагло правваліць фальшывыя выбары. Іх ніхто не прызнаў, акрамя Масквы.

Хачу зьвярнуць Вашу ўвагу, што над праблемай байкоту антынароднай выбарчай сістэмы мы працуем ужо скора дзесяць гадоў. Першы станоўчы вынік, як вы памятаеце, быў ужо ў 2000 годзе, але толькі цяпер, у 2008-м, гэта наша пазыцыя праявілася ў грамадзтве як сістэмная зьява. Вы бачыце, што ёсьць сэнс у пасьлядоўнай канцэптуальнай працы. Урэшце рэшт яна дае вынік. У прынцыпе, можна заблякаваць цалкам рэжымныя выбары, і рэжым пачне задыхацца. Патрэбная мэтанакіраваная праца. Але пакуль будуць існаваць штрайкбрэхеры ў выглядзе падстаўной апазыцыі, датуль будуць сур'ёзныя перашкоды ў нашым змаганьні з рэжымам. На ліквідацыю штрайкбрэхераў мы павінны будзем мабілізоўваць само грамадзтва.

Па маіх назіраньнях, маргінальная апазыцыя не існуе як сістэмная і колькасная палітычная сіла. Гэта пару дзясяткаў асобаў, якія сядзяць на замежных датацыях і знаходзяцца у Менску, генэралы бяз войска, самы стаяць у пікетах і самы раздаюць сумніўныя ўлёткі пра правы чалавека, напісаныя па-руску. Спыніць іхняе шкоднае існаваньне можна адным махам – перакрыць замежныя датацыі. Рэжым гэта ня робіць, бо яму лепш мець такую „падстаўку", чымся сапраўды змагарны народны рух, праявы якога дыктатура імкнецца тут жа душыць.

Пра халуйства маргіналаў і поўзаньне перад Масквой мы пісалі ўжо шмат разоў, паказвалі іхныя імітацыі барацьбы і падлыжнасьць перад рэжымам. Але публіка не сарамлівая, і цынізму няма канца.

Нядаўна так званыя „Аб'яднаныя дэмакратычныя сілы" напісалі пад кіраўніцтвам Яраслава Раманчука „праграму" „Новы эканамічны курс" і накіравалі яе Лукашэнку *(радыё „Свабода", 11 сьнежня 2008 г.).* У „праграме" яны прапануюць Лукашэнку скасаваць Савет Міністраў і стварыць узамен „групу антыкрызіснага кіраваньня" пры адміністрацыі прэзыдэнта, а кіраўніком гэтай „групы" просяць прызначыць аўтара „опуса", гэта значыць Яраслава Раманчука. Нават тэкст указу аб прызначэньні напісалі і накіравалі Лукашэнку (каб аблегчыць, значыцца, яго клопат).

Ну, што тут скажаш? Даўно вядома (яшчэ з часу спробы пабудаваць „пэрпэтум мобіле"), што агульны ўзровень ідыятызму ў рэжымнай Беларусі лунае на недасягальнай вышыні. Тут гэта заразная хвароба, інфэкцыйнае захворваньне. Вось гэта „дэмсілы"! Вось гэта „апазыцыя"! Сама просіцца на службу да праклятага „дыктатара". Але іх можна зразумець: „свабоды" няма, дык часам і лейтэнантам хочацца „паруляваць".

Ліквідацыя падстаўной маргінальнай „апазыцыі" для нас даўно зразумелая задача. Толькі, як аказалася, гэта няпростая задача. Бо пакуль існуе рэжым, будзе і гэтая ягоная „апазыцыя". Яна для яго як нялюбая жонка: днём яе лупіць і б'е, а ноччу сьпіць.

Падзеі ў Расеі, аднак (дзе Лубянка распусьціла ўсе свае так званыя „правыя апазыцыйныя партыі" і стварыла зь іх „Правое дело", якое будзе супрацоўнічаць з Крамлём), нагадваюць, што аналягічныя перамены са статусам „падстаўной апазыцыі" ў прын-

цыпе магчымыя і ў Беларусі. Як бачым, так званыя „аб’яднаныя дэмсілы” ўжо імкнуцца ўвайсьці ў структуры антыбеларускага рэжыму (дакладней, хочуць вярнуцца туды, адкуль прыйшлі). Дарэчы, тут адчуваецца дырыжорская палачка з Масквы. Там расфармаваньне лубянскай „апазыцыі” ідзе поўным ходам, тамтэйшы „лідэр” „правых сіл” Мікіта Бялых ужо нават пасаду губэрнатара ад Крамля атрымаў.

Крызіснае становішча (маецца на ўвазе эканамічна-фінансавы сусьветны крызіс) абцяжарвае жыцьцё людзей, але адначасна стварылася лепшая кан’юнктура (праўда, пакуль нязначная) для змаганьня за патрэбы беларусаў і за інтарэсы Беларусі. Сытуацыя, аднак, у каторы раз пацьвярджае, што за Беларусь могуць рэальна і вынікова змагацца толькі людзі і сілы адраджэнскай накіраванасьці.

Антыбеларускі рэжым пачаў ў рэчышчы агульнага нацыянальнага нішчэньня ліквідацыю дробных прадпрыймальнікаў. Кожны адраджэнец разумее акупанцкі сэнс гэтай ліквідацыі (гэтак жа, як і ліквідацыю беларускай школы, мовы, сымволікі, саюзу пасьменьнікаў, беларускіх часопісаў, выдавецтваў, вёскі і сялянства і г. д.). Недаходзіць ён, гэты сэнс, толькі да прадпрыймальнікаў. Акупацыйная палітыка ўжо даўно занялася імі шчыльна і жорстка. Яны ж лемантуюць і паўтараюць, як заведзеныя, лёзунгі сваёй кіроўнай агентуры: „Ніякай палітыкі!” „Мы па-за палітыкай”! Нацыянальна сьляпы чалавек бывае неадэкватны ў паводзінах.

Гэтак жа неадэкватна паводзяць сябе розныя канфармісцкая групы. У гэтым годзе рэжым прыняў антыбеларускі закон супраць мовы – увёў свой рэжымны правапіс і юрыдычную адказнасьць за парушэньне рэжымнай артаграфіі. Да ўводу закона ў дзеяньне яшчэ больш чым паўтара гады. Яшчэ ёсьць час легальна пазмагацца за зьмены ў законе (як гэта правільна робяць А. Трусаў і ТБМ), пашукаць выхаду са становішча. Зрэшты, вымушанае падпарадкаваньне гвалтоўнаму закону дазваляе ўсё ж захаваць твар і, галоўнае, – пакінуць пратэст, сваю рацыю і магчымасьць барацьбы.

Не, канфармісты так ня робяць, яны йдуць здавацца заранёў з высока паднятымі ў гару рукамі. А потым будуць даводзіць, што ў гэтым і ёсьць іхныя прынцыпы.

Першай пайшла па такой дарожцы і адмовілася ад клясычнага правапісу рэдакцыя тыднёвіка „Наша Ніва”. Як кажуць, пайшлі на шыбеніцу са сваёй вяроўкай (памятаеце гэты трапны антыбеларускі анэкдот?).

У наступным годзе, адразу пасьля Зьезду, нам трэба будзе актывізаваць нашу ініцыятыву „Беларуская Салідарнасьць” з акцэнтам на нацыянальна-палітычную асьвету грамадзтва. Маргінальная апазыцыя, як бачым, можа існаваць толькі ў дэнацыяналізаваным балоце, дзе няма крытэрыяў, акрамя славаблудзтва. Перамена сьвядомасьці пераменіць абставіны. Гэта адзін аспэкт практычнага і крытычнага прыстасаваньня ініцыятывы. Другі аспэкт, які выяўляецца цяпер як грамадзкая патрэба, – гэта падрыхтоўка ідэйна-палітычнага грунту пад новы беларускі народны рух, які разгоніць маргінальную апазыцыю і пачне рэальнае змаганьне з прамаскоўскім рэжымам.(…)

*14 сьнежня 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

# НАПЕРАДЗЕ ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

***(Даклад на VIII Зьезьдзе Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Х-м Зьезьдзе Беларускага Народнага Фронта „Адраджэньне”)***

Паважаныя спадарыні і спадары, шаноўныя дэлегаты Зьезду! Вітаю Вас у Бацькаўшчыне, у найлепшай краіне, якая ёсьць на сьвеце!

Калі я думаю пра гэта – уся наша гісторыя паўстае прад вачыма. Пакаленьнямі йдзе змаганьне, каб адрадзіць яе веліч і вольную моц. Крок за крокам, стагоддзямі гінулі лепшыя людзі, крок за крокам набліжаемся мы да мэты.

Думаньне пакаленьнямі мусіць быць ня толькі ў ацэнцы гісторыі, але і ў разуменьні будучыні народа. У сьведамасьці грамадзяніна нацыі мінулае, цяпершчына і будучыня народа суіснуюць адначасна. Гэтакай асобай вызначаецца нацыянальны ўзровень грамадзтва. Ва ўсе часы і пры любых умовах трэба спрыяць, каб была, узьнікала і разьвівалася такая асоба. З гэтага гледзішча ідэалёгія і дзейнасьць Народнага Фронту цалкам адпавядае натуральнай патрэбе існаваньня і разьвіцьця нашай краіны.

Сёлета надышло некалькі круглых угодкаў нацыянальных падзеяў. Вясной мы адзначалі 90-годдзе аб’яўленьня незалежнасьці БНР, летам – 20 гадоў адкрыцьця Курапатаў, восеньню – 20-годдзе першага масавага грамадзкага адзначэньня „Дзядоў” у Менску і першага сілавога сутыкненьня з капэпэсаўскім рэжымам на Беларусі. Нарэшце, 19 кастрычнака гэтага года споўнілася 20 гадоў Беларускаму Народнаму Фронту „Адраджэньне”.

Беларускія асяродкі ў Беларусі ў меру магчымасьці, улічваючы антыбеларускія абставіны рэжыму, адзначылі гэтыя даты і ацанілі іх агульнанацыянальнае значэньне. На гэтыя тэмы зьявілася каля дзясятка публікацыяў у друку і Сеціве. Практычна, усе яны падрыхтаваныя сябрамі нашай Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі Фронту. Рэжымная навука (як, зрэшты, і індывідуальныя дасьледчыкі) пазьбеглі пісаць пра гэтыя ўгодкі. Але яно можа й добра – менш глупстваў, некампэтэнцыі, безадказнасьці, фальшу і няпраўды трапіла на старонкі друку.

Мушу сказаць, што абарона і выяўленьне гістарычнай праўды ў антыбеларускіх абставінах – гэта таксама чын вялікага значэньня, асабліва ўлічваючы этнацыд і антыкультурную палітыку рэжыму.

З цягам часу значэньне гістарычнай працы ўсё больш узрастае. Мы, адраджэнцы, павінны своечасова гэта ўсьведамляць. Бо нават з упадкам рэжыму на Беларусі заўсёды знойдуцца аматары напляваць у народную мінуласьць, утахціць у гразь дзеяньні і людзей, што змагаліся за Беларусь, за волю супраць Масквы, расейскай агрэсіі і рускага імпэрыялізму.

Наша Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ ажыцьцяўляе працяг справы Народнага Фронту, той справы, якая прывяла нашу краіну да незалежнасьці і суверэннай беларускай дзяржавы. Гэта значыць, што мы робім і плянуем такую палітыку, якая зыходзіць з нацыянальных інтарэсаў, адпавядае патрэбам людзей, спрые умацаваньню і разьвіцьцю беларускай дзяржавы, беларускай мовы і беларускай культуры.

Уплыў дзейнасьці, палітыкі і ідэалёгіі Фронту быў найбольшы ў першай палове 90-х гадоў. Дамогшыся незалежнасьці, але ня




***121. Менск, 2008 г. VIII Зьезд Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

маючы ўлады, Фронт, тым ня менш (дзякуючы найперш свайму дзейснаму дэпутацкаму авангарду ў Вярхоўным Савеце), найбольш паспрыяў сістэмнаму і структурнаму стварэньню незалежнай беларускай дзяржавы. Дэпутацкая Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце ставіла ў першую чаргу задачы арганізацыі сістэмы і чыньнікаў улады, якія забясьпечваюць, выяўляюць і гарантуюць дзяржаўны суверэнітэт Беларусі. Гэта найперш – ***нацыянальныя сымвалы***, ***нацыянальнае войска***, ***нацыянальнае грамадзянства***, ***нацыянальныя грошы (банкаўскія і фінансавыя сістэмы), нацыянальнае прадстаўніцтва за мяжой (амбасады).*** Усё гэта было дасягнута пры падтрымцы грамадзтва ў вельмі жорсткай барацьбе з савецка-камуністычнай прамаскоўскай намэнклятурай, якая (яшчэ раз нагадаю) трымала ў сваіх руках усю выканаўчую ўладу і мела пераважную („падаўляючую") бальшыню ў Вярхоўным Савеце. Аднак заканатворчая перамога і тут сталася на баку дэпутацкай Апазыцыі БНФ. (Ізноў жа, нагадаю, гэта ня быў цуд, ня містыка, а вельмі дакладна распрацаваная палітыка і тактыка дэпутатаўфронтаўцаў, іхняя арганізаванасьць, умелае выкарыстаньне часовай няўпэўненасьці і ваганьняў намэнклятуры.

З канца 1992 года (пасьля кансалідацыі савецкай рэакцыі з Масквой і ўключэньнем КГБ у намэнклятурную палітыку на Беларусі) барацьба ўскладнілася і перакінулася на ўсю краіну. Пэрыяд кебічаўскай рэакцыі (1993-1994) быў вельмі цяжкім, але спыніць незалежнасьць і нацыянальнае разьвіцьцё Беларусі непрыяцелям беларушчыны не ўдалося. Ідэі Фронту тады ўжо глыбока паўплывалі на перадавую частку грамадзтва. Разьвівалася беларуская школа і беларуская навука, тэатр і мастацтва, хутка ўзьнялася беларуская гістарычная навука, пазбаўляючыся ад рэпрэсіяў і фальсіфікацыяў, друкаваліся беларускія кніжкі. У вуснах людзей, нават незаўважна для іх, зьяўляліся нармальныя фронтаўскія азначэньні рэчаіснасьці, нармальныя беларускія думкі ў галаве (замест каляніяльна-савецкага бязладдзя паняцьцяў).

Унутраная акупацыя, прывядзеньне да ўлады Лукашэнкі і кантроль маскоўцаў над ключавымі пазыцыямі ўлады ў Беларусі зьмянілі сацыяльны парадак у беларускім грамадзтве. На паверхню ўлады і ўвогуле кіроўных ды прадстаўнічых сфэраў дзяржавы ўсплылі прымітыўныя, малакультурныя людзі з мэнтальнымі дэфэктамі, нізкім узроўнем думаньня і паводзінаў. Пашыраецца хамства, бескультур'е, бяздушнасьць, беларусафобства. Усё гэта выявілася ў вярхах рэжыму і, адпаведна, глыбока пранікла і справакавала ўсё грамадзтва.

***Абніжэньне культурнага ўзроўню грамадзтва – бадай што найбольш разбуральны вынік антыбеларускай улады і аўтарытарнага рэжыму на Беларусі.*** Я кажу „бадай што найбольш", бо такое адразу і хутка не выпраўляецца. Спатрэбіцца доўгі час, і толькі пры ўмове мэтанакіраванай культурнай палітыкі (пачынаючы са школы і выхаваньня) можна будзе ў прынцыпе паправіць стан культуры грамадзтва да лепшага.

Прамаскоўскі рэжым заблякаваў ня тое што ідэі БНФ, а ўвогуле выключыў усё жывое, беларускае з рэжымнай палітыкі і афіцыйнага ўжытку, ізаляваў школу і адукацыю, уводзячы ўзамен русіфікацыю і пакланеньне перад Масквой. У гэтым становішчы адраджэнская палітычная сіла павінна была ўзяць на сябе адначасна і функцыі нацыянальна-асьветніцкай арганізацыі. Фактычна, з такой „сінкрэтычнай" дзейнасьці і пачынаўся Народны Фронт за саветамі. Былі тыя ж праблемы, хіба што толькі па форме татальная русіфікацыя тады не праводзілася так па-хамску, адкрыта і груба, а заўсёды ілжыва пад прыкрыцьцём „будаўніцтва камунізму", стварэньня „новой общности *„советский народ"* і г.д.

У Народным Фронце ад пачатку ўсе разумелі, што перш чым весьці зь людзьмі палітычны дыялёг, трэба, каб існаваў дыялёг




***122. Юры Беленькі выступае на ўрачыстым паседжаньні Сойму БНФ, пасьвечаным 20-й гадавіне Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". Кастрычнік 2008 г.***

культурнай тоеснасьці. Тоеснасьць была парушана і папсавана саветамі, і тады Фронт узяў на сябе (адначасна з палітычнай) функцыю асьветніка і „будзіцеля". Цяпер, ва ўмовах унутранай акупацыі і новай русіфікацыі грамадзтва, нацыянальна-культурнае і палітычнае асьветніцтва стала абавязковым зьместам нашай адраджэнскай дзейнасьці.

Мы зноў абнавілі яе больш-менш сістэмна ў гэтых цяжкіх умовах, пачынаючы з 2000 года. ***Уплыў нашай працы на тыя сфэры, куды яна накіраваная, ёсьць ідэёва заўважальны.*** Асабліва хачу адзначыць паправу разуменьня ў грамадзтве палітыкі Расеі ў дачыненьні да Беларусі і ў цэлым у сьвеце. Нашай палітычнай тэрміналёгіяй (дзесяцігадовай даўнасьці) цяпер пачалі паўсюдна карыстацца ня толькі крытычна думаючыя вольныя людзі і нядаўнія непрыймальнікі элемэнтарных фактаў, але нават асобы, якія раней над палітыкай не задумваліся.

Культурна-асьветніцкая і палітычная праца ў сфэры ідэй, накіраваная на грамадзтва, не дае імгненнага выніку. Патрэбны час (асабліва ўлічваючы афіцыйную контрпрапаганду і апартуністычную дзейнасьць падстаўной апазыцыі). Гэта добра відаць на прыкладзе разьвіцьця ідэі байкоту фальшывага галасаваньня.

Ідэя байкоту рэжымных выбараў узьнікла ў Фронце пасьля фальсіфікацыйнага і незаконнага рэфэрэндуму 14 траўня 1995 года. Стала выразна бачна, што ва ўладзе замацавалася прарасейская хунта і ад грамадзтва адабралі магчымасьць кантролю за галасаваньнем. У 1996 годзе, калі рэжым рыхтаваў антыканстытуцыйны пераварот і чарговы незаконны рэфэрэндум па зьмене Канстытуцыі, пытаньне байкоту было пастаўлена зноў, але не даведзена да канца. Сытуацыя тады яшчэ не сасьпела ў грамадзтве ды і ў самым Фронце. Былі людзі, што не разумелі сутнасьці падзеяў, якія плянаваліся рэжымам і адбываліся ў іх на вачах (пазьней гэтыя асобы вылучыліся ў „прагматыкаў").

З 2000 года пытаньне палітычна абвастрылася, бо ў канцы 1999 года рэжым Лукашэнкі і Масква стварылі небясьпечны антызаконны фантом – аб'явілі антыканстытуцыйную так званую „саюзную дзяржаву" нібыта Беларусі і Расеі, і Расея пачала ствараць пад яе прыдуманыя структуры.

Наступным этапам змоўшчыкі заплянавалі ўвядзеньне расейскіх грошай на Беларусі. Усе гэтыя пляны па ліквідацыі беларускай незалежнасьці меркавалі замацаваць у так званым „канстытуцыйным акце" фантомнай „саюзнай дзяржавы", які плянавалі прыняць на рэфэрэндуме.

Антынародны плян затармазіўся па адной прычыне: змоўшчыкі ня могуць дамовіцца аб уладзе, аб тым, хто будзе кіраваць фантомам СД (а фактычна, – Крамлём і Расеяй). Беларусы апынуліся ў закладніках гэтых гэбоўскіх авантурыстаў, а правядзеньне любых выбараў пры наяўнасьці машыны фальсіфікацыі стала цяпер небясьпечнай справай, бо змоўшчыкі могуць у кожны час далучыць да іх (на законнасьць тут ужо ніхто не зважае) рэфэрэндум аб „канстытуцыйным акце" СД.

Запабегчы рэалізацыі гэтай авантуры пры бессэнсоўнасьці галасаваньня можа толькі байкот галасаваньня. З гэтага часу мы пасьлядоўна разьвіваем канцэпцыю байкоту выбараў у Беларусі, якія з-за фальсіфікацыяў і адлучанасьці людзей ад кантролю над галасаваньнем сталі небясьпечнамі для грамадзтва і на якіх

Расея магла б рэалізаваць свае анэксійныя пляны (асобна мы разглядаем прэзыдэнцкія выбары, але і тут магчымы байкот).

Нагадаю, што ў 2000 годзе, нягледзячы на процідзеяньне Нямеччыны і Эўразьвязу, нам удалося правесьці байкот у Менску. Першы тур выбараў у „палатку" праваліўся. Людзі не пайшлі галасаваць. Другі тур рэжым, ратуючыся, панічна і груба сфальсіфікаваў. Але ўдар быў нанесены. Шмат у каго расплюшчыліся вочы.

Пасьля 2000 года супроцьдзеяньне байкоту стала выразна акцэнтаваным з боку рэжыму, з боку падстаўной „апазыцыі" і з боку Заходняй Эўропы. У Эўразьвязе дамінавалі немцы, і нямецкая дыпляматыя праводзіла палітыку, узгодненую з Расеяй і накіраваную на ліквідацыю беларускай незалежнай дзяржавы. Усё гэта рабілася пад выглядам барацьбы з „дэфіцытам дэмакратыі" у Беларусі, якую павінна была дапамагчы дэмакратызаваць нібыта „дэмакратычная" ўжо Расея, і з гэтага гледзішча „аб'яднаньне" Беларусі з Расеяй немцы лічылі станоўчым намерам. Пэўныя нямецкія колы, па ўсім відаць, уважалі, што ліквідацыя беларускай незалежнасьці была б геапалітычна і эканамічна выгаднай для Нямеччыны.

У час сэрбскага крызісу ў верасьні 2000 года на міжнароднай канфэрэнцыі ў Беластоку Ганс Вік прагаварыўся, што яго дзейнасьць у Менску на пасадзе старшыні Місіі АБСЭ была накіравана на падрыхтоўку ўваходжаньня Беларусі ў склад Расеі. Зразумела, што пасьля байкоту 2000-га года „эўрадэмакратызатары" паказалі менскай падстаўной апазыцыі кулак (некаторыя зь іх удзельнічалі тады ў байкоце) і ў чарговы раз пастрашылі спыненьнем фінансаваньня. Пасьля гэтага падстаўныя па сёньняшні дзень і слухаць ня хочуць пра байкот – так стала ім страшна.

Тым часам наша пасьлядоўная пазыцыя, асьветніцтва і тлумачэньні не засталіся страчанымі. Само жыцьцё паказвала людзям слушнасьць нашых ацэнак. Пералом настаў у гэтым годзе. Паўсюдна на Беларусі людзі не пайшлі галасаваць, нягледзячы на прымус рэжыму і лямант заганяльшчыкаў ад падстаўной апазыцыі. Рэжым груба праваліўся і груба сфальсіфікаваў вынікі, бо заявілі пра 75 адсоткаў прагаласаваных, і гэта ў той час, як усе бачылі пустыя выбарчыя ўчасткі ў дзень галасаваньня.

Выбары не былі прызнаныя міжнароднай супольнасьцю за дэмакратычныя, улічваючы ўвесь комплекс парушэньняў. Факт байкоту быў, аднак, прыглушаны, змікшыраваны ў існуючай прапагандзе рэжыму і ў Эўропе. Там і тут стараюцца пра байкот не ўспамінаць. Але нас гэта мала абходзіць, бо мы бачым, што адбываюцца істотныя зьмены ў настроях грамадзтва: людзі пазбаўляюцца страху і перастаюць баяцца. Пасыўны байкот восеньскіх выбараў у рэжымную „палату" ёсьць гэтаму пацьвярджэньне. Наша праца над палітычнай асьветай і адносінамі людзей да фальшывых выбараў будзе прадоўжана.

У апошнія два справаздачныя гады наша Партыя працавала па сваіх асноўных палітычных накірунках: ***нацыянальна-асьветніцкім***, ***абароны дзяржаўнасьці і суверэнітэту***, ***запабяганьня і недапушчэньня рэфэрэндуму аб так званым „канстытуцыйным акце" СД***, ***крытыка і выкрыцьцё антыбеларускай палітыкі рэжыму***, ***дзеяньні і акцыі супраць русіфікацыі***, ***выкрыцьцё этнацыду***, ***падтрымка і будаўніцтва Народнага мэмарыялу Курапаты***, ***падтрымка і ўшанаваньне нацыянальных сьвятаў, падзеяў, юбілеяў, сакральных асяродкаў і традыцыяў***.

Аглядаючы гэтыя накірункі дзейнасьці, можна вылучыць некалькі акцыяў і працаў, якія мелі істотнае значэньне ў змаганьні з рэжымам. Тут адзначу найперш **акцыю *„Аб адказнасьці за фальсіфікацыю прэзыдэнцкіх выбараў 2006 года"***. Сойм КХП-БНФ 10 сьнежня 2006 г. прыняў пастанову „Аб пытаньні ўзбуджэньня крымінальнай справы па факту фальсіфікацыі выбараў". Пастанова была прынятая на падставе відэазапісу публічнага прызнаньня Лукашэнкі аб фальсіфікацыі выбараў 2006 года. Іскавая ініцыятыва і дачыненьні з Вярхоўным Судом і Пракуратурай Рэспублікі Беларусь доўжыліся некалькі месяцаў, ускрылі ахоўніцкі зьмест юрыдычнай сістэмы рэжыму. Справа стала дакумэнтальнай ілюстрацыяй несвабоднай сутнасьці гэтай сістэмы.

Вялікай справай нашай Партыі ёсьць стварэньне Народнага Мэмарыялу Курапаты, догляд за ім і далейшае разьвіцьцё. Вясной мінулага года пасьлядоўнікі ворагаў чалавецтва зрабілі нечуванае злачынства – зламалі Курапацкі сакральны Крыж Пакуты. Належыцца вялікая падзяка сябрам нашай Партыі, Курапацкай Камісіі і Управе за хуткую рэстаўрацыю і аднаўленьне Сьвятога Крыжа (якая вымагала ўменьня, арганізацыі і тэхнічных затрат). У гэтым годзе, улічваючы ўзмацненьне арганізаванага вандалізму, сябры нашай Партыі наладзілі ахову Курапатаў. У выніку былі нарэшце злоўленыя вандалы, распачатая крымінальная справа. З цягам часу мы выкаранім ня толькі вандалізм на сьвятым месцы, але і выявім яго канкрэтных арганізатараў і натхняльнікаў.

Вельмі станоўча трэба адзначыць **акцыю *„Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва"***, якая доўжылася на працягу ўсёй другой паловы 2007 года. Было апавешчана больш тысячы дзяржаўных чыноўнікаў і кіраўнікоў. Партыя зрабіла патрэбную і карысную справу. Акцыя часова перапыненая, аднак, яшчэ не закончылася. Прынцып такіх дзеяньняў з адрасным пасылам інфармацыі трэба будзе аднавіць у наступным годзе. Тэматыка шырокая.

Цяпер, ва ўмовах сусьветнага эканамічна-фінансавага крызісу, выяўляюцца новыя тэндэнцыі ў палітыцы. Найбольш небясьпечныя зрухі назіраюцца ў Расеі. Зьніжэньне цаны за нафту паралізавала асноўныя даходы гэбоўскай карпарацыі ўлады. Спыняецца вытворчасьць, растуць цэны і беспрацоўе, паралізуецца гандаль і фінансавая сістэма. Гэбоўская і іншая маёмная алігархія вывозіць свае капіталы на Захад. Складваецца ўражаньне, што ніхто там не імкнецца эканамічна ратаваць Расею – ратуюць све грошы і ўладу.

Аналіз і вопыт паказваюць, што гэбоўская карпарацыя, якая захапіла ўладу ў Расеі, будзе чапляцца за яе з усіх сілаў і пойдзе на любыя ахвяры, каб затрымацца ля кіраўніцы. У становішчы крызісу і пры пагрозе для ўлады ў Расеі расейская ўлада (каб захавацца) заўсёды выкарыстоўвае некалькі стандартных прыёмаў. Тыповыя захады Масквы ў гэтым выпадку: рэпрэсіі, тэрор альбо вайна (пажадана „маленькая" і „пераможная), знаходжаньне зьнешняга ворага, каб пераключыць імпэрскую мэнтальнасьць насельніцтва на змаганьне з „ворагамі Расеі" і гэтым (вайной) растлумачыць і апраўдаць жыцьцёвыя цяжкасьці людзей.

Ёсьць прыкметы, якія паказваюць на разьвіцьцё падзеяў якраз у ваенным накірунку. Гэта абвастрэньне вайсковай сытуацыі на Каўказе і прадажа (праз рэжым Лукашэнкі) сучасных ракетаў С-300 Ірану, што ў корані зьмяняе абставіны ў гэтым месцы і падводзіць Ізраіль і ЗША да мяжы вайны (узрастае неабходнасьць прэвэнтыўнага ўдару па ядзерных аб'ектах Ірану).

Разьвіцьцё такіх падзеяў можа вельмі некарысным чынам адбіцца на палітыцы ў дачыненьні да Беларусі (жыцьцёвыя інтарэсы Беларусі могуць стацца аб'ектам міжнародных маніпуляцыяў). Мы мусім мець гэта на ўвазе ў сваіх аналізах

і плянаваньні партыйнай палітыкі, фактычна, – палітыкі Адраджэньня.

Агрэсія Расеі супраць Грузіі, сусьветны фінансавы крызіс спрычыніліся да карэкцыі палітыкі Эўразьвязу ў дачыненьні да рэжыму Лукашэнкі. І тут адкрыта выявілася тое, што было вядома ад пачатку – службовая (несамастойная) функцыя падстаўной „апазыцыі”. Палітычны правал на выбарах (народ не пайшоў галасаваць за псэўдаапазыцыю) і адносіны Эўразьвязу, які павярнуўся тварам да Лукашэнкі, паказалі на сапраўднае месца гэтай публікі: альбо на сьметніку, альбо ў прыхожай рэжыму. Некаторыя (як так званая „Аб'яднаныя дэмсілы”) ужо засьведчылі, што хочуць у прыхожую, нават праграму і петыцыю напісалі ды адаслалі Лукашэнку.

Тым часам у Расеі, рыхтуючыся да абароны ўлады ў часе крызісу, Лубянка распусьціла ўсе свае агентурная партыі „апазыцыі”, якія панастварала (так званы „Саюз правых сілаў”), і сфармавала „Правое дело”, якое супрацоўнічае з Крамлём і атрымлівае ад яго пасады. Тактыка зразумелая. У час магчымага грамадзкага абвастрэньня крамлёўцы ня хочуць мець ніякага (нават квазіапазыцыйнага) піску супраць Крамля. Ім трэба, каб зьява пад назвай „апазыцыя” „пішчэла” за Крэмль і гэтым самым тушыла б спробы антыўладнай кансалідацыі ў Расеі.

Выглядае, што па такім жа сцэнары хочуць пераліцаваць падстаўную апазыцыю і ў Беларусі (адна кантора – адны манеры). Акрамя гучаньня „прасіцеляў” рэжымных пасадаў з АДС і АГП пачалі зьяўляцца цяпер публікацыі ў афіцыйным і незалежным друку розных „аналітыкаў” ды параднікаў. Агентура пад псэўданімамі і без псэўданімаў піша ды прапануе гэтай псэўдаапазыцыі зноў падацца на службу да рэжыму, так бы мовячы, стаць „канструктыўнай псэўдаапазыцыяй” і супрацоўнічаць з нішчыцелямі народу. Мяркую, што яны, хутчэй за ўсё, пераліцуюць сябе, як старое паліто. Але вельмі цікава будуць выглядаць тады нашы прагматыкі з былога БНФ. Відаць, трэба ўсё ж час ад часу чытаць клясыкаў беларускай літаратуры, каб не прышлося выбіваць нагой табурэтку пад шыбеніцай Айчыны.

2008 год стаў падсумоўкай і наглядным сьведчаньнем краху так званых „прагматыкаў” ў палітыцы, людзей, што на этапе змаганьня захацелі спалучыць грамадзкія і прыватныя інтарэсы, палітычную барацьбу і асабістую выгаду ад гэтай барацьбы. У выніку – палітычны тупік. Бо барацьба патрабуе ахвярнасьці, а ня выгады.

Тым часам у беларускім грамадзтве ідуць павольныя глыбінныя перамены, якія ў сувязі з крызісам могуць абвастрацца. Галоўная сутнасьць гэтых яшчэ часам схаваных глыбінных пераменаў у сьведамасьці беларусаў – гэта незадаволенасьць рэжымам і яго начальнікам; другое, як я ўжо адзначыў, – гэта пазбаўленьне ад страху і ад неадэкватнай ацэнкі расейскай палітыкі і, нарэшце, самае істотнае: у людзей намячаецца паварот да беларускага, да свайго.

Перамены, урэшце, павінны будуць пераўтварыцца ў рэальныя формы. Наша задача, абапіраючыся на ініцыятыву „Беларуская Салідарнасьць”, паскорыць і канкрэтызаваць глыбінныя працэсы грамадзтва, падрыхтаваць і прапанаваць узбуджанаму народу ідэі і пэрспэктывы, якія выльюцца ў новы Беларускі Народны Рух, у сілу, якая разбурыць дыктатуру і прамаскоўскі рэжым, ліквідуе бясправўе і зьдзек, этнацыд і беларусафобства, рабаўніцтва людзей і хлусьню, фальш і саветчыну і верне ўсіх у Беларусь, у харошую нашу краіну, у народную нашу дзяржаву.

*21 сьнежня 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***



(Фота з Сеціва)

***123. Узьлёт.***




*124. У дзень падпісаньня Ўсходняга партнёрства. Прага. 7. 05. 2009. Зь лева на права: С. Шушкевіч, З. Пазьняк, А. Мілінкевіч, К. Шварцэнбэрг.*

# ЛУКАШЭНКА ПАВІНЕН ЗЫЙСЬЦІ!

*(Ліст сябрам Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. 9 студзеня 2009 г.)*

Гэты мой кароткі ліст будзе ацэначным, бо спадзяюся, што апошнія падзеі на Беларусі і ў сьвеце Вам добра вядомыя і пазнавальныя, не вымагаюць доўгага аналізу, бо зьяўляюцца працягам таго, што існавала і было вядома раней. Наша пазыцыя тут вызначана. Падкрэсьлю, аднак, істотныя нашыя ацэнкі па трох тэмах, якія клапоцяць грамадзтва, – гэта **фінансава-эканамічны крызіс, дэвальвацыя і нішчэньне прадпрыймальніцтва**.

* * *

Крызіс на Беларусі ёсьць, ён разьвіваецца і дзень у дзень пагаршае становішча краіны і людзей. Гэта адчувае кожны беларус.

Хто вінаваты ў крызісе? Хто яго выклікаў на Беларусі?

Фінансава-эканамічны крызіс на Беларусі выклікаў рэжым улады (які тут кіруе) і ягоная палітыка, якую ён праводзіць у нашай краіне. Асабістую адказнасьць за яго вынікі нясе нелегітымны кіраўнік усёй улады на Беларусі Аляксандар Лукашэнка. Такая ёсьць праўда. І ніякія спасылкі на сусьветны фінансавы крызіс, на Расею, на нафту ды газ не дапамогуць і не апраўдаюць яго.

Зьявіліся цяжкасьці і ў іншых краінах, але на простых людзях (ня ўлучаных у бізнэс) крызіс мала адчуваецца (ЗША), а ў Польшчы і Летуве пакуль што, практычна, не адчуваецца. Гэта таму, што эканомікі дэмакратычных краінаў здольныя вытрымліваць хваробу крызісаў, а ўрады гэтых краінаў праводзяць нацыянальную і адэкватную палітыку.

Крызіс узьнік на Захадзе, але непасрэдна прыйшоў да нас з Расеі. На Беларусі ён падрыхтаваны рэжымам Лукашэнкі і вынікае зь яго антынацыянальнай і эканамічна неадэкватнай палітыкі. Сутнасьць яе – поўны кантроль групы ўлады над эканомікай, эканамічнай дзейнасьцю і ўласнасьцю. Беларус на Беларусі ня стаў па-сапраўднаму ні вольным уласьнікам, ні вытворцам. Ён зрабіўся чалавекам (чым бы ні займаўся), цалкам залежным ад хунты, якая кіруе, і ад яе так званых „ворганаў".

Другое злачынства рэжыму – амаль цалкавітая прывязка беларускага гандлю, энэргетыкі і эканомікі да эканамічна і палітычна хворай вялікадзяржаўнай Расеі. Гэта зроблена штучна і насуперак нацыянальным інтарэсам. Трэцяе і галоўнае злачынства – вынішчэньне беларускай культуры, мовы, школы, літаратуры, здушэньне носьбітаў нацыянальнага духу і параліч нацыянальнага жыцьця.

Рэжым зманіпуляваў і загнаў людзей у спутанае грамадзтва закладнікаў ягонай палітыкі, памылак, фобіяў і капрызаў, зь неразьвітымі дачыненьнямі ўласнасьці, зь бедным і

несфармаваным унутраным рынкам, зь несвабоднымі вытворцамі. Гэта збочаная сістэма, якая няздольная самаразьвівацца і нават адэкватна рэагаваць на ўдары эканамічнага крызісу, які (у значнай ступені) сама ж і спарадзіла.

Фінансавы крызіс пачаўся летам 2008 года ў ЗША. Але характэрна, што з канца жніўня пачынае няўхільна падвышацца курс даляра адносна ўсіх эўрапейскіх валют. За пару месяцаў рост быў больш чым на 30 адсоткаў. Людзі, якія працуюць у дзяржаўнай фінансавай сфэры, павінны выдатна ведаць, што азначаюць цыклічныя рэгулярныя паніжэньні і павышэньні курсу даляра, хто і чаму гэта робіць (усе чулі выступ Грынспіна ў Кангрэсе ЗША ў кастрычніку мінулага года). Уладная сістэма рэжыму (пры ўмове, калі б думалі пра дзяржаву) ужо ў гэты час павінна б правесьці дэвальвацыю. Аднак дэвальвацыі не рабілі. Затое ўвесь час, як даляр рэзка йшоў у гару, на Беларусі трымалі яго стабільную нізкую цану і прыгаворвалі „стабільнасьць, стабільнасьць". Той, хто ведаў сэнс гэтай „стабільнасьці", скупляў даляры. Але хто ведаў?

„Можа нехта і скарыстаў, – кажа асьцярожны С. Багданкевіч, – але вельмі вузкае кола ведала, што рыхтуецца дэвальвацыя". *(Радыё „Свабода", 7 студзеня).* Тады чаму гэтае „вузкае кола" трымала ўсё да Новага году і сьведама „прафукала" амаль палову залатога запасу краіны? Што іх стрымлівала?

Рытарычнае пытаньне. Народ адчувае ашуканства і абураецца правільна. Хоць кабінэтныя „спэцы" і абзываюць яго цяпер: „...неймаверна нізкі ўзровень эканамічнай пісьменнасьці насельніцтва". Але таму яго й ашукалі, што „нізкі". І „спэцы" маўчалі.

Ратаваць рэжым першымі якраз і кінуліся гэтыя „спэцы". Выхад са становішча (глыбокадумна кажа адзін „экспэрт") – гэта пераход на рускі рубель. Паратунак, маўляў, у Расеі (Л. Заіка). Але ведаем мы такіх „экспэртаў".

Іншы спэцыяліст-эканаміст выступіў з цэлай папулярнай праграмай. „Заклікаю калегаў да прафэсійнага падыходу і адказнасьці", – кажа эканаміст, – і „самае галоўнае" – „апазыцыя мусіць зьмяніцца", „узгадаць, чаго яна пасварылася з Лукашэнкам і ... адмовіцца ад катэгарычнага непрыманьня ўсяго, што можа рабіць улада". І далей: „... пачаць думаць пра інтарэсы краіны сьпярша, а пра палітычныя расклады потым". (В. Сіліцкі)

Класіка канфармізму, дэмагогіі і калабарацыі.

Як гэта ўсё знаёма! Якое гэта ўсё старое! „Не раскачивайте лодку! Подумайте о стране!" – лямантавала рэфрэнам супраць нас камуністычная намэнклятура ў Вярхоўным Савеце, калі мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, выкрывалі іхную віну ў штучным стварэньні інфляцыі ў пачатку 90-х гадоў, калі раскрывалі іхняе рабаўніцтва народа, нажываньне на людзкой бядзе, зьнішчэньне ашчадных укладаў насельніцтва, гробленьне экономікі і багацьцяў краіны. Тады яны пачыналі прыкрывацца „страной", заклікалі не гайдаць лодку, у якой нібыта разам плывём. Гэта казалі людзі, якіх злавілі за руку, якія на дух не пераварвалі нічога беларускага, якім напляваць было на гэту „страну", на народ, на Беларусь і беларускую незалежнасьць.

„Мы патопім вашую дзіравую лодку (камуністычную ўладу, значыць) разам з вамі", – казалі мы ім. І патапілі. Шкада толькі, што ўсё ж ня разам зь імі, бо ўтопленьнікі ўсплылі і да гэтага часу сьмярдзяць на Беларусі, рэпрадукуюць нават „спэцоў".

Каб выйсьці з крызісу зь меншымі стратамі, каб запабегчы абвалу і не дапусьціць расейскага шантажу, ёсьць толькі адзін надзейны і пэўны рэцэпт: ***ліквідаваць рэжым, які гэты крызіс зрабіў, выгнаць яго збанкрутаванага начальніка і ініцыятара – А. Лукашэнку***. Усе астатнія варыянты пры захаваньні антыбеларускага рэжыму – гіблыя і правальныя, якія прывядуць да кепскіх вынікаў.

Усе заклікі да супрацоўніцтва з антынародным рэжымам у гэтай сытуацыі пад выглядам ратаваньня краіны (якую рэжым гробіць) ёсьць ***паводзіны амаральныя і проста мярзотныя***. Гульні рэжыму з дэвальвацыяй – яшчэ толькі кветачкі, ягадкі потым. Беларусам трэба не абурацца ў паветра, а скарыстацца крызісам, каб пагнаць прарасейскую хунту зь беларускай улады.

***„Лукашэнка, прэч!"*** І калі яны яшчэ раз успомняць пра „лодку", якая ўжо 14 гадоў усім мазоліць вочы, то расхістаць яе трэба разам зь імі так, каб адразу пайшла на дно, стабільна і незваротна. Антынародны рэжым павінен быць ліквідаваны. Лукашэнка мусіць зыйсьці.

Цяпер для некаторых гэта падаецца нязбытачным – перасталі верыць у свае сілы. Але жыцьцё не стаіць на месцы. Будзе яшчэ й уздым, і зьявяцца сапраўдныя змагары, і тады, як у песьні: „Мы знаем, што трэба рабіць!"

* * *

Пасьля верасьнёўскіх выбараў у мінулым годзе і правальных паводзінаў на іх вікаўскай апазыцыі стала зразумела, што цяпер ёй будзе, нарэшце, канец. Так яно і адбываецца. Падстаўная „апазыцыя" самаліквідуецца дакладна па маскоўска-лубянскім сцэнары. „Апазыцыянеры" з АГП (Я. Раманчук і А. Вардамацкі) ужо залічаныя на працу ў адну дачасную міжведамасную ўрадавую групу. І гэта пасьля таго, калі „дэмакраты" (АДС) напісалі Лукашэнку камэдыянцкую прапанову ліквідаваць урад, замест яго стварыць антыкрызісную структуру ў Адміністрацыі і прызначыць аднаго зь іх (Раманчука) кіраўніком гэтай структуры.

Лукашэнка ўраду, зразумела, не ліквідаваў, дык яны папрасіліся ў рабочую групку гэтага ўраду. Там зжаліліся і двох прынялі. „Мы готовы взять на себя часть ответственности за происходящее в стране", – тлумачыць гэтае камэдыянства А. Лябедзька. *(„Нар. Воля", – 2008, 30 сьнежня).* Унікумы, палітычныя папандопулы. Эўра-грошы скончыліся, субсыдыі пад пытаньнем, дык просяцца назад, у рэжым, а Лукашэнка іх не бярэ. Ні сораму, ні гонару, ні сумленьня (няма й не было). На гэтым іхняя гульня ў „апазыцыю" скончылася. Фініш. Апазыцыя ня можа супрацоўнічаць з выканаўчымі структурамі рэжымнай улады, якой яна супроцьстаўляецца. Тады гэта ўжо не апазыцыя, і нават не калабарацыя, а проста – рэжым. Усё вяртаецца на дарогі свае. Шкада толькі, што згадзілі слова „апазыцыя".

* * *

Адным з дзеяньняў рэжыму па падрыхтоўцы дарогі для крызісу зьяўляецца яго імкненьне зьнішчыць беларускае прадпрымальніцтва як эканамічную зьяву і як сацыяльную групу людзей. Прычыны тут дзьве. Першая і галоўная – ня даць сфармавацца беларускаму сярэдняму класу, ня даць магчымасьці беларусам эканамічна ўкараніцца ў сістэме грамадзтва ды маёмна ўнезалежніцца. І другая прычына тыпова мафійная – пазбаўленьне ад канкурэнцыі для сеткі вялікіх магазінаў, дзе (як правіла) стрыгуць даходы людзі рэжыму (і дзе цэны большыя, чым у шапіках і на рынках). Зьнішчэньне дробнага прадпрымальніцтва – гэта антынацыянальная палітыка і манапольная дзейнасьць, дакладней, разбой праз структуры

ўлады. Недалёкі той час, кажа Лукашэнка, калі я пацісну руку апошняму прадпрыймальніку. (!)

Пратэсты прадпрыймальнікаў на фоне гэтых цынічных заяў і гэтай вынішчальнай палітыкі выглядаюць жаласнай зьявай, асабліва іхнія воклічы, што яны адмяжоўваюцца ад палітыкі і вераць толькі прэзыдэнту. Гэтая „вера" ў нішчыцеля прывяла да ганебнага ашуканцтва, калі рэжым абвёў дарослых людзей вакол пальца, нібы падлеткаў. На жаль, на сёньняшні дзень гэтая праслойка людзей няздольная ні абараніць сябе, ні зразумець, што адбываецца. Крызіс і дэвальвацыя давершаць яе зьнішчэньне. Шкада. Аказваецца, што перш, чым шукаць гандаль і выгаду ды грошы ў кішэнь, трэба знайсьці Беларусь у сэрцы і разуменьне яе ў галаве, бо прадпрыймальніцтва ёсьць агульная справа і нацыянальная палітыка.

Мяркую, аднак, што сябрам нашай Партыі Фронту ня трэба ўсё ж выключаць гэтых людзей са сфэры ўплыву нашай праграмы асьветніцтва, хаця ілюзіяў мець таксама ня трэба. У рашаючых падзеях, якія настануць, вызначальную ролю адыграюць іншыя групы і іншыя людзі.

Беларусам трэба, нарэшце, узьнімаць галаву, гуртавацца і рыхтавацца да рашучай барацьбы з рэжымам. Тут зазначу, што канкрэтныя пляны, захады і мэтады барацьбы вызначаюцца ў партыях і арганізацыях і не заўсёды (асабліва пры цяперашнім стане) агучваюцца ў лістах і артыкулах. Але калі ёсьць разуменьне, гатовасьць і дух змаганьня, – змагар знойдзе сваё мейсца й дарогу да мэты.

Лукашэнка мусіць зыйсьці!

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*9 студзеня 2009 г.*

*Адчынена: (http://www.pbpf.org/art.php?art=110&cat=3&lang=be)*

# НАРОДНЫ ВЫХАД З КРЫЗІСУ – ЛІКВІДАЦЫЯ РЭЖЫМУ

***(Выступ на студзеньскім сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне")***

…Тыдзень таму я напісаў Вам ліст *„Лукашэнка мусіць зыйсьці"*. Далейшыя падзеі паказваюць, наколькі існаваньне гэтай неадэкватнай асобы на вяршыні ўлады робіцца небясьпечным для нашай краіны. Ён цалкам улучаны ў чарговую расейскую авантуру на Ўкраіне (газавы шантаж), пра што беларусы нічога ня ведаюць. Я ўжо пісаў раней, што з канца 2007 года палітыка двух рэжымаў – лукашысцкага і маскоўскага – стала цалкам таемнай. Гэбісты спатыкаюцца на вышэйшым узроўні, дамаўляюцца, грызуцца, гандлююцца, прымаюць рашэньні, а людзі нічога ня ведаюць, што іх чакае, пакуль ня выбухне якая-небудзь вайна, дэвальвацыя ці газавая авантура.

Раней Пуцін зь Мядзьведзевым прысягалі, што высокія цэны на нафту гэта ёсьць стратэгічны інтэрас Расеі, і яны будуць змагацца за яго ўсімі даступнымі сродкамі. Якія сродкі ў расейскага гэбізму, мы ведаем: тэрор, шантаж, правакацыі, прапаганда і вайна. Вайну з Грузіяй мы ўжо бачылі, цяпер нарваўся Хамас (тэрарыстычная арганізацыя пад уплывам Масквы), і на Блізкім Усходзе палыхае канфлікт; рыхтуюць другі, з Іранам; стварылі газавы крызіс супраць Ўкраіны і Эўропы, але... пралічыліся. Думалі ўсіх абдурыць, выехаць на адной прапагандзе, дыпляматыі ды хлусьні, а павышэньне цэнаў на нафту, маўляў, кампэнсавала б ўсе затраты. Ня вышла. Поўны правал. Грубая газавая авантура Крамля супраць Украіны (зробленая дзеля павышэньня цэнаў на нафту) паварочваецца супраць самых авантурыстаў. Грэцыя, напрыклад, ужо адмовілася ад расейскага газу і заключыла кантракт з Азэрбайджанам. Цяпер, як у прыказцы, – чакайма зьвестак з Карабаху.

Небясьпека для Беларусі ад гэтай крымінальнай палітыкі хаваецца найперш ў прамаскоўскім рэжыме і яго неадэкватным начальніку. Няма сумніву, што, рыхтуючы газавую авантуру на Ўкраіне, пуціністы ўцягнулі туды Лукашэнку абяцаньнем прадаць газ па нізкай цане. Але, ведаючы расейцаў, малаверагодна, што яны (асабліва пасьля правалу) сваё абяцаньне выканаюць. Хутчэй за ўсё, будуць шантажаваць свайго сатрапа патрабаваньнем увядзеньня расейскага рубля на Беларусі. Беларусам застанецца толькі глядзець на змоўшчыкаў, як гандлюецца іхняя скура.

Выклікае вялікую насьцярожанасьць, што прывязку беларускага рубля да кошыка зрабілі на аснове рускага рубля, эўра і даляра. Прычым тут рускі рубель? Гэта ўвогуле не валюта. Там больш, што ён ужо зваліўся на дол і хутка ўвогуле ўпадзе на самае дно.

Тут відаць палітычнае антыэканамічнае рашэньне. І гэта выклікае трывогу. Мы ўсё больш падыходзім да становішча, калі кардынальна перамяніць згубную палітыку зможа толькі сам народ, масавы ягоны выступ, да якога, нажаль, ён яшчэ не сасьпеў. Але і жыцьцё не стаіць на месцы.

Тым часам калі ўявіць, што рэжым пайшоў бы на злачынства і ўвёў бы рускі рубель у Беларусі, то зразумела, што Лукашэнка ўжо Маскве стаў бы не патрэбны, а беларусы дзеля выратаваньня сябе мусілі б ісьці на радыкальныя меры. Здрадніка народа неабходна было б альбо зьнішчыць, альбо калі – не, то нацыя мусіла б пагадзіцца на новае расейскае рабства. Зь незалежнасьцю, маёмасьцю, ўласнасьцю і свабодай тады прышлося б разьвітацца надоўга (калі ні навечна).

Нашая задача як народнай партыі, якая выяўляе і абараняе нацыянальныя інтарэсы, запабягаць стварэньню новых авантураў з боку рэжыму, інфармаваць грамадзтва і прадухіліць нішчэньне дзяржавы, працы і дабрабыту людзей.

Крызіс, і асабліва яго цяжкія вынікі на Беларусі, выклікаў перш за ўсё прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі сваёй неадэкватнай і антынароднай эканамічнай палітыкай, штучнай прывязкай беларускага гандлю і экономікі да хворай эканамічна-карпарацыйнай сістэмы Расеі. Рэальны выхад з крызісу толькі адзін – ліквідацыя рэжыму, які выклікаў гэты крызіс. І першае, што мусіць адбыцца – Лукашэнка павінен пакінуць сваю пасаду. Усе астатнія варыянты – разбуральныя для Беларусі і гіблыя, зьнішчальныя для людзей. Задача беларускіх палітыкаў Народнага Фронту – падымаць людзей на абарону сваіх інтарэсаў

і інтарэсаў сваёй краіны. Першасны лёзунг: ***„Лукашэнка мусіць зыйсьці."***

Зьвяртаю Вашу ўвагу, што ўся падстаўная апазыцыя ў гэтых умовах адмовілася ад барацьбы з рэжымам за інтарэсы людзей і краіны і адкрыта пераходзіць да супрацоўніцтва з дыктатурай. Што і трэба было чакаць. Неабходна выкрываць перад людзьмі здрадніцтва і прадажнасьць гэтай „апазыцыі" і яе функцыянераў. Каб перамагчы і скончыць з крызісам, трэба разьвітацца з дыктатурай і ўзурпатарам народнай ўлады (…)


(Фота Я. Шатохіна)

***125. Чарнобыльская зона на Гомельшчыне праз 20 год.***

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*18 студзеня 2009 г.*

*Адчынена: (http://www.bielarus.net/archives/2009/01/20/1574)*

# ВЫХАД З КРЫЗІСУ

Фінансава-эканамічны крызіс абняў палову сьвету, асабліва захапіў Эўропу і Амэрыку.

У розных краінах ён адбываецца па-рознаму. Усюды церпяць бізнэс, вытворчасьць, гандаль і банкі. Але, трэба сказаць, простага чалавека ў Заходнім сьвеце крызіс закрануў найменш датклівa. Тым часам у нас, на Беларусі, ён стукнуў найбольш па простых людзях, па ўсім народзе. Чаму так адбылося, што робіцца і што рабіць у гэтым становішчы?

Крызіс высьпяваў даўно і зьвязаны ён з несувымерным павелічэньнем цаны за нафту, якая зьяўляецца адным з базавых чыньнікаў фармаваньня цэнаў на тавары і адыгрывае ў сучасным сьвеце ролю каталізатара сусьветных грошай (даляра). Актыўна спрыяла гэтаму працэсу (палітычнымі мэтадамі) гэбоўская Расея, эканамічнае існаваньне якой залежыць ад цаны на нафту.

Адначасна з ростам цэнаў на нафту адбывалася штучнае зьніжэньне курсу амэрыканскага даляра з боку Амэрыкі і інтэнсіўнае падвышэньне кошту нерухомасьці. Наступны этап – падвышэньне курсу даляра і зьніжэньне цаны нерухомасьці.

На гэтых кіруемых працэсах нажываюцца краіны-экспарцёры нафты (найбольш Расея) і асабліва (на маніпуляцыях зь нерухомасьцю і курсах) – групы, якія ўплываюць на фармаваньне курсу сусьветнай валюты і цэнаў на нерухомасьць. Летам мінулага году сістэма дала збой – банкі пераацанілі свае магчымасьці: ня вытрымаў амэрыканскі народ, ня змог плаціць па крэдытах (лопнула іпатэка). Пачаўся фінансавы крызіс, дакладную прычыну якога „ня ведаюць" самы стратэгі і аўтары працэсаў. Паказальнае выступленьне (былога ўжо) старшыні Фэдэральнай Рэзэрвавай Сістэмы ЗША, прызнанага аўтарытэта ў фінансавым сьвеце Алана Грынспэна ў Кангрэсе ЗША ў кастрычніку мінулага году. Ён сказаў, што „памыліўся", што сорак гадоў усё атрымлівалася, а тут „памыліўся" – і ўсё перакулілася.

Расея, дзе няма нармальнай капіталістычнай эканомікі і нармальнай, адпаведнай банкаўскай сістэмы, дзе гэбоўская група ўлады пампавала свае нафта-даляры і думала, што так будзе вечна, гэтая Расея адчула крызіс адразу і адразу ён набыў там пачварныя формы. Усё гэта было цалкам прадказальным, варта было толькі падумаць.

Вялікай небясьпекай і злачынствам перад будучыняй было б зьвязаць большую палову нацыянальнага гандлю краіны і адзіны імпарт рэсурсаў з такой дзяржавай, як Расея. Але рэжым Лукашэнкі менавіта гэтакае злачынства сьведама і зрабіў. Крызіс у Беларусь прыйшоў найперш з Расеі.

Рэжым не рабіў нічога, каб яму запабегчы. Наадварот, гаворачы людзям пра ўяўную стабільнасьць, рыхтуючы вялікую дэвальвацыю, рэжым штучна трымаў заніжаную цану ў беларускіх рублях за даляр у той час, як даляр зь лета мінулага году йшоў у гару. Гэта, як можна меркаваць, дало магчымасьць атрымаць выгаду тым, хто ведаў пра дэвальвацыю.

Дзейнасьць рэжымнага кіраўніцтва Беларусі ва ўмовах крызісу, які яно наклікала, прадыктаваная выключна і толькі клопатам пра захаваньне сваёй улады, гэтак жа, як і рэакцыя на новыя дачыненьні Эўразьвязу да палітыкі антыбеларускага рэжыму. Нічога ў прынцыпе не зьмянілася і ня будзе зьмяняцца ва ўнутранай палітыцы на Беларусі (акрамя маленькіх і паказушных саступак, якія не зьяўляюцца нават тэндэнцыяй). Зьнішчэньне ўнутранага рынку гэтак жа, як і зьнішчэньне нацыянальнай беларускай культуры, працягваецца.

Сустрэча зь прэзыдэнтам Ючшанкам, якая нядаўна адбылася ў Чарнігаве, і чарговая ўяўная зацікаўленасьць Лукашэнкі праектам Балта-Чарнаморскага калектара (БЧНК), за ажыцьцяўленьне якога ўвесь час змагаўся Народны Фронт, – гэта зноў чарговае гульбішча рэжыму, каб выцыганіць малую цану за газ ад пуцінскай Расеі. Атрымалі цану, і на гэтым цікавасьць да БЧНК скончыцца. БЧНК ніколі ня стане зьместам эканамічнай палітыкі лукашысцкага рэжыму, як ніколі ня стане марыянэтка распараджацца сабой. Асобным эканамічным і палітычным накірункам дзеяньня БЧНК быў толькі ў Народным Фронце. Ажыцьцяўляючы гэтую ідэю, мы добра ўсьведамлялі, каму яна будзе не падабацца. За БНФ і ўкраінскім Рухам стаяць ужо міжнародныя дачыненьні і пагадненьні, распрацоўка праектнай дакумэнтацыі па БЧНК і нават ахвяры (зьнікненьне адказнага па Калектару ад Народнага Руху Ўкраіны Міхайлы Байчышына ў 1993 годзе разам з дакумантамі БЧНК). БЧНК не для антыбеларускага рэжыму і не для Лукашэнкі.

Жыцьцё беларусаў за гэтай уладай будзе няўхільна пагаршацца. Рэжым ня здольны выйсьці з крызісу, не разбурыўшы грамадзтва і эканоміку, не абрабаваўшы народ і не загнаўшы яго ў галечу (хаця крызіс сам па сабе павінен прыносіць аздараўленьне). Аздараўленчае выйсьце з крызісу можа адбыцца толькі пры адхіленьні гэтага рэжыму ад улады. Аналіз паказвае, што наперадзе – грамадзка-эканамічны стрэс і вельмі цяжкі час, калі толькі ня ўдасца хутка адвязацца ад вялікадзяржаўнага ціску Расеі і пазбавіцца ад кіруючага рэжыму на Беларусі. У крызіснай сытуацыі беларускі народ у прынцыпе мог бы выжыць сам, калі б у яго была

элемэнтарная свабода дзеяньняў і доступ да саёй нацыянальнай уласнасьці. Але, зразумела, што яму не дадуць дыхнуць, а будуць толькі душыць (дачыненьні з дробнымі прадпрыймальнікамі – характэрная ілюстрацыя).

Трэба было б у гэтым становішчы даць людзям волю, каб яны маглі ўнутры краіны рабіць (выраблялць), што хочуць і прадаваць, што хочуць, дзе хочуць і каму хочуць. Патрэбныя на гэтую дзейнасьць і на гэты час спрошчаныя невысокія падаткі. Доступ грамадзянаў Беларусі да зямлі. Заахвочваць прыватныя фермы і хутары. Трэба спрасьціць і аблегчыць грамадзянам выезд на працу (на заробкі) за мяжу. Трэба панізіць мінімум ў дзесяць разоў арэндную плату за памяшканьні, за рабочыя месцы на рынках, у варштатах і г. д. Трэба ўвогуле скасаваць мафійную манаполію на нерухамасьць, якой незаконна распараджаецца адзін чалавек. Спыніць беспэрспэктыўнае будаўніцтва „аграгарадкоў" і г. д. па ўсёй шкале, з чаго адразу відаць, што пры гэтым рэжыме зрабіць нічога немагчыма. Крэдыты ад МВФ (можаце лічыць гэта за жарт) патрацяць на пабудову лядовых палацаў у „Казючыках" (адпрацаваная форма „адмыўкі" грошай і крадзяжу).

Ашчадны выхад з крызісу, паўтаруся, вымагае толькі палітычнага рашэньня – ліквідацыі рэжыму, які гэты крызіс падрыхтаваў. Дзеля гэтага трэба, мінімум, наяўнасьць пратэстных настрояў у грамадстве і наступная іх кансалідацыя на ідэі зьмены кіраўніцтва і вяртаньня законнай Канстытуцыі 1994 года, якая дасьць магчымасьць хутка ўпарадкаваць нармальную сістэму ўлады ў краіне. Адпадаюць усе пытаньні пра „палаткі", „сэнат", „вертыкаль", выбарчае заканадаўства і пра аўтарытарнага прэзыдэнта. У Беларускай дэмакратычнай Канстытуцыі, якую незаконна адмяніў Лукашэнка, усё напісана, як рабіць.

У падрыхтоўцы людзей да патрабаваньня зьмены збанкрутаванай улады ўзурпатараў і фальсіфікатараў ёсьць першыя крокі да палітычнага выхаду з крызісу і задача грамадзянаў краіны. Найперш бачу ў гэтым галоўную задачу тых патрыётаў, якія стаяць на пазыцыях Адраджэньня, змаганьня, незалежнасьці і беларускай дэмакратыі і не пабеглі (як так званая вікаўская „апазыцыя") прасіцца на службу да рэжыма, каб дапамагчы ацалець прамаскоўскай ўладзе. Крызіс ужо расстаўляе шмат што на сваё месца. Небясьпеку для незалежнасьці Беларусі уяўляе ня крызіс, а існуючы антыбеларускі рэжым. ***Каб ратаваць краіну, трэба не падтрымліваць рэжым, а зьнішчыць яго.*** Трэба скарыстаць крызіс, каб ліквідаваць уладу цемры. Беларусам даецца шанц. Пасьля крызісу павінна стаць выздараўленьне. Але патрабуецца толькі адно – хваробу перамагчы.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*24 студзеня 2009 г.*

*Надрукавана: („ Беларус", – 2009, люты, № 553).*
*Адчынена: (http://www.pbpf.org/cat.php?cat=3)*

# КРЫЗІС ЯК МАГЧЫМАСЬЦЬ ПЕРАМЕНАЎ

***(Ліст да сяброў Сойму Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне")***

...У сувязі з крызісам сытуацыя, як бачым, спрасьцілася, выявіліся асновы існаваньня гэтага рэжыму і яго дачыненьні з Масквой. Усё больш выказьнікаў паказвае на тое, што крызіс будзе зацяжным і, магчыма, на некалькі гадоў. Першым палітычным вынікам зацяжной рэцэсіі мусіць стацца ўзрастаньне агрэсіўнасьці Расеі і шуканьне выхаду ў вайне. Рускі гэбізм спрабаваў ужо выклікаць грамадзкае абвастрэньне ва ўсходняй Украіне, калі ў пачатку гэтага года адключыў падачу газу на Ўкраіну і распачаў прапагандысцкую антыукраінскую кампанію. Украінцы, аднак, рэалізавалі разумныя контрмеры, і крамлёўская газавая афёра правалілася.

Другім подступам антынароднай палітыкі, якая робіцца за плячыма людзей, стала падпісаньне 4-га лютага гэтага года пагадненьня з Лукашэнкам і іншымі нявольнікамі „калектыўнай бясьпекі" (АДКБ) аб стварэньні ваенна-карных сілаў „хуткага рэагаваньня". Гэтакія карныя войскі непатрэбныя нікому, акрамя Расеі, якая хоча мець фармальнае права вайсковага ўступленьня на чужую тэрыторыю. Расея скарыстала момант страху перад крызісам, баяньне азіяцкіх і антыбеларускага рэжымаў страціць уладу і глыбей зацягнула іх у свой ваенны блёк.

Зь беларускага гледзішча, гэта цалкам незаконная апэрацыя, якая супярэчыць асноўным палажэньням Канстытуцыі, законам Беларусі і пры гэтым падпісаная за плячыма народа нелегітымным кіраўніком выканаўчай улады. Авантура абазначае ўступленьне Беларусі ў расейскі ваенны блёк. Яна не прызнаецца і ня можа быць прызнанай. Грамадзтва мае права супрацьдзейнічаць гэтай антынацыянальнай палітыцы ўсімі сродкамі.

У гэтым жа кантэксьце страху Лукашэнка падпісаў за плячыма народа пагадненьне аб так званай сумеснай з Масквой супрацьпаветранай абароне, якое супярэчыць Канстытуцыі і абсалютна не патрэбнае Беларусі, але было праплочана ўзурпатару, што нават і не хаваецца.

Якая адказнасьць (ці, дакладней, кара) належыць спраўцу, пытаньне рытарычнае – усё прапісана ў законах. Але небясьпека здрады і антынародных дзеяньняў ня столькі ў тым, што да ўжываньня закону можа не дайсьці, і нават ня ў тым, што дойдзе запозна, але найперш – у аб'ектыўнай несувымернасьці злачынства і пакараньня. ***Рэжым Лукашэнкі ўжо зрабіў столькі шкоды для беларускай культуры, дзяржавы і нацыі, што хоць ты тысячу разоў пакарай іх усіх самым строгім чынам – гэта не кампэнсуе ўсяго таго, што яны разбурылі.*** (хіба што ў маральна-этычным, духоўным аспэкце існаваньня). І таму пакараньне мусіць стацца неўнікнёным, як акт справядлівасьці.

Антынароднае разгортваньне крызісу, падпісаньне незаконных пагадненьняў пра чужыя карныя сілы, удзел у іх, доступ іх на нашу тэрыторыю, незаконнае пагадненьне пра СПА сьведчыць аб тым, што ***дзейнасьць А. Лукашэнкі стала крайне небясьпечнай для Беларускай дзяржавы і нацыі. Далейшае знаходжаньне яго на вяршыні ўлады недапушчальнае.*** Пытаньне патрабуе неадкладнага і абавязковага вырашэньня.

Іронія становішча яшчэ ў тым, што грамадзтва (дакладней, частка грамадзтва), формула існаваньня якога „абы не было

вайны", падтрымліваючы Лукашэнку, усё больш набліжаецца да рэальнасьці гэтай самай чужой вайны (прытым на сваёй тэрыторыі). Пачатак фінансава-эканамічнага крызісу на Беларусі праілюстраваў, аднак, што праблема найперш не ў „грамадзтве" (і, тым больш, не ў народзе), а ў эліце, у вяршках гэтага „грамадзтва". Крызіс адразу паказаў нікчэмнасьць вяршкоў, гніласьць інтэлігенцыі (за выключэньнем асобных змагароў), яе філісьцерства, канфармізм, гатоўнасьць супрацоўнічаць з антыбеларускім рэжымам, прыкрываючыся клопатам пра дзяржаву, абы не было гэтай самай „вайны" – цяжкасьцяў, сацыяльных абвастрэньняў у грамадзтве, канфліктаў з душыцелямі беларускай свабоды і незалежнасьці.

Нешта падобнае мы, фронтаўцы, ужо бачылі і перажывалі ў канцы 80-х мінулага стагоддзя, калі абвастрыўся крызіс СССР. Тая ж самая дэманстрацыя нібыта клопатаў пра народ з боку савецкіх элітаў, заклікі „не разгойдваць лодку" і аб'ядноўвацца вакол „лепшых сілаў КПСС". Прырода філісьцерства ўсюды аднолькавая і ва ўсе часы.

Мы не разглядаем крызіс як катастрофу, але як пераходны пэрыяд разьвіцьця, якое патрабуе абавязковага абнаўленьня, перамены арыентацыі, зьмены прыярытэтаў. Калі перамены не адбываецца, крызіс пераходзіць у зацяжную фазу стагнацыі, якая цягне за сабой дэградацыю ўсёй унівэрсальнай сістэмы. Тады далейшае разьвіцьцё праходзіць праз катастрофу, якая заканчваецца альбо выхадам у новую якасьць, альбо распадам. (Клясычныя прыклады катастроф, выкліканыя крызісам, – 1-я і 2-я Сусьветныя войны.)

Людзі, якія ўлучаныя ў беларускую нацыянальную палітыку, мусяць усьведамляць, што ***без ліквідацыі антыбеларускага рэжыму абнаўленчы выхад Беларусі з крызісу немагчымы;*** наступны этап – застой, крызісны маразм усёй сацыяльнай сістэмы, які можа стацца нацыянальнай катастрофай. Ва ўмовах крызісу трэба дзейнічаць згодна зь яго прыродай – генэраваць і набліжаць перамены і абнову становішча, а не кансэрваваць прычыны крызісу (чым кінуліся займацца розныя грамадзкія ахоўнікі рэжыму). Трэба разглядаць крызіс як магчымасьць, як шанц кардынальных палітычных, эканамічных і сацыяльных пераменаў у беларускім грамадзтве. Ліквідацыя нелегітымнага прамаскоўскага рэжыму – гэта ёсьць не асобнае меркаваньне, ня пункт погляду і нават не варыянт, а аб'ектыўная неабходнасьць і галоўная ўмова рэальнага выхаду з крызісу на Беларусі.

Тут мушу яшчэ сказаць, што назіраньне за тым, што адбываецца, прыводзіць да думкі, што крызіс сапраўды будзе доўгім і з пэўнымі адплывамі і даплывамі можа трываць працяглы час, цэлыя гады, бо сутнасная першапрычына яго (стымулятар завіхрэньняў) ёсьць ня толькі маніпуляцыі фінансавых акулаў і ня толькі крах амэрыканскай іпатэкі, і нават, магчыма, ня цэны на нафту (хоць гэта і важна), але агульны глябальны стан сусьветнай эканомікі і спажываньня. Сусьветны рынак напоўнены і вытворчасьць ужо ня можа нічога прапанаваць новага. Патрэбны скачок, выхад у новую якасьць тавараў (як гэта некалі, у 50-х мінулага стагоддзя, прапанавала хімічная вытворчасьць, а ў канцы XIX-га – чыгуналіцейная. (Электроніка ня стала такой унівэрсальнай рэвалюцыяй, бо ня ёсьць першасным таварам масавай неабходнасьці.) Гэтая зьява (напоўненасьць попыту) супала з энэргетычным напружаньнем на рынку асноўных рэсурсаў – нафты і газу. Энэргетыка адчувальна стала адставаць ад замоваў і патрэбаў цывілізацыі. Выхад з энэргетычнага голаду можа быць усялякі, але толькі не ў стварэньні энэргетыкі ўчарашняга дня (чым займаецца цяпер антынацыянальны рэжым у Беларусі – АЭС і г. д.).

У мінулым лісьце я пісаў, што ліквідацыя палітычнага рэжыму як першапрычыны агульнага крызісу на Беларусі магчымая пры адпаведным ацэначным і настраёвым стане грамадзтва, дзе галоўным зьяўляецца пратэстны настрой, імкненьне людзей да пераменаў. Такі настрой у беларускім грамадзтве яшчэ асэнсавана ня выявіўся, знаходзіцца ў схаваным і нават зародкавым стане. Задача палітычнай партыі дапамагаць людзям выявіць і асэнсаваць такі настрой, перавесьці яго ў дзеяньне. Людзі павінны мець адказы на два клясычныя пытаньні: „Хто вінаваты?" і „Што рабіць?".

Мы мусім павялічыць і пашырыць нашую палітыка-асьветніцкую працу па падрыхтоўцы спрыяльнага асяроддзя для пераменаў. Канкрэтна мы ведаем, як гэта рабіць, таму я спыняюся толькі на пачатковых лёзунгах і патрабаваньнях.

Наша пазыцыя павінна ўключаць патрабаваньне адхіліць Лукашэнку ад улады, адмяніць накінутую фальшаваньнем канстытуцыю дыктатуры, правесьці новыя выбары прэзыдэнта (сумесна з выбарамі ў парлямант), згодна зь Беларускай дэмакратычнай Канстытуцыяй 1994 года і законамі, створанымі на яе аснове.

Наступныя антыкрызісныя патрабаваньні, якія павінны быць пастаўленыя перад уладай: даць поўную вытворчую свабоду людзям, каб чалавек мог бесперашкодна вырабляць, купляць і прадаваць, што хоча, дзе хоча і каму хоча. Устанавіць мінімальныя падаткі для такога прадпрыймальніцтва, вызначыць сістэму зьніжэньня і пазбаўленьня ад падаткаў у выпадку мецэнацкай дапамогі і філянтрапічнай дзейнасьці вызначаным арганізацыям і асобам (школы, інваліды, творчыя пачынаньні і г. д.).

Аблегчыць і спрасьціць беларусам выезды на працу за мяжу. Зьнізіць кошт арэнднай платы за наём памяшканьняў для бізнэсу і вытворчасьці ў некалькі разоў і для грамадзка-палітычных і культурніцкіх арганізацыяў у 10-20 разоў. Ліквідаваць манаполію Адміністрацыі прэзыдэнта на арэндную плошчу, памяшканьні і нежылы фонд. Перадаць усё ў веданьне мясцовых уладаў.

Гэта патрабаваньні першых крокаў (…)

***Зянон ПАЗЬНЯК***

***Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФі Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*5-8 лютага 2009 г.*

*Адчынена: (http://www.pbpf.org/art.php?art=91&cat=1&lang=be)*

# ПАНАВАНЬНЕ ЦЕМРЫ

Улада цемры характарызуецца, перш за ўсё, нянавісьцю. Нянавісьць – сутнасьць яе існаваньня. Улада цемры вечна змагаецца зь нейкім і за нешта. Гэта „вечны бой” і вечная нянавісьць, пакуль будзе існаваць аб’ект улады – народ і сама гэтая ўлада.

Улада цемры – гэта зьнішчэньне лепшых і апаганьваньне сьвятога, гэта сацыяльная паранойя, якая пранікае ў дачыненьні. Самая адмоўная сутнасьць такой улады ёсьць тое, што ***на паверхню грамадзкага жыцьця яна ўздымае чэрнь, мразь духа, выцягвае навонкі цёмныя інстынкты чалавечай натуры.*** Расейскі бальшавізм тое наглядна прадэманстраваў.

Цемра фармуе грамадзтва па свайму вобразу і падабенству, дзе нормай становіцца зьдзек і таптаньне годнасьці чалавека; мерай такіх дачыненьняў робіцца сьмерць. Ня кожны чалавек можа стрываць прыніжэньне асобы, ганьбаваньне гонару і несправядлівасьць цемры. І чэрнь адчувае гэта, у яе ўзьнікае азарт перасьледу і дабіваньня; дрэнь пачынае ўяўляць сябе моцнай, робіцца вынаходлівай, пакуль не растопча альбо не загоніць душу ў магілу.

Колькі такіх растаптаных, колькі такіх маўклівых статыстычных сьмерцяў панёс наш народ! Памятаю, летам 1998 года самаспаленьне ў Наваполацку адваката ***Аляксея Філіпчанкі***, страшную сьмерць ***Юрыя Бабуджыева***. Цяпер вось з-за жорсткага і сумніўнага прысуду скончыла жыцьцё самагубствам у Салігорску – ***Яніна (Яна) Палякова***. Зьдзек над беларусам, над чалавекам адбываецца штодзённа, паўсюдна. Душыць і прыніжаць, ганьбаваць і душыць, ілгаць і душыць, зьневажаць і душыць – вось псіхалягічны комплекс улады цемры, самасьцьвярджэньня нікчэмнасьці і панаваньня хама.

У канцы 90-х гадоў былы старшыня Вярхоўнага Савета С. Шарэцкі расказаў мне, як яшчэ напачатку лукашэнкавага „прэзыдэнцтва” запрасіў яго Лукашэнка „правесьці ўрэмя”. Не, ня ў лазьню папарыцца (як любіла савецкая намэнклятура), а папрысутнічаць пры расстрэле забойцаў, сказаных на сьмерць, і паглядзець, як будуць расстрэльваць. Ашарашаны Шарэцкі адмовіўся. „А напрасна, Семён Георгіевіч, інцерэсна, ані жэ после пулі ещо немнога жывут, трэпыхаются”, – заўважыў суразмоўца.

Такое ёсьць гэтае паралельнае перавернутае існаваньне. Мяне тое, аднак, не зьдзівіла. Сутнасьць гэтай асобы мы добра бачылі яшчэ ў пачатку 90-х, калі былі ў Вярхоўным Савеце. Шакавала і ўразіла іншае: шлях, якім вялі яго да ўлады. Гэта, ізноў жа, шлях нянавісьці. „Всех посажу”, „усем по заслугам”, „варов в тюрьму”, „жульё в тюрьму”, „катэджы атбером”, „награбленнае вернём”, „я нішчый” і г. д. Цемра дэкляравала перадзел маёмасьці ў сваю карысьць, але гэтая „мараль” (усіх пакараць) задавальняла людзей. І нікога не цікавіла сапраўдная чалавечая мараль: чаму не жыве з жонкай, якія адносіны ў сям’і, па якому праву зьбіваў калгасьнікаў, як пазьбегнуў турмы і г. д.

Ніхто не задаваў пытаньняў потым, чаму першая службовая асоба дзяржавы на віду ўсяго грамадзтва жыве ў блудзе, як зьявілася пазашлюбнае дзіця (гэта пры жывой жонцы), як блудадзей выгнаў матку гэтага дзіця, уласным „хаценьнем” пазбавіўшы яе мацярынства, а дзіця – маткі. Гэта вам не распутны флірцік з Монікай Левінскай (які, дарэчы, абурыў увесь сьвет); у гэтым ёсьць нешта ад д’ябальшчыны і нешта ад Фройда, ад комплексу непаўнавартаснага дзяцінства.

Тут сьвядомая дэманстрацыя непрыняцьця народнай маралі, публічнае сцьвярджэньне збочанасьці свайго шчарбатага жыцьцёвага ўзору як нормы жыцьця. Пяцігадовага пазашлюбнага хлопчыка ён аб’яўляе пераймальнікам сваёй (нелегальнай ужо) прэзыдэнцкай улады, шыюць дзіцяці форму галоўнакамандуючага і перад ім рапартуюць, становяцца навыцяжку генэралы.

Да публічнай паранойі прывыкаюць, відаць, як да болю, – інакш чым можна растлумачыць гэтае нашае „маўчаньне травы”? Ніколі ня думалася, што фантасмагорыі Маркеса („Восень патрыярха”) так адэкватна ўвасобяцца ў нашай рэальнай беларускай (далёкай ад Лацінскай Амэрыкі) рэчаіснасьці. Ажно так яно ёсьць, і ўсё гэта – на фоне апатыі і маўчаньня краіны, дзе нішчацца жыцьці і душы.

Давядзеньне да самагубства як азначэньне злачынства адлюстравана ва ўсіх нацыянальных кодэксах права і заканадаўствах цывілізаваных краінаў. Зразумела, што ў справе самагубства Яніны Паляковай вінавайцы будуць адкручвацца, звальваць усё на яе побыт, на яе эмацыйнасьць ды асаблівасьці псіхікі і, магчыма, адкруцяцца (да пары). Але справа мусіць быць абавязкова ўзбуджана, яна не павінна падлягаць задаўненьню. Ніхто не павенен пазьбегнуць адказнасьці за сьмерць чалавека.

Веданьне эмацыйнасьці ахвяры і маніпуляцыі ёй ёсьць абцяжарваючымі абставінамі для злачынцы, а не для ахвяры. Нават калі б ахвяра была псіхічна хворай, выкарыстаньне гэтай асаблівасьці асобы дзеля штурханьня яе на сьмерць ёсьць супэрподласьцю забойцы, што таксама павінна кваліфікавацца як абцяжарваючыя абставіны ў здзяйсьненьні злачынства. (Гэта я з нагоды розных допісаў у Сеціве людзей, якія падаюць нэгатыўныя зьвесткі пра Палякову і якія, у дадзеным выпадку, фактычна, ня маюць цяпер значэньня) Я ўжо не кажу пра антыбеларускі рэжымны друк, бо добра ведаю яшчэ з камуністычных часоў ягоную функцыю і задачу: ілгаць і гадзіць у душу чалавекам, і назва тая ж, як быццам з труны – „Советская Белоруссия”, – і людзі тыя ж. Чвэрць стагоддзя таму П. Якубовіч (цяперашні рэдактар „Сов. Бел.”) па заказу КПСС гадзіў у друку на беларускую моладзь, на калядоўнікаў у Менску, на беларускае Адраджэньне, папісваў гнюсныя пасквілі. Зірк – аж жыў курылка, і цяпер папісвае: на Палякову накатаў (за дзень да яе сьмерці), заганяе людзей у пятлю, каламутная гразь.

Самагубства Яніны Паляковай і злачынная мэтодыка лукашыстаў уздымае ня новае, але вельмі важнае пытаньне метафізічнага кшталту. Як трактаваць сьмерць ахвяры ў хрысьціянскім сэнсе: як суіцыд ці як забойства праз суіцыд? Гэтае пытаньне паўстае незалежна ад суду. Пэўна, што сьвятары вырашаюць па фармальным характары сьмерці. І ўсё ж такі, усё ж: хто вінаваты ў такой трагедыі людзей, што не згаджаліся з цёмным рэжымам? Хто вінаваты ў заўчаснай сьмерці ***Васіля Быкава***, якога заманілі ў Беларусь і лячылі заведама не адпаведна? Хто вінаваты ў сьмерці ***Генадзя Карпенкі***, эпікрыз хваробы якога ведалі добра і падсыпалі ў каву, відаць, не Палёнія-210, але таго, чаго хапіла яму, каб праз тыдзень памерці? Хто вінаваты ў нацыянальнай духоўнай сьмерці тысячаў беларусаў? Хто вінаваты ў гэтай гангрэне абыякавасьці і страху, што паралізавала людзей? Рытарычныя пытаньні. Але скора, ужо скора мы мусім, павінны, дадзім на яго справядлівы адказ.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*8 сакавіка 2009 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2009, № 1(66), с.13-14.*

# РЫХТУЕМСЯ ДА РАЗЬВІЦЬЦЯ ПАДЗЕЯЎ

***(Выступ на сакавіцкім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне")***

…Падзеі ў Беларусі (і ў цэлым у сьвеце) усё больш разьвіваюцца па сцэнары крызісу, які істотна ўплывае на палітычныя паводзіны. Чакаецца, што абвастрэньне можа пачацца ўжо ў канцы красавіка гэтага года. Сытуацыя абумоўлена перш за ўсё ўнутранай антыбеларускай палітыкай рэжыму. Крызіс абвастрыў гэтую сытуацыю, і грамадзтва ўжо пачало пажынаць горкія вынікі эканамічнага і палітычнага лукашызму.

Напярэдадні магчымых зрухаў у грамадзтве ўсім нам, сябрам Народнага Фронту і ўсяго нашага нацыянальна-дэмакратычнага руху, неабходна яшчэ раз нагадаць сабе аб пазыцыі, прынцыпах і сэнсе нашых паводзінаў у зьменных абставінах.

У ацэнцы міжнародных адносінаў да антыбеларускага рэжыму мы адстойвалі неабходнасьць міжнароднай крытыкі дыктатуры, дачыненьняў з рэжымам на пэўных умовах (з магчымасьцю санкцыяў пры невыкананьні ўмоваў) і правядзеньне палітыкі салідарнасьці зь беларускім апазыцыйным нацыянальна-дэмакратычным рухам. Мы выступалі супраць ізаляцыі рэжыму, паколькі (як пацьвердзіла сусьветная практыка) ізаляцыя ўмацоўвае дыктатуру і нішчыць, аслабляе народ.

Рэальнасьць, аднак, прадэманстравала зусім іншую карціну эўрапалітыкі ў дачыненьні да Беларусі. Усе азначаныя вышэй прынцыпы былі скамечаныя. Эўропа, зыходзячы з традыцыі падвойных стандартаў, пачала балансаваць сваю палітыку ў Беларусі разам з Расеяй, арганізоўваць сумесна з КГБ зьнішчэньне нацыянальна-вызвольнай апазыцыі (БНФ) і ствараць тут сваё апазыцыйнае лобі. Эўропа баіцца нацыянальнай дэмакратычнай сілы (зь якой трэба лічыцца) і хацела б мець тут сваю апазыцыйную марыянэтку без выразнага нацыянальнага аблічча. Ім, разам з КГБ, удалося раскалоць БНФ і стварыць тут сваю апазыцыю, пагрунтаваную на лібэральных ідэях касмапалітычнай дэмакратыі і зьнешніх рэсурсах. Натуральна, што падстаўная апазыцыя аказалася маргінальнай, нацыянальна безідэйнай і поўнасьцю палітычна бясьсільнай. Вынік яе палітычнае дзейнасьці, калі браць агулам, – ня тое, што нуль, а хутчэй мінус.

Эўропа, відаць, не зразумела, што яна сама зьяўляецца прычынай мінусовага выніку свайго штучнага стварэньня. Аднак, да 2008 года яна ўжо ўбачыла поўны тупік сваёй палітыкі вялай ізаляцыі Беларусі і стаўкі на падстаўную апазыцыю.

Невядома да якой ступені маразму датрывала б гэтае становішча, калі б не ваенная агрэсія і напад Расеі на Грузію. Тое, аб чым мы ўсе гэтыя 14 гадоў даводзілі эўрапейскім палітыкам (аб агрэсіўнай сутнасьці расейскага імпэрыялізму) раптам дайшло, напалохала, вымусіла прымаць рашэньні. Эўропа перастала гуляць са сваёй апазыцыйнай падстаўкай і пачала наўпрост дамаўляцца з антыбеларускім рэжымам. Дачыненьні перайшлі ў геапалітычную сфэру. Эўразьвяз нарэшце зразумеў, што захоп Беларусі Расеяй (якому ён спрыяў пад выглядам „пашырэньня дэмакратыі") не прынясе яму ніякай транзітнай, палітычнай, эканамічнай і іншай выгады, акрамя пагрозы і небясьпекі.

Стварылася новая палітычная сытуацыя (на мой погляд, часовага кшталту), якая ў адных спарадзіла ілюзіі надзеяў, у іншых канчаткова заблытала ўсё ў галаве.

Падстаўная апазыцыя, якая раптам апынулася на ўзбочы брусэльскіх інтарэсаў, падзялілася, шукае сваю ролю ў чужой палітыцы. Адны цалкам падтрымліваюць усе эўрапейскія дзеяньні і ініцыятывы і лічаць, што „ім" (гэта значыць, „апазыцыі") трэба супрацоўнічаць з Эўразьвязам і з рэжымам Лукашэнкі, каб дапамагаць антыбеларускаму рэжыму сьціравацца і ўвайсьці ў Эўропу. Гэта, маўляў, трэба рабіць дзеля таго, каб запабегчы агрэсіі Расеі і гарантаваць захаваньне незалежнасьці Беларусі. Іншыя лічаць, што асноўнае ёсьць каштоўнасныя прынцыпы (правы чалавека, свабода друку і г.д.) і імі нельга пастурацца дзеля незалежнасьці і геапалітычных задачаў. Супрацоўнічаць з рэжымам Лукашэнкі Эўропа павінна, на іх думку, ставячы ўмовы захаваньня дэмакратычных каштоўнасьцяў. Пытаньня, што рабіць, калі Лукашэнка ня стане трымацца названых каштоўнасьцяў (а ён ня стане) – гэтае пытаньне не задаецца (адпаведна, няма і адказу). Затое першыя „апазыцыяністы" адказ на яго маюць – супрацоўнічаць нягледзячы ні на што – „лепш Лукашэнка, чым Пуцін".

І першы і другі падыход не зьяўляюцца ні змагарнымі, ні апазыцыйнымі. Гэта тыповая платформа калабарацыі. Калабарацыя з антыбеларускім рэжымам у справе незалежнасьці і свабоды – рэч абсалютна бесперспэктыўная і абсурдная. Плюсы тут часовыя, ілюзорныя і мізэрныя, мінусы пастаянныя, велізарныя і сьмярдзючыя.

Новая палітыка Эўразьвязу адносна рэжыму на Беларусі – гэта ёсьць ягоная палітыка і праводзіць ён яе ў сваіх інтарэсах, мэтадамі, якія лічыць патрэбнымі. Нам такая палітыка, якая ўключае Беларусь у сфэру эўрапейскіх дачыненьняў, – зручная, але, паўтараю, гэта ёсьць палітыка Эўразьвязу, якую ён будзе праводзіць, не лічачыся з нашымі нацыянальнымі інтарэсамі.

Трэба мець на ўвазе, што ў істоце рэчы нічога не перамянілася, акрамя тактыкі. Сацыялістычнае кіраўніцтва эўраструктураў і цяпер едзе ў Менск праз Маскву. Гэтак ехаў да Лукашэнкі Саляна, гэтак ехаў Тэры Дэйвіс (выйшаў зь левага крыла лейбарыстаў, фактычна камуністаў, што былі на ўтрыманьні КПСС). Вядома, што ён там, у Маскве, нагаварыў, сказаў, што расейская дэмакратыя на 20 гадоў апярэдзіла беларускую. Маразм і падвойны стандарт неад'емныя атрыбуты гэтай ружовай эўрапалітыкі. Можна прадбачыць, чым яна скончыцца ў адносінах да Лукашэнкі (я пра гэта ўжо пісаў).

Нашая пазыцыя нацыянальна-дэмакратычных сілаў Беларусі і нашай народнай партыі (КХП-БНФ) вызначана даўно: змаганьне з антыбеларускім рэжымам і яго антынароднай палітыкай. Мы не павінны перашкаджаць дачыненьням Эўразьвязу з антыбеларускім рэжымам, улічваючы абставіны, якія нам выгадныя. Але нельга дапускаць, каб пры гэтым гандлявалі нашымі каштоўнасьцямі, незалежнасьцю і свабодай. У рэчышчы нашых асьветніцкіх і палітычных задачаў мы, – фронтаўцы, – павінны і надалей (асабліва ў гэты час) рыхтаваць глебу для шырокага грамадзкага змаганьня. Наша палітыка робіцца тут на Беларусі і тут вырашаецца наш народны лёс.

Якраз менавіта тут, а не ў ацэнках дачыненьняў рэжыма з Эўропай узьнікае пытаньне прынцыповай важнасьці, якое высьвятляе пазыцыі. Калабаранты ўсіх масьцяў з падстаўной апазыцыі і са структураў улады кажуць у адно: нельга, маўляў,

няхораша, нядобра, выкарыстоўваць крызіс у барацьбе супраць улады. Трэба, маўляў, дапамагаць рэжыму выйсьці з крызісу, думаць пра інтарэсы ўсяго грамадзтва, нацыі і дзяржавы, а ня жыць па прынцыпу „чым горш, тым лепш".

Такая ахоўніцкая пазыцыя наскрозь фальшывая і вядомая ня толькі з часу распаду СССР. Гэта ахоўніцкая клясіка ўсялякай дыктатуры, абсалютызму і прыгнятальніцкага рэжыму. Каб ўратаваць скуру, ставілі грамадзтва ў выключнае становішча, якое абавязвала да супольных дзеяньняў на глебе нацыянальных інтарэсаў. Тут і „маленькая пераможная вайна" і „вайна народная", і „Дойчлянд уйбэр альлес" і нават „трацкісцкія сабакі" і „жыдамасоны". А тут крызіс здарыўся. „Усе на барацьбу з крызісам (які, маўляў, прышоў з Захаду), уратуем Беларусь, – выступаюць ахоўнікі і калабаранты, – дапаможам ураду!"

Скажу адразу, нічога з гэтага ня выйдзе ў Беларусі (акрамя ганьбы крыкунам). Усе дыктатуры, якія існавалі і існуюць, вырасталі на нацыянальнай (альбо імпэрскай) аснове, таму ашукаць народ і ратаваць сваю ўладу на абароне быццам бы нацыянальных інтарэсаў дыктатарам, як правіла, удавалася. У Беларусі ж не нацыянальны, а антынацыянальны антыбеларускі рэжым, які адкрыта праводзіць антыбеларускую палітыку. Гэта прамаскоўскі рэжым, які ўтварыўся шляхам унутранай акупацыі беларускай улады прамаскоўскімі сіламі. Калі хто яшчэ за амаль 15 гадоў рэжыму гэтага не зразумеў, то цяпер, калі жыцьцё прымусіць думаць, – уцяміць хутка.

Пра якія там „нацыянальныя інтарэсы" гэтая антынацыянальная ўлада будзе яшчэ казаць беларусам?! Чатырнаццаць гадоў яна плявала на беларускія інтарэсы. Гэты рэжым сваёй кансэрвацыяй саветчыны, шашнямі з Масквой і душэньнем усяго жывога давёў наш народ да такога стану, што ён не можа ўжо справіцца зь бядой. Якую камарыльлю ён павінен яшчэ ратаваць!? Людзей трэба перастаць палохаць і душыць падаткамі, кантрактамі, кагэбістамі, кантралёрамі, судамі, амонамі, дэвальвацыяй, інтэграцыяй, стабілізацыяй, трасцай з хваробай. Людзям трэба вольна дыхаць, вольна працаваць і мець сваё. Пакуль існуе гэты рэжым і ягоны начальнік, ня будзе ні павагі, ні волі, ні свайго. Заганяюць вунь ужо людзей у пятлю і хоць бы што, памаўківаюць, фэльетончыкі папісваюць. Усялякі антынародны рэжым, дарэчы, існуе толькі таму, што зь ім супрацоўнічае эліта, тэхнакратыя, інтэлігенцыя („слушай бацьку"). Ня толькі на „амоне" – на „изотовичах" трымаецца рэжым.

Хто там ладзіў „мобы-шмобы" і прасіў пераменаў? Вось яны йдуць перамены – крызіс. Перамены, аднак, можа ажыцьцявіць толькі народная сіла. Гэта тая частка народа, якая працуе, кіруе вытворчасьцю, на чыіх плячах трымаецца ўлада. Гэта людзі, якія ствараюць ідэі і дабрабыт нацыі. Канкрэтныя дзеяньні і мэты будуць неўзабаве надрукаваныя ў дакумантах нашага руху і партыі.

Задача эліты, інтэлігенцыі не зьберагаць збанкрутаваны рэжым, не дапамагаць яму ўратавацца, выходзіць з крызісу, каб потым ён загнаў усіх у труну, а ліквідаваць яго як першапрычыну асабліва цяжкага крызісу на Беларусі. Шанц трэба скарыстаць, дапамагчы людзям усьвядоміць рэальны шлях свабоды і пераменаў. Лукашэнка – гэта пэрманэнтная пагроза незалежнасьці Беларусі. Незалежнасьць, дзяржава і нацыя ня ёсьць для яго каштоўнасьці, а толькі тавар, якім можна гандляваць у інтарэсах. Колькі гадоў зьневажаньня і духоўнага рабства трэба выцерпець, каб гэта нарэшце ўбачыць?!

Але надыходзіць час, калі дарогу змогуць убачыць усе (калі захочуць). Гэты час настае незаўважна і хутка. Будзьма ж гатовыя яго спаткаць.

***Зянон Пазьняк***

*15 сакавіка 2009 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці",*
*– 2009, № 1(66), с.1-2.*


(2000-2001 гг.)

***126. Пінская Рада КХП – БНФ***

# СЛОВА НА ДЗЕНЬ ВОЛІ – 2009

…Маскоўская імпэрыя паставіла задачу сьцерці з твару зямлі Вялікае Княства Літоўскае і вынішчыць фізычна наш вялікі народ, рэшту вывезьці, астатніх русіфікаваць. Дзяржаванішчэньне, генацыд і разбурэньне культуры маскоўцы рабілі разам зь немцамі. Дазваньня загінула Вялікае Княства, таму што нашы высокародныя продкі не маглі паверыць, што такое можа стаць.

Але вось зноў паўстае зь небыцьця Вялікае Княства ў вобразе Беларусі. 25 Сакавіка 1918 года – гэта быў голасны крык аб яго адраджэньні. І ўсё пачалося спачатку: барацьба і ахвяры, лік якіх ідзе на мільёны.

Але толькі адзін бок, толькі Масква сьведама ведала, што зьнішчае народ. Беларусы ж перад расстрэлам, на краі курапацкай магілы задавалі пытаньне „за што?”

Немагчыма перамагчы ворага ў змаганьні, будучы сьляпым. Сьлепата грамадзтва спарадзіла абсурд – прамаскоўскі рэжым, бо сон розуму нараджае пачвар; уся сіла сьляпога ня значыць нічога, пакуль ня ўбачыць ворага.

Мы перажываем асабліва цяжкі час – час вынішчэньня, сораму і прыніжэньня, час нізасьці і цемры, якой адчынілі дзьверы.Тут важна нам ня толькі захаваць агонь, але й падняць яго над галовамі, каб бачылі іншыя, каб сталі відушчымі, каб асьвятляў шлях.

Тут трэба вытрымка і цярпеньне, мужнасьць і праца дзеля прышласьці, якая ўжо надыходзіць. Яна набліжаецца. Ня будзе ў Беларусі вечна панаваць цемра і чэрнь і маскоўская палітыка. Мы мусім рыхтавацца да вялікіх падзей. Мы бачым, што наша праца не зьнікае дарма, і гэта надае пэўнасьці й сілы. Крок за крокам мы йдзем да свабоды, крок за крокам мы йдзем да Беларусі. Яшчэ цішыня, але мы чуем ужо біцьце сэрцаў у сьмелых людзей, мы адчуваем, як зьмяняюцца думкі.

Цяпер наша задача набліжаць гэты час, калі ўздымецца за Беларусь і выступіць вялікая сіла. Усё паказвае на тое, што час набліжаецца.

***Зянон Пазьняк***

*25 Сакавіка 2009 г.*

# ПЕРАМЕНЫ ТРЭБА РЫХТАВАЦЬ

***(Выступ на красавіцкім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і БНФ „Адраджэньне”)***

За мяжой, якая поўніцца ад інфармацыі, стан у Беларусі ўспрымаецца мной як „трывожныя дні”. На Беларусі тым часам ранейшы маразм рэжымнага нішчэньня з той хіба розьніцай, што калі ў Менску людзі яшчэ ўпарта церпяць, то ў раёнах і абласьцях беларусу ўжо робіцца нясьцерпна: ні працы, ні заробкаў, ні пэрспэктывы і няма куды дзецца. Магчыма людзі адчуваюць, што самы сабе ўзгадавалі калгасны рэжым і яго начальніка, і няведаюць, што рабіць. Але статыстыка паказвае, што большую падтрымку „галоўны начальнік” мае якраз у абласьцях і раёнах, і што з пачаткам крызісу гэтая падтрымка не змалела, а, наадварот, павялічылася.

Прыгледзімся да прычыны гэтай зьявы. Тым больш, што яна існуе пастаянна, яшчэ з часоў пасьляваеннага СССР і нават раней – з 30-х гадоў.

Агульная прычына, як я мяркую, гэта вынік рэпрэсіяў і кіраваньня 200-гадовай расейскай акупацыі. Адбылася дэфармацыя мэнтальнасьці ў пэўнай частцы беларусаў, што выжывалі і прыстасоўваліся пры маскоўскім рэжыме.

Па мэнтальнасьці і па шматлікіх аспэктах жыцьця Расея – гэта ёсьць Азія ў горшым, крымінальным яе выяўленьні, гэта – супольнасьць, пазбаўленая лучнасьці культурных традыцыяў. У гэтым грамадзтве ніколі не было і не сфармавалася супольнага мэханізму абароны асобы ад тыраніі і гвалту ўлады і ад сабе падобных; існуе татальная непавага да закону і абсурднае спадзяваньне на справядлівасьць і волю вярхоўнай асобы як панацэю ад разбою і бяспраўя. У такіх абставінах абсалютнымі каштоўнасьцямі грамадзтва робяцца дзяржава, улада і воля вярхоўнага начальніка. Жыцьцё чалавека перад гэтымі рэальнасьцямі ёсьць другасным, і гэта ўспрымаецца як натуральны парадак рэчаў. Гэта значыць, залежнасьць ад парадку ўлады і чаканьне ад яе справядлівасьці праз пакараньне крыўдзіцеляў. Рухавіком такіх дачыненьняў становіцца нянавісьць, ашуканства, эгалітарнае думаньне. Гэта не эўрапейцы, яны зусім іншыя ў адносінах да сьвету, чым беларусы. У іх іншыя ацэнкі людзей, стандартных дачыненьняў і зьяваў, якія не адразу распазнаюцца з прычыны падобнасьці формы і эўрапейскага выгляду.

Непасрэднай прычынай падтрымкі дыктатуры часткай людзей зьяўляецца сама дыктатура і страх, які яна насаджае. Ад гэтага дэфармуецца калектыўная псіхіка, узьнікае эфэкт закладнікаў, якія ў выпадку небясьпекі (што вядома) пачынаюць супрацоўнічаць з тэрарыстамі. Як правіла, гэта прыкмета псіхалогіі прыстасаванства і зламанага духу. Такія людзі, баючыся невядомасьці і пераменаў, жадаюць не свабоды, а парадку. Яны хапаюцца якраз за дыктатуру і за дыктатара, які гэты парадак, на іх думку, забясьпечыць (ім хочацца Сталіна, Лукашэнкі, расстрэлаў і г.д.).

Цяпер, у час крызісу, мы зьяўляемся якраз сьведкамі праявы такой мэнтальнасьці. Наш тэзіс аб неабходнасьці скарыстаць крызіс дзеля ліквідацыі рэжыму Лукашэнкі як галоўнай прычыны крызісу на Беларусі, ня быў і ня будзе ўспрыняты гэтай катэгорыяй людзей. Ім здаецца (стандартнае апраўданьне), што як абваліцца рэжым і скончыцца рэжымнае рабства, то пачнецца анархія і беззаконьне і стане яшчэ горай. Міфалагічная сьведамасьць малюе страшныя карціны. Характэрна, што (як і трэба было чакаць) найбольш адкрыта гэтую збочаную пазыцыю выказала цяперашняя сэрвільная інтэлігенцыя і ўсе дэмпартыі так званай вікаўскай апазыцыі, якія засьведчылі сваю гатоўнасьць супрацоўнічаць з антыбеларускім рэжымам і разам ратавацца ад крызісу. Дзеяньні „апазыцыйнага” калябаранцтва набываюць панічныя формы.

Наступным важным чыньнікам існаваньня закладніцкай мэнтальнасьці ёсьць узьдзеяньне афіцыёзнай інфармацыі і прапаганды, якая цалкам зманапалізаваная антыбеларускім рэжымам.

Другая частка беларусаў (прыблізна роўная першай катэгорыі людзей) выхад з крызісу зьвязвае зь пераменамі і з пазбаўленьнем ад рэжыму. Сьведама ці ня сьведама ў іх сьпее гатоўнасьць змагацца. Яны ня згодны на антынародны парадак і па сутнасьці не хацелі б чужога парадку, але жадалі б народнай свабоды – грамадзянскай і нацыянальнай.

Мэнтальны і, ў выніку, палітычны падзел добра і пастаянна відаць. Мы мусім улічваць гэтакае становішча ў нашым змаганьні з антыбеларускім рэжымам і правільна разьмяркоўваць ужываньне нашых ініцыятываў.

Мэнтальнасьць свабоды больш актыўная і схільная пашырацца. Такім чынам, ёсьць духоўныя і сацыяльныя падставы дзеля стварэньня арганізаванай пратэстнай сілы, якая можа стацца рашаючым чыньнікам ва ўмовах крызіснага абвастрэньня адносінаў паміж антынародным рэжымам і беларускім грамадзтвам. У гэтым накірунку павінна цяпер працаваць наша народная партыя.

Тут, апісваючы абставіны, мушу зрабіць дэгрэсію, каб падкрэсьліць істотную акалічнасьць. Дзейнасьць антыбеларускага рэжыму і ягонага псіхічна няўстойлівага кіраўніка становіцца ва ўмовах крызісу вельмі небясьпечнай для грамадзтва і беларускай дзяржавы. Ён здольны ў такіх умовах зрабіць учынак, які пацягне цяжкія наступствы для нашай дзяржавы і незалежнасьці. Абсалютная канцэнтрацыя ўлады ў руках аднаго палітычна і псіхічна ненадзейнага чалавека стварае магчымасьць гэтаму чалавеку выклікаць непапраўнае няшчасьце для цэлай нацыі. І мы бачым, што ён робіць і ведаем, што можа зрабіць.

У час такога разбуральнага дзеяньня і верагоднага крызіснага абвастрэньня першасны выхад заўсёды адзін – зьмена ўлады, адстаўка кіраўніка. Магчымасьць зьмены – гэта ёсьць магчымасьць захаваньня грамадзтва і дзяржавы перад катастрофай. Але ў тым і справа, што Лукашэнка, як і бальшыня дактатараў, зьнішчыў усе законныя магчымасьці зьмены аўтарытарнага кіраўніка ўлады, пачынаючы ад перапісу і незаконнага ўвядзеньня ў 1996 г. сваёй „канстытуцыі дыктатуры" і заканчваючы стварэньнем машыны выбарчай фальсіфікацыі. Уся нацыя апынулася ў закладніках аднаго неўраўнаважанага і малакультурнага чалавека. Законнага мэханізму яго зьмены практычна не існуе. Беларускі народ загналі ў кут. У выпадку экзыстэнцыяльна-разбуральнага дзеяньня з боку ўзурпатара (здачы сувэрэнітэту Беларусі, напрыклад; увядзеньня чужога войска на нацыянальную тэрыторыю і т.п.) народ мае права на непасрэднае дзеяньне супраць прадажнай улады (арт. 3 Канстытуцыі 1994 г.) і гэта законна.

Тым часам, антынародны рэжым, практычна, імкнецца зачыніць беларусам і гэтую магчымасьць (стварыў велізарнае і мілітарна ўзброенае ўнутранае войска, праводзіць прэвентыўныя рэпрэсіі, падпісаў незаконнае пагадненьне аб карных войсках з Расеяй – „аддзелы хуткага рэагаваньня"). Словам, тут стандарт, тыпалогія дыктатуры; стварэньне незьнішчальнасьці рэжыму паварочваецца парадаксальным бокам, бо правакуе скрайнія дзеяньні (і гісторыя гэта пацьвярджае). Той, хто заганяе ў кут цэлы народ, адначасна заганяе ў кут самога сябе.

Пра мірную схему зьмены ўлады ў Беларусі з удзелам грамадзтва я ўжо пісаў раней у агульных рысах. У гэтай сувязі ёсьць яшчэ адна, нібыта пабочная тэма, якую ніхто не абмяркоўвае, але якая датычыць дзяржавы і кожнага беларуса. Гэта пытаньне грошай, нарабаваных узурпатарам шляхам эксплуатацыі беларускай дзяржавы. Сістэма эксплуатацыі і мэтады рабаваньня беларусаў бачныя ўсім, хто ўмее глядзець. З самага пачатку быў створаны паралельны бюджэт (што само па сабе крымінал), якім па сёньняшні дзень распараджаецца выключна адзін Лукашэнка і ніхто ня бачыў, колькі там грошай, адкуль прыходзяць і куды выходзяць, і, увогуле, дзе яны знаходзяцца. У канцы 90-х гаварылі і друкавалі, што ў гэтым „бюджэце" 11 мільярдаў даляраў. У 1998 годзе за паўгода перад бамбаваньнем Сэрбіі амэрыканскай авіяцыяй (1999 г.) Лукашэнка паехаў раптам без патрэбы ў Бялград, абымаўся там з Мілошавічам, гаварыў траскучыя палітычныя „бздуры", накшталт аб'яднаньня Сэрбіі, Беларусі і Расеі ў „саюзную дзяржаву" і потым ад'ехаў.

Тады і ў Амэрыцы, і ў Эўропе ў палітычных колах я чуў адну і тую ж гісторыю (прытым з падрабязнасьцямі). Грошы Лукашэнкі былі ў сэрбскім банку. Зразумеўшы, што „друг Слабадан" можа дрэнна скончыць, Лукашэнка прыехаў да яго абымацца і клясьціся ў дружбе. У выніку Слабадан Мілошавіч асабістым уплывам выдзеліў яму бранявік для перавозкі грошай з банку на самалёт. Вазілі тры дні. Перавозкай кіравалі чальцы сям'і „вялікага сябра Сэрбіі". Самалёт адляцеў у невядомым кірунку. Потым стала вядома, што прызямліўся ён у Лівіі. Усё было спакойна, пакуль не пачаўся фінансавы крызіс. Узурпатар захваляваўся і запрасіў „брата Муамара" ў Менск. „Брат" прыехаў са сьвітай, бедуінскім шатром і дзяўчаткамі-"ахоўніцамі" (Кадафі – арыгінал), пабыў і паехаў (прынялі для віду нейкі мэмарандум аб нейкіх неіснуючых „дачыненьнях").

Выснова з гэтай брацкай дружбы можа быць толькі адна: грошы, забраныя ў беларускага народа, павінны быць вернуты беларускаму народу. Зразумела, дзе яны знаходзяцца. Хай ляжаць. Муамару Кадафі беларусы толькі падзякуюць.

Вяртаючыся да крызісу, не палянуюся паўтарыць: народным сілам трэба рыхтаваць сваю тэхнічную сістэму выбарчага працэсу. Зрабіць гэта ўвогуле не складана, яна можа вельмі прыдасца. Прэзыдэнцкія выбары, у выпадку перамены, трэба правесьці разам з парляманцкімі па законнай Канстытуцыі 1994 года.

Аб эўрапалітыцы. Да жніўня 2008 г. Эўразьвяз ня меў выразнай стратэгіі ў дачыненьні да Беларусі. Існаваў падвойны стандарт: штурханьне Беларусі ў Расею (немцы) і, адначасна, адпрацаваныя штампы падтрымкі „барацьбы за дэмакратыю" са стварэньнем сваёй крэатурнай „апазыцыі" і ўпорам на „правы чалавека".

Цяпер, пасьля расейскай агрэсіі супраць Грузіі зьявілася стратэгія, заснаваная на геапалітыцы, так званае „Усходняе партнёрства" (мадыфікацыя нашай фронтаўскай канцэпцыі БЧС – Балтыйска-Чарнаморскай Супольнасьці). Недахоп гэтай стратэгіі ў тым, што яна канцэптуальна не распрацавана. Эўразьвяз, адкінуўшы тупіковыя гульні са сваёй падстаўной „апазыцыяй", напрасткі стаў супрацоўнічаць з антыбеларускім рэжымам Лукашэнкі, практычна (як і раней), выкінуўшы з гэтай сваёй стратэгіі нацыянальныя інтарэсы Беларусі.

„Усходняе партнёрства" мы, вядома, падтрымліваем. Але генэральныя дачыненьні Эўразьвязу мусяць быць ня толькі з антынародным рэжымам, але і зь беларускім народам і зь яго палітычнымі арганізацыямі (прытым з усімі, а ня толькі зь эўрапейскай „апазыцыйнай" падстаўкай). У адваротным выпадку станоўчага сэнсу ў гэтым ня будзе. Апартуністычная эўрапалітыка дачыненьняў толькі з рэжымам умацуе гэты акупацыйны рэжым, узаконіць рэпрэсіі і этнацыд беларусаў і легітымізуе вынікі фальшывых выбараў, што аблегчыць агрэсію Масквы, палітычную і эканамічную інвазію ў нашу краіну.

Цяпер асобным пытаньнем для Эўропы і Беларусі паўстала праблема: запрашаць ці не запрашаць Лукашэнку ў Прагу на саміт Эўразьвязу. Складваецца ўражаньне, што перамагае апартунізм. Хаця зразумела ўсім зацікаўленым бакам, што запрашаць узурпатара нельга. Гэтае запрашэньне нікому не патрэбнае. Яно не патрэбна нам, беларусам, па вялікаму кошту (а не па нямецкаму) яно не патрэбнае Эўразьвязу, Расеі і самому Лукашэнку. (Незапрашэньне аблегчвае яго дачыненьні з Мядзьведзевым-Пуціным і дае козыры ў перамовах з Эўзразьвязам.) Такім чынам, запрашаць Лукашэнку на інаўгурацыйны саміт „Усходняга партнёрства" ў Прагу ня трэба. Інакш гэта легалізуе бяспраўе і

этнацыд, ўмацуе рэпрэсіі рэжыму і ціск на народ Беларусі. Такая наша пазыцыя.

Беларусам цяпер вельмі важна ўмацаваць сваю нацыянальна-дэмакратычную палітычную сілу, адрадзіць яе масавасьць і ўплыў на палітыку. Інакш Эўразьвяз ня будзе лічыцца з інтарэсамі Беларусі. Мы не павінны стаць пешкамі ў чужой палітыцы, асабліва ў такім збочаным варыянце як супрацоўніцтва Эўразьвязу з антыбеларускім рэжымам. Усё гэта без нашай сілы і нашай палітыкі можа абярнуцца супроць Беларусі, прывесьці да чарговага падзелу нашай уласнасьці і эканомікі паміж Масквой і Эўразьвязам.

Бессэнсоўна, аднак, доўга разважаць пра магчымасьці чужой палітыкі. Наш лёс і наша будучыня вырашаецца ў Беларусі. Але сутнасьць гэтага вырашэньня заключаецца ў арганізацыі змаганьня і ў барацьбе з антыбеларускім рэжымам з мэтай яго ліквідацыі і ўсталяваньня нармальнай беларускай і дэмакратычнай улады. Тым часам падстаўная апазыцыя цяпер, калі Эўропа яе пракінула, таксама залемантавала, што ўсё вырашаецца на Беларусі. Але сутнасьць іхняга вырашэньня (Лябедзька), гэта не барацьба, а супрацоўніцтва з антыбеларускім рэжымам, пра што яны пастаянна цяпер кажуць. Як бачым, усё ў іх вяртаецца на свае кругі. Наш шлях – барацьба. Свабоду мы можам мець, толькі здабыўшы яе ў змаганьні.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*11 красавіка 2009 г.*




***127. Вялікая эмблема БНФ (графічны варыянт)***

# ПАЛІТЫЧНЫ ЧАРНОБЫЛЬ

***(Выступ на курапацкай акцыі Чарнобыльскі шлях – 2009)***

…Ужо мінула 23 гады з таго дня, калі ўзарвалася савецкая атамная станцыя ў Чарнобылі. У 1994 годзе ўзьнік другі Чарнобыль – духоўны і палітычны. Яны ўвесь час скрыжоўваюцца, пашыраючы адзін аднаго і прыносячы вынішчэньне. Сытуацыя, як у чарадзейнай казцы пра каралеўства, у якім усеўся цмок. Чарнобыль наўпрост выкарыстоўваецца цмокам дзеля вынішчэньня народа. Гэта вынік ўнутранай прамаскоўскай акупацыі ўлады ў Беларусі. Уражвае, аднак, ня тое, як маскоўцам удалося гэта зрабіць, уражваюць разбуральныя адкрытыя мэтады нішчэньня пры пасыўным маўчаньні людзей.

Спачатку ўлада адмяніла ўсялякую дапамогу людзям, што пацярпелі ад Чарнобыля і жывуць на забруджанай радыяцыяй тэрыторыі. Потым ворагі чалавецтва сталі не прапускаць міжнародную гуманітарную дапамогу людзям і бессаромна абкрадваць пацярпелых, спынілі адсяленьне, загадалі сеяць і зьмешваць чыстую прадукцыю з забруджанай для ўнутранага карыстаньня (удакладнім – калектыўнай дозы радыяцыі). Затым прынялі законы аб накіраваньні моладзі на працу ў чарнобыльскія зоны, а нядаўна галоўны ўзурпатар грымеў у Гомельскай вобласьці, што пара засяляць людзьмі спустошаныя радыяцыяй раёны і што з гэтага году ён сваім указам пачаў тое рабіць. „Сейце!" – крычаў хворы, вучоныя ў кабінэтах, маўляў, не разьбіраюцца, а людзі, што жывуць на радыяактыўнай зямлі, лепш ведаюць, дзе можна апрацоўваць глебу, а дзе не.

Ужо каторы год краіна перажывае чарнобыльскія Курапаты, гэта значыць сьведамае зьнішчэньне Чарнобылем. І не чуваць нават прывычнага пытаньня – „За што?"

Такога ніяк ня можна цярпець. Незаконны правіцель абзывае „ворагамі" беларусаў, што не прызнаюць ягонай улады, але ён сам ёсьць тыповым ворагам чалавецтва, які вядзе чарнобыльскую вайну супраць нашага народа. Мы мусім спыніць гэтую вайну. Беларусам за ўсю сваю гісторыю прыходзілася змагацца з усялякай вар'яцкай нечысьцю, пераможам і гэтую.

Мушу зноў паўтарыць: збочаная ўлада і ненармальная дзейнасьць Лукашэнкі, якая выклікала разбурэньне культуры, ***стала ў апошні час надзвычай небясьпечнай для беларускага грамадзтва і беларускай дзяржавы.*** Гэтага ўжо даўно нельга цярпець, адбываюцца непапраўныя страты ў эканоміцы, палітыцы і культуры. Паводзіны гэтага чалавека неадэкватныя, скандальныя і амаральныя, яго асабістае жыцьцё збочанае і на віду ва ўсіх выпадае з нармальнасьці, ганьбіць краіну і цэлы народ. Гэты чалавек нясе псіхічны комплекс непаўнавартаснага дзяцінства і дзіцячага астракізму. Ён не засвоіў элемэнтарных асноваў культурных дачыненьняў зь людзьмі і толькі палітычная нясьпеласьць грамадзтва, прыдушанага акупацыйным камунізмам і саветчынай, дазволіла непрыяцелям Беларусі зацягнуць яго на вяршыню ўлады.

Але, хоць і павольна, ужо мінае гэты час цемры і, не сумняваюся, зьнікне дазваньня. Відавочная праўда, што ***нічога, абсалютна нічога, нельга ўжо паправіць, пакуль на верхавіне ўлады знаходзіцца гэты цёмны Лукашэнка, што выпаў з культуры і гістарычнага часу.*** Бываюць анамаліі ў прыродзе, бываюць, на жаль, і ў грамадзтве. Бяда, што нашаму народу прыходзіцца такую анамалію пераживаць. Мусім прысьпешваць яе ліквідацыю і назва гэтай бяды – палітычны Чарнобыль. Мы мусім перамагчы вялікую чарнобыльскую вайну і мы пераможам яе. Памятайма і верым, і ўзмацняйма наш вольны народны дух.


(Фота В. Фядосенкі)

***128. Чарнобыльская зона. Пакінуты дом.***

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*26 красавіка 2009 г.*

# „ПАКУЛЬ ІСНУЕ РЭЖЫМ ЛУКАШЭНКІ НІЯКАЙ ЛІБЭРАЛІЗАЦЫІ НЯ БУДЗЕ"

Сваё меркаваньне пра візыты ў Беларусь прадстаўнікоў Эўразьвязу выказвае старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Зянон Пазьняк.

***Пазьняк:*** – Найбольш важным візытам у Беларусь з боку Эўразьвязу быў візыт Хавіера Саляны, і зьвязаны ён перш за ўсё з пытаньнем запрашэньня Лукашэнкі ў Прагу. Саляна шукаў у Менску нават мінімальных аргумантаў, каб такое запрашэньне можна было апраўдаць. Мы бачым з боку Эўразьвязу тыповую прагматычную палітыку. Яна была такой увесь час, толькі цяпер зь яе ськінулі дэмакратычны камуфляж і загаварылі наўпрост з дыктатарам.

З гледзішча геапалітыкі, супрацоўніцтва з Эўропай і ўдзел ва Усходнім партнэрстве нам выгадны і патрэбны. Але, на жаль, гэта ня нашая палітыка, ня мы яе вядзем. Гэта палітыка Эўропы, якую яна праводзіць з выгадай для сябе, коштам нашых народных інтарэсаў. Мы будзем плаціць вельмі вялікую цану за гэтую палітыку. Пакуль што гэта выглядае так. І невыпадкова шмат у каго зь беларусаў узьнікаюць асацыяцыі з Мюнхэнам і з Аншлюсам 38-га году. Тады, каб заспакоіць Гітлера, здалі Аўстрыю і Чэхаславаччыну. Цяпер, каб забясьпечыць свае інтарэсы, здаюць дэмакратыю ў Беларусі, прыкрыўшы вочы на тое, што робіць рэжым у Беларусі.

Калі Лукашэнка будзе запрошаны ў Прагу, гэта будзе азначаць, што Эўропа пагадзілася з рэпрэсіямі і этнацыдам, з арыштамі і судамі за беларускую мову, з нападамі міліцыі на кватэру былога дэпутата Вярхоўнага Савета Аксаміта і з рабаваньнем яго дэпутацкага архіву, з арыштамі ў Ваўкавыску, са зьбіцьцём міліцыяй моладзі ў Менску, і г.д. Гэта будзе знак для Лукашэнкі, што так рабіць – можна, і што гэта не перашкаджае Эўропе супрацоўнічаць з рэжымам. Гэта чэмбэрленаўшчына. Але вінаватыя ў такім стане рэчаў найперш самы беларусы. Наша грамадзтва ў цэлым пакуль што не праяўляе асэнсаванай волі да барацьбы за свае інтарэсы, за гонар і годнасьць.

Таму спадар Саляна нас можа і ня ўлічваць у сваёй партытуры. Гэтае становішча нам трэба перамяніць, і ёсьць надзея, што мы яго пераменім. Што датычыць Лукашэнкі ў Эўропе, то (наколькі я яго ведаю) на нейкім этапе справа скончыцца скандалам і гнеўнымі філіпікамі Лукашэнкі ў бок Захаду.

***Карэспандэнт:*** – Цяпер шмат гавораць пра новыя тэндэнцыі ў палітыцы афіцыйнага Менску, якія ўжо займелі назоў „лібэралізацыі". У свой час у СССР працэсы сярэдзіны 1950-х атрымалі назоў «адлігі», а ў канцы 80-х мы памятаем „перабудову". Цяпер – „лібэралізацыя". Ці дае гэты працэс нейкія спадзяваньні для Вас як для палітыка?

***Пазьняк:*** – Перабудова ў СССР – гэта быў унутраны працэс, у Беларусі адбываецца зусім іншае. Тут тактыка самазахаваньня антыдэмакратычнага рэжыму ў адказ на перамену тактыкі Эўропы. Ніякай лібэралізацыі няма. Наадварот. Цяпер Лукашэнка стаў больш жорстка праводзіць палітыку ў дачыненьні да нязгодных зь яго рэжымам (да пратэстнай моладзі і іншых); арышты апошняга часу і зьбіцьцё пра гэта сьведчаць. Бо ён выдатна ведае, што палітыку на збліжэньне праводзіць Эўропа, гэта трэба Эўропе, і ён хоча пайсьці ў Эўропу з гэтым рэпрэсіўным багажом. Ён хоча, каб яго такім прызналі, каб гэта стала нормай.

Фактычна, Эўропа, дбаючы за свае геапалітычныя інтарэсы, заплюшчвае вочы на палітыку рэжыму, на нашыя нацыянальныя інтарэсы, на зьнішчэньне мовы, парушэньне правоў чалавека. Але паўтараю: уся справа не ў Эўропе, уся справа – у нас самых, у тым, што нашае грамадзтва на гэтым этапе страціла волю да барацьбы. Гэтую волю трэба здабыць. А пакуль існуе рэжым – ня будзе ніякай лібэралізацыі. Гэты рэжым антынародны, антыбеларускі, і ўвесь яго інтарэс – ўтрымацца пры ўладзе. У гэтым і палягае яго палітыка балянсаваньня паміж Эўропай і Масквой.

***Інтэрв'ю зрабіў С. Навумчык (радыё Свабода)***

# ПАРТНЁРСТВА І ІНТАРЭСЫ

*(Ліст да сяброў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне")*

...7-га траўня ў Празе на саміце Эўразьвязу была прынятая і зацьверджаная праграма „Усходняе партнёрства." Гэта падзея, якая патрабуе грунтоўнага асэнсаваньня. Перад самітам нам, беларусам, неабходна было ўмяшацца ў сытуацыю, каб паправіць тое, што можна паправіць. Бо, здаецца, ня ўсе ўсьведамляюць, наколькі небясьпечны паварот адбываецца ў эўрапейскай палітыцы.

Галоўная задача, якая стаяла перад намі (беларусамі з Бацькаўшчыны і замежжа) і, як вядома, перад шэрагам эўрапейскіх палітыкаў, – не дапусьціць Лукашэнку ў Прагу. Задача дасягнута. Другая задача – увесьці ў кантэкст палітыкі Эўразьвязу патрабаваньне аб абароне беларускай культуры, адукацыі і творчасьці ад вынішчэньня антыбеларускім рэжымам. Гэтая задача пастаўлена і адчыненыя магчымасьці яе ажыцьцяўленьня.

„Усходняе партнёрства" дае беларусам магчымасьць манеўру ў выпадку абвастрэньня палітычнага і эканамічнага націску з боку Расеі. Праграма прадугледжвае верагоднасьць уцягваньня беларускага грамадзтва ў сфэру эўрапейскіх дачыненьняў.

Аднак „Усходняе партнёрства" запраграмаванае на супрацоўніцтва Эўразьвязу з антыбеларускім рэжымам. Калі пачнуцца інвэстыцыі з Эўропы і сумесныя энэргетычныя праекты, усялякія размовы пра дэмакратыю і правы чалавека скончацца (яны ўжо, фактычна, скончыліся). Самая вялікая небясьпека для нас у тым, што рэжым атрымае карт-блянш на поўнае вынішчэньне беларускай культуры і легітымізацыю сваёй улады з рук Эўропы. У гэтым зацікаўлены рэжым і Расея (каб увесьці незаконныя пагадненьні з нелегітымным Лукашэнкам у прававое поле). Калі такое адбудзецца, тады пачнецца працэс падзелу беларускай эканомікі паміж Аб'яднанай Эўропай і Фэдэратыўнай Расеяй (дакладней, паміж эўрапейскім капіталам і расейскай эканамічнай мафіяй).

У такой сытуацыі цяперашнюю вікаўскую апазыцыю чакае поўная маргіналізацыя і адкідваньне на ўзбочыну палітычных працэсаў.

Новая апазыцыя, якая магла б змагацца з рэжымам як сіла, павінна будзе ў новых ўмовах стратэгічна, тактычна і канцэптуальна зьвярнуцца да нацыянальнай ідэі і зыходзіць з нацыянальных інтарэсаў. (На нашу народную Партыю – КХП-БНФ – кладзецца вялікая адказнасьць). Калі такая шырокая нацыянальная апазыцыя ня ўзьнікне, то ня ўзьнікне ніякай.

Апазыцыйныя варожаму рэжыму нацыянальныя сілы павінны мець поўнае праграмнае забесьпячэньне па эканоміцы, сацыяльнай, фінансавай, прававой, абароннай, экалягічнай сфэрах, але аб'ядноўвацца мусілі б на клопатах па абароне дзяржаўнай незалежнасьці, у імкненьні да свабоды і ў барацьбе за захаваньне беларускай культуры як важнейшага чыньніка суверэнітэту і грунту дэмакратычных пераўтварэньняў. Беларуская культура ёсьць ідэалягічная альтэрнатыва антыбеларускаму рэжыму і імпэрскай палітыцы Расеі.

Мэтай барацьбы новай беларускай апазыцыі павінен стаць катэгарычны імпэратыў: ***Лукашэнка нелегітымны кіраўнік і павінен пакінуць уладу.***

Мусіць быць распрацаваная і ўжытая новая тактыка, заснаваная на сумяшчэньні легальнай і нелегальнай дзейнасьці (стыхійна яна ўжо існуе).

Усе гэтыя пытаньні трэба вырашаць, улічваючы эканамічны і сістэмны крызіс грамадзтва і асаблівую мэнтальнасьць людзей.

Прыклад беларускага ўзаемадзеяньня ў Празе перад падрыхтоўкай да саміту паказаў прынцыповую магчымасьць мэтавага злучэньня антырэжымных сілаў на падставе агульнанацыянальных інтарэсаў. Тым часам пражскія назіраньні, слуханьні і наступны за гэтым аналіз выказваньняў і падзеяў прыводзяць мяне да высновы, што праект „Усходняга партнёрства" ўспрыняты рэжымам сур'ёзна (прынамсі на бліжэйшую пэрспэктыву), і спадар Мілінкевіч сьведама выконвае ролю лабі гэтага рэжыму ў Эўропе. Каардынацыя яго паводзінаў з палітыкай рэжыму Лукашэнкі ў праграме „Усходняе партнёрства" не выклікае цяпер сумніву. Мяркую, што да гэтага трэба аднесьціся ўважліва, бо лабі, супраца і калябарацыя сярод знаных асобаў будуць павялічвацца.

Трэба разумець прагматычную схему заходнеэўрапейскай палітыкі, якая будуецца на энергетычнай і абароннай бясьпецы ад пагрозы з Усходу. У канцы 90-х і пачатку 2000-х стаўка была зроблена на зьнішчэньне беларускай нацыянальна-дэмакратычнай апазыцыі (Народнага Фронту) і стварэньне сваёй, залежнай ад Захаду, кіруемай апазыцыі на грунце касмапалітычнай дэмакратыі і тэзісах аб правах чалавека. Пытаньні аб нацыянальнай культуры і нацыянальным разьвіцьці, аб гарантыях незалежнасьці тут прынцыпова не ўзгадваліся. Такую „апазыцыю" ім удалося стварыць, раскалоўшы Народны Фронт і злучыўшы нешматлікія „дэмакратычныя" партыі. На дзейнасьць дэмапазыцыі выдаткавалі велізарныя сродкі (што яе й загубіла – грошы, халява плюс бездзейнасьць).

Укараняючы сваю апазыцыйную схему ў Беларусі, Захад ня гідзіўся таемным супрацоўніцтвам з рэжымам і КГБ (Ганс Вік). Меліся два варыянты разьвіцьця схемы: прывядзеньне да ўлады кіруемай апазыцыі праз электаральныя выбары (сэрбскі варыянт) і ўключэньне Беларусі ў склад Расеі, якую заходнія „чэмбэрлены" называлі „дэмакратычнай" краінай. Расейскі аншлюс, на іх „думку", паспрыяў бы беларускай дэмакратыі.

Праз восем гадоў апазыцыйнага маразму, які Захад нагарадзіў у Беларусі, праваліліся ягоная схема і варыянты. Прытым „чэмбэрлены" так і не зразумелі, чаму электаральная схема спрацавала ў Сэрбіі і не ўдалася на Беларусі. Хаця адказ элемэнтарны і ляжыць на паверхні. ***Дэнацыяналізаванае грамадзтва ня ў стане змагацца за свабоду.*** І Захад (разам са сваёй „апазыцыяй") спрыяў гэтай дэнацыяналізацыі, прынамсі сваім маўчаньнем, калі душылі беларускую мову, зачынялі беларускія школы, палілі беларускія падручнікі, разбуралі беларускія выдавецтвы і кнігадрук, душылі творчыя саюзы, зьдзекваліся над вялікімі беларусамі.

Шыльдбюргерскую памылковасьць другога варыянту заходнія палітыкі ўбачылі толькі ў 2008 годзе пасьля расейскіх газавых войнаў і ваеннай агрэсіі супраць Грузіі. Тое, што ў Расеі ўсталяваўся гэбізм і што рускі антычалавечы рэжым такі ж антынародны і антыдэмакратычны, як і рэжым у Беларусі, яны зразумелі, аказваецца, толькі цяпер. Вынікам гэтага зразуменьня стала „Усходняе партнёрства".

З самага пачатку пранікненьня (1998 г.) заходняй прагматычнай палітыкі ў беларускую антырэжымную барацьбу, мы, фронтаўцы, як і ў выпадку з расейскай „імпэрскай" палітыкай, паказвалі ўсю падступнасьць і небясьпечнасьць яе для Беларусі, выкрываючы яе тактыку і стратэгію, наклікаючы




(Фота У. Янькдзюка)

*129. Прага 6. 05. 2009. Прыём у прэм'ер-міністра Чэхіі Мірэка Тапалянэка: Зь лева на права: З. Пазьняк, І. Сурвіла, ... М. Тапалянэк, С. Шушкевіч.*

на сябе нянавісьць ды ўлюлюканьне палітычных прафанаў. Цяпер, сутыкнуўшыся з брусэльскім „рэалізмам" наўпрост, яны, як аглушаныя, хапаюць паветра.

Тым часам людзі, якія ўсе гэтыя гады мелі доступ да нашай фронтаўскай інфармацыі і нашай дзейнасьці, ёсьць добра інфарматыўна падрыхтаваныя да таго, што рэальна адбываецца, валодаюць ідэалёгіяй і тэрміналёгіяй сапраўднага дэмакратычнага беларускага змаганьня.

Наша фронтаўская арыентацыя на ўнутраныя палітычныя, сацыяльныя і эканамічныя праблемы, на нацыянальнае асьветніцтва і культуру, на Беларусь застаецца нязьменнай. Але ўвага да эўрапалітыкі мусіць цяпер павялічыцца і набыць канкрэтныя кшталты (аналіз, факты, прапановы і нават праекты). Мы мусім ня толькі сьведчыць, але і рабіць, прапаноўваць дзеяньні для рэалізацыі. Мы (зрэшты, усе арганізаваныя і актыўныя беларусы) павінны будзем змушаць заходніх „партнёраў" да дзеяньняў з намі (і ў нашых інтарэсах) ў той час, калі яны вымушаны супрацоўнічаць з рэжымам. Нашымі саюзьнікамі будуць краіны Скандынавіі і ўсе дзяржавы былой савецкай зоны, дзе шануюць культурную ідэнтычнасьць і добра ведаюць, што такое расейскі імпэрыялізм і якім розумам трэба „понять" Расею.

Новая беларуская апазыцыя вымагае патрыятызму, апоры на нацыянальныя каштоўнасьці і на Беларусі народ. Гэты час будзе цяжэйшым, але можа стаць паваротным. Упэўнена набліжайма яго.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Б Н Ф „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*10 траўня 2009 г.*

*Надрукавана: („Беларус", – 2009, чэрвень, № 557)*

# ПАДРЫХТОЎКА НА ВОСЕНЬ

*(Ліст на чэрвеньскі Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)*

Пасьля ўступленьня Беларусі ва Ўсходняе партнёрства падзеі, як і трэба было чакаць, сталі разьвівацца па горшым сцэнары. Унутраная рэжымная палітыка задушэньня ўсяго вольнага і беларускага не зьмянілася ні на каліва. Брусэльская бюракратыя тым часам адкрыта дэманструе гатовасьць супрацоўнічаць з антынародным рэжымам Лукашэнкі. 8-га чэрвеня, напрыклад, у Менск прыязджалі высокія эўра-чыноўнікі: старшыня Камітэту Міністраў Рады Эўропы Самуэль Жбогар, намесьніца Генэральнага сакратара Рады Эўропы Мод дэ Бур-Букік'ё і адыёзны ўжо дакладчык Парляманцкай Асамблеі Рады Эўропы па Беларусі Андрэа Рыгоні. Гэты Рыгоні 26 траўня зачытаў на Паліткамісіі ПАРЭ свой даволі сумніўны (і, як адзначылі камэнтатары, месцамі адкрыта „ілжывы") даклад па нашай краіне. Рыгоні запрапанаваў вярнуць Беларусі (гэта значыць нелегітымнай, непрызнанай імі, фальшывай „палаце Нацыянальнага сходу") статус спэцыяльна запрошанай у ПАРЭ. Палітычная Камісія ПАРЭ „адзінагалосна" (!) прыняла гэты „даклад" без зьмяненьняў. Такая вось цікавая „Эўропа" (калі хто ня ведаў).

Далей – болей. Самуэль Жбогар 8 чэрвеня заявіў у Менску, што ў ягонай „арганізацыі" „адзначаюць вялікі прагрэс у справе дэмакратызацыі і павагі да правоў чалавека ў Беларусі" *(радыё „Свабода", 8. 06. 2009)*.

„Отэтада", як сказаў бы на гэта савецкі чалавек. Зрэшты, ёсьць для беларусаў і станоўчы бок у такіх амаральных заявах. Постсавецкі чалавек, які вось ужо скора 20 гадоў бачыў перад сабой адно толькі маскоўскую імпэрыяльную фізіяномію расейскага захопніка і, дрэнна ўспрымаючы яго, ідэалізаваў усё заходне-эўрапейскае (яму ўсё там здавалася лепшым), гэты чалавек мае цяпер магчымасьць ва ўпор паглядзець, як выглядае заходне-эўрапейскае палітычнае аблічча, пра якое, дарэчы, аўтар гэтых радкоў падрабязна распавёў яшчэ ў 90-х. Відаць, тады гэта ўспрымалі, як казку. Цяпер казка становіцца быцьцём. У пляне маральнай „гумовасьці" яшчэ невядома, хто каму дасьць сто ачкоў наперад, Масква ці „Эўропа", але што датычыць абмежаванасьці і снабізму, то заходніх чэмбэрленаў пакуль што ніхто не пераплюнуў.

Такім чынам – у Беларусі „вялікі прагрэс". А будзе яшчэ больш, толькі б не памёр у турме ад галадоўкі палітвязень Аўтуховіч (кінуты за краты без суда). А так – усё о'кей, прыўкрасная маркіза.

На ўсходзе таксама ўсё разгортваецца па прыродзе рэчаў расейскай імпэрыі – усё, зыходзячы з прыроды драпежнікаў. Расейскі гэбізм хоць сам топіцца, ужо па шыю ў багне стаіць, але ў апошні момант сіліцца яшчэ праглынуць Беларусь, схапіўшы за горла Лукашэнку-напарніка. Малочная прамысловасьць, напрыклад, у Расеі разьвіта слаба. Рашылі забраць беларускія малаказаводы і... адмовіліся ад усіх беларускіх малочных тавараў. Тыповы расейскі шантаж (але гэта вам не „баржомі" і не грузінскае віно – прадукт псуецца). Зрэшты, справа не ў малочных заводах (ці: ня толькі ў заводах), тут адчуваецца палітычная падкладка (як і ва ўсіх расейскіх эканамічных войнах з суседзямі) тым больш, што юрыдычная (догаворная) праўда на беларускім баку, расейцы паламалі свае ж дамоўленасьці. На мой погляд Крэмль вырашыў, відаць, што самы час дадушыць паталагічнага „друга Расеі" патрабаваньнем увесьці рускі рубель, прызнаць адрыў ад Грузіі Асеціі і Абхазіі, заблакаваць беларусам узгодненыя крэдыты і г. д. (вядомы набор) і забраць такім чынам Беларусь пад свой мафійны кантроль. (У карысьць гэтага меркаваньня сьведчыць тое, што як толькі МВФ паабяцаў Беларусі мільярдны крэдыт узамен затрыманых Масквой 500 мільёнаў, Крэмль тут жа пачаў агучваць новыя слоўныя манеўры.)

Ад пачатку 90-х мы, дэпутаты ад БНФ, папярэджвалі ўсіх і кожнага: ***гандлёвы абарот Беларусі з Расеяй у кожнай галіне не павінен перавышаць 10 адсоткаў. Расейскія ўлады – гэта ёсьць палітычныя агрэсары і эканамічныя шантажысты***. І ніякія нібыта „эканамічныя" аргумэнты супраць такога папярэджаньня ня трэба прымаць пад увагу. Бо тут асаблівая сытуацыя. Да парады прыслухаліся толькі эстонцы – і гора ня ведаюць. Астатнім... можна б было сказаць „так вам і трэба", калі б не было зразумела, што беларусы ў гэтай палітыцы не вінаватыя; адказнасьць нясе адзін чалавек, які ня ёсьць і ня лічыць сябе беларусам.

Гэтак драпежнікі на ўсходзе хочуць скарыстаць крызіс: не ратавацца, а скарыстацца, утапіць і праглынуць іншага. Канібальская палітыка.

На гэтым фоне „кантора" і маргінальная апазыцыя пачынаюць бавіцца ў „эўрапейскія кангрэсы" і прэзыдэнцкія выбары 2011 года. Гэтае штучнае ўзбуджэньне адцягвае людзей ад галоўнага пытаньня – выхаду з крызісу. Крызіс, выхад зь яго вызначаць і характар выбараў, і іх неабходнасьць.

І ўчора, і сёньня, і заўтра абсалютна зразумела, што А. Лукашэнка, які парушыў Канстытуцыю, незаконна ўзурпаваў уладу, сфальсіфікаваў выбары і незаконны рэфэрэндум 2004 года аб падаўжэньні сваёй улады, ***ня мае права і не павінен удзельнічаць у выбарах у якасьці кандыдата на пасаду прэзыдэнта Беларусі.***

Зразумела, што мусіць быць зьмененае недэмакратычнае выбарчае заканадаўства. Але ***няўдзел ўзурпатара ўлады ў чацьвёртых выбарах прэзыдэнта – гэта ёсьць першасная і галоўная ўмова выбараў 2011 года, якая павінна быць пастаўлена ўсім грамадзтвам.*** І толькі пасьля выкананьня гэтай умовы магчымае рашэньне пра ўдзел у выбарах астатніх грамадзянаў. Пры невыкананьні ўмовы выбары, як ужо даказаў вопыт і практыка, трацяць усялякі сэнс пры гэтым рэжыме. Грамадзтва павінна тады жорстка байкатаваць чарговую выбарчую камэдыю і тым самым не дапусьціць спробы легітымізацыі дыктатуры. Байкот павінен быць дастаткова магутным, улічваючы, што цяперашнія бюракраты з Брусэля (што йдуць на супрацоўніцтва з узурпатарам і антынароднай уладай), спаслаўшыся на ўдзел ў выбарах дэмакратычных сілаў, прызнаюць такія выбары за дэмакратычныя і заплюшчаць вочы на фальсіфікацыю.

Успомнім, што на восеньскіх выбарах 2008 года на байкот працавала толькі адна наша Кансэрватыўна-Хрысьціянская фронтаўская народная партыя. І фактычны байкот адбыўся. Тры чвэрці выбаршчыкаў не пайшлі галасаваць. У выніку „палатка" не прызнаная за легальны орган ўлады. У нас пакуль нехапае сілы ліквідаваць антынародны рэжым, але мы змаглі яго падвесіць. Гэта вельмі істотна, бо выводзіць з праўнага поля прэтэнзіі Масквы і антыбеларускія дзеяньні рэжыму.

* * *

На сакавіцкім Сойме быў прыняты і распаўсюджаны па структурах нашай народнай партыі (КХП – БНФ) інфармацыйны матэрыял "Шукаем выхад з агульнага крызісу на Беларусі". Там адзначана, што „канкрэтная прапанова падрыхтоўкі першых крокаў па выхаду з агульнага крызісу будзе выкладзена ў наступным паведамленьні". За два месяцы, якія мінулі з таго часу, сытуацыя ў краіне згоршала яшчэ больш. Антыбеларускі рэжым

Лукашэнкі, які выклікаў гэты крызіс сваёй антынацыянальнай палітыкай, ня ў стане нічога перамяніць, каб вывесьці Беларусь з цяжкага становішча. Жыцьцё людзей пагаршаецца. Вялікія цяжкасьці могуць узьнікнуць восеньню.

У сувязі з гэтым беларускае грамадзтва мусіць рыхтавацца да пераменаў і забясьпечыць арганізаванае разьвіцьцё падзеяў. Прапаную сябрам Сойму нашай народнай партыі (КХП – БНФ) абмеркаваць прапанову Сяргея Пятровіча Папкова аб народных выбарах.

Першым крокам у гэтым накірунку павінна стаць стварэньне ***групаў народнага даверу***. ***Групы народнага даверу*** ўтвараюцца дзеля пэўнай мэты гэтак жа, як некалі ў 80-х „групы падтрымкі" Народнага Фронту, толькі яны не заяўляюць аб сваім стварэньні і ня дзейнічаюць да пэўнага моманту (зьяўляюцца толькі ўмоўнымі групамі).

Мэта ***групаў народнага даверу*** – стварэньне Народнай Цэнтральнай Выбарчай Камісіі і правядзеньне выбараў.

Калі ўзьнікне грамадзкая неабходнасьць, тады ***групы народнага даверу*** „ажываюць", пачынаюць дзейнічаць і пасылаюць сваіх дэлегатаў на Ўсеагульны Нацыянальны Сход, які выбірае Народную Цэнтральную Выбарчую Камісію. НЦВК приступае да дзейнасьці, ***групы народнага даверу*** ператвараюцца ва ўчастковыя выбарчыя камісіі і пачынаюць дзейнічаць згодна выбарчага закону і народнага мандату НЦВК пад яе кіраўніцтвам.

Гэтая схема цалкам дэмакратычная і цалкам канстытуцыйная (вынікае з прынцыпаў непасрэднай дэмакратыі).

Калі складзецца сытуацыя, то істотным рашэньнем у гэтай схеме ёсьць тое, хто вызначыць момант і аб'явіць аб скліканьні Ўсеагульнага Нацыянальнага Сходу. Але зразумела, што гэта павінна быць воля ўсіх арганізацыяў і сілаў, якія зацікаўленыя ў правядзеньні свабодных дэмакратычных выбараў.

Дзеля гэтага павінен быць створаны адпаведны „Камітэт прадстаўнікоў", у які ўвойдуць кіраўнікі зацікаўленых палітычных арганізацыяў. Яны павінны прыняць рашэньне аб скліканьні Сходу і стварыць Аргкамітэт Сходу.

Прынцыповая ўмова на гэтым этапе: не павінны прымацца пад увагу (і тым больш прысутнічаць) ніякія прапановы і меркаваньні з боку Брусэля і Масквы. Інакш на ўсім у чарговы раз будзе пастаўлены крыж (хто гэтага ў Беларусі яшчэ не зразумеў, таму можна толькі паспачуваць).

Мусім яшчэ раз падкрэсьліць, што гэтая схема са скліканьнем Усеагульнага Нацыянальнага Сходу, стварэньнем НЦВК і народнымі выбарамі магчымая толькі ў надзвычайных умовах, пры якіх наступіць пратэстная актывізацыя насельніцтва, часовы параліч і аслабленьне кіруючага рэжыму. Яна (схема) невыканальная ў цяперашніх абставінах. Усялякія заклікі да ажыцьцяўленьня яе цяпер трэба будзе расцэньваць як прафанацыю ідэі і правакацыю кшталтам той, якая адбылася ў 1999 годзе ў выніку авантуры В. Ганчара з альтэрнатыўнымі выбарамі прэзыдэнта (што прывяло да расколу БНФ).

Мы ўсьведамляем, што наша схема народных выбараў (гэтак жа, як колішнія выдатныя планы аб сымвалічным ***Грамадзянстве БНР*** і ***Народным галасаваньні***) ёсьць адначасна тэст на арганізацыйны ўзровень і палітычную сьпеласьць грамадзтва. Аднак, зважаючы на нэгатыўнае дасьведчаньне, трэба ўлічваць, што палітычны ўзровень нашага грамадзтва ў апошні час павысіўся, а ў пэрыяды надзвычайных абставінаў (на што разьлічана наша прапанова дзеяньняў) гэты ўзровень і актыўнасьць людзей вырастае шматкроць.

Мы спадзяёмся, што ідэі, якія тут выкладзены, пройдуць праз грамадзкае абмеркаваньне, якое дасьць ня толькі інфармацыйны, але ідэйны, практычны плён.

Тым часам прапануем нашым фронтаўскім партыйным структурам і ўсім грамадзянам Беларусі прыступіць да стварэньня ***групаў народнага даверу***. Гэта надзвычай проста (робіцца нават на кухні) і цалкам незаўважна. Часам проста знаёмыя людзі мусяць абмяняцца думкамі і банальна дамовіцца аб дзеяньнях у час "N". Нават калі гэты час "N" не настане (а ён настане), то сама акцыя па стварэньні ***групаў народнага даверу*** будзе чыста народным дзеяньнем, праявай грамадзкай актыўнасьці і волі. Усё гэта дапаможа скансалідаваць наш народ на галоўных інтарэсах краіны, нашай дарагой Бацькаўшчыны.

* * *

Пра тое, што сацыяльныя вынікі крызісу могуць праявіцца восеньню, гавораць шмат якія аглядальнікі. Гэта не абавязкова здарыцца, але цалкам верагодна. Небясьпечна тое, што антыбеларускі рэжым, які ня ў стане з гэтага крызісу выйсьці, ўсю энэргію накіраваў на запабяганьне свайго краху і на захаваньне ўлады. У гэтых дзеяньнях Лукашэнка шматкроць дапусьціўся парушэньня Канстытуцыі і ігнараваньня дзяржаўных інтарэсаў. Такімі „дзеяньнямі" зьяўляюцца пашырэньне функцый і наданьне, практычна, неабмежаванай улады спэцслужбам. Усе спэцслужбы могуць арыштоўваць людзей, урывацца ў дамы грамадзянаў, праводзіць сьледчыя дзеяньні. Беларус робіцца цалкам бяспраўны перад КГБ, міліцыяй, пракуратурай, падаткавай службай, прэзыдэнцкай аховай і г.д. Асабліва злавесным выглядае наданьне аўтаномных і, практычна, неабмежаваных правоў службе бясьпекі прэзыдэнта, якая абстаўлена ў асноўным чужымі людзьмі (выхадцамі з Расеі). У краіне, дзе ня дзейнічаюць законы, – гэта грунт для ўладнага тэрору.

Такім „дзеяньнем" зьяўляецца таксама незаконная згода Лукашэнкам на падпісаньне дамовы аб удзеле вайскоўцаў Беларусі ў расейскіх калектыўных сілах апэратыўнага рэагаваньня (створаных пад парасонам АДКБ і СНД), якім надаецца права ўступаць на суверэнную беларускую тэрыторыю і ўжываць зброю супроць беларусаў. (Дарэчы, у сувязі з малочна-эканамічнай вайной супраць нашай краіны і, заходзячы з разьвітага ў Лукашэнкі інстынкту самазахаваньня, у яго яшчэ ёсьць повад не падпісаць антыканстытуцыйную самабойчую дамову аб КСАР. Хаця ад суду яго, відаць, ужо нішто не ўратуе.)

Такім „дзеяньнем" зьяўляецца таксама рашэньне аб правядзеньні ў верасьні на тэрыторыі Беларусі расейскіх ваенных манеўраў „Захад-2009" сумесна з войскам Беларусі. Аб'яўлена, што на зямлю Беларусі будзе ўведзена 5 тысячаў расейскіх салдатаў (практычна, дзейная дывізія). Нічыё і ніякае заканадаўства (у тым ліку і беларускае) не дазваляе заходзіць чужому войску на сваю суверэнную тэрыторыю. Тое, што заплянаваў Лукашэнка, ёсьць нечуванае парушэньне законаў краіны.

Насьцярожвае, што манеўры, запланаваныя на верасень, – час верагоднага крызіснага абвастрэньня. Блакада беларускага малочнага гандлю, якую распачала Расея і адначасная „дзіўная" заява начальніка штаба РФ Макарава аб увядзеньні на Беларусь дзеля манеўраў дзьвюх расейскіх арміяў у поўным складзе (а гэта 160 тысячаў салдатаў і афіцэраў, тысячы танкаў, самалётаў і г. д.) – усё гэта пэўным чынам карэлюецца між сабой і паказвае, якога роду вобраз палітычнага думаньня існуе на расейскім баку. (Дарэчы, ніхто ў Расеі не ўдакладняў, не зьдзіўляўся і не тлумачыў „сэнсацыйнай заявы" кіроўнага генэрала.)

Думка аб ваеннай акупацыі Беларусі, аказваецца ўжо цьвёрда сядзіць у рускіх генэральскіх галовах і выказваецца ў лапідарнай форме.

Беларусы не павінны дазваляць (тым больш у такіх абставінах) заходзіць расейскім войскам на сваю тэрыторыю (ні 5-ці тысячам, ні аднаму салдату).

Сумесныя манеўры „Захад-2009" (гэта для Расеі – „захад", для нас не захад) павінны быць адкладзены і ў далейшым мэтазгоднасьць іх перагледжана.

Беларускае грамадзтва мусіць сур'ёзна ўспрыняць пагрозу і не заставацца тут пасіўным назіральнікам. Якая б ні была ўлада ў краіне, але на ёй ляжыць палітычная і праўная адказнасьць за суверэнітэт Беларусі. Таму першыя патрабаваньні грамадзтва павінны быць зьвернутыя да ўлады, якая ўзурпавала сабе гэтую адказнасьць.

*12 чэрвеня 2009 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ЦЕНІ РЭЖЫМУ

Палітыка – гэта найвышэйшая сфэра грамадзкай дзейнасьці. Але яна мае тую асаблівасьць, што ў ёй, як у футболе, „разьбіраюцца" ўсе, і кожны на стадыёне радзіць сваё „мыла на суддзю". Таму палітык таксама мусіць прызвычаіцца да ўсяго. Нічога не павінна яго зьдзіўляць.

Выдумка Сьвятланы Алексіевіч (у інтэрв'ю для „Нямецкай хвалі") пра „паліцаяў", дзе яна прыпісала мне ўсхваленьне нямецкіх „паліцаяў" (чаго ў сапраўднасьці не было), (спасылка: http://charter97.org/ru/news/2009/6/29/19587/; http://pbpf.org/art.php?art=113&cat=3&lang=be ) і спроба зноў навесіць на маё імя старыя камуністычныя ярлыкі наштурхнула мяне на думку паглядзець бліжэй некаторыя яе інтэрв'ю і выказваньні, якія я раней звычайна прапускаў ці праглядаў па дыяганалі. Словам, прагледжаны матэрыялы з 2004 па 2009 гг. – ўсё, што датычыць яе вусных выступаў (інтэрв'ю) пра грамадзтва і палітыку за апошная пяць гадоў. (Яе журналісцкая творчасьць у разгляд не ўваходзіць.)

Тое, што Алексіевіч – гэта савецкі тыпаж, беларусафоб і „каша ў галаве", было зразумела даўно, але ўважлівы прагляд матэрыялаў за апошнія пяць гадоў выявіў вельмі цікавыя акалічнасьці.

Аказваецца, саўковасьць свайго думаньня і натуры ўсьведамляе сама Алексіевіч і неаднаразова падкрэсьлівае гэта: ***„Я абсалютна савецкі чалавек, з савецкімі комплексамі, і я ганаруся гэтымі комплексамі".*** (Спасылка: http://www.3dway.org/node/9136) (Праўда, часам яна прыводзіць неадпаведныя прыклады для доказу сваёй савецкасьці; але гэта дробязі).

Зь яе разважаньняў паўстае натура, гнаная ўнутраным страхам перад пераменамі, якая ні ў што ня верыць, ня мае ніякіх сьветлых ідэалаў, перапоўненая неакрэсьленай трывогай за будучыню і пэсымізмам. У меркаваньнях часта пазыцыянуе сябе як „мы" і блытаецца са сваім нацыянальным паходжаньнем. Гэта відаць, напрыклад, з інтэрв'ю расейскаму штотыднёвіку „Аиф" (№28), 2006 г.: ***„Сегодня время великих идей кончилось".*** І далей: ***„Каждый из нас может вспомнить моменты, когда он был счастлив. Но, к сожалению, это только моменты. А нам, русским, даже этот скоротечный мир счастья не знаком. Мы его боимся."*** Потым зноў працяг у такім жа дэпрэсіўным стылі: ***„Может, такова человеческая природа вообще – нам всегда мало того, что у нас есть? Или это мы, русские, на нашем участке суши, где бескрайние пространства, бесконечные дороги, – такие люди?"*** Усе гэтыя выказваньні нейкія ненатуральныя, нагадваюць нейкую дрэнную літаратуру.

І ў завяршэньне гэтага сьпісу цытую яе ўяўленьні, што выходзяць за межы здаровага сэнсу: ***„Почему-то все, с кем бы я ни разговаривала, повторяли одну фразу: „Человек в нечеловеческих условиях превращается в животное за три дня". На войне, мучимый страхом смерти, в лагере с жутким унижением. То, что веками накопила культура, вся эта шелуха мгновенно слетает, и вылезает зверь, который не хочет умирать. Страх смерти, наверное, самый большой страх, который в нас заложен"***. Выходзіць за межы сэнсу, – бо тое, што яна кажа і як думае, у сапраўднасьці выглядае ў прынцыпе ня так. Усё наадварот – культура і дух трымаюць чалавека чалавекам у невыносных умовах (і асабліва – вера). Гэта агульнавядома і пацьверджана вопытам чалавечай гісторыі і людзкога мартыралогу. Тут усё, што сказана Алексіевіч, элемэнтарная няпраўда. І „страх сьмерці" ня самы вялікі страх, і культура не зьлятае „за тры дні", і не „шалупіньне" ёсьць культура, а сутнасьць чалавецтва. За такімі дэпрэсіўнымі фразамі ўжо стаіць нехта з рагамі. І гэта дрэнна, бо сьвет і чалавек – іншыя.

З пазыцыі рацыянальнага асэнсаваньня, вышэйпрыведзеныя выказваньні не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Гэта проста глупствы, што часта без засяроджаньня праходзяць міма вушэй слухача, які ня ўслухваецца ў плынь экзальтаванай сьведамасьці.

Усе яе маналогі адзначаны такой „завумнай", містыфікаванай сацыяльна-бытавой банальшчынай, вельмі падобнай на слоўны вадаспад Лукашэнкі (толькі лексіка іншая).

***„На чым трымаецца адчуваньне, што мы беларусы?*** – задае сабе райкінскае пытаньне Алексіевіч. ***– На крыўдзе на ресейцаў, яны багатыя, а мы..."*** (Спасылка: http://www.svaboda.org/content/article/759626.html )

Некалі расейцы называлі такога тыпу разважаньні тэрмінам „боты ўсьмятку". Толькі ўдумайцеся, што яна тут гаворыць! Але нават і гэта даволі адпаведна кладзецца на мэнтальнасьць савецкага чалавека, якую яна ўсьведамляе, разумее і якой ганарыцца.

Беларускі народ у яе – гэта ў асноўным сяляне-калгасьнікі, ***„маленькі любімы мной беларус, катораму сапраўды хапае гэтага гаршчка капусты".*** (Спасылка: http://www.svaboda.org/content/Transcript/1351319.html )

Вось такая любоў і такі ў яе „беларус". (Нешта тут цягне нават не на савецкую, а яшчэ на царскую прапаганду, да Пшчолкі і Саланевіча). Дарэчы, тут выяўлена таксама тыпова савецкае (ненацыянальнае) уяўленьне пра народ. Саветы народам лічылі працоўныя масы, якія займаюцца ручной працай (была „партыя" і быў „народ"; „партия" і „народ" былі „едины").

Практычна, усе яе маналёгі напоўненыя такой саўковай безвыходнасьцю ***(„ня ведаю, што рабіць"; „мы абсалютна без пастыраў"; „доўга гэты прамежкавы стан не пратрымаецца. І ня будзе беларускай дзяржавы;" „нас чакаюць вельмі цяжкія часы;" „скончыўся час вялікай гісторыі;" „людзі расчараваліся ва ўсіх ідэях"; „беларусы – нацыя, якая спазьнілася, сыходзіць зь вялікай гісторыі;" „мы, беларусы, недафармаванае цела...")*** – і

гэтак далей, цэлы сеанс суіцыднага мазахізму. (Спасылкі: http://www.svaboda.org/content/article/759626.html; http://gazetaby.com/index.php?sn_nid=7467&sn_cat=35 і інш.)

Тут, аднак, збольшага ўсё псіхалёгія і мэнтальнасьць. Ідэалёгія і сьветапогляд цяперашняга саветызму – гэта ёсьць лукашызм, і выяўляецца ён у адносінах да Лукашэнкі і да беларускага нацыянальнага Адраджэньня ці да нацыянальна-дэмакратычнай апазыцыі.

Ва ўсіх матэрыялах Алексіевіч, прагледжаных мной, нідзе ні разу няма крытыкі з непрыняцьцем Лукашэнкі. Хвала савецкаму дыктатару пабудавана на інверсіі і вымаўляецца цераз агаворкі і ўмоўныя адступленьні лёгка-крытычнага і (у асноўным) пазыцыйнага стану. Вось тыповае (шмат дзе паўторанае) выказваньне: ***„Я не прыхільніца Лукашэнкі, але Беларусь, як тое ня дзіўна, трымаецца на ім.”*** (Спасылка: http://gazetaby.com/index.php?sn_nid=7467&sn_cat=35 ).

Зрэшты, працытуем болей: ***„Ня ўсё проста і з Лукашэнкам. У любові да яго мяне аніяк нельга абвінаваціць. Але ён здолеў прадоўжыць сацыялізм – заключыў з насельніцтвам сацыяльны кантракт. І цяпер у параўнаньні з Расеяй у нас сапраўды абаронены студэнт, абаронены бедны чалавек, стары чалавек.”*** (Спасылка: http://www.svaboda.org/content/Article/1120432.html). (Тут адкрыты лукашызм і апалагетыка калгаснага рэжыму, ня кажучы, што гэта грубая нацяжка.)

„Лукашэнка ёсьць і будзе такім, якім хоча ***народ. У яго чуцьцё неверагоднае, і ў гэтым ён нашмат наперадзе нас. Ніхто ня будзе падазраваць мяне ў любові да цяперашняй улады, але я магу сказаць, што менавіта гэтая асоба захавала незалежнасьць Беларусі, дала эканамічную стабільнасьць...”*** (Спасылка: http://www.svaboda.org/PrintView.aspx?Id=789011 )

Які ўзорны панегірык!. Усё, як у савецкай дзіцячай песеньцы: „Я Ленина не видел, но я его люблю“.

І далей ужо і пра „славянаў”: ***„Магчыма, ён*** (Лукашэнка) ***выправіў памылку, калі ўся постсавецкая прастора кінулася ў гэты амэрыканскі варыянт капіталізму, які не падыходзіць ані славянскай мэнтальнасьці, ані славянскай гісторыі.”*** (Тамсама).

***„Лукашэнка здолеў даказаць, што ў сацыялізма застаўся рэсурс, што ён ня быў выпрацаваны, што, дарэчы, гаворыць на карысьць Гарбачова, яго маштабу.”*** (Спасылка: http://www.3dway.org/node/9136 )

„Лукашэнка маштабу Гарбачова” – ну чым ні элегантны камплімэнт! Толькі памылка тут ёсьць – псіхалягічная. Лукашэнка мроіць сябе вышэй за Гарбачова. Але затое працяг славаблудзтва вельмі вымоўны: ***„Лукашэнка ўскосна даказаў, што калі б у нас былі больш разумныя кіраўнікі, то разьвіцьцё магло б пайсьці іншым шляхам, шляхам народнай дзяржавы, народнага капіталізму, а не намэнклятурнага і не прыхаванага, як у нас зараз.”*** (Тамсама).

Даўно вядома, што „президенту мешают” і што кіраўнікі ў нас неразумныя. Вось тое і яно. Алексіевіч жа тут проста „вумніца” і разумніца. Усё „сячэ”! (Дарэчы, і называе тут яна Лукашэнку ласкава: „наш лідар”.) Між іншым камуністы таксама лічаць, што сацыялізм – харошы, толькі ў СССР яго „сказілі”. Але калі ганарыцца саўковымі комплексамі, то што тут скажаш.

Як напісала Аляксандра Дрынеўская, ***„Лукашэнка і Алексіевіч – гэта Адам і Ева”. „Народны давер да Сьвятланы Алексіевіч набліжаецца да абсалютнага”.*** (Спасылка: http://arche.bymedia.net/3-1999/andry399.html ).

І Дрынеўская, відаць, верыць, што так, як яна піша, так яно і ёсьць.

Бадай, найбольш антыпраўнае, антыканстытуцыйнае парушэньне за апошнія дзевяць гадоў новага стагоддзя Лукашэнка зрабіў у 2004 годзе, калі правёў незаконны рэфэрэндум аб бесканцовым тэрміне прэзыдэнцтва і сфальсіфікаваў галасаваньне. І незаконнасьць, і фальсіфікацыя былі відавочныя. Народны Фронт, дэмакраты і міжнародная супольнасьць не прызналі гэты рэфэрэндум з прычыны яго антызаконнасьці, антыдэмакратычнасьці яго арганізацыі і галасаваньня.

Што кажа з гэтай нагоды Алексіевіч? А вось што: ***„Я павінна прызнаць, што гэта – перамога Лукашэнкі, як бы мы сябе ні суцяшалі.”*** (Ізноў жа, хто гэта „мы”?)

І далей: ***„Мы ня ведалі ўласны народ... А ён аказаўся вось такі, і ён слухае гэтага чалавека, ён выбірае гэтага чалавека”.*** (Спасылка: http://www.svaboda.org/PrintView.aspx?Id=789011 )

Магчыма, ніхто на гэтыя словы не зьвярнуў увагі і не заўважыў. Алексіевіч не палітык, і ці мала там хто тады што гаварыў. Але, тым ня менш, пазыцыя тут выяўленая дакладна, нягледзячы на ўвесь слоўны „дэмакратычны антураж”. Пазыцыя (ізноў жа) тыпова саўковая. Больш таго – яна лукашысцкая (народ, маўляў, „слухае” і „выбірае” Лукашэнку). Хаця вядома, што гэта былі за „выбары” і што за „галасаваньне”, і як пакарысталіся народам.

Істотна выдзеліць, што тут у паводзінах Алексіевіч ідзе ад натуральнага савецкага чалавека, а што ад „лукавага” (гэта значыць – ад „хітрага”). Ад „лукавага” тое, што, маўляў, „я” як бы і ў апазыцыі да рэжыму і крытычна стаўлюся да Лукашэнкі, але каб ні ён... і г. д. Значыцца, адначасна я ўзурпатара і хвалю, бо трэба, маўляў, аб’ектыўна падыходзіць да справы (некалі так Лукашэнка „аб’ектыўна” пахваліў Гітлера).

Такая нескладаная камбінацыя дазваляе вяшчаць за дэмакратыю і здавацца ўсім (асабліва на Захадзе) „передовой женщиной” і нават апазыцыянеркай. Адначасна „мудрасьць” „аб’ектыўнай пазыцыі” дазваляе хваліць Лукашэнку, абзываць, бэсьціць нацыянальна-дэмакратычны рух і негалосна зарабляць авансы на цярплівасьць рэжыму.

У народзе такога кшталту паводзіны называюць, праўда, па-свойму, але з-за цэнзурных меркаваньняў я тут гэтае слова напісаць не магу. Аднак справа ня ў гэтым. Пазыцыя пахвалы ўзурпатару, выказаная праз агаворкі, павінна, па законах лукашызму, ўраўнаважвацца пазыцыяй нянавісьці да ворагаў „правіцеля”. Інакш гэта ня тое (не сапраўдная пазыцыя).

Для Алексіевіч тут няма ні праблемаў, ні цяжкасьцяў, антынацыянальная рыторыка льецца вольна і нязмушана, пераходзячы ў беларусафобскія нападкі, у залежнасьці ад настрою. ***„Яны*** (гэта значыць нацыяналісты, апазыцыянеры***) не ўяўляюць рэальны народ, ён рускай сьвядомасьці, – вяшчае аўтарка. – Адзіны рэальны палітык у беларускай прасторы – гэта Лукашэнка.”*** *(Радыё „Свабода”, 24 жніўня 2005 г.)*

Адкідваюцца, перш за ўсё, нацыянальныя каштоўнасьці: ***„Няма розьніцы, якая мова, якая культура, галоўнае – дэмакратыя. Пакуль мы (?) ня пусьцім дэмакратыю наперадзе мовы, мы (?) зноў загінем”.*** *(Тамсама).* (І хто гэта „мы”?) Але гэтага выказваньня яшчэ мала. Лягічна павінны зьявіцца нападкі на антыподаў дыктатара, на палітычных ворагаў антыбеларускага рэжыму. І яны зьявіліся, як па раскладу, і вельмі экстравагантныя. ***„Я помню, как Пазьняк призывал белорусов уходить в леса, партизанить и пускать под откос поезда в знак протеста по поводу объединения с Россией.”*** (Спасылка: http://belgazeta.by/20070910.36/480304471/ ). Прытым, хлусячы і вымаўляючы несусьветную лухту, яна яшчэ яе і „памятае”.

Альбо апошняя („клясычная”) выдумка для „Нямецкай хвалі” пра нямецкіх „паліцаяў” ***„Я помню свой тогдашний разговор с***

***Зеноном Позняком,*** – ізноў „памятае" Алексіевіч***, – услышанное повергло меня в ужас. Он говорил о том, что надо создать общество памяти полицаев, кто защищал, якобы, Беларусь."*** (Спасылка: http://charter97.org/ru/news/2009/6/29/19587/

Зьдзіўляе, чаму яна (ня будучы знаёмай са мной) так бессаромна ілжэ пра сваю нібыта „памяць". Зрэшты, можна не зьдзіўляцца. Такія паводзіны вынікаюць з патрабаваньняў парадыгмы лукашызму. Непрыняцьце апанентаў (ворагаў прэзыдэнта) мусіць быць зафіксавана. Інакш нельга засьведчыць лаяльнасьць узурпатару. І праяўляецца яно (гэтае непрыняцьце) праз такую вось агрэсію. (У „паліцаяў" пастаянна бавілася камуністычная прапаганда. Цяпер такія „гульні" – гэта тэст на маральны ўзровень тых, хто імі займаецца.)

Мушу сказаць, што я ня першы, хто зьвярнуў увагу на прычынную і нацыянальна нігілістычную абумоўленасьць выказваньняў Алексіевіч пра беларускі дэмакратычны рух. У 2005 годзе, пасьля яе палітычна непісьменных і непаважлівых словаў пра беларускую мову і дэмакратыю, выказаных у час грамадзкай дыскусіі аб перадачах „Нямецкай хвалі", з ацэнкамі такіх яе паводзінаў выступіла Алеся Сёмуха (адвакат, сябра Рады БНР; у 1989-90 гг. Сябра Сойму БНФ). У сваім артыкуле „Проста дэмакратыі – няма", надрукаваным у верасьнёўскім (512) нумары „Беларуса", яна дакладна ахарактарызавала гэты прыклад савецкага нігілізму і правяла, мякка кажучы, „лікбез" па нацыянальна-дэмакратычнай палітыцы. Алеся заўважыла, што ***„Алексіевіч, фактычна, прыняла на сябе цяжар аргумэнтаў самога Лукашэнкі... Першы – спачатку пабудуем палітычны лад па маім сцэнары, а тады й астатнім ідэям знойдзецца куток. Другі – у паразах вінаватыя нацыяналісты."***

***„Было б цікава пабачыць хоць адзін прыклад пасьпяховай пабудовы дэмакратыі без нацыянальнай сьвядомасьці, –*** піша Алеся. ***– Што да аргумэнтаў кшталту „няма розьніцы, якая мова, якая культура, галоўнае – дэмакратыя", дык гэта і ёсьць Вялікая Утопія. Проста дэмакратыі – няма. Нават у найстарэйшай заходняй дэмакратыі, ЗША, спачатку была Дэклярацыя пра незалежнасьць і змаганьне з Торыс, прыхільнікамі каляніяльнай улады, потым Канстытуцыя, а ўжо пазьней даткам да Канстытуцыі – дэмакратычныя правы і свабоды. ...Нацыянальна-дзяржаўная сьвядомасьць усіх дэмакратычных дзяржаў нашмат старэйшая за дэмакратыю і ўжо ніяк ня ёсьць яе складнікам. Так што або працягвайма марыць пра проста дэмакратыю, або будзем запрагацца ў доўгі і нялёгкі працэс нацыятворчасьці, калі сапраўды хочам ад людзей дэмакратычнага выбару. ...Расейска-культурная дзяржаўная беларуская сьвядомасьць – гэта тая хімера, якую будуе Лукашэнка, толькі яго мэты ясныя – далучыцца да Расеі на прывабных для яго пэрсанальна ўмовах, а вось мэты некаторых расейскіх дэмакратаў у Беларусі або цьмяныя, або завуаляваныя. Бо з такой сьвядомасьцю (нават калі ўявіць, што яна магчымая) ў асобнай дзяржаве Беларусь няма патрэбы. І нават калі такая дзяржава нейкі час праіснуе, дамінуючая расейская сьвядомасьць немінуча пачне перасьледаваць нацыянальную беларускую сьвядомасьць, зьнішчаць яе і цягнуцца да культурнай і палітычнай мэтраполіі.***

***„Менавіта за агрэсіўнасьць, –*** адзначае Алеся, ***– я лічу непавагу спн. Алексіевіч да пераканаўняў і адчуваньня нацыянальнае тоеснасьці людзей, што складаюць нацыянальную апазыцыю і не абавязкова апазыцыю. Абвінавачваць іх у неразуменьні ейных „вышэйшых" мэтаў ды вымагаць падпарадкаваньня ім і ёсьць агрэсія."***

Ёсьць яшчэ адзін характэрны момант (і бадай ці ня самы істотны), які закранула Алеся Сёмуха, але не патлумачыла яго эўфемістычную форму – гэта палітычна пераносны тэрмін „рамантызм" у побытавым разуменьні С. Алексіевіч.

Палітычны „рамантызм" у яе ўяўленьні – гэта эўфемізм Беларускай Нацыянальнай ідэі і дзеяньняў, накіраваных на пашырэньне беларускай нацыянальнай сьведамасьці. Тут (як і паўсюдна) у яе шмат блытаніны, але сэнс, што пад гэтым разумеецца, добра праглядаецца ў кантэксьце ўсяго таго, што яна ў апошні час нагаварыла. Таму і выскокваюць яе заявы кшталту ***"рамантызм сёньня злачынны"*** ці ***„пара скончаць з нацыянальным рамантызмам"*** і г. д.

Моц Беларускага руху ў тым, што ён быў заўсёды рухам ідэёвым. Ідэя – першасная сіла. Яна асьвячае, узьдымае, арганізуе і вядзе. Той, хто валодае Нацыянальнай ідэяй, той валодае будучыняй. Гэта аксіёмы.

Непрыяцелі беларушчыны заўсёды стараліся цэліць найперш у ідэю. Пасьля гістарычнай перамогі БНФ у 1991 годзе і здабыцьці незалежнасьці Беларусі прайшло шмат часу, адбылася рэстаўрацыя (дакладней – рэвалярызацыя) савецкай сацыяльнай сістэмы, усталяваўся антыбеларускі аўтарытарны рэжым, змагароў за незалежнасьць трактуюць як ворагаў Беларусі (разумей – рэжымнай улады). І тут, у гэты час, у адпаведных колах, у друку пачалі зьяўляцца выказваньні, што, маўляў, дыктатура сталася таму, што недапрацавалі франтаўцы, бо былі рамантыкамі, а рамантызм у палітыцы шкодны і г. д.

Вось нескладаная мэтодыка для збэшчаньня ідэйнай зброі змаганьня (зброі, якая забясьпечыла перамогу). Адначасна, увёўшы новы ярлычок („рамантызм") і не называючы сутнасьць, можна фабрыкаваць абвінавачваньні. Гэтым мэтадам карыстаюцца непрыяцелі Беларусі і людзі, якія не разумеюць, што гавораць і ня ведаюць, чаго хочуць. Адгалоскі такога падыходу, зразумела, відаць і ў Алексіевіч, якая нават аб'явіла „рамантызм" „злачынствам" (што, праўда, само па сабе гучыць сьмешна).

Непрыяцелі Беларускага нацыянальнага Адраджэньня, якія разважаюць пра „дэмакратыю", рана ці позна становяцца ў адну запрэжку з антыбеларускім рэжымам. Бо рэжым – іхны натуральны саюзьнік. Мы бачым, як ідэалёгія антыбеларускага рэжыму (а раней савецкага), ігнараваньне беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў і рэжымная рэчаіснасьць выбудавалі думаньне Алексіевіч, калі не ў сістэму, то ў акрэсьленую пазыцыю звыклага лукашызму, да якога яна ставіцца быццам бы ў „апазыцыі", але на справе апраўдывае яго існаваньне.

Яна, і падобныя да яе, стыхійна знаходзяцца ў сфэры думаньня і падыходаў каляніяльнай плятформы „статус-кво" і „непрадрашэнства" (хаця можа і ня ведаюць, што гэта такое). Яны не разумеюць сістэмы палітыкі ўнутранай акупацыі, але тым ня менш ніколі не памыляюцца сабе на шкоду і нічога ня робяць на карысьць нацыянальным змаганням, для разьвіцьця нацыянальнай палітыкі.

Гэта ёсьць сацыяльнае залюстроўе, цені рэжыму, працяг яго люстранога існаваньня, вынік якога – адзін і той жа: пагібель беларушчыны, нішчэньне беларускай культуры.

Адносіны да Беларускага нацыянальнага Адраджэньня, да барацьбы за вольную беларускую Беларусь, за яе мову і будучыню, ёсьць адзіным компасам у цяперашнім становішчы. Гэта „магнітная стрэлка", якая пазначае, фармуе і парадкуе шлях. Альбо-альбо. Альбо з антыбеларускім рэжымам, альбо з Нацыянальнай ідэяй і будучыняй Беларусі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*4 ліпеня 2009 г., Нью-Ёрк*

*Надрукавана: („Беларус", – 2009, верасень, № 560)*

# ЧАМУ Ў 1994 ГОДЗЕ НА ПРЭЗЫДЭНЦКІХ ВЫБАРАХ ПЕРАМОГ ЛУКАШЭНКА?

Запыты такога роду заўсёды выглядаюць трохі дзіўнымі сваёй праставатай наіўнасьцю. Скажам: „Чаму ў культурнай Нямеччыне да ўлады прыйшоў Гітлер?" Ці: „Чаму расейскія камуністы праводзілі генацыд народаў за савецкай уладай?" Але, тым ня менш, гэта ёсьць самае ўнівэрсальнае пытаньне, каб адказаць па сутнасьці. Спынюся толькі на асноўных тэзісах.

**1.** Перамагчы павінен быў Народны Фронт. Дзеля гэтага была падрыхтаваная палітычная база. У канцы 1992 года, пасьля антызаконнай забароны рэфэрэндуму аб новых парляманцкіх выбарах, Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце паставіла задачу дамагчыся адстаўкі ўраду Кебіча. Увесь цяжар працы дэпутацкай Апазыцыі БНФ быў перанесены на электарат. Былі наладжаныя пастаянныя паездкі дэпутатаў БНФ па Беларусі, адбыліся сотні спатканьняў з выбаршчыкамі пры перапоўненых залях. Газэта „Свабода" , рэдактарам якой быў сябра Апазыцыі БНФ і Сойму БНФ дэпутат Вярхоўнага Савета Ігар Гермянчук, выходзіла тады 100-тысячным накладам і адлюстроўвала апазыцыйную працу. Гэта было вельмі істотным. Да пачатку 1994 года ў выніку фронтаўскай растлумачальнай працы В. Кебіч ужо ня меў электаральных шансаў на выбарах.

**2.** Праца, праведзеная Фронтам, і антыкебічаўскі настрой электарату былі ўмела выкарыстаная КГБ, Масквой і іншымі сіламі, якія выставілі свайго кандыдата-тэрмінатара (Лукашэнку) і вымасьцілі яму дарогу да ўлады, выкарыстаўшы вялікія прапагандысцкія, агентурныя і фінансавыя рэсурсы.

**3.** Увесь цяжар афіцыйнай прапаганды і дзеяньняў (Кебіча) былі сьціраваныя супраць БНФ.

**4.** Грамадства было падатнае на самы прымітыўны тэрмінатарскі папулізм, паколькі заставалася савецкім ва ўмовах крызісу. Самае істотнае, што людзі гэтага грамадства ня мелі прыватнай уласнасьці, а значыць – ня мелі жыцьцёвай патрэбнасьці свабоды і неабходнасьці яе абараняць. Чалавек без уласнасьці не пачуваецца гаспадаром на нацыянальнай тэрыторыі і слаба зьвязвае (альбо і не зьвязвае) сваё становішча зь лёсам нацыі і дзяржавы.

**5.** Перамога БНФ у гэтай сытуацыі забясьпечвалася б у другім туры галасаваньня, паколькі вялікая колькасьць людзей галасавала за Лукашэнку, каб быць супраць Кебіча. Тым часам Лукашэнка ня меў ня толькі станоўчай праграмы, але і ўвогуле – ніякай праграмы, акрамя крайне папулісцкай крытыкі ў такт крызісным і рэтраспэктыўнам савецкім настроям. Стварэньне ў другім туры супрацьстаяньня Пазьняк-Лукашэнка істотна зьмяніла б становішча. Тэрмінатарская крытыка тут ужо была б незапатрабаваная, бо аб'екта электаральнага раздражненьня (Кебіча) ужо б не было ў выбарах. Дзейнічаў бы іншы выбар і іншы падзел электарату ў карысьць БНФ, які меў распрацаваныя моцныя праграмы дэмакратычнага і эканамічнага разьвіцьця Беларусі і гатовы ўрад, паказаны па тэлебачаньні (казалі, што група Лукашэнкі, убачыўшы гэта і пачуўшы, перажыла шок).

**6.** У другі тур галасаваньня, па падліках фронтаўскіх назіральнакаў (якія кантралявалі, практычна, усе выбарчыя ўчасткі), рэальна выйшлі Пазьняк і Лукашэнка. Але збоку ўлады былі задзейнічаныя адпаведныя рычагі „адміністрацыйнага рэсурсу," ўплыву і падробкі. У выніку ў другі тур галасаваньня вывелі Кебіча, які ў рэальнасьці займаў чацьвертае месца. Гэтым было ўсё вырашана. Бо Кебіч ня меў шансаў супраць тэрмінатара – уся пратэстная энэргія выбаршчыкаў узбудзілася б супраць Кебіча (што ў выніку і атрымалася).

**7.** Апошняя магчымасьць выправіць становішча і не дапусьціць антыбеларускія сілы і папулізм да ўлады была тады, калі Кебічу пасьля першага туру праз Сяргея Навумчыка было прапанавана зьняць сваю кандыдатуру. Па закону пасьля гэтага павінны былі адбыцца новыя выбары з новымі кандыдатамі. Кебіч не рашыўся на такі крок, бо яго акружэньне (якое ў сапраўднасьці таксама працавала на праект „Лукашэнка") пераканала яго, што ён пераможа.

**Высновы.** Такім чынам, нягледзячы на вельмі грунтоўна прапрацаваную апэрацыю ў КГБ і ў Лубянцы з выкарыстаньнем магутных прапагандысцкіх і агентурных рэсурсаў з шырокім і ўмелым захопам (на пратэстнай хвалі) часткі фронтаўскага электарату, у рэальнасьці не існавала, аднак, ніякай пэўнасьці ў перамозе Лукашэнкі на выбарах.

Галоўнай небясьпекай для рэжыму Кебіч і ўся намэнклатура лічылі Народны Фронт і яго кандыдата ў прэзыдэнты, і таму перад другім турам яны, фактычна, расчысьцілі дарогу Лукашэнку.

У сваіх нядаўніх успамінах Кебіч шчыра ў гэтым прызнаўся, кажучы, што агульнай перамогай яго і Лукашэнкі на выбарах стала тое, што яны разам выступілі як саюзьнікі і не дапусцілі да ўлады Пазьняка. „Чей вклад в общую победу над кандидатами от БНФ, мой или Александра Лукашенко, оказался весомее, пусть рассудит время" ставіць усе кропкі над „і" Вячаслаў Кебіч. Як кажуць лепей і ня скажаш.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*8 ліпеня 2009 г.,*
*Нью-Ёрк*
*Надрукавана:*
*(„Беларус", – 2009, жнівень, № 559).*
*Адчынена: (http://naviny.by/rubrics/opinion/2009/07/10/ic_articles_410_163538/ )*



(Фота А. Пачобута)

***130. Камуністы ў Горадні, травень 2009 г.***

# „ЛУКАШЭНКА НЕ ПАВІНЕН УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У ВЫБАРАХ”

***(Выступ на ліпеньскім Сойме Беларускага Народанага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

...Усё паказвае, на тое, што восеньню будзе пагаршэньне сацыялнай і эканамічнай сытуацыі. Дзеяньні рэжыму нескладаныя і добра відаць – гэта набраць крэдытаў і душыць магчымыя пратэсты сілай. Але найбольш небясьпечная справа, на якую яны здольныя – гэта здача за бясцэн нацыянальнай маёмасьці чужому капіталу.

Я мяркую, што мы не павінны спадзявацца на нейкія масавыя шырокія і радыкальныя падзеі. Масаваму і радыкальнаму пратэсту перашкаджаюць два асноўныя чыньнікі: нясьпеласьць нацыянальнай сьвядомасьці і адсутнасьць прыватнай уласнасьці ў людзей. Тым ня менш сацыяльны шок здольны выклікаць выхад пратэстнаму напружаньню. Але яно можа скончыцца нічым, калі ня будзе адпаведным чынам арганізаванае і ідэйна абумоўленае.

Нацыянальнае асьветніцтва і стварэньне „групаў народнага даверу” – галоўныя задачы нашае дзейнасьці на гэтым этапе. Трэба максымальна выкарыстаць час, каб давесьці да вялікай колькасьці людзей пляны дзеяньняў і дамагчыся, каб пачаўся рэальны працэс самаарганізацыі грамадзтва (гэта зн. стварэньне групаў народнага даверу).

Другое пытаньне важнае для нас і для ўсёй нашай нацыянальнай супольнасьці – гэта вызначэньне пазыцыі і адносінаў да прэзыдэнцкіх выбараў 2011 года. Мне і сябрам нашай народнай партыі ўжо ня раз прыходзілася выказвацца па гэтым пытаньні. Сутнасьць нашага падыходу ў тым, што выбары павінны перш за ўсё адпавядаць Канстытуцыі і закону. Лукашэнка – ўзурпатар улады і парушальнік Канстытуцыі. Ён ня мае права і не павінен чацьвёрты раз удзельнічаць у выбарах.

Выбары з удзелам Лукашэнкі, калі б такое адбылося, страцілі б усялякі канстытуцыйны, законны сэнс. Гэта было б нелегальнае мерапрыемства, якое (мы ведаем) выкарыстоўвае, да таго ж, антыдэмакратычныя незаконныя мэтады галасаваньня („адміністрацыйны рэсурс”, фальсіфікацыю, папярэдняе галасаваньне, галасаваньне з аб’язной скрынкай па дамах і г.д.). Людзі, якія згадзіліся б удзельнічаць у такім мерапрыемстве, тым самым падтрымлівалі б яго антыканстытуцыйнасьць і нелегальнасьць, дапамагалі б рэжыму легітымізаваць ягоную выбарчую афёру.

Мы бачым ужо цяпер, што людзей такіх дастаткова, якія гатовыя спрыяць чарговаму падаўжэньню рэжымнага аўтарытарызму. Адны зь іх запісныя правакатары, іншыя глыбока не задумваюцца. Пазьбегнуць правакатараў, як правіла, не ўдаецца. Але, паўтаруся, галоўная задача – Лукашэнка не павінен удзельнічаць у выбарах.

У выпадку калі гэты прынцып будзе парушаны і Лукашэнка ў чарговы раз пойдзе на выбары, тады апраўданы байкот галасаваньня. Трэба ўлічыць, што байкот прэзыдэнцкіх выбараў арганізаваць вельмі цяжка. Тым ня менш, ісьці на незаконныя выбары і тым самым прызнаваць і легалізаваць парушэньне асноўнага закону, цынізм і ашуканства – нельга. У выпадку, калі Лукашэнка ня будзе ўдзельнічаць у выбарах, наша народная партыя выставіць свайго кандыдата.

Прасіў бы абмеркаваць гэтае пытаньне на Сойме і ў структурах Партыі. У нас павінна быць поўнае разуменьне таго, што мы будзем рабіць. Восеньню ў канцы года, нам трэба будзе прыняць адпаведныя пастановы па гэтай тэме.

Мы бачым, што Эўропа пакінула вікаўскага мутанта (так зв. „апазыцыю”) на выжываньне, хоць цалкам і не адмаўляецца ад яго. Цяпер мы ведаем таксама, што ў Маскве мрояцца амбітныя пляны ў хворых галовах шавіністаў – стварыць у Беларусі цалкам сваю прамаскоўскую апазыцыю, па прыкладу вікаўскай. Стала вядома, што там пачалі нават калькуляцыі складаць – просяць паўмільярда даляраў на „русское дело”. Аж спадар Лябедзька з Раманчуком паехалі пацікавіцца. Тут ужо жартуюць: калі Лябедзька стане хваліць Маскву – значыць далі, калі пачне крытыкаваць – не далі! Гэта ўжо адпрацаваныя сцэнары, прагназуемыя паводзіны, якія нічога не вырашаюць. (...)

*12 ліпеня 2009 г.*

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***



***131. Менск-2009. „Куча-2”***

# ЖНІВЕНЬСКІ КАМЭНТАР

***(Выступ на жнівеньскім Сойме БНФ і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі –БНФ)***

За гэты месяц-ліпень, што мінуў, цяжка знайсьці і адзначыць якую-небудзь станоўчую зьяву ў нашым палітычным і грамадзкім жыцьці. Такіх падзеяў няма ўжо даўно. Бальшыня таго, што адбываецца, ідзе на пагаршэньне. Адзначаецца паўсюдны наступ антыбеларускай рэакцыі у войску, эканоміцы, гандлі, грамадзкіх і палітычных арганізацыях. Ставяцца старыя спэктаклі пагарэлага тэатра кшталту „Пастанова 991",* здалася ў палон функцыянерам (нават бяз супраціву) арганізацыя „Бацькаўшчына," прамаўляюцца фразы 30-40-гадовай даўніны, людзей гнояць у турмах, зьняважаюць за мову, у палітыцы лгуць і „абкурываюць" старую Эўропу.

Ёсьць пэўныя зрухі да лепшага ў нацыянальнай сьведамасьці, але найгорш тое, што 15 гадоў аўтарытарнай калгаснай улады не мінаюць бясьследна – адбываецца рэпрадукцыя саўка на ўзроўні новага пакаленьня. Мы бачым тут, у Амэрыцы, масы гэтага кантынгенту зь Беларусі, выраслага ў хамстве, рабстве і паняверцы, людзей фізічнага існаваньня, зрусіфікаваных, без ідэалаў, без культуры і грамадзкіх інтарэсаў. Гэта адзін са складнікаў нашага грамадзкага застою, параліча волі, адсутнасьці ініцыятывы.

Практычна, грамадзкі баланс не зьмяніўся, як і сорак, пяцьдзесят, сто гадоў таму: 10-15 адсоткаў нацыянальна абуджанага насельніцтва і рэшта – пасыўны патэнцыял. Тут „баланс несвабоды" выяўляецца як пастаянная велічыня, якая можа стаць пераменнай якраз пры ўмове дасягненьня гэтай самай свабоды.

Прынцып авангарду ў беларускім змаганьні супраць прыгнёту застаецца ў гэтай сытуацыі нязьменным. Але і тут назіраюцца адхіленьні, характэрныя для пэрыяду застою і сацыяльнага страху. З барацьбы выбавае (дакладней, у барацьбу не ўключаецца) палітычна аптымальнае пакаленьне – людзі ва ўзросьце 35-50 гадоў. Іхняе месца займае моладзевая фронда, што істотна зьніжае зьмест і ўзровень антырэжымнага змаганьня, але тым ня менш яно (моладзевае змаганьне) зьяўляецца якраз выразным палітычным люстэркам антынацыянальнага прыгнёту і сацыяльнага маразму.

Сэнс нашай фронтаўскай праграмы па стварэньні «групаў народнага даверу» вызначаецца яшчэ і ў тым, каб падрыхтаваць грунт да ўваходу ў палітыку «аптымальнага пакаленьня». Гэта адбываецца, як правіла, у пэрыяды інфармацыйных выбухаў і сацыяльнага кіпеньня. Лёгіка падзеяў паказвае, што мы набліжаемся да гэтага часу і мусім падрыхтавацца.

Трэба ўлічыць, што хаатычны стан палітыкі калгаснага рэжыму і хаос у Расеі можа выклікаць непрадказальныя дзеяньні гэтых рэжымаў, дзеля ўяўнага перайманьня ініцыятывы над крызісам. Цяпер шмат ідзе гаворак пра магчымасьць новай расейскай агрэсіі супраць Грузіі, але для нас, беларусаў, рэальнай пагрозай зьяўляюцца манёўры чужога войска на нашай тэрыторыі ў верасьні гэтага года. Такія дзеяньні супярэчаць Канстытуцыі і ў каторы раз сьведчаць пра акупацыйны характар антыбеларускай улады ў Беларусі.

Тым часам ў жніўні набліжаецца вялікая дата – 25 Жніўня – дзень, калі была здабыта рэальная незалежнасьць Беларусі і пачалася барацьба Народнага Фронту за будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы. Незалежная беларуская дзяржава стала фактам нацыянальнай і міжнароднай рэчаіснасьці. Шануйма гэты вялікі гістарычны Дзень.

*7 жніўня 2009 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

---

* Пастанова 991 абавязвала юрыдычныя асобы купляць тавары для гандлю толькі непасрэдна ад вытворцаў, абмінаючы пасярэднікаў. Адменена Урадам 4 жніўня 2009 г. з прычыны сваёй абсурднасьці. – *(З.П.)*

# ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Жнівень – фатальны месяц для расейскай палітыкі. Бальшыня міжнародных і ўнутраных злачынстваў Расеі былі зробленыя ў жніўні. Але для беларусаў жнівень якраз добры месяц, бо тое, што расейцу сьмерць, беларусу – воля.

25 Жніўня 1991 года ажыцьцявілася двухсотгадовая мара цэлых пакаленьняў беларускіх змагароў з расейскім заборам. У гэты гістарычны дзень пад напорам дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце і пры падтрымцы тысячаў людзей на плошчы перад парлямантам была спынена дзейнасьць КПСС у нашай краіне і канстытуцыйна аб'яўлена незалежнасьць Беларусі. Ад часоў падзелу Рэчы Паспалітай і ліквідацыі Вялікага Княства Літоўскага – нашай магутнай дзяржавы – гэты дзень, 25 Жніўня, ёсьць рэальна найвялікшай датай нашай двухсотгадовай гісторыі змаганьня за волю і незалежнасьць. Ад гэтага часу незалежная Беларусь рэальна ёсьць, існуе як незалежная дзяржава, знаная ў сьвеце. Ужо дзеля дасягненьня аднаго гэтага варта было жыць. Засталося зрабіць завяршальны крок вялікай беларускай барацьбы – усталяваць у Беларусі беларускую ўладу.

У гэтым сутнасьць змаганьня з антыбеларускім рэжымам. Вораг залез у наш дом. Барацьба ўнутры. Будучыня, жыцьцё і сьмерць нацыі, існаваньне дзяржавы і незалежнасьці залежыць ад зыходу гэтай барацьбы, ад таго, хто вынесе трупы.

Перад кожным пакаленьнем беларусаў, народжаным у ілжы, стаіць выззаньне – зразумець, што ў змаганьні з імпэрскай Расеяй не было, няма і ня будзе ні кампрамісу, ні паловы, ні міру: альбо яна нас зьнішчыць, альбо выйдзем на вольны шлях і зробімся незьнішчальнымі.

Гэты шлях пачаўся адразу ў 1794, пасьля рэалізацыі змовы Эўропы (немцаў) з Расеяй – гэта значыць пасьля ліквідацыі ***Вялікага Княства Літоўскага*** і забору Беларусі. Гэты шлях праклаў ***Андрэй Тадэвуш Касьцюшка***; па ім ішлі 197 гадоў. Ён вымашчаны мільёнамі ахвяр, палеглых за свабоду і волю, але бязь іх не было б 25 Сакавіка 1918-га, а без Сакавіка не настала б 25 Жніўня 1991-га.

Характэрнасьць беларускага гістарычнага змаганьня супраць злачыннай і магутнай імпэрыі за волю і аднаўленьне дзяржавы

палягае ў тым, што гэта заўсёды была барацьба авангарду. Таму паражэньні яго мелі страшныя вынікі для нацыі, а перамогі (Сакавік-1918, Жнівень-1991) успрымаліся як цуд, у які многія не маглі паверыць.

Думаючы пра гэты час, які побач, часта хочацца выказаць проста пачуцьці, калі б я не разумеў марнасьць іх для новых людзей, што жывуць у другім вымярэньні. Відаць, найбольш дакладна і найпрасьцей сказаў пра нашыя адчуваньні Пётра Садоўскі, падпісаўшы мне кніжку пра свой „шыбалет": „Зянону на сьветлы ўспамін ад аўтара пра Час, калі мы былі гістарычна шчасьлівыя".

Тады, у пачатку 90-х, будучы ў Вярхоўным Савеце, калі гісторыя тварылася ледзь ні кожны дзень, ніхто з нас, франтаўцаў (абсалютна ніхто), ня думаў пра сучаснасьць як пра гісторыю. Усе гарэлі ідэйнай мэтай і змаганьнем за гэтую мэту. Яна паглынала нас да рэшты. Часта трэба было дасягнуць немагчымага выніку неверагоднымі сродкамі. І мы, будучы ў абсалютнай меншыні ў парляманце, дасягалі яго нават „нагамі" і рукамі сваіх апанентаў, не клапоцячыся пра ацэнкі і меркаваньні. Нам ня трэба было ні вядомасьці, ні папулярнасьці (тады палітыка не была яшчэ пошлым тэатрам), нам патрэбна была перамога, канец камунізму, незалежнасьць і самастойная Беларусь. Гэта мы здабылі, і гэта зрабіла нас „гістарычна шчасьлівымі".

Вопыт 90-х усім нам паказаў, наколькі значным робіцца час у пераломны момант гісторыі, як важна яго прадбачыць, адчуць наперад, імгненна скарыстаць. Беларуская камуністычная намэнклятура падтрымлівала ГКЧП, была заангажаваная ў путч. Калі б ён прадоўжыўся яшчэ дзень-два, усе гэтыя малафеевы *і К* актыўна вымкнуліся б на паверхню (гэбоўская Масква чакала іхняга дэмаршу.) Але яны сьведама прамарудзілі, путч скончыўся, і намэнклятура ў Беларусі ўтрымала ўладу. (Тлумачу. Калі б яны агрэсіўна выявіліся, то пасьля путчу, мы б іх вычысьцілі з улады ўсіх без астатку, скарыстаўшы тую ж ельцынскую Маскву.) Тым часам у дні путчу многія нашы намэнклятурныя дэпутаты-камуністы зрабіліся агрэсіўнымі, не хавалі сваёй радасьці і адкрыта казалі, што нас расстраляюць і ўсім нам „кірдык".

Таму пасьля правалу путчу (22.08.1991) вельмі важна было імгненна сабраць сэсію Вярхоўнага Савета, пакуль у камуністычнай большасьці не мінуў шок, разгубленасьць і жах. Тут прышлося вытрымаць баталію і напіраць усімі сіламі, бо многія члены Прэзыдыюма ВС не разумелі, навошта сьпяшацца склікаць Сэсію. Але сэсію ўсё ж прызначылі на 24 жніўня.

22-га жніўня (адразу пасьля паражэньня путчыстаў у Маскве) мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, сабраліся ў Вярхоўным Савеце і працавалі без перадышкі над плянамі, тактыкай дзеяньняў і над заканадаўчымі дакумантамі. Падрыхтавалі 14 заканадаўчых праектаў (гэта, фантастычна, за суткі!).

Мы ўвайшлі ў залю пад Бел-Чырвона-Белым сьцягам. Першым чынам трэба было зьняць з пасады старшыню ВС М. Дземянцея. Я нават не чакаў такога напору ад дэпутатаўфронтаўцаў. Часам у залі стаяў такі рык, што здавалася Дземянцей нават жывым не застанецца. Ён чапляўся за пасаду, як тапелец за травічку, закасваў нават калашыну і паказваў голую лытку, каб усе бачылі, што ён быў ранены ў партызанах. Дземянцея зьнялі.

Быў яшчэ эпізод, калі аднекуль збоку на трыбуну раптам пасунуўся 1-ы сакратар ЦК КПБ Малафееў (ён ня быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.) Тут нашы дэпутаты паўскоквалі зь месцаў і пабеглі на яго. І наперадзе ўсіх Галіна Сямдзянава. Добра, што Малафееў, агаломшаны, не рабіў рэзкіх рухаў, а то (не сумняваюся) напэўна б, разарвалі на часткі. Малафеева прагналі.

Назаўтра была спынена дзейнасьць КПСС і ЛКСМ у Беларусі. Пачаліся дэбаты аб аб'яўленьні незалежнасьці краіны. На плошчы перад парлямантам пэрманэнтна стаяла тысяч 30 людзей і крычалі: „Незалежнасьць! Незалежнасьць!".

(Нагадаю, што Дэклярацыя аб суверэнітэце Беларусі, прынятая 27 ліпеня 1990 года, сама па сабе яшчэ не забясьпечвала незалежнасьці, бо не была канстытуцыйным законам. Усяроўна кіравала Масква. Для дасягненьня незалежнасьці Беларусі патрэбна было надаць Дэклярацыі вагу і значэньне канстытуцыйнага закону.)

На другі дзень сэсіі, і асабліва ў канцы дня, я адчуў, што можам не набраць канстытуцыйную большасьць галасоў. У некаторых камуністаў пачаў малець страх, фармаваліся нейкія стыхійныя пазыцыі, намэнклятура паціху падымала галаву. Усе аргумэнты былі выказаныя, але іх для гэтай масы, што жыла падсьведамасьцю, магло быць замала.

Рашэньне прышло да мяне ў апошнюю секунду. Шушкевіч (якому Вярхоўны Савет даручыў весьці Сэсію) ужо стаў рыхтавацца аб'яўляць галасаваньне і (о, жах!) пачаў падыгрываць разгубленым настроям намэнклятуры. Ён публічна выказаў сумненьне, што пры галасаваньні ўдасца сабраць канстытуцыйную большасьць галасоў, разважаў, што пытаньне будзе цяжка вырашыць. Словам, сеяў недавер у намэнклятурных галовах. (Гэта, дарэчы, быў заўсёдны ягоны згодніцкі стыль паводзінаў у тыя часы.) Тут ўзьнікала рэальная небясьпека (асабліва пры „канстытуцыйным" галасаваньні), бо некаторыя дэпутаты (і такіх было нямала) галасавалі так, як меркаваў і ставіў пытаньне вядучы Сэсіі.

Нават зьдзівіцца такім паводзінам Шушкевіча нам ужо не было часу. Я папрасіў апошняе слова і выступіў з засьцярогамі да ельцынскай палітыкі ў Расеі, кажучы, што адтуль нам усім пагроза, што на Ўсходзе фармуецца агрэсіўная імпэрыя ў форме дэмакратыі, што трэба стаць незалежнымі ад гэтай небясьпечнай для нас дэмакратыі і імпэрскай палітыкі. (Цалкам выступ прыведзены ў кнізе С. Навумчыка „Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі", – Варшава–Прага, 2006 г., с. 62-63.)

Я ведаў, што намэнклятура баялася, каб іх не дастала ў той сытуацыі рука Ельцына і сваім выступам нагадаў ім пра гэта.

Пасьля выступу ўзьнікла яшчэ дыскусія, якая паказала, што словы мае дайшлі ўсё ж у іхнюю намэнклятурную пяту, дзе сядзела камуна-савецкая іхняя душа. Галасаваньне адбылося трыумфальна: за незалежнасьць прагаласавала 253 дэпутаты з 265 зарэгістраваных у залі. Многія так званыя „дэмакратычныя" дэпутаты, не зразумеўшы майго выступу, яшчэ доўга потым касавурыліся на мяне за крыўду іхняму куміру Ельцыну і „рускай дэмакратыі". Мяне гэта не хвалявала, „дэмакратам" розум ня ўставіш, тым больш, што пазьней і Ельцын, і Пуцін паказалі ўсім сваю імпэрскую „кузькіну маць".

Позна вечарам (ужо сцямнела) закончылася Сэсія Вярхоўнага Савета і мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, выйшлі да людзей на плошчу. Усе радасна ўсклікалі, сьпявалі, сьмяяліся, плакалі ад шчасьця і абымаліся між сабой. Гарэлі агні, палілі газэты замест паходняў. Некаторыя, што не пасьпелі выйсьці з КПСС, тут жа спальвалі свае партбілеты, танцавалі, падскоквалі, як дзеці. Бацькаўшчына незалежная!



(Фота Васілька)

***132. Беларускі Сьцяг над Вільняй.***

Распад імпэрыяў ў Эўропе адбываўся як працэс утварэньня незалежных нацыянальных дзяржаваў. Рухавіком працэсу была паўсюдна нацыянальная ідэя, якая разьвівалася па даволі строгай сістэме і ў рэчышчы агульнай заканамернасьці.

Гістарычныя падзеі апошняга часу ў Беларусі засьведчылі першаснасьць нацыянальнай ідэі, перавагу фэномену незалежнай дзяржавы над сістэмай улады. Нават калі ўлада антынацыянальная, яна ня можа фармальна ліквідаваць дзяржаву, бо ўлада без дзяржавы перастае існаваць.

Дзейнасьць антынацыянальнай улады ў Беларусі накіраваная на вынішчэньне нацыі і культуры па старых каляніяльна-рэпрэсіўных і русіфікацыйных схемах. З гэтага гледзішча антыбеларускі рэжым Лукашэнкі ёсьць крайне разбуральны для беларускай нацыі і ў канцовым сэнсе зьяўляецца пастаяннай пагрозай незалежнасьці нашай краіны.

З усталяваньнем беларускай нацыянальна-дэмакратычнай улады кожны гістарычны крок нашай незалежнасьці будзе адзначаны, а ***Дзень Волі 25 Сакавіка***, ***Дзень Дэкларацыі 27 Ліпеня***, ***Дзень Незалежнасьці 25 Жніўня*** стануць дзяржаўнымі сьвятамі. Кожны дэпутат Апазыцыі Народнага Фронта ў Вярхоўным Савеце БССР будзе ўшанаваны памяцьцю, годнай таго часу, калі ўсе мы былі гістарычна шчасьлівымі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*22-25 жніўня 2009 г.*

*Надрукавана: („Беларус”, – 2009, верасень, № 560)*

# „МУСІЦЬ БЫЦЬ БАЙКОТ НЕЗАКОННЫМ ВЫБАРАМ”

…Дэмакратычных і справядлівых выбараў ня будзе. Выбарчае заканадаўства ня зьменяць. А незаконны ўдзел Лукашэнкі ў такіх выбарах зробіць іх увогуле крымінальным мерапрыемствам па чарговым захопу ўлады. У які, для прыкрыцьця, пастараюцца ўцягнуць паболей выбаршчыкаў і прэтэндэнтаў. І нішто ня спыніць узурпатара ат такіх дзеяньняў. Калі паўстане пытаньне аб захаваньні ўлады, і калі спатрэбіцца – ён пакладзе пад ногі і Усходняе партнэрства, і МВФ, і прызнае Асэтыю з Абхазіяй. І Захад знойдзе аргумэнты, каб заплюшчыць вочы.

Адным з важных чыньнікаў што паспрыяў здабыцьцю намі Незалежнасьці Беларусі, было тое, што Захад нас не падтрымліваў. Тут я згодзен зь меркаваньнем Сяргея Навумчыка, што Захад падтрымліваў Прыбалтыку, Польшчу, Гарбачова і Савецкі Саюз. Але не Беларусь. Да 1992 года ніхто з заходнікаў носу ня ткнуў у Беларускі Народны Фронт. І дзякуй Богу, што мы ня бачылі тут гэтых Ганс Вікаў зь іхным апартунізмам, далярамі і прагматычнымі інтарэсамі. Незалежнасьць Бацькаўшчыны мы, беларусы, здабылі самі. І Захад тут ні пры чым. Потым Захад перамяніў пазыцыю і падтрымаў нашую Незалежнасьць, але падкрэсьліваю: калі б мы яе тады не здабылі – ніхто б нас зараз ужо не падтрымліваў.

Так і цяпер. Ліквідаваць антыбеларускі рэжым павінны мы самі, беларусы. Тады гэта будзе наша перамога. Тым часам, Захад стымуляваў у нас стварэньне цэлай папуляцыі палітычных паразітаў, якія гатовыя ўдзельнічаць у любых выбарах і рэфэрэндумах, калі за гэта плацяць грошы. Змагацца неабходна ня толькі з рэжымам, але і зь ягонымі паразітамі, з цэлымі паразітнымі структурамі.

Выбары ў Беларусі – ужо даўно ня выбары. Удзел выбаршчыкаў у галасаваньні – гэта шырма для фальсыфікацыяў. Сама лёгіка падказвае, што трэба пазбавіць рэжым ягонае шырмы. Трэба ня даць яму прыкрывацца народам. Мусіць быць байкот незаконным выбарам. Тут можа ўзьнікнуць розная тактыка. Але пазыцыя адна: непрызнаньне незаконных выбараў, няўдзел у ўзурпацыі ўлады.

Наша пазыцыя выразная і зразумелая, і мы бачым, што ўсё больш людзей нас падтрымлівае і пачынае разумець становішча ў краіне. Якая ж пазыцыя іншых партый? Вось тут і ўсё пытаньне. Пра якое збліжэньне можна казаць, калі дарогі вядуць у розныя канцы? Мы тым часам (і заўсёды) арыентуемся ні на Захад, ні на Маскву, ні на мамону, а толькі на свой народ, на нацыянальную ідэю і на вольную Беларусь. З гэтым – і пераможам!»

*3 верасьня 2009 г.*

***Зянон Пазьняк***
***(Інтэрв'ю Сяргея Навумчыка, радыё Свабода)***

# ЯШЧЭ РАЗ АБ ВЫБАРАХ І АБ ПАЗЫЦЫІ

***(Выступ на верасьнёўскім Сойме Беларускага Народанага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

## ВЫБАРЫ

...Галоўнае нашае дзеяньне цяпер – канцэптуальная падрыхтоўка да палітычнай кампаніі па выбарах прэзыдэнта Беларусі, якая пачнецца ў канцы наступнага году.

Мы разглядалі і абмяркоўвалі гэтае пытаньне ў нашай народнай Партыі і засьведчылі адзінае разуменьне і адзіны падыход. Нагадаю асноўныя тэзісы нашай пазыцыі.

Найперш важнае тое, што Лукашэнка ня мае права ўдзельнічаць у выбарах. Гэтага не дазваляе яму закон і Канстытуцыя Беларусі, і нават цяперашняя канстытуцыя, якую рэжым прэпараваў у 1996 годзе.

Цяперашні статус Лукашэнкі юрыдычна кваліфікуецца як узурпатар прэзыдэнцкай улады. Гэта абумоўлена незаконным рэфэрэндумам 17 кастрычніка 2004 года аб прадаўжэньні прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў і аб магчымасьці неабмежаваных кадэнцыяў; рэфэрэндумам, які супярэчыў канстытуцыі і ня быў прызнаны намі і міжнароднай супольнасьцю.

18 красавіка 2005 года кіраўніцтва нашай Партыі зьвярнулася з афіцыйным лістом да Лукашэнкі з патрабаваньнем падпарадкавацца закону і ня ўдзельнічаць у чарговых выбарах прэзыдэнта Беларусі *(„Беларускія Ведамасьці”, – 2005-2006, №1 (55), с. 3).* Патрабаваньне было праігнаравана. На выбарах 2006 года нам прадэманстравалі чарговы фальсіфікацыйны фарс, у выніку якога Лукашэнка абʼявіў сябе прэзыдэнтам. Мы і міжнародная супольнасьць не прызналі гэтыя выбары за законныя, справядлівыя і дэмакратычныя.

23 лістапада 2006 года на прэсавай канфэрэнцыі для ўкраінскіх журналістаў, якая транслявалася па радыё і тэлебачаньні, А. Лукашэнка заявіў, што прэзыдэнцкія выбары „яны” сфальсіфікавалі („Да, последние выборы мы сфальсифицировали”).

19 студзеня 2007 года Сойм нашай народнай Партыі (КХП – БНФ) падаў заяву ў Вярхоўны Суд аб узбуджэньні крымінальнай справы па факту фальсіфікацыі апошніх прэзыдэнцкіх выбараў у сувязі з паведамленьнем А. Лукашэнкі. Вярхоўны Суд прыслаў нам афіцыйны адказ за подпісам Намесьніка старшыні Вярхоўнага Суда спадарыні Шкурдзюк Ж.Б., дзе паведамлена, што адзначаныя намі парушэньні закона „не ўваходзяць у кампэтэнцыю Вярхоўнага Суда” („Беларускія Ведамасьці”, – 2007, №1 (60), с. 1-3).

Паколькі адказ Вярхоўнага Суда не стасаваўся з законам, (бо нашу заяву Вярхоўны Суд павінен быў накіраваць у органы крымінальнага перасьледу), мы зьвярнуліся ў Генэральную пракуратуру з тым жа патрабаваньнем аб узбуджэньні крымінальнай справы па факту фальсіфікацыі выбараў. Пракуратура адказала мёртвым і ўпартым маўчаньнем.

Сімптаматычна, што 27 жніўня гэтага году ў інтэрвʼю расейскай газэце „Известия» Лукашэнка зноў у той жа цынічнай форме пацьвердзіў фальсіфікацыю прэзыдэнцкіх выбараў 2006 года. Прытым удакладніў, што ён „даў каманду” зьмяніць дадзеныя пра выніку галасаваньня. Чаму ён пастаянна пацьвярджае свой удзел у фальсіфікацыі выбараў, мы разглядаць ня будзем. Гэта асаблівасьць ягонай псіхікі і адметнасьць галавы. Факт у тым (і гэта істотна), што адчуваючы беспакаранасьць, ён прызнае фальсіфікацыю і сваю

ролю ў ёй, а фраза „я даў каманду” абавязвае ворганы пракуратуры правесьці дазнаньне і ўзбудзіць яшчэ справу супраць старшыні ЦВК Л. Ярмошынай. Зразумела якія будуць паводзіны пракуратуры. Але зразумела і тое, што ні Лукашэнка, ні Ярмошына ўжо не адкруцяцца ад суда. Справа часу.

Незаконны ўдзел Лукашэнкі ў чарговых (чацьвертых) выбарах прэзыдэнта мусіць разглядацца як крымінальнае дзеяньне, накіраванае на захоп улады. Удзел іншых асобаў у такіх выбарах разам з Лукашэнкам будзе азначаць згоду гэтых асобаў, фактычнае прызнаньне крыміналу, а таксама садзеяньне гэтаму крыміналу ў ашукваньні грамадзтва, у стварэньні ілюзіі нармальных выбараў.

Дзейнічаючы па-крымінальнаму, незаконнымі мэтадамі, Лукашэнка і яго атачэньне зайшлі вельмі далёка. Дарогі ў тыл ужо няма. Яму ўжо страшна страціць уладу, бо будзе расплата. Каб захаваць гэтую ўладу, ён пойдзе на любое парушэньне, і калі спатрэбіцца, здасьць усё акрамя ўлады.

Беларусам добра б было хутчэй зразумець, што ніякіх дэмакратычных, справядлівых выбараў не было і ня будзе, ніякіх зьменаў выбарчага заканадаўства не прадбачыцца. Наадварот, узмацняюцца рэпрэсіі і кантроль над грамадзтвам.

Практыка папярэдніх выбараў паказала, што фальсіфікацыйная машына адладжана і дзейнічае спраўна, а адміністрацыйны рэсурс працуе безадказна. Абыграць гэтую машыну і перамагчы на выбарах немагчыма, гэтак жа як немагчыма абыграць напарстачніка (які таксама гуляе з камандай). Застаецца адно з двух – альбо даць напарстачніку па шыі і арыштаваць, альбо пайсьці прэч і не гуляць зь ім у напарстак. На жаль, прастакоў абыграць шулера не бракуе.

Ёсьць дастаткова разумных і радыкальных мэтадаў, каб загамаваць і нават перакуліць фальсіфікацыйную машыну (успомнім, напрыклад, нашу ідэю „народнага галасаваньня” у 2006 годзе). Але ўсе спробы разьбіваліся аб палітычную пасіўнасьць выбаршчыкаў і агрэсіўную рэпрэсіўнасьць рэжыму плюс заўсёдная калябарацыя (удзел у выбарах) так званай „вікаўскай апазыцыі”.

Вопыт папярэдніх гадоў засьведчыў, што ніякія альтэрнатыўныя выбарчыя камбінацыі ў сістэме рэжымных выбараў неажыцьцявімыя. Калі нешта пачынала рухацца (напрыклад, „народнае галасаваньне”) – тут жа ўжывалася грубая сіла, а закону ў час выбараў рэжым не трымаецца (зрэшты, як і паміж выбарамі).

У гэтай сістэме татальнага ашуканства і татальнага бясправуя кандыдаты і электарат патрэбныя на выбарчых участках як прыкрыцьцё ашуканства дзеля стварэньня бачнасьці нармальных выбараў, на якіх выбаршчык нічога не вырашае, але мусіць прысутнічаць і галасаваць. Інакш схаваць фальсіфікацыю будзе немагчыма.

Сама лёгіка безвыходнага становішча, калі народ застрашылі і загналі ў кут, падказвае, што трэба пазбавіць фальсіфікацыйную сістэму выбарчага электарату, ня даць магчымасьці палітычным шулерам прыкрывацца народам. Патрэбны байкот фальшывых выбараў – пустыя выбарчыя ўчасткі. Прытым усьвядомлены, актыўны байкот з агітацыйнай і прапагандысцкай кампаніяй і шырокай (наколькі магчыма ў нашым становішчы) інфармацыяй. У ідэале 2/3 выбаршчыкаў не павінны галасаваць. Гэта быў бы накдаўн узурпатару, які яму не ўдалося б схаваць.

## БАЙКОТ

З 2000 года мы прапагандуем канцэпцыю актыўнага байкоту. У мінулым годзе яна дала пэўныя вынікі на выбарах у „палату”. Праўда, байкот стаўся пасыўным, вельмі перашкаджалі штрайкбрэхеры з „вікаўскай апазыцыі”, але людзі ўсё ж пачулі наш голас. На бальшыні тэрыторыі Беларусі галасавала ня больш за 30 адсоткаў выбаршчыкаў. Рэжым, вядома, агучыў пераможныя рэляцыі, але замарочыць галовы людзям ужо не ўдалося. Гэта важны крок у сьведамасьці выбаршчыкаў, якія рэальна ўбачылі, як іх ашукалі. Захад, які быў заранёў настроены прызнаць выбары, ня змог гэтага зрабіць, бо ашуканства было відавочным.

Тактычна мы павінны цяпер выступіць з патрабаваньнем зьмены існуючага выбарчага заканадаўства. Павінна быць скасавана папярэдняе галасаваньне, гарантаваны удзел апазыцыйных рэжыму палітычных партыяў і арганізацыяў ва ўсіх выбарчых камісіях, гарантаваная свабода перадвыбарчай агітацыі на ўсіх узроўнях (сходы, мітынгі, пікеты, распаўсюд друкаванай прадукцыі, выступы ў агульнакраёвым і мясцововым радыё, тэлебачаньні, друку), гарантавана прысутнасьць назіральнікаў за галасаваньнем на выбарчых участках і за падлікам галасоў з правам патрабаваць відочнага ўсім падліку галасоў і пераліку галасоў пры сумніўных сытуацыях.

Як і ў 2005 годзе нам неабходна зьвярнуцца да Лукашэнкі з патрабаваньнем выконваць закон і ня ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі 2011 года ў якасьці кандыдыта.

Тэарэтычна мы павінны прадугледзець (мець на ўвазе) свайго кандыдыта (кандыдатуры ёсьць) на выпадак непрадбачаных падзеяў і агітаваць за байкот у выпадку непрыняцьця нашых законных патрабаваньняў. Такая схема нашых дзеяньняў на бліжэйшы час. Распаўсюджаньне інфармацыі пра сутнасьць і неабходнасьць байкоту трэба пачынаць цяпер.

## МАРГІНАЛІЗМ

Характэрнасьць палітычнага жыцьця пад антыбеларускім рэжымам мае тую асаблівасьць, што на візуальны план у палітыцы выйшлі маргінальныя погляды і арганізацыі. Гэта заканамерна, бо сваю разбуральную ўладу антыбеларускі рэжым (і што істотна – пры садзеяньні лібэральнага Захаду) накіраваў перш за ўсё супраць незалежніцкіх, адраджэнскіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў, найперш супраць Народнага Фронту. Цяпер мы зьменшыліся колькасна і працуем амаль што ў падпольлі, але беларуская нацыянальная палітыка канцэнтруецца тут.

Ва ўмовах, якія склаліся цяпер у Беларусі (перш за ўсё ва ўмовах вынішчэньня баларушчыны), усё палітычнае, што існуе па-за межамі Беларускай нацыянальнай ідэі, зьяўляецца вымарачна маргінальным, нягледзячы на тое, што плавае на паверхні. Найбольш характэрны прыклад – сам рэжым і яго апазыцыя.

Маргіналізм у палітыцы (і асабліва маргіналізм ва ўладзе) – зьява небясьпечная. Але мы не павінны праймацца тым, што на выбарах зноў будуць штрайкбрэхеры, аматары Лукашэнкі, умельцы дзяўбаць ілбом у сьцяну і зграі барацьбітоў за чужыя грошы. Такая ёсьць рэжымная рэчаіснасьць. Мы павінны рабіць сваю справу дзеля перамогі і свабоды Бацькаўшчыны, бачачы і разумеючы, што крок за крокам гэтая праца прыносіць плён.

## РЭПРЭСІІ

З палітычных падзеяў, што адбыліся за апошні месяц, найбольш змрочнай і трывожнай падзеяй №1 зьяўляецца антыканстытуцыйны ўвод расейскага войска на нашу тэрыторыю пры садзеяньні Лукашэнкі. Мы ўжо даўно зьвяртаем увагу грамадзкасьці на гэты ганебны, антызаконны і небясьпечны (я б сказаў злачынны) акт рэжыму і чужой дзяржавы. Наша партыя павінна вельмі ўважліва назіраць за ходам правакацыйных манеўраў расейскай ваеншчыны і рабіць штодзённы аналіз. На-

шыя структуры на месцы павінны адпаведна арганізаваць працу на гэты месяц.

Як мы і паведамлялі яшчэ вясной, з таго часу, як рэжым, вобразна кажучы, пачаў даіць Эўропу, унутранная антыбеларуская рэакцыя ўзмацнілася. Асабліва павялічыліся рэпрэсіі супраць беларускіх настаўнікаў (прыклады з Грузьдзіловіч, Уланавай), супраць інтэлектуальных носьбітаў беларускай мовы і маладзёвага руху. Актывізавалася антыбеларуская дзейнасьць КГБ і агентуры ФСБ, зроблена шэраг арыштаў, правакацыяў, налётаў на кватэры беларускіх дзеячаў (напрыклад, М. Аксаміта), пачасьціліся бесталковыя наскокі на грамадзянскую супольнасьць ды на беларускае нацыянальнае адраджэньне. З гэтай мэтай нават „спалілі” некалькі „сексотаў” (у Злучаных Штатах і ў Беларусі). Характэрная правакацыя – зьяўленьне ў Інтэрнэце так званага „дзёньніка” агента Гаўрыліна – вымучанага твору гэбоўскай канторы). Але нягледзячы на такое распачлівае павелічэньне рэпрэсіўнай актыўнасьці антыбеларускіх уладаў і элемэнтаў, усё гэта пачынае нагадваць зацяжную агонію рэжыму, які ўсё больш і больш павісае ў паветры.

## ІДЭАЛЫ

Мяркую, што трэба накіраваць нашыя стараньні найперш на неабходную і доўгую працу па падрыхтоўцы байкоту прэзыдэнцкіх выбараў Лукашэнкі. Тут ужо ёсьць разуменьне і настрой у грамадзтве. Трэба працаваць далей настойліва і пастаянна.

Нам пажадана асьцерагацца ілюзіяў пра сацыяльныя вынікі эканамічнага крызісу. Будзе павялічвацца незадаволенасьць і напружаньне, але грамадзкага выбуху хутчэй за ўсё не здарыцца. Будуць цярпець.

Харчаваньне і дабрабыт ёсьць патрэбнасьцю людзей, але ня ёсьць ідэалам. Адсутнасьць дабрабыту можа выклікаць бунт, але ніхто не змагаецца (і не змагаўся) толькі за дабрабыт. Нават камуністы. ***Людзі змагаюцца за ідэалы. Пакаленьне, якое гэтага не разумее, жывучы ў няволі, – ніколі не дасягне свабоды, калі ня вылучыць авангард, які ўспрыме ідэю.***

У апошні час пайшла цэлая паласа кампрамэтацыі ідэалаў і зьневажэньня вядомых людзей, гістарычных асобаў, якія змагаліся, гінулі і ахвяраваліся за сьветласьць Беларусі, за волю і незалежнасьць. Нічога не бывае выпадковага ў кантралюемым грамадзтве і антыбеларускім рэжыме. Таму першае, што трэба берагчы і абараняць пастаянна – гэта нашу чалавечую і народную годнасьць і гонар людзей, якія нясуць ідэалы дабра, свабоды і незалежнасьці. Тут наша сіла. Зь ёй мы некалі перамаглі камунізм, зь ёй пераможам цемру цяпер і заўсёды. (...)

*13 верасьня 2009 г.*

***Зянон Пазьняк***

# ПРА ВЫБАРЫ І БАЙКОТ

***(Ліст да сябраў Фронту)***

…На апошніх паседжаньнях Сойму мы абмяркоўвалі пытаньне аб будучых выбарах прэзыдэнта Беларусі, якія павінны адбыцца ў 2011 годзе. Выснова да якой мы прышлі наступная.

***У выбарах, дзе пры падтрымцы рэжыму будзе незаконна балатавацца кандыдат Лукашэнка, удзельнічаць нельга. Гэта будуць ня выбары, а крымінальнае дзеяньне па чарговым захопу ўлады. Людзі ня маюць ніякага ўплыву на вынікі галасаваньня. Немагчыма рэальна пракантраляваць падлік галасоў, дзейнічае адладжаная сістэма фальсіфікацыі галасаваньня цалкам падпарадкаваная адміністрацыі рэжыму. Чалавек бяспраўны перад уладай.***

Захоп улады праз імітацыю выбараў характэрны для дыктатрскіх рэжымаў і забясьпечаны ўдзелам выбаршчыкаў у галасаваньні. Пры камуністычнай уладзе за савецкім часам стварэньне масавага ўдзелу ў галасаваньні было ўзьведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Негаласаваньне разглядалася як варожасьць да савецкага рэжыму (з усімі адсюль высновамі). Масавасьць галасаваньня давала магчымасьць лёгка паведамляць пра 99,99 адсоткаў прагаласаваных за кандыдатаў КПСС.

Перакуліць тую сістэму абдурваньня і прымусу мог толькі няўдзел у галасаваньні, пустыя выбарчыя ўчасткі. Але савецкае грамадзтва, запалоханае рэпрэсіямі, фактычна, знаходзілася ў палоне бальшавіцкай сілы, у лагеры, дзе рэальна ня мела ніякіх правоў, дзе не існавала магчымасьцяў для самаарганізацыі, і насельніцтва было няздольнае нават да такога пасіўнага супраціўленьня як няўдзел у галасаваньні. Бо кожны баяўся, што ягоны няўдзел выкліча рэпрэсіі.

Мы бачым як цяперашні антыбеларускі рэжым імкнецца вярнуць той савецкі страх у грамадзтва.

***Байкот фальшывых выбараў – гэта сродак адкрытай выбарчай барацьбы з рэжымам. Удзел у падманных выбарах ёсьць садзеяньне рэжыму, стварэньне яму ўмоваў для фальсіфікацыі і абʼяўленьня фальшывых вынікаў галасаваньня. Удзел ў такіх выбарах разам з узурпатарам, які ня мае права балатавацца, будзе абазначаць легітымізацыю ўмоваў, прызнаньне яго незаконных дзеяньняў „дэ факта”, дзеяньняў, у якіх пры любых выніках галасы будуць палічаны толькі на карысьць узурпатара.***

Зразумела, што і пасьля байкоту выбараў рэжым падасьць фальшывыя зьвесткі і паведаміць пра „перамогу” свайго кандыдата. Але ён тут ужо не схаваецца за плечы выбаршчыкаў і за тайнае галасаваньне, рэальнасьць стане кожнаму відаць і будзе наглядна пацьверджана. Ашуканства зробіцца відочным і навочна даказуемым. Усё гэта створыць новую сытуацыю ў грамадзтве і новыя дачыненьні, якія будуць спрыяць ліквідацыі антыбеларускага рэжыму.

Трэба разумець, што байкот не абавязкова выкліча імгненныя і кардынальныя перамены, але дакладна, што ён стане крокам да гэтых падзяў. Гэты крок трэба рабіць.

Цяпер пра тактыку нашай народнай партыі Фронту. Тактычна мы павінны зараз выступіць з патрабаваньнем зьмены існуючага выбарчага заканадаўства. Павінна быць скасавана папярэдняе галасаваньне, гарантаваны удзел апазыцыйных рэжыму палітычных партыяў і арганізацыяў ва ўсіх выбарчых камісіях, гарантаваная свабода перадвыбарчай агітацыі на

ўсіх узроўнях (сходы, мітынгі, пікеты, распаўсюд друкаванай прадукцыі, выступы ў агульнакраёвым і мясцововым радыё, тэлебачаньні, друку), гарантавана прысутнасьць назіральнікаў за галасаваньнем на выбарчых участках і за падлікам галасоў з правам патрабаваць відочнага ўсім падліку галасоў і пераліку галасоў пры сумніўных сытуацыях.

Як і ў 2005 годзе нам неабходна зьвярнуцца да Лукашэнкі з патрабаваньнем выконваць закон і ня ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі 2011 года ў якасьці кандыдыта.

Тэарэтычна мы павінны прадугледзець (мець на ўвазе) свайго кандыдыта (кандыдатуры ёсьць) на выпадак непрадбачаных падзеяў і агітаваць за байкот у выпадку непрыняцьця нашых законных патрабаваньняў. Такая схема нашых дзеяньняў на бліжэйшы час. Распаўсюджаньне інфармацыі пра сутнасьць і неабходнасьць байкоту трэба пачынаць цяпер.

У нашай перадвыбарчай народнай палітыцы галоўная арыентацыя на людзей, якія валодаюць выбарчым правам, працоўным сацыяльным статусам і становішчам у грамадзтве, бо менавіта гэтая сьпелая, працоўная і актыўная частка народу вызначае грамадзкі настрой. На іх некалі ў 90-х абапіраўся Народны Фронт.

У час байкоту мы можам (пры неабходнасьці) каардынаваць дзеяньні зь іншымі арганізацыямі і асобамі, якія падтрымліваюць нашыя ўмовы і патрабаваньні.

Некаторыя арганізацыі і асобы, аднак, ужо пасьпяшаліся аб’явіць пра вылучэньне сваіх кандыдатаў на выбары і пра спадзяваньні на падтрымку з майго боку. Такія дзеяньні супярэчаць пазыцыі нашай народнай партыі і падтрымлівацца ня будуць.

Рыхтуймася да байкоту. Не павінна цемра і ашуканства існаваць бясконца. Ня могуць людзі вечна баяцца.

*23 верасьня 2009 г.*

***Зянон Пазьняк***



(Фота з друку)

***133. Сьляпы конь.***

# ФРОНТ, АПАЗЫЦЫЯ, КАЛЯБАРАЦЫЯ

У 90-х гадах Беларускі Народны Фронт пасьпяхова супрацьстаяў „аб’яднаўчым” тэхналёгіям зьнішчэньня беларускага руху. КГБ, як звычайна, рабіў стаўку на агентуру і прапаганду. (У адрозьненьне ад Эўропы, якая спадзяецца на грошы). Дзеяньні канторы тады былі такія ж просталінейныя і прымітыўныя, як і цяпер. Яна настварала карлікавых арганізацыяў, узяла пад кантроль малыя партыі і выпусьціла лёзунг, што трэба „аб’яднаць” дэмакратычны рух. Дзеячы партыяў пачалі прапаноўваць БНФ усіх аб’яднаць, бо разам, маўляў, мы сіла. Аднак гэтыя канторскія казкі са спасылкамі на ўсходнія мудрасьці пра галінкі ды венік ня мелі ніякага эфэкту. Кожны франтавец бачыў і разумеў няхітрую задумку „пакіраваць Фронтам” (а потым яго разваліць). Праўда, адразу выявіліся ў Фронце людзі (прытым адукаваныя), якія чамусьці ўпарта ўвесь час нічога не разумелі і клікалі аб’яднацца з маргіналамі (аж цікава было назіраць). Потым сымптомы сьцішыліся. Але толькі да таго часу пакуль у беларускую палітыку не ўмяшалася эўрабюракратыя (у супрацоўніцтве з КГБ – Ганс Вік) і не прапанавала пад узгодненыя праекты дармовыя грошы. Вось тут і пачаліся перамены, якія збочылі сьвядамасьць, перакруцілі аргумэнтацыю, перамянілі саму істоту некаторых людзей.

Усё пачалося за часы маёй адсутнасьці на Радзіме. Утварылася група дзеячоў ў верхавіне БНФ, якія сталі спадзявацца на заходнія рэсурсы (дзеля Фронту, вядома ж). Яны назваліся „новай хваляй”. Ім адразу захацелася аб’ядноўвацца з усімі і з кім скажуць грошадаўцы. Тут яны былі сьмелымі і не баяліся страціць сябе.

Аднак першае патрабаваньне „спонсараў” было не „аб’яднацца”, а пазбавіцца ад старшыні БНФ (які апынуўся ў эміграцыі), інакш, паведамілі ім: „форсы” ня будзе. Перамагла „форса” (бо не пахне). Адзін блытанік з кіраўніцтва БНФ (мой намесьнік па Фронту) у парыве шчырасьці нават напісаў тады, што нацыянальная ідэя сябе ўжо вычарпала, Фронт выканаў сваю місію і таму трэба яго аб’яднаць з прамаскоўскай партыяй АГП.

У 1999 годзе паплечнікі пайшлі напралом. Непадпарадкаваліся вынікам галасаваньня зьезду, выкарысталі моладзь і, церпячы паразу, рашыліся на раскол, развалілі Народны Фронт.

Потым былі выбары прэзыдэнта ў 2001 годзе. „Новая хваля” зьбірала подпісы, падтрымлівала і агітавала за закаранелага ворага БНФ, члена бюро ЦК КПБ (КПСС), мацёрага намэнкля-

туршчыка Уладзімера Ганчарыка, зь якім Фронт змагаўся яшчэ на выбарах 1990 года (і, дарэчы, перамог). Так ім сказалі рабіць спадары з заходніх амбасадаў і так яны зрабілі. Гэтым самым „новая хваля" засьведчыла, што яна выпала зь беларускай нацыянальнай палітыкі.

Потым усё пайшло па нахіленай плоскасьці: кааліцыі з камуністамі, з прамаскоўскімі арганізацыямі, паездкі ў Маскву да Караганава (цэнтар гэбоўскай аналітыкі і прапаганды) і г.д.

Вяршыняй усяго гэтага апартунізму стаў 2004 год – агітацыя і ўдзел у незаконным рэфэрэндуме аб прадаўжэньні прэзыдэнцкіх тэрмінаў для Лукашэнкі. Такое дзеяньне груба не адпавядае Канстытуцыі, зьяўляецца злачынным актам і можа кваліфікавацца як садзеяньне ў антыканстытуцыйным захопе ўлады шляхам правядзеньня незаконнага рэфэрэндуму і імітацыі дэмакратычнага галасаваньня.

У вольнай Беларусі партыі, якія ўдзельнічалі ў гэтай кампаніі (прытым за замежныя сродкі) павінны будуць стаць перад беларускім судом.

Палітычны фініш „новай хвалі" адбыўся ў 2004 годзе. Далейшы ход падзеяў гэта быў працэс маразму і палітычнай дэградацыі прагматыкаў, што замянілі ідэю на грошы.

У 1999 годзе, калі раскалолі Фронт, я казаў, што адыход „новай хвалі" ад ідэі, спакушэньне чужымі грашыма прывядзе да калябарацыі і апартунізму, што працэс палітычнай энтрапіі паўторыцца. Так яно і адбываецца. Але ўсё яно пасьля 2004 года ўжо ня мае ніякага значэньня. Паўтаруся, гэтая частка Фронту даўно выпала зь беларускай нацыянальнай палітыкі. Нават шкода часу і паперы пра гэтую сумную зьяву пісаць.

Людзі, якія прыплылі потым да „новай хвалі", не маглі быць людзьмі вялікіх і сьветлых ідэалаў, бо ў рэальнасьці іх ужо там не было. Вычысьцілі нават фронтаўскую гісторыю. Цяпер прагматыкі былой „новай хвалі" пажынаюць плады свайго прагматызму. Яны так зьдзіўлены, так абураны прагматызмам новай генэрацыі, гавораць пра „рэйдэрскі захоп" іхняй арганізацыі. І трэба ж так... Некалі я напісаў сабе на памяць трацінy пра прагматызм. Цяпер прыпомнілася:

*Яны сталі поўзаць,*
*Думаючы, што потым*
*Будуць лятаць.*

* * *

У гэтым годзе пасьля старту „Усходняга партнёрства" і гешэфту Эўропы з антыбеларускім рэжымам пачалася перабудова вікаўскай падстаўной апазыцыі. Апазыцыйнае асяроддзе скупляецца рэжымам праз Мілінкевіча (пры спрыяньні і згодзе Эўропы). Здаецца, ініцыятары былой „новай хвалі" нарэшце гэта зразумелі. Пачуўся ціхі лямант. Нават вечны блытанік і раскольнік Фронту Юры Хадыка артыкул супраць Мілінкевіча напісаў.

Усё гэта здавалася б сьмешным, калі б не было такім сумным. Бо ўзьняла Мілінкевіча на паверхню якраз „новая хваля", яе прыхільнікі. Яны выцягнулі Мілінкевіча ў апазыцыйную палітыку і выставілі кандыдатам у прэзыдэнты на выбарах 2006 года (між іншым, крок у крок згодна маскоўскага пляну пуцінскай каманды Паўлоўскага). Можа яны тады ня ведалі што рабілі? Магчыма, бо нават не пацікавіліся біяграфіяй кандыдата (вельмі вымоўнай, дарэчы). Праўда, для людзей, якія раней падтрымалі цэкіста У. Ганчарыка, гэта не абавязкова.

Мілінкевіч паспрыяў развалу нацыянальна-дэмакратычнага руху па новай (заходняй) тэхналёгіі. Гэтая тэхналёгія простая, як кол, і называецца яна – грошы. У другой палове 90-х ён пакідае кар'ерную кіруючую пасаду ва ўладзе і йдзе ў „апазыцыю", ачольвае рэсурсны цэнтар „Ратуша", праз які праходзілі вялікія грашовыя плыні для НДА і інш. Праз „Ратушу" пачалася скупка БНФ. За кароткі час гэтая „Ратуша" разбэсьціла грашыма і паспрыяла развалу магутнай гарадзенскай арганізацыі Народнага Фронта. На Гарадзеншчыне ў нас цяпер амаль нічога не засталося. Пасьля расколу частка структураў прымкнула да „новай хвалі", частка самаліквідавалася.

У 2001 годзе Мілінкевіч узначальваў штаб С. Домаша – гарадзенскага намэнклятуршчыка, якога выставілі на выбары спэцыяльна супраць мяне (зьбіраўся гуляць на маім полі).

У 2006 годзе, будучы кандыдатам на прэзыдэнцкіх выбарах, Мілінкевіч дакладна выканаў плян пуцінскай групы Паўлоўскага па забесьпячэньні легітымснасьці выбараў і перамогі Лукашэнкі. (Сьведама ці ня сьведама тое зроблена – гэта ўжо іншае пытаньне).

19 сакавіка 2006 г. ён акуратна справіўся з непрадбачанай у Маскве сытуацыяй – адвёў з плошчы перад прэзыдэнцкай рэзыдэнцыяй 40 тысячаў людзей у іншае месца, да савецкага „вечнага агню" на Круглую плошчу. Словам, ціха патушыў пратэстны ўздым. Тое ж самае ім было зроблена праз тыдзень – 25 сакавіка. (Потым пра гэта ён сам сказаў у інтэрв'ю тэлебачаньню „Эўраньюс" на францускай мове: маўляў, трэба было спыніць стыхійны пратэст).

* * *

Пасьля расейскай агрэсіі на Грузію ў мінулым годзе Лукашэнка заявіў, што гэтай апазыцыі засталося існаваць шэсьць месяцаў – максімум два гады. Ведаючы псіхіку ўзурпатара, можна было зразумець, што ёсьць плян нейкай ракіроўкі і замены гэтай вікаўскай квазі-апазыцыі на іншую (магчыма па крамлёўскім ўзоры). Так яно цяпер і выглядае. Мне гэта стала зразумела ў пачатку траўня гэтага года ў Празе пасьля размовы з Мілінкевічам.

Мілінкевіч выступае цяпер у якасьці апазыцыйна-дэмакратычнага лябі рэжыма Лукашэнкі перад Эўразьвязам. Эўразьвязу, які пасьля расейскай агрэсіі на Грузію, агаліў сваю прагматычную палітыку адносна Беларусі, вельмі патрэбная была такая фігура, як Мілінкевіч. Трактуючы яго як лідэра дэмапазыцыі, эўрапрагматыкі могуць трансляваць свае інтарэсы адносна рэжыму Лукашэнкі, нібыта зыходзячы з пазыцыяў і меркаваньня „беларускай апазыцыі".

Ну, напрыклад, напісаў нядаўна адзін памочнік з групы Мілінкевіча фразу: „дзеяньні Лукашэнкі па абароне суверэнітэта важнейшыя, чым палітычная лібэралізацыя". Для эўрапрагматыка гэта пас у штрафную пляцоўку. Эўропе, каб утрымаць лукашысцкі рэжым у сфэры сваіх інтарэсаў, трэба нешта вырашыць з санкцыямі аб „неўязных" (тэрмін у лістападзе), трэба неяк заплюшчыць вочы на рэпрэсіі, на парушэньні правоў людзей, на адсутнасьць заяўленай лібэралізацыі. І тут якраз такое меркаваньне (цытата) ад „апазыцыі". Сам жа Эўразьвяз ня можа такое казаць. Але цяпер можна пагадзіцца з ацэнкай „беларускай апазыцыі" і працаваць яе.

Адзначу, што сытуацыя з гэтай цытатай і дэфініцыяй не такая простая і патрабуе тлумачэньня. Калі выключыць зь яе слова „Лукашэнка", то сьцьвярджэньне правільнае – суверэнітэт важнейшы. З „Лукашэнкам" жа ўвесь сэнс валіцца. Бо самай вялікай пагрозай суверэнітэту ёсьць сам Лукашэнка і ягоная антынацыянальная палітыка. Ён стварыў і стварае гэтую па-

грозу. Другое: дзеяньні Лукашэнкі накіраваныя не на абарону суверэнітэту, а на захаваньне сваёй узурпаванай улады любым спосабам (бо пад пагрозай уласная скура). Улада ж не вісіць у паветры, яна грунтуецца на дзяржаве і існуе ў ёй. Таму, ратуючы ўладу, узурпатар абапіраецца на дзяржаўны суверэнітэт. Але ўспомнім, калі ў 90-х Лукашэнка плянаваў скочыць у Крэмль, ён казаў адкрыта з тэлеэкрана: „Суверэніцет – эта ерунда".

Каб забясьпечыць і суверэнітэт, і палітычную лібэралізацыю, трэба скінуць Лукашэнку.

У працытаванай фразе, дарэчы, квінтэсэнцыя, галоўны сэнс „апазыцыйнага" лабіраваньня Лукашэнкі перад Брусэлем ва Ўсходнім партнёрстве. Сутнасьць такая: прымайце Лукашэнку такім як ён ёсьць, без аніякіх умоваў і патрабаваньняў аб лібэралізацыі, інакш ён здасца Расеі і Расея вам пакажа.

Нездарма ўзурпатар двойчы пахваліў Мілінкевіча. Людзі, якія перад гэтым не вылазілі з Масквы, згіналіся перад Маркавамі ды Караганавымі, сьведчылі пра сваю адданасьць Расеі і пра адсутнасьць у беларускай апазыцыі антырасейскіх настрояў (Мілінкевіч) цяпер навучыліся выкарыстоўваць расейскую пагрозу, каб падтрымаць узурпатара ва ўладзе за ягоную нібыта „дзейнасьць" па абароне суверэнітэту.

Галоўнае фінансаваньне лабісцкай апазыцыі ідзе хутчэй за ўсё ад рэжыму Лукашэнкі. Зараз прыцэньваюцца да маладых, гандлююць лейтэнантаў з былой „новай хвалі" і г.д. Адбываецца падрыхтоўка да старой ролі, якую Мілінкевіч зьбіраецца зноў сыграць у прэзыдэнцкай кампаніі.

* * *

У частцы разбурэньня структураў Мілінкевіч даволі пасьпяховы. Гэта зьвязана найперш зь ягонай „грашовай метадалогіяй". Тыя, хто пакепліваюць зь ягонай нібыта „пасрэднасьці" (як яны думаюць), знаходзяцца на памылковай дарозе. Як і тыя, што пацяшаюцца зь неразьвітасьці і бескультур'я Лукашэнкі (а ён ужо 15 гадоў куражыцца над нацыяй і культурай). Словам, вопыт лукашызма – гэта нагода беларусам сур'ёзна задумацца над прыродай улады і над адказнасьцю перад Айчынай за свае рашэньні.

Што датычыць „метадалогіі", то асобы, якія ў дасягненьні палітычнай мэты выкарыстоўваюць рычаг грошай, заканамерна развальваюць існуючае асяроддзе, зь якога лепяць свае дачасныя групы.

Цалкам верагодна, што лабісты рэжыму скупяць добрую частку вікаўскай апазыцыі і прагматыкаў, і фронду, і ўсіх тых, хто (перафразуючы расейскага паэта) „ищет робкими глазами, кто бы им помог упасть".

Трэба дастаткова ўважліва сачыць за паводзінамі лабісцкай групоўкі. Гэта цяпер раэльная пагроза беларускаму руху. Яе ўплыў можа стаць тормазам у змаганьні за свабоду, волю і ідэалы, за культурную будучыню нацыі.

На мой погляд, першае, што трэба зрабіць у дачыненьні да „лабісцкай апазыцыі" – гэта назваць рэчы сваімі імёнамі. У істоце сваёй – гэта ёсьць калябарацыя з рэжымам на аснове прагматызму „рэаль-палітык". Гэта калябарацыя, але не апазыцыя. Трэба так і называць, не прышпіліваць да іх паняцьцяў і словаў, якім яны не адпавядаюць.

Звычайна калябарацыя з адыёзным рэжымам (калі яна не выклікана мэтавым заданьнем) вынікае з палітычнай пазыцыі, якая дрэнна пахне, дрэнна стыкуецца з маральлю, годнасьцю, павагай, і прадыктаваная слабасьцю палітычнай альтэрнатывы. Калябарацыя мае сваю мізэрную нішу для пазытыўных дзеяньняў. Але ў гэтай нішы нікчэмна мала можна чаго дасягнуць і ніколі нельга перамагчы.

Зь мінулага года пачалося бражэньне калябарацыі ў вікаўскай апазыцыі. Многія (асабліва з АГП) кінуліся да Лукашэнкі, наперабой прапаноўваючы свае паслугі дыктатарскай уладзе (з АГП нават на прэм'ера набіваліся: а такія ж былі „змагайцы").

Лукашэнка, вядома, у прэм'еры нікога ня ўзяў. Аказалася, што ўсіх ціхенька абагнаў Мілінкевіч. Такая сытуацыя цяпер пасьля „новай хвалі" ў гэтым асяроддзі.

* * *

Сытуацыя выклікана зьменай арыентацыі Эўразьвязу на супрацоўніцтва з рэжымам Лукашэнкі. Гэтым тлумачыцца чаму прадстаўнікі вікаўскай апазыцыі, залежныя ад Брусэля, пайшлі прасіцца на службу ў варожы рэжым. Дзіўна, але яны не зразумелі нават жыцьцёвых абставінаў, што тых, каго дыктатар адзін раз вытурыў, тых назад не бяруць (гумовасьць іхнай этыкі неверагодная). Тым часам, калі такіх гастралёраў у „апазыцыі", як генэрал Фралоў ці Нісьцюк, ніхто з уладнай каманды не выганяў, то яны туды й вярнуліся, „папрацаваўшы" (ды пафрандаваўшы) крыху.

Мілінкевіч жа чалавек адносна сьвежы ў рэжымным асяроддзі (хоць даўно не чужы), ня раз пасылаў свае прапановы рэжыму (пісаў лісты, звароты, запрашэньні на сьвяты), мае доступ у заходнія кабінэты, словам, падыходзячая фігура для стварэньня новай прыдворнай апазыцыі крамлёўскага кшталту.

Лабісцкая апазыцыя грунтуецца на меркаваньні, што трэба ўцягнуць рэжым у палітычна-эканамічныя дачыненьні з Захадам. Гэта паступова павінна (як яны спадзяюцца) прывесьці да рэдукцыі рэжыму, да лібэралізацыі ў эканоміцы і ўнутранай палітыцы.

Пастаноўка такой задачы ў прынцыпе не пазбаўлена сэнсу, мае фармальнае абгрунтаваньне. Дзьверы на Захад мусяць быць адчыненымі, кантакты на чалавечым і эканамічным узроўні павінны быць (і, магчыма, будуць). Але вось на палітычным узроўні (які тут ёсьць вызначальным) ня будзе прынята нічога, што хоць ускосным чынам здольнае пагражаць уладзе ўзурпатара. Гэта добра відаць ад самага пачатку новай заходняй палітыкі, і лабісты вымушаныя абслугоўваць такую пазыцыю.

Лукашэнка цягне час і груба балансуе паміж Расеяй і Эўразьвязам, чакаючы эканамічнай направы ў сьвеце (канца крызісу). Але гэты расьцягнуты час ёсьць страчаны час Беларусі. Антынацыянальная палітыка рэжыму не спыняецца ні на хвіліну. І чым больш гэты час расцягнецца, тым больш будзе зьнішчэньняў нашай нацыянальнай існасьці і нашай культуры. (Нагадаю, што русіфакацыя і ліквідацыя беларускай нацыянальнай культуры, улучна з мовай, ёсьць, як раней прызнаўся сам узурпатар, – галоўнай ідэалягічнай задачай ягонай улады.)

Акрамя таго, амбівалентныя выкіды сьвядомасьці ўзурпатара і балансаваньне антыбеларускага рэжыму паміж Расеяй і Эўропай – вельмі небясьпечная палітыка (асабліва ў шулерскім выкананьні Лукашэнкі). Яна можа скончыцца чарговым падзелам Беларусі (на гэты раз эканамічным), калі Масква і Эўразьвяз дамовяцца. А гэта цалкам верагодна і тым больш небясьпечна, таму што ў Беларусі няма на гэты час моцнай народнай беларускай апазыцыйнай сілы (няма больш моцнага БНФ).

Празаходні лабізм збанкрутаванага рэжыму без каштоўнасных умоваў аб дэмакратыі і культуры, улічваючы геапалітычную неабходнасьць, можна б было яшчэ зразумець, калі б ім займалася нейкая асобная прыўладная група (няхай

сабе і калябаранцкая, быў жа „дэмакрат” Гайдукевіч). Але тут падмена, тут справа йдзе аб стварэньні шырокай нібыта апазыцыйнай зьявы, ў істоце сваёй ськіваванай у тупік і на пабочную абслугу гэтага рэжыму. Гэта яшчэ горш, чым вікаўская апазыцыя, якая „змагалася” для паказухі.

* * *

Дзеля направы Беларусі, дзеля сьветлай і вольнай будучыні Бацькаўшчыны няма іншай вынiковай дрогі, як апора на самых сябе, на свой народ, на сваю барацьбу, на сваю творчасьць, мову, культуру, гісторыю, працу і сілу. Трэба ўздымаць гэтую сілу, ствараць сваю магутнасьць. Трэба зрушыць рэжым зь мёртвай кропкі, перакуліць гэтую стабільнасьць цемры і ўзьняць наш Сьцяг.

Магчымасьці заўсёды ёсьць. Нельга жыць па сцэнары антынацыянальнага рэжыму. У 2011 годзе неабходна скарыстаць народны сцэнар і байкатаваць фальшывае галасаваньне.

Зразумела, што „лабісцкая апазыцыя” стане той групай, якая найбольш будзе выступаць супраць байкоту фальшывых незаконных выбараў Лукашэнкі. (Паўтаруся яшчэ раз: як бы хто ні галасаваў, галасы палічаць толькі Лукашэнку; ня будзе выбараў ні справядлівых, ні дэмакратычных, ні законных; узурпатару нельга прайграць, ён далёка зайшоў і, каб утрымаць уладу, ён скарыстае ўвесь арсенал). Якая роля будзе спадара Мілінкевіча ў гэтых выбарах, лёгка прадбачыць.

Байкот праводзіць трэба. Прытым актыўны байкот з прапагандай і патрабаваньнямі. Ужо цяпер трэба рыхтавацца, не марнаваць час, не спадзявацца на станоўчыя рашэньні рэжыму і ўзурпатара. Станоўчых рашэньняў ня будзе (калі што ўзьнікне, дык толькі ашуканства).

Байкот незаконных выбараў Лукашэнкі мае тую асаблівасьць, што калі б яго ўдалося правесьці як актыўнае мерапрыемства, то гэта магло б паспрыяць аднаўленьню сапраўднага Беларускага дэмакратычнага руху ў краіне. Трэба рабіць тое, што зрушыць грамадзтва на разьвіцьцё, на адраджэньне Беларусі.

*24 верасьня 2009 г.*

***Зянон Пазьняк***

# АБ ДЗЕЙНАСЬЦІ НА ШКОДУ НАЦЫІ

***(З выступу на кастрычніцкім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”)***

...За апошні месяц, які мінуў пасьля верасьнёўскага Сойму нашай народнай Партыі, на Беларусі не адбылося ніякіх станоўчых падзеяў ні ў палітыцы, ні ў культуры, ні ў эканоміцы. Гэта ўжо стала звыклым: нацыянальны рэгрэс як палітычная зададзенасьць.

Унутраная рэакцыя ў Беларусі адчувальна ўзмацнілася пасьля прыняцьця існуючага рэжыму ва Усходняе партнёрства. Гэта зьвязана з істотным адмаўленьнем Эўразьвязу ад дэмакратычных каштоўнасьцяў у адносінах з антыбеларускім рэжымам Лукашэнкі. Тут жорсткая заканамернасьць: як толькі адбываецца адмаўленьне ад дэмакратычных прынцыпаў і паслабленьне цьвёрдай пазыцыі ў дачыненьні да дыктатуры, дыктатарскія рэжымы тут жа ўзмацняюць рэпрэсіўны ціск на грамадзтва і робяцца яшчэ больш агрэсіўнымі. Дакладна такое назіралася ў 30-х гадах мінулага стагоддзя з Гітлерам. Але справа ў тым, што „чэмбэрлены” не засвойваюць гісторыю там, дзе яна не адпавядае іхнім інтарэсам. Таму гісторыя, як правіла, паўтараецца ўвесь час, толькі ў іншых абставінах.

Эўропа, фактычна, пагадзілася з ультыматумам (інакш не назавеш) антыбеларускага рэжыму прымаць яго такім якім ён ёсьць без усялякіх умоваў і патрабаваньняў аб дэмакратыі.

Улічваюцца толькі інтарэсы. Эўразьвяз, практычна, цалкам адвярнуўся ад беларускай грамадзянскай супольнасьці. Літаральна ў гэтыя дні, напрыклад, нелегітымная палата ратыфікавала рамачнае пагадненьне з Камісіяй Эўрапейскіх супольнасьцяў аб парадку тэхнічнай дапамогі. Усе праекты тэхнічнай дапамогі будуць ажыцьцяўляцца толькі з дазволу рэжымнай улады. Гэта абазначае, што грошы ад Эўразьвязу павінны выдзяляцца толькі антыбеларускаму рэжыму. Ні пра якую грамадзянскую супольнасьць, дэмакратыю ды правы чалавека гаворкі тут больш няма.



***134. Трактар***

У сувязі з гэтым мушу нагадаць тое, пра што кажу ўвесь час: пра фальшывасьць, падвойны стандарт і выгадніцкі інтэрас эўрапейскай палітыкі. Гэтая палітыка ўскладняецца яшчэ тым, што дэмакратычная сістэма ў сьвеце перажывае глыбокі цывілізацыйны крызіс культуры, якую яна спарадзіла. Гэты крызіс прымае штораз больш разбэшчаныя і зьбочаныя формы рэгрэсу.

Некалі мы падтрымалі адмену санкцыяў на ўезд у ЭЗ для парушальнікаў права з чыноўнай намэнклатуры сярэдняга зьвяна (бо Эўропа павінна была зрабіць нейкі крок насустрач). Адмена забароны на ўезд для самога ўзурпатара і некаторых спраўцаў злачынства з вышэйшага ўзроўню ўлады абстаўлена ўмовамі і затрыманая да лістападу гэтага года. Цяпер добра відаць, што тактыка саступак і адмены санкцыяў сябе не апраўдала (хоць і паклала пачатак новай усходняй палітыцы). Зараз мы павінны цьвёрда ставіць пытаньне перад Эўразьвязам аб захаваньні санкцыяў для Лукашэнкі і яго ўладнага асяроддзя.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*11 кастрычніка 2009 г.*

# ЗЬМЕСТ ПРАПАГАНДЫ І СУТНАСЬЦЬ ПАДЗЕЙ

***(Выступ на сьнежаньскім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". (Скарочана)***

Перамены, якія адбываюцца ў расстаноўцы рэжымных сілаў пасьля ўтварэньня „Усходняга партнёрства", паказваюць, што па структурнай арганізацыі, кадравым разьмеркаваньні і дзеяньнях гэтая палітыка робіцца ўсё больш безадноснай, адасобленай ад нацыянальных інтарэсаў Беларусі і ад рэальнага змаганьня з рэжымам увогуле.

Першае, што здарылася ў вікаўскай апазыцыі – гэта замена кадраў падстаўных, кіруемых і лаяльных на непасрэдных функцыянераў КГБ. Перастаноўкі адбыліся амаль ва ўсіх грамадзкіх і палітычных арганізацыях. Канчаткова апанавана „Бацькаўшчына" (цяпер засталося толькі аб'яднаць яе з „Радзімай").

Калі ў грамадзкім сэктары канторская рэарганізацыя суправаджалася інфантыльнай камэдыяй, то ў палітычнай опцы ўсё выглядала панурым фарсам. Асабліва паказальным атрымаўся „прагматычны" канец „новай хвалі", якую ўзначаліў кадравы маладзён – Аляксей Янукевіч.

Ператасаваная верхавіна былой вікаўскай апазыцыі (асноўная яе частка) ўзяла фактычны курс на калябарацыю з рэжымам пад лёзунгам, дакладней, зьместам – „рэжым у Эўропу!", спасылаючыся на небясьпеку (дарэчы, цалкам апраўданую) з боку Расеі. Гэтая ж катэгорыя зьбіраецца падтрымаць чацьвёрты тэрмін Лукашэнкі і заявіла аб сваім удзеле ў ягоных незаконных выбарах.

І ў Эўропе, і ў Беларусі добра відаць, як вакол нашай краіны разыгрываецца чужая гульня. З аднаго боку новая калябарацыя прапагандуе рэжымны шлях у Эўропу. З другога боку ўсё больш адчуваецца маскоўскі ўплыў і ўплыў іхных спэцслужбаў у гэтай палітыцы. Яны ўсё больш і больш падбіраюць пад сябе пратэстнае асяроддзе расколатай вікаўскай „апазыцыі", падбіраюць тое, што па старому выступае за правы чалавека і супраць таго, каб ісьці ў Эўропу з Лукашэнкам.

Сутнасьць маскоўскіх дзеяньняў цяпер такая: ня даць Лукашэнку „загразнуць", зачапіцца ў Эўропе. Тут чыста геапалітычны падыход. І ажыцьцяўляецца ён даволі парадаксальна. Масква дзейнічае на Захадзе як антылукашэнкаўская апазыцыя, арганізоўвае артыкулы, інфармацыю, сэмінары, канфэрэнцыі, эмігрантаў, дысідэнтаў і г.д., каб паўплываць на палітыкаў Эўразьвязу і паказаць, што Лукашэнка нічога не выконвае па партнёрству (а гэта праўда), нагадаць пра зьніклых палітыкаў, пра рэпрэсіі і дзікія выхадкі рэжыму ў Беларусі. Усё гэта накіравана на тое, каб перашкодзіць антыбеларускаму рэжыму атрымліваць крэдыты на Захадзе, урэшце, каб заблякаваць яго ва Усходнім Партнёрстве рукамі Эўразьвязу. Масква ў гэтым зацікаўлена, каб самой аднаасобна трымаць на шворцы антыбеларускі рэжым і паступова забіраць маёмасьць нашай краіны.

Для падмацаваньня такой лубянскай „эўрапалітыкі" і прапаганды арганізуюцца пэўныя „падзеі" на Беларусі. (Дарэчы, хто гэтым займаецца ў Маскве – вядома. Прыйдзе час і лубянскія выканаўцы здадуць самы сябе). Робяцца яны груба і неахайна (зрэшты, як умеюць), але адначасна выяўляецца, які шчыльны ўплыў мае дыпляматычная агентура Крамля ў Эўразьвязе. У пачатку сьнежня, напрыклад, Лубянка пачала „артпадрыхтоўку" (ізноў жа груба і прымітыўна). 5 і 6-га сьнежня ў Менску схапілі па чарзе двух апазыцыйных маладзёнаў, запіхнулі ў машыны, вывезлі далёка за горад і выкінулі ў лесе. Маладзёны вярнуліся ў Менск і пачалі даваць інтэрв'ю. Тут жа пачаўся немалы шум, які адразу даляцеў да Брусэля. Назаўтра, 7 сьнежня, агенцтва БелАПАН зьмясьціла „інфармацыю нумар адзін". Цытуем без перакладу: „Сегодня в Минске прошло расширенное совещание активистов демократических сил, на котором было принято решение начать информационную кампанию, посвящённую похищениям людей в Беларуси". Кола ўдзельнікаў „расширенного совещания" проста вымоўнае, немагчыма стрымаць усьмешку. Лепш за ўсіх выказаўся Д. Бандарэнка з „Хартыі". Ён прапанаваў „сообщить об этих фактах своим европейским партнёрам…***Эти структуры должны знать на что идут их деньги, выделяемые Беларуси",*** – сказаў Бандарэнка. (Вось як, аказваецца.)

Калі тэкст пра „совещание" паглядзеў адзін мой знаёмы, які сістэмна займаецца гэтым пытаньнем, ён засьмяяўся: „Цікава, хто зь іх галоўны ініцыятар „нарады" і каму плаціла Масква?" – была ягоная заўвага. І, відаць, не памыліўся. Назаўтра, 8 сьнежня, загаварыў пра гэта старшыня Эўрапарляманту Ежы Бузэк. Ён папярэдзіў рэжым Лукашэнкі і сказаў між іншым, наступнае: „падобныя выпадкі... ставяць пад пытаньне цяперашні падыход краінаў-сяброў Эўразьвязу да Беларусі".

Ну чым ня „посьпех" лубянскай дыпляматыі? Як кажуць, выйгралі амаль на мякіне, на пары-тройцы маладзёнаў, якіх вывезлі за горад і ўдарылі ў званы.

Да гэтага ж фарсавага лубянскага розыгрышу ўмела падключылі справу студэнткі Тані Шапуцькі. Тут, праўда, разыгралі дасканала, як па нотах. Мілую студэнтку запрасілі ў Брусэль на Форум грамадзянскай супольнасьці праграмы „Усходняга Партнёрства" (дзе зь ёй сфатаграфаваліся Карл Більдт і Бэніта Вальднэр), а па вяртаньні ў Менск студэнтка была груба адлічаная з унівэрсітэту за пропуск заняткаў. Скандал. Самы ж лубянскія праектанты праінфармавалі пра гэта Брусэль. І вось ужо Карл Більдт, міністар замежных справаў Швэцыі, – краіны, якая цяпер старшынюе ў Эўразьвязе, – падняў свой голас у абарону Шапуцькі. Наступны выступіў міністар МЗС Эстоніі Урмас Паэт, які заявіў, што „Эстонія будзе сачыць за лёсам Шапуцькі". Словам, машына закруцілася, Лубянка адпачывае.

Наўрад ці дзяўчына разумее, што адбываецца і чаму. Яе, што называецца, „выбралі", уключылі ў праект. Цяпер плануюць суд, ультыматумы, чарговае бразгатаньне на ўсю Эўропу і мабілізацыю яе палітыкаў супраць хітрага партнёра ва ўсходняй Эўропе.

Таня Шапуцька ня першая ахвяра лубянска-маскоўскай гнюснасьці і змаганьня крымінальна-палітычных групаў. Звычайна ў такіх сытуацыях студэнтаў у вучобе не аднаўляюць. У лепшым выпадку прапануюць унівэрсітэты ў якой-небудзь краіне Эўразьвязу. Выхад, як кажуць, зручны для ўсіх, але толькі не для беларускай нацыі.

З усёй гэтай маскоўскай атакай зьвязана і апошняя падзея зламаньня крыжоў у Курапатах і хуткая апэратыўная інфармацыя пра гэта ад пабочных людзей і дзіўныя заявы дзеячаў ад грамадзтва, і іншае.

Галоўная выснова з усяго што маем – на Беларусі адбываецца інтэнсіфікацыя чужой палітыкі, завязваецца канфлікт чужых інтарэсаў, ідзе маніпуляцыя мясцовым насельніцтвам. Тэарэтычна такое заканамерна, калі не фігуруюць свае інтарэсы, калі сваё вынішчана ці задушана, клі людзі кажуць „какая разніца”, ды „зачэм этат язык”.

Найбольш трагічныя старонкі канфлікту чужых інтарэсаў Беларусь перажыла за часы 1-й і 2-й Сусьветных войнаў, дзе наша краіна не была ні суб’ектам канфлікту, ні суб’ектам дзеяньня, а толькі аб’ектам інтарэсаў іншых дзяржаў. Вынік вядомы: падзел краіны, страта сталіцы, страта тэрыторыяў, страта насельніцтва, страта маёмасьці, страта культуры.

Цяперашнія канфліктуючыя бакі вядомыя: вялікадзяржаўная Масква, Заходняя Эўропа і антыбеларускі рэжым. Усе абапіраюцца на калябарацыю і падстаўную апазыцыю, усе асьцерагаюцца беларускага дэмакратычнага нацыянальна-вызвольнага руху. З гэтага відаць, што наш Беларускі рух, наша Народная партыя (КХП – БНФ) ня можа ўдзельнічаць у канфлікце чужых інтарэсаў на Беларусі. Мы можам толькі часткова яго скарыстаць, бо ў нас свой беларускі народны інтэрас і свая пазыцыя барацьбы з навалаччу і чужароднымі сіламі.

Наша пазыцыя – гэта пазыцыя палітычнага і грамадзкага змаганьня з антыбеларускім рэжымам, зь ягонай уладай і структурамі. Наша задача падрыхтаваць грамадзтва і ліквідаваць антыбеларускі рэжым, і потым – аднавіць праўныя дачыненьні ў грамадзтве, гарантаваць шлях дэмакратычнага, вольнага нацыянальна-культурнага разьвіцьця краіны. Наша задача гарантаваць незалежнасьць Беларусі і эканамічную магутнасьць краіны ад пасягненьняў з Усходу і Захаду.

Мэтад, якім мы карыстаемся, гэта мэтад права і барацьбы абапіраючыся на актыўныя сілы грамадзтва і на ўвесь Беларускі народ.

*13 сьнежня 2009 г.*

***Зянон Пазьняк***



***134а. Сьцяг БНФ***

# 2010

## ЯГОНАЕ ІСНАВАНЬНЕ – НЕБЯСЬПЕКА ДЛЯ НАЦЫІ

*(Выступ на студзеньскім Сойме КХП – БНФ і БНФ „Адраджэньне”)*

Шчыра кажучы, нават здалёку назіраць за тым, што адбываецца ў Беларусі і як паводзіць сябе рэжым, робіцца нязносным выпрабаваньнем. Можа зблізку інакш выглядае гэты маразм. Усю палітыку, эфір, сеціва запаланілі сваркі паміж мафіямі з адпаведным узроўнем гаварэньня, тэмай і лексікай. Даўно зразумела, што гэтаму ня будзе канца, пакуль яны ня зглумяць і не здадуць усё беларускае і пакуль будзе існаваць антыбеларускі рэжым са сваім начальнікам. На нашых вачах мафія гуляе ў мытны саюз з Расеяй, грызецца за нафту, здае беларускія банкі, а грамадзтва вымушанае на гэта толькі глядзець, не маючы магчымасьці ўплываць на тое, што адбываецца.

Усё гэта паказвае наколькі важнай зьяўляецца наша агульная тактычная задача байкоту незаконных выбараў, стварэньня ўмоваў для непрызнаньня рэжыму і падрыхтоўка ўпадку ягонай улады.

Тым часам аналіз і ацэнку ягоных дзеяньняў па мытным саюзе і нафце мы рабіць мусім. Пытаньне з нафтай – брыдкі мафійны гандаль народнымі рэсурсамі, які мы пастаянна бачым і чуем. Больш сур’ёзная справа са здачай беларускіх банкаў. Гэтым падводзіцца грунт пад захоп расейцамі нашай нацыянальнай эканомікі і маёмасьці.

Паўтара гады таму я засяроджваў Вашу ўвагу на тым, што дзейнасьць і далейшае існаваньне Лукашэнкі ва ўладзе становіцца крайне небясьпечным для нашай нацыі і дзяржавы. Увесь гэты час кожны дзень пацьвярджае маю засьцярогу. У вобласьці права даўно існуе палажэньне аб першасным праве на абарону жыцьця. Гэта значыць, што калі нехта некага заганяе ў кут, каб забіць, то чалавек, бароначы сваё жыцьцё, можа зьнішчыць нападніка і не атрымае за гэта ніякай судовай кары.

Наш народ, нашае грамадзтва ўжо даўно загнаныя ў кут цемрай, што захапіла ўладу ў краіне. Адбываецца павольнае (прытым усьвядомленае, мэтанакіраванае) забіваньне нацыі. Але сапраўдная бяда нават ня ў тым, што гэта адбываецца. Драматызм у тым, што нацыя, якая асьлеплена антыбеларускай ідэалёгіяй рэжыму, гэтага вынішчэньня ў значнай частцы сваёй не разумее і нават ня бачыць. Сытуацыя, што склалася, рэальная, а рэакцыя на яе – намінальная, сузіральная і неадэкватная.

Зыходзячы з гэтага становішча, мы накрэсьлілі патрэбныя варыянты дзеяньняў і стратэгіі, каб не ўваліцца ў пабочныя шляхі, не рабіць другарадныя справы ды не скаціцца ў авантуру. Адсюль зразумелая абавязковасьць нацыянальнага асьветніцтва і наш упор на нацыянальную ідэалёгію, культуру і мову. Паралельная абавязковасьць – гэта абарона незалежнасьці і высьвятленьне агрэсіўнай сутнасьці расейскай палітыкі. Трэцяя абавязковасьць – ліквідацыя антынароднага рэжыму. Тут усе справы сацыяльнага, эканамічнага, культурнага кшталту мусяць быць падпарадкаваныя гэтай абавязковасьці. Кульмінацыйнымі момантамі ў гэтай трэцяй і рашаючай лініі змаганьня становяцца выбары любога ўзроўню. На гэтым цяпер засяроджана галоўнае нашае дзеяньне.

Зьвяртаю Вашу ўвагу на тое, як выразна разьмеркавалася цяпер вікаўская маргінальная апазыцыя пасьля зьмены эўрапейскай палітыкі. Частка (зь Мілінкевічам) пайшла на калябарацыю з рэжымам, падтрымаўшы эўрапейскі прагматызм, іншая частка (АГП, Лябедзькі, Раманчукі) зноў скіраваліся на Маскву; трэцяя частка і маладзёвае асяроддзе трапіла ў яшчэ большую (часам у непасрэдную) залежнасьць ад КГБ, ягоных правакацыяў і авантураў.

Зразумела, што ні з кім зь іх у нас няма сэнсу нешта сур’ёзнае рабіць. Але мы павінны імкнуцца адрадзіць і ўзмацніць наш Беларускі Вызвольны Рух і Беларускую Салідарнасьць. Ва ўмовах нацыянальнай несвабоды і вынішчэньня ўсё, што зьвязана з разьвіцьцём Беларускай Нацыянальнай ідэі, з барацьбой за беларускую мову, культуру, свабоду і незалежнасьць Беларусі – усё гэта ёсьць галоўная генэральная лінія разьвіцьця нацыі. Толькі яна гарантуе яе сьветлую будучыню. Усё, што з гэтым не зьвязана, ёсць маргінальнае, пабочнае, коснае і тупіковае.

Генэральную лінію разьвіцьця і будучыню нацыі ў XIX стагоддзі вызначалі такія людзі як Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Кастусь Каліноўскі, дзеяньні і ідэі, якія за імі былі, а не косныя масы спаланізаванай верхавіны, зрусіфікаванага чынавенства і іх галосных артадоксаў. Паланафільства і русіфікацыя у тым стане грамадзтва былі цэнтральна пашыранымі, існавалі на вызначальных пазыцыях, але былі ідэйна правінцыйнымі, пабочнымі і цалкам невызначальнымі ў галоўным разьвіцьці Беларускай нацыі.

Сёньняшняя зрусіфікаваная (вікаўская) апазыцыя, падтрыманая лібэральнай Эўропай, гэтак жа як і косная маса адэптаў рэжыму, ёсьць на Беларусі зьявай маргінальнай і тупіковай, якая блытаецца на ідэйным узбочы нацыянальнага разьвіцьця грамадзтва у расейшчыне, трасянцы, калгаснай псіхалёгіі і абстрактнай дэмакратыі бяз нацыі і ідэі. Адзін сьмелы ўчынак Каваленкі са Сьцягам Беларусі вышэйшы за ўсё іх мёртвае існаваньне. Пацьвярджэньнем усіх гэтых словаў ёсьць наш Фронт 90-х гадоў і наша дзяржаўная незалежнасьць, якой ён дамогся. Няхай жа веданьне і разуменьне гэтага ўселіць рашучасьць і веру ў нашы душы…

***Зянон Пазьняк***

***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*10 студзеня 2010 г.*



***135. Калун***

# ПРА СЭНС АНТЫБЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫКІ

***(Выступ на лютаўскім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”)***

...Кожная новая рэпрэсія этнацыду ўражвае нашу сьвядомасьць ня толькі фактам свайго зьяўленьня, ня толькі вычварнай тэхналёгіяй правядзеньня, але найперш паступовай стратай адпорнасьці нашага грамадзтва на вынішчальны працэс. Гэта сапраўды непакоіць і трывожыць найбольш, бо сьведчыць, што працэс нішчэньня нацыі ідзе незваротна і цемра ўсяляецца ў душы людзей.

Я ўжо неаднаразова зьвяртаў нашу ўвагу на тое, што адбываецца сістэмнае вынішчэньне ўсіх нацыянальных каштоўнасьцяў народа ў паэтапным раскладзе (пасьля адпрацоўкі аднаго этапу пачынаюць другі) і што маштабнасьць і выробленая логіка разбурэньня не карэлюецца з інтэлектуальным узроўнем узурпатара прэзыдэнцкай улады ў Беларусі. Тым ня менш усе драконаўскія акцыі супраць беларускай нацыі і культуры праходзяць праз яго рукі і зыходзяць ад яго.

Удары йдуць, вось ужо шаснаццаць гадоў, па ўсіх стратэгічных накірунках разьвіцьця нацыянальнай культуры: сымволіка, мова, гісторыя, школа, адукацыя, асьвета, літаратура, навука, этнічныя групы насельніцтва (сацыяльнае разбурэньне вёскі), моладзь, грамадзянская супольнасьць і, нарэшце, носьбіты культуры і нацыянальных ідэй.

Вынікі разбурэньня каласальныя. За 16 гадоў існаваньня груба арганізаваны аўтарытарны рэжым, без асэнсаванай ідэалёгіі і сацыяльнай мэты, абапіраючыся на бюракратыю і спэцслужбы (найперш КГБ) практычна паралізаваў увесь культурны нацыянальны працэс. Вынішчэньне тым больш разбуральнае, што пачалося яно ў адпаведным моманце, калі маладая незалежнасьць пусьціла першыя парасткі новага жыцьця. Парасткі былі зьнішчаны і разьвіцьцё спынілася, пайшло па збочаным шляху, спараджаючы хімеры і ракавыя пухліны перараджэньня.

Пазбавіўшыся зьнешняй акупацыі і вырваўшыся з Савецкага Саюзу, мы неўзабаве трапілі пад акупацыю ўнутраную з прычыны існаваньня старой акупацыйнай каляніялісцкай улады і старой савецкай адміністрацыі, якая аблегчыла шлях татальнага пранікненьня расейскіх спэцслужбаў у Беларусь і прыход крэатуры гэтых спэцслужбаў (Лукашэнкі) да аднаасабовай улады ў Беларусі.

Антыбеларускі рэжым ёсьць непасрэдным вынікам унутранай прарасейскай акупацыі, а палітыка этнацыду, якую ён праводзіць супраць беларускай культуры, па зьместу і характару свайму ёсьць тыповай акупацыйнай палітыкай. Яна працягваецца штодзённа. Ёсьць дзеяньні, якія руйнуюць асновы існаваньня культуры. Такія разбурэньні праводзяцца пастаянна і зыходзяць не з сытуацыі, не з абставінаў, а згодна разьмеркаванага плану і вызначанай задачы.

Найбольш злосным і антыпраўным ударам па нацыі ў пачатку 2010 года ёсьць санкцыя на сацыяльны перасьлед беларускіх пісьменьнікаў за прыналежнасьць да творчага саюза, што выявілася ў антыпраўнай забароне на прафэсіі (дакладней, на працу).

Нядаўна быў спушчаны загад усім адміністрацыям установаў звольніць з працы беларускіх пісьменьнікаў сяброў Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Пакінуць на працы дазволена толькі тых, хто выйдзе з Саюзу пісьменьнікаў. Гэта значыць з таго легендарнага творчага саюзу Купалы, Коласа, Чорнага, Караткевіча, Быкава. З таго Саюзу, які ўжо быў амаль поўнасьцю расстраляны ў 30-х гадах.

Пачынаючы з 1994 года, „30-я гады”, прыстасаваныя ў новых умовах, вяртаюцца зноў. Тады, у 90-х, казаць пра будучую ліквідацыю літаратуры і вынішчэньне пісьменьнікаў было бяссэнсоўна. Людзі адэкватна не ўспрымалі нават відавочных падзеяў – пагрозы рускага імпэрыялізму, – ня тое што небясьпекі для існаваньня беларускай літаратуры.

Гісторыя маю тую асаблівасьць, што не засвойваецца ў дэнацыяналізаваным грамадзтве. Высілкі і геніі асобных людзей губляюцца ў тумане часу альбо забіраюцца іншымі народамі. Нават масавы генацыд не пакідае глыбокіх адбіткаў у калектыўнай душы, калі вэрсія нацыі аслаблена і не арганізавана ў нацыянальнай дзяржаве, асэнсаванай як сацыяльна-культурнае ўтварэньне. Тым часам рэпрэсіі супраць беларускай літаратуры былі цалкам відавочныя і прагназуемыя нават у дэталях.

Улада ў Беларусі пасьля фатальных прэзыдэнцкіх выбараў 1994 года была сфармавана пад шчыльным уплывам савецкіх спэцслужбаў, цэнтар якіх знаходзіўся (і знаходзіцца) у Маскве. Адразу можна было зразумець якая пачнецца палітыка беларусафобнай прэзыдэнтуры. Яна будзе арганізаваная ў сістэму згодна стратэгічных задачаў Расеі на заходнім кірунку. Што гэта за задачы, мы добра ведаем. Яны былі сфармуляваныя ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Вялікае Княства Літоўскае павінна было быць разбурана, ліквідавана, тэрыторыя далучана, насельніцтва вынішчана і зрусіфікавана. Наўрад ці пад сілу была адной Маскве гэтая мангольская задача, але тым ня менш яна была ажыцьцёўлена супольна з Заходняй Эўропай, найперш зь немцамі. Заўважу, што нямецка-маскоўская вынішчальная парадыгма адносна Усходняй Эўропы датрывала да сёньняшніх дзён.

Вынішчэньне культуры, эканомікі, насельніцтва і памяці пра Вялікае Княства ніколі не спынялася і трывала праз усё XIX стагоддзе. Тым ня менш у пачатку XX стагоддзя Фэнікс Беларусі стаў адраджацца з попелу (аб’яўленьне БНР і г.д.). Таму наступныя дзесяцігоддзі рускі бальшавізм распачаў масавыя рэпрэсіі і вынішчэньне насельніцтва ў Беларусі і на Украіне. Цэнтрам расейска-нямецкага генацыду ў Эўропе зноў стала Беларусь.

Масавае забіваньне насельніцтва Беларусі агулам трывала 36 гадоў (да сьмерці Сталіна ў 1953 г.). За гэты час амаль дазваньня былі вынішчаныя нашчадкі беларускай шляхты, разбурана сялянская гаспадарка, ліквідавана бальшыня інтэлігенцыі, расстраляныя сотні пісьменьнікаў і паэтаў (70% усіх літаратараў) – усяго зьнішчана больш трох мільёнаў беларусаў.

1939-1944 гады 2-й Сусьветнай вайны засьведчылі, што ў беларусаў не было альтэрнатывы. Нямецкі нацыянал-сацыялізм (скарочана „нацызм”) і рускі камунізм абодва планавалі ліквідацыю беларускага насельніцтва і засяленьне новай „лебэнсраўм” (для расейцаў „искони русской земли”) немцамі (руска-савецкімі людзьмі).

Пасьля сьмерці Сталіна спосабы ліквідацыі беларусаў зьмяніліся. Былі спыненыя масавыя рэпрэсіі і забойствы, на ўзбраеньне ўзялі дактрыну пабудовы камунізму і стварэньне „савецкага народу”. Асноўным мэтадам стала русіфікацыя,

зьнішчэньне беларускай мовы, школы, асьветы, адукацыі, гістарычнай памяці, разбурэньне традыцыйных сацыяльных структур.

Гэтая палітыка (найбольш характэрным яе адэптам быў П. Машэраў) выклікала каласальны разбуральны эфект. Праз трыццаць гадоў вынарадаваньня вытаптана было так, што некаторыя з функцыянэраў саветызму пачалі сьвяткаваць перамогу, адкрыта плявалі ў твар: „какая Беларусь? Вас уже нет и никогда не было, разговаривайте по-человечески".

(У дужках заўважу – наша нацыянальная рэвалюцыя канца 80-х – пачатку 90-х выклікала ня тое што шок – псіхічную прастрацыю ў лубянскай Маскве і ў яе падхвосьнікаў на Беларусі).

Мэтадалогія вынішчэньня нацыянальнай культуры і беларускай Беларусі ў цяперашнім рэжыме – гэта працяг машэраўска-брэжняўскага саветызму, але з папраўкамі на ўлік чыньнікаў, якія прывялі да нацыянальнай рэвалюцыі 1988-1991 гг. І (што істотна) на адсутнасьць камуфлюючай ідэалогіі, у якасьці якой раней выкарыстоўвалі камунізм (марксізм-ленінізм). Таму цяперашняя антыбеларуская палітыка рэжыму больш арыентаваная на лабавую дактрыну, на непасрэднае глумленьне беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў, на сьлізганьне ў сталінізм і гістарычнае чарнасоценства (паняцьці „западно-русизма" і інш.). Тут сімбіёз русіфікатарскага саветызму, чарнасоценнага „западнорусізму" і сталіншчыны, што ў комплексе выяўляецца як тыповы акупацыйны этнацыд, падложжа якога нам добра вядомае з гістарычнага вопыту. Прагназаваньне канкрэтных разбуральных дзеяньняў рэжыму з гэтай прычыны не складае цяжкасьцяў. Высьвятленьне пэрспэктывы дае магчымасьць добра ўсьвядоміць, што адбываецца цяпер, у рэчаіснасьці. Аднак, на жаль, менавіта гэта якраз робіцца шмат для каго каменем перашкоды для разуменьня рэальнасьці. Эфэктыўна змагацца з этнацыдам можна толькі калектыўна пры масавым усьведамленьні яго небясьпекі і сэнсу палітыкі ўлады, якая яго праводзіць.

Нацыянальная літаратура ёсьць грунтуючая каштоўнасьць нацыі, зьяўляецца яе родавай прыкметай. Нацыя нараджае нацыянальную літаратуру, а літаратура фармуе нацыю. Калі няма нацыянальнай літаратуры, то няма і нацыі.

Адразу было зразумела, што антыбеларускі рэжым абавязкова будзе нішчыць беларускую літаратуру. Ня трэба было мець ніякіх ілюзіяў. З гэтага неабходна было зыходзіць, выбудоўваць пазыцыю абароны і змаганьня.

Этапы нішчэньня беларускай літаратуры выглядаюць па парадку так: ліквідацыя шэрагу беларускіх часопісаў; ліквідацыя шэрагу беларускіх выдавецтваў, стварэньне „холдынгу" і ўзяцьце пад адміністрацыйны і агентурны кантроль шэрагу літаратурных перыядычных выданьняў і выдавецтваў; узяцьце пад рэжымны кантроль усіх друкарняў; адабраньне Дома літаратара з уласнасьці Саюзу пісьменьнікаў; выгнаньне пісьменьнікаў з Дому літаратара; выгнаньне бібліятэкі і архіву Саюзу пісьменьнікаў з Дому літаратара; ліквідацыя Літфонду, ліквідацыя дамоў творчасьці, немагчымасьць друкавацца ў дзяржаўных выдавецтвах, немагчымасьць публічна спатыкацца з чытачамі; зьдзек над вялікім Васілём Быкавым, прысьпешваньне яго сьмерці; раскол Саюзу пісьменьнікаў і стварэньне падстаўной рускай пісьменьніцкай арганізацыі з графаманаў і імітатараў ліаратуры і, нарэшце, апошняя нядаўняя рэпрэсія – забарона на працу па культурна-нацыянальных матывах (прыналежнасьць да беларускага творчага саюзу). Тут адкрыты, цынічны жандармскі этнацыд. Груба зламаны шэраг артыкулаў нават рэжымнай Канстытуцыі і законаў, груба парушаны шэраг правоў асобы і грамадзяніна.

Ізноў жа, паўтаруся, трывожыць ня толькі аб'ём варварства супраць нашай культуры і цынізм зь якім яно адбываецца. Шакуе маўчаньне грамадзтва. Нават інфармацыі аб гэтай злачыннай падзеі году практычна няма (акрамя паведамленьня замежнага радыё „Свабода").

У такім выпадку накрэсьліць працяг рэпрэсій можна цалкам канкрэтна: перарэгістрацыя-нерэгістрацыя; перасьлед за друкаваньне кніг без рэгістрацыі, без санкцыяў, за выданьне за мяжой, за неўплату падаткаў і схаваньне „даходаў" ад літаратуры (хоць цяпер ад літаратуры даходаў ніхто ня мае, даходы робяць на псэўдалітаратуры); урэшце на працу ня будуць прымаць з-за прыналежнасьці да неадпаведнага роду заняткаў. Назву „беларускі пісьменьнік" хочуць зрабіць рэжымным кляймом, як КХП-БНФ, пры прыёме на працу. (Іронія лёсу ў тым, што шмат якія пісьменьнікі ўсе гэтыя 20 гадоў асьцярожна дыстансаваліся, як маглі, ад БНФ, ад ідэі нацыянальнага адраджэньня, не разумеючы, што справа не ў БНФ, а ў іх самых). Усё гэта ўжо было ў 30-х (і больш таго), усё гэта рабілі тыя ж самыя ворганы і тая ж палітыка. І пра ўсё гэта ўсе (амаль усе) забыліся.

У канцы лінейкі такой мангола-візантыйскай палітыкі мусіць быць цалкам зьменена насельніцтва. Русіфікацыя – гэта толькі стварэньне ўмоў для непрыкметнай замены людзей. Палітычныя спраўцы на Усходзе, якіх мы часам грэбліва называем варварамі, разумеюць больш за нас, што пакуль існуе пастаяннае беларускае насельніцтва Беларусі, то нават калі яно цалкам стане рускамоўным (а яно ня стане), нават калі яго цалкам асіміляваць па-японску ці на мове „хіндзі", то пакуль




(Фота А. Маголкі)

***136. Хапун у Менску, 2008 г.***

яно будзе існаваць тут, на гэтай зямлі, Беларусь рана ці позна можа паўстаць, а за ёй і прывід Вялікага Княства. Шок 1988-га і 1991-га не дае ім спакою.

Традыцыйная вайна – гэта перш за ўсё захоп чужой тэрыторыі. Доўгатэрміновыя (гістарычныя) вынікі вайны забясьпечвае поўная асіміляцыя альбо поўная замена насельніцтва. Прыкладаў дастаткова. І не абавязкова казаць пра былое сэрбскае Косава. Сучасны сьвет, працэсы глабалізацыі, левыя ўрады ў Эўропе і нэгатыўная рэакцыя людзей на лібэральныя каштоўнасьці гэтых урадаў спарадзілі новы від вайны – шляхам перамяшчэньня насельніцтва. І мы са зьдзіўленьнем ужо назіраем пачатак другога падзеньня Рыму (гэта значыць Эўропы) перад сярэднявечнай экспансіяй арабскага Усходу. Прытым усе шансы на баку Усходу, чалавечыя рэсурсы якога невычарпальныя, а рэпрадуктыўныя ўласьцівасьці ў 5-10 разоў пераўзыходзяць эўрапейскія.

Расея такіх рэсурсаў і ўласьцівасьцяў ня мае і тым ня менш яна ўжо пачала праводзіць перасяленчую вайну, ствараючы пад гэта ў Беларусі (са згоды рэжыму, вядома) жыльлёвую, матэрыяльную і эканамічную базу.

Паўстае пытаньне як нам, беларусам, змагацца супраць рэжымнага этнацыду, супраць вынішчэньня культуры, супраць выцясьненьня нас з грамадзтва на маргінэс, з гары ў ніз, з цэнтру на ўскраіну. Як абараніць нашыя каштоўнасьці ў краіне, дзе няма дэмакратыі і беларускае пад перасьледам, дзе паралізаваная грамадзянская супольнасьць, дзе законы пішуцца і выкарыстоўваюцца як сродак палітычных рэпрэсіяў, дзе поўная воля і беспакаранасьць спэцслужбаў і палітычнае бяспраўе людзей.

Істотна ведаць мэханізм існаваньня дыктатуры, выявіць канкрэтную сілу, якая гэты мэханізм прыводзіць у рух, яе мэтады, прынцыпы, спосабы дасягненьня мэты, урэшце яе зброю, якой яна зьнішчае нашу культуру, і прычыну, у выніку якой стала магчымай такая разбуральная палітыка. Пра такія зьявы я хацеў бы напісаць у наступным лісьце.

*14 лютага 2010 г.*

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

# ТЭРЫТОРЫЯ ГЕНАЦЫДУ

У XX-м стагоддзі таталітарныя рэжымы Расеі і Нямеччыны забілі дзясяткі мільёнаў людзей мірнага насельніцтва. У Нямеччыне гэта рабілі ў канцэнтрацыйных лягерах сьмерці і часткова ў працоўных лягерах. У Савецкім Саюзе забівалі ў цёмных лясах, у падвалах НКВД, у прыстасаваных пад турмы беларускіх крэпасьцях і замках. Забойствы былі строга засакрэчаныя і да 1988 года пра іх амаль ніхто ня ведаў. Афіцыйна саветы прызналі ГУЛАГ, і гаворка была толькі пра яго. Але ГУЛАГ было сістэмай працоўных лягераў. Пытаньне: дзе дзеліся мільёны людзей, якіх потым не далічыліся народы?

Расейскі камунізм трымаўся на НКВД і на хлусьні. Але ў 80-х гадах хлусьня лопнула, і камунізм абваліўся. Тым часам колькасьць забітых у СССР дакладна не падлічана да гэтага часу. Называюць лічбу ад 5 да 70 мільёнаў чалавек, і нават больш.

Істотна, аднак, іншае. За часы камуна-савецкай акупацыі (да сьмерці Сталіна ў 1953 годзе), і за часы нямецка-фашысцкага нашэсьця Беларусь, і ў цэлым Усходняя Эўропа (акрамя Расеі) была тэрыторыяй найбольш жорсткіх масавых забойстваў і выраблена га генацыду з абодвух бакоў. Гэтая тэма пачала, нарэшце, дасьледвацца і на Захадзе. Цімаці Снайдэр (амэрыканскі дасьледчык галакосту) сьцьвярджае, што эпіцэнтар масавых забойстваў сярэдзіны XX стагоддзя ляжыць у Беларусі, Украіне і Польшчы – на тэрыторыі, якую і Гітлер, і Сталін хацелі расчысьціць ад насельніцтва для рэалізацыі сваіх геапалітычных праектаў.

Крыніца: http://www.learntoquestion.com/resources/database/archives/003384.html

У Расеі падчас 2-й Сусьветнай вайны ад рук немцаў загінуў кожны дваццаць пяты цывільны жыхар, на Ўкраіне і ў Польшчы – кожны 10-ы; тым часам у Беларусі – кожны пяты. Пасьля вайны савецкія камуністы называлі лічбу – „кожны чацьвёрты", негалосна дадаўшы сюды тых забітых беларусаў, якіх зьнішчылі самы перад вайной. Але калі падлічыць беларускія ахвяры, забітыя камуністамі з 1917 года, і скласьці іх з ваеннымі, то атрымліваецца жахлівы лік – каля паловы цывільнага насельніцтва Беларусі.

Тое ж самае даводзіць Цімаці Снайдэр, сьцьвярджаючы, што *„Нямецкія войскі ў 1941-1944 гадах, морачы голадам савецкіх ваеннапалонных, душачы газам габрэяў, расстрэльваючы мірных жыхароў падчас антыпартызанскіх акцыяў, ператварылі Беларусь у мясцовасьць з найвышэйшай сьмяротнасьцю ў сьвеце.* ***Палова жыхароў Савецкай Беларусі на працягу Другой Сусьветнай вайны былі забітыя ці гвалтам выселеныя; нічога падобнага нельга сказаць ні пра адну іншую эўрапейскую краіну".***

У гэтай сувязі брытанскі дасьледчык злачынстваў таталітарызму Марк Мазовер (на якога спасылаецца Снайдэр) адзначыў, што калі Эўропа была ў той час „змрочным кантынентам", то Ўкраіна і Беларусь – „сэрцам змроку", уяўлялі суцэльны магільнік.

Тым ня менш рускім (у адрозьненьне ад немцаў) удавалася даволі глыбока схаваць сьведчаньні і інфармацыю пра генацыд у Беларусі і на Ўкраіне, прыкрываючыся тэрмінам „сталінскія рэпрэсіі", ГУЛАГам і разьвенчаным „культам асобы Сталіна".

У 1988 годзе змову маўчаньня ўзарвала адкрыцьцё Курапатаў пад Менскам. Потым была выяўлена „Біківня" пад Кіевам, пачалі друкавацца зьвесткі пра „Галадамор" на Ўкраіне, зьявіліся новыя адкрыцьці ў Беларусі. Мне вядома больш дзясятка расстрэльных месцаў вакол Менска, і нават у цэнтры беларускай сталіцы. Горад-магіла, што стаіць на касьцях і сымвалізуе нашу гісторыю.

Як гэта ўсё сталася, – застаецца ў памяці пакаленьняў (якая, на жаль, зьнікае). Дасьледуючы Курапаты, Лошыцу і іншыя мясьціны ў Менску, удалося высьветліць шмат уражваючых фактаў. Але найперш я стараўся знайсьці і апытаць сьведкаў, разумеючы, што час няўмольны, і трэба сьпяшаць.

Усе сьведкі адзначалі, што кожную ноч па гарадах і вёсках езьдзілі крытыя машыны-фургоны НКВД („хапуны") і забіралі людзей. Сьведка Таццяна Вікенцеўна Матусевіч (1906 году


(Фота з Сеціва)

***137. Са сьцягам ў Курапатах.***

нараджэньня) зь вёскі Зялёны Луг, хата якой стаяла пры дарозе на Курапаты, успамінала, што перад вайной на расстрэл вазілі цэлымі днямі безь перапынку, машына за машынай. У гэта час, сьведчыла Матусевіч, „хапун" НКВД ноччу прыехаў у іхнюю вёску і забралі 25 чалавек. Людзям не было куды дзецца і куды ўцякаць, бо ўсюды езьдзілі фургоны і ўсюды хапалі. Ацалелыя сьведчылі, што спалі не распранаючыся, чакаючы, што прыедуць забіраць.

Высьветлена, што бальшыня людзей не разумела, чаму іх забіраюць і чаму забіваюць. Літаральна ўсе сьведкі з ваколічных вёсак ля Курапатаў, якія на працягу пяці гадоў (з 1937 па 23 чэрвеня 1941 года) кожны дзень і ноч чулі крыкі і словы людзей, якіх расстрэльвалі, а таксама тыя, хто бачылі працэс расстрэлу, – літаральна ўсе адзначалі, што перад сьмерцю, перад расстрэльнай ямай усе задавалі сваім катам адны і тыя ж пытаньні: „За што?", „За што, у чым мая віна?", „Скажыце, за што?".

Гэта паказвае на тое, што ***іх расстрэльвалі без суда.*** Ці ў іншым выпадку завозілі ў суд, дзе аб'яўлялі толькі прысуд, судовага разьбіральніцтва не было. Ды й немагчыма было пры тым канвееры сьмерці.

Сьведка Галіна Сьцяпанаўна Жукоўская зь Менску расказала мне, што калі ноччу фургон забраў яе бацькоў, назаўтра яна кінулася ў НКВД даведацца, што зь імі і за што забралі. У калідорах і ў двары НКВД былі тысячы людзей і дзяцей такіх, як яна. Ёй прышлося некалькі сутак стаяць у чарзе да сьледчага, і нават начаваць у гэтай чарзе на падлозе ў калідоры. Сьледчы ўсім адказваў адно і тое ж (нават у сьпісы не глядзеў): „Десять лет без права переписки". Потым Жукоўская даведалася, што бацькоў расстралялі ў Курапатах. Усё, што казалі сьледчыя, было звычайнай рускай хлусьнёй. Усіх схопленых расстрэльвалі, але сваякам манілі, каб людзі ня ведалі, што адбываецца. І машына сьмерці круцілася далей.

Акрамя таго шырока практыкавалася пазасудовае вынясеньне прысуду, які рабілі так званыя „тройкі" – гэта кампанія з трох партыйных функцыянераў, якіх прызначала камуністычнае кіраўніцтва і надавала ім права выносіць сьмяротныя і іншыя прысуды схопленым людзям.

Шмат якія беларусы не знаходзілі ніякага рацыянальнага вытлумачэньня таму, што адбывалася. Сьведка Надзея Апанасаўна Мікуліч (настаўніца з калякурапацкай вёскі Цна) расказвала мне, што калі НКВД прыехаў у яе вёску Малышэвічы пад Слуцкам,

то забралі яе бацькоў і яшчэ мноства сялян і настаўнікаў. Сярод іншых схапілі шасьцідзесяцігадовую жанчыну Марылю Шпак. Яна была непісьменная і абсалютна глухая, жыла адна ў пограбе (склепе) ў страшэннай беднасьці, нават хаты сваёй ня мела. Рускія яе катавалі жорстка і з „творчай" выдумкай: сыпалі ў горла пясок, дамагаліся ад яе нейкіх прызнаньняў. Потым, назьдзекваўшыся ўволю, яны стукнулі яе па галаве і забілі.

Тыя беларусы, што засталіся жыць, не разумелі зьместу такіх паводзінаў з боку энкавэдзістаў. Неразуменьне выяўлялася, як правіла, сярод людзей, якія ўспрымалі савецкую ўладу не як расейскую акупацыю, а як сваю савецкую беларускую ўладу (фармальна яно так выглядала). З гэтай жа прычыны такія людзі схільныя былі верыць камуністычнай прапагандзе пра барацьбу з „ворагамі народа", „дыверсантамі", „трацкістамі" – усім тым выдумкам, што служылі прыкрыцьцём для генацыду беларусаў.

Калі нямецкія фашысты забівалі габрэяў, усе габрэі ведалі і разумелі, што іх забіваюць за тое, што яны габрэі. Немцы пра гэта адкрыта казалі. Калі рускія энкавэдзісты забівалі беларусаў, беларусы ня ведалі, чаму, і задавалі пытаньне „за што?". ***Наш народ ня мог усьвядоміць сэнс генацыду, ня мог зразумець, што іх забіваюць за тое, што яны беларусы, бо забойцы нічога не казалі, альбо казалі нешта незразумелае пра „ворагаў народа" ды „шпіёнаў".***

Вынішчэньне людзей у Беларусі расейскімі бальшавікамі было рацыянальна і адміністрацыйна прадумана, адбывалася метадычна і пад строгім кантролем Масквы. На кожны год у Маскве ствараўся плян для кожнай адміністрацыйнай тэрыторыі ў Беларусі на пастаўку адпаведнай колькасьці „ворагаў народа". Гэта не было асаблівай таямніцай, бо амаль у кожным міністэрстве быў створаны Аддзел ГУЛАГа, задача якога заключалася ў тым, каб паставіць заплянаваную колькасьць людзей за калючы дрот на патрэбы эканомікі сацыялізма. Таямніцай была толькі заплянаваная колькасьць забойстваў.

Гэтым плянам валодала выключна Масква і выключна кіраўніцтва НКВД. Пракуроры, сьледчыя і суддзі ў Беларусі, якія недастаткова шмат выносілі сьмяротных прысудаў, самы траплялі пад расстрэл. Канвеер сьмерці працаваў бязьлітасна. Наркома ўнутраных справаў НКВД БССР Аляксея Наседкіна, які кіраваў расстрэламі ў Беларусі ў 1938 г., самога арыштавалі і расстралялі. (Гэта было звычайнае правіла ў сталінскім СССР.) Але перад расстрэлам ён напісаў запіскі ў турме, якія дзіўным чынам захаваліся, і ў 80-х гадах былі надрукаваныя. (дарэчы, у газэце „Навіны БНФ"). Наседкін пісаў, што кожны дзень у адпаведны час павінен быў паведамляць у Маскву па адпаведным тэлефоне колькасьць расстраляных у Беларусі за „справаздачны" дзень з разьмеркаваньнем па раёнах.

Плян на пастаўку „ворагаў народа" на адпаведны квартал, месяц і год спускаўся на кожнага начальніка адміністрацыі (ад вобласьці да сельсавета) і на кожнага кіраўніка партыйнай арганізацыі камуністаў. Сьведкі зь вёскі Цна пад Курапатамі расказвалі мне, што з пастаўкамі ня справіўся аднойчы іхны старшыня сельсавета Цімох Бацян (трэба было здаваць сваіх людзей, і ён выкручваўся). Энкавэдзісты забралі яго, адвезьлі ў Курапаты на край расстрэльнай ямы і, прыставіўшы наган да горла, крычалі: „Давай врагов народа".

Аналіз матэрыялаў археалагічных раскопак, праведзеных намі ў 1988 г., таксама ўскосна пацьвярджае пазасудовую расправу над людзьмі. Археалагічнымі раскопкамі даказана, што магілы былі раскапаныя ў канцы 40-х гадоў, і асноўная колькасьць чалавечых касьцей была выбраная з магіл.

Тое ж самае пацьвярджаў адзін са сьведкаў. Рускія энкавэдзісты выдатна разумелі, што яны тварылі ў Беларусі, і стараліся замятаць сьляды. Але – не ўдалося.

Расстрэлы людзей энкавэдзістамі ***ня мелі ніякага праўнага абгрунтаваньня.*** Адпаведна ***не выконвалася і „праўная" працэдура.*** У прынцыпе яе немагчыма было прыстасаваць да масавых забойстваў. Таму рабілася толькі бачнасьць некаторых фармальнасьцяў, а па сутнасьці адбываліся забойствы людзей з палітычнымі мэтамі, зьмест якіх ведалі толькі ў Маскве. Выканаўцы расстрэлаў, магчыма, верылі, што выконваюць волю камуністычнай партыі і ліквідоўваюць „ворагаў народа". Але (як паказвае вопыт сутыкненьняў з такімі людзьмі) яны былі закончанымі забойцамі, дном чалавечай генэрацыі. Тут у масавым маштабе было зламанае асноўнае права людзкасьці – права на жыцьцё, недатыкальнасьць асобы (што, дарэчы, фармальна было запісана нават у „сталінскай" канстытуцыі СССР (арт. 127).

Надзвычай пачварныя формы набыў генацыд беларусаў у гады 2-й Сусьветнай вайны. Масква ськівула на Беларусь ў тыл немцам мноства энкавэдзісцкіх групаў, задача якіх была арганізаваць партызанскія атрады шляхам дэманстратыўнага забойства немцаў каля беларускіх вёсак, з мэтай справакаваць нямецкі тэрор супраць беларускага насельніцтва, каб у выніку яно ўцякала ў лес да партызанаў. Ноччу беларускіх людзей рабавалі і забівалі савецкія партызаны, днём – нямецкія карнікі.

З партызанска-энкавэдзісцкіх справаздачаў, якія адсылаліся ў Маскву, вынікае. Што толькі 10 адсоткаў ад агульнай колькасьці забітых партызанамі былі немцы. Астатнія – беларускія настаўнікі, інтэлігенцыя, сяляне, служачыя ў нямецкай адміністрацыі і іншыя беларусы.

Летам 1944 года, калі саветы зноў захапілі Беларусь, тысячы беларускіх мужчынаў мабілізавалі на фронт і потым гналі іх у наступ пад нямецкія кулямёты бяз зброі, паставіўшы за плячыма „заградотряды" НКВД. Забітых такім чынам беларусаў сьпісвалі як „загінулых на вайне".

Паўстае пытаньне, чаму расейскія камуністы зьнішчалі беларускі народ, зь якімі мэтамі і навошта? Карэньні гэтай палітыкі сягаюць у гісторыю нашай цывілізацыі, якая існавала паміж двума экспансіямі: усходняй (мангола-маскоўскай) і заходняй (нямецкай). Барацьба нашых продкаў на два канцы заканамерна павінна была прывесьці да аб'яднаньня агрэсіўнай палітыкі Захаду і Ўсходу. Так яно і сталася ўжо ў канцы XVIII стагоддзя. Далейшы працяг гісторыі – гэта непасрэднае сутыкненьне паміж усходнімі і заходнімі сістэмамі (эканомікамі). Гэта дзьве сусьветныя вайны і вынішчэньне Беларусі (былога Вялікага Княства Літоўскага) з абодвух бакоў.

Гітлераўцы мелі два праекты зьнішчэньня людзей у Беларусі, Украіне, Польшчы, Чэхіі і Славакіі. Першы праект – гэта (як яны плянавалі) – „канчатковае вырашэньне габрэйскага пытаньня" (гэта значыць – ліквідацыя габрэяў); і другі праект – зьнішчэньне і анямечваньне славян. Другі праект падзяляўся на два пляны: „плян голаду" (Hungerplan), згодна якога ў Беларусі, на Ўкраіне і ва ўсёй Усходняй Эўропе ў выніку створанага немцамі голаду павінны б былі памерці 30 мільёнаў чалавек. Пасьля гэтага мусіў бы ўступіць у дзеяньне „Generalplan Ost" – плян каланізацыі Ўсходняй Эўропы, які прадугледжваў фізічнае вынішчэньне 50-ці мільёнаў чалавек.

(Адзначу, што некаторыя дасьледчыкі сумняваюцца ў існаваньні „Генэральнага пляна Ост", – пытаньне як бы адчыненае, – але практыка гітлерскага фашызму, гэтак жа як і ленінскага камунізму, гаворыць у карысьць існаваньня такога пляна.)

Аналягічны плян адносна Беларусі і Ўкраіны мелі расейскія камуністы. Але крамлёўцы „перагналі" немцаў і пачалі ажыцьцяўляць сваю палітыку яшчэ ў 30-х гадах. Адносна Ўкраіны быў прыняты плян голаду, у выніку якога вымерлае насельніцтва Ўкраіны зьбіраліся замяніць рускімі. Галадамор 30-х гадоў, арганізаваны бальшавікамі, забраў тры мільёны ўкраінскіх жыцьцяў – па заходніх (заніжаных) ацэнках. Украінцы падаюць колькасьць ахвяр каля 10 мільёнаў.

Адносна Беларусі, крамлёўцы ўжывалі іншую матрыцу, сфармаваную яшчэ ў XVII ст. рускімі царамі – фізічнае зьнішчэньне насельніцтва, з наступнай русіфікацыяй рэшты жывых беларусаў. Гэтая палітыка прадугледжвала абавязковае вынішчэньне беларускай мовы, культуры, гістарычнай памяці і адукацыі пры наступным засяленьні „вызваленай" тэрыторыі і сацыяльнай сфэры прыбышамі з расейскай Эўразіі. (Дарэчы, антыбеларускі рэжым Лукашэнкі цяпер адкрыта праводзіць такую русіфікацыйную палітыку.)

Так званыя „сталінскія рэпрэсіі", якія адбываліся ў СССР, па колькасьці ахвяраў былі ў 6-7 разоў большыя ў Беларусі і на Ўкраіне, чым у Расеі, бо вастрыём сваім былі накіраваныя супраць беларускага і ўкраінакага нацыянальнага існаваньня.

Чым небясьпечны цяпер расейскі камунізм (хаця фармальна ён ужо як бы і не існуе)? Небясьпека ў тым, што галоўная рэпрэсіўная сіла расейскага камунізму, якая здзяйсьняла генацыд, зараз знаходзіцца ва ўладзе ў Расеі і праводзіць аналягічную палітыку кантролю над грамадзтвам, якую праводзілі камуністы (у тым ліку і міжнародную палітыку). Вынікам гэтай палітыкі ёсьць унутраная акупацыя Беларусі і падтрымка Расеяй прамаскоўскага пра-кагэбісцкага і антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі.

Нешта падобнае, як на Беларусі, рускі гэбізм хоча ўсталяваць на Ўкраіне, на Каўказе і ў іншых месцах сьвету.

***Рускі гэбізм – гэта абсалютная ўлада КГБ у Расеі, дзе КГБ(ФСБ) выступае як галоўная палітычная сіла, як супэрпартыя, якая зьяўляецца адначасна дзяржаўнай структурай, што сканцэнтравала ў сваіх руках усю ўладу і кантроль над грамадзтвам. Ідэалёгія і мэтодыка гэтай супэрпартыі ёсьць КАМУНІЗМ (хоць слова гэтае не называецца)***. Яна рэанімуе культ Сталіна, культ НКВД і савецкую гісторыю, зрабіла гімн СССР дзяржаўным гімнам сваёй улады. У дзеяньнях і ўнутраным разьвіцьці „супэрпартыі" мы назіраем сімбіёз камуністычных і фашысцкіх прынцыпаў, адбываецца фашызацыя яе камуністычнай ідэалёгіі на аснове прэтэнзіяў і інтарэсаў рускага імпэрыялізму.

Небясьпека расейскага таталітарызму застаецца. Сьвет павінен супрацьстаяць гэтай небясьпецы супольнымі сіламі. Грамадзтва Ўсходняй Эўропы мусіць разьвітацца з метастазамі камунізму.

Палітыка масавых зьнішчэньняў людзей, якую праводзіў Савецкі Саюз у 1920-50-х гадах ва Ўсходняй Эўропе (і найперш – у Беларусі і на Ўкраіне), павінна быць прызнана генацыдам супраць народаў і злачынствам супраць чалавецтва.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*(Даклад, прачытаны ў Празе, у лютым 2010 г.)*
*Надрукавана: („Беларус", – 2010, ліпень, № 570; „Народная Воля", – 2010, 31 жніўня – 2 верасьня).*

*18 лютага 2010 г.*

*Адчынена: (http://www.naviny.by/rubrics/opinion/2010/06/11/ic_articles_410_168171/ )*

# ГАЛОЎНАЕ – БАЙКОТ, ГАЛОЎНАЕ – З НАРОДАМ

***(Выступ на сакавіцкім Сойме БНФ)***

…Дазволю сабе тэзісна абазначыць некалькі пытаньняў бягучай цяпершчыны. Маю адчуваньне, што апошнім часам антыбеларускі рэжым выяўляецца ва ўсё больш завершанай форме як рэжым рэпрэсіўны. Перад выбарамі 2011 года стаўка робіцца на рэпрэсіі, запалохваньне, узмацненьне кантролю над грамадзтвам, упор на выкарыстаньне ўлады, на стварэньне заканадаўчых актаў пад рэпрэсіўную палітыку.

У прынцыпе нічога новага тут няма і ня будзе потым. Гэбоўскі рэжым, каб і хацеў, нічога іншага ня ўмее і ня можа рабіць. Такая яго парода, што ў Беларусі, што ў Расеі. І вартыя жалю тыя людзі, якія думаюць, што гэбісцкі (ды яшчэ і антыбеларускі) рэжым можна неяк перайначыць, прылагодзіць і рэфармаваць. КГБ не рэфармуецца. Яго трэба толькі (і абавязкова) ліквідаваць. Калі такой задачы ня ставіць і не змагацца, то рэжым ліквідуе грамадзтва.

Парадыгма існаваньня гэтай цэмры такая, што чым больш будзе слабець грамадзтва, тым больш будуць жорсткімі і дробязнымі рэпрэсіі. Людзям стане цяжка дыхаць; пад рэпрэсіі падпадуць звыклыя чалавечыя паводзіны; прыдумваньне неіснуючых парушэньняў і фабрыкацыя абвінавачваньняў стане звычайнай зьявай. Што мы ўвесь час і назіраем. „Падпал райхстага" з Аўтуховічам – тыповая ілюстрацыя такіх подлых паводзінаў рэжыму. Гэбістам і заказчыкам патрэбны гучны факт раскрыцьця „тэрарыстычнай змовы", каб тэрарызаваць грамадзтва. Прытым, заўважце, Эўразьвяз ускосна падтрымлівае антыбеларускі рэжым у гэтай брыдкай справе. У апошняй рэзалюцыі Эўрапарляманта па Беларусі няма ні слова пра Аўтуховіча, і ў той жа час выказваецца патрабаваньне вызваліць з турмы іншых, менш вядомых вязьняў.

І тут падвойны стандарт! Бюракратычная Эўропа ня можа бяз фальшу. Нават вязьняў падзялілі на „сваіх" і „чужых". Тое ж з журналістамі, палітыкамі і г. д. Памятаем, як яны ўпарта не хацелі заўважаць гераізму і арыштаў Уладзімера Плешчанкі, як маўчалі, калі ў 2000-м годзе 25 Сакавіка была спроба забойства Юры Беленькага на плошчы Якуба Коласа ў Менску. Памятаем, як ілжыва лепятаў нямецкі шпіён Ганс Вік (ён жа кіраўнік місіі АБСЭ ў Менску), калі на „Свабодзе" яму задалі пра гэта пытаньне наўпрост.

Апошнім часам паднялося пытаньне пра ўдзел ў Эўранэсьце. Даволі прымітыўнай маніпуляцыяй групы эўрадэпутатаў (прапанавалі рэжыму заведама непрыймальнае рашэньне) дасягнулі выніку, якога хацелі: у Эўранэст запросяць 10 асобаў з непарляманцкіх структураў Беларусі.

Калі пачыналася гэтая камбінацыя ў Эўразьвязе, мы ў кіраўніцтве Партыі абмеркавалі варыянты нашай адмовы ў такой несур'ёзнай задуме. Бо калі ўспрымаць іхнюю палітыку ўсё ж сур'ёзна, то нашай Партыі і Фронту як найстарэйшай палітычнай арганізацыі, якая ў 1991-м здабыла незалежнасьць краіны, мусілі прыслаць запрашэньне.

Але аказалася, што праблемаў ня будзе. Мы крыху пераацанілі верагоднасьць іхных намераў. Яны запрасілі сваіх, тых, каго ведаюць, каму аплочвалі камандзіроўкі ў Брусэль, каго бачылі на сэмінарах па дэмакратыі і на іншых „таўкучках". Там і знаёмыя журналісты, і камуністы, і „палітыкі" з „Экадому", і нават Анжэліка Борыс у той кампаніі ёсьць.

Ну, наколькі ж гэта ўсё лапідарна і несур'ёзна. Нелегітымную структуру замянілі яшчэ больш нелегітымнай тусоўкай. Нелегітымныя палатнікі прадстаўляюць нелегітымны антыбеларускі рэжым. А гэтыя людзі каго прадстаўляюць? Мне здаецца, што яны нават сябе не прадстаўляюць, а толькі блытаныя інтарэсы тых, хто іх туды запрасіў. Хаця аб'ектыўна гэтая так званая „апазыцыя" ёсьць люстэркам антыбеларускага рэжыму.

Альтэрнатыўную пазыцыю ўладзе можа прадстаўляць альтэрнатыўная ўладная структура. Паколькі такой структуры няма (хіба што Рада БНР), то ёсьць іншыя варыянты вырашэньня праблемы. Але іх нават не шукалі, бо пэўная група ў Эўразьвязе хацела мець пэўны вынік і склеіла яго, як умела.

У гэты ж час быў штучна раздзьмуханы маёмасна-палітычны канфлікт у Саюзе палякаў. Пачаўся ён у 2000 годзе, калі адышоў ад кіраўніцтва Тадэвуш Гавін і кіраўніком выбралі спадара Кручкоўскага, які аб'явіў, што Саюз палякаў ня будзе больш кантактаваць з БНФ і стане супрацоўнічаць з рэжымам Лукашэнкі. Кіраўніцтва Польшчы ў гэты час запрасіла Кручкоўскага супрацоўнічаць у розныя камісіі пальскага сэнату, ён стаў частым госьцем у Варшаве, а польская дыпляматыя ў Беларусі шчыльна зацікавілася справамі Саюза палякаў, магчыма не падазраючы, што рэжым шчыльна назіраў за гэтым зацікаўленьнем. У выніку зьявілася Анжэліка Борыс. Як толькі зьявілася Борыс, рэжым пайшоў у атаку. У 2005 годзе ўзьнік дыпляматычны скандал, у выніку якога пару польскіх дыпляматаў былі выдаленыя зь Беларусі, а Саюз палякаў распалавініліна дзьве часткі (умоўна кажучы, на пра-варшаўскую і пра-менскую арганізацыі).

Тут тыповая стандартная дзейнасьць спэцслужбаў. Такім мэтадам пры дапамозе рэжымных амбасадаў і КГБ у канцы 90-х былі расколатыя ўсе беларускія арганізацыі ў краінах Прыбалтыкі, у Расеі (Пецярбург, Масква), на Ўкраіне, у Малдове і іншых месцах. (Раскол БНФ у 1999-м – таксама тыповы прыклад.) Адметнасьць канфлікту ў СПБ хіба толькі ў тым, што расколвалі з абодвух бакоў.

Штучная эскалацыя канфлікту ўнутры СПБ у час вырашэньня праблемы з Эўранэстам і дзіўныя групавыя прапановы Эўразьвязу пра дзясятку запрошаных знаёмцаў зь Беларусі выклікаюць у мяне часам проста камічнае адчуваньне.

Якраз тады, калі панну Анжэліку запрасілі ў Варшаву, калі яна хораша ўсьміхалася з Браніславам Камароўскім (кандыдатам на прэзідэнта) і паказвалася журналістам, я меў размовы зь некаторымі польскімі палітыкамі-патрыётамі. Ну, кажу, во наша Анжэліка... „Нешта не падабаецца нам гэтая асоба", – зь яўным намёкам кажуць мне патрыёты. Такая вось жыцьцёвая камэдыя побач зь вельмі сур'ёзнымі для ўсіх нас, беларусаў, справамі.

У размовах з калегамі-фронтаўцамі нашыя думкі супадаюць, што гатовасьць у грамадзтве ня йсьці галасаваць на фальшывыя выбары – даволі высокая. Цяпер трэба інтэнсіфікаваць нашу працу ў кірунку прапаганды байкоту – пісьмовую і вусную. Вусную – абавязкова. У гэтай сытуацыі яна можа быць даволі эфектыўнай.

Сумняваюся, што (каб супроцьстаяць байкоту) рэжым рызыкне абніззіць парог абавязковай яўкі выбаршчыкаў (50% +1). Але калі б ён пайшоў на такі крок, то гэта толькі аблегчыла б нашу працу. Па журналістах я ўбачыў, што, магчыма, рэжым таксама не разумее (ці, дакладней, адэкватна на разумее) сэнсу нашага байкоту – салідарнасьць грамадзтва.

Выстаўляцца на чацьвёрты тэрмін прэзыдэнцтва і разьлічваць, што такое ўспрымуць як справядлівыя выбары – гэта ўжо, відаць, нейкая роспач ад безвыходнасьці. Толькі ўнікальная па нікчэмнасьці псэўдаапазыцыя магла б успрыняць сурёзна такую грубую „палітыку." Дзякуй Богу беларусам ўжо надакучылі гэтыя скокі, і ахвота ісьці на выбарчы балаган малее з кожным днём.

Сваю „элегантную перамогу" рэжым зробіць і бяз выбаршчыкаў. Нам важна, каб выбаршчыкі былі на іншым баку. Тады зьявяцца ўмовы, якія будуць спрыяць, каб ў рэшце рэшт зьмесьці ўсю гэтую антыбеларускую кампанію разам з антыбеларускім рэжымам.

Мяркую, што нікога з нас не зьдзіўляе, што на ролю рэжымных гайдукевічаў у выбарах прэзыдэнта зрабілі заяўку ўжо некалькі асобаў. Іх будзе яшчэ больш. Але для нас гэта ня мае значэньня. Масква (як заўсёды) ставіць на Лукашэнку, і колькасьць зазывалаў электарату на галасаваньне не перавядзецца. Мы арганізоўваем байкот ня з боку кандыдатаў, а з боку выбаршчыкаў…

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*21 сакавіка 2010 г.*

# НІЯКАЙ ТАЛЕРАНЦЫІ. ТОЛЬКІ БАЙКОТ!

***(Выступ на красавіцкім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

...Захады, якія робіць антыбеларускі рэжым дзеля вырашэньня праблемы нафты і газу, ні да чаго не прывядуць. Намеры яго простыя: ацалець, нічога не мяняючы ў эканоміцы і ўнутранай палітыцы. На іншую пазыцыю рэжым ня здольны. А гэта абазначае, што будуць распрадавацца нацыянальныя багацьці і маёмасьць народа, адначасна будзе зьніжацца ўзровень жыцьця і ўзмацняцца рэпрэсіі, запалохваньне людзей, кантроль над грамадзтвам, дадушваньне ўсяго нацыянальнага, беларускага, як галоўнай крыніцы небясьпекі антыбеларускаму рэжыму.

Небясьпечнасьць Лукашэнкі для беларускай нацыі павялічваецца з кожным днём яго знаходжаньня на вяршыні ўлады. Няўклюдныя імкненьні навязаць нафтавыя, энергетычныя дачыненьні з Венесуэлай, Кітаем, Іранам скончацца нічым з прычыны ўмяшаньня Расеі і асабіста Пуціна, які не пагрэбуе сам перабегчы дарогу напарніку зь Менска. Складваецца ўражаньне, што гэты „напарнік” не ўяўляе, што такое міжнародная нафтавая мафія і як яму будзе помсьціць падпалкоўнік Пуцін за словы пра яго (і пра яго сабаку). Сур’ёзнае з камічным.

Рост непрыязьні паміж двума функцыянерамі ідзе ўжо па накатанай дарожцы. Толькі замест высылкі дыпляматаў практыкуецца высылка агентуры. У 2002-2003 гг. (за часы „мухаўкатлетаў”) Калгасьнік, што называецца (па Гашэку), плюнуў Пуціну ў кубак з кавай – выслаў зь Беларусі рускага шпіёна Суздальцава. Цяпер аналягічная сытуацыя – дайшла чарга да Шарамета (якога таксама зьбіраюцца вытурыць назад у Маскву). Маўляў, мы ведаем, чым вы тут займаецеся з нашага дазволу. Больш таго, 25 Сакавіка рэжым публічна агучыў сакрэт Палішынэля – нямякнуў, што выбух 4 ліпеня 2008 года ў Менску – справа рук Масквы. Цікавыя рэчы адкрываюцца, між іншым. Калі яны гэтак, як кожны разумны беларус, добра ведаюць, што выбух – справа Масквы, то навошта ж палохаюць і мучаюць людзей амаль два гады ператрусамі, адбіткамі пальцаў, арыштамі, шуканьнем неіснуючых тэрарыстаў і т. п.? Але зразумела, навошта.

Тым часам становішча Пуціна ў Расеі таксама хістаецца. Умацаваньне пазыцыі робяць па-гэбоўску проста (як умеюць). Зноў, як некалі ў Валгадонску і Маскве, загучэлі выбухі ў маскоўскім мэтро. Цяпер Пуцін пачне наводзіць „парадак”, і ўсе будуць зноў глядзець на „ратавальніка” Расеі. Тэатр на трупах.

У Беларусі зьнешне як бы нічога новага не адбываецца, але зразумела, што галоўным дзеяньнем ёсьць падрыхтоўка да выбараў 2011 года і выбарчая рэпетыцыя фальсіфікацыйнай сістэмы 25 красавіка гэтага года.

Цяпер уся праца беларускіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў павінна быць сканцэнтравана ў гэтым накірунку, у падрыхтоўцы народнага няўдзелу ў галасаваньні і стварэньня народнай апазыцыі антыбеларускаму рэжыму.

Паводзіны псэўдаапазыцыі тут, як мы бачым, звыклыя: незалежна ад сытуацыі, заўсёднае падыгрываньне рэжыму ўдзелам у яго масоўках. Іхняя дэмагогія тут у стане маразму. Напрыклад, прынялі нядаўна чарговую сумесную заяву, дзе напісалі, што „выбараў няма”, што кампанія не адпавядае вымогам дэмакратычных выбараў і што вынікі іх ня будуць адлюстраваньнем волі беларускіх выбаршчыкаў.

Прыняўшы заяву, яны вярнуліся да свайго: агітуюць насельніцтва ісьці на галасаваньне і рыхтуюцца да выбараў, на якіх (самы разумеюць) іх ня выберуць і не прапусьцяць.

Кожны раз зьдзіўляешся, як нізка могуць упасьці гэтыя людзі. Рэжым ужо даўно вырашыў з гэтымі выбарамі, не праймаецца ні рэклямай, ні агітацыяй, ліквідаваў парог удзелу і напіша, колькі захоча. Саветы ім ужо заранёў сфармаваныя. Адзіная група асобаў, якая няпрошана дапамагае яму зрабіць бачнасьць выбараў, – гэта так званая „вікаўская апазыцыя”. Вось і ўся іхняя роля, добра ўсім вядомая. Даўно таксама вядома, што яна ня ёсьць рэальнай апазыцыяй рэжыму.

Тым часам намецілася чарговая авантура, накіраваная супраць байкоту выбараў. На ролю другога Мілінкевіча настойліва прэтэндуе Андрэй Саньнікаў. Гэта інтэлектуальна выраблены чалавек, і сумніўна, каб ён не разумеў раскольніцкага зьместу сваіх плянаў. Ні Гайдукевіч, ні іншыя пацешныя кандыдаты небясьпекі для байкоту не ўяўляюць. Тым часам Саньнікаў можа адколоць частку актыўных людзей (ня здольных да сур’ёзнага аналізу), і яны пойдуць на галасаваньне. Такім чынам будзе забясьпечана галасаваньне пратэстнага электарату, Саньнікаву выдзяляць належныя яму 3-5 адсоткаў галасоў, узурпатар у чацьверты раз „элегантна” застанецца ва ўладзе, а Саньнікаў (скарыстаўшы чарговыя чужыя сродкі) стане экс-кандыдатам у прэзыдэнты і будзе езьдзіць у якасьці такога па Стразбургах і Брусэлях, а дакладней – у Вашынгтон, пацясьніўшы (альбо і зусім выштурхнуўшы) таварыша Мілінкевіча.

Усё гэта – як і ў 2006 годзе, калі за грошы Масквы скуплівалі цэлыя партыі і прыхільнікаў і калі Мілінкевач і Казулін дакладна выканалі падстаўную ролю ў выбарах. Усё гэта называецца карупцыяй у палітыцы і патрабуе ня толькі маральнага асуджэньня.

Грошы, як выглядае, на чарговую падстаўку, ужо выдзеленыя. Зьвяртае на сябе ўвагу дзіўная кампанія, якую распачалі ў гэты час на расейскай мове, і называецца яна „Говори правду”. Ініцыятары будуць заклікаць усіх гаварыць праўду. Магчыма нехта думае, што калі б усе пры гэтай ілжывай уладзе сталі казаць праўду, то рэжым палепшыўся б, і тады ўсім стала б добра жыць пры гэтым рэжыме.

Ініцыятары напісалі маніфэст (вядома, таксама па-руску), дзе сутнасьць кампаніі сфармулявана коратка: „Вместе с обществом будем добиваться действенности правды, конструктивных решений”.

Першай акцыяй кампаніі была прапанова ўсім людзям напісаць пра свае праблемы ў Адміністрацыю прэзыдэнта. Далей – цікавей. Беларусы пачалі атрымліваць лісты ад імя кампаніі „Говори правду”, падпісаныя прозьвішчамі „Андрей Петровых” і „Андрей Дмитриев” з агітацыяй прыняць удзел у кампаніі. У гэтых лістах напісана, што „задачей компании” „является донесение правдивой информации до населения с целью некоторой активизации его к президентским выборам. По республике (так і напісана па-савецку, з малой літары) формируются штабы и набираются валонтеры. Эта компания не связывает себя ни с какими политическими партиями или движениями”.

Вельмі цікава ўсё робіцца і, дарэчы, палітычна пісьменна.

Чытаем далей. „Для проведения этой компании зарегистрировано республиканское общественное объединение”. (Ого! А нічога ж ужо даўно не рэгіструюць у гэтым непраўдзівым рэжыме!)

І завяршэньне абзаца: „Лицом компании является поэт Владимир Некляев”.

Але перш, чым даваць камэнтар, прадоўжу яшчэ цытаваньне ліста. „В компанию требуются волонтеры, – пішуць Петровых і

Дмитриев, – они нужны для распространения какой-либо печатной информации по почтовым ящикам, организации встреч, ну и прочей подобной деятельности. Еще нужны контролеры, они будут обеспечивать контроль за деятельностью этих самых волонтеров."

Прачытаўшы ўсё гэта, міжволі спыняешся: „Гм..." Сур'ёзныя таварышы. Але апошняя фраза заклiку да супрацоўніцтва проста забойная: „Работа оплачивается неплохо, – пішуць аўтары. – Люди могут быть любого возраста".

Далей просяць пакінуць свае „координаты" і абяцаюць аплочваць дарогу для праезду ў Менск.

Пачытаўшы ўвесь гэты лапідарны цынізм, першая думка, якая ў мяне ўзьнікла, што ўсё гэта правакацыя, і ў рэальнасьці не існуе ніякіх „петровых". Надта ж груба і прымітыўна. Зрэшты, таварышы Петровых і Дмитриев напісалі адрасы сваіх электронных скрынак... Калі інфармацыя, зьмешчаная ў лісьце, ёсьць адпаведнай, то застаецца толькі канстатаваць, тое што там напісана. Гэта значыць, што ***ствараецца структура пад выбары прэзыдэнта для збору подпісаў і агітацыі.***

Другое, што трэба канстатаваць, гэта тое, што плaніроўшчыкі, як заўсёды, прыкрываюцца імёнамі вядомых асобаў. Так было з „Хартыяй-97", зь „вялікім дэмакратам" Ул. Ганчарыкам, зь „беларускім дэ Голем" генэралам Фраловым, потым зь Мілінкевічам, цяпер вось „Говори правду", дзе наперад (як шырма і лакаматыў) выстаўлены Уладзімер Някляеў, дзе абапіраюцца на імёны Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Зінаіды Бандарэнкі, Генадзя Грушавога, Радзіма Гарэцкага. (Куды толькі ні ўключалі імёны гэтых паважаных асобаў за апошнія 15 гадоў!)

І, нарэшце, апошнія пытаньні: пад каго ствараюць і хто аплочвае? Хто аплочвае, вядома – тыя самыя. А пад каго ствараюць, то так: Някляеў паведаміў, што не зьбіраецца бавіцца ў выбарчыя гульні. Але якраз у іх ён і бавіцца і зь ім знаёмая кампанія (гл. іхную стар. <zapraudu.info>). Там нават спадарыня Працька выплыла і т. п.

Пад каго рыхтуюць?.. Зрэшты, ведаем, але ня мае значэньня. Шчыра скажу, паважаныя сябры Сойму, часам ўжо надакучвае гэты скамарошы хор. Калі Масква рыхтавала афёру з прэзыдэнцтвам Чыгіра, то за год да гэтага я напісаў, што рыхтуюць авантуру з Чыгіром, і дзеля чаго стварылі Хартыю-97. Тады ў друк вылезла ўся нечысьць, ёрнічалі і гыркалі, аж пакуль ні зьявіўся той самы Чыгір у постаці кандыдата „апазыцыі". У 2001 годзе гэтая „апазыцыя" знайшла яшчэ лепшага „адзінага кандыдата" ў прэзыдэнты – камуністычнага намэнклятуршчыка, члена бюро ЦК КПБ(КПСС), нашага ворага на выбарах 1990 года Ўладзімера Ганчарыка. Тады я пісаў, што Ганчарык ідзе з падачы Захаду, але гэта чалавек Масквы і аплочваецца Масквой. „Нечысьць" аж захлыналася ад рогату і абурэньня. „Политический труп", – лямантавалі ў мой бок, – „пулю", яму „пулю" і „кто пульнёт" (нішто не забыта і ўсё надрукавана).

Чым скончыўся праект „Ганчарык" – вядома. 21 сакавіка 2010 года ў „Свободных новостях" ён даў інтэрв'ю, дзе сказаў, што на вельмі высокім узроўні Масква ня толькі гарантавала яму падтрымку, але былі ўжо нават запісаныя яго выступы і праплочаныя на расейскіх тэлеканалах (а гэта ж сумы!). Але ў апошні момант Масква перамяніла пазыцыю і зрабіла стаўку на Лукашэнку. Новы стаўленьнік Крамля – і кандыдат „апазыцыі" адразу сьпёкся. Цяпер ён ва ўсім прызнаўся. Толькі нешта я цяпер ня чую лямaнту нечысьці, ніхто не пасыпае галаву попелам.

І ў 2005, і ў 2006 гадах я пісаў (і ня раз) пра маскоўскі праект Паўлоўскага, пра дзьве падстаўныя кандыдатуры ад „апазыцыі", праплочаныя Масквой на падстаўную ролю, бо стаўку Крэмль робіць на Лукашэнку. Нечысьць зноў ціха хіхікала і лямантавала: „Мілінкевіч!", „Казулін!". Чым скончыўся праект „Мілінкевіч-Казулін" – таксама вядома. Самае брыдкае ў тым, што „Мілінкевіч-Казулін" ведалі, што выконваюць ролю падстаўкі, і не пагнушаліся скарыстоўваць на гэтую падстаўку грошы. Мілінкевіч пры гэтым нават добра ўвайшоў у ролю – адвёў народ з плошчы да „вечнага агню" кветачкі ўскладаць. Дык можа Казулін ня ведаў?

Вось што піша Ганчарык у згаданым інтэрв'ю: „А в 2006 году, когда мы ездили в Москву с Козулиным, сразу было сказано: Москва поддержит только Лукашенко". Ну і зноў жа, дзе цяпер тая журна-палітычная хіхікаючая абслуга?

Я ня бачу сэнсу больш высьвятляць дэталі. З гэтымі гумовымі „дэмакратамі" даўно ўсё зразумела. Двойчы яны дапамаглі Лукашэнку прыйсьці да ўлады. Першы раз – у 1994-м („маладыя ваўкі"), другі раз – у 2004-м, калі адмовіліся ад нашых патрабаваньняў байкатаваць незаконны рэфэрэндум пра трэці тэрмін Лукашэнкі, калі яны заклікалі людзей ісьці на гэты незаконны рэфэрэндум і пайшлі самы (адпрацоўвалі заходнюю падтрымку). Гэта горш, чым у 1994–м, бо тут грубае парушэньне Канстытуцыі і здрада змаганьню за волю і дэмакратыю. Такое не даруецца.

Паважаныя сябры Сойму. ***Дзеяньні псэўдаапазыцыі супярэчаць развіцьцю цяперашніх антырэжымных працэсаў у нашым грамадзтве.*** Яны супярэчаць таксама народным імкненьням і нашай палітыцы не прызнаваць і ня браць удзелу ў выбарчых гульнях рэжыму, супярэчаць нашай пазыцыі стварэньня народнай альтэрнатывы і кансалідацыі людзей супраць ашуканцкіх фальшывых выбараў. Цяпер адносінаў індэферэнтнасьці і таленранцыі з нашага боку (як дагэтуль) ня можа быць. Лёзунг такі: **„НІЯКАЙ ТАЛЕРАНЦЫІ!"** Рана ці позна іх усяроўна трэба будзе зьмятаць, разам з рэжымам. Чаша цярпеньня даўно перапоўнілася. На падыходзе шырокая народная сіла. Зь ёй трэба нам працаваць на платформе Беларускай Салідарнасьці. Трэба ізаляваць фальсіфікацыйны выбарчы працэс. І людзі нам дапамогуць.



***138. „Разьвітальны партрэт" альбо ўспамін аб цёмным часе.***

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ***
***„Адраджэньне"***
***і КХП-БН***

*9-11 красавіка 2010 г.*

# „ШАНУЙЦЕ Ж МОВУ НАШУЮ, БЕЛАРУСКУЮ...”

## ІНТЭРМЕДЫЯ

У апошні час падняўся традыцыйны шум вакол кампаніі „говори правду” і чарговых людзей, якім далі рэсурсы на выбары ці, па сутнасьці – на легітымізацыю рэжыму (хто даў – ня мае значэньня, бо патэнцыйныя спонсары два: маскоўцы і немцы і для Беларусі гэта „адзін чорт” – чые грошы, таго й праўда). Людзі абзавяліся тэхнікай, офісамі, кампутарамі, тэлефонамі, пачалі даваць інтэрв’ю, шумець (усё па наеэджанай дарожцы). І тады, калі ўсё было ўжо ў камплекце, як заўсёды на іх наскочыла міліцыя і КГБ. Забралі тэхніку, офісы, кампутары, тэлефоны, грошы (нават пярсьцёнкі і ўпрыгожваньні спрабавалі рэквізаваць пад выглядам ператруса). Фігурантаў маёмасьці адвезьлі пад арышт, патрымалі тры дні і выпусьцілі. За гэты час так званыя „незалежныя” СМІ з свайго боку ўшчалі „кампанію галоснасьці”: бралі інтэрв’ю ў жонак фігурантаў, міліцыянераў, юрыстаў, вядомых дзеячоў, якія абураліся беззаконьнем улады і г. д.

Фігуранты вышлі з арышту і сказалі, што іх не запалохаць і што калі да гэтага, маўляў, пра іхнюю справу ніхто ня ведаў, то цяпер ведаюць усе, улада сама сабе зрабіла горай і г. д. На гэтым заіграны спэктакль скончыўся (дакладней, інтэрмэдыя спэктакля). Усе засталіся пры сваёй выгадзе: міліцыя пры кампутарах, лаптопах, прынтэрах і т. п., фігуранты пры рэкляме, а ўлада пры сіле. Толькі выбаршчыкі павінны б былі застацца ў дурнях.

Але... хто яго ведае. Выбаршчык ужо зьмяніўся і шмат што стаў разумець. У Марка Твэна, як памятаем, у актораў пагарэлага тэатра кідалі здохлым катом. Беларусы, мяркую, катом кідацца ня будуць, але на рэжымныя выбары наўрад ці пойдуць (і правільна зробяць, нават калі б акцёры, як у Твэна, разпрануліся да гала).

Зрэшты, яны і так ужо распрануліся дастаткова. Нібыта „апазыцыйны” палітычны тэатр даўно замкнуўся на адных і тых жа выканаўцах. І калі рыхтуецца нешта як бы новае, „рэвалюцыйнае” і т. п. (са старым ці сьвежым спонсарам), тады варта толькі паглядзець склад трупы. І калі заўважым там такія прозьвішчы, як, скажам, спадар Фядута і спадарыня Процька, – затыкайма нос і ўцякайма хутчэй. Маўляў, усё зь імі зразумела і хай не хаваюцца за плечы паэта Някляева. Бо ніякай „праўды” там няма, нічога шчырага і нічога беларускага. Гэта вядомыя спажыўцы чужых рэсурсаў і выканаўцы чужых заказаў (і, адпаведна, чужой палітыкі).

## КАЛЯНІЯЛІЗМ І АДРАДЖЭНЬНЕ

У самы разгар незразумелай для некаторых акцыі з перагрусам, рэквізіцыяй і арыштамі радыё Свабода брала інтэрв’ю ў спадарыні Процькі (яе не арыштоўвалі і вобыску не рабілі). „Чаму па-беларуску не друкавалі ўлёткі?” – пытаюцца. І Процька адказвае:

„Мы зьвяртаемся да насельніцтва, якое размаўляе па-расейску, на расейскай мове. Лепей зьвяртацца на той мове, якую яно разумее, на якой яно будзе пісаць, на якой ня будзе адчуваць сябе непаўнавартасным. Але я хачу адказаць спадару Трусаву вось як. На жаль, у нас у Беларусі беларуская мова – гэта ня проста сродак камунікацыі, як ва ўсіх краінах. Яна у нас – палітычная картка, якую чалавек выстаўляе грамадзтву. Гэта зрабіла ў свой час адна палітычная сіла, яна прыватызавала мову, і на сёньняшні дзень той, хто размаўляе па-беларуску – спытай любога ў нашай вёсцы – гэта бэнээфавец. Чаму так атрымалася? Цяпер можна гэта аналізаваць, але мы ў рэальнай сытуацыі. І калі мы ў рэальнай сытуацыі хочам нешта зрабіць з грамадзтвам, каб яно стала эўрапейскім, увабрала ў сябе і зрабіла нормамі свайго існаваньня і жыцьця сучасныя дэмакратычныя стандарты, мы павінны зыходзіць з тых умоваў і стандартаў, якія мы маем, а не якія мы хацелі б мець. Калі насельніцтва гаворыць па-расейску, калі беларуская мова ўспрымаецца як прыкмета пэўнай палітычнай сілы, і калі гэтая палітычная сіла з тых ці іншых прычын непапулярная, страціла для насельніцтва свае прывабныя якасьці, а мы хочам дасягнуць нейкі вынік ад кампаніі «Гавары праўду», мы карыстаемся тым, што найлепш нас прывядзе да гэтага выніку”. http://www.svaboda.org/content/article/2047969.html

Вось гэта і ёсьць антыбеларуская антымоўная прапаганда, прыдуманая рознымі канторамі і палітычнымі спонсарамі. Такое мы чулі ўжо ад фраў Рабітц, Бэніты Вальднэр, гэра Ганса Віка, фраў Цапф, гэра Фрыка ды іншых гэраў (калі сягаць глыбей, то яшчэ ад генэрала СС Курта фон Готбэрга). Русіфікатарам заставалася толькі паўтараць нямецкія фармулёўкі.

Тут тыповае выяўленьне каляніяльнай пазыцыі **„статус-кво”,** *якая зыходзіць з консэрвацыі разбуральных вынікаў каляніяльнай палітыкі і сцьвярджэньня іх як нормы жыцьця.*

Альтэрнатывай каляніяльнай палітыцы „статус-кво” ёсьць *пазыцыя нацыянальнага **Адраджэньня**, якое ставіць задачу ліквідацыі каляніяльнай палітыкі і аднаўленьня (адраджэньня) усяго таго, што было разбурана, зглумлена, украдзена, сфальсіфікавана і перайначана каляніяльнымі (акупацыйнымі) уладамі.*

У апраўданьне антыбеларускай палітыкі, рэжым прыдумвае небыліцы. Напрыклад, што пры „нацыяналістах” у 90-х усе рускія „сядзелі на чамаданах на вакзале”. Гэта тыповая гёбельсаўшчына, нічога падобнага ў прыродзе не існавала. Альбо іншая небыліца (якую агентура часта паўтарае), што насільна ўводзілі беларускія школы і беларускую мову, што на мове размаўлялі толькі „бэнээфовцы” і гэтак далей і да таго падобная прапагандысцкая лухта.

Не было ніякіх „чамаданаў”, ніхто „насільна” не адчыняў школы. Беларускі народ, мову якога саветы пазбавілі афіцыйнага ўжытку, на справе зь вялікай павагай адносіўся да сваёй мовы. І як толькі прыняты быў закон і зьнікла фактычная забарона на мову і на школу – усё пайшло лёгка, амаль што само сабой. Самыя чыноўнікі спрыялі гэтаму добраму парцэсу. Людзі хораша спаткалі незалежнасьць і паверылі, што будзе сапраўдная Беларуская дзяржава, і што трэба вучыць дзяцей і вяртаць сваю мову ў афіцыйны ўжытак.

Да мяне на дэпутацкі прыём прыходзілі расейцы, што жывуць у Беларусі, і казалі аб падтрымцы, і што яны аддалі сваіх дзяцей у беларускую школу.

Гэтак будзе і тады, калі абваліцца антыбеларускі рэжым Лукашэнкі, разам са сваёй „апазыцыяй”. (А яны абваляцца.)

Цікава, што галоўныя прапагандысцкія прыдумкі прысутнічаюць тут у адным антымоўным выказваньні Процькі (толькі пра „большасьць насельніцтва” – гэта нямецкі прадукт).

За 70 гадоў рэпрэсіяў, нішчэньня і дэфармацыі беларускага грамадзтва афіцыйная моўная сытуацыя была зрусіфікаваная. Гэтую русіфікацыю за саветамі аб’явілі як „норму” і ўключылі ў палітычную дактрыну КПСС пра „савецкі народ”. Той, хто выступаў за беларускую мову, той ня ўкладваўся ў „норму”, а значыць выступаў супраць гэтага „савецкага” народа (выглядаў ан-

тысаветчыкам, а гэта крымінальны артыкул і вельмі жорсткі). Так выглядала „статус-кво” за саветамі.

На барацьбу з савецкай каляніяльнай палітыкай стаў Беларускі Народны Фронт. Ён падняў беларускі *Бел-Чырвона-Белы сьцяг*, выступіў за адраджэньне беларускай культуры, за дзяржаўнасьць беларускай мовы, за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, за ліквідацыю каляніяльнай камуна-маскоўскай сістэмы, за свабоду і дэмакратыю.

***Фронт выступіў адкрыта і перамог, атрымаўшы падтрымку людзей.*** Пад ціскам Фронту пасыпалася камуна-маскоўская акупацыя Беларусі. Упершыню за 200 гадоў мы вярнулі нашу дзяржаўную незалежнасьць, мову, сьцяг і гэрб на дзяржаўны пасад. Упершыню КГБ СССР атрымаў ад Фронту зубадрабільны ўдар у Курапатах і ў палітыцы незалежнасьці. Упершыню КГБ СССР пацярпеў паразу.

На жаль, пасьля 1991-га савецкая намэнклятура і КГБ здолелі захаваць сваю ўладу ў Беларусі. У канцовым выніку гэта прывяло да рэстаўрацыі антыбеларускага саветызму і прамаскоўскай рэакцыі ў 1994 годзе, узмацніла ролю КГБ ва ўнутранай палітыцы.

Рэстаўрацыя антыбеларускага рэжыму адбывалася па тым жа каляніяльна-савецкім пляне, як і 75 гадоў таму: ліквідацыя дзяржаўных сымвалаў, зьнішчэньне беларускай школы, падручнікаў, выцясьненьне мовы з афіцыйнага ўжытку, палітычная рэформа правапісу, ліквідацыя беларускіх выдавецтваў, часопісаў, установаў і г. д. – усё па схеме ўнутранай акупацыі, адпрацаванай яшчэ за часы СССР.

Пятнаццацігадовы гвалт над грамадзтвам не мінае бясьследна. Зьмены ў грамадзкім становішчы тут жа стараюцца (як і пры саветах) увесьці ў норму, а ўсялякае змаганьне за нармальнасьць супраць гвалту імкнуцца пазбавіць правоў, аб’яўляюць маргінальным, антынародным і г. д. – усё па старой схеме „статус-кво”.

„Мы павінны, – кажа сп. Працька, – зыходзіць з тых умоваў і стандартаў, якія мы маем, а не якія мы хацелі б мець”.

Вось тут якраз і ёсьць тыповая „ахова” сістэмы, кансэрвацыя гвалту і дэфармацыі як зыходнай катэгорыі.

Тым часам усялякая сапраўдная барацьба з сістэмай гвалту, усялякае адраджэньне і вызвольны рух зыходзяць з тых умоваў, ***якія мы хацелі б мець***, і адмаўляюць тыя ўмовы і стандарты, „якія мы маем”. (А што „мы маем” – вядома.)

Імкненьне зацьвердзіць русіфікацыйныя дэфармацыі рэжыму ў моўнай палітыцы ня ёсьць вынікам памылкі і блытаніцы ў галаве сп. Працькі. Яна гаворыць гэтак жа, як і сп. Ярмошына (адзін да аднаго). Гэта сьветапогляд людзей, выхаваных у камсамоле, якія паразітуюць на нацыянальнай палітыцы, робячы свае (а, фактычна, чужыя) інтарэсы.

Замахнуўшыся на мову, спадарыня Працька занадта далёка зайшла. Ніхто такога цярпець ня будзе ні цяпер, ні потым, калі прыйдзе час разьліку (а ён прыйдзе). Цяпер не 90-я гады, калі трэба было ўсё тлумачыць. Людзі ўжо добра разумеюць, што дыктатарскі рэжым і ягоная „апазыцыя” – гэта адзіная сазлучаная сістэма самаахавы аўтарытарнай улады. І зьмятаць іх трэба будзе разам. І ўжо сьпее сіла, якая зможа гэта зрабіць.

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

Русіфікацыя і вынішчэньне беларускай мовы ёсьць задача „нумар адзін” расейскай палітыкі на Беларусі. Гэтай палітыцы ўжо больш як дзьвесьце гадоў. Пасьля вынішчэньня мовы (тут мы робім умоўнае дапушчэньне для зручнасьці развагі) Беларусь (яе народ, рэсурсы, вынікі працы, эканоміку і г. д.) Масква ўжо магла б браць голыма рукамі. Само пытаньне суверэнітэту перастала б існаваць. Калі б у 80-х, калі ўжо, здавалася, усё было задушана, калі б тады беларускае грамадзтва ня вылучыла ідэй, людзей і не стварыла б Народны Фронт, не пачала б вяртаць сваю мову, мы б ужо ня мелі нічога.

Цяперашні час патрабуе Беларускай салідарнасьці – новага Народнага Фронту. Зьяўленьне ў гэты момант розных праплочаных і, фактычна, прарэжымных ініцыятываў, кшталту „говори правду” („праўду”, якую пасылаюць у адміністрацыю рэжыму), – зьява правакацыйная і сімптаматычная для самазахаваньня гэтага рэжыму. Беларусам ня трэба ў гэтай ініцыятыве ўдзельнічаць, ня трэба раней часу „сьвяціцца” і, да таго ж, падтрымліваць русіфікацыю.

Хто такая спадарыня Працька, мне вядома (была супрацоўніцай Інстытута гісторыі, дзе я працаваў.) Яна не падтрымлівала змаганьне за волю і незалежнасьць, якое вёў БНФ. У часы нацыянальнай рэвалюцыі ў пачатку 90-х Працька стаяла ад яе ў баку. Але калі да ўлады прывялі Лукашэнку, раптам зацікавілася апазыцыйнай палітыкай і рознымі сродкамі імкнулася ў яе пралезьці. Гэта ёй удалося не без прыхільнасьці былога намесьніка старшыні КГБ генэрала Лавіцкага.

Магчыма, з гэтай прычыны схаваным зьместам яе „апазыцыйнае” дзейнасьці стала нагаворваньне на БНФ (у вышэйпрыведзенай цытаце таксама), стварэньне яму і ягоным дзеячам адмоўнага вобразу.

Яе гэтую „прысутнасьць” у „палітыцы” мы з С. Навумчыкам спатыкалі ў самых неверагодных месцах. У 1996 годзе, калі мы былі ў Варшаве Сяргей Навумчык заходзіць у кабінэт старшыні Польскага Гэльсінскага Камітэту Марэка Навіцкага і каго там бачыць? Спадарыню Працьку, якая сядзіць плячыма да дзьвярэй і на чым сьвет „палівае” БНФ і Пазьняка, „інфармуе” польскі Камітэт. Разумны Навіцкі даў магчымасьць Сяргею крыху паслухаць, перш чым дэманстратыўна яго заўважыць і спыніць „палітінфармацыю”.

У 1996 г., у першыя месяцы вымушанай эміграцыі, мы з Сяргеем Навумчыкам падпісвалі сумесныя заявы. Я, як старшыня БНФ, і Навумчык, як прадстаўнік Гэльсынскага камітэту. На сустрэчах з палітыкамі ў Кіеве, Празе, Варшаве, Лёндане, Вашынгтоне, Нью-Ёрку, калі нас пыталі, якія грамадзкія арганізацыі трэба падтрымліваць у Беларусі, мы называлі: Гэльсынскі Камітэт і БАЖ. (Дарэчы, С. Навумчык быў сузаснавальнікам і Гэльсынскага Камітэту – нароўні з Быкавым, Брылём, Барадуліным, як дэпутат ВС, – і БАЖу, а ўстаноўчае паседжаньне БАЖу ён нават вёў ад пачатку да канца).

У 1996 годзе наступ дыктатуры ў Беларусі ішоў кожны дзень. Сустрэчы з палітыкамі на Захадзе мы выкарыстоўвалі для інфармаваньня аб сытуацыі. Гэта было асабліва неабходна, бо паралельна працаваў намесьнік Міністра МЗС Саньнікаў па арганізацыі візыту Лукашэнкі ў Францыю. МЗС імкнуўся прадставіць рэжым Лукашэнкі як нібыта дэмакратычны, варты прыняцьця Эўропай. Я тады зьвяртаўся зь лістом да прэзыдэнта Шырака з мэтай затармазіць візіт. Але МЗС удалося ўсё ж праціснуць прыезд Лукашэнкі.

У 1997-98 гг. мы з С. Навумчыкам працягвалі займацца пытаньнямі правоў чалавека, ініцыявалі і паднялі справу аб Шыдлоўскім, Лабковічу, Кабанчуку (арыштаваных рэжымам). Мне прышлося хадзіць ў Г’юман Райтс Вотч у Нью-Ёрку наконт Адамовіча, што сядзеў у гэбісцкай „амэрыканцы”. Я арганізаваў тады шэраг беларускіх дэманстрацыяў ў Нью-Ёрку, лісты ў ААН, Кангрэс ЗША, АБСЭ, Міжнародную Амністыю (езьдзіў у Кан-

грэс). Сяргей Навумчык выступіў у абарону Севярынца, які сядзеў у віцебскім арышце і г. д. Пачынаючы з 1997 года, мы з Галінай Палачанінай (Пазьняк) на працягу дзесяці гадоў друкавалі у „Беларускіх Ведамасьцях" з нумара ў нумар хроніку парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі (праца, якую рыхтаваў БНФ, а патым КХП--БНФ). Вакол нашай працы я ўвесь час спатыкаў дзіўныя акалічнасьці. Але, па-праўдзе, яны мяне не зьдзіўлялі.

„Палітык" Процька (якая ўжо рэгулявала „правы чалавека" ў Беларусі) вядома, не здагадваецца, што „таемны" калектыўны ліст супраць Пазьняка, які ў 1997 годзе быў напісаны ёй, па яе ініцыятыве і зь яе першым подпісам ў Дацкі Гэльсінскі Камітэт і АБСЭ (тады, калі яе ўзначальваў Гэльвіг Пэтэрсэн), што гэты ліст нам адразу быў добра вядомы. (Я быў тады намінантам прэміі па абароне правоў чалавека.) Такія „прыёмчыкі" спадарыні моцна ўразілі непрывычных датчан і яны шмат што зразумелі. Пры гэтым спадарыня Процька дэманстравала мне асабістую павагу і прыязныя адносіны (вельмі цікава было назіраць).

„Апазыцыянэр" Процька пачуваецца, па ўсім відаць, добра. Яна ня ведае, што тыя высокапастаўленыя афіцыйныя асобы ў Вашынгтоне (якім яна распавядала сваю прыдуманую адмоўную „інфармацыю" пра БНФ і пра яго старшыню), што тыя асобы былі не прывучаныя трымаць яе „апазыцыйных" сакрэтаў.

Часам „энтузіясты" „працавалі" цэлымі камандамі. У 1997 годзе ў час міжнароднай канфэрэнцыі па правах чалавека ў Варшаве (дзе зачытвалі маё прывітаньне і сардэчна ўспрымалі) па залі хадзіла асоба (не Процька) і таямніча раздавала лістоўкі па ангельску, дзе было напісана, што Пазьняк „экстрэміст" і заклікае да грамадзянскай вайны ў Беларусі. Яны нават у Амэрыку зацягнулі сваю саўковую прапаганду.

Шмат ёсьць яшчэ цікавага ў „тайнай дыпляматыі" спадарыні Процькі і шмат што мне даўно вядома (але пакінем пакуль). Там, дзе таемнасьць не прадугледжана, Тацьцяна Процька часта кажа суровую праўду. Ну, напрыклад, цытую: „Как „лукашисты", так и оппозиционеры, должны четко уяснить: допустить нелегитимного, с точки зрения мирового сообщества, президента – нельзя". (*„Народная Воля", – 2001, 20 лютага.)* Гэта сказана падчас прэзыдэнцкіх выбараў 2001 года. Проста і зразумела. Тут ужо нават не квазі-апазыцыя, а тыповая „ахоўка" рэжыму.

Заўважана, што адсутнасьць адпору і ўпэўненасьць у беспакаранасьці выклікае часам у людзей такога кшталту поўную дэмаскацыю і адкрытыя паводзіны па абароне рэжыму (яны, кажучы па іхняму, „наглеют").

Зьдзіўляе, што ў антымоўнай кампаніі Процькі, былых камсамольцаў і ваенных палітработнікаў апынуўся наш выбітны паэт Уладзімер Някляеў. Бо зразумела, што ягоная роля, вызначаная рэжысёрамі ў такой пастаноўцы, – гэта роля ахвярнага ягня ўсяго пагарэлага тэатра. Яе ўжо аднойчы іграў Аляксандар Казулін (так да канца і не зразумеўшы, што адбылося і чаму).

Удзел у чужой палітыцы (ды яшчэ на першай ролі) заканчваецца, як правіла, ахвярапрынашэньнем выканаўцы пасьля вырананьня ролі.

## ЗДРАДА ЯК ВАРЫЯНТ „ДЭМПАЛІТЫКІ"

Уяўнае аслабленьне антыбеларускага рэжыму, і асабліва захоп прамаскоўскай агентурай улады ва Ўкраіне, выклікала актывізацыю прарасейскіх асобаў у вікаўскай апазыцыі. Фактычная роля іх нікчэмная – дызарыентаваць беларускае грамадзтва (адвесьці ад нацыянальнага змаганьня) і стварыць фон для легітымізацыі выбараў рэжыму, плюс спажываньне чужых рэсурсаў.

Нядаўна прадстаўнік гэтай групоўкі Андрэй Саньнікаў выклаў пляны свайго „прэзыдэнцтва" летувіскаму парталу DELFI. Lt. Там ён кажа шмат пра што, але толькі не пра антыбеларускую антынацыянальную палітыку рэжыму, не пра этнацыд, не пра вынішчэньне беларускай мовы, культуры, не пра забіваньне нацыі, не пра галоўныя праблемы выжываньня і існаваньня нашага народа. Гэта палітычна чужая для беларусаў публіка, пустыя іхнія разважаньні.

Цікава паглядзець зрэз электарату, які падтрымлівае Саньнікава. Гэта пастаянныя сотня-паўтары чалавек. Амаль усе яны сабраныя на сайце Хартыі-97 і выказваюць поўную падтрымку свайму прэтэндэнту. Такой махровай прамаскоўшчыны невядома яшчэ дзе і пашукаць (хіба што ў таварыша Супэрфасфатава). Пэрлы іхняе дэмакратыі і падтрымкі Саньнікава проста просяцца ў цытаты. Напрыклад: „Раиса Захаровна: Родина моя, Белоруссия! Как же я тебя ненавижу!!! И все из-за одного единственного придурка". Ці такое: „Luchs: Не купляйце беларускае!!! Покупая белорусские товары, вы работаете на руку режиму!"

Але нічога дзіўнага, рэжымная апазыцыя таксама антыбеларуская, як і рэжым, (розьніца невялікая). ***Рэжыму патрэбна такая апазыцыя для легітымізацыі яго аўтарытарнай улады (асабліва на выбарах).*** У гэтым квазі-апазыцыйным сэктары адбываюцца і чуюцца рэчы, абсалютна неверагодныя для нармальнай палітыкі і прынятых дачыненьняў. Тут усур'ёз абмяркоўваюць падтрымку Масквы для „апазыцыйнага" кандыдата на беларускіх выбарах, запабягаюць, імкнуцца яе (гэтую падтрымку) атрымаць, едуць у Маскву, просяцца і г. д. Абсурд і крымінал. (Дарэчы, з Захадам тое ж самае.) Сумленьне гэтых людцаў ужо так абтрапалася, што яны даўно не адчуваюць ні нармальнасьці, ні рэальнасьці. Здрада Беларусі разглядаецца імі як варыянт „дэмакратычнай" палітыкі.

Паспрабуем уявіць, што б было, калі б у Эстоніі ці Польшчы апазыцыя абмяркоўвала пытаньне аб грошах і палітычнай падтрымцы Масквы (ці немцаў) для польскіх (эстонскіх) кандыдатаў на выбарах? Канец такой „апазыцыі" і судовы працэс стаўся б імгненна. Там немагчымае існаваньне антынацыянальнай апазыцыі, бо там нармальная нацыянальная дзяржава і нацыянальная ўлада.

У Беларусі ўлада антынацыянальная, антыбеларуская. Адпаведна і апазыцыя, якую ўлада сфармавала пад сябе, ня ёсьць нацыянальнай, ня ўлучаная у нацыянальную палітыку, асноўныя яе „лідары" – выхадцы з сістэмы рэжыму і зь яго ўстановаў. Як стваралася гэтая „апазыцыя" пры дапамозе Ганса Віка, КГБ і брусэльскіх грошай, ўжо добра вядома і апісана.

***Нацыя мае пэрспэктыву змаганьня і разьвіцьця толькі тады, калі мае нацыянальную апазыцыю.*** У сярэдзіне 90-х беларускае грамадзтва ў гэтым сэнсе, нягледзячы на антыбеларускі рэжым, мела магчымасьць нацыянальнай будучыні, дзякуючы нацыянальнай апазыцыйнай сіле і дамінацыі БНФ. Але і Захад, і Ўсход маглі толькі тады праводзіць на Беларусі сваю палітыку, калі не існавала гэтай нацыянальнай сілы. У выніку Захад і Ўсход (праз антыбеларускі рэжым) аб'ядналі сваю дзейнасьць па ліквідацыі Фронту.

Ім не ўдалося ліквідаваць кіраўніка Фронту і сам Фронт, але было зроблена істотнае – арганізацыю распалавінілі, і палітычная дамінацыя яе была страчана. Узамен стварылі крэатуру – „дэмакратычную апазыцыю" без нацыянальнай ідэі.

## ПАРАКУЛІЦЬ РЭЖЫМ МОЖНА БАЙКОТАМ

Раскол Фронта і пераход часткі ягоных кіраўнікоў на пазыцыі „прагматызму” (варыянт „рэаль-палітык”) і касмапалітычнай дэмакратыі (а, фактычна, прарасейскай) стаўся ганебнай дэманстрацыяй палітычнай слабасьці ў шэрагах нацыянальнага руху, адсутнасьцю імунітэту на магію грошай, на ўплывы чужой палітыкі.

На сёньняшні дзень (паўтаруся ізноў) пры дамінацыі рэжымнай дэмапазыцыі – нацыянальнай пэрспэктывы ў Беларусі няма.

Акрамя нацыянальна-адраджэнскай (кансэрватыўнай) часткі Фронту што ж засталося здаровага ў нашым палітычным грамадзтве?

Застаўся наш разумны народ, нашыя добрыя (няхай сабе і запалоханыя рэжымам) беларускія людзі. Шостым пачуцьцём яны адчулі фальш і небеларускасьць вікаўскай апазыцыі і ніколі не падтрымлівалі яе, бачачы, што яна выглядае яшчэ горш за рэжым. І як толькі ні абзываюць гэтыя абстрактныя дэмакраты нашых людзей за тое, што тыя не падтрымліваюць іхных „дэмакратычных” памкненьняў: і „электаратам”, і „чаркай і шкваркай”, і „статкам”, і „халуямі”, і нават „быдлам”. Але людзі паводзяць сябе адэкватна, не падтрымліваюць прадажных. Ізноў жа, шостым пачуцьцём яны адчулі, што калі такіх пусьціць ва ўладу, можа стаць яшчэ горай. Адчулі правільна. Хвала ім.

Для нас жа, фронтаўцаў, для нашай народнай партыі (КХП – БНФ) самае важнае тое, што нашая пастаянная дзесяцігадовая праца па прапагандзе байкоту не мінула дарма. Пасіўны байкот ужо пачаўся. З 2008 года людзі перасталі хадзіць на выбары. Задачаператварыць гэты настрой людзей у актыўны байкот, працягам якога мусіць стаць патрабаваньне новых выбараў па закону – без удзелу Лукашэнкі. Гэты тэзіс трэба паставіць ужо цяпер.

Вось вам вынік, першая ўзнагарода за жмудную працу. Ад нас адабралі ўсё, загналі ў падпольле, але дзесяць гадоў сістэмнай асьветніцкай і нуднай нябачнай палітычнай працы зь людзьмі далі эфэкт (адначасна мы стварылі Народны мэмарыял Курапаты). Маятнік зрушыўся. Байкот мабілізуе людзей і даканае рэжым. Рэжым шалёна баіцца байкоту, бо тады фальсіфікацыйная машына глохне. Немагчыма тайна сфальсіфікаваць пустату (калі людзі ня прыйдуць галасаваць). Прыдзецца хлусіць яўна. А гэта ўсім відаць. Тады рэжымная хлусьня робіцца чыньнікам пратэстнай кансалідацыі людзей, бо ўсе ўбачаць, што ўзурпатар ня мае падтрымкі і лжэ.

Маніпуляцыі з законам не дапамогуць. Ліквідацыя бар’еру колькасьці прагаласаваных ня выратуе. Наадварот аблегчыць байкот. „Усенароднага прызнаньня” і „элегантнай перамогі” стварыць больш ня ўдасца. Для ўзурпатара застаецца грубая, ўсім бачная (і даказуемая) хлусьня альбо сілавы варыянт. Абодва варыянты дрэнныя для рэжыму і фатальныя асабіста для Лукашэнкі.

Галоўнай задачай ўзурпатара на выбарах будзе любым спосабам захаваць уладу. Лукашэнка дайшоў да таго, што пачаў нават публічна пагражаць народу расправай, маўляў, „в случае чего” так дасьць, што „мало не покажется” (выступ у „палатцы”). Гэта вельмі безадказная заява, бо „в случае чего”, калі ён яшчэ пральле нашу кроў і каго-небудзь заб’е, то спакойныя беларусы (а я іх добра ведаю) павесяць яго за ногі, як Мусаліні, і яму ня тое, што здасца мала, а стане дастаткова (яму і ўсёй яго камарыльлі).

У заключэньне мушу зрабіць адну асьцярожную заўвагу. Пры варыянце масавага няўдзелу ў галасаваньні і масавых патрабаваньняў (калі ўзурпацыя пачне трашчэць), вельмі важна вылучыць тады беларускую альтэрнатыву. Калі такога не адбудзецца і альтэрнатыва будзе ніякай альбо чужой, тады перамены могуць стацца горшыя, чым рэальнасьць, і хутка прывядуць (могуць прывесьці) да страты эканамічнага (а потым і палітычнага) суверэнітэту дзяржавы (нельга забывацца пра агрэсіўны чыньнік гэбісцкай Расеі). У тым часе можа ўзьнікнуць выбар: пакінуць слабы беспэрспэктыўны рэжым і захаваць грамадзкі патэнцыял уздыму супраць рэжыму, каб гарантавана вырашыць праблему ўлады іншым чынам і з другога заходу (бо рэжым ўжо будзе асуджаны).

Слабейшы варыянт. Калі байкот і сытуацыя будуць пасыўнамі (гэтага нельга выключаць), то застанецца аслаблены, нелегітымны ў сьведамасьці людзей, падвешаны рэжым. Гэта лепш чым „элегантная перамога” і выбары з масавым галасаваньнем.

Сілавыя варыянты зьмены ўлады мы не разгдядаем. Але магчымасьць якой-небудзь непрадуманай авантуры ці правакацыі я не выключаю. Гэтыя варыянты шкодныя і небясьпечныя найперш ў тым сэнсе, што могуць прывесьці да ўмяшаньня чужога войска, што выкліча альбо акупацыю, альбо вайну. Нельга дапусьціць, каб народ плаціў неверагодна высокую цану за аднаго узурпатара.

Падкрэсьліваю тое, пра што кажу ўвесь час. На выбарах галасаваньнем перамагчы дыктатуру ў прынцыпе немагчыма. Улада, сродкі інфармацыі, падлік галасоў (фальсіфікацыйная машына) – усё ў руках дыктатара. Кантралюемая апазыцыя, якая ўдзельнічае ў выбарах, і масавае галасаваньне служаць пры дыктатуры для легітымізацыі рэжыму. Перамагчы можна байкотам (пазбавіўшы фальсіфікацыйную сістэму фактуры для маніпуляцыі). Але гэта ёсьць ўжо не імітацыя палітыкі, а сапраўдная народная палітычная барацьба. І кожны мусіць памятаць, што узурпатар ня мае ніякага юрыдычнага права удзельнічаць у выбарах, балатавацца чацьверты раз.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*21-23 траўня 2010 г.*

*Надрукавана: („Беларус”, – 2010, чэрвень, № 569)*



***139. Міліцыя рэжыму – самая масавая група ў час дэманстрацыяў людзей***

# УСТАНОЎКА ДЭКАРАЦЫЯЎ

***(Выступ на чэрвеньскім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

У жніўні 2005 года, перад прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі (2006 г.) і антызаконным трэцім тэрмінам А. Лукашэнкі, Масква стварыла вядомы плян падтрымкі рэжыму (плян Паўлоўскага) з удзелам падстаўных так званых „двух апазыцыйных лідэраў". Плян быў выкананы дакладна. Наша спроба перакуліць яго канцэпцыяй *Народнага галасаваньня* была спаткана адкрытым ужываньнем сілы і афіцыйнымі ўльтыматумамі. Усё гэта пацьвердзіла, што пры існуючай дыктатуры любая форма выбарчай барацьбы шляхам удзелу ў выбарах, практычна, немагчымая.

Адзначым істотны момант у крамлёўска-лубянскай тактыцы тайнага ўдзелу ў беларускіх выбарах, пачынаючы з 1994 года. Робіцца стаўка на генэральную фігуру і адначасна ствараецца яму свая ж альтэрнатыва. Абодва кандыдаты-прэтэндэнты павінны быць (абавязкова!) залежнымі ад спэцслужбаў.

У 1994 годзе стаўка была зроблена на Кебіча (прэм'ер-міністар ураду і афіцэр КГБ з правам нашэньня мундзіру). Адначасна яму ствараецца свая альтэрнатыва (А. Лукашэнка), якая павінна была дзейнічаць на пратэстным полі кандыдата БНФ. Такім чынам барацьба супраць кандыдата БНФ вялася з двух бакоў (што пацьвердзіў потым Кебіч у сваіх успамінах).

Перавага крамлёўскай альтэрнатывы дазволіла Маскве скарэктаваць тактыку, адмовіцца ад Кебіча і канчаткова паставіць на Лукашэнку. Дададзім, што пасьля 1-га туру з нашага боку Кебічу быў прапанаваны шанц не пусьціць Лукашэнку, але ён, параіўшыся „зь кім трэба", адмовіўся ад яго.

Аналягічная парадыгма дзейнічала і на выбарах 2001 года. „Альтэрнатыве" (былому члену бюро ЦК КПБ-КПСС Уладзімеру Ганчарыку) Масква абяцала поўную падтрымку. Але потым спыніла яе, бо сытуацыя „элегантнай перамогі" патрабавала толькі прысутнасьці фармальнага статыста (што Ганчарык і адрабіў).

Схема 2006 года прайшла па прынцыпу імітацыі „сапраўднай альтэрнатывы", хоць сэнс і вынік яе быў зразумелы адразу. Нечаканасьцяў не павінна было стацца, бо альтэрнатыва „двух лідэраў" была падабраная адпаведна абавязковых крамлёўска-лубянскіх патрабаваньняў.

Асаблівая шкоднасьць гэтага пляна і ганебная роля „абодвух лідараў" выявілася ў тым, што вялікая колькасьць беларусаў шчыра паверыла ім і гатовая была змагацца, нават ісьці на ахвяры. У выніку згодніцкай дзкйнасьці „лідараў" і спусканьня пратэсту на тармазах, у людзей зьявілася вялікае расчараваньне і нявера ў барацьбу.

Па якой схеме рэжым будзе рыхтаваць выбары 2011 года і як стане на іх уплываць Масква – можна прадбачыць. Па адпрацаванай схеме. Гэта значыць абавязкова будзе імкнуцца сфармаваць тут сваю альтэрнатыву з асобы, залежнай ад КГБ-ФСБ (іншае выключаецца). Якую ролю будзе адыгрываць альтэрнатыва – пасыўную, актыўную ці рэальную – усё будзе залежыць ад пастаўленай задачы. Тактычная (але неабавязковая) ўмова – лубянская альтэрнатыва мусіць быць падтрымана існуючай падстаўной апазыцыяй і ісьці пад яе шыльдай. Гэтае пытаньне (пры неабходнасьці) Масква вырашае адным прыёмам – грашыма.

Пастаўленую задачу Крэмль цяпер голасна паўтарае – ён, маўляў, падтрымлівае Лукашэнку. Нягледзячы, што адносіны ў іх сапсаваныя, – сцьвярджэньне адпавядае сапраўднасьці. Але на гэтым маскоўская палітыка не замыкаецца. Пра тое можна меркаваць па каласальнай суме грошай, якія ўкідваюцца ў прамаскоўскую падрыхтоўчую акцыю на Беларусі пад назовам „Говори правду".

Зьвяртае на сябе ўвагу хуткасьць, зь якой былі „арганізаваныя" структуры „Говори правду" па Беларусі (офісы, людзі і г. д.), а таксама мэтады дзейнасьці, у корані не характэрныя для грамадзкай арганізацыі. За кароткі час былі падкупленыя журналісты мясцовых і раённых газэтаў з пастаўленай задачай даваць інфармацыю пра „Говори правду" (прытым ня важна якую, станоўчую ці адмоўную). Такія дзеяньні такога размаху ў таямніцы не існуюць. Месячная даўка журналісту – 200 даляраў, плюс 400 уступных (за прадажнасьць).

У Беларусі 120 раёнаў. Тэхналягічна, каб навязаць кантакты з журналістамі па ўсёй краіне і ажыцьцявіць хабарніцкую акцыю, патрэбна было б вельмі шмат часу, наяўнасьць шчыльных разгалінаваных структураў па ўсёй Беларусі і наяўнасьць людзей, здольных на крымінал, якія не баяліся б „адказнасьйці". Тут жа – усё адбылося хуценька, на працягу некалькіх тыдняў. Пытаньне амаль рытарычнае: якія людзі і якія структуры былі ў гэтым задзейнічаны?

Мэтады дзейнасьці і каласальная першая сума, адпушчаная на гэтую справу, дазваляе прадбачыць яе ў разьвіцьці. Бо калі здолелі падкупляць журналістаў, то здолеюць папрацаваць у гэтым стылі і ў выбарчых камісіях. Тым больш, што расейскі крымінальны вопыт пад бокам.

Выглядае, што ***„траянскі конь" „Говори правду" – ініцыятыва з двайным прыкрыцьцём: прыкрыцьцё выбарчай структуры і прыкрыцьцё прамаскоўскай палітыкі. Акрамя ўсяго – гэта русіфікацыйная кампанія.***

Невыпадкова, што „Говори правду" абапіраецца на прамаскоўскую партыю АГП (Лябедзька) і камуністаў (Калякін). Тым часам у самой АГП у сувязі з гэтым выявіліся цікавыя нюансы. Зьявіўся невядомы раней чалавек Андрэй Дзімітрыеў, які адразу пачаў адыгрываць ключавую ролю і ў АГП, і ў „Говори правду". У „Говори правду" ён зьвязаны з фінансамі, у АГП стаў кіраваць справай міжнародных дачыненьняў і дамогся выстаўленьня Яраслава Раманчука на кандыдата ў прэзыдэнты ад партыі.

Зьява з такімі дзеячамі, якія ўзьнікаюць нямаведама адкуль, увогуле стандартная, тым больш, што вылучэнец Я. Раманчук цалкам адпавядае схеме і патрабаваньням крамлёўска-лубянскай альтэрнатывы.

Крэмль выкарыстоўвае выбары і стараецца загнаць свайго васала і „саюзьніка" Лукашэнку ў кут, каб забраць нашу эканоміку і народную маёмасьць. (Ратуючы сваю ўладу і скуру, Лукашэнка ўсё аддасьць.) Маскоўцам патрэбны такі кіраўнік улады ў Беларусі, якога яны будуць трымаць за горла. Але на гэты раз магчымасьць зьмены дэкарацыяў Масква разглядае больш сур'ёзна, улічваючы працэс страты падтрымкі рэжыму ў беларускім грамадзтве. (Сытуацыя крыху падобная, як з Кебічам у 1994 г.) Абодва варыянты (стандартны і альтэрнатыўны) выгадныя Маскве. Цяпер становішча набліжаецца да той мяжы, калі зьмяняюцца прыярытэты, і перавага можа хіснуцца ў бок перамены дэкарацыяў. Невыпадкова агентура ўжо пачала казаць „абы не Лукашэнка" (успомнім ранейшае: „абы ня Кебіч").

Для таго, каб у выпадку становішча „ІКС” ня даць магчымасьці Маскве рэалізаваць сваю „перамогу” над сваім рэжымам і зьмяніць стаўленьніка на іншага (гэтак сама як для таго, каб не дазволіць рэжыму легітымізавацца і зрабіць „элегантную перамогу”), ***патрэбна адзінае дзеяньне беларусаў – байкот.*** Гэта значыць ня даць магчымасьці выкарыстаць беларусаў ні рэжыму, ні падстаўной апазыцыі разам са стаўленьнікамі. Ініцыятыва ў гэтым выпадку будзе пераходзіць у рукі беларускіх людзей. Прадугледжваецца новая якасьць барацьбы, якая вылучыць беларускую альтэрнатыву ўсяму гэтаму рэжымна-маскоўскаму і „апазыцыйнаму” маразму, які яны разам стварылі на Беларусі.

Мы павінны ўлічваць, што наша ***народная партыя Беларускі Народны Фронт (КХП-БНФ) – адзіная, якая рэальна выяўляе зараз інтарэсы і настрой грамадзтва.*** Дзесяць гадоў асьветніцкай працы не прапалі дарма. Галоўная наша праца цяпер – арганізацыя і прапаганда байкоту. Людзі самы прышлі да такой высновы і ўспрынялі добрыя ідэі, як свае.

Сьцягам і арганізацыйнай формай нашых дзеяньняў павінна быць ініцыятыва ***„Беларуская Салідарнасьць”***.

Гэбізм ёсьць нябачаная раней сістэма ўлады і ўціску грамадзтва. Шмат хто не разумее гэтага і не арыентуецца ў абставінах, альбо, зразумеўшы, кідаецца ў роспач, ня ведаючы, як з тым гэбізмам змагацца. Мы, аднак, ужо шмат што ўбачылі, і галоўнае ёсьць апора, на якую трэба абапірацца. Гэта – наш народ.

*13 чэрвеня 2010 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ТРЭБА ПАЗЬБЕГНУЦЬ РАСЕЙСКАЙ ЯМЫ – БЫЛА Б НА ГЭТА ТОЛЬКІ НАША ВОЛЯ

Дзейнасьць авантурыста ў чарговы раз паставіла Беларусь на край магільнай ямы. З самага пачатку захопу ўлады ён зрабіў прадметам палітыкі гандаль нацыянальнымі інтарэсамі і суверэнітэтам у дачыненьнях з Расеяй. Пры гэтым ён думаў выгадна прадаць суверэнітэт і адначасна захаваць уладу над дзяржавай, што, у прынцыпе, немагчыма ўвогуле, тым больш – у адносінах з агрэсіўнай імпэрскай Расеяй. Тут ілюзія, думаньне цёмных, неадукаваных людзей.

„Магільная яма” – гэта так званы „мытны зьвяз” Беларусі, Расеі і Казахстана, – эканамічная пастка, падрыхтаваная гэбоўскай Расеяй для задушэньня Беларусі, бо эканамічнай патрэбы ў гэтакім зьвязе няма.

Аднак лягічным стваральнікам пасткі ёсьць сам узурпатар улады ў Беларусі, які адмовіўся ад нацыянальных інтарэсаў і ламаючы законы ды права, загнаў амаль увесь гандаль краіны ў Расею, а эканоміку прывязаў да расейскага спажыўца. Гэта злачынства. Ён зрабіў цэлую нацыю закладнікам імпэрскай Масквы, якая стала шантажаваць Беларусь, цынічна патрабуючы забраць нашу тэрыторыю і эканоміку – без вайны, – маніпулюючы залежнасьцю ад расейскіх энэргарэсурсаў (пуцінскае патрабаваньне далучыць шэсьць вобласьцяў Беларусі да Расеі; 2002-2003 гг.).

Але нават пасьля гэтага (пры маўчаньні грамадзтва) узурпатар працягваў гуляцца з Расеяй у „інтэграцыю” і „двухбаковыя адносіны”, ня робячы ніякіх высноваў.

Высновы зрабіў Крэмль. Замест „мытнага саюзу двух” (заключанага паміж Расеяй і Лукашэнкам) падрыхтавалі плян „эканамічнай прасторы” і „мытнага саюзу” траіх. З гэтых траіх – два суб’екты ёсьць рэсурсныя краіны, эканоміка якіх пабудавана на прадажы энэргарэсурсаў (у асноўным, нафты і газу). Беларусь жа – вытворчая краіна, эканоміка яе сфармаваная на вытворчасьці тавараў, ад прадажы якіх яна купляе энэргарэсурсы. Для краіны з эканомікай такога тыпу, як у Беларусі, вельмі важным ёсьць замежны рынак і „дыверсіфікацыя” рынку, а таксама дыверсіфікацыя набыцьця энэргарэсурсаў.

Эканоміка такога кшталту больш перадавая і мабільная, яна хутчэй разьвіваецца і аднаўляецца, забясьпечвае больш высокі тэхналягічны і спажывецкі ўзровень грамадзтва. (Тут я разглядаю структурны прынцып, але ня тое як выкарыстоўвае яго антыбеларускі рэжым.)

Усё гэта мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, улічылі яшчэ ў 90-х, плянуючы разьвіцьцё нашай незалежнай дзяржавы.

Праз 8-10 гадоў рэформаў і адпаведнага нацыянальнага разьвіцьця на той вытворчай базе, якая была ў 90-м, Беларусь стала б магутным эканамічным драконам у цэнтры Эўропы.

Да такіх жа высноваў у пачатку 90-х гадоў прыйшлі расейскія эканамічныя аналітыкі, згуртаваныя вакол Ягора Гайдара (на той час – прэм’ер-міністра Расеі). Палітычныя і эканамічныя высновы супраць Беларусі (гэтай „небясьпекі для Расеі”) былі зробленыя вельмі жорсткія. Паводле расейцаў, дракон не павінен быў зьявіцца. Дзеяньні Масквы ў той час вядомыя. Ня буду іх пераказваць. Зазначу толькі, што менавіта ў рэчышчы гэтай антыбеларускай палітыкі Крамля быў адшуканы і падтрыманы Лукашэнка. Стаўшы прэзыдэнтам, ён зрабіў усё, што Масква хацела, але Крэмль так і не захапіў Беларусь, бо, нечакана для сябе, напароўся на паталягічную прагу свайго стаўленьніка – прагу да аўтарытарнай улады.

Амаль 16 гадоў нашае грамадзтва назірае яго амбівалентныя (у простамоўі – параноймныя) пэрформэнсы з Масквой, дзе маскоўская палітыка ў дачыненьні да Беларусі называецца няшчырай, захопніцкай, „імпэрскай” і адначасна працягваецца ўнутраная прамаскоўская палітыка вынішчэньня ўсяго беларускага.

Для нэўтралізацыі амбівалентнага ўзурпатара і рэальнага забраньня беларускай эканомікі Масква і заключыла (фактычна) палітычны саюз з Назарбаевым. Цяпер двух стануць душыць аднаго, дзе беларусы будуць зноў назіраць спэктакль у якасьці закладнікаў (пакуль іх усіх не здадуць у маскоўскае рабства).

Па прыродзе сваёй эканомікі Беларусь у прынцыпе ня можа ўдзельнічаць у такім „мытным саюзе”. Гэта магіла, падрыхтаваная спэцыяльна для яе Расеяй, каб фармальна абгрунтаваць і апраўдаць свае агрэсіўныя дзеяньні. Дакладней, гэта ёсьць эканамічная агрэсія ў прыдуманай форме, дзеля разбурэньня эканомікі суседняй дзяржавы.

Перш за ўсё, гэта выяўляецца ў тым, што дзьве краіны, экспарцёры нафты, устанаўліваюць высокія пошліны на нафту трэцяй краіне „мытнага зьвязу” – Беларусі, якая зьяўляецца спажыўцом нафты. Гэтыя пошліны двух нафтавых манапалістаў непад’ёмныя цяпер для эканомікі Беларусі. Калі ж Беларусь ня ўступіць у мытную магію, яна захавае пэрспэктывы сваёй эканомікі і суверэнітэт, але тады „мытны зьвяз” увядзе высокія пошліны на ўсе тавары, якія Беларусь пастаўляе ў Расею (паўтараю, да якой Лукашэнка прывязаў нашу краіну). Гэта будзе зроблена адразу і стане сьмяртэльным ударам па беларускай эканоміцы.

Вось куды завёў нашу краіну ўзурпатар Лукашэнка украўшы ўладу ў беларусаў і ідучы па калідоры, які яму адчынілі загоншчыкі з Крамля.

З боку Масквы – гэта разбой, грубае парушэньне пункту 3-га ***Мэмарандума аб гарантыях бясьпекі для Беларусі*** у замен за адмаўленьне нашай краіны ад ядзернай зброі. Нагадаю, ***Мэмарандум*** падпісаны Беларусяй, ЗША, Вялікабрытаніяй і Расеяй 5-6 сьнежня 1994 года ў Будапэшце на 52-м Саміце канфэрэнцыі АБСЭ. Пункт 3-ці напісаны так: „ЗША, РФ і Злучанае Каралеўства пацьвярджаюць іхнія абавязацельствы да Рэспублікі Беларусь у адпаведнасьці з Прынцыпамі Заключнага Акту АБСЭ не прыбягаць да эканамічнага ціску з мэтай падпарадкаваць сваім інтарэсам выкарыстаньне Рэспублікай Беларусь яе правоў, неад’емных ад яе суверэнітэту, а таксама не забясьпечваць сабе перавагі якога-кольвічы кшталту”. Прытым, згодна Мэмарандуму, краіны-падпісанты ўзялі на сябе абавязацельствы быць гарантамі бясьпекі незалежнасьці Беларусі.

Масква ўжо ня раз груба парушала прынятыя пагадненьні. Зноў настае час, каб нашая беларуская грамадзкасьць і палітыкі зьвярнуліся да краінаў-падпісантаў аб агрэсіўных эканамічных дзеяньнях Расеі супраць Беларусі і аб разглядзе гэтых дзеяньняў на канфэрэнцыі АБСЭ.

Вядома, гэтыя пытаньні неадрыўна зьвязаныя зь незаконным утрыманьнем улады ўзурпатарам Лукашэнкам. Але да рэальнага вырашэньня пытаньня з уладай важна прыпыніць чарговую маскоўскую эканамічную агрэсію супраць Беларусі.

У інтарэсах беларускай нацыі і дзяржавы трэба, каб Беларусь не ўступіла ў крамлёўскі „мытны зьвяз”. На жаль, ганебны стан нашага грамадзтва ў тым, што ўсё лёсавызначальнае залежыць ад адной малаадукаванай асобы. Яе прысутнасьць у беларускай палітыцы стала фатальна небясьпечнай для беларускай нацыі.

Каб супроцьдзейнічаць эканамічнай агрэсіяй Расеі патрэбная нармальная беларуская ўлада, якая стане грунтавацца на інтарэсах беларускай нацыі і дзяржавы. Неабходны хуткі разварот да свайго народа, трэба даць яму рэформы, правы, спрыяльныя законы, свабоду эканамічнай і працоўнай дзейнасьці. Сіла ў нас самых, у нашым грамадзтве.

Неабходна хутка прыступаць да дыверсіфікацыі паставак энэргарэсурсаў. Тут ёсьць магчымасьці.

Трэба вызваліць навуку, аднавіць у навуцы разбуранае тупым рэжымам (які фінансаваў пабудову „пэрпэтуум мобіле”), памятаючы, што навука (асабліва фундамэнтальная) ёсьць цяпер галоўная вытворчая сіла.

Трэба хутка і разумна вырашыць пытаньне з уласнасьцю і выкарыстаньнем зямлі, аднавіць сялянства, даючы людзям уласнасьць, свабоду працы і гандлю, магчымасьць і права вольна карыстацца з вынікаў працы.

Страчана шмат за гэты час, але ня страчана галоўнае – дзяржава і людзі. Мы яшчэ ўсё можам паправіць і адрадзіць, была б толькі на гэта наша воля.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*3 ліпеня 2010 г.*

*Надрукавана: („Беларус”, – 2010, жнівень, № 571)*
*Адчынена: (Сеціва БНФ + http://www.naviny.by/rubrics/opinion/2010/07/05/ic_articles_410_168477/ )*

# „ПРЫМУШЭНЬНЕ ДА ЗДАЧЫ СУВЕРЭНІТЭТУ” – НОВАЯ ПАЛІТЫКА РУСКАГА ГЭБІЗМУ

***(Выступ на ліпеньскім Сойме БНФ „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

Мы перажываем пэрыяд гісторыі, калі ў суседняй агрэсіўнай краіне ўстаноўлена поўная і абсалютная ўлада КГБ – рэпрэсіўнай спэцслужбы Савецкага Саюза, якая фігуруе цяпер пад назвай ФСБ. Але гэта адна і тая ж зьява, адна і тая ж структура. Трымаючы абсалютную ўладу ў Расеі, КГБ-ФСБ праз шматлікую агентуру кантралюе ўсё грамадзтва і выступае ў ролі напоўтаемнай палітычнай супэрпартыі, якая мае свае кадры і офісы ва ўсіх вугалках Расеі, фінансуецца з бюджэту і знаходзіцца пад аховай карпаратыўнай улады. Гэта ёсьць дзяржаўная структура, палітычная ўлада і ўладная партыя адначасова, якая (гэта істотна!) імкнецца ўплываць на міжнародны парадак і палітычныя працэсы ў сьвеце.

Сацыяльна-палітычную сістэму, якая ўтварылася ў Расеі пад уладай ФСБ-КГБ, мы называем „гэбізмам” (альбо „чэкізмам”, як абазначаюць яе самы расейцы). Гэбізм сваімі карэньнямі прарастае з расейскай эўра-азіяцкай мэнтальнасьці і заглыблены ў гісторыю Расеі, пачынаючы ад Залатой Арды. Тым ня менш у сучаснай палітыцы гэбізм – зьява новая і, як ня дзіўна, грамадзтвам яшчэ агулам не ўсьвядомленая і, практычна, цалкам незразумелая на Захадзе.

***Сацыяльная сутнасьць рускага гэбізму – улада карпарацыі, узбагачэньне любым спосабам за кошт улады. Ідэалёгія – імпэрыялізм. Сістэма ўлады – кантроль над грамадзтвам.*** Гэбізм адмовіўся ад канцэнтрацыйных лягераў, прыдуманых яшчэ Леніным, і ўсклаў рэпрэсіўныя функцыі на спэцаддзелы Гэбэ ды на крымінальны сьвет. Шчыльны кантроль над крымінальнікамі, выкарыстаньне іх у палітычных рэпрэсіях (кілеры, правакацыі, імітацыі і т. п.) прывяло да зрастаньня ўлады з крымінальным сьветам.

Уплыў велізарнага крымінальнага капіталу на рускія інстытуты ўлады становяцца цяпер відавочным фактам. У гэбісцкай Расеі ўсё стала пераварочвацца з ног на галаву.

Рэчаіснасьць паказвае, што не міліцыя і КГБ-ФСБ кантралююць крымінал, а наадварот, крымінал, галоўным чынам, уплывае на КГБ-ФСБ і іншыя ахоўныя інстытуты ўлады ў Расеі. Месцамі расейская міліцыяператварылася ўжо ў надзеленыя ўладай крымінальныя банды, якія тэрарызуюць насельніцтва. Супраць міліцэйскага крыміналу зафіксаваныя нават узброеныя партызанскія выступы расейскіх людзей.

Суд і пракуратура (асабліва ў правінцыйнай Расеі) знаходзяцца шмат дзе пад кантролем крыміналу і крымінальнага капіталу і сталі прыладай крымінальных дзеяньняў. Гэта ёсьць ня толькі тэндэнцыя, але рэчаіснасьць, якая пашыраецца. Рускі гэбізм дрэйфуе ў накірунку закончанай мафійнай дзяржавы лацінаамэрыканскага ўзору. (Людзям, якія жывуць у такой краіне, не пазайздросьціш.) Адначасна імпэрская ідэалёгія ўлады і імпэрская структура краіны спрыяюць у гэтых умовах (пагаршэньня жыцьця людзей) фашызацыі ўлады і грамадзянскай супольнасьці.

Расейскі гэбізм існуе ў карпаратыўным выглядзе. Тым часам гэбісцкая ўлада ў Беларусі была ўстаноўлена на шэсьць гадоў раней і існуе ў аўтарытарным выглядзе, дзе аўтарытарызм верхняй асобы фармальна выступае абмежавальным чыньнікам уладных структур, але на справе зьяўляецца квінтэсэнцыяй гэтага роду ўлады, сканцэнтраванай у адных руках.

Прарыў рускага гэбізму ў Беларусі адбыўся ў 1994 годзе па тыповай схеме ўнутранай акупацыі (захоп улады ў краіне знутры пры выкарыстаньні спэцслужбаў іншай краіны і дэмакратычных працэдур). Палітыка ўнутранай акупацыі, якая стала праводзіцца на Беларусі прамаскоўскім рэжымам, накіраваная на нацыянальна-культурнае разбурэньне краіны, на зьнішчэньне асноваў нацыянальнай сьведамасьці і нацыянальнага духа і на падрыхтоўку такім чынам да здачы пад Расею беларускай эканомікі, маёмасьці і тэрыторыі. ***Грамадзтва, пазбаўленае нацыянальнага духа, нацыянальных карэньняў культуры і нацыянальнай сьведамасьці, няздольнае абараняць свае нацыянальныя інтарэсы, захаваць дзяржаву і супраціўляцца любой форме агрэсіі.***

Дзяржава гэбізму, усе яе уладныя і грамадзкія структуры прасякнутыя агентурай спэцслужбаў. У гэтым выяўляецца спосаб існаваньня такой дзяржаўна-палітычнай сістэмы. Інакш яна існаваць ня можа. Агентура ўвесь час пашыраецца, і сам працэс пашырэньня імкнецца да абсурду, да стварэньня паралельных агентурных пластоў у сытуацыі поўнай беспакаранасьці і беззаконьня.

Людзі, якія займаюцца ў Беларусі рэальнай беларускай палітыкай, добра бачаць схему і прынцып існаваньня такой сістэмы ўлады. Яны шукаюць адпаведныя мэтады змаганьня з гэбізмам. Грамадзтва, на жаль, падвержана інэрцыі думаньня і ўплыву прапаганды і ў масе сваёй цяжка разумее новыя палітычныя абставіны, у якіх яно апынулася. Яно мяркуе аб зьявах на падставе састарэлых стэрэатыпаў. Распаўсюджаныя неадэкватныя ацэнкі і высновы. Пашырэньню неадэкватных ацэнак і камуфляваньню гэбісцкай сутнасьці ўлады спрыяе афіцыйная прапаганда і агентура (у журналістыцы, у грамадзка-палітычных структурах і г.д.). Гэбізм, які выйшаў на паверхню ўлады, тым ня менш імкнецца захаваць сваю таемнасьць як палітычнай сілы рэжыму.

Перашкодай, на якую напаролася Масква, паставіўшы на Лукашэнку ў сваёй палітыцы захопу Беларусі, аказалася паранойная, усепаглынаючая цяга Лукашэнкі да аўтарытарнай улады. Ён зразумеў (да яго дайшло), што здача дзяржавы стане канцом ягонага кіраваньня.

У 2005 годзе Масква зьмяніла тактыку. Сутнасьць новай крамлёўскай палітыкі можна акрэсьліць як „прымушэньне да здачы Беларусі пад Расею”. Масква рашыла выкарыстаць паталёгію ўзурпатара да аўтарытарнай улады і паставіць яго пад пагрозу страты гэтай улады, каб, ратуючыся, ён здаваў Маскве беларускую маёмасьць, эканоміку, заводы, прыярытэты, зямлю і г.д., пакуль усё не пяройдзе ў лапы мафіёзнай Масквы і пакуль ад беларускага сувэрэнітэту нічога не застанецца. Масква пачала газавыя, нафтавыя, малочныя, цукровыя, мясныя і т.п. войны з рэжымам, стала выстаўляць прэтэнзіі на беларускія заводы і газаправоды, павышаць цэны на нафту ды газ і г.д., словам, пачала палітыку заганяньня ўзурпатара ў кут, хапаньня яго за горла (з наступным патрабаваньнем тыпу „кашалёк альбо жыцьцё”, то бок – улада).

Гэткім чынам была падрыхтавана для яго „мытная пастка”, аб чым я пісаў у нядаўнім артыкуле.

Тут разбой без правілаў. Але такія ў іх норавы. Прэлюдыяй да заганяньня ў „пастку” паслужыла чарговая газавая вайна, якую Масква распачала штучна, як кажуць, „на роўным месцы”. Масква шантажавала ўзурпатара груба і цынічна. Нават пракруцілі па расейскім тэлебачаньні НТВ даўно падрыхтаваны фільм з паказам ягонай, узурпатара, жорсткасьці, неадукаванасьці і хлусьні (намякаючы на матэрыяльную непадтрымку ў выбарах).

Вынік быў дасягнуты. Узурпатар падпісаў статут і ўсе ўмовы „грабавога” для Беларусі „мытнага саюзу” з Расеяй і Казахстанам. Расейцы зрабілі, аднак, яму пэўную палёгку (да 2011 года) з пошлінамі на нафту і заплянавалі іншыя часовыя саступкі.

Я кажу „заплянавалі”, бо з таго часу, як Масква схапіла ўзурпатара за горла, ён стаўся для яе залатой курыцай, што пачне несьці залатыя яйкі. Душачы яго, яна рупіцца, каб ён застаўся пры ўладзе ў Беларусі. Гэтакі ён Крамлю вельмі патрэбны. Гэта кліент, якога „захамуталі”. Засталося толькі гнаць яго пугай перад сабой, пакуль усё ні аддасьць. І толькі тады, калі ўсё аддасьць, яму канчаткова дадуць каленам пад адно месца (маўляў, гэтаму „апошняму дыктатару ў Эўропе”) на радасьць новым беларускім дэмакратычным рабам.

Пры гэтым Масква пачала адкрыта зьвяртацца да масавых інстынктаў і да масавага няведаньня закулісься крамлёўскай палітыкі, сцьвярджаючы, што яна фінансуе лукашысцкі рэжым, што дала яму за ўвесь час 50 мільярдаў даляраў і што больш фінансаваць яго ня хоча, хай плаціць, маўляў, за нафту і газ па высокіх цэнах; прытым ствараe ўражаньне, што яна бескарысна давала яму мільярды (от так сабе, ад „дабрыні”), а ён, няўдзячны, спажывае іхныя грошы, ды яшчэ й „вякае”.

Людзі, якія цікавяцца палітыкай, павінны, аднак, ведаць, што ў дрэннай палітыцы (назавём гэта так) прынята купляць „неабходныя паводзіны” палітычных лідэраў, урадаў і, адпаведна, цэлых дзяржаў. На гэтым некалі добра набіў руку Савецкі Саюз, рухаючы камунізм ва ўсім сьвеце. Злучаныя Штаты, напрыклад, распачынаючы ў 2001 годзе вайну ў Аўганістане, купілі разрыў дыпляматычных адносінаў Пакістана з Талібанам і спрыяньне прэзыдэнта Мушарафа за 40 мільярдаў даляраў (скасаваўшы дзяржаўны доўг Пакістану). Тут – шырокая шкала паводзінаў, ад прагматызму да міжнароднай карупцыі і нацыянальнай здрады (якая аплочваецца).

Дачыненьні Лукашэнкі з Крамлём укладваюцца ў схему нацыянальнай здрады, якая дорага каштуе ў палітычнам злачынным сьвеце. Ведаючы гэта, Лукашэнка абураецца, што прадзешавіў. Масква тым часам, прывыклая хапаць задарма, лямантуе, што пераплаціла. Прытым крык быў узьняты Масквой пасьля таго,

калі ўзурпатар выканаў усе істотныя ўмовы нацыянальнай здрады – перавёў беларускую вытворчасьць і энэргетыку на расейскі газ, пераарыентаваў усё спажываньне энэргарэсурсаў на расейскія крыніцы дастаўкі, пераарыентаваў усю вытворчасьць беларускіх тавараў на расейскі рынак і расейскага спажыўца (вытворчасьць мяса, напрыклад, амаль на сто адсоткаў) і самае галоўнае – падарваў асновы існаваньня і разьвіцьця беларускага нацыянальнага духу (разбурэньне нацыянальнай школы, асьветы, адукацыі, навукі, культуры, кнігавыдавецтва і друку, забарона нацыянальнай сымволікі, вынішчэньне беларускай мовы і грамадзянскай супольнасьці). Палітыка этнацыду працягваецца.

Так што „не задарам" Масква заплаціла свае нікчэмныя мільярды Лукашэнку, а за яго антыбеларускую і прамаскоўскую палітыку, за нацыянальную здраду. Масква ведала, што рабіла, за што плаціла і чаму нелегетымны рэжым прызнавала. (Дарэчы, калі палічыць ўсё ў таварным, эканамічным эквіваленце, то, аказваецца, што нічога Расея і не пераплаціла ўзурпатару, нават сама засталася пры выгадзе. Падтрымка яго дзеля расейскіх палітычных інтарэсаў была відавочнай. „Ён, вядома сукін сын, – пісалі расейскія цынікі („Коммерсант"), – але наш сукін сын".) Цяпер Крэмль вырашыў сваёй „давальнай" палітыкай скарыстацца, так бы мовячы, вярнуць свой капітал і забраць усё астатняе (беларускае).

Расейская агентура (і розныя адукаваныя прафаны, якіх заўсёды хапае) зараз пачалі распускаць чуткі, што „усё", фініш – Масква, быццам бы, кінула свайго сатрапа і больш ня будзе яго падтрымліваць; канец ягонаму „прэзыдэнцтву".

Маштаб загону, „дзічыны" канешне, ўражвае. Але гэта не „канец", а толькі працяг шантажовага ціску на ўзурпатара. Будуць яшчэ крытычныя фільмы, артыкулы, пагрозы, „разьвенчваньні", каб баяўся і здаваўся, згаджаўся на расейскі рубель для Беларусі, на „адзіную" эканамічную прастору з Расеяй, на продаж за бясцэнь беларускіх прадпрыемстваў і г.д. Масква ня выпусьціць цяпер свайго зашворанага кліента, будзе яго палохаць і старацца зноў пасадзіць на царства ў Беларусі. (Прынамсі пакуль што. Але Беларусь – ня царства.)

Калі я кажу пра небясьпеку ягонага існаваньня ва ўладзе для ўсіх нашых нацыянальных інтарэсаў, для ўсёй Беларусі, то цяпер гэтая небясьпека дасягнула прынцыповага значэньня. ***Трагедыя нашай краіны ў тым, што яе лёсам і лёсам усяго грамадзтва распараджаецца адзін недалёкі, некантралюемы, малаадукаваны і антыкультурны чалавек.*** Такога нельга цярпець, бо паталягічны працэс здачы краіны ўзамен за ўладу ўзурпатара пачынае набываць новыя рэальныя і пагрозьлівыя формы.

Істотны і галоўны аргумант для беларусаў у тым, што рэжым нелегітымны і незаконны. Лукашэнка ёсьць захопнікам, узурпатарам улады, ягонае „прэзыдэнцтва" нелегітымнае і незаконнае, непрызнанае бальшынёй беларусаў і міжнароднай супольнасьцю. ***Заключаючы пагадненьні з такой асобай, маскоўцы павінны ведаць, што яны робяць зьдзелку са злодзеем. Беларусы не прызнаюць такіх зьдзелак.***

Але пакуль узурпатар застаецца на пасадзе, Масква будзе нішчыць нашу краіну. ***Лукашэнка ня мае права і не павінен удзельнічаць у выбарах.*** Пра гэта намі афіцыйна заяўлена. ***Ягоны ўдзел у выбарчым працэсе аўтаматычна павінен выклікаць байкот выбараў з боку выбаршчыкаў, бо такія выбары незаконныя.***

Змагаючыся з цемрай прамаскоўскага рэжыму, аб'яўляючы байкот яго фальшывым выбарам, мы, беларусы, павінны сьведчыць, што мы хочам мець беларускую ўладу, такую ўладу, дзейнасьць, кіраваньне і справы якой будуць павернутыя да інтарэсаў беларускай дзяржавы і ўсяго беларускага грамадзтва. Гэта такая ўлада, якая кіруецца нацыянальнай ідэяй дзеля дабра ўсяго народу і кожнага чалавека, якая не кідаецца то на Ўсход, то на Захад, не шукае апекуноў, крэдытораў і грантадаўцаў, а працуе і жыве з уласным народам, верыць у яго здольнасьці і сілы, дапамагае яму адукавацца, узбагаціцца, рэалізавацца ў свабодзе і нацыянальнай культуры.

Рыхтуймася да байкоту. Гэта першы крок, які паспрыяе салідарнасьці нашага грамадзтва ў барацьбе з узурпацыяй улады. Выбараў няма. Гэта ўсе кажуць. Нават апазыцыйныя імітатары гэта прызнаюць (заклікаючы адначасна на фальшывае галасаваньне).

Мы павінны ўзмацніць нашу працу па падрыхтоўцы і прапагандзе байкоту незаконных выбараў прэзыдэнта…

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*11 ліпеня 2010 г.*

*Надрукавана: („Беларус", – 2010, верасень, № 572)*

# ПЕРШЫ КРОК ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ АЛЬБО ДЭКЛЯРАЦЫЯ ПАЛІТЫЧНАЙ ВОЛІ

***„Нас мала – літасьці не чакайце"***
*(Давыд Гарадзенскі. Зварот да ворагаў перад выправай)*

У 80-х гадах верхавіна КПСС зразумела, што эканамічны крах савецкага сацыялізму немінучы. Тады была зроблена спроба перабудовы сістэмы з мэтай захаваць рэжым і ўладу КПСС. Уяўленьні аб захавальнай рэформе былі тыпова намэнклятурныя: увесьці ў адміністрацыйна-размеркавальны эканамічны парадак элемэнты рынкавых дачыненьняў і прыватнай уласнасьці пры агульным эканамічным і палітычным кантролі КПСС. Такая сістэма існаваць не магла. Яна альбо вярнулася б да эканомікі „калючага дроту", альбо прывяла б да прыватнага пераразьмеркаваньня дзяржаўнай маёмасьці, карупцыі і небывалага абрабаваньня працоўных людзей. Распад пайшоў па другім варыянце.

Сапраўдная барацьба за ўладу і маёмасьць разгарэлася за кулісамі палітычных дэкарацыяў у цэнтры савецкай імпэрыі паміж рэальнымі сіламі крамлёўскай ўлады – намэнклятурай КПСС (уключаючы сюды т. зв. „расейскіх дэмакратаў") і тайнай „імпэрыяй КГБ".

Завяршэньне такога „пераразьмеркаваньня" магло б мець страшлівыя вынікі для ўсяго сьвету, калі б СССР ня быў каляніяльнай імпэрыяй і не пачаўся б працэс яго распаду. На арэну вышаў нацыянальна-вызвольны рух, які стаў галоўным дэмакратычным працэсам, генэратарам перамен, паставіўшы гэтым самым Маскву (зь яе „перестройкай") у становішча імпэрскай палітычнай правінцыі.

Гэтыя два працэсы неўзабаве цалкам разышліся. Краіны нацыянальных рухаў пайшлі па шляху свабоды і дэмакратыі, Расея, скарыстаўшы дэмакратычная мэханізмы, – па шляху пераразьмеркаваньня маёмасьці і татальнай кагэбізацыі ўлады.

Наш нацыянальны геній Васіль Быкаў (у адрозьненьні ад розных палітычных „мудрацоў") выдатна бачыў становішча на палях барацьбы за свабоду і добра яго разумеў. Дзесяць гадоў таму ён пісаў у „Доўгай дарозе да дому": *"Менавіта нацыяналізм, паводле Фрэнсіса Фукуямы, найбольш спрычыніўся да вызваленьня народаў ад камуністычнай дыктатуры. Не лібэралізм, не дэмакратыя – а менавіта нацыяналізм заняволеных камунізмам народаў. Там, дзе гэты працэс быў завершаны, зьявілася магчымасьць пераходу да дэмакратычнага лібэралізму, а дзе не завяршыўся, дзе стаўся затрыманы рэакцыйнымі сіламі – там нацыяналізм па-ранейшаму надзённы. Бо* ***толькі нацыяналізм з найбольшай выніковасьцю здольны аб''яднаць сілы грамадзтва ў ягоным дэмакратычным разьвіцьці".***

(Забягаючы наперад, адзначу, што Беларусь, Украіна, Малдова, з прычыны унутранных і зьнешніх абставінаў пачатку 90-х, вымушана затрымаліся на старце, страцілі шмат часу патрэбнага дзеля хуткага ўмацаваньня дэмакратыі, дзяржаўнасьці і суверэнітэту. Маскоўская вялікадзяржаўная ўлада ў Расеі за гэты час стабілізавалася, выздаравела ад „дэмакратыі" і пачала імпэрскі наступ на Каўказ, на Малдову, на Беларусь і Украіну.)

У 80-х гадах ініцыятарам выхаду з СССР стала Эстонія. Менавіта там узьнікла канцэпцыя балтыйскай незалежнасьці, сфармуляваныя агульныя ідэі і мэтады дасягненьня суверэнітэту, створана палітычная арганізацыя – Народны Фронт.

Ланцуговая рэакцыя свабоды (стварэньне народных франтоў), якая пачалася ў 1988 г., ішла такім парадкам: Эстонія, Латвія, Летува, Беларусь, Украіна, Малдова, каўказкія краіны – і далей, у Сярэднюю Азю.

У грамадзкім пляне Беларусь была, бадай што, найменш падрыхтаваная да здабыцьця незалежнасьці, але на справе аказалася, што яна ***стала генератарам змагарных ідэй на пазабалтыйскай сфэры змаганьня за свабоду і незалежнасьць.***

Эстонія, Латвія, Летува знаходзіліся на прывеліяваным уліку ў міжнароднай супольнасьці. Вялікія краіны не прызнавалі іх часткай СССР і лічылі акупаванымі тэрыторыямі. З боку Захада была поўная падтрымка іхным патрабаваньням свабоды, рабіліся дыпляматычныя захады перад Масквой і г. д.

Тым часам іншыя акупаваныя маскоўскімі бальшавікамі тэрыторыі (Беларусь, Украіну, Малдову, каўказкія краіны і г. д.) Захад даўно ціхенька і моўчкі здаў на нацыянальнае зьнішчэньне акупантам, і потым, калі ў гэтых краінах, ужо ў 80-х гадах, пачалася нацыянальна-вызвольная барацьба, заходнія ўрады не падтрымалі яе, выступалі за захаваньне СССР і, фактычна, супраць незалежнасьці падсавецкіх народаў. Захад зыходзіў са сваіх прагматычных інтарэсаў, імкнуўся мець справу з адным Савецкім Саюзам (а не з мноствам вольных краін) і разам з СССР кантраляваць ядравую зброю і сусьветную палітыку.

Народы Беларусі, Украіны, Малдовы, Грузіі, Азэрбайджана, Арменіі сваю незалежнасьць здабылі сабе самы, не зважаючы на супраціўленьне СССР і заходніх урадаў.

Прытым у Беларусі сытуацыя была найцяжэйшая, бо існавала нацыянальна дэфармаванае грамадзтва (у сэнсе ідэалёгіі) і паталягічна антыбеларуская, антынацыянальная кіруючая камуністычная намэнклятура.

## БЕЛАРУСКАЯ БАРАЦЬБА – МАДЭЛЬ ЗМАГАНЬНЯ З РЭЖЫМАМ У СССР

Невыпадкова, відаць, што менавіта тут у 1988 годзе, пасьля стварэньня Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту, камуністы задумалі правакацыю, каб увесь вызвольны рух, што разьвіваўся ў Беларусі і на захадзе СССР, утапіць у крыві і расквітацца са свабодай. Ад таго, як павярнуліся б падзеі ў Менску, залежыў характар супраціўленьня ва ўсім СССР.

30-га кастрычнака 1988 года на *Дзяды* камуністы БССР плянавалі справакаваць сутыкненьне і, скарыстаўшы КГБ і міліцэйскія ўзброеныя фармаваньні, накінуліся на людзей, якія прышлі з кветкамі да Ўсходніх могілак у Менску. Калі б задума камуністаў удалася, то шмат хто быў бы забіты, мноства людзей кінулі б у турму, забаранілі б усялякую грамадзкую дзейнасьць, пачалася б расьпеаразаная прапаганда супраць Народнага Фронта і рэпрэсіі супраць беларусаў.

30-га кастрычніка ў Менску ўпершыню ў СССР быў ужыты супраць насельніцтва сьлезацечны газ. Аднак правакацыя праваліласа. Беларусы разгадалі задуму камуністаў і ўдалым манэўрам выйшлі з-пад удару, пазьбеглі сутыкненьня, нягледзячы на міліцэйскае зьбіваньне людзей. Вытрымка і мірная воля перамаглі. Камуністам не ўдалося разьвязаць хвалю рэпрэсій у Беларусі. Спробы, якія былі потым у Тбілісі (1989), Баку (1990), Вільні (1991) – таксама праваліліся. Барацьба пайшла на вышэйшым (мірным) узроўні, да якога савецкая рэпрэсіўная машына не была прыстасаваная і пачала прайграваць бітву за бітвай.

Другім аспэктам беларускай барацьбы і беларускага ўплыву на вызвольны рух у СССР быў сьмяртэльны ўдар па КГБ – рэпрэсіўнай машыне Савецкага Саюза. У 1988 годзе пад Менскам было адкрыта месца масавага генацыду беларускага насельніцтва – Курапаты, – дзе НКВД з 1937 па 1941 гады расстраляў і закапаў сотні тысячаў непавінных ахвяр. За адкрыцьцё Курапатаў мне прышлося вытрымаць татальны прапагандысцкі напад, але расправіцца са мной, як гэта яны рабілі зь людзьмі ў 1930-х, саветы ўжо не маглі (не рашыліся).

Шырма „культу асобы", „сталінскіх рэпрэсіяў", „ГУЛАГа", за якой камуністы хавалі генацыд, ураз перакулілася, і ўсе ўбачылі чалавеканенавісьніцкае аблічча чырвонай імпэрыі зла. Гэтае адкрыцьцё праўды мабілізавала шмат людзей у Беларусі (і ня толькі ў Беларусі) на барацьбу з камунізмам за адраджэньне нацыі і культуры.

Трэцяй мабілізуючай ідэяй барацьбы стала адкрыцьцё праўды пра злачынства Чарнобыля і патрабаваньне адказнасьці за Чарнобыльскі генацыд. Таксама вяртаньне ў Беларусь беларускіх вайскоўцаў, што вымушаны былі служыць у Савецкай арміі далёка ад дому і ўдзельнічаць у савецкіх ваенных канфліктах.

Усё гэта згуртавала актыўных беларусаў на барацьбу з каляніяльнай сістэмай камунізму за волю і адраджэньне Беларусі.

## НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ – ПАЛІТЫЧНАЯ МЭТА БНФ

Да Ўстаноўчага зьезду БНФ мы вельмі асьцярожна выказваліся пра суверэнітэт, разумеючы непадрыхтаванасьць грамадзтва і рэпрэсіўнасьць сістэмы. Пасьля Зьезду (23-24 чэрвеня 1989 г.) змаганьне пайшло адкрыта.

У жніўні 1989 г. аб незалежнасьці як галоўнай палітычнай задачы мной гаварылася на Сойме БНФ, пазыцыю прынялі да дзеяньня. Выбарчая кампанія 90-га года ўжо адбывалася пад лёзунгам незалежнасьці „За Беларусь!".


(Кадр зь відэазапісу)

*140. Вярхоўны Савет, 1991 г. Даклад Камісіі па Чарнобылю. Дыскусія. Ля мікрафона з права на лева: дэпутаты Апазыцыі БНФ В. Голубеў, У. Новік, П. Садоўскі.*

Нягледзячы на супроцьдзеяньне і неверагодныя антыфронтаўскія высілкі камуністычнай намэнклятуры, у Вярхоўны Савет 12-га скліканьня усё ж патрапілі пару дзясяткаў фронтаўцаў. Пытаньне барацьбы за незалежнасьць стала набываць рысы канкрэтнай палітыкі і канкрэтных дзеяньняў.

11-га траўня 1990 года адбыўся Сойм БНФ, на якім сцьверджана, што незалежнасьць Беларусі зьяўляецца палітычнай мэтай Народнага Фронту. Было прынятае рашэньне аб правядзеньні агульнафронтаўскай канфэрэнцыі „Незалежная Беларусь". Канфэрэнцыя адбылася ў Менску ў канцы траўня. На ёй прысутнічалі дэпутаты ад БНФ саветаў усіх узроўняў, а таксама дэлегаты з усёй Беларусі. Асноўны даклад рабіў старшыня Фронту (аўтар гэтых радкоў). Канфэрэнцыя прыняла рашэньне аб змаганьні за незалежнасьць.

У пачатку чэрвеня тэкст фронтаўскай дэклярацыі пра незалежнасьць Беларусі быў падрыхтаваны і прадстаўлены дэпутатамі Фронту ў Вярхоўны Савет у якасьці праекту заканадаўчага дзяржаўнага дакуманту.

Нягледзячы на супраціўленьне камуністычнай бальшыні, дэпутаты БНФ дамагліся ўключэньня пытаньня пра дэклярацыю ў парадак дня 1-й сэсіі ВС. Прадстаўляў праект фронтаўскай дэклярацыі і выступаў з дакладам таксама аўтар гэтых радкоў.

Трэба мець на ўвазе, што слова „незалежнасьць" гучэла ў той час для намэнклятурных камуністаў нейкім кашчунствам, якое маглі казаць хіба што „враги советской власти". А значэньне слова „суверэнітэт" добрая палова зь іх увогуле слаба разумела, некаторыя ня ўмелі нават правільна вымавіць. І тут раптам – „дэклярацыя пра незалежнасьць". Сяргей Навумчык так апісвае тую характэрную падзею нашага парляманцкага змаганьня:

„Калі Пазьняк казаў на сэсіі ВС пра суверэнітэт Беларусі як менавіта абвяшчэньне незалежнай дзяржавы, большасьць дэпутатаў слухала яго так, як бы ён абвясьціў, што ў Менск прыляцелі прадстаўнікі іншай галактыкі, і вось толькі што ён зь імі размаўляў. На тварах дэпутатаў чыталася ці ня ўся гама пачуцьцяў – ад зьдзіўленьня да сарказму. Эканамічная самастойнасьць яшчэ ўспрымалася (сакратарам і дырэктарам надакучыла выпрошваць на кожную дробязь дазвол Масквы), а вось уласныя грошы, уласнае войска – не, гэта было па-за межамі іх разуменьня".

Крыніца: http://naviny.by/rubrics/politic/2009/07/27/ic_articles_112_163747/


(Кадр зь відэазапісу)

*141. Вярхоўны Савет, 1991 г. Даклад Камісіі па Чарнобылю. Дыскусія. Ля мікрафона зь лева на права: дэпутаты Апазыцыі БНФ Л. Зданевіч, З. Пазьняк, М. Крыжаноўскі.*

Ашарашаная намэнклятура выслухала даклад у мёртвай цішыні. Потым былі пытаньні рознага кшталту (прытым і даволі асэнсаваныя). Але ўвязывацца ў дыскусію намэнклятура пабаялася. Пасьля некалькіх савецкіх сэнтэнцыяў праект быў пастаўлены на галасаваньне – і завалены камуністычнай бальшынёй.

Я, аднак, заўважыў, што шмат хто зь іх над усім, што адбылося, сур'ёзна задумаліся. Ёрніцтва і хіхіканьня, якое спрабавалі пачаць цемрашалы, ніхто не падтрымаў. А „хітруны-мудрацы" пафілясофску заўважылі: „Вопрос серьезный, но – не время".

## ПАДРЫХТОЎКА ДЭКЛЯРАЦЫІ АБ СУВЕРЭНІТЭЦЕ

Тым часам змаганьне за ўладу ў імпэрскай КПСС паміж Ельцыным і Гарбачовым пачало набываць камічныя элемэнты. Бальшавікі-імпэрцы загаварылі аб суверэнітэце. 12-га чэрвеня 1990 года Вярхоўны Савет РСФСР пад старшынствам Ельцына прыняў „Дэклярацыю аб дзяржаўным суверэнітэце РСФСР", якая прадугледжвала (заўважце!) прыярытэт расейскіх законаў над саюзнымі. Зразумела, што гэта рэзка павялічыла палітычную вагу Ельцына, які быў старшынёй Вярхоўнага Савета РСФСР.

Гарбачоў тут жа прыдумаў свой контрплян суверэнітэту (каб абмежаваць Ельцына). Гарбачоўскі плян складаўся з двух этапаў. На пачатку было прапанавана ўсім „саюзным" рэспублікам прыняць дэклярацыі аб суверэнітэце (але фармальныя), а потым заключыць навы саюзны дагавор (з праекту якога вынікала, што ўсе правы былі б у маскоўскай улады СССР, гэта значыць – у Гарбачова). У свой плян Гарбачоў пачаў гуляцца ўжо ў чэрвені 1990-га. Неўзабаве Старшыня Вярхоўнага Савета БССР і кіраўніцтва ЦК КПБ атрымалі рэкамендацыю з Масквы падрыхтаваць і прыняць дэклярацыю аб суверэнітэце „в составе Союза ССР".

Памятаю зьбянтэжаны „готовый к исполнению" твар нашага арыгінала, камуністычнага „сьпікера" Дземянцея. Толькі што яны завалілі наш фронтаўскі праект дэклярацыі і казалі, што ніякай незалежнасьці ня можа быць, і тут на табе – такі паварот.

Зрэшты, намэнклятура вырашыла нічога не рабіць, адмахнуцца пустой паперкай. Але ў палітыцы пустых паперак не бывае. Тут выявіліся нігілістычныя адносіны камуністычнай намэнклятуры. Яны адразу зразумелі, што ад іх патрабуецца толькі бачнасьць

дэклярацыі, фармальнасьць, і думкамі пра лёс краіны сябе не абцяжарвалі.

Камісія па выпрацоўцы праекту, фактычна, бязьдзейнічала. Ніхто не хацеў працаваць. Калі да абмеркаваньня дэклярацыі засталося менш за тыдзень, зьбянтэжаны старшыня Камісіі Леанід Козік запанікаваў (разумеючы, што яго абвінавацяць). Ён стаў мне казаць, што ўсе самаўхіліліся, і папрасіў дапамогі („Ребята, может Оппозиция бы помогла?"). Напрацоўкі ў нас былі гатовыя, і мы дружна прыйшлі працаваць у Камісію.

Неўзабаве праект падрыхтавалі. Козік быў задаволены, што ганебна не „ўтапіўся", але ён цудоўна разумеў, што гэта быў зроблены за праект. Таму 26-га ліпеня, прадстаўляючы яго Вярхоўнаму Савету, ён абачліва паведаміў, што праект быў падрыхтаваны ў Камісіі разам з Апазыцыяй БНФ, а таму ён прапануе, каб і на сэсіі яго прадстаўлялі старшыня Камісіі і прадстаўнік Апазыцыі. Козік адчуваў сваю недастатковую падрыхтаванасьць у гэтым пытаньні і асьцерагаўся выглядаць дрэнна перад намэнклятурай, але галоўнае – ён хацеў зьняць з сябе ўсялякую адказнасьць за фармулёўкі, пераадрасаваўшы ўсё на Апазыцыю і на нашых плячах (пасьля таго, як Вярхоўны Савет пакрамсае ўсю нашую працу) выехаць са становішча выгадна для сябе.

Аднак для нас такая прапанова стала падарункам, які мы адразу ж скарысталі. У пачатку дзейнасьці Вярхоўнага Савета (на першай сэсіі) намэнклятура была цалкам пад уплывам тых уяўленьняў пра маю асобу, якія былі сфармаваныя камуністычнай прапагандай і дыфамацыяй („экстрэміст", „будзе расстрэльваць камуністаў" і тп.). Некаторыя нават не набліжаліся, бліскалі з-пад ілба, некаторыя дранцьвелі, пры сустрэчы пачыналі гаварыць штучна, нацягнута і г. д. Магчыма, Козік якраз і спадзяваўся на нігілізм намэнклятуры ў дачыненьні да маёй асобы. Але я ведаў, што трэба рабіць.



*142. Дыскусія ў Вярхоўным Савеце. Выступае Сяргей Папкоў.*

## ПАРЛЯМАНЦКАЕ ЗМАГАНЬНЕ ЗА ДЭКЛЯРАЦЫЮ. ПЕРШЫ ДЗЕНЬ

Я ўзяў тон сумеснага клопату. Маўляў, мы абмяркоўваем дэклярацыю аб незалежнасьці, якая датычыцць усіх нас аднолькава, маўляў, вырашаем свой агульны лёс, зьвяртаўся да кожнага адкрыта і па-сяброўску. (І сапраўды, тут была агульная справа, калі разважаць па праўдзе.) Я заўважыў, што гэты падыход дэпутаты ад камуністычнай большыні адчулі і многія адгукнуліся. Абмеркаваньне было вельмі актыўным і энэргічным, але ветлівым і канструктыўным. Змагаліся за кожную фармулёўку, за кожны тэрмін, за кожнае слова, і нават за знакі прыпынку ў тэксьце. Калі



*143. Абмеркаваньне ў Вярхоўным Савеце. Выступае з дакладам Сяргей Навумчык*

мы прайгравалі адно слова ці адзін тэрмін, тут жа зьяўлялася новая прапанова новага слова, новая перафармулёўка, новы разгляд, дыскусія, галасаваньне. Прытым рабілася ўсё хутка і дакладна.

Тут зазначу, што адна з нашых істотных пераваг перад камуна-намэнклятурай была ў здольнасьці хутка думаць і хутка фармуляваць дэфініцыі. Намэнклятуршчыкі (і асабліва ветэраны НКВД), якія ня мелі такой інтэлектуальнай трэніроўкі, думалі павольна і часам проста гублялі нітку лёгікі і разуменьня, пра што гаворыцца. Тады яны альбо рабілі памылкі ў галасаваньні, альбо галасавалі па падказцы, альбо бяздумна: супраць таго, што кажа БНФ і за тое, што кажуць камуністы. Але не заўсёды ім проста было ўсё зразумець. Таму дыскусія з галасаваньнем у тым Вярхоўным Савеце – гэта было цэлае мастацтва, якое, як я лічу, мы нядрэнна тады засвоілі, каб перамагаць намэнклятурную масу іхнімі ж галасамі.

Нагадаю, што нас, франтаўскіх дэпутатаў Апазыцыі, было восем адсоткаў ад ўсяго складу камуністычнага Вярхоўнага Савета. У клясычным парляманце з адстоянымі традыцыямі і з заходнім складам розуму дэпутатаў такая малалікая апазыцыя не адыгрывае звычайна ніякай ролі. Уплываць на парляманцкую палітыку, рэалізаваць сваю праграму і перамагаць апазыцыя з такой колькасьцю галасоў у прынцыпе ня можа.

Тым часам апазыцыйная трыццатка БНФ у камуністычным Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня (345 дэпутатаў) даказала, што можна ўплываць на парляманцкую палітыку, рэалізоўваць сваю праграму і ня толькі перамагаць у асобных пытаньнях, але і прымусіць працаваць увесь парлямант па нашай мадэлі заканатворчасьці і нават, у асобных выпадках, прапаноўваць большыні свае ўмовы.

З пункту гледжаньня лёгікі, арыфметыкі і нават усялякага здаровага сэнсу – гэта не рэальна, тут фантастыка. Але няма сэнсу нам дыскутаваць з усялякім стандартным думаньнем. Рэчаіснасьць перакуліла ўсе стандартныя разважаньні.

***Палітычная перамога БНФ у Вярхоўным Савеце – гэта ёсьць гістарычны факт.*** Змагаючыся з магутнай камуністычнай большасьцю, мы насуперак ёй дамагліся незалежнасьці Беларусі, сцьвердзілі нацыянальныя сымвалы (Бел-Чырвона-Белы сьцяг і гэрб Пагоню) у якасьці дзяржаўных (хоць шмат якіх камуністаў аж круціла ад нянавісьці), паднялі праблему Чарнобыля і дамагліся замацаваньня ў заканадаўстве права ратаваньня людзей ад радыяцыі, падрыхтавалі асноўную заканадаўчую базу незалежнай дзяржавы Беларусі, настаялі на стварэньні нацыянальнага войска, нацыянальных грошай, грамадзянства і г.д.).

Як і якім чынам усяго гэтага ўдалося дасягнуць я апісаў ў кнізе „Дэпутаты незалежнасьці", якая неўзабаве выходзіць ў „Беларускіх Ведамасьцях" (Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк. Дэпутаты незалежнасьці, – Нью Ёрк-Вільня-Варшава, 2010 г.).

Аднак вернемся да Дэкларацыі. Нягледзячы на страты, абмеркаваньне і галасаваньне за асобныя артыкулы Дэкларацыі ў цэлым былі ў нашу карысьць. Удалося стварыць гэтакі дзелавы дух, дзе кожны хацеў выказацца і дадаць сваё. Апазыцыя БНФ выступала больш ста разоў.

Памятаю, калі 26-га ліпеня абʼявілі апошні перапынак, мой сусед па 1-м сэктары ў Авальнай залі дэпутат Селівончык (намесьнік дырэктара МАЗа) – чалавек спакойны і не благі, але рэакцыйны ў поглядах – быў так узрушаны, што аж рукі ўздымаў „да неба". Гаварыў з моцнай беларускай рэдукцыяй: „Да што ани дзелают! С ума пасхадзили. Пазьняк павёл за сабой Верховный Савет, а ани хлопают!" (Ён быў супраць суверэнітэту.)

У канцы дня я ўбачыў, што атмасфэра ў залі зьмянілася. Да таго часу мы ўжо прынялі 10 артыкулаў з 12-ці і з большага, фактычна, у нашу карысьць. А тут усё часьцей стала чуваць злых выкрыкаў ветэранаў НКВД. Абмеркаваньне палажэньняў стала ісьці вельмі цяжка. Калі ў дыскусіі ўсе быццам бы пагаджаліся пра той ці іншы тэрмін, фармулёўку, то ў галасаваньні амаль нічога нашага ўжо не праходзіла.



***144. Абмеркаваньне ў Вярхоўным Савеце. Выступае з дакладам Алесь Шут***

Гэта быў вынік начальніцкай апрацоўкі намэнклятуры пасьля перапынкаў з боку „селівончыкаў" і партсакратароў. Дэпутатам бальшыні (якія страцілі „бдительность") даказвалі, што БНФ выйграе, што працэс пайшоў „не туды". Старшыня Камісіі Козік таксама апамятаўся і падліў масла на галавешкі: „Если мы примем эту Декларацию, – заявіў ён, – то она направлена на сто процентов на выход из Союза".

Намэнклятура зрабілася раптам такой „пруценькай" і паблісківала вачыма. Зразумела, іх пераканалі начальнікі (цемрашалы), што БНФ „их околпачил". Мае прапановы сталі часам не праходзіць насуперак усялякай лёгіцы і здароваму сэнсу. Гэта значыць, што „бэтон" пачаў галасаваць па інтуіцыі: „свой" – „чужы". Як вядучы я стараўся даваць больш магчымасьці выказвацца калегам па Апазыцыі. Але становішча не зьмянілася. Ігар Гермянчук адкрыта паказаў на алягізм паводзінаў намэнклятуры: „Глядзіце, некаторыя галасуюць „супраць" толькі таму, што Пазьняк „за"!"

А ўвогуле, гэта былі звыклыя паводзіны камуна-ветэранскага бэтону – ня думаючы, галасаваць супраць усяго, што кажа БНФ. Да канца гэтага дня яны, што называецца, „знайшлі сябе".



***145. Абмеркаваньне ў Вярхоўным Савеце. Выступае з дакладам Юры Беленькі.***

І калі пачалі абмяркоўваць перадапошні артыкул, дзе рэтраграды прапанавалі адлюстраваць гатоўнасьць да новага „саюзнага дагавору", стала зразумела, што тут намэнклятура ляжа касьцьмі.

Ад Апазыцыі БНФ выступіў Уладзімер Заблоцкі, які ў складзе дэлегацыі Вярхоўнага Савета быў камандзіраваны ў Маскву на абмеркаваньне гэтай „саюзнай дамовы". Заблоцкі паведаміў шакуючую інфармацыю. Па новай дамове Масква хацела забраць у сваё распараджэньне ўсё – ад замежнай палітыкі, войска, эканомікі і КГБ, да радыё і навукі. Беларусам пакідалі толькі будаўніцтва прасёлачных дарог і вынікі Чарнобыльскай катастрофы.

Тым часам ніякага асаблівага хваляваньня ад паведамленьня Заблоцкага ў камуністаў (як ні дзіўна) ня ўзьнікла. Намэнклятура выслухала ўсё спакойна (усё праектнае нявольніцтва новай дамовы) і амаль што з задавальненьнем, як само сабой зразумелае.

Тут фэнамэн. ***Самым заўзятым ворагам незалежнасьці Беларусі была мясцовая камуна-савецкая намэнклятура.*** Менавіта зь ёй (а не з Масквой, якой тады было не да нас), менавіта зь мясцовай партапаратняй змагаўся найперш (!) Беларускі Народны Фронт за свабоду і незалежнасьць Бацькаўшчыны. Гэта быў галоўны вораг незалежнасьці, галоўны ненавісьнік вольнага нацыянальнага разьвіцьця. Халуйства іх перад Масквой зьдзіўляла нават самых маскоўцаў. (З гэтага гнілога асяроддзя і сфармаваўся пазьней цяперашні антыбеларускі рэжым і антынацыянальная палітыка). (Гісторыя паходжаньня і генэзіс улады гэтай антыбеларускай намэнклятуры вядомыя. Яе зьяўленьне зьвязанае з другой савецкай акупацыяй у 1944 годзе, калі, гонячы немцаў, Беларусь заняло савецкае войска. Тады ўладу ў пасьляваеннай Беларусі Масква перадала ў рукі НКВД – так званым „партызанам" – энкавэдзісцкім групам, арганізаваным Масквой у Расеі і перакінутым ў Беларусь для тэрарыстычнай дзейнасьці на беларускай тэрыторыі. Энкавэдзісцкія партызаны разьвязалі найперш тэрор супраць беларускага насельніцтва. З партызанскіх справаздачаў, якія энкавэдзісты адсылалі ў Маскву, вынікае, што ***толькі 10 адсоткаў ад агульнай колькасьці забітых партызанамі былі немцы. Астатнія – беларускія настаўнікі, інтэлігенцыя, сяляне, служачыя ў нямецкай адміністрацыі і іншыя беларусы***. Пасьля вайны, асядлаўшы ўладу ў Беларусі, „партызаны" НКВД сорак гадоў вытоптвалі беларускую мову, культуру, людзей, усё жывое беларускае. Гэта была абсалютна антынацыянальная беларусафобная улада, якая ў дадатак стварыла афіцыёзны татальны зьдзеклівы міф пра „рэспубліку-партызанку", „народных мсьціўцаў" і тп., улада, якая пладзіла рэнегатаў, манкуртаў і лукашэнак.)

Такое становішча і такая антынацыянальная намэнклятура кампартыі была толькі ў Беларусі. У гэтым была цяжкасьць змаганьня для Беларускага Народнага Фронту і цяжкасьць зразуменьня нашай сытуацыі іншымі. (Што датычыць Захаду, то ён з прычыны асаблівасьці свайго разьвіцьця і сёньня нічога не разумее.)

Агрэсіўна-адкідальніцкі настрой, які зьявіўся сярод намэнклятуры ў канцы першага дня пры завяршэньні абмеркаваньня дэклярацыі, быў небясьпечны тым, што мы маглі страціць усё, што так прыгожа адваявалі. Мы ўжо ведалі звычкі гэтай камуністычнай публікі, якая ў 10-12 разоў пераўзыходзіла нас па колькасьці. Пры галасаваньні за дэклярацыю агулам („у цэлым") яны маглі зноў вярнуцца да асобных артыкулаў і пачаць рэвізію прагаласаванага.

Першы дзень скончыўся напружаньнем у залі і дыскусіяй па новай саюзнай дамове. Прыняцьце артыкула адклалі на заўтра. Нам трэба было нешта рабіць. І справа не ў артыкуле. Паколькі не прайшло нашае галоўнае палажэньне аб вяршэнстве беларускіх законаў над саюзнымі, гэты артыкул, пра намер заключыць новую саюзную дамову, хоць быў і важны, але ўжо ня меў першаступеннага значэньня. Істотным было тое, што намэнклятура пад уплывам сваіх начальнікаў агрэсіўна салідарызавалася ў канцы дня і магла перахапіць ініцыятыву. Тады рэвізія ўжо прынятага была непазьбежная.

Па ўсталяванай традыцыі кожны дзень пасьля паседжаньня Вярхоўнага Савета мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, зьбіраліся ў сваім пакоі 363 абмеркаваць дзень, нашыя дасягненьні і прапановы, прааналізаваць паводзіны камуністаў, вызначыць тактыку, пазыцыю, выступоўцаў на заўтра. На зборцы вечарам 26-га ліпеня мы сур'ёзна ацанілі сытуацыю, якая яшчэ больш магла пагоршыцца назаўтра пасьля магчымага ціску і „настрапаленьня" начальствам нашых апанентаў.

Я выказаў меркаваньне, што ні ў лоб, ні ў абход мы ўжо гэтую масу ня возьмем. Трэба прыдумаць экстраардынарнае рашэньне і выканаць яго, і што трэба быць усім да гэтага гатовымі.

Сыграць з камуністычным бэтонам можна было толькі на іхняй псіхалёгіі, на паталягічным жаданьні рабіць усё насуперак БНФ і галасаваць „супраць", калі Пазьняк „за".

## ПЭРФОРМЭНС ДЛЯ БЭТОНА

Як і чакалася, за ноч намэнклятура „апамяталася" яшчэ больш. На другі дзень абмеркаваньня дэклярацыі перад пачаткам паседжаньня я сказаў калегам, што як толькі „камуна" трыумфальна прыме артыкул пра „саюзную дамову", я адразу раблю рэзкую заяву аб няўдзеле ў галасаваньні, і мы пакінем залю. Эфект павінен быць. Яны пачнуць нас мяшаць з зямлёй, і прагаласуюць за дэклярацыю „ў цэлым" у піку БНФ. Маўляў, „ах так! Вам такая дэклярацыя непатрэбная, дык мы вось яе і прымем". Словам, зробяць тое, што нам трэба, прагаласуюць за нашу дэклярацыю. Рэвізіі ня будзе.

Тут я найбольш непакоіўся, што калегі мне не павераць, што мы выйграем. Але аказалася, што нашы дэпутаты ў большыні падтрымалі маю прапанову, бо выдатна ведалі гэты Вярхоўны Савет і ўвесь ягоны тэатр абсурду. Канешне, элемэнт рызыкі прысутнічаў, і некаторыя сябры-дэпутаты пра гэта казалі. Але я пераконваў іх, што бэтонам ў гэтай сытуацыі будзе кіраваць толькі „клясавы інстынкт" зрабіць насуперак БНФ, плюс эмоцыі. Наш выхад і адмаўленьне галасаваць – гэта сьведчаньне для іх (і асабліва для недалёкіх), што дэклярацыя нам не падабаецца. А значыць ім трэба яе прымаць, без сумніву (бо, маўляў, што фронтаўцу дрэнна, камуністу добра). Урэшце мы хутка прынялі рашэньне, і з залі выйшлі нават тыя, што сапраўды сумняваліся, бо вагацца і не падпарадкавацца тут нельга было – усе ў адно.

У залі мы пакінулі Сяргея Навумчыка, Уладзімера Грыбанава, Васіля Шачака і яшчэ некалькі з падпісантаў заявы пра Апазыцыю.

Свой выступ я зрабіў просталінейны і, як кажуць у такіх выпадках, правакацыйны, адмыслова закрануўшы самалюбства камуністычных дэпутатаў і гонар мундзіра Вярхоўнага Савета, заявіўшы, што дэпутаты „не дарасьлі да суверэнітэту", і што „Вярхоўны Савет ня здольны прыняць Дэклярацыю аб сапраўдным суверэнітэце" і г. д.

Вось як гэта апісвае Сяргей Навумчык: „І тады Пазьняк прапанаваў тактычны крок, які спачатку падаўся шмат каму з нас натуральнай авантурай. Пазьняк прапанаваў апэляваць не да розуму дэпутацкай большасьці, а, скажам гэтак, да калектыўнага інстынкту, скарыстаўшы ўжо выпрацаваную звычку галасаваць насуперак БНФ.

„Паважаныя дэпутаты, – пачаў свой выступ Пазьняк на сэсіі, – я не затрымаю доўга вашай увагі. Тое, што мы зараз пачулі зьвесткі, што нам рыхтуе „саюзны дагавор", і тое, што зараз сэсія прагаласавала за гэты „саюзны дагавор", гэта тое самае, што сунуць галаву ў пятлю. Гэта значыць, што далейшая размова аб сувэрэнітэце ня мае сэнсу. Гэта значыць, што наша праца два дні была без патрэбы. На вялікі жаль, народныя дэпутаты, відаць, мы ўсё ж такі не дарасьлі да сувэрэнітэту. Таму я, Пазьняк Зянон Станіслававіч, заяўляю, што я адмаўляюся далей удзельнічаць у гэтай сэсіі ў выніку таго, што Вярхоўны Савет ня здольны прыняць Дэклярацыю аб сапраўдным сувэрэнітэце. Тых дэпутатаў, якія мяне падтрымліваюць, прашу зрабіць тое самае. Я пакідаю залю".

З Авальнай залі выйшла трыццаць дэпутатаў (аднак некалькі дэпутатаў БНФ, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў, былі пакінутыя ў залі).

Заява Пазьняка і выхад з залі выклікалі ў прысутных шокавы эфэкт сваёй нечаканасьцю. Але значна больш моцным было жаданьне зрабіць насуперак – як перад гэтым на сэсіі заўважыў Ігар Гермянчук, некаторыя галасуюць „супраць" толькі таму, што Пазьняк галасуе „за".

Перад выхадам з залі мы абмяркоўвалі гэты крок, нам ён падаваўся вельмі рызыкоўным. Найбольш рызыкаваў, канешне, Пазьняк: калі б у выніку Дэклярацыя не была б прынятая (скажам, не хапіла галасоў) – на ягоным палітычным аўтарытэце, ды і на аўтарытэце ўсяго Народнага Фронту, можна было б ставіць крыж.

Адбылося так, як разьлічваў Пазьняк: дэпутаты заявілі, што поўныя рашучасьці прыняць Дэклярацыю і пачалі актыўна галасаваць. Ня ведаю, чаго тут у Пазьняка было болей: дакладнага палітычнага разьліку, адчуваньня псыхалёгіі ці проста інтуіцыі." (Крыніца: http://naviny.by/rubrics/politic/2009/07/27/ic_articles_112_163747/ )

Калі мы выходзілі з залі, чулася з боку бэтону: „Вот оно, истинное лицо БНФ!" і г. д. Выдатна. Апынуўшыся ў файе Вярхоўнага Савета, я ўбачыў, як усе хваляваліся і перажывалі. Памятаю, што да мяне падышоў Аляксандар Сасноў і амаль шэптам, хвалюючыся, кажа: „Прайграем, усё перавернуць" і г. д.

Мы назіралі за ходам сэсіі па тэлевізійным маніторы моўчкі і напружана. Усё ішло па нашаму пляну, і нават лепш, чым мы думалі. Сапраўды, пачалося ўдакладненьне некаторых

палажэньняў, але прапановы тут жа пасыпаліся з боку нашых дэпутатаў, што засталіся, і ад нашых прыхільнікаў, якія выказваліся ў агульным рэчышчы абмеркаваньня. Іхныя прапановы ўспрымаліся як „у піку БНФ" і „насуперак Пазьняку". Бэтон зусім ашалеў, ці дакладней, зьехаў з глузду. Былі нават прынятыя (падкінутыя нашымі дэпутатамі і пададзеныя цяпер як новыя) мае прапановы аб беларускіх узброеных сілах, унутраных войсках і службе дзяржаўнай бясьпекі, падкантрольныя Вярхоўнаму Савету, палажэньні, якія ўчора намэнклятура заваліла (а сёньня, відаць, пра гэта забылася). Я часта жартаваў у тым Вярхоўным Савеце, што дурні бываюць вельмі карыснымі людзьмі ў жыцьці, толькі трэба правільна зь імі абыходзіцца.

## ПЕРШЫ КРОК НА ДАРОЗЕ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Калі ў Авальнай залі прагаласавалі за Дэкларацыю канстытуцыйнай большасьцю, мы ў фае пачалі абымацца ад радасьці, а некаторыя нават прытанцоўвалі. Шчасьлівыя і радасныя, мы ўвайшлі ў залю, віншуючы ўсіх і сьмеючыся ад перапоўненых пачуцьцяў і ад таго, што раптам з плячэй зваліўся такі цяжкі груз трывогі за правільнасьць свайго ўчынку. Мы перажывалі ўзьнёслае адчуваньне перамогі над трохсотнай масай камуністаў.

Я глядзеў на абліччы дэпутатаў у залі. Шмат хто нічога ня цяміў, што адбываецца. Але дзіўна – адразу ўсё зразумеў ветэранска-энкавэдзісцкі бэтон. Абліччы іх выцягнуліся, некаторыя глядзелі на нас, выпучыўшы вочы. „Товарищи, нас развели," – сказаў нехта замагільным голасам.

Потым мы гэтую псіхалягічную тактыку (выкарыстоўваньне паталягічнай устаноўкі бэтону на бяздумнае галасаваньне „супраць БНФ") ужывалі яшчэ з посьпехам некалькі разоў, і камуністычны бэтон рэгулярна „купляўся", упарта наступаючы на свае граблі. Вядома, прыняцьцё Дэкларацыі аб суверэнітэце без канстытуцыйнай нормы аб вяршэнстве беларускага права не азначала незалежнасьці краіны і, як быццам, на першы погляд, мала што зьмяняла, асабліва ўлічваючы наяўнасьць каляніяльнай адміністрацыі і савецкай улады з прамаскоўскай намэнклятуры.

І ўсё ж яна зьмяняла шмат што. ***Гэта быў першы рэальны крок да рэальнай незалежнасьці краіны. Была закладзена юрыдычная база і зроблена аснова для далейшых паводзінаў улады і грамадзтва на шляху да незалежнасьці.*** Трэба ўлічваць, што пры саветах нацыянальная ідэалёгія была так моцна вынішчана ў беларускім грамадзтве, што людзі баяліся стаць вольнымі, шмат хто нават не ўяўляў, як гэта можна будзе існаваць без СССР. На ўмацаваньне гэтых збочаных уяўленьняў 70 гадоў працавала маскоўская прапаганда. Прыняцьце Дэкларацыі аб суверэнітэце зрабіла вялікі станоўчы зрух у сьведамасьці беларусаў. ***Людзі пачалі ўсьведамляць самакаштоўнасьць нацыі і сваборды.***

Дэкларацыя дала магчымасьць нам, дэпутатам БНФ, рэальна працаваць у Вярхоўным Савеце над заканадаўчай базай незалежнай дзяржавы, рыхтаваць законы аб грамадзянстве, аб банках і банкаўскай справе, аб узброеных сілах, аб беларускіх грошах, аб зямлі і эканамічных рэформах і г. д. Словы „суверэнітэт" і „незалежнасьць" сталі афіцыйнымі тэрмінамі, увайшлі ў сьведамасьць грамадзтва і ўладнай бюракратыі. Нарэшце, гэта быў ужо гатовы дакумант для хуткага аб'яўленьня незалежнасьці, дастаткова было толькі зрабіць яго канстытуцыйным законам і заручыцца падтрымкай людзей.

***Пасьля прыняцьця Дэкларацыі аб суверэнітэце падтрымка грамадзтвам ідэяў свабоды і незалежнасьці шматкроць павялічылася.*** І калі праз год, 25 жніўня 1991 года, пасьля гістарычнай нечарговай і надзвычайнай Сэсіі Вярхоўнага Савета БССР настаў гэты даўгачаканы Дзень Незалежнасьці, то (і гэта асабліва ўлічым) асноўная палітычная і заканадаўчая база незалежнай Беларусі (і, перш за ўсё, Дэкларацыя, якой надалі статус канстытуцыйнай сілы) былі ўжо падрыхтаваныя. І другое, – было ўжо агулам падрыхтаванае і грамадзтва, нашыя людзі. Заставалася толькі сцьвердзіць і рэалізаваць палітычную волю. І гэта было зроблена пры актыўнай і рашучай пазыцыі дэпутатаў Народнага Фронту.

***25 Жнівень 1991 года стаў найвялікшым днём нашай гісторыі – Днём рэальнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.***

Дэкларацыя была пярэдаднем гэтага гістарычнага дня. Усе мы ацэньваем яе прыняцьце як вялікую падзею і моцны крок да незалежнасьці. „Калі мы пісалі Дэкларацыю, – казаў пазьней на радыё *Свабода* Валянцін Голубеў, – зацьвярджалі *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і *„Пагоню"* ў якасьці дзяржаўнай сымволікі, працавалі над Канстытуцыяй, – мы спадзяваліся, што ўсё гэта прывядзе да ўмацаваньня Незалежнасьці".*(Радыё „Свабода", 15 жніўня 2007 г.)*

Сяргей Навумчык і Лявон Дзейка засяроджваюць увагу таксама на тактыцы і драматычным накале, пры якім прымалася Дэкларацыя. „Вось гэты выхад дэпутатаў з залі Вярхоўнага Савету (і мы ўжо потым удзел у паседжаньні не прымалі), мне падаецца, найбольш драматычным момантам", – адзначае Лявон Дзейка. (Крыніца: *Радыё Свабода, 27 ліпеня 2006 г.)*

„Драматычны момант", пра які кажа Л. Дзейка, паспрыяў таму, што нам удалося падрыхтаваць і правесьці рукамі парляманцкай бальшыні рэальны грунт пад будучую незалежнасьць Беларусі. З другога боку, гэты „момант" прымусіў скансалідавана выказацца намэнклятуры па чужароднаму для яе паняцьцю суверэнітэту, які яна прыняла як дазволеную акцыю, нічым не рызыкуючы. Выхад Апазыцыі з залі ў патрэбны момант перакуліў традыцыйнае адмаўленьне намэнклятурай ідэі суверэнітэту, пераключыў яе ідэйны нігілізм на нянавісьць да носьбітаў гэтай ідэі (гэта значыць да БНФ) і прымусіў парадаксальным чынам падтрымаць яе. Я назваў для сябе такі прыём (які мы потым ня раз паўтаралі) „палітычным дзюдзюцу" (нагадаю, сутнасьць барацьбы „дзюдзюцу" – выкарыстаць сілу праціўніка супраць яго самога).

Тое, што нашая тактыка ўдавалася, тое, што мы яе плянавалі і ня раз перамагалі, мы самы гэтаму найперш сталі сьведкамі. Цяпер жа, з далечыні 20 гадоў часу, аналізуючы ўсё і памятаючы ліхаманкавы накал падзеяў, мне падаецца, што на ўсё тут была воля Божая. Асабліва 27 ліпеня 1990 года і 25 жніўня 1991-га. Падзеі прайшлі, як кажуць, па вастрыні ляза. Малая недакладнасьць, памылка з нашага боку – і ўсё магло стацца інакш.

Тут мушу яшчэ сказаць, што нашае няроўнае змаганьне з пераўзыходзячымі сіламі камуністычнай намэнклятуры ў Вярхоўным Савеце не выглядала і не зьяўлялася адчайнай барацьбой фанатычных ці апантаных людзей. Усё выглядала вельмі па-беларуску, мы „секлі" гэтую трохсотную масу камуны часта са сьмехам і гумарам, як Несьцерка Шкаляра, але заўсёды дружна і з разуменьнем справы. Сьмех нас аб'ядноўваў, даваў адчуваньне свабоды і перавагі над гэтым намэнклятурным бэтонам з закасьнелымі паняцьцямі і псіхалёгіяй.

Шкада, што мінуў час і загінула шмат матэрыялаў, што не вялося падрабязнага летапісу тых гадоў, што непрыяцелі Беларусі пазьнішчалі відэазапісы, стэнаграмы і кіназдымкі, што мярзота

запусьценьня і хлусьні расьселася ў нашай культуры. Тым больш, што 90-я гады, – гэта яшчэ не гісторыя. Гэта сучаснасьць, якая змагаецца за існаваньне і перамогу над злом.

## МАРНАТА МАРНАТЫ І ГІСТАРЫЧНАЯ ВЕЛІЧ ПАДЗЕЙ

Чым далей беларускі сьвет аддаляецца ад 90-га і нацыянальнай рэвалюцыі 91-га, тым больш (нягледзячы на замоўчваньне, нішчэньне і хлусьню) вырастае ў сьвядомасьці тых, хто ведае і памятае, веліч мінулых падзей. Цікава, што ў сьвятле гэтай велічы нават тыя, што выступалі тады супраць суверэнітэту і незалежнасьці (ці, у лепшым выпадку, маўчалі, нічым не выяўляліся), нават тыя стараюцца цяпер неяк зманіць і далучыцца да гістарычнай справы, якая перамагла. Прытым пішуць заведамую няпраўду, мяркуючы, што нехта ж паверыць.

Калі пачытаць „незабыўнага" М. Дземянцея, дык ён усё зрабіў: і Канстытуцыю, і Дэкларацыю, і суверэнітэт. І гэта пры тым, што гэтая рэакцыйна-камічная асоба заўсёды выконвала толькі ўстаноўкі КПСС і ляжала калодай на шляху да волі і незалежнасьці.

Тое ж самае – цяпер разгаварыўся былы сьпікер Мечыслаў Грыб. Аказваецца, за Дэкларацыю тады і ён зямлю гараў. А мы й ня ведалі нічога пра нашага „змагара", які асуджае цяпер Апазыцыю БНФ і выказваецца па ўсіх пытаньнях. Аказваецца, спадар Грыб, гэты баязьлівы і нерашучы палітык, у 1995 годзе меў у галаве плян, як змагацца з таварышам Лукашэнкам, але гэтаму ягонаму намеру перашкодзілі, маўляў, дэпутаты БНФ, аб'явіўшы галадоўку пратэсту ў Авальнай залі Вярхоўнага Савета і гэтакім чынам заваліўшы тры галоўныя пытаньні, вынесеныя Лукашэнкам на незаконны рэфэрэндум, якія пры галасаваньні не прайшлі (аб скасаваньні Бел-Чырвона-Белага сьцяга і гэрба „Пагоня" як дзяржаўных сымвалаў, аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай і аб праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет).

Лепш бы Мечыслаў Іванавіч нічога такога не пісаў. Менш бы меў недаверу. Бо падзеі былі такія, што ад яго тады залежыла пакласьці канец беззаконьню і ўзурпацыі Лукашэнкі. Але гэтага ня сталася, бо Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб банальна спалохаўся і ўсё праваліў.

А было так. Пасьля ўводу войска ў парлямант у ноч з 11 на 12 красавіка 1995 года і зьбіцьця дэпутатаў Апазыцыі БНФ, нараніцы 12-га Генэральным пракурорам Беларусі Васілём Шаладонавым (пасьля звароту нашых дэпутатаў ад БНФ) была ўзбуджана крымінальная справа па факту ўвядзеньня войска і зьбіцьця дэпутатаў Апазыцыі. У 9 раніцы мы, дэпутаты БНФ, зьявіліся на паседжаньне Прэзыдыюма Вярхоўнага Савета, на якім было прынята рашэньне аб пастаноўцы і разглядзе на сэсіі Вярхоўнага Савета пытаньня аб увядзеньні войска ў парлямант і аб зьбіцьці дэпутатаў, аб стварэньні парляманцкай камісіі па расследваньні падзеяў аб зьбіцьці дэпутатаў. Рэальна паўставала пытаньне аб прыпыненьні (згодна Закону) прэзыдэнцкіх функцыяў А. Лукашэнкі на пэрыяд сьледзтва і расследваньня.

Але рашучасьць спадара Грыба тут жа выпарылася, калі ён пад'ехаў да Вярхоўнага Савета і ўбачыў, што будынак акружаны войскам і яго самога (сьпікера ВС) не пускаюць у залю паседжаньняў.

Прайшоўшы ўсё ж у залю, ён ад перапалоху праштампаваў усё, што загадаў яму ўзурпатар Лукашэнка. Калі мы, дэпутаты БНФ, прарваліся сілай праз міліцыю на сэсію, спадар Грыб на сьпікерскім месцы толькі нешта мямліў у мікрафон, а ветэраны НКВД, пачуўшы пах крыві, раўлі: „Правильно сделали! Мало дали!" (гэта пра нас) і г. д. Грыб толькі лыпаў вачыма.

Вось такая гісторыя. Лепш бы яны, намэнклятурныя „змагары", маўчалі, бо сэнс іхных „успамінаў" толькі ў тым, каб убрыкнуць Народны Фронт. (А быў яшчэ такі Шарэцкі, які (ужо пазьней) проста здаў нас, усіх беларусаў, у дыктатуру. Таксама нешта напіша, як ён „змагаўся" за „суверэнітэт".)

Не адстае ад намэнклятуры па наскоках на Фронт і Станіслаў Шушкевіч. У яго свае адносіны да БНФ. Хоць, каб не БНФ, яго ўвогуле не існавала б у палітыцы.

Сяргей Навумчык неаднаразова зьвяртаў увагу на гэтыя кручаныя паводзіны Шушкевіча ў пытаньні Дэкларацыі, Суверэнітэту і Незалежнасьці (у якую Шушкевіч тады ня верыў і пра гэта казаў). Нянавісьць да Фронта, зайздрасьць, рэўнасьць, страх перад сьведчаньнем пра мінулыя паводзіны, засьцяць вочы усім гэтым таварышам і спадарам.

„Яны вышлі з залі", „не галасавалі" – шыпяць цяпер тыя, што тады прайгралі (думаюць, што хоць гэтак адпомсьцяць за сваю паразу). „Яны выйшлі з залі, – падпявае Шушкевіч, гарэзьліва бліскаючы у наш бок. – Яны не галасавалі". „Яны выйшлі дэманстратыўна з залі на чале з маім намесьнікам Шушкевічам, каб не прымаць дэкларацыю", – рубануў па ўсіх на хвалях Свабоды Мікалай Дземянцей. *(Сяргей Навумчык. Радыё Свабода 14 верасьня 2007 г.).*

Тут спадары-таварышы дакаціліся ўжо да поўнага фарсу. (Шушкевач, дарэчы, не выходзіў, а сядзеў паруч з Дземянцеем і разам зь ім прымаў артыкул аб „саюзнай дамове", за якую галасаваў абедзьвюма рукамі.) Лепш бы ўжо, сапраўды, памаўчаць гэтым спадарам, ато яшчэ пасварацца.

Мы ўратавалі тады наш тэкст Дэкларацыі ад псаваньня і здабылі дакумант, які рэальна дапамог ў дасягненьні незалежнасьці.

І Беларускі Народны Фронт, і ўсё беларускае грамадзтва з энтузіязмам вітала перамогу нацыянальна-дэмакратычных сілаў і прыняцце Дэкларацыі аб суверэнітэце. Усе, хто ўмеў добра думаць, разумелі, што пройдзены першы этап на шляху да дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, што гэтая перамога тактычная, што дарога да волі ўжо пракладзена.

Васіль Быкаў так характарызаваў тады



***146. Авальная заля Вярхоўнага Савета XII скліканьня***

падзеі і дзейнасьць дэпутатаў Народнага Фронту: „Што ж датычыцца Апазыцыі ў Вярхоўным Савеце, то я думаю, што ў тых умовах, у той час менавіта Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту зрабіла гераічны ўчынак з таго, што дамаглася менавіта гэтай суверэннасьці. Гэта яе заслуга. І чым далей, незалежна ад таго, чым гэта скончыцца, незалежна ад лёсу Беларусі наогул, у гістарычным вымярэньні гэта будзе вельмі значна, гэта будзе ацэнена праз вякі".

І сапраўды, мінуў роўна адзін год і адзін месяц з дня 27 ліпеня 1990-га, і наша агульная барацьба за свабоду прынесла перамогу ўсім беларусам. Усе беларусы, падтрымліваючы Народны Фронт, дасягнулі дзяржаўнай волі, стварылі наш сьветазарны Дзень незалежнасьці, пра які 200 гадоў марылі і за які змагаліся пакаленьні змагароў. ***25 жніўня 1991 года Беларусь дамаглася рэальнай незалежнасьці і стала незалежнай дзяржавай.*** За год пасьля Дэкларацыі ўжо шмат што было падрыхтавана і мабілізавана. І калі ў жніўні 91-га пасьля раптоўнай паразы камуністычна-гэбоўскага путчу ў Маскве настаў кароткі час „Ікс", ён быў скарыстаны намі імгненна, з усім вопытам і рашучасьцю.

Няхай жыве наша прыўкрасная вольная і незалежная Беларусь!

*Ліпень 2010 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ЗА АЙЧЫНУ, ПРАВЫ І СВАБОДУ

Палітычнае становішча, якое назіраецца цяпер у Беларусі, – гэта тыповае палітычнае балота, якое ўзьнікае, калі паслабляюцца нацыянальныя сілы. Грамадзтва трацiць тады нацыянальныя арыентыры, і на паверхню палітыкі вылазяць групкі і асобы, што клапоцяцца пра свае прыватныя інтарэсы, трапляючы пры гэтым, як правіла, у звлежнасьць ад інтарэсаў чужых.

Працэс дэградацыі беларускай палітыкі ў „балота" пачаўся ў канцы 1999 года, калі агульнымі высілкамі Масквы, Бэрліна, антыбеларускага рэжыму і агентуры раскалолі Беларускі Народны Фронт. Частка фронтаўскай арганізацыі, якая адышла ад ідэалаў БНФ, злучалася потым з ненацыянальнымі групоўкамі, камуністамі, прамаскоўцамі, палітбізнэсам і дайшла да поўнага палітычнага маразму. Лагічным фіналам некаторых раскольнікаў стала тое, што яны далучыліся да прарасейскіх групаў і людзей, якія засьведчылі пра сябе ў сувязі з надыходзячымі выбарамі прэзыдэнта і, адпаведна, у сувязі з схаваным фінансаваньнем Масквы.

Па вызначэньні Рады Беларускай інтэлігенцыі, ёсьць пяць асноўных прэтэндэнтаў на кандыдаты ў прэзыдэнты Беларусі, якія ўдзельнічаюць у выбарчым фарсе. Усе яны прамаскоўскага накірунку. Гэта А. Казулін, камуніст С. Калякін, Я. Раманчук, У. Някляеў, А. Саньнікаў. Іронія абсурду тут у тым, што Рада інтэлігенцыі прапануе з гэтай прарасейскай пяцёркі выбраць адзінага кандыдата ад беларусаў супраць русафіла Лукашэнкі (які да таго ж ня мае права ўдзельнічаць у выбарах).

Растлумачыць такую дзіўную пазыцыю Рады можна, відаць, толькі неадпаведным палітычным разуменьнем людзей, якія ня ўлучаныя ў нацыянальную палітыку і не ўяўляюць, што яны прапануюць (альбо хіба тады таксама прамаскоўскай скіраванасьцю Рады, што сумніўна).

У прынцыпе, у падыходзе да выбараў нічога новага ў антыбеларускай палітыцы не назіраецца. Пасьля расколу Народнага Фронту і стварэньня псэўдаапазыцыі (ненацыянальнай апазыцыі) галоўны клопат Масквы і Эўразьвяза, якія ўмешваюцца ў беларускі выбарчы працэс, заключаўся ў тым, каб не дапусьціць на выбарах беларускай нацыянальнай альтэрнатывы прамаскоўскаму рэжыму. Гэта ім удавалася, таму што інтарэсы Масквы, Брусэля і рэжыму Лукашэнкі тут поўнасьцю супадалі. Так зьяўляліся „адзіныя" Ганчарык, Домаш, Марыніч, Чыгір і іншая былая камуністычная намэнклятура. Пазьней знайшліся „экскурсавод" Мілінкевіч і русафіл Казулін.

З усіх прамаскоўскіх кандыдатаў, вызначаных Радай інтэлігенцыі на „адзінага" кандыдата, найбольш прарасейскай і невядомай кандыдатурай зьяўляецца А. Саньнікаў. Гэта ня ёсьць чалавек партыі. Ён абапіраецца на невялікую групу прамаскоўскіх асобаў, на замежныя рэсурсы і старыя сувязі па ведамству дыпляматычнага корпусу. Саньнікаў дэманструе пазыцыю, патрэбную Расеі, але ў прынятай дыпляматычнай форме.

Тым часам ягоныя саўдзельнікі, з прычыны сваіх іншых інтэлектуальных асаблівасьцяў, зрываюць зь яго ўвесь дыпляматычны флёр, публікуючы у расейскіх газэтах (передрук на http://www.charter97.org/) лапідарную прамаскоўшчыну і махровае глупства. Напрыклад: „Лукашенко был депутатом Верховного Совета, поддерживающим нацдемов"; „Вечеслав Кебич и российский премьер Виктор Черномырдин подписали в Москве соглашение. Беларусь должна была перейти на российский рубль. И большинство белорусских избирателей приняли перспективу перехода на российскую валюту с восторгом"; „А Александр Лукашенко рванул от нацдемовской риторики в сторону Москвы" і г. д., у стылі палітычнага кічу (на справе ж, усё выглядала інакш і сур'ёзна).

Рэжымная гебельсаўшчына і лукашысцкая прапаганда дакладна карэлююцца з маскоўскай і прамаскоўскай апазыцыйнай гебельсаўшчынай і зь яе антылукашэнкаўскай прапагандай у тым сэнсе, што, грызучы адзін аднаго, яны разам кідаюць каменьні ў беларускі агарод, разам ненавідзяць беларускі нацыянальна-адраджэнскі рух і беларускую дэмакратыю. (У іх ёсьць свая дэмакратыя – „агульначалавечая" і прамаскоўская.)

З пяцёркі рэальных прэтэндэнтаў Масква „заўважыла" якраз меншвядомага Саньнікава, адчыніла яму дзьверы, старонкі газэтаў, радыё, тэлебачаньне, нават дарогу ў СМІ за мяжой, задзейнічаўшы сетку сваіх супрацоўнікаў. Схемы не мяняюцца. Паставіўшы на Лукашэнку, Крэмль забясьпечвае сабе страховачную альтэрнатыву (ролю на пракат), стварае гэтакае выбарчае палітычнае таксі ў Беларусі, праехацца на якім ахвотнікаў не малее.

У прынцыпе, усіх прарасейскіх і „прабрусэльскіх" кандыдатаў на выбарах у Беларусі заўсёды можна было спыніць на законных падставах (ды яшчэ завесьці крымінальныя справы за браньне замежных грошай і падпарадкаваньне чужой палітыцы „на шкоду дзяржаўным інтарэсам"). Рэжым гэтага не рабіў, абмяжоўваўся эпітэтамі, кшталту „адмарозкаў".

Паводзіны ўлады маюць тлумачэньне. Калі б выбары ў Беларусі былі празрыстымі і працэдура мела дэмакратычны характар, тады б пракуратура без справы не засталася. Але выбары тут не празрыстыя, антыдэмакратычныя, а выбаршчыкі ня маюць ніякага ўплыву на вынікі галасаваньня, бо ўсё вырашае фальсіфікацыйная машына і замацаваны законам і валюнтарызмам улады „адміністрацыйны рэсурс”.

Для маскіроўкі фальсіфікацыйнай машыны і для камуфляжу фальсіфікацыйнага працэсу выбаршчыкі павінны абавязкова галасаваць, удзельнічаць у галасаваньні, зьяўляцца на выбарчых участках і потым, прагаласаваўшы, даведацца пра чарговую „элегантную перамогу” Лукашэнкі ды пра 86% „за”. Фальсіфікацыйная машына ня можа пуставаць, ня можа круціцца ўхаластую, бо тады яна ня здольная эфэктоўна фальсіфікаваць, фальш стане відавочным. Бяз выбаршчыка-галасавальшчыка сістэма ня дзейнічае (прытым, як будзе галасаваць выбаршчык, – ня мае значэньня, галоўнае каб галасаваў). Стварэньне мноства альтэрнатыўных кандыдатаў, „адзіных”, „падвойных” і т. п. – усё гэта павінна было спрыяць прыходу выбаршчыкаў на галасаваньне, рабіць бачнасьць нібыта дэмакратычных выбараў. Рэжым у гэтым зацікаўлены, і таму перакрываць імітатарам замежныя рэсурсы ён не сьпяшаўся (тым больш, што кантраляваў іх праз сваю агентуру ў псэўдаапазыцыі).

Асабліва ашуканцкі прыём, якім карысталіся імітатары ў такой сытуацыі, – гэта запрашэньне людзей (якія не разумелі зьявы) прыйсьці галасаваць, каб сказаць сваё „не” праклятаму дыктатару. І некаторыя ішлі. Так паводзіла сябе псэўдаапазыцыя ў час незаконнага рэфэрэндуму 2004 года, забясьпечваючы трэці тэрмін Лукашэнку.

Нешта падобнае мы назіраем зараз у гігантычных маштабах. Выбарачная „масаваная” крытыка свайго непаслухмянага сатрапа з боку Масквы (усе гэтыя садраныя са стужак Хашчавацкага фільмы і выступы расейскіх тэлевізійных прапагандыстаў) амаль нічога не зьмянілі ў электаральнай раскладцы на Беларусі. Выбарчы бэтон нават узмацнеў у сваёй бэтоннай пазыцыі, але людзі, якія вагаліся і не зьбіраліся ўдзельнічаць у фальшывым галасаваньні, цяпер, убачыўшы маскоўскія фільмы па тэлебачаньні, абурыліся на Лукашэнку і гатовыя ўжо пайсьці „прагаласаваць супраць”, каб сказаць сваё эмацыйнае „не”. Як кажуць, што і трэба было дасягнуць. Маскоўскі мафійна-прапагандысцкі наступ на свайго саюзьніка ўдарыў, найперш, па ідэі байкоту і стымуляваў жаданьне некаторых абураных людзей пратэстна паўдзельнічаць у выбарах.

Макоўскімі выбарчымі тэхналёгіямі займаюцца прафэсіяналы, і яны не маглі не прадбачыць эфэкту ад сваёй крытыкі. Рацыянальныя паводзіны Лукашэнкі ў гэтай сытуацыі тое таксама пацьвярджаюць.

Масква, безумоўна, не зьбіраецца адмаўляцца ад крэатуры і тапіць свайго стаўленьніка ў Беларусі. Жорсткая дазаваная атака на яго з боку Крамля мае на мэце, перш за ўсё, запалохваньне і аслабленьне Лукашэнкі, плюс стварэньне электаральных умоў для пакіданьня яго ва ўладзе.

Аслабленьне сатрапа неабходна Маскве, каб узяць яго ў абцугі і душыць, патрабуючы ўзамен за жыцьцё (за ўладу) здачы нацыянальнай маёмасьці.

Тое ж самае для нас, беларускай нацыянальнай апазыцыі: каб пазбавіцца ад прамаскоўскага рэжыму – неабходна аслабіць уладу ўзурпатара.

Пры стандартнай разьвязцы (гэта калі застанецца слабы Лукашэнка) перавага і прыярытэт будзе на баку беларусаў, бо з ростам рэальных пратэстных і вызвольных беларускіх сілаў Маскве ня ўдасца пакарыстацца здрадай сатрапа. Беларусы лепш абароняць свае інтарэсы ад агрэсіі Масквы, чым маскоўская марыянэтка, ратуючы сваю скуру.

Шлях да аслабленьня ўлады ўзурпатара цяпер, у існуючых абставінах, ляжыць праз байкот фальшывага галасаваньня.

**Першае** абгрунтаваньне байкоту ў тым, што Лукашэнка ня мае законнага права ўдзельнічаць чацьверты раз у выбарах прэзыдэнта ў якасьці кандыдата. Ягоны ўдзел – гэта парушэньне закона і крымінальнае дзеяньне; удзел выбаршчыкаў у такіх выбарах будзе выглядаць падтрымкай несправядлівасьці, згодніцтвам з беззаконьнем.

**Другое.** Зь беларускага боку адсутнічае рэальны прэтэндэнт на кандыдата, які стаяў бы на пазыцыі беларускіх нацыянальных інтарэсаў і абапіраўся б на свой народ. Усе рэальныя прэтэндэнты – прамаскоўскія, і разьлічваюць яны на падтрымку і ўмяшальніцтва Масквы (што таксама характарызуе іхную пазыцыю як крымінальную, згодна заканадаўства). Беларусам увогуле няма сэнсу ўдзельнічаць у такіх выбарах.

**Трэцяе.** Вынікі галасаваньня не залежаць ад выбару і волі выбаршчыкаў, а вызначаюцца сістэмай фальсіфікацыі і адміністрацыйным рэсурсам рэжыму. Выбары, галасаваньне, падлік галасоў – непадкантрольныя народу. Выбаршчыкаў, што прыходзяць галасаваць, выкарыстоўваюць для прыкрыцьця фальсіфікацыі галасаваньня.

**Чацьвертае.** Каб спыніць сістэму фальсіфікацыі, трэба не прыйсьці галасаваць, пакінуць пустыя ўчасткі, прымусіць фальсіфікацыйную машыну фальсіфікаваць пустату, што схаваць ад грамадзтва будзе немагчыма. Ашуканства і фальсіфікат стануць відавочныя ўсім. Гэта выкліча новыя ўзаемаадносіны ў грамадзтве і дачыненьні з уладай, паспрыяе кансалідацыі людзей на глебе ліквідацыі антыбеларускага рэжыму.

Трэба мець на ўвазе, што на выбарах, тым ня менш, існуе тэарэтычная верагоднасьць стварэньня такіх абставінаў, якія прывядуць да замены ўзурпатара на іншага прамаскоўскага стаўленьніка (такое ўжо было з Кебічам). Паколькі ў гэтым будзе зацікаўлена Масква, трэба разумець, што Крэмль не прапануе і не пагодзіцца на стаўленьніка, які быў бы для яго менш карысны, чым Лукашэнка. Масква ня стане мяняць „быка на індыка”. Таму, зразумела, любы прарасейскі кандыдат, прызнаны Масквой, ёсьць вялікая небясьпека для Беларусі.

Беларуская стратэгія тут павінна грунтавацца на задачы ня даць сытуацыі зьмяніцца да горшага, не паддацца на авантуру квазівыбараў, у якіх няма рэальнага беларускага (і прабеларускага) кандыдата і вынікі якіх не залежаць ад выбаршчыкаў. Нельга дапусьціць узмацненьня ўзурпатара ўлады, але трэба падрыхтаваць базу для нашага беларускага ўзмацненьня і грунт для наступу, для шырокага грамадзкага фронту. І гэбоўская Масква, і ўзурпатар улады Лукашэнка, і прамаскўскія кандыдыты разам з прамаскоўскай апазыцыяй – гэта тая небясьпека і тое зло супраць якога беларусам трэба змагацца

Тыя мэтады прапаганды байкоту, якія мы распрацавалі ў Партыі, трэба, каб ужываліся цяпер часта і кожны дзень. Аслабленьне ўзурпатара будзе ствараць магчымасьць пазбаўленьня людзей ад страху – першаснай умовы шырокай грамадзкай барацьбы за Айчыну, правы і свабоду.

*8 жніўня 2010 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ЭТАПЫ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

***25-га Жніўня 19-я гадавіна Незалежнасьці Беларусі.*** 19 гадоў таму праваліўся камуна-гэбоўскі путч у Маскве. Крамлёўцы былі занятыя самы сабой у барацьбе за ўладу, а мясцовая камуна-савецкая намэнклятура ў Беларусі, якая таемна падтрымлівала путчыстаў і будавала на іх перамозе свае спадзяваньні, гэтая намэнклятура пасьля паразы камуністаў у Маскве разгубілася, была ў стане страху, шоку і прастрацыі. Дзьве небясьпекі выклікалі ў іх панічны жах: ўлада Ельцына ў СССР (зь Ельцынам Фронт тады салідарызаваўся) і помста Народнага Фронту (у час путчу некаторыя з дэпутатаў-камуністаў казалі нам у твар, што ўсіх нас расстраляюць).

Не скарыстаць гэтую сытуацыю, каб ударыць па імпэрскай сістэме, было б злачынствам перад гісторыяй. І мы, дэпутаты Фронту, скарысталі яе. Скарысталі пасьпяхова, таму што існавала нацыянальная сіла ў нацыянальнай палітыцы – Народны Фронт, а ў Вярхоўным Савеце яго авангард – дэпутацкая Апазыцыя БНФ. Калі б такой народнай палітычнай сілы і такога авангарду не існавала, а было б нешта накшталт сёньняшняга „дэмакратычнага” маразму – тады б незалежнасьці не ўзьнікла, Беларусь бы сьцерлі з мапы Эўропы.

Потым Масква спахапілася, але было позна. Не дапамог ні маскоўскі стаўленьнік, ні атныбеларускі рэжым, ні прадажная „дэмакратычная апазыцыя”. Ёсьць сіла ў Беларусі, якую ня бачаць ні ворагі, ні здрайцы, але яна трымае наш незалежны лёс.

***Фатальныя падзеі адбыліся ў канцы XVIII стагоддзя,*** калі паміж Расеяй і намецкай Эўропай разабраная была Рэч Паспалітая. Паўстаньне за незалежнасьць выбухнула адразу пасьля разбораў пад кіраўніцтвам нашага нацыянальнага героя Андрэя-Тадэвуша Касьцюшкі.

Наступны этап – паход Напалеона і спроба вярнуць незалежнасьць пры дапамозе французаў. Потым – антырасейскае паўстаньне ў 1830-1831 гг. у Беларусі і Польшчы. У 1863 годзе – легендарнае паўстаньне Кастуся Каліноўскага. І, нарэшце, 1918 год – аб’яўленьне незалежнасьці БНР.

Рэальная незалежнасьць БНР, праўда, не была дасягнута і рэальная дзяржава ня створана з прычаны трох акупацыяў (нямецкай, польскай, маскоўска-бальшавіцкай), але аб’яўленьне незалежнасьці краіны і сфармаваньне ўладных структураў БНР паўплывала на ўвесь далейшы ход Беларускай гісторыі і барацьбы. Гэта была вялікая палітычная падзея ў нашай гісторыі. Без 25 Сакавіка 1918-га не ўзьнік бы і 25 жнівень 1991-га, калі была дасягнута рэальная незалежнасьць і створана незалежная дзяржава. Спраўдзілася мара пакаленьняў беларусаў, да ажыцьцяўленьня якой мы йшлі 200 гадоў.

***Але барацьба не закончана,*** бо наша незалежнасьць існуе пад пастаяннай пагрозай здрады і страты суверэнітэту. Прычынай гэтаму зьяўляецца антынацыянальны прамаскоўскі рэжым, усталяваны ў 1994 годзе, 16 гадоў таму. Дасягнуўшы незалежнасьці Беларусі, Народны Фронт не здабыў улады ў краіне, дзе панавала савецкая калянаяльная намэнклятура. Да гэтага часу якраз акрыяла Масква, але не аджыло яшчэ беларускае нацыянальнае грамадзтва. Сумесныя дзеяньні Масквы і мясцовай камуна-савецкай намэнклятуры прывялі да прамаскоўскага захопу ўлады ў Беларусі і ўсталяваньня аўтарытарнага рэжыму ўнутраннай акупацыі, пры якім вынішчаецца нацыянальная культура, адукацыя, мова, літаратура, грамадзянская супольнасьць, прыніжаецца асоба, ідзе падрыў нацыянальнага духа народа, нішчацца асноўныя вытворчыя сілы краіны, якая стала закладніцай прыватных і чужых мафійных інтарэсаў.

Тыповыя, характэрныя для мафійнага роду адносінаў, сваркі паміж рэжымнай ўладай Лукашэнкі і Крамлём ніколі не ўплывалі на ўнутранную антыбеларускую палітыку рэжыму. Яна не зьмянялася. Цяперашні скандальны канфлікт паміж імі ваяўляе зьмест карпаратыўных, антынародных дачыненьняў. Рэжымныя філіпікі лятуць ў бок агрэсіўнай Расеі і адначасна рэжым узмацняе русіфікацыю ў краіне (галоўны складнік расейскай палітыкі ў Беларусі і асноўны складнік рэжымнай здрады), зачыняюцца беларускія школы, перасьледуюцца нацыянальныя дзеячы, нацыянальныя сьцяг і гэрб, зьневажаюць памяць Ларысы Геніюш, фальсіфікуюць беларускую гісторыю, перасьледуюць беларускую моладзь. Свара і скандалы лукашысцка-крамлёўскіх саюзьнікаў не выходзяць за рамкі іхных агульных антыбеларускіх інтарэсаў (і ня выйдуць ніколі, нават калі б яны загрызьлі адзін аднаго на сьмерць). У Беларусі на вяршыні дзяржаўнай лесьвіцы сядзіць чалавек з паталагічнай псіхалогіяй утрыманьня улады. І дзеля яе ён ідзе на злачынствы.

Дамінацыя антынацыянальнага маразму ў Беларусі стала магчымай з 1999 года пасьля расколу Народнага Фронту і загнаньня нацыянальнай палітыкі у фактычнае падпальле. Сілы, якія падрыхтавалі і зрабілі раскол, выцягнулі на паверхню маргіналаў ад дэмакратыі бяз нацыі. Пачалася імітацыйная палітыка, аплочаная заказчыкам.

Як паведаміў нядаўна расейскі жоўты друк („Русскій Newsweek”), „на 30 жніўня лідары беларускай апазыцыі прызначылі спатканьне ў Маскве, каб абмеркаваць, каму зь іх балатавацца ў прэзыдэнты”. Камэнтары тут не патрэбныя. Ужо даўно зразумела, што такіх „лідэраў” наш народ праз нейкі час зьмяце разам з Лукашэнкам і зь іх спажывецкай „апазыцыяй”. І першым крокам цяпер павінен стаць народны байкот незаконным выбарам, у якіх ня мае права балатавацца Лукашэнка, якія спрэс фальшывыя, недэмакратычныя і ашуканцкія, у якіх людзей, што галасуюць, выкарыстоўваюць, як падставу для фальсіфікацыі і ў якіх не прадбачыцца ніводнага прабеларускага кандыдата.

*25 Жніўня 2010 г.*

***Зянон Пазьняк***

# 1. АБ МАНІПУЛЯЦЫІ З ПЕРАПІСАМ НАСЕЛЬНІЦТВА

(Цёмны час паступова хіліцца да канца, улада цемры паталагічна дэградуе і, што характэрна, валіцца па законах зла, гэта значыць шалее напрыканцы свайго існаваньня. Подлыя ўдары адчайна наносяцца па галоўных атрыбутах і каштоўнасьцях нацыі. Такое ўражаньне, што перад зыходам антыбеларускі рэжым імкнецца напсаваць як найбольш, каб вымасьціць шлях для цемры наступнай. Усё гэта прымусіла мяне напісаць некалькі нататак аб важных для нас падзеях і справах (пра перапіс, мову і школу), каб ведаць, чаго трэба асьцерагацца і што рабіць)

Нядаўна надрукавалі вынікі перапісу насельніцтва Беларусі, праведзенага ў кастрычніку 2009 года. У кантэксьце рэжымнай палітыкі тут ніякіх нечаканасьцяў няма. Які перапіс – такі і вынік. Што пастанавілі – тое і зрабілі. Колькасьць беларусаў, што назвалі беларускую мову роднай, зьменшылі больш чым на 20 адстоткаў.

Калі пачытаць цяпер эмацыйныя камэнтары нашых шчырых, даверлівых беларусаў, то можна зразумець, што яны ў шоку. Пачуцьці пырскаюць цераз край і... на жаль, ніякага здаровага сэнсу.

Яшчэ і года не мінула ад таго злонамеранага перапісу, а адукаваныя, разумныя людзі, аказваецца, пра ўсё забыліся. Пра ўсё, што літаральна ўсімі знаўцамі было тады пра гэты перапіс сказана, разгледжана і папярэджана. Цяпер жа, калі на выхадзе русіфікацыйны рэжым атрымаў сваю інфармацыйную ліпу ў выглядзе прапагандысцкай зьявы, беларусы захваляваліся за свой народ.

Тым часам з народам усё засталося як было. Справа не ў народзе, а ў рэжыме, які ім кіруе. Але пра ўсё па парадку.

Тое, што праз дзесяць гадоў, згодна пададзеных вынікаў перапісу, больш чым адна чвэрць насельніцтва ад ранейшых 74 адсоткаў быццам бы перасталі лічыць беларускую мову роднай, выглядае зьявай звышнатуральнай, якая павінна сьведчыць аб нейкай каласальнай нацыянальнай грамадзкай катастрофе, якая за кароткі час раптам перавярнула сьведамасьць насельніцтва. Але нават калі б такі нацыянальны катаклізм адбыўся, то натуральны чыньнік грамадзкай інэрцыі (існуе тое ж самае пакаленьне) усяроўна не прывёў бы да такіх хуткіх пераменаў у самаідэнтыфікацыі людзей.

Тым часам з 1999 па 2009 год ніякіх рэвалюцыйных пераменаў (не кажам ужо пра катаклізмы) не адбылося, нават улада не перамянілася. Дзесяць гадоў існаваў той самы аўтарытарны маразм. Прытым, за гэтыя дзесяць гадоў улада істотна падарвала давер да сябе. Настолькі, што з 2008 года людзі перасталі хадзіць на выбары, і выбаршчыкаў сталі зганяць на галасаваньне прымусова (вазіць на папярэдняе галасаваньне, узмацняць кантроль над студэнтамі, працаўнікамі, аддаваць загады ў войску, міліцыі і г.д.). За дзесяць гадоў узрос недавер да рэжыму і апатыя да яго антынацыянальнай палітыкі, азлобленасьць на карупцыю, паказуху, фальш і несправядлівасьць. Гэтыя настроі пашыраюцца. Перапіс на ўмовах 1999 года павінен быў бы паказаць цяпер лепшыя вынікі ў нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў, нягледзячы на антыбеларускую палітыку рэжыму.

Гэта якраз разумелі маніпулятары ў асяроддзі ўлады. Яны не справіліся з фальсіфікацыяй першага рэжымнага перапісу ў 1999 годзе. Атрыманыя лічбы зьвязалі ім рукі, не давалі магчымасьці выкарыстаньня вынікаў перапісу ў палітыцы і прапагандзе русіфікацыі. Таму да наступнага перапісу былі па-валюнтарысцку зьмененыя ўмовы апытаньня, зьмест і характар фармулёвак пра беларускую мову. Пытаньне, на якое мусіў быць адзін адказ, склалі цяпер з двух розных пытаньняў. Адпаведна, улічваючы становішча ў грамадзтве, зь яго вынікалі і два розныя адказы. Адпаведна зьменшылася і колькасьць карэктных адказаў пра родную беларускую мову. Гучэла апытаньне так: „Ваша родная мова (мова, засвоеная першай у раньнім дзяцінстве)” і „На якой мове Вы звычайна размаўляеце дома?” Такія пытаньні шмат якіх беларусаў ставілі ў тупік. Людзі няведалі, што адказаць.

Калі пытаюць наўпрост, якая Ваша родная мова – тады адказ зразумелы (у кожным перапісе беларусы адказвалі на гэтае пытаньне). Калі ж удакладняюць, што засвоена ў раньнім дзяцінстве (ды яшчэ пытаюць на якой мове размаўляюць дома), тады чалавек пачынае блытацца і часам ня ведае што казаць (бо мова, засвоеная у раньнім дзяцінстве, не абавязкова ёсьць родная мова).

Усё было накіравана на заблытваньне адказаў пра мову. А каб адцягнуць увагу ад гэтай маніпуляцыі, уключылі у апытаньне яшчэ безьліч пабочнага апытальнага шалупіньня (кшталту пра тып жыльля, калі і зь якога матэрыялу яно пабудаванае, якая плошча, ці ёсьць камптар, ці падлучаны да Інтэрнэту, месца працы, пасада, ці быў за мяжой і г. д.). Шмат людзей абуралася і толькі гэта і абмяркоўвалі, не заўважаючы, што за пытаньне ім падсунулі пра родную мову.

Некарэктнасьць і антынавуковасьць такой фармулёўкі ў беларускіх умовах адзначылі літаральна ўсе, хто абмяркоўваў гэтую падтасоўку. Дакладна акрэсьліў тут сутнасьць чарговай рэжымнай „творчасьці” Галоўны навуковы супрацоўнік Аддзелу славістыкі і тэорыі мовы Інстытуту мовы і літаратуры Акадэміі Навук Беларусі доктар Генадзь Цыхун. „Мне здаецца, што ўсё тут зразумела, – кажа доктар Цыхун, – кагосьці вельмі хвалююць тыя 74%, якія ў 1999 годзе назвалі беларускую мову роднай. Можа, гэта чамусьці пярэчыць, можа нейкім ранейшым крокам, напрыклад, рэфэрэндуму (маецца на ўвазе незаконны „рэфэрэндум” 1995 г. пра дзяржаўную мову, сымволіку і інш. – З.П.). Але гэта іх хвалюе, і я лічу, што шляхам тых удакладненьняў, якія ўнесеныя, хочуць атрымаць іншы адказ. Калі пытаньне будзе задавацца ў такой удакладненай фармулёўцы, ці нават калі перапісчык будзе мець гэтае ўдакладненьне на ўвазе, то парушаецца чысьціня экспэрымэнту – мы ня зможам суаднесьці ранейшыя дадзеныя з гэтымі” (*Крыніца: Радыё Свабода, 12 кастрычніка 2009 г.*).

Падтасоўкай фармулёвак перапісу займаўся так званы „Інфармацыйна-аналітычны цэнтар пры Адміністрацыі Прэзыдэнта” (ня так даўно створаная структура, якая спалучае ў сабе функцыі ідэалагічнага аддзелу і спэцслужбаў). У верасьні 2009 года за месяц да перапісу гэты „цэнтар” апублікаваў сваё „дасьледваньне” – вынікі „апытаньня”, якое ён нібыта правёў на паўтара тысячах чалавек. Згодна гэтага „дасьледваньня”, „дасьледчыкі” ўвялі новы адміністратарскі тэрмін – „набліжаная, родная мова”. 70 адсоткаў беларусаў, згодна паведамленьня „цэнтра”, назвалі „набліжанай, роднай мовай” рускую і 37 адсоткаў – беларускую.

Нагадаю, што паводле перапісу 1999 года 74 адсоткі беларусаў назвалі роднай мовай беларускую і 37 адсоткаў – засьведчылі, што карыстаюцца ёю у хатнім ужытку. „Дасьледчыкі” з „Інфармацыйна-аналітычнага” аддзелу зьнізілі лічбу з 74 да 37 і выдалі сваю працу на сьвет Божы. (Крыніца: http://www.nn.by/index.php?c=29648).

Хто разьбіраецца, як функцыянуе антыбеларускі рэжым, павінен быў тады зразумець, якія лічбы мусяць быць атрыманыя ў выніку „перапісу" насельніцтва. „Я думаю, што гэты папярэдні экспэрымэнт быў праведзены спэцыяльна, – адзначыў доктар Цыхун. – Людзі, якія разьлічваюць на нейкі канчатковы эфэкт, павінны ведаць, да чаго яны імкнуцца... Канчатковыя вынікі можна прадбачыць, але яны ня будуць аб'ектыўнымі".

Папярэджаньне вучонага было правільным і дакладным, бо тут відавочныя злонамераныя дзеяньні і грубая маніпуляцыя з боку рэжыму. Нават дыскусія пра гэта аказалася непатрэбнай, бо ўсе ўбачылі падрыхтаваны падлог.

Тым ня менш, аказалася, што маштабныя пляны „дасьледчыкаў" з „Цэнтру" і на гэты раз сур'ёзна забуксавалі. Някарэктная фармулёўка сапраўды магла б у цяперашніх грамадзкіх умовах даць зьніжэньне адэкватных адказаў на 15-20 адсоткаў, а мо і больш. Але, відаць, рэальна не атрымалі і гэтага. Спачатку прамільгнула інфармацыя пра 60 адсоткаў людзей, якія назвалі роднай мовай беларускую, потым падалі зьвесткі пра 53 адсоткі.

Што за гэтым стаіць, мы ўжо ведаем – не рэальны стан грамадзтва, а камбінацыі рэжымных „мудрацоў", адміністрацыйных „стратэгаў" русіфікацыі. Яны цалкам маглі, аднак, падаць усё і „па-пляну" (гэта значыць, 37 адсоткаў), мяркуючы, што беларусы і такое сьцярпелі б, але, як на мой погляд, улічылі цяперашнюю перадвыбарчую сытуацыю і ў цэлым настроі ў грамадзтве, якія маўкліва, паціху зьмяняюцца не на карысьць рэжыму.

Што рэальна абазначаюць цяпер для нас гэтыя маніпуляцыі з вынікамі перапісу? Рэальна яны абазначаюць, што русіфікацыйная палітыка рэжыму сістэмна працягваецца. І ніякія сваркі мясцовага саўдзельніка супраць Масквы ня маюць значэньня. Гэта значыць таксама, што нашае грамадзтва загнанае ў становішча глыбокай нацыянальнай стагнацыі. Але існуе яшчэ моцны патэнцыял нацыянальнага адраджэньня. Вось гэтае апошняе сьведчаньне якраз і хвалюе русіфікатараў ад рэжымнай улады. Вынік – падтасоўка фармулёвак з перапісам, імкненьне штучна стварыць аргумэнтацыю для далейшай русіфікацыйнай палітыкі.

Створаны прэцэдэнт некарэктнага апытаньня. Пляніроўшчыкі ад улады спасылаліся на быццам бы „рэкамендацыі ААН", маўляў, яны пакарысталіся „міжнароднай мэтадалёгіяй". Гэтую дэмагогію яшчэ ў мінулым годзе ўшчэнт спляжыў доктар Алег Трусаў: „бяруць нейкія рэкамендацыі для адсталых, непісьменных народаў і прыпісваюць нам, каб працягнуць русіфікацыю, – абураецца А. Трусаў. – Родная мова не абавязкова зь дзяцінства. Вы можаце на гэтую мову перайсьці і ў сто гадоў, яна будзе ў вас родная. Гэта спэцыяльна зроблена, каб заблытаць людзей. Многія беларусы пераходзяць на беларускую мову ў сталым узросьце, а ў дзяцінстве, дома гаварылі па-руску. Дык і што? У іх родная мова руская тады выходзіць?" (*Крыніца: Радыё Свабода, 14 верасьня 2009 г.*).

Парады ад парадаў розьняцца. Тое, што можа быць у Афрыцы, у Паўднёва-Усходняй Азіі, ці нават у разьвітых эміграцыйных краінах, дзе існуюць масы вельмі адсталага насельніцтва, тое не падыходзіць там, дзе сытуацыя ў грамадзтве іншая, і асабліва там, дзе ўладараць антынацыянальныя рэжымы і практыкуецца палітыка этнацыду тытульнай нацыі (гэта значыць, праводзіцца палітыка ўнутранай акупацыі краіны).

Па вялікаму кошту і ў рэальнасьці (так было ў эўрапейскіх краінах і нават у СССР) пасьля адказу на пытаньне пра прыналежнасьць да нацыянальнасьці пытаньне аб роднай мове траціла сэнс, бо зразумела, што ў беларуса родная мова беларуская, у немца нямецкая, а ў японца японская. Ужо іншае пытаньне, якой мовай чалавек карыстаецца ў грамадзтве і ўдома і ці валодае роднай мовай.

Розныя асімілятары карысталіся адметнымі мэтадамі асміляцыі. Для адных галоўным было перавесьці ў сваю нацыянальнасьць, для іншых – перавярнуць у сваю мову.

Прадуманыя маніпуляцыі рэжыму зь беларускай мовай у апытальніку перапісу зьвязаны з тым, што пытаньне зьнішчэньня беларускай мовы ёсьць галоўнай задачай (вось ужо 200 гадоў) расейскай палітыкі ў Беларусі. Ня вырашыўшы задачы русіфікацыі, Расея ніколі не справіцца і ня зьнішчыць беларускай дзяржаўнасьці, якая стала косткай у яе імпэрскім горле. Русіфікатары гэта разумеюць і таму стварылі зь перапісам у Беларусі тое, што нядаўна агучылі – маўляў, глядзіце: палова беларусаў адмовілася ад сваёй роднай мовы. (Дарэчы, родную мову па ўсялякіх прычынах можна ня ведаць, але адмовіцца ад яе немагчыма, бо гэта аб'ектыўная прыналежнасьць).

У заключэньне я хацеў бы папярэдзіць эмацыйных беларусаў, каб не заводзілі сябе ў залішне нэрвовы стан. У рэальнасьці ніякай катастрофы не адбылося. Тыя 74 адсоткі (а можа ўжо і 76, ці нават 80), што прызнаюцца да роднасьці беларускай мовы як былі, так і засталіся. Маніпуляцыйная ліпа ў 53 адсоткі, што падалі „дасьледчыкі" ад статыстыкі, няхай нікога не бянтэжыць па сутнасьці. Але трэба ўсьведамляць, што русіфікатары стварылі сабе штучны прапагандысцкі аргумант, якім будуць карыстацца ў сваёй разбуральнай антыбеларускай палітыцы.

Таму трэба агучыць сутнасьць камбінацыі зь перапісам 2009 года, давесьці гэта ўсё да грамадзкасьці, у тым ліку і да міжнародных інстытуцыяў. Нельга прызнаваць вынікі перапісу аб мове за карэктныя і сапраўдныя. У сувязі з гэтым нельга карыстацца вынікамі такога перапісу ў праектаваньні разьвіцьця адукацыі і культуры і ў ацэнках статыстыкі. Маніпулятыўныя вынікі перапісу па мове павінны быць адмененыяі і разьлікі вернутыя да ўзроўню 1999 года. Для прыняцьця такога рашэньня неабходна падрыхтаваць матэр'ялы ў Канстытуцыйны суд для разгляду справы па сутнасьці парушэньня.

Зразумела, што гэта ўсё неабходныя фармальнасьці. Раэльна вырашыць пытаньне (і ўсе пытаньні) можна будзе толькі пасьля ліквідацыі антыбеларускага рэжыму і ягонай русіфікацыйнай палітыкі. Але ўжо ад сёньня людзі здаровага сэнсу, дэмакратычныя, партыйныя арганізацыі (усе, хто разумеюць сутнасьць падлогу, які правялі праз перапіс маніпулятары) не павінны б былі карыстацца і спасылацца ў сваёй працы і дзейнасьці на вынікі чарговай рэжымнай фальшыўкі.

У апошні час я пастаянна зьвяртаю ўвагу тых, хто здольны пачуць, што далейшая прысутнасьць Лукашэнкі ў палітыцы і ў кіраваньні дзяржавай стала крайне небясьпечнай для ўсёй беларускай нацыі. Усе факты і падзеі пра гэта проста крычаць. Цяпер ён рыхтуецца незаконна балатавацца чацьверты раз і зноў удзельнічаць у фальшывых выбарах. Але, здаецца, няшмат застаецца часу, калі беларус канчаткова расплюшчыць вочы, убачыць рэальнасьць і пачне ўжо рабіць сваё.

*12 верасьня 2010 г.*

***Зянон Пазьняк***

# 2. МОВА, ТЭЛЕБАЧАНЬНЕ, РАДЫЁ

Маніпуляцыі з перапісам насельніцтва, якія зрабіў рэжым у 2009 годзе, абавязваюць нас разважліва паглядзець на становішча беларускай мовы пасьля 16 гадоў цёмнага кіраваньня і палітыкі грубай русіфікацыі.

Па маіх ацэнках стан беларускай мовы цяпер горшы нават, чым быў у Савецкім Саюзе, дзе мову афіцыйна аддавалі на зьнішчэньне (выміраньне) у выніку „пабудовы камунізму". Тады заставаліся, аднак, вызначальныя астраўкі беларускасьці. Гэта радыё, якое было цэнтралізавана праведзена ў кожны дом і гаварыла толькі па-беларуску (акрамя ўключэньняў Масквы). Гэта Беларускае тэлебачаньне, якое ў асноўным таксама гучэла па-беларуску (дыктары, ўсе выпускі навінаў, рэпартажы і г.д., акрамя ўключэньняў Масквы). Гэта газэты на беларускай мове (большая палова раённых і чатыры абласныя газэты з шасьці выдаваліся па-беларуску; цэнтральныя газэты або дубляваліся па-беларуску і па-руску, альбы выдаваліся сімэтрычна – адны па-беларуску, другія па-руску („Чырвоная зьмена", „Знамя юности" і г.д.). Гэта творчыя саюзы на дзяржаўных датацыях і дапамозе, сярод якіх галоўную пазыцыю меў Саюз пісьменьнікаў, і роля беларускага пісьменьніка ў грамадзтве была адчувальнай. Пісьменьнікаў паважалі, запрашалі іх на спатканьні з грамадзкасьцю. Гэта тры беларускія тэатры (у Менску і Віцебску), у пэўнай ступені так званыя „дамы народнай творчасьці" і інш.

У тыя часы (1960-1980-я гады) яшчэ цалкам па-беларуску існавала вёска і хоць бядотна, але неяк трывала вясковая беларуская школа. Уся вышэйшая адукацыя на беларускай мове і ўсе беларускія школы ў гарадах ужо былі зьнішчаны. Улада (за выключэньнем вядзеньня сэсіяў Вярхоўнага Савета) прамаўляла толькі па-руску і да беларускай мовы была варожая. Справаводзтва вялося па-руску, хаця фармальна законы СССР і БССР дазвалялі выкарыстоўваць у якасьці дзяржаўнай мову саюзнай рэспублікі. Што выдатна скарысталі ў Прыбалтыцы (авалодаўшы кампартыяй) і ў некаторых краінах Каўказу. Усялякія ініцыятывы па-беларуску сустракалі з боку савецкай улады, як правіла, агрэсію і непрыняцьце, размова па-беларуску часта кваліфікавалася як „нацыяналізм" (пры саветах гэта быў ідэалагічны ярлык, зь якім можна было трапіць за краты). Саветы не давалі разьвівацца беларускім ініцыятывам і закансэрвавалі тыя астраўкі беларушчыны, пра якія я казаў у пачатку.

Але, як ня дзіўна, гэтыя астраўкі якраз найбольш і трымалі нацыю і беларускую мову. Беларуская мова суцэльна існавала ў вёсках і мястэчках. У гарадах беларускую мову ведалі ня ўсе (ня кожны мог на ёй гаварыць), але разумелі яе ўсе, у тым ліку і прыбылыя.

Яшчэ ў 60-х – 80-х гадах я аб'ехаў усю Беларусь, круціўся ў асноўным у гарадзкім асяроддзі і не спаткаў ніводнага (!) чалавека, які б не разумеў мяне па-беларуску, хаця варожасьць да мовы ва ўстановах з боку расейцаў і камуністаў выхадцаў зь беларускай вёскі спатыкалася пастаянна.

Чаму была такая абазнанасьць у мове? Людзі ж тады ў бальшыні нават не вывучалі беларускую мову ў рускай школе, як замежную (саветы ўвялі правіла, што бацькі маглі вызваліць дзіця ад вывучэньня беларускай мовы ў школе). Цывілізуючай прычынай тут былі якраз тыя „астраўкі беларушчыны", якія прысутнічалі ў сьведамасьці кожны дзень. Пасіўна слухаючы беларускае радыё, аглядаючы беларускае тэлебачаньне, праглядаючы час ад часу беларускія газэты, людзі, нават далёкія ад беларушчыны, нясьведама засвойвалі фрагмэнты мовы, здольныя былі яе разумець. Тым больш для беларуса яе гучаньне выцягвала з падсьведамасьці ўвесь схаваны для яго сэнс.

Тую ж самую асацыятыўную функцыю выконвалі іншыя грамадзкія асяродкі беларускага слова, якіх не пасьпелі прыдушыць пры саветах. Нацыя была ўжо асьлеплена, але яшчэ не аглохла. Яшчэ чуваць было беларускае слова, сказанае звыш (падкрэсьліваю, сказанае не суседам, а „звыш" – радыё, тэлебачаньнем, газэтай). І яно заставалася ў сьведамасьці нават тых, хто яго не хацеў.

Усё гэта было ліквідавана ўжо ў незалежнай Беларусі, калі да ўлады прыйшла цемра, якая зноў увяла Маскву ў беларускую палітыку. ***Рэжым унутранай акупацыі стаўся больш разбуральным для беларушчыны, чым савецкі.*** Калі пры саветах сістэмна будавалася ўлада партыйнай намэнклятуры, заснаваная на дзяржаўнай уласнасьці і прыгоннай (калгаснай) гаспадарцы, то пры антыбеларускім рэжыме сістэмна вынішчаюцца асновы існаваньня беларускай нацыі, якая магла б супрацьстаяць групавой прыватызацыі яе дзяржавы чужароднымі элемэнтамі.

Трэба ўлічыць, што антыбеларускі рэжым у Беларусі непасрэдна зьвязаны з уладай і ідэалёгіяй расейскага гэбізму (чэкізму) і ўзьнік пры падтрымцы структураў былога савецкага КГБ. Нечаканая (для іх) параза камуністаў і КГБ ад Народнага Фронту ў пачатку 90-х прымусіла іх (як відаць) прааналізаваць прычыны паразы і выявіць крыніцы беларускай сілы. Вынікам гэтага аналізу стала стаўка на беларусафобную паталягічную асобу, прывядзеньне яе да ўлады ў Беларусі і сістэмнае разбурэньне асноў, на якіх трымалася беларушчына і дзяржаватворны народ.

Гэтак крок за крокам пры дапамозе некантралюемай аўтарытарнай улады былі зьнішчаны ўсе астраўкі беларушчыны, што захаваліся і часова існавалі раней.

Пытаньне аб вяртаньні зьнішчаных асяродкаў нацыянальнага існаваньня пры ўладзе гэтага рэжыму, што іх разбурыў, набывае чыста рытарычнае гучаньне. І тым ня менш, фармальна ўсе гэтыя задачы павінны быць агучаныя і пастаўлены. Такая лёгіка змаганьня.

Мы, беларусы, павінны ўсьведаміць і зразумець тыя карэктывы, якія ўнесла жыцьцё (канкрэтна – разьвіцьцё прагрэсу) у вызначэньне асноўных атрыбутаў існаваньня нацыі. У XIX-XX стагоддзях імі былі літаратура, тэатр, школа (дакладней, нацыянальная сістэма адукацыі). З другой паловы XX стагоддзя сюды дадалося яшчэ тэлебачаньне. (У будучыні атрыбутам нацыі можа стаць Сеціва, ня гледзячы на ўсю ягоную глабалісцкую прыроду, і словы „без нацыянальнага Сеціва няма нацыі" могуць стаць цалкам рэальнымі). Тэлебачаньне ня толькі зьява мас-культуры, але і адлюстраваньне культуры нацыянальнай. Яно ўнікальнае па шырыні масавага выкарыстаньня і масавага ўзьдзеяньня. Ад грамадзтва і ягонай дзяржавы залежыць ці зробіцца тэлебачаньне канюшняй Аўгія і рысталішчам блуду ці станецца крыніцай добрасьці, сацыяльнага здароўя і адлюстраваньнем грамадзкіх працэсаў.

Ужо цяпер (яшчэ пры існаваньні антыбеларускага рэжыму) мусіць ставіцца пытаньне аб вяртаньні нацыянальнага беларускага тэлебачаньня. Усё, што кажуць дыктары на

нацыянальным тэлебачаньні, прамаўляецца па-беларуску, журналісты працуюць па-беларуску, і толькі грамадзяне, асобы, у якіх бяруць інтэрвію і інш., гавораць на той мове, якую ведаюць ці на якой хочуць.

Павінны быць вернуты папулярныя беларускія радыёстанцыі і праграмы, якія русіфікатарская ўлада пазачыняла (і найперш рэлігійна-этычная перадача „Голас душы", якая была шырока запатрабаваная ў людзей).

Нацыянальнае тэлебачаньне і радыё – гэта тыя асяродкі і тыя зьявы, якія ўтрымліваюць нацыю ў адчуваньні моўнага і культурнага адзінства ў прылучанасьці да сьвету і да грамадзтва, істотна спрыяюць у веданьні і засваеньні роднай мовы.

*12 верасьня 2010 г.*

***Зянон Пазьняк***

# 3. ШКОЛА

У апошнія два гады назіраецца на першы погляд парадаксальны, але ўжо пастаянны працэс у палітыцы антыбеларускага рэжыму. Адбываюцца сваркі і пагаршэньне яго адносінаў з Масквой і адначасна йдзе ўзмацненьне русіфікацыі і далейшы працяг разбурэньня нацыянальных асноваў існаваньня беларускага грамадзтва. Тут тыповая аналогія: сваркі ў асяроддзі злачынцаў не падважваюць асновы іхняга злачыннага існаваньня. Так і ў выпадку канфлікту паміж пуцінскім і лукашысцкім рэжымамі. Іхняя свара адбываецца на падставе агульнай злачыннай сутнасьці ўлады і падобнага кшталту палітыкі.

Калі часам наіўныя людзі стануць думаць, што заеўшыся з Масквой, Лукашэнка пачне раптам падымаць усё загубленае ім беларускае і нацыянальнае, то лепш выкінуць такія думкі з галавы, каб ня стаць пасьмешышчам. Павароту ня будзе. Лукашэнка пры ўсёй яго неадукаванасьці, псіхапатычнай мэнтальнасьці і закончаным гарманальным разьвіцьці псіхалягічна затрымаўся далёка ў дзяцінстве, дзесьці на ўзроўні падлетка. Такія людзі ні перад кім і ні перад чым не адчуваюць адказнасьці і няздольныя прызнаваць памылкі. Лукашэнка як закамплексаваны чалавек і беларусафобны тыпаж небясьпечны ва ўладзе сам па сабе незалежна ад яго прыналежнасьці да КГБ і сувязяў з Масквой. Таму апрыёры можна было сьцьвярджаць, што ні да якой „дэмакратыі", ні да якой беларушчыны ён не павернецца ні пры якіх абставінах (хутчэй да Кім Чэн Іра і то, каб ашукаць).

Гэта якраз (фобія, псіхапатычны стан і абсалютная ўлада) ёсьць у палітыцы найбольш небясьпечная камбінацыя, бо разбурэньне ад такіх асобаў ідзе нават на ірацыянальным узроўні.

За апошнія два гады практычна пад корань разбурана беларуская школа (сістэма сярэдняй адукацыі). Вынікі для нацыі будуць катастрафічнымі. І гэта ўжо назіраецца. Манеўр быў просты. Спачатку ўсё было зроблена да дванаццацігадовай адукацыі, дзяцей навучалі ўжо палову новага цыклу. А потым адным махам усё скасавалі і за месяц загадана было вярнуць школу на старыя пазыцыі. Натуральна, што такое было немагчыма, як немагчыма адразу спыніць цягнік.

Людзі схільныя тлумачыць усё гэта самадурствам шчарбатай асобы. Так, тут ёсьць самадурства, але яно прадуманае і рацыянальна кіруемае. Разбурэньне сістэмы навучаньня сярэдняй школы можа стаць адной з прычынаў наступнай інтэлектуальнай і, адпаведна, тэхналягічнай адсталасьці ўсёй нашай нацыі.

Другім разбуральным ударам па мове і па школе ў гэты час стала рэжымная рэформа беларускага правапісу, які зрабілі тыя, што нішчаць беларускую мову і мовай не карыстаюцца. Адпаведна і вынік. Не адлюстраваны важнейшыя фанетычныя правілы беларускай мовы: зьмякчэньне зычных, напісаньне мяккага знака і іншыя асаблівасьці. Але сутнасьць рэжымнага ўмяшальніцтва ў правапіс ня ў гэтым, а ў тым, што адначасна прынята заканадаўчае палажэньне аб пакараньні тых асобаў, якія будуць пісаць з памылкамі ў новых правілах.

Гэта нават ужо не абсурд, не абмежаванасьць, а антымоўны дыскрымінацыйны акт, які выглядае ёрніцтвам, зьдзекам над людзьмі, прымітыўным жаданьнем улады адбіць ахвоту ўсім пісаць па-беларуску, бо на расейскі правапіс (значна больш цяжкі і складаны) такая заканатворчая фантазія не распаўсюджана.

Трэцім кардынальным замахам на беларускую мову і нацыянальную ідэнтычнасьць людзей у гэты час стала маніпуляцыя з перапісам насельніцтва, пра што я пісаў у першым артыкуле.

Тым часам ня так даўно адбылася чарговая ціхая дыверсія ў школьнай адукацыі. Мала таго, што кожны год зачыняюцца дзясяткі беларускіх школаў, якіх ужо і так амаль не засталося. Зь 1-га верасьня гэтага года для беларускіх дзяцей ва ўсіх школах уводзіцца выкладаньне рускага праваслаўя пад назовам „Асновы праваслаўнай культуры" і пад выглядам факультатыву. „Праграма падрыхтаваная, мы яе зацьвярджаем", – радасна ўсклікае кіраўнік аддзелу катэхізацыі Менскай епархіі (*Радыё Свабода, 8 жніўня 2010 г.*). Выкладаць дазволена сьвятарам РПЦ. Каталікам, вуніятам, пратэстантам і іншым „культурам" уваход у школу забаронены.

Што будзе абазначаць для школы (дарэчы, у шматканфэсійнай нацыі) упушчэньне туды КГБ у сутанах і сьвятароў РПЦ, мяркую, ня трэба нават апісваць. Паталагічная русіфікацыя беларускіх дзяцей гарантаваная, і рэжым, зьвяртаючыся да РПЦ, ведае, што вытварае.

Падсумоўваючы напісанае, зададзімся пытаньнем, што трэба зрабіць, каб увогуле і нават ужо цяпер, пры чужым рэжыме, адрадзіць нармальную беларускую школу?

Ізноў жа рытарычнае пытаньне. Пры чужым рэжыме, які ставіць задачу і праводзіць палітыку вынішчэньня беларускай школы і мовы, такая пастаноўка вымагае стварэньня грамадзкай сілы, якая будзе абараняць беларускія інтарэсы. І ўжо дзеля гэтага неабходна гаварыць у голас што трэба рабіць, каб школа была беларускай.

Адначасна неабходна выканаць два патрабаваньні, без якіх ня можа існаваць нармальная нацыянальная адукацыя. Выхаваньне новага пакаленьня і адукацыя ёсьць першасная дзяржаўная задача і галоўны інтарэс нацыі. Ад вырашэньня гэтай задачы залежыць будучыня. ***У Беларусі мусіць быць ліквідаваны акупацыйны мэтад фармаваньня школы, які застаўся ад саветаў, дзе выбар мовы навучаньня тытульнай нацыі ўзалежнены ад выбару бацькоў.*** Гэта вядомы маніпуляцыйны мэтад усіх

акупантаў-асімілятараў, дзе пытаньні адукацыі ставіліся з ног на галаву. Чужая ўлада ўсталёўвала сваю школу на сваёй мове, а для беларусаў пакідала „дэмакратыю" – пыталіся, на якой мове вы, беларусы, хочаце ў сябе дома вучыцца? А каб на беларускай мове хаценьня вучыцца было няшмат, улада рабіла кардынальнае парушэньне (разрыў) у сістэме адукацыі: аддзяляла вышэйшую школу ад сярэдняй, пераводзіла ўнівэрсітэцкае навучаньне на сваю мову (рускую ў БССР, ці польскую ў Заходняй Беларусі). Адчыняўся прастор для маніпуляцыяў думкамі бацькоў і навучэнцаў, узбуджаліся прагматычныя інтарэсы (паколькі асобы з акупацыйнай мовай навучаньня мелі лепшыя магчымасьці паступіць і вучыцца ва ўнівэрсітэце, чым зь беларускай). Урэшце рэшт улада фальшыва разводзіла рукамі, маўляў, мы „за" беларускую школу, ды самы бацькі-беларусы ня хочуць вучыць дзяцей па-беларуску. Беларусаў перад міжнароднай супольнасьцю выстаўлялі гэтакімі самаедамі, дурнямі, а сябе дэмакратамі.

Як бачым, няма ніякай розьніцы паміж акупацыяй унутранай і акупацыяй зьнешняй (традыцыйнай, звычайнай). Толькі што ўнутраная акупацыя фармальна схаваная ад зьнешняга вока і нішчыць нацыю знутры.

***У Беларусі сярэдняя школа і вышэйшая адукацыя мусяць быць беларускімі (беларускамоўнымі), сістэма адукацыі непарыўная.*** Правіла з выбарам мовы навучаньня бацькамі належыць (як звычайна ў дэмакратычных краінах) да нацыянальных мяншыняў і рэгулюецца адмысловым заканадаўствам.

Школа ёсьць дзяржаўная справа. Тут павінен строга датрымлівацца дэмакратычны прынцып аб аддзяленьні царквы (касьцёла) ад дзяржавы. Тым больш гэта важна для нас як шматканфэсійнай нацыі. Мы не павінны самы сабе ствараць і паглыбляць падзелы ў грамадзтве, а наадварот мацаваць наша нацыянальнае адзінства. Так званы школьны „факультатыў" „Асновы праваслаўнай культуры" мусіць быць ліквідаваны. Ніякія сьвятары, ксяндзы, бацюшкі, рабіны, прапаведнікі і т.п. не павінны быць у беларускай школе. У школе хапае праблем, людзі ў сутанах (асабліва ў беларускай сытуацыі) іх толькі павялічаць.

Як прадстаўнік народна-хрысьціянскай пазыцыі ў палітыцы мушу паўтарыць некаторыя азы, пацьверджаныя практыкай: самае бездказнае дзеяньне – гэта пускаць клерыкалаў у палітыку і сьвятароў у дзяржаўную школу. Вынік будзе адваротны і праблем не абярэшся. Нельга блытаць розныя рэчы. (Між іншым, у парадку дэгрэсіі, хоць да тэмы і не адносіцца: самая задушлівая дыктатура – гэта тэакратыя).

Паўтаруся, што заўвагі, якія я тут адзначыў, малаверагодныя для вырашэньня пры існуючым рэжыме, але дамагацца іх вырашэньня, ставіць перад уладай і грамадзтвам трэба цяпер. Цяпер трэба закладываць ідэйную і дзейную будучыню вольнай Беларусі.

*12 верасьня 2010 г.*

***Зянон Пазьняк***

***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***




***147. Вялікая эмблема БНФ (эталон)***

# 2003




*109-Д. Агрэсія ня пройдзе!*

## „ДЕХТО НА ЗАХОДІ ХОЧЕ «ЗДАТИ» БІЛОРУСІЮ РОСІЇ"

***– Білорусія дедалі більше інтегрується з Росією, режим Лукашенка зміцнюється, опозиція роз'єднана, над країною – радянський прапор. Тут, у Варшаві, від деяких білорусів я чув, що незалежності країни кінець, і з цим нічого не вдієш.***

– Так можуть стверджувати хіба безхребетні люди. Щодо ситуації у Білорусії, то вона не проста. Фактично там триває війна – війна без зброї з московським імперіалізмом. Якщо конкретніше – між московськими спецслужбами та білоруським визвольним рухом. За вкладеними у неї фінансовими та політичними ресурсами ця війна масштабніща, ніж та, яку Росія веде у Чечні. Зараз у російській зовнішній політиці два головні напрями – Кавказ та Білорусія. Для Росії Білорусія – це ключ до України. Відбудува-

ти російську імперію без Білорусії та України неможливо. КДБ був тією основною силою, що тримав Союз, і саме – він прийшов у Росії до влади. Ще у 1996 році, коли я приїхав до Києва, говорив на прес-конференції про цю російську стратегію. Говорив це і в Америці, і в Чехії, всюди, де доводилося бувати. Але Захід не робить висновків з історії. Тим часом зараз є реальна загроза не тільки білоруській, але й українській незалежності.

***– Чому ви для свого теперішнього місця перебування обрали саме Польщу?***

– Для того, аби проводити ефективну політику управління Фронтом, треба бути біля Білорусії. Будучи у сусідніх з Білорусією країнах (виїжджаю і в прибалтійські держави), маю більше можливостей для політичної діяльності.



***111-Д. На прыёме ў Дзяржэпартамэнце ЗША: З. Пазьняк, С. Састанавіч, М. Уолрык, В. Кіпель, 2000 г.***

***– А як складаються ваші стосунки з польською владою?***

– Їх фактично нема. Вони роблять вигляд, що тут мене нема. Але не можу сказати, щоб теперішня ліва польська влада виявляла до мене неприхильність.

***– Міністр закордонних справ Польщі Влодзімєж Цімошевіч заявив, що проблема з демократією в Білорусії його дуже непокоїть.***

– Для Польщі питання східного сусіда, питання Білорусії дуже важливе. Проникливі політики повинні розуміти, що за Бугом Польщі потрібна прихильна демократична держава. Коли цього не буде, поряд із Польщею може розвинутися кримінальний режим. Я маю на увазі страшніший режим, ніж Лукашенка.

***– Яку роль у цих розкладах відведено Лукашенкові?***

– Конфлікт, який є між Путіним та Лукашенком, полягає в тому, що Лукашенко хочэ Білорусію дорого продати. Його ставлять у такі умови, аби він продав країну дешево. Лукашенко провів велику підготовчу роботу із здачі Білорусії Росії, а тепер йому, вірному союзникові, грубо „ламають хребта”. Лукашенко – істота, за посередництвом якої Росія загрібає Білорусію, а поттім його ж виплюне.

***– Як складалися ваші стосунки із покійним нині В'ячеславом Чорноволом?***

– За роки моєї політичної еміграції я втратив чимало друзів-політиків – у Грузії, у Білорусії, в Україні. Деякі померли, декого вбили... Та найбільш мене вразила смерть В'ячеслава Чорновола. Не можу сказати, що ми були близькими друзями, та у нас було особливе взаєморозуміння. У 96-му році, коли я вперше приїхав в Україну, часто зустрічався з Чорноволом. Вже тоді, у 96-му, я йому казав: «Пане В'ячеславе, те, що відбувається у Білорусії, відбуватиметься і в Україні. Будьте обережні, передусім вони захочуть знищити вас». Пам'ятаю, як Чорновіл спохмурнів і замислився над моїми словами. Я не сумніваюся, що його вбили, це ніяка не аварія... Таку «аварію» готували й мені.

***– Чи правда, що В'ячеслав Чорновіл допоміг вам виїхати з Білорусії, коли готувався ваш арешт?***

– Так. Я виїздив з Білорусії двічі. Вперше 29 березня 96-го року залишав Білорусію через російське місто Унєча на Брянщині. В'ячеслав Чорновіл вислав за мною автомобіль. Коли я перетнув білорусько-російський кордон, на мене чекали українці. Рухівською машиною мене вивезли в Україну. Були проблеми, нас намагалися затримати, та українські хлопці зуміли дати раду у критичній ситуації. Вдруге того ж року я нелегально в'їхав у Білорусію з боку Польщі, коли відбувалася масштабна акція „Чорнобильський шлях”. Під час акції білоруські спецслужби не зуміли мене схопити, хоч для затримання був задіяний цілий загін ЗМОПу. Мені вдалося втекти, я приїхав у приміщення БНФ. Ввечері вони оточили будинок Фронту і розпочали його штурм, але й звідти мені вдалося вибратися. Потім я два тижні переховувався на конспіративних квартирах у Мінську. Впродовж тих тижнів друзі готували мій виїзд в Україну. Вдруге перетнути кордон вдалося у досить ризикований спосіб. У Києві я пішов до Руху, зателефонував дружині Чорновола (його самого не було у столиці). У Русі мені дуже допомагали – і житлом, і коштами, і прес-конференції організовували. Потім В'ячеслав Чорновіл організував автомобільний супровід аж до польського кордону.

***– Що, на вашу думку, відбувається нині в Україні?***

– Ситуацію в Україні оцінюю як ще гіршу, ніж у Білорусії. У нас усе зрозуміліше. Ось – ворог, ось – позиція Лукашенка. Забери Лукашенка, і не стане його режиму. У Білорусії не створилися такі міцні мафіозні групи, які зжеруть країну задля свого інтересу. Ситуація в Україні викликає у мене дуже велику тривогу. Разом із Чорноволом ми чудово розуміли, що без незалежної, міцної України важко буде Білорусії. А без вільної Білорусії важко буде Україні. У нас повинна бути єдина візія майбутнього.

***– Хто передусім Зенон Позняк – поет чи політик?***

– Усе життя я жив у внутрішній окупації, з дитинства не сприймав ні комунізму, ні Радянського Союзу. А треба було жити у тій системі. У тому постійному недоговорюванні, завуальованих розмовах по телефону... Коли постало питання відродження Білорусії, потрібні були люди, які б цим займалися. І що було робити: грати на скрипці, коли горить хата, чи кинути скрипку й гасити пожежу? Мені довелося кинути усе: і науку, і докторську дисертацію, і театрознавство, і поезію, і фотографію – і піти у політику. Та я не шкодую. Моя діяльність спричинилася до відродження білоруської державності.

***– Що би ви передусім хотіли сказати українцям, котрі читатимуть це інтерв'ю?***

– Найголовніше, аби українці не піддавалися відчаю. Хоч важко говорити про ідеї бідній людині... Кожному українцеві треба зрозуміти: як би не жилося бідно, голодно, найбільша цінність – Україна, її незалежність. Коли буде втрачено незалежність, буде втрачено все. Духовності, прагнення боронити своєї свободи за будь-яких обставин бажаю українцям та своїм білорусам.

***Інтэрв'ю: Ростислав КРАМАР, Варшава***

*Надрукавана: (Високий Замок, – 2003, 23.01 (Львів)*

# БАРАЦЬБА З РЭЖЫМАМ ПРАЎНЫМІ МЭТАДАМІ

***(Мэмарандум)***

*22 траўня гэтага году* шэсьць грамадзянаў Беларусі (***Сяргей Папкоў, Кастусь Кашэль, Генадзь Пляшко, Алег Радзюк, Алесь Чахольскі, Уладзімер Юхо***), якія належаць да Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ, падалі іскавыя заявы ў Вярхоўны Суд Беларусі аб парушэньні іхных чалавечых грамадзянскіх і канстытуцыйных правоў у выніку незаконнага падпісаньня А. Лукашэнкам 8 сьнежня 1999 года Дагавора аб стварэньні саюзнай дзяржавы з Расеяй.

Гэтым дагаворам груба парушаныя фундамэнтальныя артыкулы Канстытуцыі і чалавечыя правы грамадзянаў.

Адказчыкамі паісках грамадзянаў выступаюць А. Лукашэнка, які няпраўна займае пасаду прэзыдэнта Беларусі, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і Савет Рэспублікі, якія ратыфікавалі незаконную дамову.

Істцы патрабуюць прызнаць, што міжнародны дагавор аб стварэньні саюзнай дзяржавы (незаконна падпісаны 8.12.1999 г.) карэнным чынам зьмяняе ў горшы бок умовы жыцьця істцоў, уціскае і парушае іхныя чалавечыя і канстытуцыйныя правы, пагражае здароўю дзяцей.

Істцы патрабуюць прызнаць міжнародны дагавор аб стварэньні саюзнай дзяржавы (8.12.1999) несапраўдным, паколькі ён супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прыняты з парушэньнямі арт.**7**, **8** Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і арт. **3** і **16** Закона Рэспублікі Беларусь „Аб прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь".

Істцы патрабуюць ад Вярхоўнага Суду ўстанавіць парушэньні і зьвярнуцца ў Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь з хадайніцтвам прызнаць, што арт. **1** міжнароднага дагавора аб стварэньні саюзнай дзяржавы (8.12.1999) па сваёй сутнасьці не адпавядае палажэньням артыкула **1** Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Згодна закона істцы маюць права зьвяртацца па пытаньнях парушэньня правоў чалавека, якія ўзьніклі ў выніку парушэньня Канстытуцыі краіны, у Вярхоўны Суд, бо толькі Вярхоўны Суд, разглядзеўшы іскі, мае права зьвярнуцца ў Канстытуцыйны Суд.

Аднак Вярхоўны Суд груба парушыў закон і накіраваў іск ў суд ніжэйшай інстанцыі (які ня мае паўнамоцтваў) з рэзалюцыяй: „для прыняцьця рашэньня аб узбуджэньні справы".

Суд ніжэйшай інстанцыі (у дадзеным выпадку суд Ленінскага раёна г. Менска) адмовіўся ўзбуджаць справу. Тое ж праштампавалі ўсе іншыя судовыя інстанцыі на касацыйныя скаргі істцоў.

На паўторны зварот у Вярхоўны Суд быў дадзены цалкам не абгрунтаваны законам і неадэкватны адказ.

Такім чынам Вярхоўны Суд парушыў закон, адмовіў грамадзянам ва ўзбуджэньні судовай справы па абароне сваіх чалавечых правоў.

Канстытуцыйны Суд таксама адмовіўся ініцыяваць узбуджэньне судовай справы на просьбу істцоў.

У выніку такой пазыцыі судоў грамадзяне зьвярнуліся з заявамі ў Парляманцкую асамблею АБСЭ і ў Камісію па правах чалавека ААН, дзе паставілі пытаньне абісках.

Рэжым Лукашэнкі прасякнуты зьверху да нізу спэцслужбамі чужой краіны, не абгрунтаваны на законах і праве. Этнацыд супраць беларусаў, ламаньне іхных чалавечых правоў, агрэсіўнае бяспраўе і беззаконьне ёсьць асноўная рыса рэжыму. Барацьба праз суды пачата, каб прымусіць афіцыйныя структуры зьвярнуцца да законных шляхоў, каб весьці зь імі размову на праўным узроўні.

Для падмацаваньня справядлівай пазыцыі створана ініцыятыўная група, якая зьбірае подпісы людзей аб далучэньні да заявы істцоў у якасьці трэціх асобаў. Ужо (на 1 жніўня) далучылася паўтары тысячы чалавек.

Зварот у суд выкліканы рэальнай пагрозай чарговага незаконнага рэфэрэндуму аб прыняцьці так званага „канстытуцыйнага акту", які адчыніў бы шлях да анэксіі нашай краіны Расеяй.

Незаконны рэфэрэндум па задуме арганізатараў пакліканы „легалізаваць" незаконны дагавор, шляхам зьменаў у Канстытуцыі. Гэта ёсьць форма палітычнай агрэсіі, падрыхтоўка інкарпарацыі Беларусі.

Мы інфармуем беларусаў ва ўсім сьвеце і міжнародную супольнасьць і спадзяёмся на салідарнасьць у нашым змаганьні за справядлівасьць, свабоду і гарантыі незалежнасьці Беларусі.

*1 жніўня 2003 г.* ***Зянон ПАЗЬНЯК***

***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ДЛЯ ДРУКУ

**1**. Менскі гарадзкі суд (усьлед за Вярхоўным судом і судом Ленінскага раёна г.Менска) незаконна адмаўляе грамадзянам ва ўзбуджэньні грамадзянскай справы па абароне іхных правоў, парушаных незаконным дагаворам аб стварэньні саюзнай дзяржавы, які А. Лукашэнка падпісаў 8 сьнежня 1999 г.

Калегія Менскага гарадзкога суда пры старшынстве суддзі **Дулуб** 10 ліпеня 2003 г. і Калегія гэтага суда пры старшынстве суддзі **Глухоўскай** 17 і 21 ліпеня 2003 г. разгледзелі касацыйныя скаргі сяброў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ ***Сяргея Папкова, Генадзя Пляшко, Алега Радзюка, Алеся Чахольскага*** і ***Ўладзімера Юхо***. Калегіі гарадзкога суда праштампавалі адмоўнае рашэньне. У парушэньне норм Грамадзянскага кодэксу і Грамадзянскага працэсуальнага кодэксу яны пацьвердзілі вызначэньне суда Ленінскага раёна аб непадведамаснасьці судом справы парушэньня А. Лукашэнкам і ворганамі ўлады правоў і свабод грамадзянаў. Суды стаяць у глухой абароне А. Лукашэнкі і органаў яго рэжыма. Яны ня ёсьць самастойныя, яны залежныя ад А. Лукашэнкі і рэжыму.

**2**. У падтрымку судовых іскаў сяброў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ у абарону канстытуцыйных правоў грамадзянаў краіны створана ініцыятыўная група і разгорнута праца па зборы подпісаў пад калектыўнай заявай у Вярхоўны суд. Гэтая ініцыятыва мае агульнаграмадзянскі характар і накіравана на адстойваньне незалежнасьці і суверэнітэту Беларусі. Ініцыятары зьвярнуліся да грамадзянаў Беларусі з заклікам байкатаваць незаконны рэфэрэндум, які рыхтуе А. Лукашэнка і Масква. Гэты „рэфэрэндум" ёсьць імкненьне зацьвердзіць незаконную змову аб стварэньні незаконнай саюзнай дзяржавы. Зварот прыкладаецца.

**3**. Паколькі суды ў нашай краіне адмаўляюць грамадзянам ў абароне іхных правоў, ініцыятары падалі пэтыцыі ў Камісію па правах чалавека Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў і АБСЭ. Пэтыцыі накіраваныя па электроннай пошце. 16 ліпеня пэтыцыя ў АБСЭ перададзена афіцыйна намесьніку кіраўніка офіса АБСЭ ў Менску.

*24 ліпеня 2003 г.*

***Прэс-служба Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ***

6

***112-Д(1), 112-Д(2). („Беларускія Ведамасьці")***

# ЗАЯВА ІСТЦОЎ

*(Бюро АБСЭ па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека Al. Ujazdowskie, 19, 00-557 Warsaw, Poland)*

Лічым неправільным, што эўрапейская супольнасьць дзяржаваў спакойна назірае за тым, як пасьлядоўна агрэсіўная Расея паглынае Беларусь, парушаючы нашу Канстытуцыю і нормы міжнароднага права, зацьверджаныя Статутам Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў і шэрагам Дэкларацыяў, у тым ліку:

— ***„Дэкларацыяй аб недапушчальнасьці ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы дзяржаваў, аб ахове іх незалежнасьці і сувэрэнітэту"***, прынятай 22 сьнежня 1965 года, A/RES 2131 (XX);

— ***„Дэкларацыяй аб прынцыпах міжнароднага права, якія тычацца сяброўскіх адносінаў і супрацоўніцтва паміж дзяржавамі ў адпаведнасьці са Статутам Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў"***, прынятай 24 кастрычніка 1970 года, A/RES 2625 (XXV);

— ***„Дэкларацыяй аб умацаваньні міжнароднай бясьпекі"***, прынятай 16 сьнежня 1970 года, A/RES 2734 (XXV);

— ***„Дэкларацыяй аб недапушчальнасьці інтэрвэнцыі і ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы дзяржаваў"***, прынятай 9 сьнежня 1981 года, A/RES 36/103;

— ***„Манільскай дэкларацыяй аб мірным вырашэньні міжнародных спрэчак"***, прынятай 15 лістапада 1982 года, A/RES 37/10;

— ***„Дэкларацыяй аб прадухіленьні і ліквідацыі спрэчак і сітуацыяў, якія могуць пагражаць міжнароднаму міру і бясьпецы, і аб ролі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў у гэтай галіне"***, прынятай 5 сьнежня 1988 года, A/RES 43/51.

Мы, грамадзяне Беларусі: Кастусь Кашэль, Сяргей Папкоў, Генадзь Пляшко, Алесь Радзюк, Алесь Чахольскі, Уладзімер Юхо, падалі іскавыя заявы ў Вярхоўны суд аб парушэньні нашых чалавечых правоў з патрабаваньнем спыніць гвалт над нашымі канстытуцыйнымі правамі, прызнаць несапраўдным дагавор аб стварэньні саюзнай дзяржавы. Адказчыкамі па нашых исках заяўлены: А. Лукашэнка, Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі.

Сутнасьць парушэньняў беларускага заканадаўства і Канстытуцыі ў наступным:

8 сьнежня 1999 года А. Лукашэнка, які займае пасаду Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, падпісаў у Маскве міжнародны дагавор аб стварэньні саюзнай дзяржавы (далей па тэксьце „дагавор"). Дагавор прыняты Палатай прадстаўнікоў 14 сьнежня 1999 года і адобраны Саветам Рэспублікі 22 сьнежня 1999 года. Пры гэтым мы прымаем пад увагу, што ў сьнежні 1999 года ні кіраўнік выканаўчай улады А.Лукашэнка, ні прызначаныя ім раней „палата прадстаўнікоў" і „савет Рэспублікі" не валодалі статусам легітымнай улады, бо не былі абраныя дэмакратычным спосабам (і да таго ж, непрызнаныя міжнароднай супольнасьцю).

Дагавор, а таксама Праграма дзеяньняў Рэспублікі Беларусь і Расейскай Фэдэрацыі па рэалізацыі палажэньняў дагавору аб стварэньні „саюзнай дзяржавы" (далей па тэксьце «праграма») супярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і парушаюць яе ў наступным:

Артыкулам 1 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь зацьверджана, што „**Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава.**

**Рэспубліка Беларусь валодае вярхоўенствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыцьцяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку.** „

Дагавор парушае гэтыя асноўныя палажэньні арт.1 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

У артыкуле 1 главы I дагавору запісана:

*„Республика Беларусь и Российская Федерация (далее -государства-участники) создают Союзное государство, которое знаменует собой новый этап в процессе единения народов двух стран в демократическое правовое государство.»*

У артыкуле 7 дагавору сказана:

*«1. Территория Союзного государства состоит из государственных территорий государств-участников.*

*2. Государства-участники обеспечивают целостность и неприкосновенность территории Союзного государства.*

*3. Внешней границей Союзного государства являются границы государств-участников с другими государствами или пространственный предел действия государственных суверенитетов государств-участников.»*

У прэамбуле праграмы запісана:

*„Задача Программы — определение содержания, этапов и сроков работы по передаче Союзному государству зафиксированных в Договоре предметов ведения*, способов законодательного закрепления такой передачи, включая возможное внесение изменений в конституции двух государств, а также организационные рамки этой деятельности в Союзном государстве, создание необходимых союзных или координирующих органов. В нее включаются задачи по осуществлению двумя государствами комплекса взаимосвязанных мероприятий в экономической, правовой и иных сферах, **которые направлены на их поэтапное объединение**.

*Выполнение настоящей Программы ознаменует завершение процесса создания Союзного государства с единым экономическим пространством, единой транспортной системой, единой таможенной территорией, единой денежной единицей, общим бюджетом, в котором государства-участники проводят тесно согласованную политику в международных делах, в сфере обороны, безопасности, борьбы с преступностью, в социальной и культурной областях".*

Такім чынам, Рэспубліка Беларусь у адпаведнасьці з дагаворам з унітарнай дзяржавы ператвараецца ў суб'ект новай незаконна ствараемай саюзнай дзяржавы.

Вышэйшая службовая асоба дзяржавы А.Лукашэнка і органы дзяржаўнай улады — Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі перавысілі свае паўнамоцтвы, калі падпісалі і прынялі дагавор, які супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь зацьверджана:

— артыкулам 7 — „**Дзяржава, усе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю актаў заканадаўства**";

— артыкулам 8 — „**Не дапускаецца заключэнне міжнародных дагавароў, якія супярэчаць Канстытуцыі**".

Законам Рэспублікі Беларусь „Аб Прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь" зацьверджана:

„Статья 3. *Президент осуществляет свою деятельность в целях развития Республики Беларусь как* ***унитарного*** *демократического социального правового* ***государства,***

Статья 16. *Президент осуществляет функции Главы государства в рамках Конституции Республики Беларусь*, настоящего Закона и несет ответственность за правильность и полноту их реализации перед гражданами Республики Беларусь".

Дагавор і пашыраючыя яго акты скіраваныя на карэннае зьмяненьне ў бок пагаршэньня ўмоваў нашага жыцьця, уціскаюць і парушаюць нашыя правы.

У адпаведнасьці з артыкулам 14 дагавору ўсе грамадзяне Беларусі аўтаматычна запісваюцца ў грамадзянства „саюзнай дзяржавы". Такім чынам, нам без нашай волі надаюць статус грамадзянаў ядзернай краіны. Па дагавору Беларусь стала часткай тэрыторыі, на якой створана і дзейнічае аб'яднаная вайсковая групоўка. На тэрыторыі Беларусі разьмешчаныя расейскія стратэгічныя аб'екты і расейскае войска выкарыстоўвае вайсковую інфраструктуру Беларусі (аэрадромы, дарогі, інш.).

Існуе рэальная пагроза беларусам апынуцца на расейскіх войнах. Мы, беларусы, становімся закладнікамі агрэсіўнай палітыкі чужой дзяржавы.

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, артыкул **10**, гарантуе абарону і заступніцтва дзяржавы кожнаму яе грамадзяніну. А.Лукашэнка і заканадаўчыя органы ў парушэньне Канстытуцыі падпісалі і ратыфікавалі дагавор, які надае грамадзянам Расейскай Фэдэрацыі роўныя правы на тэрыторыі Беларусі, і гэтым ставіць грамадзянаў Беларусі ў безабароннае становішча. У нашай краіне не праведзена прыватызацыя маёмасьці, зямля не замацаваная за грамадзянамі.

У гэтых жыцьцёва важных сфэрах, падобна як і ў вобласьці нацыянальнай адукацыі, палягаюць найбольш масавыя парушэньні правоў грамадзянаў

Беларусі, учыненыя дыктатарскім рэжымам А. Лукашэнкі. Як мы зараз разумеем, гэта рабілася і робіцца пад дыктоўку Масквы. Для Масквы неабходна, каб беларусы ня мелі матэрыяльных асноваў жыцця на сваёй тэрыторыі. У гэтым выпадку беларусаў будзе лягчэй перамяшчаць дзеля зьдзяйсьненьня імпэрскіх плянаў, выкарыстоўваць як інтэлектуальны людзкі рэсурс на абшарах Расеі, а тэрыторыю Беларусі выкарыстоўваць як плацдарм для экспансіі на заходнім кірунку.

Таму не праведзена зямельная рэформа. А.Лукашэнка захаваў савецка-калгасную форму гаспадараньня на зямлі.

Таму, з прыходам ў 1994 г. да ўлады А.Лукашэнкі, была спыненая дзейнасьць законаў і праграмы па разьдзяржаўленьні і прыватызацыі, прынятыя ў 1993 г. Вярхоўным Саветам 12-га скліканьня. У адпаведнасьці з гэтым заканадаўствам 50% кошту маёмасьці прамыслова-вытворчай і абслугоўваючай інфраструктуры Беларусі было замацавана за грамадзянамі. Пад гэты кошт была зроблена эмісія імянных прыватызацыйных чэкаў „Маёмасьць". На сёньняшні час каля трох мільёнаў грамадзянаў Беларусі маюць імянныя прыватызацыйныя чэкі, але пазбаўленыя магчымасьці рэалізаваць сваё законнае права авалодаць сваёй доляй маёмасьці. Прыкладам нахабнага парушэньня маёмасных правоў грамадзянаў з'яўляецца указ А.Лукашэнкі № 70 за 13 лютага 2003 г. Указам ён устанавіў, што найбуйнейшыя дзяржаўныя прадпрыемствы нафта-хімічнага комплексу будуць прадавацца толькі за грошы, без уліку таго, што 50% іх кошту закладзена ў імянных прыватызацыйных чэках „Маёмасьць".

Тыя формы „разьдзяржаўленьня і прыватызацыі", якія маюць месца ў Беларусі пачынаючы з 1999 года, не што іншае, як карупцыя ў буйных міжнародных маштабах. А. Лукашэнка за падтрымку яго ўлады на Беларусі разьлічваецца з расейскімі кампаніямі беларускай маёмасьцю.

Перадача выключных паўнамоцтваў па асноўных кірунках дзяржаўнай дзейнасьці іншай дзяржаве (арт. 17 і арт.18 дагавору) ставіць нас, беларусаў, у залежнасьць ад палітыкі іншай дзяржавы, якая карэнным чынам не адпавядае інтарэсам Беларусі.

Дагавор складзены такім чынам, што яго палажэньні дазваляюць пасьлядоўна трансфармаваць суверэнную ўнітарную дзяржаву Рэспубліка Беларусь у суб'ект іншай дзяржавы — Расейскай Фэдэрацыі. Дагавор робіць нікчэмным палажэньне арт. 9 Канстытуцыі *„Тэрыторыя Рэспублікі Беларусь з'яўляецца натуральнай умовай існаваньня і прасторавай мяжой самавызначэньня народа, асновай яго дабрабыту і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь".*

Такім чынам, заключыўшы і зацьвердзіўшы насуперак Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь „дагавор" аб стварэньні „саюзнай дзяржавы" з Расеяй, кіраўнік выканаўчай улады Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка і існуючыя вышэйшыя ўлады Рэспублікі Беларусь — Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі — парушылі і зламалі нашыя канстытуцыйныя чалавечыя правы. Менавіта:

— права жыць і рэалізоўваць свае сацыяльна-духоўныя і творчыя магчымасьці ў незалежнай суверэннай беларускай дзяржаве;
— права ня ўдзельнічаць у ваенных канфліктах іншай дзяржавы і не аддаваць сваіх сыноў у чужое войска, на чужыя войны;
— права на валоданьне нацыянальнай маёмасьцю, у аснове якой ляжыць праца кожнага беларуса;
— права на стварэньне прыватнай уласнасьці на аснове беларускай нацыянальнай маёмасьці;
— права ўласнасьці на зямлю (з-за стварэньня неспрыяльных для беларусаў эканамічна-праўных умоваў);
— права на інтэлектуальную маёмасьць беларускай нацыі (у выніку вынішчэньня беларускай нацыянальнай адукацыі);
— права на адукацыю ў роднай мове (у выніку ліквідацыі беларускай нацыянальнай агульнаадукацыйнай і вышэйшай школы);
— права на беларускую нацыянальна-культурную самарэалізацыю асобы (у выніку ліквідацыі афіцыйнага ўжываньня беларускай мовы).

Пад шыльдай „інтэграцыі" разбураюцца эканамічныя, культурныя, тэрытарыяльныя асновы існаваньня 10-мільённага беларускага народа. Не ў інтарэсах эўрапэйскіх краінаў і тым больш суседзяў: Латвіі, Літвы, Польшчы, Украіны, каб у Беларусі ствараліся ўмовы для выціскання працавітага, таленавітага, беларускага народа са сваёй тэрыторыі і засяленьня яе іншымі людзьмі, з іншым мэнталітэтам, для якіх гэтая тэрыторыя чужая.

Не прынясе карысьці эўрапэйскай цывілізацыі і эўрапэйскаму інтэлекту імкненьне некаторых эўрапэйскіх палітыкаў і некаторых колаў эўрапэйскага бізнэсу, зьвязаных з гандлем і спажываньнем нафта-газавых і іншых сыравінных расейскіх рэсурсаў, пайсьці на згоду з расейскім імпэрскім рэжымам і падштурхнуць беларусаў у абдымкі дэградуючай расейскай імпэрыі.

Суды Рэспублікі Беларусь у парушэньне заканадаўства адмовілі нам у судовым парадку абараніць свае канстытуцыйныя правы. Суды, як і заканадаўчая ўлада: Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі, залежныя ад дыктатара і яго выканаўчых структураў.

***Мы просім АБСЭ скарыстаць існуючыя ў яе распараджэньні мэханізмы для ўстанаўленьня факту парушэньня нашых агульначалавечых правоў і канстытуцыйных правоў грамадзянаў Беларусі. Просім дапамагчы тэрмінова спыніць дзейнасьць Расейскай Фэдэрацыі па ліквідацыі дзяржаўнага суверэнітэту і незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. Просім разглядзець гэтае пытаньне на спэцыяльнай сэсіі Парляманцкай Асамблеі АБСЭ.***

Тэрміновасьць вызначаецца тым, што Масква падрыхтавала „канстытуцыйны акт саюзнай дзяржавы" і праз А.Лукашэнку пляне ў бліжэйшы перыяд правесьці ў Беларусі рэфэрэндум па яго прыняцьці. Мэта рэфэрэндуму па „канстытуцыйным акце" — прыдаць выгляд легітымнасьці працэсам паглынаньня Беларусі Расіяй, якія рэалізуюцца ў адпаведнасьці з дагаворам. Рэжым А.Лукашэнкі сфармаваў такую сістэму фальсіфікацый выбараў і рэфэрэндумаў, што ні выбары, ні рэфэрэндумы не выяўляюць выбар беларускага народа. Сістэма фальсіфікацыі выбараў пры адсутнасьці дэмакратыі ў краіне забясьпечвае выйграньне дыктатару незалежна ад рэальнага волевыяўленьня выбаршчыкаў. Што неаднаразова ўжо пацьвердзілі выбары і рэфэрэндумы, якія праводзіліся ў Беларусі лукашэнкаўскім рэжымам.

*10 ліпеня 2003 г., Менск*

***Папкоў С. Кашэль К.***
***Пляшко Г. Радзюк А.***
***Чахольскі А. Юхо У.***

# ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯНАЎ БЕЛАРУСІ

***Адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь зьяўляецца народ.***
*Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь (арт.3)*

Паважаныя грамадзяне!

Мы, Кастусь Кашэль, Сяргей Папкоў, Генадзь Пляшко, Алег Радзюк, Алесь Чахольскі, Уладзімер Юхо, падалі іскавыя заявы ў Вярхоўны суд з мэтай спыніць гвалт над нашымі канстытуцыйнымі правамі, прызнаць несапраўдным дагавор аб стварэньні саюзнай дзяржавы. Адказчыкамі па нашых іcках заяўлены: А. Лукашэнка, Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі.

У сьнежні 1999 г. Лукашэнка падпісаў, а Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі ратыфікавалі Дагавор аб стварэньні саюзнай дзяржавы. Яны перавысілі свае паўнамоцтвы, калі падпісалі і прынялі Дагавор, які супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь зацьверджана:

— артыкулам **1** — *„Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава. Рэспубліка Беларусь валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыцьцяўляе ўнутраную і зьнешнюю палітыку."*
— артыкулам **7** — *„Дзяржава, усе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасьці зь ёю актаў заканадаўства";*
— артыкулам **8** — *„Не дапускаецца заключэньне міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі".*

Законам Рэспублікі Беларусь „Аб Прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь" зацьверджана:
— артыкулам 3 — *„Прэзыдэнт выконвае сваю дзейнасьць у мэтах развіцьця Рэспублікі Беларусь як* ***унітарнай*** *дэмакратычнай сацыяльнай прававай* ***дзяржавы****";*
— артыкулам 16 — *„Прэзыдэнт выконвае функцыі Галавы дзяржавы ў межах Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, гэтага Закона і нясе адказнасьць за правільнасьць і паўнату іх рэалізацыі перад грамадзянамі Рэспублікі Беларусь."*

Дагавор, які ператварае ўнітарную дзяржаву Рэспубліку Беларусь у суб'ект нейкай незаконнай „саюзнай дзяржавы" ня ёсьць дагавор, гэта ёсьць змова. Аб'ектам змовы сталі мы, усе грамадзяне Беларусі. А. Лукашэнка, палатнікі, міністры сталі на шлях парушэньня Канстытуцыі і заканадаўства нашай дзяржавы. За паслугі і дапамогу Масквы ва ўтрыманьні ўлады яны разьлічваюцца нацыянальнымі інтарэсамі, нашым жыцьцём, нашай зямлёй, нашай тэрыторыяй, нашай маёмасьцю.

**Ёсьць магчымасьць спыніць гэтае беззаконьне**. Трэба дэнансаваць дагавор-змову або праз суд прызнаць яго несапраўдным. Дзеля гэтага мы падалі іскі ў суд.

Мы ведаем, што нашы суды і пракуратура ( як і палаты) не самастойныя, зьяўляюцца інструмэнтам ў руках рэжыму. Мы не чакаем ад іх станоўчага рашэньня.

Аднак ёсьць адна акалічнасьць, якая робіць гэты дагавор-змову нікчэмным. Змоўшчыкі ведаюць, што яны парушылі нормы міжнароднага права, зацьверджаныя Статутам і дакумантамі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Таму гэты дагавор-змову спрабуюць падаць у прыгожай упакоўцы пад шыльдай „інтэграцыі брацкіх народаў". Таму падрыхтавалі „канстытуцыйны акт" так званай „саюзнай дзяржавы" і плянуюць учыніць „рэфэрэндум" для беларусаў, спрабуючы „постфактум" прыдаць выгляд легітымнасьці гэтай змове. Калі нічога не рабіць, то пры той машыне фальсіфікацыяў, якая створана рэжымам, „дабраахвотнае" прыняцьце „канстытуцыйнага акта" будзе забясьпечана.

Гэтага нельга дапусьціць. Паколькі суды незаконна адмовіліся разглядаць нашы іскавыя заявы, мы накіравалі зварот у Камісію па правах чалавека Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. У звароце выказана прашэньне выкарыстаць мэханізмы, якія мае ў распараджэньні Камісія, і дапамагчы:

1. *Разгледзець справу па нашыхісках у Міжнародным судзе Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў з мэтай прызнаньня несапраўдным Дагавора аб стварэньні Саюзнай дзяржавы.*
2. *Вынесьці на разгляд Савета Бясьпекі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў пытаньне аб спыненьні агрэсіўных дзеяньняў Расейскай Фэдэрацыі ў дачыненьні да Рэспублікі Беларусь.*

Для атрыманьня станоўчага выніку запачаткавана стварэньне ініцыятыўнай групы, якая разгортвае працу па далучэньні грамадзянаў да калектыўнай заявы ў Вярхоўны суд з патрабаваньнем прызнаньня несапраўдным незаконнага дагавора аб стварэньні саюзнай дзяржавы.

***Заклікаем беларусаў*** *стаць на абарону сваіх жыцьцёвых інтарэсаў, інтарэсаў сваіх дзяцей і ўнукаў — прыняць удзел у стварэньні і працы ініцыятыўнай групы або падпісаць калектыўную заяву ў Вярхоўны суд.*

***Заклікаем усіх грамадзянаў, журналістаў, сродкі масавай інфармацыі, грамадзкія арганізацыі, партыі, праваабарончыя цэнтры*** *выкарыстаць свой уплыў, рэсурсы, сувязі для інфармаваньня беларускага і міжнароднага грамадзтва аб незаконнасьці і нікчэмнасьці Дагавора аб стварэньні „саюзнай дзяржавы".*

*Заклікаем не дапусьціць правядзеньня акупанцкага рэферэндуму, на якім нам будзе прапанавана зацьвердзіць учыненае над намі злачынства. У гісторыі чалавецтва, відаць, не знойдзецца прыкладаў такой зьдзеклівай і нахабнай агрэсіі.*

*У выпадку, калі зьдзеклівы рэфэрэндум будзе прызначаны, трэба арганізаваць агульны байкот. Ніхто не павінен ісьці галасаваць. Лукашэнкаўская машына фальсіфікацыяў павінна пракруціцца ўпустую.*

***Ліквідуем антыканстытуцыйны дагавор-змову, не дапусьцім „рэфэрэндуму" — выпадзе расейская падпорка з-пад лукашэнкаўскага рэжыму, і ён абваліцца. Няма яму падтрымкі на Беларусі.***

Мы абавязаны выканаць сваё канстытуцыйнае права найвышэйшай улады ў нашай дзяржаве. У Беларусі павінны быць праведзеныя новыя прэзыдэнцкія выбары пад міжнародным пратэктаратам.

*Грамадзяне Беларусі:*
*Кастусь Кашэль Генадзь Пляшко*
*Алесь Чахольскі Сяргей Папкоў*
*Алег Радзюк Уладзімер Юхо*
Для кантактаў зьвяртацца па адрасе: 220071, Мінск-71, а/с 153,
Тэл. 8-0296-61-51-43, E-mail: belsalidar@tut.by
***24 ліпеня 2003 г., Менск***

***113-Д(2). („Беларускія Ведамасьці")***

# АБАРОНА СУВЕРЭНІТЭТУ. ПРЭВЕНТЫЎНЫЯ ЗАХАДЫ

***Для азнаямленьня калегам.*** *Гэтая справа (сутнасьць яе ў заяве) ў 2003-2004 гг. прайшла ўсе судовыя інстанцыі ў Беларусі (у тым ліку Канстытуцыйны Суд). Справу не ўзялі да вытворчасьці, у чым мы і не сумняваліся. Але ёсьць перапіска з судамі. Цяпер усё падрыхтавана для выхаду ў міжнародны Суд. Але зьвярнуцца ў Міжнародны суд па правах чалавека немагчыма, бо рэжым не падпісаў неабходных канвэнцыяў. Падняць пытаньне на Захадзе як праблему – не ўдалося. Чэмбэрлены шарахаюцца і разьбягаюцца (гэта супярэчыць іхняй палітыцы адносна Беларусі).*

*Уся наша бяда, аднак, – у недахопе палітычных і юрыдычных нацыянальных кадраў, якія маглі б займацца гэтым пытаньнем у міжнародным пляне. Зразумела, што ніхто ня мае ілюзіяў праз суд вырашыць праблему акупацыі краіны, але важна яе голасна паставіць цераз „правы чалавека" (заходні тактычны конік у геапалітыцы).*

*Аншлюс плянуецца амаль што ў міжнароднай цішыні пад трэскатню пра „інтэграцыю" (Расея, рэжым у РБ) і „правы чалавека" (Захад, Амэрыка). Цяпер Масква гаворыць пра рэфэрэндум аб так зв. „канстытуцыйным акце" створанага імі пераходнага фантома („союзного государства"). Гэта вельмі небясьпечная сытуацыя. Пры агульнай бясьпечнасьці і палітычнай адсталасьці ў Беларусі ды прагматычнай палітыцы Эўропы Беларусь могуць ціха загарнуць у некалькі этапаў, а хто стане лямантаваць – будзе названы нацыяналістам, фашыстам і тэрарыстам. І гэтага Захаду хопіць каб апраўдацца.*

***З павагай З. Пазьняк.***

*26 жніўня 2006. НЁ.*

* * *

## ПАТРАБАВАНЬНІ ГРАМАДЗЯНАЎ БЕЛАРУСІ ДА ЎЛАДАЎ РАСЕІ

***Паведамленьне***

**4 верасьня 2003 г.** грамадзяне Беларусі ***Зянон Пазьняк, Юры Беленькі, Кастусь Кашэль, Сяргей Папкоў, Генадзь Пляшко, Алег Радзюк, Уладзімер Раманцоў, Алесь Чахольскі, Уладзімер Юхо***

патрабавалі ад кіраўніцтва Расеі спыніць умяшаньне ва ўнутраныя справы Беларусі.

Грамадзяне выступілі як суб'екты міжнароднага права і ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь дзеля абароны незалежнасьці і суверэнітэту краіны ў сувязі з тым, што ўлада дыктатарскага гэжыму А. Лукашэнкі парушыла Канстытуцыю, Закон і служыць інтарэсам чужой дзяржавы.

Заява накіраваная Расейскаму паслу Блахіну А.В. для перадачы ў адрас Прэзыдэнта, Ураду, Дзярждумы, Савету Фэдэрацыі Расейскай Фэдэрацыі.

**(ТЭКСТ ЗАЯВЫ ДАДАЕЦЦА.)**

## ГРАМАДЗЯНСКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА «БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ»

* * *

**Патрабуем спыніць умяшаньне ва ўнутраныя справы Беларусі, парушэньні правоў і свабод грамадзянаў Беларусі ўладнымі ворганамі Расейскай Фэдэрацыі.**

***Заява.***

Мы, грамадзяне Беларусі, патрабуем ад уладных ворганаў Расейскай Фэдэрацыі спыніць парушэньне норм міжнароднага права ў дачыненьні да Рэспублікі Беларусь і 10-мільённага беларускага народу. Справа тычыцца незаконнай дзейнасьці вышэйшых ворганаў улады Расейскай Фэдэрацыі па выкананьні незаконнага дагавора аб стварэньні саюзнай дзяржавы, які 8 сьнежня 1999 г. падпісаны з боку Расейскай Фэдэрацыі Прэзыдэнтам Б. Ельцыным. Гэты дагавор незаконны, паколькі накіраваны на ператварэньне ўнітарнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь у суб'ект нейкай „саюзнай дзяржавы", што забаронена нашай Канстытуцыяй.

Парушэньне Канстытуцыі нашай дзяржавы цягне за сабой парушэньне нашых канстытуцыйных і агульнапрызнаных правоў і свабод. Менавіта:

· права жыць і рэалізоўваць свае сацыяльна-духоўныя і творчыя магчымасьці ў незалежнай суверэннай беларускай дзяржаве;

· права ня ўдзельнічаць у ваенных канфліктах іншай дзяржавы і не аддаваць сваіх сыноў у чужое войска, на чужыя войны;

· права на валоданьне нацыянальнай маёмасьцю, у аснове якой ляжыць праца кожнага беларуса;

· права на стварэньне прыватнай уласнасьці на аснове беларускай нацыянальнай маёмасьці;

· права ўласнасьці на зямлю (з-за стварэньня неспрыяльных для беларусаў эканамічна-праўных умоваў);

· права на інтэлектуальную маёмасьць беларускай нацыі (у выніку вынішчэньня беларускай нацыянальнай адукацыі);

· права на адукацыю ў роднай мове (у выніку ліквідацыі беларускай нацыянальнай агульнаадукацыйнай і вышэйшай школы);

· права на беларускую нацыянальна-культурную самарэалізацыю асобы (у выніку ліквідацыі афіцыйнага ўжываньня беларускай мовы).

Дагавор аб стварэньні саюзнай дзяржавы і праграма па яго рэалізацыі дакумэнтальна сьведчаць аб грубым умяшаньні Расейскай Фэдэрацыі ва ўнутраныя справы Рэспублікі Беларусь з мэтай ліквідацыі яе дзяржаўнай незалежнасьці і суверэнітэту. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што ў сьнежні 1999 г., калі быў падпісаны гэты незаконны дагавор, ні А.Лукашэнка, ні прызначаныя ім „палаты Нацыянальнага сходу" не зьяўляліся легітымнымі ўладамі ў Беларусі. А. Лукашэнка, падпісаўшы гэты дагавор, парушыў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь (артыкулы 7 і 8) і Закон Рэспублікі Беларусь „Аб Прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь" (артыкулы 3 і 6).

Знаходжаньне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ворганаў незаконнай саюзнай дзяржавы, уключэньне Беларускага войска ў склад аб'яднанай вайсковай групоўкі, уключэньне беларускай мяжы і беларускіх памежных войскаў у мяжу і памежныя войскі „саюзнай дзяржавы", праца па ліквідацыі беларускай валюты і ўвядзеньні расейскага рубля, татальная русіфікацыя ў галінах адукацыі, дзяржаўнага справаводства і СМІ, утрыманьне савецкага ладу ў пытаньнях уласнасьці на зямлю і на сродкі вытворчасьці, кадравая палітыка, згодна якай на адказныя пасады прызначаюцца грамадзяне Расейскай Фэдэрацыі, заканадаўчая і нарматыўная „творчасьць" па абмежаваньні эканамічных, палітычных, культурных правоў беларусаў сведчаць аб тым, што А. Лукашэнка і яго рэжым дзейнічае ў інтарэсах чужой дзяржавы (Расейскай Фэдэрацыі). Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь кваліфікуе такую дзейнасьць як злачынства супраць дзяржавы і здрада дзяржаве (галава 32, арт. 356).

Расейская Фэдэрацыя праз дзейнасьць незаконна створаных арганізацыйных структураў незаконнай саюзнай дзяржавы, менавіта праз: Вышэйшы Савет саюзнай дзяржавы, Савет Міністраў саюзнай дзяржавы, Парляманцкі сход саюзнай дзяржавы, сумесныя калегіі сілавых міністэрстваў, міністэрстваў замежных справаў ды іншых – адкрыта ўмешваецца ва ўнутраную і зьнешнюю палітыку Рэспублікі Беларусь.

У сытуацыі, калі вышэйшая службовая асоба дзяржавы А. Лукашэнка і ворганы ўлады на Беларусі пераступілі Канстытуцыю і Закон, сталі на службу вялікадзяржаўным інтарэсам Расеі, мы, грамадзяне Беларусі, выконваючы свае канстытуцыйныя абавязкі, мусім прыняць неабходныя меры для абароны сваіх правоў і свабод, для абароны незалежнасьці і суверэнітэту сваёй дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

Мы разглядаем дзейнасьць кіраўніцтва Расейскай Фэдэрацыі ў дачыненьні да Рэспублікі Беларусь як палітычную агрэсію з прымяненьнем эканамічнай і інфармацыйнай сілы, подкупу і карупцыі, што не сумяшчальна з абавязацельствамі Расейскай Фэдэрацыі як члена Савета Бясьпекі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Дачыненьні кіраўніцтва Расейскай Фэдэрацыі з А. Лукашэнкам і яго акружэньнем перацяклі ў сфэру карупцыі (Лукашэнка перадае Расеі беларускую тэрыторыю, матэрыяльныя і людскія рэсурсы – кіраўніцтва Расеі дапамагае яму ўтрымліваць уладу над Беларусьсю).

Мы патрабуем ад Прэзыдэнта, Дяржаўнай Думы, Савета Фэдэрацыі, Савета Міністраў Расейскай Фэдэрацыі:

1. Спыніць ўмяшаньне ва ўнутраныя справы Рэспублікі Беларусь.

2. Дэнансаваць незаконны дагавор ад 8 сьнежня 1999 г. аб стварэньні саюзнай дзяржавы.

3. Ліквідаваць усе незаконныя арганізацыйныя структуры незаконнай саюзнай дзяржавы.

4. Спыніць працу па навязваньні беларусам незаконнага рэфэрэндуму аб прыняцьці „канстытуцыйнага акта" незаконнай саюзнай дзяржавы. Ва ўмовах дыктатуры, якая створана і ўтрымліваецца ў Беларусі з дапамогай расейскіх уладаў і спэцслужбаў, вынікі „рэферэндуму" прызнанымі быць ня могуць.

Вольная Беларусь не прызнае незаконнага дагавору аб стварэньні незаконнай саюзнай дзяржавы.

Мы заяўляем нашыя патрабаваньні ад імя больш за 2500 грамадзянаў з розных гарадоў і вёсак Беларусі, якія падпісалі на сёньняшні дзень калектыўную заяву ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь з патрабаваньнем прызнаць несапраўдным дагавор аб

стварэньні саюзнай дзяржавы за 8 сьнежня 1999 г. Мы абапіраемся на пазыцыю мільёнаў грамадзянаў Беларусі, якія не жадаюць уваходзіць у склад Расеі, якія будуюць і сьцвярджаюць сваё жыцьце і сваю будучыню ў незалежнай суверэннай Беларусі. Гэта пацьверджана сацыялягічнымі дасьледваньнямі і апытаньнямі 2001-2003 гадоў, вынікі якіх апублікаваныя ў прэсе.

**Ад дзеяньня (ці бязьдзеяньня) Расейскай улады ў адказ на нашу заяву будуць залежыць дачыненьні Беларусі да Расеі. Бо рэжым Лукашэнкі (як бы яго не падтрымлівалі адпаведныя сілы ў Расеі) ня будзе вечным.**

***4 верасьня 2003 г.***

*Грамадзяне Рэспублікі Беларусь:*

***Зянон Пазьняк***
***Юры Беленькі***
***Кастусь Кашэль***
***Сяргей Папкоў***
***Генадзь Пляшко***
***Алег Радзюк***
***Уладзімер Раманцоў***
***Алесь Чахольскі***
***Уладзімер Юхо***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2003, № 5(51).*

# 2004




(Фота З. Пазьняка)

***115-Д. Беларуская дэманстрацыя ў Вашынгтоне перад амбасадай Рэспублікі Беларусь. 2001 г.***

## РАСЕЯ – КРАІНА ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭРАРЫЗМУ

***(Беларускі мэмарандум)***

Падзеі паказваюць, што тэрарыстычная вайна паступова пераміячаецца ў Эўропу. Дывэрсія 11-га сакавіка на чыгунцы ў Мадрыдзе засьведчыла бязьлітаснасьць гэтай вайны, яе палітычную эфэктыўнасьць, слабасьць духу, бездапаможнасьць і страх Эўропы перад ахвярамі.

Гэта высновы, над якімі трэба задумацца ўсім людзям добрай волі. Але мала дайсьці да прычынаў тэрарыстычнай вайны, істотна зразумець, хто за гэтым рэальна стаіць, чыя стратэгія, чыя тэхналёгія і чыя выгада.

Фактам ёсьць тое, што ўсе зыскі ў палітыцы (і ў эканоміцы) ад разгортваньня тэрарызму ў сьвеце забрала сабе Расея. Гэта адзіная краіна, якая зарабіла сабе на гэтым абсалютную палітычную карысьць.

Фактам ёсьць тое, што тэрарызм як дзяржаўная палітыка ўзьнік у Расеі вельмі даўно, практыкаваўся і падтрымліваўся шмат якімі рускімі царамі, быў асабліва выраблены і абгрунтаваны ў бальшавіцкай Расеі, стаў тактычнай палітыкай Савецкага Саюзу, перанесены ім у міжнародныя дачыненьні.

Фактам ёсьць тое, што за часы халоднай вайны ў Савецкай Расеі былі арганізаваныя цэлыя школы тэрарызму, установы, пляцоўкі пры вайсковых фармаваньнях і інстытутах (напрыклад, пры Унівэрсытэце імя Патрыса Лумумбы ў Маскве) па падрыхтоўцы, навучаньні і фінансаваньні міжнародных тэрарыстаў у Афрыцы, Азіі, Лацінскай Амэрыцы, на Блізкім Усходзе. Меркаваньні аб тым, што (як пісалі некаторыя) зь ліквідацыяй СССР тэрарыстычныя групы ў сьвеце засталіся без галавы і пачалі дзейнічаць самастойна, не адпавядаюць сапраўднасьці, бо застаўся КГБ (які займаўся падрыхтоўкай тэрарыстаў) і трымае ўладу ў Расеі. Міжнародны тэрарызм накіроўваецца і кантралюецца тымі, хто яго стварыў. Уплывы ня зьніклі.

Уся гісторыя расейскай імпэрыі (і асабліва яе існаваньне ў 20-м стагоддзі) сьведчыць пра нязьменнасьць рускай дэспатычнай дзяржаўнай палітыкі, нягледзячы на зьмену ідэялёгіі, палітычных элітаў і публічнай лексікі. Бальшавіцкі пераварот 1917 года спыніў распад феадальнай расейскай імпэрыі. Дзяржаўны тэрор небачаных маштабаў, масавыя забойствы і рэпрэсіі дазволілі бальшавікам захаваць пад сваім кіраваньнем дзясяткі народаў, спыніць іхнае разьвіцьцё на доўгія дзесяцігоддзі. Беларускі народ таксама апынуўся пад тэрарыстычнай уладай Масквы. Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка, утвораная ў 1918 годзе, была разгромлена і акупавана бальшавіцка-маскоўскімі ордамі.

Аднак, гэта была трагедыя ня толькі народаў, якія пакутвалі пад ярмом расейскай камуністычнай імпэрыі. На працягу 74 гадоў свайго існаваньня тайная паліцыя НКВД, а потым КГБ зьнішчала ня толькі грамадзянаў СССР. З першых дзён існаваньня бальшавіцкі ўрад, апанаваны шалёнай ідэяй „сусьветнай рэвалюцыі” (афіцыйна абвешчанай стрыжнем дзяржаўнай палітыкі рэжыму), пачаў разбуральную, падрыўную, дэструкцыйную дзейнасьць ва ўсіх канцах зямлі. З гадамі мэтады дзяржаўнага савецкага

тэрарызму ўдасканальваліся, станавіліся ўсё больш эфэктыўнымі і бескантрольнымі. Дагэтуль вэтэраны КГБ выхваляюцца ў сваіх мэмуарах і ў тэлеперадачах арганізаванымі імі забойствамі, выбухамі, правакацыямі ў розных краінах. Цяпер у Расеі нават назіраецца пэрыяд рамантызацыі „дзейнасьці чэкістаў", пачынаецца працэс рэабілітацыі арганізатараў і аўтараў тэрору, зьдзейсьненанага савецкім Гестапа. Гэты працэс – не выпадковы. ***Да абсалютнай ўлады ў цяперашней Расеі ўпершыню прыйшоў сам КГБ.***

Да 1991 г. афіцыйна і фактычна ўлада ў СССР належала камуністычнай партыі. КГБ называўся „передавым атрадам партыі" і быў выканаўцам злачынных загадаў партыйнай эліты, а таксама абаронцам існуючага рэжыму. У 1970-80-я гады КГБ перажыў пэрыяд непараўнальнага ўзмацненьня, да чаго спрычыніўся яго кіраўнік Юры Андропаў. Паказчыкам палітычнага курсу савецкай імпэрыі стала прызначэньне Андропава на пасаду генэральнага сакратара КПСС у 1983г. (упершыню ў расейскай і савецкай гісторыі кіраўнік КГБ стаўся кіраўніком агромністай імпэрыі). Так званая „перастройка" (эўфэмізм камуністычнай і заходняй прапаганды, якім вызначалася спроба рэфармаваньня савецкай імпэрыі) скончылася правалам, савецкая эканоміка і палітычны лад зайшлі ў тупік. Пасьля краху СССР у 1991 г. камуністычная партыя Савецкага Саюзу была зьліквідаваная, але некранутым застаўся КГБ, які ня быў ані забаронены, ані аддадзены пад суд як антычалавечая тэрарыстычная арганізацыя. Пэрыяд пэўнай лібэралізацыі жыцьця ў Расеі працягваўся нядоўга. Прызначэньне афіцэра КГБ Уладзіміра Пуціна прэм'ер-міністрам Расеі, а потым і прэзыдэнтам стала паказчыкам стабілізацыі КГБ (цяпер ФСБ), які ня маючы палітычнай канкурэнцыі (КПСС не існуе), зрабіўся непадзельным уладаром расейскай імпэрыі. Падкрэсьліваем, асоба Пуціна ня мае значэньня. Менавіта КГБ зьяўляецца партыяй улады, прызначыўшы на прэзыдэнцкую пасаду нікому не вядомага, несамастойнага, безаблічнага дробнага служачага тайнай паліцыі. Злачынная арганізацыя, якая мае жудасную мінуўшчыну і ня менш страшную цяперашнюю практыку, захапіла палітычную і эканамічную ўладу ў Расеі.

Палітычныя забойствы, тэрор супраць эканамічных канкурэнтаў ужо шэраг гадоў зьяўляюцца нормай расейскага жыцьця. Умовай прызначэньня на дзяржаўныя пасады ад губэрнатара рэгіёну і міністра да дробнага клерка ёсьць прафэсійная альбо агентурная дзейнасьць у шэрагах КГБ-ФСБ. Наіўныя спадзяваньні заходніх лібэралаў на тое, што „КГБ дэмакратызуецца", скончыліся фіяскам. Тайная паліцыя, яе спэцыялісты па сваёй прыродзе ня здольныя на стваральную дзейнасьць, на рэформы і разьвіцьцё. Іхнымі функцыямі былі і застаюцца шкодніцтва, зьнішчэньне, уціск, запалохваньне, хлусьня, тэрор. Цяпер няма ніякай палітычнай сілы, якая, падобна КПСС, нават зь меркаваньняў самазахаваньня, стрымлівала б КГБ і ўраўнаважвала яе палітычны ўплыў. ***У Расеі застаўся толькі КГБ, улада ў Расеі належыць выключна КГБ.*** КГБ кантралюе, практычна, усе сфэры дзейнасьці ў расейскай дзяржаве, асабліва ўвесь бізнэс, усю банкаўскую справу і ўвесь крымінальны сьвет. Створаны нават інстытут кілераў (наёмных забойцаў), каб распраўляцца з канкурэнтамі і палітычнымі супернікамі. Праз бізнэс і крымінал адбываецца пранікненьне КГБ ў іншыя краіны.

Пэрманэнтны эканамічны і сацыяльны крызіс, галеча абсалютнай большасьці насельніцтва Расеі ёсьць вынікам дзяржаўнага кіраваньня хунты КГБ. Дзеля захаваньня сваёй імпэрыі хунта ўжо дзесяць гадоў вядзе зьнішчальную тэрарыстычную вайну супраць чачэнскага народу, які мужна абараняе сваю незалежную рэспубліку ад расейскага тэрарыстычнага войска. Але першым стратэгічным напрамкам дэструкцыйнай палітыкі рэжыму КГБ ёсьць Беларусь. Менавіта КГБ усталяваў у нашай краіне прамаскоўскі марыянэткавы рэжым Лукашэнкі, які праводзіць антыбеларускую і антыдзяржаўную палітыку, рыхтуючы Беларусь для здачы ў расейскую імпэрыю. Толькі дзякуючы супраціву беларускага народу гэты плян аднаўленьня савецка-расейскай імпэрыі дагэтуль не рэалізаваны.

Але Чачэніяй і Беларусяй дэструкцыйная дзейнасьць расейскага КГБ не абмяжоўваецца. Злачынная арганізацыя працягвае актыўна дзейнічаць ва ўсіх былых калёніях Расеі, дэстабілізуючы сытуацыю і пазбаўляючы народы магчымасьці нармальнага цывілізаванага разьвіцьця. Шматлікія спробы дэстабілізаваць палітычнае жыцьцё ва Украіне, Грузіі, Латвіі, Летуве, Азэрбайджане, Малдове і іншых краінах таму сьведчаньне. Як правіла, Масква дзейнічае чужымі рукамі, праз падстаўную псэўдаапазыцыю ды праз мясцовую агентуру КГБ пад лёзунгамі „дэмакратызацыі", „дружбы народаў" і „абароны рускай мовы".

У сярэдзіне 1980-х гадоў заходнія палітычныя кіраўнікі і ідэёлагі аб'явілі пра „канец халоднай вайны" і падтрымку „дэмакратызацыі ў гарбачоўскай Расеі". Сотні мільёнаў даляраў былі накіраваныя Захадам у Маскву ў спробе захаваць савецкую імпэрыю і па магчымасьці зрабіць яе менш небясьпечнай і агрэсіўнай. Цяпер вядома, што гэтыя грошы палітычнае кіраўніцтва СССР выкарыстала не на рэформы і дэмакратызацыю, а проста скрала. Гэтым (а таксама абрабаваньнем уласнага насельніцтва) тлумачыцца хуткае ўзьнікненьне мільянераў і мільярдэраў у Расеі ў 1990-я гады. КГБ, захапіўшы палітычную ўладу, атрымаў неабмежаваны доступ да неабсяжных фінансавых рэсурсаў і нават не зьбіраецца накіроўваць іх на карысьць насельніцтва краіны, на карысьць расейскай эканомікі. Рэжым КГБ жыве па сваіх законах. Ва ўмовах, калі бюджэт Расеі роўны бюджэту Нідэрляндаў, а прамысловая прадукцыя меншая, чым на Тайвані, рэжым КГБ трымае эканамічную жыцьцядзейнасьць Расеі на эксплуатацыі сыравінных запасаў. Пакуль Захад купляе нафту і газ, датуль будзе існаваць расейская імпэрыя КГБ. Але кан'юнктура цэнаў на нафту і газ, як вядома, вельмі хісткая і ненадзейная. КГБ гэта цудоўна разумее і дзейнічае ў адпаведнасьці са сваімі крымінальнымі традыцыямі.

Галоўны сродак захаваньня кан'юнктуры – дэстабілізацыя дэмакратычных дзяржаваў. У апошнія гады ў цывілізаваных краінах Амэрыкі і Эўропы разгарнулася сапраўдная „тэрарыстычная вайна". Гінуць сотні людзей, грамадзтва ахоплена непакоем – такіх зьяваў Захад ня ведаў з часоў 2-й Сусьветнай вайны. У апошні час тэрарыстычныя акты адбываюцца напярэдані выбараў (як у Турцыі і Гішпаніі) і нават прыводзяць да зьмены палітычнага кіраўніцтва і міжнароднага курсу краіны (як у Гішпаніі). У некаторых выпадках становяцца вядомымі выканаўцы і тактычныя арганізатары тэрарыстычных акцыяў, часам іх арыштоўвае паліцыя.

Аднак ёсьць даўняе правіла аналізу: трэба вызначыць, каму выгадны тэрор і дэстабілізацыя, хто можа быць стратэгам, крыніцай зьявы. Ілюстрацыяй гэтаму ёсьць тэрарыстычны напад і забойства ў Катары былога прэзыдэнта Чачэніі Зелімхана Яндарбіева. Спэцслужбам Катара ўдалося арыштаваць выканаўцаў забойства – афіцэраў расейскага КГБ. Калі гэты інцыдэнт абмяркоўваўся на расейскім тэлебачаньні, прадстаўнікі КГБ-ФСБ афіцыйна тлумачылі, што, маўляў, КГБ тут ні пры чым. „Гэтага ня можа быць, – казалі яны, – таму што ***КГБ заўсёды дзейнічае чужымі рукамі***". (Цынізм выказваньняў проста шакуе).

Ня трэба забывацца, што ва ўмовах „халоднай вайны" СССР на працягу многіх дзесяцігоддзяў ствараў тэрарыстычныя арганізацыі і групоўкі па ўсім сьвеце. Цяпер мы назіраем, што Захад аказаўся безабаронным перад новай хваляй тэрарызму. Выкарыстоўваючы

„давер да расейскай дэмакратыі" (гучыць іранічна), КГБ на працягу апошніх пятнаццаці гадоў абнавіў і ўзмацніў сетку агентуры ў заходніх краінах. Вядома, што расейскія новыя багачы скупляюць нерухомую маёмасьць, вялікія плошчы зямлі, будуюць палацы ў Заходняй Эўропе. Вялікія грошы дапамагаюць ім падкупляць мясцовую адміністрацыю і паліцыю. У Гішпаніі, Польшчы, Чэхіі і іншых краінах дзейнічаюць злачынныя расейскія сіндыкаты, якія займаюцца адмываньнем „брудных" грошай і тэрарызуюць перш за ўсё грамадзянаў з былых савецкіх рэспублік, якія прыязджаюць туды на заробкі і ў падарожжы. КГБ выкарыстаў і працягвае выкарыстоўваць заходнюю „адкрытасьць" дзеля ўкараненьня новых агентурных структураў. Агентура дзейнічае пад прыкрыцьцём камэрцыйнай, навуковай і іншай дзейнасьці. Але найбольш нахабным спосабам стварэньня агентуры стала пасыланьне на Захад „палітычных уцекачоў" і „эмігрантаў". Толькі частка з многіх тысячаў асобаў сапраўды вымушана была пакінуць сваю краіну, таму што існавала пагроза іхнаму жыцьцю па палітычных матывах. Шырока вядома, што бальшыня „ахвяраў" і „герояў" зьяўляюцца ў лепшым выпадку эканамічнымі эмігрантамі, асобамі, якія карыстаюцца магчымасьцю палепшыць свае бытавыя ўмовы. Але немалая частка іх – гэта афіцэры і агенты КГБ.

Мы добра ведаем пра гэтыя працэсы на прыкладзе беларускай рэчаіснасьці. Улюбёнымі краінамі ў Эўропе дзеля „эміграцыі КГБ" зьяўляюцца Польшча, Чэхія і асабліва Бэльгія (у гэтай невялікай краіне апынулася шмат кагэбоўскіх „палітычных эмігрантаў"). Нам добра вядома сапраўдная сутнасьць такіх „уцекачоў". Фігура аднаго зь іх – Леаніда Васючэнкі, чалавека з крымінальным мінулым, вядомага правакатара КГБ, які прынёс вялікую шкоду беларускім змагарам за незалежнасьць – сымвалічная. Ён з лёгкасьцю атрымаў палітычны прытулак у Бэльгіі, яго ўжо бачылі ў некалькіх эўрапейскіх краінах, ён працягвае крымінальную практыку. І гэта толькі асобны прыклад буйнамаштабнай дзейнасьці агентуры КГБ на Захадзе.

КГБ пасьпяхова разьвівае супрацоўніцтва з некаторымі эўрапейскімі палітыкамі, прадстаўнікамі агульнаэўрапейскіх структураў. Характэрным прыкладам гэтага „супрацоўніцтва" стала прызнаньне сп. Ганса-Георга Віка, які кіраваў назіральнай групай АБСЭ ў Беларусі з 1998 па 2002 гг. Сп. Вік расказаў ў інтэрв'ю для „Белорусской Газеты" (№1 за 12.01.2004), якая выдаецца ў Менску, як падчас абвешчаных дыктатарам Лукашэнкам „парляманцкіх выбараў" у Беларусі ў 2000 г. Эўрапейская камісія, адводзячы беларускія змагарныя працэсы ўбок, *„накіравала грошы на падтрымку дыялёгу паміж урадам Беларусі і апазыцыяй. І ўсе эўрапейскія ўрады былі ў курсе, ня* было *ніякіх таямніцаў.* ***Адзінай таямніцай было тое, што паперы падпісваў таксама шэф беларускага КГБ,*** *іншых таямніцаў ня было"* – паведаміў Ганс Вік. Такім чынам, нямецкі дыплямат (былы кіраўнік нямецкай выведкі) прызнаўся, што ўшчыльную супрацоўнічаў з КГБ за плячыма эўрапейскіх урадаў.

Выклікае зьдзіўленьне, што палітычнае кіраўніцтва, спэцслужбы і сродкі масавай інфармацыі як у Беларусі, так і за мяжой нават не абмяркоўваюць, не згадваюць пра гэтую вострую праблему, нібыта яна не існуе. Выкарыстоўваючы адкрытасьць межаў і арыентацыю паліцыі выключна на ісламскіх фундамэнталістаў, агентура КГБ спакойна перасоўваецца па ўсёй Эўропе і дзейнічае ў Амэрыцы. Безумоўна, за дзейнасьцю выканаўцаў, за „чужымі рукамі" трэба шукаць стратэгічных арганізатараў тэрарыстычных актаў ў цывілізаваных краінах. На жаль, не ўпершыню Захад аказваецца бездапаможным і безабаронным па прычыне палітычнай сьлепаты і наіўнасьці. Пакуль ня будзе разгромлена агентурная сетка расейскага КГБ-ФСБ у цывілізаваных краінах і ва ўсім сьвеце, датуль будзе працягвацца тэрарыстычная вайна супраць дэмакратыі. І датуль, пакуль у прынцыпе ня будзе зьмененая палітыка ў дачыненьні да Расеі, гэтая сетка будзе аднаўляцца, а тэрор набываць розналікія формы.

***Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ.***

*4 красавіка 2004 г., Менск)*
*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2004, №2(53).*

# АБ ДЗЕЙНАСЬЦІ СУПРАЦЬ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ

***(ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ)***

На працягу апошніх дзесяці гадоў Расея праводзіць агрэсіўную заборчую палітыку з мэтай ліквідацыі незалежнай Беларускай дзяржавы і інкарпарацыі нашай краіны ў склад Расейскай імпэрыі. Мы назіраем ў рамках гэтых драматычных працэсаў дзеяньне некалькіх палітычных сілаў. Гэта выразнае супрацьстаяньне расейскага імпэрыялізму і патрыятычных сілаў Беларусі, якія маюць супрацьлеглыя мэты. У дэмакратычных краінах ёсьць імкненьне шэрагу палітыкаў і грамадзкіх групаў падтрымаць незалежны і дэмакратычны шлях разьвіцьця Беларусі. Аднак, у той жа час у Беларусі і ў сьвеце дзейнічаюць палітыкі і палітычныя сілы, якія, выкарыстоўваючы дэмакратычную рыторыку і мэтады дэзынфармацыі і падману, садзейнічаюць Расеі ў зьдзяйсьненьні яе імпэрыялістычных плянаў. У выніку Беларусь стала арэнай змаганьня, дзе зноў сутыкнуліся і аб'ядналіся расейскія і эўрапейскія (перш за ўсё нямецкія) інтарэсы. Лёгіка гэтых інтарэсаў такая, што як Усходу, гэтак і Захаду перашкаджаюць беларускія нацыянальна-дэмакратычныя сілы – рух, накіраваны на сьцверджаньне беларускіх дэмакратычных каштоўнасьцяў і на ўсталяваньне моцнай незалежнай беларускай дзяржавы. Кагэбоўская Масква ня хоча, каб была моцная незалежная Беларусь, а лібэральная Эўропа хоча сьцвердзіць тут свае паняцьці пра дэмакратыю ды эканоміку і мець уплыў.

Што такое расейскі забор, мы ведаем. А што сабой ўяўляюць дзяржавы, дзе «дэмакратычную» палітыку вызначаюць зьнешнія сілы, то дастаткова глянуць на Сэрбію ды Грузію (хоць да гэтага ж кола адносіцца і Беларусь, толькі тут палітыку дыктуе Масква). На падыходзе новыя лукашэнкі (папулізм левага кшталту) у Польшчы, Славаччыне і Летуве, у пэрспэктыве – на Украіне.

Беларусам трэба выразна бачыць, што адбываецца ў сьвеце і што хочуць зрабіць у Беларусі будаўнікі двух імпэрыяў – расейскай гэбоўскай на Усходзе і эўрапейскай лібэральнай на Захадзе. І адны, і другія не зацікаўленыя мець перад сабой незалежніцкія беларускія нацыянальна-дэмакратычныя сілы (г. зн. сілы беларускага Адраджэньня і дэмакратыі на пазыцыях ідэалаў 25-га Сакавіка). ***На задачы ліквідацыі беларускага Адраджэньня (палітычна – Беларускага Народнага Фронту) і адбылося першае паяднаньне заходняга лібэралізму з расейскім гэбізмам (місія Ганса Георга Віка) і з сіламі ўнутранай акупацыі (Лукашэнка).***

Пасьля расколу БНФ у 1999 г. і заблякаваньні інфармацыі аб яго дзейнасьці (на Захадзе і на Усходзе) уплыў чужых сілаў у палітыцы Беларусі адчувальна павялічыўся. Істотным было стварэньне імі на Беларусі неадраджэнскай «кіруемай апазыцыі» ўплыву, дзе непадзель-

ны агентурны кантроль мае гэбоўская Масква, а фінансавыя рычагі – заходнія структуры.

Ускладнілася палітычная структурнасьць і сытуацыя; дамінуючая роля КГБ у палітыцы ўсталявала новыя формы палітычнага змаганьня (так званыя «паліттэхналёгіі») ва ўсіх сфэрах дачыненьняў, асабліва ў інфармацыі, дыпляматыі і прапагандзе. Беларускае грамадзтва ў значнай сваёй частцы аказалася непадрыхтаваным да такой падступнай і лжывай палітыкі і сталася аб'ектам пастаянных маніпуляцыяў з боку скаардынаванай рэжымнай групы ўлады і вікаўскай «апазыцыі».

Наша задача ў гэтым Паведамленьні даць інфармацыю аб тым, што адбываецца на Беларусі цягам апошніх месяцаў, расказаць пра тэндэнцыі, якія мы разглядаем як пагрозьлівыя для нашай беларускай дзяржаўнай будучыні.

* * *

Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ арганізоўваюць у Беларусі супраціў расейскай агрэсіі. Больш за сем месяцаў таму, у верасьні 2003 г. група беларусаў выступіла ў якасьці суб'ектаў канстытуцыйнага і міжнароднага права (грамадзянаў) і накіравала заяву ў адрас кіраўніцтва Расейскай Фэдэрацыі з патрабаваньнем перастаць умешвацца ва ўнутраныя справы нашай краіны, спыніць дзейнасьць па інкарпарацыі Беларусі пад шыльдай незаконнай «саюзнай дзяржавы». Патрабаваньне грунтавалася на парушэньні Расейскай Фэдэрацыяй канстытуцыйных правоў грамадзянаў Беларусі ў выніку падпісаньня 8 сьнежня 1999 г незаконнай міжнароднай дамовы аб стварэньні саюзнай дзяржавы і рэалізацыі яе палажэньняў. Паводле Беларускай Канстытуцыі Рэспубліка Беларусь ёсьць унітарная дзяржава (арт.1), не дазваляецца заключаць міжнародныя дамовы, якія супярэчаць Канстытуцыі (арт.8). Грамадзяне патрабавалі:

– дэнансаваць незаконны дагавор ад 8 сьнежня 1999 г. аб стварэньні саюзнай дзяржавы,

– ліквідаваць усе незаконныя арганізацыйныя структуры незаконнай саюзнай дзяржавы,

– спыніць працу па падрыхтоўцы навязанага беларусам незаконнага рэфэрэндуму аб прыняцьці „канстытуцыйнага акта" незаконнай саюзнай дзяржавы, які плянуюць правесьці ва ўмовах бясправўя і дыктатуры.

Заява была накіраваная кіраўніцтву Расейскай Фэдэрацыі праз пасла Расейскай Фэдэрацыі ў Беларусі сп. А. Блахіна і была надрукаваная ў газэце „Народная Воля" за 10 верасня 2003 г. пад загалоўкам „Расея, спыні ўмяшаньне ва ўнутраныя справы Беларусі!"

Адказу з Расеі грамадзяне Беларусі не атрымалі. З гэтага беларусы павінны зрабіць высновы аб далейшых дачыненьнях з Расеяй.

Судовая сістэма ў Беларусі таксама стала ў глухую абарону акупацыйнага рэжыму Лукашэнкі і ў парушэньне беларускага заканадаўства адмовіла грамадзянам ў разглядзе справы аб прызнаньні несапраўдным дагавора ад 8 сьнежня 1999 г. „аб стварэньні саюзнай дзяржавы".

Пра грубае парушэньне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Закону „Аб Прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь" вядома Вярхоўнаму суду Рэспублікі Беларусь і Канстытуцыйнаму суду Рэспублікі Беларусь. Ініцыятыўная група „Беларуская Салідарнасьць" праводзіць збор подпісаў пад калектыўнай заявай у Вярхоўны суд з патрабаваньнем скасаваньня незаконнага дагавору ад 8 сьнежня 1999 г. аб стварэньні саюзнай дзяржавы. Калектыўную заяву падпісалі больш за 4500 грамадзянаў Беларусі.

З розных рэгіёнаў Беларусі ў Вярхоўны суд паступаюць таксама індывідуальныя заявы ад грамадзянаў. Кожны заяўнік патрабуе: „З мэтай аднаўленьня маіх правоў у судовым парадку, парушаных дагаворам аб стварэньні саюзнай дзяржавы ад 8.12.1999 г., прашу, ў адпаведнасьці з артыкулам 116 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, накіраваць у Канстытуцыйны суд прапанову даць заключэньне аб адпаведнасьці палажэньняў артыкулаў 1, 17, 18 Дагавора аб стварэньні саюзнай дзяржавы ад 8.12.1999 г. палажэньням артыкула 1 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь."

На законнае патрабаваньне грамадзянаў Вярхоўны суд зрабіў больш за 150 адказаў, зробленых пад капірку: „Ваша заява пакінута без задавальнення, паколькі падставы для звароту ў Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь з прапановай аб дачы заключэння па пытанні адпаведнасці названых Вамі нормаў міжнароднага дагавора Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ня маецца."

Такім чынам, мы назіраем скаардынаваную блакіроўку законных патрабаваньняў грамадзянаў Беларусі з боку рэжыму Лукашэнкі і з боку рэжыму Пуціна. Гэта ёсьць яшчэ адным пацьверджаньнем таго, што Пуцін і Лукашэнка вядуць ўзгодненую незаконную дзейнасьць па ліквідацыі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Праект інкарпарацыі Беларусі быў і застаецца ключавым момантам ў крамлёўскіх плянах аднаўленьня „вялікай Расеі". З захопам усіх уладных структураў Расеі арганізацыяй КГБ-ФСБ рэалізацыя праекту набывае больш сістэмны і агрэсіўны характар.

* * *

Пасьля кароткага перапынку, зьвязанага з выбарамі ў Расеі, аднавілася дзейнасьць незаконных органаў незаконнай саюзнай дзяржавы. У сакавіку 2004 г. адбылося два паседжаньні „парляманцкага сходу саюзнай дзяржавы" і на травень месяц рыхтуецца паседжаньне так званага вышэйшага дзяржаўнага савета «саюзнай дзяржавы».

Барыс Грызлоў, які ў 2003 г. удзельнічаў у распрацоўцы незаконнага канстытуцыйнага акту „саюзнай дзяржавы", цяпер ужо ў ролі сьпікера Дзярждумы Расеі і старшыні незаконнага парляманцкага сходу гэтак званай „саюзнай дзяржавы", агучыў 29 сакавіка 2004 г. пляны змоўшчыкаў: „Працэс саюзнага будаўніцтва ўступіў у пэрыяд выпрабаваньня практыкай. Мы ўшчыльную падышлі да самага адказнага і самага складанага этапу саюзнага будаўніцтва – вызначэньня дзяржаўнага ўпарадкаваньня і прававой сістэмы нашага Саюза. ***У сувязі з гэтым, важнейшай задачай зьяўляецца прыняцьце Канстытуцыйнага Акта Саюзнай дзяржавы, праект якога пры непасрэдным удзеле саюзных парлямэнтарыяў ужо распрацаваны і ўнесены на разгляд ВДС.*** «Разам з тым у Парламенцкім Сходзе ёсць разуменьне таго, што ***працэсу прыняцьця Канстытуцыйнага акта неабходна надаць новы імпульс і выпрацаваць алгарытм нашай далейшай сумеснай работы…***» (газэта «Звязда» за 30 сакавіка 2004 г.). «Алгарытм сумеснай работы" змоўшчыкаў, якія занятыя справай ліквідацыі суверэннай дзяржавы Рэспублікі Беларусь, – гэта ўзор палітыкі ашуканства, подкупу, міжнароднай карупцыі і агрэсіі.

У той жа час расейскае палітычнае кіраўніцтва спрабавала рэалізаваць ліквідацыю Беларускай дзяржавы іншым спосабам – без Лукашэнкі і пры ўмове палітычнай ліквідацыі Лукашэнкі. Пра гэта была дадзена інфармацыя на міжнароднай канфэрэнцыі, якая праводзілася ў лютым 2004 г. у г. Рызе. „Белорусская делавая газета" за 17 лютага 2004 г. напісала: „ В частности, было сообщено, что «гонцы от Путина» недавно были в Вашингтоне и предлагали свой вариант решения белорусского вопроса. Дословно их предложение было пересказано так: мы убираем Лукашенко, но Беларусь входит в состав России. Понимания такая постановка вопроса не нашла не только в США, но и в Европе».

Таму, як сьведчыць вышэй прыведзенае выказваньне Б.Грызлова, змоўшчыкі вяртаюцца да «алгарытму сумеснай работы», які павінен, па іхнай задуме, завершыцца рэферэндумам па зьмене Канстытуцыі Беларусі.

Падзеі гэтага года паказваюць, што антызаконная дзейнасьць па ліквідацыі Беларускай дзяржавы вядзецца ў эканамічным, арганізацыйным і інфармацыйным кірунках.

У эканамічнай галіне галоўнымі ёсьць акты па падрыхтоўцы ўвядзеньня расейскага рубля і захопу Расеяй стратэгічных аб'ектаў беларускай уласнасьці.

Прыкладам найбольш агрэсіўнага акту супраць беларусаў ў эканамічнай сфэры стала „газавая вайна", разгорнутая Пуціным і Лукашэнкам у лютым 2004 г. Цяпер відавочна, што гэта была сплянаваная Крамлём і рэжымам Лукашэнкі апэрацыя, вынікам якой стала рэзкае павышэньне ў Беларусі коштаў камунальных паслугаў, цэнаў на паліва і адпаведна на ўсе тавары і паслугі. Увесь цяжар па «стабілізацыі» дзеля ўвядзеньня расейскага рубля ўскладзены на жыхароў Беларусі. Рэалізацыя гэтай апэрацыі дазволіла кіраўніку Цэнтрабанка Расеі Ігнацьеву і кіраўніку Нацыянальнага банка Беларусі Пракаповічу заявіць, што ўвядзеньне расейскага рубля ў Беларусь падрыхтаванае і наступным павінна быць палітычнае рашэньне.

Больш за 70% грамадзянаў Беларусі выказваецца супраць аб'яднаньня з Расеяй. *«Стваральнікі» незаконнай саюзнай дзяржавы ведаюць, што арганізаваць і правесьці рэфэрэндум асобным актам немагчыма. Грамадзяне Беларусі ня пойдуць на рэфэрэндум па зьмене Канстытуцыі. Таму ліквідатары Беларускай дзяржавы робяць стаўку на восеньскія выбары ў незаконную лукашэнкаўскую палату. **Яны маюць намер правесьці разам з „выбарамі" і антызаконны «рэфэрэндум».***

Расейскае кіраўніцтва прымае ўсе арганізацыйныя захады, каб Эўразьвяз і Рада Эўропы прызналі гэтыя «выбары» за легітымныя па фармальных прыкметах. Пастаўлена задача пераканаць эўрапейцаў, што незаконна створаная Лукашэнкам палата зьяўляецца парлямантам; што «выбары» ў палату дастаткова дэмакратычныя, паколькі ў гэтых выбарах рыхтуецца прыняць удзел «аб'яднаная апазыцыя»; што рэжым Лукашэнкі гатовы зьмяніць выбарчы кодэкс; што праз гэтыя «выбары» можна дасягнуць зьменаў на карысьць дэмакратыі ў Беларусі. Гатовыя нават увесьці квоты па палавой прыкмеце (відаць ва ўгоду «рэвалюцыянэрам» Зўразьвязу) і забясьпечыць 30-40 адсоткаў жанчын у палаце (у СССР ужо гэта праходзілі). Дзеля стварэньня даверу да палатных выбараў у Беларусі прыцягнуты ўвесь дыпляматычны корпус Расеі ў Эўропе.

У гэтым махлярстве ўдзельнічае і групоўка заходніх дыпляматаў і экспэртаў, галоўным чынам зь Нямеччыны: Ганс Вік, Вольфганг Бэрандт, Ута Цапф ды іншыя. З публікацыяў іхных выказваньняў у друку даўно вядома, што гэтыя «спэцыялісты» трымаюцца канцэпцыі «дэмакратызацыі» Беларусі праз далучэньне Беларусі да «дэмакратычнай» Расеі. Гэтыя «беларусазнаўцы» набылі практыку падчас «выбарчых кампаніяў» 2000 і 2001 гадоў у Беларусі. Сп. Вік расказаў ў інтэрв'ю для „Белорусской Газеты" (№1 за 12.01.2004), якая выдаецца ў Менску, як падчас абвешчаных дыктатарам Лукашэнкам „парляманцкіх выбараў" у Беларусі ў 2000 г. Эўрапейская камісія, адводзячы беларускія змагарныя працэсы ўбок, *„накіравала грошы на падтрымку дыялёгу паміж урадам Беларусі і апазыцыяй. І ўсе эўрапейскія ўрады былі ў курсе, ня* было *ніякіх таямніцаў. **Адзінай таямніцай было тое, што паперы падпісваў таксама шэф беларускага КГБ,** іншых таямніцаў ня было,"* – паведаміў Ганс Вік. Такім чынам, нямецкі дыплямат (былы кіраўнік нямецкай выведкі) прызнаўся, што ўшчыльную супрацоўнічаў з КГБ за плячыма эўрапейскіх урадаў.

Гэтае супрацоўніцтва мела вынікі і падчас прэзыдэнцкіх выбараў 2001 г. Сп. Вік актыўна ўдзельнічаў у фармаваньні прамаскоўскай „аб'яднанай апазыцыі" у падтрымку „адзінага кандыдата" з ліку падкантрольных КГБ асобаў савецкай намэнклятуры. Тады „адзіным кандыдатам" прызначылі сп. У.Ганчарыка, былога вышэйшага чыноўніка савецкіх прафсаюзаў у Беларусі члена Бюро ЦК КПБ (КПСС). Прызначэньне гэтай непапулярнай асобы „адзіным кандыдатам" ад прамаскоўскай „аб'яднанай апазыцыіі" было ўзгодненае з Масквой. Вэтэран савецкай намэнклятуры У.Ганчарык адпаведна выканаў прызначаную яму ролю – давёў да абсурду супрацьстаяньне паміж „намэнклятурным дыктатарам" Лукашэнкам і намэнклятурным „дэмакратам" Ганчарыкам. У выніку Лукашэнка атрымаў сваю „элегантную перамогу", а Ганчарыку пасьля адпрацоўкі сваёй ролі далі хлебнае месца ў структурах „саюзных" прафсаюзаў у Маскве.

Менавіта зь невялікай групоўкі ў складзе 20-30 асобаў, якую сфармаваў у „аб'яднаную апазыцыю" і арганізаваў сп. Г. Вік па ўзгадненьні з КГБ, і створаныя цяпер „кааліцыі" і „блёкі" для ўдзелу ў выбарах 2004 года ў лукашэнкаўскія"палаткі". Перад імі пастаўлена задача імітаваць дэмакратычнасьць гэтых „выбараў" (паўтараць той жа правальны варыянт альтэрнатывы Лукашэнку, які яны адпрацоўвалі ў 2001 г.). На палітычным полі Беларусі зьявіліся пустыя „выбарчыя кааліцыі": „пяцёрка+", (С. Калякін, А. Лябедзька, В. Вячорка, С. Шушкевіч, А. Бухвостаў), „Свабодная Беларусь" (А. Саньнікаў, Г. Грушавы), „ Эўрапейскі выбар" (М. Статкевіч), „ За новую Беларусь" (М. Марыніч), «За лучшую жизнь» (В. Лявонаў) і іншыя. Яны аднагалосна публічна прызнаюць, што гэтыя выбары будуць сфальшаваныя лукашэнкаўскім рэжымам. Аднак сьведама ідуць на гэтыя „выбары", выступаючы ў ролі „дэмакратызатараў" для ашуканства эўрапейскай супольнасьці. Ім даручана яшчэ адна важная роля – прыцягнуць на выбарчыя ўчасткі пратэстны электарат, каб забясьпечыць 50%-ю яўку выбаршчыкаў.

Адпаведная роля ў „дэмакратызацыі" гэтых фальшывых выбараў даручана і групоўцы лукашэнкаўскіх палатнікаў „Рэспубліка" (В.Фралоў). Яна абвясьціла пра правядзеньне акцыі „збор подпісаў за зьмены выбарчага кодэксу". Акцыя беспэрспэктыўная па выніках, але шкодная, паколькі ўцягвае людзей у рабленьне пустой справы. Так у гэтую пустую справу ўцягнулі грамадзкую арганізацыю „Таварыства беларускай мовы" (А.Трусаў) і грамадзкую ініцыятыву „Сход інтэлігенцыі" (У. Колас, А. Марачкін).

У маскоўскім пляне зьнішчэньня Беларускай дзяржавы вікаўская «аб'яднаная апазыцыя» адыгрывае сваю ролю. Расейскія спэцслужбы і падпарадкаваныя ім „аналітычныя і стратэгічныя" цэнтры разам з эўрапейскімі дзеячамі кшталту Ганса Віка выстаўляюць гэтых намэнклятурных «апазыцыянэраў» у якасьці прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў Беларусі, якія нібыта аб'ядноўваюць сілы беларускага грамадзтва ў барацьбе супраць дыктатуры і за дэмакратыю ў нашай краіне. Іх рэгулярна запрашаюць у Маскву на сустрэчы з крамлёўскімі аналітыкамі і дарадцамі «Совета по внешней и оборонной политике» (СВОП) – дзеячамі расейскага КГБ-ФСБ. Масква выкарыстоўвае іх як інфарматараў з мэтай каардынацыі і прысьпешваньня працэсаў ліквідацыі Беларускай дзяржаўнасьці. Не выпадкова у друку падаецца мінімум інфармацыі пра гэтыя сустрэчы ў Маскве і мінімум прозьвішчаў яе ўдзельнікаў зь беларускага боку. Супрацоўнікі з Масквою добра разумеюць злачыннасьць сваіх учынкаў. Апошняя такая сустрэча адбылася 19 сакавіка 2004 г., пра што паведаміў А. Бухвостаў (адзінае прозьвішча зь ліку беларускіх удзельнікаў, згаданае ў публікацыі), які аб'яўляе сябе кіраўніком партыі працы, прадстаўнік «пяцёркі+» («Народная Воля» за 27.03.2004 г.).

Маскоўскі „алгарытм сумеснай работы" прадугледжвае масіраванае інфармацыйнае прыкрыцьцё незаконнай дзейнасьці Расеі па інкарпарацыі Беларусі. Дэзынфармацыя праводзіцца шырокім фронтам ва ўсіх сродках масавай інфармацыі, як дзяржаўных, так і незалежных. Як па камандзе, з канца сакавіка 2004 г. ўзмацніўся паток інфармацыі, накіраваны на дэзарыентацыю беларускага грамадзтва. Зноў выцянулі пытаньне аб трэцім тэрміне Лукашэнкі, сьцвярджаюць аб правале дамоўленасьцяў па ўвядзеньні расейскага рубля; заспакойваюць, што

Расея не пагражае дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі; незаконныя бяспраўныя лукашэнкаўскія палаткі выдаюць за парлямант; заяўляюць, што іншага шляху няма, акрамя ўдзелу ў гэтых «выбарах», што ёсьць моцная «аб'ядналая апазыцыя», што «аб'ядналая апазыцыя» можа перамагчы Лукашэнку на арганізаваных ім «выбарах» і г. д. Прывядзем некалькі прыкладаў, адлюстраваных у друку:

А. Дабравольскі, адзін з кіраўнікоў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якая ўваходзіць у кааліцыю «пяцёрка+», у інтэв'ю «Белорусским новостям» выказвае меркаваньне: – «референдум о третьем сроке и президентские выборы с участием Лукашенко – это одно и тоже». І далей: – «Что касается действий оппозиции касательно референдума, то она против его проведения, потому что в принципе против переписывания конституции. Однако, если уж плебисцит не удастся предотвратить, то призывать к бойкоту оппозиция не станет, а постарается его выиграть». Гэтыя выказваньні А.Дабравольскага паўтараюць розныя аглядальнікі.

«Народная Воля» (№ 62 за 8.04.2004 г) публікуе артыкул пад гучнай назвай «Жывы труп, альбо Зноў пра «саюзную валюту». У артыкуле камэнтуецца і падаецца за несур'ёзную наступная заява віцэ-прэмьера расейскага ўраду А. Жукава ў інтэрв'ю «Российской газете»: «Мы лічым, што гэта ня толькі магчыма, але і неабходна ўводзіць адзіную валюту з 1 студзеня 2005 года, – як гэта было прадугледжана дамоўленасьцямі. Больш таго, на ўзроўні Цэнтральных банкаў, Міністэрстваў фінансаў уся гэта сістэма адпрацавана, і мы далі цалкам канкрэтныя прапановы, якія дарэчы, прадугледжваюць 20 мільярдаў расейскіх рублёў крэдыту, каб Беларусь здолела бязболна ўвайсці ў гэтую сістэму»;

Газэта «Наша Ніва» 2 красавіка 2004 года ў рэдакцыйным артыкуле апавяшчае сваіх чытачоў, «… пагрозы дзяржаўнасьці больш няма… На парадку дня стаіць не патрабаваньня Волі-Незалежнасьці, але Волі-Дэмакратыі».

В. Гудзееў, старшыня грамадзкага аб'яднаньня «Белорусский республиканский клуб избирателей» у газэце «Народная Воля» за 9 красавіка 2004 года падсумоўвае свае «пошукі» варыянтаў падзеяў у Беларусі: «Поэтому самый короткий путь для Беларуси стать демократической и процветающей страной – пройти его вместе с Россией, которая не только уже пошла по нему, но и имеет все необходимые для прохождения этого пути ресурсы. Это и должно стать стратегией для Беларуси на ближайшие годы».

„Рэфэрэндума ў гэтым годзе ня будзе". – так у перадачы 2 красавіка 2004 года журналіст В.Цыганкоў падае слухачам Радыё «Свабода» разважаньні В.Папова, кіраўніка лукашэнкаўскай «ніжняй палаты» і намесьніка расейскага сьпікера Б.Грызлова ў незаконным парляманцкім сходзе «саюзнай дзяржавы». В.Папоў даў адмысловае інтэрв'ю, каб прыкрыць відавочна неасьцярожнае выказваньне дзяржсакратара гэтак званай «саюзнай дзяржавы» Паўла Барадзіна пра тое, што рэфэрэндум аб прыняцьці «канстытуцыйнага акту» можа прайсьці ўвосень. В.Папоў не аспрэчвае правядзеньне рэферэндуму, а толькі спрабуе «заспакоіць»: «Гэта тэхнічна немагчыма. Нават калі Вышэйшая дзяржаўная Рада на сваім паседжаньні, якое заплянаванае на травень, ухваліць праект, то запатрабуецца шмат часу, перш чым вынесьці праект на рэфэрэндум». (А. Лукашэнка у лістападзе 2003 г. у сваім выступе на паседжаньні незаконнага вышэйшага савета «саюзнай дзяржавы», у пацьверджаньне сваёй адданасьці Расеі, назваў Вадзіма Папова, а таксама кіраўніка сваёй адміністрацыі Урала Латыпава і віцэ-прэмьера А.Кабякова шчырымі расейцамі. Такім чынам ён публічна гаворыць аб наяўнасьці расейскай агентуры ва ўладных структурах на Беларусі.)

«Белорусская Газета» за 5 красавіка 2004 г. імкнецца падаць працу па ўвядзенні расейскага рубля і падрыхтоўцы рэферэндума па «канстытуцыйным акце» як несурёзную. Таму «аналітыка» падаецца ў рэдакцыйным артыкуле пад назвай „Смех единения».

Газэта „The Belarus Today" (№ 12, за 23 сакавіка 2004 г., выходзіць у Менску на ангельскай мове) заходняму чытачу прадстаўляе кіраўніка Аб'яднанай грамадзянскай партыі А. Лябедзьку як галоўнага апазыцыйнага лідэра савецкай эпохі. Трэба нагадаць, што ў савецкую эпоху сп. Лябедзька (нар. у 1961 г.) хадзіў у дзіцячы садок і школу і наагул не займаўся палітыкай. Такую хлусьню для беларускага чытача пісаць немагчыма, паколькі ў Беларусі ведаюць, хто такі А.Лябедзька. А. Лябедзька, малады дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, ўпарта дамагаўся адмены забароны дзейнасьці камсамолу. (Дзейнасьць камсамола і КПСС была спыненая пасьля путчу ў жніўні 1991 г.) У 1994 падчас прэзыдэнцкіх выбараў актыўна дзейнічаў у камандзе Лукашэнкі. Пасьля прыходу А.Лукашэнкі да ўлады выконваў ролю ягонага прадстаўніка ў Вярхоўным Савеце.

Н. Гілевіч у газэце „Народная Валя" за 18 сакавіка 2004 года шэраговага савецкага генэрала Валерыя Фралова (расейца і беларусаненавісьніка, які па пратэкцыі вертыкальшчыка Гарадзенскай вобласці стаў „дэпутатам" лукашэнкаўскай палаты) аб'яўляе беларускім дэ Голем. І гэта пасьля інтэрв'ю з Фраловым пісьменьніка Яўгена Будзінаса („Народная Воля" № 43 за 11 сакавіка 2004 г.), дзе высьветлілася, карэктна кажучы, поўная інтэлектуальная і палітычная неадпаведнасьць гэтага савецкага генэрала заяўленым ім прэтэнзіям на палітычнае лідэрства ў Беларусі.

* * *

Такім чынам, як бачна, з выкарыстаньнем інфармацыйных тэхналёгіяў створана і пашыраецца віртуальная ўяўная палітычная прастора, дзе паўтараюць шматкроць, што як быццам бы пагрозаў Беларусі з боку Расеі не існуе.

Рэальная ж сытуацыя іншая. Дастаткова нагадаць, што рэжым Лукашэнкі пад прыкрыцьцём праграмы рэалізацыі антыканстытуцыйнага дагавору ад 8 сьнежня 1999 г. ужо незаконна ператварыў тэрыторыю Беларусі ў расейскі ваенны плянцдарм. Дзяржаўная мяжа і мытная структура кантралююцца Расеяй. Створана адзіная вайсковая групоўка. На Беларусі месьцяцца стратэгічныя расейскія аб'екты. Расеі дазволена карыстацца ўсёй ваеннай інфраструктурай Беларусі. Беларускія аэрадромы наведваюць расейскія самалёты стратэгічнай авіяцыі, якія здольныя несьці ядзерную зброю. Грамадзяне Беларусі сталі закладнікамі агрэсіўнай расейскай палітыкі. У сувязі з тым, што ў Расеі пасьля апошніх выбараў усталявалася дыктатура КГБ-ФСБ, пагроза бясьпекі беларусаў значна павялічылася. (КГБ-ФСБ па сваёй прыродзе зьяўляецца агрэсіўнай тэрарыстычнай арганізацыяй. Каб утрымаць уладу, яна будзе прымяняць свае напрацаваныя дзесяцігоддзямі мэтады. Мірнымі мэтадамі гэтая арганізацыя не валодае).

Партыя – БНФ на працягу 2002, 2003 годоў і сёлета неаднаразова зьярталася да іншых партыяў з заклікам сканцэнтраваць дзейнасьць на абароне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі ад расейскай агрэсіі. Гэтая дзейнасьць прадугледжвае ізаляцыю антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі, недапушчэньне рэфэрэндуму па зьмене Канстытуцыі шляхам няўдзелу (байкоту) у арганізаваных ім выбарах. Абвастрылася гэтая задача цяпер, калі ў Расеі ўсталявалася дыктатура КГБ-ФСБ. Цяпер нават для людзей, не далучаных да палітыкі, стала відавочным, што і рэжым Пуціна ў Расеі, і рэжым Лукашэнкі ў Беларусі ёсьць галіны аднаго атрутнага дрэва – савецкага КГБ (каб у гэтым упэўніцца, дастаткова прааналізаваць кадравы склад рэжыму Лукашэнкі і рэжыму Пуціна).

Для сур'ёзных палітыкаў зразумела, што немагчыма здабыць перамогу на «выбарах», якія арганізоўвае і татальна кантралюе КГБ-ФСБ. Толькі байкот восеньскіх «выбараў» у палаты (дэманстратыўны непрыход на выбарчыя ўчасткі) можа даць вынік. Байкот пакажа міжнароднай супольнасьці, што беларускі народ не прызнае гэбоўскі рэжым Лукашэнкі і ягоную палітыку па ўцягваньні Беларусі ў склад

Расеі. Байкот не дазволіць Расеі «легітымна» захапіць Беларусь. Дэманстратыўнае непрызнаньне рэжыму Лукашэнкі грамадзянамі Беларусі і, адпаведна, міжнароднай супольнасьцю дазволіць беларускаму грамадзтву перайсьці да падрыхтоўкі і правядзеньня прэзыдэнцкіх выбараў без Лукашэнкі. Дзеля забесьпячэньня добрых умоваў выбараў і адсячэньня спробаў умяшаньня ва ўнутраныя справы Беларусі трэба скасаваць незаконны дагавор ад 8 сьнежня 1999 г. аб стварэньні «саюзнай дзяржавы».

Мы заклікаем ўсе сілы беларускага грамадзтва накіраваць цяпер на арганізацыю байкоту восеньскіх антыбеларускіх «выбараў» і ліквідацыю незаконнага антыканстытуцыйнага дагавору ад 8 сьнежня 1999 г.

Мы нагадваем аб адказнасьці перад беларускім народам кіраўнікоў партыяў, актывістаў «кааліцыяў» і грамадзкіх арганізацыяў, якія заяўляюць аб удзеле ў фальшывых выбарах, якія арганізоўвае дыктатура КГБ-ФСФ. З жалем адзначаем, што сп. сп. Сяргей Калякін, Анатолій Лябедзька, Валянцін Вячорка, Мікалай Статкевіч, Аляксандар Бухвостаў, Андрэй Саньнікаў, Валерый Фралоў, Міхаіл Марыніч, Васілій Лявонаў, Уладзімер Колас, Аляксей Марачкін і іншыя арганізатары «кааліцыяў» і «рухаў» зь вікаўскай «аб'яднанай апазыцыі» сьведама і нясьведама сталі інструмэнтам ашуканства ў руках дыктатарскай арганізацыі КГБ-ФСБ, зрабіліся «дэмакратызатарамі» дыктатарскага рэжыму, аднымі з міжвольных выканаўцаў небясьпечных плянаў па інкарпарацыі Беларусі.

Ва ўмовах дыктатуры КГБ-ФСБ спрыяньне правядзеньню несвабодных, недэмакратычных выбараў у незаконную лукашэнкаўскую палату, якая не зьяўляецца парлямантам (і якія дыктатура мяркуе выкарыстаць для рэалізацыі сваіх плянаў па інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі і прадаўжэньні тэрміну ўлады) ёсьць парушэньне нормаў міжнароднага права, супярэчыць заяўленым прынцыпам і мэтам Эўразьвязу, Рады Эўропы і АБСЭ. Садзейнічаць правядзеньню фальшывых выбараў – гэта значыць падтрымліваць дыктатуру і анэксіянісцкую палітыку Расеі, што стварае пагрозу для бясьпекі ўсёй Эўропы.

***Мы хочам бачыць ад Эўразьвязу, Рады Эўропы, краінаў Захаду сьведчаньні дапамогі грамадзянам Беларусі ў абароне суверэнітэту і незалежнасьці гэтых першасных каштоўнасьцяў народу, без якіх не існуе ніякіх палітычных сістэмаў, акрамя акупацыйных. Мы хацелі б чуць афіцыйныя галасы (яшчэ да восеньскіх «выбараў»), што на Захадзе не прызнаецца незаконны міжнародны дагавор ад 8-га сьнежня 1999 г. «аб стварэньні «саюзнай дзяржавы», які падпісалі А. Лукашэнка і Б. Ельцын насуперак Канстытуцыі і праву,*** што дэмакратычныя краіны ня будуць прызнаваць ніякія авантурныя рашэньні па зьмене дзяржаўнага статусу Рэспублікі Беларусь.

*4 – 20 красавіка 2004 года*

***Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2004, №3(54).*

# Галіну Навумчык не пусцілі на пахаванне бацькі

**Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ**

Адміністрацыя, якая зараз кіруе нашай краінай, чарговы раз засведчыла ўласны гуманізм. Улады праігнаравалі зварот з просьбай выдаць пашпарт Галіне Навумчык, каб яна паспела на пахаванне бацькі.

Галіна выехала за межы Беларусі ў 1996 годзе пасля таго, як ейны муж Сяргей Навумчык атрымаў палітычны прытулак у ЗША. Праз колькі часу муж і жонка перабраліся ў Прагу. Яны прынцыпова захоўваюць беларускае грамадзянства, аднак беларускія пашпарты Навумчыкаў даўно пратэрмінаваныя.

Калі ў пачатку сакавіка раптоўна памёр бацька Галіны, Сяргей Навумчык па тэлефоне тэрмінова звярнуўся ў Міністэрства замежных спраў Беларусі, каб атрымаць магчымасць разам з жонкай і дачкой развітацца з нябожчыкам. Дзяжурны па МЗС ветліва параіў яму скласці пісьмовую заяву. Сяргей так і зрабіў, але не атрымаў ніякага, нават фармальнага, адказу. Фактычна можна лічыць, што Навумчыкам адмовілі.

Наўрад ці гэтае пытанне вырашалася на ўзроўні Міністэрства замежных спраў. Відаць, сумная нагода была выкарыстана адной добра вядомай асобай, каб яшчэ раз адпомсціць сям'і Навумчыкаў, зрабіўшы боль ад страты блізкага яшчэ мацней.

— Ёсць надзейныя звесткі, што пытанне разглядалася на самым высокім ўзроўні. Мабыць, на іншы вынік не варта было разлічваць, — зазначае Сяргей Навумчык. — За 8 гадоў эміграцыі, а працей — за 10 гадоў існавання гэтай улады я ў іх нічога ніколі не прасіў, вось папрасіў першы раз і, спадзяюся, апошні. Ясна, гэта не тыя людзі, якія будуць у сваіх рашэннях кіравацца мараллю.

Акрамя ўсяго іншага ў гэтай гісторыі ўлада яшчэ раз засведчыла сваю дробнасць. Сваю бязлітаснасць да тых, каго лічыць "ворагамі народа", яна гатовая дэманстраваць у любы момант, нават падчас жалобы. Цікава, што адначасова дэкларуецца прыхільнасць да еўрапейскіх каштоўнасцяў і нават абмяркоўваецца магчымасць адмены пакарання смерцю. Атрымліваецца, што забойцы могуць разлічваць на гуманнае стаўленне да сябе цяперашніх кіраўнікоў краіны, а палітычныя апаненты — не.

Нар. Воля 13/IV-04г

***118-Д. („Народная Воля”, – 2004, 13 красавіка)***

# З ІДЭЯЙ І ВЕРАЙ

***Зянону Пазьняку спаўняецца 60 гадоў***

Калі зыходзіць з прынцыпу моднай цяпер тэорыі «рэальнай палітыкі», дык уся ягоная дзейнасць можа быць ацэненая як суцэльны пройгрыш. Ён так і не ўзяў уладу (хаця наўрад ці сам думаў, што гэта рэальна). Ён так і ня здолеў пазбавіць свой народ залежнасці ад Расеі, чаго найбольш дамагаўся і ў чым ня ведаў кампрамісу. Існуе нават спрэчнае меркаванне, што менавіта ягоная радыкальная пазыцыя справакавала надыход яшчэ большай імпэрскай рэакцыі, і парасткі беларушчыны, якія ён сам узгадоўваў, былі панішчаныя, каб узнавіцца толькі праз дзесяцігоддзі.

Але без яго і сама беларуская ідэя магла б сканаць задоўга да таго, як новае пакаленьне пачне яе ўвасабляць у рэальнасьць. Пройдзе час, і ягоныя ворагі ды нядобразычліўцы застануцца ў нацыянальнай гісторыі і народнай памяці толькі з-за датычнасці да ягонай асобы і ніяк інакш. У тым выпадку, зразумела, калі захаваецца сама нацыя.

Гэта – пра Кастуся Каліноўскага; але часам гістарычныя паралелі дапамагаюць ацаніць і ролю сучаснікаў...

Уражвае, як выразна лёс сям'і Пазьняка адлюстраваў трагізм беларускага народа ў XX стагоддзі. Ягоны дзед Ян Пазьняк быў лідэрам Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі (БХД), а затым – Беларускага Народнага Аб'яднання (БНА) – беларускіх партыяў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Яшчэ ў 1931 годзе БХД заявіла, што «будучыню беларускага народа ня можа і не павінен вырашаць ані камунізм, ані фашызм, ані капіталізм, а толькі сам Беларускі народ». Ян Пазьняк падвяргаўся перасьледу з боку польскіх уладаў, а ў кастрычніку 1939 года быў арыштаваны органамі НКВД і расстраляны. Ягоны сын Стась (бацька Зянона) загінуў на фронце ў Чырвонай Арміі ў снежні 1944 года; яму было дваццаць два гады. Другі сын Яна Пазьняка, Янка, быў вывезены на працу ў фашысцкую Нямеччыну і бясьсьледна зьнік. Брат маці Пазьняка, Яська (дзядзька Зянона), прайшоў усю вайну з 1941-га і згарэў у танку ва Усходняй Прусіі ў лютым 1945-га. (Потым, у канцы 80-х, афіцыйная камуністычная прапаганда будзе шырока распаўсюджваць і падтрымліваць плётку, што нібыта «Пазьняк – сын фашыста»; ніводны рэдактар «перабудовачных» дзяржаўных газэт не пажадаў надрукаваць абвяржэньне).

У 60-х гадах Пазьняк быў адным з тых нешматлікіх (Міхась Чарняўскі, Лявон Баразна, Алесь Разанаў), хто ў поўную сілу паўстаў у абарону беларускай мовы. Яго некалькі разоў выключалі з інстытута і выганялі з працы – прычым выганялі так, што ўладкавацца на іншую працу не было магчымасці. Доўгі час (амаль два гады) ён перабіваўся разгрузкай вагонаў на чыгунцы, іншымі выпадковымі працамі ды на ўласным вопыце спазнаў, што такое голад ў самым простым яго значэнні. Днямі Зянон Станіслававіч прызнаўся мне, што ў тыя гады не казаў сваёй маці пра тыя выключэнні ды пераслед, шкадуючы яе, і калі гэтая публікацыя патрапіць да Ганны Яўхімаўны, яна даведаецца пра ўсё гэта ўпершыню.

Сёньня Пазьняк прыгадвае, хто падтрымаў яго ў той час: Максім Танк (ён дапамог аднавіцца ў інстытуце), ды Генадзь Бураўкін, тагачасны карэспандэнт «Праўды». Менавіта з дапамогай Бураўкіна ў 1969 годзе дваццаціпяцігадовы Пазьняк друкуе артыкул ў абарону забудовы Нямігі, якая, паводле жадання першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава, павінна была быць зруйнаваная. Знішчыць ушчэнт хацелі ня толькі Нямігу – на плане сацыялістычнай рэканструкцыі цэнтра Менска не было месца нават будынку Купалаўскага тэатра. Пазьняк прапанаваў падпісацца пад артыкулам некалькім дзясяткам дзеячам творчай і навуковай інтэлігенцыі; пагадзіўся толькі Лявон Баразна. Публікацыя ў «Правде» – воргане ЦК КПСС – успрымалася як дырэктыва; Машэраў быў разгневаны, але гістарычны цэнтр Менска ўратавалі (на жаль, ня ўвесь). Потым Пазьняку адпомсцілі за тую публікацыю. А Лявон Баразна праз тры гады быў забіты; як заявіла следства – выпадковымі хуліганамі (але ўсё бало не выпадкова).

Паралелі біяграфіі Пазьняка з лёсам шмат якіх дысідэнтаў ва ўсходнеэўрапейскіх краінах наводзяць на пытаньне: а чаму яна, гэтая біяграфія, ня мела вяршыняй тое, што сталася з Вацлавам Гавалам у Чэхіі, Лехам Валенсам у Польшчы ці Жэлю Жэлевым у Баўгарыі – вышэйшую ўладу? І чым далей, тым часцей у мяне пытаюцца: „Чаму ж вы, дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, не ўзялі ўладу? Чаму Пазьняк ня стаў прэзыдэнтам?"

У такім выпадку я адказваю: ён дасягнуў большага, чым прэзыдэнцтва – аднавіў дзяржаву, і ня кожнаму прэзыдэнту выпадае такі лёс. Ён стаў на чале той хвалі нацыянальнага Адраджэньня, якая вярнула Беларусі незалежнасьць. І я прашу назваць лепшы палітычны вынік пасля 25 Сакавіка 1918 года.

Напрыканцы 80-х гадоў толькі зацятыя аптымісты маглі верыць, што беларуская нацыя адродзіцца. Здавалася б, прагматыку (а менавіта адсутнасць прагматызму ставілася Пазьняку ў віну) спадзявацца на нешта іншае не выпадала. Не было ніводнай беларускай школы ў сталіцы дзесяцімільённай краіны, а імёны Ластоўскага, Крэчэўскага, Тарашкевіча, ці пра Бел-Чырвона-Белы сцяг ведалі хіба некалькі дзясяткаў чалавек. Не нашмат большая колькасць казала пра тое, што Беларусь можа і павінна быць незалежнай. Два стагоддзі расейскай імпэрскай асіміляцыйнай палітыкі, а затым семдзесят гадоў камунізму прымусілі большую частку народа забыцца пра сваё мінулае.

Адсяканьне гістарычнай памяці – гэта першае, што робяць з народам, калі хочуць пазбавіць яго будучыні.

Новая хваля нацыянальнага Адраджэньня пачалася з публікацыяў Пазьняка пра Курапаты; потым былі ўтварэнне «Мартыралогу» і БНФ, праўда пра Чарнобыль і словы пра беларускую Незалежнасьць – усё гэта на працягу двух-трох гадоў істотна зьмяніла мэнтальнасць беларускага грамадзтва, лепшай яго часткі, але, на жаль, не арыфметычна большай.

Цяпер я вымушаны пагадзіцца з нашымі камуністычнымі апанентамі пятнаццацігадовай даўніны: беларускі народ (калі разумець пад гэтым тэрмінам насельніцтва, ягоную большую частку) не імкнуўся да незалежнасьці; яго, пераважна, задавальняла жыццё ў імпэрыі. Пытаньне, аднак, у тым, ці заўсёды мае рацыю большасьць, асабліва калі яе пазбавілі памяці ды прымусілі дбаць выключна пра кавалак хлеба.

Бо быў і іншы беларускі народ – пакаленьні, што загінулі ў змаганьні за незалежнасьць, у якіх былі Каліноўскі, Багушэвіч, Купала, але якіх абставіны пазбавілі шанцу на посьпех. Такі шанец быў скарыстаны ў жніўні 1991 года – некалькімі дзясяткамі дэпутатаў ВС 12-га скліканьня пры падтрымцы 50 тысячаў грамадзян на плошчы перад Домам урада. Гэта – менш чым адзін працэнт насельніцтва, але гэта той працэнт, дзе былі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Артур Вольскі, Уладзімер Арлоў, Яўген Кулік...

Далей была праца Апазыцыі БНФ у парляманце – і дзясяткі законапраектаў, зь якіх толькі малая частка была прынятая пракамуністычнай большасьцю. Але і гэтага хапіла, каб Беларусь некалькі гадоў падыхала паветрам Свабоды і нарадзіла новае пакаленне, якое ўжо ніколі ня пойдзе ў імпэрыю ці ў камуністычны

лагер. Пачалася хваля вяртаньня да беларускасьці, утваралася прадпрымальніцтва, пра Беларусь пачалі казаць у сьвеце. Апазыцыя БНФ і Ценявы кабінэт Фронту распрацавалі праграму адбудовы краіны. Тут я нагадаю, што прапаганда настойліва ўбівала ў грамадскую сьвядомасць думку, што Фронт займаецца выключна «беларускай мовай»; тым часам БНФ распрацаваў канцэпцыю пераходу да рынку, законы аб зямлі, аб банках і банкаўскай сістэме, закон аб нетрах, блок законапраектаў па вайсковай рэформе і яшчэ некалькі дзясяткаў падобных законапраектаў). У Беларусі былі ўсе шанцы, каб вярнуцца ў цывілізаваны свет. Так і было б – усяго толькі пры адной, але абавязковай умове: калі б усе палітыкі, незалежна ад іх партыйнай афарбоўкі, выспавядалі б ідэю незалежнасьці Беларусі. Але – так не здарылася.

Віна і гістарычная адказнасьць «маладых ваўкоў», якія падтрымалі ў 1993-1994 гадах Лукашэнку, – ня толькі ў тым, што яны вылучылі свайго апанэнта лідэру дэмакратычнай апазыцыі. Яны падтрымалі чалавека, які ўжо ў верасні 1993 года заявіў, што Беларусь фактычна аб'яднаецца з Расеяй. У тую ж восень 93-га пра небясьпеку, якую нясе Лукашэнка, у «Народнай газеце» сказаў Быкаў. Але ў той момант тую кампанію цікавілі ня Быкаў і не Беларусь, а выключна ўласныя амбіцыі. Народ яшчэ толькі пачынаў абуджацца, яшчэ толькі падыходзіў да ўсьведамлення каштоўнасьці суверэннага існаваньня; яму б дапамагчы ў гэтым – яны ж пачалі падыгрываць імпэрскім сілам, фактычна, выступаючы супраць незалежнасьці сваёй дзяржавы.

У цывілізаваных краінах дзеяньні, накіраваныя на скасаваньне дзяржавы, ляжаць у плоскасьці ўжо не палітычнай і маральнай, а прававой ацэнкі. Беларусь у гэтым сэнсе выяўляла сытуацыю ўнікальную.

Прынята лічыць, што выбары 1994 года былі свабоднымі, і што Лукашэнка з Пазьняком мелі роўныя магчымасьці ў перамозе над Кебічам. Гэты падыход ня ўлічвае адной акалічнасьці, прычым вызначальнай. А менавіта: афіцыйная «кебічаўская» прапаганда і цалкам манапалізаваныя тэлебачанне і радыё выступалі з асуджэньнем распаду СССР, за аб'яднаньне з Расеяй (прыгадаем, якая кампанія вялася за аб'яднаньне грашовых сістэмаў), супраць беларусізацыі (прыхільнікі беларушчыны атаясамліваліся з фашыстамі). Усё гэта было на карысьць Лукашэнку зь ягонымі імпэрскімі планамі; фактычна, Кебіч і Лукашэнка падыгрывалі адзін аднаму, розьніца была хіба ў пэрсаналіях (як трапна запытаўся ў «Свабодзе» незабыўны Ігар Гермянчук перад другім турам галасаваньня, пытаньне палягала ў тым, ці паб'е сын бацьку?). Пабіў. І працягнуў яго справу з новым імпэтам.

І ці не выпадковая заканамернасць: і ў іншых постсавецкіх краінах, дзе да пачатку 90-х гадоў большая частка насельніцтва не сасьпела да ідэі дзяржаўнасьці, – нацыянальныя лідэры да ўлады не прыйшлі (ва Украіне не перамог Вячаслаў Чарнавіл, і гэта пры даволі высокім узроўні нацыянальнай самасвядомасьці). І наадварот: аналіз сьведчыць, што там, дзе нацыя ўсьведамляла ідэю незалежнасьці, дзе яна была гатовая пайсьці на ахвяры, – там яна прыводзіла да ўлады менавіта нацыянальна арыентаваных лідэраў; і толькі прайшоўшы этап, калі хочаце, «нацыяналізму», краіны ўвайшлі ў сям'ю эўрапейскіх народаў.

Уся далейшая палітычная тэхналёгія Лукашэнкі пасля выбараў 1994 года палягала якраз у падтрымцы прасавецкай, праімпэрскай мэнтальнасці ў як мага большай частцы насельніцтва. У гэтым – і тлумачэньне ліквідацыі «Пагоні» і Бел-Чырвона-Белага сьцяга як дзяржаўных сымвалаў, і ліквідацыі беларускіх школ, і перапісваньня падручнікаў, і пераводу электронных СМІ на расейскую мову. Лукашэнка і тыя, хто стаіць за ім, цудоўна разумеюць тое, чаго не разумеюць многія іх апанэнты: галоўнае – гэта ідэя. І таму Пазьняк застаецца для ўлады самым галоўным ворагам.

Зрэшты, мае нататкі пра Пазьняка носяць выключна гістарычны, рэтраспэктыўны характар. Некаторыя палітолагі, якія яшчэ нядаўна палохалі сябе беларускім нацыяналізмам, а сёння ўжо прызналі, што ўвесь «нацыяналізм» – у жаданні жыць самастойна і размаўляць на роднай мове, менавіта так і ацэньваюць ягоную ролю: выключна ў мінулым. Але ёсць і іншыя меркаванні. Адно зь іх выказаў Васіль Быкаў у інтэрв'ю журналісту Віталю Тарасу для Радыё «Свабода» ў маі 2001 года:

«Падобна, час Пазьняка яшчэ не настаў, хаця можа падацца, што ён мінуў. Гістарычным гадзіннікам у гэтай справе зьяўляецца электарат. Звычайна электарат рэагуе на прымітыўныя ісьціны і практычныя мэты. Нацыянальная ж ідэя для яго, электарату, апынулася празмерна экзатычнай, малазразумелай. А галоўнае, яна запатрабавала пэўных, і немалых, ахвяраў, да якіх электарат, калі не сказаць нацыя, не былі падрыхтаваныя, не зважаючы на тое, што да тых ахвяраў быў гатовы Зянон Пазьняк. І гэта давала надзею. Ня кожная нацыя мае такіх лідэраў, хоць, як вядома, лёс іх заўсёды трагічны. Што ж да Беларусі, дык увесь яе лёс трагічны, і ў гэтым мне бачыцца пэўная адэкватнасць лёсаў краіны і Зянона Пазьняка».

Але будзем верыць, што вызначаную Богам меру трагізму Беларусь хутка вычарпае, і будучыня яе народа, як і лёс Зянона Пазьняка, складзецца шчаслівая і годна.

***Сяргей НАВУМЧЫК***

*Надрукавана: («Народная Воля», – 2004, 23 красавіка, № 71).*

# КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў СЕЦІВЕ. 30 КРАСАВІКА 2004 Г.

***(Скарочана)***

**Зянон Пазьняк** нарадзіўся 24 красавіка 1944 г. у мястэчку Суботнікі Іўеўскага раёну Горадзенскай вобласьці. У 1967 годзе скончыў Беларускую мастацкую акадэмію, кандыдат мастацтвазнаўства. Доўгі час займаўся археалогіяй і аховай помнікаў гісторыі і культуры Менска. Паспрыяў зьберажэньню старога Менска ад разбурэньня. Падвяргаўся перасьледу камуністычных уладаў. У 1988 годзе адкрыў Курапаты – месца масавых расстрэлаў сотняў тысячаў ахвяраў расейскага камуністычнага генацыду 1937-1941 гг. У кастрычніку 1988 – заснавальнік мэмарыяльнага таварыства „Мартыралог Беларусі" і Беларускага Народнага Фронту. З 1989 года – старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" (з 1999 – старшыня грамадзкай арганізацыі „Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ). Ад сакавіка 1990 года па 9 студзеня 1996 – дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня, старшыня парляманцкай Апазыцыі БНФ. У 1994 года быў кандыдатам у прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь. У жніўні 1996 г. атрымаў палітычны прытулак у ЗША.

**Пытаньне:**

**– Што чакае Беларусь пасля прэзыдэнскіх выбараў, калі Лукашенка выйграе? Якая будзе рэакцыя захаду?**

З. Пазьняк: – Трэці тэрмін прэзыдэнта нідзе не прадугледжаны ў дэмакратычным заканадаўстве. Таму імкненьне да трэцяга тэрміну ацэньваецца як імкненьне да ўзурпацыі ўлады. Пытаньне аб трэцім тэрміне не разглядаецца на рэфэрэндумах (бо гэта мэтад абмінаньня права,

адыход ад вышэйшага праўнага прынцыпу). У некаторых эўрапейскіх краінах увогуле няма закону пра рэфэрэндум.

Хаценьне трэцяга тэрміну – гэта аўтарытарныя замашкі. Рэакцыя Заходу на такія маніпуляцыі павінна б была стацца адмоўнай. Але гэта не абазначае, што такая ацэнка наступіць. Захад дэкляруе агульначалавечыя прынцыпы, але жыве сваімі інтарэсамі. (Здача Захадам чачэнскага народа на вынішчэньне расейскай тэрарыстычнай арміяй – яскравы прыклад такога падыходу.)

Але што датычыць Амэрыкі, то яна не падтрымае ўзурпацыю ўлады.

Як павядзе сябе Заходняя Эўропа, якая будуе цяпер сваю тупіковую лібэральную імпэрыю і прытрымліваецца, як звычайна, згодніцкай прарускай палітыкі, – усё будзе залежыць ад абставінаў на Беларусі.

**– Паважаны Зянон Станіслававіч! Падкажыце, як перастаць баяцца? Як адкрыта загаварыць у рускамоуным асяродзі па-беларуску? Калі вы прыедзеце на Беларусь? Чаму захад вас расчараваў? Як вы адносіцеся да парляманцкай групы РЭСПУБЛІКА, ці магчама ім даверацъ? Дзякуй, Саша М.**

– Вялікі Дантэ сказаў: „Ідзі сваёй дарогай, і хай людзі гавораць, што хочуць.”

Каб ісьці сваёй дарогай, трэба не баяцца. Каб не баяцца, трэба мець у галаве, душы і сэрцы вялікую сьветлую ідэю, добрую для ўсіх, якая цябе павядзе ахвярна, дзеля агульнага дабра, бяз страху і аглядання. Ідэя дасьць табе сілу. Гэта ня значыць, што ты павінен тварыць подзьвігі, але гэта ёсьць асновай чалавечае годнасьці.

Калі тваёй ідэяй стане вера ў Бога, ты ня будзеш баяцца казаць праўду, бо захочаш па праўдзе жыць. Калі тваёй ідэяй будзе Беларусь, ты будзеш любіць сваю мову і свой народ, станеш паважаць сябе, будзеш па-беларуску жыць. Гэта будзе тваё.

Калі ж табе страшна быць самым сабой у абставінах, дзе цябе могуць не зразумець ці зьняважыць, гэта абазначае, што ты сумняваешся ў сэнсе сваёй праўды.

І тут ёсьць два спосабы. Калі ты чалавек духоўна моцны, разумны і стукаешся Богу ў дзьверы, ты дойдзеш да ўсьведамленьня (табе адчыніцца), што ад таго, як ты жывеш і што ты робіш, залежыць душэўная вечнасьць твайго быцьця. Ты ўсьвядоміш, што твае паводзіны і жыцьцё зьвязаныя зь вечным існаваньнем. А гэта дае чалавеку вялікую моц.

Калі ты іншы чалавек і табе цяжка гэта вырашыць самому, тады шукай сяброў, якія думаюць і жывуць так, як ты хацеў бы жыць. Не заставайся адзін. Будзь разам зь імі. Прыслухоўвайся да іх, рабі так, як яны. Будзьце разам, размаўляйце ўсюды па-беларуску пра становішча людзей і лёс Бацькаўшчыны, дапамагайце адзін аднаму, падтрымлівайце. Калі будзеце разам, перастанеце баяцца.

* * *

На Беларусь стане магчымым прыехаць толькі тады, калі будзе мажліва праехаць праз мяжу. Цяпер дзейнічае загад Лукашэнкі „Пры ўезьдзе-выезьдзе – затрымаць!” і пры непадпарадкаваньні страляць на паражэньне. Мяжа для мяне – гэта лінія фронта, якая дыктуе адпаведныя мэтады змаганьня.

* * *

Захад ніколі ня быў для мяне асабліва прывабным, таму і не расчароўваў. Проста я глыбей даведаўся пра яго лепшыя і горшыя якасьці. Эўрапейская палітыка, па маіх крытэрыях, прагматычна прымітыўная. Там шмат палітыкаў напаказ і мноства палітбюракратыі, але, практычна, няма дзяржаўных дзеячоў. Эўропа ў большай ступерні, чым Амэрыка, пераживае цывілізацыйны крызіс. Агульная характарыстыка цяперашняга Захаду – бездухоўнасьць.

Мне, аднак, больш імпануе Амэрыка. Там шмат добрага і разумнага. І мне шчыра шкода і трывожна глядзець, як гэтую харошую краіну захлістае хваля спажывецтва, эгаізму, бязбожжа і лібэральнай дурноты. Адзін амэрыканскі сэнатар сказаў, што калі Амэрыка загіне, то ад уласнай дэмакратыі. Магчыма, гэта перабольшаньне, але занадта шмат дадзена волі дрэні і злу.

* * *

Палатная група „Рэспубліка” – гэта штучная зьява, пустата. Яна добра кладзецца ў практыкуемую на Беларусі тэхналёгію „кіруемага канфлікту” і карэлюецца зь „вікаўскай апазыцыяй”. Калі коратка, то група „Рэспубліка” (як і „вікаўская апазыцыя” і іншыя групы ўплыву) – гэта частка акупацыйнага рэжыму, якая выконвае апазыцыйную ролю. Гэтыя групы імітуюць распрацоўку ўнутранага канфлікту з Лукашэнкам, адводзячы грамадзтва і міжнародную публічнасьць ад рэальнага і галоўнага канфлікту паміж гэбоўскай Расеяй і нацыянальна незалежніцкай Беларусяй. Барацьба йдзе за Беларусь, і ў гэтым змаганьні Лукашэнка ёсьць стаўленьнік і закладнік расейскага гэбізму на Беларусі. Ягоныя паказныя канфлікты з Масквой гэта ёсьць сваркі ў лягеры саюзьнікаў дзеля палітычных мэтаў.

Роля „кіруемай апазыцыі” ў тым, каб адвесьці пратэст грамадзтва на барацьбу з нагамі васьмінога (бо васьміног хапае нагамі). Але перамагчы яго можна толькі даўшы па галаве.

**– Dobry dzien szanouny sp. Zianon! Vialiki Vam dziakuj za toje, sto Vy zrabili dlia Backauszczyny i bielaruskaha narodu. Narzal, straczana svaboda i u niebiaspiecy NIEZALIERZNASC samoj BIELARUSI. Na backauszczynie sionnia niama palityka, jaki moh by padniac na baracbu narod i paviesci jaho za saboj. Na taki uczynak zdolny tolki Vy, szanouny Zianon! Uspomnicie KURAPATY 1988 hodu. My Vas czakajem DOMA i pajdziom za Vami za naszu SVABODU i SAPRAUDNUJU NIEZALIERZNASC BACKAUSZCZYNY! A ciapir pytannie. Jakija plany asabista u Vas, kab nie dac Lukaszenku pradourzyc termin uzurpacyi ulady na treci termin, a mahczyma i parzycciova? Para ad slovau pierachodzic da spravy! Z pavahaj ULADZIMIER HUNDAR h. BARANAVICZY, vul. Fraliankova, d. 20, kv. 9, tel. 45-35-31 paslia 21 hadziny.**

– Каб ня даць падоўжыць узурпацыю ўлады на трэці тэрмін, першае, чаго трэба дасягнуць, гэта выйграць байкот восеньскіх выбараў у „палаты”. (Сцьвярджэньнем гэтай палітыкі я і займаюся цяпер разам зь Беларускім Народным Фронтам, якім кірую.)

Калі выбары пры дапамозе „вікаўскай апазыцыі” рэжым здолее правесьці (гэта значыць, калі людзі пойдуць галасаваць), то ён іх „выйграе” шляхам фальсіфікацыі. Вынікі выбараў прызнае Масква (а, магчыма, і Брусэль, калі Лукашэнка здолее ўсіх ашукаць), і тады Маскве разьвяжуцца рукі.

Падзеі паказваюць, што калі саюзьнікі моцна не перагрызуцца, то цалкам магчыма, што пад восеньскія выбары захочуць падшыць рэфэрэндум аб так званым „канстытуцыйным акце” і адначасна – пра трэці тэрмін Лукашэнкі.

Аднак пасьля прыняцьця „канстытуцыйнага акту” трэці тэрмін для Масквы ўжо ня будзе мець значэньня. Дарога для анэксіі адчыніцца, і Масква можа захацець ажыцьцявіць яе ўжо без Лукашэнкі, задарма, зь якой-небудзь часовай фігурай, тыпу Марыніча (ды ці мала зь якой).

**– Шаноўны Зянон Станіслававіч! Маю гонар павіншаваць Вас з днём нараджэння, з Вашым юбілеем. Жывіце доўга і шчасліва, няхай Вас натхняе думка, што Беларусь хутка, вельмі хутка будзе сапраўды незалежнай! Незалежнай ад савецкай дураты, якую рэпрэзэнтуе цяперашні дэспат. Незалежнай ад тых, хто ўсё жыцьцё смактаў кроў і сілы беларускага народа. Жывіце ў радасці і надзеі,**

**якая з цяперашнім пакаленьнем стала небяспадстаўнай... Вашыя прагнозы заўсёды спраўджваліся. Таму маё пытанне – як, на Вашую думку, калі мы зможам далучыцца да Эўрасаюзу, канешне, пасля зьнікнення гэтага рэжыму? Зь вялікай павагай да Вас, Спартак (Менск)**

– Мы эўрапейцы і павінны арыентавацца на Эўропу, супрацоўнічаць з Эўразьвязам. Да Эўразьвязу мы можам далучыцца толькі тады, калі моцна станем на ўласныя незалежніцкія, нацыянальна-культурныя, фінансавыя і эканамічныя ногі. На каленях і з працягнутай рукой у Эўразьвяз ісьці нельга. Бо будзем рабамі, саюзьнікамі трэцяга сорту.

Для станаўленьня (пасьля ліквідацыі рэжыму) спатрэбіцца час, можа, восем гадоў, а можа й значна больш. Калі да таго часу Эўразьвяз не разваліцца ўшчэнт.

**– Вы ў 95% кажаце вельмі разумныя, правільныя, лягічныя і глыбокія рэчы. Вы шмат зрабілі для Беларусі на пачатку нашай незалежнасьці. Чаму ж тады брэнд «Пазьняк» мае такі вялікі адмоўны рэйтынг сярод нашых грамадзян? Andrus**

– Аднабаковая прапаганда псіхатропнага кшталту дзейнічае на масы непадрыхтаваных людзей як замбуючы параліч. Хто жыў у Савецкім Саюзе, той памятае жах ад прозьвішчаў такіх людзей, як Ластоўскі, браты Луцкевічы, Найдзюк, у Расеі – «прэдацелі" акадэмік Сахараў, пісьменьнік Салжаніцын. У 70-х гадах іхныя імёны мелі ці ня 100-працэнтовы адмоўны рэйтынг. А ў той жа час Леанід Ільіч Брэжнеў „ардзенамі грудзь украсіл", быў „найвялікшым" чалавекам эпохі, меў помнікі пры жыцьці і г.д. Цяпер – аналёгіі тыя ж.

На замбаваньне маім прозьвішчам паддаліся ў асноўным людзі, не прывыкшыя самастойна думаць, у якіх Лукашэнка – „харошый прэзідэнт". Рускім шавіністам, агентуры, савецкім чыноўнікам, прамаскоўскім „дэмакратам" таксама ёсьць каго ненавідзець. Тут рэзкая палярызацыя пазыцыяў. Тыя, хто любяць Лукашэнку, абавязкова ненавідзяць мяне.

Сытуацыя адлюстроўвае рэальнае палітычнае становішча і паказвае, хто зьяўляецца сапраўднай альтэрнатывай Лукашэнку і лукашэнкаўскаму рэжыму. Гэта цудоўна ведае Масква, Лукашэнка і ягонае асяроддзе, але ня могуць сказаць у голас. Язык не паварочваецца.

**– Зянон Станіслававіч, Ці зьмянілася вашае стаўленне да Лукашэнкі апошнім часам, калі ён пераўтвараецца ў змагара за Беларускую незалежнасьць? На вашу думку, якая будучыня можа чакаць Беларусь ў найбліжэйшыя гады? З павагай, Алесь Супрынюк**

– Лукашэнка неператвараецца ў змагара за незалежнасьць. Думаючым людзям ня трэба паўтараць прапагандысцкіх „вэрсусаў". Прыступы ягонага „суверэнітэцтва" правяраюцца ўнутранай і зьнешняй палітыкай, а яна – не зьмяняецца. Сутнасьць жа яе – вынішчэньне ўсяго беларускага. (У апошні час вынарадаваньне стала нават больш жорсткім.) Я ўжо казаў, што сварка Лукашэнкі з Масквой – гэта паказная грызьня ў лягеры саюзьнікаў. Канфлікт ня мае прынцыповага характару (бо ў гэты ж час рыхтуецца ўвядзеньне расейскага рубля, гандлююцца пра „канстытуцыйны акт", плянуюць выбары ды рэфэрэндумы і г.д.).

„Разборкі" і сваркі – гэта ў традыцыях крымінальнікаў, мафіі і тэрарыстаў НКВД-КГБ. (Успомніце гісторыю СССР, тэрор, расстрэлы і рэпрэсіі.) Сварка Пуціна з Лукашэнкам можа скончыцца не паражэньнем і не суверэнітэтам Лукашэнкі, а анэксіяй Беларусі. З-за гэтага яны і гандлююцца, і сварацца (даражэй прадаць, таней купіць). Трэба добра ўсьведамляць, што такое гэбізм, якая ўлада цяпер у Расеі ды Беларусі.

**– JAk vy acienvaiecie pracu «Svabody» i asobnych jaje zurnalistau.**

– Тут мае ацэнкі – палова на палову. З палітычнага боку, гэта шмат у чым тэндэнцыйная станцыя, якая робіць адбор і падае прасеяную інфармацыю, як правіла, у рэчышчы і на ўзроўні „вікаўскай апазыцыі".

Станоўчае, што ёсьць у станцыі „Свабода" – гэта яе беларуская культурна-асьветніцкая функцыя. І гэта пераважвае. Але шмат залежыць ад журналістаў.

**– З аднаго боку вы заўжды паказвалі бескампраміснасьць у барацьбе за Беларусь і за беларушчыну, паказвалі жаданьне змагацца да апошняга (і запальвалі такі ж агонь у іншых), але з другога боку, Вы ж самі зьехалі зь Беларусі, уцяклі з роднай зямлі, можна сказаць, здаліся. Як вы самі разглядаеце гэты ўчынак? Чым для вас сталіся ўцёкі ў замежжа? Чаму вы гэта зрабілі? Ці не шкадуеце, што здаліся? Як замежжа паўплывала на вашую асобу? Эсьмі**

– Адзінаццаць пытаньняў (і нават больш) зададзена па тэме эміграцыі і майго вяртаньня на Беларусь (Заўвага вэб-рэдактара: пытаньні, што паўтараюцца, мы не выстаўляем). Часткова я ўжо адказаў на гэта, гаворачы пра мяжу. Пра эміграцыю таксама шмат мной ужо напісана і сказана раней. Аднак коратка яшчэ раз адзначу асноўнае.

Найперш тое, што людзі, якія рыхтавалі забойства, пралічыліся. Пралічыўшыся, яны думалі пажаць плады на гнюснай прапагандзе аб маёй эміграцыі, падаючы яе як неабгрунтаваны ўчынак. Думаю, што яны пралічацца яшчэ раз, у апошнім акце іхняй сцэнічнай драмы, якую яны пісалі крывёй. Сьмешныя іхныя спадзяваньні, што нехта сам палезе да іх у пашчу. Не на такога нарваліся. Аб стварэньні каманды (ці „эскадрона") сьмерці ў 1995 годзе я ведаў у гэтым жа 1995-м. (Было каму мяне папярэдзіць пра ахвяру нумар 1.)

Чаму я зьехаў у 1996-м? Таму што так Богу ўгодна было. Змаганьне за Беларусь – гэта вельмі сур'ёзная справа, каб з тымі, што нічога не разумеюць (і прыкідваюцца, што не разумеюць) яшчэ і дыскутаваць. Ёсьць тэмы не дыскусійныя. Ня кожны вытрымлівае гэтае змаганьне і ня кожны на яго здольны. Некаторыя мае былыя супольнікі гэта добра прадэманстравалі. Такім „супольнікам-паплечнікам", якія да гэтага часу не паразумнелі, раю ўзяць у ручку плякацік з надпісам „Где Захаренко?", „Где Завадский?" і г.д., і стаць у пікецік. Гэта іхны ўзровень. Можа зразумеюць, чаму ў іх няма плякаціка «Дзе Пазьняк?»

У мяне іншыя паплечнікі – сябры, якія падстаўляюць плячо. Завяршаючы адказ на гэтую тэму, яшчэ раз адзначу сутнасьць маёй эміграцыі як палітычнага змаганьня. Што дало змаганьне за мяжой? Гэта, перш за ўсё, паварот міжнароднай супольнасьці на непрызнаньне акупацыйнага рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі. У 1996 годзе Эўропа гатовая была здаць Беларусь пад Расею. На працягу некалькіх месяцаў мы з Сяргеям Навумчыкам праводзілі інфармацыйную працу ў эўрапейскіх краінах, раскрываючы сутнасьць рэжыму Лукашэнкі і „інтэграцыйнай" палітыкі Масквы. Такую ж працу мы праводзілі ў ЗША, куды былі спэцыяльна запрошаныя.

Калі стала вядома, што ў Польшчу (гэтак жа, як і ў Беларусь) нам вяртацца нельга (бо вышла наверх, што ў Польшчы рыхтавалі забойства), тады стварылася безвыходная сытуацыя. На карту трэба было ставіць свой лёс, і, фактычна, разам з гэтым – лёс Беларусі. Неабходна было прасіць палітычны азыль. Уся руская дыпляматыя і агентура была пастаўлена на ногі (каб не сказаць на вушы) з мэтай не дапусьціць, каб нам далі азыль. Змаганьне доўжылася амаль месяц. Я пісаў асабіста прэзыдэнту Клінтану (зь якім нядаўна двойчы спатыкаўся ў час ягонага афіцыйнага візыту ў Менск у 1994 годзе). Клінтан прыняў дыпляматычнае рашэньне ў нашу карысьць.

Гэта быў паваротны момант у палітыцы. Патлумачу. Прадстаўленьне палітычнага прытулку лідару нацыянальна-дэмакратычнай апазыцыі, які выступае антаганістам і альтэрнатывай дзеячаму прэзыдэнту, ёсьць палітычны выбар прымаючай краіны, прызнаньне рацыі пэўнаму боку. У 1996 годзе выбар і рацыю Амэрыка прызнала мне. З гэтага часу Амэрыка не магла падтрымліваць Лукашэнку і ягоную антыдэмакратычную палітыку. Пазыцыя Амэрыкі вызначылася і не зьмянілася па сёньняшні дзень.

З гэтага часу таксама ва ўсім дэмакратычным сьвеце склалася і была засьведчана крытычная ацэнка палітыкі Лукашэнкі як недэмакратычнага аўтарытарнага і антыпраўнага рэжыму. (Прынятыя нашыя ацэнкі.) Міжнародная супольнасьць уключылася ў назіраньне за палітычным змаганьнем на Беларусі.

Другі павартны момант быў у дзень лістападаўскага перавароту 1996 года, калі з Масквы ў Менск прыляцела каманда Чарнамырдзіна-Строева ратаваць Лукашэнку ад імпічманту. Так супала, што ў той дзень нараніцы я павінен быў выступаць з даўно заплянаваным дакладам пра Беларусь у Вашынгтоне ў Карнэгі-Фондзе перад дзелавой, палітычнай элітай ЗША. Я заўважыў, што на сталах перад кожным з прысутных ляжаў падрыхтаваны тэкст заявы для друку ад Дзяржд-эпартаманта з падтрымкай расейскай місіі Чарнамырдзіна-Строева ў Менску. (Гэта добра папрацавала руская дыпляматыя і інфармацыйная агентура.) Тады я адклаў убок свой даклад і стаў гаварыць пра падзеі ў Менску як пра антыдэмакратычны пераварот (бо ўжо ноччу меў пра падзеі ў Менску дакладныя зьвесткі.)

Адбылася гарачая дыскусія. Асабліва кідаліся на мяне прадстаўнікі рускага пасольства. Але бальшыня амэрыканскіх дзеячоў падтрымала маю пазыцыю, а прадстаўніца Дзярждэпартаманту паведаміла, што заяву яны адклічуць і напішуць іншы тэкст, па выніках нашай дыскусіі.

Тут ізноў патлумачу, што калі б не было спатканьня-сходу ў Карнэгі-Фондзе і першы тэкст заявы быў бы надрукаваны, то назад Вашынгтон ужо справу не адкручваў бы. Тут загаварыў бы ня толькі „гонар мундзіру”, але падключыліся б адпаведныя сілы і меркаваньні. Усё гэта вельмі дрэнна адбілася б на дачыненьнях да Беларусі і на ацэнках перавароту. Тое, што ўдала атрымалася, – гэта добрае супадзеньне. У вялікай бядзе Беларусі, відаць, трошкі пашанцавала. У гэты ж дзень я меў спэцыяльны выступ па CNN аб Менскіх падзеях.

**– Паважаны сп. Пазьняк, ці маглі б Вы, асабіста, працаваць пасьля наступных прэзыд. выбараў у адной камандзе з пэрсонай, якая належыць да іншай нацыянальна-арыентаванай партыі (напрыклад, са сп-мі. Вячоркам, Статкевічам...). Дзякуй. Алесь Шпакоўскі.**

– У прынцыпе, гэта магчыма, калі прызнаюцца агульнанацыянальныя каштоўнасьці і дзяржаўныя інтарэсы. Што датычыць названых прозьвішчаў і ў цэлым „вікаўскай апазыцыі”, дык бальшыня асобаў гэтай групы ўвогуле не надаецца да дзяржаўнай дзейнасьці. Калі іх узяць ва ўладу, то будзе квітнець карупцыя. Яны ўжо карумпаваныя, бо гатовыя браць замежныя грошы і займацца абы чым. Дакладней – чым скажуць.

**– Па-першае, мае віншаваньні, спадар Зянон! Здароў'я Вам і сілы ў плённай працы на карысьць нашай Бацькаўшчыны! А пытаньне просьценькае: ці заглядаеце Вы на такіе інтэрнет-рэсурсы, як:www.knihi.com, slounik.org (Беларуская Палічка, Слоўнікі і энцыклапедыі, Беларусы свету (як дадатак да Палічкі)? Ці бачылі Вы форум там з назвай «Навошта людзі вераць створанаму прапагандай вобразу Пазьняка – жаха», які аказаўся на дзіва жывучым – існуе больш 4-х месяцаў, больш за 800 допісаў? Як Вы ставіцiся да інтэрнет-абмеркаваньняў падобнага кшталту? З павагай, Натальля з Менску.**

– На старонку, пра якую Вы кажаце, не заглядваў. Прычына зьвязаная з рэсурсам часу, які абмежаваны. Але пацікаўлюся.

**– Што болей нарабіў сваімі палітычнымі амбіцыямі сп. Уладзімер Колас – карысьці, ці зла? З аднаго боку, на вагах – лідэрства ў палітычнай арганізацыі, з другога – лёсы дзяцей... Натальля, Менск**

– Шмат хто лічыць, што дырэктар Ліцэю папулістычна выкарыстоўваў зачыненьне беларускай вучэльні дзеля сваіх пустапарожніх палітычных мэтаў, замест таго, каб рэальна і разумна бараніць школу. Хутчэй за ўсё, гэта перабольшаньне, але, магчыма, тут нешта й было. І тады гэта, вядома, прыкра. Аднак, прычына не ў дырэктары, а ў антыбеларускім рэжыме, які зьнішчыў усю беларускую адукацыю і пастанавіў зачыніць беларускі Ліцэй любым спосабам. Гэта галоўнае.

**– Дзе зараз наша апазыцыя? Дзе лідэр, які зможа павесьці за сабой народ, ускалыхнуць масы? Здаецца, што мы ў беспрасьветным тупіку.**

– Ня падайце ў роспач. У тупіку якраз лукашэнкаўскі рэжым разам са сваёй „апазыцыяй”. Перад імі – цемра. А перад вызвольнай Беларусяй – сьветлы і зразумелы шлях, дзе сьвеціць зорка велічы, волі і Адраджэньня. Але гэта шлях змаганьня. Не палохайцеся. Ступайце. Чым больш людзей будзе на дарозе да Беларусі, тым хутчэй дойдзем.

**– Вось амаль 10 гадоў Вы ў эміграцыі. Ці не падаецца Вам, што апазыцыйны рух шмат чаго згубіў з гэтага? Акрамя таго шмат хто з простых людзей «не зразумеў» ваш ад'езд у ЗША. Ці збіраецеся браць удзел у будучых выбарах прэзыдэнта?**

– Аб прэзыдэнцтве. Яшчэ ў 2001 годзе, адразу пасьля „элегантнай” фальсыфікацыі прэзыдэнцкіх выбараў рэжымам Лукашэнкі, Беларускі Вызвольны Рух аб’явіў маё прозьвішча як альтэрнатыву Лукашэнку. Альтэрнатыва ў дадзеным выпадку азначае, што адменіцца ўсё, што натварыў гэты рэжым. Будзе новая Беларусь і новыя дачыненьні. Зьнікне страх і зьнеуважэньне людзей, адновіцца праца і пэрспэктыва, і ніхто ня будзе больш пляваць беларусам у твар.

**– Переломных моментов было много, но все-таки, какая главная ошибка была сделана? Что нужно было сделать, что бы Беларусь пошла по прибалтийскому пути?**

Размовы аб быццам бы нейкіх „памылках” Народнага Фронту, які, маўляў, ня ўзяў уладу, маюць штучнае паходжаньне і выкарыстоўваліся, як правіла, палітычнымі праціўнікамі беларускага Адраджэньня. Таму ня трэба гэта некрытычна паўтараць тым, хто такім праціўнікам не зьяўляецца.

Той, хто ня маючы ўлады, робіць памылкі ў палітыцы, той нічога не дасягае. А Народны Фронт дасягнуў. І галоўнае дасягненьне – вяртаньне незалежнасьці Беларусі.

У беларускай сытуацыі 90-х гадоў (і ў палітыцы ўвогуле) вырашальнымі ёсьць не памылкі, а сіла. У Беларусі, нягледзячы на ўражваючыя, змагарныя посьпехі БНФ, рэальная сіла (і немалая сіла) была на баку савецкай намэнклатуры і КГБ, якія трымалі ўладу. Склалася гэтак таму, што беларускае савецкае грамадзтва і вялікія масы людзей аказаліся непадрыхтаванымі да нацыянальнай рэвалюцыі, якая адбывалася ў краіне ў 1988-91 гг., бо не было неабходнага пэрыяду нацыянальнага асьветніцтва, якое кансалідуе нацыю на падставе агульных каштоўнасьцяў. Пакаленьні беларусаў і беларуская культура падвяргаліся расейскаму вынішчэньню і русіфікацыі. Пасьля Савецкага Саюза на Беларусі засталося грамадзтва, дзе бальшыня людзей жыла з дэфармаванай псіхікай, без гістарычнай памяці і без нацыянальнай сьведамасьці.

Гісторыя СССР не дала ўжо беларусам часу на падрыхтоўчы пэрыяд нацыянальнага асьветніцтва. Тыя сьведамыя групы беларусаў (часам некалькі дзясяткаў), што вырасьлі ў 10-мільённым народзе да канца 80-х гадоў, скарысталі крызісную сытуацыю ў СССР і з ходу з шабляй наголa рынуліся ў бой з камуністычнай імпэрыяй. Наша перамога (восем адсоткаў фронтаўцаў у Вярхоўным Савеце) – гэта перамога авангарду, яна выглядае цудам, у гэта цяжка паверыць, але гэта факт, і толькі нам вядома, якімі высілкамі розуму, энэргіі і волі быў дасягнуты гэты цуд.

Шлях нацыянальнага авангарду, які павінен быў узяць уладу дэмакратычным спосабам і праз сваю нацыянальную дзяржаву (праз дзяржаўную палітыку) праводзіць нармалізацыю дэфармаванага грамадзтва, – гэта быў шлях таксама рэальны. (Іншага не існавала.) Але

потым, ў 1992 і 1994-м гадах, не хапіла сілы (якая ў гэтым выпадку вырашала шмат), не дадалося актыўнай падтрымкі грамадзтва, бо яно не сасьпела.

Усё тое, што ўдалося перад гэтым нацыянальнаму авангарду фэнамэнальна дасягнуць, стала магчымым якраз таму, што не нарабілі памылак, а дзейнічалі хутка, разумна, сьмела і рашуча.

З гэтага вопыту зноў у каторы раз вынікае, што калі беларуская эліта ня будзе займацца нацыянальнай асьветай грамадзтва, будучыні Беларусь мець ня будзе.

**– Добры дзень. Як, на Вашу думку, ці пойдзе Лукашенка на правядзенне новага рефэндуму і як да гэтага паставіцца Расея?**

– Схема, якая відочна выяўляецца цяпер, такая: Расея настойвае на рэфэрэндуме аб так званым „канстытуцыйным акце", а Лукашэнка на тым, каб падшыць пад гэта пытаньне аб ягоным трэцім тэрміне. Над гэтым разбойнікі сварацца.

Расейцам пасьля прыняцьця „канстытуцыйнага акту" Лукашэнка, практычна, ужо быў бы непатрэбны. Кагэбоўская Масква магла б пад выглядам падтрымкі барацьбы з дыктатурай (і даўшы грошай „вікаўскай апазыцыі") правесьці часова на беларускі пасад якоганебудзь свайго „дэмакрата" (як я ўжо казаў, тыпу Марыніча, зь якім яны гуляюць) і потым ажыцьцявіць інкарпарацыю.

Зазначым, аднак, што такі нумар у гэбэ ня пройдзе. Тыя, што ў Крамлі нешта такое плянуюць, дрэнна ўяўляюць, што з гэтага атрымаецца.

**– Собираетесь ли Вы предпринимать какие-либо действия политического характера в Беларуси? Если да, то очень интересно, каким образом человек, кинувший Беларусь и живущий в Штатах, к тому же старый, может претендовать на власть. БНФ мертв. Нормальная молодежь не видит альтернатив, хотя абсолютно против действующего режима. Как и против большинства оппозиционеров, делающих только деньги и умеющих кричать о себе.**

– „Моладзь, што ня бачыць альтэрнатываў", як піша „спэцыяліст", ня ёсьць „нармальнай". Гэта стан якраз далёкі ад нармальнасьці. Альтэрнатывай рэжыму ёсьць наша вольная і незалежная Беларусь. Шануйце яе, бараніце, набліжайце, не давайце таптаць. Моладзь павінна абараняць Бацькаўшчыну.

Што датычыць ацэнкі так званай „апазыцыі", то яна правільная, і гэта абазначае, што „спэцыяліст" умее бачыць рэальнасьць. Гэтую „апазыцыю" трэба зьмятаць разам з рэжымам. Яны аднаго поля ягада, і вырасла гэтая „ягада" з таго ж рэжыму, з супольнікаў Лукашэнкі.

**– Prywitan'ne, pawagany Sjanon Stanislawawitsch. Pa perschae,winschuju Was s scheszidesjazi godsem, jubilej. Gadaju Wam sdarouja i pospechau u waschym gyzzi. Kali laska daswolze mne sadaz' Wam pytan'ne, jakoe tytschyza sjonjaschnjaj Belaruskaj emigrazyi u sameggy. Kali ja ladsij Belaruskuju demanstrazyju u Austryi-Bregenz, ja sutyknuusja s peunymi zjagkastjami, napryklad, Belarusau jakich ja saprasiu udsel'nitschaz' u demanstrazyi ne bylo, jany spasylalis' na chwaroby zi zjagkaszi s graschyma, mauljau groschej na darogu njama i g.d. Paslja getaja demanstrazyi ja patschau rasumez', schto nikomu s' Belarusau sjonjaschnjaj emigrazii ne zikawa prablema Belarusi i dyktatarskaga regyma Lukaschenki. Skladwaezza uradgen'ne, schto use uzjakatschy pryechali u Europu ne pa prytulak,a uladkowywaz' swojo prywatnae gyzzjo. Adkagyze kali laska Pawagany Sjanon Stanislawawitsch na takoe pytan'ne, tschamu sjonjaschnjaja Belaruskaja emigrazyja zuraezza usjago Belaruskaga: Mowy,Kul'tury, Smagan'ne sa nesalegnasz' i g.d. Napryklad, kali s'biraeza ladsiz' demanstrazyju u Njamettschyne al'bo u Austryi Kurdskaja abschtyna supraz' Turezkaga panawanja. Na getu demanstrazyju s'birajuza tysjaty Kurdau, a wos' na Belaruskuju demanstrazyju niwodnaga ne magtschyma daklikazza. Dseg getyja Belarusy ??? A uuuu !!! Dsjakuj sa adkas !!! Andrus' Kljon**

– Беларус у сьвеце не мяняецца. Той, хто паважаў Бацькаўшчыну і мову ў Беларусі, той і ў Афрыцы будзе яе шанаваць, і ў Амэрыцы. Хто не шанаваў, той і не шануе, той хапаецца за ангельшчыну ці нямеччыну і хутчэй стараецца амэрыканізавацца ці анямечыцца, стаць гноем гісторыі і ўгнаеньнем для чужога грамадзтва. Такая зьява назіраецца даўно, ужо два стагоддзі. Прычыны яе вядомыя.

Але я ня раіў бы Андрусю крыўдзіцца на беларусаў у Аўстрыі. Бо ёсьць за мяжой і сьвядомыя харошыя беларускія хлопцы і дзяўчаты. І шмат. Раю крытычна ўсё прааналізаваць, паглядзець збоку і на сваю асобу, можа, Вы чаго не ўлічылі? Ці размаўлялі Вы зь людзьмі? Ці добра Вас успрымаюць? Ці маеце што прапанаваць іншым, ці толькі патрабуеце ад іншых і г.д.

Калі Вы зможаце з гэтым усім разабрацца, то, магчыма, прыйдзеце і да больш грунтоўных высноваў.

**– Пытаньне да Зянона Пазьняка: Летась я выпадкова ўбачыў у сяброў некалькі нумароў газэты-бюлеценя «Беларускія Ведамасьці». Наколькі я зразумеў з выходных дадзеных на апошняй старонцы, гэта Вашае з жонкай выданьне. У гэтай сувязі хацеў бы запытацца: На каго нацэленае гэтае выданьне? Які ў яго наклад і рэгулярнасьць выходу? Дзе яно распаўсюджваецца і як яго можна дастаць у Менску? Andrus**

– „Беларускія Ведамасьці" выдаюцца рэгулярна з 1996 года па 6 – 10 нумароў у год. Гэта адраджэнскі бюлетэнь, які зьмяшчае інфармацыйныя, дакумэнтальныя, тэарэтычныя і іншыя матэрыялы па тэме змаганьня з палітыкай расейскай агрэсіі і акупацыйным рэжымам Лукашэнкі на Беларусі. Рэгулярна друкуецца хроніка парушэньняў правоў беларусаў і ацэначныя рэлізы існуючай на Беларусі інфармацыі. Наклад бюлетэня вагаўся ад 1000 да 3000 экзэмпляраў. Рассылаецца па ўсім сьвеце. Арыентаваны на актыўных беларусаў, якія займаюцца беларускім асьветніцтвам.

Бюлетэнь выдаецца „бяз сродкаў". Гэта значыць, робіцца збор грошай на кожны нумар (у асноўным, сярод беларусаў у Амэрыцы).

Апрача „Беларускіх Ведамасьцяў" выдадзены шэраг асьветніцкіх брашураў у ЗША. (Фармальна мной закладзена дзеля гэтага Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Амэрыцы.) У 2002-2003 гг. На сабраныя сродкі ад беларускіх патрыётаў (і на свае) выдадзеныя кніжкі: „Новае стагоддзе" і „Гутаркі з Антонам Шукелойцем". (У 2000 г. – „Глёрыя Патрыя".) На падыходзе яшчэ з паўдзясятка асьветніцкіх кніг і зборнікаў, якія рыхтуюцца, але ў бліжэйшы час выдадзены, відаць, ня будуць. (Пытаньне ў сродках.) Хіба, па частках, у „Беларускіх Ведамасьцях".

**– Privitanne, pavazhany spadar. Adkazhice na pitanne, shto na samoi sprave adbivalasia y zale pasedzanniay Viarhoynai Rady y krasaviky 1995 goda kali depytaty Viarhoynai Rady bili gvaltoyna vidalrny z bydinka Viarhoynai Rady. Shto bachili Vy asabista? Dziakyi za adkaz.**

– Падчас галадоўкі дэпутатаў супраць незаконнага рэфэрэндуму ў Беларусі, ноччу 12 красаваіка ў Вярхоўны Савет былі ўведзеныя войскі, батальён спэцназу. Гэты батальён уварваўся ў залю і зьбіваў нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ. Так пачыналася новая палітыка дыктатара Лукашэнкі.

**– Hi, some words about me my name is Pavel. I am from Minsk, but now I am in NYC. I love my country and I am belarus. If you will held any conference or meeting in that area of US, I wiil be glad to join. Thank you. God bless you. Pavel**

– Дзякую за добрыя пажаданьні. Кожную другую суботу месяца БАЗА (Беларуска-амэрыканскае задзіночаньне) ладзіць сустрэчы беларусаў у Нью-Ёрку, запрашаю прыехаць на гэтыя сустрэчы. Пачатак а 19-ай гадзіне. Адрас у інтэрнэце http://www.baza-belarus.org/

**– Jakoje Vashaje staulen'ne da palityki Zluchanyh Shtatau da Belarusi za aposhnija 10 hadou? Yury Beliamuk, Kobryn**

– ЗША зьяўляюцца гарантам сувэрнітэту Беларусі. І гэта краіна, якая стараецца гэтую гарантыю датрымліваць.

**– Паважаны Зянон Станіслававіч, якую ролю на Ваш погляд іграюць маладзёвыя рухі? Як вы ставіцеся да руху «Зубр»? Вялікі Вам дзякуй за ўсё, жадаю Вам вялікага здароўя, каб наша Перамога была пры Вашым жыцці. І яно будзе так! P.S. Адзінае, з чым я не зусім пагаджаюся з Вамі, – пытаньне наконт байкоту выбараў. Людзі павінны бачыць альтэрнатыву! А то многія думаюць, што яе і зусім няма... Яўген, 18 год, Наваполацк. Жыве Беларусь!**

– Задача моладзі і моладзевых рухаў – любіць, бараніць і дапамагаць Бацькаўшчыне. Асабліва тады, калі яна ў цяжкім становішчы.

Байкот дае шанец на перамогу. Удзел у выбарах не дае абсалютна ніякіх шанцаў. Акрамя таго дае мінус, бо ўмацоўвае рэжым, дае Маскве магчымасьць працягваць палітыку інкарпарацыі Беларусі. Патрэбен толькі байкот – гэта цяпер адзіны шлях.

**– SP. Pazniak, za jakija srodki vy i vashaja siamja zhyvece – vy, nakolki viadoma, uzho shmat hadou ne pracujece, vashyja adpartyjcy liudzi ne samyja zamozhnyja, belaruskaja emihracyja nia u stane prafinsavac vydanne rehuliarnaj hazety u Amerycy, jak majuc ukraincy i rasejcy, ci dapamahchy vydac knizhku u Belarusi (ja vedaju, bo zviartausia i ne atrymau dapamohi, ale atrymau tlumachenni pra bednasc dyjaspary). Hto vas kormic? Ivan Vaslilevich, Minsk**

– Я «кармлю»сам сябе. Мяне ніхто ня «корміць».

Становішча чалавекка ў палітычнай эміграцыі настолькі няпростае і цяжкое, што зразумець яго можа толькі той, хто сам гэта паспытае (чаго нікому не раю).

**– Ci lichyce vy, shto mozhna byc' patryjotam Belarusi i ne havaryc' pa-belarusku?**

– Гісторыя і рэчаіснасьць такое не даказвае, асабліва ўлічваючы імпэрскія прэтэнзіі Расеі. Першае, што павінен рабіць беларускі патрыёт, гэта гаварыць па-беларуску. У рэчышчы рускай імпэрскай палыіткі расейская мова ёсьць сродкам гэтай палітыкі, таму барацьба за беларускую мову ёсьць і барацьбой за беларускую незалежнасьць. Мова – галоўная прыкмета патрыятызму.

**– Чаму так марудна ідзе праца апазыцыйных партый? Чаму нават Грузія здолела зрабіць тое, што мы ня здолелі зрабіць з 1994 года? Чаму няма актыўнай агітацыі сярод моладзі, сярод сталага люду? Большасць грамадзянаў – апалітычныя ў поглядах, а гэта трэба выпраўляць з уклонам у наш бок!**

– Таму што задача «апазыцыйных» партыяў – займацца імітацыяй палітыкі, што яны і робяць. Калі спыняцца датацыі, што выдзяляюць на імітацыю, то замрэ і дзейнасьць гэтых партыяў. «Вікаўская апазыцыя» – гэта штучнае ўтварэньне, якое зьяўляецца часткай акупацыйнага рэжыму. Для Беларусі ад гэтай апазыцыі – адна толькі шкода.

**– Чем «гнать» на полтитков оставшихся в Беларуси, лучше б сам приехал и попробовал сделать больше...**

– Пра прыезд ды пра мяжу я ўжо казаў. Што датычыць маёй дзейнасьці, то тое, што я раблю тут (і там), гэта і ёсьць тое рэальнае, што Беларусь скарыстае для сваёй свабоды і незалежнасьці.

**– Ne aryginalnae pytanne – ci ne varta bylo «ciyrpec i byc raspiatu» Mo ne bylo zaraz tak gadka tut na Belarusi. Alecs**

– Сутнасьць палітыкі ў тым, каб дзейнічаць і змагацца, і набліжаць будучыню, а не бяссэнсава паміраць, каб нехта рабіў за цябе. Гэтак мы будзем вечна стаяць на адным месцы, ці толькі паміраць. Трэба жыць і змагацца.

**– Shanouny Zianon Stanislavavich, vinshuju Vas z jubilejem! Maju prapanovu dlia Vas i Radyjo Svaboda: napisac' memuary i prachytac' ih na hvaliah Svabody. Shmat majih znajomyh z vialikaj asalodaj sluhali uspaminy Vasilia Bykava, Ivonki Survily, inshyh pavazhanyh asobau, jakija vystuplai pa radyjo. Velmi hacelasia pachuc Vash holas i Vashyja uspaminy – pra chas, pra siabrou, pra sustrechy. Chuu pa Svabodze, shto vyhodzili Vashyja knihi, ale ih ciazhka zdabyc'. Mozha, Svaboda pachytala b uryuki? Jasce raz usiaho vam najlepshaha. Mikola Kislicyn, Lida**

– Няма часу пісаць мэмуары, бо я займаюся палітычнай дзейнасьцю. Можа ўдасца штосьці напісаць, калі гадоў 100 будзе.

**– Как вы относитесь к эмиграции молодежи из Беларуси? Инна**

– У рэчышчы таго, што адбываецца, гэта вельмі трывожная зьява. Бо мы можам страціць інтэлектуальную будучыню, таму што на Беларусі – галеча. Дзеля шчасьця Беларусі адукаваная моладзь, атрымаўшы адукацыі і вопыт на Захадзе, павінна вяртацца на Бацькаўшчыну.

**– Чаму вы вырашылі займацца КУРАПАТАМІ?**

– Бо я пра гэта ведаў і адчуў у гэтым маральны абавязак свайго жыцьця.

**Вітаю Вас, Зянон Станіслававіч. Ня часта даводзіцца чуць Вас, а тут пашэнціла ажно на форум. Бывае, трапляюць улёткі Вашае Партыі, дый на звычайнага чалавека яны робяць ня надта станоўчае ўражаньне аб Вашай арганізацыі: усюды толькі гэбізм, здраднікі. Так яно, але можна гэта данесьці і іншымі словамі. Дый гэта у дадатак дае падставы прэсе ствараць нейкі «адмысловы» воблік Вашых сяброў. Шчыра раю Вам, зьвярніце(!) на гэта ўвагу. Распавядзіце, калі ласка, ці ёсьць ужо вынікі Ініцыятывы «Суд». І такое пытаньне: «Што такое для Вас «ПАВЕТРА СВАБОДЫ» і калі Вы адчулі (спадзяюся адчулі) яго ўпершыню?» Да сустрэчы ў Вольнай Радзіме.**

Найвайжнейшая палітычная задача ня толькі для Беларусі, але і для ўсяго сьвету, хутчэй зразумець, што такое – гэбізм. Гэта новы тып улады, які ўсталяваўся ў Расеі і ў Беларусі і які мае прэтэнзіі на глябальнае вырашэньне. У 1930-х гадах Эўропа не разбралася з гітлераўскім фашызмам, і сьвет моцна пацярпеў. Таму гаварыць і аналізаваць новую сістэму тэрарыстычнай улады трэба і неабходна.

Ініцыятыва «Суд» працягваецца.

Я заўсёды быў свабодным. Я ніколі не адчуваў сябе рабом.

**– Хочу собрать и опубликовать на сайте в интернете все Ваши статьи, выступления и всё всё всё о Вас. Что скажете, уважаемый Зенон Станиславович?**

– Я сам не магу сабраць свае выступы і артыкулы (праблема часу). Некаторыя ўжо гэта робяць. Магу толькі пажадаць «шчасьлівай дарогі!»

**Шаноўны Зянон Станіслававіч! Што Вы думаеце наконт сёньняшней беларускай рэдакцыі радыё «Свабода»? Як вы адносіцеся да белрускамоўнага року? У сваёй большасьці, гурты, згодна з Вашай тэрміналёгіяй ствараюць шкодную «масавую культуру». Спадар зь Менску.**

– Пра Свабоду адказаў вышэй. Ёсьць музыка, якую я люблю. Ёсьць, якая мне не падабаецца. Але ад гэтага музыка не перастае існаваць. Адзінае, што я пажадаў бы, каб беларуская музыка была беларускай, зыходзіла б з каштоўнасьцяў нашай культуры.

**– Зянон Станіслававіч, цікава было б пачуць Вашае меркаваньне ў сувязі з наступнымі прэзыдэнцкімі выбарамі. Ці бачыце Вы сярод сёньняшніх магчымых прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка нашае дзяржавы рэальнага кандыдата, здольнага стаць лідэрам нацыі? Што Вы думаеце наконт расейскай падтрымкі некаторых сёньняшніх беларускіх палітыкаў? Ці сапраўды гэта дапаможа зьмяніць сытуацыю ў лепшы бок? Дзякуй. Елавая Таццяна, Менск.**

– Уся сутнасьць маскоўскай палітыкі ў тым, каб інкарпараваць Беларусь, і таму ўсё, што будзе адбывацца ў беларускай палітыцы (у тым

ліку прэзыдэнцкія выбары) будуць разглядацца Масквой з гледзішча гэтай ейнай агрэсіўнай задачы.

Як ілюстрацыя да гэтай палітыкі той факт, што ў пачатку гэтага году маскоўскія палітыкі езьдзілі ў Вашынгтон і прапанавалі гандаль: Расея здымае Лукашэнку, а Амэрыка не працівіцца ўключэньню Беларусі ў Расею. Амэрыканцы адмовілі расейцам. Гэтая інфармацыя стала вядомая на нядаўняй канфэрэнцыі ў Рызе.

**– Зянон Станіслававіч! Зразумела, што каб зацікавіць беларускі народ палітычнай асобай, патрэбны нейкі новы вобраз беларускага нацыянальнага палітыка. Які́м, на ваш погляд, ён павінен быць? Адэлька.**

– Павінен быць палітык, які адмаўляе ўсё, што было зроблена і папсавана гэтым акупацыйным рэжымам. Гэта першае. Другое. Павінен быць палітык, які паставіць задачу пабудаваць вольную, беларускую, магутную, моцную і самую дасканалую ва Ўсходняй Эўропе дзяржаву Беларусь. Беларускі народ павінен мець ідэал сваёй дзяржавы, дзеля гэтага ідэалу ён здольны будзе працаваць.

**– Дзякуй за адказ на маё пытаньне пра «Беларускія ведамасьці». Але, здаецца, выданьне ў асноўным распаўсюджваецца толькі ў замежжы. Хацелася б, каб яно стала больш папулярным і ў Беларусі. Посьпехаў з гэтым праектам. Andrus**

– На вялікі жаль, «Беларускія Ведамасьці» дзясяткі разоў канфіскоўвалі на мяжы. Былі выпадкі, калі канфіскоўвалі амаль увесь тыраж. Таму выданьне беларускага бюлетэня – няпростая рэч.

**– Shto mazhliva zrabits’ dlja Belarusi z Njamechchyny? Chakaem adkazau ad Vas, pavazhany Z.Paz’njak, na nash e-mail. Kalodzicz Juras.**

– Першае, трэба інфармаваць нямецкае грамадзтва аб беларускім нацыянальным Адраджэньні і Незалежнасьці. І другое, калі вы малады чалавек, атрымаць адукацыю ў Нямеччыне і абавязкова вярнуцца ў Беларусь, каб дапамагчы свайму народу.

**– Што думаеце пра арышт Марыніча? Баляслаў**

– Гэта ёсьць разборкі ў лягеры саюзьнікаў. Разборкі і рэпрэсіі – звычайны мэтад справаваньня ўлады ў дыктатарскіх рэжымах, калі злачынцы робяцца ахвярамі іншых злачынцаў, а паплечнікі ідуць у турму. (У СССР зь іх рабілі потым мучанікаў. У рэжыме Пуціна і Лукашэнкі тое ж самае.) І Марыніч, і Чыгір, і Ціцянкоў, і Ганчарык ды іншыя – гэта людзі адной сістэмы, якія гуляюць у свае сістэмныя гульні. Але ўсе яны кладуць у магілу Беларусь, бо кіруе гэтай музыкай Масква.

**– Пятрусь з Воршы: – Пасьля здрады Ганса Георга Віка і так званай апазіцыі, ці ёсьць яшчэ на Беларусі некадэбэшная апазіцыя ды як ёй аб'яднацца ды прыйсьці да ўлады? Вакол каго аб’ядноўвацца?**

– Такая апазіцыя ёсьць. Гэта беларускія адраджэнцы, якія змагаюцца супраць расейскай палітыкі за магутную незалежную Беларусь. Прыкмета – гэтыя людзі шануюць усё беларускае. Найперш – беларускую мову.

**– Ci mahczyma u blizhejszaj buduczyni abjadnanne PBNF i Kanservacyjna-Chryscijanskaj partyji – BNF? Zmicer**

Не, не магчыма. Гэта розныя нішы і розныя накірункі. У пэўнай сытуацыі магчыма супрацоўніцтва на падставе агульнанацыянальных каштоўнасьцяў.

**– В газете „Время” есть интервью «Предсказание Анатолия Лебедько», в котором Лебедько утверждает, что « «Если бы в свое время Зенон Позняк принял рекомендацию – разработать тему борьбы с коррупцией, то и развитие событий в стране пошло по иному пути». Он также говорит, что появление Лукашенко в 1994 году это неизбежность, и что «у нас не было тогда механизма отбора людей на уровень должности президента». Большинство политиков, политологов, VIP-ов, слушая и видя Лукашенко на протяжении 4 лет в парламенте XII созыва, так и не поняли, что это за человек. У нас этим вопросом задались, когда факт свершился, когда после выборов начали задумываться: кого же мы выбрали?» Согласны ли Вы с этим обвинением и таким утверждением? Олег П.**

– Тэму карупцыі ва ўрадзе Кебіча першым узьняў якраз Беларускі Народны Фронт. І мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, пастаянна пра гэта казалі. Менавіта па нашым патрабаваньні і была створаная антыкарупцыйная камісія, але яе, з падачы Шушкевіча, ўзначаліў Лукашэнка. Потым высьветлілася, што антыкарупцыйная камісія ператварылася ў афёру КГБ, каб прывесьці Лукашэнку да ўлады, а не была барацьбой з карупцыяй. Менавіта мы, БНФ, паставілі пытаньне аб карупцыі ў сям'і Кебіча (на што Лукашэнка не адважыўся). А ў лістападзе 1993 году мы правялі мітынг супраць карупцыі перад будынкам Вярхоўнага Савету на вуліцы Карла Маркса. Знакаміты выступ Лукашэнкі быў насамрэч папулісцкім ударам па вераб'ях, каб прыцягнуць увагу да сваёй асобы.

Цяпер пра словы Лябедзькі, што нібыта ніхто ня ведаў, хто такі Лукашэнка... Увосень 1993 году Васіль Быкаў надрукаваў артыкул у «Народнай Газэце» (рэдактарам тады быў І. Сярэдзіч), дзе даў поўную раскладку, хто такі Лукашэнка. У кастрычніку 1993 году Апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце выступіла з заявай (надрукавала яе таксама «Народная Газэта»), у якой запатрабавала пазбавіць Лукашэнку дэпутацкіх паўнамоцтваў за дзеяньні, накіраваныя супраць сувернітэту Беларусі. Ужо ў 1993 годзе такім чынам было абсалютна зразумела, хто такі Лукашэнка і як ён ставіцца да беларускай незалежнасьці.

«Незразумела» гэта было хіба толькі Лябедзьку, Сініцыну, Ганчару, Булахаву і іншым, якія вылучылі Лукашэнку на выбарах.

Хаця я сумняваюся, каб гэта было ім незразумела. Яны што, не чыталі Быкава? Не чыталі заяву Апазіцыі БНФ? Ня чулі выступаў Лукашэнкі? Каб не гэтыя асобы ды каб не Масква, не было б і гэтай непазьбежнасьці.

Цяперашняе жаданьне Лябедзькі адмовіцца ад свайго мінулага – наскрозь фальшывае.

**– Якія Вашыя адносіны да аб’яднання аппазіцыі 5+, з гэтага можа што-небудзь атрымацца, дзякуй. Віншую Вас з мінулым юбілеям.**

– Калі і штосьці з гэтага можа атрымацца, то толькі вялікая шкода для Беларусі.

**– 1) Вы считаете себя политиком, после того как, фактически, потерпели полное политическое фиаско в Беларуси и уже скорее всего никогда не наберете прежний политический «вес» и возможно ли Ваше возвращение в Беларусь в любом качестве (если да, то при каких условиях)? 2) Знаете ли Вы что-либо об планах «оппозиции» по изменению политической ситуации в Беларуси, если нет, то, на Ваш взгляд, как стоило бы действовать в ситуации, когда Лукашенко является реальным и бесспорным фаворитом на победу, даже если выборы не будут фальсифицированы?! Спасибо.**

– 1) Палітыкам мяне лічыць мае праціўнікі, і Вы ў тым ліку, мяркуючы па вашых пытаньнях. Пра вяртаньне я ўжо падрабязна адказваў вышэй

2) У «вікаўская апазыцыі» няма ні плянаў, ні ідэалаў. Няма будучыні. Яны будуць дзейнічаць так, як запатрабуюць іхныя спонсары. Гэта ня ёсьць самастойная палітычная сіла. І рэжым, і ягоная апазыцыя маюць адну і тую ж прыроду. Лукашэнка па Канстытуцыі больш ня мае права балатавацца. Размовы пра «фаварыта» – пусты гук.

**– Yakia na Vashu dumku perspectyvy razviccia dzyarzhavy Respublika Belarus? Tacciana.**

– Пэрспэктывы могуць адчыніцца толькі тады, калі мы ліквідуем цяперашні акупацыйны рэжым. І другое, калі Беларусь узначаліць і павядзе нацыянальны ўрад, наша краіна мае пэрспэктыву стаць самай магутнай і перадавой ва ўсёй Усходняй і Цэнтральнай Эўропе.

**Пазьняк: «Такім „супольнікам-паплечнікам", якія да гэтага часу не паразумнелі, раю ўзяць у ручку плякацік з надпісам „Где Захаренко?", „Где Завадский?" і г.д., і стаць у пікецік. Гэта іхны ўзровень.»**

**– Зянон Станіслававіч, здзіўляе, як Вы можаце так казаць. А калі Вы апошні раз станавіліся ў «пікецік»? Дзе гэта было? У Амэрыцы, у Польшчы? А мы вось тут, сціпла, з плакацікамі «Где Завадский» стаім. Пакуль вы там важнымі справамі займаецеся. Вы жонку Завадскага бачылі? Вы можаце ўявіць, што значыць вось так згубіць мужа? Калі б ён, як Вы, у эміграцыі быў, дык ніхто б пытаньнем «Где Завадский» не задаваіся б. І яна б спала спакойна. Вольга Клойдчыц.**

– Гэта быў мой адказ на выказваньні людзей, якія хацелі б бачыць мяне мёртвым. Задача палітыкаў – не стаяць у пікеце па мёртвых. А забясьпечыць, каб яны жылі. Я магчымасьць жыцьця і палітычнага змаганьня забясьпечыў сабе сам, і мне ня трэба пікетчыкаў і плакальшчыкаў.

**– Сп. Пазьняк, усё ж што ні кажы, большасць насельніцтва выступае за супрацоўніцтва з Расеяй. Адмаўляючы гэта вы губляеце патэнцыйных прыхільнікаў. Я вельмі паважаю вашую прынцыповую пазіцыю, але ж палітыка – справа брудная! І часам трэба казаць ня тое, што думаеш. Лукашэнка--яскравы прыклад! З павагай, Зьміцер**

– Мае патэнцыйныя прыхільнікі – тыя, якія разумеюць, што такое імпэрская Расея, і тыя, што любяць Беларусь. Няма палітыкі ні бруднай, ні чыстай. Ёсьць палітыкі добрыя і дрэнныя, сумленныя і подлыя. І ў гэтым уся справа.

**– Dobri dzen', pavazhani spadar Zianon. Ci pamiataece Vi zbiccio depytatay 12 cklikannia y krasaviky 1995 goda? Iak Vi lichice zaraz hto staic' za getimi padzeiami akramia Lukashenka?**

– За гэтым стаіць яшчэ Лубянка (маскоўскі НКВД-КГБ).

**– Зянон Станслававіч! Яшчэ такое пытаньне. Што будзе, калі раптам Лукашенка цалкам адвернецца ад Масквы і прыкінецца беларускім патрыётам, стане за беларускую мову, нават пачне ад свайго імя заяўляць тое, да чаго заклікала апазыцыя, папрсіцца ў Эўропу і г. д. Чалавек ён, як вядома, бяз прынцыпаў. Мне здаецца, гэта магчыма, калі ён адчуе ў гэтым выгаду. Нават зараз бачна нейкія спробныя крокі ў гэтым напрамку. Прагучалі дзіўныя для яго заявы. Як будзе на гэта рэагаваць апазыцыя?**

– Лукашэнка не адвернецца ад Масквы. Хутчэй Масква ад яго адвернецца.

**– Ці можа ўчарашні БПСМавец быць сапраўдным маладафронтаўцам? Ці шмат у Фронце людзей з КПССаўскім мінулым? Дзякуй.**

– Я ніколі не асуджаю маладых строга, бо ў маладога жыццё наперадзе, і можа быць усялак. Маладым трэба дапамагаць знайсьці справядлівы шлях, асабліва калі яны самі яго шукаюць.

У Фронце шмат людзей з КПССаўскім мінулым, бо ў часы СССР гэтая партыя была сацыяльнай і кіруючай элітай грамадзтва. Я ў КПСС ніколі ня быў. Заўсёды быў антыкамуністам.

**Вэб-рэдактар: мы завяршаем нашу канфэрэнцыю. Было даслана больш як 150 пытаньняў. За дзьве гадзіны Зянон Станіслававіч змог адказваць амаль на 70 зь іх.**

– Дзякуй ўсім, хто прыняў удзел у гэтай канфэрэнцыі. Дзякуй усім, хто павіншаваў мяне з днём нараджэньня і выказаў добрыя словы ў мой адрас. Зычу ўсім вам добрага здароўя і спаўненьня жаданьняў, а таксама, каб квітнела наша вольная Беларусь!





*121-Д. На Крыжовым шэсьці ў Курапаты*




*122-Д. Плякат СБМ (1942-44 гг.)*

# РЭЖЫМ ПУЦІНА ЗАБІВАЕ ДЗЯЦЕЙ

*(Заява)*

На працягу некалькіх дзён на тэрыторыі Расейскай Фэдэрацыі адбылася серыя тэрарыстычных актаў. Загінулі сотні людзей, сотні асобаў былі параненыя. Сытуацыя мае яшчэ больш трагічны характар, таму што большасьць ахвяраў – дзеці. З першых імгненьняў трагедыі да сёньняшняга дня палітычнае кіраўніцтва Расеі вядзе кампанію дэзінфармацыі, ліхаманкава спрабуе заблытаць расейскае і міжнароднае грамадзтва, супярэчыць само сабе, імкнецца схаваць факты. Рэжым Пуціна заблытаўся ў хлусьні. Чаму так адбываецца? Таму што галоўнай мэтай цяперашніх дзеяньняў палітычнага кіраўніцтва Расеі ёсьць імкненьне пераканаць увесь сьвет, што тэрарыстычныя акты былі зьдзейсьненыя „чачэнскімі тэрарыстамі, якія патрабавалі незалежнасьці Чачэніі”. Хаця няма ніякіх доказаў, што ў апошніх тэрактах у Расеі ўдзельнічалі чачэнцы.

Рэжым Пуціна імкнецца з дапамогай хлусьні схаваць сапраўдных арганізатараў і выканаўцаў масавых забойстваў. Факты сьведчаць пра тое, што сапраўдным арганізатарам і выканаўцам тэрарыстычных актаў быў рэжым Пуціна. Паводле ацэнак спэцыялістаў, катастрофы двух пасажырскіх самалётаў 24 жніўня нельга сьпісаць на чачэнак-тэрарыстак. Фрагмэнты самалётаў разьляцеліся ў радыюсе 40 км. Найбольш верагодна па самалётах былі нанесеныя магутныя зьнешнія ўдары. Рэжым Пуціна не разглядае гэтую вэрсію, а ліхаманкава прыдумляе вэрсіі, зьвязаныя з жанчынамі-чачэнкамі.

Як паведамілі СМІ, 24 жніўня на эўрапейскай частцы Расеі праводзіліся выпрабаваньні навейшага зэнітна-ракетнага комплексу „Іскандэр” і стрэльбы войскаў супрацьпаветранай абароны з удзелам зэнітна-ракетнага комплексу С-300. Нават газэты паведамілі, што ракеты гэтага комплексу выстрэльваюцца з інтэрвалам у адну мінуту і маюць далечыню дзеяньня ў 600-700 км. Менавіта з інтэвалам у адну мінуту зьніклі з радараў два пасажырскія самалёты с людзьмі 24 жніўня. Сем'і загінуўшых не былі дапушчаныя на месца падзеньня абломкаў самалётаў, каб людзі ня ўбачылі сьляды ракетнага выбуху на абломках. Была ўчынена аўтакатасрофа, ахвярамі якой сталі два спэцыялісты расейскага міністэрства па надзвычайных сытуацыях, якія вярталіся пасьля агляду месца катастрофы самалёта ТУ-154 ў Растоў-на-Доне.

Стала вядома таксама, што перад рэйсам з аднаго з гэтых самалётаў былі зьнятыя шэсьць пасажыраў (ёсьць даўняе правіла савецкіх спэцслужбаў – не дапускаць ахвяраў сярод партыйных і савецкіх кіраўнікоў і іх сем'яў). СМІ паведамілі, што пілоты ТУ-154 пасьпелі перадаць сігнал небясьпекі. Сапраўды, апаратура гэтага сучаснага самалёта дазваляе ўбачыць на экране лакатара набліжэньне ракеты – пілоты пасьпелі ўбачыць набліжэньне ракеты і перадаць адмысловы сігнал пра набліжэньне ракеты. Каб адцягнуць увагу ад катастрофы самалётаў, рэжым Пуціна арганізаваў яшчэ шэраг тэрарыстычных актаў. Пра гэта публічна заявіў міністр абароны Расеі Іваноў: „Гэта не апошні тэракт. У бліжэйшыя дні адбудзецца яшчэ шэраг тэрактаў...” 31 жніўня адбыўся выбух у Маскве. Улады адразу абвінавацілі ў злачынстве нейкіх чачэнскіх жанчын-сьмяротніц. Хаця на відэаздымках першых імгненьняў пасьля выбуху бачна, як гарць дзьве легкавыя машыны – такога ня можа быць у выніку выбуху пераноснай бомбы, якая выбухнула на адлегласьці (на самай справе выбухнулі машыны).

1 верасьня пачалася трагедыя ў асэцінскім горадзе Беслане. Рэжым Пуціна з самага пачатку падаваў блытаную і супярэчлівую

інфармацыю пра колькасьць тэрарыстаў і закладнікаў, пра патрабаваньні тэрарыстаў і дзеяньні ўладаў. Ніхто з прадстаўнікоў асэцінскай альбо маскоўскай адміністрацыі ня выйшаў на перамовы з тэрарыстамі. Ужо на трэці дзень пачалося „вызваленьне" закладнікаў, у выніку якога загінула і было цяжка паранена большая частка закладнікаў. Спэцыялісты ўсіх краінаў адзінагалосна сьцьвярджаюць, што такім чынам кантакты з тэрарыстамі не вядуцца і што ва ўмовах пагрозы жыцьцю дзяцей штурмы не праводзяцца. Але рэжыму Пуціна патрэбнае было не вызваленьне дзяцей, а гара трупаў. Цяпер вядома, што большасьць ахвяраў загінула ад зброі, якая ёсьць толькі ў расейскіх спэцслужбаў. Бяз вестак зьнікла да 200 асобаў Некаторых зь іх бачылі ў шпіталях, але цяпер сем'і ня могуць знайсьці іх. Трупы людзей, якія былі вызваленыя і зьніклі пасьля вызваленьня, знаходзяць штодня ў палях далёка ад Беслана. Рэжым пазбаўляецца ад сьведкаў свайго злачынства, забівае ужо вызваленых людзей.

У Расеі ўсталяваўся рэжым КГБ-ФСБ, спэцслужбы, якая мае вялікі вопыт зьнішчэньня, падрыўной і тэрарыстычнай дзейнасьці ў сваёй краіне і ў іншых краінах. Тое, што адбылося ў Беслане, не ёсьць сьведчаньне „нявопытнасьці альбо непадрыхтаванасьці расейскіх спэцслужбаў" (як сьцьвярджае шэраг замежных журналістаў і назіральнікаў). Якраз наадварот, расейскія спэцслужбы і рэжым КГБ-ФСБ дзейнічаў паводле сваёй праграмы. Мы назіраем неабгрунтаваныя абвінавачваньні „чачэнскіх тэрарыстаў", якія робяцца з мэтай апраўданьня зьнішчальнай агрэсіі Расеі ў Чачэніі і зьнішчэньня чачэнскага народу. Ужо праз два дні пасьля бесланскай трагедыі ў Маскве быў арганізаваны штучны „народны мітынг" з удзелам больш чым ста тысячаў грамадзянаў. Людзей, паводле савецкай традыцыі, прывезьлі да Краснай плошчы з месцаў працы і вучобы, каб прадэманстраваць „жаданьне працоўных жалезнай рукі, усталяваньня жорсткага рэжыму ў Расеі". Ні на адным плякаце, якія трымалі „дэманстранты" не было ані воднага слова спачуваньня дзецям Беслана, ахвярам трагедыі, ані слова хрысьціянскага спачуваньня. Былі выключна лёзунгі сталінскай эпохі: „Расея ня ўстане на калені", „Перамога будзе за намі" і г.д. Рэжым зрабіў штучную дэманстрацыю нібыта „народнага волевыяўленьня".

Палітычнае кіраўніцтва заходніх дэмакратычных краінаў нясе непасрэдную адказнасьць за эскалацыю агрэсіі рэжымам КГБ-ФСБ, які зьдзяйсьняе злачынствы ў Расеі і за яе межамі. Заходнія палітыкі на працягу гадоў падманвалі свае грамадзтвы, заяўляючы пра падтрымку „рэформаў" і „палітыкі Пуціна, і дэмакратычнай Расеі". Яны запрашалі Пуціна, нядаўняга афіцэра тэрарыстычнага КГБ-ФСБ, на свае форумы і наведвалі яго ў Маскве, дэманструючы свае сімпатыі і асабістую дружбу. Захад „не заўважаў" генацыду чачэнскага народу, „ня бачыў" агрэсіўных дзеяньняў Расеі ў Малдове, Грузіі і ў Беларусі. Захад дзейнічаў на аснове патаемнай змовы з Расеяй пра падзел „сфэраў уплываў" у Эўропе. Але практыка канца 1930-х гадоў, палітыка саступак і задавальненьня тэрарыстычнага рэжыму Гітлера прывяла да агульнаэўрапейскай трагедыі і сусьветнай вайны. Ня трэба забывацца на гэты гістарычны досьвед.

Краіны заходняй дэмакратыі павінны адумацца і кардынальна зьмяніць свой палітычны курс у адносінах да рэжыму Пуціна, які забівае дзяцей. Ужо цяпер павінна быць праведзена міжнароднае рассьледваньне тэрарыстычных актаў на тэрыторыі Расеі. Да рэжыму Пуціна павінны быць ужытыя палітычныя і эканамічныя санкцыі з мэтай спыненьня агрэсіўных дзеяньняў супраць чачэнскага народу, з мэтай вываду расейскіх войскаў з Малдовы і Грузіі, спыненьня палітычнай, эканамічнай і інфармацыйнай агрэсіі супраць Беларусі (менавіта Расея трымае пры ўладзе антыбеларускі дыктатарскі рэжым Лукашэнкі). Павінна быць арганізаваная міжнародная канфэрэнцыя пад эгідай ААН і АБСЭ па ўрэгуляваньні гэтых міжнародных і міждзяржаўных канфліктаў, у якіх Расея выступае ў ролі агрэсара.

На пэрыяд да канца працы міжнароднай камісіі і да сканчэньня міжнароднай канфэрэнцыі пад эгідай ААН і АБСЭ рэжым Пуціна павінен знаходзіцца ў стане міжнароднай ізаляцыі. Так як гэта было з антычалавечымі рэжымамі Мілошавіча і Садама Хусэйна. Палітычнае кіраўніцтва дэмакратычных краінаў павінна прыняць тэрміновыя захады па ліквідацыі міжнароднай сеткі КГБ-ФСБ, якая дзейнічае пад прыкрыцьцём дыпляматычнай дзейнасьці, бізнэсу і „палітычнай эміграцыі". Калі Захад гэтага ня зробіць, то наступнымі ахвярамі КГБ-ФСБ стануць вучні адной са школаў у Эўропе або Амэрыцы. Неабходна спыніць беспакараныя дзеяньні Расеі – краіны дзяржаўнага тэрарызму.

***Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***
*12 верасьня 2004 г., г. Менск*

# УСЕ ЗА БАЙКОТ!

***(Зварот)***

7-га верасьня Лукашэнка насуперак Канстытуцыі аб'явіў аб правядзеньні рэфэрэндуму аб наданьні яму права зноў абірацца на пасаду прэзыдэнта неабмежаваную колькасьць разоў. Рэфэрэндум ён прызначае на дзень выбараў 17-га кастрычніка. Гэта значыць, што Лукашэнка амаль год таемна рыхтаваўся да рэфэрэндуму і аб'явіў толькі цяпер зьнянацку, каб людзі за адзін месяц не пасьпелі б разабрацца.

Чалавек захацеў стаць царом, і пра гэта кажа, бо лічыць, відаць, беларусаў за дурняў, якіх можна ашукваць колькі хочаш. Дагэтуль увесь час Лукашэнка і маскоўска-гэбоўская група, што ім апякуецца, лёгка ашуквалі людзей. Яны думаюць, што і цяпер абвядуць усіх вакол пальца.

Што гэта ўсё азначае?

Найперш – парушана Канстытуцыя, якая забараняе выносіць на рэфэрэндум пытаньні, зьвязаныя з выбарамі прэзыдэнта. Тут крымінал.

Другое. Жаданьне ўвесь час кіраваць, імкненьне аб'ягорыць народ, паламаўшы закон, каб стаць вечным прэзыдэнтам з „царскімі паўнамоцтвамі", сьведчыць пра нездаровую сьвядомасьць чалавека. Дыктатарская паталёгія і яе носьбіты добра вядомыя ў палыітычнай практыцы. Такіх людзей нельга дапускаць да ўлады, бо іхная кіраўнічая дзейнасьць заўсёды дрэнна заканчваецца для грамадзтва.

Трэцяя. За ўсім гэтым стаіць гэбоўска-маскоўская імпэрская палітыка, накіраваная на падпарадкаваньне Беларусі, захоп яе рэсурсаў і багацьцяў. Крэмль хоча мець на Беларусі свайго адданага чалавека, і Лукашэнка нягледзячы на свае псіхічныя выверты і гаварлівы блуд, палітычна ім найбольш падыходзіць.

Трэба ўлічваць, што машына фальсіфікацыі галасаваньня і сістэма прымусу людзей адпрацаваная і адладжаная. Каб дасягнуць мэты і выйграць рэфэрэндум, Лукашэнку неабходна цяпер толькі адна ўмова – загнаць людзей на выбары (а хто пойдзе на выбары, той будзе лічыцца, што прышоў і на рэфэрэндум). Заганяльшчыкамі выступаюць улада і яе так званая „апазыцыя", якая кліча людзей на выбары.

***Выбары тут – прынада для рэфэрэндума. У сапраўднасьці справа йдзе не аб выбраньні бясправўнага парляманту („палаты”), а аб увекавечваньні ўлады Лукашэнкі.***

Вынікі гэтай афёры могуць быць толькі два: альбо Лукашэнка, сагнаўшы пры дапамозе КГБ, вертыкалі і „апазыцыі” людзей на выбары і рэфэрэндум, зробіць сабе мандат на царства, альбо – ня зробіць. І ў гэтым увесь сэнс.

Каб афёра з царствам правалілася, ***трэба, каб народ не пайшоў галасаваць.*** Тады фальсіфікацыйная машына зламаецца. Яна разьлічаная толькі на таемнае галасаваньне. Байкот жа – адкрытае супраціўленьне, якое ўсім відаць і дакладна фіксуецца ўсімі. Рэжым ня зможа непрыкметна сфальсіфікаваць байкот. Фактычна ***17 кастрычніка вырашаецца лёс аўтарытарнага рэжыму на Беларусі.***

Беларусы могуць выйграць толькі праз усеагульны байкот.

Калі ж байкоту не адбудзецца і ўсе пойдуць на выбары, тады за перамены да лепшага жыцьця прыйдзецца змагацца яшчэ доўга.

Мы, Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”, ягоная Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ, удзельнікі і прыхільнікі Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху, заклікаем беларускі народ ***не галасаваць, ня ўдзельнічаць у выбарах і рэфэрэндуме,*** якія праводзяцца ў недэмакратычных умовах, недэмакратычным спосабам і з парушэньнем Канстытуцыі.

Часу засталося мала, бо цэлы год перад гэтым народ зьбівала з толку, ашуквала і прадаўжае ашукваць гэтак званая намэнклятурная „апазыцыя” (усялякія „пяцёркі плюс”), якая на розныя лады, адпрацоўваючы чужыя інтарэсы і чужыя падачкі з Захаду і з Масквы, клікала людзей на выбары і тлуміла людзям думкі.

Прыйдзе час, і ўсе гэтыя махляры, калябаранты, скрытыя і адкрытыя здраднікі беларускіх інтарэсаў, гэтыя прыстасаванцы, пярэвяртні і палітбізнэсмэны, што імітуюць „апазыцыю”, атрымаюць па заслугах. Мы ведаем іх паіменна. Гэтага ім ніхто не забудзе.

Беларусы, падтрымлівайце байкот! Не галасуйце! Не давайцеся, каб вас злавілі, загналі, завезьлі на выбары і прымусілі галасаваць. Не падпісвайце сьмяротны прысуд будучыні. Ня слухайце рэжымную прапаганду! Ня слухайце рэжымную „апазыцыю”, гэтых генэралаў, процяк-лябедзяк, фраловых, саннікавых ды калякіных. Гэта адна лейка – старая службісцкая і прамаскоўская камуна.

Усе за байкот!

Падтрымлівайце Беларускі Вызвольны рух! Жыве Беларусь!

***Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*12 верасьня 2004 г. г. Менск.*

# ГРАМАДЗЯНІНУ ЛУКАШЭНКУ А.Р.

***Менск, вул. К.Маркса, 38.***

Грунтуючыся на праве выказваць палітычную волю грамадзянаў у адпаведнасьці з арт. 5 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ прапануе Вам адклікаць ініцыятыву па правядзеньні 17 кастрычніка 2004 г. рэфэрэндуму па зьмене Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасьці з арт. 112 Выбарчага Кодэксу Рэспублікі Беларусь на рэспубліканскі рэфэрэндум ня могуць выносіцца пытаньні, зьвязаныя з выбраньнем Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

Вашыя прапановы аб зьмене Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь супярэчаць Закону і накіраваныя на зьмяненьне канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь, які зацьверджаны арт. 1 Канстытуцыі: „Рэспубліка Беларусь – унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава”. Прынцыпы дэмакратыі раскрыты ў наступных артыкулах Канстытуцыі, і адным з галоўных прынцыпаў дэмакратычнага ладу ёсьць абмежаваньне тэрміну прэзыдэнцтва, зацьверджанае арт. 81 Канстытуцыі.

Арт. 3 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь сьцьвярджае: „Любыя дзеяньні па зьмяненьні канстытуцыйнага ладу і дасягненьні дзяржаўнай улады гвалтоўнымі мэтадамі, а таксама шляхам іншага парушэньня законаў Рэспублікі Беларусь караюцца, згодна з законам”.

***Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*Менск. 3 кастрычніка 2004 г.*

Эўрапейскі Парлямант
Парляманцкая Асамблея Рады Эўропы
АБСЭ
Офіс АБСЭ ў Менску
Бюро Дэмакратычных Інстытутаў і Правоў Чалавека АБСЭ

# АДКРЫТЫ ЛІСТ КІРАЎНІЦТВУ ЭЎРАЗЬВЯЗА І АБСЭ

Пасьля абвяшчэньня 7 верасьня 2004 г. А. Лукашэнкам рэфэрэндуму аб зьмене Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які прызначаны на 17 кастрычніка 2004 г. адначасна з выбарамі ў „палату прадстаўнікоў”, стала відавочна, што выбары ў палату прадстаўнікоў задумана выкарыстаць для ўзмацненьня дыктатуры і зьмены канстытуцыйнага ладу.

Рэфэрэндум незаконны. У адпаведнасьці з артыкулам 112 Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь на рэфэрэндум ня могуць выносіцца пытаньні, зьвязаныя з выбраньнем Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

Прапановы А. Лукашэнкі аб зьмене Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь накіраваныя на ўсталяваньне бестэрміновага прэзыдэнцтва адной асобы, ўмацаваньне аўтарытарнага рэжыму і зьмену канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь, які зацьверджаны арт. 1 Канстытуцыі: „Рэспубліка Беларусь – унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава”. Прынцыпы дэмакратыі раскрыты ў наступных артыкулах Канстытуцыі, і адным з галоўных прынцыпаў дэмакратычнага ладу ёсьць абмежаваньне тэрміну прэзыдэнцтва, зацьверджанае арт. 81 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Зьвязаўшы выбары ў палату са сваім незаконным рэфэрэндумам, Лукашэнка зрабіў палітычную акцыю, прызначаную на 17 кастрычніка, цалкам незаконнай. Паколькі сьпіс выбарцаў адзін, то чалавек, які прыйдзе галасаваць за нейкага кандыдата, але не жадае ўдзельнічаць у „рэфэрэндуме”, аўтаматычна будзе ўлічаны яго ўдзельнікам, паколькі паставіў свой подпіс у агульным сьпісе. Такім чынам, па чужой волі ён становіцца ўдзельнікам незаконнай акцыі.

Грамадзяне не павіны ўдзельнічаць у незаконных дзеяньнях улады і ў галасаваньні, вынікі якога не залежаць ад народа.

Улічваючы поўны кантроль рэжыму Лукашэнкі над галасаваньнем, заканадаўствам і адміністрацыяй, улада гарантуе сабе „перамогу” на рэфэрэндуме пры ўмове ўдзелу выбаршчыкаў у галасаваньні. Пры байкоце выбараў рэжым прайграе рэфэрэндум.

Каб не дапусьціць байкоту галасаваньня, рэжым задзейнічаў усю сваю выканаўчую сістэму, кіраўнікоў дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў і навучальных установаў для прымусовага прыцягненьня выбаршчыкаў на галасаваньне. Пратэстны электарат імкнуцца ашукаць і выманіць на выбарчыя ўчасткі пры дапамозе падкантрольнай псэўдаапазыцыі, асобных прадстаўнікоў якой (паводле асобнага сьпісу) зарэгістравалі кандыдатамі ў дэпутаты. Пад кантролем уладаў знаходзяцца недзяржаўныя СМІ. Па ключавых пытаньнях, кшталту, „ісьці ці ня йсьці на незаконны (!) рэфэрэндум”, гэтыя СМІ выяўляюць пазіцыю рэжыму – заклікаюць ісьці на рэфэрэндум.

Уся арганізаваная рэжымам Лукашэнкі выбарчая кампанія (выбары ў палату разам з рэфэрэндумам) зьяўляецца незаконнай і цынічнай фальсіфікацыяй пад шыльдай „волевыяўленьня народа”.

Міжнародныя назіральнікі апынуліся ў ролі легалізатараў гэтай незаконнай кампаніі і апэрацыі па ўзмацненьні дыктатуры.

Прапануем Эўразьвязу, АБСЭ і Бюро Дэмакратычных Інстытутаў і Правоў Чалавека АБСЭ адклікаць назіральнікаў і зрабіць папярэджаньне ў адрас рэжыму Лукашэнкі аб непрызнаньні выбараў і рэфэрэндуму.*

***Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***
*3 кастрычніка 2004 г. г. Менск*

# КАНДЫДАТУ НЕЗАКОННАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ 2004 Г.

Пасьля абвяшчэньня 7 верасьня 2004 года Лукашэнкам рэфэрэндуму па зьмене Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь усім стала відавочна, што выбары ў палату прадстаўнікоў задумана выкарыстаць для ўзмацненьня дыктатуры і зьмены канстытуцыйнага ладу.

Рэфэрэндум незаконны, пра што Вам, як чалавеку, які вырашыў займацца палітыкай, павінна быць вядома. Вы маеце магчымасьць гэта ўдакладніць, зьвярнуўшыся да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і да артыкулу112 Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Каб спросьціць сабе задачу, можаце зьвярнуцца да газэты „Народная Воля” за 21 верасьня 2004 года, дзе прыведзены юрыдычна абгрунтаваны матэрыял пад назвай „Объявленный А. Лукашенко референдум незаконен, причинит непоправимый вред основам конституционного строя Беларуси».

Зьвязаўшы выбары ў палату са сваім незаконным рэфэрэндумам, Лукашэнка датэрмінова зрабіў палітычную акцыю, прызначаную на 17 кастрычніка, цалкам незаконнай. Паколькі сьпіс выбарцаў адзін, то чалавек, які прыйдзе галасаваць за нейкага кандыдата, але не жадае ўдзельнічаць у «рэфэрэндуме», аўтаматычна будзе ўлічаны яго ўдзельнікам, паколькі паставіў свой подпіс ў агульным сьпісе. Такім чынам, па чужой волі ён становіцца удзельнікам незаконнай акцыі.

Заклікаючы людзей на «выбары», Вы штурхаеце людзей на незаконнае. Незаконнае заўсёды цягне за сабой нядобрае. Падумайце аб сваім лёсе пасьля 17 кастрычніка. Як да Вас будуць ставіцца людзі, якіх Вы штурхнулі на незаконнае? Прапануем выйсьці з незаконнай выбарчай кампаніі, адмовіцца ад удзелу ў якасьці кандыдата на дэпутатства. Далучайцеся да байкоту незаконнай палітычнай акцыі, прызначанай на 17 кастрычніка 2004 года.

Зрабіце разумна.*

***Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі –БНФ***
*3 кастрычніка 2004 г. Менск*

# ХТО НЯСЕ АДКАЗНАСЬЦЬ ЗА ПЕРАМОГУ ДЫКТАТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ?

***(Зварот да кіраўніцтва Эўрапейскага Зьвязу і АБСЭ)***

На працягу ўсяго 2004 года, пакуль антынародны і нелегітымны рэжым Лукашэнкі рыхтаваў свой незаконны „рэфэрэндум” і „выбарчую кампанію”, Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ неаднаразова зьярталася да беларускага грамадзтва і палітычных партыяў Беларусі, папярэджваючы аб плянах прамаскоўскай дыктатуры. Задоўга да пачатку выбарчай кампаніі мы бачылі небясьпеку аб’яднаньня рэфэрэндуму (на які рэжым зьбіраўся вынесьці антыканстытуцыйныя пытыньні) і выбараў у „палату прадстаўнікоў” лукашэнкаўскага псэўдапарляманту. Мы тлумачылі, што адзінай мэтай рэжыму ёсьць захаваньне ўлады Лукашэнкі шляхам падману беларускіх выбарцаў, прыцягненьня іх любымі спосабамі на выбарчыя ўчасткі, і таму ўлады сумясьцілі выбары з незаконным рэфэрэндумам. Ужо тады мы заявілі, што неабходным мэтадам супраціву дыктатуры ў гэтым становішчы ёсьць кампанія ўсенароднага байкоту выбарчага фарсу і незаконнага рэфэрэндуму. Менавіта байкот–непрыход на выбарчыя ўчасткі – не дазволіў бы рэжыму нахабна сфальсіфікаваць вынікі галасаваньня. З гэтымі тлумачэньнямі і заклікамі мы неаднаразова зьвярталіся на працягу 2004 г. да міжнароднай супольнасьці, кіраўніцтва дэмакратычных краінаў і кіраўніцтва Эўразьвязу і АБСЭ.

На вялікі жаль, да нашых папярэджаньняў не прыслухаліся, нашу інфармацыю палічылі няважнай. Тым часам байкот можна было арганізаваць толькі супольнымі сіламі. І вось адбылося тое, пра што мы папярэджвалі грамадзтва і палітыкаў, абавязкам якіх ёсьць умець прадбачыць вынікі падзеяў і сваіх дзеяньняў. Антыбеларуская дыктатура аб’яднала выбарчы фарс з антызаконным рэфэрэндумам, брутальна загнала мільёны людзей на выбарчыя ўчасткі і сфальшавала вынікі галасаваньня. І ўсё гэта адбывалася на вачах і з удзелам міжнародных назіральнікаў ад АБСЭ.

Мы заклікалі міжнародныя арганізацыі не пасылаць сваіх назіральнікаў на выбарчы фарс. Калі назіральнікі прыехалі, то наша Партыя прапанавала тэрмінова адклікаць іх і ня ўдзельнічаць у нахабным шоў дыктатуры (заява нашай Партыі ***„Не гуляйце з дыктатурай у дэмакратыю”*** ад 3 кастрычніка 2004 г.). Нават калі стала вядома, што рэжым пайшоў на адкрытае жульніцтва (выбарцы павінны былі расьпісвацца ў адным сьпісе і за выбары і за рэфэрэндум, і было ўжо немагчыма прыйсьці на выбары і ня браць удзелу ў антыканстытуцыйным рэфэрэндуме), АБСЭ не адклікала сваіх назіральнікаў. АБСЭ заявіла, што ***„назіральнікі***

---

* Міжнародныя арганізацыі і ўрады Эўразьвязу рабілі ўсё з дакладнасьцю наадварот, спрыялі рэжымнай авантуры. – *(З. П.)*.

* Ніхто (ні адзін чалавек) з падстаўной апазыцыі і ніхто з „прагматыкаў” не адмовіўся ад удзелу ў выбарах і незаконным рэфэрэндуме пра трэці тэрмін Лукашэнкі. – *(З. П.)*

***будуць назіраць толькі за выбарамі, і ня будуць назіраць за рэфэрэндумам"*** (які адбываўся ў той жа час, у тым жа месцы, з удзелам тых жа выбарцаў і тых жа камісіяў па галасаваньні). Сучасная аўтарытэтная міжнародная арганізацыя як АБСЭ ня мае права рабіць такія дэмагагічныя заявы, такая схаластыка недапушчальная на пачатку 21-га стагоддзя.

Антыдэмакратычны рэжым арганізаваў выбарчы фарс выключна па сваіх правілах. Рэжым меў поўны кантроль над сродкамі масавай інфармацыі. Так званая „незалежная прэса" таксама даўно знаходзіцца пад кантролем КГБ. Гэтыя СМІ разам з ворганамі прапаганды рэжыму актыўна заклікалі беларусаў на выбарчы фарс, дэмагагічна гукалі: „беларусы маюць права на дэмакратычныя выбары, скажам „Не!" дыктатуры". Невялікія групоўкі, якія называюць сябе „дэмакратычнымі палітычнымі партыямі" выставілі на выбарчы фарс сваіх кандыдатаў, пастваралі кааліцыі і таксама актыўна заклікалі людзей ісьці на выбарчае ашукальніцтва. Яны яшчэ раз выканалі ролю правакатараў, арганізаваўшы прыход выбаршчыкаў на ўчасткі. Рэжым пакарыстаўся імі і адкінуў як адпрацаваны матэр'ял (як вядома, ніводзін з гэтых „дэмакратычных кандыдатаў" ня быў дапушчаны ў псэўда-парлямант Лукашэнкі). Але пастаўленую перад імі задачу палітычныя авантурнікі выканалі – фарс, дзякуючы ім, набыў выгляд „дэмакратычнага змаганьня".

Замест лягічнага міжнароднага байкоту і ізаляцыі рэжыму Лукашэнкі з мэтай не дазволіць яму падмануць і застрашыць беларускі народ, АБСЭ міжволі паспрыяла стварэньню зьнешняга антуражу дэмакратычнасьці выбарчага працэсу. Цяпер, пасьля сканчэньня выбарчага фарсу можна колькі заўгодна крытыкаваць і абвінавачваць рэжым за гвалт і выбарчыя падтасоўкі, але момант ужо страчаны. Рэжыму ня трэба цяпер міжнароднае прызнаньне легітымнасьці выбараў і рэфэрэндума. Лукашэнка (які узначальвае прарасейскую дыктатуру ў Беларусі) ужо цяпер спасылаецца на „усенародную падтрымку" і „волю народу". Ужо цяпер Расея заявіла пра „перамогу дэмакратыі ў Беларусі". Рэжым цынічна выкарыстаў АБСЭ разам з псэўда-апазыцыяй, каб забясьпечыць дэмакратычны выгляд рэфэрэндумнаму фарсу.

Машына выбарчай фальсіфікацыі працавала з нябачанай актыўнасьцю. Упершыню з савецкіх часоў рэжым арганізаваў сістэматычнае і татальнае запалохваньне выбарцаў па ўсёй краіне. Кіраўнікі прадпрыемстваў і навуковых установаў былі ў непасрэднай сувязі з тэрытарыяльнымі выбарчымі камісіямі і трымалі пад кантролем кожнага выбаршчыка, запалохваючы людзей звальненьнямі і рэпрэсіямі. Людзі, вымушаныя ісьці на выбарчыя ўчасткі, галасавалі супраць рэжыму – пра гэта сьведчаць усе грамадзкія апытаньні. Але забясьпечыўшы прыход выбаршчыкаў, рэжым атрымаў свабоду манэўраў і сфальшаваў вынікі галасаваньня ў сваю карысьць.

Людзей, якія заклікалі да байкоту выбарчага фарсу, незаконна арыштоўвалі, штрафавалі, кідалі за краты. Мы паведамлялі пра брутальныя рэпрэсіі ўладаў супраць сяброў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ падчас выбарчай кампаніі, але не атрымалі ніякай рэакцыі з боку АБСЭ. Факты рэпрэсіяў супраць сяброў нашай Партыі не знайшлі месца ў справаздачах Місіі АБСЭ па назіраньні за выбарамі. Што гэта – палітычная сьлепата, падвойныя стандарты ў ацэнцы сытуацыі, уплывы расейскіх лёббі?

Мы спадзяемся, што АБСЭ акажа тэрміновую дапамогу ў вызваленьні з-за кратаў сябра Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ сп. ***Уладзімера Плешчанкі***, які быў незаконна арыштаваны 16 кастрычніка 2004 г. у Віцебску за выказваньне пазыцыі па байкоту выбарчага фарсу (на працягу апошняга месяца ён ужо другі раз кінуты рэжымам на 10 дзён за краты). Сп. Плешчанка, хворы на сэрца, перажыў за кратамі сардэчны прыступ, ягонае жыцьцё знаходзіцца ў небясьпецы. Патрэбна міжнародная дапамога для сп. Плешчанкі – мужнага барацьбіта за дэмакратыю, які на працягу апошніх гадоў шмат пацярпеў ад рэжыму за сваю нязломную барацьбу за правы чалавека і свабоду Беларусі.

***У Беларусі адбылося непараўнальнае па маштабах крымінальнае злачынства. Рэжым Лукашэнкі падмануў беларускі народ, парушыў беларускія і міжнародныя законы.*** Міжнародная супольнасьць ужо цярер разглядае пытаньне міжнароднай ізаляцыі спраўцаў злачынства. Мы заклікаем арганізаваць міжнародную ізаляцыю антыдэмакратычнага рэжыму Лукашэнкі, структураў і канкрэтных чыноўнікаў, адказных за арганізацыю парушэньняў закона. Але ў той жа час недапушчальным ***ёсьць ізаляваньне беларускага народу – ахвяры рэжыму,*** нельга спыняць гуманітарныя і іншыя праграмы, якія дапамагаюць простым грамадзянам Беларусі.

***Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ.***

*20 кастрычніка 2004 г. г. Менск.*

# МОЦНЫЯ ДЗЯДЫ

***(З выступу)***

…Я хачу нагадаць, якое вялікае гэта мае значэньне – шанаваць памяць продкаў. Зірнем на нашае нядаўняе мінулае. За саветамі здавалася, што ніштo ня здолее ўжо ўскалыхнуць сьведамасьці задушанага, заснулага беларускага грамадзтва. Але праўда пра Курапаты, сьведчаньне пра генацыд, пра тысячы нявінна забітых людзей разбудзіла беларускае сэрца. Народ адгукнуўся жалем, прачнулася ў ім прага справядлівасьці і адплаты за перажыты зьдзек.

Праўда пра Курапаты дала штуршок новаму беларускаму Адраджэньню. Адсюль, з мартыралога нацыі, пачаўся вызвольны рух, утварыўся Народны Фронт, які вярнуў дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, расказаў пра Чарнобыль, аднавіў гістарычныя сымвалы нацыі.

Расейцы-бальшавікі забілі мільёны мірных беларусаў. Яны хацелі задушыць Беларусь і назаўсёды зьнішчыць беларускае Адраджэньне. Тут, у Курапатах, яны стралялі ў патыліцу людзям Беларусі, думаючы, што масавымі забойствамі спыняць нашу гісторыю.

І што ж атрымалася? Калі вырасла новае пакаленьне беларусаў, нашы закатаваныя расстраляныя дзяды паўсталі з небыцьця і паказалі нам шлях. Ад нас патрабавалася толькі адно – памятаць. І калі памятаем – яны дапамогуць. Калі памятаем і шануем – яны несьмяротныя.

Вось дзе духоўны закон гісторыі і лёгіка вечнасьці – маральная памяць пра пакаленьні. Калі за плячыма дзяды – багаслаўлены наш шлях. Ідзем жа па ім упэўнена, змагаймася за гонар Беларусі! Хіба ня чуеце, як тут разам з усімі лунае дух Васіля Быкава, як гарыць ягоная сьвечка, як апусьціліся побач душы сяброў – незабыўнага Міхася Дубянецкага, прасьветленага Яўгена Куліка, вясёлай Веры Церлюкевіч, дабрадушнага Уладзімера Кармілкіна... Вечная памяць (…)

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Кастрычнік 2004 г. Курапаты. Дзяды.*

# ДЗЯДЫ ПАД СЬЦЯГАМІ ПРАЎДЫ

*(З выступу)*

…Працягваюцца дні трагічнай памяці нашага народа. Крочаць дзяды. Мне ўяўляецца, што я тут, на мітынгу, з Вамі ў Лошыцы. Зірніце перад сабой на гаражы, на заасфальтаваны роўны пляц. Некалі тут быў шырокі і глыбокі яр, дзе ў 1937 годзе расейскія энкавэдзісты расстралялі тысячы беларусаў.

У 1988 годзе, калі я даведаўся пра гэтае месца і апытаў сьведкаў, людзей, і стаў рыхтавацца да археалягічных раскопак, тады, летам, вельмі хутка, калі ўжо прагучэлі Курапаты, раптам адабралі зямлю ў калгаса пад горад Менск, паналагнялі шмат тэхнікі і пачалі вазіць машынамі жвір, засыпаць гэты яр. Выкарчавалі навакольны сад на ўзгорках і скапалі гэтыя ўзгоркі бульдозерамі ў шырокі яр. Такая была тут егіпецкая праца, каб зрабіць у гэтым няроўным пустым месцы пляцоўку для машын. Дорага абышлася такая пляцоўка для будаўнікоў камунізму. А ўсё дзеля таго, каб засыпаць, схаваць магілы растраляных, што ляжаць ў Лошыцкім яры на дне.

Тое самае было б з Курапатамі – зрабілі б, відаць, стадыён, ці выкапалі б штучнае „мора", – калі б да пары не ўдалося схаваць таямніцу. Пасьля Курапатаў гэбісты сачылі за мной і, ўбачыўшы мой інтарэс да Лошыцы, апярэдзілі мае справы.

Толькі няшмат яны дамагліся, недалёка схаваліся. Мы ведаем, што такое Лошыца ў нашым мартыралогу, ведаем спраўцаў забойства, бачым іхных пакрывальшчыкаў і замятайлаў (…)

*6 лістапада 2004 г.*

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

# АРТЫКУЛЫ КРЫМІНАЛЬНАГА КОДЭКСУ, ПАД ЯКІЯ ПАДПАДАЕ ДЗЕЙНАСЬЦЬ А. ЛУКАШЭНКІ

Адзнаку дзейнасьці А.Лукашэнкі дае Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь. Дастаткова параўнаць гэтую дзейнасьць з артыкуламі кодэксу, і адразу высьвятляецца яе злачынная сутнасьць, накіраваная супраць грамадзянаў і дзяржавы. Галоўны крымінал у наступным:

I. Антыканстытуцыйная дзейнасьць па стварэньні так званай „саюзнай дзяржавы," незаконнае падпісаньне 8 сьнежня 1999 года дагавора аб стварэньні „саюзнай дзяржавы". Гэтае злачынства вядзе да таго, што распараджацца жыцьцём, тэрыторыяй і ўласнасьцю беларусаў зноў будзе расейскі чынуша, якому пляваць на нашыя інтарэсы. Ужо цяпер расейскія генэралы лічаць нашу тэрыторыю сваім „непатапляемым авіяносцам", пляцоўкай „падскоку" іхных стратэгічных самалётаў зь ядзернымі бомбамі на барту. Мала нам Чарнобылю? Не хапала, каб гэтае старое ламачча зь ядзернай атрутай ляснулася на нашу зямлю (вядомая „надзейнасьць" рускай тэхнікі, усе памятаюць падлодку „Курск"). Такая незаконная дзейнасьць Лукашэнкі падпадае пад артыкулы крымінальнага кодэксу:

**– артыкул 356. Здрада дзяржаве;**

**– артыкул 424. Злоўжываньне ўладай, або службовымі паўнамоцтвамі;**

**– артыкул 426. Перавышэньне ўлады або службовых паўнамоцтваў;**

**– артыкул 357. Змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады:**

**артыкул 361. Заклікі да зьвяржэньня або зьмены канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь або зьдзяйсненьню злачынстваў супраць дзяржавы.**

II. Масавы, шырокамаштабны злачынны эксперымент над здароўем жыхароў Беларусі праводзіць Лукашэнка. Па яго ініцыятыве вядзецца гаспадарчая дзейнасьць на забруджаных радыёнуклідамі землях, вырабляюцца прадукты і прадаюцца па ўсёй Беларусі. Пляную пашырыць гэтае злачынства. Так 26 красавіка сёлета заявіў, што ў Хойніцкім раёне Гомельскай вобласьці будуць пабудаваныя ажно 13 аграгарадкоў. Гэтая злачынная дзейнасьць падлягае судоваму перасьледу па артыкулах:

**– Артыкул 131. Экацыд.**

**– Артыкул 308. Непаведамленьне пра небясьпеку для людзей.**

**– Артыкул 365.Парушэньне патрабаваньняў экалягічнай бясьпекі.**

**Артыкул 268. Схова або сьвядомае скажэньне дадзеных аб забруджаньні навакольнага асяроддзя.**

III. Лукашэнка незаконна распараджаецца ўласнасьцю, якая яму не належыць. 50% кошту ўсёй беларускай маёмасьці праз чэкі „Маёмасьць" належыць грамадзянам і зьяўляецца іх прыватнай уласнасьцю. Указам № 70 (люты 2003 г.) ён надаў сабе права распараджацца і прадаваць буйнейшыя і лепшыя прадпрыемствы. Так у сьнежні 2002г. прадаў пуцінскаму алігарху Абрамовічу Мазырскі НПЗ усяго за 207 мільёнаў даляраў, калі гэты завод каштуе ў дзесяць разоў больш. У ліпені 2004 года перадаў бясплатна Расеі ўсе нафтапроводы Беларусі. Гэта ёсьць карупцыя ў міжнародным маштабе. Расея падтрымлівае яго ўладу, а ён разьлічваецца маёмасьцю і лёсам беларусаў. У крымінальным кодэксе маецца два артыкулы, пад якія падпадае яго дзейнасьць па катэгорыі парушэньне права ўласнасьці, у тым ліку:

**– Артыкул 210. Крадзёж, шляхам злоўжываньня службовым становішчам.**

**– Артыкул 211. Прыўлашчваньне або растрата.**

IV. Прымяненьне адміністрацыйнага ўціску на грамадзянаў падчас выбарчых кампаніяў, узурпацыя права фармаваньня выбарчых камісіяў і арганізацыя адміністратыўнага кантролю за дзейнасьцю камісіяў, масавыя фальсіфікацыі вынікаў галасаваньня падпадаюць пад наступныя артыкулы:

**– Артыкул 190. Парушэньне роўных правоў грамадзянаў.**

**– Артыкул 191. Перашкода зьдзяйсненьню выбарчых правоў або працы выбарчых камісіяў.**

**– Артыкул 192. Парушэньне заканадаўства аб выбарах, рэфэрэндуме.**

**– Артыкул 185. Прымус.**

V. Безпадстаўнае запалохваньне грамадзянаў пагрозай вайны з боку эўрапейскіх краінаў, дэманстрацыя ваеннай сілы, падпарадкаваньне беларускага войска маскоўскаму ваеннаму округу РФ, парушэньне безьядзернага статусу Беларусі ёсьць прапаганда вайны, што забаронена

**артыкулам 123 Прапаганда вайны.**

VI. Складаньне ўсіх незаконных дзеяньняў Лукашэнкі і яго рэжыму ў дачыненьні да беларусаў і беларускай дзяржавы падлягае судоваму перасьледу па

**артыкулу 127. Генацыд.**

***Кіраўніцтва***
***Кансэрватаўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*2004 г.*

# „БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ" – ПЛАТФОРМА НАРОДНАГА ЯДНАНЬНЯ

Паважаныя беларусы! Незаконны „рэфэрэндум" 17 кастрычніка выразна абазначыў дзьве пазыцыі, дзьве плятформы, што існуюць у беларускай палітыцы:

– ***прамаскоўскую імпэрскую***, *што разглядае Беларусь і беларусаў як каляніяльны дадатак да Расеі,*

*– і* ***незалежніцкую, беларускую***, *што стаіць на грунце дэмакратычнай незалежнасьці Беларусі, першаснасьці беларускай культуры, мовы і нацыянальнага эканамічнага інтарэсу краіны. Гэтая плятформа прадугледжвае ўмацаваньне нашай нацыі. Мы будзем працаваць, будаваць і гаспадарыць тут, на сваёй зямлі, узбагачаць і ўпрыгожваць сваю родную Беларусь. Будзем расьціць, выхоўваць і навучаць нашых дзяцей. Мы, беларусы, таленавіты народ. Нам наканавана зрабіць так, каб нашы людзі свой талент і здольнасьці ўкаранялі на Бацькаўшчыне.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

* * *

**1.** ***Беларуская Салідарнасьць*** гэта ёсьць ***платформа Беларускага Адраджэньня***, форма ідэйнай лучнасьці паміж беларусамі і пазыцыя змаганьня з акупацыйным антыбеларускім рэжымам. Яе дэклярацыя салідарнасьці простая і надзейная, па прынцыпу Каліноўскага:

– Каго любіш?

– Люблю Беларусь.

– Дык узаемна.

**2.** Зьместам беларускага яднаньня ёсьць Беларуская нацыянальная дзяржава. Сымваламі Беларускай дзяржавы ёсьць нацыянальны *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і *гэрб Пагоня*.

**3.** *Беларуская Салідарнасьць* стаіць за праўду Беларускага Адраджэньня, якое кажа: ***„Не правы чалавека – галоўнае для беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо не бывае „правоў чалавека" пад акупацыяй"***. Трэба змагацца за свабоду і вызваленьне Беларусі, а не прасіць „правоў" у рэжыма і акупантаў. Акупанты правоў не даюць. Яны пакідаюць нам „права" быць рабочым матэрыялам дзеля іхных імпэрскіх інтарэсаў.

**4.** *Беларуская Салідарнасьць* сцьвярджае і абараняе дэмакратычныя каштоўнасьці народнага агульнанацыянальнага кшталту, якія мусяць шанаваць і бараніць усе беларусы перад небясьпекай агрэсіўнай пагрозы з Расеі і перад палітыкай антынацыянальнага рэжыму Лукашэнкі на Беларусі.

**5.** *Беларуская Салідарнасьць* мацуе грунт, кірунак дзеяньняў і ідэі беларускага змаганьня ў абарону беларускай незалежнасьці, мовы, культуры, беларускай нацыянальнай уласнасьці, маёмасьці і беларускай дзяржаўнай сістэмы дэмакратычнага існаваньня нацыі.

**6.** Усіх беларусаў як нацыю злучае і яднае беларуская мова, беларуская гісторыя, беларуская зямля, беларуская культура, беларуская дзяржава і ўся беларуская супольнасьць людзей – Беларускі Народ.

**7.** Усе беларусы, незалежна ад сьветапогляду і палітычных кірункаў, яднаюцца дзеля абароны беларускіх каштоўнасьцяў, беларускіх сымвалаў і беларускіх нацыянальных інтарэсаў.

**8.** Формы дзейнасьці *Беларускай Салідарнасьці* могуць быць рознымі, але заўсёды павінна ўлічвацца антыбеларуская палітыка прамаскоўскага рэжыму на Беларусі і пагроза нашаму нацыянальнаму, культурнаму і дзяржаўнаму існаваньню. Таму ва ўсіх справах – Беларусь перад усім. ***Трэба шанаваць усё беларускае:*** шанаваць беларускую дзяржаўнасьць, шанаваць беларускую мову і беларускі народ, шанаваць беларускую зямлю і беларускую культуру, шанаваць здабытак народнай працы.

Беларус беларуса мусіць бараніць перад небясьпекай.

Беларус беларусу мусіць дапамагаць.

Беларус беларуса павінен падтрымліваць паўсюдна на Беларусі і ва ўсім сьвеце.

*Менск, сьнежань, 2000-2004 гг.*

***Падтрымана і ўхвалена Соймам Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

Паважаныя беларусы!

Нашыя праблемы належыць вырашаць нам. Заклікаем усіх беларусаў, хто б дзе ня жыў, станавіцца на плятформу *„Беларуская Салідарнасьць"*. Формы супрацоўніцтва могуць быць розныя: ад прыняцьця пазыцыі і прыхільнасьці да актыўных дзеяньняў.

Плятформа *„Беларуская Салідарнасьць"* дазваляе не паддавацца на ашуканства розных прайдзісьветаў, палітбізнэсоўцаў, якія крычаць, што яны за дэмакратыю, за „Беларусь у Эўразьвяз", а самыя па першаму кіўку з Масквы бягуць туды з працягнутай рукой і за 30 срэбнікаў робяць брудную ашуканцкую працу. Так было ў 2001 годзе (выбары Прэзыдэнта), калі ўсе яны перакінуліся на падстаўнога стаўленьніка Масквы (У. Ганчарыка), не зважаючы на камуністычную адыёзнасьць і нікчэмнасьць гэтай фігуры. Так сталася 17 кастрычніка 2004 г., калі яны дапамаглі Лукашэнку правесьці афёру з „рэфэрэндумам", заклікаўшы людзей ісьці на выбарчыя ўчасткі.

Іхная барацьба ёсьць імітацыя. Для беларусаў ня мае значэньня, хто будзе зьверху на гэтай імпэрскай прамаскоўскай пазыцыі, бо гэтыя асобы даглядаюць чужыя інтарэсы.

***Яднаемся на платформе „Беларуская Салідарнасьць"!***

# 2005



(Фота Ул. Кармілкіна)

*133-Д. Пачынаецца Сакавік. Менск.*

# САКАВІЦКІ СОЙМ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ „АДРАДЖЭНЬНЕ” І КАНСЭРВАТЫЎНА-ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ПАРТЫІ – БНФ *(Скарочана)*

*13 сакавіка ў Менску адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту ”Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Быў заслуханы даклад сп. Зянона Пазьняка, Старшыні Беларускага Народнага Фронту ”Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ „Аб бягучых падзеях і задачах”:*

***З. Пазьняк:*** – „У нашай унутранай беларускай сытуацыі трэба зьвярнуць увагу на некалькі аспэктаў разьвіцьця падзеяў. Важнейшыя зь іх гэта: стварэньне рэжымам умоваў для выштурхваньня беларусаў (перш за ўсё рабочай сілы) у Расею; стварэньне ўмоваў для абніжэньня ўзроўню адукацыі беларусаў; зьнішчэньне дробнага і сярэдняга прадпрымальніцтва: падрыхтоўка ўвядзеньня на Беларусі расейскага рубля.

Усе гэтыя аспэкты ўзаемазьвязаныя. Зараз праходзяць страйкі дробных прадпрыймальнікаў. Уражаньне ад страйкаў вельмі дрэннае. Улічваючы, што на Беларусі ўстаноўлены рэжым расейскага гэбізму, можна нават з заплюшчанымі вачыма сказаць, што гэта такое адбываецца і чаму гэтая зьява так абсурдна выглядае. Аналіз жа інфармацыі пацьвярджае, што сапраўды функцыянэры дзейнічаюць, ці дакладней, уплываюць на кіраўніцтва гэтага „страйку”.

Паколькі палітыка Масквы і прамаскоўскага рэжыму накіравана на тое, каб зьнішчыць у Беларусі дробны і сярэдні бізнэс, то прадпрыймальнікаў выводзяць з рынкаў нібыта на страйк, дзе іх бяз мэты і задачы зьбіваюць у кучы, якія міліцыя шпыняе зь месца на месца. Для падтрыманьня характару „кучы” прыдуманы лёзунг „ніякай палітыкі” (бо зразумела, што ўвядзеньне новага падатку ПДВ ёсьць чыстая палітыка). Такім чынам людзей выводзяць з прадпрыймальніцтва, дэмаралізуюць, убіваюць у сьвядомасьць уяўленьні аб безвыходнасьці і адбіраюць іхныя месцы на рынках (шапікі ўжо ліквідавалі). „Страйкоўцы” павісаюць у паветры. Такі ёсьць эфэкт гэтай апэрацыі.

З апошніх антыбеларускіх дзеяньняў акупацыйнага рэжыму зьвяртаю ўвагу на забарону вучыцца за мяжой для беларускай моладзі бяз згоды рэжымнай улады (адпаведных міністэрстваў). Гэтае рашэньне прынятае ў рэчышчы пляну вынарадаваньня Беларусі і выгнаньня людзей у Расею. Можна змадэляваць, якія пачнуцца „рухі” моладзі і ў які бок. На Беларусі пад выглядам двухступеннай вышэйшай адукацыі рыхтуецца сістэма, якая будзе выпускаць недавучак з дыплёмамі.

У міжнародным пляне назіраецца актывізацыя структураў Эўразьвязу па беларускім пытаньні. Што да ацэнак, то ўсё гэта вымагае аналізу, бо нідзе не відаць іхняе пазыцыі і стаўленьня да беларускай нацыянальнай праблемы, якая ёсьць галоўнай у беларускай сытуацыі (палітычная агрэсія Расеі, этнацыд, антыбеларуская палітыка і г. д.).

Закрываньне на гэта вачэй насьцярожвае, прымушае зь недаверам глядзець на ўсе іхныя прапановы пра вяшчаньне Нямецкай Хвалі на Беларусь, ці стварэньне радыёмэдыяў за мяжой, арыентаваных на нашу краіну, і г. д. Чулі мы ўжо ненавісныя да беларускай мовы выказваньні розных вікаў ды патрыкаў.

Насьцярожвае дзіўная актыўнасьць немцаў, якія ўжо нейкі фонд стварылі і нават „плян рэвалюцыі” на Беларусі напісалі. Прытым, такі бязглузды і адарваны ад беларускай рэчаіснасьці, што ўзьнікае думка пра вывеску, за якой хаваюцца ўсялякія вікі. Зрэшты, гэта ўсё пустое, таму што арыентуюцца замежныя „стратэгі” на так званую вікаўскую „апазыцыю” . А што яно такое, на што яны здатныя і колькі іх там – мы ведаем.

Нядаўна я меў магчымасьць паглядзець на Вінцука Вячорку ў ягонай новай якасьці (які тут цяпер у ЗША шукае гранты). Ён дадумаўся прыехаць на паседжаньне Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью-Ёрк і выступіў зь нейкім лепятаньнем. Ужо лепш бы ён не выступаў. Пакінуў вельмі кепскае, фальшывае і плыткае пра сябе ўяўленьне. Мяне ўразіла дробязная фальшывасьць гэтага хлопца. А найбольш тое, як бессаромна, з ходу ён навучыўся хлусіць. Спадар Антон Шукелойць, напрыклад, задаў яму два пытаньні: чаму ён у сваім выступе нічога не сказаў пра дачыненьні з Расеяй і дзеля чаго іхняя група „пяцёрка плюс” езьдзіць у Маскву. В.Вячорка, не міргнуўшы вокам, парыраваў: маўляў, ніхто з „пяцёркі плюс” ніколі ў Маскву ня езьдзіў. Тым часам кожны ў залі (каля 80 асобаў) ведаў сапраўдную інфармацыю і чакаў адказу. Магчыма ў Беларусі такая публічная хлусьня стала ўжо нормай (прывыклі, што ніхто нічога ня ведае). Але ў Амэрыцы, дзе за хлусьню крымінальная адказнасьць, гэта тое самае, што зьняць порткі перад публікай. Паведамляю гэтую пабочную інфармацыю, таму што лішні раз пераканаўся, што прагматыкі – скончаная публіка.” (...)

***Інфармацыйная камісія Беларускага Народнага Фронту ”Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, Валеры Буйвал.***
*13 сакавіка 2005 г., г.Менск*

# СЯРГЕЙ НАВУМЧЫК: „РЭФЭРЭНДУМ БЫЎ НЕЛЕГІТЫМНЫ, ТАМУ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЬЦЯГ І „ПАГОНЯ” ЗАСТАЮЦЦА ДЗЯРЖАЎНЫМІ СЫМВАЛАМІ”

***Пра падзеі, якія разгортваліся ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995 года ў Вярхоўным Савеце Беларусі, расказвае дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліка户ньня, каардынатар Апазыцыі БНФ Сяргей Навумчык. Скарочана).***

„Нагадаю, што рэфэрэндум, які прапанаваў Лукашэнка, утрымліваў чатыры пытаньні: аб скасаваньні Бел-Чырвона-Белага сьцягу і гэрбу „Пагоня” як дзяржаўных сымвалаў, аб скасаваньні беларускай мовы як адзіна дзяржаўнай мовы, таксама аб эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і аб праве прэзыдэнта распускаць парлямант. Мы лічылі ўсе гэтыя пытаньні антыканстытуцыйнымі. Асабліва страшным для нацыі – гэта проста быў зьдзек для нацыі – было фактычнае скасаваньне дзяржаўнасьці мовы. Да гэтага на працягу месяца мы выкарыстоўвалі ўсе магчымыя спосабы ўплыву на дэпутатаў, каб яны не галасавалі за гэты рэфэрэндум. І калі ўсе нашы магчымасьці – кулуарныя размовы, выступы з трыбуны ВС – былі вычарпаныя, мы пайшлі на галадоўку.

Нас было 19 чалавек на чале з Пазьняком. Адзін дэпутат, Ігар Пырх, хацеў таксама браць удзел, але быў хворы, мусіў класьціся ў шпіталь, і Пазьняк папрасіў, каб ён ня ўдзельнічаў. Дарэчы, гэта той самы Ігар Пырх, які ўзначальваў парляманцкую камісію ў справе рассьледаваньня абставінаў жнівеньскага путчу ГКЧП 1991 году, пазьней ён памёр. Таксама нашы патрабаваньні падтрымала Галіна Сямдзянава, ну але мы палічылі, што, канечне, жанчына не павінна ўдзельнічаць у галадоўцы, акрамя таго патрэбны быў дэпутат для сувязі, і Г. Сямдзянаву папрасілі узяць на сябе гэты абавязак. 11 красавіка а 9.30 раніцы выступіў Пазьняк, зачытаў нашы патрабаваньні, і мы селі вакол трыбуны.

Гэтую нашу галадоўку цяпер, часам, называюць актам адчаю. Я думаю, гэта быў не акт адчаю, а апошні спосаб паўплываць на падзеі. Мы разумелі, што трэба пайсьці на ўсё, каб не прайшоў гэты „рэфэрэндум». Я скажу за сябе – проста сабе б не дараваў, калі б не зрабіў ўсё, што можна. І што прыкметна: ужо праз дзьве ці тры гадзіны пасьля таго, як мы пачалі галадоўку, гэтыя пытаньні лукашэнкаўскія ня сталі набіраць патрэбнай колькасьці галасоў дэпутатаў. Недзе дэпутатаў 100 галасавалі „за», але каб прызначыць рэфэрэндум, трэба было 174, калі не памыляюся. Відаць, у шмат якіх дэпутатаў, што сядзелі ў залі, мы нешта ў душы зварухнулі. Можа, прабілася ў іх сумленьне. Словам – пачаўся для Лукашэнкі правал”.

Мы заявілі, што будзем галадаваць „да апошняга». Ноччу спачатку прыйшоў начальнік службы аховы, дэпутат ВС Цесавец, прапанаваў нам пакінуць залю. Потым прыйшла група вайскоўцаў з палкоўнікам, заявілі, што будынак замінаваны. Мы сказалі, маўляў, ну калі замінаваны, шукайце бомбу ці што ў вас тут, мы не перашкаджаем. І сапраўды, сапёры недзе гадзіну шукалі ў Авальнай залі, нічога не знайшлі. А потым у дзьве гадзіны начы, калі мы ўжо леглі спаць каля той трыбуны, хто дзе, адчыніліся дзьверы, увайшоў начальнік прэзыдэнцкай аховы Каралёў, увайшоў Цесавец і яшчэ адзін мажны суб’ект. Гэты апошні сказаў, што нам даецца пяць хвілін, каб мы пакінулі памяшканьне, і што калі мы не пакінем – дык прымуць „адпаведныя захады». Пазьняк сказаў, што – не, мы нікуды ня пойдзем, працягваем галадоўку ў Авальнай залі і пацьвярджаем свае патрабаваньні. Яны выйшлі, але ніякіх „пяці хвілінаў” не было – імгненна адчыніліся ўсе дзьверы, і проста за некалькі сэкундаў па пэрыметры залі забеглі людзі ў шлемах, са шчытамі, з аўтаматамі Калашнікава і, што зусім дзіўна, з гранатамётамі (я служыў у Савецкай Арміі і магу адрозьніць зброю). А па цэнтральным праходзе і, здаецца, нават з балкону – пасыпаліся людзі ў чорным, у чорных масках з прарэзамі для вачэй, у чорнай вопратцы.

Пазьней тагачасны першы намесьнік старшыні КГБ генэраллэйтэнант Кез прызнаў, што гэта была спэцгрупа КГБ „Альфа». Тая самая „Альфа», якая бярэ тэрарыстаў. Адзін „альфавец” здольны супрацьстаяць дзесяці салдатам спэцназу. Натуральна, што з намі яны маглі зрабіць што заўгодна. Але выглядае, была каманда не забіваць, а біць. Ну і накінуліся на нас, і пачалі зьбіваць.

Перада мной сядзеў Пазьняк, я бачыў, як чалавек у чорным скокнуў, адной нагой спружыніў аб пюпітар, а другой – ударыў у грудзі, потым пачаў выціскаць Пазьняку вочы. Я якраз быў з тых, каму ў той момант менш за ўсіх дасталася, бо сядзеў у сярэдзіне. Зьлева сядзеў Юры Беленькі, яго схапілі, я яшчэ, памятаю, устаў і пачаў нешта крычаць пра дэпутацкую недатыкальнасьць, штосьці такое. Ну але літаральна праз пару сэкундаў мне скруцілі рукі, перадалі спэцназаўцам, і тады гэтыя чатыры спэцназаўцы ў касках ужо павалаклі. Мяне вывалоквалі якраз, здаецца, першага, дзьверы гэтыя цэнтральныя чамусьці прыхлопнуліся, і яны мной, як таранам, галавой, гэтыя дзьверы адчынілі. Пацягнулі далей. А ўся гэтая прастрора, гэтае фае перад Авальнай заляй Дома ўраду – яно проста было запоўненае людзьмі ў форме. Потым пракуратура высьветліла, што там было 1300 чалавек*. А нас было 19 дэпутатаў.

Паколькі рэфэрэндум гэты 1995-га году быў прызначаны незаконна, дык і вынікі ягоныя таксама нелегітымныя. Дэ-юрэ Бел-Чырвона-Белы сьцяг і гэрб „Пагоня” застаюцца дзяржаўнымі сымваламі, а мова беларуская – зьяўляецца адзінай дзяржаўнай мовай, з усімі вынікаючымі з гэтага юрыдычнымі наступствамі для тых, хто сёньня над імі чыніць зьдзек. У мяне няма ніякага сумневу, што новы дэмакратычны парлямант скасуе вынікі гэтага рэфэрэндуму. Роўна як я і не сумняюся, што рана ці позна (колькі там яшчэ пратрымаецца Лукашэнка) тыя, хто арганізоўваў гэтую акцыю зьбіцьця дэпутатаў, зь якой пачаўся ў Беларусі дзяржаўны тэрор, – яны сядуць”.

Уся наша галадоўка, калі ў залі запалілася сьвятло, здымалася з балкона, прычым здымкі вяліся на дзьве відэакамэры. Потым (і гэта было ў прамой трансьляцыі з сэсіі ВС, і засталося ў стэнаграме) Лукашэнка абяцаў, што пакажа па ТВ народу відэакадры, дзе мы нібыта выхапілі нажы, пагражалі сябе зарэзаць, пілі гарэлку, а нас нібыта ветліва папрасілі выйсьці з залі… Насамрэч, калі б кадры зьбіцця паказалі, дык і вынікі галасаваньня на выбарах, і рэфэрэндуме ў Беларусі былі б зусім іншыя.

Я не сумняюся, што гэтая відэакасэта ёсьць. Ведаеце, мне казалі, што праз тыдзень адна заходняя тэлекампанія прапанавала тэхнічнаму супрацоўніку БТ, калі пераганялі касэту зь відэакасэты на „бэтакам” (тэлесістэму), – дык вось яму прапанавалі 50 тысяч даляраў за копію. Ён пагадзіўся. Але потым, літаральна праз дзень, адмовіўся ад такой вельмі вялікай сумы, бо жыцьцё даражэй. Казалі, што нейкі час гэтая касэта была ў Сініцына, магчыма, у яго і ёсьць копія – ён жа кіраваў ўсёй той аперацыяй, быў кіраўніком Адміністрацыі прэзыдэнта. Можа, гэта, скажам, „ахоўчая грамата” Сініцына ад Лукашэнкі”.

Калі гэтыя „чорныя” пасыпаліся на нас, у мяне было адчуваньне, што – усё, гэта канец. Але нейкага такога разгорнутага адчуваньня жаху апісаць не магу. Прычым, што цікава, у мяне ўжо праз пару дзён ў памяці засталіся толькі сэкунд дваццаць-трыццаць усёй гэтай дзеі. Я тады, памятаю, сеў пісаць артыкул для „Свабоды” Ігара Гермянчука (ён таксама ўдзельнічаў у галадоўцы, ён сарваў маску ў аднаго з „чорных», Ігар памёр тры гады таму, зямля яму пухам…) – і ня мог ўсё ўзгадаць… А па храналёгіі „апэрацыя” цягнулася 8 хвілінаў ці нават 12 – гэта рэканструкцыя падзеяў, якую правёў сьледчы Бролішс.

Што ж датычна палітычнага жаху… У мяне ніколі не было ілюзіяў наконт Лукашэнкі, зь якім я чатыры гады правёў у парляманце, ні наконт ягоных паплечнікаў (якія потым, шмат хто зь іх, перайшлі ў апазыцыю). Я ведаў, што гэта абсалютна цынічныя людзі, якія кінулі лёс Беларусі пад свае прыватныя амбіцыі. Таму можна было прадбачыць, да чаго гэта прывядзе. Проста было жаданьне вось гэтым апошнім сродкам, гэтай галадоўкай супрацьстаяць. І я магу сказаць цяпер, праз дзесяць гадоў, калі б ўсё назад адгарнуць, я зрабіў бы тое самае”.

*2005 г.*

***(Паводле радыё Свабода,***
***Вольга Караткевіч, Прага.)***

---

* Пазьней генерал Кез афіцыйна паведаміў у Вярхоўным Савеце, што вайскоўцаў было 600. – *(З. П.).*

# БАРАЦЬБА МУСІЦЬ БЫЦЬ БЕЛАРУСКАЙ

***(Выступ на красавіцкім Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Скарочана)***

...Нам выпала жыць у вельмі цяжкі час чалавечай гісторыі, калі зьнікае, падае культура і знутры бэсьціцца, разбураецца хрысьціянскі чалавек, перайначваецца ягоная душа, зьнікае ідэальная сутнасьць. Гэтакую зьяву Эўропа перажывала 400-500 гадоў таму. Але тады рэлігійнае грамадзтва знайшло сілы ўнутры сябе і перамагло заразу духоўнага разбурэньня. У цяперашняй бязбожнай Эўропе такіх сілаў ужо амаль не засталося. Рэлігія, культура, мастацтва, маральнасьць у гэтым сьвеце ўвогуле перастаюць быць каштоўнасьцямі і замяняюцца сурагатам.

У гэтых умовах нам, беларусам, робіцца асабліва складана, бо нашая нацыянальная кансалідацыя была штучна стрыманая стагоддзем расейска-бальшавіцкай акупацыі, а нацыянальная культура адчувальна разбурана акупантамі. Наша неабходнасьць культурна адрадзіць краіну і нацыянальна скансалідаваць грамадзтва спатыкае пасыўную (Эўропа) і агрэсіўную (Расея) варожасьць сучаснага сьвету. Для нас, беларусаў, гэта стала праблемай найперш з прычыны нацыянальнай абыякавасьці бальшыні нашага цяперашняга грамадзтва.

На антынацыянальнай пазыцыі лібэралы Захаду і імпэрыялісты Расеі знаходзяць супольныя інтарэсы. Мы гэта разумеем і павінны даносіць інфармацыю да іншых. Але змаганьне на два франты вымагае разумнай тактыкі.

На сёньняшні дзень расейскі імпэрыялізм і цяперашні акупацыйны рэжым на Беларусі зьяўляюцца нашымі галоўнымі ***палітычнымі*** ворагамі. Заходні лібэралізм ёсьць яшчэ ў асноўным ***ідэялягічным*** непрыяцелем. У нашым беларускім цяперашнім змаганьні мы павінны гэта мець на ўвазе і правільна будаваць сваю тактыку барацьбы, улічваючы галоўнае, першачарговае і наступнае, апэратыўнае і пазыцыйнае.

Наконт Эўрапалітыкі ў дачыненьні да Беларусі мы не павінны мець ілюзіяў, але ня мусім нажываць сабе актыўных ворагаў. Так ці інакш, Эўропа ёсьць і павінна быць нашым саюзьнікам, і разам з разумнай Эўропай мы павінны будзем змагацца зь лібэральным вычварэнствам у ідэялёгіі і палітыцы.

Першасная небясьпека для нас заўсёды была і застаецца з Расеі.

Будучы яшчэ ў Варшаве і спатыкаючыся з калегамі, я казаў пра неабходнасьць падрыхтоўкі людзей, якія будуць працаваць на падтрымку беларускай альтэрнатывы ў выбарах прэзыдэнта. Гаварылася пра канкрэтныя формы працы. Гэтую працу трэба актывізаваць, бо запаснога часу ўжо не засталося. Важна не страціць час цяперашні. Мы ўжо маем вопыт і таму трэба рабіць па правілах і неабходнасьці.

Чуючы выказваньні заангажаванай публікі (так званай „апазыцыі”), бачыш характэрную карціну: ніхто зь іх ня верыць у перамогу, у посьпех справы, за якую яны нібыта бяруцца; ніхто зь іх ня любіць наш народ і больш таго – схільныя менавіта яго абвінавачваць ва ўсіх бедах. Сімптаматычна, што ўсе яны пагаджаюцца, што Лукашэнка будзе ўдзельнічаць у выбарах. Зразумела, што як і ў афёры мінулагодняга незаконнага рэфэрэндуму, гэтая група будзе выконваць сваю ролю сьлепа і не задумваючыся.

Зразумела таксама, што паступова яе роля будзе ськіравана толькі на перашкоду нам і зацямненьне становішча. Зараз Масква зразумела палітычную слабіну Рады БНР і стараецца праз агентуру уплаву яе „аблапошыць”, уцягнуць не ў сваю справу, больш таго – у падтрымку падстаўной „апазыцыі” на Беларусі. Для вікаўскай „апазыцыі” гэта, вядома, было б, як мёртваму прыпаркі, але для беларускага Адраджэньня ідэйная кампрамэтацыя Рады БНР сталася б даволі ганебным ударам.

Актывізацыя Масквы па зьнішчэньні цэнтраў беларускай палітычнай эміграцыі, па разбурэньні беларускай аўтакефальнай царквы і па стварэньні сваіх агентурна кіруемых эміграцыйных арганізацыяў дасягнула цяпер размаху большага, чым за часы халоднай вайны, і вядзецца амаль адкрыта як у Амэрыцы, гэтак і ў Эўропе.

Ёсьць тэндэнцыі сур’ёзныя і трывожныя. Усё гэта сьведчыць пра стратэгію Масквы. Ідзе вайна за Беларусь, і рыхтуецца вялікая атака, дзеля якой не шкадуюць сродкаў, дыпляматы і агентуры. Проста так „дзеля мастацтва” ці „спартыўнага інтарэсу” такія справы за мяжой (дзеяньні супраць беларускай палітычнай эміграцыі) ня робяцца.

Паважаныя калегі, цяпер, калі набліжаецца пара выбараў прэзыдэнта, мы павінны паставіць адно пытаньне: публічна прапанаваць Лукашэнку адмовіцца ад незаконнага ўдзелу ў чарговых выбарах прэзыдэнта. Гэтая прапанова мусіць быць. Нельга пагаджацца на ўдзел Лукашэнкі ў выбарах. Ён ня мае такога права. Трэба сьведчыць пра гэта. (Прапанову можна аформіць трыма радкамі ці адным абзацам).

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьіянскай Партыі – БНФ***
*10 красавіка 2005 г. Нью-Ёрк*

# „ЗМАРНАВАНАЕ ЦЭЛАЕ ПАКАЛЕНЬНЕ”

***Сяргей Навумчык, Прага*** *Адзінаццаць гадоў таму Аляксандр Лукашэнка быў абраны прэзыдэнтам. На тэлефоннай сувязі ў з Нью-Ёрку – былы кандыдат у прэзыдэнты, лідэр Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Зянон Пазьняк.*

***Навумчык:*** – „Прапаную прыгадаць 11 ліпеня 1994 году. Раніцай стала вядома, што Лукашэнка абраны прэзыдэнтам. Шмат хто памятае тую раніцу. Вось калі казаць пра ўласныя адчуваньні, дык яны былі падобныя на тыя, калі мяне забіралі ў Савецкае войска, было дакладнае ўсьведамленьне, што наперадзе – два страчаныя гады, якія апрыёры можна проста выкрасьліваць з жыцьця. Ну, у тым выпадку з Лукашэнкам гаворка ішла пра пяць гадоў; аказалася – адзінаццаць. А што адчувалі Вы?”

***Пазьняк: –*** „У мяне было адчуваньне трывогі. І абсалютна яснае разуменьне, што будзе расейская акупацыя, што Беларусь будуць здаваць пад Маскву. Пасьля першага туру выбараў я напісаў Зварот да беларускага народа. Ён , дарэчы, быў надрукаваны адразу ў газэце «Беларус», што выходзіць у Нью-Ёрку, і там я выклаў, што чакае Беларусь, калі прэзыдэнтам стане Лукашэнка. Я цяпер перачытваў гэты зварот. Там дакладна апісана ўсё тое, што сталася”.

***Навумчык:*** – „А ў беларускай прэсе гэты артыкул надрукаваны ня быў?”

***Пазьняк:*** – „Не, ня быў. Не надрукавалі”.

***Навумчык:*** – „Прайшло адзінаццаць гадоў. Ваша ацэнка: дзе цяпер знаходзіцца Беларусь?”

***Пазьняк:*** – „Адзінаццаць гадоў унутранай акупацыі і рэжыму Лукашэнкі затармазілі духоўнае і культурнае разьвіцьцё беларускай нацыі. І галоўнае, змарнавалі цэлае пакаленьне беларусаў. Гэта – вынік жахлівы, гэта – вынік рэгрэсіўны, які, дзеля направы, патрабуе доўгага часу. Робячы, праектуючы будучую палітыку Беларусі, вольнай Беларусі, трэба будзе мець на ўвазе неабходнасьць гэтай направы духоўнага жыцьця нацыі”.

***Навумчык:*** – „Некаторыя аналітыкі заўважаюць, што Вы звычайна ў прагнозах, ва усякім разе доўгатэрміновых прагнозах, не памыляецеся. Ваш прагноз: колькі яшчэ гадоў Аляксандр Лукашэнка будзе кіраваць краінай?"

***Пазьняк:*** – „Прагноз – «колькі гадоў?» – я даваць ня буду, але я скажу пра прынцып, які можа спыніць гэтае кіраваньне. Сытуацыя паказвае, што рэжым Лукашэнкі можа трымацца столькі на Беларусі, колькі пратрымаецца цяперашні крамлёўскі рэжым у Расеі. Яны – Лукашэнка і Пуцін – цяпер павязаныя, як два пьяныя, што трымаюцца адзін за аднаго, каб ня ўпасьці. І хутчэй за ўсё, што яны разам і паваляцца".

*11 ліпеня 2005*

***Інтэрв'ю: Сяргей Навумчык, Прага***

Кіраўніцтва і Управа
Беларускага Народнага
Фронту „Адраджэньне"
і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай
Партыі – БНФ
*18 красавіка 2005 г.*
*г. Менск*

*Спадару Аляксандру Лукашэнку*

# МЫ ПРАПАНУЕМ ПАДПАРАДКАВАЦЦА ЗАКОНУ

Спадар Лукашэнка, наш зварот адрасаваны Вам як палітыку, які адзінаццаты год узначальвае выканаўчую ўладу ў Беларусі.

Нам вядома, што ў 2006 г., насуперак закону, Вы плянуеце ўдзельнічаць у чарговых прэзыдэнцкіх выбарах у нашай краіне. Дзеля гэтага 17 кастрычніка мінулага году па Вашай ініцыятыве быў праведзены незаконны рэфэрэндум, вынікі якога мы не прызналі. Гэты рэфэрэндум не прызнала таксама міжнародная супольнасьць.

Паколькі Вы не валодаеце юрыдычным правам балатавацца, мы прапануем Вам падпарадкавацца Закону і ня ўдзельнічаць у чарговых выбарах прэзыдэнта Беларусі. Мы зьвяртаем Вашу ўвагу на тое, што ў сьвятле палітычных падзеяў і тэндэнцыяў, якія разьвіваюцца ва Ўсходняй Эўропе і Паўночна-Заходняй Азіі, адмаўленьне ад незаконнага ўдзелу ў выбарах ёсьць найлепшым варыянтам асабіста для Вас і таксама для нашай краіны. Выбары прэзыдэнта Беларусі павінны адбыцца ў 2006 г. бяз Вашага ўдзелу.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ,***
***Юры Беленькі***
***Намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ,***
***Сяргей Папкоў***
***Намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ,***
***Алесь Чахольскі***
***Адказны сакратар Управы Сойму Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2005/2006, № 1(55).*

# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК КАМЭНТУЕ РАШЭНЬНЕ ЭЎРАКАМІСІІ І «НЯМЕЦКАЙ ХВАЛІ»

***Сяргей Навумчык, Нью-Ёрк.*** *Рашэньне Эўракамісіі аб пачатку вяшчаньня на радыёстанцыі «Deutsche Welle" на Беларусь па-расейску, а таксама інтэрв'ю „Свабодзе" нямецкага дыпляамата Ганса-Герога Віка, які прывёў сваё аргументы на карысьць адкрыцьця такога вяшчаньня, камэнтуе лідэр Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ Зянон Пазьняк.*

**Пазьняк:** – «Мне ужо даводзілася выказвацца адносна ідэі вяшчаньня на Беларусь па-расейску ў артыкуле ***„Пад блудам чужой палітыкі"***, надрукаваным у газэце „Беларус".

Тое, што немцы хочуць пераняць справу русыфікацыі і маюць намер на базе расейскай рэдакцыі «Deutsche Welle» пачаць вяшчаньне па-расейску, – гэта праява нямецка-маскоўскай палітыкі па зьнішчэньні дзяржаўнасьці Беларусі, якую яны праводзяць вось ужо хутка дзесяць гадоў.

Выразьнікам гэтай палітыкі быў у Беларусі Ганс-Георг Вік. Таму гэта нас не зьдзіўляе, і адказ наш будзе толькі такі: нам ня трэба ніякай „дапамогі" з боку Нямеччыны і Расеі. Нам ня трэба ні іхняга вяшчаньня, ні іхных радыёстанцыяў, ні іхнай антыбеларускай палітыкі, закамуфляванай пад дэмакратыю і правы чалавека. Свае нацыянальныя праблемы і сваю дэмакратычную будучыню мы, беларусы, вырашым самы.

Гісторыя апошніх 200 гадоў паказала, што ненавісьнікам беларускай нацыі і дзяржаўнасьці была якраз маскоўска-бэрлінская палітыка, пачынаючы ад разьдзелу Рэчы Паспалітай, разьвязваньня Першай і Другой усясьветных войнаў, заключэньня антыбеларускага берасьцейскага міру і канчаючы апошняй акцыяй Ганса-Георга Віка па разьбіцьці БНФ і супрацоўніцтва яго ў гэтай справе з КГБ, пра што ён сам заявіў журналістам (і што было апублікавана ў друку)".

*4 жніўня 2005 г.*

***Інтэрв'ю: Сяргей Навумчык, Нью-Ёрк***

# АСУДЖЭНЬНЕ НЯМЕЦКАЙ ПАЛІТЫКІ Ў ДАЧЫНЕНЬНІ ДА БЕЛАРУСІ

***Беларуская мова – галоўная каштоўнасьць Беларускай нацыі і першасная ўмова дэмакратыі ў Беларусі***
*(Адкрыты ліст да грамадзянаў Беларусі)*

Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ разглядзеў пытаньне аб палітыцы Эўразьвязу ў дачыненьні да Беларусі і адзначае, што паўнамоцныя прадстаўнікі Эўразьвязу ў сваіх прапановах дапамогі беларусам кіруюцца не інтарэсамі справядлівасьці і дэмакратыі, а толькі патрэбамі Эўразьвязу і інтарэсамі паасобных краінаў, што ў яго ўваходзяць. Сьведчаньнем гэтакай пазыцыі зьяўляецца ігнараваньне прадстаўнікамі і структурамі Эўразьвязу беларускай мовы – галоўнай каштоўнасьці і галоўнай умовы беларускай дэмакратыі. Яны ня хочуць прызнаваць відавочнае, што нацыянальны ўціск прамаскоўскага лукашэнкаўскага рэжыму і душэньне бе-

ларускай мовы ёсьць галоўнае і самае грубае парушэньне правоў чалавека і жыцьцёвага права Беларускай нацыі.

Гэтакая пазыцыя непрызнаваньня выяўлена ў рашэньні Эўракамісіі даручыць вяшчаньне на Беларусь тэлерадыёстанцыі „Нямецкая хваля" на … расейскай мове. Прапановы тых радыёстанцыяў, якія плянавалі вяшчаньне па-беларуску, былі Эўракамісіяй адкінутыя.

Вось такую „дапамогу" брусэльская бюракратыя пляную для беларускіх змагароў, якіх акупацыйны рэжым Лукашэнкі (АМАП) зьбівае на вуліцах за гаворку па-беларуску, забараняе выступы беларускіх музычных гуртоў і сьпяваньне па-беларуску, зачыніў радыёстанцыі на беларускай мове, зачыніў беларускія школы, спаліў беларускія падручнікі для школаў, ліквідаваў беларускія выдавецтвы для дзяцей і юнацтва, зачыніў дзіцячыя беларускія часопісы і г. д. У гэтым найбольш выяўляецца антылюдзкая сутнасьць акупацыйнага прамаскоўскага рэжыму на Беларусі і парушэньне правоў людзей.

„Я не разумею, – піша ў адным зь лістоў у адказ кіраўніца расейскай рэдакцыі „Нямецкай хвалі" Карнэлія Рабітц, – чаму ўсе засяродзіліся на пытаньні мовы вяшчаньня" (CorneliaRabitz@dw-world.de).

Калі фраў Рабітц не разумее справы, то ёй ня трэба гэтай справай займацца. Такі вывад вынікае з гэтакага прызнаньня. „Для нас тут ў камандзе перш за ўсё важным ёсьць зьмест праграмы," – прадаўжае фраў Рабітц у савецкім духу. І далей: „У рэдакцыю „Нямецкай хвалі" прыходзяць вельмі шмат крытычных лістоў, якія тычацца пытаньня мовы, але ніхто не дыскутуе наконт зьместу будучых праграмаў," – зьдзіўляецца фраў. (Радыё „Свабода", 7 жніўня 2005 г.).

Відаць, што фраў сапраўды нічога не разумее і ня ведае, што беларуская мова для нацыі, якую зьнішчаюць, якраз і ёсьць зьместам дэмакратыі, а не блытаныя думкі, якія, нічога не разумеючы, хоча выказаць зь нямецкай антэны на мове расейскіх нішчыцеляў фраў Рабітц.

Нам ня трэба такіх „дабрадзеяў" і такіх памочнікаў. Той, хто шчыра хацеў бы дапамагчы беларусам зьмяніць антыдэмакратычны рэжым і абараніцца ад маскоўскай імпэрскай палітыкі, той мусіў бы дарасьці да разуменьня трагедыі беларускай нацыі ў яе змаганьні з імпэрскай Расеяй за сваю незалежнасьць, дзяржаву, культуру і існаваньне.

„Ня мае значэньня на якой мове вяшчаць, галоўнае зьмест," – спрабуюць павучаць нас ужо нямецкія „мудрацы" (памятаеце акупанцка-савецкае: „какая разница?"). Дык калі „ня мае значэньня", то давайце па-беларуску! Аж не, аказваецца, ёсьць „разница".

Тое, што „Нямецкая хваля" пры падтрымцы Брусэля пераймае эстафету русіфікацыі Беларусі і захаваньня ў нас савецкіх адносінаў да беларускай мовы і культуры, – гэта ўжо нас не зьдзіўляе. Мы ведаем у чым зьмест маскоўска-бэрлінскай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі. Ім перашкаджае нашая незалежнасьць. Мы памятаем ненавісныя выказваньні нямецкага разьведчыка Ганса Віка супраць Беларускай мовы, калі ён быў у ролі кіраўніка місіі АБСЭ ў Менску, і ведаем пра ягонае супрацоўніцтва з КГБ супраць БНФ і Беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху (Вік сам прызнаўся). Такому „дабрадзею" нельга верыць ні на секунду.

Мы добра разумеем, што 30-ціхвілінная нямецка-расейская перадача на Беларусь на кароткіх хвалях нічога для беларусаў не вырашае. Але тут палітычная камбінацыя – запусьціць траянскага каня ў наш эфір, потым сфабрыкаваць зьвесткі (пры дапамозе якога-небудзь халуйскага апытаньня – тут яны спэцы) і прадоўжыць русіфікацыю далей. Ды яшчэ (калі ўдасца) і радыё „Свабода" зрусіфікаваць. Мы ведаем пра гэтыя маскоўска-нямецкія задумкі.

Мы зьвяртаемся да ўсіх беларусаў. Прыгледзьцеся. Паглядзіце рэальна на ўсіх гэтых палітычных „дабрачынцаў" з Захаду і з Усходу. Яны ж спрэс фальшывяць, бо дбаюць найперш пра свае інтарэсы.

Мы ня мусім сядзець, склаўшы рукі. Нам трэба аб'яднаць нашыя народныя высілкі па абароне беларускай мовы, культуры і незалежнасьці, нягледзячы на розьніцу ва ўзросьце і ў палітычных перакананьнях. Нам трэба быць салідарнымі ў павазе да сваіх нацыянальных каштоўнасьцяў, каб ні немец, ні масковец ніколі не плявалі беларусам у твар.

Мы заклікаем беларусаў зьвяртацца ў Эўразьвяз і патрабаваць адмены рашэньня пра русіфікацыйнае вяшчаньне „Нямецкай хвалі" на Беларусь, а таксама аб невыдзяленьні грошай на гэтую антыбеларускую справу.

Рэчаіснасьць зноў пацьвярджае, што лёс беларускай будучыні можа быць толькі ў беларускіх руках.

Змагаймася ж і клапацемся пра нашу Беларусь.

***Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*14 жніўня 2005 г. г. Менск*

# КАМІСІЯ ЭЎРАЗЬВЯЗУ, БРУСЭЛЬ

Патрабуем адмяніць рашэньне па тэндару аб прадстаўленьні права русіфікацыйнага вяшчаньня на Беларусь для тэлерадыёстанцыі „Нямецкая Хваля" і не выдзяляць грошай на гэтую антыбеларускую дзейнасьць. Палітычнае рашэньне аб русіфікацыйным вяшчаньні на Беларусь парушае асноўныя правы чалавека і дэмакратыі для Беларусі, зьяўляецца зьневажальным у дачыненьні да беларускага змаганьня з прамаскоўскім і антыбеларускім рэжымым Лукашэнкі на Беларусі.

***Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*14 жніўня 2005 г. г. Менск.*

# РУСІФІКАЦЫЯ НЯ МУСІЦЬ БЫЦЬ ПАЛІТЫКАЙ ЭЎРАЗЬВЯЗУ

***(Заява)***

Русіфікацыя ня мусіць быць палітыкай Эўразьвязу. Тое, што пасьля пратэсту беларусаў супраць вяшчаньня на Беларусь „Нямецкай Хвалі" па-расейску Эўракамісія аб'явіла новы тэндар пра вяшчаньне на Беларусь зноў на расейскай мове, сьведчыць аб поўным неразуменьні ёй сытуацыі ў Беларусі і ў цэлым ва Ўсходняй Эўропе. Гэта паказвае таксама на нежаданьне сытуацыю разумець.

Гэта дрэнна, бо сьведчыць, што Эўразьвяз перастае быць пэрспэктыўным палітычным лідэрам ў Эўропе і дзеля інтарэсаў бізнэсу вялікіх мэдыя-кампаніяў адмаўляецца ад падтрымкі асноўных каштоўнасьцяў свабоды, нацыі і дэмакратыі на ўсходзе Эўропы.

Гэта сьведчыць таксама, што палітыкі Эўразьвязу ўвогуле ня ведаюць і ня хочуць бачыць, што адбываецца ў Беларусі,

дзе стаўленьнік Масквы Лукашэнка забараніў сваімі „ўказамі" ўжываць словы „беларускі", „народны", „нацыянальны" ў назвах арганізацыяў і друку, дзе па загаду Лукашэнкі былі спаленыя школьныя падручнікі на беларускай мове, дзе прамаскоўскі рэжым зачыніў ужо амаль 80 адсоткаў беларускіх школаў, ліквідаваў выкладаньне ва ўнівэрсітэтах па-беларуску і перасьледуе моладзь, якая змагаецца за беларускую мову і свабоду.

Беларуская мова ў Беларусі – гэта галоўная каштоўнасьць народа, незалежнасьці, дэмакратыі і свабоды. За беларускую мову змагаліся цэлыя пакаленьні беларусаў, расейцы расстралялі за мову сотні беларускіх пісьменьнікаў і тысячы беларускіх людзей.

Цяпер ў пуцінскай Расеі афіцыйны расейскі друк піша наступнае: „Белорусский язык – язык международного общения падонков" («Ежедневные новости» (Владивосток),–2005, 26 августа). І ніхто там гэтага не камэнтуе, не крытыкуе, ня просіць прабачэньня за дзікунства. Гэта ёсьць пуцінская палітыка. Эўразьвяз падтрымлівае гэта?

Палітыкі Эўразьвязу, не разумеючы дэмакратычную Беларусь, не разумеюць таксама таго, што яны робяць стаўку ў Беларусі на былых савецкіх цемрашалаў, якія дэкляруюць цяпер дэмакратычную фразэалёгію, на рускіх генэралаў – душыцеляў свабоды ў Беларусі й Летуве, на адпады ад групы Лукашэнкі, якія сталі гаварыць пра дэмакратыю за заходнія грошы і не зрабілі літаральна нічога дзеля гэтай дэмакратыі, волі і свабоды Беларусі.

Усё гэта беларусы маглі цярпець, але русіфікацыі з Захаду цярпець ніхто ня будзе. Палітыкі Эўразьвязу робяць вялікую памылку. Калі справа гэтак пойдзе далей у ігнараваньні беларускай мовы, то дэмакратычная Беларусь будзе вымушана прыняць кардынальныя рашэньні наогул аб мэтазгоднасьці інфармацыйнай дапамогі з Захаду.

Мы – Народны Фронт – палітычная арганізацыя, якая ў 90-х гадах без нічыёй дапамогі вярнула незалежнасьць і магчымасьці дэмакратыі ў Беларусі. Мы заяўляем пра наступствы з поўным веданьнем справы.

Руская мова ў Беларусі – гэта мова дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі, гэта сродак русіфікацыі і ўціску на Беларусі. Нам патрэбнае беларускае вяшчаньне.

Мы лічым (і маем ужо практычны вопыт), што найлепш, каб вяшчаньне на Беларусь на беларускай мове дапамаглі нам арганізаваць нашыя суседзі: Польшча, Украіна, Латвія, Летува. Мы маем зь імі разуменьне і добрыя кантакты, тым больш што Польшча і Летува маюць ужо практыку і тэхнічныя магчымасьці.

Мы спадзяемся, што Эўракамісія перагледзіць недасканалыя ўмовы тэндару і будзе арыентавацца на падтрымку вольнай Беларусі, якая змагаецца з прамаскоўскім акупацыйным дыктатарскім рэжымам Лукашэнкі і зь яго антыдэмакратычнай русіфікатарскай палітыкай.*

***Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*11 верасьня 2005 г. Менск.*

*Надрукавана: (Беларускі Час, – 2005, № 1 (65), верасень).*

# MRS. BENITA VALDNER HAS TO RESIGN

The leadership of the Belarusan Popular Front „Adradzennie" and the BPF Party call the attention to the unscrupulous position by the European Commissar for Foreign Relations and Neighborhood Policy Mrs. Benita Ferrero-Valdner.

The decision to organize the broadcasting to Belarus in the language of the occupants (i.e. in Russian language) witnesses the lack of respect with regard to the Belarusan people as a European nation as well as witnesses the lack of the obligation to hold to the positions accepted by the European Union in the policy.

The Belarusan people had restored the independence of Belarus in 1991 by democratic method. The Belarusan people had acknowledged the Belarusan language the unique state language of the Republic of Belarus. Two thirds of the Belarusan Parliament had voted this decision.

The same status of the state Belarusan language had been confirmed by the Belarusan Parliament in the new democratic Constitution of the Republic of Belarus adopted in 1994. Europe, the member states of the European Union had recognized this democratic Constitution and the independence of our country.

Then in 1996 the leader of the executive power in Belarus and the henchman of the Russian KGB A. Lukashenka had abrogated the Constitution of 1994 by undemocratic method, carried on an occupation coup d'etat and administered his constitution illegally. Lukashenka had formally introduced into the constitution of 1996 the Soviet „bilingual principle" which had become (like during the Soviet époque) the method of the prohibition of the Belarusan language and the russification in the Belarusan state.

Europe and the European Union didn't recognize the legality of Lukashenka's constitution. And what it is now? Mrs. Benita Valdner did recognize it (so that means) and try to carry on the russification policy of Lukashenka in the European Union. This is the European Commissar! This is a policy!

The conditions of the next tender on the broadcasting to Belarus have been formulated stubbornly by Mrs. Benita Valdner for the second time with the priority given to the „Deutsche Welle" (then to the BBC and to a French company). This decision has been taken although there are already technical possibilities and experience of the Belarusan broadcasting in Poland and Lithuania (but the companies of these countries have been not admitted to the participation in the tender).

There are standards in the state policy of financing. If a state functionary gives a priority (helps) to the big business of the mass-media and contradicts to the benefit of the project – this affair smells of the corruption (recently a similar episode has taken place in Poland – the so-called „affair of Mr. Rywin").

But the question of the tendentious financing of the tender is a question of the European Union. Let us come back to the russification. The Russian language in modern Belarus is the language of the occupation dictatorial Lukashenka regime. The russification is the essence of the antidemocratic regime in Belarus. The Russian Soviet communist occupants had shot hundreds of Belarusan writers for the Belarusan language, they have killed thousands of the Belarusans for our language. Now the regime does persecute the Belarusan young people for the Belarusan language. And the young people defend our language. Now young Belarusans must struggle also against the russification from the Occident.

Mrs. Benita Valdner evidently doesn't correspond to the level of her post in the European Union. It would be better to her to resign from this complicated post in order not to make problems in Eastern Europe.

***ZIANON PAZNIAK***

***Chairman of the Belarusan Popular Front „Adradzennie"***
***MP of the Supreme Soviet of Belarus of the 12th convocation***

*September 16, 2005. New York*

***(Пераклад на анг. В. Буйвала)***

* Гэты дакумант быў разасланы ў структуры Эўразьвязу. *–(Рэд.).*

# ЛІСТ Э-ПО

***А. Трусаву***

Паважаны Алег! Атрымаў э-по. Добрая заява. Мы перакладаем на 6-7 моваў і рассылаем такога роду дакументы ў амбасады, арганізацыі, інстанцыі і друкі. Прытым трэба слаць таксама факсам і звыклай поштай (эўрабюракратыя навучылася перашкаджаць у Сеціве).

Мы адсылаем таксама ў праўны і аўдытарскі суд Эўразьвязу, у Інвестбанк і Інвестфонд, у Эўрапейскі Цэнтральны банк і т.п. Бо гэтая іхняя справа зь вяшчаньнем увогуле дрэнна пахне. Яны івестуюць не ў справу, а ў заходні мэдыя-бізнэс + гнюсная палітыка (падтрымка русіфікацыі) + юрыдычная супярэчнасьць. Адрасы можна дастаць у Сеціве (гл.,напр.,http://europa.eu.int/geninfo/mailbox/inst_en.htm).

Тут агульная беларуская справа. Трэба спыніць нямецкую русіфікацыю. Гэтая змова супраць Беларусі (пад выглядам змаганьня за дэмакратыю) шыта белымі ніткамі. Я пра гэта кажу даўно, бо ведаю гэтых чэмбэрленаў. Плітыкаў цяпер на Захадзе няма, адна бюракратыя ды марнота.

***З павагай З. Пазьняк.***
*24.09.2005. НЁ.*

**KRISTĪGI DEMOKRĀTISKĀ SAVIENĪBA (KDS)**
**KDS AICINĀJUMS**

# PAR BALTKRIEVU VALODU EIROPAS KOMISIJAS FINANSĒTĀS RADIOPĀRRAIDĒS

Baltkrievijas Tautas frontes un uz tās pamata izveidotās Konservatīvi kristīgās partijas vadība ir informējusi KDS un citas Latvijas politiskās partijas un dažus plašsaziņas līdzekļus par baltkrievu valodas diskrimināciju, kas izpaužas Eiropas Komisijas finansētajās radiopārraidēs. Radiostacijas *„Deutsche Welle”* līdzšinējie Baltkrievijai adresētie raidījumi izskanējuši krievu valodā, un arī, Eiropas Komisijai izsludinot jaunu konkursu par šādu raidījumu organizēšanu, par šo raidījumu valodu paredzēta krievu valoda. Tas licis Baltkrievijas Tautas frontes priekšsēdētājam Zenonam Pozņakam *(Zianon Pazniak*) secināt, ka Eiropas Savienības vadība necienot baltkrievu tautu kā eiropeisku nāciju. Kaut arī šis sarūgtinājumā izteiktais apgalvojums varbūt ir sakāpināts, tomēr KDS uzskata, ka minētajā veidā Eiropas Komisija netieši, bet jūtami atbalsta Lukašenko valdības īstenoto rusifikācijas politiku Baltkrievijā.

**Kristīgi demokrātiskā savienība aicina** gan Eiropas Komisijas ārlietu komisāri Benitu Ferrero-Valdneri *(Waldner)*, gan arī Latvijas pārstāvjus Eiropas parlamentā un Eiropas Komisijā iestāties par to, lai Eiropas Komisijas finansētās radiopārraides uz Baltkrieviju notiktu baltkrievu valodā.

*Pieņemts KDS Domes sēdē*
*Rīgā, 2005. gada 8. oktobrī*
***KDS priekšsēdētājs***
***Andris Teikmanis***

*Пераклад:*

**ХРЫСЬЦІЯНСКА-ДЭМАКРАТЫЧНЫ САЮЗ (ЛАТВІЯ) АДОЗВА**

# АБ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ Ў РАДЫЁПРАГРАМАХ, ЯКІЯ ФІНАСУЮЦЦА ЭЎРАПЕЙСКАЙ КАМІСІЯЙ

Кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту і створаная на ягонай аснове Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя паінфармавалі ХДС ды іншыя палітычныя партыі Латвіі і шэраг сродкаў масавай інфармацыі пра дыскрымінацыю беларускай мовы, якую зьдзяйсьняе радыёвяшчаньне, што фінансуецца Эўракамісіяй. Перадачы радыёстанцыі „Нямецкая Хваля” дагэтуль прагучалі на расейскай мове, а Эўракамісія вырашыла абвясьціць новы конкурс на арганізацыю такога радыёвяшчаньня і зноў прадугледжвае арганізаваць іх на расейскай мове. Гэта прымусіла Старшыню Беларускага Народнага Фронту Зянона Пазьняка прыйсьці да высновы, што Эўракамісія не паважае беларускі народ як эўрапейскую нацыю. Хаця такое, зробленае ў стане ўстрывожанасьці, меркаваньне і можа быць надта моцным, але ХДС лічыць, што такім чынам Эўракамісія не супярэчыць, а адчувальна падтрымлівае русіфікатарскую палітыку, якую зьдзяйсьняе кіраўніцтва Лукашэнкі.

**Хрысьціянска-Дэмакратычны Саюз заклікае** як камісара па замежных справах Эўракамісіі Бэніту Фэрэра-Вальднэр, так і прадстаўнікоў Латвіі ў Эўрапейскім Парляманце і Эўракамісіі выступіць за тое, каб радыёперадачы на Беларусь, якія фінансуюцца Эўракамісіяй, адбываліся б на беларускай мове.

*Прынята на паседжаньні Рады ХДС*
*Рыга, 8 кастрычніка 2005 г.*
**Старшыня ХДС**
**Андрыс Тэйкманіс**
*(Пераклад з лат. В. Буйвала)*

# МЭМАРЫЯЛЬНАЕ ШЭСЬЦЕ І МІТЫНГ У ГОНАР ДЗЯДОЎ У МЕНСКУ

30 кастрычніка Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ правяла мэмарыяльныя шэсьце і мітынг у Менску. Каля тысячы ўдзельнікаў прайшлі пад нацыянальнымі Бел-Чырвона-Белымі сьцягамі і выявай Пагоні ў цэнтры сталіцы па праспэкце Скарыны ў бок Курапатаў. Людзі несьлі транспаранты „Ніякіх саюзаў з імпэрскай Расеяй”, „Ушануйма ахвяраў Курапатаў!”, „Не дапусьцім новых Курапатаў!” Мужчыны несьлі дзесяць вялікіх крыжоў. Група сябраў Партыі прывезла вялікі крыж з Пінска. Побач з былымі вязьнямі ГУЛАГУ ішлі маладыя юнакі і дзяўчаты, якія нарадзіліся ў 1988 годзе, калі адбылося першае змагарнае шэсьце на Дзяды і пачалася наша нацыянальна-вызваленчая рэвалюцыя. Беларуская моладзь, пакаленьне равесьнікаў рэвалюцыі разам з бацькамі і дзядамі – значыць, Жыве Беларусь! Убачыўшы шэсьце, людзі віталі ўдзельнікаў, на балконах высотных будынкаў луналі Бел-Чырвона-Белыя сьцягі. Псэўдаапазыцыя, якая сьцьвярджае на Захадзе, што „беларускі народ апанаваў страх...”, павінна была б убачыць гэтыя праявы Беларускай Салідарнасьці.

У Курапатах людзі спыніліся каля вялікага Крыжа Пакутаў і прасьпявалі гімн „Магутны Божа". Потым шэсьце прайшло на Кальварыю. Людзі запалілі сьвечкі і зьнічы, усклалі на магілы ахвяраў кветкі і вянкі. Быў заслуханы зварот сп. Зянона Пазьняка, Старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ – „Вялікія Дзяды". Потым выступілі сп. Юры Беленькі, выканаўца абавязкаў у Беларусі старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, сп. Сяргей Папкоў, намесьнік старшыні Фронту і Партыі, і сп. Алесь Чахольскі, адказны сакратар Управы Фронту і Партыі. Яны казалі пра памяць аб Дзядах, аб нашых продках, якіх мы ўшаноўваем у гэтыя дні.

Штогод мы прыходзім у Курапаты, каб пакланіцца памяці ахвяраў расейскага тэрору супраць беларускага народу. Расея не пакаялася за свае злачынствы, расейская імпэрыя працягвае антыбеларускую палітыку, спрабуючы зьнішчыць нашу незалежную дзяржаву і паняволіць наш народ. Цяпер антыбеларуская вайна вядзецца ня зброяй. У выніку разбурэньня беларускай эканомікі прамаскоўскім рэжымам мільён беларусаў мусяць шукаць працы ў Расеі, дзе іх абрабоўваюць, зьбіваюць і забіваюць. Жонкі праз месяцы знаходзяць сваіх загінуўшых мужоў у безыменных магілах у Маскоўшчыне. Гэтая вайна ўжо мае тысячы беларускіх ахвяраў.

Антынародны рэжым імкнецца зьнішчыць беларускую мову і культуру, сьцерці з твару зямлі Курапаты – сьлед расейскага злачынства на беларускай зямлі, – імкнецца вычварыць і разбурыць душу нашай моладзі. Велізарныя сродкі Крэмль кідае на правакацыі і злачынныя апэрацыі па ўсім сьвеце замест таго, каб рэалізаваць гуманітарныя праграмы і дапамагчы мільёнам расейскіх сіратаў, інвалідаў і беспрытульных. Рускі народ вымірае нябачанымі ў сучаснай Эўропе тэмпамі, ідзе татальная крыміналізацыя расейскага грамадзтва. І ў такую краіну ворагі Беларусі хочуць запхнуць наш народ?!

Памяць аб мільёнах беларускіх ахвяраў павінна натхняць нас на абарону Бацькаўшчыны. Ня будзе беларус змагацца за шалёную расейскую імпэрыю на Каўказе, ня будзе служыць прыгнятальнікам! Паводле прыроднага права, паводле нашай Канстытуцыі, мы будзем абараняць Беларусь, нашу мову, культуру, нашых дзяцей і ўнукаў ад расейскай агрэсіі, каб не паўтарыўся тэрор расейскага НКВД, каб не паўтарыліся Курапаты.

Псэўдаапазыцыя рэгулярна езьдзіць у Маскву, дзе раіцца зь лютымі ворагамі, як лепш, за Лукашэнку, „інтэграваць" Беларусь у Расею. Гэтая дзейнасьць падстаўной апазыцыі ёсьць фактам палітычнай калябарацыі. Нельга дапускаць да ўлады гэтых срэбралюбных людзей. На прэзыдэнцкіх выбарах у 2006 годзе наш народ павінен зрабіць свой сапраўдны выбар, усім нам трэба згуртавацца вакол лідэра беларускай нацыі – Зянона Пазьняка. Гэта ён адкрыў праўду пра Курапаты ўсяму сьвету. Пад ягоным кіраўніцтвам Беларусь вярнула сябе незалежнасьць у 1991 годзе. Пад уплывам Зянона Пазьняка беларусы цяпер адстойваюць сваю волю і вядуць змаганьне супраць расейскай агрэсіі і марыянэткавага рэжыму. Будучыня нашай Радзімы прыўкрасная ў сям'і эўрапейскіх цывілізаваных народаў, а не ў расейскім палоне.

Пасьля сканчэньня мітынгу людзі сьпявалі гімн „Магутны Божа" і ўсталёўвалі крыжы на магілах ахвяраў. Гэтак прадаўжаецца стварэньне Народнага Мэмарыялу ў Курапатах.

***Інфармацыйная камісія Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне"***
***і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ,***
***Валеры Буйвал.***

*30 кастрычніка 2005 г.*

# НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СТАНОВІШЧА*

***(Кароткі агляд)***

Становішча, у якім цяпер знаходзіцца Беларусь, нагадвае аддалена сытуацыю, якая склалася ў канцы XVIII стагоддзя, калі сумеснымі намаганьнямі трох імпэрыяў Беларусь і Рэч Паспалітая былі разарваныя паміж немцамі і Масквой.

Гэта было даўно. Гістарычная памяць у грамадзтве амаль зьнішчаная, і цяпер, калі сытуацыя стала паўтарацца, для большыні яна незразумелая. І ў гэтым бяда. Бо сьляпога біць лёгка. Тым часам фактам ёсьць тое, што на Беларусі зноў сутыкнуліся супольныя нямецка-расейскія інтарэсы. Пачатак гэтага сутыкненьня і ўзаемадзеяньня дакладна зафіксаваны – 1998 год, Місія АБСЭ пад кіраўніцтвам Ганса Віка.

Вынікам нямецка-рускага ўзаемадзеяньня было стварэньне ў Беларусі ненацыянальнай, неадраджэнскай і па сутнасьці прамаскоўскай апазыцыі рэжыму, цалкам кіруемай з Брусэля і Масквы. Двайны ўплыў, як і падвойная сэрвільнасьць „апазыцыі", вынікалі, відаць, са зьместу вядомай дамоўленасьці паміж Гансам Вікам і КГБ.

Сэнс гэтай палітычнай апэрацыі – адабраньне ад беларускага нацыянальна-вызвольнага Адраджэньня дамінуючай функцыі палітычнай альтэрнатывы рэжыму. За альтэрнатыву рэжыму была прапанаваная якраз падстаўная апазыцыя Віка. Гэты фальшывы вобраз падтрымліваецца з вялікадзяржаўнага Ўсходу і з лібэральнага Захаду. Створана такая сытуацыя, якая, у выпадку зьмены ўлады, выключала б нацыянальны шлях разьвіцьця Беларусі (бо „апазыцыя" ідэёва не нацыянальная).

Раскол Беларускага Народнага Фронту, стварэньне неадраджэнскай, ненацыянальнай апазыцыі, штучная падача і ўспрыманьне яе як дамінуючага накірунку ў змаганьні з рэжымам Лукашэнкі – ўсё гэта было стратэгічнай і прапагандысцкай перамогай Масквы і Брусэля (дакладней, Бэрліну) на полі беларускай палітыкі. Гэта мела і прадаўжае мець фатальныя наступствы для нацыянальнай будучыні Беларусі.

Нашая задача – задача нацыянальна-дэмакратычных сілаў Беларусі – ліквідаваць прамаскоўскі рэжым, вярнуць страчаныя пазыцыі і не дапусьціць наступнага захопу ўлады ў краіне прамаскоўскімі коламі.

Аналіз атакі на беларускае адраджэньне дазволіў вызначыць галоўныя прыярытэты ў змаганьні за нацыянальна-дэмакратычную будучыню Беларусі. Найперш патрэбная нацыянальная асьвета людзей, якая заклала б грунт нацыянальнай сьведамасьці грамадзтва. Без нацыянальнай асьветы электаральная перамога на выбарах ва ўмовах антыбеларускай дыктатуры, фальсіфікацыі і русіфікацыі, практычна, малаверагодная.

Другі прыярытэт, які вырашальны ў справе кансалідацыі, свабоды і дэмакратыі ў Беларусі, – гэта абарона і грамадзкае сцьвярджэньне беларускай мовы. Без станоўчага застасаваньня гэтай справы, без дзяржаўнага разьвіцьця беларускай мовы ня ўдасца нічога дзяржаўнага ажыцьцявіць. Можа быць страчаны нават суверэнітэт. Тут сытуацыя не „тэарэтычная", а рэальная – побач Расея з сваімі імпэрскімі прэтэнзіямі.

Нашыя канкрэтныя беларускія палітычныя дзеяньні разгортваюцца ва ўмовах напоўлегальнага існаваньня. Гэта, практычна, ёсьць умовы акупацыйнага становішча. Таму шмат якія важныя

* Выкарыстоўвалася як інфармацыйная ўлётка. – *(З.П.)*

пытаньні нацыянальна-дэмакратычнага змаганьня за вольную Беларусь публічна не абмяркоўваюцца. Гэта абцяжарвае наш рух. Але гэта ёсьць таксама і неабходнасьць для перамогі.

*5 лістапада 2005 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

## НАЗІРАЕЦЦА ПАВЕЛІЧЭНЬНЕ ВАРОЖАСЬЦІ

З першых дзён лістапада заўважна актывізавалася Масква, ейныя „спэцслужбы" і „гэбэ" супраць беларускага руху. Зь некаторых беларускіх форумаў у Сеціве (шмат якія зь іх кантралююцца КГБ) выключылі беларускіх удзельнікаў і зьнішчылі ўсе іхныя выказваньні. Ліквідавалі таксама станоўчыя і нэўтральныя выказваньні пра Фронт і маю асобу (пакінулі нэгатыўныя).

У Інтэрнэце на форумах „працуе", між іншым, цэлы гэбоўскі штат. Яны там „дыскутуюць" паміж сабой, нібыта „сварацца" і г.д. – абплёўваюць (інакш ня скажаш) усё беларускае. Яны там на працы. Такая ў іх „спэцыялізацыя".

Расейскае тэлебачаньне на замежжа (RTVI) з дня ў дзень „круціць" цяпер здохлую качку – паведамляе, што Цэнтрвыбаркам нібыта „адмовіў у рэгістрацыі Пазьняку" ў якасьці кандыдата і не дапусьціў да выбараў. Тым часам выбары ў Беларусі павінны пачацца ў 2006 годзе. Ні пра якіх „кандыдатаў" у Цэнтрвыбаркаме яшчэ гаворкі не вядзецца. І тым ня менш Масква ўжо дэзынфармуе сьвет, рыхтуецца такім чынам да выбараў у Беларусі.

Асобным разьдзелам у беларусафобаў значыцца абплёўваньне, фальсіфікацыя і перакручваньне гісторыі Беларускага Народнага Фронту і беларускага змаганьня за незалежнасьць. Тут яны стараюцца ўжо разам з „апазыцыяй", думаюць, відаць, што апазыцыйнай агентуры больш паверацць. Вось узорчык з так званай „Белорусской газеты": *„Ужо васемнаццаць гадоў Беларусь адзначае Дзень памінаньня продкаў Дзяды ў Курапатах то з „чаромухай", то з АМАПам. На першую такую акцыю, арганізаваную маладзёвымі аб'яднаньнямі „Талака" і „Тутэйшыя", некалі прышлі дзясяткі тысячаў людзей"*. Тут (у гэтым выказваньні) заведамае крудельства.

Аргкамітэт БНФ быў створаны 19 кастрычніка 1988 года. Першай заплянаванай вялікай акцыяй Фронту было правядзеньне Дзядоў. Ашалелыя ад няўдачы камуністы (ад таго, што ня здолелі перашкодзіць стварэньню БНФ) і слухаць не хацелі пра Фронт. Таму падачу заяўкі ў Гарвыканкам на правядзеньне Дзядоў Аргкамітэт Фронту прапанаваў моладзі з Тутэйшых і Талакі, сябры якіх былі ў Аргкамітэце БНФ. Фармальна Фронт быў нібыта збоку. (Дарэчы, такім мэтадам – падача заявак у Гарвыканкам ад афіляваных ці спадарожнікавых арганізацыяў альбо грамадзянаў – Фронт карыстаўся часта. На гэта былі прычыны.)

Камуністы ведалі, што 30 кастрычніка Фронт рыхтуецца адзначыць Дзяды, і заплянавалі вялікую правакацыю (вывелі ўнутраныя войскі, вадзяныя гарматы, спэцмашыны для захопу людзей і г.д.). Вынікам яе (як мы потым даведаліся) павінна было стацца „пусканьне крыві". Зьбіраліся зрабіць крывавае пабіццё людзей (як у Алма-Аты ў 1986 годзе), а адказнасьць за кроў і забойствы плянавалі зьвярнуць на „фашистов из БНФ". (Камуністы, і ўвогуле, расейцы, вельмі любяць усіх тых, хто ня зь імі ды за беларускую мову, называць „фашыстамі".)

Але плян масавага крывавага пабіцьця камуністам ажыцьцявіць не ўдалося. Мы разгадалі іхную злачынную задумку і паблыталі ім карты. 30 кастрычніка, не зважаючы на зьбіцьцё і атручваньне сьлезацечным газам, людзі скансалідаваліся супраць існуючага рэжыму і падтрымалі Фронт. Гэты дзень стаўся для Фронту ідэёвай і маральнай перамогай над камуністычным рэжымам.

І вось цяпер нашчадкі тых „дзеячоў" дробненька помсьцяць, па прынцыпу, як ва ўкраінскім анекдоце („ні з'ім, так покусаю").

У той час ужо і Талака, і Тутэйшыя, і Мартыралёг, і іншыя арганізацыі ішлі адзіным рухам з БНФ. Урэшце Фронт і паглынуў іх, практычна, цалкам, і гэта ўзмацніла БНФ, зрабіла зь яго сілу, якая вызначыла лёс Беларусі.

*7 лістапада 2005 г.*

***Зянон Пазьняк***

## СЛУЦКІ ЗБРОЙНЫ ЧЫН – НАШ ГЕРАІЧНЫ ПРЫКЛАД

…85 гадоў таму нашы народныя змагары ўзьняліся на абарону Беларусі ад маскоўска-бальшавіцкай мільённай арды. Тады ў народзе жыў дух змаганьня за волю, свабоду і Беларусь. І ніхто не лічыў сілы ворага, не рахаваў сабе ў розуме – варта змагацца ці не. Ішлі і змагаліся. Ішлі нават бяз зброі, з голымі рукамі. Тады ніхто не баяўся вайны за Радзіму. І маці высылалі сваіх сыноў абараняць Бацькаўшчыну, бо трэба было ваяваць за Беларусь.

Вось гэтаму – сьмеласьці і змагарнасьці тых людзей – могуць павучыцца цяпер ўсе беларусы. Толькі пры гэтай умове можна абараніць Бацькаўшчыну. Толькі такія людзі здабываюць будучыню і свабоду. Два Беларускія палкі змагаліся супраць расейскіх дывізіяў, ды так, што аж пер'е ляцела з бальшавікоў.

Тады расейцы яшчэ больш павялічылі свае сілы і кінулі на фронт дывізіі з людзей азіяцкага паходжаньня з жоўтай скурай. Перад гэтай цьмой, ня маючы дастаткокова зброі, каб перастраляць ворага, беларускія палкі адышлі за рэчку Лань, захаваўшы асноўныя свае сілы.

Потым слуцкія змагары далей ўдзельнічалі ў беларускім змаганьні XX стагоддзя. Гэта было вельмі няроўнае змаганьне. Вораг быў і з усходу, і з захаду. Але, як бы там ні было, у XX-м стагоддзі мы вярнулі незалежнасьць Беларусі.

Цяпер зноў ужо знутры напаўзае на нашу свабоду маскоўскі гэбізм. Толькі нічога не атрымаецца ў гэтых крамлёўскіх вычварэнцаў. Пройдзе няшмат часу, і гэтая старая ардынская імпэрыя разваліцца канчаткова, захлынецца ва ўласнай імпэрскай мярзоце.

Аднак вечна будзе жыць Беларусь, йшчэ адродзіцца нашае слаўнае Вялікае Княства Літоўскае, затрапеча на ветры наш Беларускі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, і па ўсёй нашай вольнай зямлі загучыць наша моцнае беларускае слова. (…)

*26 лістапада 2005 года*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць", www.bielarus.net)*

# АБ РАСКОЛЕ АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ заяўляе пра сваю маральна-палітычную падтрымку беларускай літаратуры і Саюзу Беларускіх пісьменьнікаў, што падвяргаюцца перасьледу з боку існуючай улады. Сойм зьвяртае ўвагу на планамернасьць антыбеларускай палітыкі прамаскоўскага рэжыму, накіраваную на разбурэньне беларускіх арганізацыяў і нацыянальна-культурнага жыцьця народа.

Тыповым мэтадам такога разбурэньня зьяўляецца інсьпірацыя расколу арганізацыі і стварэньне падстаўнога альтэрнатыўнага яе аналагу, арыентаванага на падтрымку антыбеларускага рэжыму. Адзначаем, што рэжым у сваёй разбуральнай працы не хавае русіфікацыйнага зьместу сваёй палітыкі, не спыняецца перад выкарыстаньнем адміністрацыйнай улады, рэпрэсіямі, правакацыямі і абсурдам (кіраўніком новастворанага прарэжымнага саюзу пісьменьнікаў Беларусі прызначаны сэнатар генэрал Чаргінец, які заявіў, што „ніколі не лічыў сябе беларусам”).

Сойм заклікае беларускіх пісьменьнікаў, арганізацыю якіх перасьледуюць і хочуць забараніць, не паддавацца націску і тварыць дзеля Бацькаўшчыны-Беларусі, свабоды, дабра і справядлівасьці, бо нішто ня можа затаптаць вялікую літаратуру, якая жыве народным духам.

Сойм заклікае грамадзкасьць Беларусі абараняць нацыянальную літаратуру і падтрымаць беларускіх пісьменьнікаў

***Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***
***і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*11 сьнежня 2005 г.*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2005/2006, № 1(55).*

# АБ ПАГРОЗЕ СУВЕРЭНІТЭТУ БЕЛАРУСІ З БОКУ РАСЕІ

Пуцінская ўлада выкарыстоўвае статус Расеі – краіны прадаўца энэргетычных рэсурсаў (нафты і газу) для палітычнага ціску на Беларусь з мэтай стварэньня эканамічнага крызісу і ліквідацыі суверэнітэту Беларускай дзяржавы. Пра гэта расейскае кіраўніцтва, палітычныя прадстаўнікі і нават рускі амбасадар у Беларусі А.Суркоў гавораць груба, наўпрост, не хаваючы намераў анэксіі нашай краіны, якую яны плянуюць ажыцьцявіць шляхам незаконнага рэфэрэндуму аб так званым „канстытуцыйным акце” і пад выглядам наступнага нібыта „аб’яднаньня дзяржаваў”.

Гэтая грубая і агрэсіўная палітыка эканамічнага шантажу і душэньня Беларусі, разьвязаная расейскім кіраўніцтвам, наўпрост супярэчыць трэцяму пункту Будапэшцкага Мэмарандуму 1994 года аб гарантыях бясьпекі Беларусі, прынятага Злучанымі Штатамі Амэрыкі, Вялікабрытаніяй і Расеяй, падпісанага Беларусяй у знак згоды на адмаўленьне ад ядзернай зброі.

Пункт 3 запісаны так:

„ЗША, РФ, Злучанае Каралеўства пацьвярджаюць іхныя абавязацельствы да Рэспублікі Беларусь, у адпаведнасьці з Прынцыпамі Заключнага Акту АБСЭ, не прыбягаць да эканамічнага ціску з мэтай падпарадкаваць сваім інтарэсам выкарыстаньне Рэспублікай Беларусь яе правоў, неад’емных ад яе суверэнітэту, а таксама не забясьпечваць сабе перавагі якога кольвечы кшталту.”

Пагроза суверэнітэту Беларусі з боку Расеі вымагае прывядзеньня ў дзеяньне п.6 згаданага Мэмарандуму. Мы настойваем на выкананьні гэтага пункту і правядзеньня кансультацыяў трох краінаў (ЗША, Вялікабрытаніі, Расеі) аб парушэньні Расеяй прынятых забавязацельстваў і аб пагрозе дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Гэты ліст падпісаны прадстаўнікамі беларускай эліты, перадаецца прэзыдэнту Д. Бушу, прэм’ер-міністру Т. Блэру, прэзыдэнту У. уціну дзеля прыняцьця рашэньняў і дзеяньняў у абарону Беларусі.

***Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ:***
***Зянон Пазьняк, старшыня,***
***Юры Беленькі, намесьнік старшыні,***
***Сяргей Папкоў, намесьнік старшыні***

*18 сьнежня 2005 г.*

# 2006




***152-Д. Курапаты-2006. Шэсьце на Дзяды***

## ЗАКАНАДАЎЧАЕ АБГРУНТАВАНЬНЕ НАРОДНАГА ГАЛАСАВАНЬНЯ

У Канстытуцыі 1994 года Вярхоўны Савет 12-га скліканьня заклаў нормы права, якія дазвалялі непасрэдна народу і галінам улады, якія выбірае народ, выпраўляць сытуацыю ў выпадку дэфармацыі, збачэньня любой галіны ўлады ад агульнанацыянальных інтарэсаў.

Былі закладзеныя нормы выбарчага права, у якім замацаваныя правы свабоднага волевыяўленьня выбаршчыкаў і забарона кантролю за волевыяўленьнем выбаршчыкаў, а таксама непадкантрольнасьць Цэнтрвыбаркаму і іншых выбарчых камісіяў структурам улады. Закладзены пяцігадовы тэрмін дзейнасьці Вярхоўнага Савету. Абмежавана 2-ма тэрмінамі (адзін тэрмін – 5 гадоў) дзейнасьць адной асобы на пасадзе Прэзыдэнта. Уведзены стрыманьні і супроцьвагі заканадаўчай і выканаўчай галінаў улады. Замацавана незалежнасьць судовай улады.

Лукашэнка трыма незаконнымі рэфэрэндумамі (травень 1995 г., лістапад 1996 г. і кастрычнік 2004 г.) парушыў усе дэмакратычныя нормы Канстытуцыі. Усе галіны ўлады, Цэнтрвыбаркам і структуры выбарчых камісіяў ператвораны, фактычна, у аддзелы лукашэнкаўскай адміністрацыі.

У Канстытуцыі застаўся непарушным артыкул 3: *„Адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь зьяўляецца народ.* ***Народ ажыцьцяўляе сваю ўладу непасрэдна****, праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй.*

*Любыя дзеяньні па зьмяненьні канстытуцыйнага ладу і дасягненьні дзяржаўнай улады гвалтоўнымі мэтадамі, а таксама шляхам іншага парушэньня законаў Рэспублікі Беларусь караюцца згодна з законам.”*

**Ідэя арт. 3-га Канстытуцыі палягае на непасрэдным (прамым) праве народа абараніць свае інтарэсы ў выпадку збачэнства ўлады. З гэтага натуральнага права, замацаванага арт. 3-м Канстытуцыі, і выцякае права народа на Народнае галасаваньне 19 сакавіка 2006 года.** У Кантытуцыі захаваліся нормы права не-

пасрэднага дзеяньня, якія забясьпечваюць свабоднае волевыяўленьне выбаршчыкаў падчас галасаваньня. Гэтыя нормы замацаваныя артыкуламі 65 і 68 Канстытуцыі.

*„Артыкул 65. Выбары зьяўляюцца свабоднымі: выбаршчык асабіста вырашае, ці ўдзельнічаць яму ў выбарах і за каго галасаваць.*

*Падрыхтоўка і правядзеньне выбараў праводзіцца адкрыта і галосна.”*

*„Артыкул 68. Галасаваньне на выбарах зьяўляецца тайным: кантроль за волевыяўленьнем выбаршчыкаў у ходзе галасаваньня забараняецца.”* Гэтыя прававыя нормы паўтораны ў Выбарчым кодэксе, арт. 5 і арт. 9.

Трэба ўлічыць таксама, што выбары ў адпаведнасьці з артыкулам 70 Канстытуцыі праводзяцца за агульнанародныя сродкі (за кошт выдаткаў з дзяржаўнага бюджэту). Гэта справа ўсяго народа.

Такім чынам дзеяньні выбаршчыка па працэдуры Народнага галасаваньня, калі ён забірае бюлетэнь рэжыму (каб потым передаць прадстаўніку НГК), а ў выбарчую скрыню кідае свой, заранёў падрыхтаваны Народны бюлетэнь, ёсьць законныя дзеяньні.

Любыя спробы кантраляваць або перашкаджаць выбаршчыку праявіць сваю свабодную волю падчас галасаваньня ёсьць незаконныя і падлягаюць пакараньню ў адпаведнасьці з артыкуламі Крымінальнага кодэксу:*

*– 191. Перашкода зьдзяйсьненьню выбарчых правоў або працы выбарчых камісіяў.*

*– 192. Парушэньне заканадаўства аб выбарах, рэфэрэндуме.*

*– 185. Прымус.*

**Заклікаем ўсіх грамадзянаў у поўнай меры выкарыстаць сваё законнае права на абарону сваіх і агульнанацыянальных інтарэсаў.** 19 сакавіка 2006 г. трэба прыйсьці на выбарчыя ўчасткі, атрымаць афіцыйны бюлетэнь рэжыму, расьпісацца ў сьпісе выбаршчыкаў, зайсьці ў кабіну для галасаваньня, пакласьці афіцыйны бюлетэнь у кішэню, а ў скрыню для галасаваньня ўкінуць свой Народны бюлетэнь з прозьвішчам свайго кандыдата альбо проста чысты ліст.

Падкрэсьліваем, што галасаваньне тайнае. Ніхто ня мае права ўмешвацца ў працэс галасаваньня, рабіць парады, ці кантраляваць, як людзі галасуюць, ці патрабаваць паказаць бюлетэнь, тым больш – пагражаць. Афіцыйны бюлетэнь пасьля таго, як яго атрымаў выбаршчык, зьяўляецца ягонай уласнасьцю і матэрыяльным сьведчаньнем ягонага права на тайнае галасаваньне, якім ён распараджаецца так, як лічыць патрэбным.

Афіцыйны бюлетэнь пасьля выбараў (пасьля галасаваньня) трэба перадаць прадстаўнікам Нацыянальнай Грамадзкай Камісіі (НГК).

Толькі такія рашучыя дзеяньні (а не падыгрываньне на псэўдавыбарах Казуліну ці Мілінкевічу, ды заклікі да байкоту) не дазволяць рэжыму скрасьці голас выбаршчыка, зламаюць лукашэнкаву супэрмашыну фальсіфікацыяў, выкінуць Лукашэнку з выбарчага працэсу і спыняць маскоўскія пляны па захопу Беларусі, дадуць магчымасьць правесьці новыя дэмакратычныя выбары без Лукашэнкі.

*3 лютага 2006 г.*

***Каардынацыйны ворган НГК***

* У час галасаваньня на выбарчых участках члены ўчастковых камісіяў, міліцыя і агенты КГБ нападалі на ўдзельнікаў народнага галасаваньня, валілі на падлогу, адбіралі бюлетэні, зьбівалі, білі нагамі. Якія там „законы” пад чужой уладай, пад акупацыйнай палітыкай! – *(З. П.).*

# КАФЭРЭНЦЫЯ Ў СЕЦІВЕ, РАДЫЁ СВАБОДА.

***Карэспандэнт:* – Вы на прэзыдэнцкіх выбарах заявілі пра неабходнасць вяртаньня Пазьняка. Чаму? Гэта была Ваша асабістая ідэя, ці вы ў КХП БНФ?**

***Валер Дранчук:*** – Гэта было выказана ня так у кантэксьце выбараў, як пасьля іх, менавіта на плошчы Каліноўскага, падчас мірнага супраціву моладзі. Гэта была думка, меркаваньне, што такія людзі, як Пазьняк, абавязкова павінны вяртацца на Радзіму. Раней ці пазьней. Плошча Каліноўскага ня можа паўстаць без Пазьняка.



*155-Д. З фронтаўцамі ў Гомелі. 1994 г.*

Але хачу падкрэсьліць, што вяртаньне Зянона Пазьняка – гэта не ягоны клопат, а найперш наш – клопат беларускага грамадзтва, нашай грамадзянскай супольнасьці, у пэўнай меры і эўрапейскай супольнасьці.

Быў час, калі зь Беларусі зьехаў Алесь Адамовіч. Я дагэтуль адчуваю асабісты боль ягонай адсутнасьці, менавіта той адсутнасьці, калі ён быў яшчэ жывым. Пасьля эміграваў Пазьняк. На некалькі гадоў пакінуў Радзіму Васіль Быкаў. Ні Адамовіча, ні Быкава ўжо няма. Нізкі паклон ім. А Пазьняк нам патрэбны. Гэта наш ГІСТАРЫЧНЫ ШАНЕЦ – вярнуць яго на Бацькаўшчыну.

Гэта мусіць быць шырокая палітычная акцыя, міжнародны рух, абавязкова з забесьпячэньнем адпаведных эўрапейскіх гарантый – што вяртаньне не пацягне за сабой пакутаў асобы, ягоны перасьлед з боку беларускай карнай машыны. Яшчэ раз хацеў бы падкрэсьліць, што гэта павінна быць шырокая палітычная акцыя, магчыма нават міжнародная, улічваючы абставіны, з-за якіх Зянон Станіслававіч пакінуў Беларусь.

У свой час, гэта ўжо больш як 10 гадоў таму, я надрукаваў артыкул пад загалоўкам: „Лепш Пазьняк, чым ніколі”. Гэтыя словы, мяркую, застаюцца актуальнымі і цяпер.

Пытаеце пра маё сяброўства ў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Я не зьяўляюся сябрам, я беспартыйны.

***Валер Дранчук***

*12 Ліпеня 2006 г.*

# ДАКУМАНТЫ ЧЭРВЕНЬСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

### *АБ ПАЛІТЫЧНАЙ АГРЭСІІ РАСЕІ (Зварот да кіраўнікоў вялікіх дзяржаваў)*

Дзяржаўныя ўстановы, афіцыйныя кіраўнікі і палітыкі Расеі адкрыта заяўляюць аб агрэсіўных плянах ліквідацыі незалежнасьці Беларусі і інкарпарацыі тэрыторыі нашай дзяржавы ў Расею. Такія заявы ёсьць грубым парушэньнем Гэльсінскіх пагадненьняў і міжнароднага права і сталі магчымыя ў выніку сумесных дзеяньняў Расеі і рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі. Расея настойвае на правядзеньні незаконнага рэфэрэндуму ў Беларусі аб так званым „канстытуцыйным акце" незаконнай (і ўмоўнай) „саюзнай дзяржавы" Беларусі і Расеі, прыдуманай 8-га сьнежня 1999 года за плячыма народаў Ельцынам і Лукашэнкам.

Цераз антызаконнае прыняцьце так званага „канстытуцыйнага акту" Расея плянуе ліквідаваць беларускую грашовую сістэму, увесьці расейскі рубель на Беларусі і зьнішчыць дзяржаўны суверэнітэт нашай краіны.

Мы нагадваем, што згодна Будапэшцкага Мэмарандуму 1994 года ЗША і Вялікабрытанія абавязаліся быць гарантамі суверэнітэту Беларусі, пасьля адмовы нашай краіны ад ядзернай зброі. Бязьядзернасьць Беларусі ініц'явала і падтрымлівала Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту ў парляманце Беларусі на чале з Зянонам Пазьняком.

Цяпер незалежнасьць Беларусі пад пагрозай з боку Расеі.

Сойм Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ зьвяртаецца да кіраўнікоў усіх вялікіх дзяржаваў „G-8" з просьбай не прыяжджаць у Санкт-Пецярбург на саміт G-8 пакуль расейскае кіраўніцтва не адмовіцца ад агрэсіўнай палітыкі супраць незалежнасьці Беларусі і ад патрабаваньняў правядзеньня незаконнага рэфэрэндуму ў нашай краіне.

***Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ***

*18 чэрвеня 2006 г. Менск*

***156-Д. („Беларускія Ведамасьці")***

# НЕ ГАЛАСАВАЦЬ ДЛЯ ДЫКТАТУРЫ, А ЯДНАЦЦА ЗА БЕЛАРУСЬ

***(Заява)***

Пасьля незаконных выбараў прэзыдэнта ў сакавіку гэтага года антыбеларуская палітыка рэжыму Лукашэнкі стала набіраць што раз больш адкрытыя і акупацыйныя формы. Галоўныя яе рысы: перасьлед беларускай моладзі, судовыя расправы, ліквідацыя беларускіх установаў і арганізацыяў культуры і агулам – выкананьне маскоўскіх установак па зьнішчэньні нацыянальнай грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі.

Прысьпешваньне разбуральных працэсаў выклікана надыходзячым крызісам улады ў Расеі і ў цэлым яе агрэсіўнай палітыкай, накіраванай на падпарадкаваньне і інкарпарацыю Беларусі ў Расею. Галоўным інструмэнтам такой палітыкі на цяперашнім этапе Расея лічыць увядзеньне на Беларусь расейскага рубля і прыняцьце так званага „канстытуцыйнага акту" на чарговым рэфэрэндуме, які дазволіў бы зьмяніць існуючую канстытуцыю і стварыць фармальна-прававыя магчымасьці для інкарпарацыі.

Існуе небясьпека, што Масква і антыбеларускія сілы ў Беларусі выкарыстаюць бліжэйшыя выбары ў мясцовыя саветы для правядзеньня інкарпарацыйнага рэфэрэндуму аб „канстытуцыйным акце".

Беларускі і сусьветны досьвед неаднаразова пацьвердзіў, што пад акупацыйным рэжымам і дыктатурай ня можа быць справядлівых

выбараў, бо вышэйшым крытэрам такіх выбараў ёсьць не закон і ня права, а некантраляваная народам злая воля палітычнае ўлады. Удзельнічаць у такіх выбарах нельга.

Сярод поўнага бяспраўя, цынізму, стаўкі на рэпрэсіі, на сілу і хлусьню ў народа, аднак, застаецца эфектыўная магчымасьць рэалізаваць свае адносіны да рэжыму – не хадзіць на ягоныя выбары. Няхай рэжым гуляе сам з сабой і абвяшчае пра 83 адсоткі сваёй „перамогі". Фальшаваньні рэжыму абапіраюцца на выбаршчыкаў, што ўдзельнічаюць у галасаваньні. Таму трэба пазбавіць рэжым магчымасьці прыкрывацца народам у сваёй хлусьні. Няхай ашуканства стане ўсім наглядна відаць. Супраціў і непрыняцьце рэжыму ў форме няўдзелу ў яго „выбарах" прысьпешыць канец дыктатуры і нацыянальную кансалідацыю беларускага грамадзтва.

Практыка паказала, што людзі, якія ў беларускіх абставінах заклікалі пад выглядам агітацыі ісьці галасаваць па правілах рэжымнай машыны ўлады, ў рэальнасьці спрыялі рэжыму ў дасягненьні патрэбных яму вынікаў.

2001, 2004, 2006 гады наглядна паказалі, што нельга больш удзельнічаць у выбарах пры антыбеларускім, антыпраўным рэжыме. Гэта ніякія ня выбары. Няма выбараў пад дыктатурай. Удзел людзей у галасаваньні рэжым скарыстоўвае ў сваіх інтарэсах.

Неабходна рыхтавацца да грамадзянскага змаганьня. У дзень галасаваньня трэба ісьці не на выбарчыя ўчасткі галасаваць, а на вуліцы і плошчы, яднацца ў пратэстах і дзеяньнях. Тады выявяцца і будуць сапраўдныя беларускія змагары і сапраўдныя беларускія арганізатары.

***Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і***
***Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне".***
*13 жніўня 2006 г., г. Менск*

# АБ СУПРОЦЬДЗЕЯНЬНІ РАЗБУРАЛЬНАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ НА БЕЛАРУСІ РУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ФАШЫЗМУ

***(Заява)***

Расейская палітыка і расейскае грамадзтва ўсё больш набываюць рысы фашызму тыповага нямецкага ўзору 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Кілерскі і міжнародны тэрарызм, забойствы палітыкаў і журналістаў, этнічныя чысткі, расьпярэзаная ксэнафобія і правакацыі, цэнтралізацыя бяспраўя і карупцыі, стварэньне прафашысцкіх групаў і арганізацыяў, пэрманэнтны крымінал, рост агрэсіі і шавіністычных настрояў у палітыцы і штодзённым жыцьці – ўсё гэта характарызуе цяперашняе рускае грамадзтва і палітыку, сьведчыць аб эвалюцыі расейскага гэбізму ў агрэсіўную форму нацысцкай дзяржавы. Сімптаматычна, што з фашызмам у Расеі ніхто сур'ёзна не змагаецца, разумеючы, што яго пакрывае ўлада.

Рускі фашызм і рускі імпэрыялізм уяўляюць непасрэдную небясьпеку для Беларусі з прычыны адчыненасьці межаў і антыбеларускай палітыкі прамаскоўскага рэжыму Лукашэнкі. У існуючых абставінах палітыка русіфікацыі, якая інсьпіруецца з Масквы, зьяўляецца тыповай праявай фашысцкай палітыкі, якая карэлюецца з рускім вялікадзяржаўным шавінізмам.

***Беларускае грамадзтва мусіць супроцьдзеяць гэтай палітыцы, перш за ўсё, шляхам пашаны і абароны сваёй беларускай мовы. Беларуская мова ёсьць для беларусаў у гэтых абставінах галоўным чыньнікам культуры і галоўным натуральным гарантам незалежнасьці Беларусі.***

Сойм прапануе Ўправе і Паліткамітэту пры Сойме БНФ падрыхтаваць шэраг тэкстаў і прапановаў па абароне беларускай мовы і па супрацьдзеяньню русіфікацыі шляхам культурнамоўнай кансалідацыі беларускага гнрамадзтва.

***Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***
***і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***
*10 сьнежня 2006 г., г. Менск*

# АБ ВЫДАЛЕНЬНІ АМБАСАДАРА РАСЕІ З ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ.

Амбасадар Расеі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў (Суриков) выступіў з падбухторшчыцкімі заявамі аб правядзеньні незаконнага анэксійнага рэфэрэндуму ў Беларусі аб так званым „канстытуцыйным акце" і аб ліквідацыі суверэнітэту нашай краіны шляхам маніпуляцыяў аб'яднаньня з Расеяй. Ён сказаў (газэта „Белгазета", 11 сьнежня 2006 г., http://www.belgazeta.by.):

„Конституционный акт, практически, готов, и от белорусских властей требуется лишь политическое решение для организации референдума. «Москва готова» к такому политическому шагу... Сомневаться в результатах голосования уже сегодня не приходится. Простые люди искренне тоскуют по СССР, и лишь национальная элита против «воссоединения славян».

(Выказваньні зьмешчаныя таксама ў рускай газэце „Время новостей", www.vremya.ru, 7.12.2006 г.).

Такім чынам, амбасадар замежнай краіны перакрочыў свой статус і загаварыў мовай антыбеларускай агентуры і прапаганды. Акрамя таго апэляцыя замежнага амбасадара да выбраных групаў беларускага насельніцтва і адначасная нэгатыўная трактоўка беларускай эліты ёсьць умяшальніцтвам ва ўнутраныя справы Беларусі, імкненьнем выклікаць раздор у грамадзтве.

За выказваньні і прапаганду супраць суверэнітэту Беларусі гэты амбасадар (згодна міжнародных правілаў) павінен неадкладна пакінуць межы нашай краіны. Сумняваемся, што высылкі расейскага амбасадара зь Беларусі запатрабуе існуючая тут цяпер прамаскоўская ўлада, але гэтае патрабаваньне ўжо паставіла беларускае грамадзтва. Амбасадар Расеі А.Сурыкаў мусіць выехаць і пакінуць тэрыторыю Беларусі.

***Кіраўніцтва***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***
*17 сьнежня 2006 г.*

# ПАЗНЯК ОБОГНАЛ МИЛИНКЕВИЧА И КОЗУЛИНА

Сенсационные результаты принес декабрьский опрос лидеров общественного мнения и экспертов, проведенный независимыми

социологами. В рейтинге политиков уверенно лидирует председатель КХП-БНФ Зенон Позняк.

Как сообщает www.iiseps.org, при ответе на вопрос: «Назовите, пожалуйста, имена белорусских политиков и общественных деятелей национального уровня, которые в наибольшей степени выражают Ваши интересы?» первую строчку занял Зенон Позняк. Его кандидатуру отметили 20% работников негосударственного и 10% – государственного секторов (вместе – 15%).

На втором месте оказался экс-кандидат в президенты Александр Милинкевич (12%). А еще один недавний претендент на президентский пост Александр Козулин с 5% занял лишь пятую строчку в рейтинге выразителей интересов белорусской элиты.

Социологи считают, что лидерство Позняка во многом обусловлено протестом против неэффективности оппозиционных политиков, действующих в Беларуси. На основании результатов опроса они делают вывод, что кризисная ситуация, сложившаяся после поражения на мартовских президентских выборах, белорусской элитой сегодня еще не преодолена.

*21 сьнежня 2006, „Салідарнасьць" (Сеціва).*

***Игорь Потапчук***

# ВІК КРУЦІЦЦА

У блатным расейскім шлягеры ёсьць выразны рэфрэн: „Не долго музыка играла, не долго фраер танцевал..." А мы думалі, чаму гэта раптам незабыўны Ганс Вік раптам выступіў нядаўна з гняўлівым заклікам перастаць спадзявацца на дэмакратыю ў Расеі і больш не заклікаць РФ быць дэмакратызатарам Беларусі. „Гэта была памылковая палітыка!" – шумнуў аўстрыйскай газэце „Die Presse" беларусазнаўца Вік. Толькі „забыўся" германскі шпіён (а па сумяшчальніцтву дзеяч АБСЭ) згадаць, што гэта была таксама й ягоная – Ганса Віка – палітыка, за якую Беларускі Вызвольны Рух на ўвесь сьвет абвесьціў Віка пэрсонай нон грата. Чаму раптам стаў „калоцца" мацёры ліс выведкі? Такое зь ім здаралася й раней. Успомнім, як ён прызнаўся, што ўзгадняў (і завяраў подпісам старшыні КГБ) усе пляны АБСЭ па „дэмакратызацыі" Беларусі, што „галоўнай задачай ягонай дзейнасьці як прадстаўніка АБСЭ было ўключэньне Беларусі ў дэмакратычную Расею".

І тады і цяпер Вік (і тыя, хто стаіць за ім) пранюхваў пра набліжэньне крызісу і правалу гэтай палітыкі і рабіў папярэджальны крок – прызнаваўся сам, каб на супрацоўніцтве з КГБ яго не злавілі іншыя. Так і цяпер ён адчуў правал шродэрскай прамаскоўскай палітыкі, правал самаго архікамбінатара Шродэра і пасьпяшаўся адхрысьціцца ад свайго шэфа і ягонай палітыкі (так рабілі ў свой час і Гімлер, і Канарыс і шэраг іншых партайгэносэ).

Дык вось, з 11 сьнежня ў нямецкім палітычным сьвеце загучалі цікавыя маналогі. Генсек партыі Свабодных дэмакратаў Дзірк Нібэль заявіў наконт прызначэньня Шродэра на пост старшыні савета акцыянераў будаўніцтва расейска-нямецкага газаправоду: „Гэта моцна тхне карупцыяй. Кожны павінен спытаць, ці ня церпяць нямецкія інтарэсы дзеля прыватнай выгады?" Яго падтрымаў лідар Партыі „зялёных" Рыхард Бюцікофэр. Дэпутаты Бундэстага пачалі разьбірацца, з чаго гэта Шродэр зрабіў такую галавакружную расейскую кар'еру? А брытанская газэта „Daily Telegraph" надрукавала сэнсацыйныя матар'ялы. Аказваецца дырэктар Паўночна-эўрапейскага газаправоду (таго самага, што пачалі будаваць у Валагодзкай вобласьці) немец Маціяс Варнінг зьяўляецца былым агентам Штазі і „працаваў у шчыльным супрацоўніцтве з будучым расейскім прэзыдэнтам Пуціным па лініі КГБ у Бэрліне". Такія вось „друзья юности", такая вось гэбоўская кампанія будзе пускаць газ ў Эўропу. Дэпутаты Бундэстага падлічылі, што Шродэр на цёплым дырэктарскім газаправодным месцы будзе атрымліваць штогадовы заробак-дывідэнд у памеры 1,5 мільёнаў эўра (!). „І гэта за тое, – шумяць дэпутаты, – што ён цалкам атруціў нашы адносіны з Польшчай!" Цікавы вэрхал пачынаецца на берагах Рэйна і Шпрэе.

***Янка Базыль***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2005/2006, №1(55)*

# ЧЫМ АБЯРНУЛАСЯ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ „ЛЮБОЎ" ЛУКАШЭНКІ ДА РАСЕІ

Больш за 12 гадоў Лукашэнка цягнуў Беларусь у Расею (у пашчу гэтага імпэрскага драпежніка). Карміў абяцанкамі пра райскае жыцьцё ў „саюзнай дзяржаве". А сам меў спадзеўку, што калі прадасьць маскоўскім мафіёзі Беларусь і беларусаў, то яму дазволяць заняць крамлёўскі трон. Не атрымалася.

У канцы мінулага году маскоўскі гэбізм выставіў ультыматум Лукашэнку і яго рэжыму. Альбо здавай Беларусь дабраахвотна праз рэфэрэндум аб „канстытуцыйным акце", альбо прымусім здаць пад ціскам эканамічнай вайны.

Лукашэнкава „любоў" да ўсяго „русского" стала вынікам злачыннай палітыкі гандлю беларускімі інтарэсамі і прывяла да нафта-газавай атакі. Гульня лукашэнкаўскага рэжыму ў „саюзную дзяржаву" і расейская эканамічная вайна лягла цяжарам на плечы беларусаў. Вось вынікі гэтай злачыннай „гульні":

1. Бясплатна здаў беларускае войска пад кіраўніцтва Масквы. Нашу тэрыторыю, нашых афіцэраў і салдатаў зрабіў шчытом Масквы. За нашы сродкі Расея зьбіраецца разьмясьціць свае ракеты (С-300) на нашай мяжы з Польшчай. Аддаў бясплатна землі і рэсурсы пад расейскія ваенныя аб'екты. У выніку мы без нашай волі сталі прыдаткам агрэсіўнай расейскай ваеннай машыны. Як цынічна заявіў Лукашэнка: „…мы умирать здесь будем за Россию, и наш народ к этому должен быть готов."

2. Зьняважыў, загнаў у цёмны кут нашу родную беларускую мову. Усюды адкрыў дзьверы для панаваньня „русского языка". Надаў „роўныя правы" расейцам. У выніку мы бачым , што на ключавыя дзяржаўныя пасады зьнізу да верху пралезлі людзі з чужой для беларусаў псіхалогіяй, звычкамі і інтарэсамі. Гэтыя людзі ганьбяць усё наша беларускае і працуюць у інтарэсах агрэсіўнай Расеі. З Расеі палезлі „шалёныя" брудныя нафтадаляры. Скупляецца жыльлё, лепшыя землі. Усё гэта раскручвае карупцыю, хабарніцтва, крымінал.

3. Ня выставіў прэтэнзіяў Расеі як пераемніцы СССР за страты ад чарнобыльскай катастрофы (па розных ацэнках ад 230 да 300 мільярдаў даляраў).

4. Бясплатна здаў вялікія зямельныя рэсурсы пад газапроводы „Ямал – Эўропа".

5. Бясплатна здаў Расеі нафтапроводы разам зь зямлёй і інфраструктурай.

6. За бясцэнак аддаў расейскай „Слаўнафце" 43% Мазырскага НПЗ.

(Заўважым, што ўсё гэта зроблена незаконна).

7. Штучна арганізаваў беспрацоўе на ўзроўні 20-25%, што прымусіла каля 1 мільёна беларусаў працаваць ў крымінальнай Расеі. Многіх зь іх беспакарана там забіваюць і рабуюць.

Гэта далёка ня поўны пералік крымінальнай дзейнасьці рэжыму на карысьць Расеі. Але Расеі гэтага мала. Масква вырашыла, што прыйшоў час поўнасьцю падабраць пад сябе ўсю Беларусь: яе людзей, тэрыторыю, каштоўнасьці і, нарэшце, уладу. Таму быў выстаўлены ўльтыматум і разгорнута газа-нафтавая вайна.

## ШТО РАБІЦЬ БЕЛАРУСАМ

1. Мы мусім спыніць палітычную агрэсію Расеі супраць нашай незалежнасьці. У нас ёсьць дзяржава, ёсьць Канстытуцыя, і любыя дзеяньні ў абарону дзяржавы і Канстытуцыі законныя.

Трэба ўлічыць, што ў сытуацыі канфлікту з Расеяй прыватныя інтарэсы дыктатара і нацыянальныя інтарэсы Беларусі могуць часова супадаць. ***Мы павінны ўсімі спосабамі абараняць і змагацца за нашы нацыянальныя інтарэсы, але не павінны аб'ядноўвацца ў гэтым з дыктатурай, бо наша нацыянальная задача – абараніцца ад Расеі і ліквідаваць лукашысцкую дыктатуру.***

У нашай барацьбе неабходна ведаць, што паплечнікі Лукашэнкі ня будуць да канца адстойваць дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Яны бароняць толькі свае ўласныя шкурныя інтарэсы. Як толькі яны палічаць, што Масква дае ім дастатковыя гарантыі, яны тут жа здадуць Беларусь.

Пакуль яшчэ існуе мірны шлях барацьбы. Мы мусім не дапусьціць нібыта „легітымнага далучэньня" (захопу) нашай краіны Расеяй. Расея павінна ведаць, што совацца на Беларусь з аб'яднаўчым „рэфэрэндумам" пад выглядам так званага „канстытуцыйнага акту саюзнай дзяржавы" або ў іншай форме – беспэрспэктыўна. Беларусы ня прымуць такога „рэфэрэндуму", ніхто ня пойдзе галасаваць на такі рэфэрэндум.

***Цяпер тактычна правільна байкатаваць любыя выбары, арганізаваныя прадажным рэжымам, у тым ліку і мясцовыя.*** Тым больш, што 23 лістапада 2006 года Лукашэнка афіцыйна прызнаўся, што сфальсіфікаваў вясновыя выбары прэзыдэнта. Пасьля такога прызнаньня ўдзел ў выбарах выглядае абсурдам. Байкот выбараў пакажа Маскве, што іхны хаўрусны рэжым не карыстаецца падтрымкай і ня здольны будзе ашукаць і зацягнуць беларусаў на „аб'яднаўчы рэфэрэндум".

2. Стратэгічныя нашыя дзеяньні мы скіроўваем на адраджэньне беларускай мовы і культуры. Праз натуральныя сродкі мы мусім адасобіцца ад расейцаў. Па мэнтальнасьці, па здольнасьцях, па характару, па інтэлекту мы іншыя, чым расейцы. Прымусовая перасадка беларусаў на глебу „русского языка і русской культуры" не палепшыла нашых людзей і нашага жыцьця. Сёньня гэта бачна паўсюдна. Разам з чужой мовай ў наша жыцьцё ўплятаюцца нядобрыя звычкі і нават мяняюцца рысы характару.

Адраджэньне нашай роднай мовы, беларускай культуры адрыне чужы бруд, злучыць нас з нашымі каранямі, з традыцыямі нашага народу. У сваіх падыходах мы абапіраемся на дасягненьні гуманітарных і прыродазнаўчых навукаў і на досьвед гісторыі.

Мы прапануем адраджаць і захоўваць беларускамоўную прастору ў сем'ях. Паважаныя беларусы, пераходзьце на выхаваньне сваіх дзетак ў беларускамоўным асяродку на прынцыпах самаарганізацыі. Аб'ядноўвайцеся з аднадумцамі, стварайце прыватныя беларускія садкі і школкі. Але галоўнае – размаўляйце між сабой і зь дзецьмі толькі па-беларуску, чытайце ўслых беларускія кніжкі і часопісы, слухайце і сьпявайце беларускія песьні. Калі вы забясьпечыце выхаваньне вашых дзетак на працягу 9 – 11 гадоў па-беларуску, яны ніколі ўжо не забудуць сваёй роднай мовы, не адракуцца ад сваіх каранёў і традыцыяў свайго народу. Валодаючы роднай мовай, калі спатрэбіцца, яны вывучаць іншыя мовы, у тым ліку ангельскую, русскую ды інш. Але яны будуць інтэлектуальна і маральна больш разьвітыя, будуць улучаныя ў беларускую культуру, будуць здольныя адстойваць свае нацыянальныя інтарэсы.

Мы будзем сьведкамі, як адраджэньне роднай мовы ўмацуе незалежнасьць нашай Беларусі і стане моцным рухавіком нашага разьвіцьця. Сусьветная практыка паказвае, што ня нафта і газ, ці нейкія іншыя рэсурсы, вызначаюць якасьць жыцьця народу, а яго нацыянальная еднасьць, маральны дух і інтэлектуальныя здольнасьці, заснаваныя на грунце дасягненьняў усіх папярэдніх пакаленьняў народу.

Памятайма, што галоўны ўдар расейскага імпэрыялізму накіраваны на зьнішчэньне беларускай мовы. Яны разумеюць, што пакуль жыве мова, датуль жыве Беларуская нацыя і Беларуская дзяржава. Павышэньне статусу беларускай мовы ў грамадзтве і ў дзяржаве зьвяло б на нуль расейскую палітыку інкарпарацыі Беларусі. У Масквы не засталося б ніякіх шанцаў. Ніякіх шанцаў не засталося б і для прамаскоўскай дыктатуры.

3. Беларусы павінны паўсюдна падтрымліваць сваіх беларусаў, трэба любіць і хваліць сваё беларускае. Трэба купляць свае беларускія тавары (а не расейскія сурагаты), трэба зьбірацца разам, сьвяткаваць свае беларускія сьвяты і беларускія падзеі, трэба старацца ведаць сваё вялікае беларускае (літоўскае) мінулае, каб моцна стаяць на сваёй зямлі.

***Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ***

*(„Мы ёсьць Беларуская Народная Партыя"). Сьнежань 2006 г. г. Менск.*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2006, № 5(59).*

# 2007




*163-Д. Сакавік-2007 у Менску. Трасу дэманстрацыі заняў шматтысячны АМАП.*

## А. ЛУКАШЭНКА МУСІЦЬ АДКАЗВАЦЬ ЗА ФАЛЬСІФІКАЦЫЮ ПРЭЗЫДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ 19 САКАВІКА 2006 Г.

**19 студзеня 2007 г. Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ перадаў у Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь заяву.** У заяве Сойм паставіў патрабаваньне аб узбуджэньні крымінальнай справы па факту фальсіфікацыі апошніх прэзыдэнцкіх выбараў. Аб фальсіфікацыі 23 лістапада 2006 года паведаміў Аляксандр Лукашэнка падчас прэс-канфэрэнцыі для ўкраінскіх журналістаў.

Па гэтаму факту 10 сьнежня 2006 г. Сойм прыняў адмысловую пастанову, ў выкананьне якой была пададзена заява ў Вярхоўны суд.

**ПАСТАНОВА**

**Аб пытаньні ўзбуджэньня крымінальнай справы па факту фальсіфікацыі выбараў**

23 лістапада на прэсавай канфэрэнцыі з украінскімі журналістамі кіраўнік выканаўчай улады Беларусі Аляксандар Лукашэнка заявіў, што ён і ягоная ўлада сфальсіфікавалі выбары прэзыдэнта на Беларусі, якія адбываліся 19 сакавіка гэтага году. Выказьнік назваў свае лічбы і адсоткі сфальсіфікаваных галасоў, якія сьведчаць аб праведзеных маніпуляцыях.

У сувязі з гэтым Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ пастанаўляе:

1. Выступіць заяўнікам перад Вярхоўным судом Беларусі па пытаньні ўзбуджэньня крымінальнай справы па факту фальсіфікацыі

вынікаў галасаваньня на прэзыдэнцкіх выбарах кіраўніком выканаўчай улады грамадзянінам Лукашэнкам Аляксандрам Рыгоравічам.

2. Падрыхтоўку і падачу іскавай заявы і давер выступаць ад імя Сойму Партыі БНФ даручыць кіраўніцтву Партыі БНФ з правам подпісу намесьнікам старшыні Партыі Юрыем Беленькім .

***Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*10 сьнежня 2006 г., г. Менск*

* * *

## У ВЯРХОЎНЫ СУД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Заяўнік:**

**Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ**

**Па даручэньні Сойму намесьнік Старшыні Партыі**

**Юры Беленькі**

**Заява**

23 лістапада 2006 года Аляксандр Лукашэнка, які займае вышэйшую службовую пасаду ў дзяржаве, падчас прэс-канферэнцыі для ўкраінскіх журналістаў агучыў інфармацыю наступнага зместу:

„…Да, последние выборы мы сфальсифицировали. Я уже западникам это говорил. За президента Лукашенко проголосовало 93,5 процента. Говорят – это не европейский показатель. Мы сделали 86. Это правда было. И если сейчас начать пересчитывать бюллетени, то я не знаю, что с ними делать вообще. До выборов нам говорили, что если будут примерно европейские показатели на выборах, то мы ваши выборы признаем. Мы собирались сделать европейские показатели. Но тоже, видите, не получилось. Запад пообещал, что если итоги будут европейские, то все будет нормально. Сделали европейские – ненормально".

Гэтая інфармацыя была агучана па Беларускім тэлебачаньні падчас непасрэднай трансляцыі прэс-канфэрэнцыі і распаўсюджана сродкамі масавай інфармацыі, у тым ліку агенцтвам БелаПАН (http://naviny.by/rubrics/politic/2006/11/23/ic_news_112_262647/) і газэтай „Народная Воля" №№192-193 за 1 сьнежня 2006 г.

Ставім патрабаваньне аб узбуджэньні крымінальнай справы ў сувязі з паведамленьнем А. Лукашэнкі аб яго ўдзеле ў фальсіфікацыі вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў, якія адбыліся 19 сакавіка 2006 г. Паведамленьне А. Лукашэнкі аб яго ўдзеле ў фальсіфікацыі вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў, якія адбыліся 19 сакавіка 2006 г, ўтрымлівае непасрэднае парушэньне артыкула 192 („Парушэньне заканадаўства аб выбарах, рэфэрэндуме або адкліканьні дэлутата") і артыкула 424 („Злоўжываньне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі") Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

Грубае парушэньне А. Лукашэнкам заканадаўства Рэспублікі Беларусь нанесла вялікія страты дзяржаўным інтарэсам. Парушэньне агульнапрызнаных міжнародных нормаў правядзеньня дэмакратычных выбараў стала адной з прычынаў скасаваньня у 2006 годзе гандлёвых прэфэрэнцыяў для Беларусі з боку краінаў Эўразвязу і Канады.

Дадатак: Аудыёкопія паведамленьня А. Лукашэнкі аб яго ўдзеле ў фальсіфікацыі вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў, якое агучана 23 лістапада 2006 года падчас прэс-канфэрэнцыі для ўкраінскіх журналістаў, на магнітным носьбіце (дыскета).

*19 студзеня 2007 г.*

***Юры Беленькі***

***Матэрыял падрыхтаваны інфармацыйнай камісіяй Кансэрватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ***

*23 студзеня 2007 г.*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2007, № 1(60)*

***(„МЫ ЁСЬЦЬ БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПАРТЫЯ")***

# ЛЮТАЎСКІ СОЙМ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ „АДРАДЖЭНЬНЕ" І КАНСЭРВАТЫЎНА-ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ПАРТЫІ – БНФ

11 лютага сёлета ў Менску адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Сойм заслухаў даклад сп. Зянона Пазьняка, Старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ: „Пагроза для Беларусі". З дакладамі па палітычнаму і сацыяльна-эканамічнаму становішчу ў Беларусі і па-за яе межамі выступілі сп. Юры Беленькі, выканаўца абавязкаў у Беларусі старшыні Фронту і Партыі, а таксама сп. Сяргей Папкоў, намесьнік старшыні Фронту і Партыі.

Беларускім патрыятычным сілам удалося сарваць падступны плян Масквы, а менавіта не дапусьціць правядзеньне ў студзені 2007 г. антыканстытуцыйнага рэфэрэндуму па „інтэграцыі" Беларусі ў Расею. Асьветніцкая праца па ўсёй краіне, супрацьдзеяньне патрыётаў антыбеларускаму рэжыму і прамаскоўскай апазыцыі, якія цягнулі людзей на фальшывыя мясцовыя выбары, – у чарговы раз не дазволілі антыбеларускім колам зьдзейсьніць пляны разбурэньня Беларускай дзяржавы. У выніку ў лагеры прарасейскай псэўдаапазыцыі пачалася шумная кампанія „ратацыі лідэра дэмсілаў" і „пагадненьня з Лукашэнкам", што дэманструе сапраўдную сутнасьць псэўдаапазыцыйнай зьявы. А паміж Масквой і Менскам пачалося „высьвятленьне адносінаў".

З набліжэньнем прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі актывізуецца ня толькі групоўка Пуціна, але назіраюцца таксама спробы кансалідацыі непадпарадкаваных непасрэдна Пуціну і Лубянцы колаў дзеля захопу ўлады ў Расеі. Гэта ня толькі Зюганаў і ягоныя камуністы. Вядома, што значная частка расейскага генэралітэту і афіцэрскага корпуса незадаволена дыктатурай гэбістаў. Менавіта яны хацелі б правесьці новы „перадзел" маёмасьці ў імпэрыі. Яны імкнуцца абаперціся на шырокія масы насельніцтва Расеі, на мільёны абрабаваных імпэрскім рэжымам людзей, якія ўжо разуверыліся ў „пуцінскай дэмакратыі" і ў „новых рускіх". Але абедзьве палітычныя тэндэнцыі ў Расеі аднолькава імпэрскія і аднолькава варожыя незалежнай Беларусі, цывілізаванаму разьвіцьцю нашага народу. Беларусам трэба не дапусьціць, каб усходняя імпэрыя ўцягнула нас у свой крывавы разлом. Няхай імпэрцы разьбіраюцца між сабой самы. Даносіць да нашых людзей праўду аб працэсах, што адбываюцца ў Расеі, аб неабходнасьці ісьці дэмакратычным шляхам незалежнай эўрапейскай дзяржавы, абараняць сваю мову і культуру – гэта застаецца галоўнай задачай патрыётаў-фронтаўцаў.

Выступілі таксама сябры Сойму з розных рэгіёнаў краіны. Пасьля фальшывых мясцовых выбараў (на якіх дыктатура праваліла амаль усіх кандыдатаў псэўдаапазыцыі) псэўдаапазыцыянэры распавядаюць у мясцовай прэсе аб тым, як яны падчас выбарчай кампаніі абышлі тысячы кватэраў, як заклікалі людзей ісьці на выбарчыя ўчасткі. Яны прызнаюцца нават, што без іхнай „прапаганды за выбары" рэжыму не ўдалося б правесьці выбарчы спэктакль.

Такім чынам, людзі яшчэ раз пераканаліся, чыім інтарэсам служаць гэтыя „дзеячы". Па ўсёй краіне рэжым працягвае разбурэньне і заціскаsuccньне ўсяго беларускага. Працягваецца шалёная кампанія русіфікацыі школьніцтва і ўсіх сфэраў публічнага жыцьця, гарады запаўняюцца расейскімі асаднікамі, якія скупляюць беларускую маёмасьць, займаюць кіруючыя пасады і лепшыя кварталы. Адказам на паўзучую акупацыю нашай краіны павінна быць усенародная Беларуская Салідарнасьць.

***Інфармацыйная камісія Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне" і***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай***
***Партыі – БНФ; В. Буйвал.***

*11 лютага 2007 г.*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2007, № 1(60)*

# ПАТРАБАВАНЬНЕ АБ АДКАЗНАСЬЦІ ЗА ФАЛЬСІФІКАЦЫЮ ВЫБАРАЎ

*11 лютага 2007 г. Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ разгледзеў адказ Вярхоўнага суду Рэспублікі Беларусь на сваю заяву, ў якой ставіў патрабаваньне аб узбуджэньні крымінальнай справы ў сувязі з паведамленьнем А. Лукашэнкі аб яго ўдзеле ў фальсіфікацыі вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў 19 сакавіка 2006 г.*

*Вярхоўны суд пры наяўнасьці парушэньня заканадаўства мае неабходную кампэтэнцыю накіраваць заяву ў органы крымінальнага перасьледу. Пра гэта было заяўлена намесьнікам старшыні Партыі Сяргеем Папковым 19.01.2007 г. на прыёме ў суддзі Вярхоўнага суда пры перадачы заявы. Аднак Намесьнік старшыні Вярхоўнага суда Шкурдзюк Ж.Б. даў фармальны адказ.*

*У прадаўжэньне гэтай справы Сойм Партыі прыняў рашэньне накіраваць у Пракуратуру Рэспублікі Беларусь заяву наступнага зьместу:*

## У ПРАКУРАТУРУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Заяўнік:
Сойм Кансэрватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ
Па даручэньні Сойму наместнік Старшыні Партыі
Юры Беленькі

**Заява**

У адпаведнасьці з арт.10 Закона „ Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь" заяўляем аб небходнасьці пракурорскага рэагаваньня і прыняцьця мераў у сувязі з грубым парушэньнем заканадаўства, сутнасьць якога ў наступным:

23 лістапада 2006 года Аляксандр Лукашэнка, які займае вышэйшую службовую пасаду ў дзяржаве, падчас прэс-канферэнцыі для ўкраінскіх журналістаў агучыў інфармацыю наступнага зьместу: „…Да, последние выборы мы сфальсифицировали. Я уже западникам это говорил. За президента Лукашенко проголосовало 93,5 процента. Говорят – это не европейский показатель. Мы сделали 86. Это правда было. И если сейчас начать пересчитывать бюллетени, то я не знаю, что с ними делать вообще. До выборов нам говорили, что если будут примерно европейские показатели на выборах, то мы ваши выборы признаем. Мы собирались сделать европейские показатели. Но тоже, видите, не получилось. Запад пообещал, что если итоги будут европейские, то все будет нормально. Сделали европейские – ненормально".

Гэтая інфармацыя была агучана па Беларускім тэлебачаньні падчас прамой трансляцыі прэс-канфэрэнцыі і распаўсюджана сродкамі масавай інфармацыі, у тым ліку агенцтвам БелаПАН (http://naviny.by/rubrics/politic/2006/11/23/ic_news_112_262647/) і газэтай „Народная Воля" №№192-193 за 1 сьнежня 2006 г.

Паведамленьне А. Лукашэнкі аб яго ўдзеле ў фальсіфікацыі вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў, якія адбыліся 19 сакавіка 2006 г, ўтрымлівае непасрэднае парушэньне артыкула 192 „Парушэньне заканадаўства аб выбарах, рэфэрэндуме або адкліканьні дэпутата" і артыкула 424 „Злоўжываньне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі." Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

Грубае парушэньне А. Лукашэнкам заканадаўства Рэспублікі Беларусь нанесла вялікія страты дзяржаўным інтарэсам. Парушэньне агульнапрызнаных міжнародных нормаў правядзеньня дэмакратычных выбараў стала адной з прычынаў скасаваньня ў 2006 годзе гандлёвых прэфэрэнцыяў для Беларусі з боку краінаў Эўразвязу і Канады.

Пытаньне аб адказнасьці за грубае парушэньне заканадаўства намі было пастаўлена перад Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь 19 студзеня 2007 г. Суд не адмаўляе наяўнасьці парушэньня заканадаўства спадаром Лукашэнкам А.Г., аднак не прыняў мераў для вырашэньня пытаньня ў адпаведнасьці з сваёй кампетэнцыяй і даў фармальны адказ.

**Дадаткі:**

**1.** Аудыёкопія паведамленьня А. Лукашэнкі аб яго ўдзеле ў фальсіфікацыі вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў, якое агучана 23 лістапада 2006 года падчас прэс-канфэрэнцыі для ўкраінскіх журналістаў, на магнітным носьбіце (дыскета). **2.** Копія заявы ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь. **3.** Копія адказу Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь. **4.** Выпіска з пратаколу паседжаньня Сойму Кансэрватыўна – Хрысьціянскай Партыі – БНФ.

*11 лютага 2007 г.*

***Юры Беленькі.***

*14 лютага 2007 г. заява накіраваная ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь.*

***Інфармацыйная камісія***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*14 лютага 2007 г.*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2007, № 1(60).*

**Генэральнаму пракурору**
**Рэспублікі Беларусь**
Міклашэвічу П.П.
220030, Менск,
Інтэрнацыянальная, 22

Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ
Па даручэньні Сойму намесьнік Старшыні Партыі Юры Беленькі
г. Менск, вул. Цікоцкага, д. 2, кв. 419

*23 сакавіка 2007 г.*

14 лютага 2007 г. Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ накіраваў у Пракуратуру Рэспублікі Беларусь заяву аб агучаным факце грубага парушэньня заканадаўства Рэспублікі Беларусь

з боку вышэйшай службовай асобы ў дзяржаве Лукашэнкі А.Г. Сутнасьць парушэньня ў наступным:

23 лістапада 2006 года Аляксандр Лукашэнка, які займае вышэйшую службовую пасаду ў дзяржаве, падчас прэс-канферэнцыі для ўкраінскіх журналістаў агучыў інфармацыю наступнага зьместу:

«...Да, последние выборы мы сфальсифицировали. Я уже западникам это говорил. За президента Лукашенко проголосовало 93,5 процента. Говорят – это не европейский показатель. Мы сделали 86. Это правда было. И если сейчас начать пересчитывать бюллетени, то я не знаю, что с ними делать вообще. До выборов нам говорили, что если будут примерно европейские показатели на выборах, то мы ваши выборы признаем. Мы собирались сделать европейские показатели. Но тоже, видите, не получилось. Запад пообещал, что если итоги будут европейские, то все будет нормально. Сделали европейские – ненормально".

Гэтая інфармацыя была агучана па Беларускім тэлебачаньні падчас непасрэднай трансляцыі прэс-канфэрэнцыі і распаўсюджана сродкамі масавай інфармацыі,у тым ліку агенцтвам БелаПАН (http://naviny.by/rubrics/politic/2006/11/23/ic_news_112_262647/) і газэтай „Народная Воля" №№192-193 за 1 сьнежня 2006 г.

Да нашай заявы быў дададзены аўдыёматэрыял на дыскеце з асабістым выказваньнем гр. Лукашэнкі А.Г. на прэс-канфэрэнцыі. У адпаведнасці з п. 2 арт. 100 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь гэты аўдыёматэрыял зьяўляецца крыніцай доказу парушэння заканадаўства. Пракуратура Рэспублікі Беларусь (згодна нашай заявы) мусіла разгледзець прадстаўлены матэрыял, правесьці неабходныя следчыя працэдуры і прыняць адпаведныя меры рэагаваньня па сутнасьці справы.

На нашу заяву з Пракуратуры Рэспублікі Беларусь прышло пісьмо ад 26.02.2007 г. № 0702/369-2005. за подпісам намесьніка начальніка аддзела Родионова П.У, напісанае на рускай мове. У адказе Родионова П.У. няма рэагавання на прадстаўлены ў якасці крыніцы доказу аўдыёматэрыял, які сьведчыць аб удзеле сп. Лукашэнкі А.Г. ў фальсіфікацыі вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў 19 сакавіка 2006 г. У сваім адказе Родионов П.У. тлумачыць працэдуру падліку галасоў Цэнтральнай Выбарчай Камісіяй, як гэта пазначана ў заканадаўстве і якую ў сваёй заяве мы не аспрэчваем.

Мы лічым, што Родионов П.У. або адмыслова ня даў адказ па сутнасьці справы, адлюстраванай ў нашай заяве ад 14 лютага 2007 г., або ён не валодае беларускай мовай (наша заява была напісана па-беларуску) і ня мог правільна зразумець пастаўленыя намі пытаньні ў заяве.

У першым выпадку Родионов П.У. парушыў заканадаўства Рэспублікі Беларусь, у тым ліку арт. 18 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь „Усебаковае, поўнае і аб'ектыўнае дасьледваньне абставінаў крымінальнай справы".

У другім выпадку Родионов П.У. ня мае права працаваць на пасадзе чыноўніка ва ўладных структурах Рэспублікі Беларусь, калі ён не валодае беларуская мовай, якая мае статус дзяржаўнай і на якой да яго зьвяртаюцца грамадзяне Рэспублікі Беларусь. Практыка адказаў чыноўнікаў дзяржаўных органаў па-руску на звароты грамадзянаў і арганізацыяў, напісаных па–беларуску, мае дыскрымінацыйны характар ў адносінах да беларусаў. Пракуратура Рэспублікі Беларусь абавязана кантраляваць і выпраўляць такую дыскрымінацыйную практыку; і тым больш не дапушчальна, каб яе служачыя ўжывалі такую практыку.

Ставім пытаньне аб паўторным разглядзе, пракурорскім рэагаваньні і прыняцьці адпаведных мераў па сутнасьці парушэньня заканадаўства гр. Лукашэнкам А.Г., адлюстраванага ў нашай заяве ад 14 лютага 2007 г. і пацьверджанага ў аўдыёматэрыяле, які зьяўляецца крыніцай доказу.

Дадаткі: 1. Копія заявы ад 14 лютага 2007 г.

2. Аудыёматэрыял на дыскеце.

3. Копія адказу Пракуратуры Рэспублікі Беларусь № 0702/369-2005

4. Выпіска з пратаколу Сойму Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ

***Намесьнік старшыні Партыі* Ю. Беленькі**

# АСІМІЛЯЦЫЯ – ЗЛАЧЫНСТВА СУПРАЦЬ ЧАЛАВЕЦТВА

**(*Інфармацыя і папярэджаньне для чыноўнікаў, якія праводзяць палітыку асіміляцыі беларусаў у інтарэсах імпэрскай Расеі)***

Прыводзім некалькі вызначэньняў асіміляцыі з расейскіх крыніцаў (узятыя менавіта расейскія крыніцы, каб не было спасылак на тэндыцыйнасьць):

1. Энциклопедия «Народы и религии мира»:

Ассимиляция (от лат. assimilatio – подражание, уподобление, сходство) этническая, частичная или полная утрата культуры в пользу другой, обычно доминирующей культуры, включая и смену этнической идентичности (см. Самосознание этническое)... В России ассимиляция происходит главным образом в пользу русской культуры и языка. *Ассимиляция может осуществляться и через структурное или прямое насилие, когда государство препятствует распространению языка и других форм культуры этнических меньшинств и даже отказывает им в признании и в предоставлении гражданских прав.*

*2.* Мегаэнциклопедия. Универсальная энциклопедия.

(http://www.megabook.ru/bes_98/encyclop.asp?TopicNumber=4273)

АССИМИЛЯЦИЯ (от лат. assimilatio),

1) уподобление, слияние, усвоение.

2) В этнографии слияние одного народа с другим с утратой одним из них своего языка, культуры, национального самосознания. Различают естественную ассимиляцию, возникающую при контакте этнически разнородных групп населения, смешанных браках и т. п., и насильственную ассимиляцию, характерную для стран, где национальности неравноправны.

3. Толковый словарь русского языка в 4-х т.:

АССИМИЛИ'РОВАТЬ, (-рую, – руешь**)** сов. и несов., кого-что [латин. assimilo – уподобляю] (книжн.). Уподобить (уподоблять) себе, превратить (превращать) в себе подобного. Русские переселенцы на севере ассимилировали менее культурные туземные племена. (*Па руска-імпэрскай логіцы ўсё, што ня рускае, тое „менш культурнае" – (БС.*)

4. СЛОВАРЬ ПО ПРАВАМ ЧЕЛОВЕКА:

Ассимиляция (Assimilation)

Процесс поглощения обществом других народностей. Разногласия и конфликты могут возникать, когда государство проводит политику насильственной ассимиляции в отношении меньшинств, населяющих его, которая нацелена на их денационализацию.

Калі перакласьці ўсе гэтыя вызначэньні на простую мову і нашу сытуацыю, то вынікае, што асіміляцыя беларусаў, якая разгорнута антыбеларускім рэжымам – гэта пэрманэнтны працэс забойства беларускага народа і ператварэньне яго ў нейкі іншы – народ ня лепшай якасьці. З улікам таго, што беларусы на сваёй тэрыторыі і ў сваёй

дзяржаве ёсьць адзіны аўтахтонны (карэнны) і дамінуючы этнас, а не нацыянальная меншыня, працэс асіміляцыі адбываецца мэтадамі зьнешняй структураванай агрэсіі з боку Расеі. Інструмэнтам расейскай асіміляцыйнай агрэсіі зьяўляецца лукашысцкі рэжым. Русіфікацыя прасоўваецца на Беларусь як гніль, як пашырэньне арэала дэградацыі.

Прапануем задумацца і асэнсаваць сутнасьць зьявы, якая праяўлена ў пахвальбе Пуціну (у справе злачыннай асіміляцыі) дэпутаткі рэжымнай палаты, рускай Натальлі Аўдзеевай (Натальи Авдеевой). (*Форум, Санкт-Пецербург, 24-25 кастрычніка 2006 г., дзе Пуцін сабраў прадстаўнікоў рускіх, якія жывуць за межамі Расеі. – (БС*). Цытата:

“...Депутат Палаты представителей Национального собрания Беларуси и Парламентского Собрания Союза Беларуси и России Наталья Авдеева рассказала, что в стране выходит 5600 русскоязычных изданий, русский язык наряду с белорусским является государственным, и на нем разговаривают 80 процентов населения.” (Александра Таранда «Три точки опоры», газэта „Советская Белоруссия”, укладка «Союз», за 2 лістапада 2006 г.)

Цяпер стала звычайнай практыкай, калі накіроўваеш ліст у дзяржаўны ворган па–беларуску, то чыноўнік адказвае табе па-руску і часцей за ўсё не па сутнасьці. Зьвяртаешся да чыноўніка вусна па-беларуску, ён адказвае табе па-руску. На заўвагу пачуеш хадавую цяпер сэнтэнцыю: „У нас двуязычие. Нельзя насильно заставлять человека. Человек должен иметь право выбора, на каком языке ему говорить”.

Калі так гаворыць чалавек кшталту рускай Натальлі Аўдзеевай, то ён гаворыць гэта сьведама, гэта яго пазыцыя асімілятара і драпежніка.

Калі такое гаворыць чыноўнік-беларус, то гэта, як правіла, схіленасьць перад рускай агрэсіўнасьцю, апраўданьне сваёй слабасьці і бесхрыбетнасьці. (Тут, дарэчы, элемэнтарнае парушэньне ў прымяненьні нават гэтага асіміляцыйнага закона пра „двумоўе”, бо дзяржаўны чыноўнік у такой сытуацыі павінен быў бы адказваць ў той мове, у якой да яго зьвярнуўся грамадзянін. Веданьне двух моваў для чыноўніка абавязковае. У яго нама „выбару”.)

Чыноўнікам-беларусам, якія па-рабску бязвольна прымаюць пазыцыю агрэсіўных асімілятараў, раім падумаць пра сваіх дзяцей.

***Ад вас залежыць, ці вы дасьцё свайму дзіцяці ключык ад скарбонкі, дзе знаходзіцца душа і інтэлект вашага Роду, альбо ключ ад пустой скрыні, якую ён мусіць папаўняць чужымі для вашага Роду якасьцямі. Ці, хацелі б вы мець дзяцей ад чужога бацькі, непадобных на вас, якія б выгадаваліся і сказалі: „а вы, собственно, кто такой, вы что здесь делаете”?***

***Пэўна ж, не хацелі б такога. Дык чаму вы для ўсяго народу, для ўсёй нацыі спрыяеце такому сваімі паводзінамі і сваёй дзейнасьцю?!***

Ключыкам да інтэлектуальнай скарбонкі зьяўляецца родная мова. Ад бацькоў залежыць, ці будуць яны гаварыць з дзіцем па-беларуску, на роднай мове Роду і празь яе злучаць сваё дзіця з каранямі продкаў, ці будуць гаварыць па-руску, на чужой для іхняга Роду мове і павялічаць адрыў ад інтэлектуальных каранёў свайго Роду. У выпадку выкарыстаньня „русского языка” вынікае, што продкі Роду жылі дарма, іх інтэлектуальныя набыткі будуць такімі бацькамі глыбока закапаныя і заасфальтаваныя.

Дык як успрымаць падкінутую ворагамі і шырока ўжываную чыноўнікамі сэнтэнцыю „Человек должен иметь право выбора, на каком языке ему говорить?”

Ці можа дарагое вам дзіця зрабіць выбар? Выбар за яго (і, як бачым сёньня, ня лепшы) робіце вы, бацькі, пад уплывам хлусьлівай и драпежнай расейска-імпэрскай дэмагогіі „о превосходстве русской культуры и русского языка”.

Мэта злачыннай асіміляцыі расейскіх імпэрцаў у тым, каб задушыць наш інтэлект, інтэлектуальна прынізіць і падначаліць, перарабіць нас у „рускіх ніжэйшай якасьці”. Свае мэты яны ня надта і хаваюць. Дастаткова пазнаёміцца зь іхнымі планамі па выпраўленьні дэмаграфічнай сытуацыі ў Расеі за кошт суседніх народаў.

У імпэрска-расейскім асіміляцыйным ланцугу сёньняшнія працэсы зьнішчэньня тэрыторыі беларускай мовы і беларускага інтэлекту праз зьнішчэньне беларускіх умоваў выхаваньня ў дзіцячых садках і зьнішчэньне беларускай школы ёсьць такое ж злачынства, як і варварскія масавыя забойствы беларускага насельніцтва падчас захопу Беларусі пры імпэратрыцы Кацярыны II і сталінскага генацыду 30-40-х гадоў XX-га стагоддзя.

Менавіта чыноўнікі маюць магчымасьць найбольш эфектыўна карэнным чынам зьмяніць сытуацыю ў справе спыненьня злачынных працэсаў асіміляцыі. Працэсы асіміляцыі захлынуцца, як толькі пачне пашырацца ўжываньне нашай роднай беларускай мовы. Трэба скарыстаць канстытуцыйны статус дзяржаўнасьці беларускай мовы. На агрэсію асімілятараў трэба адказаць цьвёрдасьцю пазыцыі ў адстойваньні сваёй нацыянальнай годнасьці. Неабходна перакуліць на 180 градусаў скіраванасьць выказваньня: „Чалавек павінен мець права выбару, на якой мове яму гаварыць”. „Мы робім выбар на карысьць беларускай мовы”. Так можна адказаць любому чынадралу-асімілятару, які атабарыўся ў структурах вертыкалі рэжыму, калі ён спытае: „Что это ты перешел на белорусский?”

Чыноўнікі, якія робяць „прагматычны” (і ў прынцыпе, незаконны) выбар на ролю пасобнікаў забойства беларускага народа, ператварэньня яго ў „рускіх ніжэйшай якасьці”, становяцца на адну дошку з гэбоўскімі паслугачамі, якія „стукалі”, катавалі людзей ў турмах, ГУЛАГах, забівалі ў Курапатах. Настане час, калі прыдзецца адказваць за здраду сваім продкам, сваім нашчадкам і свайму народу.

Непазьбежны распад расейскай імпэрыі. Тое, што пачало гніць знутры, абавязкова згніе ўшчэнт. Ня выратуе ні газ, ні нафта, ні лубянскія спэцы.

Ганьба тым, што гнуцца, як трава, ганьба здраднікам!

***Беларуская Дзяржава адродзіцца, беларуская культура расквітнее. Гэта зробяць Беларусы.***

***Пашана і слава абаронцам беларускай культуры!***

***Пашана людзям, што не страцілі нацыянальнай годнасьці, што не ўгінаюцца перад чужынцам, што ня гнуцца перад абставінамі!***

***Дбайма і думайма пра будучыню Беларускай нацыі!***

**„Беларуская Салідарнасьць”**
**„Беларускае Нацыянальнае Адраджэньне”**
**„Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ”**

“Тэхналёгія” асіміляцыі была на ўзбраеньні фашызму XX-га стагоддзя. Адольф Гітлер плянаваў ператварыць у рабоў цэлыя народы, частку зьнішчыць, астатніх асіміляваць. Цяпер расейская крамлёўская хунта праз сваю агентуру і адурманеную чыноўную вертыкаль рэжыму робіць на Беларусі тое самае.

Гэты зварот* сьціраваны найперш да чыноўнікаў-беларусаў. **

*Надрукавана: („Беларуская Салідарнасьць”, № 57, красавік 2007 г.); „Беларускія Ведамасьці”, – 2007, № 2 (61) + № 3 (62).*

* (Тэкст Сяргея Папкова)

** Разасланы ў тысячы адрасоў. – *(З. П.)*

# АНТЫБЕЛАРУСКІ РЭЖЫМ. ЗДЫМКІ НА ВУЛІЦАХ МЕНСКА АЛЬБО ПАЛЯВАНЬНЕ НА МОЛАДЗЬ



*170-Д. Трывожная сытуацыя – 1*



*171-Д. Трывожная сытуацыя – 2*



*172-Д. Заўважылі*



*173-Д. Кульмінацыйны момант„ паляваньня” на моладзь. Хапаюць юнака. Дзьве дзяўчыны-сяброўкі, кідаюцца на „ спэцназаўцаў” яго ратаваць. Праз хвіліну ўсіх закінуць у брудны „ аўтазак”, пачнуць зьбіваць ботамі, потым – пад арышт, у камэру, у гразь, на„ парашу” за тое, што „ нецензурно выражался” (значыць, гаварыў па-беларуску), „выкрикивал антипрезидентские лозунги”. (Фота з Сеціва. 2007 г.)*

# ЦІ АДПАВЯДАЎ РЭФЭРЭНДУМ 14 ТРАЎНЯ 1995 ГОДА КАНСТЫТУЦЫІ І ЗАКОНАМ?

12 гадоў таму, 14 траўня 1995 году, быў праведзены рэфэрэндум, на які выносіліся пытаньні аб скасаваньні *Бел-Чырвона-Белага* сьцяга і гэрба *„Пагоня"* ў якасьці дзяржаўных сымвалаў, адмене статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, а таксама аб эканамічнай інтэграцы з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць парлямант.

Пра непрызнаньне нацыянальнай сымволікі Аляксандар Лукашэнка заяўляў яшчэ за год да прэзыдэнцкіх выбараў, у 1993-м: ён паказальна насіў „бээсэсэраўскі", чырвона-зялёны дэпутацкі значак. А ідэя рэфэрэндуму была ўпершыню абвешчаная Лукашэнкам на сэсіі Вярхоўнага Савета ў сакавіку 1995 года.

Як пазьней стала вядома, эскіз новага „гэрба" распрацоўваўся ў кабінэце кіраўніка Адміністрацыі прэзыдэнта Леаніда Сініцына.

11 красавіка дзевятнаццаць дэпутатаў Апазыцыі БНФ на чале з Зянонам Пазьняком на знак пратэсту абвясьцілі галадоўку*, але ноччу па загаду Лукашэнкі былі зьбітыя ў залі парлямэнту батальёнам вайскоўцаў «спэцназу» і групы «Альфа» і гвалтоўна выкінутыя з будынку Дому ўраду. Супраць рэфэрэндуму выступілі шмат якія выдатныя прадстаўнікі інтэлігенцыі, у тым ліку і Васіль Быкаў.

***Прызначэньне рэфэрэндуму 1995 года адбылося з парушэньнем Канстытуцыі, законаў і рэгламанту Вярхоўнага Савету.***

Рэфэрэндум 1995 года не адпавядаў Канстытуцыі, пра што і было заяўлена яшчэ ў часе абмеркаваньня ў Вярхоўным Савеце.

Рэфэрэндум не адпавядаў і „Закону аб усенародным галасаваньні (рэфэрэндуме)", дзе сказана, што на плебісцыт не выносяцца пытаньні, якія закранаюць нацыянальныя каштоўнасьці (Бел-Чырвона-Белы сьцяг, гэрб „Пагоня" і беларуская мова такімі і ёсьць). Пытаньні аб мове і інтэграцы з Расеяй парушалі частку 3 артыкулу 3 гэтага закону. Да таго ж пытаньні аб сымволіцы і праве прэзыдэнта распускаць парлямант ня мелі юрыдычнай дакладнасьці і не давалі магчымасьці атрымаць дакладны адказ.

Прызначэньне рэфэрэндуму адбылася з парушэньнем рэглямэнту Вярхоўнага Савету. Сам працэс рэфэрэндуму таксама праходзіў з парушэньнем пакету законаў – „Аб рэфэрэндуме", „Аб статусе дэпутатаў" і іншых.

Напрыклад, апанэнты Лукашэнкі ня мелі доступу да СМІ (рэфэрэндум супаў з выбарамі ў Вярхоўны Савет, але ўсе згадкі пра рэфэрэндум у выступах апазыцыйных кандыдатаў выразаліся), і насельніцтва ня мела магчымасьці, як таго патрабуе закон, атрымаць поўную інфармацыю па ўсіх чатырох пытаньнях і прыняць узважанае рашэньне.

Мелі месца і зафіксаваныя назіральнікамі фальсіфікацыі на ўчастках непасрэдна 14 траўня.

Усё гэта дало магчымасьць дэпутатам БНФ адразу пасьля рэфэрэндуму заявіць, што дэ-юрэ Бел-Чырвона-Белы сьцяг і „Пагоня" застаюцца дзяржаўным сымваламі.

* У першы ж дзень галадоўкі адбылося галасаваньне. Пытаньні пра гэрб, сьцяг і мову не прайшлі на рэфэрэндум. Пад узьдзеяньнем галадоўкі дэпутатаў Вярхоўны Савет не прагаласаваў за гэтыя пытаньні. – *(З. П.)*

Дарэчы, вынікаў незаконнага рэфэрэндуму 1995 года Вярхоўны Савет 12-га скліканьня так і не зацьвердзіў. Гэта зрабіў толькі ў 1996 годзе Вярхоўны Савет 13 скліканьня. А праз некалькі месяцаў Лукашэнка скарыстаўся пунктам аб праве прэзыдэнта распускаць парлямант.

***Для вяртаньня нацыянальных сымвалаў даволі будзе прыняць пастанову аб непрызнаньні вынікаў рэфэрэндуму 1995 году.***

Нідзе і ніколі штучна створаная сымволіка не пратрымалася больш за некалькі гадзін (у найлепшым выпадку – дзён) даўжэй за рэжымы, якія яе усталявалі. Звычайна ўстанаўленьне нацыянальнага сьцяга над урадавымі будынкамі якраз і сымвалізавала канец гэтых рэжымаў.

Усе краіны-суседзі Беларусі вярнулі сваю гістарычную сымволіку. Тое ж зрабілі і ўсе былыя сацыялістычныя краіны Эўропы. У Беларусі будучаму дэмакратычнаму парляманту Беларусі дастаткова толькі прыняць пастанову аб непрызнаньні вынікаў рэфэрэндуму 1995 году – на падставе антыканстытуцыйнасьці і антызаконнасьці гэтага рэфэрэндуму. Магчыма, для гэтага нават хопіць указу будучага прэзыдэнта, калі такая пасада застанецца.

*Травень, 2007 г.*
*Прага*

***Сяргей Навумчык***

# „НЕ ЗАГАСНУЦЬ ЗОРКІ Ў НЕБЕ"...

***(Ліпеньскі Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Скарочана)***

8 ліпеня сёлета ў Менску адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ.

...Выступоўцы паведамілі пра разгортваньне прамаскоўскім рэжымам працэсу татальнай русіфікацыі і асіміляцыі беларускага грамадзтва. Стала вядома, што ***ў фондах Беларускага Тэлебачаньня актыўна вядзецца зьнішчэньне відэаматар'ялаў, прысьвечаных дзеячам нацыянальнай культуры, праграмаў зь беларускай песьняй і словам (яны захоўваліся нават у савецкі пэрыяд). Ненавісьнікі Беларусі спрабуюць пазбавіць беларусаў культурнай спадчыны,*** прадэманстраваць, што ў нашага народу „не было і няма адметнай культуры". Нават старажытнае народнае сьвята Купальле рэжым імкнецца ператварыць у дзікую „істінно русскую" „пьянку." ***Мясцовыя ўлады па ўсёй краіне абавязаны па загаду з цэнтру на гэтае сьвята забясьпечыць насельніцтва аўталаўкамі з гарэлкай, рэстараны і гарэлачныя аддзелы крамаў павінны працаваць кругласутачна.*** Пад выглядам „насьледваньня традыцыі" робяцца заклікі да зьдзяйсьненьня актаў вандалізму і зьнішчэньня маёмасьці грамадзянаў. Такога ніколі не было ў беларускай традыцыі сьвяткаваньня Купальля. Але рэжым імкнецца прыраўняць народнае сьвята да манструальнага афіцыёзу на 3 ліпеня. ***Выдатныя творцы, таленавітыя гурты, усе тыя, хто сьпявае па-беларуску, ізаляваны ад народа.*** Дзяржаўную падтрымку, рэкляму, фонды і г.д. атрымлівае маса бездарных копіяў маскоўскай псэўдакультуры. Нізкі ўзровень рускамоўнай эстрады і іншых жанраў мясцовай маскультуры па законах прафанацыі выда-

еца за „беларускую культуру". ***„Шэфства" над апошнімі беларускамоўнымі гімназіямі бяруць на сабе раёны Масквы. „Шэфы" завальваюць гэтыя асяродкі беларускай культуры расейскай выдавецкай макулатурай, і гэта лічыцца культуртрэгерствам.***

Рэжым перайшоў да татальнага запалохваньня ўсіх слаёў беларускага грамадзтва. Цяпер за любыя парушэньні ў вядзеньні дакумэнтацыі, невыкананьне вытворчага пляну кіраўнікі прадпрыемстваў будуць прыцягвацца да крымінальнай адказнасьці. ***Тыя, хто думаў зрабіць кар'еру пад антыбеларускай уладай, пачынаюць баяцца за сваё жыцьцё.*** Грамадзтва перажывае шок пасьля адмены ільготаў і сацыяльных выплатаў пэнсіянерам, інвалідам, сіротам і г.д. У сувязі з ростам сацыяльнага незадавальненьня рэжым актывізаваў дзеяньні сваёй псэўдаапазыцыі з мэтай дэзінфармацыі і заблытваньня людзей. У Курапатах (ня могучы ўжо далей адмаўляць факту генацыду беларусаў) зьявіліся „экскурсаводы", якія распавядаюць людзям, як тут нібыта „беларусы расстрэльвалі беларусаў, і амаль не засталося парэшткаў ахвяр". Але ім ня ўдасца пачварнай хлусьнёй падмануць беларусаў, навязаць ім комплекс віны за злачынствы, зьдзейсьненыя маскоўскімі акупантамі. Паездкі псэўдаапазыцыі ў Маскву і Бэрлін (дзе вячоркі-лебедько-мілінкевічы „распрацоўваюць стратэгію апазыцыі" і абмяркоўваюць „планы больш эфэктыўнай інтэграцыі Беларусі ў Расею") зьяўляюцца дэманстрацыяй антынароднай і антыдзяржаўнай дзейнасьці гэтых палітычных імітатараў.

Выступілі таксама сябры Сойму з розных рэгіёнаў краіны. Яны паведамілі пра дзеяньні лубянскай агентуры, якая пачала праводзіць апытаньні і „прафілактычныя размовы" у працоўных калектывах. ***Галоўная тэма агентурных апытаньняў і выступаў – „што вы думаеце пра нацыянальную беларускую ідэю?" Адчуваецца, што рэжым панічна баіцца гуртаваньня беларускага народу вакол нацыянальнай ідэі.*** Таму ўсімі намаганьнямі рэжым і прышпіленая да яго псэўдаапазыцыя спрабуюць падсунуць беларусам замест нацыянальных каштоўнасьцяў савецка-расейскі сурагат і псэўдаэўрапейскую рыторыку. Толькі сіла Праўды, Беларуская Салідарнасьць здольныя разбурыць падступныя планы антыбеларускіх структураў.

Сойм ухваліў дзейнасьць структураў Партыі па рассылцы чыноўнікам вертыкалі, адукацыі і культуры матэрыялу „Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва". Рэкамендаваў структурам Партыі пашырыць інфармаваньне.

Пасьля паседжаньня сябры Сойму накіраваліся да помніка Янку Купалу ў цэнтры сталіцы. Там сабралася шмат людзей, каб ушанаваць памяць вялікага песьняра. Да помніка былі ўскладзены кветкі. Сьпявалі песьню „Не загаснуць зоркі ў небе"...

***Інфармацыйная камісія Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ; Валеры Буйвал.***

*8 ліпеня 2007 г.*



***177-Д. Слухачы на мітынгу КХП–БНФ у Менску***

# ЖНІВЕНЬСКІ СОЙМ БНФ „АДРАДЖЭНЬНЕ" І КАНСЭРВАТЫЎНА-ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ПАРТЫІ – БНФ

12 жніўня сёлета ў Менску адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Сойм заслухаў выступ сп. Зянона Пазьняка, Старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ: „Эскалацыя расейскай палітыкі". Выступілі сп. Юры Беленькі, выканаўца абавязкаў старшыні Партыі і Фронта на Беларусі, сп. Сяргей Папкоў, намесьнік старшыні Партыі і Фронта, сп. Валеры Буйвал і сп. Уладзімер Раманцоў, сакратары Управы Партыі і Фронту.

Выступоўцы казалі аб нашэсьці на Беларусь расейскага мафійнага капіталу, які выклікаў шалёны скачок коштаў на жыльлё. Беларусам (якія жывуць на свае заробкі) цяпер практычна немагчыма набыць жыльлё для сваіх сем'яў. Адкрыта і прыхавана расейскія капіталісты аваподваюць беларускімі прадпрыемствамі. Напрыклад, аўстрыйская фірма, якая валодае сталічным мотавелазаводам, аказалася на самой справе фірмай расейскага капіталіста пад чужым прыкрыцьцем. Цывілізаваны сьвет са зьдзіўленьнем назірае за эканамічнай і палітычнай экспансіяй расейскай імпэрыі. Замест таго, каб разьвіваць занядбаныя расейскія вобласьці прынамсьці вакол Масквы, расейскі рэжым ўтыркае сьцягі на дне Ледавітага акіяна, уводзіць дадатковыя вайсковыя часткі на Паўночны Каўказ, дзе пачынаецца новы вітом каляніяльнай вайны. Імпэрыя ня можа існаваць як нармальная сучасная дзяржава, і гэта зьяўляецца асноўнай прычынай яе непазьбежнага краху.

Выступоўцы аналізавалі прычыны апошніх перастановак у кіраўніцтве спэцслужбаў мясцовага рэжыму. Рэжым рыхтуецца да сацыяльных пратэстаў беларускага грамадзтва, якое ужо цяпер адчувае на сабе правальную эканамічную палітыку прамаскоўскага кіраўніцтва. Адначасова працягваецца здушэньне беларускай культуры і школы. Напрыклад, у Глыбокім мясцовыя беларусафобы з адміністрацыі зачыняюць апошнюю беларускую школу, перарабляюць яе ў расейска-каляніяльную, нягледзячы на пратэсты бацькоў і вучняў.

Актывізавалася псэўдаапазыцыя, якая пачала актыўна арганізоўваць „экскурсіі" у Курапаты. Падстаўныя „культуролягі" распавядаюць беларускім і замежным грамадзянам пра свой нібыта „геразім" і „самаахвярнасьць". Яны не паставілі аніводнага крыжа, ня ўдзельнічалі ў абароне курапацкай сьвятыні ад вандалаў рэжыму. Але цяпер гэтая публіка стварае міф аб сабе і заяўляе пра праекты „новага помніка" у Курапатах, які яны быц-

цам бы мяркуюць ўсталяваць разам з антыбеларускім рэжымам. Беларускім патрыётам прыйдзецца бараніць Народны Мэмарыял у Курапатах таксама і ад гэтага псэўдаапазыцыйнага грантаўскага няшчасьця.

Сябры Сойму з розных рэгіёнаў краіны распавялі аб дзейнасьці адданых людзей, якія паўсюль вядуць змаганьне за беларушчыну, за нашу Бацькаўшчыну. Галоўная задача гэтай барацьбы – далучэньне да Беларускай Салідарнасьці сумленных беларусаў, якім неабыякавы лёс краіны.

*Інфармацыйная камісія Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ;*
***В. Буйвал.***

*12 жніўня 2007 г.*

**МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

вул. Калектарная, 10, 220004, г. Мінск
Тэл./факс: 200-86-87, 200-97-55
E-mail: kanc@minjust.by, minjust@mailgov.by

**МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**

ул. Коллекторная, 10, 220004, г. Минск
Тел. факс: 200-86-87, 200-97-55
E-mail: kanc@minjust.by, minjust@mailgov.by

28.11.2007 г. № [illegible]/1154

На № ________

Сойм Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ
вул. Машэрава, 8,
220008, г. Мінск

Аб прадстаўленні інфармацыі

У Міністэрства юстыцыі на імя Намесніка Міністра Тушынскага І.Г. паступіў ліст «Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва (інфармацыя і папярэджанне для чыноўнікаў, якія праводзяць палітыку асіміляцыі беларусаў у інтарэсах імперскай Расіі)».

Дадзены дакумент падрыхтаваны і распаўсюджваецца членамі Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ.

Дакумент змяшчае зневажальныя выказванні ў дачыненні да рускай нацыянальнасці.

У сувязі з выкладзеным просім даць тлумачэнні адносна распаўсюджвання дадзенага ліста сярод службовых асоб, у тым ліку выканаўчых камітэтаў, устаноў адукацыі, органаў пракуратуры, унутраных спраў, суддзяў.

Інфармацыю неабходна накіроўваць у Міністэрства юстыцыі не пазней 30 лістапада 2007 года па факсу 2006256.

Намеснік Міністра А.У. Білейчык

*178-Д. Ліст Міністэрства юстыцыі*

## СУД

***У Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь.***
***Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ.***
***Зацікаўленая асоба: Міністэрства юстыцыі***
***Рэспублікі Беларусь.***

### СКАРГА

Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ 6.12.2007 г. атрымала ад Міністэрства юстыцыі загад Міністра юстыцыі № 621 ад 5.12.2007 г., якім вынесена Партыі пісьмовае папярэджаньне.

У канстатуючай часцы загаду Міністра юстыцыі ўтрымліваюцца бяздоказныя сцверджаньні, якія ня маюць дачыненьня да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Закона Рэспублікі Беларусь „Аб палітычных партыях”, у тым ліку такія, як (цытуем):

– тэндэнцыйная інфармацыя ў дачыненьні палітыкі Расейскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь па зблiжэньні расейскага і беларускага народаў,

– грубыя паклёпніцкія выпады ў дачыненьні нацыянальнай палітыкі Расейскай Федэрацыі, народа Расеі і яго гісторыі,

– выяўляецца непавага да грамадзян небеларускай нацыянальнасьці,

– заклікі да здзяйсьненьня дзеяньняў, парушаючых асобныя нормы Канстытуцыі, (напрыклад, заклік пазбавіць грамадзян Рэспублікі Беларусь права выбару мовы).

28.11.2007 г. Партыя атрымала ліст Міністэрства юстыцыі за № 1154, у якім сцьвярджалася, што дакумант „Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва” зьмяшчае (цытата): „зьнеimportantжальныя выказваньні ў дачыненьні да рускай нацыянальнасьці.” Абвінавачаньні былі бяздоказнымі, у лісьце не былі прыведзены канкрэтныя сказы дакуманта, якія маглі б пацьвердзіць гэтае абвінавачаньне. Таму 30.11.2007 г. Кансэрватыўна-Хрысціянская Партыя – БНФ накіравала Міністэрству юстыцыі ліст і прасіла ўказаць канкрэтныя сказы ў матэрыяле „Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва”, якія ўтрымліваюць „зьнеważальныя выказваньні ў дачыненьні да рускай нацыянальнасьці.” Канкрэтнай інфармацыі ад Міністэрства юстыцыі Кансэрватыўна-Хрысціянская Партыя – БНФ не атрымала.

На падставе бяздоказных вызначэньняў не юрыдычнага характару, не пацьверджаных тэкстам ліста, і эмацыйных трактовак Міністэрства юстыцыі зрабіла высновы аб грубым парушэньні Кансэрватыўна–Хрысьціянскай Партыяй – БНФ Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Закона Рэспублікі Беларусь „Аб палітычных партыях” (п.1 загаднай часткі загаду Міністра № 621).

Выглядае так, што Міністэрства юстыцыі у сваіх высновах абапіраецца на нейкі несапраўдны дакумант, не ідэнтыфікуе яго тэкст у якасьці доказу, прыводзіць толькі назву ліста.

Зьвяртаем увагу, што Міністэрства юстыцыі адвольна трактуе Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Трактаванне Канстытуцыі не ўваходзіць у яго кампэтэнцыю.

**На падставе артыкула 30 Закона Рэспублікі Беларусь „Аб палітычных партыях” просім адмяніць папярэджаньне Кансэрватыўна – Хрысьціянскай Партыі – БНФ, якое вынесена Міністэрствам юстыцыі загадам № 691 ад 06.12.2007 г., у сувязі з бяздоказнымі абвінавачваньнямі.**

**У парадку дасудовай падрыхтоўкі прызначыць экспэртызу на прадмет выяўленьня ў нашым лісьце „Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва” канкрэтных сказаў, якія ўтрымліваюць, як сказана ў загадзе Міністра юстыцыі, цытуем: „грубыя паклёпніцкія выпады ў дачыненьні нацыянальнай палітыкі Расейскай Федэрацыі, народа Расеі і яго гісторыі”, „непавага да грамадзян небеларускай нацыянальнасьці”, „заклік пазбавіць грамадзян Рэспублікі Беларусь права выбару мовы”.**

Дадатакі: 1. Копія загаду Міністра юстыцыі № 691 ад 06.12.2007 г. на 1 аркушы,

2. Ліст „Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва” на 1 аркушы,

3. Копія ліста Міністэрства юстыцыі № 1154 ад 28.11.2007 г. на 1 аркушы,

4. Копія ліста Кансэрватыўна – Хрысьціянскай Партыі – БНФ ад 30.11.2007 г.

***По даручэнні Сойму Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***
***Намесьнік Старшыні Партыі***
***Юры Беленькі.***

*Сьнежань 2007 г.*



***180-Д. „Как слышыце меня? – Нармальна.” (Менск, сакавік, 2000 г.)***

# 2008




*181-Д. Паседжаньне Сойму БНФ у Менску за „цяжкім часам”. Выступае Ю. Беленькі, за сталом С. Папкоў*

# „АДБЫВАЕЦЦА ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ ГРАМАДЗЯН”

*(Ліст у Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь)*

Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь распачаў справу па абскарджаньні Кансэрватыўна – Хрысьціянскай Партыяй – БНФ папярэджаньня, вынесенага ёй Міністэрствам юстыцыі (загад № 691 ад 06.12.2007).

22 студзеня 2008 г. суддзя Вярхоўнага суда В.І.Самалюк правёў гутарку з удзелам прадстаўнікоў Кансэрватыўна – Хрысьціянскай Партыі – БНФ і прадстаўніка Міністэрства юстыцыі. Суддзя В.І. Самалюк прапанаваў вырашыць пытаньне па-за межамі судовага паседжаньня.

З улікам гэтай прапановы і на падставе артыкула 30 Закона Рэспублікі Беларусь „Аб палітычных партыях” просім адмяніць папярэджаньне* Кансэрватыўна – Хрысьціянскай Партыі – БНФ, якое вынесена Міністэрствам юстыцыі загадам № 691 ад 06.12.2007 г.

Абарона нацыянальных інтарэсаў, нацыянальных беларускіх каштоўнасьцяў ёсць норма Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, адпавядае палажэньням Праграмы Кансэрватыўна – Хрысьціянскай Партыі – БНФ і зьяўляецца прыярытэтнай дзейнасьцю Партыі ў сучасны пэрыяд.

Зьвяртаем увагу на тое, што ў краіне створана сытуацыя, калі насуперак Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь адбываецца дыскрымінацыя беларускіх грамадзян па моўнай прыкмеце. Нацыянальны Сход Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў, Пракуратура, Міністэрства юстыцыі ды іншыя дзяржаўныя органы не выдаюць заканадаўчыя, нарматыўныя акты, зборнікі нацыянальных актаў на дзяржаўнай беларускай мове (за рэдкім выключэньнем). Такім чынам парушана Канстытуцыя, правы грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Мы лічым (у адпаведнасьці з Канстытуцыяй і нашай Праграмай), што з боку арганізацыяў, дзяржаўных служачых павінны быць прынятыя тэрміновыя меры для выпраўленьня сытуацыі, што склалася, з мэтай аднаўленьня законнасьці ў краіне, захаваньні правоў грамадзян Рэспублікі Беларусь.

***Намесьнік старшыні***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***
***Ю. Беленькі***

# „НЕ ІСНУЕ Ў МАТЭРЫЯЛЕ”

*(Ліст у Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь)*

1-га лютага 2008 г. у 18.39 (у пятніцу) на імя Сойму Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ па факсімільнай сувязі паступіў ліст з Міністэрства юстыцыі за № 06 – 18/104 па справе Пісьмовага папярэджаньня ад 06.12.2007 г., якое Партыя абскарджвае ў Вярхоўным судзе, і патрабавала даць адказ да 4 лютага 2008 (панядзелак)

Міністэрства юстыцыі і ў гэтым лісьце не прыводзіць канкрэтныя цытаты з матэрыялу „Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва”, у якіх, як заяўляе Міністэрства юстыцыі, „абражаюцца пачуцьці грамадзян у сувязі зь іх прыналежнасьцю да рускай нацыянальнасьці, утрымоўваюцца паклёпніцкія выказваньні.”

У сваім лісьце Міністэрства юстыцыі прыводзіць толькі пералік сказаў з матэрыялу „Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва” у якіх, як сказана ў гэтым лісьце, ўтрымліваюцца „тэндэнцыйныя выказваньні”.

Зьвяртаем увагу, што апошні сказ са спісу „тэндэнцыйных выказваньняў” (тэрміналёгія Міністэрства юстыцыі), а менавіта, цытата зь ліста Міністэрства юстыцыі: *„расійская крамлёўская хунта праз сваю агентуру і адурманеную чыноўнічую вертыкаль ператварае ў рабоў цэлыя народы, частку зьнішчае, астатніх асімілірue, як гэта планаваў Гітлер”*, – **не існуе ў матэрыяле** „Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва”.

З улікам адсутнасьці доказаў ў наяўнасьці парушэньняў і на падставе артыкула 30 Закона Рэспублікі Беларусь „Аб палітычных партыях” просім адмяніць Пісьмовае папярэджаньне Кансэрватыўна – Хрысьціянскай Партыі – БНФ, якое вынесена Міністэрствам юстыцыі загадам № 691 ад 06.12.2007 г.

Абарона нацыянальных інтарэсаў, нацыянальных беларускіх каштоўнасьцяў ёсць норма Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, адпавядае палажэньням Праграмы Кансэрватыўна – Хрысьціянскай Партыі – БНФ і зьяўляецца прыярытэтнай дзейнасьцю Партыі ў сучасны пэрыяд.

Ліст падрыхтаваны намесьнікамі старшыні Партыі Беленькім Ю.А. і Папковым С.П., якім Сойм надаў паўнамоцтвы прадстаўляць інтарэсы Партыі ў Вярхоўным судзе па справе абскарджаньня Пісьмовага папярэджаньня, якое вынесена Міністэрствам юстыцыі загадам № 691 ад 06.12.2007 г.

***Намесьнік старшыні***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***
***С. Папкоў***

*4 лютага 2008 г.*

# ФАРС У ВЯРХОЎНЫМ СУДЗЕ

5 лютага ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь была разгледжана грамадзянская справа па позве Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, якая патрабавала адмены пісьмовага папярэджаньня, вынесенага Партыі Міністэрствам юстыцыі ў сьнежні 2007 г. Мінюст абвінаваціў Партыю ў „паклёпе на палітыку Расеі, на расейскую гісторыю” і ў „зьнявазе грамадзянаў расейскай нацыянальнасьці”.

Працэс разгарнуўся паводле правілаў тэатра абсурду і быў распачаты з грубых працэсуальных парушэньняў. Суддзя В. Самалюк неабгрунтавана адмовіў прадстаўніку Партыі ў магчымасьці запрасіць на працэс адваката. Затое ў зале суда ўвесь час знаходзілася прадстаўніца пракуратуры з маёрскімі пагонамі. Яна ўмешвалася ў спрэчкі і відавочна выступала на баку прадстаўніка Мінюста. А гэтаму прадстаўніку – тав. Печкурову (нач. аддзела Мінюста па сувязях з грамадзкімі арганізацыямі) – сапраўды рэгулярна патрабавалася актыўная (і незаконная) падтрымка з боку пракурорркі. Малады чалавек прадэманстраваў на працэсе сваю поўную прафэсійную некампетэнтнасьць як юрыст і вельмі шчыра прызнаўся ў гэтым, штораз паўтараючы на пытаньні прадстаўніка Партыі: „Я гэта ня ведаю, я на гэта не ўпаўнаважаны...”

Прадстаўнік Партыі сп. Сяргей Папкоў, намесьнік старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, задаваў пытаньні проста і зразумела, па сутнасьці справы. А менавіта: чаму мінюст РБ

* Папярэджаньне не адмянілі. Прапанова суддзі Вярхоўнага Суда гэта быў ашуканцкі прыём чыноўнікаў, „азіятчына”. Ліст накіраваны ў канцы студзеня. – *(З. П.)*

бароніць палітыку і гісторыю чужой краіны – Расеі, у чым заключаецца „паклёп" і „зьнявага", а таксама, хто зьяўляецца суб'ектам (адрасатам) гэтага „паклёпу" і „зьнявагі"? На гэтыя пытаньні разгублены тав. Печкуроў зь Мінюста адмовіўся адказваць, кажучы, што гэта „не яго кампетэнцыя". Тады сп. Папкоў запатрабаваў запрасіць у суд камісію экспэртаў, якія б правялі экспэртызу тэксту дакумента Партыі пад назовам „Асіміляцыя – злачынства супраць чалавецтва". Пасьля чарговага ўмяшальніцтва пракуроркі суддзя заявіў, што ў стварэньні і запрашэньні такой камісіі „няма патрэбы".

Урэшце сп. Папкоў зьвярнуў увагу суда на шэраг цытатаў з дакумента „Асіміляцыя...", устаўленых у тэкст ліста Мінюста, накіраванага Партыі. Ніводная з прыведзеных цытатаў (як і ў цэлым тэкст дакумента „Асіміляцыя...") ня ўтрымлівае паклёпу на гісторыю Расеі і ў ім нават ня згадваліся „расейскія грамадзяне" і „грамадзяне небеларускай нацыянальнасьці" (у зьнявазе якіх абвінавачваецца Партыя). Больш таго, адна з „цытатаў" была груба сфальсіфікавана Мінюстам і ўяўляе сабой падлог (бо такой цытаты не існуе ў тэксьце ліста). Суд не зьвярнуў увагі і на гэты факт (!). Тав. Печкуроў зачытаў заранёў напісаны выступ, у якім гаварылася пра „павагу і роўныя правы ўсіх нацыянальнасьцяў у нашай Рэспубліцы", пра „свабоду выбару мовы ў Беларусі" – і ўсяму гэтаму, маўляў, замінае і пярэчыць КХП-БНФ.

Сп. Сяргей Папкоў у сваіх выступах выклаў шэраг фактаў антыбеларускай практыкі асіміляцыі і русіфікацыі беларусаў на Беларусі: ліквідацыя беларускага школьніцтва, фальсіфікацыя нашай нацыянальнай гісторыі і штучная дэградацыя культуры грамадзтва. Гэта ёсьць афіцыйная палітыка кіраўніцтва Расеі і прамаскоўскага рэжыму на Беларусі. Расейскія палітыкі вышэйшага ўзроўню, палітолагі і крамлёўскія аналітыкі ня крыюцца, заяўляюць публічна (суду былі прадстаўлены вытрымкі такіх выказваньняў у СМІ), што мэтай гэтай палітыкі зьяўляецца ўключэньне Беларусі ў Расею „шасьцю губернямі", русіфікацыя і размываньне насельніцтва Беларусі, выкарыстаньне беларускіх матэрыяльных і інтэлектуальных рэсурсаў на карысьць Расеі. Гэта ёсьць агрэсіўная антыбеларуская палітыка. Такой ёсьць рэчаіснасьць беларускага жыцьця. Такія факты не зьяўляюцца „тэндэнцыйнымі заявамі", „паклёпам" і „зьнявагай" з боку Партыі, як гэта сьцьвярджае Мінюст.

Рэагуючы на пытаньні сп. Папкова, тав. Печкуроў блытаўся і віляў. Знаёмыя паводзіны прадстаўнікоў рэжыму. Раней так паводзілі сябе на судах (ды й цяпер так паводзяць) падстаўныя сьведкі. Але гэта з большага пастарунковыя міліцэйскія сяржанты. Такую ж манеру і традыцыю працягнуў на судзе загадчык аддзелу зь Міністэрства юстыцыі.

Падчас працэсу станавілася ўсё больш зразумелым, што наладжанае „судовішча" ў зале суда ёсьць нічым іншым як заранёў падрыхтаваным шоў, якое ня мае нічога агульнага з законам і правам. Заранёў было таксама падрыхтавана і судовае рашэньне. 6-га лютага Вярхоўны суд адмовіўся задаволіць заяву Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ на абскарджаньне незаконнага папярэджаньня з боку Мінюста.

Якая выразная карцінка рэжыму! Міністэрства і Вярхоўны суд адкрыта праводзяць антыбеларускую палітыку чужой дзяржавы – Расеі, удзельнічаюць у непрыкрытай інсінуацыі і фальсіфікацыі супраць законнасьці і адраджэнскай Партыі Беларусі.

Нягледзячы на судовую сваволю і акупацыйную палітыку рэжыму, Партыя будзе працягваць сваю дзейнасьць у абарону незалежнай Беларускай дзяржавы, нашай вялікай беларускай культуры і мовы.

***Янка Базыль***

*6 лютага 2008 г.*

# АЛЕГ ТРУСАЎ: «НА РАНІЦУ ГЭТА БЫЛА ДРУГАЯ ДЗЯРЖАВА»

*Ноч з 11 на 12 красавіка 1995 году належыць гісторыі. Тады дэпутаты Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня ад Апазыцыі БНФ (і БСДГ) абвясьцілі галадоўку і засталіся ў Авальнай залі Дома ўраду, дзе былі жорстка зьбітыя і гвалтам выдаленыя з будынку. Падставай для пратэсту стала ініцыятыва Аляксандра Лукашэнкі правесці рэфэрэндум, скіраваны на скасаваньне беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, Бел-ЧырвонаБелага сцяга і гэрбу «Пагоня» як дзяржаўных сымвалаў і на роспуск Вярхоўнага Савета. З дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня Алегам Трусавым гутарыць Аляксей Кароль.*

**– З дыстанцыі мінулых трынаццаці гадоў, як можна вызначыць прычыны той расправы над дэпутатамі, па сутнасьці – разгону вярхоўнай улады ў краіне? Ці чакалі вы нечага падобнага? Чаму гэта адбылося?**

– З аднаго боку, у нейкай ступені чакалі. Чаму? Таму што парушэньне заканадаўства ўжо да гэтага ішло поўным ходам. Я, напрыклад, далучыўся да галадоўкі з патрабаваньнем свабоды прэсы і вяртаньня на пасаду галоўнага рэдактара «Народнай газэты» Іосіфа Сярэдзіча. Бо калі зьнялі з пасады рэдактара газэты – на той час органа Вярхоўнага Савета насуперак волі Савета, – стала зразумела, што закон у краіне не выконваецца, што новая структура выканаўчай улады ідзе ў наступ на заканадаўчую ўладу і ня спыніцца перад парушэньнем закона. Іншая справа, што калі пачалося зьбіцьцё, то некаторыя наогул думалі, што нас заб'юць.

**– Якім быў Ваш псіхалагічны стан у той момант і пасьля?**

– Пасьля гэтага я перастаў баяцца. Савецкі страх, які сядзеў у ва мне генетычна, зьнік. Мы шчыльна шчапіліся за рукі, ім далёка не адразу ўдалося нас разадраць. А білі жорстка. Усё цела было сінім. Рука паўгода не падымалася. Але яны і самы баяліся. Калі нам удалося з двух-трох чалавек сарваць маскі, то тыя кінуліся на падлогу і закрылі твары рукамі. Праз колькі год у мэтро да мяне падышоў невядомы мне чалавек і папрасіў прабачэньня за свой удзел у зьбіцьці.

**– Як вы ацэньваеце палітычны вынік той ночы?**

– З аднаго боку, зьбіцьцё паказала, што дэмакратыя ў Беларусі скончылася. Дарэчы, гэта не навіна для гісторыі. Узгадвацца зьбіцьцё дэпутатаў у італьянскім парляманце, пасьля якога Мусаліні прыйшоў да ўлады; разгром парляманта Юзэфам Пілсудзкім. Фактычна, мы наглядаем як бы паўтор эпізодаў з эўрапейскай гісторыі, толькі са спазьненьнем па часе. Да зьбіцьця дэпутатаў была адна дзяржава – на раніцу 12 красавіка гэта была ўжо другая дзяржава. Мне як гісторыку ноч з 11 на 12 красавіка 1994 года – пачатак адліку канца дэмакратыі. Не рэфэрэндум лістапада 1996 года, не зьмены ў Канстытуцыі, як лічаць некаторыя дэпутаты 13-га скліканьня, а гэтая ноч. Чаму? Таму што, калі мы абвясьцілі галадоўку, у гэты дзень на пасяджэньні ВС дэпутаты большасьцю галасоў адхілілі тры з чатырох прапановаў Лукашэнкі па пытаньнях рэфэрэндуму: пра зьмену дзяржаўнай сымволікі, мову і роспуск Вярхоўнага Савета. Адказам было зьбіцьцё. Усё астатняе – потым.

**– Удакладнім дэталі: паседжаньне праходзіла, калі ўжо пачалася галадоўка?**

– Так. Галадоўка пачалася а 9-й раніцы. Праз гадзіну далучыўся я, потым Антончык. Яшчэ некалькі чалавек. Мы сядзім каля трыбуны, мы глядзім у вочы тым, хто галасуе, і яны не падтрымліваюць фармулёўкі пытаньняў, прапанаваных прэзыдэнтам. Сьпікер

Мечыслаў Грыб абвяшчае адно пытаньне – не праходзіць. Другое – не праходзіць… Супраць галасавала большасць дэпутатаў, якая якраз складала тую самую, па тагачаснай тэрміналёгіі, кансэрватыўную большасць Вярхоўнага Савета. Усе разумелі, чым пагражае рэфэрэндум па прапанаванаму сцэнару. Гэтыя пытаньні не прайшлі, не хапіла 174 галасы, каб была простая большасьць. Прагаласавалі толькі за нармальнае чацьвёртае пытаньне – за эканамічны саюз з Расеяй. Мы выйгралі законным дэмакратычным шляхам. І таму ўлада пайшла ва-банк. Бо калі б яны нас брутальна не пабілі, ня выкінулі з памяшканьня, то на заўтра парлямант пайшоў бы далей. То бок, Вярхоўны Савет дванаццатага скліканьня аказаўся ў прынцыпе сумленным.

**– Такім чынам, Вы, па вялікім рахунку, дасягнулі мэтаў, якія ставілі пачынаючы галадоўку. Ці не было б лагічным на гэтым галадоўку спыніць, працягнуць пасяджэньне Вярхоўнага Савета і дамагацца, ужо ў якасці законатворцаў, правядзеньня прынятых рашэньняў у жыццё?**

– Мы дамагліся толькі частковай перамогі, таму што з парадку дня гэтыя пытаньні не былі зьнятыя. І мы разумелі, што калі мы заўтра падымемся ў залю, яны могуць гэтыя пытаньні па новай узняць, і невядома, што будзе. Таму мы вырашылі галадаць да канца сэсіі, калі ўвесь парадак дня скасуецца і вяртаньне да гэтых пытаньняў стане немагчымым. Так, дарэчы, і атрымалася: пасьля зьбіцьця зноў гэтыя пытаньні паставілі і ўжо атрымалі тыя вынікі, якія хацелі.

**– Акцыя спрацавала на застрашэньне?**

– Канешне, дэпутаты баяліся за свой лёс. Пасьля таго, як была парушана дэпутацкая недатыкальнасць, калі ў парлямант увайшлі ўзброеныя людзі, што забаронена законам, большасьць проста спалохалася.

**– А няўжо яны не разумелі, што на гэтым усё роўна завяршаецца іх лёс, ва ўсялякім разе, палітычны?**

– Не разумелі. Многія спадзяваліся на прымірэньне і дамоўленасьці, на нейкія пасады. Пайшлі 190 чалавек на разьвітальны банкет, які ладзіў прэзыдэнт. І Грыб там быў, дарэчы. Людзі не разумелі «па кім звоніць звон».

**– Як склаліся іх лёсы? Якая частка ўладкавалася ў новай сістэме?**

– Думаю, меншая, прычым з тых, хто галасаваў «за» і першы раз. Тыя, хто вагаўся і бегаў тудысюды, зараз або проста пэнсіянеры, або працуюць на невялікіх пасадах.

**– Якой была, якой магла быць і якой павінна была быць рэакцыя Вярхоўнага Савета на падзеі той ночы?**

– Тут усё залежала ад Мечыслава Грыба – кіраўніка парляманту і прэзыдыюма. Спачатку хацелі праводзіць сэсію ў памяшканьні Вярхоўнага Савета, на Карла Маркса, 38. Аднак Мечыслаў Грыб пасьля сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам згадзіўся праводзіць паседжаньне ў залі Дома ўраду.

**– А якая розьніца, дзе праводзіць паседжаньне?**

– Ёсць добрая прымаўка, што ў сваім доме і сьцены дапамагаюць. Будынак Дому ўраду ўжо не належаў Вярхоўнаму Савету, ён належаў прэзыдэнту і ўраду. А будынак на Карла Маркса, 38 яшчэ быў у Вярхоўнага Савета, і той мог прыняць рашэнне праводзіць закрытае пасяджэньне, без усялякай дадатковай аховы, але з допускам прэсы, на той час яшчэ шматлікай. І гэта было б вельмі важкім стрымліваючым фактарам супраць паўтору начной акцыі. Бо калі б сярод белага дня ў залю пасяджэньня ўварваліся людзі ва уніформе, то інакш, як разгонам парляманту, адкрытым пераваротам, відавочным для ўсяго сьвету, гэту акцыю патлумачыць было б цяжка. Вакол Дому ўраду, у самым будынку пасля той ночы знаходзілася безьліч людзей у форме.

Дарэчы, праз два тыдні будынак на Карла Маркса ў Вярхоўнага Савета адабралі, узамен далі некалькі паверхаў у Доме ўраду, забралі таксама з распараджэньня Грыба машыны. Інакш кажучы, як толькі выйгралі пытаньне пра рэфэрэндум – забралі бастыён. Калі б пасяджэньне праходзіла ў памяшканьні ВС, вынікі яго маглі б быць іншымі.

**– Сутнасць таго моманту барацьбы – захаваньне статус-кво?**

– Так. За ўладу. Таму што парлямант тады мог прагаласаваць за Канстытуцыю, за дэмакратычны падзел уладаў. Тым больш, што факт збіцьця, уварваньня невядомых узброеных людзей у парлямант быў падкрэсьлены: тагачасны генэральны пракурор спадар Шаладонаў па гэтым факце завёў крымінальную справу, пачалося сьледзтва. І парлямант меў усе паўнамоцтвы (яны заканчваліся праз месяц) выклікаць кіраўнікоў усіх сілавых структураў, стварыць для рассьледаваньня парляманцкую камісію і гэтак далей. Таму і сьпяшаліся з рэфэрэндумам, нягледзячы на яшчэ адно парушэньне, бо рэфэрэндум па закону нельга было праводзіць бліжэй шасьці месяцаў да канца тэрміну дзеяньняў ВС. Ну і, канешне, вельмі адмоўную ролю адыграў Канстытуцыйны суд. Пачаў гульню ў адпіскі з намі, а скончыў поўным фіяска ў 1996 годзе. На жаль, многія з актыўных палітычных фігур таго часу баяліся за свой далейшы лёс, іншыя не разумелі, хаця б з гістарычнага досьведу, магчымых наступстваў таго развіцьця падзей, якія ўжо з відавочнасьцю абазначыліся. Нават для сябе самых. Тыя ж Анатоль Лябедзька, Віктар Ганчар, Юры Захаранка, які тады ўзначальваў міліцыю і якую зрабілі закладнікам сытуацыі. Міліцыянты ня ўдзельнічалі непасрэдна ў нападзе, але стаялі вакол шэрагамі ў поўнай амуніцыі.

**– Колькі дэпутатаў удзельнічала ў галадоўцы, ці дакладней будзе сказаць, у акцыі супраціву ў парляманце? Большая колькасьць удзельнікаў магла паўплываць на ход падзей?**

– Дзевятнаццаць. Безумоўна, магла. І нават ня проста колькасць, а далучэньне да нашай групы некалькіх выключна паважаных, аўтарытэтных, вядомых у нас і за мяжой асобаў. Уявіце: мы селі, а побач сядаюць Гілевіч, Шушкевіч, Карпенка, які потым выступаў у нашу падтрымку, але было позна. І я ня ўпэўнены, што тады б рашыліся на зьбіцьцё.

**– У гэтым кантэксьце – пытаньне, якое гучала ў той час ды не страціла актуальнасьці да дня сёньняшняга і якое адлюстроўвае розныя адносіны розных групаў дэмакратаў і насельніцтва да вашай акцыі: ці была гэта акцыя дакладна прадумана з разьлікам і на большую колькасць удзельнікаў, і на паэтапнае дасягненьне пэўных вынікаў?**

– Нічога з гэтага зроблена не было. Таму што сама ідэя галадоўкі ўзнікла спантанна, бо іншага выйсця ўжо не заставалася. Не заставалася і часу. Я, напрыклад, быў супраць галадоўкі, але няёмка было людзей падводзіць. Пайшла на галадоўку ня ўся Апазацыя, частка ня ўдзельнічала па розных прычынах. Але калі мы ўжо селі, каб да нас далучыліся людзі не з Апазыцыі, а проста дэмакраты, то перамога хутчэй за ўсё была б за намі. Але яны не адчулі гэтага моманту.

**– Відавочна, ня з боязі, а з уяўленьня пра іншыя магчымасьці супрацьдзеяньня. Што можна сказаць на гэты конт праз трынаццаць гадоў?**

– Я і не кажу пра боязь. Але і тады, і сёньня, тым больш з улікам усіх падзеяў палітычнага разьвіцьця за гэтыя 13 гадоў, я ня бачу іншых варыянтаў. Таму што галоўныя, зыходныя парушэньні былі зроблены, калі прымалі Канстытуцыю, уводзілі пасаду прэзыдэнта праз галасаваньне па іменных бюлетэнях на працягу тыдня. У мяне мой бюлетэнь да гэтага часу захоўваецца, бо мы не прымалі ўдзел у тым галасаваньні. Здаецца, дробязі – парушэньне працэдуры. Але не было б іх, захавалася б парляманцкая рэспубліка. Ад той

даты – прыняцьця Канстытуцыі з папраўкай на ўвядзеньне пасады прэзыдэнта ад 15 сакавіка 1994 года – да даты нашага зьбіцьця прайшоў усяго толькі год. І менш года да рэфэрэндуму ў лістападзе 1996 года. Менш чым два гады спатрэбілася, каб поўнасьцю скасаваць дэмакратыю. Прамежкавыя этапы гэтага працэсу: самы дэпутаты, ужо новага 13-га скліканьня, прагаласавалі за адмену непасрэднай трансляцыі пасяджэньняў ВС, передачу СМІ пад кантроль выканаўчай уладзе, зацьвердзілі вынікі рэфэрэндуму. І ўрэшце – самы былі заменены на Палату прадстаўнікоў.

**– Між тым, насуперак намаганьням выканаўчай улады, выбары ў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня адбыліся. Значыць, была ў грамадзтве падтрымка, было на каго абапірацца?**

– Прычым моцная. Па выніках галасаваньня за Шушкевіча, за Пазняка на першых прэзыдэнцкіх выбарах, на выбарах у ВС 13-га скліканьня галасавалі мільёны два. Яны і зараз ёсць. І менавіта таму мы тут сядзім і робім гэта інтэрв'ю. Любая дыктатура моцная настолькі, наколькі ёй дазваляе грамадзтва. Мы перажываем не канец, а толькі паўзу ў дэмакратычным разьвіцьці краіны.

**– Якія ўрокі вы асабіста вынесьлі з тых падзей?**

– Першы: у момант ікс неабходна аб'яднаньне ўсіх дэмакратычных сіл, нягледзячы на колеры і адценьні – левых і правых, белых, сініх, ружовых… Калі адны глядзяць, як другіх зьбіваюць, – перамогі ня будзе. Другі: наша грамадзтва пакуль што застаецца сэрвільным. Калі б пасля нашага зьбіцьця на плошчу перад Домам ураду прыйшло 50 тысяч, то ВС не пабаяўся б прыняць рашэньні ў абарону дэмакратыі. І лёс краіны быў бы іншы.

***Алег Трусаў***

*Надрукавана: («Новы Час», – 2008, 18 красавіка).*

# ПАМЯЦЬ КУРАПАТАЎ

***Дваццаць гадоў таму, 3 чэрвеня 1988, Беларусь прачнулася іншай.***

Яна пакуль яшчэ абудзілася пад гімн СССР і БССР па „радыёкропцы", яна, як і дзесяцігодзьдзі, кіравалася з Масквы рашэньнямі ЦК КПСС і яго Палітбюро, што педантычна выконваліся ў ЦК КПБ, і зьнешне ні ў Менску, ні ў іншых гарадах ці ў вёсках нічога не зьмянілася, усё заставалася па-ранейшаму, – але з гэтага дня Беларусі было наканавана зьмяніцца.

У той дзень штотыднёвік „Літаратура і мастацтва", які рэдагаваў Анатоль Вярцінскі, надрукаваў артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва „Курапаты – дарога сьмерці". (Пісаў артыкул ад першага да апошняга слова адзін Пазьняк, але палічыў тактоўным узяць у суаўтары калегу, зь якім праводзіў дасьледваньне). З двух назоваў гэтай мясцовасьці – агульнапрынятай „Брод" і малавядомай лакальнай „Курапаты" – Пазьняк выбраў апошнюю, палічыўшы, што яна дае больш поўнае адлюстраваньне зьявы. Тое, як удалося надрукаваць артыкул – асобная тэма, якая, бясспрэчна, павінна быць зафіксаваная для гісторыі. Але сёньня – пра вынік.

У тыя часы гарбачоўскай „перабудовы" пра рэпрэсіі ў афіцыйнай прэсе пісалася шмат. Чаму ж менавіта адкрыцьцё Курапатаў мела такі моцны эмацыйны і, пазьней – палітычны эфэкт?

Тагачаснае камуністычнае кіраўніцтва БССР калі і не адмаўляла наяўнасьць рэпрэсій, дык сьцьвярджала, што гэта – „скажэньне ленінскай палітыкі". Абвергнуць факт растрэлаў і катаваньняў ім было немагчыма, але лёгка стваралася ўражаньне, што усё гэта было не на беларускай зямлі, а недзе далёка – у Магадане, у Сібіры, у Казахстане, ці ў маскоўскай Лубянцы. Газэты пісалі пра трагічныя лёсы Бухарына, Рыкава, Каменева – прадстаўнікоў партыйнай эліты (ня меньш вінаватых у прыходзе да ўлады бальшавікоў на чале з Леніным, чым сам Сталін).

Пазьняк сказаў (упершыню), што забівалі вось тут, побач, дзе ты ці твой знаёмы у мінулую суботу з кампаніяй смажылі шашлыкі. Пазьняк цытаваў расповеды жыхароў навакольных вёсак, і нешта жахлівае было ў тым спалучэньні будзёнасьці і трагедыі, якая ажывала ў словах сьведкаў. Пазьняк даказаў, што зьнішчалі ня толькі вышэйшую наменклатуру, ня толькі інтэлектуальную эліту (хаця, канешне, вынішчаць імкнуліся найперш эліту, ды і нацыянальна арыентаванае кіраўніцтва таксама), – забівалі тысячы простых сялян, тысячы звычайных рабочых.

Пазьняк даў прыблізную лічбу забітых у Курапатах – ня меньш за 102 тысячы чалавек (у кожным пахаваньні ў сярэднім 200 нябожчыкаў). Але рэальная лічба, пісаў ён, большая, бо колькасьць пахаваньняў магла дасягнуць 900 – значыць, колькасьць забітых сягае за 200 тысяч. Гэта больш, чым колькасьць жыхароў у сёньняшнім Полацаку і Наваполацку разам узятых. (Прыкметна, што нават энцыкляпэдычны слоўнік „Беларусь", выдадзены ўжо пры Лукашэнку, падае лічбу 50 тысяч чалавек).

Больш як 200 тысяч чалавек– гэта, усё ж, не „асобныя прадстаўнікі" народу і нават не „шырокае кола прадстаўнікоў". Гэта ўжо – сам народ.

І, нарэшце, ён сказаў, што зьнішчалі – менавіта беларускі народ. У апошніх радках артыкулу прагучала слова „генацыд". Ужо пазьней дасьледчыкамі было даказана, што сярод тых, хто расстрэльваў, адзінкі паходзілі з Беларусі – у канцы 30-х гадоў НКВД было сфармавана пераважна з выхадцаў з расейскіх вобласьцяў.

Было упершыню сказана пра мэтанакіраванае зьнішчэньне нацыі – і нацыя ўспрыняла, адгукнулася яднаньнем, самаарганізацыяй. Мне ужо даводзілася пісаць, што пэрыяд апошняга нацыянальнага Адраджэньня вызначаны двума датамі – публікацыяй артыкулу пра Курапаты 3 чэрвеня 1988 году і „рэфэрэндумам" 14 мая 1995 г. аб лёсе (лёсе ў лукашэнкаўскай Беларусі, канешне, а ня ў вечнасьці) Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, „Пагоні" і беларускай мовы.

Менавіта артыкул у ЛіМе даў штуршок да стварэньня 19 кастрычніка 1988 году „Мартыралогу Беларусі" і Аргкамітэту БНФ. Абапіраючыся на Народны Фронт і яе дэпутацкую групу ў Вярхоўным Савеце, Пазьняк здолеў ня толькі абвясьціць ідэю беларускай Незалежнасьці, але і рэалізаваць яе палітычна. 27 ліпеня 1990 году была прынятая Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце, а і 25 жніўня 1991 года ёй быў нададзены статус канстытуцыйнай сілы. Гэта быў рэальны палітычны вынік. Ён быў дасягнуты шмат якімі прагматычнымі, матэматычна выверанымі крокамі лідэра БНФ – і падтрымкай тысяч актывістаў Народнага Фронту, прыхільнікаў дэмакратыі, якія выходзілі на плошчу перад Домам ураду. Але сымвалічна, што пачатак такога рэальнага палітычнага выніку бярэ пачатак у духоўным – у вяртаньні нацыі памяці пра Курапаты, дзе палеглі і тыя, хто ўтварыў 25 сакавіка 1918 г. Беларускую Народную Рэспубліку, ды так і не пабачыў ідэю беларускай дзяржаўнасьці рэалізаванай...

Ёсьць яшчэ адзін аспэкт, у той час не заўважаны грамадзтвам, але, пэўна ж, дакладна пралічаны тымі, хто ўспрыняў артыкул як удар па сваіх ідэалах. Адкрыцьцё Курапатаў – гэта і знаходкі матэрыяльных улік для магчымага судовага працэсу над камунізмам. Выступы і рэзалюцыі XX і XXII-га партыйных з'ездаў з асуджэньнем „культу асобы" могуць быць сьпісаныя на палітычную барацьбу партыйных кланаў ці ўспрынятыя як ускосныя ўлікі.


(Фота Ул. Карміїкіна)

*187-Д. Абарона Курапатаў. 2001 г.*

Прастрэленыя чарапы, косьці, кулі ад наганаў – гэта ўжо непасрэдныя, відочныя доказы. Магчыма, у гэтым і ёсьць адна з галоўных прычынаў нянавісьці, якую маюць да Пазьняка палітычныя спадкаемцы бальшавізму.

Уступ да артыкулу напісаў Васіль Быкаў, і пазьней, на Дзяды, Васіль Уладзімеравіч заўсёды прыходзіў на шэсьце ў Курапаты, якое ладзіў Беларускі Народны Фронт.

На тыя шэсьці зьбіраліся мы звычайна каля вядомага дому на пачатку галоўнага праспэкту сталіцы і ставілі шыльду: „Адсюль, з будынка НКВД, пачынаўся пакутны шлях у Курапаты. Вечная памяць ахвярам бальшавіцкага тэрору!". Быкаў казаў кароткую прамову, выступалі Рыгор Барадулін, вязень ГУЛАГу Сяргей Грахоўскі, а потым рушылі па праспэкце – да саміх Курапатаў.

Шыльда ля былога НКВД назаўтра, канешне, зьнікала. У гэтым доме (пасьля вайны ён разбудаваны ў квартал карпусоў) цяпер захоўваюцца ўсё яшчэ не рассакрэчаныя тысячы, дзесяткі тысяч справаў і забітых, і тых, хто забіваў.

Якія такія дзяржаўныя таямніцы ўтрымліваюць тыя паперы, што і праз семдзесят год яны маюць грыф „сакрэтна"? Якія таямніцы ахоўвае ўлада? Мэтады вербоўкі стукачоў, парадак афармленьня палітычных даносаў? Тэхналёгію забойства двух чалавек адной куляй (гэтак часта рабілі ў Курапатах)? Спосабы пахаваньня трупаў у некалькі пластоў?

Гэта таму сакрэтна, таму важна, што – спатрэбіцца? І ці трэба разумець, што калі КДБ перахоўвае таямніцы НКВД, яно зьяўляецца спадкаемцам (духоўным і палітычным) гэтага самага НКВД?

Нядаўна новапрызначаны кіраўнік „ідэялягічнага упраўленьня" на пытаньне, чаму адкрытая „лінія Сталіна", адказаў, што існуюць людзі, для якіх з імем Сталіна зьвязаныя іх маладыя, лепшыя гады і перамогі пад час вайны. І што іх пачуцьці трэба паважаць. Уявіце, што ў сучаснай Нямеччыне архівы СС – засакрэчаныя (бо нельга выдаваць прафэсыйныя таямніцы спэцслужбаў). Што ёсьць вуліцы Гітлера і Гімлера – бо, маўляў, жывуць яшчэ тыя, для каго вобраз фюрэра і ягоных паплечнікаў атаясамліваецца зь іхняй маладосьцю, з энтузіязмам будаўніцтва першых аўтабанаў, з перамогамі на Заходнім і Усходнім фронтах...

Паважаючы пачуцьці прыхільнікаў Сталіна, улада ні словам, ні справай не прыгадвае пра пачуцьці былых вязьняў ГУЛАГу, родных і блізкіх тых, хто расстраляны ў Курапатах. Ужо пры Лукашэнку іх пазбавілі нешматлікіх ільготаў (значна меншых, чым ў вэтэранаў НКВД-КГБ).

Пагаджуся з тымі, хто кажа, што нельга параўноўваць нацызм з камунізмам, СС з НКВД-КДБ. Нацызм праіснаваў толькі дванаццаць гадоў – камунізм больш як семдзесят, і колькасьць ахвяраў камунізму значна перавышае колькасьць тых, хто загінуў ад рук нацыстаў. І ўсё ж справа ня толькі ў лічбах. Калі тады, на мяжы 1980-90 гадоў, Пазьняк казаў пра неабходнасьць суду над камунізмам па тыпу Нюрнбергскага, ён падкрэсьліваў, што гаворка найперш пра асуджэньне ідэалёгіі, без чаго ісьці далей будзе немагчыма.

Але тыя, хто зьдзекваўся з той ідэі, жадалі рухацца не наперад, а назад.

Дайшлі да „лініі Сталіна". Цяпер туды, а не ў Курапаты, возяць экскурсіі.

За дваццаць гадоў у Курапатах былі прэзыдэнты, лаўрэаты Нобэлеўскай прэміі, замежныя дыпляматы – Лукашэнка ніводнага разу не прыехаў. Прыкметна і тое, што, знаходзячы і караючы

аўтараў надпісу „Жыве Беларусь!", міліцыя і спэцслужбы ніколі не адшукалі тых, хто разьбіваў памятны знак Клінтана, ламаў крыжы, апаганьваў магілы.

У пачатку 90-ых гадоў адмысловая камісія павінна была прапанаваць праект мэмарыялу ў Курапатах. Ці то сутыкнуліся амбіцыі скульптараў ды архітэктараў, ці то адмыслова справа была зацягнутая да моманту, калі рэпрэсіі ізноў вярнуліся ў арсэнал улады – але ідэя Мэмарыялу не ажыцьцявілася. Аднак часам мне падаецца, што ў гэтым ёсьць пэўны глыбокі сэнс. І ня толькі таму, што нават самы лепшы праект ня можа быць адэкватны маштабу нацыянальнай трагедыі. Добра разумеючы сутнасьць цяперашняй улады, простыя людзі прыходзяць і ўсталёўваюць тут крыжы. Кожную суботу актывісты Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ ладзяць тут талаку, расчышчаюць зямлю ад сьмецьця.

Ствараецца сапраўды народны мэмарыял. І, урэшце, памяць – не у мармуры, а ў сэрцах.

***Сяргей Навумчык***

*Надрукавана: („Народная воля", – 2008, 29 траўня; „Беларускія Ведамасьці", – 2008, №1(63).*

# DIE BESEITIGUNG DER GEFOLGEN DES KOMMUNISMUS NACH DEM UNTERGANG DER SOWJETUNION

In unserer Zeit der Kommunismus ist kein internationales Phänomen in Europa. Aber seine Ideologie ist geblieben. Die Geschichte des Kommunismus wurde nicht auf gehörige Weise beurteilt. Die Mimikry der politischen Kräfte in verschiedenen Formen der Diktatur und der korrumpierten Demokratie wurde auch nicht beurteilt.

Wenn die Leute gegen den Kommunismus nicht kämpfen, der Kommunismus kährt in neuen Formen zurück. Die Symbiose des Kommunismus und des Faschismus wird dabei möglich. Wir sehen diese Prozesse im heutigen Russland.

Der russische Kommunismus hat schreckliche Verbrechen gegen die Menschheit begangen. Viele Millionen der unschuldigen Menschen wurden in den sibirischen Konzentrazionslagern ohne Gerichtverhandlung erschossen und ermordet. Es war typisch (besonders in Belarus und Ukraine), daß die Doktrin des Baues des Kommunismus wurde von Moskau als Denkmantel angewendet um die nationale Elite zu vernichten. Es war die Politik des Völkermordes gegen die unrussishen Völker. Zum Beispiel, in den 1930-ger – 40-ger Jahren die russischen Kommunisten haben in Belarus 70% der belarussischen Schriftsteller (mehr als 500 Personen) erschossen. Die Mehrheit der anderen Schriftsteller wurde nach dem GULAG (das System der Konzentrationslager) verbannt. In gleicher Zeit Moskau hat die Kader der belarussischen sowietischen Administration liquidiert. 98% der Leiter der belarussischen Kreisbehörden wurden erschossen. (Es wurden 102 Leiter von 104 ermordet). Moskau hat die russischen Kader aus Russland nach Belarus geschickt. Diese Administratoren nahmen die Plätze der erschossenen Belarussen. Sie hatten die Parteiaufgabe die Vernichtung aller Formen des belarussischen Lebens und unserer Kultur fortzusetzen.

Gemäß dieser imperialistisch-repressiven Politik die Sowjetbehörden haben eine große Hungerskatastrofe in Ukraine und Kasachstan organisiert, als auch Vernichtung der Krimea-Tataren begonnen. (Die Krimea-Tataren haben ihr Vaterland, Staat und Territorium verloren). Die Tschetschenen und Inguschen als auch die baltischen Völker wurden ermordet und verbannt. Und so weiter…

Der russische Kommunismus war nicht nur eine repressive und terroristische Regime, die auf eine unmenschliche Ideologie der Freiheitsentzug und der Aberkennung des Eigentums basiert wurde. Der Kommunismus in Russland war eine aggressive Form des russischen Imperialismus. Diese Form hat nicht zufällig in Russland erscheint. Es war die Folge des aggressiven Russischen Chauvinismus. Rußland begriff sich selbst als ein Militärstaat, der eine Mission hat das Schicksal der Welt feststellen.

„Der Nürnberger Prozess" über den Kommunismus ist ein Hauptfaktor der Widerstand gegen die Wiederholung der roten Katastrofe. Der Kommunismus kann nicht besiegt werden so lange bis diese Erscheinung ebenso wie der deutsche Hitlerfaschismus und seine Gehilfe von den Völkern verurteilt wird.

Bis 1988 existierte kein Problem des „Nürnberger Prozesses" über den Kommunismus. Die kommunistische Leitung in Moskau demonstrierte den Völkermord als „stalinistische Repressonen", als „Konflikte" und „Fehler" innerhalb der Kommunistischen Partei. Die sowjetischen Bonzen sagten eine falsche Halbwahrheit über die sogenannten „stalinistische Repressionen". Sie versuchten ihr Antlitz und ihre Macht zu bewahren.

In 1988 wurden Kurapaty entdeckt. Am 3. Juni 1988 wurde zum erstenmal die Wahrheit und die Materiale über die Vernichtung der Menschen in Kurapaty neben Minsk publiziert. Viele Leute wußten über den Völkermord und die Vernichtung der belarussischen Bevölkerung. Aber diese Information war nicht systematisiert. Und es war auch ein Hauptproblem – es waren keine unbestreitbare Beweise. Kurapaty war dieser Beweis. Gemäß der kriminalistischen Sprache es wurden die Leichen gefunden – die Beweise des Verbrechens gegen die Menschheit. Diese Beweise bestätigten die Tatsache des Völkermordes.

Moskau sanktionierte den Plan der Erschießung der Menschen in jedem Bezirk, jedem Distrikt und jedem Dorf in Belarus. Dieser Plan wurde von der Geheimpolizei NKWD erfüllt. Die Mörder nannten diesen Plan: „der Plan der Enthüllung der Volksfeinde". Täglich erstatteten sie den Bericht telefonisch nach Moskau über die Zahl der Erschossenen. Jede Nacht die NKWD-Packungswagen kamen zu den belarussischen Dörfern und Städten um die Leute zu verhaften. Ein Teil dieser Leute wurde nach die Vernichtungslager in Sibirien und Kasachstan verbannt. Die anderen wurden in Kurapaty und in den anderen Orten erschossen. (In Kurapaty mehr als 200 Tausende Menschen wurden erschossen. In Belarus – neben zwei Millionen Leute)

Wir haben zusammen mit der Staatsanwaltschaft mehr als 200 Augenzeugen gefunden und befragt. Sie sahen die tragischen Ereignisse und wußten über die Erschießungen in Kurapaty. Ich sprach auch mit den Verwandten der Mörder, die die unschuldigen Menschen in Kurapaty erschießen. Ihre Erzählungen waren die Erscheinungen des Sürrealismus und der Absurdität. Zum Beispiel: „Er war so liebenswürdig und liebte seine Kinder" – hat mir die Frau eines Mörders, der nach Hause mit dem Menschenblut befleckt zurückkehrte.

Es gelang uns Kurapaty noch unter der Sowjetmacht (die schon geschwächt war) zu entdecken, mit den archäologischen Methoden zu erforschen und die Ergebnisse der Ausgrabungen zu publizieren. Es war ein unglaubliches Erfolg, das dank dem Zusammentreffen der Umstände möglich war. Aber alles sah wie ein Wunder aus – es war in Prinzip unmöglich in der Sowjetzeit. Morgen, am 3. Juni werden es 20 Jahre seit der Entdeckung von Kurapaty. Wir, Mitglieder der Belarussischen Volksfront, Demokraten und Anhänger der Wiedergeburt, feiern dieses Jubileum.

Kurapaty – das ist eine formelle Möglichkeit den „Nürnberger Prozess“ über den russischen Kommunismus zu beginnen. Aber die heutige Lage zeigt uns, daß dieser Prozeß eine andere Form und einen anderen Inhalt haben soll. Welche Form und welchen Inhalt? Man muß auf diese Frage eine gemeinsame Antwort geben.

Die Sowjetunion ist ohne den Krieg zerfallen. Als Ergebnis die Verbrecher des Kommunismus wurden nicht versetzt und verhaftet. Es war keine reelle siegende Macht, die einen Prozeß wie im Falle des zerstörten Hitlerreichs vollbringen konnte.

Aber es gibt etwas wichtigeres. Nach dem Untergang der UdSSR blieb die politische Macht in den Händen der kommunistischen Nomenklatur. Etwas später hat das KGB die Macht in Belarus und Rußland ergriffen. Als Ergebniß in Belarus wurde eine diktatorische autoritäre prorussische Regime gegründet (mit Hilfe von Moskau). Diese Regime verwirklicht eine undemokratische Politik des Ethnozides und vernichtet alle Erscheinungen der belarussischen Kultur und des belarussischen Lebens. In Rußland ist eine typische korporative Diktatur gegründet. Die absolute Macht und die absolute Kontrolle im russischen Staat gehört dem KGB. Das KGB ist in Rußsland zu einer politischen Macht, zu einer Superpartei geworden. Diese Superpartei kontrolliert völlig die Wirtschaft, die Banken, die Finanzen, die Staatstrukturen, das Busineß, die Medien, das Sport und die Welt der Kriminalität. Die Superpartei ist vom Staat finanziert. Das System des KGB in Rußland ist schwach. Es hat keine artikulierte Ideologie, die die Existenz dieses Systems rechtfertigen könne. Als Ergebniß das KGB gebraucht den russischen Imperialismus, der in der Vergangenheit geprüft wurde. Unter Bedingungen der Verfalls der ehemaligen Großtums der UdSSR bedeutet die Kombinierung des KBGismus mit dem Imperialismus den geraden Weg nach den klassischen Faschismus (oder seiner Modifizierung). Wir beobachten diese Prozesse in der russischen Gesellschaft und in den Handlungen der KGB-Regime in Rußland.

Die KGB – und NKWD-Offiziere, „Genosse Stalin“ und die Vollstrecker der aggressiven kommunistischen Politik sind zu den Helden der russischen Massenliteratur, der Propaganda und des Kino geworden.

Das KGB hat die absolute Macht in Rußland ergriffen. Das abscheuliche System des KGBimus entwickelt sich und beeinflußt entsprechend die internationale Gesellschaft. Die freie Welt ist nicht fähig dieses Phänomen zu begreifen. Die freie Welt lebt weiter in der Gefangenschaft der Mythen und Illusionen über die sogenannte „russische Demokratie“.

„Der Nürnberger Prozeß“ ist unmöglich wenn die Nachfolger der kommunistischen Mörder und die Fortsetzer der Sache des NKWD die Macht beherrschen. Aber die Länder, die sich vom Kommunismus befreit haben, sollen es beurteilen. Die Gesellschaft soll die Immunität wegen der kommunistischen Propaganda und Demagogie haben. Es ist umsonst eine Reue oder Entschädigung für die Vernichtung des Landes und der Menschen zu warten. (Rußland hat sogar sich weigert die Verlüste nach der Tchernobyl-Katastrofe an Belarus zu entschädigen. Aber es ist notwendig die Frage über die Verantwortung für den Völkermord und die Vernichtung des Landes zu stellen. Man muß diese Klage vorstellen. Man kann nicht die Opfer des Völkermordes vergessen.

Die Länder und Völker, die vom Kommunismus gelitten hatten, haben ein moralisches Recht die kommunistische Tätigkeit ächten. Man versucht bestreiten, daß Kurapaty ein Ort des Martyriums ist. Es ist notwendig die Lüge über Kurapaty im Gericht verfolgen. Es wird so im freien und demokratischen Belarus.

Meiner Meinung nach, man muß im Rahmen der Vorbereitung des „Nürnberger Prozesses“ nicht nur die Fakten und Zeugnisse der Verbrechungen des Kommunismus sammeln (es ist vor allem notwendig). Man muß auch die kommunistische Ideologie scharf kritisieren und die tragischen Folgen dieser Ideologie vorstellen. Es ist sehr wichtig, weil verschiedene Gruppierungen die kommunistische Ideologie entleihen und die Methoden des Terrors benutzen. Man kann keine Toleranz und keine Demokratie wegen der kommunistischen Ideologie verraten. Der Gesetzt ist die beste Methode für die Abwendung des neuen Ausbruches der roten Pest.

*Prag.*

***Dr. Zianon Pazniak***

*(Пераклад па-нямецку В. Буйвала)*


(Фота Ю. Беленькага)

***189-Д. Курапаты. Галоўная алея.***

# АБ ВАЕННАЙ ПРАВАКАЦЫІ РАСЕІ І ВАЙНЕ СУПРАЦЬ ГРУЗІІ

Правакацыйная палітыка расейскага гэбізму на Каўказе, імкненьне выкарыстаць супраць Грузіі Абхазію і Паўднёвую Асэцію прывялі да ўспышкі чарговай вайны ў гэтым раёне. Справакаваўшы чарговы збройны канфлікт, расейская ваеншчына тут жа ўключылася ў вайну супраць суверэннай Грузіі. Пачалі бамбаваць грузінскія нафтаправоды, гарады, шпіталі, жылыя раёны, цывільныя аб’екты і нафтавыя порты на Чорным моры. У чарговы раз Расея дэманструе ўсяму сьвету сваю агрэсіўнасьць і нізкія разбойныя дзеяньні ў дачыненьні да вольных народаў, паказвае, што зьяўляецца падпальшчыкам вайны і пагрозай свабоднаму чалавецтву.

Мы патрабуем ад расейскага кіраўніцтва спыніць агрэсію. Мы зьвяртаемся да палітычных партыяў і арганізацыяў дэмакратычнай Эўропы прызнаць Расею агрэсіўнай краінай і запатрабаваць ад яе спыніць войны на вольным Каўказе.

*10 жніўня 2008 г., г. Менск*

***Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне“ і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

* * *

# АБ НЕДЭМАКРАТЫЧНЫХ ВЫБАРАХ У БЕЛАРУСІ

Сойм Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ зьвяртае ўвагу беларускай і міжнароднай грамадзкасьці на выключную недэмакратычнасьць выбарчай кампаніі па выбарах у недэмакратычны парлямант Беларусі. Пад выглядам „сьледзтва" аб выбуху, які адбыўся ў Менску 4 ліпеня, рэжым Лукашэнкі ўзяў пад кантроль міліцыі і КГБ усё электаральнае насельніцтва Беларусі.

Увесь час робяць масавыя вобшукі і ператрусы ў дамах людзей, крытычна настроеных да рэжыму. Пастаянна адбываюцца арышты і перасьледы, асабліва моладзі. Міліцыя і КГБ масава абыходзяць дамы і кватэры ўсяго насельніцтва па ўсёй Беларусі, перапісваюць пашпартныя дадзеныя і зьвесткі пра людзей, бяруць адбіткі пальцаў. Гэта небывалы нацiск на электарат. Апазыцыйна настроеных асобаў звальняюць з працы, калі яны прымаюць удзел у выбарчай кампаніі. Тут груба топчацца закон і элементарныя правы грамадзянаў Беларусі.

Рашэньнем Лукашэнкі да ўдзелу ў гэтых дзеяньнях пад выглядам „сьледзтва" дапушчаныя спэцслужбы Расеі (ФСБ), якія зацікаўленыя ў стварэньні на Беларусі прарасейскага парляманту, скарыстаўшы фальсіфікацыйную машыну галасаваньня, якая поўнасьцю кантралюецца рэжымам Лукашэнкі. Гэта грубае парушэньне Канстытуцыі. Такія выбары не адпавядаюць нават элементарным нормам дэмакратыі.

Поўная глухата ўладаў на патрабаваньні выконваць закон і нормы дэмакратычнага права, поўная недаступнасьць грамадзкасьці да кантролю над галасаваньнем, непарушнасьць фальсіфікацыйнай машыны выбараў, удзел спэцслужбаў чужой дзяржавы ў кантролі над беларускім электаратам – усё гэта пацьвярджае правільнасьць нашага рашэньня аб усеагульным няўдзеле (байкот) ў фальшывым і недэмакратычным галасаваньні. Выбары, якія праводзяцца ў такіх не дэмакратычных умовах, ня могуць быць прызнаныя законнымі.

*10 жніўня 2008 г., г. Менск*

***Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***
***і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

# МАРА ПАКАЛЕНЬНЯЎ І ВЫНІК ЗМАГАНЬНЯ

Дзень 25 жніўня 1991 года быў другім днём нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савета, скліканай па ініцыятыве парляманцкай Апазыцыі БНФ пасьля правалу праімпэрскага камуністычнага путчу ў Маскве. У канцы дня, у момант вялікага напружаньня і стамленьня, калі настрой дэпутацкай большасьці быў усё яшчэ няпэўны і ўсё магло павярнуцца не на нашу карысьць, і калі Шушкевіч, які вёў сэсію, прапанаваў „заканчваць нашу работу" – тады, у апошнюю хвіліну, слова ўзяў Пазьняк і, ўдала сыграўшы на паняцьцях і пачуцьцях камуністаў і прадстаўнікоў намэнклятуры, здолеў пераканаць дэпутатаў прагаласаваць за наданьне Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы. У 20 гадзін 08 хвілінаў ажыцьцявілася мара пакаленьняў беларусаў –



***193-Д. Помнік Касьцюшку у Вашынгтоне***

нацыя вярнула Незалежнасьць. Гэтыя два дні запатрабавалі ад нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, каласальнага інтэлектуальнага і псыхалягічнага напружаньня – але вынік, пэўна ж, можна лічыць лепшым і галоўным дасягненьнем жыцьця.*

Пазьней будзе шмат напісана пра „агульныя тэндэнцыі сувэрэнізацыі рэспублік", пра „аб'ектыўную адсутнасьць іншага варыянту", што „усё вырашалася ў Маскве", нарэшце, што „незалежнасьць на Беларусь звалілася зь неба" – абы толькі прынізіць ролю нацыянальнага авангарду ў здабыцьці рэальнай Незалежнасьці.

„Агульныя тэндэнцыі" распаду СССР якраз ішлі не з Масквы (там Гарбачоў і Ельцын змагаліся за Крэмль, і свабода „нацыянальных ускраінаў" не фігуравала ў ліку іх палітычных прыярытэтаў) – тэндэнцыі высьпявалі ў тагачасных рэспубліках. Найманцей ў тых, дзе былі актыўнымі нацыянальныя сілы, Народныя франты. Адзначым тут вялізную ролю менскіх „Дзядоў" 30 кастрычніка 1988 года, калі Пазьняку ўдалося прадухіліць, здавалася б, непазьбежнае кровапраліцьце і тым самым ўпершыню ў тагачасным СССР паказаць прыклад мірнай, негвалтоўнай масавай нацыянальнай акцыі ў той час, калі камуністы задумалі і правакавалі вялікую кроў (падзеі ў Тбілісі і Баку, як вядома, разьвіваліся па іншым сцэнары).

* У віншаваньні Зянона Пазьняка франтаўцам ёсьць такія словы: „25-га жніўня 1991 года, праз 200 гадоў акупацыяў і нішчэньняў, Беларусь вярнула сваю дзяржаўную незалежнасьць. Слава Беларусі! Віншую ўсіх суайчыньнікаў з 17-й гадавінай найвялікшай нацыянальнай падзеі XX-га стагоддзя! Віншую Беларускі Народны Фронт! Віншую ўсіх сяброў дэпутатаў-франтаўцаў, наш нешматлікі, сьмелы баявы авангард, што ў тыя трывожныя, унікальныя і рашучыя дні дамогся беларускай перамогі стагоддзяў – зьдзейсьніў цуд над незалежнасьцю. Слава героям, што паклалі жыцьці, пачынаючы йшчэ зь Вялікага Княства, стагоддзямі йдучы да гэтага дня! Слава дарагой Бацькаўшчыне! Хай вечна жыве Беларусь!" – 2008 г. (www.bielarus.net)

Так што Ельцын не „падараваў свабоду” – а вымушаны быў улічваць настроі ў Беларусі, у Прабалтыцы, на Украіне. У яго на памяці быў вопыт Гарбачова, які паспрабаваў кінуць танкі і дэсантнікаў у Вільню і Рыгу. Але ўжо праз некалькі дзён, на пачатку верасьня, Ельцын з маладой „камандай рэфарматараў” пачаў энэргічна адбудоўваць імпэрыю (эканамічна, палітычна і вайскова). Я перакананы, што калі б мы спазьніліся ці каб не былі вынаходлівымі, цьвёрдымі і рашучымі – Беларусь магла б стацца часткай „фэдэрацыі”. (Між іншым, Захад тады ня надта падтрымліваў нашу Незалежнасьць. Захад быў зацікаўлены ў тым, каб ядзерны патэнцыял быў у „адных руках”, маскоўскіх.)

Наш посьпех быў бы немагчымым без падтрымкі дзясяткаў тысяч людзей перад будынкам Дома ўраду, галасы якіх далятаць ў Авальную залю.

Гэта былі нашчадкі паўстанцаў Касьцюшкі і Каліноўскага, чытачоў купалаўскай „Нашай Нівы”, заснавальнікаў БНР, слуцкіх ваяроў, тых, хто палёг у Курапатах, падпольных антыкамуністычных змагароў – і ніхто з тых людзей, што два дні сьцяною стаялі на плошчы, гукалі, сьпявалі і чые вочы напаўняліся сьлязьмі шчасьця, ніколі ня скажа, што Незалежнасьць на іх аднекуль „звалілася”.

*Жнівень 2008 г.*

***Сяргей Навумчык***
***дэпутат Апазыцыі БНФ***
***у Вярхоўным Савеце 12 скліканьня***

# ЛІСТ У АБСЭ

***Парляманцкая Асамблея АБСЭ***
***Парляманцкая Асамблея Рады Эўропы***

*24 верасьня 2008 г.*

Паважаныя спадарыні і спадары.

Станоўча ацэньваючы зацікаўленасьць Рады Эўропы і АБСЭ у назіраньні за ходам парляманцкіх выбараў у Беларусі, прасіў бы Вас спыніць ціск на ўдзельнікаў выбарчага працэсу з мэтай прымушэньня іх да ўдзелу ў выбарах і ў фальшывым галасаваньні.

Цяперашняя выбарчая кампанія ў Беларусі адбываецца ў крайне недэмакратычных умовах, што пацьвярджаецца шматлікімі фактамі, вядомымі прадстаўнікам АБСЭ і ПАРЭ. Такія выбары заранёў ня могуць быць прызнаныя дэмакратычнай супольнасьцю за нармальныя.

Тым часам дэмагогіі і шантажу ўзурпатара прэзыдэнцкай улады ў Беларусі А. Лукашэнкі няма межаў. Цытата А. Лукашэнкі з інтэрв'ю для „Франкфуртэр Альгэмайнэ Цайтунг” і „Файнэншэнл Таймс”: „В последние дни чиновники в Брюсселе подают нам постоянно сигналы о том, что после парламентских выборов они готовы нормализовать с нами отношения... Посмотрим, как поведет себя Европа после выборов. Если вы уже эти выборы в Белоруси не признаете, то тогда, видимо, нам и не стоит тратить время на убеждения вас и Европы в том, что Беларусь – это центр Европы и очень нужное государство для России.”

*(18 верасьня:* http://naviny.by/rubrics/politic/2008/09/24/ic_articles_112_159127/*)*

Зьвяртаю Вашу ўвагу, што гандаль беларускімі інтарэсамі і дэмакратычнымі каштоўнасьцямі, які ў празрыстай форме прапануе спадар А. Лукашэнка, быў бы абсалютна недапушчальны для дэмакратычнай палітыкі.

Маю спадзяваньне, што закамуфляваныя „сигналы чиновников в Брюсселе” менскаму дыктатару аб прызнаньні недэмакратычных выбараў у Беларусі за дэмакратычныя будуць спыненыя.

Недэмакратычныя выбары і зьдзек над здаровым сэнсам ня могуць прызнавацца за нармальнасьць. Выбраны парлямант у такіх умовах ня можа лічыцца легітымным.

З павагай:

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

# ПРАЦА, ЯКАЯ ЗАСЛУГОЎВАЕ ПАХВАЛЫ

У апошні час на маю э-по прыходзяць лісты ад маладых сяброў Беларускага руху. Пытаюцца пра Васіля Якавенку ў сувязі зь нядаўняй публікацыяй у „Народнай Волі” ліста гэтага аўтара, дзе крытыкуецца мая асоба. („Дазвольце не пагадзіцца...” – „Народная Воля”, – 2008, 3 кастрычніка.) Шчыра кажучы, ня маю ніякай ахвоты пісаць на гэтую тэму, камэнтаваць гэты ўзровень і марнаваць час на пустое. Я не адказваў нават камуністам. Проста рабіў сваю справу далей. Цяпер, праўда, вырасла новае пакаленьне у неспрыяльных умовах, і трэба ўсё ж нешта сказаць.

Ліст В. Якавенкі вымоўны і па стылю, і па думках, і нават па цытатах. Аўтар пры нагодзе выказваецца ў мой адрас у гэтым стылі ўжо 20 гадоў. Ня бачу ніякай патрэбы ўдакладняць ягоныя крыўдлівыя закоры. Тым больш, што па сутнасьці падзеі няма прэтэнзіяў. Я сапраўды паставіў пытаньне аб выгнаньні Якавенкі з Аргкамітэту БНФ за антыфронтаўскія дзеяньні, паводзіны і публікацыі. І Аргкамітэт зь ім разьвітаўся.

Праблема, аднак, была шырэйшай, пра якую ў Фронце ведалі далёка ня ўсе. Умоўна яе можна назваць кшталтам „Пазбаўленьне ад агентуры”. Калі б гэтая праграма ня дзейнічала і калі б я ёй не цікавіўся, то Фронт разбавілі б, растварылі б і патапілі б у самым пачатку.

Якавенка прыйшоў не адзін, адразу прывёў з сабой прыгожую маладую сакратарку, якая пісала ўсе пратаколы Аргкамітэту і добра гаварыла па-беларуску. Толькі ніхто яе дагэтуль ня ведаў. А калі даведаліся – аказалася жонкай афіцэра КГБ, якая прысутнічала ў Фронце, як кажуць, „па сумяшчальніцтву”. (Потым яна займалася бізнэсам, а пазьней, ужо за гэтым рэжымам, працавала на радыё „Свабода” журналісткай і фігуравала ў якасьці палітычнага ўцекача, якога быццам бы перасьледуе рэжым Лукашэнкі. Цяпер працуе ў Празе шэф-рэдактарам чэшскай вэрсіі крамлёўскага часопіса „Россия в глобальной политике”, добра гаворыць па-чэшску.)

Наступным пратэжэ Якавенкі быў такі суб'ект па прозьвішчу Жураўлёў. Фронт, паверыўшы рэкамендацыі, ледзь жылы ні парваў, агітуючы і штурхаючы яго ў Вярхоўны Савет СССР. Калі разабраліся, было ўжо па часе. Жураўлёў стаў Народным дэпутатам СССР ад БНФ (і ён там „навыступаў”). Прыводзілі іншых „змагароў” „за свабоду” (з трымя літарамі ў вачах, як у Пуціна), якіх даводзілася адшываць з парога.

Васіль Быкаў у „Доўгай дарозе да дому” апісваў, як у самым пачатку Аргкамітэту БНФ да яго на кватэру прыйшлі Алесь Емельянаў і Васіль Якавенка і пачалі гаварыць пра неабходнасьць лідэрства ў Фронце. Размова скончылася тым, што Быкаў сказаў Якавенку, а

чаму б яму самому „ні зрабіць тое”? Так Якавенка, з падачы Васіля Ўладзімеравіча, стаўся каардынатарам і пачаў праяўляць актыўнасьць ў змаганьні за „перабудову” зь лепшымі сіламі КПСС, мяркуючы, што «перестройка – наша судьба». (У мяне ўзьнікла адчуваньне, што ён яшчэ й цяпер так думае.)



***196-Д. Васіль Быкаў зімой 1994 г. выступае ў халодным клюбе на сустрэчы дэпутатаў БНФ з выбаршчыкамі (г. Гомель).***

Алесь Емельянаў (пазьней сябра Сойму БНФ) на пачатку Фронту рабіў шмат карыснай каардынацыйнай працы. Быў адданым беларусам. Летам 1991 года ён ня вытрымаў падвойнага жыцьця, зьявіўся ў рэдакцыю газэты „Свободные новости” і заявіў пра сваё супрацоўніцтва з КГБ. Матэрыял у газэце так і называўся: „Я был сексотом КГБ” („Свободные новости”, – 1991, чэрвень, №10, с. 7). Гэта было палітычнае харакіры, але застацца сумленным чалавекам і беларусам для Емельянава было вышэй. І, трэба сказаць, фронтаўцы па-чалавечаму ўспрынялі і зразумелі ягоны ўчынак. Пасьля сьмерці ўспомнілі яго добрым і шчырым словам.

Але, на жаль, такі сумленны рахунак зрабіў толькі адзін Емельянаў. Шэраг іншых „дэмакратаў”, па ўсім відаць, будуць кусаць і пакусваць бясконца, жывучы са сваім цяжкім грузам да сьмерці.

Ужо заўважана, як некаторыя з гэтай публікі („апазыцыянераў” ды „дэмакратаў”) пры ўспамінаньні майго імя трацяць раўнавагу, сьціскаюць зубкі і кулачкі. Але дарэмна непакояцца таварышы. Усё ж такі ім моцна пашанцавала з прэзыдэнтам і вярхоўным начальствам. У адваротным выпадку ўступіў бы ў дзеяньне закон аб люстрацыях, і пасыпаліся б яны, як гарох. Зрэшты, усё яшчэ наперадзе. Усё лепшае – перад намі.

## POST SKRYPTUM

Некалькі словаў з нагоды адкрытага ліста да мяне спадарыні І. В. Кісялёвай у гэтым жа нумары „Народнай Волі”.

Паважаная Ірына Васільеўна, на жаль, Вы ўсё пераблыталі. І справа ня ў тым, што Вас падвяла памяць, проста Вы не былі глыбока ўлучаныя ў веданьне справаў, якімі займаўся Народны Фронт, і пішаце па зьвестках аб падзеях, да якіх ня мелі непасрэднага дачыненьня.

Чарнобыльскі Камітэт Беларускага Народнага Фронта „Дзеці Чарнобыля” быў створаны ў Фронце ў красавіку 1989 года. Узначаліў яго Мікола Купава. Ён пачаў гэтую справу. Праз месяц у Фронт прышоў Генадзь Грушавы, які пераняў гэтую дзейнасьць. Менавіта Генадзь Грушавы вывеў фронтаўскі Камітэт на міжнародны ўзровень і стварыў зь яго самую моцную дапамаговую чарнобыльскую арпганізацыю ў Беларусі. Праз нейкі час Камітэт адпачкаваўся ад Фронта і стаў дзейнічаць самастойна (1991 г.). Усё гэта напісана ў кнізе „Беларусь у сэрцы” (стар. 53). Вы гэтай старонкі, магчыма, не прачыталі. Адпачкаваньне не было наступствам нейкіх супярэчнасьцяў з БНФ, але вынікам інтэнсіўнага і натуральнага росту арганізацыі. Ёй стала цесна ў рамках Фронту. І мы разумелі гэта.

Тым часам Фронт меў дастатковыя людзкія рэсурсы і магчымасьці, каб і надалей працягваць пачатую ім справу. Такім чынам у 1993 годзе ў БНФ была створаная і зарэгістраваная ў Менску новая чарнобыльская арганізацыя, якая называлася „Камітэт „Дзеці Чарнобыля” БНФ”. Яго ўзначаліла Галіна Пазьняк (Вашчанка). Пры ўзаемадзеяньні і пры арганізацыйнай падтрымцы Фронта дзейнічалі іншыя чарнобыльскія арганізацыі, напрыклад, „Сакавік” у Менску (кіраўнік Марыя Міцкевіч), ці напрыклад, вельмі моцная чарнобыльская арганізацыя была створаная ў гэты час у Магілёве (кіраўнік сябра Сойму БНФ Натальля Рослава) і іншыя арганізацыі.

Будучы ў чарнобыльскай структуры арганізацыі Тамары Белавокай, Вы павінны былі добра ведаць гэтыя фронтаўскія арганізацыі, а не пісаць, што нічога ня ведалі. Але калі сапраўды ня ведалі, то гэта ёсьць Вашая асаблівасьць. Аўтар тут ні пры чым. Фронт ня толькі падняў праблему Чарнобыля і прымусіў вырашыць яе заканадаўча ў Вярхоўным Савеце. Фронт даў прыклад дзейнасьці ў аздараўленьні дзяцей і ратаваў іх ад занядбаньня. Гэта потым дапамаговая дзейнасьць пачала пашырацца ў грамадзтве па ўсёй Беларусі.

Як сябра дэпутацкай Камісіі па Чарнобылю Вярхоўнага Савета, як старшыня Фронта і як старшыня дэпутацкай Апазыцыі БНФ я вельмі шчыльна курыраваў чарнобыльскую справу ў Фронце, езьдзіў глядзець, як вядзецца нашым чарнобыльскім дзецям нават у Нямеччыну, ня кажучы ўжо, па Беларусі.

Мне здаецца, Ірына Васільеўна, што Вы ўзялі вельмі самаўпэўнены тон, гаворачы пра рэчы, арганізатарам якіх было кіраўніцтва БНФ і да якіх Вы мелі вельмі ўскоснае дачыненьне, альбо ня мелі ніякага (у лепшым выпадку, магчыма, прысутнічалі альбо нешта чулі). Вы, па ўсім вадаць, адчуваеце сябе ня тое што нароўні, а высака нада мной, калі кажаце, што ўсе мастакі працуюць, „не баючыся таго рэжыму, у які Вы з Галінай баіцеся вярнуцца”. І сапраўды, веру, чаго Вам баяцца? Ня страшны Вам ніякі рэжым.

Вы, на жаль, не разабраліся ў жанры кнігі Галіны Пазьняк і папракаеце аўтара, што „прэтэндуючы на летапіс усяго фронтаўскага руху”, яна „спынілася чамусьці толькі на сваім Камітэце”.

Гэта ня „летапіс”, Ірына Васільеўна, гэта ўспаміны непасрэднага ўдзельніка падзеяў, суб’ектыўна прапушчаныя праз сэрца, успаміны простыя і па-жаночаму шчырыя, зь вялікай любовяй да Беларусі. І ў гэтым іх прыцягальнасьць для добрых людзей. У гэтым ёсьць іх сваістая каштоўнасьць для мэмуарнай літаратуры, што, дарэчы, падкрэсьлена мной у прадмове (стар. 6).

Магчыма, Вы пачуліся пакрыўджанай, што аўтар „спынілася чамусьці толькі на сваім Камітэце", як Вы пішаце. Але ж пісаць пра іншае – гэта не задача аўтара і не праблема жанру. Аўтар апавядае пра сваю дзейнасьць, пра абставіны, у якіх гэтая дзейнасьць адбывалася і пра тое, што сама бачыла.

Мне здаецца, Вы разьмінуліся са справядлівасьцю ў сваіх абвінавачваньнях, папракаючы мяне ў тым, што я ўхваліў гэтую добрую кнігу. І ўхваліў, і аформіў, і выдаў, бо яна вартая дзеля нашай культуры і заслугоўвае пахвалы.

*7 кастрычніка 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Народная Воля", – 2008, 16 кастрычніка).*

# НАЙВАЖНЕЙШЫ ПАЛІТЫЧНЫ ВЫНІК У ГІСТОРЫІ НАЦЫІ

***(Да дваццацігоддзя БНФ)***

Пачну з успамінў пра дзень першы.

Сёньня шмат хто з удзельнікаў пасяджэньня па ўтварэньню Мартыралёгу Беларусі ў Чырвоным касьцёле ў Менску 19 кастрычніка 1988 года імкнецца прыгадаць, хто ж першым вымавіў словы пра неабходнасьць стварэньня Народнага Фронту. Сяргей Дубавец нават напісаў, што менавіта тыя словы былі самымі важнымі ў гісторыі Фронту, і тут жа падкрэсьліў, што, вось жа, зусім не Пазьняк прамовіў іх упершыню. Асабіста я ня памятаю, хто сказаў пра Народны Фронт першым, але у Чырвоны касьцёл у той вечар мы ішлі разам якраз з Сяргеем Дубаўцом і Анатолем Сідарэвічам, і па дарозе размаўлялі пра Народны Фронт. І першае, што я пачуў ад Уладзімера Арлова, як толькі ўвайшоў у будынак, было: „Ну ты ведаеш, што будзем ствараць Народны Фронт?".

Так што ідэя, як кажуць, лунала ў паветры, і папросту не магла ня быць выказаная.

А вось яе практычная рэалізацыя залежыла ад таго, хто будзе абраны старшынём Мартыралёгу, бо ў той вечар менавіта гэтаму чалавеку даводзілася альбо завяршыць пасяджэньне (паколькі абвешчаная ў запрашэньнях мэта была дасягнутая, „Мартыралёг" быў створаны), альбо – працягваць. Васіль Быкаў прапанаваў на пасаду старшыні Мартыралёгу Пазьняка, а затым, рашуча ўзяўшы з рук функцыянера ЦК КПБ мікрафон, настаяў на галасаваньні па кандыдатуры Пазьняка. І далей пасяджэньне вёў ужо Пазьняк, зачытаўшы заранёў падрыхтаваны ім сьпіс членаў Аргкамітэту БНФ з 23-ох асобаў, пры гэтым 12 асобаў былі прапанаваныя з залі (але да таго моманту праз Дубянецкага Пазьняк пасьпеў некаторых папярэдзіць, каб прапаноўвалі „сваіх" – гэта значыць, тых, хто стаіць на нацыянальных пазыцыях).

Такім чынам, Аргкамітэт БНФ быў утвораны і пачаў працу.

Для гісторыі беларускай нацыі стварэньне Беларускага Народнага Фронту было лёсавызначальным, бо менавіта БНФ як палітычная арганізацыя абвясьціў ідэю сувэрэнітэту Беларусі і ў выніку дамогся Незалежнасьці. У палітыцы стварэньне краіны, практычная рэалізацыя ідэі дзяржаўнасьці – найлепшы вынік, вышэй за які проста нічога ня можа быць. Таму бясспрэчна, што галоўная палітычная мэта БНФ была пасьпяхова рэалізаваная, як гэта ні парадаксальным аматарам паразважаць пра „палітычныя паразы" Фронту на выбарах. Былі рэалізаваныя і іншыя дэкларацыі Фронту – дэкамунізацыя грамадзтва, праўда пра Чарнобыль. Іншыя ж праграмныя палажэньні БНФ – стварэньне дэмакратычнага ладу, рынкавай эканомікі ў інтарэсах народу, нарэшце, адраджэньне нацыянальнай культуры і мовы – ажыцьцявіліся часткова. Але перш чым адказаць на пытаньне, чаму так сталася, варта спыніцца на той самай галоўнай палітычнай мэце і разбурыць міт пра „перадвызначанасьць" падзеяў.

У пэўных колах стала папулярнай думка, паводле якой падзеі ў Беларусі 1990-91 гг. (найперш, абвяшчэньне Незалежнасьці) былі, з большага, праявай агульнай дэмакратычнай тэндэнцыі ва Ўсходняй Эўропе і ў СССР („хваля несла"), і БНФ на чале з Пазьняком толькі „ўдала скарыстаў" шанец.

Па-першае, працэсы ва Усходняй Эўропе і працэсы ў СССР мелі толькі зьнешняе падабенства. Чэхія ці Польшча на дваццаць, ці нават на трыццаць гадоў меней знаходзіліся пад камуністчным панаваньнем, і ў канцы 1980-ых там у поўнай, сьпелай сіле былі актывісты, якія яшчэ памяталі некамуністычныя часы. Нельга параўноўваць нацыянальны камуністычны рэжым, скажам, у той жа Чэхіі ці Польшчы з каляніяльным расейска-камуністычным рэжымам у СССР, які ня тое што культуру, нават мову нацыянальную (гэта значыць ня рускую) душыў. Грамадзтва гэтых краінаў мела значна больш цесныя стасункі з Захадам і непараўнальна большы вопыт камунікацыяў з заходнімі дэмакратыямі, нават пры наяўнасьці „жалезнай заслоны". Таму камунізм у большасьці краінаў Усходняга блёку абрынуўся імгненна і незваротна, а рэформы пайшлі адносна хутка.

Па-другое, калі ў краінах Усходняй Эўропы, якія мелі суверэнітэт, вырашалася праблема дэмакратызацыі, то перад рэспублікамі былога СССР была мэта непараўнальна больш цяжкая – суверэнізацыя. Патпабавалася разбурыць адну з самых магутных і антыгуманных імпэрыяў у гісторыі чалавецтва, якая (і гэта было неаднаразова прадэманстравана) не спынялася ў выбары сродкаў для захаваньня свайго існаваньня.

Адсюль вынікае трэцяе: шмат што ў рэалізацыі ідэі распаду савецкай імпэрыі залежыла ад таго, хто пачне і – як пачне. Бясспрэчна, што крывавы, гвалтоўны пачатак паставіў бы крыж на памкненьнях паняволеных народаў (як, між іншым, адбывалася з ідэяй дэмакратызацыі раней ў той жа Ўсходняй Эўропе: Масква пэрыядычна ўчыняла „аўтадафэ" ці то ў Будапэшце (1956), ці то ў Празе (1968), і жорсткага прыкладу хапала на дзесяць і болей гадоў „спакою"). У СССР – пачалося з Дзядоў у Беларусі. Менавіта тая першая акцыя на Дзяды 30 кастрычніка 1988 года, калі Пазьняк папярэдзіў людзей аб правакацыі і павёў іх ў Курапаты і тым самым прадухіліў заплянаваны ўладамі крывавы разгон (напагатове былі і спэцтэхніка, і спэцвойскі, і спэц-сабакі – потым бы, канешне, усё звалілі на „экстрэмістаў" і Народны Фронт), – менавта гэтая акцыя была першай заўважальнай масавай акцыяй новаўтвораных у СССР нацыянальных рухаў, і самае важнае – менавіта яна паказала прыклад мірнага шляху да вызваленьня (ды і мірнага супраціву таксама). Праўда, тым больш ідэалягіча магутным і цынічным быў ціск на новаўтвораны БНФ і ягонага лідэра; ні ў якой іншай рэспубліцы ЦК кампартыяў і прапагандысцкі апарат не дазвалялі сабе ў адносінах да дэмакратычных лідэраў таго, што ў Беларусі рабілі з Пазьняком.

І калі будзе справядліва казаць пра нейкую „агульную хвалю", дык трэба прызнаць, што менавіта БНФ не ў апошнюю чаргу і сфармаваў гэтую хвалю – нароўні з нацыянальнымі рухамі ў некаторых іншых рэспубліках тагачаснага СССР. Масква ніколі

б не пагадзілася на распад імпэрыі, калі б т.зв. „нацыянальныя ўскраіны” гэтага рашуча не запатрабавалі (сваю імпэрскую мэнтальнасьць Масква выразна прадэманстравала адразу, ледзь толькі ачуняла).

Ну і яшчэ колькі словаў пра „хвалю”, якая „ўсіх несла”. Нядаўна па постсавецкіх краінах прайшла хваля так званых „аранжавых рэвалюцыяў”, арганізатары якіх, між іншым, мелі непараўнальна лепшыя палітычныя і фінансавыя магчымасьці, чым у свой час заснавальнікі БНФ (да слова – за усе гады сваёй дзейнасьці Апазыцыя БНФ не атрымала ні цэнту грантаў). Але вось жа – у Беларусі пераменаў не адбылося, „хваля” не дапамагла…

Пра падзеі 27 ліпеня 1990 г., калі была прынятая Дэкларацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце, і 25 жніўня 1991 г., калі Дэкларацыі быў нададзены статус канстытуцыйнай сілы, пра тактычныя крокі Пазьняка і дэпутатаў БНФ сказана шмат. Адзначу толькі, што калі б у жніўні 91-га спазьніліся на дзень – Незалежнасьці магло б і ня быць.

Але ніякі палітычны талент лідэраў, ніякія стратэгічныя задумы ці тактычныя хады ня мелі б плёну, калі б не падтрымка тысячаў і тысячаў прыхільнікаў Фронту, нацыянальна арыентаваных грамазянаў. І ня толькі ў Менску (хаця сталіца традыцыйна адыгрывае вырашальную ролю), але і ў правінцыі. Найперш, актывісты БНФ ў рэгіёнах добра спрацавалі на выбарах 1990 года – большасьць тых дэпутатаў, якія потым склалі Апазыцыю БНФ у Вярхоўным Савеце, былі абраныя менавіта там. Шмат якія іншыя акцыі агульнанацыянальнага маштабу на сваіх плячах выносілі менавіта жыхары гарадоў, мястэчак ды вёсак. Гэтым людзям было і цяжэй, і пагроза згубіць працу мела горшыя вынікі, чым у сталіцы, і рэпрэсіі да іх былі больш адчувальныя, асабліва калі імпэрскія сілы ўзялі рэванш „абраньнем” Лукашэнкі. Працавалі гэтыя людзі не за грошы – за ідэю, за тую нацыянальную ідэю, якая для абсалютнай большасьці зь іх і сёньня засталася сьвятой.

У пачатку 90-ых гадоў дэпутаты Апазыцыі БНФ прадставілі Вярхоўнаму Савету дзясяткі законапраектаў ў сфэрах дзяржаўнага будаўніцтва, эканомікі, фінансавай сістэмы, абароннай палітыкі. Большасьць гэтых законапраетаў прайшла экспэртызу замежных адмыслоўцаў, іх вартасьць не падвяргалася сумніву. Часам дэпутатам БНФ удавалася пераканаць пракамуністычную (як тады казалі – „пракебічаўскую”) большасьць, і абзацы ці нават цэлыя разьдзелы з „франтаўскіх” праектаў рабіліся палажэньнямі законаў. Так, ідэі стварэньня нацыянальнага войска, уласнай грашовай сістэмы – цалкам нашыя ідэі (Пазьняк яшчэ ў 1990 годзе, калі існаваў СССР, выступіў з артыкулам, у якім абгрунтаваў неабходнасьць увядзеньня беларускай грашовай адзінкі – талера). Але і тое, што праходзіла, прымалася са спазьненьнем – на год, на два ці нават на тры, калі час (асабліва ў другой палове 1991-га) лічыўся на дні ці нават на гадзіны. Кіраўніцтву Беларусі, ўраду бракавала дзяржаўніцкага погляду на сваю краіну; здольнасьць тагачаснага прэм’ера выпрасіць у Масквы эшалён нафты дзяржаўнай прэсай ацэньвалася як праява надзвычайных арганізатарскіх якасьцяў („моцны гаспадарнік Кебіч”); ну а тое, што замаруджваньне з рэформамі пазбаўляе шанцаў цэлыя пакаленьні беларусаў, пра што няспынна папярэджваў Пазьняк, лічылася ня вартым увагі.

Палітычная (ды і гаспадарчая) эліта, якая ў пачатку 1990-ых знаходзілася афіцыйна на чале дзяржавы, проста была ня здольная ўспрыняць Беларусь як незалежную краіну. Выпрацаваны дзесяцігодзямі (ды мо і стагоддзямі) інстынкт падначаленьня прымушаў чакаць указаньняў з Масквы. І гэтым Масква скарысталася.

Але паўтаруся: тысячы актывістаў і прыхільнікаў БНФ рэалізавалі галоўную мэту – дамагліся Незалежнасьці, і ў гісторыі беларускай нацыі гэта найважнейшы палітычны вынік. Беларусь – зьдзейсьнілася як дзяржава. І ўсё ж, чаму пакуль што ня сталася яна такой, як марылася ўсім тым, хто яе ствараў?

Адказ на гэтае пытаньне даў Васіль Уладзімеравіч Быкаў, сказаўшы, што грамадства было непадрыхтаване да ўспрыманьня нацыянальных ідэяў, якія дэкляраваў БНФ. Ці азначае гэта хібу Народнага Фронту? Ні ў якім разе. З гэтай высновы Быкава вынікае іншае. А менавіта – адказ на пытаньне: у чым шукаць паратунак, як рухацца далей? Ўзяць на ўзбраеньне тое, чаго нашаму паншчанаму саветамі грамадзству пакуль не хапала: толькі нацыянальная, беларуская ідэя можа адкрыць яму пэрспэктыву для разьвіцьця і незваротна замацаваць права нацыі на вольную і незалежную дзяржаву.

*15 кастрычніка 2008 г.*

***Сяргей Навумчык***

*Надрукавана: („Беларус”, – 2008, лістапад, № 550).*

# 20 ГАДОЎ ТАМУ БЫЎ ЎТВОРАНЫ АРГКАМІТЭТ БНФ

19 кастрычніка 1988 году ў памяшканьні тагачаснага Дому кіно (касьцёл сьв. Сымона і Алены) быў утвораны Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту.

Трымаю вузкую палоску паперы, на якой праз капірку надрукавана:

«Арганізацыйная група па стварэньню Беларускага камітэта памяці ахвяраў сталінізму (Камітэт 58) запрашае Вас прыняць удзел ва устаноўчым сходзе, які адбудзецца 19 кастрычніка у 18-00 па адрасу Савецкая, 15 (Дом Кіно, Мінск). На сходзе Камітэта «58» будзе прынята праграма дзеяньняў, статут, выбраныя кіруючыя і рабочыя органы».

(Лічба „58” – нумар артыкулу сталінскага крымінальнага кодэксу, па якім былі расстраляныя ды сасланыя ў ГУЛаг мільёны ахвяраў.)

Гэтае запрашэньне перадаў мне ***Аляксандар Лукашук*** ў рэдакцыі «Звязды» раніцай, а ўжо ўвечары ў Доме кіно пабачыў дзесяткі знаёмых – пісьменьнікаў, гісторыкаў, навукоўцаў. Пасяджэньне адбывалася на другім паверсе Дому кіно (некалькі гадоў таму пасьля рэканструкцыі касьцёлу вернутае першапачатковае аблічча, пазьнейшыя перакрыцьці разабраныя, і аднаўленая адзіная малельная заля). У залі – ***Стэфанія Станюта***, ***Васіль Быкаў, Максім Танк, Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Віктар Казько***... Шмат было моладзі – але былі і тыя, хто, як ***Сяргей Грахоўскі***, правёў значную частку жыцьця ў сталінскім ГУЛагу. Прышлі сюды „па разнарадцы” з гаркаму і вэтэраны са значкамі «50 гадоў у КПСС».

На шчасьце, я прыхапіў з сабой дыктафон. Стужка захавалася, хаця якасьць запісу ня самая лепшая, да таго ж мы часам перагаворваліся з ***Уладзімерам Арловым***. І ўсё ж галасы таго гістарычнага дня данесеныя.

Вёў сход пісьменьнік ***Міхась Дубянецкі***, уступнае слова сказаў ***Васіль Быкаў***.

***Быкаў:*** *„На працягу стагодзьдзяў наш народ моўчкі цярпеў прыгнёт. Ліў сваю кроў, ахвяраваў мільёнамі жыцьцяў і – маўчаў. Маўчаў, бо ягоныя гісторыкі пазбавілі яго праўдзівай гісторыяграфіі, яго філёсафы ўнушалі яму фальшывую ідэю аб мудрай правільнасьці ягонага бязьмежнага цярпеньня. Ягоныя*

*199-Д. Мітынг ў полі на дарозе на Курапаты (30.X.1988)*



*200-Д. Шэсьце павярнула ў поле (30.X.1988)*

*рыцары прыгожага пісьменства спаборнічалі між сабой аб тым, хто найлепш апяе тое, што варта было выбуху гневу і абурэньня. Ягоныя палітыкі і дзяржаўныя дзеячы былі пазбаўленыя ўласнай палітыкі, магчымасьці дзейнічаць на карысьць народа, а шмат хто зь іх сам стаў ахвяраю тэрору, уласнае сьлепаты і заблудажэньня.*

*Але мы болей ня хочам жыць, каб ня памятаць як аб нашым гонары, так і аб нашых ахвярах, нашых пакутніках. Урэшце прыйшоў час сказаць людзям праўду і зрабіць зь яе пэўныя высновы. Найперш, праўду трэба сказаць пра мільёны безымянных людзей Беларусі, рабочых, калгасьнікаў, інтэлігентаў з народа, беларусах, рускіх, паляках, яўрэях, людзях іншых нацыянальнасьцяў, панішчаных у гады сталіншчыны без віны, бяз права, бяз сьледу ў народнай памяці. Сымвалам тых, панішчаных, сёньня сталі ўжо славутыя Курапаты. Але Курапаты – толькі адна кропля ў моры людзкой крыві.*

*Мы павінны таксама назваць імёны катаў нашых ахвяр. Хто былі гэтыя нелюдзі?... Як даўно вядома, кат і ахвяра інфэрнальным чынам зьвязаныя між сабой, і чалавецтва павінна ведаць і памятаць абодвух. Гэта патрэбна ў імя справядлівасьці, у імя дэмакратыі, у імя нашай будучыні. У тым наш сьвяты абавязак перад гісторыяй, маральны абавязак перад наступнымі пакаленьнямі, каб ім не давялося дакараць нас за тое, што мы мелі магчымасьці і ўпусьцілі яе. Мабыць, ніхто з нашых папярэднікаў ня меў такой магчымасьці, якую лёс ці гісторыя далі нам, і было б найвялікшай гістарычнай несправядлівасьцю ня выкарыстаць яе.*

*Але зьдзейсьніць гэты абавязак, мабыць, будзе нялёгка. Сілы рэакцыі, сталіншчыны ня склалі сваёй выпрабаванай зброі, і гатовы ўзяць рэванш за іхняе паражэньне ў галоснасьці. Каб пераканацца ў тым, даволі хоць зрэдку браць у рукі газэту «Вечерний Минск», орган менскага гаркома і гарсавета народных дэпутатаў, і паглядзець, хто і супраць чаго там выступае. Сілы зла цяпер перажываюць невялікую паўзу ў сваёй антынароднай дзейнасьці, перабудова і галоснасьць блытае іх адпрацаваныя за гады карты. Але яны ўжо пачалі прыстасоўвацца і да атмасфэры перабудовы. А ў некаторых выпадках – і браць яе пад сваё кіраўніцтва. Кіраваць з такім разьлікам, каб хутка і бяз стратаў вярнуць так любы іхнім лакейскім душам таталітарызм з падаўленьнем, рэпрэсіямі, п’яным і пакорным існаваньнем заняволенага народа. Таму ўсе, каму дарагія прынцыпы дэмакратыі і сацыялізму, лёс нацыі, павінны быць пільныя, ня даць сябе ашукаць ні крывадушнай бюракратыі, ні амаральнай навуковасьці, ні тым правакатарам ад перабудовы, якія маюць заданьне пусьціць яе на злом галавы, адвярнуўшы ад высакароднай мэты дэмакратычнага Адраджэньня нацыі, растварыць ідэалы дэмакратызацыі ў нацыянальных, рэгіянальных, ведамасных і амбіцыёзных сварках і супярэчнасьцях.*

*Мы павінны скласьці велічны мартыралёг нашых страт і нашых пакутнікаў. Гэта ляжа вуглавым камянём у падмурку нацыянальнай сьвядомасьці, стане важным элементам гістарычнай памяці, і гарантам. Гарантам будучыні народа, які праз генацыд, кроў і зьнявагу з упартасьцю асуджанага ірвецца да сонца, дабра і справядлівасьці”* (воплескі).

На сходзе вырашылі стварыць Таварыства памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў «Мартыралог Беларусі». Выступоўцы адзначалі, што без дэмакратызацыі грамадзтва немагчымыя ні вяртаньне гістарычнай памяці, ні стварэньне прыстойных умоваў жыцьця для суайчыньнікаў. Было зразумела, што мэты новай арганізацыі павінны быць значна шырэйшыя, чым аднаўленьне гістарычнай справядлівасьці. Таму арганізацыя разумелася – арганізацыя будзе палітычнай. А магчыма, – будзе дзьве арганізацыі. Гучалі прапановы ўтварыць Народны Фронт. Калі прыступілі да вылучэньня кандыдатуры старшыні Мартыралёгу, Васіль Быкаў зазначыў, што старшыня павінен валодаць шмат якімі якасьцям.

***Быкаў:*** *„Дарагія таварышы! Вядома, арганізацыя, якую мы стварылі, з'яўляецца сугуба дэмакратычнай, і ўсе кардынальныя пытаньні будуць вырашацца дэмакратычным шляхам з удзелам большасьці, але, тым ня менш, значэньне кіраўніка, відаць, так сказаць, будзе вельмі вялізным. Я думаю, што, як кожны кіраўнік, гэта павінен быць асаблівы чалавек. Гэта павінен быць аўтарытэтны чалавек, дасьведчаны, адукаваны. Гэта павінен быць энтузыяст гэтай выдатнай справы, павінен быць аддадзены ідэям дэмакратызацыі і нацыянальнага Адраджэньня. Апроч таго, што вельмі важна, гэты чалавек павінен быць пазбаўлены таго вялізнага недахопу, які ёсьць ва ўсіх нас, які выхаваны ўсімі папярэднімі гадамі, – то ёсць ён павінен быць пазбаўлены страху. Найперш, страху перад начальствам. І такім чалавекам – я думаю, што вы мяне падтрымаеце – калі я назаву* ***Зянона Станіслававіча Пазьняка.****”* (воплескі).

Было зразумела: ад таго, хто стане на чале «Мартыралёга», залежала, чым скончыцца гэты сход, ці будзе пастаўленая прапанова пра стварэньне Народнага Фронту, якая гучала з вуснаў выступоўцаў. Аднак ў залі Чырвонага касьцёла прысутнічалі і тыя, каго менавіта з гэтае прычыны кандыдатура Пазьняка не задавальняла. Перашкодзіць галасаваньню спрабаваў намесьнік загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ **Расьціслаў Бузук,** які жадаў накіраваць сход у бок бясплодных дэбатаў. Але тады Васіль Быкаў рашуча ўзяў мікрафон у свае рукі і прапанаваў прагаласаваць (на здымку зафіксаваны гэты момант. Зьлева – супрацоўнік ЦК КПБ Расьціслаў Бузук і вядучы сходу, пісьменьнік Міхась Дубянецкі).

***Быкаў:*** *„Наступнае, што павінна быць: хто супраць кандыдатуры? Прашу падняць рукі! Хто устрымаўся? Няма! Усё!”* (воплескі)

Прадстаўнік ЦК **Бузук**: *„И это – демократия?”*

***Галасы з залі:*** *„Так, дэмакратыя!”*

Далей сход вёў Пазьняк. Ён нагадаў, што ўжо гучалі прапановы пра стварэньне Народнага фронту.

***Пазьняк:*** *„Гэтую прапанову трэба прыняць. Таму я выстаўляю на галасаваньне наступную прапанову: утварыць пры таварыстве «Мартыралёг» арганізацыйны камітэт... арганізацыйны камітэт па стварэньні Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне»* (воплескі).

**Пазьняк:** *„Нас усіх, хто прысутнічае – 227 чалавек. Са 174 запрошаных прадстаўнікоў грамадзкасьці прысутнічае 112, без запрашэньня – 115.... Хто за тое, каб пры таварыстве „Мартыралёг” стварыць арганізацыйную групу... арганізацыйны камітэт па стварэньню Беларускага Народнага Фронту за перабудову „Адраджэньне”? Прашу падняць рукі. Апусьціце. Хто супраць? Слова ў часе галасаваньня не даецца, таварыш Бузук! Пасьля галасаваньня – тады скажаце...Чатырнаццаць плюс пяць – дзевятнаццаць чалавек супроць. Хто ўстрымаўся? Тры чалавекі ўстрымалася. Такім чынам, рашэньне аб стварэньні Аргкамітэту пры таварыстве „Мартыралёг” прынятае!”* (воплескі)

На гадзіньніку было 22.15. Пазьняк зачытаў сьпіс Аргкамітэту.

***Пазьняк:*** *„Арганізацыйная група „Камітэту-58” спадзявалася на Вашую падтрымку і прапрацоўвала гэтае пытаньне. Мы прапануем на ваш разгляд сьпіс Арганізацыйнага камітэту. Хачу падкрэсьліць, што гэта будзе група, гэта будзе Камітэт, які буд-*

*зе займацца рабочымі пытаньнямі. Менавіта: стварэньне праграмы, стварэньне апорных арганізацый, выпрацоўка ідэйных палажэньняў, абмеркаваньне іх у грамадзкасьці, і стварэньне арганізацыйнай структуры Народнага Фроенту. ...Вопыт паказвае – з латыскага, эстонскага і летувіскага Народных Франтоў, што праз два – два з паловай месяцы мы можам спадзявацца зьезду Народнага Фронту Беларусі. Зачытваю... (воплескі)... зачытваю кандыдатуры, якія, на наш погляд, маглі б узяцца за працу па стварэньню Народнага Фронту.* ***Васіль Быкаў****, народны пісьменьнік Беларусі,* ***Алесь Бяляцкі****, пісьменьнік,* ***Анатоль Варава****, гісторык,* ***Вінцук Вячорка****, філёляг,* ***Ніл Гілевіч****,* ***Анатоль Грыцкевіч****, доктар гістарычных навук,* ***Юры Дракахруст****, матэматык,* ***Міхась Дубянецкі****, пісьменьнік,* ***Вячаслаў Жыбуль****, літаратуразнаўца,* ***Яўген Кулік****, мастак,* ***Мікола Купава****, мастак,* ***Валеры Масьлюк****, рэжысер,* ***Пятро Садоўскі****, кандыдат філялягічных навук,* ***Алесь Суша****, гісторык,* ***Генадзь Тумаш****, мастак,* ***Сымон Сьвістуновіч****, мастак,* ***Міхась Ткачоў****, доктар гістарычных навук,* ***Алег Трусаў****, кандыдат гістарычных навук,* ***Ігар Чарняўскі****, кандыдат гістарычных навук,* ***Міхась Чарняўскі****, кандыдат гістарычных навук,* ***Яўген Шунейка****, мастацтвазнавец,* ***Васіль Якавенка****, пісьменьнік".*

***Галасы з залі:*** *„Зянон Пазьняк!"*

***Пазьняк:*** *„Зянон Пазьняк. Усіх дваццаць тры чалавекі. Таварышы, я павінен сказаць, што гэта – першапачатковая мадэль групы. Я думаю, што яны зьбяруцца на сваё паседжаньне, выпрацуюць праграму працы, выбяруць свайго кіраўніка. Мы павінны ўлічваць, што гэта яшчэ – ня Фронт, гэта людзі, якія будуць працаваць, на якіх будуць спадзявацца. І тыя, хто захоча ўдзельнічаць у гэтай працы, павінны самі прапанаваць сябе. Пажадаем посьпехаў Арганізацыйнаму камітэту".*

Такім чынам, быў утвораны аргкамітэт Народнага Фронту (пазьней ягоны склад быў павялічаны) – першага за дзесяцігодзьдзі маўчаньня дэмакратычны руху, арганізацыі, якая ўжо праз некалькі гадоў здолее дамагчыся Незалежнасьці Беларусі.

*17 кастрычніка 2008*

***Сяргей Навумчык (Радыё Свабода)***

# АБ НАКІРУНКАХ ПАРТЫЙНАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ

***(Рэзалюцыя 8-га Зьезду Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

Заслухаўшы палітычны даклад Старшыні Партыі, справаздачныя даклады намесьнікаў старшыні і выступы дэлегатаў, Зьезд пастанаўляе:

– У ацэнках дзеяньняў, мэтадаў і накірункаў дзейнасьці ўлічваць спэцыфічныя антыбеларускія абставіны і прамаскоўскую русіфікацыйную палітыку антыдэмакратычнага рэжыму на Беларусі .

– Прызнаць станоўчай працу кіраўніцтва Партыі, Сойму і ягоных ворганаў. Асабліва адзначыць дзейнасьць па будаўніцтве, ахове і разьвіцьці Народнага Мэмарыялу Курапаты. Лічыць неабходным працягваць гэтую працу як прыярытэтную культурна-асьветніцкую задачу Партыі.

– Лічыць правільнай і палітычна выверанай пазыцыю Партыі па байкоту галасаваньня на парляманцкіх выбарах 2008 года.

– Лічыць важнай задачай працягваць нацыянальна-асьветніцкі і палітычна-прапагандысцкі накірункі ў дзейнасьці партыйнай арганізацыі. Шукаць новыя формы, мэтады і падыходы ў прапагандзе нацыянальна-дэмакратычных адраджэнскіх ідэй.

– Лічыць галоўным накірункам у палітыцы Партыі змаганьне за непарушнасьць суверэнітэту і вольную Беларусь на грунце Беларускай Нацыянальнай ідэі, за дзяржаўны статус беларускай нацыянальнай сымволікі (Бел-Чырвона-Белага сьцяга і гэрба Пагоня), за дзяржаўны статус беларускай мовы і культуры, за нацыянальныя і сацыяльныя інтарэсы людзей, за справядлівасьць і дэмакратыю. Перад пастаяннай пагрозай для беларускай незалежнасьці з боку Расеі Беларуская Нацыянальная ідэя ёсьць тая аб'яднаўчая сіла, якая кансалідуе грамадзтва на змаганьне супраць пагрозы дзяржаве, на стваральную працу, на барацьбу за волю і лепшую долю вялікага Беларускага народа.

*21 сьнежня 2008 г. г. Менск.*

# 2009



*202-Д. Беларускія сябры кіраўніцтва Камітэту Польшча-Беларусь імя генэрала Станіслава Булак-Балаховіча на прэсавай канфэрэнцыі ў будынку Сэйма ў Варшаве; 2001 г. Зь лева на права: Валеры Буйвал, Зянон Пазьняк, Сяргей Папкоў, Робэрт Боднэр (Польшча)*

## АБ ФІНАНСАВА-ЭКАНАМІЧНЫМ КРЫЗІСЕ Ў БЕЛАРУСІ

*(Паведамленьне)*

На Беларусі працягваецца фінансава-эканамічны крызіс, які дзень у дзень пагаршае становішча краіны і людзей. Крызіс пачаўся на Захадзе, але непасрэдна прыйшоў да нас з Расеі і зьявіўся вынікам антынацыянальнай і эканамічна неадэкватнай палітыкі кіруючага рэжыму ў Беларусі.

Чыньнікі, якія найперш паспрыялі крызісу, – гэта штучная (насуперак нацыянальным інтарэсам) прывязка беларускага гандлю і эканомікі да непаўнавартаснай і збочанай палітыка-эканамічнай сістэмы Расеі; гэта штучна створаная неразьвітасьць унутранага рынку краіны, адсутнасьць нармальных дачыненьняў уласнасьці і цалкавіты разбуральны кантроль вузкай групы ўлады над усімі фінансава-эканамічнымі дачыненьнямі ў Беларусі.

Рэжым улады на працягу 4-х месяцаў крызісу штучна трымаў заніжаны абменны курс даляра на беларускія рублі, рыхтуючы дэвальвацыю. У выніку дэвальвацыя была зроблена са спазьненьнем, што стала прычынай страты амаль паловы золата-валютных рэзэрваў Нацыянальнага банку краіны і выклікала падазрэньні людзей у нечыстаплотнасьці ўсёй апэрацыі.

У краіне спыняюцца прадпрыемствы, людзі трацяць працу, абнізіўся ўзровень жыцьця і павысіліся расходы насельніцтва на неабходныя тавары і паслугі.

Кіроўная група ўлады цалкам нясе адказнасьць за цяжкія праявы крызісу ў краіне і ў значнай ступені вінаватая за яго ўзьнікненьне і за разбуральны працяг, бо праводзіла згубную і неадпаведную эканамічную палітыку.

Ёсьць вялікія сумненьні, што гэтая палітыка будзе зьменена і што існуючае кіраўніцтва краіны здольнае вывесьці Беларусь з крызісу з найменшымі стратамі. На парадку дня паўстае пытаньне аб пакіданьні пасады А. Лукашэнкам. Сытуацыя патрабуе зьмены ўсёй эканамічнай палітыкі на карысьць нацыянальных інтарэсаў, ставіць задачу кардынальных пераменаў у сістэме ўлады.

***Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*10 студзеня 2009 г., г. Менск*

*http://www.pbpf.org/art.php?art=1727&cat=7&lang=be*

# АБ РАЗГОРТВАНЬНІ КРЫЗІСУ

Сойм *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ* пацьвярджае і падтрымлівае паведамленьне Кіраўніцтва Партыі і Фронту – „АБ ФІНАНСАВА-ЭКАНАМІЧНЫМ КРЫЗІСЕ Ў БЕЛАРУСІ", пранятае 10 студзеня. Разам з тым мы адзначаем, што маніпуляцыі існуючай ўлады з крызісам, прыняцьце захадаў і рашэньняў адбываецца за плячыма грамадзтва, людзі адлучаныя ад рэальнай інфармацыі, ад веданьня таго, што адбываецца.

Падзеі, аднак, сьведчаць, што рэжым і асабіста А. Лукашэнка ўступіў у змову разам з кіраўніцтвам Расеі ў арганізацыі газавага шантажу супраць Украіны і Заходняй Эўропы. Змоўніцтва абумоўлена цаною за газ. Гэта нячыстая палітыка, за якую рэжым можа паплаціцца ўльтыматумам расейцаў аб увядзеньні рускага рубля на Беларусі (ізноў жа як платы за газ), што стане рэальнай пагрозай страты сувэрэнітэту і нацыянальных багацьцяў краіны.

Сойм інфармуе аб гэтым беларускае грамадзтва і пацьвярджае, што пытаньне аб пакіданьні пасады А. Лукашэнкам ёсьць першасным крокам да рэальнага выхаду з крызісу і да аздараўленьня, створанага ім становішча.

*18 студзеня 2009 г.,*

***Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*г. Менск*

# НАЗВАНЫЯ ІМЁНЫ КУРАПАЦКХ ВАНДАЛАЎ

*У эфіры „Свабоды" адкрывальнік Курапатаў, лідэр Кансэрватыўна-Хрысьціянскай фпартыі БНФ Зянон Пазьняк абнародаваў імёны маладзёнаў, якія валілі крыжы ў Курапатах.*

**Ганна Соўсь: –** На мінулым тыдні была спыненая крымінальная справа супраць вандалаў, якіх затрымалі ў Курапатах грамадзкія актывісты ў той час, калі яны валілі крыжы. Якую выснову з гэтага трэба зрабіць людзям, для якіх Курапаты ёсьць сьвятым месцам? Працягваць патруляваць урочышча? Спрабаваць высьвятляць імёны вандалаў і імёны тых, хто даваў такія загады?

**Зянон Пазьняк: –** Выснову трэба зрабіць такую, што прамаскоўскі рэжым у Беларусі зацікаўлены ў зьнішчэньні Курапатаў і стымулюе, падтрымлівае вандалізм. Ніхто наўпрост загадаў вандалам не даваў, інакш бы вандалы маглі закласьці заказчыкаў. ГБ гэта робіць праз агентуру ўплыву. Агентамі ўплыву маглі быць сябры, настаўнікі і нават бацькі вандалаў.

Што датычыць высьвятленьня імёнаў вандалаў, пра што Вы кажаце, то няма пытаньня. Трэба было спытаць у мяне. Вось іхнія імёны і дадзеныя. Першы вандал – **Астрэйка Павал Андрэевіч**, нарадзіўся 29 сьнежня 1990 году ў Ніжневартаўску Цюменьскай вобласьці, Расея. Другі вандал – **Шышко Вадзім Дзьмітрыевіч**, нарадзіўся 7 чэрвеня 1992 году ў Менску.

На пытаньне, што рабіць, адказ такі. Трэба патрабаваць, каб органы рэжымнай ўлады выконвалі законы. Ёсьць два шляхі – працэсуальны і грамадзка-палітычны. Трэба выкарыстаць абодва.

**Соўсь: –** Заўтра заступае на пасаду новаабраны прэзыдэнт ЗША Барак Абама. Як вы мяркуеце, палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі будзе нейкім чынам скарэктаваная, зьмененая?

**Пазьняк: –** Я думаю, што палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі ня зьменіцца. У гэтым пытаньні мае значэньне, якую вагу пры Абаму будзе мець Байдэн. Бо гэта разумны палітык, і яму не мроіцца душа Расеі ў вачах Пуціна. У яго зрок хутчэй як у Маккейна.

**Соўсь:** – Зянон Станіслававіч, у гэтыя дні споўнілася 15 гадоў, як у „Народнай газете" быў надрукаваны ваш ужо легендарны артыкул ***„Аб рускім імпэрыялізьме і ягонай небясьпецы".*** У гэты ж дзень адбыўся таксама візыт прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана ў Беларусь, і ў гэты ж дзень адбылася экстрадыцыя з Менску літоўскіх камуністаў Буракявічуса і Ермалавічуса. Скажыце, калі ласка, а чаму артыкул „Аб рускім імпэрыялізьме і ягонай небясьпецы" быў надрукаваны па-расейску? Вы хацелі пашырыць кола чытачоў ці былі іншыя прычыны?

**Пазьняк: –** Каб пашырыць кола чытачоў, трэба друкаваць артыкулы пра праблемы нацыі па-беларуску, тады іх прачытае эліта грамадзтва. Людзі, якія шмат што разумеюць і якія зацікаўленыя і ўмеюць думаць пра дзяржаву. Пісаньне такога кшталту артыкулаў па-руску амаль пустапарожняя справа, бо адукаваны па-руску абывацель далёкі ад беларускіх нацыянальных праблемаў. Не марнуецца такая праца толькі таму, што беларуская эліта, якая валодае рускай мовай, таксама можа гэты артыкул прачытаць. І толькі ад гэтага, што яна прачытае, ён робіцца зьявай грамадзкай думкі. Русіфікаванага абывацеля тым часам нацыянальныя пытаньні не цікавяць. Ягоная рэакцыя на беларускія праблемы – маўчаньне альбо лямант ці злосьць, калі нешта яго напалохае ці здасца яму страшным. Менавіта гэта і здарылася з артыкулам пра рускі імпэрыялізм.

Вэтэраны НКВД завылі так, што прачнуліся нават нябожчыкі КПСС і далучыліся да агульнага хору. Артыкул быў напісаны яшчэ ў 1993 годзе спэцыяльна па-руску, для «Советской Белоруссии» згодна запрашэньня там друкавацца. Аднак галоўны рэдактар Ігар Асінскі адчайна праціўіўся публікацыі. Згодна тагачаснага закону рэдактара можна было прымусіць надрукаваць артыкул Народнага дэпутата. Але я ніколі не карыстаўся гэтым правам. Так і тады, я не стаў ціснуць на Асінскага, забраў артыкул і аднёс у «Народную газету», Сярэдзіч яго і надрукаваў. На перапісваньне па-беларуску ў мяне ўжо проста не хапіла часу...

*19 студзеня 2009 г .*

***Інтэрв'ю Ганны Соўсь (Радыё Свабода)***

# АБ АНТЫНАЦЫЯНАЛЬНЫХ ПАГАДНЕНЬНЯХ І НЕЗАКОННЫХ ДЗЕЯНЬНЯХ НЕЛЕГІТЫМНАГА КІРАЎНІКА ВЫКАНАЎЧАЙ УЛАДЫ Ў БЕЛАРУСІ

4-га лютага гэтага года нелегітымны кіраўнік выканаўчай улады ў Беларусі А. Лукашэнка падпісаў у Маскве два незаконныя пагадненьні: аб стварэньні на тэрыторыі Беларусі „рэгіянальнай" беларуска-расейскай супрацьпаветранай абароны (СПА) і аб уваходжаньні Беларусі ў вайсковыя сілы хуткага рэагаваньня, створаныя ў рамках так званай „калектыўнай бясьпекі" (АДКБ).

Гэтыя пагадненьні, заключаныя адным чалавекам за плячыма народа, абазначаюць уступленьне Беларусі ў ваенны блёк, што ***супярэчыць Канстытуцыі і зьяўляецца незаконным***. Такія пагадненьні ня могуць быць прызнаныя.

У палітычным сэнсе – гэта абазначае гандаль беларускімі інтарэсамі, далейшы працяг здачы суверэнітэту, пэрспэктыву страты незалежнасьці краіны і небясьпеку для жыцьцяў беларусаў, якія, калі выконваць пагадненьне, павінны будуць ваяваць за межамі Беларусі за авантурныя інтарэсы пуцінскай Расеі.

І маскоўская, і менская групы ўлады напалоханыя магчымымі сацыяльнымі наступствамі эканамічна-фінансавага крызісу, у выніках якога яны вінаватыя. Думаючы аб захаваньні сваёй улады найперш, яны заключылі гэтыя пагадненьні, якія ў выпадку сацыяльных пратэстаў на Беларусі дадуць магчымасьць расейцам увесьці сюды свае войскі, каб захаваць рэжым Лукашэнкі і зацьвердзіць сваю прысутнасьць на нашай тэрыторыі.

Дзейнасьць нелегітымнага кіраўніка выканаўчай улады на Беларусі характарызуецца незаконнасьцю і здачай нацыянальных інтарэсаў. Яна стала ва ўмовах крызісу надзвычай небясьпечнай для Беларускага грамадзтва і суверэннай Беларускай дзяржавы. Беларускія палітычныя эліты мусяць зрабіць высновы і ўлічыць гэта ў пошуках выхаду з крызіснай сытуацыі. Перад краінай стаіць неабходнасьць рашучых дзеяньняў па абароне сябе.

*8 лютага 2009 г., г. Менск*

***Сойм Кансэрватыўна – Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*Адчынена: (http://www.pbpf.org/art.php?art=1751&cat=7&lang=be)*

# ГАНС ВІК – ПАДВОЙНАЕ ДНО

Пасьля зьяўленьня на Беларусі (канец 1997 г.) кіраўнік Менскай місіі АБСЭ Ганс-Георг Вік пачаў фармаваць „аб'яднаную апазыцыю". Ён пачаў зьбіраць прадстаўнікоў апазыцыйных партыяў (і вельмі сумніўна апазыцыйных, кшталту Абрамавай і Гайдукевіча) у IBB (нямецкім цэнтры). Паседжаньні праходзілі пад лёзунгам „падрыхтоўка перамоўнага працэсу з рэжымам". Была створана „экспэртная група". Падчас паседжаньняў абмяркоўвалася „плятформа", зь якой „аб'яднаная апазыцыя" выйдзе на перамовы з рэжымам. Ужо тады адчувалася нейкая недагаворанасьць падчас гэтых абмеркаваньняў. Увесь час было адчуваньне, што **Лябедзька**, **Калякін**, **Вячорка**, **Статкевіч**, **Гайдукевіч** без шматлікіх словаў, адной рэплікай перакінуўшыся, разумелі адзін аднаго, а часам, пачаўшы гаварыць, раптам спыняліся, як бы баючыся сказаць лішняе.

Прычына такіх паводзінаў стала зразумелай пасьля выступу (у сярэдзіне сакавіка 2000-га года) па Беларускім тэлебачаньні „палатніка" Жушмы. Ён проста расказаў, што ўжо год „апазыцыя" вядзе таемныя перамовы з прадстаўнікамі рэжыму ў піўярні „Ракаўскі бровар" пры пасярэдніцтве Віка. „Напрыклад, – сказаў Жушма, – учора былі Лябедзька, Статкевіч, прадстаўнікі БНФ ды іншыя".

На наступны дзень перад паседжаньнем „аб'яднанай апазыцыі" у прысутнасьці чалавек, здаецца, васьмі я запытаўся ў спадара Віка: „Скажыце, калі ласка, хто з сяброў БНФ быў заўчора на згаданым Жушмам паседжаньні?"

– Я ня памятаю, – коратка адказаў Вік.

Тут адчыняюцца дзьверы – уваходзіць Лябедзька. „Анатоль, – пытаюся я, – хто ад БНФ быў заўчора разам з табой у „Ракаўскім бровары"?

– Вячорка і Хадыка, – проста адказаў ён.

Адразу ж пасьля слоў Лябедзькі ўваходзіць Вячорка.

– Вінцук, – кажу, – дык раскажы, аб чым ты заўчора дамаўляўся з лукашыстамі ў „Ракаўскім бровары"?

І тут зусім нечаканая для мяне рэакцыя Вячоркі. З абурэньнем, часта дыхаючы, на павышаных танах ён выгукнуў: „Гэта ўсё хлусьня, я там ніколі ня быў!"

І сьледам – спакойныя словы, здаецца, Аляксея Караля: Вінцук, маўляў, цішэй. Лябедзька ўсё расказаў. Вінцук замаўкае, сядае на сваё месца. Пачынаецца паседжаньне. Сядзеў ён за сталом насупраць мяне. Я ня вытрымаў і зь лёгкім сарказмам пытаюся , кшталту, ці добрае піва падавалі ў „Бровары"? І тут жа ў адказ даволі гучна чую: „Калі ты дзе-небудзь яшчэ пра гэта скажаш, мы знойдзем спосаб з табой разабрацца". (Як кажуць, зьдзіўленьню майму не было канца – такое пачуць ад акуратнага Вінцука)*


(Фота: <naviny.by)

***208-Д. Ю. Беленькі высьвятляе адносіны зь міліцыяй у час шэсьця на Дзяды.***

Прынамсі, як я потым даведаўся, Хадыка прысутнічаў на таемных перамовах у якасьці „экспэрта". Сутнасьць жа ўсяго, што

* У час сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці і 82-й гадавіны Сакавіка, праз два тыдні пасьля камічнай пагрозы Вінцука, адбылася вядомая спроба забойства Юры Беленькага. Тады рэжым арганізаваў вайсковае пабіцьцё людзей у цэнтры Менска. Схапілі і кінулі ў каталажкі больш пяцісот чалавек, зь іх трыста сяброў КХП – БНФ. На плошчы Якуба Коласа да Юрыя Беленькага падыйшла зграя ў камуфляжнай форме і ў чорных масках (пад выглядам „спэцназу," а мо' і „спэцназ"). Яны накінуліся на яго і пачалі зьбіваць. Калі Юры ўжо страціў прытомнасьць, яны дабівалі яго, цаляючы ботамі па галаве. У апошні момант яго ўратавалі сябры партыі, адагнаўшы зграю. Юры патрапіў у шпіталь і больш года лячыўся ад наступстваў сьмяротнага пабіцьця. Усё менскае (вікаўскае) АБСЭ, што фальшыва гаварыла пра правы чалавека, цяпер ціхенька маўчала. Калі Гансу Віку журналісты радыё Свабода задалі пытаньне, чаму яго АБСЭ не рэагуе на спробу забойства кіраўніка апазыцыйнай партыі, Вік пачаў лепятаць паруску нешта няўцямнае (беларушчыну ён падкрэсьлена „verachtet" – „презирал"), казаў пра тое, што, „эўрапейцы" „относятся ко всем совершенно одинаково" (?) (У мяне ўвогуле склалася ўражаньне, што Вік працаваў на некалькі разьведак адначасна.) Следзтва, вядома ж, нічога не магло даведацца, бо спэцназаўцы, маўляў, былі ў масках. – *(З. П.)*

тады адбывалася, пазьней (у 2004-м) раскрыў спадар Вік у сваім інтэрв'ю ў „Белорусской газете", маўляў, усе гэтыя „перамовы" ўзгадняліся ў беларускім КГБ, а грошы выдзеліў Эўразьвяз.

*Красавік 2009 г.*

***Юры БЕЛЕНЬКІ***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2009, № 2(67)*

# ЗВАРОТ ДА ЭЎРАЗЬВЯЗУ І ЭЎРАПЕЙСКІХ ПАЛІТЫКАЎ.

Мы вітаем добрую волю Эўразьвязу, накіраваную на падтрымку дэмакратычных сілаў Беларусі. Разам з тым, у сувязі з інаўгурацыйным самітам праграмы „Усходняе партнэрства", які плянуе правесьці Эўразьвяз у Празе 7-га траўня гэтага году, мы мусім заявіць, што пэўная канцэптуальная неакрэсьленасьць гэтай добрай і ўзаемавыгаднай праграмы ў дачыненьні да дзяржаўнай палітыкі ў Беларусі прывядзе да вельмі нэгатыўных вынікаў.

Запрашэньне кіраўніка ўлады А. Лукашэнкі на саміт у Прагу ёсьць знакавым дзеяньнем, якое, фактычна, легітымізуе дыктатуру, скасуе незаконнасьць яе ўлады і прынятых антыпраўных рашэньняў. Вынікам запрашэньня А. Лукашэнкі ў Прагу стане ўзмацненьне рэпрэсіяў і этнацыду беларусаў, ціску на народ, перасьледу па палітычных прычынах за іншадумства.

Мы ведаем становішча ў нашым грамадзтве, узровень думаньня і матывы паводзінаў А. Лукашэнкі. Нягледзячы на міжусобныя супярэчнасьці зь некаторымі сваімі саюзьнікамі, рэжым Лукашэнкі праводзіць зь імі ўзгодненую палітыку, у тым ліку і ў падыходзе да „Усходняга партнэрства". Нявызначанасьць палітычных крытэрыяў з боку Эўразьвязу задавальняе антыбеларускі рэжым А. Лукашэнкі і яго саюзьнікаў, але супярэчыць інтарэсам Беларусі.

Аморфнасьць крытэрыяў у дачыненьні да антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі ставіць пад пагрозу нацыянальнае, гуманістычнае і дэмакратычнае разьвіцьцё беларускага грамадзтва.

Пасьля новых арыштаў у Беларусі па палітычных прычынах, пасьля дэманстратыўных зрываў візыту эўракамісара па зьнешніх сувязях і палітыкі добрасуседзтва, ёсьць дастаткова аргумэнтаў, каб не запрашаць Лукашэнку на саміт.

У нас, падпісантаў гэтага звароту, розныя партыйныя пазыцыі і розныя погляды на палітыку, але пагроза Незалежнасьці нашай краіны і нашай грамадзянскай супольнасьці, якая ўзьнікае ў сувязі з аднабокімі дзеяньнямі ў дачыненьні да рэжыму на Беларусі, змушаюць нас гаварыць цяпер разам і адным голасам: Лукашэнка не павінен быць запрошаны ў Прагу.

Мы спадзяемся на падтрымку гэтага звароту з боку нашых балтыйскіх і заходніх суседзяў і прыхільнікаў адказнай палітыкі.

***Івонка Сурвіла,***
***Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі,***
***Зянон Пазьняк,***
***кандыдат на прэзыдэнта Беларусі ў выбарах 1994 г.***
***Станіслаў Шушкевіч,***
***кандыдат на прэзыдэнта Беларусі ў выбарах 1994 г.***
***Аляксандар Казулін,***
***кандыдат на прэзыдэнта Беларусі ў выбарах 2006 г.***

*16 красавіка 2009 г. Варшава, Менск, Атава.*

# АБ УСХОДНІМ ПАРТНЁРСТВЕ

***(Заява)***

Мы вітаем ідэю „Усходняга партнёрства" і выказваем прызнаньне Эўразьвязу за ўключэньне ў гэтую праграму Рэспублікі Беларусь.

Мы разумеем важнасьць агульных задачаў, якімі кіруецца Эўразьвяз, прапануючы новы падыход у дачыненьні да антыдэмакратычнага рэжыму Лукашэнкі, які мэтанакіравана зьнішчае грамадзянскую супольнасьць у Беларусі.

Мы лічым, аднак, што забесьпячэньне правоў грамадзянскай супольнасьці і кожнага чалавека павінна стаць ўмовай дачыненьняў з аўтарытарнай уладай Аляксандра Лукашэнкі і мусіць быць адзначаная ў пратакольнай частцы партнёрства. Удзел грамадзянскай супольнасьці ва „Усходнім партнёрстве" стане гарантыяй пазытыўных крокаў, будзе ствараць магчымасьці станоўчага выбару для існуючай улады. Бяз гэтага ўдзелу Партнёрства не асягне станоўчых вынікаў і будзе скарыстана антыдэмакратычным рэжымам для апраўданьня сваёй разбуральнай дзейнасьці.

Мы засяроджваем увагу на антыкультурным характары рэжыму Лукашэнкі. Побач з разбурэньнем грамадзкай дзейнасьці і зламаньнем правоў чалавека гэты рэжым метадычна зьнішчае беларускую культуру, адукацыю і творчасьць, нацыянальную гістарычную навуку, а паўсюдную русіфікацыю зрабіў галоўнай асновай сваёй антыкультурнай палітыкі. Культура ў сучасным сьвеце становіцца адным з галоўных чыньнікаў суверэнітэту. Русіфікацыя і зьнішчэньне культуры павялічвае адмоўны ўплыў праімпэрскіх колаў расейскай палітыкі на Беларусі.

У прыярытэтных накірунках дзейнасьці „Усходняга партнёрства" мы хацелі б бачыць дапамогу па зьберажэньні беларускай культуры ад сістэматычнага вынішчэньня антыбеларускім рэжымам. Мы прапануем да тых пяці пазыцыяў, вылучаных з 12-ці патрабаваньняў Эўразьвязу да ўлады ў Беларусі, дадаць шосты пункт аб забесьпячэньні свабоднага разьвіцьця беларускай культуры, адукацыі і творчасьці.

Мы лічым, што прыярытэтнымі накірункамі супрацоўніцтва ў галіне эканомікі маглі б стаць энэргетыка і дыверсіфікацыя паставак энэргетычных рэсурсаў, менавіта – інвестыцыі ў праектную і тэхналягічную дзейнасьць па транспартыроўцы энэргетычных рэсурсаў (нафты, газу, электрычнасьці).

Лічым неабходным таксама скасаваньне ўсіх перашкодаў з боку ўлады ў галіне доступу насельніцтва да інфармацыі і культурна-асьветніцкіх праектаў. Спрашчэньне візавага рэжыму і зьмяншэньне коштаў за візы для грамадзянаў Беларусі спрыяла б узаемаабмену думак і разуменьню дэмакратычнага ладу жыцьця.

Мы хацелі б прыцягнуць увагу палітыкаў Эўразьвязу да сігналаў аб выпрацоўцы сумеснай стратэгіі Лукашэнкам і яго ўсходнімі саюзьнікамі ў дачыненьні да „Усходняга партнёрства." На наш погляд, калі недаацаніць гэты чыньнік і не падключыць да праграмы „Усходняга партнёрства" ўсіх сілаў Рэспублікі Беларусь (уключна з эміграцыяй), то пэрспэктывы Партнёрства ў Беларусі могуць не разьвіцца, або спыніцца (што найгорш) на ўзроўні фактычнага прызнаньня і легітымізацыі недэмакратычнага рэжыму.

Адчуваючы адказнасьць за наш народ, мы зацікаўленыя ў жыцьцяздольнасьці партнёрскай праграмы. Мы спадзяемся, што

наша пазыцыя будзе пачута і падтрымана ініцыятарамі і ўсімі ўдзельнікамі „Усходняга партнёрства."

*6 траўня 2009 г. Прага.*

***Івонка Сурвіла** Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі,*
***Зянон Пазьняк** кандыдат на прэзыдэнта Беларусі ў выбарах 1994 г.*
***Станіслаў Шушкевіч** кандыдат на прэзыдэнта Беларусі ў выбарах 1994 г.*
***Аляксандар Казулін** кандыдат на прэзыдэнта Беларусі ў выбарах 2006 г.*

# НЯЗВАНЫ ГОСЬЦЬ Ў ВАТЫКАНЕ

Мы сталі сьведкамі як візіт Лукашэнкі да Папы Рымскага Бенедыкта 16-га ня тое што дрэнна, а проста фатальна падзейначаў на сьвядомасьць некаторых вольных беларусаў. Іншыя хапаюцца за галаву, маўляў, сьвет здурэў, усё прагніло і нікому нельга верыць, а Папу, якога яны лічылі найвялікшым маральным аўтарытэтам, аказваецца „напляваць на нашы душы."

Усё гэта, вядома, ня так. Прычына такога ўспрыняцьця крыецца ў неінфармаванасьці і, часткова, на жаль, у антырэлігійным выхаваньні. Каталіцкі Касьцёл адчынены для чалавека. Ён не практыкуе сьвятарскага ментарства, тут свая мова адносінаў, пагрунтаваная на свабодзе і павазе да бліжняга – праява культуры тыпова эўрапейскага кшталту. У чалавечым вымярэньні такія абставіны пазначаны ўсюды ад характару літургіі да дачыненьняў паміж сьвятаром і вернікамі і, таксама, паміж самымі вернікамі.

Папа Бенедыкт 16-ы дзейнічае дакладна ў духу гэтай рэлігійнай культуры, і ў дачыненьні да прыняцьця з візітам „апошняга ізгоя Эўропы" не парушыў ніводнага, устаноўленага ў Ватыкане правіла, звычаю і традыцыі. А правілы такія, што кіраўнік дзяржавы можа прасіць прыняць яго ў Ватыкане, будучы на тэрыторыі Італіі. Папа тады не адмаўляе. Як вышэйшая духоўная ўлада ён па прыкладу Боскаму гатовы выслухаць любую асобу, не робячы ніякіх папярэдніх вердыктаў, бо ўсе душы роўныя перад Богам. У адваротным выпадку траціўся б сэнс рэлігіі і функцыя Касьцёла. Акрамя таго Беларусь мае дыпляматычныя зносіны з дзяржавай Ватыкан і калі кіраўнік дзяржавы просіць, каб яго прынялі, то яго прымаюць, нават калі і не надта хочуць.

Візіт „ізгоя" да Папы быў падрыхтаваны зь ведама Эўразьвязу і Сільвіё Бэрлусконі, які запрасіў Лукашэнку ў Італію і дзейнічаў тут як прадстаўнік Эўрапейскай структуры. Пра гэта выразна далі зразумець італьянскія дыпляматычныя крыніцы. Пры гэтым напярэдадні запросінаў Міністар замежных справаў Італіі Франка Фратыні зьмясьціў у друку адкрыты ліст з характарыстыкай рэжыму Лукашэнкі і заклікам „паважаць правы і асноўныя свабоды беларускіх грамадзянаў".

У гэтых абставінах прыезд Лукашэнкі да Папы меў катэгорыю прыватнага рабочага візіту. Візіцёра сустракалі, праводзілі да Папы, адбывалася фармальнае знаёмства, рутыновыя фразы і далей Папа выслухоўваў наведніка сам на сам (гэта істотна, бо, магчыма, наведнік хацеў бы сказаць нешта важнае ці асабістае). Пасьля такога прыёму ў Ватыкане пішуць кароткі камунікат, дзе паведамляецца пра што гаварылася з Папам. Ніякіх заяваў, прэсавых канфэрэнцыяў не прадугледжана. Сустрэча з Папам (з улікам перакладу) доўжылася 25 хвілінаў. Сам прыезд Лукашэнкі быў абстаўлены таямнічасьцю, візіт пацьвердзілі ў апошні момант. Невядома было нават дзе ён затрымаўся. Ягоная сустрэча з Папам не знайшла, практычна, ніякага адлюстраваньня ў італьянскім друку. Журналісты былі занятыя асьвятленьнем іншага візіту (прынца Чарльза і герцагіні Камілы)

Пасьля сустрэчы Лукашэнка, не міргнуўшы вокам, даў зразумець, што абмяркоўвалася патаньне аб сустрэча Папы і Патрыярха Маскоўскага і выказаў спадзеў, што сустрэча адбудзецца ў Беларусі, сказаў таксама, што ягоная гаворка з Папам доўжылася 50 хвілінаў (не схлусіць ён ня мог, але ў Рыме пра гэтую асаблівасьць яшчэ ня ведалі).

Ватыкан не пацьвердзіў размовы пра сустрэчу з Патрыярхам, зазначыўшы, што такія спатканьні рыхтуюцца на вышэйшым царкоўным узроўні. Прадстаўнікі Маскоўскай Патрыярхіі тым часам не стрымаліся нават ад зьедлівасьці, паведаміўшы, што такія сустрэчы рыхтуюцца ў інтарэсах цэркваў, а не з нагоды „палітычнай кан'юнктуры", што ў Патрыярха ёсьць непасрэдны кантакт з Папам і што ім „няма неабходнасьці выкарыстоўваць пасярэднікаў" (рэзкі і забойны пасаж). Лукашэнка, як бачым, ужо наклікаў на сябе грэблівыя адносіны і камэнтары, але ён гэтага не разумее. ТБ круціць сваю „катрынку".

Візіцёраў, якія наведваюць Папу, абавязваюць добрыя манеры, культура, павага. Гэта спэцыяльна не прапісана, суправаджальная асобы таксама не рэгламэнтуюцца, кожны кіруецца сам, сваёй выхаванасьцю, пачцівасьцю, пашанай да Папы і г. д. І нікому яшчэ ні прышло ў галаву прыйсці да Папы ў шлёпанцах на босу нагу, зь любоўніцай ці з пазашлюбным дзіцем (пры жывой жонцы). Лукашэнка стаў паршым дзікуном, які такое зрабіў. Зразумела, пра што ён думаў сваімі мазгамі і чаго хацеў дасягнуць. У Рыме ўсё ўбачылі і ўсё зразумелі. Дзіцятка не вінаватае, што яго выкарыстоўваюць, як цацку, у палітычных гульнях. Яно тут ёсьць несьвядомай ахвярай людзкой жорсткасьці і разьліку. Пантыфік цёпла прывітаў хлопчака як найлепш, як і трэба рабіць добраму і мудраму чалавеку.

Гледзячы на гэтую сытуацыю і на Лукашэнку ў Ватыкане, мне так і ўспамінаецца стары адэскі анекдот: „І каво вы хаціце абмануць...?" Ніякага карт-бляншу, ніякага празнаньня, дазволу на паскудзтва Лукашэнка не атрымаў, нікаго не расчуліў, нікаго не ашукаў, толькі паказаў наглядна, хто ён такі і што ён за чалавек. Прыдумка з рускім букваром таксама марны нумар. Пантыфік ведае, што адбываецца ў Беларусі і на якой мове друкаваў кнігі Скарына ў Пецярбургу.

Тое, што за ўсю гісторыю Ватыкана ніхто не хадзіў да Папы з пазашлюбным дзіцем – гэта вядома. Ня ведаю, аднак, ці размаўляў хто калі з Пантыфікам у такой ненармальнай манеры, як Лукашэнка (а гэта таксама заўважылі).

„Наша встреча затянулась на долгие годы, но наконец-то мы встретились", – кажа Лукашэнка. Тут ня праста няўменьне гаварыць. Ён лічыць сябе раўнёй з Пантыфікам (а ў глыбіні душы, магчыма, і вышэй), таму такая фраза. Некалі ў 90-х Лукашэнка спаткаўся з прэм'ерам Расеі Віктарам Чарнамырдзіным (былым намэнклятурным цэкістам і шышкай КПСС) і кажа яму: „Вітя". Чарнамырдзін пакруціў шыяй і буркнуў: „М-да, давненько меня никто Витей не называл".

А вось як выглядае запрашэньне Пантыфіку наведаць Беларусь (ёсьць відэазапіс у Інтэрнэце, кожны можа паглядзець):

„Если вы найдёте время, мы с Вами встретимся на Белорусской земле, кажа Лукашэнка. – Если Гасподь так решит – Вы исполните."

Усё тое ж самае („найдёте время" – „**мы** встретімся"). **„Мы"** – двух роўных. Ён запрашае не ў Беларусь, а да сябе на „встречу" (тут той жа „Вітя").

Тут зраблю кароткую дэгрэсію. Гэта тыповы ўзор паводзінаў малакультурнага чалавека з прэтэнзіямі, які трапіў на вяршыню сацыяльнай лесьвіцы у неадпаведную для сябе абстаноўку („з гразі ў князі", – як казалі некалі ў Вялікім Княстве). З другога боку гэта характэрнае захаваньне асобы пры псіхічных (шызоідных) адхіленьнях (манія велічы, значнасьці, неадэкватная самарэалізацыя, завышаная самаацэнка і інш.).

Кажуць „стыль – гэта чалавек". Ну хто можа так гаварыць з Пантыфікам: „Если Господь так решит – Вы исполните."? Стыль прапаршчыка з „погранвойск КГБ" (начальство решает, мы ісполняем). Гэта гатовая п'еса, сатыра „куншцюк", яе можна іграць на сцэне. Зрэшты ў перакладзе яно губляецца, але і таго, што было, Ватыкану хапіла, каб атрымаць адэкватнае ўяўленьне, хто ў іх пабываў.

Так што ня трэба заламываць рук і расчароўвацца ў папскай прыстойнасьці, спадарам інтэлігенцыі. Эўропа даверлівая, філісьцерская і г. д., але яна чуйная на бескультур'е. Гэта не Расея, дзе паміж „феняй", матам і „фігнёй" Лукашэнка можа плаваць, як рыба ў моры, і біць бакалы аб паркет.

Вось дзе сапраўды ня трэба каб ён быў – гэта на саміце Эўразьвязу ў Празе 7-га траўня. Ягоная прысутнасьць-непрысутнасьць там ёсьць вельмі прынцаповае, балючае для ўспрыняцьця, сымвалічнае і знакавае для беларусаў патаньне, якое пры рэалізацыі можа сыграць надзвычай адмоўную ролю (пра гэта ўжо пісалася). У рэальнасьці яно такім, як бы і ня ёсьць, але так успрымаецца грамадзтвам і Лукашэнкам і з гэтым трэба лічыцца. Прыём у Папы быў падрыхтаваны дзеля таго, каб Лукашэнка зразумеў, што ў Прагу цяпер яму ехаць ня трэба. Ці сапраўды ён гэта зразумеў, стане вядома якраз 7 – га траўня, але прыём яму на ўсялякі выпадак беларусы рыхтуюць.

*2 траўня 2009 г.*

***Зянон Пазьняк***

# ПАРУШЭНЬНІ Ў ЧАСЕ РЭФЭРЭНДУМУ – 1995

14 траўня 1995 года адбыўся рэфэрэндум па чатырох пытаньнях, прапанаваных А. Лукашэнкам. Наколькі ён быў легітымны?

Паводле меркаваньняў шэрагу юрыстаў, як працэдура прызначэньня, гэтак і само правядзеньне рэфэрэндуму дазваляюць казаць пра парушэньні тагачасных Канстытуцыі і законаў

## СУМНЕЎНАЯ ЛЕГІТЫМНАСЬЦЬ ПЫТАНЬНЯЎ

У сакавіку 1995 года прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандар Лукашэнка прапанаваў Вярхоўнаму Савету прызначыць рэфэрэндум па наступных пытаньнях:

«Ці згодны Вы з наданьнем рускай мове аднолькавага статусу зь беларускай?»

«Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленьні новых Дзяржаўнага сьцяга і Дзяржаўнага гэрба Рэспублікі Беларусь?»

«Ці падтрымліваеце Вы дзеяньні прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, сьціраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расейскай Фэдэрацыяй?»

«Ці згодны Вы з неабходнасьцю ўнясеньня зьмяненьняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасьць датэрміновага спыненьня паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага ці грубага парушэньня Канстытуцыі?»

Паводле артыкулу 78 тагачаснай Канстытуцыі, рэфэрэндум павінен быў праводзіцца ў адпаведнасьці з законам. Прававыя аспэкты рэфэрэндуму рэгуляваліся Законам „Аб усенародным галасаваньні (рэфэрэндуме)". Паводле яго, на рэфэрэндум не маглі выносіцца пытаньні нацыянальна-гістарычнай адметнасьці (калі патлумачыць простымі словамі – мова, гістарычныя і нацыянальны каштоўнасьці не належаць сучаснаму пакаленьню, і яно не мае права пазбаўляць іх пакаленьні будучыя, і наогул вырашаць і за продкаў, і за нашчадкаў). Менавіта такімі пытаньнямі зьяўляліся два пытаньні з чатырох, прапанаваных А. Лукашэнкам: аб статусе беларускай мовы і аб дзяржаўных сымвалах. Варта нагадаць, што якраз на гэтай падставе за некалькі месяцаў да рэфэрэндуму Цэнтральная камісія па выбарах і рэфэрэндумах адмовіла групе грамадзянаў у правядзеньні рэфэрэндуму па моўным пытаньні, і пяць парляманцкіх камісіяў далі адмоўныя заключэньні, бо прапанова не адпавядала заканадаўству).

Як пазьней адзначаў доктар юрыдычных навук, прафэсар, былы член Канстытуцыйнага Суда Міхаіл Пастухоў, з „палажэньняў Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь вынікае, што пытаньні, накіраваныя на зьніжэньне дзяржаўных гарантый існаваньня беларускай мовы, у тым ліку шляхам прыніжэньня яе ролі ў параўнаньні з іншымі мовамі, не могуць выносіцца на рэспубліканскі рэфэрэндум. Аналягічную выснову трэба зрабіць і адносна пытаньняў аб зьмене Дзяржаўнага сьцяга і Дзяржаўнага гэрба, як пытаньняў, якія замахваюцца на неад'емнае права беларускага народа на нацыянальную дзяржаўнасьць".

Нарэшце, артыкул 17 Канстытуцыі вызначаў беларускую мову як дзяржаўную, а расейскую – як мову нацыянальных зносін. Зьмена іх статусу азначала зьмену Канстытуцыі. Паводле артыкулу 148-2 Канстытуцыі, зьмена Канстытуцыі не магла праводзіцца ў апошнія шэсьць месяцаў паўнамоцтваў дзеючага Вярхоўнага Савета (а выбары новага ВС былі прызначаны ў адзін дзень з рэфэрэндумам, і калі б ВС –13 быў абраны ў поўным складзе, паўнамоцтвы ВС-12 скончыліся б не пазьней чым праз тры месяцы пасьля галасаваньня).

Такім чынам, вынясеньне пытаньняў аб мове і сымвалах парушала ***артыкулы 17, 78 і 148-2 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь****, а таксама* ***Закон „Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)"****.*

## ПАРУШЭНЬНІ У ЧАСЕ ПРЫЗНАЧЭНЬНЯ РЭФЭРЭНДУМУ

У адпаведнасьці з законам, рэфэрэндум павінен быў прызначаць Вярхоўны Савет (у той час – ВС 12-га скліканьня). ВС дзейнічаў у адпаведнасьці з Канстытуцыяй і шэрагам законаў, у тым ліку – Законам „Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" і „Часовым Рэглямэнтам Вярхоўнага Савета".

У знак пратэсту супраць незаконнага рэфэрэндуму 19 дэпутатаў Вярхоўнага Савета (членаў Апазыцыі БНФ) раніцай 11 красавіка абвясьцілі галадоўку ў Авальнай залі. Пасьля гэтага тры пытаньні з чатырох, прапанаваных прэзыдэнтам, Вярхоўны Савет не зацьвердзіў (не набралася належнай колькасьці галасоў). У ноч з 11 на 12 красавіка (пасьля 2-ой гадзіны ночы), у будынак Вярхоўнага Савета былі ўведзеныя вайсковыя, міліцэйскія і спэц-падразьдзяленьні (больш за 600 чалавек), дэпутаты былі

зьбітыя групай асобаў у масках , закінутыя ў міліцэйскія аўтамабілі і выкінутыя ў цэнтры Менску (пры гэтым некаторыя былі ізноў зьбітыя). Факт зьбіцьця праз гадзіну быў зарэгістраваны супрацоўнікамі т.зв. „лечкамісіі"(па вул. Чырвонаармейскай) і пацьверджаны сьледчым па асабліва важных справах Генэральнай пракуратуры Я. Бролішсам (сьледзтву, аднак, не ўдалося ідэнтыфікаваць байцоў, якія непасрэдна зьбівалі дэпутатаў. Паводле пазьнейшага прызнаньня тагачаснага намесьніка старшыні КДБ, гэта былі афіцэры групы КДБ „Альфа").



***213-Д. Сяргей Навумчык (фота 2006 г.)***

Толькі пасьля зьбіцьця дэпутатаў Апазыцыі БНФ намэнклятурна-савецкая бальшыня Вярхоўнага Савета (зноў жа груба парушыўшы закон) зацьвердзіла пад ціскам чатыры пытаньні, прапанаваныя А. Лукашэнкам на рэфэрэндум.

Паводле прафэсара М. Пастухова, „толькі адзін факт скарыстаньня фізічнай сілы ў дачыненьні да дэпутатаў «людзьмі ў камуфляжнай форме» (ды яшчэ ў будынку парляманта!) ставіць пад сумненьне законнасьць пастановы Вярхоўнага Савета наконт прызначэньня рэфэрэндуму, паколькі рашэньне было прынятае пад прымусам. Само ж увядзеньне ўзброеных людзей у парлямант і нападзеньне на дэпутатаў можна кваліфікаваць як захоп улады гвалтоўным чынам".

Такім чынам, працэдура прызначэньня рэфэрэндуму адбывалася з парушэньнем, як мінімум, ***Закона „Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь"*** (паводле якога дэпутат зьяўляецца асобай недатыкальнай) і ***„Часовага Рэгляманту Вярхоўнага Савета"***.

## ПАРУШЭНЬНІ Ў ЧАСЕ АГІТАЦЫІ

Закон „Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)" прадугледжваў атрыманьне грамадзянамі поўнай інфармацыі па пытаньнях, вынесеных на галасаваньне, а таксама роўныя магчымасьці агітацыі „за" і „супраць".

За некалькі тыдняў, якія папярэднічалі галасаваньню, па дзяржаўных тэле – і радыёканалах ішла суцэльная агітацыя ў падтрымку пазыцыі А.Лукашэнкі. На адным толькі тэлебачаньні працягласьць перадачаў з агітацыяй за пытаньні рэфэрэндуму, паводле маніторынгу, складала дзясяткі гадзінаў. Апанэнтам слова не далі. На 14-га траўня былі прызначаныя таксама выбары ў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, і ў адпаведнасьці з заканадаўствам, кандыдаты мелі права на выступ у СМІ. Аднак у выступе кандыдатаў з эфіру выразалася ўсе словы, дзе яны выказваліся супраць прапанаваных А. Лукашэнкам пытаньняў рэфэрэндуму.

Нарэшце, перад галасаваньнем група дэпутатаў ВС (З. Пазьняк, Л. Баршчэўскі, С. Навумчык) зьвярнуліся з афіцыйным запытам да старшыні Дзяржтэлерадыёкампаніі Р. Кісяля з просьбай прадставіць 45 хвілінаў эфірнага часу 13-траўня для выказваньня сваёй пазыцыі па пытаньнях рэфэрэндуму і абвяржэньня інфармацыі, якая папярэдне прагучала ў фільме „Дзеці хлусьні". Эфір прадстаўлены ня быў, хаця гэта гарантавалася дэпутатам Законам „Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь".

Такім чынам, агітацыя ў пытаньнях рэфэрэндуму адбывалася з парушэньнямі ***Законаў „Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)", „Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь" і „Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь"***.

## ПАРУШЭНЬНІ Ў ЧАСЕ ГАЛАСАВАНЬНЯ

Пад час самога галасаваньня назіральнікі (прычым афіцыйна зарэгістраваныя) зафіксавалі шматлікія парушэньні. Так, 21 траўня Сойм БНФ адзначыў, што „галасаваньне па рэфэрэндуме, асабліва ў сельскай мясцовасьці, было сфальсіфікавана выканаўчымі ўладамі і іхнімі прадстаўнікамі ў выбарчых камісіях.Пра гэта сьведчаць шматлікія факты, зарэгістраваныя назіральнікамі як ад Партыі БНФ, так і іншымі. Мы мелі сьведчаньні, што ў шмат якіх сельскіх акругах не прыйшла галасавацца і палова грамадзян, унесеных у сьпісы для галасаваньня. Колькасьць тых, хто прагаласаваў, была завышаная. І тым ня менш па другім і чацьвёртым пытаньні рэфэрэндуму (дзяржаўныя сымбалі і права прэзыдэнта распускаць парлямэнт. – С.Н.) прагаласавала „за" меньш за палову ад агульнай колькасьці выбаршчыкаў". Заўважым, што гэта была афіцыйная заява афіцыйна зарэгістраванай партыі, перададзеная ў ЦВК і не абвергнутая ЦВК.

Такім чынам, паводле назіральнікаў, галасаваньне адбывалася з парушэньнем ***Закона „Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)"***.

## ЗАЦЬВЯРДЖЭНЬНЕ ВЫНІКАЎ

Прыкметна, што Вярхоўны Савет 12-га скліканьня, нягледзячы на тое, што пасьля рэфэрэндуму выконваў функцыі вышэйшага заканадаўчага воргану краіны яшчэ амаль восем месяцаў (у выніку таго, што ВС 13-га скліканьня ня быў своечасова абраны, ягоныя паўнамоцтвы скончыліся 8-га студзеня 1996 г.), – не зацьвердзіў вынікаў травеньскага рэфэрэндуму. Гэта зрабіў толькі Вярхоўны Савет 13-га скліканьня.

**Такім чынам, у часе прызначэньня і правядзеньня рэфэрэндуму 1995 г. былі парушаныя, як мінімум, артыкулы 17, 78 і 148 ч. 2 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Законы „Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)",)", „Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь", „Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь", а таксама „Часовы Рэглямэнт Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь".**

***Сяргей Навумчык (Радыё Свабода)***

*Травень, 2009 г.*

# ВЫБАРЫ-1994. СКРАДЗЕНАЯ ПЕРАМОГА

**Пазьняк перамог бы ў прэзыдэнцкіх выбарах 1994 года і Кебіча, і камуністаў, калі б «маладыя ваўкі» ня вылучылі Лукашэнку. Уласна, Лукашэнка «скраў» перамогу ў Пазьняка, скарыстаўшыся плёнам дзейнасьці БНФ, які выкрываў поўную няздатнасьць Кебіча і ягонага ўраду ажыцьцявіць дэмакратычныя і эканамічныя рэформы.**

Пытаньне – чаму гэта адбылося? – я задаю сабе з той самай ночы пасьля першага туру выбараў, якую, як давераная асоба Зянона Пазьняка, правёў ў кабінэце старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандра Абрамовіча. У гэтых нататках адказаць на яго немагчыма (пэўна, трэба б было пісаць асобную кнігу), але паспрабую нагадаць некаторыя эпізоды той выбарчай кампаніі, спасылаючыся, пераважна, на тое, чаму сам быў сьведкам.

За паўтары месяцы да той ночы мне давялося быць удзельнікам пасяджэньня ЦВК, якое магло паставіць крыж на прэзыдэнцкіх амбіцыях Лукашэнкі.

На рэгістрацыю кандыдатаў Пазьняк папрасіў прыйсьці мяне ў якасьці ягонай даверанай асобы. Перад пасяджэньнем Кебіч падышоў да нас і працягнуў руку, якую Пазьняк не паціснуў. Я ўсё ж паціснуў руку прэм'ер-міністру і, больш за тое, мне пад час паседжаньня прыйшлося апынуцца паміж Пазьняком і Кебічам. Далей сеў кандыдат-камуніст Новікаў, паводдаль – Лукашэнка з Сініцыным. Неўзабаве высьветлілася, што падпісныя лісты за Лукашэнку афармленыя з парушэньнем заканадаўства. У іх месцам ягонага жыхарства быў пазначаны Менск, а пасада – дэпутат ВС, тым часам як жыў Лукашэнка ў вёсцы Рыжкавічы Шклоўскага раёна, а пасада была – дырэктар саўгасу «Гарадзец».

Гэта быў сьвядомы падман (паплечнікі Лукашэнкі разумелі, што за дырэктара саўгасу як за будучага кіраўніка дзяржавы падпішацца меньш людзей, чым як за члена парляманту). Цяпер кандыдатаў у дэпутаты здымаюць з рэгістрацыі і за менш значныя парушэньні.

А тады паміж старшынём ЦВК Абрамовічам і Лукашэнкам адбыўся такі дыялёг: «Дзе Вы прапісаны?» – «Живу в гостинице «Октябрьская» – «Я не пытаюся, дзе Вы сьпіце, я пытаюся, дзе Вы афіцыйна прапісаны? Дзе Ваш пашпарт»? – «Паспорт? А его у меня украли. Против меня развёрнута кампания травли. Но личность свою я могу подтвердить, если Вы не верите»…

Кебіч кажа мне: «Нет, ты видишь? Видишь, какой это человек?». У адказ я сказаў, што Вы, Вячаслаў Францавіч, самі стварылі з Лукашэнкі героя, і Кебіч гэта ня стаў аспрэчваць.

У той дзень ЦВК усё ж зарэгістравала Лукашэнку (праз нядоўгі час Лукашэнка прызначыць Абрамовіча намесьнікам кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі).

З Лукашэнкам у мяне ніколі не было прыязных адносінаў (хутчэй – узаемная асабістая антыпатыя з першага дня знаёмства ў 1990 годзе), але чатыры гады мы правялі з ім як дэпутаты ВС ў Авальнай залі. Не магу сказаць «прапрацавалі»: для сыстэмнай, руціннай заканадаўчай працы ён быў няздатны, не памятаю, каб калі-небудзь вылучыў хоць адну заканадаўчую прапанову. Дэпутаты Апазыцыі БНФ распрацавалі некалькі дзесяткаў законапраектаў (у тым ліку эканамічнага характару), і мы імкнуліся далучыць да працы і не «апазыцыйных» дэпутатаў, але нават ў падрыхтоўцы Зямельнага Кодэксу і закону аб зямлі дырэктар саўгасу «Гарадзец» ня браў ўдзелу. Стыхія Лукашэнкі была – мікрафон, у прамовах яго часьцяком не было ні лёгікі, ні сэнсу, ён мог супярэчыць сам сабе ў межах аднаго выступу, але, як трапна вызначыў Васіль Быкаў, меў «зычны, абураны голас».

У 1991 годзе Лукашэнка выступіў супраць Незалежнасьці Беларусі; замест бел-чырвона-белага дэпутацкага значка ён прынцыпова насіў «бэсэсэраўскі», чырвона-зялёны.

Яго мала хто ўспрымаў усур'ёз, пакуль ў чэрвені 1993 года з падачы дэпутата Анатоля Лябедзькі старшыня ВС Станіслаў Шушкевіч не прапанаваў яго кандыдатуру на пасаду Старшыні так званай камісіі па карупцыі (гэтая памылка Шушкевіча адыграла фатальную ролю і ў лёсе Беларусі, і ў ягонай ўласныай палітычнай біяграфіі). Супраць карупцыі змагалася Апазыцыя БНФ, называючы канкрэтныя лічбы і канкрэтныя імёны з атачэньня Кебіча. Лукашэнка ж пераўтварыў працу камісіі ў прапагандысцкае шоў, эпагеем якога 14 снежня 1993 году стаў даклад на сэсіі ВС з прамой тэле – і радыётрансляцыяй. Імёны тых, хто сапраўды скраў мільёны (і заклаў тым самым пачатак некаторых цяперашніх мэга-бізнэсаў) Лукашэнка не назваў. Затое абліў брудам Шушкевіча і апазыцыю. Пазьней стала вядома, што даклад яму дапамагалі пісаць супрацоўнікі «Советской Белоруссии» па загаду з Саўміну. Кебіч імкнуўся зьняць Шушкевіча, каб расчысьціць сабе шлях да прэзыдэнцтва, і яму ў студзені 1994-га рукамі Лукашэнкі і «маладых ваўкоў» удалося гэта зрабіць (Апазыцыя БНФ, хаця і крытыкавала Шушкевіча за непасьлядоўнасьць, спрабавала сарваць галасаваньне. На жаль, не ўдалося).

Акрамя «барацьбы з карупцыяй», галоўнай тэмай выступаў Лукашэнкі было аднаўленьне савецкай імпэрыі. Яшчэ ў кастрычніку 1993-га мы прынялі заяву Апазыцыі БНФ, у якой запатрабавалі пазбавіць дэпутацкіх паўнамоцтваў Лукашэнку і некаторых іншых парламентарыяў за выразна антыдзяржаўніцкую пазыцыю (што лагічна: калі дэпутат выступае за скасаваньне дзяржавы, ён не павінен быць у парламэнце). На жаль, Станіслаў Шушкевіч адмовіўся падтрымаць нашу прапанову, яна не была ўключаная ў павестку дня сэсіі ВС. Давёўшы эканамічнае становішча Беларусі да крытычнага стану (пракебічаўская большасьць не прыняла ні аднаго з дзясяткаў законапраектаў, распрацаваных Апазыцыяй БНФ і нашымі экспэртамі), Кебіч учапіўся за ідэю ўвядзеньня ў Беларусі расейскага рубля і падпісаў у Маскве адпаведнае пагадненьне (на Прэзыдыюме ВС тады нават разглядалася пытаньне арышту Кебіча і іншых членаў дэлегацыі ў менскім аэрапорце. Але Кебіч быў дэпутатам ВС і меў імунітэт). Лукашэнка ж заяўляў, што ён адродзіць СССР, увядзе расейскі рубель хутчэй, чым Кебіч. Нарэшце, Лукашэнка выступіў у дзярждуме Расеі з лозунгамі аднаўленьня імпэрыі.

Апазыцыя БНФ пасьлядоўна выступала супраць пасады прэзыдэнта, сьцьвярджаючы, што гэта непазьбежна прывядзе да дыктатуры (дакладна такі тэрмін – «дыктатура» – ужываўся ў заявах парлямэнцкай апазыцыі БНФ вясной 1994 года). І хаця парлямэнцкая большасьць, што рыхтавала прэзыдэнцтва «пад Кебіча», настойліва дамагалася сваёй мэты, нам удалося б заблякаваць рашэньне, яно не набрала б канстытуцыйнай большасьці (дзьве трэціны галасоў дэпутатаў), калі б не паводзіны «маладых ваўкоў», якія выставілі наперад Лукашэнку як таран.

Калі сьцісла, мэта Ганчара і Булахава была наступнай. Лукашэнка робіцца прэзыдэнтам, Ганчар – прэм'ерам, Булахаў – старшынём Канстытуцыйнага Суда. Ведаючы характар Лукашэнкі, нацяжка было здагадацца, што ён даволі хутка уступіць у канфлікт з Канстытуцыяй, і не адзін раз (што праз некалькі месяцаў і адбылося) . Пасьля таго, як Канстытуцыйны Суд вынесе вэрдыкт пра парушэньні, пачынаецца працэдура імпічмэнту (якую, па іх разьліках, падтрымалі б і дэпутаты БНФ, і прадстаўнікі наменклятуры). Лукашэнка – у адстаўцы, а функцыі прэзыдэнта выконвае прэм'ер-міністар Ганчар, які трымае ў руках адміністрацыйны рэсурс. У выніку – Ганчар абіраецца прэзыдэнтам.

Забягаючы наперад, скажу, што ўжо ў першы дзень прэзыдэнцтва Лукашэнка клясычна «кінуў» сваіх паплечнікаў. Адразу пасьля інаўгурацыі ён фармальна выканаў абяцаньне – прапанаваў Вярхоўнаму Савету зацьвердзіць Булахава на пасадзе старшыні КС («Пацан сказал – пацан сделал»). Але звычайна прапановам на пасады такога рангу папярэднічае «апрацоўка» дэпутатаў, кансультацыі з фракцыямі і г.д. Напрыклад, у той самы дзень тэрмінова выкліканы з Лондану амбасадар Сянько гутарыў з

намі (дэпутатамі Апазыцыі БНФ) наконт свайго прызначэньня міністрам замежных спраў. Да Булахава адмоўна ставіліся і апазыцыя (менавіта ён адыграў ключавую ролю ў тым, што ВС праігнараваў 442 тысячы подпісаў, сабраных БНФ за рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах па мажарытарна-прапарцыйнай сыстэме), не любілі яго і «кебічаўцы» (занадта малады – яму было 35 гадоў). Лукашэнка выдатна ведаў гэта, але вылучыў кандыдатуру Булахава бяз усялякай падтрыхтоўкі. І калі электроннае табло ў Авальнай залі паказала, што Булахаў не набраў галасоў, Лукашэнка проста ня змог стрымаць усьмешкі, сказаўшы пры гэтым кшталту – ну, нічога страшнага, Дзьмітрый Пятровіч яшчэ малады чалавек, а працы хапае і іншай. На Булахава было цяжка глядзець. Сумным выглядаў і Ганчар, якога Лукашэнка вылучыў «усяго толькі» на віцэ-прэм'ера (і калі Лукашэнка кажа, што Ганчар прасіў у яго прэм'ерства – ён кажа праўду. Але ня ўсю праўду – ён яму гэтую пасаду абяцаў).

А тады, у сакавіку, менавіта Ганчар і Булахаў прапанавалі, у парушэньне рэглямэнту ВС, працэдуру галасаваньня па «прэзыдэнцкім» разьдзеле Канстытуцыі пайменнымі бюлетэнямі на працягу трох дзён; ініцыятыву падтрымаў спікер М.Грыб. Апазыцыя БНФ абвясьціла гэта антызаконным, мы ўвогуле байкатавалі галасаваньне і не бралі бюлетэняў – але ў Авальную залю дастаўлялі дэпутатаў-вэтэранаў нават на машынах хуткай дапамогі, некаторых дэпутатаў я тады пабачыў упершыню за некалькі гадоў. Да таго ж, за прэзыдэнцтва выказаліся Карпенка і група ягоных прыхільнікаў (яшчэ раней Карпенка падтрымаў зьняцьцё з пасады старшыні ВС Шушкевіча). Патрэбныя дзьве траціны галасоў сабралі.

Да таго ж, падчас разгляду пытаньня аб прэзыдэнце на сэсіі ВС Ганчар і Лябедзька настаялі, каб узроставы цэнз для кандыдата быў зьменшаны з 40 гадоў да 35 (Лукашэнку спаўнялася сорак толькі у жніўні).

Як апошнюю магчымасьць спыніць катастрофу, мы прапанавалі не прызначаць прэзыдэнцкія выбары адразу, а правесьці спачатку парлямэнцкія, і толькі потым, праз паўгады – прэзыдэнцкія. Наш разьлік быў на тое, што ў выніку выбараў дэмакратычныя сілы павялічылі б сваю прысутнасьць у ВС і што ў людзей было б больш часу разабрацца і ў асобах, і ў плятформах патэнцыйных кандыдатаў у прэзыдэнты. Але ВС адрынуў і гэтую нашу прапанову.

Масква афіцыйна нібыта падтрымлівала Кебіча, у заявах Ельцына і Чарнамырдзіна, але заявы былі толькі словамі. Ды і трэба памятаць, што ўяўляў сабой у той час Ельцын і пад чыім кантролем ён быў. Расейскія спэцслужбы зрабілі ў Беларусі стаўку на чалавека, які выказваў тыя ж «саюзьніцкія» ідэі, што і Кебіч, але рабіў гэты больш энэргічна. І ня толькі расейскія. *«Аляксандар Рыгоравіч сваім ўзыходжаньнем шмат чым абавязаны Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі... у пэрыяд прэзыдэнцкіх выбараў ў спэцслужбе была створаная ініцыятыўная група падтрымкі Аляксандра Лукашэнкі... шматлікія супрацоўнікі цэнтральнага апарату Камітэту ў Менску і абласных упраўленьнях КДБ адсочвалі абстаноўку пад час выбараў, кантралявалі дзеяньні асноўных канкурэнтаў на прэзыдэнцкую пасаду і прадастаўлялі папераджальную інфармацыю ў штаб Аляксандра Рыгоравіча... Менавіта чэкісты ведалі сапраўдную карціну лёзьненскага замаху, фінансаваньня прэзыдэнцкай кампаніі і паруліліся схаваць «канцы ў ваду»*, – пісаў пазьней былы афіцэр КДБ Сяргей Аніська **(«БДГ»**, 15 лютага 1996 г).

І тады, у 1994 годзе, і цяпер я быў і застаюся перакананы: адзіным кандыдатам, здольным пабудаваць незалежную Беларусь і вывесьці яе ў супольнасьць цывілізаваных дэмакратычных краінаў, быў старшыня БНФ і парлямэнцкай апазыцыі Зянон Пазьняк. Пазьняк меў дэталёва распрацаваную прэзыдэнцкую праграму дзяржаўнага будаўніцтва з моцным эканамічным блёкам (распрацоўшчыкі – акадэмікі і дактары эканамічных навук). У каманду ўваходзілі віцэ-прэзыдэнт Акадэміі Навук Радзім Гарэцкі, член-карэспандэнт АН Іван Нікітчанка, доктары эканамічных навук Уладзімер Тарасаў і Ўладзімер Кулажанка. Не гаворачы ўжо пра дэпутатаў, якія атрымалі вялікі вопыт заканадаўчай і палітычнай працы – Уладзімера Заблоцкага, Юрася Беленькага, Сяргея Папкова, Мікалая Крыжаноўскага, Валянціна Голубева, Лявонція Зданевіча ды іншых. Даверанай асобай Пазьняка быў і Васіль Уладзімеравіч Быкаў. 19 чэрвеня, у дзень свайго 70-годзьдзя, Быкаў на мітынгу ў ягоны гонар ля помніку Янку Купалу называе свае галоўныя жаданьні, і ў тым ліку: *«Я вельмі хачу, каб першым прэзыдэнтам Беларусі стаў яе самы найлепшы сын – Зянон Станіслававіч Пазьняк»*.

У Лукашэнкі, па ягоных нядаўніх словах, уся перадвыбарчая праграма ўмяшчалася на аркушы паперы. Я б ўдакладніў: яна ўвогуле ўмяшчалася ў адной фразе: «усіх перасажаю і аднаўлю СССР» (трэба прызнаць, што гэтую праграму, з пэўным посьпехам, ён імкнецца выконваць і зараз).

Але на баку Лукашэнкі было тое, што адыграла ў ягонай перамозе ключавую ролю – дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі.

Некаторыя тагачасныя паплечнікі Лукашэнкі цяпер гавораць, што супраць яго нібыта працавалі ўсе дзяржаўныя СМІ. Некаторыя зь іх нават ганарацца перамогай ў такіх «складаных» умовах.

Насамрэч дзяржаўныя СМІ (тэлебачаньне, радыё і газэты) працавалі ў 1992-1994 гг. на Лукашэнку. У тым сэнсе, што ідэі дэмакратыі, эканамічных рэформаў, а самае галоўнае – Незалежнасьці Беларусі – падвяргаліся сыстэматычнай рэвізіі і нават абсьмяяньню, затое цкаваньню Народнага Фронта было дадзена «зялёнае сьвятло». А пасьля таго, як у верасьні 1993 году Кебіч назваў свой подпіс пад Віскулёўскім пагадненьнем вялізнай памылкай і пакляўся аднавіць саюз з Расеяй, дзяржаўная прапаганда набыла выразна імпэрскі характар. Усё гэта было на руку Лукашэнку, які яшчэ за месяц да пакаяньня Кебіча, у жніўні 1993-га, надрукаваў інтэрвію ў маскоўскай газэце «Правда» пад красамоўным назовам «Да возродится!» (маючы на ўвазе Савецкі Саюз ці хаця б саюз «двух братских народов»). Водпаведзь Лукашэнку даў на старонках «Народнай газэты» Васіль Быкаў. Уласна, Лукашэнка і Кебіч цягам некалькіх месяцаў спрачаліся, хто лепшы «інтэгратар». Ідэя «інтэграцыі» і па-сутнасьці ліквідацыі беларускай Незалежнасьці пры гэтым дзяржаўнымі СМІ падавалася як панацэя ад усіх бедаў.

Тут павінен сказаць, што ўсё тое, што робіць Лукашэнка вось ужо пятнаццаць гадоў, ён у той ці іншай форме выказваў у 1993-пачатку 1994 гг. Члены каманды Лукашэнкі, «маладыя ваўкі» (назаву найбольш вядомых – Ганчар, Сініцын, Булахаў, Лябедзька, Шэйман, Фядута) не маглі ня бачыць яго выразна антыдэмакратычнай, антыдзяржаўніцкай і антынацыянальнай пазыцыі. Падаецца, што наадварот – менавіта такая пазыцыя была сьвядома ўзьведзеная ў ранг галоўнай ідэалёгіі ягонай выбарчай кампаніі (тагачасны кіраўнік перадвыбарчага штабу Сініцын і цяпер апантана выступае за ўключэньне Беларусі ў склад Расеі).

У сваіх нядаўна выдадзеных мэмуарах Кебіч найважнейшым фактарам перамогі на тых выбарах вызначае (абсалютна справядліва) прапагандысцкі рэсурс. Гэты рэсурс працаваў супраць БНФ і на Лукашэнку і ідэалягічна, і пэрсанальна (сюжэты з так званым «лёзьненскім стрэлам» і «сцюардэсай» толькі надалі яму папулярнасьці).

Як піша Кебіч, *«заявив в госдуме России о намерении добиваться восстановления Советского Союза, Александр Лукашенко стал играть на моём информационном поле»* (В.

Кебіч, «Искушение властью», Минск, «Парадокс», 2008, ст. 414). І далей: «*Вслед за антікоррупционным докладом «Советская Белоруссия» напечатала об Александре Лукашенко очерк «Я рос не в чёрной «Волге», не на чёрной икре», а затем пространное интервью о его поездке в Москву и выступлении в Государственной думе. Имя депутата замелькало на страницах газет. Он стал частым гостем на телевидении*» (ст. 415-416).

Да сакавіка 1994 года, калі Лукашэнка ўпершыню выступіў з крытыкай Кебіча, яму – дзеля таго, каб «мачыць» БНФ, – былі неабмежавана (менавіта неабмежавана) прадастаўленыя ўсе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. У сваіх мэмуарах Кебіч пацьвярджае, што і пасьля сакавіка і «СБ», і некаторыя іншыя выданьні працягвалі падтрымліваць Лукашэнку.

Супрацьстаяць магутнай дзяржаўнай прапагандысцкай машыне было папросту немагчыма. Натуральна, пра Пазьняка «СБ» ніякага нарысу ніколі не друкавала, а ўжо з восені 1993 года дэпутатам Апазыцыі перасталі даваць тэлеэфір, што, між іншым, было парушэньнем Закону аб статусе дэпутата. Мы маглі разьлічваць толькі на парлямэнцкую «Народную газэту», якую рэдагаваў Іосіф Сярэдзіч, і на «Свабоду» Ігара Гермянчука. Гэта было нямала, але – недастаткова. Перадача «Беларуская маладзёжная» была закрытая да пачатку выбарчай кампаніі.

Афіцыйныя вынікі першага туру выбараў былі наступныя: Лукашэнка – 45,1 адсоткаў, Кебіч – 17,4, Пазьняк – 12,9, Шушкевіч – 9,9, Дубко – 6, Новікаў – 4,6. Я пішу «афіцыйныя», бо, па нашых зьвестках, фаварытамі былі Лукашэнка і Пазьняк, Кебіч не прайшоў у другі тур і нават заняў ня трэцяе, а чацьвёртае месца – пасьля Лукашэнкі, Пазьняка і Шушкевіча. Мне патэлефанаваў Булахаў і прапанаваў пацьвердзіць перамогу Лукашэнкі ўжо ў першым туры, пры тым што за Пазьняком было б «ганаровае другое месца». Гэта была абсурдная прапанова ў тых умовах.

Але магчымасьць прадухіліць прэзыдэнцтва Лукашэнкі ўсё яшчэ заставалася.

Літаральна праз некалькі хвілінаў пасьля званка Булахава мне пазванілі са штабу Кебіча і запыталіся, ці не лічыў бы БНФ магчымым у такіх умовах «падтрымаць Вячаслава Францавіча». У мяне ў той момант не было магчымасьці параіцца з Пазьняком, а рашэньне трэба было прымаць імгненна. Я сказаў, што Вячаслава Францавіча ўжо нішто не ўратуе, але магчымасьць не дапусьціць Лукашэнку да прэзыдэнцтва ёсьць. Справа ў тым, што многія ішлі галасаваць ня столькі «за Лукашэнку», колькі – «супраць Кебіча». І калі Кебіч здыме сваю кандыдатуру і ў бюлетэні застанецца толькі Лукашэнка, на выбары прыйдзе значна менш людзей, чым магло б прыйсьці, калі супрацьстаяньне Кебіч – Лукашэнка застанецца. У сваю чаргу, БНФ мог бы зьняць сваіх назіральнікаў (яны былі ў нас ці не на кожным выбарчым участку). Другі тур, па-просту, мог не адбыцца з-за няяўкі выбаршчыкаў. Я таксама папрасіў Кебіча прадаставіць нам тэлеэфір – каб спакойна, без эмоцый, патлумачыць, чым пагражае абраньне Лукашэнкі. «Будзем думаць,» – пачуў у адказ.

Адразу пасьля гэтага я праінфармаваў Пазьняка, і мы правялі пэўныя кансультацыі (я пакуль не магу назваць прозьвішчы, але тое былі «першыя» асобы ўлады). Выпрацаваўся варыянт (канстытуцыйны), які выключаў удзел Лукашэнкі ў «другім коле» выбараў. Больш за тое: узьнікала магчымасьць скасаваньня прэзыдэнцтва, паколькі з гэтым пагадзіліся і тыя, хто яшчэ чатыры месяцы таму настойваў на яго ўвядзеньні.

Пазьней А.Фядута прызнаўся, што менавіта варыянт зьняцьця Кебіча ў другім туры найбольш палохаў каманду Лукашэнкі.

Але палохаліся дарэмна: Кебіч прапанову не прыняў. Не далі нам і эфір, каб шырока паведаміць пра рашэньне Сойму БНФ: не ісьці на другі тур альбо ў крайнім выпадку выкрэсьліваць абодвух кандыдатаў.

Апошні шанец спыніць Лукашэнку быў страчаны.

Пазьней Кебіч у сваіх успамінах напіша: «*Теперь, по прошествии многих лет, я не считаю, что потерпел сокрушительное поражение. По сути дела, мы выступали с Александром Лукашенко с одинаковых политических позиций, боролись не друг с другом, а за президентское кресло, разница была лишь в подходах к достижению поставленных целей. И потому главным итогом первого тура следует, пожалуй, считать поражение ставленников националистических сил Зенона Позняка и Станислава Шушкевича. Чей вклад в общую победу над кандидатами от БНФ, мой или Александра Лукашенко, оказался весомее, пусть рассудит время*» (ст. 434).

Такім чынам, тое было не пэрсанальнае супрацьстаяньне Кебіча, Лукашэнкі, Пазьняка ці іншых кандыдатаў – гэта было супрацьстаяньне паміж старым і новым, паміж аўтарытарызмам і дэмакратыяй, паміж імпэрыяй і Незалежнасьцю. І «маладыя ваўкі» разам з Кебічам перамаглі не Пазьняка – яны зьнішчылі нацыянальнае Адраджэньне.

Замест падтрымкі дэмакратычнага, эўрапейскага разьвіцьця Беларусі, умацаваньня нацыі і нацыянальных каштоўнасьцяў (мовы, культуры) «маладыя ваўкі» прывялі да ўлады таго, хто быў і застаецца галоўнай небясьпекай для існаваньня Беларусі як незалежнай дзяржавы.

Тут і адказ тым, хто кажа, што ідэі Лукашэнкі адпавядалі памкненьням большай часткі тагачаснага (ды і цяперашняга) грамадзтва. У Беларусі рост нацыянальнай сьвядомасьці і асэнсаваньне грамадзтвам сувэрэнітэту як найвялікшай каштоўнасьці пачалі (дзякуючы атачэньню Кебіча) падаўляць ужо праз год пасьля аднаўленьня Незалежнасьці. Дзяржаўная прапаганда фармавала супольнасьць, гатовую адмовіцца ад таго, чаго іншыя нацыі дамагаюцца пакутамі і часам крывёю.

У той жа часткі грамадзтва, якая ўсьведамляла адказнасьць за лёс дзяржавы, проста не хапіла «крытычнай масы», каб супрацьстаяць хлусьні і цынічнай сіле. Нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня было толькі восем (!) працэнтаў, колькасьць усяго БНФ не складала і аднаго працэнта ад насельніцтва Беларусі. Але разам з тымі трыццацьцю тысячамі грамадзян (два працэнты жыхароў Менску), якія ў жніўні 1991 года выйшлі на плошчу перад Домам ураду і чыя падтрымка была неацэннай, нам ўдалося аднавіць Незалежнасьць, і гэта для Беларусі – найважнейшы палітычны вынік мінулага стагодзьдзя. Аднак прадухіліць тую трагедыю, якая адбылася летам 1994-га, у нас ужо не хапіла сіл.

«*Што ж, можна хіба павіншаваць беларусаў з мінулымі выбарамі*, – саркастычна заўважыў Васіль Быкаў. – *Гарай – ня зробіш. Для сябе, для грамадзтва, для нашчадкаў – таксама*». І праз паўтары гады пасьля тых выбараў, адказваючы на пытаньне супрацоўніка радыё «Свабода» Аляксандра Лукашука пра памылкі дэмакратаў, Быкаў сказаў: «*Думаю, што гаварыць пра якія-небудзь памылкі дэмакратыі, можа быць, няма сэнсу. Калі разабрацца і прынцыпова падыходзіць – дык гэтых памылак, такіх значных памылак, было ня так і шмат – можа быць, і наогул не было. Іншая справа, што і вельмі правамоцная і абгрунтаваная палітыка не прынесла посьпеху. Дык яна ў гэтых умовах і не магла прынесьці таго пось-*

*пеху, на які дэмакраты разьлічвалі... Грамадзтва яшчэ не гатовае, каб прынесьці посьпех беларускай нацыянальнай дэмакратыі»*.

У гэтым меркаваньні Быкава ключавым словам мне бачыцца – «нацыянальнай». Гісторыя ведае прыклады, калі эканоміку ўдавалася ўзьняць і бяз дэмакратыі (Чылі часоў Піначэта). Але няма ніводнага выпадку, калі б дзяржава ўмацавалася без аднаўленьня нацыянальнай самасьвядомасьці. Бяз гэтага краіна можа быць анэксаваная іншай дзяржавай. Таму тое, на чым спатыкнулася беларускае грамадзтва ў 1994 годзе, яму рана ці позна давядзецца прайсьці.

***Сяргей НАВУМЧЫК***

*Адчынена: (http://naviny.by/rubrics/opinion/2009/07/10/ic_articles_410_163536/)*

# КНІГІ ПРА БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ*

Навале маскоўскай макулатуры, татальнай русіфікацыі кнігадруку ў нашай краіне супрацьстаяць беларускія аўтары, якія ствараюць беларускія кнігі ў замежжы. У 2007 годзе вышлі ў свет дзьве чарговыя кнігі Зянона Пазьняка, а таксама кніга Галіны Пазьняк.

„Дарога” – новая кніга паэта і фотамастака Зянона. Нізка фотаздымкаў адлюстроўвае краявіды беларускай зямлі, помнікі архітэктуры Вільні. Яны часам камэрныя, часам дыхаюць прасторай і веліччу. Глыбокая філасофія вершаў і фотакарцін Зянона даступная кожнаму чалавеку, у якога жывая душа і шчырае сэрца. Тонкай лірыкай прасякнуты вершы пра каханьне, родны край, чалавечы лёс (”Наша зямля”, „Настальгія”, цыкл „От добра”). Пафас барацьбы за Айчыну, нацыянальнай гісторыі гучыць у вершах „Белы рыцар”, „Прадвызначэньне”, „Вечны вобраз”. Асобная глава выданьня – гэта вершы і фота, прысьвечаныя Амэрыцы. Аўтар глядзіць на чужыну праз прызму беларускай душы. Кур’ёзныя ўражаньні і яркія перажываньні пераплятаюцца ў радках і фотавобразах небеларускага жыцця. Беларусь для Зянона – „У сьвеце чужым / Толькі адна апора, крыніца цяпла…”

Кніга „Развагі” Зянона Пазьняка мае падтытул „Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня. Кн. 1, артыкулы і матэр’ялы (1990 – III. 1996)”. Сам аўтар вызначае ў прадмове галоўную задачу выданьня: „Адлюстраваць сутнасьць палітычнага становішча і канцэпцыю дзеяньняў Беларускага нацыянальнага Адраджэньня, канцэпцыю, якая прывяла да перамогі – здабыцця незалежнасьці Беларусі”.

Кніга прадстаўляе артыкулы Зянона Пазьняка і інтэрв’ю зь ім, надрукаваныя ў беларускім друку на працягу змагарных шасьці гадоў. У гэтых тэкстах адчуваецца жывы пульс падзеяў, сфармуляваны адэкватныя высновы і прагнозы, якія зьдзейсьніліся праз пэўны час. Сабранае разам, гэта больш чым публіцыстыка ў звычайным сэнсе слова. Гэта хутчэй энцыкляпэдыя Беларускага Адраджэньня, на старонках якой разгарнуліся драматычныя падзеі нашай эпохі. Удзельнікі тых падзеяў многае ўспомняць, знойдуць сваё месца ў плыні адлюстраваных фактаў. Для маладых гэтая кніга ёсьць сапраўды непаўторны гістарычны матэр’ял дзеля асэнсаваньня часу, у якім яны не жылі. Аўтар зрабіў вялікую працу па збору і сістэматызацыі матэр’ялу. Кніга мае высокае навуковае значэньне.

Выданне ілюстравана выдатным дакумэнтальным і мастацкім фотаматэр’ялам. Некаторыя з фотаздымкаў публікаваліся ў тыя часы. Але многія апублікаваны ўпершыню. Шматтысячныя дэманстрацыі і мужны супраціў самотнага беларуса, партрэты паплечнікаў, плякаты зь вельмі вострымі тэкстоўкамі ў руках дэманстрантаў, і самае галоўнае – яркі кантраст паміж светлымі тварамі змагароў-адраджэнцаў і дзікімі партрэтамі ненавісьнікаў Беларусі. Гэтае супрацьстаяньне і дагэтуль вызначае сэнс сучаснае беларускае гісторыі.

„Беларусь у сэрцы” – аўтабіяграфічная кніга Галіны Пазьняк. Але па волі лёсу біяграфія аўтаркі сталася часткай біяграфіі нашай краіны. Знаходзячыся ў цэнтры барацьбы за незалежнасць Беларусі, Галіна Пазьняк занатавала і апублікавала цяпер шэраг фактаў і падзеяў, якія без яе памяці і яе пяра забыліся б і яшчэ горш, сталіся б аб’ектам для фальсіфікацыяў і прыдумак (што мы, на жаль, назіраем цяпер у „мемуарах” некаторых дзеячаў, роля якіх у нацыянальным Адраджэньні была мягка кажучы сумніўнай). Мова кнігі жывая і сакавітая, чытаецца на адным дыханні. Аўтарка перадае настрой, фарбы падзеяў, прадстаўляе чытачу праўдзівыя карціны часу. Вось, напрыклад, старонка, прысвечаная 100-тысячнаму мітынгу 26 лютага 1990 г. у Менску, калі фронтаўка прымусіла генсека КПБ здаць ахвяраваньне на БНФ : „Я з сябрамі зьбірала на мітынгу ахвяраваньні. Я нечакана разварочваюся да Я. Сакалова і са сьмехам прапаную: ахвяруйце на Народны Фронт! Сакалоў бездапаможна і разгублена адступіў на крок-другі. Каб адчапіцца, ён кінуў у скрыню пяць рублёў. Сьмяялася ўся плошча…” Главы, прысьвечаныя змагарнай працы ў Менскім гарсавеце, у структурах Народнага Фронту, за межамі радзімы, узбагачаны фотаздымкамі.

Тры кнігі пра нацыянальнае Адраджэньне – надзвычай важны ўнёсак у беларускі кнігадрук на працягу ўсяго аднаго года. Цяпер і праз дзесяцігоддзі яны абавязкава знойдуць свайго чытача.

***Валеры Буйвал***

* Зянон. Дарога. (Вершы і фатаграфіі). Варшава-Вільня, „Беларускія Ведамасьці”, Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, 2007 – 430 ст., іл.

Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня. Кн. 1, артыкулы і матэр’ялы (1990 – III. 1996). Варшава-Нью Ёрк-Вільня, „Беларускія Ведамасьці”, Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, 2007 – 312 ст., іл.

Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. Варшава-Нью Ёрк-Вільня, „Беларускія Ведамасьці”, Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, 2007 – 240 ст, іл.

# КРЫЗІС ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА

У сакавіку быў распаўсюджаны інфармацыйны матэрыялы „Шукаем выхад з агульнага крызісу на Беларусі”. Там адзначана, што „канкрэтная прапанова падрыхтоўкі першых крокаў па выхаду з агульнага крызісу будзе выкладзена ў наступным паведамленьні”. За два месяцы, якія мінулі з таго часу, сытуацыя ў краіне згоршала яшчэ больш. Антыбеларускі рэжым Лукашэнкі, які выклікаў гэты крызіс сваёй антынацыянальнай палітыкай, ня ў стане нічога перамяніць, каб вывесьці Беларусь з цяжкага становішча. Жыцьцё людзей пагаршаецца. Вялікія цяжкасьці могуць узьнікнуць восеньню.

У сувязі з гэтым беларускае грамадзтва мусіць рыхтавацца да пераменаў і забясьпечыць арганізаванае разьвіцьцё падзеяў.

Першым крокам у гэтым накірунку павінна стаць стварэньне ***групаў народнага даверу***. ***Групы народнага даверу*** ўтвараюцца дзеля пэўнай мэты гэтак жа, як некалі ў 80-х групы падтрымкі Народнага Фронту, толькі яны не заяўляюць аб сваім стварэньні і ня дзейнічаюць да пэўнага моманту.

Мэта ***групаў народнага даверу*** – стварэньне Народнай Цэнтральнай Выбарчай Камісіі і правядзеньне выбараў.

Калі ўзьнікне грамадзкая неабходнасьць, тады ***групы народнага даверу*** пачынаюць дзейнічаць і пасылаюць сваіх дэлегатаў на Ўсеагульны Нацыянальны Сход, які выбірае Народную Цэнтральную Выбарчую Камісію. НЦВК прыступае да дзейнасьці, ***групы народнага даверу*** пертвараюцца ва ўчастковыя выбарчыя камісіі і пачынаюць дзейнічаць згодна выбарчага закону і народнага мандату НЦВК пад яе кіраўніцтвам.

Гэтая схема цалкам дэмакратычная і цалкам канстытуцыйная (вынікае з прынцыпаў непасрэднай дэмакратыі).

Калі складзецца сытуацыя, то істотным рашэньнем у гэтай схеме ёсьць тое, хто вызначыць момант і аб'явіць аб скліканьні Ўсеагульнага Нацыянальнага Сходу. Але зразумела, што гэта павінна быць воля ўсіх арганізацыяў і сілаў, якія зацікаўленыя ў правядзеньні свабодных дэмакратычных выбараў.

Дзеля гэтага павінен быць створаны адпаведны Камітэт прадстаўнікоў, у які ўвойдуць кіраўнікі зацікаўленых палітычных арганізацыяў. Яны павінны прыняць рашэньне аб скліканьні Сходу і стварыць Аргкамітэт Сходу.

Прынцыповая ўмова на гэтым этапе: ***не павінны прымацца пад увагу (і тым больш прысутнічаць) ніякія прапановы і меркаваньні з боку Брусэля і Масквы.*** Інакш на ўсім у чарговы раз будзе пастаўлены крыж (хто гэтага ў Беларусі яшчэ не зразумеў, таму можна толькі паспачуваць).

Мусім яшчэ раз падкрэсьліць, што гэтая схема са скліканьнем Усеагульнага Нацыянальнага Сходу, стварэньнем НЦВК і ***народнымі выбарамі*** магчымая толькі ў надзвычайных умовах, пры якіх наступіць пратэстная актывізацыя насельніцтва, часовы параліч і аслабленьне кіруючага рэжыму. Яна (схема) невыканальная ў цяперашніх абставінах. Усялякія заклікі да ажыцьцяўленьня яе цяпер трэба будзе расцэньваць як прафанацыю ідэі і правакацыю кшталтам той, якая адбылася ў 1999 годзе ў выніку авантуры В. Ганчара з альтэрнатыўнымі выбарамі прэзыдэнта (што прывяло да расколу БНФ).

Мы ўсьведамляем, што наша схема народных выбараў (гэтак жа, як колішнія выдатныя планы аб сымвалічным ***Грамадзянстве БНР*** і ***народным галасаваньні***) ёсьць адначасна тэст на арганізацыйны ўзровень і палітычную сьпеласьць грамадзтва. Аднак, зважаючы на нэгатыўнае дасьведчаньне, трэба ўлічваць, што палітычны ўзровень нашага грамадзтва ў апошні час павысіўся, а ў пэрыяды надзвычайных абставінаў (на што разьлічана наша прапанова дзеяньняў) гэты ўзровень і актыўнасьць людзей вырастае шматкроць.

Мы спадзяёмся, што ідэі, якія тут выкладзены, пройдуць праз грамадзкае абмеркаваньне, якое дасьць ня толькі інфармацыйны, але ідэйны, практычны плён.

Тым часам прапануем нашым фронтаўскім партыйным структурам і ўсім грамадзянам Беларусі прыступіць да стварэньня ***групаў народнага даверу***. Гэта надзвычай проста (робіцца нават на кухні) і цалкам незаўважна. Часам проста знаёмыя людзі мусяць абмяняцца думкамі і дамовіцца аб дзеяньнях у час "N". Нават калі гэты час "N" не настане (а ён настане), то сама акцыя па стварэньні ***групаў народнага даверу*** будзе чыста народным дзеяньнем, праявай грамадзкай актыўнасьці і волі. Усё гэта дапаможа скансалідаваць наш народ на галоўных інтарэсах краіны, нашай дарагой Бацькаўшчыны.

*14 чэрвеня 2009 г., Менск*

***Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ.***
***Зянон Пазьняк старшыня,***
***Юры Беленькі выконваючы абавязкі старшыні на Беларусі,***
***Сяргей Папкоў намесьнік старшыні.***

# „РЭДКАЯ МАГЧЫМАСЬЦЬ УПЛЫВУ НА РЭЖЫМ"

На думку старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ Зянона Пазьняка, Эўразьвяз павінен выставіць афіцыйнаму Менску тры ўмовы.

**Пазьняк:** „Палітычная сытуацыя, якая зараз утварылася ў Беларусі ў сувязі з канфліктам паміж расейскім і антыбеларускім рэжымамі, для шмат якіх беларусаў робіцца момантам ісьціны. Тое, што дзесяцігодзьдзямі не даходзіла да іхняга разуменьня аб захопніцкай разбуральнай ролі Расеі ў гістарычным лёсе Беларусі, тое цяпер усьвядомілася за некалькі дзён. Просты беларус прывык думаць не абстрактнымі катэгорыямі, а жыцьцёвымі прыкладамі, якія закранаюць яго існаваньне. Тут якраз такі прыклад.

Другое, што хачу адзначыць. Брусэльская Эўропа якраз цяпер атрымала рэдкую магчымасьць уплыву на антыбеларускі рэжым і на вэктар яго накірунку. Калі Эўропа такую магчымасьць не скарыстае, дык грош цана і ўсёй яе усходняй партнэрскай палітыцы. З боку Эўразьвязу павінны б былі быць эквівалентныя прапановы па выхаду з крызысу. І абавязкова пры гэтым – пастаноўка цьвёрдых умоваў дзеля рэалізацыі прапановаў. Такімі ўмовамі павінны быць – першае, і самае галоўнае: спыненьне перасьледу і вынішчэньня беларускай культуры і яе носьбітаў, ліквідацыя перашкодаў на шляху яе разьвіцьця. Другое. Вызваленьне палітвязьняў, і ў першую чаргу – Аўтуховіча, які галадае ўжо два месяцы. Павінны быць забясьпечаныя правы асобы. І трэцяе. Мусіць быць зьмененае выбарчае заканадаўства, адмененая антыдэмакратычная норма папярэдняга галасаваньня. Гарантаваны кантроль над галасаваньнем і прысутнасьць прадстаўнікоў альтэрнатывы ў выбарчых камісіях. Уся вольная Беларусь даўно чакае такіх рашэньняў."

*17 чэрвеня 2009 г.*

***Інтэрв'ю Сяргея Навумчыка (Радыё Свабода)***

# ЧУЖОЕ ВОЙСКА Ў БЕЛАРУСІ – НЕБЯСЬПЕКА ВАЙНЫ

***(Заява)***

Дзеяньні і заканадаўчыя ініцыятывы цяперашняй расейскай ўлады – эскалацыя напружанасьці на Каўказе, непасыланьне амбасадара на Украіну, агрэсіўны ліст Д. Мядзьведзева прэзыдэнту Украіны В. Ючшанку, антыпраўнае абгрунтаваньне магчымасьці ўвядзеньня

расейскага войска на чужую тэрыторыю – усё гэта прымушае нас яшчэ раз засяродзіць увагу на антыканстытуцыйным рашэньні рэжыму Лукашэнкі пра правядзеньне расейскіх вайсковых манеўраў на Беларусі („Захад-2009”), якія намечаныя на канец верасьня.

Цяпер ужо добра відаць, што крамлёўская ўлада ў Расеі, шукае новага вайсковага канфлікту на Каўказе як праверанага расейскага мэтаду адцягненьня ўвагі народу ад сістэмнага крызісу ў эканоміцы і кіраўніцтве. Агрэсіўныя заявы і дзеяньні расейскай улады супраць Беларусі, Украіны, Малдовы, Летувы зьвязаныя зь яе правакацыйнай палітыкай на Каўказе і могуць прывесьці да вайсковай канфрантацыі ў нашай частцы Эўропы.

Антызаконныя расейскія манеўры на Беларусі ў сьвятле згаданых падзеяў і заканадаўчых актаў Крамля павялічваюць магчымасьць вайсковай правакацыі з боку Расеі і неканстытуцыйнага выкарыстаньня войска на беларускай тэрыторыі.

Зьвяртаем ўвагу на антыканстытуцыўнае выкарыстаньне ўлады Аляксандрам Лукашэнкам, якое прадугледжвае ўвядзеньне расейскага войска на суверэнную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, на парушэньне прынцыпу нэўтралітэту краіны і няўдзелу ў ваенных блоках.

Заклікаем беларускае грамадзтва, прадстаўнікоў улады, у якіх захавалася яшчэ павага да Беларусі, усімі спосабамі (і грунтуючыся на законных падставах) супроцьдзейнічаць небясьпечнай вайсковай палітыцы, якую праводзіць рэжым Лукашэнкі. Чужое войска не павінна быць дапушчана на тэрыторыю нашай краіны, планаваньне расейскіх манеўраў мусіць быць спынена, незаконнае рашэньне адменена.

Лёзунгам нашага грамадзтва па абароне законнасьці і суверэнітэту Айчыны хай стане Беларуская салідарнасьць.

*20 жніўня 2009 г.*

***Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ:***
***Зянон Пазьняк**, старшыня,*
***Юры Беленькі**, в.а. старшыні на Беларусі,*
***Сяргей Папкоў**, намесьнік старшыні.*

# САНКЦЫІ ПАВІННЫ ЗАСТАЦЦА

***(Заява)***

Ад часу падпісаньня пагадненьня аб Усходнім партнёрстве 7 траўня гэтага года назіралася няўхільнае ўзмацненьне рэакцыі, парушэньня правоў людзей і рэпрэсіўнай палітыкі антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі. Зьявіліся новыя палітычныя вязьні, якіх утрымліваюць без суда, пачасьціліся перасьледы настаўнікаў і іншых беларусаў за ўжываньне беларускай мовы. Пашырыліся звальненьні людзей з працы па палітычных прычынах, зачыняюцца праграмы беларускага радыё там, дзе яны ўзьнікаюць. Жорстка перасьледуецца апазыцыйная беларуская моладзь (нематываваныя арышты, зьбіваньні, пагрозы).

Узмацненьне рэпрэсіяў і антыбеларускай рэакцыі сталася магчымым, на наш погляд, у выніку фактычнага і рэзкага паслабленьня ўвагі з боку Эўразьвязу да дэмакратычных каштоўнасьцяў у дачыненьнях з рэжымам Лукашэнкі. Саступкі Эўразьвязу ў прынцыпах і ў дэмакратыі былі адэкватна ўспрынятыя Лукашэнкам як палітычная перамога над Эўразьвязам. Гэта разьвязала яму рукі для далейшых рэпрэсіяў і зьдзеку над беларусамі, над беларускай культурай і здаровым сэнсам у спадзяваньні, што Эўропа гэтага цяпер не заўважыць, а народ сьцерпіць.

Мы прытрымліваемся каштоўнасных і дэмакратычных прынцыпаў у палітыцы і бачым, што рэжымам Лукашэнкі рэальна ня толькі не была выканана ніводная ўмова павароту да дэмакратыі, а наадварот, узмацніўся паварот да антыбеларускай антыдэмакратычнай рэакцыі.

Мы лічым, што санкцыі Эўразьвязу аб няўезьдзе Лукашэнкі і групы асобаў, падазраваных у злачынствах (забойствы людзей) павінны быць пакінуты бяз зьменаў і ні ў якім разе не адменены. Гэтага патрабуе лёгіка падзеяў і элемэнтарная справядлівасьць.

***Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***
***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***
***Юры Беленькі***
***Намесьнік старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***
***Сяргей Папкоў***
***Намесьнік старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***
*11 кастрычніка 2009, г. Менск.*

# ПАСТАНОВА

***Аб пацьвярджэньні пастановы Сойму Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ ад 10 сьнежня 2006 г. і аб паўторным узбуджэньні крымінальнай справы па факту фальсіфікацыі выбараў 2006 г. у сувязі з новымі ўлікамі***

19 студзеня 2007 года Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ (Партыі БНФ) падаў заяву ў Вярхоўны Суд аб узбуджэньні крымінальнай справы па факту фальсіфікацыі апошніх прэзыдэнцкіх выбараў у сувязі з паведамленьнем А. Лукашэнкі. Вярхоўны Суд прыслаў нам афіцыйны адказ за подпісам намесьніка старшыні Вярхоўнага Суда спадарыні Шкурдзюк Ж.Б., дзе паведамлена, што адзначаныя намі парушэньні закона „не ўваходзяць у кампэтэнцыю Вярхоўнага Суда” („Беларускія Ведамасьці”, – 2007, №1 (60), с. 1-3).

Паколькі адказ Вярхоўнага Суда не стасаваўся з законам (бо нашу заяву Вярхоўны Суд павінен быў накіраваць уворганы крымінальнага перасьледу), мы зьвярнуліся ў Генэральную пракуратуру з тым жа патрабаваньнем аб узбуджэньні крымінальнай справы па факту фальсіфікацыі выбыраў. Пракуратура адказала маўчаньнем.

27 жніўня гэтага году ў інтэрв’ю расейскай газэце „Известия” Лукашэнка зноў пацьвердзіў фальсіфікацыю прэзыдэнцкіх выбараў 2006 года. Прытым, удакладніў, што ён „даў каманду” зьмяніць вынікі галасаваньня, падразумяваючы ў гэтым спадарыню Л. Ярмошыну, якая займала тады пасаду старшыні ЦВК.

У сувязі з гэтым Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ пастанаўляе:

1. Выступіць заяўнікам перад судовымі інстанцыямі і пракуратурай па пытаньні ўзбуджэньня крымінальнай справы па факту фальсіфікацыі вынікаў галасаваньня на прэзыдэнцкіх выбарах 2006 г. кіраўніком выканаўчай улады Лукашэнкам Аляксандрам Рыгоравічам і старшынёй Цэнтральнай Выбарчай Камісіі Ярмошынай Лідзіяй Міхайлаўнай.

2. Падрыхтоўку і падачу іскавых заяваў і давер выступаць ад імя Сойму Партыі БНФ з правам подпісу даручыць намесьнікам старшыні Партыі Беленькаму Ю.А. і Папкову С.П.

***Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*11 кастрычніка 2009 г., г. Менск*

# ВЕРМА Ў СЬВЕТЛЫЯ ДНІ

…Дваццаць гадоў таму, 29 кастрычніка 1989 г. быў усталяваны курапацкі Крыж Пакуты ў памяць аб расстраляных продках. Гэты сямімэтровы крыж прынесьлі на руках тысячы людзей праз увесь доўгі шматкілёмэтровы шлях. Яго паставілі тут усе разам пад гукі рэквіема. Сьвятары чатырох хрысьціянскіх канфэсіяў асьвяцілі яго і багаславілі памяць пра нявінна забітых.

З 1937 па 23 чэрвеня 1941 года энкавэдзісцкія каты – сталінскія камуністы з дня ў дзень, з ночы ў ноч стралялі тут людзям у патыліцу і ськівалі ў глыбокія ямы. У гэтых ямах закапаны цьвет беларускай інтэлігенцыі, пісьменьнікі і паэты, артысты, вучоныя і дасьледчыкі, інжэнеры і рабочыя, сяляне і беларускія настаўнікі. Кожную ноч па навакольлі і па ўсёй Беларусі езьдзіў чорны хапун і хапаў людзей. Масква спускала ў Беларусь сваім уладам і катам плян па арыштах і расстрэлах. Вынішчэньне людзей у Беларусі яны рабілі па графіку, штомесячна і штоквартальна. Масква прымала штодзённыя справаздачы аб забітых ахвярах. Толькі ў Курапатах савецкія акупанты забілі каля чвэрці мільёна людзей. Такіх Курапатаў шмат па ўсёй Беларусі.

За часы савецкай акупацыі Беларусі з 1919 па 1953 год (год сьмерці Сталіна) сталіністы-русіфікатары забілі больш 2-х мільёнаў беларусаў (і гэта ня ўлічваючы вайну). Ворагі чалавецтва зьнішчылі заможнае працавітае сялянства, вынішчылі фізічна амаль дазваньня беларускую шляхту, расстралялі адукаваных людзей.

***Гэта нельга забыць ніколі, пакуль будзе стаяць белы сьвет і будзе жыць Беларусь. Савецкая акупацыя Беларусі пэрыяду Леніна-Сталіна павінна быць прызнаная як рэжым генацыду і пацыфікацыі Беларускага Народу.***

Сёньня Дзяды – сьветлае сьвята памяці і яднаньня з душамі продкаў. Сёньня Дзень усіх хрысьціянскіх Сьвятых, а заўтра Дзень Задушны, які патрабуе малітвы за ўсіх забітых і памерлых, за тыхсьветныя душы.

Запалім жа сьвечкі ў памяць. Паставім іх пад крыжы й на крыжы, на магілы, пакладзем туды белыя кветкі, установім крыжы, што прынесьлі з сабой.

Сёньня нельга сьмяяцца, галёкаць, крычаць. Але ня трэба і жаліцца, плакаць. Сёньня дзень вечнасьці, перад якой мы роўныя ўсе – і тут, і там. Дзяды дапамогуць нам гэта адчуць.

***Шануйма ж нашых дзядоў, нашую слаўную мінуласьць, нашу культуру і веліч і кожнага простага чалавека.***

***Верма ў сьветлыя дні, у нашу прышласьць, у вольную будучыню Беларусі.***

*1 лістапада 2009 г.*

***Зянон Пазьняк***

# СЛУЦКІ ЗБРОЙНЫ ЧЫН – ПРЫКЛАД У БАРАЦЬБЕ

Настае памятны Лістапад і гэты час зноў нагадвае нам аб змаганьні, аб нашых змагарных продках. Тады, ужо скора сто гадоў таму, людзі ваявалі за свабоду амаль выключна сілай зброі. Цяпер крыху зьмяніўся сьвет, памяняліся прыярытэты, але адзін прыярытэт застаўся і заўсёды застанецца галоўным – гэта чалавек, які здольны змагацца за свабоду. Я кажу „здольны”, бо мала толькі „хацець”. Ад колькасьці гэтых здольных людзей і залежыць наша свабода.

Слуцкі збройны чын якраз выявіў той стан (няхай сабе ў абмежаваным месцы) калі за свабоду Бацькаўшчыны гатовы быў змагацца ўвесь народ. Гэтае народнае рушаньне ў гісторыі Слуцкага змаганьня якраз найбольш уражвае нас цяпер, беларусаў, што апынуліся ў цяжкім часе. Слуцкія змагары паказалі нам прыклад моцы духа і салідарнасьці ў барацьбе. Праўда, тады было проста: былі беларусы і быў вораг, які йшоў з усходу. Ён быў відочны і зразумелы, бо йшоў на нас збройнай вайной. Цяпер жа ва ўмовах унутранай акупацыі і антыбеларускага рэжыму нас нішчаць, а ворага як бы й не відаць, ён мімікрыруе пад улады, пад дзяржаўны закон, пад дзяржаўны разбой. І ні кожны беларус разумее, што ўлада над ім у чужых руках.

***Галоўны палітычны зьмест беларускага змаганьня цяпер у тым, каб вышэйшая ўлада ў краіне сталася беларускай, каб яна была ў тых людзей, якія дбаюць пра Бацькаўшчыну, культуру і пра ўвесь народ.***

Дзеля гэтага нашаму грамадзтву патрэбная беларуская салідарнасьць і вольнасьць духа, здольнасьць да барацьбы. У гэтым якраз нам дапамагаюць прыклады слаўнай гісторыі. Мы павінны заўсёды памятаць і ўшаноўваць памяць пра слуцкіх герояў. Нам ёсьць чаму ў іх павучыцца і ёсьць чым ганарыцца ў нашым мінулым.

Праз год рэжым рыхтуе нашаму грамадзтву новае выпрабаваньне – чарговыя фальшывыя і незаконныя выбары Лукашэнкі і чарговае ашуканства людзей. Як бы павялі сябе ў такой сытуацыі нашыя продкі-случакі, што змагаліся з бальшавікамі? Не сумняваюся, што паказалі б сябе разумна, годна і дружна. Нельга цярпець ашуканства і зьдзек над людзмі, законам і правам. Кожны мусіць ведаць, што па закону Лукашэнка ёсьць узурпатар улады і не мае законнага права балатавацца на выбарах. Гэта галоўнае, а як фальсіфікуюць ягоныя выбары, мы ўжо ведаем. Таму наш слуцкі лістападаўскі лёзунг такі: **Выбары – бяз Лукашэнкі! З Лукашэнкам – байкот!**

Нельга прызнаваць крымінал і гвалт над законам. Нельга гнуцца перад нахабствам і ашуканствам. Дык узнімем жа Слуцкі сьцяг змаганьня.

Жыве Беларусь! Слава героям!

***Зянон Пазьняк***

***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*29 Лістапада 2009 г.*

# „САНКЦЫІ СУПРАЦЬ РЭЖЫМНЫХ ЧЫНОЎНІКАЎ ТРЭБА ПАКІНУЦЬ”

**Як вядома, 16-17 лістапада ў Брусэлі адбудзецца сустрэча міністраў замежных спраў Еўрасаюза, на якой будзе разгледжаны працэс еўраінтэграцыі Беларусі ў Еўропу. І суадносна будзе прынята рашэнне аб лёсе візавых санкцый у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў. Аб еўраінтэграцыі Беларусі, надыходзячых прэзідэнцкіх выбарах і беларускай апазіцыі карэспандэнт Euramost.org гутарыць са старшынёй Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ Зянонам ПАЗНЯКОМ.**

*– Зянон Станіслававіч, як вы ацэньваеце працэс інтэграцыі Беларусі ў Еўропу?*

– І я, і наша партыя аб гэтым выказаліся яшчэ месяц назад – санкцыі супраць беларускіх чыноўнікаў трэба пакінуць, – кажа суразмоўца. – Ніякай інтэграцыі з Еўропай не будзе, пакуль будзе гэты рэжым. Толькі змены ва ўнутранай палітыцы Беларусі прывядуць да інтэграцыі.

*– Вы лічыце, што рэальныя змены ва ўнутранай палітыцы ў нас сёння магчымы?*

– Пакуль існуе гэты рэжым – ніякіх зменаў не будзе. Будуць змены толькі на горшае.

*– Як кажуць, не за гарамі чарговыя прэзідэнцкія выбары…*

– Самы лепшы варыянт у дадзеным выпадку – гэта адкрытае змаганне з рэжымам. Гэта альбо адмовіцца ад тайнага галасавання, што ў гэтай сітуацыі вельмі цяжка, паколькі ёсць фармальныя захады, якія трэба ажыццявіць. Альбо выбары трэба байкатаваць. І на гэтай аснове кансалідаваць грамадства. Бо створана сістэма фальсіфікацый, у якой выбары выйграць нікому немагчыма, акрамя кіраўніка ўлады. Гэта засведчыла практыка пятнаццаці гадоў яго кіравання, усіх выбараў і рэферэндумаў, якія былі. Народ не мае ніякага кантроля над выбарамі і ніякага ўплыву. Абсалютна! І таму вывад зараз адзіны – павінен быць байкот і адкрытае змаганне з гэтай сістэмай. Толькі грамадскі ціск, кансалідацыя людзей і салідарнасць на гэтай глебе могуць гэтую сітуацыю зварухнуць з мёртвай кропкі.

*– Ці верыце вы, што будуць нейкія рэальныя змены ў Выбарчым заканадаўстве, аб чым заяўляе ўлада?*

– Не, не будзе зменаў. Магчыма, будуць нейкія фармальныя, малаістотныя перамены для таго, каб паказаць Еўропе, што тут нешта робіцца. Але ніякіх істотных зменаў не будзе, паколькі усім гэтым кіруе адзін чалавек. Яго задача – усімі сродкамі захаваць уладу.

*– Зянон Станіслававіч, а чаму Еўропа стала такой лаяльнай да беларускага рэжыма?*

– Таму што гэта яе палітыка на дадзеным этапе – паспрабаваць такі варыянт. Паколькі першы варыянт ізаляцыі і ціску пры дапамозе грамадства не даў вынікаў, то зараз спрабуюць іншы шлях, які яшчэ горшы. Адзіны варыянт, які дасць вынікі, – гэта сам народ, само беларускае грамадства, сама беларуская палітычная эліта і ўнутраная барацьба. Вось адзіны варыянт, які заўсёды ў свеце дае вынікі. І толькі ён дасць у нас. Усе гэтыя шашні Еўропы з беларускім рэжымам – гэта з’ява часовая. І вынікі ад яе будуць мізэрныя. Гэта не значыць, што іх не павінна быць, можа быць і такая палітыка. Але вынікі мізэрныя і да кардынальных пераменаў не прывядуць.

*– А што можаце сказаць пра беларускую апазіцыю?*

– Зараз тая апазіцыя, якую стварылі еўрапейскія структуры, яна ў стане поўнай дэградацыі, што і павінна было быць. А народна-дэмакратычная апазіцыя знаходзіцца практычна ў падполлі, хоць яе ўплыў і шырэе, таму што яна валодае нацыянальная ідэяй. Той ідэяй, якая можа аб’яднаць усё грамадства, усю нацыю на барацьбу з антыбеларускім рэжымам. Гэтая ідэя шырыцца, і настроі ў людзей шырацца. Гэта паказалі адны з апошніх выбараў, калі стала вядома, што ідэя байкота знайшла падтрымку на большасці выбарчых участкаўі. Прыйшло не больш 30 працэнтаў людзей. Так што грамадства змяняецца, але змены гэтыя ў абстаноўцы адсутнасці сапраўднай інфармацыі – яны адбываюцца ўнутраным шляхам. Яны яшчэ яўна не выбіваюцца на паверхню.

*– Чаму, на ваш погляд, апошнім часам беларускую апазіцыю раздзіраць сваркі, скандалы?.. Гэта такая апазіцыя ці гэта, як кажуць, работа спецслужбаў?*

– У нашай партыі няма ніякіх сварак і скандалаў. У нас існуе толькі штодзённая праца. А што датычыцца той апазіцыі, якую стварыў спадар Ханс-Георг Вік, то гэтыя сваркі заканамерныя. Яе дзейнасць неканцэптуальная, залежная ад чужой палітыкі і чужых сродкаў. Яны не валодаюць нацыянальнай ідэяй, дзеля якой усе былі б аб’яднаныя. І таму заканамерна, што такая апазіцыя – гэта проста прылада ў руках чужой палітыкі. Яна вельмі абмежавана ў самастойнасці, і адпаведна, што пры першых жа знешніх ударах, пачынаецца развал. Але, трэба сказаць, што і работа спецслужбаў ідзе ў сваім рэжыме. І супраць іх яны не выпрацавалі аніякага імунітэта і прынцыпаў барацьбы. Але галоўнае не ў гэтым. Сёняшняя беларуская апазіцыя – бяззубая, у яе няма сілы, каб знаходзіць сродкі барацьбы. Беларусаў выратуе толькі нацыянальная ідэя…

*2009 лістапада 2010*

***Аляксандр САМУСЕВІЧ.***

*(Крыніца: http://euramost.org/?artc=13031)*



***224-Д. Сьцяг БНФ (эталон)***

# 2010



*225-Д. Народная Партыя (КХП – БНФ) на Віцебшчыне*

## АБ ВЫБАРАХ ПРЭЗЫДЭНТА

***(Зварот)***

…У 2011 годзе павінны адбыцца выбары прэзыдэнта. На гэтых выбарах зьбіраецца зноў незаконна балатавацца Лукашэнка. Ад беларускіх выбаршчыкаў улады патрабуюць прыйсьці на галасаваньне і прагаласаваць („за" ці „супраць" – ня мае значэньня), 83% галасоў яму намалююць.

За 15 гадоў антыбеларускага рэжыму беларусы ўжо наглядзеліся на лукашысцкія выбары. Ад галасаваньня нічога не залежыць.

Што рабіць у такім становішчы, калі выйграць антыдэмакратычныя выбары нікому акрамя ўзурпатара ўлады немагчыма?

Людзі павінны сьведама ня йсьці галасаваць (байкот галасаваньня).

Сьведамы няўдзел у фальшывым галасаваньні (байкот) залежыць толькі ад волі і салідарнасьці выбаршчыкаў. Кантроль і фіксацыю байкоту лягчэй наладзіць і задакумэнтаваць. Сілу *народнага* байкоту беларусы прадэманстравалі на апошніх выбарах дыктатуры ў верасьні 2008 года. Усе ясна ўбачылі, што рэжым ня мае ніякай народнай падтрымкі. Цывілізаваны сьвет не прызнаў вынікаў фальшывага „галасаваньня" на пустых выбарчых участках.

Нашым грамадзянам трэба памятаць галоўнае – што Лукашэнка ня мае законнага права балатавацца ў выбарах. Ён сфальсіфікаваў Канстытуцыю і незаконны рэфэрэндум 2004 года, каб выбраць сябе ў трэці раз. Цяпер ён плянуе выбраць сябе ў чацьверты раз. Але беларусы могуць перашкодзіць яму гэта зрабіць, калі ня пойдуць галасаваць на ўчасткі. Вось хай тады й намалюе сабе „усенародны давер".

У дзень галасаваньня трэба йсьці не галасаваць, а на цэнтральныя плошчы гарадоў, дэманстраваць свой няўдзел. А тады, як у песьні пяецца: „Мы знаем, што трэба рабіць". Не – фальсіфікацыі! Не – ўзурпацыі ўлады! Усе за байкот!

*Студзень 2010 г.*

***Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"***
***(Старшыня Зянон Пазьняк)***

# ЧАРНОБЫЛЬСКІ ГЕНАЦЫД. 24 ГАДЫ АД ПАЧАТКУ

*(Ліст фронтаўцам)*

... 26 красавіка, чарговая гадавіна нашай нацыянальнай трагедыі – гадавіна Чарнобыльскай катастрофы. 70 адсоткаў радыёактыўных ападкаў выпала на Беларусь. Гэта зрабіла Масква ў абліччы Савецкага Саюза. Гэта была іхняя станцыя і іхняя савецкая праца. Калі радыёактыўныя хмары павісьлі над Беларусяй, то Савецкі Саюз, баючыся, што вецер дзьме ў бок Расеі і хмары пойдуць на Маскву, загадаў сваёй авіяцыі расстраляць іх над нашай краінай і апусьціць на нашу зямлю. І гэта яны зрабілі, апусьцілі сьмертаносныя хмары на Магілёўскую і Гомельскую вобласьці.*

КПСС забараніла тады паведамляць пра катастрофу і пра небясьпеку радыяцыі, забараніла даваць людзям неабходныя прэпараты ёдзістага калія, якія ўратавалі б нас, і перш за ўсё, дзяцей ад радыёактыўных ізатопаў ёду, якіх найбольш было ў першыя месяцы пасьля катастрофы. Ужо тады Масква выкарыстала катастрофу дзеля вынішчэньня нашага народу. Мы ніколі не павінны забывацца, што такое Расея і што такое яе антыбеларуская палітыка.

Тады, у 1980-х і 1990-х гадах Беларускі Народны Фронт выкрыў савецкія злачынствы Чарнобыля і ня даў Маскве разгуляцца над нашай магілай. Дэпутаты БНФ у Вярхоўным Савеце здолелі паставіць заканадаўчы заслон далейшаму чарнобыльскаму вынішчэньню нацыі.

Антыбеларускі рэжым Лукашэнкі ліквідаваў дасягненьні беларусаў у абароне людзей ад Чарнобыля. Рэжым зноў працягвае савецкі чарнобыльскі генацыд.

У 2006-2007 гг. я ўдзельнічаў у фільме Бі-Бі-Сі „Навука пра супэршторм”, у якім расказаў, як Масква апускала радыяцыйныя хмары на Беларусь, падаў зьвесткі пра рускі авіяцыйны атрад, які гэтым займаўся, і пра лётчыкаў, якія апускалі хмары і яшчэ пакуль засталіся ў жывых (шмат ўжо памерла ад радыяцыі, маскоўцы людзей не шкадуюць). Апэратары Бі-Бі-Сі па маіх матэрыялах паехалі ў Маскву і зьнялі інтэрв’ю аднага такога „героя” па просьвішчу Грушын. Гэты Грушын расказаў усё, як было: і чаму апускалі хмары на Беларусь, і як ён гэта рабіў, і хто даў заданьне.

Гэты фільм з чарнобыльскім сюжэтам і маімі сьведчаньнямі ўбачыў увесь сьвет. Занепакоіліся ў Маскве. А ў Беларусі некаторыя бесхрыбетныя людзі ў страху перад рэжымам пачалі даваць тады свае інтэрв’ю, дзе, насуперак выказваньняў самых спраўцаў злачынства, пачалі „сумнявацца”, што так было. Зразумела, што ні Масква, ні напалоханыя асобы ў Беларусі, кажучы пра гэты сюжэт у кіно, не маглі вымавіць майго прозьвішча. Ім зьвяло пашчэмкі, і зразумела, чаму.

Час ад часу ў Маскве зьяўляюцца розныя „адкрывальнікі” гэтага фільма і яны нешта пачынаюць сваё гаварыць. Але ім таксама зводзіць пашчэмкі. Бо там шмат ёсьць людзей, якія адказныя перад нашай нацыяй за чарнобыльскі генацыд.

Чарнобыльскае вынішчэньне у Беларусі працягваецца. Але не заўсёды так будзе. Набліжаецца канец цемры і подлага антабеларускага рэжыму ў нашай краіне. Сапраўдная беларуская ўлада верне ўсё: і гэрб Пагоня, і Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, і Беларускую мову, і павагу да людзей, і ахову іх ад Чарнобыля. А за страты, якія панёс наш народ, спраўцы зьнішчэньня адкажуць, і ніхто не схавае іх.

Жыў беларускі народ і будзе жыць!

Слава Беларусі!

*26 красавіка 2010 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***


(фота Я. Шатохіна)

***228-Д. Вакно ў пакінутым родным доме.***

---

* Паводле «Альтэрнатыўнай справаздачы аб Чарнобылі» (TORCH), якая падрыхтаваная брытанскімі навукоўцамі Іенам Фэйрлі і Дэвідам Самнэрам , 30 краін забруджаныя цэзіем-137

Раніцай 26 красавіка 1986 года адбыўся выбух на 4-м энэргаблёку атамнай электрастанцыі ў Чарнобылі, на памежнай з Беларусьсю ўкраінскай тэрыторыі.

Аварыя на ЧАЭС стала самай буйной тэхнагеннай катастрофай у гісторыі чалавецтва.

У паветра, ваду і глебу патрапіла ад 50 да 250 мільёнаў кюры, што адпавядае выбуху ня меней да 100 атамных бомбаў.

70% радыёактыўных адпадаў прыпала на тэрыторыю Беларусі. Забруджана болей за 23% тэрыторыі краіны.

Тэрыторыя ў 155 000 квадратных кілямэтраў да гэтай пары застаецца забруджанай небясьпечнымі ізатопамі цэзію-137 і стронцыю-190, якія маюць вельмі доўгі пэрыяд паўраспаду і будуць небясьпечнымі для людзей на працягу некалькіх стагодзьдзяў.

У чыстыя рэгіёны Беларусі перасялена было 138 тысячаў грамадзянаў з 470 населеных пунктаў Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласьцей.

Болей за паўтара мільёны чалавек да гэтага часу жывуць на забруджаных тэрыторыях.

Эканамічныя страты Беларусі ад Чарнобыльскай аварыі перавышаюць 235 мільярдаў даляраў ЗША.

Беларусы (найперш БНФ) з 1989 году праводзяць у Менску жалобныя шэсьці ў гадавіну катастрофы.

# ПРЭЗЭНТАЦЫЯ КНІГІ ЗЯНОНА ПАЗЬНЯКА „ЦЯЖКІ ЧАС”

***У Нью-Ёрку адбылася прэзэнтацыя новай кнігі Зянона Пазьняка „Цяжкі час” (другога тома „Канцэпцыі новага Беларускага Адраджэньня”). Мы папрасілі Зянона Пазьняка распавесьці пра новае выданьне.***

**Навумчык**: – „Цяжкі час” – гэта другі том „Канцэпцыі новага Беларускага Адраджэньня”, у які Вы ўключылі артыкулы і матэрыялы з пачатку эміграцыі ў 1996 годзе і да 2002 году – тое, што ўжо стала гісторыяй. Утоме фармату А4 амаль 500 старонак. Нядаўна я пачуў меркаваньне, што гісторыя ніколі не была і ня можа быць фактарам уплыву на сучасны палітычны працэс. І, здавалася б, практыка пацьвярджае гэты тэзіс – выглядае, што, напрыклад, для большасьці актывістаў апазыцыі зусім ня важна, быў той або іншы палітык у камандзе Лукашэнкі, ці наадварот, быў ягоным пасьлядоўным праціўнікам – істотная цяперашняя пазыцыя. Магчыма, гэта ня мае значэньня і для электарату. Чаму Вы лічыце зварот да падзеяў нядаўняй, „сьвежай” гісторыі нагэтулькі важным?

**Пазьняк**: – Тое, што ўвайшло ў другі том пад назовам «Цяжкі час» (гэтак жа, як і ў першы том, які мае назоў «Развагі») – яшчэ ня ёсьць гісторыяй. Сама тэма і два тамы, якія выдадзены мной, ёсьць перш за ўсё падагульненьне вопыту. Гэта мінулая сучаснасьць, якая ўплывае на дачыненьні ў актыўнай часткі палітычнага асяродзьдзя. Яе ўплыў ня толькі апасродкаваны. Тым больш, што існуюць і дзейнічаюць практычна ўсе суб’екты нядаўняга палітычнага змаганьня, якое вызначыла цяперашнюю палітычную мапу Беларусі.

Падагульненьне практычнага вопыту істотна, каб асэнсаваць заканамернасьці і вывесьці тэорыю беларускай барацьбы за волю, культуру, дэмакратыю і незалежнасьць.

Першы крок у кірунку тэарэтычнага асэнсаваньня ўжо зроблены гэтымі выданьнямі. Плюс дакумэнтальная фактура падзеяў, зьмешчаная ў кнігах. Пра гэта якраз гаварылася на прэзэнтацыі «Цяжкага часу» ў Нью-Ёрку (выступы доктара Вітаўта Кіпеля, Антося Шукелойца, Уладзімера Цяліцы).

Меркаваньне, што гісторыя не ўплывае на палітыку – памылковае. Тое, што для пэўнай катэгорыі людзей ня мае значэньня мінулая пазыцыя і справы палітычнай асобы, а толькі цяперашняя прыналежнасьць, сьведчыць альбо аб вульгарным прагматызьме гэтых палітыкаў, альбо (што да электарату) гаворыць аб вельмі невысокім ўзроўні палітычнай сьвядомасьці.

Выглядае, што пэўнай катэгорыі палітыкаў (і ня толькі ва ўладзе) выгодна падтрымліваць такі нізкі ўзровень сьвядомасьці.

Вось канкрэтны прыклад.

12 красавіка 1995 году адбылася знакавая падзея ў палітыцы (і цяпер ужо можна сказаць – у гісторыі Беларусі), якая засьведчыла фармаваньне антыбеларускай дыктатуры. Я маю на ўвазе ўвядзеньне войска ў парлямэнт Лукашэнкам і зьбіцьцё дэпутатаў Апазыцыі БНФ, якія абараняў сьвятыя нацыянальныя каштоўнасьці – беларускую мову, беларускі Сьцяг і беларускі Гэрб. У палітычным і юрыдычным пляне рэжым зрабіў грубае парушэньне законнасьці, дапусьціў грубую памылку, якая мусіла закончыцца судом і імпічмэнтам Лукашэнкі.

Гэтага не адбылося галоўным чынам з прычыны невысокай палітычнай сьвядомасьці грамадзтва (плюс няздольнасьці кіраўніцтва Вярхоўнага Савету, найперш сьпікера Мечыслава Грыба). У выніку рэжым зразумеў, што «ўсё можна».

Мінула 15 гадоў, і мы бачым, што для пэўных групаў тая падзея, гэтак як і раней, не існуе. Але не таму, што яна ўжо «гісторыя», а таму, што гэтая гісторыя ім не да спадобы.

Я ўжо не кажу пра вычварную перакручаную трактоўку іншых падзей мінулай сучаснасьці.

**Навумчык**: – Важнасьць гістарычных падзеяў у „практычнай” палітыцы пацьвярджаецца і нядаўнім сьвяткаваньнем заканчэньня Другой усясьветнай вайны ў Менску і ў Маскве – тэма „вялікай Перамогі” напоўніцу эксплюатуецца ў тым ліку і ў выбарчых мэтах. Па ацэнках экспэртаў, толькі парад і фэервэрк у Маскве на 9 мая абышліся у больш як 50 мільёнаў даляраў. Крамлёўскія кіраўнікі і паліттэхнолягі – людзі, якія ўмеюць лічыць грошы, яны ня кідаюць іх на вецер. Мы вернемся да тэмы палітыкі, а зараз запытаюся пра цыкл „Добрая фатаграфія”, які Вы ведзяце на вэбсайце Радыё Свабода. Ці прыносіць Вам гэтая праца творчае задавальненьне? Ці чытаеце Вы камэнтары, якія часам пакідаюць наведнікі?

**Пазьняк**: – Гэты цыкл, на жаль, прыходзіцца рабіць, як кажуць, паміж справай. Я сказаў «на жаль», бо даўно зьбіраўся ўвесьці фатаграфічную старонку ў «Беларускія ведамасьці», каб знаёміць чытачоў з творамі фатаграфіі. Але ўсё адкладвалася, бо палітычная «цякучка» забірае час. Але цяпер адкладваць не даводзіцца. І хоць тэма, паўтаруся, забірае крыху часу, рабіць яе прыемна.

Камэнтары праглядаю ў чацьвер у канцы экспазыцыйнага тыдня. Мяркую, што паступова там зьбяруцца людзі, якія цікавяцца фотамастацтвам. Пляную паказаць працы Карша, Авэдона, Карцье-Брэсона, Родчанкі, Грыца, Стэйкена, Стыгліца, Судэка, Уэстана, Більдта, Зандэра, Лярцыга, Атжэ, Франка, Даратэі Лянж і дзясяткаў іншых майстроў фатаграфіі. У канцы гэтага тыдня пляную экспанаваць краявід «Цагельны сьвет» (шырока вядомы, дарэчы), ад сузіраньня якога ў некаторых, як кажуць, захоплівае дыханьне. І ўсё гэта можа фатаграфія.

## „МАСКВА ПАВІННА БУДЗЕ ПАДТРЫМАЦЬ ЛУКАШЭНКУ”

**Навумчык**: – Апошнім часам чутны разважаньні пра „сыгналы беларусізацыі” – то Лукашэнка купіць свайму малому часопіс „Вясёлка”, то член ураду выступіць па-беларуску. Вы адчуваеце гэтыя „сыгналы”?

**Пазьняк**: – Я ведаю пра гэтыя «сыгналы», але іх не адчуваю. Унутраная антыбеларуская палітыка не мяняецца і ня будзе мяняцца. «Сыгналы» носяць штучны і тактычны характар у сувязі з павольнай стратай пазыцыяў рэжымам і надыходзячымі выбарамі.

**Навумчык**: – Ці згодныя Вы зь меркаваньнем пра „ўскладненьне” адносін паміж Масквой і Менскам, знакам чаго, на думку некаторых, былі заявы Лукашэнкі адносна сытуацыі з Бакіевым, што не спадабалася Крамлю? З гэтага ўжо робяцца высновы, што Масква можа і не падтрымаць Лукашэнку на наступных прэзыдэнцкіх выбарах.

**Пазьняк**: – Масква павінна будзе падтрымаць Лукашэнку, бо ягоная палітыка ў Беларусі адпавядае расейскім стратэгічным інтарэсам, а ягоны рэжым кантралюецца рускай разьведкай.

«Ускладненьне» адносінаў павярхоўнае, яно не закранае галоўных палітычных намераў Масквы і тым больш, не разбурае іх.

Думкі, што Масква «не падтрымае Лукашэнку» – распаўсюджваюцца, на мой погляд, маскоўскай агентурай уплыву.

## „ДЫКТАТУРУ НЕЛЬГА ЛІКВІДАВАЦЬ ДЭМАКРАТЫЧНЫМІ МЭТАДАМІ НА ВЫБАРАХ”

**Навумчык**: – І паколькі мы закранулі тэму выбараў – як Вы ацэньваеце пачатак прэзыдэнцкай кампаніі і як бачыце свой удзел у гэтым працэсе?

**Пазьняк**: – Выбараў у Беларусі даўно няма. Існуе прафанацыя. Поўны кантроль рэжыму над вынікамі галасаваньня. Створана антыдэмакратычная працэдура і сыстэма фальсыфікацыі. Перамога альтэрнатывы ў такой сыстэме выключаецца. Удзел альтэрнатывы ў такіх выбарах дае аргумэнты рэжыму, каб назваць выбары дэмакратычнымі, стварае прыход электарату.

Рацыянальны момант удзелу ў выбарах у тым, што гэта дае магчымасьць (хоць і вельмі абмежаваную) фіксаваць парушэньні заканадаўства і ставіць пытаньне аб міжнародным непрызнаньні выбараў за дэмакратычныя.

Але гэта тупіковая сытуацыя, пры якой нелегітымны рэжым (тэарэтычна) можа існаваць вечна. Практычна гэта можа скончыцца тым, што Захад прызнае нелегітымны рэжым, зыходзячы са сваіх інтарэсаў (паколькі ўсё залежыць ад Захаду). Гэтак жа сама як ”хітрая” палітыка рэжыму з Усходам і Захадам заканамерна мусіць прывесьці да аб’яднаньня заходняй і ўсходняй палітыкі ў дачыненьні да Беларусі. Гісторыя паказала, што гэта ёсьць самая злавесная камбінацыя для нашага нацыянальнага лёсу.

Наша фронтаўская пазыцыя палягае на тым, што дыктатуру нельга ліквідаваць дэмакратычнымі мэтадамі на выбарах (і тым больш на рэфэрэндумах). Выбары – гэта зброя дыктатуры, прылада яе ўлады. Трэба стварыць умовы, каб аслабіць гэтую зброю і потым скарыстаць.

Нашая палітыка, якую мы мэтадычна праводзім ужо доўгі час і якая ўжо дае плён – гэта аддзяліць электарат ад рэжыму, пазбавіць рэжым падтрымкі людзей, стварыць умовы для антырэжымнай кансалідацыі народу і стварэньня крытычнай масы грамадзкай альтэрнатывы. Гэта дасягаецца праз сыстэматычны байкот выбараў. Гэта шлях разгорткі грамадзкага змаганьня.

Посьпех усьвядомленага байкоту выбараў у верасьні 2008 году (прыйшло галасаваць толькі 30-35 адсоткаў выбарцаў) прымусіла рэжым экспэрымэнтаваць супраць байкоту. Зьмянілі заканадаўства для мясцовых выбараў (зьнялі мяжу колькаснага ўдзелу) і трапілі ў пастку. У красавіку сёлета прыйшло галасаваць ня больш 25 адсоткаў выбарцаў. Але ж трэба крычаць пра „ўсенародную падтрымку”. Тады паведамілі, што галасавала 80 адсоткаў, а за дэпутатаў рэжыму прагаласавалі 90-97 адсоткаў (як пры Сталіне). Але ж участкі былі пустыя, і ўсе ўжо гэта ведаюць.

Заявы некаторых асобаў аб пачатку сваёй выбарчай кампаніі выявілі ўсе старыя стэрэатыпы (цалкам фальшывыя). Адзін з прэтэндэнтаў так і заявіў, што будзе дзейнічаць паводле пляну сваёй прэзыдэнцкай кампаніі 2006 году.

Паколькі сілы, якая змагла б перамагчы дыктатуру, скарыстаўшы фальшывыя выбары, яшчэ не існуе ў грамадзтве, – выбары трэба байкатаваць, каб рыхтаваць такую сілу.

*11 траўня 2010 г.*

***Гутарку вёў Сяргей Навумчык (радыё Свабода)***

*(Крыніца: http://www.svaboda.org/content/article/2038687.html)*



## *БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ**

№ 85 чэрвень 2010 .http://www.bielarus.net,http://www.pbpf.org

### *ХОПІЦЬ ЦЯРПЕЦЬ АШУКАНСТВА НА ВЫБАРАХ!*

Паважаныя землякі, шаноўныя суайчыньнікі, грамадзяне Беларусі!

Рэжым Лукашэнкі і ягоныя апекуны ў Маскве рыхтуюцца да прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі. У чацьвёрты раз А. Лукашэнка заявіў, што ідзе на выбары..

У 2004 годзе ён правёў антыканстытуцыйны рэфэрэндум аб трэцім тэрміне свайго прэзыдэнцтва. Міжнародная супольнасьць і бальшыня беларусаў не прызналі гэты акт беззаконьня. У юрыдычным сэнсе Лукашэнка зьяўляецца захопнікам прэзыдэнцкай улады. Цяпер ён зноў зьбіраецца усіх ашукаць і застацца пры ўладзе далей.

Дзеля ашуканства яму трэба толькі адно: каб людзі прышлі галасаваць і тым самым далі б магчымасьць рэжыму маніпуляваць галасамі ў яго карысьць. Ня мае значэньня, як хто галасаваў, „за” ці „супраць”. Свае 83 адсоткі падтрымкі Лукашэнку яны зь Ярмошынай намалююць.

Няма сэнсу хадзіць на такое галасаваньне. Няхай фальсіфікуе пустату і піша пра „ўсенародную падтрымку” пры пустых участках. Ніхто не прызнае такога галасаваньня. ***У адпаведнасьці з Канстытуцыяй народ запатрабуе і даможацца законных выбараў без удзелу Лукашэнкі. Сіла ў народнай салідарнасьці.*** Ярмошына мусіць пакінуць пасаду старшыні Цэнтральнай Выбарчай Камісіі. Хопіць, надакучыла глядзець на гэты маразм!

**Байкот! Ніхто – на фальшывыя выбары! Жыве Беларусь!**

***Ініцыятыва „Беларуская Салідарнасьць”,***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ***
***(старшыня Зянон Пазьняк)***

*(Паважаны сябра, прачытай і перадай другому)*

## АБ КАНФЛІКЦЕ ПРАВІЦЕЛЯ БЕЛАРУСІ З КРАМЛЁМ

***(Заява)***

Апошнім часам карпаратыўныя сваркі паміж маскоўскім Крамлём і ўзурпатарам улады ў Беларусі А. Лукашэнкам набылі абвостраны кшталт. Масква паказала ў сродках масавай інфармацыі крымінальныя справы Лукашэнкі і антынароднае аблічча свайго стаўленьніка, якое сама падтрымлівала і стварала цягам доўгіх гадоў.

Лукашэнка ў сваю чаргу, насуперак усім сваім ранейшым выказваньням, раскрыў імпэрыялістычны зьмест расейскай палітыкі і заявіў, што больш ня будзе „біцца ілбом аб крамлёўскую сьцяну”.

Але ўсе гэтыя сваркі ёсьць блеф з абодвух бакоў, якія якраз у гэтыя дні дамаўляюцца аб установцы расейскіх ракет С-400 на беларускай зямлі і за беларускі кошт. Крэмль дэманстратыўна палохае, цісьне і пагражае Лукашэнку стратай улады, каб

* Інфармацыйны лісток, які выдаецца ініцыятывай БС і КХП--БНФ

прымусіць яго здаць маскоўцам беларускую маёмасьць і прыняць дыскрымінацыйныя ўмовы Масквы ў эканамічных адносінах.

Лукашэнка дэманстратыўна стаў ужываць у лексіцы слова „суверэнітэт" (які ён, быццам бы, абараняе) і называць маскоўцаў імпэрыялістамі, але пры гэтым нічога не зьмяняецца ва ўнутранай антыбеларускай палітыцы рэжыму, якая характарызуецца застоем у эканоміцы і прывязаннасьцю да Расеі, этнацыдам у вобласьці культуры і акупацыйнымі адносінамі да палітычна актыўнага беларускага насельніцтва.

Беларусаў, якія праяўляюць сябе як энтузіясты нацыянальнай культуры, і тых, хто ўдзельнічае ў выбарах і палітычных мерапрыемствах не на баку рэжыму, жорстка перасьледуюць, звальняюць з працы, скасоўваюць і не працягваюць працоўныя кантракты, запалохваюць, зьбіваюць і арыштоўваюць па прыдуманых абвінавачваньнях. Адбываецца перасьлед усяго беларускага па фармальных прыкметах (прыналежнасьць да беларушчыны, да беларускай культуры, мовы, традыцыяў і г. д.).

Тыповым і беларусафобскім прыкладам такога перасьледу зьяўляюцца рэпрэсіі і зьдзек над братамі ***Віталём і Сяргеем Каваленкамі*** зь Віцебска, якіх рэгулярна арыштоўваюць без прычыны і засуджваюць пад арышт з прэвентыўнымі мэтамі, мяркуючы, што браты могуць узьняць у горадзе Беларускі нацыянальны Сьцяг.

Беларускае грамадзтва, якое слухае цяпер прапагандысцкія выказваньні Лукашэнкі з крытыкай Масквы і крытыку ўзурпатара з боку Масквы, павінна разумець, што гэта ёсьць чарговая сварка саўдзельнікаў у рабунку і дзялёжцы маёмасьці народаў, канфлікт хаўрусьнікаў, якія зноў не падзялілі інтарэсы.

Рэальныя зьмены могуць пачацца толькі тады, калі ад улады ў Беларусі будзе адхілены нішчыцель нацыянальнай эканомікі і ўсяго беларускага – узурпатар Лукашэнка.

Шлях да пазбаўленьня ад узурпатара ляжыць праз байкот фальшывых прэзыдэнцкіх выбараў, у якіх Лукашэнка па закону ня мае права ўдзельнічаць.

*Беларуская Салідарнасьць* і сябры *КХП – БНФ* заклікаюць людзей не паддавацца на прапаганду перасвараных змоўшчыкаў зь Менску і Масквы. ***Усе – ЗА БАЙКОТ!*** Ніхто – на фальшывыя выбары! Лукашэнка не павінен удзельнічаць у выбарах. Узурпатар мусіць адыйсьці ад улады ў Беларусі!

*20 ліпеня 2010 г.*

***Ініцыятыва Беларуская Салідарнасьць,***
***Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай***
***Партыі – БНФ***
***(Старшыня – З. Пазьняк)***

# АБ ПАЛІТЫЧНЫМ І НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ПЕРАСЬЛЕДЗЕ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКІ

Антыбеларускі рэжым вось ужо паўгода, груба парушаючы закон, жорстка перасьледуе па палітычных прычынах братоў ***Сяргея*** і ***Віталя Каываленкаў*** зь Віцебска за іх прыхільнасьць да беларускай культуры і да Беларускага Нацыянальнага Дзяржаўнага Сьцяга Рэспублікі Беларусь, зацьверджанага Вярхоўным Саветам 19-га верасьня 1991 года, тым Вярхоўным Саветам, які сцьвердзіў незалежнасьць краіны.

7-га студзеня 2010 года сябра Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Сяргей Каваленка падняў Беларускі Нацыянальны Дзяржаўны Сьцяг на гарадзкой навагодняй ёлцы ў Віцебску. За гэта ён быў жорстка зьбіты міліцыяй (што зьяўляецца злачынствам з боку міліцыі, бо затрыманы не аказваў супраціўленьня). С. Каваленка быў асуджаны на тры гады ўмоўна. З той пары ўлады пастаянна, з поўным парушэньнем закона і права, беспрычынна арыштоўвалі, бясправўна судзілі і саджалі Сяргея Каваленку пад арышт ужо каля дзясятка разоў толькі таму, каб Каваленка ня мог зноў узьняць у горадзе Беларускі Сьцяг.

Апошні раз 8-га ліпеня г.г. у 20 гадзін 50 хвілін міліцыя загарадзіла яму ўваход у дом, дзе ён жыве, і сілай на працягу дзесяці хвілінаў не дазваляла яму ўвайсьці ў дзьверы. Калі 10 хвілінаў мінула і настала 21-я гадзіна, міліцыянер склаў на яго пратакол аб вяртаньні дамоў пасьля 21-й гадзіны і аб парушэньні тым самым рэжыму ўмоўнага асуджэньня. Грамадзяніна Каваленку арыштавалі, адвезьлі ў пастарунак міліцыі і пасадзілі пад арышт на 10 сутак.

Каваленка аб'явіў галадоўку супраць цынічнага бясправўя, разбою і гвалту ўлады. На працягу ўсіх 10-ці дзён галадоўкі Каваленку не дазвалялі перадаваць чыстую ваду і не выводзілі яго з камэры на сьвежае паветра, сьведама стараліся пагоршыць здароўе арыштаванага (ці дакладней – схопленага, бо Каваленка не зрабіў ніякага парушэньня).

Так беларусафобная ўлада перасьледуе беларуса за дэмакратычную дзейнасьць. Тут – неабгрунтаваная агрэсія ворганаў міліцыі і зьбіцьцё Сяргея Каваленкі, нематываваныя арышты і незаконныя судовыя прысуды, якія прыроўніваюцца да захопу закладніка; тут – злачынныя дзеяньні міліцыі па фабрыкацыі нібыта парушэньня рэжыму ўмоўна асуджаным С. Каваленкам і сплянаваныя дзеяньні ворганаў унутраных спраў, накіраваныя на пагаршэньне яго здароўя ў час знаходжаньня пад арыштам. Органы пракуратуры і пракурорскага нагляду не рэагуюць на парушэньне закону і злачынныя дзеяньні міліцыі.

Гэтая інфармацыя складзена для грамадзянскай супольнасьці Рэспублікі Беларусь і перададзена ў арганізацыю Міжнародная Амністыя.

*20 ліпеня 2010 г.*

***Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай***
***Партыі – БНФ***
***(Старшыня – З. Пазьняк)***

# БЫКАЎ: „ТОЛЬКІ НАЦЫЯНАЛІЗМ ЗДОЛЬНЫ АБ''ЯДНАЦЬ ГРАМАДЗТВА"

У чэрвені 2002 года Васіль Быкаў у Празе на просьбу Радыё Свабода начытаў кнігу ўспамінаў „Доўгая дарога дадому", якая неаднаразова гучала на хвалях Свабоды. Сёлета мы падрыхтавалі падарунак нашым слухачам – выдалі дыск з аўдыёзапісамі аўтарскага чытаньня. На ім таксама зьмешчаныя поўныя тэксты мэмуарнай прозы Быкава, а таксама ўсе кнігі, якія выйшлі ў сэрыі „Бібліятэка Свабоды. 21-ае стагодзьдзе", і ў тым ліку – кніга „Быкаў на Свабодзе".

**Васіль Быкаў:** „Менавіта нацыяналізм, паводле Фрэнсіса Фукуямы, найбольш спрычыніўся да вызваленьня народаў ад камуністычнай дыктатуры. Не

лібэралізм, не дэмакратыя – а менавіта нацыяналізм заняволеных камунізмам народаў. Там, дзе гэты працэс быў завершаны, зьявілася магчымасьць пераходу да дэмакратычнага лібэралізму, а дзе не завяршыўся, дзе стаўся затрыманы рэакцыйнымі сіламі – там нацыяналізм па-ранейшаму надзённы. Бо толькі нацыяналізм з найбольшай выніковасьцю здольны аб"яднаць сілы грамадзтва ў ягоным дэмакратычным разьвіцьці".

*29 чэрвеня 2010 г.*
*(Крыніца: Радыё Свабода. – http://www.svaboda.org/content/transcript/2085722.html)*

* * *

**Васіль Быкаў:** „Ня першы дзень і ня толькі для Беларусі робіцца неабвержнай ісьціна: ***толькі пры наяўнасьці свабоды і незалежнасьці магчымы працяг беларускай гісторыі.*** Калі ж незалежнасьці ня будзе, дык на сёньня і скончыцца нашая гісторыя. У ранейшым вялацечным стане яе гісторыя працягвацца ня зможа. Такі мой дылетанцкі прагноз. Але як і ўсе прагнозы, гэткі прагноз наўрад ці спраўдзіцца, і тое дае надзею. Надзею на ўсеўратавальную парадаксальнасьць гісторыі. Як пісала калісьці Лэся Ўкраінка, „Без надзеі такі спадзяваюся". Што ж яшчэ застаецца рахманаму беларусу? Мабыць, здольнасьць, як і патрэба спадзявацца, дадзеная чалавеку ад Бога і далёка не заўсёды падмацаваная доказнай базай".

*30 чэрвеня 2010 г.*
*(Крыніца: Радыё Свабода. – http://www.svaboda.org/content/transcript/2086198.html*

# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: „СВАБОДА – ГЭТА ДОЎГАЯ І ЖМУДНАЯ ПРАЦА. НАШАЙ АПОРАЙ МОЖА БЫЦЬ ТОЛЬКІ ЎЛАСНЫ НАРОД"

***Карэспандэнт:*** *– Неўзабаве ў Беларусі адбудуцца чарговыя прэзыдэнцкія выбары. Ваша партыя традыцыйна ўжо заклікае байкатаваць іх. Ці не было б больш рацыянальна накіраваць сілы на згуртаваньне людзей вакол нейкага лідэра й ідэі, а ня проста адмовіцца ісьці на выбарчы ўчастак?*

**З. Пазьняк:** – Калі б была такая беларуская асоба, тады можна было б пра гэта гаварыць. Паколькі такія асобы альбо зьнішчаныя, альбо выгнаныя, альбо задушаныя ў зародку, то сытуацыя нашая не зьмянілася на працягу 10 гадоў. Тут трэба выкарыстоўваць такую тактыку, якая прывядзе да кансалідацыі грамадзтва на аснове свабоды й нацыянальных каштоўнасьцяў, якая вылучыць і людзей, і ініцыятыву. А ўдзельнічаць у выбарах і думаць, што яны нешта зьменяць, гэта ня тое, што ілюзія, гэта дзяцінства. Усе ведаюць, што выбараў няма, што створаная фальсыфікацыйная сыстэма. Хто б не ўдзельнічаў, што б ні рабілі, як бы не галасавалі, усё роўна рэжым сваё 83% зробіць. Наступаць на адны й тыя ж граблі нельга. Трэба выкарыстоўваць другія магчымасьці. Бо калі людзі ўдзельнічаюць у выбарах, то яны даюць фальфікацыйнай машыне магчымасьць працаваць. Таксама было й пры Сталіне, але ў той час існавала жорсткае палажэньне: „кожны павінен удзельнічаць у выбарах". Калі чалавек ня ішоў на выбары, то яго падазравалі ў антысаветчыне, маглі нават выслаць у Сібір, таму ўдзельнічалі ўсе, і ўлады спакойна ставіла свае 99%. Калі б пры Сталіне была магчымасьць не хадзіць, то такія працэнты немагчыма было б паставіць. Фальсыфікацыйную машыну трэба пакінуць пустой. Няўдзел у выбарах – гэта фактар кансалідацыі.

*Але якім чынам байкот можа кансалідаваць народ? Сядзіш дома, не сустракаешся на выбарчым участку з суседам, не абмяркоўваеш сытуацыю ў краіне...*

**З. Пазьняк:** – Людзі ведаюць, што сусед не хадзіў галасаваць, я не хадзіў, жонка не хадзіла. Адкуль тады 90%? А калі людзі ходзяць на выбары, то яны ня ведаюць, як галасаваў сусед, бо галасаваньне таемнае. На выбарах дыктатуру нельга перамагчы, яе трэба разгойдваць і ствараць умовы, каб можна перамагчы. Байкот – гэта якраз тактыка барацьбы, ён дае магчымасьць людзям убачыць адзін аднаго.

*Давайце ўявім сабе, што больш за 50% не галасавалі, але ж звычайныя людзі й так пра гэта не даведаюцца. Цэнтрвыбаркам і так заявіць, што выбары адбыліся, бо прагаласавала больш за 50%. І якім тады чынам даказаць, што адбыўся байкот, што выбары не адбыліся?*

**З. Пазьняк:** – Нічога ня тэба даказваць. Даказваць будзе рэжым, і гэта вельмі істотна. Людзі ўбачаць усю хлусьню ўлады, у іх зьявіцца актыўная пазыцыя. Гэта першы крок да кансалідацыі грамадзтва. Першы масавы байкот адбыўся ў 2008 годзе на парлямэнцкіх выбарах, людзі не пайшлі галасаваць – на выбарчых участках было працэнтаў 30%. І вось з таго часу беларускае грамадзтва пачало мяняцца. Потым сытуацыя паўтарылася на мясцовых выбарах. Сёньня большасьць беларусаў скептычна ставіцца да Лукашэнкі й выбараў, адбываецца ўнутраная кансалідацыя. Гэта як тарфяны пажар: мы яго ня бачым, але ён гарыць. Каб у рэжыме дыктатуры зрушыць грамадзтва, патрэбная сэрыя крокаў, байкот вядзе менавіта да іншых крокаў. Сам байкот ня прывядзе да перамены ўлады, але ён можа аб'яднаць людзей і аслабіць рэжым. І толькі пры слабым рэжыме змогуць павялічыцца магчымасьці нацыянальнай апазыцыі.

Складанасьць у тым, што ў слабым Лукашэнку зацікаўлены й расейскі гэбізм, каб узяць яго за горла й душыць, потым адпусьціць, каб ён глытнуў паветра, і сказаць: аддавай гродзенскі „Азот", аддавай „Нафтан", аддавай малочную прамысловасьць. Адсюль і ўсе гэтыя фільмы на НТВ. Каб напалохаць Лукашэнку, каб загнаць у Мытны саюз, зрабіць слабым, каб потым адабраць нацыянальную маёмасьць. Вось тут галоўны канфлікт! У слабым прэзыдэнце зацікаўленыя й мы, каб зьнішчыць дыктатуру, і Расея, бо яна хоча слабога Лукашэнку, каб забраць маёмасьць.

Ёсьць і момант законнасьці выбараў. Лукашэнка ня мае права ўдзельнічаць у гэтых выбарах. І калі народ пойдзе галасаваць, значыць ён прызнае права Лукашэнкі ўдзельнічаць у незаконных выбарах, то бок прызнае крымінальныя дзеяньні з боку гэтай асобы. Выбары могуць адбыцца толькі тады, калі яго прозьвішча ня будзе ў бюлетэнях.

*Вы ўзгадалі магчымасьць умяшаньня Расеі. Лукашэнку часта называюць „меншым злом", калі параўноўваюць з гіпатэтычным расейскім кандыдатам. Ці згодныя Вы з гэтым?*

**З. Пазьняк:** – Гэта думаньне людзей, якія пазьбягаюць барацьбы. Часта такія людзі задаюцца пытаньнем: а нам з Захадам ці Расеяй? Захад дапаможа! Брусэль дапаможа! А праўда такая, што ніякі Захад, ніякая Расея не дапаможа нашым інтарэсам. Сваё жыцьцё мы павінны ўладкаваць самы. Трэба разьлічваць толькі на сябе. Выбар паміж Лукашэнкам і расейскім кандыдатам прыкладны такі ж самы, як паміж куляй і пятлёй. А якая, насамрэч, розьніца? Мы павінны змагацца супраць абедзьвух небясьпек.

*Але нельга забываць і таго, што тыя сілы, якія хочуць зьмяніць сыстэму ў краіне, абсалютна ня маюць фінансавых сродкаў. З кожным годам расьцярушваецца й чалавечы рэсурс.*

**З. Пазьняк:** – Калі Вы маеце на ўвазе апазыцыю, якая ўзьнікла 10 гадоў таму, ім абсалютна ня трэба перамога. Яны прывыклі асвойваць замежныя гранты й казаць пра большае й меншае зло. Там ёсьць і нямала прыстойных людзей, але яны, на жаль, вельмі наіўныя. У Беларусі нашай апорай можа быць толькі ўласны народ. Ніякі лідэр, ці група зараз не зьявіцца, ім тут жа адрэжуць галаву. Яны нават піснуць не пасьпеюць! Таму нам трэба шукаць такія дзеяньні, якія б нас аб'ядноўвалі, стваралі б грунт для зьяўленьня нацыянальных змагароў, такія дзеяньні, як, напрыклад, байкот.

*Вы зараз узгадалі пра рэпрэсіі супраць магчымых лідэраў, дык менавіта ў такой жа сытуацыі апынуліся й людзі. Іх можна прымусіць пайсьці на выбары, бо адміністрацыйны рэсурс улады гэта дазваляе.*

**З. Пазьняк:** – 99% у такіх паводзінах улады – гэта элемэнт запалохваньня. З масавым супраціўленьнем рэжым нічога ня зможа зрабіць, з усім народам змагацца немагчыма. Нават Сталін баяўся: зьнішчаў, высылаў у ГУЛАГ, але баяўся. У СССР бывала, што нейкі дом па нейкай бытавой прычыне дамаўляўся ня ісьці галасаваць. Была паніка ўлады! Прыязджалі сакратары райкамаў і абяцалі ўсё, што можна. Першы крок да барацьбы – гэта перастаць баяцца. Пакуль ня будзе пярэйдзена гэтая мяжа страху, ніводзін рэцэпт не дапаможа. Тым больш ёсьць шмат прыкладаў, нават сярод студэнтаў, якія не пайшлі галасаваць і нічога зь імі не зрабілі. Быў таленавіты й здольны студэнт Жалезьнічэнка. Выгналі з ВНУ за любоў да Беларусі, забралі ў войска, а ён не прыняў прысягу, таму што трэба прысягаць прэзыдэнту. Салдат павінен прысягаць Бацькаўшчыне, а не прэзыдэнту! І нічога зь ім не зрабілі. Адбыў войска, вучыцца за мяжой, і гэта – асоба. Ён сваё змаганьне выйграў.

Ларыса Геніюш расказвала мне такую гісторыю. Яе знаёмы быў у ГУЛАГу. Іх спачатку сагналі ў вялізны барак, там былі тысячы людзей. І вось выдзяляюць хлеб на ўвесь барак. Вызначылі людзей, якія гэта рабілі. Калі хлеб прыносілі, тады адчыняліся дзьверы і ўваходзілі тры крымінальнікі з нажамі й забіралі гэты хлеб. І так кожны дзень. Усе галадаюць, і тысячы людзей нічога ня могуць зрабіць супраць трох крымінальнікаў, таму што кожны сам сабе. Нават і мільён можа быць ні чым, калі кожны сам сабе. Скончылася гісторыя тым, што першымі аб'ядналіся эстонцы. У іх была аснова для аб'яднаньня, яны адчувалі, што „мы – эстонцы, свабодны народ". Яны кінуліся на гэтых бандытаў, і тады кінуўся ўвесь барак. Гэта гісторыя, але яна вельмі павучальная да таго, што рэжым хоча запалохваць усіх і не дапусьціць да кансалідацыі людзей. Рэжыму выгадна, каб кожны адказваў толькі за сябе, і каб кожнага можна было палохаць. Таму трэба шукаць такія стратэгіі, якія яднаюць людзей на агульных інтарэсах, каб яны адчулі локаць адзін аднаго, і каб зьнікаў страх, вось тады можна будзе змагацца.

*Частка кандыдатаў, якія заявілі пра свой намер удзельнічаць у выбарах, ужо цяпер кажуць па магчымасьць паўтору Плошчы, але з пасьпяховым вынікам. Ці магчыма, на Вашу думку, вулічны сцэнар зьмены ўлады?*

**З. Пазьняк:** – У 2006 годзе людзей было шмат, яны гарэлі дзейнасьцю. Праваліў чалавек, які павінен быў усё ўзначаліць і ўсё давесьці да канца. Другі раз такой Плошчы ўжо не паўторыцца. Тэарытычна людзі могуць выйсьці са сваім абурэньнем на вуліцу. Але калі ня будзе ніякай арганізацыі, калі ня будзе нацыянальнага лідэра зь яснай ідэяй дзеля чаго мы выйшлі, то гэта можа стаць нават небясьпечным. Усё гэта могуць выкарыстаць зусім іншыя сілы. Людзі, якія займаюцца палітыкай, павінны зразумець, што нельга паўтараць сытуацыю 1994 году, якая праходзіла пад лёзунгам „абы ня Кебіч". Вось гэта „абы ня Кебіч" і прывяло да яшчэ горшай сытуацыі. Зараз такі лёзунг „абы не Лукашэнка",(ня думаючы, што будзе далей), ня тое, шкодны, гэтага бяздумства нельга рабіць. Каардынальна, што на гэтых фарсавых выбарах трэба дасягнуць, гэта дамагчыся аслабленьня ўлады Лукашэнкі і ўзмацненьня кансалідацыі грамадзтва на пратэстнай ноце.

*Уладу Лукашэнкі аслабляе, напрыклад, канфлікт з Крамлём...*

**З. Пазьняк: –** Усе гэтыя іхныя спрэчкі, гэта спрэчкі ў лягеры саюзьнікаў. Яны бліжэйшыя адзін да аднаго, чым да нашых нацыянальных інтарэсаў. Гэта „абое-рабое", якія знаходзяцца зараз у канфлікце на глебе маёмасьці. Для Лукашэнкі галоўнае захаваць уладу любымі сродкамі й, адпаведна, маёмасьць, якая дае яму кіроўную сілу, а Расея хоча забраць сабе гэтую маёмасьць. Але яны разам праводзяць гэтую мафіёзную палітыку.

*Шмат апошнім часам гаворыцца пра расейскага кандыдата на гэтых выбарах. Ці патрэбны Расеі новы чалавек замест Лукашэнкі?*

**З. Пазьняк:** – Ня трэба быць палітыкам каб сказаць, што гэта Расея стварыла Лукашэнку. Крэмль яго трымае, ён яму выгадны ва ўсіх пытаньнях. Дыктатараў аплачваюць! СССР аплачваў Кастра, афрыканскіх альбо лацінаамэрыканскіх дыктараў аплачвала альбо Амэрыка альбо Савецкі Саюз. Мне сьмешна чуць, як нехта кажа, што Расея страціла ў Беларусі 52 млрд. даляраў. Яны плацілі свайму сатрапу дзеля сваіх інтарэсаў, а атрымалі ў 10 разоў болей і ў палітычным, і ў эканамічным сэнсе. Ну, але ўявім, што пасьля гэтых іхных супярэчнасьцяў Масква захацела замяніць Лукашэнку на іншага чалавека. Узьнікае пытаньне: яны заменяць яго на горшага альбо на лепшага? Натуральна, лепшага для сябе, які будзе лепей здаваць ім нашу маёмасьць, які будзе падатлівы, які ня будзе мець шмат дурных амбіцый, зь якім за пару гадоў можна будзе вырашыць усё справу й шасьцю абласьцямі ўключыць Беларусь у склад Расеі. І міжнародная супольнасьць на гэта пагодзіцца. Такім чынам любы прарасейскі кандыдат будзе горшым для Беларусі, супраць такога кандыдата трэба заводзіць крымінальную справу. На якой падставе ён мае расейскія сродкі? Адкуль замежнае фінансаваньне? Ён павінен даць тлумачэньне пракуратуры. Самае сумнае, што ўсё гэтае антызаконнае „прарасейскае кандыдацтва" амаль, як норма, сур'ёзна абмяркоўваецца ў СМІ. Масква ніколі нам не зрабіла нічога добрага. Яна, дарэчы, не хавае сваіх імпэрскіх думак.

*Некаторыя кажуць, што, магчыма, прарасейскі кандыдат – гэта Някляеў. І хоць ніхто яго не злавіў за руку й ня мае доказаў, то ўсё ж плёткія такія тыражуюцца з усіх бакоў.*

**З. Пазьняк:** – Палітыка – гэта як матэматыка. Там ёсьць абсалютна дакладныя рэчы, якія вызначаюць пазыцыю чалавека. Някляеў засьведчыў сваю 100%-ю парасейскасьць. Тое самае – Казулін. Ніколі не займаўся палітыкай і раптам пайшоў у прэзыдэнты. Пачаў выдаваць Быкава. З Быкава, дарэчы, яны ўсе пачынаюць. Калі Някляеў пойдзе далей і ня ўлічыць вопыт Казуліна, то ён паўторыць той самы шлях. У Някляева абсалютна прарасейская пазыцыя. А ўсе гэтыя сэнтымэнты, гаварэньне па-беларуску, пісаньне вершаў... Так, ён паэт беларускі, ніхто тут не спрачаецца, але палітыка мае свае правілы. Калі ты бярэш расейскія грошы, то ты будзеш вымушаны падтрымліваць расейскія інтарэсы. Калі ты бярэш брусэльскія грошы, то будзеш падтрымліваць іхныя інтарэсы. Ніколі ніякі нацыянальны рух за свабоду не базаваўся на чужых грошах. Мы павінны абапірацца на свае інтарэсы. Дзякуй Богу, беларус яшчэ можа працаваць і думаць, у Расеі гэтага ўжо няма.

*Але якраз дзякуючы замежным сродкам адбыліся рэвалюцыі ва Ўкраіне й Грузіі.*

**З. Пазьняк:** – А які іх вынік?

*На маю думку, шмат што неўдалося з-за няўменьня Юшчанкі шукаць кампрамісы й нежаданьня размаўляць з апанэнтамі, але зьмена ўлады адбылася не без замежнай падтрымкі.*

**З. Пазьняк:** – Калі б унутранныя ўкраінскія сілы, каб унутранная ўкраінская буржуазія былі б настолькі моцнымі й каб яны паклалі свае грошы, як гэта адбывалася ў розных краінах на пачатку 20 ст., ніякіх пытаньняў бы не ўзьнікала. Была скарыстаная вялікая энэргія ўкраінскіх мас, але яна не была даведзеная да канца, таму што яна ня мела моцнага грунту, яны стаялі на гліняных нагах. Барацьба за дэмакратыю й дзяржаву можа быць пасьпяховай толькі тады, калі яна базуецца на сваіх нацыянальных рэсурсах. Замежныя сродкі могуць быць абгрунтаванымі ў выпадку вайны, і то яны даюцца ў выглядзецца крэдытаў. Сіла ствараецца толькі за ўласныя грошы. Вось у гэтым (ў неразуменьнм гэтага) і бяда беларусаў. Ёсьць у нас прадпрымальнікі альбо інакш кажучы буржуазія. Але яны ня будуць дапамагаць нацыянальным сілам. Народны Фронт пачаў сваю працу выключна за свае народныя сродкі. Гэтага было дастаткова, каб у 90-ыя гады здабыць незалежнасьць.

*А дзе ўзяць гэтыя сродкі, калі буржуазія ня хоча дапамагаць? У Беларусі нямала багатых людзей. Фактычна, рэвалюцыю маглі прафінансаваць нават пару беларускіх мільянэраў.*

**З. Пазьняк:** – Вельмі добрае пытаньне... Узгадайце з чаго пачаў Лукашэнка, калі дайшоў да ўлады? Са зьнішчэньня сымбаляў, з аплёўваньня беларускай мовы, зьнішчэньня газэт, беларускіх школаў, спаленьня беларускіх падручнікаў. Пачаў не з грошай, а са сьцяжкоў і мовы. Чаму? Сам ён наўрад ці разумеў, але яму патлумачылі, што гэта дае народу сілу й гэта мацней за ўсялякія грошы. Вось дзе ён пачаў зьнішчэньне. І калі б заможны беларус гэта разумеў, то ён ахвяраваў бы свае грошы дзеля адраджэньня нацыі, дзеля агульных інтарэсаў. Мы сёньня павінны адраджаць тое, што зьнішчае рэжым. Ён падарваў наш нацыянальны дух, і мы сёньня павінны з гэтага пачынаць, зь яго адраджэньня. Наша партыя займаецца гэтым увесь час (паказвае на скрыні зь літаратурай – рэд.).

*Але пакуль пасьпяховы бізнэсовец пачне гаварыць па-беларуску й вешаць на машыне бел-чырвона-белы сьцяг, пройдзе нямала часу. Адпаведна, і шлях пераходу да нармальнасьці ў Беларусі будзе доўгі. Дык ці ня варта шукаць іншыя мэтады?*

**З. Пазьняк:** – Шлях будзе доўгі й мы павінны да гэтага прызвычаіцца. Адразу нічога ня стане. 10 год мы распаўсюджваем літаратуру. Мы цяпер, на жаль, ужо невялікія партыя, але мы працуем. 10 гадоў мы гаворым пра байкот і вось – зьявіліся вынікі. Людзі не пайшлі на выбары ня толькі таму, што пачулі наш заклік, але таму, што адбываецца грамадзкі працэс і мы адчуваем гэты працэс, ідзем разам зь людзьмі. Мы ўсе павіны разумець, што імгненнага выніку ня будзе, нават калі нейкі бізнэсовец ахвярує грошы. Калісьці чэхі, змагаючыся за незалежнасьць, пабудавалі свой тэатр «Narodne divadlo», грошы яны зьбіралі па ўсёй краіне. У дзень яго адкрыцьця ненавіснікі чэшскай культуры й чэшскага адраджэньня спалілі тэатр. Што робіць нацыя? Імгненна абвяшчае новы збор сродкаў і зноў адбудоўвае тэатр. Адразу зрабіць нічога нельга, бо грамадзтва трэба падрыхтаваць. Свабода – гэта доўгая й жмудная праца. Калі б у 1994 годзе ў нас ня здарылася такое няшчасьце, то за гэтыя 16 гадоў мы б ужо былі такой краінай, як Вугоршчына, Чэхія, у нас бы ўжо вырасла цэлае пакаленьне. Мы былі б магутнай нацыяй. Але мы шмат страцілі, і імгненна ўсё перамяніць не атрымаецца. Але галоўнае – разумець мэты. Калі 20 гадоў таму ў беларусаў узьнікла патрэба пазбавіцца ад рэжыму камуністаў – яны пачалі гуртавацца. І калі цяпер у людзей узьнікне патрэба свабоды – тады пойдзе нармальны працэс. Але нельга мець ілюзій, што нехта тут зьявіцца й зьменіць нашае жыцьцё.

***Гутарыў Дзьмітры Гурневіч***
***(Польскае радыё для замежжа, Беларуская рэдакцыя)***

*4 жніўня 2010*
*(Крыніца: http://www.polskieradio.pl/zagranica/by/news/artykul137038.html)*

# „НАСТУПНЫ ГОД ТРЭБА АБВЯСЬЦІЦЬ ГОДАМ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ”

*У выдавецтве „Беларускія ведамасьці” выйшла кніга Сяргея Навумчыка і Зянона Пазьняка* ***„Дэпутаты незалежнасьці”****. 20 год незалежнасьці Беларусі (25 жніўня 1991 – 25 жніўня 2011)”. У інтэрв'ю Радыё Свабода адзін з аўтараў кнігі, Зянон Пазьняк, тлумачыць мэту выданьня кнігі і знаёміць зь яе зьместам.*

**Абламейка:** – Зянон Станіслававіч, якую задачу вы ставілі перад сабой, прыступаючы да працы над гэтай кнігай?

**Пазьняк**: – Гэтая кніжка была задуманая да 20-годзьдзя незалежнасьці Беларусі, якое прыпадае на 25 Жніўня 2011 года. Спачатку я меркаваў выдаць буклет пра дэпутатаў БНФ, адным лістом. Потым пачаў працаваць і стала зразумела, што трэба выдаваць іншае выданьне, бо падзея вельмі вялікая – побач з 25 Сакавіка гэта найвялікшая падзея за апошнія 200 гадоў нашай гісторыі! Мы здабылі рэальную незалежнасьць, без крыві – гэта вельмі істотна. Аднак мы, нашае грамадзтва, знаходзімся цяпер у такім стане, што няма каму пра беларускую рэвалюцыю і пра нашы заваёвы пісаць. Гэтым павінны займацца акадэмічныя інстытуты, пры нармальнай сытуацыі ўжо была б сэрыя манаграфій, дасьледаваньняў, бо зьява таго заслугоўвае.

Але мы апынуліся ў стане ўнутранай акупацыі, нацыянальная навука практычна зьнішчаецца. І вось тут паўстае пытаньне – практычна, напісаньнем гісторыі павінны заняцца мы самы. Гэта нядобра, павінны займацца гісторыкі-прафэсіяналы, якія разумеюць, што такое нацыянальная палітыка, заснаваная на нацыянальных інтарэсах, што такое нацыянальная гісторыя. Такога цяпер няма, мы бачым, што адбываецца і ў навуцы, і ў палітыцы. І таму было прынятае такое рашэньне – рыхтаваць кніжку з аналізам, з гістарычным асэнсаваньнем, з успамінамі.

Я зьвярнуўся да Сяргея Навумчыка, бо такую кніжку, калі хутка, то трэба рыхтаваць разам, з асобных пунктаў гледжаньня людзей, якія былі ўдзельнікамі і сьведкамі падзей. Калі б было больш аўтараў, было б яшчэ лепей, але гэта вялікая работа, і такое пакуль што нам не пад сілу. Таму мы ўзяліся за гэта ўдвох і паставілі задачу стварыць гэтакую падарожную кніжку, якую можна лёгка чытаць нават у дарозе, якая была б транспартабэльная, і якая б закранала асноўныя пытаньні, зьвязаныя са здабыцьцём дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

**Абламейка:** – На вокладцы пазначана, што кніга выходзіць да 20-годзьдзя незалежнасьці, якое прыпадае на 25 жніўня 2011 году. Гэта значыць, да слаўнай гадавіны яшчэ цэлы год...

**Пазьняк:** – Невыпадкова, што мы ўзяліся яе пісаць заранёў. Падзея настолькі вялікая, што гэты год трэба прысьвяціць ёй. Трэба каб нашы вучоныя, нашы культурныя дзеячы, нашы палітыкі, наша на-

цыя думалі пра гэта, асэнсоўвалі, радаваліся, што мы маем зараз дзяржаву, і думалі над тым, каб яна квітнела, каб яна вярнулася да нармальнасьці. Бо тое, што мы зараз маем з уладай – гэта ненармальна, мы маем антыбеларускую ўладу. Усё гэта патрабуе сур'ёзнага акадэмічнага асэнсаваньня. І чакаць, што нехта гэтым зоймецца, каму не баліць ні душа, ні сэрца, мы не зьбіраемся. Так мы пачалі гэты год незалежнасьці.

Я лічу, што год, які пачынаецца 25 жніўня, павінен быць прысьвечаны гэтым падзеям, асэнсаваньню, абмеркаваньню, якое значэньне для нашай культуры і для нашай нацыі мае гэтая падзея. Павінны быць і ўспаміны, і дыскусіі, гэта вельмі істотна, каб памяць і веды не былі зьнішчаны. Бо тое, што мы зараз назіраем у афіцыйнай палітыцы рэжыму, гэта ўсё накіравана якраз на зьнішчэньне памяці пра незалежнасьць, на затоптваньне фактаў, на ліквідацыю праўдзівай беларускай гісторыі з заменай яе на хлусьлівую міталёгію, і гэтага нельга дапусьціць. Пакуль мы жывыя, мы ня можам дапусьціць, каб затапталі нашу незалежнасьць і памяць пра яе. Наша кніга – першая ластаўка, якая цяпер выйшла ў выдавецтве «Беларускія ведамасьці».

**Абламейка**: – Які пасыл, на вашу думку, нясуць чытачу тыя тэксты, што аўтары сабралі ў гэтай кніжцы?

**Пазьняк: –** Чытач, прачытаўшы гэтую кніжку, павінен перапоўніцца годнасьцю і гонарам за сваю Бацькаўшчыну і за свой народ, таму што тое, што ўдалося зрабіць у 1991 годзе, гэта цуд, гэта перамога нацыянальнага дэмакратычнага авангарду. Выдатная, бліскучая, перамога малымі сіламі, з выкарыстаньнем моманту, з асэнсаваньнем стратэгіі, з разумнай тактыкай. І калі падыходзіць да гэтай зьявы з клясычнымі меркамі эўрапейскага парлямэнтарызму, з клясычнымі меркамі суадносінаў сілаў, то гэта немагчыма растлумачыць.

Трэба было асэнсаваць і даць адказ, як так стала магчымым, што 10 працэнтаў дэпутатаў апазыцыі ў Вярхоўным Савеце – дэпутатаў Народнага Фронту – фактычна здабылі незалежнасьць і навязалі сваю волю і палітыку цэламу Вярхоўнаму Савету. А так яно было. І вось у нашай кнізе разьбіраюцца складнікі гэтай перамогі. Якім чынам гэта ўдалося зрабіць.

Там ёсьць зьявы абсалютна нестандартныя. Гэта рэальнае асэнсаваньне, што такое Вярхоўны Савет з пункту гледжаньня палітычнага, сацыяльнага, псыхалягічнага. Усё гэта было тады прааналізавана і быў зроблены вывад, і прынятая правільная тактыка – як перамагчы гэтую арду, якая валодае 90% галасоў. І гэта ўдалося. Гэта факт, у гэтым нельга сумнявацца, ёсьць факт перамогі і факт незалежнасьці. Гэта зроблена І вось гэтаму трэба даць тлумачэньне і асэнсаваньне. Тыя людзі збоку, які спрабавалі рабіць нейкае асэнсаваньне, ня ўмелі, не змаглі думаць навуковымі паліталягічнымі катэгорыямі нацыянальнай палітыкі, і таму не разумелі як так можна было перамагчы. Можна.

У гісторыі было шмат цудаў, і здабыцьцё нашай незалежнасьці – гэта таксама цуд, але гэты цуд зыходзіў з рэальнай тактыкі і рэальнай стратэгіі, рэальных людзей і рэальнай барацьбы. Гэтая кніжка і пасьвечана найперш нашым дэпутатам-змагарам, якія, будучы там, дзе вырашаўся лёс Бацькаўшчыны, змагаліся за дэмакратыю і незалежнасьць і дамагліся перамогі. І ўсё гэта адлюстравана ў нашай кнізе. Усё гэта ёсьць, і людзі яшчэ гэтыя жывуць. Таму (паўтараю) беларусы, якія пра гэта прачытаюць, павінны перапоўніцца гонарам за сваю Бацькаўшчыну і за свой народ. Некалі Караткевіч сказаў: «І адзін можа», а нас было 30. І вось гэтыя 30 змаглі тое, чаго не змаглі астатнія 300, якія былі супраць нас.

*12 жніўня 2010 г.*

***Інтэрв'ю браў С. Абламейка (Радыё Свабода)***

*(Крыніца: http://www.svaboda.org/content/article/2126114.html)*

# „НЯ ВЕДАЮЦЬ ШТО КАЖУЦЬ, НЕ РАЗУМЕЮЦЬ, ШТО ТВОРАЦЬ"

Нядаўна мне прыслалі тэкст інтэрв'ю Уладзімера Някляева, якое ён даў расейскай радыёстанцыі „Эхо Москвы" (*крыніца*: http://www.zapraudu.info/article/ekho-moskvy-neklyaev-o-tom-chto-uzhe-resheno). З грамадзкай ініцыятывай, якую прадстаўляе Някляеў, ужо даўно ўсё зразумела, але зьмест інтэрв'ю вельмі вымоўны для характарыстыкі тых, хто ступае на дарожку маскоўскай палітыкі.

Адзначу толькі два моманты. Найперш, такія людзі пачынаюць гучна і адкрыта казаць няпраўду. Да гэтага іх вымушаюць абставіны, у якія яны трапляюць. Вось і Някляеў кажа: „**даже Зенон Позняк, главный критик Лукашенко во все времена, говорит о том, что лучше Лукашенко даже, чем пророссийский Некляев.**"

Але гэта ёсьць няпраўда. Я такога не казаў. Коратка і вобразна сваю пазыцыю я выказаў чацьвертага жніўня ў інтэрв'ю Беларускай рэдакцыі Польскага радыё для замежжа, што гучэла наступным чынам: „**Выбар паміж Лукашэнкам і расейскім кандыдатам прыкладна такі ж самы, як паміж куляй і пятлёй. А якая, насамрэч, розьніца? Мы павінны змагацца супраць абедзьвух небясьпек".** Тут сказана ўсё дакладна і зразумела. Але Уладзімер Някляеў не „гаворыць праўду".

Другі момант паводзінаў на маскоўскай дарозе – гэта шлях здрады. Страшнае тое, што ён наканаваны. Гэта шлях слабых. У гісторыі Беларусі (і Вялікага Княства) ніхто не пазьбегнуў ганьбы, хто на яго ступіў (нават зь лепшым наіўным спадзевам), бо маскоўская палітыка па сваёй імпэрскай прыродзе была, ёсьць і будзе накіраваная на падпарадкаваньне Беларусі і зьнішчэньне яе нацыянальнага існаваньня.

На шчасьце Уладзімер Някляеў паэт. Як шмат якія паэты ён любіць хораша пагаварыць і сябе паслухаць, не зважаючы на нейкую там „палітыку", якая выглядае ў вуснах такіх людзей амаль што забаўкай. Вось ён і мяркуе пра пазыцыю маскоўцаў: „**Зачем сегодня рисковать, скажем, поддерживать, ну, не знаю там, Некляева, условно говоря, кого угодно. Это в определенной степени риск**, **какие бы ни были подписаны договоренности".**

Тое што паміж Масквой і „Говори правду" „подписаны договоренности" зразумела ўсім (інакш не было б фінансаваньня), але ўпершыню пра гэта паэт Някляеў адкрыта прагаварыўся. І далей ён кажа наступнае: **„Что я буду делать, так это добиваться, что Россия все-таки действительно уже не потерпит тот режим, который сегодня представляет в Белоруссии Лукашенко. Нужно невмешательство, то есть нейтралитет во время выборов... А здесь проходят выборы, включаются все эти трубы, краны или не включаются, подписывается или не подписывается соглашение. То есть рычагов давления полно. Я бы на месте Путина так поступал."**

Вось гэта і ёсьць „другі момант" на дарожцы, Уладзімер Пракопавіч. Ад такой „палітыкі" эканамічнага душэньня церпіць не дыктатура, а народ, уся нацыя, церпіць жудасна і галотна, а дыктатура выжывае. Тое ўжо даказала практыка.

Акрамя таго, крамлёўцы хочуць аслабіць лукашысцкі рэжым ў сваіх інтарэсах і шукаюць повад, каб апраўдаць эканамічны шантаж Беларусі, загнаць дыктатара ў кут і прымусіць яго аддаць нашу нацыянальную маёмасьць (і за ўладу – ён аддасьць). На гэтым накірунку маскоўцы і шукаюць дэмакратычных саюзьнікаў ў Беларусі. Якая цана такім саюзьнікам?

Паэт дакладна зразумеў палітыку Пуціна, бо яна не складаная: каб зьнішчыць дзясятак тэрарыстаў, трэба пусьціць баявы газ ў тэатр і ліквідаваць іх разам з закладнікамі (умярцьвілі 131 асобу), альбо зага-

дацъ страляцъ з танкавых гармат па школе ў Беслане і забіць сотні дзяцей разам зь некалькімі тэрарыстамі, і пасьля гэтага стаць афіцыйным лідарам расейскай нацыі.

Каму Вы даеце парады, спадар Някляеў, як скарыстаць закладнікам цэлы народ? Пуціну? Ён ведае як гэта рабіць і пасьля зрабленьня выплюне „дарадцаў”, як скарыстаную жуйку. А зь людзьмі як? З нашымі людзьмі? Вось што такое чужая палітыка, за чужыя грошы, з чужымі думкамі ў галаве і гаварэньнем на языку.

Найбольшую небясьпеку для незаконных і фальшывых вабараў у Беларусі мае цяпер байкот. Тут уся палітыка рэжыму і дзеяньні падстаўных асобаў накіраваныя зараз на тое, каб любым спосабам недапусьціць байкоту і зацягнуць людзей на выбары, бо гэта дае магчымасьць рэжыму схаваць фальсіфікацыю за тайным галасаваньнем. Падстаўныя ў такіх абставінах заўсёды дэмагагічна клікалі людзей на выбары, каб прыйшлі і прагаласавалі, маўляў, за дэмакратыю ды супраць дыктатара (а „дыктатару” толькі тое і трэба, сам зганяе на галасаваньне).

Уладзімер Някляеў ня стаў прыкідвацца і сказаў тут, нарэшце, праўду: **„Наша задача состоит в том, – кажа паэт, – чтобы люди реально пришли и реально проголосовали за то, чего они хотят. Хотят они этой стабильности лукашенковской? Пусть голосуют за эту стабильность”.**

„Отэтада”, як сказалі б таварышы ў Маскве. Ўсё выклаў. Маўляў, ідзіце і галасуйце хоць як, абы застаўся Лукашэнка. А потым па пляну таварыш Пуцін пусьціць у наш тэатр баявы газ.

Я ўвесь час адносуся з павагай да выдатнага паэта Някляева і думаю, што, трапіўшы ў палітыку, у невядомае асяроддзе, ён апынуўся, відаць, у становішчы тых пра якіх гаворыцца: „ня ведаюць што кажуць, не разумеюць, што твораць”. Але яшчэ ня позна было б спыніцца, азірнуцца, супакоіцца і падумаць, бо Бацькаўшчына найлепшая. І ня кожнаму беларусу выпадала адчуваць за яе адказнасьць.

*4 верасьня 2010 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***



***237-Д. Малая эмблема БНФ***

# ГЕНЭРАЛЬНАМУ ПРАКУРОРУ

Генеральнаму пракурору*
Рэспублікі Беларусь
Васілевічу Г.А.
220050, г.Минск, ГСП ул.Интернациональная, 22

Заяўнік: Сойм Кансерватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ
220005, г. Мінск, пр. Машэрава, 8,
тел. 294-23-39

27.09.2010 г.

23 лістапада 2006 года Аляксандр Лукашэнка, які займае пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, падчас прэс-канферэнцыі для ўкраінскіх журналістаў агучыў інфармацыю наступнага зместу:

„... Да, последние выборы мы сфальсифицировали. Я уже западникам это говорил. За президента Лукашенко проголосовало 93,5 процента. Говорят – это не европейский показатель. Мы сделали 86. Это правда, было. И если сейчас начать пересчитывать бюллетени , то я не знаю, что с ними делать вообще. До выборов нам говорили, что если будут примерно европейские показатели на выборах, то мы ваши выборы признаем. Мы собирались сделать европейские показатели. Но тоже, видите, не получилось. Запад пообещал, что если итоги будут европейские, то всё будет нормально. Сделали европейское – ненормально”.

Гэтая інфармацыя была агучана на Беларускім тэлебачанні падчас прамой трансляцыі прэс-каферэнцыі і распаўсюджана сродкамі масавай інфармацыі , у тым ліку агенцтвам БелаПАН 23.11.2006 г., і газетай „Народная воля” №№ 192-193 за 1 снежня 2006 г.

27 жніўня 2009 года ў інтэрв’ю расійскай газеце „Известия» Аляксандр Лукашэнка пацьвердіў факт фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнтскіх выбараў 2006 года, заявіўшы наступнае:

„... За меня на последних выборах проголосовало, для сведения, 93 процента. И я признался потом, когда меня просто начали давить, что мы фальсифицировали выборы. И я грубо сказал: « Да, фальсифицировали”. Я отдал команду, чтобы не 93 процента было, а где-то там 80, я не помню, сколько. Потому что за 90 – это уже психологически не воспринимается. Но это была правда».

Як вынікае з дадзенай інфармацыі, грамадзянінам Аляксандрам Лукашэнкам, які займае пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у змове з невядомай асобай (ці асобамі), верагодна членамі Цэнтральнай выбарчай камісіі Рэспублікі Беларусь, былі здзейснены злачынныя дзеянні, у выніку якіх адбылася фальсіфікаыя вынікаў выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ў 2006 годзе ў Рэспубліцы Беларусь.

У сувязі з вышэйсказаным, у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь „Аб пракуратуры Рэспублікі Беларусь”, іншымі нарматыўнымі прававымі актамі Рэспублікі Беларусь, ставім патрабаванне аб узбуджэнні крымінальнай справы ў сувязі з неаднаразовымі паведамленнямі А.Лукашэнкі аб здзейсненых злачынных дзеяннях у выніку якіх былі сфальсіфікаваныя вынікі галасавання на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2006 годзе.

Дадаткі:

1. Копія вытрымкі з інтэрв’ю Аляксандра Лукашэнкі, апублікованага ў расійскай газеце „Известия» у нумары ад 27 жніўня 2009 г. (крыніца: http://www.izvestia.ru/politic/article3132313/) – экзэмпляр адзін на 1 старонцы.

2. Аўдыёкопія паведамлення А.Лукашэнкі аб яго ўдзеле ў фальсіфікацыі вынікаў выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якое было агучана 23 лістапада 2006 года падчас прэс-канферэнцыі для ўкраінскіх журналістаў (крыніца: http://www.youtube.com/watch?v=g982KGUcrKk) – экзэмпляр адзін, на магнітным носьбіце (дыскеце),

3. Раздрукоўка тэксту паведамлення, крыніца: http://news.tut.by/77777.html – экзэмпляр адзін на 1 старонцы.

Па даручэнні Сойму Партыі, пратакол ад 11 кастрычніка 2009 г.

***Намеснік старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Ю.А.Беленькі***

***Намеснік старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ С.П. Папкоў***

* Дакумант напісаны рэжымным правапісам

# ПАКАЗЬНІК ПРОЗЬВІШЧАЎ

**М**



**Н**



**О**



**П**

# ФАТАГРАФІІ

**2003**

1. Будучыня наша будзе такая, якой мы яе зробім. (Менск, сябры КХП-БНФ)
2. Расейцы сьвяткуюць сьвята аўтамата Калашнікава (у рэальнасьці – Шмайсэра), 2001 г.
3. У сядзібе БНФ (13.06.1994) З. Пазьняк
4. Пляц Волі ў Менску за часы 1-й Сусьветнай выйны і БНР. (*Фота з Сеціва*, *Bundesarchiv*)
5. Вільня, касьцёл сьв. Ганны і «Бэрнардынец». *(Фота З. Пазьняка пач. 1970-х гг.)*
6. Вайна, 1941 г. Рускія ўцяклі. Людзі кідаюць каменьнем у скульптуру Леніна
7. Тэлерэпартаж зь Менску
8. Васіль Быкаў перад ад’ездам ў Фінляндыю. *(Фота У. Кармілкіна)*
9. Васыль Быкаў 25 Сакавіка 2000 г. выступае перад беларускай грамадой ў Празе.
10. Васіль Быкаў не жыве. Вокладка «Беларускіх Ведамасьцяў»
11. Разьвітаньне з Быкавым. *(Фота з Сеціва)*
12. 25 Сакавіка 2000 г. Прага. І. Сурвіла, З. Пазьняк, В. Быкаў, С. Навумчык, В. Станкевіч.
13. Пахаваньне Васіля Быкава. Менск, працэсія на Усходнія могілкі. *(Фота з Сеціва)*
14. Пахаваньне Васіля Быкава. Развітаньне на могілках. *(Фота з Сеціва)*
15. Цесната на вуліцах падрэжымнага Менска. *(Фота з Сеціва)*
16. Беларуская дэманстрацыя ў Нью-Ёрку. 2000 г. *(Фота З. Пазьняка)*
17. «Распусьцяцца бярозы – мы вернемся дамоў.» Лявон Рыдлёўскі (9.08.1957) – Слуцкі апалчэнец. (Памёр у Англіі.)
18. Беларусы на дэманстрацыі ля ААН у Нью-Ёрку. *(Фота З. Пазьняка, 1998 г.)*
19. На вуліцах Менска (*Фота з 1997 г.*)
20. Сябры Койданаўскай Рады КХП-БНФ у Менску. 2003 г.
21. Зянон Пазьняк і Вячаслаў Чарнавіл. Кіеў, 1997 г.
22. Рэквіем. Васіль Быкаў на мітынгу ў Курапатах.
23. Ліцэісты супраць закрыцьця Беларускага Ліцэя ў Менску. *(Фота з Сеціва; чэрвень 2003 г.)*
24. Перад Крыжам Пакуты ў Курапатах. *(Фота Ул. Шлапака)*
25. АМАП 1997 г. Менск. *(Фота У. Кармілкіна)*
26. Паседжаньне Сойму БНФ у аўдыторыі Бел. Дзярж. Універсітэта ў Менску. 1991 г. На пярэднім плане Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў. У другім радзе Вячаслаў Сіўчык, Артур Вольскі. У трэцім – Сьвятлана Захарэвіч, Аляксей Фралоў.
27. Спатканьні на плошчы перад Вярхоўным Саветам. 1990-1991 гг. У кадры: Зянон Пазьняк, Уладзімер Станкевіч (у цэнтры), Сяргей Навумчык. *(Фотаархіў, кінакадр)*
28. 24 жніўня 1991 г. Пачатак гістарычнай Сэсіі Незалежнасьці ў Вярхоўным Савеце. Каля Сьцяга стаяць: Валянцін Голубеў, Зянон Пазьняк, Вольга Галубовіч. *(Фотаархіў, кінакадр)*
29. Горадня. Гарадзенскі БНФ каля «Выправы на Грунвальд»
30. Гэбісты на беларускім сьвяце ў Вязынцы. *(Фота з Сеціва)*
31. «Уратуем Беларусь!» «Фашызм ня пройдзе!» *(Фота з 1996 г.)*

**2004**

32. Электарат рэжыму галасуе ў пераносную скрынку. *(Фота з друку)*
33. Драўляны касьцёл з XVIII ст. у Мядзелі. Не захаваўся. *(Фота зь беларускага друку)*
34. Менск разбураны савецкай авіяцыяй. *(Фота з Сеціва, 1944 г.)*
35. Менск, чэрвень 1941 г. Гараць дамы на вуліцы Бабруйскай, падпаленыя савецкім НКВД. (*Фота з Сеціва*)
36. Менск, чэрвень 1941 г. Гараць будынкі ўніверсітэта, падпаленыя падпальшчыкамі НКВД. *(Фота з Сеціва)*
37. Гэтыя нелюдзі вешалі людзей і палілі беларускія вёскі. Зьлева на машыне з узьнятай рукой кіраўнік СС у Менску Курт фон Готбэрг, які, як мяркуюць даследчыкі, падрыхтаваў забойства Вільгельма Кубэ. *(Фота з Сеціва, Bundesarchiv)*
38. Адзін з уражлівых здымкаў 2-й Сусьветнай вайны. Габрэі з гета перад акцыяй зьнішчэньня. Хвіліны перад канцом. Здымак зроблены верагодна ў Польшчы, на Украіне ці ў Беларусі. *(Фота з Сеціва)*
39. Нямецкае сярэднявечча ў разбомбленым саветамі Менску (пляц Волі). Група «дойчэ-турыстаў» аглядае трупы павешаных. *(Фота з Сеціва)*
40. «Рабсіла» акупантаў. Беларускую моладзь вывозяць на прымусовую працу ў Нямеччыну. Баранавічы 1942 г.
41. Нямецкае сярэднявечча ў Менску. Павешаныя на Камароўцы (пл. Якуба Коласа). 1941-1944 гг. *(Фота с Сеціва)*
42. Застольле ў доме Вільгельма Кубэ. У глыбіні В. Кубэ з жонкай. *(Фота з Сеціва)*

43. Фрагмэнт старога Менска (Пляц Волі, частка Нямігі і Нізкага Рынку) зьнята зь нямецкага самалёта. У 1941-44 гг. стары Менск быў разбураны савецкай авіяцыяй, астатняя забудова масава зьнесена саветамі ў 1946-1952 гг. у 1960-66 гг., 1969-74 гг. і фрагмэнтарна на працягу ўсяго савецкага перыяду. *(Фота з Сеціва)*
44. Немцы ў Вярхоўным Савеце, 1941-44 гг. *(Фота з Сеціва)*
45. Энкавэдзісты (Менск, 1930-я гг.) Гэтыя нелюдзі забівалі людзей у Курапатах. *(Фота з Сеціва)*
46. Памятная сякера энкавэдзісту «Новикову А.Н. за беспощадную борьбу с преступностью в НКВД СССР.» *(Фота з Сеціва)*
47. Менск. Танцы ў парку перад вайной. *(Фота з Сеціва)*
48. 2-я Сусветная вайна. Немец страляе ў галаву жанчыны зь дзіцем.
49. Менск. Скульптура ля «Чырвонага Касьцёла». *(Фота: Кася К.)*
50. Дэманстрацыя.
51. Хлопчык на даху. *(Фота з друку)*
52. Курапаты. Раскоп 5. Бакавы прастрэл галавы (выхадная адтуліна). *(Фота З. Пазьняка)*

**2005**

53. Дэманстрацыя ў Нью-Ёрку супраць агрэсіўнай расейскай палітыкі (*Фота З. Пазьняка*)
54. Сустрэча ў Нью-Ёрку ў 2005 г. Сяргей Навумчык, Галіна Пазьняк, Галіна Навумчык і Ганна Сяргееўна Навумчык, Зянон Пазьняк.
55. Чарнобыльскі шлях у Пінску. Шэсьце КХП-БНФ. *(Фота Ж. Ганжуравай)*
56. Беларускі сабор сьвятога Кірылы Тураўскага ў Брукліне. *(Фота З. Пазьняка)*
57. Беларусы ў грамадзкай залі сабора ў Брукліне. (*Фота А. Вінакурава)*
58. Турэмная сьцяна. Карціна А. Марачкіна.
59. Плякат антыбеларускага рэжыму – вывеска сутнасьці.
60. Савецкая „бутафорыя”. *(Фота з Сеціва)*
61. Камуністы – людзі ўчарашняга і сёняшняга дня ў Беларусі. *(Фота Ю. Дарашкевіч)*
62. Менская катэдра.
63. Дэманстрацыя ў Манхэтане, на Парк-Эвэню ў 2000 г.
64. Менск; вулічная сцэнка, хапаюць «неугодных». *(Фота з Сеціва)*

**2006**

65. Жанчыну цягнуць у «хапун» *(Фота з 1998 г.)*
66. Мітынг на Парк – Эвэню ў Манхэтане 06.09.2000 г.
67. Пад сьцягамі ў Нью-Ёрку. *(Фота З. Пазьняка)*
68. Канфэрэнцыя па праблемах СМІ, Менск, 1996 г. На пярэднім пляне А. Лукашук, С. Навумчык. *(Фота У. Кармілкіна)*
69. Вашынгтон, 2001 г. Беларуская дэманстрацыя перад амбасадай Рэспублікі Беларусь. *(Фота З. Пазьняка)*
70. Беларуская дэманстрацыя перад ААН у Нью-Ёрку супраць антыбеларускай палітыкі ў Беларусі.
71. Дзяржаўны гэрб Рэспублікі Беларусь.
72. Першая камунія ў парафіі сьв. Яна Хрысьціцеля ў Менску. *(Фота са старонкі парафіі)*
73. Тыповая Менская карцінка. *(Фота з Сеціва)*
74. Пакрытыя сьцягамі. Нью-Ёрк, 2006 г.
75. Рэквіем на Дзяды. Курапаты, 2006. КХП-БНФ. *(Фота з Сеціва)*
76. «Беларусь – гэта сьвятое». (*Фота з Сеціва*)
77. Мітынг КХП-БНФ у Слуцку на лістападаўскія ўгодкі. *(Фота з 2003 г.)*
78. Бацька з сынам на дэманстрацыі. Менск. *(Фота з Сеціва)*
79. З. Пазьняк 2004 г.

**2007**

80. Сяргей Навумчык. Прага. *(Фота З. Пазьняка).*
81. Пікет прыхільнікаў М. Марыніча. Менск, 2006 г. *(Фота з Сеціва)*

82-83. „Чарнобыльская зона”, Гомельская вобласьць. *(Фота В. Сямашкі)*

84. Беларуская моладзь пад Бел-Чырвона-Белым Сьцягам. *(Фота з Сеціва)*
85. Узьняты сьцяг. *(Фота з Сеціва)*
86. Дэманстрацыя Народнага Фронту. Менск 24 сакавіка 1996 г. *(Фота з друку)*
87. Менская карцінка: адзін у моры дыктатуры *(Фота з Сеціва)*
88. Менская карцінка: прарыў са сьцягам. *(Фота з Сеціва)*
89. Горадня. Від на Езуіцкі касьцёл. *(Фота А. Фірулова)*
90. Крыжовае шэсьце ў Курапаты на Дзяды. *(Фота з Сеціва)*

91. Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ ля Лошыцкага крыжа на Дзяды. *(Фота з Сеціва)*
92. „Расея, лапы прэч ад Беларусі!" Дэманстрацыя ў Нью-Ёрку. *(Фота А. Вінакурава)*

**2008**

93. Мёртвая Чарнобыльская зона Беларусі *(Фота В. Сямашкі)*
94. Менск, 27 ліпеня. Дзень Дэклярацыі аб Незалежнасьці. Тыповая карцінка на вуліцах і скверах. Міліцыя АМАП не дае людзям зьбірацца і размаўляць. *(Фота з Сеціва)*
95. Сьветлая Беларусь. Першая камунія ў беларускім касьцёле сьв. Яна Хрысьціцеля ў Менску. *(Фота з інтэрнэт-старонкі парафіі)*
96. Малады Фронт. *(Фота: Алесь Міхалок)*
97. Куча. Менск 25 Сакавіка 2008. *(Фота з Сеціва)*
98. „Крыжовы шлях". *(Фота з Сеціва)*
99. Месца выбуху 4 ліпеня 2008. *(Фота з Сеціва)*
100. Вяжуць дэманстранта супраць камунізму. 2007 г. *(Фота з Сеціва)*
101. Зграя гэбістаў ("людзі ў цывільным") хапаюць чалавека на вуліцы ў цэнтры Менска. *(Фота з друку)*
102. Вялікая дэманстрацыя ў Менску 19 сакавіка 2006 г. *(Фота з Сеціва <svaboda.org>)*
103. Дружына БНФ. Менск, 1996 г. *(Фота Ул. Кармілкіна)*
104. „Хэпэнінг" Веры Церлюкевіч. 1999 г. *(Фота Ул. Кармілкіна)*
105. Збор грошай на мітынгу на патрэбы БНФ. Менск, 1990 г. *(Фота Ул. Кармілкіна)*
106. Першае пасьля (2-й Сусьветнай вайны) падняцьце Беларускага Нацыянальнага Сьцяга ў полі пад Курапатамі 30 кастрычніка 1988 г. *(Фота з архіву)*
107. Чытаньне дэклярацыі „Мартыралогу" 30 кастрычніка 1988 г. у полі пад Курапатамі. *(Фота Ц. Грыба)*
108. Мітынг у полі пад Курапатамі 30 кастрычніка 1988 г. *(Фота з архіву)*
109. Моладзь на сакавіцкай дэманстрацыі ў Менску. 1998 г. *(Фота з друку: „Nowe Panstwo", –10 kwietnia 1998)*
110. Мітынг-рэквіем на Дзяды ў Курапатах. 1993 г. *(Фота з архіву; калекцыя М. Купавы)*
111. Шэсьце на Дзяды ў Менску. 2007 г., Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ. *(Фота з Сеціва)*
112. Крыжовае шэсьце на Дзяды ў Курапатах. 2007 г., Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ. *(Фота з Сеціва)*
113. Раніца ў Курапатах. 2008 г. *(Фота І. Багдана)*
114. З крыжам на плячах – у Курапаты. Крыжовае шэсьце ў Менску. *(Фота з Сеціва)*
115. Шэсьце да Лошыцкага крыжа на Дзяды. 2000 год, Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ. *(Фота Ул. Кармілкіна)*
116. Гадавіна Слуцкага Збройнага Чыну. Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ. Шэсьце па Слуцку. *(Фота з архіву)*
117. Партрэт зь мітынгу; 1991-1994 гг. *(Фота з друку)*
118. Сакавік-1996 у Менску *(Фота з друку)*
119. 1990 год. Камуна-савецкая каланіяльная намэнклятура. Верхавіна камуністычнай улады БССР. У цэнтры ў экзатычнай шапцы 1-ы сакратар ЦК КПБ (КПСС) Яфрэм Сакалоў. Гэта зь імі, у першую чаргу, змагаўся за свабоду і волю Беларускі Народны Фронт. Гэта зь іхных лап 25 жніўня 1991 года вырвалі незалежнасьць Беларусі і адначасна зачынілі іхнюю крывавую партыю. *(Фота з архіву).*
120. Менск, дэманстрацыя моладзі. *(Фота з Сеціва; „Наша ніва")*
121. Менск, 2008 г. VIII Зьезд Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ
122. Юры Беленькі выступае на ўрачыстым паседжаньні Сойму БНФ, пасьвечаным 20-й гадавіне Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". Кастрычнік 2008 г. *(Фота Я. Шатохіна)*
123. Узьлёт. *(Фота з Сеціва)*

**2009**

124. У дзень падпісаньня Ўсходняга партнёрства. Прага. 7. 05. 2009. Зь лева на права: С. Шушкевіч, З. Пазьняк, А. Мілінкевіч, К. Шварцэнбэрг. *(Фота з Сеціва)*
125. Чарнобыльская зона на Гомельшчыне праз 20 год. *(Фота Я. Шатохіна)*
126. Пінская Рада КХП – БНФ (2000-2001 гг.)
127. Вялікая эмблема БНФ (графічны вараянт)
128. Чарнобыльская зона. Пакінуты дом. *(Фота В. Фядосенкі)*
129. Прага 6. 05. 2009. Прыём у прэм'ер-міністра Чэхіі Мірэка Тапалянэка: Зь лева на права: З. Пазьняк, І. Сурвіла, ... М. Тапалянэк, С. Шушкевіч. *(Фота У. Яньдзюка)*
130. Камуністы ў Горадні, травень 2009 г. *(Фота А. Пачобута)*
131. Менск-2009. „Куча-2"
132. Беларускі Сьцяг над Вільняй. *(Фота Васілька)*
133. Сьляпы конь. *(Фота з друку)*
134. Трактар

